АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# СЛОЎНІК
# БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І ЯЕ ПАГРАНІЧЧА

## У ПЯЦІ ТАМАХ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»

1979

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# СЛОЎНІК
# БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І ЯЕ ПАГРАНІЧЧА

## ТОМ 1

## А—Г

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»



1979

Укладальнікі:

Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ, А. І. ГРЫНАВЕЦКЕНЕ, Я. М. РАМАНОВІЧ, А. І. ЧАБЯРУК, С. Г. ЛОБАЧ, Ф. Д. КЛІМЧУК, Т. В. БАРОДЗІЧ, В. Д. СТАРЫЧОНАК, С. ГЛІНКА, Я. ПЕТРУЧУК, Э. СМУЛКОВА, А. БАГРОЎСКА, Т. ЯСІНСКА-СОХА, Я. ГЛУШКОЎСКА

Рэдакцыйная калегія:

Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ, А. І. ГРЫНАВЕЦКЕНЕ, Я. М. РАМАНОВІЧ, А. І. ЧАБЯРУК, Ф. Д. КЛІМЧУК

Рэдактар тома Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ

**Слоўнік** беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: У 5-ці т. Т. 1. А—Г/[Уклад. Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Я. М. Рамановіч і інш.; Рэд. Ю. Ф. Мацкевіч].— Мн.: Навука і тэхніка, 1979.— 512 с.
С 48

У слоўнік уключана лексіка беларускіх народных гаворак, запісаная ў паўночна-заходняй частцы Беларусі і часткова за яе межамі, на тэрыторыі Літвы, Латвіі і ПНР, дзе да цяперашняга часу захаваліся астраўныя беларускія гаворкі. Па свайму характару слоўнік з'яўляецца тлумачальна-перакладным. Значэнні слоў у ім ілюструюцца прыкладамі з жывой народнай мовы. Першы том змяшчае звыш сямі тысяч слоў на літары А—Г.

С $\frac{70105\text{-}112}{М316\text{-}79}$ 51-79 4602020000

4С(Бел)

# УСТУП

За апошнія гады беларуская лексікаграфія папоўнілася значнай колькасцю дыферэнцыяльных слоўнікаў, якія змяшчаюць дыялектную лексіку асобных абласцей ці раёнаў. Аднак у беларускай дыялектнай лексікаграфіі пакуль што няма слоўнікаў, якія б абагульнялі лексіку вялікіх дыялектных арэалаў з уключэннем беларускіх гаворак з суседніх тэрыторый — Латвіі, Літвы, Польшчы.

Славістамі розных краін праароблена значная работа па вывучэнню народных гаворак беларуска-літоўска-польскага паграніччa. Больш інтэнсіўна і мэтанакіравана яна пачала развівацца ў пасляваенны час, асабліва пасля падпісання праблемна-тэматычнага плана навуковага супрацоўніцтва паміж Акадэміяй навук СССР і Польскай Акадэміяй навук на 1976—1980 гг., дзе прадугледжваецца распрацоўка праблемы «Заканамернасці функцыяніравання і развіцця мовы».

Кіруючыся гэтым планам, Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР уступіў у супрацоўніцтва з Інстытутам літоўскай мовы і літаратуры Акадэміі навук Літоўскай ССР і Інстытутам славяназнаўства Польскай Акадэміі навук з мэтай калектыўнага вывучэння моўных асаблівасцей сумежных тэрыторый.

У сувязі з гэтым больш дакладна акрэслілася праблематыка па дыялекталогіі, пашырыліся тэрытарыяльныя рамкі дыялекталагічных даследаванняў і непасрэднага збору і вывучэння канкрэтных матэрыялаў пэўных геаграфічных зон. У цэнтры ўвагі беларускіх, літоўскіх і польскіх дыялектолагаў на працягу апошніх год стаў збор і лексікаграфічная апрацоўка жывой народнай лексікі. Калектыўнымі намаганнямі беларускіх, літоўскіх і польскіх даследчыкаў падрыхтаваны першы том «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніччa», які ўключае дыялектную лексіку на літары А — Г.

Дадзены слоўнік складзены супрацоўнікамі сектара дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР з удзелам Інстытута літоўскай мовы і літаратуры Літоўскай Акадэміі навук, Інстытута славяназнаўства Польскай Акадэміі навук і кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

Асноўны матэрыял для слоўніка сабраны ў паўночна-заходняй частцы Беларусі — на тэрыторыі, якая з паўднёвага ўсходу абмяжоўваецца лініяй: Верхнядзвінск — Міёры — Докшыцы — Лагойск — Валожын — Клецк — Ганцавічы — Івацэвічы — Пружаны — Камянец. Гэта тэрыторыя па сваіх абрысах набліжаецца да арэала паўночна-заходняй дыялектнай зоны беларускіх гаворак (Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мн., 1969, карта № 77; далей ЛГ). Аднак рад пучкоў ізаглос у розных напрамках перакрывае паўночна-заходнюю зону, аб'ядноўваючы яе часткі: гаворкі Гродзеншчыны з гаворкамі Палесся (ЛГ, карта № 73), гаворкі басейнаў верхняга Нёмана і Віліі з гаворкамі цэнтральных раёнаў Міншчыны і паўночна-заходніх раёнаў Гомельшчыны (ЛГ, карты № 77—78), гаворкі ў раёне Браслава і Пастаў з гаворкамі Полаччыны (ЛГ, карта № 74). Паколькі пералічаныя пучкі ізаглос моўных з'яў ахопліваюць як палярныя, так і блізкія гаворкі, у слоўнік уключана лексіка з суседніх тэрыторый, дзе працягваюцца арэалы не толькі фанетычных і граматычных з'яў, але і лексічных рыс. Лексіка прылягаючых раёнаў дапамагае больш дакладна акрэсліць тэрыторыю пашырэння асобных слоў і іх семантычных адрозненняў.

Ад выдадзеных рэгіянальных слоўнікаў названы слоўнік адрозніваецца тым, што ў яго ўключана лексіка са значна большай тэрыторыі, куды ўваходзяць заходнія арэалы асноўных беларускіх дыялектаў: паўночна-ўсходняга, паўднёва-заходняга, сярэднебеларускія гаворкі і часткова заходнепалеская група гаворак.

У плане параўнання і супастаўлення прыцягваецца дыялектная лексіка з прылягаючых раёнаў, што знаходзяцца на ўсход ад асноўнай тэрыторыі.

Тэрытарыяльныя межы слоўніка набліжаюцца да арэала, што выдзяляецца пучкамі ізаглос: ядро акрэсліваецца верхнядзвінска-слуцка-гродзенскім пучком (ЛГ, карта № 62), а перыферыя — мерыдыянальнымі ізаглосамі (ЛГ, карта № 66, 68).

Абследаваныя населеныя пункты, межы тэрыторыі, з якой прыводзіцца матэрыял, і адзначаныя вышэй граніцы дыялектных зон паказаны на карце (гл. с. 7).

Моўная тэрыторыя паўночна-заходняй часткі Беларусі ў лексічным плане абследавана экспедыцыйным шляхам на працягу 1954—1978 гг. у працэсе збірання матэрыялаў для




Тэрыторыя слоўніка

1—межы тэрыторыі, з якой прыводзіцца асноўны матэрыял; 2—межы тэрыторыі, з якой прыводзіцца дадатковы матэрыял (для параўнання); 3—межы паўночна-заходняй дыялектнай зоны (ЛГ, карта № 77); 4—межы заходняй дыялектнай зоны (ЛГ, карта № 80); 5—межы сярэдняй дыялектнай зоны (ЛГ, карта № 78)

Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа і пазней — Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак.

Комплекснымі дыялекталагічнымі экспедыцыямі былі абследаваны беларускія гаворкі на тэрыторыі Літвы і Латвіі. Першая сумесная беларуска-літоўская экспедыцыя была арганізавана ў 1966 г., у час якой запісана лексіка ў радзе населеных пунктаў Тракайскага, Варэнскага, Вільнюскага раёнаў Літоўскай ССР. У 1975 г. абследавана некалькі населеных пунктаў у тых жа раёнах. У 1976 г. былі выяўлены беларускія гаворкі ў Ігналінскім і Швянчонскім раёнах Літвы, дзе сабраны значны лексічны матэрыял. Актыўны ўдзел у наладжванні і правядзенні сумесных беларуска-літоўскіх дыялекталагічных экспедыцый прымала старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літоўскай мовы і літаратуры Літоўскай Акадэміі навук А. І. Грынавецкене.

У 1977 г. была праведзена комплексная беларуска-латышска-літоўская экспедыцыя. Даследаваліся беларускія гаворкі пераважна на тэрыторыі Латвійскай ССР (у Даўгаўпілскім, Краслаўскім і Лудзенскім раёнах). Значны матэрыял запісаны ў Браслаўскім раёне Віцебскай вобласці. Зроблены запісы беларускай лексікі ў Літоўскай ССР (у Вільнюскім і Шальчынінскім раёнах). Вялікую дапамогу ў наладжванні экспедыцыі і вызначэнні месц рассялення беларускага насельніцтва аказалі супрацоўнікі Інстытута мовы і літаратуры імя А. Упіта Латвійскай ССР А. Я. Блінкена, Б. Э. Лаўмане. У экспедыцыі прымалі ўдзел Б. П. Рэйдзане і А. Б. Брэйдак.

Лексіка запісвалася звычайна ад беларускага насельніцтва. У радзе населеных пунктаў лексіка запісана і ад білінгваў, якія актыўна карыстаюцца некалькімі мовамі: літоўскай, польскай, рускай і беларускай у вёсках Новыя Мацалі Варэнскага, Стральцы Шальчынінскага, Ліпнікі Вільнюскага раёнаў Літоўскай ССР; беларускай і польскай — у вёсках Судэрва, Грыкені, Відаўцішкі, Швэды Вільнюскага, Старыя Трокі і Стракішкі Тракайскага, Гемзы Шальчынінскага, Лайпушкі Ігналінскага раёнаў Літоўскай ССР. Звычайна адна з моў у тым ці іншым населеным пункце з'яўляецца пераважаючай, якой карыстаюцца ў штодзённым жыцці: беларускай — у вёсках Стракішкі і Гемзы, літоўскай (пры частковым карыстанні беларускай) — у вёсках Чычалі і Ракаўскія Швянчонскага і Малькуны Ігналінскага раёнаў Літоўскай ССР. У вёсках Скрудалена Даўгаўпілскага раёна, Індра Краслаўскага раёна, Пасіене, Істра, Мельнікі, Новікі, Мешкінева Лудзенскага раёна Латвійскай ССР лексіка збіралася ад мясцовага насельніцтва і часткова ад перасяленцаў, якія гавораць на мяшанай руска-беларускай гаворцы. Некаторыя жыхары вёсак Ёдлавічы Браслаўскага і Паляцкішкі Воранаўскага раёнаў валодаюць традыцыйнымі літоўскімі гаворкамі, але запісы ў гэтых вёсках зроблены амаль выключна ад беларускага насельніцтва.

У слоўнік уключаны таксама і матэрыялы, сабраныя супрацоўнікамі Інстытута славяназнаўства Польскай Акадэміі навук Л. Абрэмбскай-Яблонскай, С. Глінкай, Э. Смулковай, Г. Сафарэвіч і інш. на працягу 1957—1958 гг. на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства ПНР. Акрамя таго, выкарыстаны матэрыялы кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, сабраныя і адрэдагаваныя калектывам аўтараў: Э. Смулковай, Я. Петручуком, А. Багроўскай, Т. Ясінскай-Сохай і Я. Глушкоўскай у вёсках Бабpоўнікі Гарадоцкай і Курашэва Чыжэўскай гмін.

Агульная картатэка слоўніка налічвае каля 500 тыс. картак-слоў. Асноўныя матэрыялы для слоўніка сабраны экспедыцыйным шляхам. З друкаваных крыніц у слоўніку выкары-

стана каля 1000 слоўнікавых адзінак, узятых з «Хрэстаматыі па беларускай дыялекталогіі» (Мн., 1962).

Слоўнік уключае разнастайныя пласты лексікі: назвы з'яў жывой і нежывой прыроды, сельскагаспадарчыя тэрміны, лексіку, звязаную з жывёлагадоўляй, паляваннем, рыбалоўствам, пчалярствам, апрацоўкай льну, з прыгатаваннем ежы, з характарам паводзін, са знешнім абліччам людзей і іх адзеннем. Акрамя пералічаных тэм, што акрэсліваюцца праграмай па Лексічнаму атласу, картатэка папаўняецца за кошт уключэння матэрыялаў, сабраных па дадатковых праграмах, арыентаваных на выяўленне запазычанай лексікі.

Значнае месца ў слоўніку займае тэрміналагічная лексіка, якая адлюстроўвае заняткі сялян дарэвалюцыйнай пары і часоў буржуазнай Польшчы, назвы прылад працы, іх частак, працэсаў сельскагаспадарчых работ і інш. Багата ў слоўніку прадстаўлена экспрэсіўная лексіка, звязаная з жыццём, бытам людзей.

Ад літаратурнай мовы адзначаныя групы лексікі адрозніваюцца фанетычнымі, словаўтваральнымі і семантычнымі асаблівасцямі і абмежаваным тэрытарыяльным пашырэннем.

Лексічны матэрыял у сваёй сукупнасці побач з рэгулярнымі фанетычнымі сістэмамі адлюстроўвае дыялектныя адрозненні, што сустракаюцца ў асобных групах слоў або марфемах.

У галіне фанетычных рыс:

а) [е] замест [о, ё]: *авéс, напéк, завéў, раздзéр, памéр* і інш.;

б) [о, ё] замест [е]: *насёк, аслёп*;

в) [а, я] замест [е, і]: *капя́шка* (капешка), *асля́пнуць* (аслепнуць), *цвяк* (цвік);

г) [у] замест [о]: *мазу́ль* (мазоль);

д) нярэдка пераднаціскны [а] вымаўляецца падоўжана: *наасы́пеш, наарвé, хаамýт*;

е) страта пачатковага галоснага: *гурóк* (агурок), *гарóт* (агарод), *гóлка* (іголка);

ж) адрозненні ў пратэзах: *загаві́ цця* (загаіцца), *гі́нія* (інея), *вядрóны* (ядроны), *гавёс* (авёс), *гу́ліца* (вуліца);

з) выпадзенне пратэтычных [г], [в] перад галоснымі ў пачатку, радзей у сярэдзіне слова: *усь* (гусь), *арóх* (гарох), *алавá* (галава), *у́сты* (густы), *ультáй* (гультай), *óсім* (восем), *звязáць* (завязаць);

і) замена [х] на [к]: *калкóс, жанік, чкаць* (чхаць); [к] на [х]: *вéтха*; [х] на [г]: *грóбуст* (храбустанне); [с] на [ш]: *паршу́к* (парсюк), *пашку́ства* (паскудства); [ч] на [ш]: *бру́шка* (бручка);

к) палатальныя зычныя замест непалатальных: *млін* (млын), *міню́та* (мінута);

л) велярызацыя зычных: *цвэт* (цвет), *пілнава́ць* (пільнаваць), *хо́дзіц* (ходзіць), *ро́біц* (робіць), *жыву́ц* (жывуць);

м) мяккасць [ц] у форме інфінітыва тыпу *мы́цця, сварьі́цця* (адзначана ў Шчучынскім і Дзятлаўскім раёнах Гродзенскай вобласці);

н) у многіх словах адбылося перамяшчэнне націску: *скура́, ліпа́, асіна́, карэ́нь* і інш.

Некаторыя з фанетычных рыс больш паслядоўна адзначаны ў лексемах, запісаных у беларускіх гаворках на тэрыторыі Літвы і на пагранічы з Літвой. Да іх адносяцца:

а) вымаўленне [у] замест [ы]: *булі́, бува́іць, воўк ву́іць*; [к] замест [х]: *клеп* (хлеб), *кваро́ба* (хвароба), *каро́шая* (харошая), *кваліць* (хваліць); [л] замест [ў]: *жалто́к, далжнік, чэлна́к, долх*;

б) зрэдку вымаўленне [ф] замест [ў]: *вяро́фка*;

в) слабей, чым у іншых беларускіх гаворках, выражаны свісцячы характар зычных [з, с, дз, ц]: *с'ало́, дз'е́ц'і, ўз'а́ў* замест *с''ало́, дз''е́ці, ўз''а́ў*;

г) у вымаўленні літоўцамі беларускіх слоў (в. Чычалі) мяккія [ц'], [дз'] палаталізаваныя, а не палатальныя, як у большасці беларускіх гаворак;

д) у асобных словах і пазіцыях спарадычна «знікае» дзеканне-цеканне: *адзе́жына* і *аде́жына*;

е) зычны [н] перад [к] пасля галоснага нярэдка пераходзіць у насавы прыгук: *жо́ⁿка, сце́ⁿка.*

З граматычных рыс нярэдка сустракаецца змяшэнне граматычнага роду назоўнікаў. У матэрыялах з тэрыторыі Беларусі гэта з'ява адзначана ў невялікай групе слоў: *начо́ўка ж.* (*начоўкі мн.*), *ло́шка ж.* (*ложак м.*), *ста́да ж.* (*стада н.*), *лыка ж.* (*лыка н.*). У матэрыялах з тэрыторыі Літоўскай ССР гэта катэгорыя слоў значна павялічваецца за кошт назоўнікаў ніякага роду тыпу *скабёлка, што кары́ту рабіць; ну якая ёй дзе́ла; сло́нца пашла пад хму́рай; робяць моцную піву; ма́слу добрую зрабіла; я́йку з'ем; верацёнай прала* і інш. Гэта асаблівасць найбольш паслядоўна прасочваецца ў гаворцы мясцовых жыхароў, якія валодаюць літоўскай і беларускай мовамі. Сустракаюцца таксама выпадкі ўжывання некаторых незваротных дзеясловаў у зваротнай форме: *відацца* замест *відаць*; неадрозніванне асабовых форм 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку: *ён ходзіць, яны ходзіць*. Шырока ўжываюцца дзеепрыслоўі ў ролі выказніка: *ён прышо́ўшы* (ён прыйшоў).

Слоўнік уключае запазычанні з іншых моў. Паўночны захад БССР — гэта зона шматвяковых інтэнсіўных кантактаў беларускай мовы з балтыйскімі мовамі, і ў першую чаргу з літоўскай. Менавіта таму ў слоўнік трапіла шмат слоў балтыйскага паходжання. Гэта словы абмежаванай сферы ўжывання, у большасці выпадкаў яны захоўваюцца ў мове ста-

рэйшага пакалення ў значна славянізаваным выглядзе пры змяненні першаснага значэння. З боку гукавога складу гэтыя запазычанні адлюстроўваюць камбінаторныя змяненні — метатэзу, асіміляцыю, дысіміляцыю тыпу бел. *нéмарасць,* літ. *nerimastis* 'неспакой, трывога, хваляванне'. У літоўскіх і польскіх запазычаннях пераважна захоўваецца выбухны [g]: *гáхты* — літ. *gãktos, гарсць* — польск. *garść*. Выпадкі такога вымаўлення ў матэрыялах даволі шматлікія: *гіль, гéліць, гéргайка, жáга, гянгяль, грáгаць, грáза, гавэнда* і інш. Гэта рыса пашыраецца на значны пласт дыялектнай лексікі. Некаторыя літуанізмы захоўваюць месца націску, уласцівае літоўскай мове; параўн. бел. *вíрціна*<літ. *vìrtinė* 'вязка, вясло', бел. *апíкула* < літ. *apýkula* 'гультаяваты, непаваротлівы чалавек'. У асобных выпадках адрозніваецца інтанацыя галосных гукаў, напрыклад у бел. *гýлта* < літ. *gùltas* 'бярлог, логава', бел. *крэйка* < літ. *kraĩkas* 'верх страхі' (гл. Балто-славянский сборник. М., 1972, с. 126).

Асабліва прыкметна захаванне акутавай інтанацыі ў дыфтангічных спалучэннях тыпу *кнóйсаць*. Усё гэта сведчыць аб складанай моўнай сітуацыі, якая стварылася на працягу многіх вякоў у гаворках сумежных раёнаў.

У слоўнік уключаны шматлікія польскія і нямецкія запазычанні. Нямецкія словы ў заходнебеларускія гаворкі маглі трапіць праз польскую, літоўскую і яўрэйскую мовы.

## СТРУКТУРА СЛОЎНІКА

Загалоўнае слова перадаецца арфаграфічна з захаваннем больш тыповых дыялектных рыс і абазначэннем націску. Словы з аднолькавым значэннем і падобныя па свайму гукавому складу пры частковых фанетычных адрозненнях прыводзяцца ў адным слоўнікавым артыкуле. На першае месца ставіцца варыянт, найбольш блізкі да літаратурнай формы або найбольш пашыраны ў дыялектнай мове. Далей падаюцца варыянты, якія набліжаюцца да загалоўнага слова па тэрытарыяльнаму размяшчэнню і, нарэшце, замыкаюць рад варыянты слоў, якія адлюстроўваюць фанетычныя асаблівасці палескіх гаворак. Кожны з гэтых варыянтаў прыводзіцца ў рэестры на сваім месцы з адсылкай да першага слова, за выключэннем выпадкаў, калі паміж гэтымі варыянтамі няма іншых рэестравых слоў. Складаныя назвы падаюцца ў загалоўным слове як самастойныя намінатыўныя адзінкі. Выбухны *г* перадаецца тоўстым шрыфтам — **Г, г**.

У слоўніку даюцца ўсе часціны мовы. Загалоўнае слова адзначаецца граматычнымі і стылістычнымі паметамі. З граматычных памет для назоўнікаў указваецца род і лік. У тых выпадках, калі слова ў адзіночным ліку не адзначана, яно па-

даецца ў форме множнага ліку. Калі ў прыкладах пераважна выступае форма множнага ліку, то пасля адзіночнага прыводзіцца форма множнага ліку. Калі слова не мае адзіночнага ліку, ставіцца памета — толькі *мн.* Дзеясловы закончанага і незакончанага трывання вылучаюцца ў асобныя артыкулы.

Некаторыя граматычныя формы, што ўжываюцца ў пэўнай функцыі, суправаджаюцца спецыяльнымі тлумачэннямі, напрыклад, калі форма творнага склону ўжываецца ў значэнні прыслоўя, то ставіцца памета — у знач. прысл., або прыметнік у значэнні назоўніка — у знач. наз.

Пасля граматычных памет да многіх слоў даюцца стылістычныя паметы паводле прыналежнасці слова да пэўнай лексіка-тэматычнай групы або ў залежнасці ад характару экспрэсіўна-эмацыянальнай афарбоўкі.

Да тых слоў, якія картаграфаваліся ў «Дыялекталагічным атласе беларускай мовы», у канцы артыкула прыводзіцца скарочаная назва ДАБМ з указаннем № карты.

## РАСКРЫЦЦЁ ЗНАЧЭННЯ СЛОВА

Зыходзячы з наяўных дыялектных матэрыялаў, укладальнікі імкнуліся ў слоўнікавым артыкуле найбольш поўна раскрыць значэнне слова. У пераважнай большасці выпадкаў да дыялектнага слова прыводзіцца адпаведны літаратурны эквівалент тыпу *адвайця́ць* — аблаяць; *адвалі́ць* — адкроіць; *адліча́ць* — адрозніваць. Значэнне слова можа раскрывацца і некалькімі сінонімамі. У тых выпадках, калі няма літаратурных эквівалентаў, даецца разгорнутае тлумачэнне тыпу *адзю́гліць* — надаваць кухталёў; *адзёр* — памост пад вуллі, што ўстанаўліваецца на дрэве; *адзіна́к* — адзіны ў бацькоў сын; *апе́лька* — прарэшак для гузіка.

Нярэдка сустракаюцца мнагазначныя словы, паколькі ў адным слоўнікавым артыкуле аналізуюцца значэнні розных дыялектных груп. Гэта дазваляе раскрыць паходжанне значэнняў, паказаць спецыфіку развіцця слова ў розных лексічных мікрасістэмах у межах асобных дыялектных груп і дыялектаў. Так, напрыклад, лексема *бо́нда* ў паўднёва-заходняй гаворцы абазначае печыва з бульбы, мукі (перапечка, блін, булачка, баханка хлеба і інш.), у палескай групе гаворак *бо́нда* — жывёла, што даюць у пасаг дачцы, калі яна выходзіць замуж, а ў паўночна-заходняй гаворцы гэта слова мае іншыя значэнні, напрыклад 'засеяны ўчастак зямлі ў сваю карысць, набыццё грошай, накапленне багацця' і г. д.

Словы, якія маюць аднолькавае ці падобнае значэнне, адсылаюцца да адпаведнага сіноніма.

Укладальнікі з вялікай увагай ставіліся да кантэксту,

наколькі кантэкст з'яўляўся асноўнай крыніцай раскрыцця значэння слоў. Пры вызначэнні чарговасці падачы значэнняў улічваліся рэальныя суадносіны паміж семантычнымі адзінкамі, што склаліся ў жывой мове. На аснове высвятлення розных выпадкаў ужывання слова, яго сувязей з іншымі словамі вызначаліся больш ужывальныя канкрэтныя і нейтральныя значэнні, якія звычайна ставіліся на першае месца, а затым пераходзілі да эмацыянальна афарбаваных пераходных і абстрактных значэнняў.

У слоўніку налічваецца вялікая колькасць сінонімаў, словаўтваральных варыянтаў слоў, таму значэнне слова раскрываецца шляхам указання на сэнсавую тоеснасць з іншымі словамі, шырока выкарыстоўваецца спасылка да таго варыянта слова, дзе даецца тлумачэнне (*газоўка ж.* Тое ж, што і *газніца*).

Пры тлумачэнні некаторых слоў спачатку даецца іх агульнае значэнне (*горба ж.* Куча чаго-н.). Затым размяжоўваюцца прыклады на групы ў залежнасці ад назваў тых рэалій, з якімі спалучаецца лексема (горба зямлі, горба гародніны, горба галля і інш.). У такіх выпадках лічбавыя абазначэнні (1, 2, 3) указваюць на магчымасць спалучэння слова з іншымі словамі, на яго лексічнае акружэнне.

Да слоў і іх значэнняў прыводзяцца прыклады, адпаведны кантэкст. Указваецца назва вёскі і скарочана назва раёна, дзе запісаны матэрыял. Тэкставыя ілюстрацыі ўдакладняюць значэнні і адценні значэнняў і разам з тым даюць уяўленне аб тэрытарыяльным пашырэнні і семантычнай разгалінаванасці слоў. Акрамя таго, кантэкст выяўляе тыповую спалучальнасць слова, парадак слоў у сказе, сінтаксічныя функцыі слова. Частка лексем уключана ў слоўнік без ілюстрацый. У тых выпадках, калі ў матэрыялах з розных мясцовасцей прыводзяцца аднатыпныя прыклады, у якасці ілюстрацыі падаецца толькі адзін з іх.

У слоўніку выкарыстоўваецца разгалінаваная сістэма памет, якая акрэслівае сферу ўжывання слова. Памета *заал.* ставіцца толькі пасля дыялектных назваў прадстаўнікоў жывёльнага свету. Формы, якія супадаюць з літаратурнымі назвамі, не суправаджаюцца такой паметай, за выключэннем тых выпадкаў, калі такая назва выступае як амонім або як асобнае значэнне мнагазначнага слова.

У канцы слоўнікавага артыкула (пасля пераліку значэнняў слова) за знакам ◇ падаюцца фразеалагізмы, за знакам ▽ — прымаўкі, прыказкі, загадкі, прымхі і інш. Да некаторых не зусім зразумелых фразеалагічных адзінак і дыялектных слоў даюцца тлумачэнні.

Пры раскрыцці значэння запазычаных слоў у беларускіх гаворках прыводзяцца адпаведныя паралелі з мовы-крыні-

цы — з балтыйскіх моў (пераважна з літоўскай), польскай і нямецкай, што дазваляе размежаваць першасныя і другасныя значэнні, акрэсліць семантычныя адрозненні ад зыходнай лексемы, выявіць выпадкі пашырэння і звужэння аб'ёму значэнняў. Так, да слоў літоўскага паходжання даюцца літоўскія адпаведнікі з тлумачэннем і параўнаннем значэння. Бывае так, што пэўнае слова балтыйскага паходжання ў беларускіх гаворках ужываецца ў іншым значэнні ў параўнанні з мовай-крыніцай. У такіх выпадках побач з літоўскімі адпаведнікамі прыводзяцца паралелізмы з іншых балтыйскіх моў з выяўленнем адрознення ў значэннях. Напрыклад, да пашыранага ў беларускіх гаворках слова *дулькі* (*дýлька*) 'пыл з утрыманнем дробных частак валакна, што паднімаецца пры апрацоўцы льну' літ. *dùlkė* 'пыл' і лат. *dul̃ke* (<літ. *dùlkė*) 'дробныя адходы ад саломы, мякіны; апілкі'.

Такі прынцып захоўваецца і ў адносінах да запазычанняў з польскай, а таксама з іншых моў. Напрыклад, *бадáць* ужываецца ў беларускіх гаворках са значэннямі: 1) 'думаць, меркаваць', 2) 'аналізаваць, абследаваць'; параўн. польск. *badać* 'даследаваць, дапытваць, аглядаць, правяраць'. *Байбáк* у беларускіх гаворках ужываецца са значэннем 'бальшун'; параўн. літ. *baibõkas* 'падлетак' з цюрк. *байбáк* 'птушка'.

Адпаведнікі з іншых моў звычайна прыводзяцца да першага па алфавіту сіноніма, а пры наступных аднакарэнных утварэннях даецца адсылка да першага, напрыклад да слова *глеюгá* гл. глей, да апошняга прыводзяцца літоўскія паралелі: *gléinia, gléinė*.

Уключэнне ў слоўнік лексікі буйных дыялектных арэалаў спрыяе паглыбленаму вывучэнню лексічных багаццяў не толькі з пункту гледжання наміпатыўнага адрознення слоў, але і ў плане выяўлення семантычнай дыферэнцыяцыі слоў. Больш поўны ахоп дыялектнай лексікі дазволіць раскрыць функцыяніраванне слова ў жывой мове ва ўсіх яго значэннях і словаўтваральных варыянтах, выявіць крыніцы запазычання.

Укладальнікі слоўніка вялікую ўдзячнасць выказваюць акадэміку Акадэміі навук БССР К. К. Атраховічу (Кандрату Крапіве), які ўважліва прачытаў рукапіс, унёс істотныя праўкі і заўвагі, калі слоўнік рэдагаваўся ў выдавецтве, дапамагаў кансультацыямі і парадамі.

# СПІС НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ, ПРОЗВІШЧЫ ЗБІРАЛЬНІКАЎ І ГОД ЗАПІСУ МАТЭРЫЯЛАЎ

## БССР

*Асіповіцкі раён*
Лапічы — Г. У. Арашонкава, 1975

*Астравецкі раён*
Быстрыца — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1975
Кемялішкі — Ю. Ф. Мацкевіч, 1958
Перавознікі — В. Д. Старычонак, 1977

*Ашмянскі раён*
Граўжышкі — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1972

*Баранавіцкі раён*
Малахоўцы — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1974

*Барысаўскі раён*
Глівін — С. Г. Лобач, 1972
Палік — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1973

*Браслаўскі раён*
Ахрэмаўцы — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1974
Ёдлавічы — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1977
Урбаны — В. Д. Старычонак, 1977
Шамялі — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1977

*Бярозаўскі раён*
Горск — Ю. Ф. Мацкевіч, 1963

*Бярэзінскі раён*
Багушэвічы — Г. У. Арашонкава, 1973—1974
Белічаны — С. Г. Лобач, 1972
Кукарава — С. Г. Лобач, 1972
Мачаск — С. Г. Лобач, 1971
Ядліна — С. Г. Лобач, 1972
Якшыцы — С. Г. Лобач, 1972

*Валожынскі раён*
Лоск — Ю. Ф. Мацкевіч, І. П. Кавальчук, 1965

*Ваўкавыскі раён*
Мсцібава — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1975

*Верхнядзвінскі раён*
Валынцы — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1974
Лісна — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1974

*Вілейскі раён*
Асавец — Я. М. Рамановіч, І. П. Кавальчук, 1967
Рыбчына — Ю. Ф. Мацкевіч, 1971
Саланое — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1973

*Воранаўскі раён*
Беняконі — Ф. Д. Клімчук, 1976
Галоўні — Ф. Д. Клімчук, 1976
Паляцкішкі — Ю. Ф. Мацкевіч, І. П. Кавальчук, 1966
Старыя Смільгіні — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1973

*Ганцавіцкі раён*
Дзяніскавічы — Ю. Ф. Мацкевіч, 1970
Хатынічы — С. Г. Лобач, 1973

*Глыбоцкі раён*
Мярэцкія — Ю. Ф. Мацкевіч, 1971

*Гродзенскі раён*
Каўняны — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1975
Новікі — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1975
Парэчча — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1978
Сапоцкіна — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1975
Стральцы — Я. М. Рамановіч, 1972

*Дзяржынскі раён*
Данілавічы — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1971

*Дзятлаўскі раён*
Засецце — І. П. Кавальчук, 1968
Пацаўшчына — С. Г. Лобач, 1975—1976

*Докшыцкі раён*
Беразіно — С. Г. Лобач, 1972

*Драгічынскі раён*
Радастаў — Ф. Д. Клімчук, 1975
Сіманавічы — Ф. Д. Клімчук, 1975—1977

*Зэльвенскі раён*
Старое Сяло — Ю. Ф. Мацкевіч, Г. У. Арашонкава, 1967

*Івацэвіцкі раён*
Любішчыцы — Я. М. Рамановіч, 1964, 1971, А. І. Чабярук, 1971

*Іўеўскі раён*
Бакшты — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1972
Белы Бераг — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1972
Жыдзевічы — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1972
Жылі — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1972

*Калінкавіцкі раён*
Малыя Аўцюкі — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, С. Г. Лобач, 1973

*Камянецкі раён*
Дзмітравічы — Ю. Ф. Мацкевіч, 1963

*Капыльскі раён*
Ванелевічы — С. М. Лобач, 1970
Семежава — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1974

*Карэліцкі раён*
Міратычы — Ю. Ф. Мацкевіч, 1968

*Крупскі раён*
Вялікі Лес — С. Г. Лобач, 1972
Ухвала — С. Г. Лобач, 1972

*Лагойскі раён*
Вялікія Нястанавічы — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1975
Гайна — А. І. Чабярук, 1972

*Лідскі раён*
Дакудава — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1975

*Любанскі раён*
Кузьмічы — Ю. Ф. Мацкевіч, 1978

*Ляхавіцкі раён*
Альхоўцы — Ю. Ф. Мацкевіч, 1969
Тухавічы — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1973

*Маладзечанскі раён*
Вязынка — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1972

*Мастоўскі раён*
Вострава — Ю. Ф. Мацкевіч, Г. У. Арашонкава, І. П. Кавальчук, 1968
Галубы — С. Г. Лобач, 1975

*Мінскі раён*
Губічы — Ю. Ф. Мацкевіч, 1975
Крупіца — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1971
Раўбічы — Ю. Ф. Мацкевіч, 1975
Сёмкаў Гарадок — Ю. Ф. Мацкевіч, І. П. Кавальчук, 1957

*Мядзельскі раён*
Азаркі-Пудавінка — Ю. Ф. Мацкевіч, І. П. Кавальчук, 1958

*Навагрудскі раён*
Альхоўка — Ю. Ф. Мацкевіч, 1967

*Нясвіжскі раён*
Альба — Г. У. Арашонкава, 1973—1975

*Пастаўскі раён*
Груздава — Ю. Ф. Мацкевіч, 1967
Дварчаны — Г. П. Мурзёнак, Ф. Д. Клімчук, 1978
Кураполле — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1974
Магуны — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1975

*Пінскі раён*
Азарычы — Г. У. Арашонкава, 1969

*Пружанскі раён*
Смаляніца — Ю. Ф. Мацкевіч, 1954

*Пухавіцкі раён*
Вецярэвічы — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1975

*Рагачоўскі раён*
Азяраны — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1973

*Расонскі раён*
Якубова — С. Г. Лобач, 1970
Янова — Ю. Ф. Мацкевіч, 1974

*Свіслацкі раён*
Навасёлкі — Ю. Ф. Мацкевіч, 1968

*Слонімскі раён*
Масілавічы — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1974

*Слуцкі раён*
Ісерна — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1974

*Смалявіцкі раён*
Задомля — Ю. Ф. Мацкевіч, 1971—1973
Слабада — Ю. Ф. Мацкевіч, 1971—1973

*Смаргонскі раён*
Жодзішкі — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1972
Крэва — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1976
Ністанішкі — Ю. Ф. Мацкевіч, І. П. Кавальчук, 1966

*Старадарожскі раён*
Пасека — Г. У. Арашонкава, 1973

*Стаўбцоўскі раён*
Стары Свержань — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1971

*Столінскі раён*
Відзібар — Ф. Д. Клімчук, 1975

*Уздзенскі раён*
Нізок — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1972

*Чэрвеньскі раён*
Рудня — Г. У. Арашонкава, 1972
Рудня Астравітая — Ю. Ф. Мацкевіч, 1971

*Шумілінскі раён*
Мішневічы — С. Г. Лобач, 1972

*Шчучынскі раён*
Вялікія Баяры — Ю. Ф. Мацкевіч, Г. У. Арашонкава, 1964
Кіралі — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1976

**ЛітССР**

*Варэнскі раён*
Новыя Мацалі — А. І. Грынавецкене, Ю. Ф. Мацкевіч, Я. М. Рамановіч, М. В. Бірыла, І. П. Кавальчук, 1966

*Вільнюскі раён*
Відаўцішкі — Ф. Д. Клімчук, 1975
Грыкені — Ф. Д. Клімчук, 1975
Ліпнікі — А. І. Грынавецкене, Ю. Ф. Мацкевіч, Я. М. Рамановіч, М. В. Бірыла, І. П. Кавальчук, 1966
Судэрва — Ф. Д. Клімчук, 1975
Швэды (Авіжэняйскі сельсавет) — Ф. Д. Клімчук, 1975
Шумск — В. Д. Старычонак, 1977

*Ігналінскі раён*
Лайпунікі — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1976
Малькуны — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1976

*Тракайскі раён*
Старыя Трокі — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Я. М. Рамановіч, І. П. Кавальчук, 1966, Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1975
Стракішкі — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1975

*Шальчынінскі раён*
Балтойі-Воке — В. Д. Старычонак, 1977
Гемзы — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1975
Стральцы — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Я. М. Рамановіч, І. П. Кавальчук, 1966
Тургеляй — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1975

*Швянчонскі раён*
[illegible]ўскія — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1976
[illegible]ейкі — Ф. Д. Клімчук, 1976
[illegible] — Ф. Д. Клімчук, 1976

## ЛатССР

*Даўгаўпілскі раён*
Балюжы — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1977
Дэмене — В. Д. Старычонак, 1977
Калькуны — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1977
Кровені — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1977
Медумі — В. Д. Старычонак, 1977
Прэдэ — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1977
Рагулішкі — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Б. П. Рэйдзане, 1977
Скрудалена — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1977
Уступі — В. Д. Старычонак, 1977

*Краслаўскі раён*
Буткуны — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1977
Індра — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1977
Масішкі — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1977
Філіпаўцы — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1977
Шнёкаў — Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1977

*Лудзенскі раён*
Істра (Вецслабада) — Ф. Д. Клімчук, С. Г. Лобач, Т. В. Бародзіч, А. Б. Брэйдак, 1977
Мельнікі — С. Г. Лобач, Ф. Д. Клімчук, 1977
Мешкінева — Ф. Д. Клімчук, 1977
Навікі — С. Г. Лобач, Ф. Д. Клімчук, 1977
Пасіене — Ф. Д. Клімчук, С. Г. Лобач, Т. В. Бародзіч, 1977
Пелічава — С. Г. Лобач, 1977
Скрыпчына — С. Г. Лобач, 1977
Чарняўскія — С. Г. Лобач, 1977
Шкаўна — С. Г. Лобач, 1977

## ПНР

*Беластоцкае ваяводства*
Баброўнікі (Гарадоцкая гміна) — Э. Смулкова, А. Багроўска, Я. Глушкоўска, 1975—1978
Калясное (Міхалоўская гміна) — С. Г. Лобач, 1974
Каменка Стара (Саколкаўская гміна) — С. Глінка, Э. Смулкова, 1961
Кнышэвічы (Бабіцкая гміна) — А. Абрэмбска-Яблонска, Э. Смулкова, 1957
Крынкі (Крынкаўская гімна) — А. Абрэмбска-Яблонска, С. Глінка, Э. Смулкова, Г. Сафарэвіч, 1955
Курашэва (Чыжэўская гміна) — Я. Петручук, 1968—1974, 1978
Лука (Нараўкаўская гміна) — С. Г. Лобач, 1977
Навадворцы (Васількоўская гміна) — Э. Смулкова, 1957
Помікі (Бабіцкая гміна) — С. Глінка, 1957
Сакаляны (Саколкаўская гміна) — А. Абрэмбска-Яблонска, С. Глінка, 1956
Чорная Весь Касцельная (Чорна-Беластоцкая гміна) — Э. Смулкова, 1957

*Сувалкаўскае ваяводства (Ліпская гміна)*
Воўкуш — С. Глінка, М. Кандрацюк, 1963
Рыгалоўка — А. Багроўска, 1961
Скеблева — А. Багроўска, 1961

## СПІС АБСЛЕДАВАНЫХ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ

Азаркі-Пудавінка Мядз. 53*
Азарычы Пін. 152
Азяраны Раг. 139
Альба Нясв. 134
Альхоўка Навагр. 119
Альхоўцы Лях. 133
Асавец Віл. 65
Ахрэмаўцы Брасл. 30
Баброўнікі Гарад. 114
Багушэвічы Бярэз. 103
Бакшты Іўеў. 91
Баложы Даўг. 26
Балтойі-Воке Шальч. 59
Белічаны Бярэз. 107
Белы Бераг Іўеў. 93
Беняконі Воран. 87
Беразіно Докш. 54
Буткуны Красл. 13
Быстрыца Астр. 51
Валынцы В.-Дзв. 16
Ванелевічы Кап. 136
Вецярэвічы Пух. 124
Відаўцішкі Вільн. 45
Відзібар Стол. 153
Вострава Маст. 115
Воўкуш Ліпск. 75
Вязынка Маладз. 68
Вялікі Лес Круп. 74
Вялікія Баяры Шчуч. 83
Вялікія Пястанавічы Лаг. 69
Гайна Лаг. 70
Галоўні Воран. 88
Галубічы Мін. 96
Галубы Маст. 116
Гемзы Шальч. 57
Глівін Барыс. 72
Горск Бяроз. 146
Граўжышкі Ашм. 61
Груздава Паст. 41
Грыкені Вільн. 43
Дакудава Лід. 89
Данілавічы Дзярж. 122
Дварчаны Паст. 40
Дзмітравічы Кам. 144
Дзяніскавічы Ганц. 149
Дэмене Даўг. 20
Ёдлавічы Брасл. 28
Жодзішкі Смарг. 63
Жыдзевічы Іўеў. 92
Жылі Іўеў. 90
Задомля Смал. 100
Засецце Дзятл. 118
Індра Красл. 10
Ісерна Слуц. 137
Істра Лудз. 5
Калясное Міхал. 140
Каменка Стара Сакол. 110
Каўняны Гродз. 79
Кемялішкі Астр. 50
Кіралі Шчуч. 84
Кнышэвічы Бабіц. 112
Крупіца Мін. 98
Крынкі Крын. 113
Крэва Смарг. 64
Крэвені Даўг. 25
Кузьмічы Люб. 154
Кукарава Бярэз. 108
Кураполле Паст. 38
Курапэва Чыж. 141
Лайпушкі Ігн. 33
Ланічы Асін. 125
Лінікі Вільн. 47
Лісна В.-Дзв. 15
Лоск Валож. 94
Лука Нараўк. 142
Любішчыцы Івац. 147

* Тут і далей лічбы абазначаюць парадкавы нумар населенага пункта на карце.

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

абл.— абласное
абрад.— абрадавае
абразл.— абразлівае
адз.— адзіночны лік
адкуль-н.— адкуль-небудзь
адм.— адмоўная часціца
азнач.— азначэнне
анат.— анатамічнае
англ.— англійскае
арніт.— арніталагічнае
арх.— архаічнае
асаб.— асабовы займеннік
астр.— астранамічнае
асудж.— асуджальнае
Багдановіч—Багдановіч Максім. Збор твораў у 2-х т. Мн., 1968, с. 350—356
бат.— батанічнае
безас.— безасабовы дзеяслоў
бел.— беларускае
біял.— біялагічнае
буд.— будаўнічая справа
ваен.— ваенная справа
вет.— ветэрынарнае
він.— вінавальны склон
вульг.— вульгарнае
вык.— выказнік
выкл.— выклічнік
выш.— вышэйшая ступень
ганч.— ганчарная справа
геагр.— геаграфічнае
гіст.— гістарычнае
гл.— глядзі
груб.— грубае
Грынч.— Гринченко Б. Д. Словарь украинского языка, т. I—IV. Киев, 1907—1909
грэч.— грэчаскае
ДАБМ — Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мн., 1963
далуч.— далучальны злучнік
Даль — Даль В. Толковый словарь живого великорусского языка, т. I—IV. М., 1955
дап.— дапаўненне
дзеепрым.— дзеепрыметнік
дзеепрысл.— дзеепрыслоўе
дзіцяч.— дзіцячае
дыял.— дыялектнае
ж. — жаночы род
жарт.— жартаўлівае
заал.— заалагічнае
заг.— загадны лад
займ.— займеннік
зак.— закончанае трыванне
зал.— залежны стан
зб.— зборны назоўнік
злуч.— злучнік
знач.— значэнне
зніж.— зніжальнае
зневаж.— зневажальнае
інш.— іншае
іран.— іранічнае
іт.— італьянскае
іхц.— іхціялагічнае
крав.— кравецкая справа
кулін.— кулінарнае
ласк.— ласкальная форма
лат.— латышскае
лац.— лацінскае
лаянк.— лаянкавае
ЛГ — Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мн., 1968, 1969
літ.— літоўскае
літар.— літаратурнае
ліч.— лічэбнік
ЛТ — Lietuvių terminologija. Vilnius, 1975
м.— мужчынскі род
мед.— медыцынскае
месн.— месны склон

метаф.— метафарычнае значэнне
метэар.— метэаралогія
міф.— міфалогія
мн.— множны лік
муз.— музыка
н.— ніякі род
наз.— назоўны склон
неадабр.— неадабральнае
неазн.— неазначальны
незак.— незакончанае трыванне
Нас.— Носович И. И. Словарь белорусского наречия. СПб, 1870
ням.— нямецкае
павел.— павелічальнае
пабоч.— пабочнае
пагард.— пагардлівае
пал.— паляўнічае
памянш.— памяншальная форма
памянш.- ласк. — памяншальна - ласкальная форма
парадк.— парадкавы лічэбнік
параўн.— параўнай
перан.— пераноснае значэнне
плыт.— плытніцкае
польск.— польскае
прым.— прыметнік
прыназ.— прыназоўнік
прысл.— прыслоўе
прэдык.— прэдыкатыўнае
пчал.— пчалярства
размерк.— размеркавальны
род.— родны склон
руск.— рускае
рыб.— рыбалоўства
рыт.— рытуальнае
рэліг.— рэлігійнае
СВ — Karłowicz J., Kryński A., Niedźwiedzki. Słownik języka polskiego, I—VIII. Warszawa, 1900—1927
с.-г.— сельскагаспадарчае
скар.— скарочанае
скл.— склон
слав.— славянскае
СЛМ— Lietuvių kalbos žodynas, I—X. Vilnius, 1941—1978
СРНГ — Словарь русских народных говоров, вып. V. М.—Л., 1970
ст. ст.— стары стыль
ст.-яўр. — стараяўрэйскае
стал.— сталярская справа
супаст.— супастаўляльны злучнік
супрац.— супрацiўны злучнік
тат.— татарскае
тв.— творны склон
'тж' — тое ж
ткац.— ткацтва
Толст.— Толстой Н. И. Об одном балтизме в восточнославянских диалектах — *пелька.* — Этимология 1967. М., 1969, с. 145—157
тур.— турэцкае
тэкст.— тэкстыльнае
тэх.— тэхнічнае
указ.— указальны
укр.— украінскае
устар.— устарэлае
фальк.— фальклорнае
Фасм.— Фасмер М. Этимологический словарь русского языка, т. I—IV. М., 1964—1973
фат.— фатаграфічны
фраз.— фразеалагізм
Фрэн.— Fraenkel E. Litauisches etymologisches Wörterbuch. Heidelberg—Göttingen, 1955—1962
хім.— хімічны
хто-н.— хто-небудзь
царк.— царкоўнае
цюрк.— цюркскае
цясл.— цяслярская справа
часц.— часціца
шав.— шавецкая справа
што-н.— што-небудзь
экспр.— экспрэсіўнае
эст.— эстонскае
этнагр.— этнаграфічнае
этн.— этнонім
юрыд.— юрыдычнае

# ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ РАЁНАЎ (БССР, ЛітССР, ЛатССР) і гмін (ПНР)

Асіп.— Асіповіцкі
Астр.— Астравецкі
Ашм.— Ашмянскі
Бабіц.— Бабіцкая (ПНР)
Бар.— Баранавіцкі
Барыс.— Барысаўскі
Бераст.— Берастовіцкі
Браг.— Брагінскі
Брасл.— Браслаўскі
Брэсц.— Брэсцкі
Бяроз.— Бярозаўскі
Бярэз.— Бярэзінскі
Валож.— Валожынскі
Варэн.— Варэнскі (ЛітССР)
Васільк.— Васількоўская (ПНР)
Ваўк.— Ваўкавыскі
В.-Дзв.— Верхнядзвінскі
Віл.— Вілейскі
Вільн.— Вільнюскі (ЛітССР)
Воран.— Воранаўскі
Ганц.— Ганцавіцкі
Гарад.— Гарадоцкая (ПНР)
Глыб.— Глыбоцкі
Гродз.— Гродзенскі
Даўг.— Даўгаўпілскі (ЛатССР)
Дзярж.— Дзяржынскі
Дзятл.— Дзятлаўскі
Докш.— Докшыцкі
Драг.— Драгічынскі
Зэльв.— Зэльвенскі
Івац.— Івацэвіцкі
Івян.— Івянецкі
Ігн.— Ігналінскі (ЛітССР)
Іўеў.— Іўеўскі
Калінк.— Калінкавіцкі
Кам.— Камянецкі
Кап.— Капыльскі
Карэл.— Карэліцкі
Красл.— Краслаўскі (ЛатССР)
Круп.— Крупскі
Крын.— Крынкаўская (ПНР)
Лаг.— Лагойскі
Лід.— Лідскі
Ліпск.— Ліпская (ПНР)
Лоеў.— Лоеўскі
Лудз.— Лудзенскі (ЛатССР)
Лун.— Лунінецкі
Люб.— Любанскі
Лях.— Ляхавіцкі
Маладз.— Маладзечанскі
Маст.— Мастоўскі
Мін.— Мінскі
Міхал.— Міхалоўская (ПНР)
Мядз.— Мядзельскі
Навагр.— Навагрудскі
Нараўк.— Нараўкаўская (ПНР)
Нясв.— Нясвіжскі
Паст.— Пастаўскі
Петр.— Петрыкаўскі
Пін.— Пінскі
Пруж.— Пружанскі
Пух.— Пухавіцкі
Раг.— Рагачоўскі
Рас.— Расонскі
Сакол.— Саколкаўская (ПНР)
Свісл.— Свіслацкі
Скід.— Скідальскі
Сл.— Слонімскі
Слуц.— Слуцкі
Смал.— Смалявіцкі
Смарг.— Смаргонскі
Ст. Дар.— Старадарожскі
Стаўб.— Стаўбцоўскі
Стол.— Столінскі
Трак.— Тракайскі (ЛітССР)
Уздз.— Уздзенскі
Чорна-Беласт.— Чорна-Беластоцкая (ПНР)
Чыж.— Чыжэўская (ПНР)
Чэрв.— Чэрвеньскі
Шальч.— Шальчынінскі (ЛітССР)
Швянч.— Швянчонскі (ЛітССР)
Шум.— Шумілінскі
Шчуч.— Шчучынскі

# А

АБ, АП *прыназ.* I з *він.* 1. Аб. *Я білася аб зямлю, каб забіцца.* Груздава Паст. *Білася ап сценку.* Альхоўка Навагр. *Кулаком ляснець ап стол.* Старыя Смільгіні Воран. *Памараўса ап чыгун.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Пра. *Мы гаварылі аб гэтыя кросна.* Груздава Паст. *Аб гэта і гаворкі не было.* Кіралі Шчуч. *Не гаварэце мне аб весельнікаў?* Новікі Гродз. *Хай яна скажа: аб яе кнігу можна пісаць. Думай аб яе, што даць піць ёй.* Кураполле Паст. *Глядзі — у Мінску знаюць аб Ністанішках — цуда!* Ністанішкі Смарг. *Ап што яны гавораць?* Сёмкаў Гарадок Мін. *Пагаварым ап чарку гарэлкі.* Лісна В.-Дзв. *Прышла спрасіць ап вашу падругу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён ап карову не думае.* Паляцкішкі Воран. *Ап свежыя гуркі пытала.* Сакаляны Сакол. 3. За, па, праз, на працягу. *Цяпер аб запалкі не ходзяць па хатах, кап пазычыць.* Паляцкішкі Воран. *Аб дзень прыехала. Аб ноч памёр.* Вецярэвічы Пух. *Ап тры ночы гром ляскаў і выцяў у хату. Ап тры ночы не лажыўса спаць.* Дзяніскавічы Ганц. 4. На. *Дай адзежу! — аб адзежу квіт дадзём на тры рублі.* Крэва Смарг. *Ап свае грошы пражыве.* Старое Сяло Зэльв.

II. з *месн.* 1. Аб, пра. *Адны аб другіх не знаюць.* Паляцкішкі Воран. *Аб іх німа што гаварыць.* Новікі Гродз. *Хто аб сваім дабрэ не ведае?* Мсцібава Ваўк. *Ні ап чом не думала.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Ад. *Даўней страдалі аб нішчымніцы.* Міратычы Карэл. 3. На. *Цэлы дзень аб сухім сядзелі.* Крэва Смарг. *Аб млеку жыву.* Альхоўка Навагр. *Жывець ап сухім, нічога не варыць.* Мярэцкія Глыб. *Ап картошцы ня будзя жыць.* Мсцібава Ваўк. *Скаціна сыта ап траве.* Альхоўка Навагр. 4. У. *Я не разбіраюся аб рыбах.* Ракаўскія Швянч.

АБАБІ'ЦЦА *зак.* 1. Адбіцца (пра посуд). *Ababілася міска.* Грыкені Вільн. 2. Падрацца, знасіцца (пра ніз падола адзення). *Ababілася спадніца.* Кураполле Паст., Лісна В.-Дзв. 3. *перан.* Натрудзіцца. *Так ababіліся рукі, што не хочацца нічога рабіць.* Вецярэвічы Пух.

АБАБІ'ЦЬ *зак.* 1. Выцяць. *Рабёнка абабілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён матку абабіў.* Курамолле Паст. *Жонка абабіла яго.* Валынцы В.-Дзв. *Нейкі хлапец абабіў яе, яна плача.* Жылі Іўеў. 2. Параніць, збіць скуру. *Абабіў чучаланкі, як дрова сек, аж уся скура загарнулася.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Вымалаціць зерне. *Як жыта абабілі, астаецца акалот.* Ахрэмаўцы Брасл. *Абаб'юць жыта аб зэдлік. Дванаццаць коп ільну абабіла.* Аксакаўшчына Мін. 4. Ашаляваць. *Абабіў доскамі хату.* Граўжышкі Ашм. 5. *перан.* Перашкодзіць у рабоце. *Вот ён мне рукі абабіў, заброў тапор і не аднёс.* Вецярэвічы Пух.

АБАБРА'ЦЬ, ОБОБРА'ТЫ *зак.* 1. Сабраць плады. *Чаму сліў не абёруць?* Мярэцкія Глыб. *Уночы нехта абёрыць грушы, сёння хоць бы абабраць.* Кураполле Паст. *Там былі рас абабралі гуркі.* Альхоўка Навагр. 2. Сабраць рой, жукоў. *Абярэш рой і адзельна пасадзіш.* Данілавічы Дзярж. *Трэба рой абабраць у рэшато.* Альхоўка Навагр. *Абярэш жукоў — яны зноў ёсць.* Бакшты Іўеў. 3. Зняць лупіну, абчысціць. *Цыбулькі тры абёрыш. Абяры капусту і скрышы.* Ністанішкі Смарг. *Абёрыця бульбу, я сала нясу.* Магуны Паст. *Агурочак абяру.* Крупіца Мін. *Вараную картофлю абіраюць, старую — стругаюць.* Данілавічы Дзярж. 4. Знайсці, аблюбаваць месца. *Пчолы іскавалі, абабралі места і ўцяклі. Болі лятуць у лес, у дуплі.* Валынцы В.-Дзв. 5. Ашукаць, аграбіць. *Ён у вочы натта добры, але ўсё стараецца абабраць цябе.* Мсцібава Ваўк. *У яго дзеньгі абабралі.* Ахрэмаўцы Брасл. *В войну булы іх зусім обобралы, всю одэжу забралы; алэ после нажылы знов.* Сіманавічы Драг. 6. Аб'есці, абгрызці (мяса каля касцей). *Курыцу засекла, зварыла, дзеці костачкі аберацъ.* Кураполле Паст. *Будзяця косці абіраць?* Дакудава Лід. *Ах, кап табе вароны скабы абабралі!* Кіралі Шчуч. *Мнясо пооставалось на костюх, выкыну, то ворон чысто обырэ.* Сіманавічы Драг. 7. Выбраць муку з жорнаў. *Сходы пода обыры.* Сіманавічы Драг.

АБАБРЫ'ЦЬ *зак.* Агаліць. *Сказалі абабрыць галаву.* Ракаўскія Швянч.

АБАБУ'РЫЦЬ *зак. экспр.* Адлупцаваць. *Цябе трэба абабурыць, кап не хадзіў да іх.* Граўжышкі Ашм.

АБАБЭ'НІЦЬ *зак.* Абадзьмуць. *Абабэніць вада, многа выпіў.* Рудня Астравітая Чэрв.

АБАГНА'ЦЬ *зак.* 1. Зняць, абадраць кару. *Як бяроза, кару абгані, так яна твардая.* Грыкені Вільн. 2. Зняць лупіну з зерняў збожжа, абшатраваць. *Трэба абагнаць ячмень, як робяць велькія крупы.* Старыя Смільгіні Воран. *Перш ячмень трэба абагнаць, а потым змалоць на муку.* Кіралі Шчуч. *Вёс парылі, сушылі, лупінкі абгонюць у жорны і мелюць.* Саланое Віл. *У ступе вады нальe, луску абгані.* Беняконі Воран. 3. Зрабіць рогам шрам на скуры (пра кароў). *Другая карова шмаргане*

*рогам, кажуць, велькі шрам абагнала. Гэто наша карова так абганяе рогам кароў да крыві.* Міратычы Карэл. 4. Акучыць. *Сахой абганялі бульбу.* Індра Красл.

АБАГНУ'ЦЬ *зак.* Сагнуць. *Як канчаюць жаць, аставяць чубок жыта, абагнуць яго і хлеба пакладуць, кап ён вёўся.* Дакудава Лід.

А'БАДАС *м.*, А'БАДЫ *мн.* Свежына, якую даюць суседзям або якой частуюць, калі колюць свіней. *Абадас нясут, как зарэжут кабана, кусок мяса, сала дают.* Баложы Даўг. *Нада абадаў пакушаць. Абады нада сажарыць, будзім выпіць.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* лат. дыял. *abādas,* літар. *apbędas* 'тж'.

АБА'ДВА, АБА'ДЗВА, АБУ'ДВА, ОБА'ДВА *ліч.* Абодва. *Сыны абадва прыехалі.* Груздава Паст. *Абадва сыны памерлі.* Ракаўскія Швянч. *Яны абадзва былі хлопцы.* Кураполле Паст. *Былі ў Мінску абудва.* Маствілішкі Ашм. *Его обадва хлопці в Дорогычыні.* Сіманавічы Драг.

АБАДЗЕ'НЬ *гл.* АВАДЗЕ'НЬ

АБАДЗЬМУ'ЦЦА, АБАДЗМУ'ЦЦА *зак.* Успушыць (бакі). *Як абадзьмецца карова, вязьмо с саломы ў ляпу ўвязваюць. Не давай канюшыны, абадзмецца карова, як абадзмулася, па зямлі качалася.* Саланое Віл.

АБАДРА'НЫ *дзеепрым.* Абадраны. *У ката лапа абадрана.* Сакаляны Сакол.

АБАДРА'ЦЬ *зак.* Зняць, злупіць (скуру). *Абадралі ў цяляці скуру.* Мачаск Бярэз.

АБАЖА'ЦЬ *зак.* Апярэдзіць у жніве. *Кап хто яе абажаў— ніколі.* Стральцы Гродз.

АБАЗВА'ЦЦА *зак.* Адгукнуцца. *Ніхто не абазваўся ў лесе.* Дзяніскавічы Ганц.

АБАЗВО'ЛІЦЬ *зак.* Дапамагчы, выручыць. *Абазволіла ты мяне, памагла бульбу капаць.* Ухвала Круп.

АБАЗМЕ'Н *гл.* АБЯЗМЕ'Н

АБАЙСЦІ' *зак.* 1. Перагнаць. *Дзе добрыя жняі, абайду каждую.* Крэва Смарг. 2. Абысці вакол загона, паласы поля (з плугам, бараной). *Пака ён валамі раз абайдзёць, то я тры-чатыры разы коньмі абыйду.* Швэды Вільн. 3. Узысці (пра пасаджанае, пасеянае). *Як цёпла, то скора абойдзіць бульба.* Ахрэмаўцы Брасл. *Картошку нада пабаранаваць, ужо абашла.* Індра Красл. ◇ *Абысці бяду. Сваю бяду не абойдзеш, не аб'едзеш.* Саланое Віл.

АБАЙСЦІ'СЯ *зак.* Парабіць хатнюю работу, дагледзець жывёлу, ухадзіцца. *Я ўжо абашлася, усё парабіла, лігла спаць.* Лапяні Брасл.

АБАКУРА'ЦІЦЬ *зак.* Прывесці ў належны выгляд. *Абакурацілі хлопца, надзелі шапку, зашпілілі гузікі.* Якубова Рас.

АБАЛАКО' *н.* Воблака. *Абалака ходзяць па небі.* Пацаўшчына Дзятл.

АБАЛАЧО'К, О'БОЛОЧОК *м. памянш.* да а б а л а к о́. *Абалачок найшоў на сонца.* Рудня Астравітая Чэрв. *Чясом з оболочка дошч пыйдэ.* Сіманавічы Драг.

АБАЛВАНЕ'ЦЬ *зак. груб.* Здурнець. ∇ *Што п ты абалванеў!* Рыбчына Віл.

АБАЛІ'ЦЬ *зак.* Абліць. *Абаліў мяне ўсю.* Стральцы Гродз.

АБАЛО'НА, АБАЛО'НЯ *ж.*, АБАЛО'НЬ *м.* і *ж.*, ОБОЛО'НЬ *ж.* Слой драўніны паміж карой і стрыжнем, абалона. *Абалона тоўста ў дзераве, у каждум дрэве абалона, у хвойцы найтаўшчэйша абалона, у елцы абалоны крышку, асаротку больш.* Міратычы Карэл. *У дзераве кругом абалоня, а тады стрыжань.* Рудня Астравітая Чэрв. *Абалонь густаслойны.* Ахрэмаўцы Брасл. *Абалонь абгніла.* Мсцібава Ваўк. *Абалонь у дзераве зверху, а ў сярэдзіне сэрцо.* Старое Сяло Зэльв. *Стрыжінь твырдіша за оболонь.* Сіманавічы Драг.

АБАЛО'НАЧКА *ж. памянш.* да а б а л о́ н к а. *Абалоначка сала вісіць, чужніку дзяржалі.* Кураполле Паст.

АБАЛО'НІСТЫ, ОБОЛО'НЫСТЫЙ *прым.* Які мае тоўстую абалону. *Дуб абалоністы. Хвоя абалоністая дзярэцца на лучыну.* Азяраны Раг. *Абалоністае дзерава бяз сэрца, някрэпкае.* Пацаўшчына Дзятл. *Оболоныстэ дэрыво на хату ны годыцьця.* Сіманавічы Драг.

АБАЛО'НКА *ж.* 1. Кавалак сала. *Абалонка сала вісіць.* Кураполле Паст. 2. Шкло ў акне. *Абалонку пабіў.* Стральцы Гродз.

АБАЛО'НЫ *мн.* Клятчасты ўзор на матэрыі. *Даўней ткалі ў абалоны коўдры.* Жыдзевічы Іўеў.

АБАЛО'НЬ I *гл.* АБАЛО'НА

АБАЛО'НЬ II *м.* Бераг ракі. *Вясною выгнала яго* [труп] *на абалонь, прыгнала к кусту.* Вецярэвічы Пух.

АБАЛО'НЯ *гл.* АБАЛО'НА

АБАЛЯ'ВЕЦЬ *зак.* Пакрыцца язвамі, струпамі. *Як пасядуць скулы, то кажуць, што чалавек увесь абалявеў.* Альхоўка Навагр.

АБА'ПАЛ 1. *прысл.* З абодвух бакоў. *Ашалявалі хату абапал.* Стральцы Гродз. *У лесе е брады, абапал лес стаіць.* Дзяніскавічы Ганц. 2. *прыназ.* Навокал, каля. *Калісьці абапал стала яны пасядуць.* Груздава Паст.

АБАПНУ'ЦЬ, ОБОП'Я'ТЫ *зак.* 1. Абкрыць, ахінуць. *Абапнеш пасцілкай калыску і жнеш.* Саланое Віл. *Радюшкыю колыску обоп'яла́.* Сіманавічы Драг. 2. Завесіць. *Пасцілкай абапнець вакно.* Саланое Віл.

АБАРАНА' *гл.* БАРАНА'

АБАРА'НКА *ж.* Кольца з вітак для замацавання зуба ў бараке. *Былі драўняныя бароны, лук такі, па тры лясачкі і дзве абаранкі.* Грыкені Вільн.

АБАРАЦЕ'НЬ *м. фальк.* Пярэварацень, ваўкалак. *Чалавек*

*гэты быў нейкі абарацень: то нібы ваўком выглядае ці яшчэ кім.* Мішневічы Шум.

АБАРА'ЧЫВАЦЦА *незак.* Ператварацца. *Палонікі чорныя на жаб абарачываюцца.* Валынцы В.-Дзв.

АБАРВА'ЦЦА *зак.* Падарвацца (пра здароўе, сілы). *Ты абарвешся на такой рабоце.* Ахрэмаўцы Брасл.

АБАРО'ТАК *м.* Абарот. *У цяшкі гот абаротак мела: карову купіла, малако продала.* Вецярэвічы Пух.

АБА'РЫВАЦЬ *незак.* Заліваць варам. *Абарываюць* [кросны] *кіпятком пасля снавання.* Мішневічы Шум.

АБАРЭ'Ц *м.* Прылада для лоўлі рыбы. *Абарэц робіцца с сеткі, пасярот частае палатно, па баках рэць.* Лісна В.-Дзв.

АБАСНУ'ЦЬ *зак.* Заснуць. *Паляглі і абаснулі гэтыя людзі.* Груздава Паст. *А свет абаснуў, а мяне сон не бярэ.* Крэва Смарг.

АБАСХНУ'ЦЬ *зак.* Абсохнуць. *Ужо абасхла зямля.* Вецярэвічы Пух.

АБАЎРЭ'ЦЬ *зак.* Страціць з гадамі актыўнасць, бадзёрасць, пастарэць. *Мой мужык ужо абаўрэў: пастарэў, пацежалеў, ні хоча рабіць, ні стараецца, ні страміцца ні да чаго.* Раўбічы Мін.; *параўн.* літ. *bjaurùs* 'брыдкі'.

АБА'ЧЫЦЦА *зак.* Пабачыцца. *Я заўтра абачуся з ім.* Жылі Іўеў.

АББІВА'ЦЬ *незак.* Абіваць снапы, вымалочваць. *На сімяно аббівалі снапы, адбіралі салому.* Філіпаўцы Красл.

АББЛО'ШКАНЫ *дзеепрым.* Абабіты (пра сноп). *Снапы абблошканыя складалі ў гумнах.* Ракаўскія Швянч.

АББЛО'ШКАЦЬ *зак.* Абабіць (сноп). Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *blõkšti* 'абіваць снапы'.

АБВАДЗІ'ЦЬ *зак.* Абвесці, паказаць. *Абвадзіў ўсю Варшаву.* Магуны Паст.

АБВАДЗЯНЕ'ЦЬ *зак.* Зрабіцца вадкім, звадзянець. *Як кісель абвадзянеіць — гэта прастаялая ежа. Кісель абвадзянеў, неяк яго есці.* Кураполле Паст.

АБВАЛАКА'НІК *м.* Кажух, пакрыты сукном. *Зверху кажух абшывалі сукном — гэта абвалаканік.* Магуны Паст.

АБВАРАЦА'ЦЦА *зак.* Запэцкацца ванітамі. *Увесь абварацаўся.* Ракаўскія Швянч.

АБВАРА'ЧВАЦЬ *незак.* Укручваць, загортваць. *Раней рабілі так: акраўкі ад кілбасы пасоляць і ў сала абварачваюць.* Жодзішкі Смарг.

АБВАРЫ'ЦЬ *зак.* Апарыць. *Абварыла, пузыр нашоўся на руцэ.* Лайпушкі Ігн.

АБВЕ'СЦІ *зак.* Абмежаваць плошчу. *Пан абвёў лес капцамі.* Дзяніскавічы Ганц.

АБВІНУ'ЦЬ *зак.* 1. Перавязаць рану. *Параніў палец, трэба абвінуць.* Вецярэвічы Пух. 2. Абгарнуцца, акрыцца. *Кажух*

*абвінець і ляжыць, быццам спіць.* Саланое Віл. 3. Абкруціць чым-н. *Цэпам абвінуць плыт, і не пайдзець ён дальшэ.* Кураполле Паст. ◊ *Абвінуць каля пальца. Каля пальца абвінуць не далі.* Груздава Паст. *Замуш Таня ішла, ля пальца абвінуць з дому не ўзяла.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* літ. *apvynióti* 'тж' (ЛТ, 176), бел. *завінуць, завінаць.*

АБГАВА'РАВАЦЬ, АБГАВА'РВАЦЬ, ОБГОВА'РУВАТЫ *незак.* Абгаворваць. *Яна людзей абгаваравала з нох да галавы.* Груздава Паст. *Свякроў нявесту абгаварвая.* Кіралі Шчуч. *Всіх вона обговарувала.* Сіманавічы Драг.

АБГАЛАШЫ'ЦЬ *зак.* Абарваць, абламаць лісце, златашыць. *Увесь сланечнік абгалашыла, каб не зацяняў.* Вялікія Баяры Шчуч.

АБГАЛЯЛЕ'ДЗЕЦЬ *зак.* Астыць. *Абгалялелдзея бульбачка, ідзіця есця.* Бакшты Іўеў.

АБГАНІ' толькі *мн.* Галоўкі ў санях. *Абгані паламаліся.* Мачаск Бярэз.

АБГАНЯ'ЦЬ *незак.* Здзьмухваць (ветрам). *Краса зрываецца ветрам, вецер абганяе.* Крэва Смарг.

АБГАРАДЖА'ЦЬ *незак.* Абгароджваць. *Трэба абгараджаць буракі, кап свінні не лезлі.* Паляцкішкі Воран.

АБГА'РАК, АГА'РАК *м.* Прыгарак. *Дай мне абгарак, я люблю.* Быстрыца Астр. *Дзеці любяць агаркі, б'юцца за іх.* Жодзішкі Смарг.

АБГАРА'ЦЬ *зак.* Абараць. *Хлопяц абгора бульбу.* Быстрыца Астр.

АБГАСА'ЦЬ *незак.* Тушыцца, гаснуць. *Агонь абгасая ветрам.* Номікі Бабіц.

АБГІ'НЦЬ *зак.* Пакрыцца інеем. *Абгініла — марозам абышло белым.* Магуны Паст.

АБГЛАДА'ЦЬ *зак.* Абкусаць. *Прусакоў многа было, даўней абгложуць лыткі.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *обглодать* 'тж'.

АБГЛЯДА'ЦЦА *гл.* АГЛЯДА'ЦЦА

АБГНІ'ЛЫ *прым.* Спарахнелы. *Абгнілы пень, зараз рассыплецца.* Беразіно Докш.

АБГО'НІНА *зб. ж.* Адходы ад шатравання. *Ячмень шатруюць, палучаюцца шатравіння, ці абгоніна.* Вязынка Маладз.

АБГРАБСЦІ' *зак.* Абгрэбці. *Як змалоціш, нада абграбсці салому, каласы, а зярно зграбаць у кучу.* Лісна, Валынцы В.-Дзв.

АБГРУЖА'ЦЦА *незак.* Разгружацца. *Абгружайся грузавік каля возіра.* Палік Барыс.

АБГРЫ'ЗАЦЬ, ОБГРЫ'ЗУВАТЫ *незак.* Аб'ядаць кару. *Зайцы зімой сады абгрызаюць.* Швэды Вільн. *Гэту яблынку зайці кажну зыму обгрызують.* Сіманавічы Драг.

АБГРЫ'СЦІ, ОБГРЫ'СТЫ *зак.* Аб'есці кару. *Яблынку*

*зайцы чыста абгрызлі.* Грыкені Вільн. *Гэтого року яблынку зайці обгрызлы.* Сіманавічы Драг.

АБДЗЕ'ЛАВАЦЬ *незак.* Апрацоўваць. *Ён абдзелаваў лён: сеіў, рваў, трапаў.* Індра Красл.

АБДЗЕ'ЛАЦЬ *зак.* Абладзіць. *Прышоў сын с арміі, маляваў у хаці, усё абдзелаў.* Індра Красл.

АБДЗЕ'РЦІ *зак.* Абадраць. *Абдзёр пальца.* Чычалі Швянч.

АБДЗЕ'ЦЦА *зак.* Прыбрацца. *Абдзеліся дзеўкі ў клёшкі* [клёшныя спадніцы]. Ракаўскія Швянч.

АБДЗЕ'ЦЬ *зак.* 1. Надзець, апрануць. *Кажух абдзену. Абдзець у рукавы кажух.* Ракаўскія Швянч. 2. Закруціць у што-н. *Дзяцей абдзець у прасціню.* Магуны Паст.

АБДЗЁРКА *ж.* Шатраваная ячная мука. *Абдзёрка — абойная мука.* Магуны Паст. *Абдзёркі свёкар даў.* Мішневічы Шум.

АБДО'ЛЯЦЬ, АБЗДО'ЛЯЦЬ *зак.* Адолець, пабароць, перамагчы. *Каторы з іх абдоляяць? Гэты абздоляяць таго, а ён не хоча, кап не абздоляў.* Ракаўскія Швянч.

АБДУ'ЖЫЦЬ *зак.* Пабароць, перамагчы. *Абдужылі яго дзеці, хоць ён і большы.* Міратычы Карэл.

АБДУЛІ'ЦЬ *зак.* Абсыпаць. *Абдуліла: пасеяла карові трохі мукі ў пойла, мо лепей будзе есць?* Пацаўшчына Дзятл. *Абдулю я цябе пяском.* Дакудава Лід.; *параўн.* літ. *dùlti* 'ператварыцца ў пыл'.

АБДУ'МАЦЦА *зак.* 1. Апамятацца, перадумаць. *Не паехалі туды жыць, абдумаліся.* Паляцкішкі Воран. 2. Успомніць. *Я часта забываюсё, а потым абдумаюсё, што мне трэба было ўзяць.* Міратычы Карэл.

АБДУ'НУЦЬ *зак. безас.* Уздуць, раздзьмуць. *Бывая карову як абдуня, то змарнее, лопне.* Мсцібава Ваўк.

АБДУ'ЦЦА *зак.* 1. Тое ж, што і а б д у́ н у ц ь. *Абдулася карова, бакі поўныя, трэба паганяць.* Саланое Віл. 2. Натапырыцца. *Абдулася кура, абдуўшыся ходзіць, хворая.* Рудня Астравітая Чэрв.

АБДУ'ЦЬ *зак. безас.* Тое ж, што і а б д у́ н у ц ь. *Абдуло карову.* Магуны Паст. *Травы якой аскубнула карова, зразу яе абдуло.* Ракаўскія Швянч. *Сёння абду́ла маю карову: штось з'ела нядобрае.* Пацаўшчына Дзятл. *Абду́ла карову, наелася канюшыны.* Кіралі Шчуч.

АБЕ'ДЗВІ, АБІ'ДЗВЯ, АБЕ'ДЗМІЯ, АБО'ДЗВЕ, АБЕ'ДВІ, ОБІ'ДЬВЫ *ліч.* Абедзве. *Мы абедзві добрыя.* Саланое Віл. *З абедзвімі дзеўкамі паехаў.* Крынкі Крын. *Абідзвя Магдалены.* Дзевятні Смарг. *Абедзмія дзясна баляць.* Міратычы Карэл. *Абодзве худзенькія дзевачкі.* Тухавічы Лях. *Сляпы на абедві вочы.* Каменка Стара Сакол. *Іі обідьвы дывчята повыходылы замуж.* Сіманавічы Драг.

АБЕ′ДКАВАЦЬ *незак.* Абедаць. *Паглядзі на сонца, паўдзён ужо, абедкаваць пара.* Беразіно Докш.

АБ'Е′ЖЛІВЫ *прым.* Пражэрлівы. *Аб'ежлівая цялуха многа есь і п'ець.* Саланое Віл.

АБЕ′РВІЦА *ж.* Аглабіна. *Абервіца верхняя і дольная ў драбіне воза.* Мсцібава Ваўк.

АБЕ′РДЗІЦА *ж.* Планачка для замацавання трысцінак у бёрдзе. *Абердзіцы — дошчачкі, куды закладаецца трасцё і шнурочкам пазакладалі. Абердзіц — чатыры.* Дзяніскавічы Ганц.

АБЕ′РУЧКІ *прысл.* Аберуч, абедзвюма рукамі. *Аберучкі калышаш дзіця ў калысца.* Вецярэвічы Пух.

АБ'Е′СЦА *зак.* Аб'есціся. *Кісялю можна аб'есца.* Валынцы В.-Дзв.

АБ'Е′СЦІ *зак.* Пакусаць. *У балоце камары аб'ядуць вас.* Саланое Віл.

АБЕ′Т *м.* 1. Абед, полудзень. *Пайду прыгатую абет.* Старыя Смільгіні Воран. *Пашла на абет і загаварылася.* Лісна В.-Дзв. 2. Поўдзень. *Ішла самым абедам.* Вялікія Баяры Шчуч. *Па абедзі і німа дня.* Жылі Іўеў. 3. Снеданне. Пасека Ст.-Дар. ∇ *Да беду ні мох, а па бедзе—ні рук ні нох.* Вялікія Баяры Шчуч.

АБ'Е′ХАЦЬ *зак.* Асунуцца, змарнець. *Аб'ехаў, аплюх, запушчаны ходзіць.* Індра Красл.

АБЕ′ЧАК *м.*, АБЕ′ЧКА *ж.* і *н.* 1. Вобад рэшата і інш. *Абечак пры рэшаце.* Вялікія Баяры Шчуч. *Шопка — гэто абечак такі, свечка ўстаўляецца і гарыць яна.* Малахоўцы Бар. *У рэшаце абечка была.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Круг з лубу для намотвання пражы. *Абечак, бы рэшато, пражу маталі на абечак.* Дзяніскавічы Ганц. *Абечка было, маталі ніткі.* Лісна В.-Дзв. *На абечкі маталі с пачынкаў.* Валынцы В.-Дзв. *Разматвалі з матушак на абечка, як фінерка з дзерава круглая, на круг снавалі.* Навікі Лудз.

АБЕШЧА′ЦЦА, АБІШЧА′ЦЦА *незак.* Абяцаць. *Іна абешчалася Ядзі аддаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Усё абішчалася прыехаць і ніяк не сабралася.* Лісна В.-Дзв.

АБЕШЧА′ЦЬ, АБІШЧА′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і а б е ш ч а́ ц ц а. *Абешчаюць даць зярно.* Кемялішкі Астр. *Абішчаў мне рыбін даць.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* руск. *обещать* 'тж'.

АБЖАРГА′ЦЬ *зак.* 1. Сесці вярхом на каня. *Абжаргаў каня і паехаў.* Лісна В.-Дзв. 2. Перастуніць што-н. *Кап ягады не патаптаць, абжаргаіш іх.* Едлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *apžer̃gti* 'тж'.

АБЖА′РЫЦЬ *зак. экспр.* Адлупцаваць. *Абжарыць дзіця так!* Крэва Смарг.

АБЖО′ГА *ж.* Апёк. *Марскі аір ад абжогі добры.* Шамялі Брасл.

АБЖО'РА I *м.* і *ж. груб.* Ласун. *Абжора на прысмаках хоча жыць.* Паляцкішкі Воран.

АБЖО'РА II *ж.* 1. Намаразь на лёдзе. *Як мокры снег і вада на льду возера замерзне, кажуць, абжора замерзла, еду, іду па абжоры, яна дзержыць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Верхаводка. *Абжора на возеры бываіць, як вада стаіць навярху.* Ахрэмаўцы Брасл.

АБЖО'РАСТЫ *прым.* Абжорлівы. *Які ты абжорасты, яды не набрацца.* Ухвала Круп.

АБЖО'РЛІВЫ, АБЖЭ'РЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і а б ж о́ р а с т ы. *Абжорлівы конь.* Чычалі Швянч. *Абжорлівая карова многа харчу патрабуе.* Рудня Астравітая Чэрв. *Абжэрлівы конь.* Грыкені Вільн.

АБЖО'ЎКНУЦЬ *зак.* Пажаўцець. *Саланіна абжоўкла.* Старыя Смільгіні Воран.

АБЖЫГНУ'ЦЬ *зак.* Апаліць. *Абжыгне жара і без гарэлкі.* Рудня Астравітая Чэрв.

АБЖЫГЧЫ' *зак.* Апячы (крапівой). *Як абжыжэш рукі ап крапіву, дык свірбяць і баляць. Там абжыжэш рукі.* Кураполле Паст.

АБЖЫ'НКІ толькі *мн. абрад.* Дажынкі. *Пакідалі на абжынкі каласкі, кругом тры разы абхадзілі, тады высока зжыналі, у снапок увязвалі і хлеп закопалі.* Саланое Віл. *На абжынкі дасць выпіць, балююць.* Ракаўскія Швянч. *Ужо кончылі жаць, гуляюць абжынкі.* Магуны Паст. *Абжынкі—ета кагда пакідалі халмачок каласоў, кінуць хлеп пасярод, потым ідуць с сярпом кругом тры разы, патрошачку беруць і пяюць.* Беразіно Докш.

АБЖЫ'РНЫ *прым.* Сыты. *Абжырны конь, увесь у яблыкі.* Кураполле Паст.

АБЖЭ'РГАЦЬ *зак.* 1. Сесці на які-н. прадмет, як на каня. *Абжэргаў ровар і паляцеў.* Ёдлавічы Брасл. 2. Ушчаміць паміж ног. *Абжэргала паміж нох і атлупіла п добра.* Ёдлавічы Брасл. 3. Тое ж, што і а б ж а р г а́ ц ь 2. *Абжэргаў усё, не наступіў.* Чычалі Швянч

АБЖЭ'РЛІВЫ *гл.* АБЖО'РЛІВЫ

АБЖЭ'ХЧЫ *зак.* Тое ж, што і а б ж ы г н у́ ц ь. *Абжогла бабу адну.* Кіралі Шчуч.

АБЗДО'ЛЯЦЬ *гл.* АБДО'ЛЯЦЬ

АБЗЫЎНУ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і а б а з в а́ ц ц а. *Прышлі ў чатэры часэ ночы, ляжалі да свету і ня абзыўнуліся.* Скрыль Пух.

АБІВА'ЦЬ *незак.* Вымалочваць зерне. *Пранікамі лён абівалі.* Старыя Трокі Трак. *Лён сохня ў снапох, тады абіваяць.* Лісна В.-Дзв. *Шлі лён абівацъ, абівалі пранікам.* Альхоўка Навагр. *Жыта абівалі ап калотку, аб вуляй.* Рудня Астравітая Чэрв. *Абівалі лён пранікам.* Грыкені Вільн.

АБІ'ДА *ж.* Крыўда. *Плачыць ад абіды.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* руск. *обида* 'тж'.

АБІ'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Пакрыўджаны. *Ён абіджаны ў іх, бацькі мае не былі абіджаныя.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *обиженный* 'тж'.

АБІ'ДЗВЯ *гл.* АБЕ'ДЗВІ

АБІ'ДЗЕЦЦА *зак.* Пакрыўдзіцца. *Яна на мяне абідзелася.* Малькуны Ігн.; *параўн.* руск. *обидеться* 'тж'.

АБІ'ДЗЕЦЬ *зак.* Пакрыўдзіць. *Чым я цябе абідзела?* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *обидеть* 'тж'.

АБІ'ДНО *прысл.* Крыўдна. *Абідно ёй стала ад гэтых слоў.* Навасёлкі Свісл.; *параўн.* руск. *обидно* 'тж'.

АБІЖА'ЦЦА, АБІЖА'ЦЦЯ *незак.* Крыўдзіцца. *Абіжаўся на мяне чалавек, што праўду сказала.* Лісна В.-Дзв. *Людзі будуць абіжацця.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* руск. *обижаться* 'тж'.

АБІЖА'ЦЬ *незак.* Крыўдзіць. *Я за таго заступлюся, каго абіжаяць.* Кураполле Паст.; *параўн.* руск. *обижать* 'тж'.

АБІЗЬЯ'НІ. У выразе: *Абізьяні век* (жарт.) — пра састарэлага чалавека. *Як на восьмую дзісятку перавернецца — чалавек абізьяні век жывець.* Ахрэмаўцы Брасл.

АБІ'РАВАЦЬ *незак.* Збіраць. *Мы абіравалі ягады, як ён прыбех.* Рыбчына Віл.

АБІРА'НЫ, ОБІ'РАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Ачышчаны (пра бульбу). *Выпаляць печ, усыпуць у печ картофлі, а еслі абіраную, то тлушчу наложаць.* Старыя Трокі Трак. 2. Вычасаны на грэбені (пра лён). *Гэто в мынэ лён обіраный, алэ шэ ны чэсаный.* Сіманавічы Драг.

АБІРА'ЦЦЯ *незак.* Знімацць з цела, адзежы парушынкі ў стане непрытомнасці. *Чалавек перат смерцю абіраецца. Абіраецца, ужо ён памрэ.* Кіралі Шчуч.

АБІРА'ЦЬ, ОБЫРА'ТЫ *незак.* 1. Знімаць, ачышчаць. *Нутраноя сала с кішак абіраюць.* Ракаўскія Швянч. 2. Выбіраць муку з жорнаў. *Обыраю муку с поду.* Сіманавічы Драг. 3. Часаць лён. *Лён труть, трэплють, посля обырають на грыбынях, потом чэшуть шчіткыю.* Сіманавічы Драг.

АБІЧА'ЙКА *ж.* Вока. *У скрыні абічайка роўная.* Жодзішкі Смарг.

АБІЧАЯ' *ж.* Тое ж, што і а б е ч а к 1. *Абічая на сіці парвалася.* Кураполле Паст. *Абічая ў рэшаці.* Саланое Віл.

АБІЧО'ЎКА *ж.* Біч. *У цапу цапавільна і абічойка.* Лісна В.-Дзв.; *гл.* ДАБМ, карта № 258.

АБІШЧА'ЦЦА *гл.* АБЕШЧА'ЦЦА

АБІШЧА'ЦЬ *гл.* АБЕШЧА'ЦЬ

АБІЯ'КІ, АБЛЯ'КІ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Абіякі з дзерава вырэзвалі і абівалі раменем.* Мсцібава Ваўк. *Абіякі рабілі, зверху скура, а знізу дзерава.* Вострава Маст. *У абіяках зверху скура ці брызент.* Крэва Смарг. *Бабы насілі*

*трэпы, а мужыкі насілі абіякі.* Дакудава Лід. *Аблякі з дзерава дойга носяцца.* Вострава Маст.

АБКІ'ДАЦЬ, АПКІ'ДА'ЦЬ, АКІ'ДАЦЬ, ОКЫ'ДАТЫ *зак. крав.* Абшыць край тканіны. *Трэба абкідаць шэў.* Грыкені Вільн. *Апкідаць нада шво.* Валынцы В.-Дзв. *Нада ніткай калашыну апкідаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Трэба гапкі акідаць.* Кіралі Шчуч. *Окыдала шво.* Сіманавічы Драг.

АБКО'ЎВАЦЦА *незак.* Акоўвацца. *Калёсы абкоўваюцца шынамі.* Чычалі Швянч.

АБЛА'ВА *ж.*, АБЛА'ВЫ *мн.* Паляванне (на ваўкоў). *Аблавы на вайкой рабілі так: бралі вяроўку і завязвалі красныя ленты і акружалі места, дзе былі вайкі, вайкі баяліся ленты, стралкі выхадзілі к кругу.* Ахрэмаўцы Брасл.

АБЛАЖЫ'НЫ толькі *мн.* Сані-развалкі. Судэрва Вільн.

АБЛАЖЫ'ЦЬ I *зак. экспр.* Зваліць, задушыць. *Толькі смерць аблажыла яго.* Альхоўка Навагр. *Кот усё-такі аблажыў етага мышыннага хряка.* Мішневічы Шум.

АБЛАЖЫ'ЦЬ II *зак.* Абкласці вакол чаго-н. *Пухоўкай аблажыла кульшу.* Шамялі Брасл.

АБЛА'ЗІЦЬ *незак.* Ліняць. *Мая хустка не аблазіць, мыла многа рас.* Лісна В.-Дзв.

АБЛАКАЦІ'ЦЦА *зак.* Абаперціся локцямі на што-н. *Яна аблакаціцца на акно і глядзіць.* Вецярэвічы Пух.

АБЛА'ПІНЫ *мн.* Дошкі, якімі замацоўваюць край страхі. *Аблапіны прыбіваюць у канцы страхі.* Бакшты Іўеў.

АБЛА'САВАЦЦА *зак.* Паласавацца. *Абласаваліся і ідуць* [каровы]. Вялікія Нястанавічы Лаг.

АБЛАТАШЫ'ЦЬ *зак.* Абарваць, абабраць (садавіну). *Аблаташыў усю яблыню.* Беразіно Докш.

АБЛА'ХАЦЬ *зак. экспр.* Аблаяць. *Яны аблахалі, аблахалі і пайшлі.* Ухвала Круп.

АБЛАЧО'К *м. памянш.* да а б л о́ к. *Як аблачок найдзець, так і закрыіць сонца.* Лісна В.-Дзв.

АБЛЕ'ТАЦЬ *незак.* Аблупліваццa, ападаць. *Лупінка з цыбулі аблетая.* Бакшты Іўеў.

АБЛЕ'Х *м.* 1. Агрэх. *Як ты арай, што куды ні глянь — аблехі.* Беразіно Докш. 2. Абсеў. *Аблех астайся недасеяны па ашыпкі.* Саланое Віл. *Аблех на полі, калі недасеялі.* Кіралі Шчуч.

АБЛЕ'ХЧЫ, АБЛЕ'КЧЫ *зак.* Злегчы, захварэць. *Я застуджуся да аблягу.* Груздава Паст. *Як аблягу, хто дзіця будзе глядзець?* Ухвала Круп. *Ён аблек і памёр.* Малькуны Ігн.

АБЛЕ'ЦЕЦЬ *зак.* Хутка аббегчы. *Дзеці аблецелі поле і не нашлі яе.* Міратычы Карэл.

АБЛІВА'НЦЫ *мн.* Гумавы абутак, які рабілі з аўтакамер. Малахоўцы Бар.

АБЛО'К *м.*, АБЛО'КА *ж.* Воблака. *Адзін аблок паказаўся,*

*сягоння нет аблакоў. Аблакі ходзюць па небе.* Ахрэмаўцы Брасл. *Такая аблока ўзышла.* Кураполле Паст. *Аблокі ходзяць па небе.* Жодзішкі Смарг. *Аблокі на небя.* Старыя Трокі Трак. *Аблокі ідуць ужо на небя.* Ракаўскія Швянч.

АБЛО'Х *м.* Аблога. *Тады паслалі лён на аблох, на аблозя ляжыць.* Старыя Смільгіні Воран.

АБЛУ'ДА, ОБЛУ'ДА *м.* і *ж. зневаж.* Валацуга. *Аблуда ты такая!* Граўжышкі Ашм. *Облудо, дэ ты лазыш?* Сіманавічы Драг.

АБЛУ'К *м.* Кашэль у возе. *Ліпавую кару здзяруць і сшываюць — гэта аблук, яго закладалі на цялегу.* Ухвала Круп. *Аблук з ліпы і лазы плёўся.* Глівін Барыс.

АБЛУНЕ'ЦЬ *зак.* Зрабіцца ненармальным. *І разумны чалавек аблунеіць, калі будуць на яго казаць, што ён ніякі. Куры бес пітуха аблунелі.* Кураполле Паст.

АБЛУПІ'ЦЬ *зак.* 1. Зняць скуру. *Трэба аблупіць авечку: на бэльку павесіць і цягнуць.* Кіралі Шчуч. *Аблупіў цялёнка і мяса пасек.* Саланое Віл. *Авечку, краля* [труса], *карову аблупіць.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Абчысціць ад лупін. *Аблупі вараную бульбу.* Ракаўскія Швянч.

АБЛУ'ЦТВА *н.* Бязглуздзіца. *Пляцець аблуцтва якоя, а добрага не скажыць.* Валынцы В.-Дзв.

АБЛЮБАВА'ЦЬ, АБЛЮБІ'ЦЬ *зак.* Упадабаць, выбраць. *Аблюбавалі пчолы судно і пасяліліся.* Кураполле Паст. *Аблюбілі пчолы сабе судно, і прыляцеў рой.* Валынцы В.-Дзв.

АБЛЯ'КІ *гл.* АБІЯ'КІ

АБМАЛО'ЦІНЫ толькі *мн. абрад.* Свята з выпадку заканчэння малацьбы. *Абмалоціны будуць, кончылі малаціць.* Магуны Паст.

АБМА'Н *м.* Падман. *Ён без абмана не жывець.* Ахрэмаўцы Брасл.

АБМАНУ'ЦЬ *зак.* 1. Схлусіць. *Я там не стаяла, не абману.* Старыя Смільгіні Воран. *Абманеш праверуць.* Кураполле Паст. 2. Ашукаць. *Не абманеш дзяцей.* Крэва.Смарг. *Абмоня яе хто!* Ухвала Круп.

АБМАРА'ЖВАЦЬ *незак.* Абмарожваць. *Партызаны ногі абмаражавалі, хваціла ім.* Валынцы В.-Дзв.

АБМАРА'ІЦЬ *зак.* Запэцкаць. У *Ён што робіць моду маіць, у тое рукі абмараіць.* Кураполле Паст.

АБМАРКО'ЦІЦЬ *зак.* Задрамаць. *Я чыста абмаркоціла, не чую, што вы гаворыце.* Кіралі Шчуч.

АБМАРЫ'ЦЬ *зак.* Змарыць. *Сон абмарыў.* Жодзішкі, Крэва Смарг. *Калі абмарыць мяне сон, то мушу паляжаць.* Дакудава Лід.

АБМАТА'ЦЬ *зак.* Абкідаць. *Пятліцу абматай у штанах.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *apmẽtyli* 'тж'.

АБМАТЫКАВА'ЦЬ *зак.* Акучыць. *Трэба абматыкаваць матычкай.* Старыя Трокі Трак.

АБМАТЫКО'ЎВАЦЬ *незак.* Акучваць. *Трэба бульбу абматыкоўваць.* Груздава Паст.

АБМЕ'ЖАК *м.* Узмежак. *Карову пасе на абмешку.* Паляцкішкі Воран. *Стаіць на абмешку.* Номікі Бабіц.

АБМЕ'ЖНІК *м.* Гаспадар, чыё поле мяжуе з полем суседа. Номікі Бабіц.

АБМЕ'СЦІ *зак.* Ачысціць абмалочанае зерне ад амецця. *Як змалоцяць жыта, тады трэба абмесці венікам.* Саланое Віл.

АБМЕ'ЦІ *гл.* АМЕ'ЦІ

АБМЕ'ЦІНЫ *гл.* АМЁЦІНЫ

АБМІРА'ЦЬ *незак.* Траціць прытомнасць. *Дзіця абмірае, як канвульсія хопіць.* Старыя Смільгіні Воран. *Ён абмірая і падае.* Рыбчына Віл. *Абміраіць чалавек, падучая балесць у яго.* Малькуны Ігн.

АБМО'Р *м.* Прыступ эпілепсіі, прыпадак. Рыбчына Віл.

АБМЫ'ЛІНЫ *мн.* Пазалкі. *Абмыліны не вылівай на гарод!* Беразіно Докш.

АБМЫЛІ'ЦЦА, АБМУЛІ'ЦЦА *зак.* Памыліцца. *Я абмыліўся, напісаў не так. Я абмулілася, не так зрабіла, як трэба.* Рыбчына Віл.

АБМЫ'ЛКА *ж.* Памылка. *Я там абмылку зрабіла.* Грыкені Вільн.

АБМЫ'ЛКІ *мн.* Тое ж, што і а б м ы́ л і н ы. *У абмылкі можна памачыць тканая.* Індра Красл.

АБМЯ'ЛІНЫ *мн.* Адходы пры апрацоўцы льну церніцай. *Абмяліны былі, як лён мялі.* Валынцы В.-Дзв.

АБМЯ'ЛКІ *мн.* Тое ж, што і а б м я́ л і н ы. *Абмялкі пралі на патшaнікі.* Янова Рас.

АБМЯША'ЦЬ *зак.* Абсыпаць сечку мукой ці прыправіць бульбай (для каровы, каня). *Абмяшай мукой сечку, карова шчэ ня ела, дай ёй.* Альхоўка Навагр. *Абмяшаюць мукой патроху і курам даюць* [бульбу]. Ракаўскія Швянч.

АБНАВІ'ЦЬ *зак.* Першы раз апрануць новае адзенне. *Дайней абнавіць сукенку ў цэркву ішлі.* Курапoлле Паст.

АБНА'ДЗІЦЦА *зак.* Панадзіцца. *Вераб'і абнадзіліся і павыбіралі ўсе агуркe. Мая ўнука абнадзілася ў рэку лазіць.* Вецярэвічы Пух.

АБНАЛІ'ЧКІ *мн.* Ліштва. *Акно нада асадзіць і абналічкі прыбіць.* Лісна В.-Дзв.

АБНАЧАВА'ЦЬ *зак.* Затрымацца позна, да ночы. Груздава Паст.

АБНЕЖЫВЕ'ЦЬ *зак.* Абамлець. *Не кажы, бо абнежывея матка.* Міратычы Карэл.

АБНЕМАХЧЫ' *зак.* Страціць сілы. *Мужык як абнеможа,*

*захварэя, то шукая сям'і першай, кап прытуліцца дзе.* Мсцібава Ваўк.

АБНІ'ЖЫЦЦЯ *зак.* Знізіцца (пра ціск). *Папіў лупіны, і абніжылася даўлення.* Кіралі Шчуч.

АБНІ'ЗІЦЦА *зак.* Знізіцца. *Абнізілася неба, праліўны дождж ідзець.* Мішневічы Шум.

АБНІХА'ІЦЦА *зак.* Апусціцца, стаць неахайным. *Я цяпер абніхаілася, не гляжу сябе. Бываіць, абніхаіцца чалавек, ён не глядзіць, што ходзіць грязны, абарваны.* Кураполле Паст.

АБНІШЧА'ЦЬ *зак.* Схуднець, змарнець. *Ня есць нічога, абнішчала, нешта ніздарова.* Мярэцкія Глыб.

АБНО'ШКА *ж.* Камочкі пылку, што нясуць пчолы на лапках. *Абношку з лазы бяруць.* Валынцы В.-Дзв. *Пчала абношку носіць на нагах.* Данілавічы Дзярж. *Пчолы з абношкай ляцяць.* Крупіца Мін. *Абношку нясе пчала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Абношка дзелаць соты.* Азяраны Раг.

АБНО'ШКІ *мн.* Кароткая недабраякасная воўна. *Як перабіраюць воўну, то абношкі выкідаюць вон.* Жылі Іўеў.

АБНЯДУ'ЖЫЦЬ *зак.* Страціць сілы. *Абнядужыў ён, яму гадоў дзевяноста.* Крупіца Мін.

АБНЯ'ЦЬ *зак.* Заглушыць, зарасці. *Бульба зарасла, трава яе абняла.* Кураполле Паст.

АБО'ДЗВЕ *гл.* АБЕ'ДЗВІ

АБО'ДНІК *м.* Каляснік. *Абоднік калёсы рабіў.* Мачаск Бярэз.

АБО'РА I *ж.* Кароўнік. *У пана была абора, дзе каровы стаялі.* Вецярэвічы Пух. *Пярун ударыў у абору, пагарэлі каровы.* Валынцы В.-Дзв. *Абора, дзе быдла становіцца.* Малькуны Ігн.

АБО'РА II ж., АБО'РЫ *мн.* Вяровачка для лапцей. *Даўней казалі: «Падвяжы абору, а то цягнецца».* Жылі Іўеў. *Аборы вілі, а былі і тканыя аборы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Абора ў лапцях.* Грыкені Вільн.

АБО'РАВАЦЬ *незак.* Абворваць. *Будзем бульбу аборavaць.* Рыбчына Віл.

АБО'РАЦЬ *незак.* Тое ж, што і а б о́ р а в а ц ь. *Будуць абораць бульбу.* Мачаск Бярэз. *Абораям бульбу.* Старыя Трокі Трак.

АБО'РНІК *м.* Плужок для абворвання бульбы. Магуны Паст.

АБО'РСЫ *мн.* Аборы. *У пасталы са скуры зацягвалі аборсы ў дзіркі.* Стральцы Гродз. *Аборсы ў пасталах.* Каменка Стара Сакол.

АБО'РЫНКА *ж. памянш.* Кароткая вяровачка. *Дай мне аборынку, завяжу карзінку.* Індра Красл.

АБО'Т *гл.* ВО'БАТ

АБО'Я *ліч.* Абодва. *Абоя начавалі ў нас.* Альхоўка На-

вагр. *Абоя старыя.* Ністанішкі Смарг. *У школу ходзяць абоя.* Лісна В.-Дзв.

АБРАБА'ТЫВАЦЬ *незак.* Апрацоўваць. *Ён доскі абрабатывaў хату шаляваць.* Ахрэмаўцы Брасл.

АБРАБІ'ЦЦА *зак.* Запэцкацца. *Стары абробіцца — трэба яго прыбраць.* Саланое Віл. *Фартух злажу* [прыпну], *то не абраблюся.* Кіралі Шчуч.

АБРАДЗІ'ЦЦА, ОБРОДЫ'ТЫСЬ *зак.* Нарадзіць. *Я не чула, што Шура абрадзілася.* Вецярэвічы Пух. *Маня обродылась, хлопця прывыла.* Сіманавічы Драг.

АБРАЗА'ЦЬ *незак.* 1. Чысціць. *Абразаюць лупінку з бульбы.* Лісна В.-Дзв. *Маладую бульбу скрабуць, старую — абразаюць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Зразаць галоўкі з трасты льну. *Некалі ляны абразалі, былі такія нажы на чатырох нагах, клалі сноп к сабе вярхом і абразалі.* Кураполле Паст. 3. Зразаць парасткі. *Атожылі абразаюць з бакоў.* Чычалі Швянч. 4. Змяншаць плошчу. *Ці будуць яму гарод абразаць?* Лісна В.-Дзв.

АБРАЗНЫ' *прым.* Абрэзаны. *Дыля — абразная балька.* Індра Красл.

АБРАКА'ЦЦА *незак. царк.* Ахвяравацца, прыносіць у дар што-н. *Абракаецца хто, той нясе палатно ці воўну ў царкву.* Семежава Кап. *Бывала, абракаліся і насілі ў царкву масла, сыр, воўну, кужаль, грошы. Яна чым-та абракалася, бывала, кружка цэрквы паўзе на каленцах.* Азяраны Раг.

АБРА'КНУЦЬ, АБРЫ'КНУЦЬ *зак.* Зрабіцца кіславатым, абрызгнуць. *Малако абракло: ні кіслаё ні слаткоё.* Масілавічы Сл. *Ранішня абрыкла малако.* Паляцкішкі Воран.

АБРА'С *м.* 1. *царк.* Ікона. *Абрас звалі дайна, а цяпер — ікона.* Саланое Віл. *Рушнікі вешалі на абрас у праваслаўных.* Старыя Трокі Трак. *Завешавалі абразы.* Паляцкішкі Воран. *На абрас ручнік вешалі.* Альхоўка Навагр. *Абразэ вешаюць на покуці.* Крынкі Крын. 2. Карціна. *Страшны быў абрас. Абрас у майго дзеда быў.* Лайпушкі Ігн.

АБРАСТА'ЦЬ *незак.* Зарастаць раслiннасцю. *Абрастае мохам камень, дрэва.* Дварчаны Паст. ▽ *На месця і камянь абрастая.* Бакшты Іўеў.

АБРА'Т *м.* Адгон (малака). *Малако пярагналі — гэто абрат.* Ракаўскія Швянч.

АБРА'ТНА *прысл.* 1. Зноў. *Я ўвідзеў жысь абратна.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Назад. *Гэта было два гады таму абратна.* Масішкі Красл.

АБРА'ЦЬ *зак.* Сабраць, выбраць. *Гэта ваша дзела гуркі абраць.* Ністанішкі Смарг. *Ужо пчолы абралі мёт.* Кураполле Паст.

АБРО'ДА *м.* і *ж.* Урода, вырадак. *Па шэсць пальцаў на руцэ, такія аброды былі.* Быстрыца Астр.

АБРО'ЖА *ж.* Твар. *Як чыя аброжа: бывая маладзы, ды аброжа яго старая, а бывая старая, а аброжа яе маладая.* Вецярэвічы Пух.

АБРО'ЖАК *м.* Ашыйнік. *Аброжак у сабакі на шыі і ў жывёл.* Груздава Паст.

АБРО'К I *м.* Корм для каня (авёс, сечка з аўсом, з мукой). *Авёс для каня называлі аброк.* Груздава Паст. *Трэба каню аброку даць.* Жылі Іўеў. *Як ехалі ў дарогу, бралі аброк — сечку мукой апсыпалі і ў аброчну торбу.* Ліпнікі Вільн. *Аброк ці маеш каню?* Быстрыца Астр. ∇ *Як сыдлають, то оброку, осыдлають, то по боку.* Сіманавічы Драг.

АБРО'К II *м.*, АБРО'КА *ж. царк.* Ахвяра. *У знак аброка давалі палатно ці грошы, што сабярэ і нясе ў цэркву.* Азяраны Раг. *Аброкі доўна былі.* Вецярэвічы Пух. *Аброк неслі ў царкву.* Семежава Кап. *Аброка — калі абракаліся: павесіць тры аршыны палатна, кап дзіця паправілася.* Рудня Астравітая Чэрв.

АБРО'НЧКА *ж.* Пярсцёнак. *Дзве абрончкі на пальцы ў яе.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *obrączka* 'тж'.

АБРО'ТКА *ж.* Аброць. *Налажы абротку каню.* Калясное Міхал.

АБРО'ЦЬ, АБРУ'ЦЬ, АБРЫЦЯ', ОБРЫ'ТЬ *ж.* Тое ж, што і а б р о́ т к а. *Аброць раменная і вяровачная.* Валынцы В.-Дзв. *Надзень аброць.* Беразіно Докш. *Аброць накладаюць.* Жодзішкі Смарг. *Аброць магла быць з вяроўкі.* Быстрыца Астр. *Аброць на каня.* Чычалі Швянч. *Вазьмі абруць.* Вострава Маст. *Абрыця — для каня.* Груздава Паст. *Дэ обрыть, пойду по коня.* Сіманавічы Драг.

АБРО'ЧНЫ *прым.* Які мае адносіны да а б р о́ к I. *У аброчну торбу напіхаюць сечкі, сена, як куды едуць.* Альхоўка Навагр. *Аброчна торба, сыпалі аброк у яе.* Ліпнікі Вільн. *Бываіць у цэбар усыпіць, а бываіць у торбу, казалі, аброчная торба.* Груздава Паст.; *гл.* ДАБМ, карта № 253.

АБРО'ШКА *ж.* Тое ж, што і а б р о́ ж а к. *Аброшка на шыі ў цяляці.* Альхоўка Навагр. *У сабакі аброшка на шыі.* Валынцы В.-Дзв.

АБРУ'Б *м.* Мяжа, край. *Ішла гэным абрубам, дарошкай каля лесу.* Задомля Смал.

АБРУБА'НЫ *дзеепрым.* Абрывісты (пра бераг). *Там такі абрубаны бераг.* Грыкені Вільн.

АБРУБА'ЦЬ, ОБРУБА'ТЫ *зак.* Абсячы, ссячы. *Абрубаць корч.* Грыкені Вільн. *Обрубав конця в дырывыны.* Сіманавічы Драг.

АБРУБІ'ЦЬ *зак.* 1. Падшыць. *Абрубіць нада, твая спадніца абрызгаўшыся.* Ракаўскія Швянч. 2. Адмежаваць. *Пан абрубіў лес ад поля, капцы паставіў.* Дзяніскавічы Ганц.

АБРУБО'К *м.* Невялікі ўчастак сенажаці. *Абрубок каля лесу.* Рудня Астравітая Чэрв.

АБРУ'С *м.* Настольнік. *Абрус і настольнік — адно і тое ж.* Кемялішкі Астр. *Ткалі абрусы, па ільне патыкалі чурнухамі.* Мярэцкія Глыб.; *гл.* ДАБМ, карта № 325.

АБРУ'САК *м.* Тое ж, што і а б р ý с. *Абрускі ткалі ў восем нічальніцаў.* Альхоўка Навагр. *Абрускі ў дэсэнь ткалі.* Мсцібава Ваўк.

АБРУ'ЦЬ *гл.* АБРО'ЦЬ

АБРУ'Ч, БРУЧ, ГАБРУ'Ч *м.* 1. Абруч драўляны або жалезны, які насаджваецца на кадушку і іншы посуд. *Пашукайце абруч, які сам пэнкшы на дзяжы.* Быстрыца Астр. *Бруча нажане на бочку.* Хатынічы Ганц. 2. Драўляны вобад у рыбалавецкіх прыладах. Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. 3. Дужкі ў кошыку. *Абруч ручны і абруч бакавы ў кашы.* Рудня Астравітая Чэрв. *У кошыку абручы.* Чычалі Швянч. *Габручэ рабілі з гарэшыны.* Стральцы Гродз. 4. Гайка ў коле. *Абруч набіваецца на калотку каляса.* Дзяніскавічы Ганц.

АБРУЧО'ЎНІК *м.* Каляснік. *Абручоўнік абады на калёсы рабіў.* Мачаск Бярэз.

АБРУ'ЧЫК *м. памянш.* Вобад у калысцы. *Так рабілі калыску: абручык палатном апшывалі.* Жылі Іўеў.

АБРЫ'ВІСТЫ *прым.* Круты, стромы. *Берагі абрывістыя.* Ністанішкі Смарг. *Абрывісты берах.* Малахоўцы Бар., Чычалі Швянч. *Найбольш, кажуць, гара абрывіста.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* руск. *обрывистый* 'тж'.

АБРЫДЖА'ЦЦА *незак.* Грэбаваць, брыдзіцца. *Пашоў сам, падаіў карову і не абрыджайся.* Граўжышкі Ашм.

АБРЫ'ДЗІЦЦА *зак.* Згідзіцца, пагрэбаваць. *Нешта я абрыдзілася, што з яго за смак.* Быстрыца Астр.

АБРЫ'ДНУЦЬ *зак.* Надакучыць, апрыкраць, абрыдзець. *Абрыдла ехаць.* Крынкі Крын.

АБРЫ'ЗГАНЫ *прым.* Абабіты, абарваны. *Абрызганы падол у спадніцы, знасійся, абмахрыйся.* Лісна В.-Дзв.

АБРЫ'ЗГАЦЦА *зак.* 1. Тое ж, што і а б а б í ц ц а 2. *Твая абрызгалася спадніца, брызгулі вісяць.* Старыя Смільгіні Воран. *Абрызгалася падолка, быта карункі вісяць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Падолак абрызгайся.* Мсцібава Ваўк. *Абрызгаліся падолкі.* Старыя Трокі Трак. *Абрубіць нада, твая спадніца абрызгалася.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* літ. *apibrìgzti* 'тж' (ЛТ, 164). 2. Апырскацца. *Абрызгайся ўвесь ты вадою.* Чычалі Швянч.

АБРЫ'ЗГАЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Абрызгаў ганавіцы калам.* Номікі Бабіц.

АБРЫ'ЗГЛЫ', АБРЫЗЛЫ', АБРЫСКЛЫ', БРЫ'ЗГЛЫ, БРЫ'ЗЛЫ *прым.* Кіславаты, абрызглы (пра малако). *Мала-*

*ко абры́зглаё, яно не загусло яшчэ.* Альхоўка Навагр. *Выліла абрызгло́я малако.* Дакудава Лід., Вялікія Нястанавічы Лаг. *Абрызло́е малако.* Чычалі Швянч. *Абрызло́я малако не натто добра есці.* Кіралі Шчуч. *Абры́злае малако нейкае.* Ёдлавічы Брасл. *Абрыскло́е малако ня еш.* Вецярэвічы Пух. *Бры́зглая малако — ні то кіслае, ні то салоткае.* Магуны Паст. *Бры́зла малако нясмашна.* Быстрыца Астр., Кураполле Паст. *Бры́злае малако.* Галоўні Воран.; *параўн. літ. apibrìzgęs* 'кіслае'.

АБРЫ'ЗГНУЦЬ, АБРЫ'СКНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і абра́кнуць. *Малако абрызгло.* Альхоўка Навагр., Пацаўшчына Дзятл., Стральцы Гродз., Номікі Бабіц. *Абрызгло малако, ня будзяця есці.* Малахоўцы Бар. *Абрыскнула малако.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* літ. *apibrìgzti* 'тж'.

АБРЫ'КНУЦЬ *гл.* АБРА'КНУЦЬ

АБРЫ'МЗАЦЦА *зак.* Тое ж, што і абабіцца 2. *Абрымзалася спадніца.* Саланое Віл.

АБРЫ'НДАНЫ, АБРЫ'НЗАНЫ *прым.* Тое ж, што і абры́зганы. *Абрындана спадніца, брынды вісяць.* Сапоцкіна Гродз. *У штанах калошы абрынданыя.* Дакудава Лід. *Абрынзаная спадніца.* Крэва Смарг.

АБРЫ'НДАЦЦА, АБРЫ'НЗАЦЦА, АБРЫ'НДЗАЦЦА *зак.* 1. Тое ж, што і абабіцца 2. *Абрындалася спадніца.* Мсцібава Ваўк., Бенянконі Воран., Кураполле Паст., Кіралі Шчуч., Валынцы В.-Дзв. *Падол абрындаўся.* Дакудава Лід. *Падалы абрындаліся.* Быстрыца Астр. *Абрындалася спадніца, абрындаўшысь і ходзіць.* Рагулішкі Даўг. *Абрынзалася спадніца.* Саланое Віл., Крэва Смарг. *Абрындзалася спадніца.* Магуны Паст. 2. Абрабіць, замачыць ніз вопраткі. *Пашла праз балоты і абрындалася.* Старыя Смільгіні Воран. *Так можна абрындацца.* Бенянконі Воран.; *параўн.* літ. *apsibrìndoti* 'тж' (ЛТ, 164).

АБРЫ'НДАЦЬ *зак.* Абрасіцца, замачыць. *Абрындаў гаці па расе.* Старыя Смільгіні Воран.

АБРЫ'НУЦЦА *зак.* Пашкодзіцца, скінуць (пра цяжарную жанчыну). *Яго жонка ўпала і абрынулася, завезлі ў бальніцу.* Рудня Астравітая Чэрв.

АБРЫСА'ЦЬ *зак.* Апырскаць. *Як доіш карову, абрысаіш па вярху вядро, лятуць брызгі з малака.* Кураполле Паст.

АБРЫ'СКЛЫ *гл.* АБРЫ'ЗГЛЫ

АБРЫ'СКНУЦЬ *гл.* АБРЫ'ЗГНУЦЬ

АБРЫ'Ў I *м.* 1. Зрушэнне ўнутраных органаў ад цяжкай работы. *Ат абрыву п'юць а́рнік, як хто падарвецца, і цынтаўру п'юць. Ат абрываў пад грудзямі баліць, а як пап'ю а́рніку — палепшаіць.* Валынцы В.-Дзв. 2. Нарыў. *У яго абрывы былі на руках, на нагах.* Саланое Віл.

АБРЫ'Ў II *м.* Круты схіл. *Абрыў — дзе стромы схіл.* Бенянконі Воран. *Абрыў, як падмыіць вадой берах.* Янова Рас.

АБРЫ′ХЛЫ *прым.* Тое ж, што і а б р ы́ з г л ы. *Абрыхлая малако.* Ракаўскія Швянч.

АБРЫ′ЦЯ *гл.* АБРО′ЦЬ

АБРЫ′ШШЫ *прым.* Тое ж, што і а б р ы́ з г л ы. *Наліла абрышшая малако.* Ракаўскія Швянч.

АБРЭ′ЗАК *м.* Кавалак (матэрыі). *Абрэзак вазьмі, сшый лялькцы што-небудзь.* Беразіно Докш.

АБРЭ′ЗВАЦЬ *незак.* Чысціць. *Абрэзваюць лупіны з бульбы.* Масілавічы Сл. *Пайду абрэзваць картоплі.* Ванелевічы Кап.

АБСЕ′Ў, АПСЕ′Ў, ОБСІ′В *м.* Незасеяная палоска поля. *Абсей — латка на полі.* Глівін Барыс. *Абсевы пакінуў, плоха сеяў.* Мішневічы Шум. *Зрабіў апсей, аммыліўся, тут пакінуў загон пусты — і праз гот дзве смерці.* Альхоўцы Лях. *Як зробіць апсей, то, кажуць, памрэ той чалавек.* Дзяніскавічы Ганц. *Ныдосіяв, дай обсів.* Сіманавічы Драг.

АБСІКА′ЦЬ, АПСЕ′КАЦЬ *незак.* Абсякаць. *Вы абсікайце куп'ё* [карані з зямлёю]. Мішневічы Шум. *Ён апсекая гальє сасны.* Любішчыцы Івац. *Паслалі апсекаць карэня.* Малахоўцы Бар.

АБСМУКТА′НЫ *дзеепрым.* Абсмактаны. *Абсмуктаны хлеб, аддай курам.* Ухвала Круп.

АБСНО′ЎКІ *мн.* Палоскі на тканіне. *У палоску палатно — у абсноўкі.* Ухвала Круп.

АБСТА′ВІЦЬ *зак.* Паставіць вакол чаго-н. *Кругом стала абставіў новыя крэслы.* Ахрэмаўцы Брасл.

АБСЦЁБАНЫ *дзеепрым.* Абабіты, абмалочаны. *Абсцёбаныя макушкі жыта.* Мішневічы Шум.

АБСЦЁБАЦЬ *зак.* Абабіць, абмалаціць. *Абсцёбалі жыта — аббілі.* Мішневічы Шум.

АБТАЎЧЫ′ *зак.* Ачысціць ад шалупіння. *Луску абтаўчэш з ячменю.* Грыкені Вільн.

АБТРЯПА′ЦЬ *зак.* Ачысціць ад кастры. *Абтряплі жменю ільну, верёўку нада бі звіць, каромісел зачапіць.* Мішневічы Шум.

АБУВА′ННЯ *зб. н.* Абутак. *Як быстра абування рвецца.* Валынцы В.-Дзв. *Абування купяць.* Мярэцкія Глыб. *Абування дзецям нада: у іх абування благоя.* Асавец Віл.

АБУ′ВЕ *зб. н.* Тое ж, што і а б у в а́ н н я. *Я не маю такога абувя, кап у ногі было цёпла.* Мсцібава Ваўк. *Абуве было такое: хадаке, лапці, трэпы, ніцянікі.* Пацаўшчына Дзятл.

АБУ′ДВА *гл.* АБА′ДВА

АБУДЗІ′ЦЦА *зак.* Прачнуцца. *Я абудзіўся рана.* Асташына Навагр.

АБУ′ЗА *ж.* Лішні клопат, цяжар. *Не захацела* [дзецям] *абузай быць, сабралася і за нядзельку паехала.* Кураполле Паст.

АБУ'Й *м.* Тое ж, што і а б у в а́ н н я. *Абу́ю ма́ю многа, разнага ест.* Паляцкішкі Воран.

АБУНЕ'ЦЬ *зак.* Абгнісці. *Абунеў той чалавек увесь* [пра тапельца]. Бакшты Іўеў.

АБУ'ЦА *зак.* Абуцца. *Трэба абуца, ногі змерзлі.* Грыкені, Швэды Вільн.

АБУ'ЦЦЕ, АБУ'ЦЦЁ, АБУ'ЦЯ *зб. н.* Тое ж, што і а б у в а́ н н я. *Панасіла ўсё абуцце.* Ністанішкі Смарг. *Абуццё летняе было добрае.* Рыбчына Віл. *Іна работаіць на заводзі, бракіруіць абуцця.* Індра Красл.

АБУ'ЦЬ *зак.* Надзець абутак. *Вайной на нагу не было чаго абуць.* Ністанішкі Смарг. *Боты надзець, а лапці абуць.* Мачаск Бярэз.

АБУ'ЯЦЬ *зак.* Падгаварыць, звесці. *Ён абуяў нашага гаспадара. Яны яго абуялі, у блут пусцілі.* Граўжышкі Ашм.

АБЧАРАВА'НЫ *дзеепрым.* Які трапіў пад уздзеянне чараўніка. *Ён быў абчараваны і стаў вужлісам* [вужам]. Талейкі Швянч.

АБЫ' *часц.* 1. Абы толькі. *Яму абы врэмя адбыць. Такі, усякі, абы быў.* Саланое Віл. *Можэтэ і так робіті, абы добрэ было.* Курашэва Чыж. 2. *прысл.* Хіба. *Абы ён спаць будзя?* Граўжышкі Ашм.

АБЫВА'ТАЛЬ *м.* Грамадзянін. *Палякі ня хочаць запісаць яго, бо гэта ўжо ня іх абыватль.* Пронькі Мядз.; *парайн.* польск. *obywatel* 'тж'.

АБЫ'ДЗЕНЬ *прысл.* У адзін дзень. *З'ездзіла ў Паставы абыдзень.* Кураполле Паст. *Ездзілі ў Віцебск і абыдзень былі дома.* Валынцы В.-Дзв.

АБЫСКА'ЦЬ *зак.* 1. Адшукаць. *Цяпер абыскаў сына.* Крэва Смарг. 2. Спагнаць. *Пазычыў і не аддае, трэба грошы абыскаць.* Альхоўка Навагр.

АБЫСЦІ' *зак.* 1. Узысці (пра нябесныя свяцілы). *Уставай, сынок, бо ўжо сонца абышло.* Альхоўцы Лях. 2. Узысці, прарасці, падрасці (пра расліны, грыбы). *Я намачыла сяменя, і так харашо абышлі.* Крэва Смарг. *Пабаранаваць прад усходам, тады абойдзя — перапахаць.* Быстрыца Астр. *Радыса як абышла, так і стаіць, холадна.* Крэва Смарг. *Лён абыйдзя — апалоць трэба.* Дакудава Лід. *Порхаўкі толькі абойдуць, адзін учыцяль сў іх.* Вялікія Пястанавічы Лаг. 3. Пакрыцца. *Трава марозам абойдзіць белым.* Магуны Паст. 4. *безас. перан.* Пакрыўдзіцца. *Ёй абышло, што так сказалі, яна плакала, плакала.* Граўжышкі Ашм.

АБЫСЦІ'СЯ *зак.* 1. Тое ж, што і а б а й с ц і с я. *Трэба ў хаце абысціся.* Быстрыца Астр. *Я ўжо дзісяка абышлася.* Старыя Смільгіні Воран. *Вечарам яна абышлася. Абышлася, прывяла ўсё ў парадак.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Узысці (аб раслінах). *Ячмень яшчэ не абышоўся.* Магуны Паст. *Гуркі абы-*

*шліся, лісткі выпусцілі.* Крэва Смарг. 3. Абмежавацца тым, што ёсць. *Сусетка не прынясла мне другі збан, я адным збаном абышлася.* Граўжышкі Ашм. 4. Пражыць. *І так абышоўся я да сіх пор.* Ахрэмаўцы Брасл.

АБЫХО′ДЗІЦЬ *незак.* Ісці вакол чаго-н. *Тут балота, трэба далёка абыходзіць.* Вецярэвічы Пух.

АБЫ′ЦЦА *зак.* Прывыкнуць, прыжыцца. *Няхай абудзецца прадсядацяль, можа яму і падабаецца тут.* Груздава Паст. *Як пчолы абудуцца ў дуплянцы, пачнуць насіць воск, то будуць жыць.* Саланое Віл.

АБЫЧА′Й *м.* Звычай. *Абычай наш ні панімаіць.* Індра Красл.

АБЫ-Я′К *прысл.* Бедна, кепска. *Жыў абы-як і вяроўкі ня меў.* Ахрэмаўцы Брасл.

АБ'ЯДА′ЛА *м.* і *ж. абразл.* Абжора. *Жрэць, што аб'ядала які.* Ахрэмаўцы Брасл.

АБЯЗМЕ′Н, АБАЗМЕ′Н *м.* Бязмен. *Узяў абязмен і зважыў.* Альхоўцы Лях. *Абязмен прынясі масла зважыць.* Граўжышкі Ашм. *Абазмен быў у нас.* Кіралі Шчуч.

АБЯЛІ′ЦЦА *зак.* Пагаліцца. *Узяў брытву, ужэ абяліўся.* Старое Сяло Зэльв.

АБЯЛІ′ЦЬ *зак.* Зняць скуру. *Абяліць трэба авечку.* Ахрэмаўцы Брасл. *Абяліў цялёнка, авечку.* Саланое Віл., Семежава Кап. *Прырэзалі карову, абялілі яе. Абяліць можна карову, авечку, каня.* Крупіца Мін.

АБЯРНУ′ЦЦА *зак. фальк.* Зрабіцца іншым, ператварыцца ў новую якасць пад уздзеяннем чараўнікоў. *Там людзі чарцямі абярнуліся.* Груздава Паст. *Нешта знаіць машэннік, бо послі мае пчолы абярнуліся на чарцей.* Валынцы В.-Дзв.

АБЯРНУ′ЦЬ *зак.* 1. Перакуліць. *Уляцела і абярнула конаўку.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *фальк.* Ператварыць у іншую істоту. *Чараўнік мог усё зрабіць, чалавека аберня ваўком.* Рыбчына Віл. *Не далі яму выпіць, ён усю свадзьбу абярнуў на ваўкоў.* Валынцы В.-Дзв.

АБЯРТНЯ′ *ж.* Луста. *Абяртню хлеба дала с сабой, на табе абяртню пірага.* Мярэцкія Глыб.

АБЯЧА′Й *м.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў, куды засыпаюць зерне. Старыя Трокі Трак.; *гл.* а ч а́ й.

АБЯЧАЯ′ *ж.* Тое ж, што і а б е́ ч а к 1. *Абячая ў рэшаце.* Магуны Паст.

АБЯЧЭ′ЙКА *ж.* Тое ж, што і а б е́ ч а к 1. *Абячэйка ў сіця.* Быстрыца Астр. *Абячэйка ў рэшаце, у каробачцы, што ставілі на ўюной.* Рудня Астравітая Чэрв. *Абячэйка ў сіці.* Азяраны Раг.

АВАДЗЕ′НЬ, АВАДЗЁН, АБАДЗЕ′НЬ, ВАДЗЕ′НЬ *м.* Авадзень. *Сёлета шмат аваднёў.* Груздава Паст. *Авадні кусучыя.* Жодзішкі Смарг. *Аваднеи, мух — як каровы бедныя*

*церпяць.* Беразіно Докш. *Авадзень — вялікая муха, кароў кусая.* Гайна Лаг. *Авадзён моцно кусаіцца.* Масілавічы Сл. *Абадні і сляпакі кусаюць каровы, коні.* Альхоўка Навагр. *Абадзень — велькі, гіль — меншы.* Дакудава Лід. *Вадзень кусаг кароў.* Пасіене Лудз.

АВАДЗЬЕ′ *зб. н.* Авадні. *Авадзье бзыкае. Бы рою налящела, так кажуць на мух і на авадзье.* Дзяніскавічы Ганц.

АВАРЫ′ЦЬ *гл.* ГАВАРЫ′ЦЬ

АВА′Т *м.* 1. Тое ж, што і а в а д з ё н ь. *Ават укусіў.* Жодзішкі Смарг., Пасека Ст.-Дар. 2. *зб.* Авадні. *Нападая на скаціну ават.* Вострава Маст. *Ават напаў на скаціну.* Груздава Паст. 3. Летні перыяд, калі асабліва авадні, сляпні кусаюць жывёлу. *У самы ават авадні вельмі кусаюцца.* Асавец Віл.

АВЕ′С *гл.* АВЁС

АВЕ′ЧКА *ж.* Авечка. *Авечка бляець.* Саланое Віл. *Авечкі пасе.* Рыбчына Віл. *Воўк авячкі крадзе.* Мсцібава Ваўк. *Авечкі дзержыце.* Ялова Пруж. *Авечкі пасу.* Грыкені Вільн.

АВЕ′ЧЫ, АВЯ′ЧЫ, АВЯ′ЧЧЫ, ГАВЕ′ЧЫ, ГАВЯ′ЧЫ *прым.* Авечы. *Авечы пастух быў.* Старое Сяло Зэльв. *Авеча мяса сыта.* Альхоўка Навагр. *Авечо мясо.* Масілавічы Сл. *Авечае мяса не ем.* Навасёлкі Свісл. *Кажух авечы, з авечых аўчынаў.* Грыкені Вільн. *Авеча мяса елі, елі і на продаш вазілі.* Валынцы В.-Дзв. *Авяча мяса было, як восінь, бараноў рэзала.* Кураполле Паст. *Авячы трыбушкі мясам напіхалі.* Груздава Паст. *Авяччая мяса, авяччая скура.* Магуны Паст. *Гавечы быў пастух. Гавячу кроў на жыры паджарыць — вот файна.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ён гавечы пастух.* Вострава Маст.

АВЕ′ЧЫНА, АВЯ′ЧЫНА *ж.* Авечае мяса. *Павcarыў супу з авечынай.* Альхоўцы Лях. *Натушыў авячыны.* Мярэцкія Глыб.

АВЕ′ЯНКА *ж.* Драўляны савок, якім веялі збожжа ўручную. *Авеянкай веялі ячмень.* Масілавічы Сл.

АВЁРКА *гл.* ВАВЁРКА

АВЁС, АВЕ′С, АЎЁС, ГОВ′ЕС, УВЭ′С *м.* 1. Авёс. *Пасеялі авёс.* Відаўцішкі Вільн. *Авёс у снапы жалі, у азярод бралі.* Дзяніскавічы Ганц. *Авес жалі, із зелем авес.* Рыбчына Віл. *Авес патпарыцца, яго сушаць, таўкуць потым.* Саланое Віл. *Мы сеялі авес.* Паляцкішкі Воран. *Авес зялёны.* Старое Сяло Зэльв. *Пасеяў авес.* Лоск Валож. *Сеюць жыта, пшаніцу, авес, ячмень.* Асавец Віл. *Аўёс скасіў.* Альхоўцы Лях. *Вжэ гов′ёс зжялы.* Сіманавічы Драг. *Пусіялэ увэс.* Радастаў Драг. 2. у знач. *прысл. аўсом.* Узор пры тканні паясоў. *Аўсом ткалі паясы для мушчын, узор такі: пятнаццаць пар ішло на аснову.* Стральцы Гродз.

АВІНУ′ЦЬ *зак.* Укруціць. *Авінула дзіця і панесла.* Мсцібава Ваўк.

АВО′РКА *гл.* ГАВО′РКА

АВЯСЕ′Ц *м. бат.* Аўсюк. *Авясец у аўсе расце.* Глівін Барыс.

АВЯ′ЧНІК *м.* Воўк, які бярэ авечак. *Авячнікі хваталі авечак.* Груздава Паст.

АВЯ′ЧЧЫ, АВЯ′ЧЫ *гл.* АВЕ′ЧЫ

АВЯ′ЧЫНА *гл.* АВЕ′ЧЫНА

АГ *часц.* Аж. *Смяецца, аг гагочыць, аг зайшоўся.* Ністанішкі Смарг.

АГАЛЁТ *гл.* ГАЛАЛЁТ

АГАЛІ′ЦЬ *зак.* Пагаліць. *Галаву агаліў.* Рудня Астравітая Чэрв.

АГАЛУ′ЗІЦЦА *зак.* Прывесці сябе ў парадак, агледзець сябе. Брадзец Бярэз.

АГА′ПАЦЬ *зак.* Тое ж, што і а б м а т ы к а в а́ ц ь. *Папробуй агапай трыццаць сотак гапкай.* Пацаўшчына Дзятл.

АГАРНУ′ЦЬ *зак.* 1. Узяць, ахапіць (пра злосць). *Яму злось агарнула.* Груздава Паст. 2. Настаць. *Ужо ноч агарнула.* Саланое Віл.

АГАРО′ДЗІНА *зб. ж.* Агародніна. *Агародзіны мала саджу кала хаты.* Ахрэмаўцы Брасл.

АГАРО′Т, ГАРО′Т, ГОРО′Д *м.* 1. Участак зямлі, прызначаны для агародніны. *Пасадзіла агарот.* Рыбчына Віл. *Агарады загарваюць.* Альхоўка Навагр. *Гэта наш гарот.* Кемялішкі Астр. *У іх два гарады.* Жодзішкі Смарг. *Ідзець канцом гарадоў.* Ракаўскія Швянч. *Рэцька расла ў гародзя.* Стральцы Шальч. *За гарадамі дарога.* Быстрыца Астр., Магуны Паст. *Гарадэ ў нас добрыя.* Вострава Маст. *Шэ города ны ополола.* Сіманавічы Драг. 2. Поле за агародамі. *Па другі бок вёскі агароды былі. Пашлі агароды касіць.* Міратычы Карэл.

АГАРО′ЧЧЫК *м.* 1. Агародчык. *Агароччык, дзе кветкі садзім.* Міратычы Карэл. 2. Агароджа вакол магілы. *Некалі быў агароччык каля магілы, а цяпер больш называюць аграда.* Дзяніскавічы Ганц.

АГА′Р'Я *н.* Выгар. *Агар'я — дзе лес выгараў, торф.* Рыбчына Віл.

АГА′ТА *ж.* Прызба. *Трэба агату зрабіць каля хаты.* Тупічаны Ваўк.

АГА′ЧЫЦЬ *зак.* Абкапаць, абсыпаць прызбу. *Агачыць трэба хату на зіму.* Тупічаны Ваўк.

АГАША′ЦЬ *незак.* Гасіць, тушыць. *Галавешку агашалі.* Крэва Смарг.

АГІ́ЛЯ′ЦЦА *незак. экспр.* Сланяцца, сноўдацца, гультаяваць. *Ён агіліўся, не хацеў рабіць.* Рудня Чэрв. *Жанке копы насілі з балота, а мушчыны агіляюцца.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* літ. *gyl̃inėti* 'тж'.

АГЛАБЛІ′ЦА *ж.* Жэрдка ў развалках. *У развалінках дуга і дзве аглабліцы.* Альхоўцы Лях.

АГЛАБЛЯ', АГЛО'БЛЯ, АЛО'БЛЯ, ГАЛАБЛЯ', ГАЛО'БЛЯ *ж.* Аглобля. *Атоса саедзініна с асёй і с аглаблёй.* Індра Красл. *На аглóблях атосы.* Чычалі Швянч. *Паламаў алоблі, адну алоблю зрабіў.* Старыя Смільгіні Воран. *Прытаска прыдзержывая алоблю.* Быстрыца Астр. *Галабля ў возе.* Галоўні Воран. *Павэдлуг галабель кладу вос і зірк на галоблі — як конь стаіць.* Гемзы Шальч.

АГЛАМАЗДА'К *м.* Прадмет вялікага памеру. *Пуц быў такі агламаздак.* Семежава Кап.

АГЛАСІ'ЦЬ *зак.* Аб'явіць, абвясціць. *Хоць ён нам агласіў, мы і так ня пойдзям.* Магуны Паст.; *параўн.* руск. *огласить* 'тж'.

АГЛА'ТКА *гл.* АЛА'ТКА

АГЛАША'ЦЬ *незак.* Абвяшчаць, аб'яўляць. *Сын аглашаіць бацьку, што нада нагу ламаць.* Іланцы Брасл.; *параўн.* руск. *оглашать* 'тж'.

АГЛЕ'ДЗЕЦЬ, АГЛЕ'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Прывесці ў парадак, дагледзець. *Яна сама сябе ня можа агледзець.* Вецярэвічы Пух. *Нідбайна, сама сібе ні агледзіць.* Дакудава Лід. 2. Знайсці, ашукаць, натрапіць. *Я агледзела траву карове.* Бенякові Воран. *Кап іх раней агледзелі, а то прышлі на другі дзень, нашлі на другі дзень: яны стуліліся і ляжаць тры хлапчаке нежывыя.* Вецярэвічы Пух. *Я агледзіла многа малін.* Валынцы В.-Дзв. ▽ *Кап ты, Манька, на сваіх дзецях агледзела і на сабе, што ты мне думаеш!* Вецярэвічы Пух.

АГЛЕ'ДЗІНЫ, АГЛЯ'ДЗІНЫ толькі *мн. абрад.* Розгляды, агледзіны дзяўчыны перад сватаннем. *Паехалі яны ў агледзіны.* Саланое Віл. *Раскажу вам, як бацька хадзіў у аглядзіны.* Кураполле Паст.

АГЛО'БЛЯ *гл.* АГЛАБЛЯ'

АГЛО'ХНУЦЬ, АХЛО'ХНУЦЬ *зак.* Аглухнуць. *Аглох на вайне.* Быстрыца Астр. *Ён можыць аглохнуць.* Мярэцкія Глыб. *Чалавек можыць аглохнуць і аслепнуць.* Малькуны Ігн. *Ай, як я ахлох і аслеп!* Саланое Віл.

АГЛО'ХЦІ, АГЛУ'ХЦІ *зак.* Тое ж, што і а г л ó х н у ц ь. *Аглохці мох.* Рыбчына Віл. *Мажэ аглухці.* Рудня Астравітая Чэрв.

АГЛУ'БІЦЬ *зак.* Забіць. *Ён мох аглубіць ләся.* Ахрэмаўцы Брасл.

АГЛУШЫ'ЦЬ *зак.* Спыніць рост. *Трэба аглушыць траву.* Саланое Віл.

АГЛЯДА'ЦЦА, АБГЛЯДА'ЦЦА *незак.* Рабіць хатнюю работу, даглядаць жывёлу, уходжвацца. *Прыдзя дамоў аглядацца.* Бакшты Іўеў. *Патрошку канчаю аглядацца.* Кураполле Паст. *Пайду аглядацца.* Лісна В.-Дзв. *Аглядалася ўжо.* Граўжышкі Ашм. *Пайду аглядацца: свіня ня елі, каровя даць трэба.* Жодзішкі Смарг. *Натта ў руках скора ішло, а цяпер у*

*хаця доўга аглядаюся.* Крэва Смарг. *Аглядаюся і саджуся вячэраць.* Лоск Валож. *Яна абглядаецца с кароўкай, с свіньмі.* Бакшты Іўеў.

АГЛЯДА'ЦЬ *незак.* 1. Даглядаць, пільнаваць. *Ёгджая ляснік, лесу аглядая.* Альхоўка Навагр. 2. Абглядаць. *Як сапажаць аглядаюць, кап дзяліць, то слядамы дзеляць.* Ракаўскія Швянч. ∇ *Кап ты не аглядаў сваіх нох!* Старыя Трокі Трак. *Кап ты аглядала на сабе!* Кіралі Шчуч.

АГЛЯ'ДЗІНЫ *гл.* АГЛЕ'ДЗІНЫ

АГЛЯ'ДЫ толькі *мн.* Тое ж, што і а г л ё д з і н ы. *У агляды тата і браты едуць.* Ракаўскія Швянч.

АГЛЯНУ'ЦЦА *зак.* 1. Глянуць у розныя бакі. *Аглянуся тудэ, сюдэ.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Крытычна паглядзець на сябе. *Другі чалавек не аглянецца на сябе, а на другога валіць.* Вецярэвічы Пух.

АГЛЯНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і а г л ё д з е ц ь 1. *Аглянуць сябе не можа.* Вецярэвічы Пух.

АГНІ'ВА, АГНІВО' *н.* Крэсіва. *Агніва было, жах-жах — і гатоў агонь. Агніво было, бацька высякаў агонь: гупкі паложыць, іскарка бырзніць і выдміш агонь.* Валынцы В.-Дзв. *Агніво для высякання агню.* Беразіно Докш.; гл. в о́ г н і в а.

АГНІ'ДЫ *мн.* Лічынкі авадня. *Здрок лашадзям агніт напускае ў ногі.* Тухавічы Лях.; *гл.* г н і́ д ы I.

АГНІ'СКА *н.* Выгар. *Пасля велькага пажару, як лес згарэў, агніска астаецца.* Вялікія Баяры Шчуч.

АГО'НЬ, АО'НЬ *м.* 1. Агонь. *Агонь высякалі.* Лісна В.-Дзв. 2. Асвятленне. *Вайной без агню сядзелі.* Паляцкішкі Воран. *Нада загасіць агонь.* Грыкені Вільн. *Паўставалі, ужэ агне ест.* Номікі Бабіц. *Трэба аонь запаліць.* Быстрыца Астр. *Аонь палілі.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Вогнішча, касцёр. *Ідзём распалім агню, пагрэемся, бо натта халодна.* Кіралі Шчуч. *Дзеці разлажылі агонь у лесе.* Саланое Віл. ∇ *Хай агнём яно пойдзя!* Вецярэвічы Пух. *Я баяўся, як агня.* Ахрэмаўцы Брасл.

АГРАБА'ЦЬ *незак.* Знімаць, збіраць пчаліны рой. *Такоя рэшата кладзе на голаў і аграбая ў рэшата рой.* Кіралі Шчуч. *Плашкай у рэшата аграбаюць рой.* Старыя Трокі Трак. *У рэшато аграбаям рой, у сітцо бываіць.* Быстрыца Астр. *Лошкай дзеравянай аграбаю рой.* Масілавічы Сл. *Рой садзіцца, а яго аграбаюць.* Палік Барыс. *Мы с татам аграбалі рой.* Азяраны Раг.

АГРА'ДА *ж.* Агароджа. *Аграду рабілі ле сада, а садоў много было.* Альхоўцы Лях. *Каля магілы ставяць аграду.* Дзяніскавічы Ганц.

АГРАНО'М, ГРАНО'М *м.* Аграном. *Ён тут быў у нас, аграномам работаў.* Груздава Паст. *Дачка ўчылася на гранома.* Саланое Віл.

АГРАНО'МКА, АГРАНО'МЧА *ж.* Аграном. *Заедзімся да*

*аграномкі.* Лісна В.-Дзв. *Як аграномча паехала, папаспаміналі мы яе.* Ялова Пруж.

АГРАСАВА'ЦЬ *зак.* Абматычыць. *Бульбу пайду грасоўкай аграсую.* Вязынка Маладз.

АГРО'МНІСТЫ *прым.* Вялізны. *Агромністы ест грып.* Мсцібава Ваўк.

АГРУЗІ'ЦЦА *зак.* Патануць. *Дуп мог агрузіцца на дно, падвязвалі ель, сасну.* Чарняўскія Лудз.; *параўн.* руск. *погрузиться* 'тж'.

АГРЫ'ЗАК, ОГРЫ'ЗОК *м.* 1. Недаедзены кавалак чаго-н. *Агрызак хлеба.* Бенякові Воран. *З яблык огрызкы.* Сіманавічы Драг. 2. Бульбяныя грудкі ў тоўчанай кашы. *Агрыскі ў кашы, каша нядобра ўтоўчана.* Граўжышкі Ашм.

АГРЭ'СТ *м.* Агрэст. *Між агрэстаў пасадзілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Агрэст ссох і прапаў.* Малахоўцы Бар. *Агрэст добры.* Чычалі Швянч.

АГРЭ'Х, ГОРЭ'Х *м.* Тое ж, што і а б л ё х 1. *Кінуў агрэх.* Пасека Ст.-Дар. *Агрэхі — як нескладна ўзарата.* Кураполле Паст. *Аграхі пакідаў, аграхоў многа.* Мярэцкія Глыб. *Не забаранаваў, пакінуў агрэхі.* Кіралі Шчуч. *Горэх остаўся на загоне.* Хатынічы Ганц.

АГУ'ЗЗЯ *н.* Кліны ў споднiках. *Агуззя ўстаўлялі, кап не рваліся паштанікі.* Янова Рас.

АГУ'ЛАМ *прысл.* Разам, сумесна. *А хто агулам возьмуць кусок і жнуць.* Кураполле Паст.

АГУ'ЛЬНЕ *прысл.* Агулам. *Буду агульне выдаваць вам харч.* Альхоўцы Лях.

АГУРО'К, ГУРО'К *м.* Агурок. *Пашла па агурка і не прынесла.* Альхоўка Навагр. *Агуркоў хваціць.* Кураполле Паст. *Агурке велькія выраслі.* Пацаўшчына Дзятл. *Нараслі агуркі.* Відаўцішкі Вільн. *Баба гурок улажыўшы ў масла.* Лоск Валож. *У нас гуркі шчэ не саджаны.* Паляцкішкі Воран. *Як станя многа гуркоў, будуць дзяшоўшыя.* Альхоўка Навагр. *Нарасло гуркоў.* Дзяніскавічы Ганц. *У нас е гуркі, одного з'естэ.* Смаляніца Пруж. *Гуркыв посолыла.* Сіманавічы Драг.

АГУРО'ЧНІК, АГУРЭ'ЧНІК *м.* Лісце і сцяблы агуркоў. *Агурочнік укрыў зямлю.* Груздава Паст. *Пранікам агурэчнік білі, і віхотка палучаіцца.* Індра Красл.

АГУРО'ЧНІШЧА *н.* Участак агарода, дзе раслі агуркі. Саланое, Рыбчына Віл.

АГУ'РЫЦЦА *зак.* Апусціцца, разленавацца. *Чалавек агурыцца, не хоча нічога рабіць, яму ўжо нічога не трэба.* Вецярэвічы Пух. *Агурыўся, будта яму нічога не трэба.* Рудня Астравітая Чэрв.

АГУРЭ'НЬ *м. зневаж.* Абібок, гультай. *Як агурэнь, агіляецца, каля ўглоў баўтаецца, а дзелам не займаецца. Дзе гэтыя агурні цягаюцца?* Кураполле Паст.

АД, АТ *прыназ.* з *род.* 1. Пры выражэнні часавых адносін. *Ён ходзіць у ягады ад рання і да вечара. Ад восені хадзіў, угаварваў яе.* Лісна В.-Дзв. *Пятух запяець — устаеш ад другога пітуха.* Саланое Віл. *А казёл каля вазоў ад нядзелі да нядзелі.* Паляцкішкі Воран. *Ад нядзелі Антоля ляжыць.* Вецярэвічы Пух. *Прывезена дзеўка ад вайны, васточная яна.* Дакудава Лід. *Учора валакліся ад гэтай пары.* Альхоўка Навагр. *Ён ат той вайны хату меўшы.* Ракаўскія Швянч. *Ат трох гот захварэўшы.* Малькуны Ігн. *Ат цямна з дваіма дзяцьмі важуся.* Міратычы Карэл. 2. Пры ўказанні на ўзрост. *Я ад малых дзянёчкаў ад іх асталася.* Стральцы Шальч. *Ад маласці слышала.* Індра Красл. *Ён старшы ад мяне.* Старыя Трокі Трак. *Ад паўтара гадоў сябе помню.* Ракаўскія Швянч. *Ад малых гадоў жаць мама выгнала.* Жылі Іўеў. *Ад шаснаццаці гадоў замуж ісці не хацела.* Саланое Віл. *Здарова ад малада была.* Быстрыца Астр. *Ад веку вякоў так гавораць.* Лісна В.-Дзв. 3. Пры ўказанні на аб'ектныя адносіны супрацьдзеяння. *Зелля ад розных хвароп.* Рудня Астравітая Чэрв. *Прынёс зелья ад жывата.* Дзяніскавічы Ганц. *Каліна добра ад ціску крыві.* Пацаўшчына Дзятл. *Калісьці ад халеры крыжы людзі ставілі, нядаўна той крыш паваліўся.* Паляцкішкі Воран. 4. Пры выражэнні прычынных адносін. *Плакала ад работы.* Старыя Трокі Трак. *Мяне трасло ад страху.* Альхоўка Навагр. 5. Пры руху ад аб'екта. *Прыду ад работы — з дзецьмі работа ёсць.* Альхоўка Навагр. *Прышла ад жніва.* Сакаляны Сакол. *Ад сябе дух* [выдыханне]. Старое Сяло Зэльв. *Ганна не скупая — ад роту аддась.* Вецярэвічы Пух. *Ена* [акалота] *атходзіць ат зірна.* Філіпаўцы Красл. 6. Пры выражэнні аб'ектных адносін прыналежнасці да каго-н., чаго-н. *Пры Польшчы літоўская школа ў нас ад бацькоў была, бацькі плацілі.* Чычалі Швянч. *Ад манцыклета быў паціраў права, Зіна нашла.* Альхоўка Навагр. *Сцякло гэта ўжо не ад яе, не ад гэтай лямпы.* Шведы Вільн. 7. Пры ўказанні на адносіны переваґі па якасці, велічыні, узросту і інш. *Аса мнейшая ад пчалы.* Быстрыца Астр. *Ад тых пчол не было лепшых.* Вецярэвічы Пух. *Ён ад міне адным рокам старшы. Старшыя ад мяне гадоў дзесяць.* Паляцкішкі Воран. *Я была шмат старэйша ад сястры.* Альхоўка Навагр.

АДАБРА'ЦЦА *зак.* Адстаяцца. *Наверх адабралася смятана.* Жодзішкі Смарг., Вялікія Нястанавічы Лаг.

АДАБРА'ЦЬ *зак.* 1. Сілай забраць. *Адабраў майго кія.* Крынкі Крын. *Ён яшчэ адберыць у дзеўкі кнігу.* Жодзішкі Смарг. *Ён нож у яго адабраў.* Альхоўка Навагр. *Ён дась рублёк, а паня адберыць і дась двацачок. Прапаў плух, укралі, што ты адберыш?* Валынцы В.-Дзв. *Што іна адберыць, хоць дваццаць рублёў прынясець.* Курапалле Паст. *Прыляціць, адберыць рабёнка і папрэць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *безас.* Пара-

лізаваць, адняць. *Яму адабрала нагу.* Жодзішкі Смарг. *Адабрала ногі.* Старыя Трокі Трак.

АДАВА'ЦЬ *гл.* ГАДАВА'ЦЬ

АДАГРЭ'ЦЦА *зак.* Адтапіцца. *Малако адагрэлася ў печы.* Старыя Смільгіні Воран.

АДАГРЭ'ЦЬ *зак.* Адтапіць (малако). *Адагрэю малако на тварох.* Ракаўскія Швянч. *Адагрэць малако, кап быў тварох.* Быстрыца Астр. *Адагрэла малако, сыроватка адлучаяцца.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

АДАЗВА'ЦЦА *зак.* 1. Тое ж, што і а б а з в а́ ц ц а. *Яна да людзей заўсёды адазвецца добрым словам.* Граўжышкі Ашм. 2. Адбіцца на стане здароўя. *Покуль маладыя, то не берагуць здароўя, а потым адазвецца ўсё.* Стральцы Шальч.

АДА'ЛЕЧ *прысл.* Аддалена. *Адалеч ад нітоў чыны ест.* Рудня Астравітая Чэрв.

АДАЛЯ'ЦЬ *незак.* Адольваць. *Гарэлка адаляе яго.* Альхоўцы Лях.

АДАМКНЁНЫ *дзеепрым.* Адамкнуты. *Ровар у свіран пастаў, свіран адамкнёны.* Стральцы Гродз.

АДАМКНУ'ЦЬ *зак.* Адсунуць засаўку. *Ідзі, адамкні хату, ідзе сусет.* Паляцкішкі Воран.

АДАМСЦІ'ЦЬ *зак.* Адпомсціць. *Хацеў яшчэ паехаць адамсціць ім, але і вайна кончылася.* Азаркі-Пудавінка Мядз.; *параўн.* руск. *отомстить* 'тж'.

АДАРА'ЦЬ *зак.* 1. Аддзяліць узаранай баразной частку загона для папярочных баразён. *Пярэчку нада адараць.* Рыбчына Віл. 2. Пераараць. *Як моцна вымакне — адараюць і адсеюць.* Быстрыца Астр.

АДАРО'БАК *м.* Круг з лубу для намотвання пражы. *Рабілі такі адаробак з лубу звіваць ніці.* Мачаск Бярэз.

АДАРО'БАЧКА *ж. памянш.* да а д а р о́ б а к. *Адаробачкі рабілі з бяросты, ніткі маталі.* Кураполле Паст.

АДАРО'ПКА *ж.* Тое ж, што і а д а р о́ б а к. *Адаропка з кары зроблена, на яе звівалі ніткі с пачынка.* Груздава Паст.

АДАСЛА'ЦЬ *зак.* Паслаць. *Адаслаў яму тыя грошы, што ён за лета заробіў.* Вострава Маст.

АДАТКНУ'ЦЦА *зак.* Адкрыцца, адаткнуцца. *Адаткнулася гэная, чым бочку заткнулі, аміяк выліўся.* Крэва Смарг.

АДБА'ВІЦЦЯ *зак.* Паменшыцца. *Ужо дзень адбавіўся, стаў меншы дзень на Пятрэ.* Кіралі Шчуч.

АДБА'ЛЬНЫ *прым.* Адважны. *Ён быў адбальны салдат.* Чычалі Швянч.

АДБАРАНІ'ЦЦА *зак.* 1. Засцерагчыся ад нападу каго-н. *Ні адбараніцца ад мух.* Старыя Трокі Трак. *Сляты стаў наляцела — не адбаронішся!* Беразіно Докш. 2. *перан.* Пазбавіцца ад дамаганняў, просьбаў. *Даўней братава адбараніцца не магла — казалі: «Рабі пэпці!»* [тэпці]. Старыя Трокі Трак.

*Я хоць невялікага росту, але не магла адбараніцца ад сватоў.* Саланое Віл.

АДБЕ'ГВАЦЬ *незак. біял.* Пакрывацца. *Тры разы да быка вадзілі карову і не адбегвала.* Альхоўка Навагр.

АДБІВА'ЦЬ *незак.* 1. Перыць. *Адбівалі палатно пранікам.* Жылі Іўеў. 2. Адносіць ветрам. *Веялкай веялі — адбівае вецер.* Грыкені Вільн.

АДБІРА'ЦЬ *незак.* Аднімаць, паралізоўваць. *Руку адбірая.* Старыя Трокі Трак. *Яму стала адбіраць ногі.* Жылі Іўеў. *Нагу адбірая.* Крэва Смарг. *Мне ногі адбірая, не магу хадзіць бэз кія.* Мсцібава Ваўк. *Матка бальная, ей ногі адбірае, сярэдзіну адбірае.* Саланое Віл.

АДБІ'ТЫ *дзеепрым.* 1. Адгароджаны. *Пакой адбіты, спальня адбіта.* Лісна В.-Дзв. 2. *фат.* Напячатаны. *Адбіты дванаццаць патаграфій.* Быстрыца Астр.

АДБІ'ЦЦА *зак.* Адстаць ад каго-н. *Баран адбіўся ад гавец.* Номікі Бабіц.

АДБІ'ЦЬ *зак.* 1. Адарваць, пакалечыць. *На вайне яму адбілі нагу.* Саланое Віл. *У Выбаргу адбіла мне нагу.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Натрудзіць. *Ногі адбіў, ходзячы.* Лісна В.-Дзв. 3. Паслаць па пошце. *Яна адбіла целіграм.* Саланое Віл. 4. *фат.* Напячатаць. *Адбілі маю патаграфію.* Быстрыца Астр.

АДБІ'ЦЯ *н.* Адрыжка. *Адбіця ў мяне.* Быстрыца Астр.

АДБЛАГАДА'РАВАЦЬ *незак.* Дзякаваць. *Будзем адблагадараваць вам.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* руск. *благодарить, отблагодарить* 'дзякаваць; аддзякаваць'.

АДБО'РНІК *м. цясл.* Гэблік з вузкім лязом для выстругвання фігурнай паверхні чаго-н. *Адборнік для паталка, што б доска адна за адну захадзіла б.* Скрудалена Даўг.

АДБРАДЗІ'ЦЬ *зак.* Адмежаваць слядамі. *Сенакос адбрадзі і пастаў вітку.* Рыбчына Віл., Малахоўцы Бар. *Мы адбрадзілі ад калочка, як мералі дзялку.* Міратычы Карэл.

АДБРО'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Адмераны слядамі. *Быў адброджаны лён, было адброджано нам ад калочка.* Міратычы Карэл.

АДБУБО'НІЦЬ *зак. экспр.* Моцна пабіць. *Ён яму адбубоніў добра.* Лісна В.-Дзв.

АДБУКСАВА'ЦЬ *зак. экспр.* Моцна нацерці. *Адбуксуіш мачалкай адна аднэй спіну і добра.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *bukséti* 'біць кулаком'.

АДБЫВА'ЦЬ *незак.* 1. Прымусова рабіць. *Адбывалі пану.* Быстрыца Астр. *Людзі адбывалі прыгон калісьці.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Убываць, памяншацца. *Еслі месяц адбывая, то, кажуць, самы вётух.* Альхоўцы Лях. *Як адбывае месяц, то сходнія дні.* Дзяніскавічы Ганц. *Месяц адбываіць.* Ракаўскія Швянч. *Пойня, патом месяц адбывая.* Дакудава Лід. *С пойня*

*месяц рушыць — начыная адбываць.* Малахоўцы Бар. *Няўдалы дзень — 29 чэрвеня будзе адбываць.* Кіралі Шчуч.

АДБЫ'Т *м.* Адходы. *Адбыт гэты ад воску прадавалі.* Альхоўцы Лях.

АДБЫ'ТНЫЯ ДНІ *мн.* Трэцяя і чацвёртая фазы Месяца. *Адбытныя дні наступаюць, як адбывая Месяц. Поўната, тады адбытныя дні.* Ахрэмаўцы Брасл.

АДБЫ'ЦЬ *зак.* 1. Прабыць пэўны тэрмін. *Срок адбудзіць ён — і новы прыедзіць.* Лісна В.-Дзв. *Ён адбыў месяц і паехаў.* Саланое Віл. 2. Прабыць на рабоце і нічога не зрабіць. *Яму абы врэмя адбыць.* Саланое Віл. 3. Убыць (пра Месяц). *Адбыў месяц — толькі палоўка, а пасля — сярпок і пустыя дні.* Саланое Віл.

АДВАДЗЯНЕ'ЦЬ, АТВАДЗЯНЕ'ЦЬ, АДВАДНЕ'ЦЬ *зак.* Звадзянець. *Ноч пастаяў кісель і адвадзянеў.* Пацаўшчына Дзятл. *Кісель атвадзянеў, вадой абярнуўся.* Лісна В.-Дзв. *Чаму ваш кісель адваднеў?* Валынцы В.-Дзв.

АДВА'ЖЫЦЦА, АТВА'ЖЫЦЦА *зак.* Рашыцца, асмеліцца. *Ніхто не адважыцца яму сказаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Не атважуся сказаць.* Валынцы В.-Дзв.

АДВАЙЦЯ'ЦЬ *зак. экспр.* Аблаяць. *Людзі адвайцяюць яго, а ён завернецца і пойдзе.* Граўжышкі Ашм.

АДВАЛІ'ЦЦА *зак.* 1. Абамлець. *Адвалілася баба ад стуку грому, алі адышла.* Саланое Віл. 2. Суняцца. *Адвалілася боль, стала ляхчэй.* Саланое Віл.

АДВАЛІ'ЦЬ *зак. экспр.* 1. Адкроіць. *Адваліў лусту хлеба, дзе ж дзіця з'есць.* Старыя Смільгіні Воран. *Адваліў хлеба бурт.* Старыя Трокі Трак. 2. Адчыніць. *Ці зможаш сені адваліць?* Пацаўшчына Дзятл.

АДВАРАЧА'ЦЬ, АДВАРА'ЧУВАЦЬ *незак.* Адварочваць. *Кароўку будзя адварачаць.* Бакшты Іўеў. ◇ *Адварачаць нос*— пазбягаць сустрэчы. *Ён адварачуе ад мяне нос, не хоча сустракацца.* Азяраны Раг.

АДВЕ'ДАВАЦЬ *незак.* Наведваць. *Хадзіла адведаваць дачку.* Саланое Віл.

АДВЕ'ДАЦЬ *зак.* Наведаць. *Адведала сястронку.* Рыбчына Віл. *Пойдуць адведаць хворую.* Азяраны Раг.

АДВЕ'ДЗІНЫ толькі *мн. абрад.* Наведванне парадзіхі, адведкі. *Радзіха нарадзіла дзяцёнка — у адведзіны ідуць радня, бабы.* Ракаўскія Швянч. *Ув адведзіны ходзяць.* Дакудава Лід. *Хадзілі ў адведзіны.* Рыбчына Віл., Жылі Іўеў., Граўжышкі Ашм. *Даўней наваравалі кашы вялікія гаршкі і хадзілі ў адведзіны да радзіхі.* Ністанішкі Смарг. *Пойдзім у адведзіны, бо яна нарадзіла дзіця.* Кіралі Шчуч. *Адведзіны рабілі.* Саланое Віл. *Былі адведзіны, я збіралася на адведзіны.* Мірагычы Карэл. *Пашлі ў адведзіны.* Альхоўцы Лях. *Пашла ў адведзіны.* Беняконі Воран. *Хадзіла ў адведзіны, як радзіха з*

*малым.* Грыкені Вільн. *У адведзіны ідуць да бабы, як дзіця імеець.* Чычалі Швянч.

АДВЕ′ТНІЦА *ж.* Жанчына, якая адведвае парадзіху. Старыя Трокі Трак.

АДВЕ′ЦІЦЬ *зак.* Адказаць. *Вы кажыця, што трэба,— мы адвецім.* Ністанішкі Смарг.; *параўн.* руск. *ответить* 'тж'.

АДВЕ′ЧАР, АДВЕ′ЧАРА *прысл.* Адвячоркам. *Можа адвечар пайду да лёну. Мы адвечара пашлі лён падбіраць. Адвечара пойдзім, кароў падаіўшы. Учора адвечара была пашоўшы да Ганеліхі.* Альхоўка Навагр.

АДВЕЧА′ЦІ *незак.* Адказваць. *Аны трэбуют, я адвечаю.* Ялова Пруж.; *параўн.* руск. *отвечать* 'тж'.

АДВІ′ТАВАЦЦА, АДВІ′ТУВАЦЦА *незак.* Развітвацца. *Адвітавацца сколькі рас будзям.* Ракаўскія Швянч. *З дачкой, с сынам, с кожным адвітуваюцца.* Саланое Віл.

АДВО′ДЗІЦЬ *незак.* Выдзяляць, адмяраць. *Будуць адводзіць дзялянку лесу.* Вялікія Баяры Шчуч.

АДВО′ДНІКІ *мн.* Падаконнікі. *На адводнікі ставім вазоны.* Мсцібава Ваўк.

АДВО′ДНЫ *прым.* Стромы. *Адводны бераг — абрывісты, на адводным берагу бяроска завісла.* Паляцкішкі Воран.

АДВО′ЖВАЦЬ *незак.* Адвозіць. *Адвожваюць карчэ ў Ліду.* Кіралі Шчуч.

АДВУЧЫ′ЦЦА *зак.* Закончыць заняткі ў школе. *Адвучыліся дзеці ў школе, ідуць дахаты.* Ністанішкі Смарг.

АДВЫ′КНУЦЬ *зак.* Адвыкнуць. *Яна адвыкла ад работы.* Лоск Валож. *Я адвыкла рана есці.* Лісна В.-Дзв.

АДВЯРНУ′ЦЦА *зак.* 1. Разысціся. *Пасорыліся і адвярнуліся, а патом апяць харашо.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Вывернуцца. *Як ён, шафёр, адвярнуўся, такая вуская дарога!* Ракаўскія Швянч.

АДВЯРНУ′ЦЬ *зак.* 1. *экспр.* Адрэзаць. *Лусту адвярнулі кругом булкі.* Ёдлавічы Брасл. 2. Перапрасіць, папрасіць прабачэння. *Адвярні слова. Можа слова адвярнуць, што яна хвора.* Жылі Іўеў.

АДВЯСЦІ′ *зак.* Выдзеліць, адмерыць. *Мне адвялі дзялку лёну.* Вялікія Баяры Шчуч.

АДГАВАРЫ′ЦЬ *зак.* 1. У забабонных людзей — уздзейнічаць замовай на каго-н., на што-н. *Ён умеў адгаварыць, памовіў каля каровы.* Ракаўскія Швянч. 2. Адгаварыць ад чаго-н. *Кап ні адгаварылі, паехала п.* Магуны Паст.

АДГАВО′РВАЦЬ *незак.* У забабонных людзей — лячыць замовамі. *Колісь адгаворвалі ад укусу гадзюкі.* Вялікі Краснік Пруж.

АДГАДНУ′ЦЬ, АДГАНУ′ЦЬ, ОДГАНУ′ТЫ *зак.* Адгадаць. *Хто адгадне загатку?* Новыя Мацалі Варэн. *Адганеце гэты сон.* Альхоўцы Лях. *Адгані мой сон.* Вялікія Баяры

Шчуч. *Адгані загатку.* Навасёлкі Свісл. *Я табе загану загатку, а ты адгані.* Масілавічы Сл. *Одганула загадку.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *odgadnąć* 'тж'.

АДГАЛО'СКІ, АДГАЛА'СКІ *мн.* Рэха. *Адгалоскі ідуць.* Лісна В.-Дзв. *Як адгукнесся — адгаласкі ідуць па лесі.* Рыбчына Віл.

АДГАРАДЗІ'ЦЬ *зак.* Аддзяліць, адмежаваць. *Прышоў Паўлюк, адгарадзіў у хляве катух.* Лісна В.-Дзв.

АДГАРНУ'ЦЬ *зак.* Адгрэбці. *Раньшэ мякіну адгорнеш.* Беняконі Воран.

АДГАТАВА'ЦЬ *зак.* Зварыць. *Трэба грыбэ вымыць і адгатаваць харашэ.* Новікі Гродз.; *парайн.* польск. *odgotować* 'тж'.

АДГАЎЛЯ'ЦЦА *незак. царк.* Разгаўляцца. *Устала і адгаўляцца яечкам прышла.* Альхоўцы Лях.

АДГА'ШВАЦЬ, АДГА'ШЫВАЦЬ *незак.* 1. Гасіць драўняны вугаль. *У кузні адгашваюць жар.* Беняконі Воран. *Адгашываць вуглі.* Магуны Паст. 2. Гасіць вапну. *Адгашваць вапну — яна выходзіць, як цеста, а так яна, як у камені.* Чычалі Швянч. *Адгашываць можна ўсё, і вапну можна адгашываць.* Старыя Трокі Трак.

АДГО'ЛЬНІВЫ *прым.* Прыкры, агідны. *Не магу есці макароны забеленыя, яны мне адгольнівыя.* Дакудава Лід.; *парайн.* літ. *atgál* 'назад'.

АДГО'РВАЦЬ *незак.* Адворваць. *Калі горэш, то бывая там вужай, а там шырай, то нада адгорваць.* Стральцы Гродз.

АДДАВА'ЦЬ *незак.* Мець пах, прысмак. *Бочка селяццамі аддае.* Рыбчына Віл. *Беляке* [грыбы] *муравам аддаюць.* Бакшты Іўеў.

АДДАЛЁНЫ *прым.* Аддалены. *Туды аддалёны яго дом.* Ахрэмаўцы Брасл.

АДДАЛЖЫ'ЦЬ *зак.* Пазычыць. *Скупы той, хто не хоча аддалжыць другому.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* руск. *одолжить* 'тж'.

АДДА'ЛІЦЦА *зак.* Адысці, ад'ехаць на нейкую адлегласць. *Мы аддалімся далёка ад дому.* Ністанішкі Смарг.

АДДА'НЫ *дзеепрым.* 1. Прасякнуты любоўю, верны каму-н. *Ён быў душэю адданы дзецям.* Альхоўцы Лях. *Я за гэтымі дзецьмі ўсю жызню аддана.* Міратычы Карэл. 2. Заняты. *І дзеці за гэтымі каровамі адданы.* Граўжышкі Ашм.

АДДАЎНА' *прысл.* Здаўна. *Верас аддаўна меданосная трава.* Кураполле Паст.

АДДА'ЦЬ *зак.* 1. Вярнуць доўг. *Мы аддадзём тваё грошы, што бралі.* Груздава Паст. 2. Сваё аддаць каму-н. *Мы вам аддадзём нашага ката.* Старыя Трокі Трак. 3. Аддаць замуж. *Дзвёх дачок замуш аддала.* Ністанішкі Смарг. ▽ *Аддасі рукамі, ды хадзі нагамі* — пра доўг. Дзяніскавічы Ганц. *Хай бог на лес усё аддае!* — пра бяду, няшчасце. Хатынічы Ганц.

АДДА'ЧА *ж.* Аддаць узятае. *Карову астатнюю забраў без платы, без аддачы.* Ахрэмаўцы Брасл.

АДДЗЕ'ЛЬНЕ *прысл.* Асобна. *Сын аддзельне ад нас жыве.* Новікі Гродз.

АДДЗЮ'ГЛІЦЬ *зак. экспр.* Надаваць кухталёў. *Ён аддзюгліў яму ў плечы, аддзюгліла і я.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *džiūkšteleti* 'ўдарыць'.

АДДЗЯ'КАВАЦЬ *зак.* Падзякаваць, адплаціць. *Трэба аддзякаваць хазяіну за хлеб.* Рудня Астравітая Чэрв.

АДДЗЯЛІ'ЦЦА *зак.* Вылецець (пра рой). *Рой аддзяліўся і звіўся на яблыні.* Альхоўцы Лях.

АДДРА'ГАЦЬ *зак.* Сілай адчыніць. *Дзверы былі на зашчапцы — і аддрагаў.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *drãgoti* 'лупіць, драць'.

АДДУ'ХА *ж.* Кароткі перапынак, адпачынак. *Кошкалася каля дому, ні работа, ні аддуха.* Кураполле Паст.

АДДЫМА'ЧКА *гл.* АДЫМА'ЧКА

АДДЫХА'ЛКА *ж.* Месца адпачынку. *Было так: старцы ішлі, і там была іх аддыхалка на апушке лесу ля поля.* Ухвала Круп.

АДДЫ'ХАЦЬ, ОДДЫ'ХАТЫ *зак.* Адпачыць. *Хоча аддыхаць троха. Каб аддыхаць. Не аддыхала, чуць прыцяглася.* Вецярэвічы Пух. *Ні аддыхала ўдзень.* Азяраны Раг. *Аддыхая, як ляжа на пасцель.* Дзяніскавічы Ганц. *Аддыш трохі!* Данілавічы Дзярж. *Перарыў зробім, аддышам.* Малыя Аўцюкі Калінк. ∇ *Хто после абеду не аддыша, таго бох за свінню запіша.* Бакшты Іўеў. *Хто по обіды ны оддышэ, то быг за свынню запышэ.* Сіманавічы Драг.

АДДЫХНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і а д д ы́ х а ц ь. *Гараў валамі дзядук і паставіў валы аддыхнуць.* Грыкені Вільн.

АДДЫ'ШКА *ж.* Адпачынак. *Ні аддышка, ні работа.* Альхоўка Навагр.

АД'Е'СЦІ *зак.* ◇ *Ад'есці зубы* — нагнаць аскому. *Яблык кіслы, ад'ела зубы, не ўкушу і хлеба.* Старыя Смільгіні Воран. *Ад'еў зубы, такі кіслы яблык.* Быстрыца Астр.

АДЖА'РЫЦЬ, АТЖА'РЫЦЬ, АТША'РЫЦЬ *зак. экспр.* Моцна набіць, адлупцаваць. *От набіў, от аджарыў.* Чычалі Швянч. *Як вазьму розгу, так аджару!* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Атжарыў дзецям скарачом. Матка атжарыла Януку.* Старыя Смільгіні Воран. *Дзіця атшарыла карачом.* Жылі Іўеў.

АДЖЫВА'ЦЬ *незак.* 1. Дажываць. *Жыву, аджываю і смерці чакаю.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Зношвацца. *Санкі ўжо аджываюць.* Судэрва Вільн.

АДЖЫВІ'ЦЬ *зак.* Ажывіць. *Аджывіла яго на сваю галаву.* Ёдлавічы Брасл.

АДЖЫМА'ЦЦА *незак.* Мыць бялізну. *Буду аджымацца ў начоўках, а паласкацца на рэчцы.* Кураполле Паст.

АДЖЫМА'ЦЬ, ОДЖЫМА'ТЫ *незак.* Тое ж, што і а д ж ы м á ц ц а. *Плацё трэба аджымаць.* Міратычы Карэл. *Трэба бялізну аджымаць у начоўцы.* Старыя Смільгіні Воран. *Даўна плацця аджымалі нагамі: папарыць у жлукце і ў ногі аджымая.* Вецярэвічы Пух. *Адажму і буду палакáць.* Кіралі Шчуч. *У начоўках аджымаюць, у халоднай вадзе паласкалі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сарачкі аджымаюць і палошчуць.* Навасёлкі Свісл. *Пайду плацё аджымаць, у халоднай вадзе паласкаць, лугам аджымалі плацё.* Масілавічы Сл. *Мая маці аджымала нагамі плацё.* Малахоўцы Бар. *Я одэжу оджымаю.* Сіманавічы Драг.

АДЖЫ'МЫ толькі *мн.* Макуха. *Аджымы бралі, цялят паілі.* Бакшты Іўеў.

АДЖЫ'ЦЬ *зак.* 1. Ачуняць. *І ён аджыў.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Пражыць (век). *Прабабка аджыла дзевяноста восем гадоў.* Мішневічы Шум.

АДЖЭ'РГАЦЬ *зак.* Пераступіць (назад). *Аджэргай назат, а то расці ня будзя.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *žeñgti* 'пераступіць'.

АДЗАЛЕ'ЦЬ *зак.* Вымакнуць (пра пасевы). *Адзалела жыта.* Ахрэмаўцы Брасл.

АДЗДАРАВЕ'ЦЬ *зак.* Паздаравець. *Мала-веле — і адздаравела.* Пацаўшчына Дзятл.

АДЗЕ'ЖА *ж.* 1. Адзенне. *Адзежы многа.* Рыбчына Віл. *Яе адзежа яшчэ ў мяне.* Саланое Віл. *Із адзежы дала і так.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вот у яе адзежы, на ўсю вёску хвaціла п, ўсю вёску адзеў бы.* Кураполле Паст. *Адзежу справіла.* Жодзішкі Смарг. 2. Бялізна. *Буду адзежу мыць.* Груздава Паст., Рыбчына Віл. *Даўней адзежу ў дзешкі складалі і лугам залівалі, камення грэлі і садзілі* [апускалі каменне ў дзежку], *там парылася.* Янова Рас. *Адзежу нада пакачаць.* Груздава Паст., Пацаўшчына Дзятл. *Наскідала гурту адзежы.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

АДЗЕ'ЖКА, АДЗЕ'ШКА *ж. памянш.* да а д з é ж а. *От адзежкі што яна маіць!* Кураполле Паст. *Сколькі адзешкі мела і вобую.* Груздава Паст.

АДЗЕ'ЖЫНА *ж.* Адзін з прадметаў адзення. *Падол у адзежыне абарваўся.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Адзежына кароткая гэта.* Чычалі Швянч.

АДЗЕ'НЕ, АДЗЕ'НЁ, АДЗЕ'НЯ *н.* 1. Тое ж, што і а д з é ж а 1. *Бацьком адзене пакупіўшы.* Старыя Смільгіні Воран. *Адзене новае ў яго.* Грыкені Вільн. *Адзенё мушчынскаё і бапскоё.* Міратычы Карэл. *Вайной адзеня не было. То яны былі адзеня пахаваўшы.* Паляцкішкі Воран. *Адзеня дзецям купіць.* Вялікія Баяры Шчуч., Каўняны Гродз. *Адзеня вывезлі.* Лай-

пушкі Ігн. 2. Тое ж, што і а д з е́ ж а 2. *Лугу с попелу наробім, адзене моем.* Ракаўскія Швянч.

АДЗЕ′РЖЫЦЦА *зак.* Спыніцца. *Бягом бегла і адзержылася тут лі хаты.* Кураполле Паст.

АДЗЕ′РЖЫЦЬ *зак.* Спыніць. *Каня адзержыць трэба.* Магуны Паст.

АДЗЕ′РЦІ *зак.* Ададраць. *Адзерыш лісцінку — хлеп укусны.* Мішневічы Шум.

АДЗЕ′ТАК *м.* Тое ж, што і а д з е́ ж а 1. *Абутку і адзетку хватая.* Гайна Лаг.

АДЗЕ′ТЫ *дзеепрым.* 1. Добра апрануты. *Яна адзета хорашанька, і ён адзеты.* Альхоўка Навагр. 2. Забяспечаны адзеннем. *У мяне дзіця адзета.* Лоск Валож.

АДЗЕ′ЦЦА *зак.* 1. Набыць неабходнае адзенне. *Купім ёй адзецца.* Дакудава Лід. 2. Мець адзенне. *Маладуха багата, мае чым адзецца.* Стральцы Шальч. *У яе ест і адзецца і абуцца.* Швэды Вільн.

АДЗЕ′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і а б д з е́ ц ь 1. *Адзела дзеці.* Альхоўка Навагр. *Адзей яго і раздзей.* Паляцкішкі Воран. *Другія панчохі адзену.* Старыя Трокі Трак.

АДЗЕ′ШКА *гл.* АДЗЕ′ЖКА

АДЗЁНАК *гл.* АДО′НАК

АДЗЁР I *м. мед.* Дзіцячая хвароба. *Адзёр як выступіць, як мак. Ён забалеў адром.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* польск. *odra* 'тж'.

АДЗЁР II *м.* Падмосткі пад вуллі, што ўстанаўліваюцца на дрэве. *Адзёр рабілі ад мядзведзя, каб не мог узлесці на дзераво, у тры рады клалі доскі на метр шырыні, гвазды прадоўбалі і кругом дзерава клалі памост.* Дзяніскавічы Ганц. *Адзёр, адры былі некалі, вуллі ставілі, каб мядзведзь не залес.* Рыбчына Віл.

АДЗІ′МКІ *мн.* Зазімак. *Першы снег выпадзіць і згоніць — адзімкі.* Пасіене Лудз.

АДЗІ′МНІЦЬ *зак.* Астыць. *Адзімніла паветра за гэты холад.* Лайпушкі Ігн.

АДЗІ′Н 1. *ліч.* Адзін. *Адзін аднага б'ець.* Груздава Паст. *Адзін за адным так дрыжэлі.* Саланое Віл. *Па нном паедуць.* Дзяніскавічы Ганц. *Белыя штанішкі адныя і кашуля адна.* Чычалі Швянч. 2. Адзінокі. *Лепі ніхай будзя ў полі камянь адзін, як чалавек адзін, звер і той не хоча адзін быць.* Альхоўка Навагр. ◇ *Адзін-адзін, адзін-адзіненькі, адзін-адзінюткі. Ён адзін-адзін быў у ёй.* Саланое Віл. *Адзін-адзіненькі жыве на чужыне.* Альхоўка Навагр. *Ён у мяне адзін-адзінюткі.* Каўняны Гродз.

АДЗІНА′К, ОДЫНА′К *м.* Адзіны ў бацькоў сын. *Ён адзінак у бацькоў — усё жыццё калыханы на далані, не служыў у войску. З адзінака — слабы чалавек. Ён нічога не ўмея, ніко-*

*му ня ўступя, трэба скакаць толькі яму.* Граўжышкі Ашм. *Був одынак, всэ батьковэ полэ ёму.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* польск. *jedynak* 'тж'.

АДЗІНАЛІ'ЧНА *прысл.* Аднаасобна. *Хоць халадно было, але гэтым врэмем пасвілі каравы адзіналічна.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* руск. *единоличный* 'тж'.

АДЗІНА'СЬЦЯ *ліч.* Адзінаццаць. *Пятнасьця кіль ці адзінасьця.* Жодзішкі Смарг.; *параўн.* польск. *jedenaście* 'тж'.

АДЗІНА'ЦАЦЕРА *зб. ліч.* Адзінаццаць. *У маей мамы адзінацацера дзяцей было.* Саланое Віл.

АДЗІНА'ЧКА, ОДЫНА'ЧКА *ж.* Адзіная дачка ў бацькоў. *Ёй ўсё дастанецца, бо яна адзіначка ў бацькоў.* Граўжышкі Ашм. *Вона ў іх одыначка була, всякы вборы ля ёі купляли.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* польск. *jedynaczka* 'тж'.

АДЗІНІ'ЦА, ОДЫНИ'ЦЯ *ж.* Тое ж, што і а д з і н а́ ч к а. *Ні братоў, ні сясцёр німа ў яе — адзініца яна ў сям'і.* Паляцкішкі Воран. *Як одыныця, то чы розгульна, чы п'яныця.* Сіманавічы Драг.

АДЗІНО'К *м.* Той, хто жыве без родных, без сям'і. *Адзінок самотна жыве.* Жылі Іўеў.

АДЗІНО'КІ *прым.* Які жыве адзінока. *Ён адзінокі і яна адзінокая, бязродная.* Рудня Астравітая Чэрв.

АДЗІНО'ТА *ж.* Самотнасць. *Сядзеў на адзіноця каля лесу.* Рыбчына Віл.

АДЗІЯ'ДЛА, АДЗІЯ'ДЛО, АДЗІЯ'ЛА, ОДЫЯ'ЛО *н.* Коўдра. *Сеў на адзіядла.* Старое Сяло Зэльв. *Адзіядла на голаў — і спіць.* Кіралі Шчуч. *Ва́лу спрадзе, вычча і адзіядло шые.* Мсцібава Ваўк. *Дзве байкавыя адзіялы купіла ўкрывацца.* Вецярэвічы Пух. *Як Грыпа купыла одыяло, то Мыкыта кажэ: «Моя Грыпа купыла някого одыйвола».* Сіманавічы Драг.; *параўн.* руск. *одеяло* 'тж'.

АДЗЯ'БЛІЦЬ *зак.* Узараць на зіму. *Адзябліў усё на вясну.* Жылі Іўеў.

АДЗЯВА'ЦЦА *незак.* 1. Апранацца. *Адзявайся, Валодзя, пайдзём.* Лоск Валож. 2. Накрывацца. *Калісьці ткалі самі: ткалі ў рады палатно і шшывалі ў шэсць полак, туды ўкладалі суконнэ дзярушкі і адзяваліся, гэто дзяруга адзявацца.* Дзяніскавічы Ганц.

АДЗЯВА'ЦЬ *незак.* 1. Апранаць, адзяваць. *Я дзіця адзяю.* Альхоўка Навагр. *Жукетку трэба адзяваць.* Дзяніскавічы Ганц. *Мяне лепш адзяваць, як карміць.* Мсцібава Ваўк. *Гальку адзяюць пад спот.* Дакудава Лід. *Адзяваць кашулю, кажух.* Чычалі Швянч. 2. Абуваць. *Адзяваць чаравікі.* Чычалі Швянч.

АДЗЯ'НЕ *н.* Тое ж, што і а д о́ н а к 2. *Адзяне сцелеца пат стох.* Воўкуш Ліпск.

АДКРЫВА'ЦЬ *незак.* Распачынаць. *У касцеле бой адкрывалі.* Старыя Трокі Трак.

АДЛАЖЫ′ЦЬ *зак.* Адпрэгчы. *Адлажы каня і завядзі ў хлеў.* Паляцкішкі Воран.

АДЛЕ′ГА, АТЛЕ′ГА, АДЛІ′ГА, АТЛІ′ГА *ж.* Адліга. *Сяння адлега, са стрэх цячэ.* Рыбчына Віл. *Снех расходзіцца — атлега.* Асавец Віл. *Адліга будзіць — сала мягкая.* Ёдлавічы Брасл. *Сягоння адліга, сонца ня відна, дыхаць няма чым.* Жодзішкі Смарг. *Сёня адліга, няма марозу.* Кіралі Шчуч., Беняконі Воран. *Мяккі вецяр падаецца, будзе адліга.* Бакшты Іўеў. *Адліга, ужо марос атсеў.* Альхоўка Навагр. *Адліга настала, пацеплела.* Альхоўцы Лях. *Атліга стала, іс стрэх пацякло.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *atlydà* 'тж' (ЛТ, 164).

АДЛЕ′ГЛЫ *прым.* Адхонны. *Адлеглая страха можа зарастаць.* Малькуны Ігн.

АДЛЕ′ГЧЫ *зак.* ◇ *Адлегчы ад сэрца* — супакоіцца, прыйсці ў нармальны стан, адчуць палёгку. *Але ваўчыца прабегла, а за ёй ваўкі — у мяне адлягло ат сэрца.* Журыхі Віл.

АДЛЕ′ЖЫЦЦА *зак.* Вылежацца (пра лён). *Як лён адлежыцца, пабіраям у кулі.* Дакудава Лід. *Пасцеліш лён, ён адлежыцца, тады пабіраеш.* Беняконі Воран.

АДЛЕ′ЖЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і а д л е́ ж ы ц ц а. *Лён сцелюць на сенажаць, як адлежыць, падбіраюць, вяжуць у кулі, вязуць у лазню.* Паляцкішкі Воран.

АДЛЕ′ЧУВАЦЬ *незак.* Вылечваць. *Лішаі былі, нічым не адлечвалі, толькі салідолам лішаі адлечуюць.* Жылі Іўеў.

АДЛЁТУВАЦЬ *незак.* Адлятаць. *Пташкі будуць адлётуваць.* Старыя Смільгіні Воран.

АДЛІ′ГА *гл.* АДЛЕ′ГА

АДЛІ′ЖНЫ *прым.* Цёплы, звязаны з адлігай. *Хляпаўка бывая, калі адліжная пагода.* Крэва Смарг.

АДЛІ′ЦЬ *зак. перан.* Адлупцаваць. *Узяў паса і адліў яму.* Жылі Іўеў.

АДЛІЧА′ЦЬ *незак.* Адрозніваць. *У сваей вёсцы мы не адлічаем разгавор.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* руск. *отличать* 'тж'.

АДЛО′ЖНЫ *прым.* Тое ж, што і а д л е́ г л ы. *Тут берах у рэчцы адложны.* Вязынка Маладз.

АДЛО′Х *м.* Тое ж, што і а б л о́ х. *Адлох—непаханая зямля.* Паляцкішкі Воран. *Пагонім быдла на адлагі.* Старыя Смільгіні Воран. *Поля ляжала адлогам, не гаралі, хай паляжыць з гот ялавінаю.* Кіралі Шчуч. *Адлох — як два лет не гаруць зямлю.* Рыгалоўка Ліпск.

АДЛУПІ′ЦЬ, АТЛУПІ′ЦЬ *зак.* 1. Адлупцаваць. *Я атлуплю абаём, будзяце плакаць.* Паляцкішкі Воран. 2. Ададраць, адскрэбці. *Фарбу не адлупіш ад сцяны.* Старыя Смільгіні Воран.

АДЛУЧА′ЦЦА *незак.* 1. Аддзяляцца, адставаць. *Карэня ў лёня ні адлучаецца.* Дакудава Лід. 2. Састойвацца. *Нада*

*стаўляць малако ў цёплая места, каб адлучалася смятана.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

АДЛУЧА'ЦЬ *незак.* Аддзяляць. *Пасля разбіраюць кабана, адлучаюць сланіну і кумпякі.* Альхоўка Навагр.

АДЛУЧЫ'ЦЬ *зак.* 1. Адняць. *Адлучыць мама дзіця ад цыцкі, і я гадавала.* Новікі Гродз. 2. Адсадзіць, аддзяліць. *Нада адлучыць цялюка ад каровы.* Ліпнікі Вільн. 3. Аддзяліць ад чаго-н. *Ён адлучыць сямяна* [у лёне] *на грабялкі.* Дакудава Лід. *Масла ад маслянкі трэба адлучыць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Адлучыла цеста і на печ паставіла.* Магуны Паст.

АДЛУШЧА'ЦЦА *незак.* Аддзяляцца. *Косткі самы адлушчаюцца* [ад мяса]. Ахрэмаўцы Брасл.

АДЛУ'ШЧЫЦЦА *зак.* Разварыцца. *Бульба троха адлушчылася, буду вымаць з печы.* Жылі Іўеў.

АДЛЮ'ДНЫ *прым.* Нелюдзімы. *Адлюдны, непрытульны да людзей, сам с сабой.* Ракаўскія Швянч. *Адлюдны ён чалавек.* Старыя Трокі Трак., Быстрыца Астр. *Адлюдны чалавек.* Грыкені Вільн.

АДЛЯГА'ЦЬ *незак.* 1. Папраўляцца, пераходзіць у нармальны стан. *Пухліна спала з нагі, адлягая нага.* Бакшты Іўеў. 2. Адтайваць. *Зямля адлягаць будзя, як дошч памоча, яна памякчэя.* Азяраны Раг.; *параўн.* літ. *atlégti* 'тж'.

АДЛЯТА'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і адлётуваць. *Гракі адлятаюць на зіму.* Мсцібава Ваўк. 2. Аддзяляцца. *Кастра адлятала, як трапалі.* Грыкені Вільн.

АДЛЯ'ТУВАЦЬ *незак.* 1. Адлятаць, абломлівацца. *Ячмень пераспеў, каласы адлятуюць.* Альхоўцы Лях. 2. Адставаць, адвальвацца. *У етага вобуую скора адлятуюць каблуке.* Вецярэвічы Пух.

АДЛЯЧЫ'ЦЬ *зак.* Вылечыць. *Доктар адлячыў.* Крэва Смарг.

А'ДМАЛАДЗЬ *ж.* Амаложванне. *Кінуў курыць — на адмаладзь пашоў.* Саланое Віл.

АДМА'ЛАСЦІ *прысл.* Змалку. *Ты і памятушчая адмаласці. Я адмаласці рабіла цяшка, да работы прывыкла, жылі адмаласці ў беднаце.* Кураполле Паст.

АДМАЛЕ'ЦЬ *зак.* Здзяцінець. *Адмалела, як хлуса́ зрабілася я.* Крэва Смарг.

АДМА'ЛКУ *прысл.* Тое ж, што і адма́ласці. *Адмалку нешта ей стаўшы.* Магуны Паст.

АДМАЛЯВА'НЫ *дзеепрым.* Пафарбаваны. *Тая драбінка адмалявана.* Чычалі Швянч.

АДМАРАЗІ'ЦЬ *зак.* Адмарозіць. *Яна рукі і ногі адмаразіла.* Мішневічы Шум. *Рукі быў адмаразіў.* Магуны Паст.

АДМЕ'НІВАЦЦА *незак.* Змяняцца. *Дзеравянка расце на*

*балоце, кароценькі карэньчык, трэба ў вотку, бо так ён адменіваецца.* Дакудава Лід.

АДМЕ′ННА *прысл.* Адметна. *Гэта мала адменна — ці так сказаць, ці так.* Паляцкішкі Воран.

АДМЕ′ННЫ *прым.* Добры, выдатны. *Калісь былі адменныя сохі.* Паляцкішкі Воран.

АДМІРА′ЦЬ *незак.* 1. Траціць прытомнасць. *Дзяўчына стала адміраць.* Лоск Валож. 2. Дранцвець. *Пальцы адміраюць.* Быстрыца Астр.

АДМО′ВІЦЬ *зак.* Не задаволіць просьбу. *Як просіць — не адмовіш дзіцяці.* Паляцкішкі Воран.

АДМЫ′КАНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і а д а м к н ё н ы. *Я адмыканую хату не кідаю.* Вецярэвічы Пух.

АДМЫСЛО′ВЫ *прым.* Тое ж, што і а д м е́ н н ы. *Адмысловы яшчык рабілі з дзерава.* Магуны Паст. *Было адмысловая жалеза.* Крэва Смарг. *У каго адмысловая каробачка, а ў каго ў крусцы ў стальной.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

АДМЯНІ′ЦЦА *зак.* Перамяніцца, стаць іншым. *Мужык ажэніцца і адменіцца.* Кураполле Паст. *Як сын жаніўся, так адмяніўся.* Жылі Іўеў. *Як ажаніўся — прама чалавек адмяніўся, Косця найлепшы стаў.* Саланое Віл.

АДМЯНІ′ЦЬ *зак.* Падмяніць. *Німа мяне адмяніць каму, пакуль і ні аблягу.* Жылі Іўеў.

АДМЯНЦІ′ЦЬ *зак. экспр.* Адлупцаваць, моцна пабіць. *Узяў бы качаргу ды адмянціў бы табе.* Бакшты Іўеў.; *параўн. мянціць* 'вастрыць касу'; *мянта́шка* 'лапатка для вастрэння касы' < літ. *mentė̃* 'тж'.

АДНА′, АННА′, АДНА′Я *ліч.* 1. Колькасць, якая абазначаецца лічбай 1. *Бяжы адна.* Дзяніскавічы Ганц. *У аднэй руцэ дзяржыць.* Швэды Вільн. *Адная стаю пры печы.* Старыя Смільгіні Воран. *Суседзі бралі адну дошку.* Паляцкішкі Воран. 2. у знач. *прым.* Асобна ад іншых, у адзіноце. *Я адна жыву.* Лісна В.-Дзв. 3. у знач. *прым.* Тая самая. *Аднае бабы дзеці.* Альхоўка Навагр. *Аднаею разораю ходзяць.* Стары Свержань Стаўб. 4. у знач. *займ.* Выдзяленне асобы з якой-н. катэгорыі. *Ні ў аднэй дзеці не было.* Ахрэмаўцы Брасл.

АДНАГА′ *ліч. род.* Аднаго. *Мне без аднага восемдзесят гадоў.* Саланое Віл. *Адзін аднага б'ець.* Груздава Паст.

АДНАГЛА′ЗЫ *прым.* Аднавокі. *Яна аднаглазая, а долга быць аднаглазай?* Ахрэмаўцы Брасл.

АДНАГО′ДАК *м.* Равеснік. *Зэнон з Януком аднагодкі.* Чычалі Швянч. *Яны аднагодкі.* Бенякoні Воран.

АДНАГО′ДКА, АДНАГО′ТКА *ж.* Равесніца. *Гэта мая аднагодка, а выглядзіць старэй за мяне.* Азяраны Раг. *Яна аднаготка з ягонай сястрой.* Валынцы В.-Дзв. *Наша Манька аднаготка з ім.* Сакаўшчына Валож.

АДНАГО'ДНІК *м.* Тое ж, што і а д н а г о́ д а к. *Мой аднагоднік памёр.* Ахрэмаўцы Брасл.

АДНА'КАВА, АДНАКО'ВА *прысл.* Аднолькава. *У Кураполлі аднакава німожна праехаць.* Магуны Паст. *Мы аднакова гаворым.* Паляцкішкі Воран. *Не аднакова людзі гавораць і ў вёсках.* Старое Сяло Зэльв.; *параўн.* польск. *jednakowo* 'тж'.

АДНА'КАВЫ, АДНАКО'ВЫ *прым.* Аднолькавы. *Ён аднакавы і выпіўшы і не выпіўшы.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Не ўсе людзі аднаковыя.* Малахоўцы Бар.

АДНАЛІ'КІ *прым.* Аднолькавы па этнічнаму складу. *У нас адналікі народ, прыезных нема.* Відаўцішкі Вільн.

АДНАЛІ'ЧНА *прысл.* Аднаасобна. *Жылі адналічна.* Быстрыца Астр.

АДНАЛІ'ЧНІК *м.* Аднаасобнік. *Як былі адналічнікі, ездзілі касіць туды.* Старыя Трокі Трак. *Адналічнікамі раней жылі.* Быстрыца Астр.; *параўн.* руск. *единоличник* 'тж'.

АДНАРО'ЧНІЦА *ж.* Тое ж, што і а д н а г о́ д к а. *Яны аднарочніцы абедзве.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *jednoroczny* 'аднагадовы'.

АДНАСЕ'ЛЛЕ *н.* Хутар. *Жыць на аднаселлю, як на васэлю, нічыя курыца не прыдзя ў агарот.* Граўжышкі Ашм.

АДНАТВО'РНЫ *прым.* Аднастворкавы. *Былі аднатворныя дзверы.* Ахрэмаўцы Брасл.

АДНО', АДНО'Я *ліч.* Адно. *Адно дзіця — ні дзіця. Адно па другом скучаюць.* Дзяніскавічы Ганц. *Адноя цяля, адноя парася.* Старое Сяло Зэльв.

АДНО'ЛЕТКІ *мн.* Маладыя парасткі. *Аднолеткі — калі вясною адрастаюць адросткі.* Данілавічы Дзярж. *Чатыры аднолеткі на хвойцы.* Альхоўцы Лях.

АДНО'ШАНЫ *дзеепрым.* Які выйшаў з ужытку. *Хадакі — адношаны обуй.* Індра Красл.

АДНО'Я *гл.* АДНО'

АДНЫ', АДНЫ'Я *ліч.* 1. Адны. *Адныя асталіся.* Старое Сяло Зэльв. *Паправілі адныя калёса.* Малахоўцы Бар. 2. Толькі адны, без іншых. *У Гайлешах адны старабрацці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лес густы, адныя кусты.* Альхоўцы Лях.

АДНЯСЦІ' *зак.* Аднесці. *Шўшкевіч аднёс грошы.* Старое Сяло Зэльв.

АДНЯ'ЦЦА *зак.* Перастаць дзейнічаць. *Адняліся бабі ногі і рукі.* Мсцібава Ваўк.

АДО'НАК, АДЗЁНАК *м.* 1. Подсціл пад стог, стажар'е. *Астаткі пазбірай на адонку.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дзелаюць адонак: наб'юць палачак, высцілаюць лазоі, каб сена зямлі не даставала.* Азяраны Раг. *Адзёнак пат стох, пат ніс пакладаюць.* Данілавічы Дзярж. *Пат стох робяць адзёнак — сякуць лазу, бярозу, хвою і вышы кален накладаюць, і то замакая*

*сена.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* ДАБМ, карта № 287. 2. Палянка. *Там і адонкі пракідаліся.* Мачаск Бярэз.

АДО′ННЕ, АДО′ННЯ *н.* Тое ж, што і а д о́ н а к 1. *Адонне — дзе і на чым стаіць стох.* Ухвала Круп., Беразіно Докш., Глівін Барыс. *Адоння з галля зрабіў.* Саланое Віл.

АДО′РАК *м.* Папярочная баразна. *Адорак — упоперак барозны, кап узяць шчыгульна.* Крэва Смарг. *Адгорая адорак.* Быстрыца Астр.

АДО′РВАЦЬ *незак.* Пераворваць. *Поля пасля гароху і выкі можна смела адорваць.* Крэва Смарг.

АДРАБІ′ЦЬ *зак.* 1. Адплаціць работай. *Я касцоў папрасіла скасіць — трэба ім адрабіць.* Альхоўка Навагр. 2. Адпрацаваць. *Я дзеўкай рабіла, цяпер адрабіла я ўжо, няма здароўя.* Ракаўскія Швянч. 3. Зняць чары, вярнуць у ранейшы стан. *Вядзьмар, бапкі казалі, мох зрабіць і адрабіць.* Малахоўцы Бар.

АДРАБЛЯ′ЦЬ *незак.* Адплачваць работай. *Бывала пану адраблялі за карову, што пасвілі ў лесі, пяць дзён за адну карову.* Кіралі Шчуч. *Я зарабіла касцоў, двом не адрабляла.* Альхоўка Навагр. *Мая матка ходзіла адрабляць пану тыждзянь.* Малыя Аўцюкі Калінк.

АДРАЗА′ЦЬ *незак.* Адразаць. *Адразай нажом.* Грыкені Вільн.

АДРАКА′ЦЦА *незак.* Пакідаць, адмаўляцца. *Бывае і матка адракаецца дзяцей.* Вецярэвічы Пух.

АДРА′ННЯ *прысл.* Зранку. *Панчохі рабіла адрання.* Магуны Паст.

АДРАНЦВЕ′ЦЬ *зак.* Здранцвець. *Рука аж адранцвела.* Пузыры Мядз.

АДРАТАВА′ЦЬ *зак.* Выратаваць. *Яго п адратавалі, дойга ляжаў, плуцы адбіў.* Старыя Трокі Трак.

АДРАЧЫ′СЯ, АТРАЧЫ′СЯ, АДРАКЦІ′СЯ *зак.* Пакінуць, адмовіцца. *Ён адрокся дзяцей.* Вялікія Баяры Шчуч. *Унук атрокся мяне, не начуіць.* Валынцы В.-Дзв. *Адраклася ад яе і маці.* Талейкі Швянч.

АДРЫВА′ЦЬ *незак.* ◇ *Хоць адрывай пальцы* — моцна балець, цярпець невыносны боль. *Баліць нага — хоць адрывай пальцы!* Паляцкішкі Воран.

АДРЫ′НА, АДРЫ′НЯ, АНДРЫ′НА *ж.* Пуня. *Ідзі, можа Мечык у адрыне?*Ністанішкі Смарг. *Былі ў дварох адрыны.* Паляцкішкі Воран. *Падваротніца каля парогу ў адрыне заклададаласа.* Воўкуш Ліпск. *Адрыня была для сена.* Магуны Паст. *Цяпер адрыняў няма.* Лайпушкі Ігн. *Сена складалі ў андрыне.* Вецярэвічы Пух.

АДРЫ′НКА *ж.* памянш. да а д р ы́ н а. *Ня прыняў адрынку, пустуя.* Паляцкішкі Воран. *У яе зрабілі адрынку, стаяла на бабох.* Сакаўшчына Валож.

АДРЫТВЯНЕ'ЦЬ *зак.* Здранцвець. *Адрытвянела рука.* Вецярэвічы Пух.

АДРЭ'ЗАЦЬ, АТРЭ'ЗАЦЬ *зак.* 1. Адрэзаць, адкроіць. *Нада кумпіка адрэзаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Атрэш хлеба.* Лоск Валож. 2. Адцяць. *Адрэжу яму хваста.* Альхоўцы Лях.

АДСТЫ'ГНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і а д з і м н і ц ь. *Ніхай адстыгне трохі яда.* Грыкені Вільн.

АДУБЯНЕ'ЦЬ *зак.* Адубець, амярцвець. *Адубянела ад дурнап'яну, ляжыць і не кратаецца.* Вецярэвічы Пух.

АДУ'КЦЫЯ *ж.* Даведка. *Адукцыю выбралі ў врача.* Скрудалена Даўг.; *парайн.* лац. *adducere* 'прыводзіць'.

АДУ'МАЦЦА *зак.* Успомніць. *Цяпер толькі адумалася пра пісьмо.* Рыбчына Віл.

АДУ'НУЦЬ *зак. безас.* Абадзьмуць. *Карову як адуня ад канюшыны, то алей давалі і вутку* [гарэлку]. Сапоцкіна Гродз.

АДУРНІ'ЦЬ *зак.* Затлуміць, задурыць. *Дзеці ў хаці галаву адурняць.* Валынцы В.-Дзв.

АДУ'ТЛАВЫ *прым.* Азызлы, адутлаваты. *Ён адутлавы, такі ніздаровы, лецЬ ходзіць, зявая, ходзячы па вуліцы.* Міратычы Карэл.

АДУ'ЧАВАЦЬ *незак.* Адвучваць. *Матка адучаваіць ад сіські.* Саланое Віл.

АДХАПІ'ЦЬ *зак.* Адратаваць, выратаваць. *Адхопяць яго, і апяць яму баліць. Іх ў бальніцу палажылі і чуць адхапілі.* Ахрэмаўцы Брасл.

АДХІЛІ'ЦЦА *зак.* Разагнуць спіну. *Рабілі — увесь дзень не адхіліліся.* Бенякені Воран.

АДЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* Выцягнуць. *Адцягні верхнік, хай дым пойдзе.* Грыкені Вільн.

АДЫМА'ЛКА, АТЫМА'ЛКА *ж.* Кавалак грубай тканіны, якой бяруць гаршкі, чыгуны. *Адымалкай гаршкі бяруць — адымаюць.* Вязынка Маладз. *Атымалка катлы браць.* Рыбчына Віл.

АДЫМА'ЦЬ *незак.* 1. *мед.* Ампутаваць. *Паляц балей на руцэ, хацелі адымаць пальца па гэту суставу.* Старое Сяло Зэльв. 2. Знімаць з прыпеку, браць чыгуны. *Няма чым гаршкі адымаць.* Быстрыца Астр. *Адымалкай гаршкі адымаюць.* Вязынка Маладз.

АДЫМА'ЧКА, АДДЫМА'ЧКА, АТЫМА'ЧКА, АТЫМА'ШКА *ж.* Тое ж, што і а д ы м á л к а. *Адымачка — трапка, што саганы бяруць.* Кураполле Паст. *Адымачка гаршкі адымаць.* Старыя Смільгіні Воран. *Адымачка — трапка для цаганоў.* Альхоўка Навагр. *Бяры аддымачкай чыгун, а то рукі папячэш.* Паляцкішкі Воран. *Атымачкай гаршок с печы дастаём.* Жодзішкі Смарг. *Атымачкі вымыла чыста.* Лоск Валож. *Я знаю, якая трапка да чаго: сціркa, атымашка.* Кураполле Паст.

*Атымашкай катлы с печы здымаюць, бульбу атцэджваюць.* Груздава Паст.

АДЫСЦІ′ *зак.* 1. Аддаліцца. *Ад нас адышоў дошч.* Граўжышкі Ашм. *Адыдзі — натрусіш у малако!* Номікі Бабіц. 2. Скончыцца, завяршыцца. *Жалобны абет адышоў — яна паказала дакумент.* Індра Красл. 3. Прыйсці ў нармальны стан, супакоіцца. *Адвалілася баба ад стуку грому, алі адышла.* Саланое Віл. *Адышла нага, пухляціна адышла.* Номікі Бабіц.

АДЫСЦІ′СЯ *зак.* Адысці. *Адышоўся далёка.* Старыя Трокі Трак.

АДЫХНУ′ЦЬ *зак.* Адпачыць. *Адыхнула я добра.* Саланое Віл. *Паляжы, адыхні.* Кураполле Паст.

АДЭ′ТКА *ж.* Горшы гатунак льновалакна і палатно з яго. Грыкені Вільн.

АДЭ′ТУЛЬ *прысл.* Адгэтуль. *Адэтуль вецер — марос будзя.* Малахоўцы Бар.

АД′ЯДА′ЦЬ *незак.* ◇ *Сэрца ад'ядаць* — нерваваць. *Дакуль ты будзеш сэрца ад'ядаць?* Сакаўшчына Валож.

АД′Я′ТРЫВАЦЦА *незак.* Зноў запаляцца, чырванець. *Патсыхая ранка, а патом ізноў закраснее, ад'ятрываецца.* Малахоўцы Бар.

АЖ, АШ *узмацн. часц.* Аж. *Дастаткова, аж замнога. Хватіт з ёго, аж, аж.* Курашэва Чыж. *Аш там спыніўшы стаялі.* Альхоўка Навагр. *Аш мяне злосць бярэ.* Крынкі Крын.

АЖАВІ′НЫ, АЖЫ′ВІНЫ *мн.* Ажыны. *Ажавіны, як маліны, толькі чорныя.* Беразіно Докш. *Ажавіны ядуць.* Мярэцкія Глыб. *Ажывіны дзе-небудзь растуць, раней многа было, але павырубілі, павыпалілі.* Вялікі Лес Круп.

АЖАЛЕ′ЗІЦЦА *зак.* Зрабіцца цвёрдым ад доўгага ляжання ў вадзе. *Ажалезіцца дзерава і можа сто лет ляжаць у вадзе.* Вецярэвічы Пух.

АЖАМЕ′РКІ толькі *мн.* Жамерыны. *Як выжымаеш што, астаюцца ажамеркі, ашакі ат кіселя і др.* Валынцы В.-Дзв. *Колі стаўчы ды працадзіць каноплю — астаюцца ажамеркі. Ажамеркі ат ягат, ат воску.* Лісна В.-Дзв. *Ат цэду ажамеркі астаюцца.* Янова Рас. *Былі ціскі, шылаваты мяшок, гэтым алей ціскалі, астаюцца ажамеркі ад алею.* Кураполле Паст.

АЖАМЕ′РЫНЫ толькі *мн.* Тое ж, што і а д ж ы́ м ы. *З ажамерынаў какоркі пяклі, смашна пахнулі.* Кураполле Паст.

АЖАРГА′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і а б ж э́ р г а ц ь. 1 *Ён ажаргаў палена, кій — і гэта нібы на кані едзе. Яго нада нагой ажаргаць. Бывала, гуляем, пусты ліжак ажаргаем і ездзім, як на кані.* Кураполле Паст.

АЖМАКІ′ толькі *мн.* Тое ж, што і а ж а м е́ р к і. *Ажмакі — адходы ад воску.* Ухвала Круп.

А′ЖНА, А′ЖНІ, А′ЖНО′ *узмацн. часц.* Тое ж, што і а ж.

*Еў-еў, ажна піць захацеў.* Кураполле Паст. *Рабіў доўго, ажні прыстаў. Палола капусту, ды ажні ашаламілася.* Дзяніскавічы Ганц. *Мусіць, ажні на абедзя будзе каравай.* Квачы Нясв. *З Гродна ажні прыехаў па горэхі.* Хатынічы Ганц. *Много ткалі, áжно вошы завядуцца, ткучы.* Дзяніскавічы Ганц. *Вэчэраімо мэ, ажнó Наталка і Гана прышлэ.* Радастаў Драг.

АЖО'ГЛА *ж.* Рашучая, бойкая жанчына. *Гэта ажогла свайго даб'ецца.* Каўняны Гродз.

АЖЫ'ВІНЫ *гл.* АЖАВІ'НЫ

АЖЫ'МКІ толькі *мн.* Тое ж, што і а ж а м é р к і. *Ажымкі ад кісялю.* Мярэцкія Глыб. *Як той казаў, усё люблю, ем, толькі кісялёвых ажымак ня ем і дзёгцю ня п'ю.* Кураполле Паст. *Ажымкі—ат канаплі, ат семя атходы.* Індра Красл. *Ажымкі — як алей выціснулі.* Беразіно Докш.

АЖЫ'НЫ *мн.* Тое ж, што і а ж а в í н ы. *Ажыны ў нас растуць, ажын набралі.* Дзяніскавічы Ганц. *Ажыны чорныя, як паспеюць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ідзем па ажыны, яны вялькія, аш блішчаць, чорныя.* Кіралі Шчуч. *Па канаве млынарскай за млынам і каля рэчкі много ажынаў.* Альба Нясв. *Ажынаў набрала.* Пасека Ст.-Дар.

АЖЫ'ННІК *зб. м.* Кусты ажыны. *Ажыннік расце ў нашым лесе.* Вялікія Баяры Шчуч. *Тут многа ажынніку.* Кіралі Шчуч.

АЖЫ'ЦЬ *зак.* Аджыць. *Ажыў і ніпрытомны быў.* Альхоўцы Лях. *Дай бог, каб не ажыць, як закапаюць.* Саланое Віл.

АЖЭ'ВІНЫ *мн.* 1. Тое ж, што і а ж а в í н ы. *Ажэвіны растуць у лесі.* Вецярэвічы Пух. *Ажэвіны ядуць.* Рыбчына Віл. 2. Жамерыны, макуха. *Ажэвіны з канаплі, як сатрэш і выціснеш — ужэ ажэвіны.* Жодзішкі Смарг.

АЖЭ'ГНУЦЦА *зак.* Перапячыся. *Ажэгнуўся хлеб, прыстае к скарынцы сподняй, а верхняя скарынка адстала. Лячыць нада дзежку, цыбуляй і соллю дно выцерці.* Ухвала Круп.

АЖЭ'ЎНІК *зб. м.* Тое ж, што і а ж ы́ н н і к. *Ажэўнік калючы.* Рыбчына Віл.

АЖЭ'ХЧ *зак.* Апячы. *Пярун можа ажэхч. Пярун стрэліў у проват, уляцеў клубок агню ў хату і Зіню ажох.* Кіралі Шчуч.

АЗА'ДЗІ толькі *мн.* Пазадкі. *Азадзі — атходы пры веянні.* Індра Красл.

АЗАЛЕ'ЦЬ *зак.* Замерзнуць. *Пасадзі ціпер бульбу, азалеіць і будзіць сядзець.* Ахрэмаўцы Брасл.

АЗАРО'Д *гл.* АЗЯРО'Д

АЗАРЭ'ДЗІЦЬ *гл.* АЗЯРО'ДЗІЦЬ

АЗА'ТКІ толькі *мн.* Тое ж, што і а з á д з і. *Азаткі — самае найгоршае збожа, яго ссыпалі асобне.* Стральцы Шальч. *Калі малацілі, пры азатках сабіралі свіням отрубя, дзе дробнянькая.* Ракаўскія Швянч. *Азаткі пры саломцы.* Магуны Паст. *Пры веянні азаткі палучаюцца.* Жодзішкі Смарг.

АЗГАРО′ДА *ж.* Загарадка. *Каля мельніцы азгарода правалачная, вада прахадзіла, а лес аставайся.* Чарняўскія Лудз.

АЗДАЛЯ′ЦЬ *незак.* Перамагаць. *Прырода навуку аздаляіць.* Малькуны Ігн.

АЗЕ′РЦЭ *н. памянш.* да в о́ з е р а. *Там невялікае азерцэ, далей лес.* Талейкі Швянч.

АЗІ′МАК *м.* Зябліва. *Пайду араць азімак.* Рыбчына Віл.

АЗІ′МКА *ж.* Азімая пшаніца. *Азімка узышла.* Рудня Астравітая Чэрв.

АЗІ′МЫ *прым.* Азімы. *Азімае жыто і азімая пшаніца.* Дзяніскавічы Ганц.

АЗІРНА′Я АСО′ТА *гл.* АЗЯРНЫ′Й АСО′Т

АЗЛАБІ′ЦЦА *зак.* Узлавацца. *Ён азлабіўся на майго сына.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* руск. *озлобиться* 'тж'.

АЗМЕ′ЖАК *м.* Папярочныя барозны. *Я і азмежак пасадзіла.* Саланое Віл.

АЗНАЯМЛЯ′ЦЬ *незак.* Азнаямляць, апавяшчаць. *Людзі азнаямляюць пра ўсё.* Граўжышкі Ашм.

АЗРЭ′БЛІВАЦЬ *незак.* Счэсваць зрэб'е. *Лён азрэбліваюць на грэбянь з вялікіх цвікоў.* Рыбчына Віл.

АЗЫ′ЗА *прысл.* Холадна. *На дварэ азыза натта.* Кіралі Шчуч.

АЗЫ′ЗЛЫ *прым.* Апухлы, адутлаваты, ацёчны. *Азызлы чалавек, як вадой наліты.* Граўжышкі Ашм.

АЗЫ′ЗНЯЦЬ *зак.* Апухнуць, ацячы. *Як я азызняла, не магла хадзіць, азызня і ляжыць, ног не пераставіць чалавек. Ён азызняў, страх як.* Альхоўцы Лях.

АЗЫ′РА *прысл.* Тое ж, што і а з ы́ з а. *Азыра сягонечы.* Пацаўшчына Дзятл.

АЗЫ′РАВАТЫ *прым.* Халаднаваты. *Якое паветшэ азыраватэ.* Галубы Маст.

АЗЫ′РНЫ *прым.* Халодны, хлюпотны. *Азырная пагода, дошч са снегам ідзе.* Пацаўшчына Дзятл.

АЗЫ′РЫЦЬ *зак. перан.* Надакучыць. *Азырыў ён мне за дзень.* Скварцы Дзярж.

АЗЯЛЕ′ЗІЦЦА *зак. перан.* Паздаравець, падужэць. *Цяпер азялезілася бабка і нічога.* Кураполле Паст.

АЗЯРКО′ *н.* Тое ж, што і а з е́ р ц э. *У лесе азярко ёсь.* Груздава Паст. *Па азяркох прасякалі пролупкі.* Быстрыца Астр. *Там азяркі такія.* Чычалі Швянч. *Юзэф за азярком жыў.* Грыкені Вільн.

АЗЯРНЫ′ *прым.* Азёрны. *Вада азярная мяхкая.* Ахрэмаўцы Брасл.

АЗЯРНЫ′Й АСО′Т *м.*, АЗІРНА′Я АСО′ТА *ж. бат.* Азёрны асот, разак. *Азярный асот расце кала вады.* Янова Рас. *У азярку яе многа — гэтай азірной асоты.* Ахрэмаўцы Брасл.

АЗЯРО′ *гл.* ВО′ЗЕРА

АЗЯРО′Д, АЗАРО′Д, ЗЯРО′Д *м.* Азярод. *Маюся сказаць пра азяроды: слупы часалі на чатыры канты і зацягалі жэрткі і ў гэты азярод азяродзілі снапы.* Альхоўцы Лях. *Некалі азяроды былі, распіханыя снапы сохлі.* Альхоўка Навагр. *Некалі азяроды былі, азярэдзілі жыта, ячмень.* Бакшты Іўеў. *Канюшыну сушылі ў азяродах, згортвалі ў кучачкі і запіхалі.* Дзяніскавічы Ганц. *Азароды ставіліся, рашатні па баках і жэрткі ўздзяваліся.* Саланое Віл. *Зяроды здзелаў сушыць.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *гл.* ДАБМ, карта № 234.

АЗЯРО′ДЗІЦЬ, АЗЯРЭ′ДЗІЦЬ, АЗАРЭ′ДЗІЦЬ, ЗЯРЭ′ДЗІЦЬ *незак.* Азярэдзіць. *У азярод азяродзілі снапы, вязуць з поля сырыя снапы і засадзяць у азярод, але ж вельмі схнуць і потым на посцілкі і нясуць у гумно.* Альхоўцы Лях. *Азярэдзім аўсом, гарохам.* Данілавічы Дзярж. *Азярэдзілі гарох, цэрадэлу, канюшыну. І цяпер ў пераплёты азярэдзяць. Азярэдзіць — дабро вешаць у азярод. Кулі азярэдзілі ў нас, там мышы так не дабягалі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бульбоўнік азярэдзяць — на азярод нада вешаць.* Гайна Лаг. *А дзе вашы людзі?—Снапы азярэдзяць ў гумне.* Азяраны Раг. *Азарэдзіць трэба ў азароды канюшыну.* Саланое Віл. *Зярэдзіць гарох, траву доўгую.* Рыбчына Віл. *Трэба се́м'я зярэдзіць.* Жыдзевічы Іўеў.

АЗЯРЦО′ *н.* Тое ж, што і а з е́ р ц э. *Азярцо е, памізь яго— дарога.* Дзяніскавічы Ганц.

АЗЯ′ЦЦА *зак.* Узяцца. *Рас азялася — пячы хлеп.* Сваткі Мядз.

АЗЯ′ЦЬ *зак.* Узяць. *Што мне азяць?* Саланое Віл. *Азьмі яблык.* Ністанішкі Смарг. *Хведар, хто азяў пілу? Азяў жонку з другой дзярэўні.* Груздава Паст. *Азяў сякеру і пайшоў.* Лоск Валож. *Азяў абодва рагі сарваў.* Рыбчына Віл. *Чага азяў?* Ністанішкі Смарг. *Дачка азяла́ ягá.* Беразіно Докш. *Не азяла́ ачкі — дрэнна ў галаве. Кап і золата ліжала, я п не азяла.* Кураполле Паст. *Азя́лі маленькую свіначку.* Саланое Віл. *Азьмі сокіру.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Рас азяў і пагнаў дзяўчыну на работу, а яна: «Рабіць не хачу!».* Асавец Віл.

А′ЙСАРГ *м. устар.* Паліцэйскі. *Айсаргі хадзілі па дамах.* Скрудалена Даўг.; *параўн.* лат. *àizsar̃gs* 'тж'.

АЙЧЫ′М *м.* Няродны бацька. *Айчым з намі жыве.* Данілавічы Дзярж.

АК *злуч.* Як, калі. *Гэ ж было, ак гарнізоўвалі холхоз.* Хатынічы Ганц.

АКА′ЗВАЦЦА *незак.* Падаваць вестку, голас. *Так доўго не аказваецца.* Номікі Бабіц.

АКАЛЕ′ЛЫ *прым. груб.* Акалелы, мёртвы. ▽ *Кап іх, акалелых, памылі!* Кураполле Паст.

АКАЛЕ′ЦЬ *зак. груб.* Згінуць, прапасці. ▽ *Кап ты акалела! Акалей яна, такая работа!* Ахрэмаўцы Брасл.

АКАЛІ'ЧНАСЦЬ, ОКОЛЫ'ШНОСЬЦЬ *ж.* Аколіца, наваколле. *Лынтупская гміна — уся акалічнасць.* Чычалі Швянч. *Вся околышносьць до самого Брэсьця про гэтэ відае.* Сіманавічы Драг.

АКАЛО'Т, ОКОЛО'Т *м.* Жытнія снапы пасля папярэдняга ручнога абмалоту. *Абабітыя снапы называлі акалотам. З гэтага акалоту траслі кулі, абмалаціўшы цэпам.* Груздава Паст. *Акалот — нявытрасяна салома.* Стральцы Гродз. *Цапамі памалоцім, астаецца салома — акалот.* Асавец Віл. *Сноп неразвязанага жыта, які абабіты цэпам,— акалот.* Малахоўцы Бар. *Акалот трэба перамалаціць, мо курам шчэ вымалаціш чаго.* Азяраны Раг. *Жыто марнэ, то з ёго околоту мало будэ. Штыры кулі нывʼязаного околоту, а два повʼязаны.* Сіманавічы Драг.

АКАМЁЛАК *м.* Дзяркач. *Акамёлак бралі, падлогу шаравалі ім.* Якубова Рас.

АКАНІ'ЦЫ, АКЯНІ'ЦЫ *мн.* Аканіцы. *У аканіцах завесы падвойныя.* Стральцы Гродз. *Даўней аканіцы былі.* Мсцібава Ваўк. *Аканіцы закрываюць вокна.* Альхоўцы Лях., Дзяніскавічы Ганц. *Акяніцы з двара рабілі.* Стракішкі Трак. *Пайдзі закрый акяніцы, кап не надула снегу.* Кіралі Шчуч.

АКАНО'Н *м. абрад.* Від памінальнай стравы. *Як пахаваюць пакойніка, правяць абед і ставяць аканон на стол. Аканон рабілі так: ваду рассалодзяць або з маку малако і туды крышылі абаранкі або з цеста пакачаюць і нарэжаць клёцкі і пякуць на скаварадзе, кладуць у салоткую ваду — і гэта аканон.* Рыбчына Віл. *Як аканон робяць, то булку ўкрышчваюць і падсалоджваюць або на мяду робяць.* Мачаск Бярэз.

АКА'ПАЦЬ *зак.* Абка́пацць, запляміць. *Акапала сукенку, во якая пляміна.* Мярэцкія Глыб.

АКАПА'ЦЬ *зак.* Абсыпаць зямлёй, акучыць. *Трэба картоплю акапаць.* Вялікія Баяры Шчуч.

АКАРЫ'ЦЬ *зак.* Абчасаць. *Акарыў штуку* [бервяно]. Стральцы Гродз.

АКА'ТНІК *м. бат.* Акацыя. *Акатнік пад вакном цвіціць, адцвіце, семяно вылушчыць і свісцець можна.* Якубова Рас.

АКАЦІ'ЦЦА *зак.* Акаціцца. *У нас авечка акацілася і кошка акацілася.* Вострава Маст. *Мая авечка акаціласа.* Сакаляны Сакол.

АКАШНІ'ЦЫ *мн.* Тое ж, што і а к а н і ц ы. *У магазіне яшчэ закрыты акашніцы.* Навасёлкі Свісл.

АКАЯ'ННЫ, АКАЯ'НЫ *прым. асудж.* Жорсткі. *Моцна акаянна была яго матка.* Дзяніскавічы Ганц. *Захвошча яе* [жонку], *быў акаяны.* Альхоўцы Лях.

АКА'ЯЦЦА *зак.* Раскаяцца. *Яна акаялася, але позна было.* Крэва Смарг.

АКВЯРАВА'ЦЦА *гл.* АХВЯРАВА'ЦЦА

АКВЯ'РКІ *мн. царк.* Іконкі, крыжыкі і інш. *Некалі аквяркі куплялі. Вы ведаеце, што такое аквяркі?* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *ofiara* 'ахвяра'.

АКЕДНІ'ЦЫ *мн.* Тое ж, што і аканіцы. *Вокны закрываюць нанач акедніцамі.* Вострава Маст.

АКЕ'НАШКА *н. памянш.* да акно́. *Акенашка малоя.* Стральцы Гродз.

АКІ'ДАЦЬ *гл.* АБКІДА'ЦЬ

АКІ'НЕНЫ *прым.* Дагледжаны. *Акіненая баба, пры сыну жыве.* Рыбчына Віл.

АКІ'НУЦЬ *зак.* Дагледзець. *Гэта яе акіня хто?* Альхоўка Навагр.

АКІ'ПАК *м.* Абломак. *Адзін акіпак застаўся ад той сасны.* Пацаўшчына Дзятл.

АКІ'СНУЦЬ *зак.* Закіснуць. *Можа, акіснуць буракі.* Ністанішкі Смарг.

АКЛАДА'ЦЦА *незак.* Абкладацца. *Войлак, а па вярху акладалася кожай.* Магуны Паст.

АКЛА'ДЗЕНЫ *мн.* Бакавіцы ў возе. *Акладзены ў вос з дошак робяць.* Мсцібава Ваўк.

АКЛАДНЫ' *прым.* Працяглы, зацяжны. *Акладны дошч пашоў, хмарамі неба зацягнула.* Мярэцкія Глыб. *Акладны дошч нядзелю ідзець.* Валынцы В.-Дзв.

АКЛУНУ'ЦЦА *зак.* Акунуцца. *Ён аклунуўся ў вадзе і вышаў.* Мсцібава Ваўк.

АКНО', ОКНО' *н.* і *м.* 1. Акно. *Акно велькі.* Старыя Смільгіні Воран. *Пастаў вазон на кно, за кно выкінь.* Альхоўцы Лях. 2. Прорва, крыніца, жарало. *Акно бывая ў паплавах, у крыніцы, глыбокае места, у акно ўваліся—не вылезіш.* Курапolле Паст. *Дзе акно, так ніколі не замярзая, стаіць і стаіць вада.* Кіралі Шчуч. *Там* [на рацэ] *тры акны, пачынаецца крыніца.* Масілавічы Сл. *Як дэ окно в болоты, то як ступыш, то проваlысся.* Сіманавічы Драг.

АКО' *н.* Вока. *Ако засвярбіць — буду радавацца.* Ністанішкі Смарг.

АКО'ЛА *прысл.* Вакол. *Бегая акола хаты. Акола абнясе свечкай.* Старыя Смільгіні Воран.

АКО'ЛІЦА *ж.* Наваколле. *Знахара знала ўся аколіца, хітры быў чалавек.* Дзямянаўцы Дзятл.

АКО'НАМ *м. гіст.* Аканом. *Аконам быў, аконаму давяраў пан маёнтак.* Дзяніскавічы Ганц. *Аконам быў у пана.* Вецярэвічы Пух.

АКО'НЦА *н. памянш.* да акно́. *У аконца гляджу — немцы карову ўзялі за повад.* Валынцы В.-Дзв. *Малое аконца.* Талейкі Швянч.

АКО'ПА *ж.* Акоп. *Я прышла да сваіх у тую акопу.* Індра Красл.

АКО'ПАВАЦЬ *незак.* Акучваць. *Лапкай буду акопаваць бульбу.* Мярэцкія Глыб.

АКО'РАК I *м.* Кумпяк. *Вэнджаны акорак елі.* Стральцы Гродз. *Дайней не капцілі, быў сушоны акорак, а цяпер копчаны акорак.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* руск. *окорок* 'тж'.

АКО'РАК II *м.* Корак. *Пашукай акорак пляшку заткнуць.* Малахоўцы Бар. *Акорак з бутылкі дастань, запіхнула я.* Крупіца Мін.

АКО'Т *м.,* АКО'ТА *ж.* 1. Асцюк, асцюкі. *Акот з ячменя больш урэдны.* Індра Красл. *Як бічавалі ячмень — абівалі акоту ад зірна. Небічаваны ячмень з акотай будзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Акота — вусы ў ячменю, пацёрся каля ячменя — акота астаецца на адзежы, як малоцяць, абіваюць акоту цапамі, за зірнятамі тырчыць акота.* Кураполле Паст. *Акота — у коласе жыта.* Малькуны Ігн. *Акоты набраўся, коліцца акота, многа акоты. Ва ржы акота. У жыці акота і ячменная акота.* Рагулішкі Даўг. *У вока папала акота, засорыў вока акотай.* Ёдлавічы Брасл. 2. *мн.* Тое ж, што і а ж а м е́ р к і. *Аўсяныя акоты астаюцца, як кісель варылі.* Рагулішкі Даўг. 3. Тонкія костачкі ў рыбы. *Акотай рыбнай задавілася. Закалолася рыбнымі акотамі.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* літ. *akúotas* 'асцюк'.

АКО'ЦІНА *ж.* Тое ж, што і а к о́ т 1. *Акоціна залезла ў зубы.* Валынцы В.-Дзв. *Акоціна ўлезла адна.* Магуны Паст. *Акоціна ў глаз папала.* Рагулішкі Даўг.

АКО'ЦЦЯ, АКО'ЦЯ *зб. н.* Асцё. *Акоцця асталося, ня ўсё ababiў. На рэшата патсявалі або ветрылі на дварэ, зёрнеты астаюцца, акоцця атлітаіць далій.* Валынцы В.-Дзв. *Акоця ў ячменя, і есці няможна скаціне.* Ракаўскія Швянч. *Акоця пойсалі цапамі.* Лайпушкі Ігн.

АКПІ'ЦЯЛЬ *м. асудж.* Насмешнік. *Акпіцяль ты, ён с каждага накпіцца.* Старыя Смільгіні Воран.

АКРА'ЕЦ, АКРА'ЯЦ *м.* Кавалак хлеба, адрэзаны ад непачатага краю баханкі. *Акраец маслам памажу.* Беразіно Докш. *Пачынаеш булку — то акраец, і астаецца акраец.* Беняконі Воран. *Ляжаў акраяц хлеба на стале.* Кіралі Шчуч.

АКРА'ІНА *ж.* Край. *Толькі акраіна сонца было відаць.* Янкоўцы Івян.

АКРА'ЙВАЦЬ *зак.* Ачэсваць. *Акрайваяцца бярвяно.* Быстрыца Астр.

АКРА'ЙКІ *мн.* Крайнія карэнныя зубы ў каня. *У шэсь год скідае конь акрайкі.* Дзяніскавічы Ганц.

АКРА'ЙНІЦА *ж.* Лядовае покрыва ракі ля берага. *Акрайніца адстала ад берагу, будзя лёт пушчаць.* Бакшты Іўеў.

АКРА'ЙЧЫК, ОКРА'ЙЧЫК *м. памянш.* да а к р а́ е ц. *Як пачынаюць булку хлеба, атразаюць акрайчык, і як астаецца — акрайчык, як канчаюць.* Мярэцкія Глыб. *Адрэш акрайчык.*

Жодзішкі Смарг. *Акрайчык чэрствы.* Дакудава Лід. *Акрайчык хлеба самы смашны.* Кіралі Шчуч. *Пачынаю булку і астаецца — і тое акрайчык.* Галоўні Воран. *Почынаіш булку, одрізуіш окрайчыка, і остаецьця окрайчык.* Сіманавічы Драг. ∇ *Акрайчык — будзе сын Мікалайчык.* Беняконі Воран. *Йіж окрайчыка, шоб прывыла жынка сына Мыколайчыка.* Сіманавічы Драг.

АКРАМЕ′СКІ, АКРАМЁСКІ *мн.* Акраўкі. *Хто скажа акрамескі, а хто — акрамёскі. Як што кроіш — акрамёскі астаюцца, паставаліся адны акрамёскі ат сукенкі.* Рыбчына Віл. *Акрамёскі — гэта абрэскі, што-небуць мелкая.* Дакудава Лід.

АКРАМЕ′ТНЫ, АКРАМІ′ТНЫ *прым.* Асобны, аддзелены. *Там соткі акраметныя, абгароджаныя. Акрамітна палка да красён.* Вецярэвічы Пух.

АКРАМУ′САК *м.* Акравак. *Акрамусак астаўшыся ад спадніцы.* Мярэцкія Глыб.

АКРА′ЎКІ *мн.* 1. Тое ж, што і а к р а м ё с к і. *Акраўкі — кавалачкі тканіны пры краенні.* Пасека Ст.-Дар. *Акраўкі асталіся ад сукенкі.* Кіралі Шчуч. 2. Дробныя кавалачкі мяса. *Раней рабілі так: акраўкі ад кілбасы пасоляць, а потым у сала абварачваюць.* Жодзішкі Смарг.

АКРА′ШВАЦЬ *незак.* Запраўляць, прыпраўляць тлушчам і інш. *Буракі, як варам, акрашваем жырам.* Мсцібава Ваўк.

АКРА′ЯК *м.* Тое ж, што і а к р а м у́ с а к. *Кусок акрайка астаўся залатаць.* Крупіца Мін.

АКРА′ЯЦ *гл.* АКРА′ЕЦ

АКРО′МАЧАК *м. памянш.* Акрайчык. *Надь атрэзаць акромачак хлеба.* Лісна В.-Дзв.

АКРУЦЕ′НЬ *м.* 1. Атоса, скручаная з вітак. *Акруцень рабілі з лазіны, з ліпы і прывязвалі да аглабель.* Мярэцкія Глыб. 2. Скручаныя віткі, якімі замацоўвалі зубы ў драўлянай бароне. *Бароны балі дзеравяныя, акрутнямы зубы закраплялі, і зуп ніколі ня валіцца, так закраплялі дубцом кручоным.* Кураполле Паст.

АКРУЦІ′ЦЦА *зак.* 1. Затрымацца на вельмі кароткі час. *А доўга ён у цябе быў? — Дзе табе доўга, прышоў, толькі акруціўся і паехаў. Яны прыдуць, акруцюцца, ім інцярэсна паглядзець.* Саланое Віл. *Прышоў, акруціўся і пашоў.* Старыя Смільгіні Воран. *Хадзі, хоць акруціся тут.* Бакшты Іўеў. *Пойдзя, акруціцца і прыдзя да мяне.* Граўжышкі Ашм. 2. Прыняць іншае палажэнне. *Рыба акруцілася, стала хвастом аглушваць.* Быстрыца Астр.

АКРУЧА′НКА *ж.* Хустка, якая завязваецца паверх тонкай хусткі. *Укруціса акручанкаю — хустка такая, ні малая.* Крынкі Крын.

АКРУ′ЧВАЦЦА, АКРУ′ЧУВАЦЦА *незак.* Паварочвацца, зварочвацца. *Дзе ты акручваўся з плугам?* Магуны Паст.

*У канцы загона акручваюцца з плугам.* Рыбчына Віл. *Аўтобус акручуецца і назад ідзе.* Граўжышкі Ашм. *Я сюды акручуюся.* Жылі Іўеў.

АКРЫВА'ЦЦА *незак.* Ахінацца, накрывацца. *Вялікай хусткай акрывайся!* Быстрыца Астр. *Чаму не акрываешся коцам, ці не замерзла?* Галубы Маст.

АКРЫ'ЦЦА *зак.* Ахінуцца. *Азьмі кляёначку, акрыйся.* Ністанішкі Смарг.

АКРЫ'ЦЬ *зак.* Пакрыць. *Была калысачка, акрыеш яе посцілкай.* Старыя Смільгіні Воран.

АКРЭ'ЙБАЦЦА *зак.* Паздаравець, папраўіцца. *Грыпа яго заціснала, акрэйбаўся п, кап у Глыбокае завязлі.* Мярэцкія Глыб. *Ты ўжо акрэйбаўся?* Граўжышкі Ашм.

АКРЭ'НТ *м.* Карабель. *Салдаты ў акрэнтах памяшчаліся, а пленныя — у лагеры на полю.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *okręt* 'тж'.

АКСА'М *м.* Аксаміт. *Аксам называлі бархат.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *aksótas,* лац. *examitum,* грэч. ἑξάμιτος 'тж'.

АКСНА' *ж.* Аса. *Аксна тожа кусаяцца, яна жоўценькая. Аксны пузыр зробяць і жывуць там.* Магуны Паст.

АКСНЫ', АКСНЭ' толькі *мн.* Пянеўе ў птушак пасля ліняння. *Скубеш курыцу — адны аксны. Як адрастае пер'я, выходзяць аксны.* Граўжышкі Ашм. *Зарэзала гусь, натта аксноў многа, рады ні дам.* Кіралі Шчуч. *Як абшарпаеш пер'я, астаюцца дуткі, а пасля ліські — аксны.* Жодзішкі, Крэва Смарг. *Курыца лінаіць, аксны астаюцца. Поўна аксноў было.* Магуны Паст. *Акснэ ў кур бываюць, шмат аксноў.* Вялікія Баяры Шчуч.; параўн. літ. *akstìs, ãkstinas* 'шып, асцюк, калючка' (ЛТ, 164).

АКСЦЁН *м.* Тое ж, што і а к о́ т 1. *Выцягнула велькі аксцён.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *ãkstinas* 'тж'.

АКСЦЮКІ' *мн.* Асцюкі. *Аксцюкі калючыя.* Быстрыца Астр. *Аксцюкі ў ячмені.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *akščiũkai* 'тж' (ЛТ, 164).

АКТА'Р *м.* Гектар. *Даў мне бацька актар зямлі пасахі.* Кураполле Паст. *Актар дзесяць зямлі было.* Быстрыца Астр. *Актар зямлі абгараваў.* Паляцкішкі Воран. *Цяпер актары.* Альхоўка Навагр. *Нацё вам два актары.* Дзяляцічы Навагр. *Далі дзевяць актараў зямлі.* Вострава Маст.

АКТЫВІ'СТА *м.* Актывіст. *Вуон такі актывіста.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *aktywista* 'тж'.

АКУЛІ'РАВАЦЬ *зак.* і *незак. бат.* Прышчапіць, прышчэпліваць. *Кап як нам ўзяць сажанцаў. Іх на прошлы гот акуліравау, а цяпер ўжо ім па метру. Я буду акуліраваць сажанцы.* Забалоцце Мін.

АКУЛЯ'РЫ, ОКУЛЯ'РЫ *мн.* Акуляры. *Наш бацька аку-*

*ляры накладвая.* Тупічаны Ваўк. *Трэба акуляры надзець.* Рыбчына Віл. *Я дайна з акулярамі чытаю. Каб былі да воч дабраныя акуляры.* Груздава Паст. *Акуляры дзе мае дзеліся?* Старыя Смільгіні Воран. *Драчовата, то окуляры носыть.* Сіманавічы Драг.

АКУ'НЬ *м.* Акунь. *Акунь, як надзьмецца, такі калючы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Акунь адзін папаўся.* Жодзішкі Смарг. *У акуня пляскуна нету, плеўка ў яго, там дух сабіраяцца.* Быстрыца Астр.

АКУРА'ТНЫ *прым.* 1. Ахайны, акуратны. *Акуратна дзяўчына.* Міратычы Карэл. *Акуратная баба, у яе парадак.* Груздава Паст. 2. Гаспадарлівы. *Ён у яе акуратны: добры чалавек, усю гаспадарку ў парадку трымае, робіць і робіць.* Крэва Смарг. *Во, ён акуратны чалавек, ведае, што да чаго ў гаспадарцы.* Дакудава Лід. 3. Дзяўчына добрых паводзін. *Такая акуратная, няцягушчая дзеўка.* Быстрыца Астр.

АКУРА'ЦІЦЬ *незак.* Разразаць, падрыхтоўваць. *Дайней лыкі атмачываюць, акурацюць і плятуць лапці, ціпер ні плятуць.* Лісна В.-Дзв.

АКУ'ТАЦЬ, ОКУ'ТАТЫ *зак.* 1. Уцяпліць. *Трэба акутаць хату да вакон лапкамі ці саломай, ці кастрыцай.* Мсцібава Ваўк. 2. Ухутаць, цёпла апрануць. *Трэба акутаць дзіця.* Вялікія Баяры Шчуч. *Окутала хлопця, хай собі йдэ на лід, ны змэрзнэ.* Сіманавічы Драг. 3. Акаваць. *Акутаў жалезам саначкі.* Чычалі Швянч.

АКУ'ТЫ *дзеепрым.* Акаваны. *Не тое, што жалезам акута, а ўся дзеравяная.* Швэды Вільн.

АКУ'ЦЯ *н.* Акоўка. *Палазы былі выкапаныя, цяпер акуця робім.* Дакудава Лід. *Акуця і павоска — сто злотых каштавала.* Старыя Трокі Трак. *Калясо ў возе, спіцы ў калясе, вобад, калотка, акуця, шыны жалезныя па верху пацягнены.* Пацаўшчына Дзятл.

АКУ'ЧНІК, АКУ'ШНІК *м.* Акучнік. *Цяпкай полім, а акучваем плушком, акучнікам, а раньшы сахой.* Мельнікі Лудз. *Ганяюць бульбу акушнікам.* Валынцы В.-Дзв.

АКЦЭ'НТЫ *мн. перан.* Размова, гаворка. *У нас акцэнты старабытныя.* Альхоўка Навагр.

АКЦЭ'ПЦІЯ *ж. устар.* Частка зямлі, гаспадаркі, якую пакідалі сабе бацькі да канца жыцця. *Старыя акцэпцію пакінулі.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* лац. *acceptio* 'прыманне'; *acceptitare* 'бесперапынна атрымліваць'.

АКЯНІ'ЦЫ *гл.* АКАНІ'ЦЫ

АЛАВА' *гл.* ГАЛАВА' І

АЛАВЕ'ШКА *гл.* ГАЛАВЕ'ШКА

АЛАЛО'ЎНІК *гл.* ВАЛО'ЎНІК ІІ

АЛА'ТКА, АГЛА'ТКА, ГАЛА'ТКА, ГЛА'ТКА *ж.* Аладка. *Алаткі пякла. Блін на ўсю скавараду, а аладак некалькі лі-*

*юць на скавараду.* Беняконі Воран. *Аглаткі на каляду пяклі паснюткія.* Мсцібава Ваўк. *Аглатке пячэ.* Вострава Маст. *Бліны — большыя, аглаткі — малыя.* Стральцы Гродз. *Трэ церць на тарцы, тады на патэльню і на агонь і пякуць аглаткі.* Крынкі Крын. *Напякла галадак.* Міратычы Карэл. *Дзве глаткі з'ела.* Вострава Маст.

АЛАЎНЯ' *гл.* ГАЛАЎНЯ'

АЛАШЧО'К *гл.* ГАЛАШЧО'К

АЛАШЭ'ЙКА *ж.* Галашэйка. *Ест курыцы алашэйкі.* Старыя Смільгіні Воран.

АЛЕ' *часц. узмацн.* Але. *Але ш і спала, аш булбаткі пашлі.* Дакудава Лід.

АЛЕ'Й *м.* Тлушч з канаплянага і льнянога семя. *Алей рабілі з лянога насеня.* Вострава Маст. *Алей гналі з калапень.* Груздава Паст. *Алей ціснулі, кліны здзеланыя былі.* Старыя Смільгіні Воран. *Алей самі рабілі, аліву куплялі.* Номікі Бабіц.

АЛЕ'ЙНЯ *ж.* Будынак з прыстасаваннямі для вытворчасці алею. *У іх была алейня.* Новая Ніва Чэрв. *Алейня была, дзе алей ціснулі.* Азяраны Раг.

АЛЕ'КТРА *ж.* Электрычнасць. *Ён робіць калі алектру.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. літар. *elektrà,* дыял. *alèktra* 'тж'.

АЛЕЛЮ'ЙШЧЫК *м. абрад.* Валачобнік. *Алелюйшчыкі пад акно з карзінай сабіралі яічкі на паску.* Скрудалена Даўг.; *гл.* в а л о́ ў н і к II.

АЛЕНГЕ'РКА *ж. устар.* Венгерка (жаночае паліто). *Некалі аленгерка была на патклатцы, доўга, шарсцяна, з свайго сукна, з кішэнямі, стойка, як у мундуры, да касцёла накладалі.* Мсцібава Ваўк.

АЛЕ'ХАВЫ, АЛЁХАВЫ *прым.* Альховы. *Некалі кару алехаву і мучан варылі, жалеза кідалі і фарбавалі. Там алехавыя кусцікі растуць.* Вецярэвічы Пух. *Дзяруць алёхаву кару.* Рудня Астравітая Чэрв.

АЛЕ'ШНІК, ГАЛЕ'ШНІК *м.* Алешнік. *Алешнік густы.* Рудня Астравітая Чэрв. *У алешніку касілі.* Чычалі Швянч. *Алешнік чорны.* Мішневічы Шум. *Там лахчына, галешнік расце, а далі зноў брадок.* Дзяніскавічы Ганц.

АЛЕШЧЫНЯ'К *м.* Арэшнік. *Алешчыняк, дзе арэхі растуць.* Лайпушкі Ігн.

АЛЕ'ШЫНА, АЛЬШЫНА', ГОЛЬШЫНА' *ж.* 1. Тое ж, што і а л е́ ш н і к. *Алешына па балотах і лясох е.* Альхоўцы Лях. *Альшына расце пры лузе, у балоце. Альшына расце па ніскіх месцах.* Сапоцкіна Гродз. *На Багудзенцы расла альшына, елка.* Стральцы Гродз. *Быў лясок, расла альшына.* Малахоўцы Бар. *Многа альшынэ каля рову расце.* Кіралі Шчуч. *Там всякэ дэрыво: то гольшына, то бырызына.* Сіманавічы

Драг. 2. Драўніна з алешыны. *Абіякі рабілі з альшыны.* Вострава Маст. 3. Балота, заросшае алешнікам. *У альшыне каровы і коні тапіліся.* Старыя Смільгіні Воран.

АЛЁС *м.*, АЛЬСЫ′, АЛЬСЭ′ *мн.* 1. Зарослыя хмызняком нізкія мясціны. *Дзе алёс, там крушына, каліна расце, альсэ ў лахчыне, трудна хадзіць па альсох.* Навасёлкі Свісл. 2. Балота. *Альсы — балоцістае места, там лух, асака расцець, вяска было, там раней бралі торф, кар'еры бальшыі, вада стаіць. Цяпер канавы пакапалі, асушылі, капусту садзяць, буракі. Ат альсоў травы каровы не ядуць.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *alaušaĩ* 'нізкія мясціны'.

АЛЁСА *ж.* Тое ж, што і а л ё с 1. *Там алёса: кусты, нізка.* Мішневічы Шум.

АЛЁХАВЫ *гл.* АЛЕ′ХАВЫ

АЛІ′ВА *ж.* 1. Тое ж, што і а л е́ й. *Цяпер аліва, а калісь алей звалі. Усыпіш у ваду мукі і алівы ліеш і бліны пячэш.* Старыя Трокі Трак. 2. Аліва. *Сталовую аліву куплялі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Аліва смашнейша за алей. Алей самі рабілі, аліву куплялі.* Номікі Бабіц.

АЛІ′ЎНЫ *прым.* Белы наліў (гатунак яблык). *Аліўных* [яблык] *была многа, насіць не здолею.* Старыя Трокі Трак., Вялікія Нястанавічы Лаг.; *парайн.* літ. *alỹvinis* 'наліў'.

АЛІ′ЦЦА *гл.* ГАЛІ′ЦЦА

АЛКСНІ′Н *м.* Тое ж, што і а л е́ ш н і к. *Як густой алкснін, каровы і не ходзюць.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *alksnýnas* 'тж'.

АЛКСНЯ′ *ж.* Вольха. *У алксніне алксні адны і растуць.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *al̃ksnis* 'тж'.

АЛО′БЛЯ *гл.* АГЛАБЛЯ′

АЛО′ДНЫ *гл.* ГАЛО′ДНЫ

АЛО′ЎКА *гл.* ГАЛО′ЎКА II

АЛУ′ВАК *м.* Аловак. *Алувак казалі на карандаш.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *ołówek* 'тж'.

АЛУНЕ′ЦЬ *зак.* Зрабіцца ненармальным, здурнець. *Алуней чалавек, бяс толку дзелаіць і гаворыць.* Лісна В.-Дзв. *Алуней чалавек, ненармальны стаў.* Янова Рас.

АЛУ′П *гл.* ГАЛУ′П

А′ЛЬБА, АЛЬБО′, А′ЛЬБЫ 1. *злуч. размерк.* Або. *Альба абуй куру, альба прывяжы.* Вецярэвічы Пух. *Можна стаяць альбо сядзець і вяслом правіць. Трэба зрабіць грэблю, штобы можна было прайці альбо праехаць. На капылы накладаліся вязы, гнутыя з вярбы альбо з лазы.* Альхоўка Навагр. *Крутую аснову тырзалі альбо растрасалі.* Ракаўскія Швянч. *Буракі, альбы свёкла цяпер.* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *albo* 'тж'. 2. *часц.* Абы, хіба. *Такі-сякі* [муж], *альба б быў.* Саланое Віл. *Альбо твая мальва поўная?* Жылі Іўеў. *Мне альбы гот адбыць.* Асавец Віл. 3. *займ. неазн.* Абы-што. *Ён стаў пу-*

*таць, крапаць альба-што.* Саланое Віл. *Галава — ні альбы-што такое.* Асавец Віл.

АЛЬВА′С *м. бат.* Альяс. *Мой альвас ссохшы.* Груздава Паст. *Альвас з мёдам п'ю.* Малахоўцы Бар. *Альвас — вазон калючы.* Чычалі Швянч.

АЛЬКЕ′Р *м.* Каморка. *В алькерові можна пэрэспаті.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *alkierz* 'тж'.

АЛЬТУ′ОВКА *ж. муз.* Альт (струнны інструмент). *Муой брат умее іграті на гармонійі, скрыпці і альтуовці.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *altówka* 'тж'.

АЛЬШАВІ′НА, АЛЬШЭ′ВІНА *ж.* Алешына. *Адна альшавіна расцець.* Магуны Паст. *Альшэвіны растуць, дзе грась, балота.* Граўжышкі Ашм.

АЛЬШЫНА′ *гл.* АЛЕ′ШЫНА

АЛЬШЭ′ЎНІК *зб. м.* Альховы лес, хмызняк. *Тут альшэўнік вялікі быў.* Саланое Віл. *Ёсць крыніцы ў альшэўніку.* Граўжышкі Ашм. *Альшэўнік — дзе ольха.* Галоўні Воран.

АЛЯЛЁТ *гл.* ГАЛЯЛЁТ

АМБА′Р *м.* Свіран. *Ад аднаго амбара да другога зімой хаджу.* Груздава Паст.

АМЕЛА′, АМЯЛА′ *ж. бат.* 1. Амяла. *Амела на бярозе расце.* Сапоцкіна Гродз. *Амяла бывая на бярозе.* Вялікія Баяры Шчуч. *Амяла на каждум дзераве е.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Мятліца чароту. *Амяла — мяцёлачка на трыснягу.* Рыбчына Віл.

АМЕ′ЦЁ *зб. н.* Амецце. *Амецё — пустыя вымалачаныя каласы. Амецё граблямі выгрэбаям.* Альхоўцы Лях.

АМЕ′ЦІ, АМЕ′ЦЫ, АБМЕ′ЦІ, ОМЭ′ТЫ толькі *мн.* Амецце. *Амеці — дромна салома, мятлою іх агорня.* Стральцы Гродз. *Амецы с каласоў, мелкія атходы.* Ванелевічы Кап. *Як цапамі малацілі, амецы абграбалі.* Грыцавічы Свісл. *Абмеці давалі то каню, то каровя.* Кіралі Шчуч. *Омэты згріб в громадку.* Сіманавічы Драг.

АМЁЦІНЫ, АБМЕ′ЦІНЫ толькі *мн.* Тое ж, што а м é ц і. *Амёціны аддавалі каровам.* Рыбчына Віл. *Абмеціны з жыта — гэто каласы і дробная салома, каровы добра елі.* Жылі Іўеў.

АММАНУ′ЦЬ *зак.* Падмануць. *Не амманеш мяне.* Альхоўцы Лях.

АМУ′Т *м.* Вір. *Амут у раке, дзе круціць ваду, амутам круціць ваду, гэта глыбокае месца.* Валынцы, Лісна В.-Дзв. *Амут, дзе круцiцца вада, і чалавека скруціць, як пападзе на гэта места.* Кураполле Паст. *Была рэчка, яе асушылі і амуты збеглі.* Мішневічы Шум. *Папаў у амут, вада там халодная.* Індра Красл. ◇ *У амут галавой — чорт з амута. Ідзі ты хоць у амут галавой.* Груздава Паст. *Выплыў, як чорт, з амута.* Мішневічы Шум.; *параўн.* руск. *омут* 'тж'.

АМУЦЯ′НЫ *прым.* Віравы. *Бываюць міста амуцяныя.* Індра Красл.

АМША′РА *ж.*, АМША′РЫ *мн.* Махавое балота. *У амшары чарніцы растуць на курганках.* Ахрэмаўцы Брасл. *У той старане амшара, ягады растуць.* Мішневічы Шум. *Пад Літвой амшары непрахадзімыя.* Груздава Паст.

АМШАРЫ′НА *м.* Мясціна ў бары, парослая мохам. *Амшарына пасярот лесу.* Малькуны Ігн. *Па амшарынах грыбэ растуць.* Вецярэвічы Пух.

АМША′РЫНКА *ж. памянш.* да а м ш а́ р а. *Сярод лесу амшарынка была.* Дзяніскавічы Ганц.

АМЫ′ЛАК *м.* Тое ж, што і а б м ы́ л к а. *Амылак зрабіла, як кросны снавала, пацэпуху звіла.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* польск. *otyłka* 'тж'.

АМЯЛА′ *гл.* АМЕЛА′

АНАВІ′ЦЫ *гл.* ГАНАВІ′ЦЫ

АНА′ГДАСЬ, АНА′ГДЫ, АНЭ′ГДАСЬ, АНЭ′ГДЫСЬ, АНЭ′ГДЫ *прысл.* 1. Нядаўна, на днях. *Анагдась курачка ўлезла ў гарод. Я сваё анагдась памыла бяллё.* Азяраны Раг. *Анагды хадзіла ў Мільчу.* Саланое Віл. *Гэта анэгдась было. Анэгдась хадзіла да іх.* Ахрэмаўцы Брасл. *Анэгдась было.гэта.* Магуны Паст. *Анэгдысь — гэта ўжо перайшло.* Быстрыца Астр. *Анэгдысь была яна ў нас.* Грыкені Вільн. *Анэгды былі ў грыбы прышоўшы. Ён анэгды скасіў. Анэгды Гэля глядзела. Анэгды цялушку здавалі.* Граўжышкі Ашм. *Я анэгды хадзіла ў лес.* Жыдзевічы Іўеў. 2. Калісьці. *Анэгдысь так было.* Чычалі Швянч.; *парайн.* польск. *onegdaj* 'заўчора, пазаўчора'.

АНАДА′ШНІ *прым.* Учарашні. *Анадашняя страва.* Стральцы Гродз.

АНАДО′Ў *прысл.* Тое ж, што і а н а́ г д а с ь 1. *Анадоў прыпякласа на слонцы.* Стральцы Гродз.; *парайн.* літ. *anądiẽ, andái* 'тж'.

АНАЛЬФАБЭ′ТА *м.* і *ж.* Непісьменны. *Анальфабэта — чоловек, што нэ вмее пісаті і чытаті, нэпісьменны.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *analfabeta* 'тж'.

АНГЕ′ЛЬКА *ж. мед.* Рахіт. *Як дзіця ў ангельцы, то два і тры гады ні ходзіць.* Кіралі Шчуч. *Ангелька скруціла.* Ёдлавічы Брасл.

АНГЕ′РКА *гл.* ВЕНГЕ′РКА

АНГІ′НА *ж.* 1. *мед.* Ангіна. *Ад ангіны націраюць бензінам шыю — і памагае.* Мсцібава Ваўк. *Ад ангіны ўкладаюць тоненькім пласцікам сала, каб была прыпарка.* Альхоўцы Лях. 2. *мн. анат.* Гланды. *Ціпер ангіны выцінаюць.* Новікі Гродз.

АНДАЛЯ′ЦЫЯ *гл.* АНДУЛЯ′ЦЫЯ

АНДАРА′К, АНДРА′К *м.* 1. Даматканая спадніца. *Калісьці ў андараках хадзілі.* Саланое Віл. *Андарак — тканая спадніца, партная.* Граўжышкі Ашм. *Андаракі ткалі па бавэльні, шырокія, доўгія, аш да зямлі.* Ракаўскія Швянч. *Я сама ткала андаракі. Быў доўго андарак, на сцэну бралі.* Стральцы Гродз.

*Андаракі былі патканыя сукном па льняных нітках.* Мсцібава Ваўк. *Андарак суконны насілі.* Навасёлкі Свісл. *Андарак усякі — і суконны і парцяны.* Вецярэвічы Пух. *Сподні андарак, верхні андарак. Суконны андарак по парту тканы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Андаракі суконныя ў клетку ткалі, шылі ў трычатыры палы.* Азяраны Раг. *Складалі андрак ў склаткі, як гармонік.* Мачаск Бярэз. *З воўны андрак.* Ухвала Круп. *Андрак быў у палоску і прама так.* Індра Красл. 2. Крамная спадніца. *І крамны андарак насілі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Андарак у яе куплёны.* Лісна В.-Дзв. 3. Фасон тканай спадніцы. *Калі да суконае спадніцы прышывалі палоску аксаміту і рабілі напуск, то называлі андарак, спадніца пашыта андараком.* Старое Сяло Зэльв.; *гл.* ДАБМ, карта № 329.

АНДА'ТАРЫ *мн.* Андатры. *Андатары, як пуцакі, а хвост плоскі.* Ахрэмаўцы Брасл.

АНДО'ВЕ *прысл.* Тое ж, што і а н а́ г д а с ь 1. *Андове зрабілі работу, андове было, андове скасіў канюшыну.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн. літ. andái* 'нядаўна, тады'.

АНДРА'К *гл.* АНДАРА'К

АНДРУШО'К *м. заал.* Божая кароўка. *Андрушок, ляці на неба, скажы: будзе дошч ці пагода?* Саланое Віл.

АНДРЫ'НА *гл.* АДРЫ'НА

АНДРЭ'ЙКА *м. заал.* Тое ж, што і а н д р у ш о́ к. *Андрэйка с кропкамі.* Крупіца Мін. *Жучок у кропачкі — гэта андрэйка.* Рудня Астравітая Чэрв.

АНДУЛЯ'ЦЫЯ, АНДЫЛЯ'ЦЫЯ, АНДАЛЯ'ЦЫЯ, АНДЭЛЯ'ЦА *ж.* Завіўка. *Калі ты паспела андуляцыю зрабіць?* Галубы Маст. *Зрабіла андуляцыю і паехала.* Мсцібава Ваўк. *Андуляцыя — валасы так выдзелываюцца.* Чычалі Швянч. *У яе андуляцыя.* Грыкені Вільн. *Косы в'юцьця сёромно, як андуляцыя.* Сіманавічы Драг. *Андыляцыю робіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ну, якая ў цябе андыляцыя, адзін пух-пяро!* Пацаўшчына Дзятл. *Андыляцыю нада зрабіць.* Старыя Трокі Трак. *У Галены файная андаляцыя.* Беняконі Воран. *Рэня андэляцу зрабіла.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *andulacja* 'тж'.

АНДЫ'К *гл.* ІНДЫ'К

АНДЫНА'РШЧЫК *м. гіст.* Прыгонны селянін, які атрымліваў ад памешчыка месячную натуральную плату прадуктамі і адзеннем. *Тут сядзеў андынаршчык.* Груздава Паст.

АНДЫНАРЫ'СТЫЙ *м.* Тое ж, што і а н д ы н а́ р ш ч ы к. *Андынарыстый на андынарыі ў памешчыка быў.* Быстрыца Астр.

АНДЫНА'РЫЯ *ж. гіст.* Натуральная плата, што атрымлівалі батракі ад пана. *Былі парапкі ў князіні, андынарыю палучалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Збожам давалі андынарыю.* Граўжышкі Ашм. *параўн.* польск. *ordynarja* 'гадавая праца, заробак, прызначаны для каго-н.'

АНДЭЛЯ'ЦА *гл.* АНДУЛЯ'ЦЫЯ

АНІ' *прысл.* Нікольки, зусім не. *Ён — лодар, ані нідзе ня робіць.* Быстрыца Астр. *Ані ня есць мая кароўка.* Крупіца Мін.

АНІ'ГДЫ *гл.* НІ'ГДЫ

АНІКАГЕ'НЬКО *займ.* Нікога. *У кустох анікагенько.* Альхоўцы Лях.

АНІКО'ЛІ *гл.* НІКО'ЛІ

АНІЧО'ГА *гл.* НІЧО'ГА 1

АНІЯ'К *прысл.* Ніяк. *Мейсца тоя аніяк ні называлі.* Быстрыца Астр.

АННА' *гл.* АДНА'

АННО', ОНО' 1. *ліч.* Адно. *Анно лайно вісіць.* Мачаск Бярэз. 2. *прысл.* Толькі. *Анно ляжа спаць і чуя ўзрывы, толькі вокна ляскацяць.* Слабодка Астр. *Абутак які, анно зімовы, а летам босыя.* Грыцкевічы Зэльв. *Вчора абадва хлопці прыходылы, а тыпэр оно Косця. Оно раз я там була.* Сіманавічы Драг.

АНТА'БЫ. У выразе: *На антабы браць* — мучыць. *А свёкар тожа крычыць на нявестку, на антабы бярэць.* Саланое Віл.

АНТАЛЕ'РЫЯ *ж.* Артылерыя. *У чатырнаццатом году адступае анталерыя.* Швэды Вільн.

АНТАЛО'К *м.* Бачурка. *Колісь так звалі бочэчку на піво або на горыэлку, была вона с краніком — анталок.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *antałek* 'тж'.

АНТАЛО'ЧОК *м. памянш.* да а н т а л о́ к. Курашэва Чыж.

АНТА'ПАЛ *м.* Тое ж, што і а д л е́ г а. *Антапал — калі мокра, прападае снех.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *antãpalas* 'верхаводка'.

АНТАРА'ПЛАСЦІ, АНТАРА'ПЛУСЦІ *мн.* Пакулле. *Вярхі і камлі атходзяць з жалезнай шчоткі, а антарапласці — з шарсцяной. Антараплусці прадуць для шарака.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *antarãpluostės* 'тж' (ЛТ, 164).

АНТРАБЯ'НКА *гл.* ВАНТРАБЯ'НКА

АНТРО'БЫ *гл.* ВАНТРО'БЫ

АНТЫЛЯ'ЖЫ *мн.* Карункі, прошва. *Антыляжы — гэта кружава і прошвы.* Індра Красл.

АНТЫЛЯ'ЖЫКІ *памянш.* да а н т ы л я́ ж ы. *Антыляжыкі вузенькія.* Індра Красл.

АНУ'Ж *злуч.* Калі, у тым выпадку, калі. *Сіено лепі нініка забраті, ануж дошч будэ, то всё змочыт.* Курашэва Чыж.

АНУ'ЧНІК, ГАНУ'ЧНІК, ГАНУ'ЧНЫК *м.* Анучнік. *Анучнік анучы збіраў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Анучнік, хто прадае за анучы.* Дзяніскавічы Ганц. *Ганучніку аддае лэхі старыя.* Мсцібава Ваўк. *Купіла іголак у ганучніка.* Міратычы Карэл. *Гэтэ стар'е ганучныковы оддам.* Сіманавічы Драг.

АНЭ'ГДАСЬ, АНЭ'ГДЫСЬ, АНЭ'ГДЫ *гл.* АНА'ГДАСЬ

АНЯГО′, АНЯГО′Ш *прысл.* Няўжо. *Ну аняго згубілася курка? Анягош тую бапку падасі гасцям?* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *niaugù* 'тж'.

АНЯРО′Т *м. рыб.* Нерат. *Анярот, як куль, на канцы завострены.* Альхоўцы Лях.

АО′НЬ *гл.* АГО′НЬ

АП *гл.* АБ

АПАГО′ДЖВАЦЦА *незак.* Распагоджвацца. *Ужо апагоджвацца стала.* Мсцібава Ваўк.

АПАДА′ЦЬ *незак. мед.* Падаць, біцца ў час прыступу эпілепсіі, абміраць. *Ён хворы, часта ападае.* Пацаўшчына Дзятл. *Адна ападала дзеўка.* Дакудава Лід.

АПАДЛЕ′ЦЬ *зак. груб.* Прыйсці ў лютасць. *Мая жонкаападлела.* Асавец Віл.

АПА′ДЛІВЫ *прым.* Прыпадачны. *Ён не п'яны, ападлівы ён, хай паляжыць, пройдзе зараз.* Пацаўшчына Дзятл. *Ападлівы чалавек, што з яго возьмеш?* Галубы Маст.

АПАДО′НКІ *мн.* Асадак. *Мёт выгналі і ападонкі астаюцца пасля мёду.* Індра Красл.

АПАДУ′ШЧА БАЛЕ′ЗЬ *ж. мед.* Эпілепсія. *У яго ападушча балезь, ападае чалавек.* Галубы Маст.

АПАЗНІ′ЦЦА *зак.* Спазніцца. *Я апазнілася на работу.* Альхоўка Навагр.

АПАЗО′РЫЦЦА *зак.* Абняславіцца. *Ты апазорыўся такой жаніцьбай, не слухаў нас.* Міратычы Карэл.; *парайн.* руск. *опозориться* 'тж'.

АПАЗО′РЫЦЬ *зак.* Зганьбаваць, абняславіць. *Аблаяў, апазорыў яго.* Міратычы Карэл.; *парайн.* руск. *опозорить* 'тж'.

АПАКУЛЯ′ЦЦА *незак.* Рабіцца валакністым. *Бяроза апакуляіцца, як яе цягнеш па зямлі.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *pākulotis* 'тж'.

АПАЛАКА′ЦЬ *незак.* Паласкаць. *Памыла швадрэ̀, пайду апалакаць.* Вялікія Баяры Шчуч.

АПАЛА′НАЧКІ толькі *мн.* Апалушкі. Старыя Трокі Трак.

АПАЛА′НІКІ толькі *мн.* Тое ж, што і а п а л а́ н а ч к і. *Апаланікі нібальшэнькія, апалалі імі.* Вязынка Maладз.

АПАЛАСКА′ЦЦА *зак.* Абмыцца, акунуцца. *Прыдзеш, апалошчышся — пры возіры нехаця будзіш купацца.* Ахрэмаўцы Брасл.

АПАЛА′ЦЬ *зак.* Перавеяць, ачысціць крупы, зерне пры дапамозе апалушак. *Крупы стаўклі і апалалі.* Мсцібава Ваўк. *Крупы апалаям начовачкамі.* Кіралі Шчуч. *Начовачкі былі такія, апалаеш, зерняткі ў начовачках, а мякіна выляціць.* Вецярэвічы Пух.

АПАЛО′МАЦЬ *зак.* Узламаць. *Які рубль ёсць, апаломае замкі, залезе ў шкаф і забярэ.* Хатынічы Ганц.

АПАЛО′НІК I *м.* Хвастатая лічынка жабы. *У апалоніка*

*галава кругла, а хвост доўгі.* Альхоўцы Лях. *Апалонікі ў жап перарастаюць.* Рудня Астравітая Чэрв.

АПАЛО'НІК II *м.* Вялікая лыжка, якой наліваюць страву. *Апалонік велькі, ім налівалі з гаршка ў міску.* Старыя Смільгіні Воран. *Хлеб рашчынялі апалонікам.* Дзяніскавічы Ганц. *Ваду лілі апалонікам.* Рудня Астравітая Чэрв.

АПАЛО'НІЧАК *м. астр.* Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы. *Апалонічак на небе. Зоркі раскіданы так, што ён паходзя на апалонічак.* Крэва Смарг.

АПАЛО'ЦЬ, ОПОЛО'ТЫ *зак.* Выпалаць, закончыць паліва. *Лён апеліш чысцянько, роўнянька, як патстрыжаны.* Быстрыца Астр. *Трэба апалоць лён. Яны ўжо пелюць лён.* Старыя Смільгіні Воран. *Калі я не апалю бручкі, хто аполя?* Граўжышкі Ашм. *Апялю тры-чатыры рады.* Рыбчына Віл. *Апалола дзялку буракоў.* Саланое Віл. *Мы ўсе аполям бураке.* Старое Сяло Зэльв. *Апалола варыва.* Вялікія Баяры Шчуч. *У цябе ўсё пазарастаўшы, чаму не апалола?* Груздава Паст. *Апалолі ў нас лён.* Жылі Іўеў. *Опола моркву.* Сіманавічы Драг.

АПА'ЛУШКІ толькі *мн.* Тое ж, што і а п а л а́ н а ч к і. *Апалушкамі чысцілі зярно.* Вострава Маст. *Дзе ты паставіла тыя апалушкі?* Пацаўшчына Дзятл. *Апалушкамі апалаюць крупы.* Стральцы Гродз. *Апалушкі — невялікая карыцца, у іх ачышчалі крупы, зерня.* Дакудава Лід., Малахоўцы Бар., Семежава Кап. *Апалушкі былі, куццю стаўком, усыплем у апалушкі і апалаям.* Вецярэвічы Пух.

АПА'ЛЬКА *ж.* 1. Праснак. *Як не было хлеба, жытню апальку пяклі перад поламям, наверх цыбулю кідалі.* Міратычы Карэл. 2. Пірог. *Пяклі апальку з грэцкае мукі, клалі смятану і білі яйца.* Міратычы Карэл.; *параўн.* польск. *opalonek, opaleniec* 'печаны хлеб' (СВ, III, 385, 386).

АПА'ЛЯ *ж.* Выпадак. *Я ішла з поля дамоў, было ўжо позна і на мяне ваўке напалі, вот мне якая апаля была.* Вецярэвічы Пух.

АПАНАВА'ЦЬ *зак.* З'явіцца ў вялікай колькасці, наляцець, напасці. *Не аччыняй форткі, мухі апануюць.* Валынцы В.-Дзв. *Капуста прапала, чэрві апанавалі. Так мяне скулы апанавалі — жыць нельга.* Вецярэвічы Пух.

АПАПЯ'ЦЦА, ОБОП'Я'ТЫСЬ *зак.* Завязаць. *Я апапялася хвартухом ды іду дахаты.* Альхоўцы Лях. *Обоп'ялась гопынкыю.* Сіманавічы Драг.

АПА'Р *м.*, АПА'РА *ж.* Апарына. *Дзе апар вады, там рэчка не замярзае.* Мсцібава Ваўк. *Ест апары крынічныя, як ускочыш, то не вылезеш.* Смалякі Лід. *Крыніца не замярзае таму, што каля берагоў апары.* Кіралі Шчуч. *Апар пры атліге, мые, прабіваецца вада.* Масілавічы Сл. *Дзе замёршая, а тут не, тут апара, не ўскоч!* Дакудава Лід.

АПАРАЖНІ'ЦЦА *зак. перан.* Ацяліцца. *Мая кароўка апаражнілася.* Стары Свержань Стаўб.

АПАРАЖНІ'ЦЬ *зак.* 1. Спаражніць. *Мне апаражніць пасуду трэба, пачакай, я апаражню табе.* Альхоўка Навагр. *Апаражні той саган.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. *перан.* Растраціць, расходаваць. *У горадзе кішэнь апарожніш.* Груздава Паст.

АПА'РАНЫ *дзеепрым.* Пашкоджаны варам, парай. *Апараныя рукі баляць.* Сакаляны Сакол. *Уляцеў, як апараны* [вельмі хутка]. Номікі Бабіц.

АПАРАСІ'ЦЦА *зак.* 1. Апарасіцца. *Скора свіня апарэсіцца.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Ашчаніцца. *Сука апарасілася.* Стральцы Гродз. 3. Акаціцца. *Кошка апарасілася, трэба кацянят у хату забраць.* Рудня Астравітая Чэрв.

АПАРА'ЦЫЯ *ж. мед.* Аперацыя. *Апарацыю на кішках рабілі яму.* Кемялішкі, Быстрыца Астр. *Нада ехаць рабіць апарацыю.* Магуны Паст.

АПАРО'ЦЬ *зак.* Натрапіць, знайсці. *Ну, і апарола я ягат спелых.* Груздава Паст.

АПАРТО'ЛІЦЬ *зак.* Прыправіць. *Апартоліш малаком, то парасяты ядуць траву.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *partolić* 'псаваць, мяшаць'.

АПАРУ'ДЗІЦЬ *зак.* Абадраць, параніць. *Рвала зеля, а рана была — апарудзіла паляц, кроў ішла. Ён балеў, струпок быў, і я апарудзіла струпок, кроў ішла.* Кіралі Шчуч.

АПАРШАВЕ'ЦЬ *зак.* Пакрыцца паршой. *Апаршавела свіня.* Быстрыца Астр.

АПА'РЫСТЫ *прым.* Незамярзаючы. *Крынічная рэчка — апарыстая. Апарыстая рэчка каля берагоў ні замярзая.* Бакшты Іўеў. *Апарыстае места, дзе патпараецца і не замярзае.* Нізок Уздз.

АПА'РЫЦЦА *зак.* Папрэць. *Апарылася нага між пальцаў.* Быстрыца Астр.

АПАСАВА'ЦЦА *незак.* Падпяразвацца. *Паясы сваё плялі, сваей работы — апасавацца.* Чычалі Швянч.

АПАСЛЕ'ДНІ *прым.* Апошні. *Апаследні месяц зімовы.* Лоск Валож. *Прышлі ў апаследнюю хату.* Мацясы Мядз.

АПАСТЫЛЕ'ЦЬ *зак. экспр.* Надакучыць. *Ужо апастылеў халаднік.* Груздава Паст.

АПА'СЦІ *зак.* 1. Абсыпацца. *Яблыкі якападуць, збіраем, парэжам і сушым.* Азяраны Раг. 2. Абсохнуць. *Ідзі, касі, пакуль не ападзе раса.* Бакшты Іўеў.

АПА'ТРУШЫЦЦА *зак.* Абчысціцца. *Апатрушыцца рыба і жарыцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

АПАЎДНІ', ОПОВДНІ' *прысл.* Упоўдзень, поўднем. *Я апаўдні пасу.* Чычалі Швянч. *Ждалы іх зранку, а воны аж оповдні прыіхалы.* Сіманавічы Драг.

АПА'ХАВАЦЬ *незак.* Абворваць. *Узэйдзя — бараной барануюць, а тады апахуеш і рас і два.* Старыя Трокі Трак.

АПАХО'ДЖВАЦЬ *незак.* Аглядаць. *Бабы буракі апаходжвалі.* Дакудава Лід.

АПАЦЕ'ЦЬ *зак.* Пакрыцца інеем. *Шаць на дрэвя — апацея снегам.* Быстрыца Астр.

АПАЧЫ'НА *ж. плыт.* Рулявое вясло на плыце. *Апачына — бервяно, як доска: дзяржыць за пачыну і адганяе плыт ад берага, каб на салу не ўзагнала. Трэба вычасаць апачыну, здзелаць кундры і завесіць на кундры апачыну.* Рыбчына Віл. *Апачына была, палена такое длінная.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* польск. *roczgupa* 'тж'.

АПАЧЫ'ЦЬ *зак.* Адпачыць. *Два дні памагла, а ўзаўтра апачыну.* Мсцібава Ваўк.

АПЕ'КА *ж.* Апека. *Як бацькі ўміралі, недарослых дзяцей пад апеку бралі.* Вецярэвічы Пух.

АПЕКАВА'ЦЦА *незак.* Апекавацца кім.-н. *Яны апякуюцца над ёй.* Груздава Паст.

АПЕ'КАН *м.* Ахоўнік, даглядальнік. *Апекан над жывёлай, быў такі чалавек, назначаны над жывёлай.* Жылі Іўеў.

АПЕ'КУЛА *гл.* АПІ'КУЛА

АПЕ'ЛІЦЬ *зак.* Тое ж, што і а п а л ó ц ь. *Апеліш цыбулю, морхву.* Беняконі Воран.

АПЕ'ЛЬКА *ж. устар.* Прарэшак для гузіка. *Прарэжаш апельку і зашпіляш.* Крэва Смарг. *Дайней для гузіка прораску называлі апелька. Папкідала апелькі.* Рудня Астравітая Чэрв. <пелька 'прарэх у адзенні каля горла'<'горла'<'палонка'< 'балота'<літ. *pélkė* 'тж' (Толст.).

АПЕ'НІЦА *ж.* Яма, дзе выпальвалі вапну. *Была апеніца — яма такая, там вапну палілі.* Ахрэмаўцы Брасл.; *гл.* в á п е л ь н і ц а.

АПЕ'НІЯ *ж.* Характарыстыка. *Мой сын пайшоў рабіць ў апком, прыслалі сюды апенію снімаць: які ён ёсць чалавек?* Дакудава Лід.; *гл.* а п í н і я.

АПЕ'НЫ *прым.* Вапнавы, вапенны. *Апены камень, вапну з яго паляць, ён белы.* Ахрэмаўцы Брасл.

АПЕ'НЬКІ, АПЕ'НКІ, АПЁНКІ, АПІ'НКІ, АПЯ'НЬКІ *мн.* Апенькі. *Апенькі кусцікамі растуць.* Мсцібава Ваўк. *Апенькі растуць на бярозавых пнёх.* Кіралі Шчуч. *Апенькі шышкай растуць.* Дакудава Лід. *Апенькі бярозавыя.* Дзяніскавічы Ганц. *Апенькі ле бярозавага пня растуць шышкамі.* Вецярэвічы Пух. *Апенькі па восенні растуць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Апенкі грудамі растуць ля пнёў.* Беразіно Докш. *Апенкі растуць кучамі ля пня, падэйдзеш — увесь пень абсаджаны.* Ухвала Круп. *Апёнкі каля пней растуць, былі набраўшы апёнкі.* Пасіене Лудз. *Апінкі растуць кучамі.* Чычалі Швянч. *Апянькі для запаху ў супя. Апянькі кучамі растуць.* Магуны Паст.

АПЕ′ЧКІ *мн.* Апечак, драўляная аснова печы. *Апечкі шаравалі хвашчанкай.* Дзяніскавічы Ганц. *Апечкі рабіліся дзеравянныя, зрубам, на дубовых калотках ставілі.* Вецярэвічы Пух.

АПЕША′ЛЫ *прым.* Гультаяваты. *Ён апешалы чалавек.* Граўжышкі Ашм.

АПЁНКІ *гл.* АПЕ′НЬКІ

АПІВА′ЙЛА *м.* і *ж.* П'яніца. *Гэтакіх апівайлаў ёсць.* Магуны Паст.

АПІВО′ХА *м.* і *ж.* Тое ж, што і апіва́йла. *Тут апівохі не было.* Вецярэвічы Пух.

АПІВО′Ш *м.* Тое ж, што і апіва́йла. *Апівошы вы!* Вострава Маст.

АПІВО′ШЫНА *м.* і *ж.* Тое ж, што і апіва́йла. *Апівошына кажуць на п'яніцу.* Вецярэвічы Пух.

АПІ′КУЛА, АПЕ′КУЛА *м.*, АПІ′КУЛЫ *мн.* 1. Абмалочаны сноп. *Апікула — сноп, які абмалацілі.* Чычалі Швянч. 2. толькі *мн.* Акалот. *Апікулы складалі ў застаронак, а потым будзем другі раз малаціць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *apýkulos* 'тж'. 3. *м.* і *ж. перан. зневаж.* Гультай, нікчэмны чалавек. *Апікула — самы адсталы, задні, адстаючы.* Ністанішкі Смарг. *Апікула — няўдалы чалавек.* Чычалі Швянч. *Апікула стаіць, бок выпеўшы, яго не пасунеш, ці б'еш ці не б'еш.* Граўжышкі Ашм. *Апікула ты, чаму ты нічога ня робіш?* Жылі Іўеў. *Апікула ты, гультай, як мяшок паварочваешся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Апекула ты! — так гавораць на няўдалага чалавека.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *apýkula* 'тж' (ЛТ, 165).

АПІ′ЛКІ толькі *мн.* Апілкі. *Як рэжуць дровы, сыпяцца апілкі, а як ляжыць — пілавіння.* Рыбчына Віл.

АПІЛО′ЎЛІВАЦЬ *незак.* Апілоўваць. *Аполкі апілоўлівалі, як доскі рэзалі.* Граўжышкі Ашм.

АПІ′НІЯ *ж.* Рэпутацыя, аўтарытэт. *Яны страцілі апінію за бацька.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *opinia* 'думка; погляд'.

АПІ′НКІ *гл.* АПЕ′НЬКІ

АПІНЬКА′ *ж.* Пянька. *Вяроўкі вілі з апянькі.* Мярэцкія Глыб.

АПІСА′ЦЬ *зак.* Падрабязна расказаць пра што-н. *Усё расказаць — ні апісаць.* Ністанішкі Смарг.

АПІ′СУВАЦЬ *незак.* Апісваць. *Ён апісуе, што будзіць перат канцом.* Стральцы Шальч.

АПКАЛА′ЧАВАЦЬ *незак.* Абіваць. *Жыта апкалачавалі на насеня.* Бакшты Іўеў.

АПКАПЧЫ′ЦЬ *зак.* Правесці мяжу, укапаць слупкі на мяжы. *Разведзены сервітут пан апкапчыў, капцэ паставіў.* Дзяніскавічы Ганц.

АПКА′Р *м.* Той, хто кплівы, высмейвае іншых. *Апкар гэты з усіх смяецца, а сам які?* Семежава Кап.

АПКАРЛІ'ВЫ *прым.* Кплівы, насмешлівы. *Ён апкарлівы такі, насміхаецца з другіх.* Семежава Кап.

АПКАРЫ'ЦЬ *зак.* Акарыць. *Топяль быў, зрэзалі і пень апкарылі, адрастае зноў.* Рудня Астравітая Чэрв.

АПКАРЭ'ЦЬ *зак.* Пакрыцца брудам. *Яе мужык апкарэў, ні разу ня з'еў люцка, прабываў абы-як.* Саланое Віл.

АПКАШАРЫ'ЦЬ *зак.* Абмыць, прыбраць. *Я ўжо апкашарыла ў хаці.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* ст.-яўр. *kāšēr* 'прыгодны, прыдатны' (Фасм., II, 360).

АПКІ'ДА'ЦЬ *гл.* АБКІ'ДАЦЬ

АПКЛА'ДВАЦЦА *незак.* Накладвацца. *Апкладваюцца на бэлькі сліжы.* Дакудава Лід.

АПКЛЯЙМІ'ЦЬ *зак. перан.* Зняславіць. *Апкляйміў чалавека.* Дакудава Лід.

АПКО'ПІНЫ толькі *мн.* Дакопкі (бульбы). *Што, можа, у цябе ўжо апкопіны будуць?* Магуны Паст.

АПКРА'ДЗЕНЫ *дзеепрым.* Абкрадзены. *Глядзяць — апкрадзеныя: крыша прадзёрта і выняслі ўсё.* Ахрэмаўцы Брасл.

АПКРА'ЯЦЬ *зак.* Абразаць. *Апкраяйця хлеп!* Ракаўскія Швянч.

АПКРУ'ЖВАЦЦА *незак.* Акругляцца. *Пат поўня — месяц чуць ні апкружваяцца.* Дакудава Лід.

АПКРУ'ЖУВАЦЬ *незак.* Абкручваць. *Апкружуюць ручнікамі сватоў.* Ністанішкі Смарг.

АПКРЫВА'ВІЦЬ *зак.* Параніць. *Апкрывавіць яна яго, як пачне біцца.* Саланое Віл.

АПКУ'РЫЦЦА *зак.* 1. Прапахнуць дымам. *Апкурыцца весь тытунём.* Нававасёлкі Свісл. 2. Закапціцца. *Нада пакрасіць, а то апкурылася печ.* Магуны Паст.

АПКУСА'НЫ *дзеепрым.* Абкусаны, пакусаны. *Ходзіць апкусаны.* Мярэцкія Глыб. *Уся была рука апкусана, свой сабака апкусаў.* Кіралі Шчуч. *Весь апкусаны.* Рудня Астравітая Чэрв.

АПКУСА'ЦЬ *зак.* Абкусаць. *Камары яго апкусалі.* Старыя Смільгіні Воран.

АПКУ'ТАЦЦА *зак.* Ухутацца, адзецца. *Апкутайся, каб цёпла было.* Чычалі Швянч.

АПКУ'ТАЦЬ *зак.* Тое ж, што і а к у́ т а ц ь 2. *Апкутай дзіця, а то замерзне.* Чычалі Швянч.

АПКУ'ТЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і а к у́ т ы. *У плугу два зубы апкутыя.* Быстрыца Астр.

АПЛА'ВА I *ж.* Паводка ў час вялікага дажджу. *Як вялікі дошч, ды вады багато, кажуць, аплава.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* літ. *pláuti* 'абмыць'.

АПЛА'ВА II *ж. плыт.* Бервяно, прыбітае да краю плыта. *Аплава лаўкі задзержывая, кап лес убок не плыў.* Жылі Іўеў. *На падоўжныя дручкі ложацца папярэчныя дручкі, да іх пры-*

*біваюцца падоўжныя доскі — аплавы.* Калясное Міхал.; *параўн.* літ. *ãpplava* 'тж'.

АПЛАВУ'ШКА *ж. бат.* Балотная трава. *Аплавушка расце, дзе вада, багна, у балоце.* Дзяніскавічы Ганц.

АПЛА'НКІ *мн.* Тоўстыя шчэпкі, аскепкі. *Як хату будуюць, апсякаюць бервяно па бакох, тоўстыя шчэпкі — апланкі.* Бакшты Іўеў.

АПЛА'ТА *ж.* Зарплата. *Запішыця, каб дабавілі аплаты.* Жодзішкі Смарг.

АПЛА'ТНЫ *дзеепрым.* Аплачаны. *Даўней цяжкая работа была, але мала аплатная.* Жодзішкі Смарг.

АПЛАУ'Х, АПЛЭ'УХ *м. зневаж.* 1. Неразумны, дурань. *Аплаух — неразвіты чалавек. Аплаух ты!* Граўжышкі Ашм. *Аплаух! — так празвяскуюць у нас.* Жылі Іўеў. *Ах ты аплэух!* Саланое Віл. 2. Малы, недарослы. *Я аплэух яшчэ быў.* Саланое Віл.

АПЛАУ'ХІ *прым.* Віславухі, з абвіслымі вушамі. *Свіння аплауха.* Номікі Бабіц.

АПЛА'ЎНЫ *прым.* Праліўны. *Такі аплаўны дошч, прамок увесь.* Дзяніскавічы Ганц.

АПЛА'ЧУВАЦЬ *незак.* Даваць прыбытак, пакрываць страты. *Тая карова не аплачуе корму. Яны аплачуюць самы.* Паляцкішкі Воран.

АПЛЕНАВА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і а п а н а в а́ ц ь. *Яны апленавалі яго і спрашувалі.* Паляцкішкі Воран.

АПЛЕ'СКАВАЦЬ, АПЛЕ'СКАЦЬ *незак.* Падраўноўваць лапатай грады з бакоў. *Аплескавая грады роўнянько.* Малахоўцы Бар. *Нашто табе аплескаць грады?* Альхоўцы Лях.

АПЛЕ'ЦЕНЫ, АПЛЯТА'НЫ *дзеепрым.* Які мае аплётку з дубцоў. *Там стаіць ляк, аплецены на гас.* Номікі Бабіц. *Быў аплятаны гляк, карасіну ў ём дзяржалі.* Магуны Паст.

АПЛЁТКА *ж.* Плеценая частка чаго-н., перапляценне. *У бучку аплётка шла па лучынкам.* Істра Лудз.

АПЛІ'К *гл.* ГАПЛІ'К

АПЛІ'ЦА *ж.* Пятля для кручка. *Апліца парвалася, зрабі другую.* Ісерна Слуц.

АПЛО'ЦІНА *ж.* Жэрдка для агароджы. *Аплоціна ляжыць ля плоту.* Жылі Іўеў. *Як стаў аплоцінаю біць, то ледва яга ўнялі.* Калядзічы Ваўк. *Ён схапіў аплоціну — і да яго.* Вецярэвічы Пух.

АПЛУНІ'ЦЬ *зак.* Затлуміць, адурманіць. *Толькі старую аплуніла.* Ахрэмаўцы Брасл.

АПЛУЦІ'ЦЦА *зак.* Атлуміцца, адурманіцца. *Я сама аплуцілася, ня тоя гавару.* Рыбчына Віл.

АПЛУШКАВА'ЦЬ *зак.* Абараць, абагнаць. *Ён ужо аплушкаваў бульбу.* Старыя Смільгіні Воран.

АПЛЫВА'ТЫ *прым.* 1. Пляскаты. *Сляпень аплываты,*

*сляпні — такія аплыватыя мухі*. Рудня Астравітая Чэрв. 2. Пакаты. *Аплыватая страха быстра гніе*. Рудня Астравітая Чэрв.

АПЛЫ'СЦІ *зак*. Заліцца. *Звалілася з драбіны і кроўю аплыла*. Саланое Віл.

АПЛЭ'УХ *гл*. АПЛАУ'Х

АПЛЮ'К *гл*. ГАПЛІ'К

АПЛЮ'ХНУЦЬ *зак*. Азызнуць. *Аб'ехаў, аплюх, запушчаны ходзіць*. Індра Красл.

АПЛЮЧО'К *м. памянш*. да а п л ю́ к. *Як яго голкаю хто піне — сагнецца ў аплючок*. Дакудава Лід.

АПЛЯСНЕ'ЦЬ *зак*. Заплеснець. *Капуста аплянела*. Быстрыца Астр.

АПЛЯТА'НЫ *гл*. АПЛЕ'ЦЕНЫ

АПО'Й *м. вет*. Конская хвароба. *Апой бывая ў каня: як агрэты конь з дарогі і яго напаіць, то захварэе апоем, вада ідзе пад скуру і выбіваецца на ногі, раны робяцца*. Дзяніскавічы Ганц. *Апой бывае ў каня, як гарачага напоіш, калі конь утомлены*. Азяраны Раг.

АПО'ЛАК I *м*. Крайняя дошка з бервяна. *Два баке апілавалі і два аполкі, а сярэдзіна — на дошкі*. Кіралі Шчуч. *Аполкі застаюцца, забірайце іх*. Беразіно Докш. *Рэжуць на доскі, а с краю — аполкі*. Малахоўцы Бар. *З аполкаў зрабіў хлеў. Аполкаў дастаў*. Рудня Астравітая Чэрв.

АПО'ЛАК II *м*. Вялікі кавалак (сала). *Аполак сала — гэта цэлы бок сланіны*. Вялікія Баяры Шчуч.

АПО'ЛЕЦ *м*. Тое ж, што і а п о́ л а к II. *Аполец сала мне дала, чуць я яго панесла*. Галубы Маст. *Аполец сала адрэзваюць, на ўвесь яшчык — і соллю засыпаюць*. Пацаўшчына Дзятл. *Аполец сала вісеў*. Груздава Паст.

АПО'ЛІНЫ толькі *мн*. Адходы ад веяння апалушкамі. *Спалаў крупы, а аполіны аддзельна ссыпаў*. Мішневічы Шум.

АПО'МНІЦЦА, АТПО'МНІЦЦА *зак*. Успомніць. *Зарас апомнюся*. Кіралі Шчуч. *Можа атпомнюся: з далека не пазнала*. Ёдлавічы Брасл.

АПО'НА, ОПО'НА *ж*. Велакамера. *Апона ў ровары, воздух накачаваюць у апону, а як апона лэпнула — не паедзіш*. Ахрэмаўцы Брасл. *Апона лопнула ў ровары, заклеіць ці змяніць трэба*. Рыбчына Віл. *На роварах апоны, рызінавая апона*. Магуны Паст. *Апона ў роварыны, яе накачваюць*. Старыя Трокі Трак. *Ровэр с чырвонымы опонамы*. Сімапавічы Драг. 2. *анат*. Плацэнта. *У апоні нараджаецца жарабёнак, кабыла апону разрываіць*. Ахрэмаўцы Брасл.

АПО'НАЧЫ *прысл*. У поўнач. *Вазіла яго апоначы да доктара*. Вялікія Баяры Шчуч.

АПО'НКА *ж*. Вялікая хустка. *Як халадно, то апіналіся апонкаю. Як дошч ці вецер, мяцеліца — апіналіся ею*. Дзяніскавічы Ганц.

АПО′НЦЫ *мн.* Японскія гусі (з гузамі на галаве). *Апонцы — такія гусі гузаватыя.* Вялікія Баяры Шчуч.

АПО′РА *ж.* Той, хто аказвае падтрымку, дапамогу. *Ох, Пётр, ноч-поўнач зарабляў — апора вялікая была.* Саланое Віл.

АПО′РКІ *мн.* Паношаны абутак без халяў. Міратычы Карэл. *Адрэжаш халевы і во табе апоркі: іх можна насіць у хлеў.* Магуны Паст. *Боты падзяруцца, халявы адразаюць і астаюцца апоркі.* Дакудава Лід., Гайна Лаг.

АПО′ЎЗІНЫ *мн.* Некалькі звязаных уверсе палак, якія накладаюцца на завершаны стог. *Кладуць апоўзіны на стох, каб вецяр сена не разганяў.* Бакшты Іўеў. *Апоўзіны кладзе наверх — кільканасьця там палак.* Старыя Трокі Трак. *На стох кладуць апоўзіны, па чатыры звязваюць і надзяюць на кол.* Вецярэвічы Пух. *Завершаць стох, кладуць тры лазіны і называюць апоўзіны.* Азяраны Раг.

АПО′ЎЗЛІНЫ *мн.* Тое ж, што і а п ó ў з і н ы. *Апоўзліны — тры-чатыры звязаныя палкі на версе стога.* Рудня Астравітая Чэрв.

АПО′ЎЗЛЫ *прым.* 1. Тое ж, што і а п л ы в á т ы 2. *Апоўзлая страха скора гніе.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Абвіслы. *У яе грудзі апоўзлыя.* Курaполле Паст. *Апоўзлыя голля на бярозе.* Рудня Астравітая Чэрв.

АПО′ХНУЦЬ *зак.* Апухнуць. *Апохла рука. Баялася, што апохняць рука.* Магуны Паст. *Апохлі рукі, пашла пухліна па целе.* Ахрэмаўцы Брасл. *Рукі мае апохлі.* Асавец Віл.

АПО′ШНІ СТОЛ *м. абрад.* Памінальная вячэра. *Памёр чалавек, вячэра ў шэсць нядзель — гэто апошні стол.* Малахоўцы Бар.

АППЯ′ЦЬ *зак.* Ахінуць, абцягнуць. *Калыску аппяла пасцілкай.* Ахрэмаўцы Брасл.

АПРА′ВІЦЬ *зак.* Аблупіць. *Бульбу з лупінай зварыць, а потым яе апрaвіць.* Крэва Смарг.

АПРАМЕ′ЦЦЮ *прысл.* Стрымгалоў. *Пачула, як вужака зашыпела,— апрамеццю вылецела з лесу.* Валынцы В.-Дзв.

АПРАНА′ТА *ж.* Вопратка. *Дзе твая апраната?* Ванелевічы Кап.

АПРАНІ′ХА *ж.* Тое ж, што і а п р а н á т а. *Гэту апраніху звалі бурнос.* Бакшты Іўеў.

АПРАНУ′ЦЦА, ОПРАНУ′ТЫСЬ *зак.* Апрануцца. *Апраніся лепі.* Граўжышкі Ашм. *Апрані армячок.* Рыбчына Віл. *Апранецца, палітцо захіне — і след прастыў.* Ванелевічы Кап. *Ідзі апраніса.* Номікі Бабіц. *Опранысь, а то змэрзныш.* Сіманавічы Драг. 2. Укрыцца. *Вам холадна спаць, апраніцеся коўдрай.* Малахоўцы Бар.

АПРА′ТАВАЦЦА, АПРА′ТВАЦЦА, ОПРЯ′ТАТЫСЬ *незак.* 1. Апранацца. *Нада апратавацца, кап цёпла было.* Лоск

Валож. *Опрятайся, коб ны змэрз.* Сіманавічы Драг. 2. Накрывацца. *Лантух вялікі, удзвейгу апратваліся.* Альхоўцы Лях.

АПРА'ТАЦЦА *зак.* 1. Тое ж, што і апрану́цца. *Ідзі апратайся.* Тухавічы Лях. 2. Накрыцца. *Трэба апратацца радзюшкай.* Тухавічы Лях.

АПРА'ТАЦЬ I *зак.* Апрануць, надзець. *Ты ш яго апратай чысценька, і рабёнак будзя акуратненькі.* Кураполле Паст. *Світку апратай.* Тухавічы Лях.

АПРА'ТАЦЬ II *зак.* 1. Памыць. *Апратаю і адзену дзіця.* Ісерна Слуц. 2. Прыбраць у хаце. *Нада апратаць у хаця.* Старыя Трокі Трак. *Я апратаю ў хаця, а ты ідзі каровя дай.* Стральцы Гродз. *Пакуль не апратаюць хаты, не пойдуць.* Вецярэвічы Пух. 3. Пачысціць, памыць. *Карову трэба апратаць, тады даіць.* Граўжышкі Ашм. 4. Упарадкаваць. *Яны апраталі дрова.* Стральцы Гродз.

АПРА'ТВАЦЦА *гл.* АПРА'ТАВАЦЦА

АПРА'ТВАЦЬ *незак.* 1. Прыбіраць. *У хаця апратвыяш.* Дакудава Лід. 2. Упарадкоўваць ток. Номікі Бабіц.

АПРА'ЎКІ *мн.* Ачоскі. *Другі рас чэшам* [лён] — *апраўкі палучаюцца.* Магуны Паст.

АПРАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Ачышчаць. *Казлякі трэба апраўляць.* Крэва Смарг. 2. Абчэсваць. *Када апраўляеш браўно — трэскі і кара ад яго.* Ухвала Круп.

АПРАЦІ'ВЕЦЬ *зак.* Стаць агідным, невыносным. *Апраціveў ён мне, не магу глядзець.* Міратычы Карэл.

АПРО'ЧВАЦЬ *незак.* Аддзяляць, адсаджваць. *Пылянят трэба апрочваць* [як выводзяцца], *а то кура патопча пылянят.* Вецярэвічы Пух.

АПРО'ШЛЫ *прым.* Мінулы. *Апрошлы гот была тут.* Кемялішкі Астр.

АПРУТНЕ'ЦЬ *зак.* 1. Азябнуць. *Я апрутнела, як у вадзе пастаяла.* Альхоўцы Лях. 2. Здохнуць. *Карова апрутнела ў гэту пору.* Альхоўцы Лях.

АПРЫ'КЛЫ *прым.* Надакучлівы. *Апрыклая ваша работа.* Лайпушкі Ігн.

АПРЫ'КРЫЦЬ *зак.* Надакучыць. *Ён апрыкрыў мне.* Рудня Астравітая Чэрв.

АПРЫ'Ч, АПРЫ'Ш, О'ПРЫЧ *прысл.* Асобна. *Жылі і елі апрыч.* Вострава Маст. *Усе ласункі апрыч усіх з'есь, а сім'я ніхай есь посная.* Кураполле Паст. *Свіня апрыч стаіць.* Навасёлкі Свісл. *Камле клалі апрыч, а вярхе — апрыч.* Каўняны Гродз. *Як веялі — зернеты апрыч, а мякіна апрыч і каласы апрыч.* Лісна В.-Дзв. *Багато ў нас пашні, а таму апрыш трэба класці снапы ў гумне.* Дзяніскавічы Ганц. *Косылы разом чы опрыч?* Сіманавічы Драг.

АПРЫ'ЧКІ, АПРЫЧО'НКІ толькі *мн.* Ласункі. *Глядзіць, каб апрычкаў з'есці.* Вецярэвічы Пух. *Яна апрычонкі ела, на*

*апрычонках жыла, дзе смятанку, яечкі, масельца — усё ласае з'есь.* Курaполле Паст. *Апрычонкі дзелала ат сям'і, чай піла, булкі ела, цягнула ат сям'і.* Валынцы В.-Дзв. *Апрычонкамі карміла мужа.* Лісна В.-Дзв.

АПСАВЕ'ТАВАЦЦА *зак. перан.* Параіцца. *Пчолы апсаветуюцца, і рой вылятая.* Данілавічы Дзярж.; *параўн.* руск. *посоветоваться* 'тж'.

АПСА'ДЗІСТЫ *прым.* Прысадзісты. *Вол апсадзісты.* Навікі Гродз.

АПСАДЗІ'ЦЬ *зак.* 1. З'явіцца ў вялікай колькасці. *Скуллё апсадзіла яго.* Мярэцкія Глыб. 2. Пасадзіць. *Яго* [рой] *апсадзіш звонам бальшым ці стральбой.* Быстрыца Астр. 3. Абсадзіць. *Баюся апсадзіць бліны, калі малака падылью.* Крэва Смарг. 4. Насадзіць. *Трэба апсадзіць ухваты.* Магуны, Дварчаны Паст.

АПСАІ'ЦЬ *зак.* Абпаіць. *Цялё апсаіла, многа малака дала.* Старыя Смільгіні Воран.

АПСА'ЙВАЦЬ *незак.* Выпойваць, выкормліваць. *У нас васямнасця парасят, апсайваям малаком.* Быстрыца Астр.

АПСА'ТКА *ж.* 1. Драўляная аправа, ручка (у прыладах працы). *Апсатка ці качан у пешні дзераўляная. Трэба касу асадзіць, у яе дзераўляная апсатка.* Малькуны Ігн. 2. Ручка для пісання. *Апсаткай пішуць.* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* польск. *obsadka* 'тж'.

АПСА'Ц *м.* Абцас. *Наверх падэшвы ў ботах набіваюць апсац.* Магуны Паст. *Даў апсацам у нагу.* Малькуны Ігн. *Цвякамі падбівалі апсацы.* Старыя Трокі Трак.

АПСВО'ЙЧАЦЦА *зак.* Асвоіцца. *Пабыў тут і апсвойчаўся чалавек.* Мсцібава Ваўк.

АПСЕ'КАЦЬ *гл.* АБСІКА'ЦЬ

АПСЕ'СЦІ *зак.* 1. Абсесці. *Памяшай поліўку, кап апсела.* Магуны Паст. 2. *перан.* Перадумаць, адмовіцца ад сваіх намераў. *Настроілася замуш ісці—і апсела. Настроілася ехаць—і апсела.* Курaполле Паст.

АПСЕ'СЦІСЯ *зак.* Тое ж, што і апсе́сці 2. *Задумала ехаць, ды апяць апселася.* Валынцы В.-Дзв.

АПСЕ'Ў *гл.* АБСЕ'Ў

АПСІ'ЛІЦЬ *зак.* Стаміць, адолець. *Апсіліла мяне работа, задужа мо работы.* Ахрэмаўцы Брасл.

АПСКРАБА'ЦЬ *незак.* Абскрабаць. *Нада рыбу апскрабаць.* Кіралі Шчуч.

АПСКРАПЦІ', АПСКРЭ'ПЦІ *зак.* Зняць лупіну, абчысціць. *Трэба апскрапці бульбу.* Альхоўцы Лях. *Папрасіла апскрэпці бульбу.* Рудня Астравітая Чэрв.

АПСКУБА'ЦЬ, АПСКУ'ПЦІ *зак.* Абскубці. *Сказала ёй курыцы апскубаць.* Кіралі Шчуч. *Трэба яшчэ куру апскупці.* Ністанішкі Смарг.

АПСЛУ'ГА *ж.* Абслугоўванне. *Няма апслугі ніякай.* Кураполле Паст.

АПСЛЮ'ЗНУЦЬ *зак.* Аслізнуць. *Апслюзла скварка; апслюзлі грыбэ.* Вялікія Баяры Шчуч.

АПСМО'РГАВАЦЦА *незак.* Абрывацца, церабіцца. *Толькі ціціўё, а лісты апсморгаваюцца.* Крэва Смарг.

АПСМО'РГАЦЬ *зак.* Абабраць, абчысціць. *Зварым бульбу, бывала, апсморгаям лупінкі і ямо з алеям.* Дакудава Лід.

АПСНІ'ГАВАЦЬ *зак. безасаб.* Пакрыцца снегам. *Усё поле апснігавала.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *apsnìgti* 'тж'.

АПСНІ'ГАНЫ *дзеепрым.* Пакрыты снегам. *Апснігана поля, натта няздарова кароў выганяць.* Ракаўскія Швянч.

АПСО'ХНУЦЬ *зак.* Абсохнуць, апасці. *Не ідуць жаць, покуль апсохня раса.* Бакшты Іўеў.

АПСТА'ЦЬ *зак.* Адстаяцца. *Зыдзе кроў, вада апстане.* Старыя Смільгіні Воран.

АПСТРО'ІЦЦА *зак.* Пабудавацца. *Толькі апстроіліся пасля пажару.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

АПСТРЫ'ХЧЫ *зак.* Абрэзаць. *Клінок возьміць, апстрыжэць і ўставіць у рукаў.* Рагулішкі Даўг.

АПСТУПІ'ЦЬ *зак.* Напасці, акружыць. *Пшчолы апступілі валы.* Старыя Смільгіні Воран.

АПСУШЫ'ЦЬ *зак.* 1. Абсушыць зверху. *Апсушы трошачка спадніцу.* Паляцкішкі Воран. 2. Высушыць. *Апсушылі кругом балаты.* Ракаўскія Швянч.

АПСЫПА'ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і а к ў ч н і к. *Апсыпальнікам абганяюць бульбу.* Старыя Смільгіні Воран.

АПСЫ'ПАЦЦА *зак.* 1. Ссунуцца, аб'ехаць. *Пасмачка с клупка апсыпіцца.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Абпасіцца, абшморгацца, падрацца. *Апсыпаўся падол у спадніцы.* Кураполле Паст. 3. Пакрыцца прышчамі. *Ён абмок і апсыпаўся скуллём.* Саланое Віл.

АПСЫ'ПАЦЬ *зак.* Абсыпаць. *Будзьта мурашкамы апсыпала мяне.* Ахрэмаўцы Брасл.

АПСЫПА'ЦЬ *незак.* Акучваць. *Ест гачка буракі апсыпаць.* Мсцібава Ваўк.

АПСЫСА'ЦЬ *незак.* Абсмоктваць. *Мядзвець нагне чаромаху і ягады апсысая.* Вецярэвічы Пух.

АПТ *м.* Гафтаваныя карункі. *Апт шырокі купіла да гацей.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *ãplai* 'тж'<польск. *hafty.*

АПТАВА'НЫ *гл.* АФТАВА'НЫ

АПТАПІ'ЦЬ *зак.* Затапіць. *У нізіне вадой аптопіць.* Ракаўскія Швянч.

АПТАЎКА'ЦЬ, АПТО'ЎКАЦЬ *незак.* Абтоўкваць. *Аптаўкаюць зярно і мелюць.* Дзяніскавічы Ганц. *Аптоўкаць трэба авёс і тагды малоць. Дзеўкі не хацелі аптоўкаць.* Вецярэвічы Пух.

АПТАШЧА'ЦЬ *зак.* Схуднець, змарнець. *Кароўка апташчала, ня ходзіць у стадзі.* Валынцы В.-Дзв.

А'ПТКА *гл.* ГА'ФТКА

АПТО'ХЦІСЯ *зак.* Задыхацца. *Бех-бех, аш аптохся.* Лісна В.-Дзв.

АПТРАСЦІ' *зак.* Абцерушыць. *Во аптрасла якім шурам спадніцу.* Ракаўскія Швянч.

АПТРЭ'СЦІ *зак.* Абтрэсці, абкалаціць. *Трос-трос і аптрос яблыкі.* Дзяніскавічы Ганц.

АПТУЛІ'ЦЬ *зак.* Абкласці. *Дзіця пасадзіла і аптуліла подушкамі.* Кіралі Шчуч.

АПТУ'ШАВАЦЬ *незак. кулін.* Тушыць. *А я аптушаваю бульбу ў печы.* Магуны Паст.

АПТУШЫ'ЦЬ I *зак.* Затушыць. *Будзіць курыцца галавешка, я яе аптушу.* Валынцы В.-Дзв. *Пажар аптушылі скора.* Масішкі Красл.

АПТУШЫ'ЦЬ II *зак. кулін.* Стушыць. *Я аптушу бульбу.* Магуны Паст.

АПУ'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Спужаны. *Свіня апуджаныя.* Жодзішкі Смарг.

АПУ'ПРЫЦЬ *зак. безас.* Апушыць, абадзьмуць. *Цібе апупрыць, не еш.* Навасёлкі Свісл.

АПУРЫ'ЦЬ *зак. безас.* Тое ж, што і а п ý п р ы ц ь. *Ня буду есці яблыкі, мяне апурыць.* Кураполле Паст.

АПУСТАВА'ЦЦА *зак. перан.* Збяднець. *А як апустуесся, ніхто не заедзіць.* Дакудава Лід.

АПУ'СЦІСТЫ *прым.* Апушчаны, схілены. *Апусцістая гале.* Данілавічы Дзярж.

АПУСЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Зацягнуцца, пакрыцца. *Апусцілася хмарамі неба.* Галубы Маст. 2. Распусціць валасы. *Апусцілася валасамі, як русалка.* Мішневічы Шум.

АПУСЦІ'ЦЬ *зак.* Перамясціць ніжэй, звесіць. *Лаза апусціла лапы.* Міратычы Карэл.∇*Кап цябе ўзняло ды не апусціла!* Граўжышкі Ашм.

АПУ'ХА I *ж.* Дошка, якую прыбіваюць да краю страхі. *Апуха прыбіваецца да страхі, кап салома не скідалася. Бура сарвала тыя апухі.* Вецярэвічы Пух. *Прыбі апуху!* Баброўнікі Гарад.

АПУ'ХА II *ж. крав.* Футравая абшыўка. *Кучаравую апуху даюць у кажусе.* Пацаўшчына Дзятл. *Шылі кажухі с апухай.* Магуны Паст. *Апуха — апшыўка ў кажуху.* Быстрыца Астр. *Апуха — мяхавая аддзелка ў кажуха.* Крэва Смарг. *Трэба апшыць апухі кругом кажуха; тут адна апуха.* Кіралі Шчуч.

АПУ'ХЦІ *зак.* Тое ж, што і а п ó х н у ц ь. *Можа язык апухці.* Рудня Астравітая Чэрв.

АПУ'ШЧАНЫ *дзеепрым.* Запушчаны, недагледжаны. *Магільнік быў апушчаны.* Магуны Паст.

АПУШЫ́ЦЬ *зак. безас.* Тое ж, што і а п у́ п р ы ц ь. *Апушыло мяне, жывот апушыло, не знаю ад чаго.* Мсцібава Ваўк. *Карову апушыла, абдуло, паела канюшыны.* Мярэцкія Глыб. *Як пад'ела, дык апушыла мяне, стала пушыць.* Саланое Віл. *Апушыла міне.* Малыя Аўцюкі Калінк.

АПХАДЗІ́ЦЦА *незак.* і *зак.* 1. Ухадзіцца і ўходжвацца. *Ісці нада ўжэ апхадзіцца.* Ракаўскія Швянч. *Іду дахаты, нада скарэй апхадзіцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ей ня рупіць, што нада апхадзіцца.* Кураполле Паст. *Пашла ўжэ апхадзіцца.* Магуны Паст. *Іду апхадзіцца, бо заўтра нада ехаць.* Малькуны Ігн. *Янак апхадзіўся: пака прыехала, і карову падаіў і свіням даў.* Ракаўскія Швянч. 2. Добра паводзіць сябе з людзьмі. *Ён з людзьмі умеў абхадзіцца.* Лісна В.-Дзв.

АПХАХУ́ЛІЦЬ *зак. экспр.* Прыбраць. *Нада ў хаці троху апхахуліць.* Валынцы В.-Дзв.

АПХВАРАСТА́ЦЦА *зак.* Абшморгацца. *Падол увесь апхварастаўся.* Лісна В.-Дзв.

АПХО́ДЗІЦЦА *незак.* 1. Тое ж, што і а п х а д з і́ ц ц а 1. *Я рана апходжуся.* Ністанішкі Смарг. 2. Тое ж, што і а п х а д з і́ ц ц а 2. *Ты перш пайчыся з людзьмі апходзіцца.* Мсцібава Ваўк. 3. *безас.* Даставацца. *Цяшка мне апходзіцца гэта.* Альхоўка Навагр. 4. *зак.* Пачаць скубці траву. *Можа каровы апходзяцца троха, а то ляцяць і ляцяць.* Малькуны Ігн.

АПХО́ДЗІЦЬ I *незак. безас.* Непакоіць, турбаваць. *Мне нічога не абходзіць. Маццы апходзіць, што жонцы аддае грошы, раней палучыць і да капеячкі аддась маццы.* Ахрэмаўцы Брасл.

АПХО́ДЗІЦЬ II, АПХАДЗІ́ЦЬ *незак.* 1. Узыходзіць (пра нябесныя свяцілы). *Была раніца, апходзіла сонца, там хмарка астанавілася. Ён* [месяц] *перат светам апходзіць, сярпочак.* Дакудава Лід. 2. Прарастаць, усходзіць (пра пасевы). *Бульба быстра апходзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Апходзіла жыта.* Вязынка Маладз. *Ерына, бульба апходзіць.* Лайпушкі Ігн. *Бульба быстра апходзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Апходзіць жыта.* Вязынка Маладз.

АПХО́ЛЫ *прым.* Усходжы. *Так тапілі восіць, кап зярно было апхолая.* Ахрэмаўцы Брасл.

АПХО́Т *м.* Усходы (пра пасевы). *Добры апхот — гэта добры рост.* Жодзішкі Смарг. *Апхот быў харошы — аўсы, ячмені.* Малькуны Ігн.

АПЦЕРАБІ́ЦЬ *зак.* 1. Абчысціць. *Цыбулю апцерабіла.* Азяраны Раг. 2. Абарваць. *Трэба апцерабіць расты ў бульбы.* Індра Красл.

АПЦЁКШЫ *дзеепрым.* Заліты. *А мама ляжыць, апцёкшая кроўю.* Саланое Віл.

АПЦЁРТЫ *дзеепрым.* Абмуляны. *Апцёрты конь, хамут не дабраны па кані.* Альхоўцы Лях.

АПЦЁРЦІ *зак.* Аддзяліць насенне ад сцяблоў, пераціраючы іх рукамі. *Я ўжо кмін апцёрла, быў сухі, нада было апцёрці.* Кураполле Паст.

АПЦІКА'РЫХА *ж.* Аптэкарка. *Апцікарыха казала, ні памагаіць гэта лікарства.* Валынцы В.-Дзв.

АПЦІ'НАК *м.* Тое ж, што і агрэ́х. *Трактар пройдзе, і апцінак такі астаецца.* Стары Свержань Стаўб.; *параўн.* польск. *odcinek* 'адрэзак'.

АПЦІНА'ЦЬ *незак.* Абразаць. *Ці апціная, ці абразая — тоя ш.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *odcinać* 'адсякаць, адразаць'.

АПЦІРА'ЦЬ *незак.* Абрываць парасткі раслін. *Апцірала храсткі ў картошкі.* Дакудава Лід. *Картофля страшня парасла ў ямі, нада апціраць.* Кіралі Шчуч. *Храстке апцiралі ў бульбе.* Воўкуш Ліпск.

АПЦІРУШЫ'ЦЬ *зак.* Разгарнуць. *Апцірушыла рукой зямлю, а там баравік цэлы.* Валынцы В.-Дзв.

АПЦІ'ХНУЦЬ *зак.* 1. Пацішэць, супакоіцца. *Трохі апціхлі дзікі.* Граўжышкі Ашм. 2. Суняцца (пра боль). *Жывот апціх.* Асавец Віл. 3. *безас.* Уціхнуць, сціхнуць (пра надвор'е). *На дварэ апціхла, дошч перастаў.* Старыя Смільгіні Воран.

АПЦУ'РЫЦЬ *зак.* Абмачыць. *Як апцурыць дош.* Саланое Віл. *Апцурыў мяне дошч.* Старыя Смільгіні Воран. *Як мглой, апцурыў дошч.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *apčiūrinti* 'абліць, абмачыць' (ЛТ, 164).

АПЦЭ'НГІ, АПЦЭ'НҐІ, АПЦЭ'НЬҐІ, АПЦЭ'НЬКІ, ОПЦЭ'НЬКЫ толькі *мн.* Абцугі. *Маеце апцэнгі? Апцэнгі ест у вас?* Мсцібава Ваўк. *Апцэнгі прынясі.* Бакшты Іўеў. *Апцэнгі вазьмі і выцягні цвік.* Альхоўцы Лях. *Дай апцэнгі.* Быстрыца Астр. *Апцугі ест пласкія, апцэнгі — кручкаватыя.* Старыя Трокі Трак. *Апцэнгамі дастаюць цвіке.* Малахоўцы Бар. *Вазьмі апцэньгі і вырві цвік.* Кіралі Шчуч. *Апцэнькі прынясі хутчэй.* Беняконі Воран., Грыкені Вільн. *Опцэнькы новы купыв.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* польск. *obcęgi* 'тж'.

АПЦЭ'САМ *прысл.* Стрымгалоў. *Кошка апцэсам ляціць на мышы.* Кіралі Шчуч.

АПЦЯ'ГАВАЦЬ *незак.* Знімаць, выцягваць няроўную салому са снапа. *Апцягаваіш са снапоў апцяшку.* Індра Красл.

АПЦЯ'ГАВІНЫ, АПЦЯ'ГІВІНЫ толькі *мн.* Атрэп'е. *Лён трэпеш — апцягавіны атходзяць.* Жылі Іўеў. *Апцягівіны пралі.* Жыдзевічы Іўеў.

АПЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* 1. Загарадзіць кругом. *Апцягнуў жэрткамі картофлю.* Кіралі Шчуч. 2. *безас.* Зацягнуць, нагнаць хмар. *Дош лье, апцягнула кругом на цэлу ноч.* Альхоўка Навагр.

АПЦЯ'ГНЯНЫ *дзеепрым.* Пакрыты, пацягнуты матэрыялам. *Даўней у мяне быў апцягняны кажух.* Стральцы Гродз.

АПЦЯМНЕ'ЦЬ *зак. безас.* Пацямнець. *Хмарна, апцямнела.* Ракаўскія Швянч.

АПЦЯЧЫ' *зак.* Абцячы. *Апцякуць снапы і будуць патсыхаць.* Альхоўка Навагр.

АПЦЯ'ШКА *ж.* Кажух, пакрыты сукном. Альхоўцы Лях.

АПЦЯ'ШКІ *мн.* 1. Адходы ад трасты льну. *Апцяшкі — як лён падымаюць.* Слабада Смал. 2. Тое ж, што і а п ц я́ г а в і н ы. *Як трэпіш лён — апцяшкі апцягаваіш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як лён мнеш і апцягваяш — апцяшкі.* Жодзішкі Смарг.

АПЧАПА'ЦА *зак.* Прыліпнуць, прыстаць да чаго-н. ***Ён*** [хлеб] *апчапаўся за рукі, ён ня рыхлы ў дзешцы.* Масішкі Красл.

АПЧАПІ'ЦА *зак.* Абшчапіць, абняць. *Я апчапілася каля гэтага сабакі.* Індра Красл.

АПЧА'ХНУЦЬ *зак.* Абсохнуць. *Ніхай зімля апчахніць.* Валынцы В.-Дзв.

АПЧО'СКА *ж.* Трэскі пры абчэсванні бярвенняў. *Апчоска на падпал пойдзе.* Глівін Барыс.

АПЧЫКЕ'РЫЦЬ *зак. экспр.* Абстрыгчы абы-як. *Ну і апчыкерыў ён цябе пад барана.* Засецце Дзятл.

АПЧЭ'РПАЦЬ *зак.* Абхапіць, абняць. *Свайго кавалера апчэрпала.* Рагулішкі Даўг.

АПШАБАДЗЕ'ЦЬ *зак. экспр.* Абрасці барадой, валасамі. *Не пабрыўся, апшабадзеў. Чаго ты так апшабадзеўшы?* Ёдлавічы Брасл.

АПШАЛАЦІ'ЦЬ *зак. экспр.* Абдурыць, абакрасці. *Апшылацяць старыка на базары, а яму і ніўцям.* Мярэцкія Глыб.

АПШАЛЁВАНЫ *дзеепрым.* Абшаляваны. *Апшалёвана вакно.* Рудня Астравітая Чэрв.

АПШАЛЁЎКА *ж.* Абшыўка шалёўкай. *Апшалёўка дзвярэй, пад апшалёўкаю ушакі.* Дзяніскавічы Ганц.

АПШАМБЭ'РЫЦЬ *зак. экспр.* Тое ж, што і а п ш а л а ц і́ ц ь. *І ніхто цябе не апшамбэрыў?* Ухвала Круп.

АПША'Р, АПШЫ'Р *м.* Абшар. *Вялікі апшар заняты капцамі, там капцы і капцы.* Граўжышкі Ашм. *Кругом яго апшыр быў* (абшар зямлі). Лоск Валож.

АПША'РГАНЫ *дзеепрым.* Абшарпаны. *Ходзіць у апшарганай ватовацці.* Граўжышкі Ашм.

АПША'РПАЦЬ *зак.* Тое ж, што і а п с к у б а́ ц ь. *Як апшарпаям пер'я, астаюцца дуткі.* Жодзішкі Смарг.; **парайн.** польск. *obszarpać* 'абарваць, абадраць'.

АПШАРПНУ'ЦЦА *зак.* Абадрацца (пра цела). *Апшарпнуўся ён.* Чычалі Швянч.

АПШАРУ'ДЗІЦЬ *зак.* Перaтрэсці, разбурыць. *Апшарудзілі ўвесь будынак.* Рыбчына Віл.

АПШАРЭ'ШАЦЬ *зак.* Заіпець. *Пакуль да станцыі дойдзеш, уся апшарэшаеш.* Мачаск Бярэз.

АПША′СТАЦЬ *зак.* Тое ж, што і а п ш а л а ц і ц ь. *Яго там апшасталі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Іх там усіх апшасталі.* Дварчаны Паст.

АПША′ТАЦЦА *зак.* Тое ж, што і а б а й ц і с я. *Я ўжо апшаталася: печ выпаліла, усіх накарміла, памыла лаву, стол. Яшчэ не апшаталася, а хочацца абедаць.* Ністанішкі Смарг.

АПШАЦЕ′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і а п ш а р э́ ш а ц ь. *Дрэвы апшацелі сягодня. Моцна харашо, як апшацеюць дрэвы — на урожайны гот.* Ёдлавічы Брасл.

АПШВА′БІЦЬ *зак.* Тое ж, што і а п ш а л а ц і ц ь. *Яны яго апшвабяць, выцягнуць грошы.* Груздава Паст.

АПШКУРА′НЫ *дзеепрым.* Здзёрты, аблуплены. *Ракаў ловяць на белую ўклейку ці на апшкураную лягушку.* Шкаўна Лудз.

АПШЛА′ТАЦЬ *зак.* Зака́пацць, запляміць чым-н. *Апшлатаеш сукенкі чарнілам.* Кіралі Шчуч.

АПШМО′РКАЦЬ *зак.* Абшморгаць, абарваць. *С кустоў зберыш, шпенькі апшморкаіш.* Ракаўскія Швянч.

АПШНУРАВА′ЦЬ *зак.* Зрабіць метку шнурам. *Апшнуроўваям штуку* [бервяно] *і пілуям.* Стральцы Гродз.

АПШНЮ′ПНУЦЬ, АПШНЮПНІ′ЦЬ *зак.* 1. Абвіснуць, задрамаўшы. *Абдрамаў чалавек, апшнюп увесь.* Магуны Паст. 2. Звянуць. *Доўга не стаяць дайнічкі* [кветкі] — *апшнюпня́ць.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *apšnìúpti* ’схіляцца’.

АПШО′РЫЦЬ *зак.* Выпацкаць. *Апшорыла спадніцу во чым.* Ракаўскія Швянч.

АПШУ′РПАНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і а п ш а́ р г а н ы. *Пастух прышоў з поля апшурпаны.* Малькуны Ігн.

АПШУ′РПАЦЦА *зак.* 1. Неахайна апрануцца. *Я апшурпалася абы-як і іду, кійком папіраюся.* Валынцы В.-Дзв. 2. Раскудлаціцца. *Апшурпайся я ўвесь — вецер.* Малькуны Ігн. 3. Узлахмаціцца. *Кура апшурпалась — ліняіць.* Малькуны Ігн.; *гл.* а ш у́ р п н у ц ь.

АПШЧАКЯТУ′РАНЫ *дзеепрым.* Абтынкаваны. *Хата яе апшчакятурана.* Ахрэмаўцы Брасл.

АПШЧАЛУ′ГАВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і а п ц і р а́ ц ь. *Бульба парасла, я расты апшчалугавала.* Груздава Паст.

АПШЧО′ *прысл.* Сумесна, супольна, разам. *Сумелі апшчо абмалаціць.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* руск. *сообща* ’тж’.

АПШЧЫ′КАЦЬ *зак.* Тое ж, што і а п ц е р а б і ц ь 2. *Храсты апшчыкала, парасліі бальшыя ў бульбі.* Кураполле Паст.

АПШЫ′Р *гл.* АПША′Р

АПШЭ′РГАЦЦА *зак.* Запэцкацца, абкарэць, абадрацца. *Апшэргайся ўвесь і ходзіць апшэргаўшыся.* Жылі Іўеў.; *параўн.* польск. *szargać* ’пэцкаць, брудзіць’.

АПШЭ′РПАЦЦА, АПШЭ′ПРАЦЦА *зак.* 1. Абскубціся, распушыцца. *Апшэрпайся стажок — вецер падняў усю салому.*

Малькуны Ігн. 2. Абшарпацца, абнасіцца. *Апшэпралася ты нешта.* Галубы Маст.; *гл.* а п ш у́ р п а ц ц а.

АПЫ'КАЦЬ *зак.* Натрапіць, знайсці. *Сягоння апыкала ў затайным мейсцы ягат. Ён апыкаў добрай травы.* Ністанішкі Смарг.

АПЫЛЕ'НЯ *н.* Апыльванне (хімікатамі). *Пашкодзіла дрэвам апыленя.* Граўжышкі Ашм.

АПЫНУ'ЦЦА *зак.* Аказацца дзе-н. *Ён апынуўся пад Масквой.* Ахрэмаўцы Брасл. *Аш вун дзе апынуўся.* Паляцкішкі Воран.

АПЫТА'ЦЬ *зак.* Распытаць, знайсці што-н., распытваючы. *Апыталі і купілі карову.* Груздава Паст. *Я апытала сабе яец.* Вецярэвічы Пух.

АПЭЛЁВА'НЕ *н. юрыд.* Апеляцыя. *Апэлёване до Бялостоку ніц ёму нэ помогло, шчэ хотіелі доложыті.* Курашэва Чыж.

АПЯНЬКІ' *гл.* АПЕ'НЬКІ

АПЯРЭ'ЖЫЦЬ *зак. экспр.* Моцна ўдарыць. *Апярэжыла палкай, чапільнікам, чым пападзе ёй ці яму.* Рудня Астравітая Чэрв.

АПЯЧЫ' *зак.* 1. Пашкодзіць агнём скуранае покрыва. *Угарэлася кудзеля, бараду апякла.* Альхоўка Навагр. 2. Запарыць гарачай вадою. *Апікла дзяжу, будзіць скала ў хлебя.* Саланое Віл. 3. Запячы. *Апячы хлеб трэба; трэсачак кладзеш і апякаеш хлеб.* Ракаўскія Швянч.

АПЯЧЫ'СЯ *зак.* Запарыцца. *Апіклася дзіжа; апячэцца, як на печ паставюць кісці.* Саланое Віл.

АРАБІ'НА, ГАРАБІ'НА *ж. бат.* Рабіна. *Цяпер варацъ арабіну, я яе не магу есці.* Малахоўцы Бар. *Арабіна расце ў нас.* Вецярэвічы Пух., Пасека Ст.-Дар. *З гарабіны сок робяць.* Міратычы Карэл. *Гарабіна ў нас расце.* Дакудава Лід., Альхоўка Навагр., Тухавічы Лях.

АРАБО'К *м.* Рабчык. *Арабок — птушка такая.* Навасёлкі Свісл. *Арапкі, як куранята.* Альхоўцы Лях.

АРАДНІНА' *гл.* ГАРО'ДНІНА

АРА'К *м. заал.* Рак. *Пад узвалам арак сядзеў. Аракі жывуць, дзе карчэўя. Пашоў аракаў лавіць.* Ліспа В.-Дзв.

АРА'ЛЬНЫ *прым.* Запражны. *Аральны вол у ярме хадзіў.* Ахрэмаўцы Брасл.

АРА'НЁ *н.* Ворыва. *Якое тваё аранё, вот неўдалішча — накярзаў, намярзаў.* Старыя Смільгіні Воран.

АРА'ПНІК *м.* Біч, сплецены з рэменя. *Арапнікам дала па плічах.* Ахрэмаўцы Брасл.

АРА'ТЫ, ГАРА'ТЫ, АРАТА'Й, ГАРАТА'Й, АРТА'Й, ГАРТА'Й *м.* Араты. *Прынясі есці аратаму.* Рыбчына Віл. *Гараты гарэ ў крыніцах.* Міратычы Карэл. *Аратай, што зямлю арэць.* Ракаўскія Швянч. *Дрэнны аратай, цальнік кідаіць.* Магуны Паст. *Артай арэць канём.* Саланое Віл. *Каторы жыве на вёс-*

*цы, кожды гартай.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *artójas* 'тж'.

АРАХВЯ'НІСКА *н.* Гарохавішча. *Гарох у халхозя скасілі, асталося арахвяніска.* Быстрыца Астр.

АРА'ЦЬ, ГАРА'ЦЬ, ГОРА'ТЫ *незак.* 1. Араць. *Ён арэць добра.* Саланое Віл. *Аралі сахой, патом плугам.* Відаўцішкі Вільн. *Як гаруць, то чапляюць пастаронкі за ворчык.* Вялікія Баяры Шчуч. *Калісьці гаралі сахой.* Старыя Трокі Трак. *Драўлянай сахой гаралі.* Стральцы Гродз. *Тата валом гараў.* Мсцібава Ваўк. *Што рабіў? — гараў.* Паляцкішкі Воран. *Мо гарацьмо?* Дзяніскавічы Ганц. *Яны сеялі і гаралі.* Гемзы Шальч. *Гараў трактар.* Стральцы Шальч. *Гарацъ за гай пашлі.* Кіралі Шчуч. *Сохамі гаралі, гаралі валамі.* Грыкені Вільн. *За Польскаю гаралі сахою.* Беняконі Воран. *Ён гараў поле.* Вострава Маст. *Я не відзела, як валамі гаралі.* Новікі Гродз. *На быкох гаралі.* Беняконі Воран. *Некалі гаралі валамі.* Альхоўка Навагр. *Як гаруць, гракі чэрві выбіраюць.* Дакудава Лід. *Гараў-гараў — хацеў сесці, а тут сказалі свіням несці.* Жылі Іўеў. *Пахае по-руську, а по-нашэму горэ.* Горск Бяроз. *До мыколаёвськыі войны в нас шэ горалы сохамы, а посля не.* Сіманавічы Драг. 2. Тармазіць плыт. *Дзелалі саху, выскаквалі с сахой на берах — і арэць. Ары! — і заарэць ганок.* Лісна В.-Дзв.

АРА'ЧЫ *гл.* ГАРА'ЧЫ

АРАШНЯ'К *м.* Тое ж, што і а л е ш ч ы н я́ к. *У лясу расце арашняк.* Малькуны Ігн.

АРБА' I *ж.* 1. Тое ж, што і а р а́ н ё. *Васенняя арба.* Мярэцкія Глыб. *Вядома ш, якая арба была на валах.* Крэва Смарг. *У гэтым годзе благая арба: то дошч ліець, то мокра.* Малькуны Ігн. 2. Узаранае поле. *Дзе арба канчаецца, пачынаецца прывалак.* Малькуны Ігн.

АРБА' II *ж.* Горб. *У арбу скруціла яе. Што ты ў арбу схіліўся?* Старыя Смільгіні Воран.

АРБА'ТЫ *гл.* ГАРБА'ТЫ

АРБО'Н *м.* Аўтобус. *Арбон ідзе вёскай.* Старыя Трокі Трак. *Арбон ідзе да Гродна.* Стральцы Шальч. *Ехала арбонам, чы аўтобусам, часцей аўтобус кажуць.* Малькуны Ігн.

АРГАНІ'СТЫЙ *м.* Арганіст. *Арганістый захадзіў.* Быстрыца Астр.

АРГА'НЫ *мн. муз.* Арган. *Арганы на хорах у касцелі.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *organy* 'тж'.

АРГІ'НЯ *гл.* ВЯРГІ'НЯ

АРДЗЕЛЯВА'ТЫ, АРДЗІЛЯВА'ТЫ *прым.* Кручаны, пакручасты (пра драўніну). *Ардзеляватая сосна з кручанай драўнінай.* Рыбчына Віл. *Ардзіляватая дзерава бываіць крывоя, северныя слаі цвёрдыя, як костка.* Кураполле Паст.

АРДЗІЛІНА' *ж.* Крывое дрэва. *Бываіць крывіна такая, называюць ардзіліна, жасцяная дрэва.* Кураполле Паст.

АРЖА′ *ж.* 1. *бат.* Хвароба злакавых культур, сажа. *Аржа з'еўшы колас.* Жылі Іўеў. 2. Рудая вада ў балоце. *Там аржа, не можна піць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

АРЖАВЕ′ЦЬ *незак.* Іржавець. *Сталі аржавець начоўкі.* Асавец Віл.

АРЖА′ВІНА *ж.* Руда на балоце. Ністанішкі Смарг.

АРЖАВІ′ННІК *зб. м.* Тое ж, што і а ж ы́ н н і к. *Дзе багун, там аржавіннік расцець.* Ахрэмаўцы Брасл.

АРЖАВІ′ННЯ *н.* Тое ж, што і а р ж а́ в і н а. *Аржавіння — гэта жоўтая густая грась у балоце.* Саланое Віл. *Аржавіння на балоце.* Жодзішкі Смарг.

АРЖАВІ′НЫ *мн.* Тое ж, што і а ж а в і́ н ы. *Аржавіны ў нас растуць.* Валынцы В.-Дзв.

АРЖА′ВЫ *прым.* Іржавы. *Начоўкі сталі аржавыя.* Асавец Віл.

АРЖАНЫ′ *прым.* Жытні. *Аржаная салома.* Альхоўцы Лях. *Аржаны хлеп, аржаная мука.* Лісна В.-Дзв.

АРЖО′ННЯ *н.* Іржышча. *Аржоння пасля жыта.* Лісна В.-Дзв.

АРЖЫ′СКА, АРЗЫ′СКА *н.* Тое ж, што і а р ж о́ н н я. *Аржыска аралі на зіму.* Старыя Смільгіні Воран. *Аржыска пахалі.* Стральцы Шальч. *Як жыта сажнуць, астаецца арзыска.* Кемялішкі Астр. *Жыта жжалі, асталося арзыска.* Быстрыца Астр.

АРЖЫ′ШЧА *н.* 1. Тое ж, што і а р ж о́ н н я. *Аржышча пасля жыта. Пагналі ў аржышча кароў.* Кураполле Паст. *На аржышчы кароў пасуць.* Груздава Паст. 2. Кошанка з іржышча. *Пойдзім аржышча складаць. Утрох злажылі аржышча.* Ністанішкі Смарг.

А′РКУШ *м.* Невялікі ліст паперы, стандартны кавалак шыферу і інш. *Аркуш паперы. Аркуш шыферу.* Чычалі Швянч.; *парайн.* польск. *arkusz* 'тж'.

А′РМІЯ *ж.* Армія. *Сын у арміі.* Старое Сяло Зэльв. *Владзюк гаспадарлівы, у арміі быў.* Паляцкішкі Воран.

АРМО′НІК *м. муз.* Гармонік. *Армоніка купіў.* Быстрыца Астр.

АРМО′ШКА *ж.* Тое ж, што і а р м о́ н і к. *На армошку грай.* Паляцкішкі Воран.

АРМЯ′К *м.* Верхняя вопратка з даматканага сукна. *У мацi яшчэ старынны армяк захаваўся.* Беразіно Докш. *Армяк доўгі.* Саланое Віл. *Армяк шылі мужчызне на начлех.* Быстрыца Астр. *Армяк парвалі. Армякі шылі.* Ахрэмаўцы Брасл.

АРМЯЧО′К *м. памянш.* да а р м я́ к. *Надзенуць армячок і хараша.* Саланое Віл. *Армячок пашыў і добра.* Мішневічы Шум.

А′РНІК *м. бат.* Купальнік. *Арнік — трава ад ран.* Ністанішкі Смарг. *Арнік жоўтым цвяточкам цвіцець, расцець каля*

*ракі па ніскіх містах.* Валынцы В.-Дзв. *Арнік піць, як жалудак баліць.* Шамялі Брасл.; *парайн.* літ. *árnikas*<лац. *arnica (montana)* 'тж'.

АРО'ВЫ *прым.* Тое ж, што і а р а́ л ь н ы. *У яждовага каня — ужы, а ў аровага — пастронкі.* Быстрыца Астр.

АРО'Л *м.* Каршун. *Арлы і совы прылятаюць.* Істра Лудз. *Птушку такую называюць арлом, а па-руску — каршун.* Пасіене Лудз.

АРО'МЫ *прым.* Які прызначаецца для арання. *Аромы хамут кожай не апшываўся, хамуціны нету, войлак і ўсё.* Пасіене Лудз.

АРО'Х *гл.* ГАРО'Х

АРО'ХАВЫ *гл.* ГАРО'ХАВЫ

АРО'ШАНЫ *гл.* ГАРО'ШЫНЫ

А'РПА *гл.* А'РФА

АРПАВА'ЦЬ *незак.* Арфаваць. *Арпу́ім збожжа.* Саланое Віл.

АРТА'Й *гл.* АРА'ТЫ

АРУ'Д, АРУ'Т, ГАРУ'Д, ГАРУ'Т *м.*, ГАРУ'ДА *ж.* Засек. *У аруд зерне засыпалі.* Беразіно Докш. *Аруд збівалі каля сцен у клеці.* Рыбчына Віл. *Насыпалі жыта поўныя аруды.* Ністанішкі Смарг. *Аруды былі ў свірны, там зярно засыпалі.* Быстрыца Астр. *Жыта ў арудах.* Старыя Смільгіні Воран. *Былі аруды для зярна.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Аруды для аўса.* Ёдлавічы Брасл. *Аброку цэлы арут насыпалі. Аруды з бернашкоў, пераложаных шчытна, з вугольчыкамі, адзін арут жыта, другі ячменю, трэці гароху, аброку арут (пушчэйшы авёс называлі аброк).* Мярэцкія Глыб. *Аруды былі пароблены ў свірнах. У нас аруды былі. Аруды жыта леташняга заставаліся.* Кураполле Паст. *У свірня пароблены аруды на ўсякае дабро.* Лоск Валож. *Аруды ў свірня.* Груздава Паст. *У свірня гаруды паробляны, у гаруды аддзельна засыпалі жыта, авёс, гарох.* Ракаўскія Швянч. *У гарудзе жыта сыплюць.* Малькуны Ігн. *Гаруды — агароджаныя клеткі таўстымі доскамі. Адгараджвалі да сталявання на мэтр вышыні, гарут на ячмень, на авёс, на жыта. У гаруд сыплю і грачыху.* Гемзы Шальч. *Гаруды вымятаць нада.* Ахрэмаўцы Брасл. *У клеці, свірні былі тры гаруды: на жыта, ячмень і авёс. Адну гаруду насыпаў ячменю.* Бакшты Іўеў. *Даўней казалі: нада шчытаць хлеп не на полі, а ў гарудзі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сядзеў, як мыш у гарудзя.* Граўжышкі Ашм. *Даўней, як дзяцюк жэніцца, то едзя ў перагляды да дзеўкі. А бацька схітрыў: насыпаў гаруды мякіны, а паверх — зярна.* Жылі Іўеў. *Мыша ў арудзе не здохніць.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *arúodas* 'тж'.

АРУ'ДАВАЦЬ *незак. перан.* Распараджацца, правіць. *Яна і там арудавала ўсім, арудавала імі.* Ахрэмаўцы Брасл.

АРУ'ЖЫЯ *ж. ваен.* Зброя. *Якую мелі аружыю — усё помніць.* Кураполле Паст.

А'РУСАВЫ *прым.* Гарусавы. *Куплялі арусавыя ніткі, яны шарсцяныя.* Вострава Маст.

АРУ'Т *гл.* АРУ'Д

АРУ'ЧЧЫК *м.,* АРУ'ЧЧЫКІ *мн. памянш.* да а р у́ д. *У свірні пароблены аруды і аруччыкі на ўсякая дабро.* Лоск Валож.

А'РФА, А'РПА, А'РХА *ж.* Арфа. *Арфа была, веялі арфай.* Стральцы Шальч. *Арпай арпуюць зярно.* Саланое Віл. *Арха чысціць збожа.* Крынкі Крын. *Архай трэба архаваць збожа.* Вострава Маст.

АРХАВА'ЦЬ *незак.* Арфаваць. *Ідзі архаваць!* Крынкі Крын. *Цяпер архуюць жыто.* Баброўнікі Гарад.

АРЦЕ'ЛЬ *ж.* Арцель. *Быў паступіў у арцель, вучыўся за майстра.* Ністанішкі Смарг.

АРЧЫ'ЦА *гл.* ГАРЧЫ'ЦА

АРШКО'ВЫ *прым.* Гаршковы. *Дзе аршковая ануча?* Старыя Смільгіні Воран.

АРШЧО'К *гл.* ГАРШЧО'К

АРЫ'ЛЬ *м. бат.* Аер. *На арылю пяклі хлеп, пахнець хароша.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. дыял. *arȳlis* 'тж'.

АРЭ́Й *м.* Тое ж, што і а р ы́ л ь. *Арэй паходж на плюшня.* Дзяніскавічы Ганц.

АРЭ'Х, ГАРЭ'Х, ГОРЭ'Х *м.,* АРЭ'ХІ, АРАХІ' *мн.* Арэх. *Пайду па арэхі.* Старыя Смільгіні Воран. *Арэхі збіраць.* Мярэцкія Глыб. *Арэхі рваць.* Рыбчына Віл. *Арэхі лушчыць.* Мішневічы Шум. *Вядра два арэхаў і арэх у арэх — как адзін, пустых нет.* Ахрэмаўцы Брасл. *Арахі добрыя.* Чычалі Швянч. *Арахі растуць, е багата арахоў.* Азярацы Раг. *Маланка арахі папаліла.* Пасека Ст.-Дар. *Пусты нейкі гарэх, мусіць, маланка спаліла.* Міратычы Карэл. *У гарэсі дзіра. Пойдзім на ранку ў гарэхі.* Вострава Маст. *Маланка гарэхі папаліла.* Малахоўцы Бар. *Даляко гарэхі.* Старыя Трокі Трак. *Нашчыпаў гарэхаў.* Ліпнікі Вільн. *Нарваў гарэхаў с кісцянямі.* Міратычы Карэл. *А вот гарэхаў не так многа, раней было куды больш.* Новая Гута Віл. ∇ *Міл жабя гарэх, але не раскуся.* Лоск Валож.; *гл.* ДАБМ, карта № 196.

АРЭ'ХАЎКА *ж. заал.* Арэхаўка. *Арэхаўка арэхі лушчыць, рабенькая, бруха рабенькае, красівая птушка.* Кураполле Паст.

АРЭ'ЦЬ *незак.* Гарэць. *Ніхай арыць патрошку. Запаліла — не арыць, а назат цягне.* Старыя Смільгіні Воран. *Лямпа арыць.* Быстрыца Астр.

АРЭ'ШНІК, ГАРЭ'ШНІК *м.* Тое ж, што і а л е ш ч ы н я́ к. *Арэшнік — адзін куст.* Чычалі Швянч. *Арэшнік тонкі, доўгі, кустамі расце.* Рудня Астравітая Чэрв. *У нас каля скляпоў*

*многа арэшніку было.* Альба Нясв. *У гарэшніку каровы хадзілі.* Вострава Маст. *За магілкамі гарэшніку многа.* Малахоўцы Бар. *На гарэшніку гарэхі растуць.* Альхоўцы Лях. *З гарэшніка цэўкі рабілі.* Сапоцкіна Гродз.

АРЭ′ШЫНА, ГАРЭ′ШЫНА *ж. бат.* Арэшына. *Нахілі арэшыну, на ей арэхі ест.* Старыя Смільгіні Воран. *На арэшыня кістачкі рвуць, такія маленькія.* Дакудава Лід. *Там ні адной арэшыны не засталося.* Альба Нясв. *Нагнуў гарэшыну.* Дакудава Лід. *Дупцэ з гарэшыны дзяруць і плятуць кошыкі.* Вялікія Баяры Шчуч.

АСА′, АСВА′ *ж.,* О′СЫ, АСВЫ′, ВО′СВЫ, О′СВЫ *мн.* Тое ж, што і а к с н á. *Заляцела аса. Осы і шарсні моцна кусаюцца.* Альхоўка Навагр. *Асва на мёд села.* Беразіно Докш. *Асва кусаецца.* Лісна В.-Дзв. *Асва капшучок у зямлі зробіць і мёду паложыць. Асвы ў дупле жывуць.* Мярэцкія Глыб. *Восвы жыць ні даюць, кусаюцца.* Жодзішкі Смарг. *Освы ў пузуры на дзераві.* Старыя Трокі Трак.

АСАБІ′СТЫ *прым.* Асобы, лепшы. *Дранкай крылі страху, гонта — асабісты матэрыял будаўнічы.* Быстрыца Астр.

АСА′ДА I *ж.* Асадак. *Асада асядае ў вядрэ.* Новікі Гродз. *На дне рэчкі глей, асада.* Жодзішкі Смарг.

АСА′ДА II *ж.* 1. Рамка. *Асады рабілі на абразы.* Вецярэвічы Пух. 2. Рама бараны. *Бярозава асада ў бараны.* Альхоўцы Лях.

АСА′ДЖАНЫ *дзеепрым.* Насаджаны на што-н. *Яшчэ не асаджаны капач.* Малахоўцы Бар.

АСА′ДЗІСТЫ *прым.* Прысадзісты. *Ён асадзісты—невысокі.* Мсцібава Ваўк. *Карнаты, як асадзісты.* Дакудава Лід.

АСАДЗІ′ЦЬ *зак.* Пасадзіць. *Асадзілі семдзесят восем чалавек, сядзелі ў стадоля двоя сутак.* Асташына Навагр.

АСА′ДЗЬБА *ж.* Сядзіба. *Яго асадзьба там.* Паляцкішкі Воран.

АСАКА′, АСО′КА *ж. бат.* Асака. *Асака — трава рэская.* Саланое Віл. *Асака балацянáя. Рачная асака.* Рудня Астравітая Чэрв. *Светлая асака. Асака-разуха.* Мярэцкія Глыб. *Асока расцець у балоце, віксва горш, як асока.* Малькуны Ігн. *Маладую асоку ядзяць каровы, а старую не хочуць.* Індра Красл.

АСАЛАВЕ′ЦЬ *зак.* Пацішэць, стаць нерухавым. *Асалавела дзіця, можа хворае?* Бакшты Іўеў.

АСАЛАПЕ′ЦЬ *зак.* Збянтэжыцца, сумецца, разгубіцца. *Я асалапела ад гэтага.* Крэва Смарг.

АСА′Т *м.* Тое ж, што і а с á д а I. *У нашай студні няма асаду ў вадзе. У іх студні вада з асадам, пракіпяці — асат ест.* Мсцібава Ваўк.

АСАТА′ *гл.* АСО′Т

АСА′ТКА *ж.* Тое ж, што і а п с á т к а 1. *На асатку зверху прыдзелаваюць рукавятку.* Быстрыца Астр.

АСАЧЫ'СТЫ *прым.* Зарослы асакой. *Была затока асачыста.* Смалякі Лід.

АСАЧЫ'ЦЬ *зак.* 1. Высачыць. *Курыца нясецца недзя пат плотам, нада яе асачыць.* Кіралі Шчуч. *Ідзі, асачы курыцу.* Асавец Віл. *Асачыў-такі я курыцу, цяпер яйкі не будуць гінуць, забіраць будзем.* Галубы Маст. *Асачыў куру ў гняздзе, дзе нясецца.* Пацаўшчына Дзятл. *Асачыць можна курыцу, скаціну, чалавека.* Альхоўка Навагр. *Трэба курыцу асачыць.* Чычалі Швянч. 2. Нагледзець, натрапіць. *Ну, асачыў я добрай травы.* Груздава Паст. *Пігіцы вяліся: тут і яечкаў асочыш, як не заседжаны.* Бакшты Іўеў.

АСВА' *гл.* АСА'

АСВЕ'Р, АСВЕ'РХ, АЦСВЕ'Р *м.* Журавель. *Там студня з асверам.* Кураполле Паст. *Мы асверам ніколі не цягнулі ваду, рака бліска.* Лісна В.-Дзв. *У студні асверх||асвер і баба вілавата на два рагі. Асверх толькі вахтаіцца, за яго ключ прычэплівалі.* Саланое Віл. *Пярун ударыў у ацсвер.* Чычалі Швянч.; *гл.* ДАБМ, карта № 243; *параўн.* літ. *svirtìs* 'тж' (ЛТ, 165).

АСВО'ЙЧАЦЦА *зак.* Тое ж, што і апсво́йчацца. *Асвойчаліся шпакі: бі камянём, а яны сядзяць.* Мярэцкія Глыб.

АСВО'ЛАК *м.* Падоўжная бэлька ў будынку. *У гумне сохі стаўлялі і клалі асволак і чаплялі ключы, патом прыбівалі да іх латы.* Альхоўцы Лях.

АСВЯЦІ'ЦЬ *зак.* Блiснуць. *Асвеціць малання, валасы тольна дубам.* Асавец Віл.

АСЕ'ЛІЦА *ж.* Сенажаць каля вёскі і гародаў. *Палотны цягалі, бялілі на аселіцы. Аселіца ў нас проці адрынкі, дзе сена трасём, у гародзе.* Магуны Паст. *На аселіцы косім.* Асавец Віл. *Сенажаць за хатамі, за гародамі, за вёскай — аселіца.* Крэва Смарг. *Аселіца — пры дзярэўні сенакос.* Дакудава Лід. *Проці свайго шнура была свая аселіца.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Аселіца — кавалак сенажаці каля гародаў. Пагналі карову у аселіцу.* Кіралі Шчуч.

АСЕ'ННІ, АСЕ'НІ, АСЕ'ННЫ, АСЕ'НЫ *прым.* Асенні. *Асеннія парасяты.* Альхоўцы Лях. *Асенні кабан.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Асеня вoйна лепша, чым іна, руно большая.* Кіралі Шчуч. *Асенна ягня.* Быстрыца Астр. *Апенькі — самыя асеныя грыбы.* Грыкені Вільн. *Асена ноч.* Талейкі Швянч. *Асеныя грыбы.* Чычалі Швянч., Галоўні Воран.

АСЕНЬЧУЧО'К *м. памянш.-ласк.* Жывёліна, якая нарадзілася ўвосень. *Быў рабенькі коцік — асеньчучок, прышоў чужы кот і з'еў.* Вецярэвічы Пух.

АСЕ'ЦЬ *ж.* Восець. *У таку была асець.* Груздава Паст. *Асець у таку, дзе снапы сушылі.* Мярэцкія Глыб., Янова Рас. *Асець насадзіць, асець тапіць.* Мішневічы Шум. *Настаўляць у*

*асець снапоў*. Кураполле Паст.; *гл.* ДАБМ, карта № 233.∇*Пакуль бацька асець змалаціў — сын абуўся* — пра гультая. Мішневічы Шум.

АСЁКЛІ *мн.* 1. *бат.* Хвошч балотны і палявы. *У жыці шмат асёклі. Асёклі і ў балоці растуць. Ад ыркаў асёкляў набраўшы.* Жылі Іўеў. 2. Асцюкі. *Асёклі ў каласах ячменю, жыта.* Галоўні Воран.; *парайн.* літ. *asiūkliai* 'хвошч'.

АСЁЛАК *м.* Брусок. *Асёлак да касы.* Мярэцкія Глыб. *Асёлкам вострацъ касу.* Воўкуш Ліпск.

АСЁЛКА *ж.* Тое ж, што і а с ё л а к. *Асёлкай касу гастрылі.* Сапоцкіна Гродз. *Асёлка — чым вострацъ касу.* Вострава Маст.

АСІ'НА' *ж. бат.* 1. Асіна. *Каля хаты асіна расце.* Рыбчына Віл. *Асіна стаяла там.* Мярэцкія Глыб. *Асіна вырасла.* Дзяніскавічы Ганц. *Асіна згрыжана бабрамі.* Швэды Вільн. *Асіна́ расла пад вакном.* Вострава Маст. *Асіна́ расце ў нас.* Навасёлкі Свісл. *Раньшэ асіна́ расла.* Старыя Трокі Трак. *Асіна́ расце.* Мсцібава Ваўк. *Дзе асіннік, там адна асіна́.* Рыбчына Віл. 2. Драўніна. *Бочка з асіны.* Альхоўцы Лях. *Смятана горкал, як асіна.* Валынцы В.-Дзв.

АСІНА' *ж.* Тое ж, што і а к о́ т 1. *Асіна ўлезла ў глас.* Лісна В.-Дзв.

АСІ'НАВЫ *прым.* Асінавы. *Асінавы лес там.* Рудня Астравітая Чэрв.

АСІ'ННІК, АСІ'НІК *м.* Асінавы лес, асінавы хмызняк. *Там асіннік зарос.* Рыбчына Віл. *У асінніку была.* Галоўні Воран. *Лось вядзецца ў асінніку.* Рудня Астравітая Чэрв. *Асінік — дзе асіна.* Чычалі Швянч.

АСІ'ННІЧАК *м. памянш.* да а с і н н і к. *Асіннічак маленькі рос.* Мярэцкія Глыб.

АСІНЯ'К *м.* Тое ж, што і а с і н н і к. *Асіняк мы завём.* Быстрыца Астр. *Асіняк — лес асіны.* Старыя Трокі Трак.

АСІПЕ'ЦЬ *зак.* Асіпнуць. *Асіпела дзіця.* Рыбчына Віл.

АСІ'СТЫ *прым.* Асцюкаваты. *Ячмень асісты, нада папоясаваць.* Лісна В.-Дзв.

АСІСТЭ'НЦЫЯ *ж.* Шаферы і шаферкі, якія суправаджаюць маладых. *Друшкі ад міне і ад яго друшка і брацюкі былі — такая асістэнцыя.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *asystencja* 'суправаджэнне'.

АСКАЛЁПАК *м.*, АСКАЛЁПКІ *мн.* Аскепак. *Палены круглыя нада аскалёпкамі адбіваць.* Альхоўка Навагр.

АСКАЛЁПАЧАК *м.*, АСКАЛЁПАЧКІ *мн. памянш.* да а с к а л ё п а к. *Аскалёпачкі ляжаць.* Валынцы В.-Дзв.

АСКАРО'МІЦЦА *зак.* З'есці скаромнае ў пост. *Як хто аскароміцца ў пост, даўней казалі — сагрэшыць.* Дзяніскавічы Ганц.

АСКАРЭ'ЛІНА *м.* і *ж. зневаж.* Бруднюха, неахайны. *Ах*

*ты аскарэліна! Табе брытка і на вуліцу выхадзіць.* Кіралі Шчуч.

АСКАРЭ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і а п к а р э́ ц ь. *Аскарэло на ём адзенё.* Мсцібава Ваўк. *Табе брытка і на вуліцу выхадзіць, калі ты ўся аскарэла.* Кіралі Шчуч.

АСКО'БЛІНЫ толькі *мн.* Лупіны з сырой бульбы. *Аскобліны занясі карові.* Рыбчына Віл.

АСКО'МА, ОСКО'МА *ж.*, АСКО'М, АЦКО'М *м.* Аскома. *Наеў аскому, аскома на зубах.* Граўжышкі Ашм. *Нагнала аскому.* Альхоўцы Лях. *Аскома на зубы напала, не магу зубамі сціснуць.* Кіралі Шчуч. *Яблык папаелі, аскому нагналі.* Вецярэвічы Пух. *Оскома напала од ягыд.* Сіманавічы Драг. *Аском нагнала на зубах.* Валынцы В.-Дзв. *Ацком на зубах ад ягадаў, яблакаў квасных. Яблакі ела і наела ацком.* Малькуны Ігн.

АСКО'Р *м.* Ачыстка. *Трэба аскор зрабіць бервяна.* Жылі Іўеў.

АСКО'РТА *ж.* Ганаровая варта. *Што я табе аскорта якая, пайду с табой у магазін.* Мсцібава Ваўк.

АСКО'РЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і а к а р ы́ ц ь. *Я ўжо два дзерава аскорыў.* Бакшты Іўеў.

АСКРО'БУВАЦЬ *незак.* Абскрабаць. *Кару аскробуюць з дрэва.* Жылі Іўеў.

АСКРЭ'БАНЫ *дзеепрым.* Абскрэбены. *Ужо картопля аскрэбана.* Вострава Маст.

АСКУБА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і а п с к у б а́ ц ь. *Нада аскубаць курыцу. Яна аскубець, яны курэй аскубуць.* Мярэцкія Глыб. *Добра качкі не аскубала.* Каўняны Гродз.

АСЛА' *ж.* Под у печы. *Бітая асла з гліны, у печы трэба аслу паправіць.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *aslà* 'тж' (ЛТ, 165).

АСЛАБАДЗІ'ЦЬ *зак.* Вызваліць. *Рускія аслабадзілі нас у Германіі.* Бакшты Іўеў. *Аслабадзіла места, картоплі буду туды сыпаць.* Малахоўцы Бар. *Аслабадзілі яго.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* руск. *освободить* 'тж'.

АСЛАБАЖДА'ЦЬ *незак.* Вызваляць. *Нас як аслабаждалі, мы і хадзіць не маглі, так згаладаліся.* Вецярэвічы Пух.

АСЛАБАНІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і а с л а б а д з і́ ц ь. *Аслабанілі ад усяго.* Рыбчына Віл.

АСЛАБАНЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і а с л а б а ж д а́ ц ь. *Помню, як быў прыкас людзей аслабаняць.* Галавачы Гродз.

АСЛАБЕ'ЦЬ *зак.* Страціць сілу. *Можа, ты аслабеў, можа, перапрацаваўся?* Саланое Віл. *Аслабела карова ўканец.* Чычалі Швянч.

АСЛА'БНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і а с л а б е́ ц ь. *Я аб гэтым малаку зусім аслабла.* Валынцы В.-Дзв.

АСЛА'ВІЦЬ *зак.* Зняславіць. *Яна мяне аславіла, ніславу налажыла.* Рыбчына Віл.

АСЛАВУ'ХІ *прым. зневаж.* Віславухі. *Ён аславухі, у яго вушы вялікія.* Лоск Валож.

АСЛАЖНЕ'ННЯ *н.* Пашкоджанне арганізма ў выніку перанесенай хваробы. *После грыба ў яе было аслажнення.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* руск. мед. *осложнение* 'тж'.

АСЛАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Абнеслаўляць, зневажаць. *Усяк аслаўляў ён майго хлопца.* Саланое Віл.

АСЛЕ'ПЦІ *зак.* Аслепнуць. *Аслепці можа. Яго бацька аслеп.* Рыбчына Віл. *Аслепла баба.* Старыя Смільгіні Воран.

АСЛЁПНУЦЬ, АСЛЯ'ПНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і а с л ё п ц і. *На старасці аслёп на абедзві очы.* Вострава Маст. *Аслёп старый.* Альхоўцы Лях. *Маць аслёпла.* Мсцібава Ваўк. *Аслёпнуць можа баба.* Кіралі Шчуч. *Асля́пла, на вочка пала.* Пацаўшчына Дзятл. *Яна можа асля́пнуць слязьмі.* Міратычы Карэл. *Кошка асляплá.* Дзяніскавічы Ганц. *Асляпнýць магу ат плачу. І асляпнéш тут. Яе матка асляплá.* Вецярэвічы Пух. ∇*Кап ты аслёпла!* Стральцы Гродз. *Каб ты асляплá!* Кіралі Шчуч.

АСЛІ'ЗЛЫ *прым.* Пакрыты сліззю. *Аслізлыя грыбэ, у цяпле стаялі.* Стральцы Гродз.

АСЛІ'ЗНУЦЬ, АСЛЮ'ЗНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і а п с л ю з н у ц ь. *Бульба аслізніць.* Малькуны Ігн. *Як мяса ні салона, то аслюзне.* Новікі Гродз.

АСЛЫ' *мн.* Тое ж, што і а к с н ы́. *Курыца выленяла,аднэ аслы тырчаць.* Галубы Маст.

АСЛЯДЗІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і а с а ч ы́ ц ь 1. *Я аслядзіла, наша кошка не бярэ* [куранят]. Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* руск. *проследить* 'тж'.

АСЛЯПЕ'НЬ *м. заал.* Сляпень. *Асляпень сляпы, яго коні баяцца.* Магуны Паст. *Асляпень куслівы, пузыр застаўся, як укусіў.* Беразіно Докш.

АСЛЯ'ПНУЦЬ *гл.* АСЛЁПНУЦЬ

А'СМА *ж. мед.* Астма. *Яму асма, таму ён злы.* Саланое Віл.

АСМАКАВА'ЦЦА *зак.* Адчуць смак. *Вот асмакаваўся, добра есь.* Вецярэвічы Пух.

АСМАЛІ'ЦЬ *зак.* Абпаліць шчацінне. *Як заколяць паршука, трэба яго асмаліць саломаю.* Альхоўка Навагр.

АСМА'ЛКІ *мн.* 1. Прыгаркі. *У печы бульба варыцца, дастанеш, а зверху такія асмалкі смачныя.* Галубы Маст. 2. Галавешкі. *Усё згарэла, некалькі асмалкаў знайшлі толькі на тым месцы.* Пацаўшчына Дзятл. *Асталіся толькі асмалкі.* Вострава Маст.

АСМЕЯ'ЦЬ *зак.* Асмяяць, высмеяць. *Калі мы пасварымся да бітвы — нас асмяюць.* Саланое Віл.

АСМО'Л *м.* Смаляк. *Асмолам распальвалі печ. Дрэўкі з асмола на патпалку печы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бывае сухастой, верх смаловы, дык ён завецца асмол.* Мачаск Бярэз.

АСМОʹЛКІ *мн.* Маладыя парасткі на хваёвых дрэвах. *Асмолкі — гэта адросткі вясной на сасне і на елцы.* Рыбчына Віл.

АСМОʹРГЫЛКА *ж.* Прылада для аддзялення насенных галовак льну. *Кулі* [льну] *асморгаваліся асморгылкай; галоўкі сначала зразалі, а патом чыста асморгылкай. Асморгылка састаіць з ручкі, корбы і нажоў. Нажы на вінтах.* Індра Красл.

АСМОʹРЖЫНЫ толькі *мн.* Абрэзаныя галоўкі льну. *Асморжаны кладуць пад адрыну, кап сохлі, тады малоцяць.* Бакшты Іўеў.

АСМЫʹЧАНЫ, АСМЫʹЧЫНЫ толькі *мн.* Ачоскі. *Асмычаны — гэто лядайка кудзеля, аддавалі на мыло.* Дзяніскавічы Ганц. *Пасля трапання лён чэшуць, счэсваюцца асмычыны, з іх ткуць мяхе́.* Малахоўцы Бар.

АСМЭʹРГАНЫ *дзеепрым.* Смаркаты. *Асмэрганы ходзіць хлопчык.* Каўняны Гродз.

АСМЭʹРГАЦЦА *зак.* Абсмаркацца. *Асмэргаецца і ляціць.* Каўняны Гродз.

АСМЯРНЯʹ *ж.* Палатно, тканае ў восем нітоў. *Гэтыя ручнікі — асмярня, а групчыя — дымка.* Быстрыца Астр.

АСНАВАʹ *ж.* Аснова (кроснаў). *Я й цяпер маю аснаву.* Старыя Трокі Трак.

АСНІʹК *м.* Асіннік. *Там аснік быў.* Альхоўцы Лях., Семежава Кап.

АСНУʹЦЦА *зак.* Прачнуцца. *Можа, яна аснецца?* Міратычы Карэл.

АСНЫʹ, АСНЭʹ *мн.* Тое ж, што і а к с н ы́. *Курыца выленяла, аднэ асны.* Галубы Маст. *Гусь скубеш — астаюцца асны.* Мсцібава Ваўк. *Аснэ тырчаць, як ламбаке.* Пацаўшчына Дзятл.

АСОʹБА, АСОʹБЕ, АСОʹБЯ *прысл.* Тое ж, што і а п р ы́ ч. *Ён асоба палучыў кварціру.* Вецярэвічы Пух. *Тая асобе пасе. Тая асобя пасе.* Альхоўка Навагр.

АСОʹБЕННА, АСОʹБЕНА *прысл.* Тое ж, што і а п р ы́ ч. *Асобенна авечкі хадзілі.* Вецярэвічы Пух. *Еў асобенна.* Рудня Астравітая Чэрв. *Яны жылі асобена ад нас.* Ахрэмаўцы Брасл.

АСОʹБЕННЫ *прым.* Асобны. *Запраглася пара, то на другога каня ворчык асобенны.* Пасіене Лудз.

АСОʹБНА, АСОʹБНЕ, АСОʹБНЯ, АСУʹБНЕ *прысл.* Тое ж, што і а п р ы́ ч. *Асобна дом паставіў. Два сыны жывуць асобне.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сын жывець асобне.* Магуны Паст. *Сіні лён асобне аткідаяш.* Быстрыца Астр. *Асобне сабе зварыў кацельчык.* Ракаўскія Швянч. *Бацькі асобне жывуць.* Лоск Валож. *Дачка з зяцем асобне жыве.* Новікі Гродз. *Ён жыве асобне. На рэшата патсяеш семя, мякіну асобне ссыпаеш.* Саланое Віл. *Асобне пасуць каравэ́.* Старое Сяло Зэльв. *Я яго асобне паператоплівала.* Граўжышкі Ашм. *Пакулі з чэнстай шчоткі*

*асобне пралі і дзяружкі ткалі.* Старыя Смільгіні Воран. *Трыбух асобне напіхаям менсам. Азаткі ссыпалі асобне.* Стральцы Шальч. *Жывуць і ядуць асобне.* Малькуны Ігн. *Боб і фасоль асобне.* Беняконі Воран. *Чураўся ён іх, асобня жывець.* Кураполле Паст. *Асобня есь.* Рыбчына Віл. *Конь стаяў асобня ад каровы.* Кіралі Шчуч. *Качан і галоўка асубне.* Відаўцішкі Вільн.

АСО'БНЫ *прым.* Тое ж, што і а с ó б е н н ы. *Мой бацька асобны дом паставіў.* Ахрэмаўцы Брасл.

АСО'БЯ *гл.* АСО'БА

АСО'ВІК *м. бат.* 1. Падасінавік. *Тут асовікі растуць.* Пасека Ст.-Дар. 2. Абабак. *У асовіка карычневая шапка, як стары, то гляблы.* Мсцібава Ваўк. *Асовікі не рвалі і не ўжывалі.* Новікі Гродз.

АСО'ВЫ *прым.* Асінавы. *Асова губа і бярозава губа, ўкладзе і выкрасая агонь.* Мсцібава Ваўк. *Асовы лес. Асовая бочка.* Альхоўцы Лях. *Асовае галье. Асовых дроў прывёз.* Дзяніскавічы Ганц.

АСО'КА *гл.* АСАКА'

АСО'ПКІ *мн. царк.* Абразкі, фігуркі святых. *Даўней куплялі асопкі з воску.* Саланое Віл.

АСО'Т *м.,* АСАТА', АСО'ТА *ж. бат.* Асот. *Асот у гародзі расцець.* Лісна В.-Дзв. *Асот коліцца страшна, малады і свіня ядуць, а тады нарасце шышка, і нікуда яго не падзенеш.* Кіралі Шчуч. *Асатý нарву.* Граўжышкі Ашм. *Асаты́ параслі.* Старыя Смільгіні Воран. *Асатá калючая. Выдрала асатý. Асатý малодзеньку дабаўляюць да шчаўля.* Ёдлавічы Брасл. *Асота расцець.* Рагулішкі Даўг. *Асатý цэлыя горы наскідала.* Слабада Смал. *Асóта коліцца, няможна яе ўзяць у руку.* Ахрэмаўцы Брасл. *Асóта калючая.* Лайпушкі Ігн.

АСПАДА'Р I *гл.* ГАСПАДА'Р I

АСПАДА'Р II *гл.* ГАСПАДА'Р II

АСПАДА'РКА *гл.* ГАСПАДА'РКА

АСПАДЫ'НЯ *гл.* ГАСПАДЫ'НЯ

АСПАЖА' *ж. царк.* Прачыстая. *Аспажа бывая пятнаццатага аўгуста, тады падбіраюць пчол.* Груздава Паст. *Восьмага сенцября другая аспажа, аспажóй за бульбу бяруцца.* ∇ *Настаў галаварэс — барану галаву атрэш, алі ня еш, палажы к аспажы.* Саланое Віл. *Па аспажы тыдзень і дзень і сей жыта штодзень.* Крэва Смарг.

АСПАКАІ'ЦЦА *зак.* Супакоіцца. *Аспакаіўся вецер.* Паляцкішкі Воран. *Пакуль аспакояцца, будуць гаварыць, як пакралі трусоў.* Магуны Паст.

АСПА'ЛЫ *прым.* Санлівы. *Уначы не магу спаць, і маладым быў не вельмі аспалы.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *ospały* 'санлівы, вялы, лянівы'.

АСПО'ДНІК *м. гіст.* Стары салдат. *Даўней, хто служыў*

*дваццаць пяць гадоў у арміі, таму давалі арот* [агарод] *і звалі асподнік.* Старыя Смільгіні Воран.

АСПО'ШКА *ж.* Тое ж, што і а с п а ж а́. *Аспошка — рочна свята, канчаяцца ўжо.* Быстрыца Астр.

АСТАВА'ЦЦА *незак.* ◊ *Аставайцеся здаровы* — бывайце, да пабачэння. *Аставайціся здаровы!* Вялікія Баяры Шчуч., Ністанішкі Смарг.

АСТАЛО'ПІЦЦА *зак.* Спалохацца. *Можа, хто махнуў чым, а ён асталопіўся.* Ахрэмаўцы Брасл.

АСТА'НАК *м.* Тое ж, што і а к р а м у́ с а к. *Астанак астаўся ад сукенкі.* Альхоўцы Лях.

АСТАНАЎЛЯ'ЦЦА *незак.* Спыняцца. *Каля магазіна астанаўляецца.* Дакудава Лід.; *параўн.* руск. *останавливаться* 'тж'.

АСТАНО'ВІЦЦА *зак.* Спыніцца. *Астановіліся мы на дарозя.* Рыбчына Віл. *Ён астановіцца ля крамы.* Старое Сяло Зэльв. *Я хацеў, кап ён астановіўся.* Груздава Паст. *Я астаноўлюся і пагавару з ей.* Саланое Віл.

АСТАНО'ЎЛЯВАЦЦА *незак.* Тое ж, што і а с т а н а ў л я́ ц ц а. *Ён астаноўляваецца і пытая, дзе я была.* Саланое Віл.

АСТАРКАВА'ТЫ, ОСТА'РКУВАТЫЙ *прым.* Стараваты. *Астаркаваты быў чалавек, а ўсё адно маладую шукоў.* Галубы Маст. *Ны старый, оно так остаркуватый.* Сіманавічы Драг.

АСТАРО'НАК *м.* Застаронак. *Астаронак — гэта загаротка ў гумне, плашчакі рубілі і гарадзілі астаронкі.* Жылі Іўеў. *Астаронкі ў гумне, а пасярэдзіне ток.* Кіралі Шчуч. *Астаронкі былі ў гумне, туды складалі снапы, сена.* Стральцы Шальч.

АСТАРЭ'ЦЬ *зак.* Састарэць. *Цяпер я астарэла, грась лезіць на плечы.* Саланое Віл. *Як астарэла, нікому не нужна.* Масілавічы Сл. *Астарэла ліцо, маршчыны паселі.* Рудня Астравітая Чэрв.

АСТА'ТНІ *прым.* 1. Апошні. *Верх спусціла, астатнёя малако аддала парасятам.* Вялікія Баяры Шчуч. *Падохла астатняя авечка.* Груздава Паст. *Астатні гадок кармлю карову.* Магуны Паст. *Астатні месяц у гаду.* Асавец Віл. *Астатні рас ён парыў жыгушкай.* Шамялі Брасл. 2. у знач. *прысл. аста́тнім.* Позна. *Я, бывала, астатнім часам хадзіла па ягады.* Магуны Паст.

АСТА'ЎЛЮВАЦЬ *незак.* Пакідаць. *Што заробіць — прадась, не астаўлюя на зіму, а зімой зноў цягаецца па хатах галодны.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* руск. *оставлять* 'тж'.

АСТА'ЦЦА *зак.* 1. Спазніцца, не паспець. *Баіцца, кап не астацца.* Лоск Валож. *То хіба ш мы астаномся?* Веркалы Пух. 2. Выбраць каго-н. з дзяцей і жыць з імі. *Я пры тых двух асталася.* Паляцкішкі Воран. 3. Зазімаваць. *Асталася трава на зіму нікошаная.* Валынцы В.-Дзв. 4. Астацца нявыкарыстаным, няз'едзеным. *Сена з'ядуць, астаецца толькі салома.* Саланое

Віл. 5. Астацца на ўвесь час. *Яна-такі асталася дзеўкай.* Саланое Віл.

АСТА'ЧА *ж.* 1. Здача. *Колькі там астачы асталося?* Ухвала Круп. 2. Рэшткі. *Хацела выграпсці с карыта астачу, а свіня хваціла клыкамі.* Груздава Паст.

АСТО'ПАК *м.* Зношаны абутак. *Астопкі сабяры і выкінь.* Мачаск Бярэз.

АСТО'ПНІК *м.* Стаптаны лапаць. *Лапаць лазовы падраны — ета астопнік. Астопнік на нагу надзену ды дзяру падлогу — і чыста вымыю.* Вецярэвічы Пух.

АСТРАВІ'НА *ж.* Востраў. *Астравіна сярод балота.* Саланое Віл.

АСТРАВІ'НКА *ж. памянш.* да а с т р а в і н а. *Мы з балота вышлі на астравінку.* Рудня Астравітая Чэрв.

АСТРАГА' *ж. рыб.* Восць. *Астрага — палка і зубцы, як вілы. Астрагой колют рыбу.* Пасіене Лудз.; *параўн.* руск. *острога* 'тж'.

АСТРАГІ' *мн.* Восці. *Астрагамі лучаць у рыбу.* Лісна В.-Дзв.

АСТРАКО'Л *м.* 1. Сукаватая палка ці палена. *Астраколам даў па галаве.* Жылі Іўеў. 2. *зб.* Сучча. *Прывёз воз астраколу.* Старыя Смільгіні Воран.

АСТРАЎЁ, АСТРО'ЎЯ, АСТРЫЎЁ *н.* Пярэплат. *Астраўё робілі так: калы с сукамі забівалі ў зямлю, а поперак ложацца жэрдачкі. На астраўё гарох вешалі. Нада астраўё загнаць у зямлю.* Лісна В.-Дзв. *Еслі сыры гот, то ў астраўё ўдзівалі снапы, гарох.* Валынцы В.-Дзв. *Маскалі называлі астроўя, а ў нас — жэгені.* Кураполле Паст. *Секлі маладыя ёлачкі, кідалі сучкі і набівалі ў зямлю ў рад і клалі рядком снапы ў астрыўё. Ірвалі лён, галоўкі абразалі і ў астрыўё клалі, патом малацілі.* Янова Рас. *Кладуць снапы ў астрыўё.* Груздава Паст.

АСТРО'ВА *ж.*, АСТРО'Ў, АСТРО'Х *м.* Яліна з коратка абсечанымі сукамі. *Астрову рабілі з елкі, каротка апсякалі сукі і лезе па астрове на дзерава да сучча, а там па суччу лезя.* Рудня Астравітая Чэрв. *Астроў служыць лесці на дзерава падглядаваць пчолы, такое дзерава с сукамі замест лесак, высякаюць астрова з яліны.* Дзяніскавічы Ганц. *Астрох — зрубленая ёлка, апцярэблена, не глатка, з сукамі, прыстаўляюць да дзерава.* Глівін Барыс.

АСТРО'ВАК *м.* Астравок. *Як будзеш іці, убачыш астровак сярод балота.* Глівін Барыс.

АСТРО'ГІ *мн.* Канцы вяровак. *Даўней танцавалі яшчэ як, топаем у лапцях, толькі астрогі падлятаюць.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *ostrogi* 'шпоры'.

АСТРО'Ў I *гл.* АСТРО'ВА

АСТРО'Ў II *м.* Тое ж, што і а с т р а в і н а. *Астроў паміж*

*балота, там некалі людзі жылі.* Ухвала Круп. *Мы ганялі кароў на паству ў астроў.* Янова Рас.

АСТРО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і астрóва. *Астроўку вазьмі і залезь на дзераво.* Мішневічы Шум.

АСТРО'ЎКІ *мн.* Тое ж, што і астраўё. *Астроўкі — гэта ёлкі з суччам убіваюць у зямлю, штоб сноп палажыць между імі, перавязвалі жардзямі.* Мішневічы Шум. *Астроўкі на гарох сукуваценькія дзелаюць.* Ласвіцкія Шум.

АСТРО'ЎЯ *гл.* АСТРАЎЁ

АСТРО'Х I *гл.* АСТРО'ВА

АСТРО'Х II *м. устар.* Турма. *У вастрозе сядзеў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пасадзілі ў вастрох.* Мярэцкія Глыб. *Сядзеў у астрозе.* Рыбчына Віл.

АСТРЫЖЭ'НЬ *м.* 1. Аскепак. *Астрыжэнь атсечаны ат калоткі. Астрыжні сухія шчэпяцца.* Магуны Паст. 2. Зацвярдзенне, стрыжань (у скуле). *Астрыжэнь сядзеў у скуля.* Мярэцкія Глыб.

АСТРЫ'Т *гл.* ГАСТРЫ'К

АСТРЫЎЁ *гл.* АСТРАЎЁ

АСТРЫ'ЦЬ *незак.* Вастрыць. *Дзісь касу астрыць.* Граўжышкі Ашм. *Остра бруском касу.* Відаўцішкі Вільн.

АСТРЭ'ЛЬВАЦЦА *незак.* Адстрэльвацца. *Парцізаны сталі астрэльваца.* Літва Івян.

АСТУВА'ЦЦА *незак.* Аставацца. *Я ўдавой аствалася.* Саланое Віл.

АСТУПІ'ЦЦА *зак.* Спатыкнуцца. *Аступіўся, і нага яму баліць.* Ахрэмаўцы Брасл.

АСТЫВА'НІКІ *мн.* Перапечкі з тоўчанай бульбы. *Астыванікі танейшыя, як бульбянікі, мама астыванікі пікла на падзе, яны смачнейшыя. Пакуль дажджэся гэтых астыванікаў, і сам застыніш.* Кураполле Паст.

АСТЫГА'ЦЬ *незак.* Астываць. *Цэт астыгая.* Быстрыца Астр.

АСТЫ'ГЛЫ *прым.* Астылы. *Блінок дам, каторы астыглы, занясі Жуку.* Граўжышкі Ашм.

АСТЫ'ГНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і адзімніць. *Не гарачы, астых.* Магуны Паст. *Хай астыгня суп.* Крэва Смарг. *Яйко як зварыш, астыгне і аблупіцца.* Ліпнікі Вільн.

АСТЫ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і адзімніць. *Лупеце картошкі, а то астыня.* Мсцібава Ваўк. *Як астыня, трэба паставіць.* Міратычы Карэл. *Астылі бліны.* Саланое Віл.

АСУ'БНЕ *гл.* АСО'БНА

АСУ'ШАК *м.* 1. Сухар. *З'елі баханку хлеба, асушак астаўся, аддаш курам.* Кіралі Шчуч. *Асушак хлеба.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дала асушак учарашні.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Край булкі свежага хлеба. *Дзеці любілі асушкі, любіла і я асушкі.* Каўняны Гродз. *Асушак так любіў есці.* Галубы Маст.

*Асушак — засохлы і пэнкнаўшы раўчачок каля краёў бохана хлеба, кавалак асушка вылупіш і ясі.* Старыя Смільгіні Воран.

АСЦА′ *ж. мед.* Празмернае выдзяленне сліны пры нястраўнасці і іншых хваробах страўніка. *Пад'ела галадак кіслых з жытняй мукі, стала вярнуць мне пад грудзі і стала ісці асца. Як асца падверня пад грудзі, верне такая сліна, гоніць асцу. Як хто хворы на асцу, бярэ соду піцьявую.* Міратычы Карэл. *Асца бывая, як у каго катар жалутка.* Вострава Маст. *Асца слюну гоніць.* Крупіца Мін., Данілавічы Дзярж. *Як з'еш што і зашкодзіць, асца прэ сліну с сярэдзіны.* Дзяніскавічы Ганц. *Асца падварочвае, пячэ, як на ваніты.* Альхоўцы Лях. *Асца пагнала, як гоніць сліну.* Пасека Ст.-Дар.; *параўн.* лац. *ascit* 'вадзянка'.

АСЦЕ′НЦЫ *мн. памянш.* да а к с н ы́. *Закруціла качку, дак адны асценцы.* Шкураты Браг.

АСЦЁ, ГАСЦЁ *зб. н.* Тое ж, што і а к о́ ц ц я. *Асцё ў ячмені і ў жыце.* Саланое Віл. *Асцё ячменная.* Беразіно Докш. *Асцё абаб'юць.* Груздава Паст. *Асцё ў каласе ячменю.* Мярэцкія Глыб. *Зерняты з асцямі.* Кураполле Паст. *Асцё як пападзе ў рот, не праглынеш.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Гасцё з каласоў ячменя.* Вострава Маст.

АСЦІ′НА′ *ж.* Тое ж, што і а к о́ т 1. *Асціна залезла ў рукаво, асціна ўбілася ў вока, ёсць баба, дастае языкам.* Міратычы Карэл. *Асціна с колаеа.* Чычалі Швянч. *Асціну загнала ў нагу.* Кураполле Паст.

АСЦІ′НЯЦ *гл.* ГАСЦІ′НЕЦ

АСЦЮ′К, ГАСЦЮ′К *м.* 1. Тое ж, што і а к о́ т 1. *Асцюк ад ячменю высяваюць.* Вязынка Maладз. *Асцюк із жыта, ячменю.* Рыбчына Віл., Жылі Іўеў., Рудня Астравітая Чэрв. *У любога коласа асцюк.* Альхоўцы Лях. *Асцюк залезе за пазуху ды колецца.* Дзяніскавічы Ганц. *Асцюкі высяваюць. Пшаніца бывая з асцюкамі і без асцюкоў.* Старыя Смільгіні Воран., Альба Нясв., Пасека Ст.-Дар. *Асцюкоў набраў, як малаціў.* Граўжышкі Ашм. *Асцюке ў ячменю.* Крынкі Крын. *Многа гасцюка ў муцэ. Гасцюке як налезлі ў язык — чуць палавіну языка не ат'елі, доўга балела, чуць ратавалі.* Кіралі Шчуч. 2. Высеўкі, жамерыны. *Як таўчэш у ступе ячмень, авёс, то трэба асцюке апалаць начовачкамі. Як варылі кісель, асцюке выжымалі на рэшата.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* літ. *aksčiùkai* 'тж' (ЛТ, 165).

АСЦЮНЭ′ *мн.* Тое ж, што і а к с н ы́. *Асцюнэ ў кур, качак, як ліняюць.* Новікі Гродз.

АСЦЯБА′ЦЬ *зак. перан.* Абмачыць. *Асцябаў мяне дочч.* Рыбчына Віл.

АСЦЯ′К, ГАСЦЯ′К *м.* 1. Тое ж, што і а к о́ т 1. *Асцяке ў ячмені.* Новікі Гродз. *Гасцяк залес у зуп.* Вялікія Баяры Шчуч.

2. Пер'е з хваста і крылаў. *Вялікія перы — гэта асцякі.* Каўняны Гродз.

АСЦЯЎЁ *зб. н.* Тое ж, што і а к о́ ц ц я. *Асцё ў горла папала, дзярэць.* Беразіно Докш.

АСЫПА'ЛЬНІК *м.* Акучнік. Жылі Іўеў.

АСЫПА'ЛЬНІЦА *ж.* Жанчына, якая акучвае матыкай. *Калісьці асыпальніц наймалі, асыпальніцы вярнулі зямлю матыкаю.* Вялікія Баяры Шчуч.

АСЫПА'ЦЦА *незак.* 1. Абсыпацца. *Усе вуглы* [хаты] *асыпаяцца* [зямлёй]. Груздава Паст. 2. Ссоўвацца. *Пасмы асыпаяцца с клупка.* Магуны Паст. *Асыпяцца радочак с клупка.* Быстрыца Астр. *Асыпаўся весь клубок, навіла мяка.* Кіралі Шчуч. *Бывая слаба ўеш клубок, часойкі асыпаюцца.* Малахоўцы Бар.

АСЫ'ПАЦЬ *зак.* Абсыпаць. *Трэба асыпаць хату, натта холат прэ.* Кіралі Шчуч.

АСЫПА'ЦЬ, ОСЫПА'ТЫ *незак.* Тое ж, што і а п с ы п а́ ц ь. *Маці пашла асыпаць картоплю.* Нагуевічы Сл. *Матыкамі і драпкамі асыпаюць картоплі.* Міратычы Карэл. *Буду бульбу асыпаць.* Альхоўцы Лях. *Пойду картоплі осыпаты.* Сіманавічы Драг.

АСЫ'ПКА *ж.* Восыпка. *Асыпка — мука з разнага збожжа.* Мярэцкія Глыб.

АСЬМА'К *м.* Восьмая частка надзелу. *Толькі асьмак зямлі меў.* Старыя Смільгіні Воран.

АСЬМЁРА *ліч.* Васьмёра. *Асьмёра дзеці мела.* Старыя Смільгіні Воран.

АСЬМІ'НА *ж.* Асьміна. *Асьміна тры пуды важыць.* Вецярэвічы Пух.

АСЬМІ'НКА *ж.* 1. *памянш.* да а с ь м і н а. *Асьмінка — паўтраця пуда.* Лайпушкі Ігн. *Асьмінка — тры пуда.* Малькуны Ігн. 2. Восьмая частка надзелу зямлі. *Бедна жыў, асьмінка зямлі была.* Вострава Маст.

АСЬМУ'ХА *ж.* Восьмая частка надзелу. *Была асьмуха зямлі.* Саланое Віл.

АСЮ'КЛЯ *ж.*, АСЮ'КЛЕ *н.*, АСЮ'КЛІ, СЮ'КЛІ *мн.* Тое ж, што і а с ё к л і 1. *Асюкля (асюкле) — трава такая, яна на барздзюк падобная.* Чычалі Швянч. *Асюклі на лонках растуць, балотах, на дзірванах.* Малькуны Ігн.; *парайн. asiũkliai* 'тж'.

АСЯ' *гл.* ВОСЬ І

АСЯ'ДЛЫ *прым.* Прысадзісты. *Асядлы* [чалавек] — *шырокі, грубаваты.* Магуны Паст.

АСЯЛЕ'ДЗЕЦ *м.* Селядзец. *Асяледзец вымачу.* Тухавічы Лях. *Асяледзец зьела увесь.* Альхоўцы Лях.

АСЯЛЕ'НЕЦ *м.* Тое ж, што і а с я л е́ д з е ц. *Асяленцы е ў магазіне.* Дзяніскавічы Ганц.

АСЯЛО'К *м.* Брусок. *Как на асялку наточыш, то і нош бу-*

*дзіць імкі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Асялком гострацць касу.* Стральцы Гродз.

АСЯНІ'НА *ж. устар.* 1. Аплата, якая выдавалася пастуху восенню, часцей збожжам. *Асяніну пастух збіраў увосень: давалі коўш збожжа, лёну павесма і другое.* Вецярэвічы Пух. *Асяніну збіраў пастух.* Номікі Бабіц. *Як пасвіў пастух каровы, то збіраў асяніну.* Баброўнікі Гарад. 2. Асенні збор у карысць царквы, карчмы. *Асяніну выбіралі дзякі, арганісты, карчмары. Гэта было калісь пры цару, збіралі, хто што дасць.* Мсцібава Ваўк. *Арганісты збіраў ад гаспадара асяніну.* Номікі Бабіц. 3. Асенняя воўна. *Асяніна ідзе на аснову, а вяснова* [воўна] — *на ўток.* Пасека Ст.-Дар.

АСЯНІ'НЫ толькі *мн. абрад.* Дзяды. *Асяніны бываюць пасля пакрова, прыкладзіны на магілы робяць, абгароткі на памятнікі ставяць. На асяніны вячэру строілі, поліўку варылі з грыбамі, з рыбай, камы і мілту рабілі. Бапка наша ішла ў асяніны і зайшлася да нас.* Кураполле Паст.

АСЯНЧУ'К, АСЯНЬЧУ'К, АСЯНШЧУ'К *м.* 1. Ягня асенняга прыплоду. *Мая авечачка — асянчук.* Дакудава Лід. *Асянчукі — ягняты, якія раджаюцца ўвосень.* Старыя Смільгіні Воран. *Асянчуке прыбеглі, а старых авечак няма.* Вялікія Баяры Шчуч. *Асянчук — позная ягнё, позна акацілася авечка.* Кіралі Шчуч. *Асянчук — адзін, а як двое прывядзе авечка, то асянчукі.* Альхоўцы Лях. *Асяньчукі — дармаеды, хавай на зіму дармаедаў. Асяньчук — асенняе ягня.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Маладняк асенняга прыплоду. *Асянчуке — асенніх парасята, яны купляюцца на зіму, каму трэба.* Кіралі Шчуч. *Цяля, ягня восенскае — гэто асяншчук.* Навасёлкі Свісл.

АСЯНЧЫ'НА *ж.* Старая засохлая трава. *Асянчына ня косіцца, яна цвярдая.* Саланое Віл.

АСЯНЧЭ'ЦЬ *ж.* Старая палеглая трава. *Асянчэць палёхшы, па ёй парасла трава маладая, асянчэць на патсцілку толькі.* Бакшты Іўеў.

АСЯНШЧУ'К *гл.* АСЯНЧУ'К

АСЯНЬЧУ'ЧКА *ж.* Авечка асенняга прыплоду. *Гайца наша — асянчучка.* Вялікія Баяры Шчуч.

АСЯНЮ'К *м.* Асенні баранчык. Вострава Маст.

АСЯНЮ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і а с я н ь ч ў ч к а. *Гайца — асянючка, малоя руно.* Вострава Маст.

АСЯРО'ДАК *м.* Стрыжань. *Асяродак у дрэве тонкі.* Міратычы Карэл. *Асяродак дрэва.* Саланое Віл. *У дрэвах асяродак ёсць.* Граўжышкі Ашм.

АСЯРЮ'К *м.* Тое ж, што і а к ў н ь. *Асярюка скрабаць дрэнна.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *ešeriùkas* 'тж'.

АТ *гл.* АД

АТА'БАРЫЦЦА *зак.* Прыпыніцца на некаторы час, асесці, часова пасяліцца. *Там зараснік быў і людзі атабарыліся там*

*у вайну*. Рыбчына Віл. *Паехалі к цёцца, тут атабарыліся. Рой атабарыцца на галіне, на суку*. Данілавічы Дзярж.

АТАВА'ЦЬ *гл.* ГАТАВА'ЦЬ

АТАГНА'ЦЦА *зак.* Адагнаць. *Мы атагналіся ат лесу — воўк ляціць*. Малькуны Ігн.

АТАГНА'ЦЬ *зак.* Разагнаць плугам барозны бульбы. *Атпрох каня ат тарантаса, кап бульбу атагнаць*. Кураполле Паст.

АТАГРАВА'ЦЬ *незак.* Адтопліваць. *Атаграваям кісляк і тады творах робім*. Магуны Паст.

АТА'ДУР, АТО'ДАР *м.*, АТА'ДУРА *м* і *ж.* Нелюдзь, сугней, упарты. *Ён такі атадур, не хоча лучыцца да людзей*. Ахрэмаўцы Брасл. *Вот атадур: ні ён да каго, ні да яго*. Скрудалена Даўг. *Атадур, ат людзей скрываецца, непрылюдак такі*. Індра Красл. *Атадуры сталі ўсе*. Ёдлавічы Брасл. *Атодар ён, ад людзей хаваеца*. Быстрыца Астр. *Жывець адзін, как атадура*. Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *atãdũras* 'напорысты'.

АТАДУ'РАК *м.* Тое ж, што і а т á д у р. *Атадурак ён, нікога не прызнае*. Быстрыца Астр.

АТАДУ'РАМ *прысл.* Адасоблена. *Ён жывець атадурам*. Ахрэмаўцы, Ёдлавічы Брасл., Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *atódũrom* 'тж'.

АТАЙЦІ' *зак.* Тое ж, што і а д ы с ц í 1. *Нельга атайці ад яе*. Міратычы Карэл.

АТАЛАПЕ'ЦЬ *зак.* Ап'янець. *Як выпіла — аталапела зусім*. Мсцібава Ваўк.

АТАМА'Н *м. плыт.* 1. Галоўны на плыце, кіраўнік. *Пакуль ні стаў атаманам, рабіў прастым плытагонам*. Ахрэмаўцы Брасл. 2. Важак. *Ён атаман над жулікамі*. Вецярэвічы Пух.

АТАПРАВА'ЦЬ *незак.* Вылазіць. *Валасы атапраюць на галаве*. Саланое Віл.

АТАРА'НЫ *дзеепрым.* Адараны. *Атараная баразна*. Лісна В.-Дзв.

АТАРВА'ЦЬ *зак.* Адарваць. *Гэтаму чалавеку руку бомбай атарвала, вока выбіла*. Альхоўка Навагр.

АТАРКАВА'ЦЬ *зак.* Абадраць. *Некі чорт твар атаркаваў*. Ракаўскія Швянч.

АТА'РЫВАЦЬ *незак.* Акучваць бульбу. *Сохамі картофель атарывалі*. Істра Лудз.

АТА'РЫЦА, ТА'РЫЦА *ж. устар.* 1. Невялікі ўчастак зямлі. *Некалі сеялі атарыцу: пасея два, тры гарцы семя лёну*. Вязынка Маладз. 2. Частка ўраджаю, якую давалі дзеці састарэлым бацькам для пражыцця. *Мы, усе дзеці, атсыпалі бацьком (а)тарыцу. Тарыцу я далжна атсыпаць мацяры*. Вецярэвічы Пух. 3. Доўг, які аддавалі збожжам. *Некалі быў маказын, вясной, як у каго не было чым сеяць, бралі ў маказыне, а ўвосень ён должан атарыцу ў маказын аддаць*. Вецярэвічы Пух.; *гл.* а т ó р а.

АТАСА′ *гл.* АТО′СА
АТАСІНА′ *гл.* АТО′СІНА
АТВАДЗЯНЕ′ЦЬ *гл.* АДВАДЗЯНЕ′ЦЬ
АТВА′ЖЫЦЦА *гл.* АДВА′ЖЫЦЦА

АТВАЙТАВА′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і а д в а й ц я́ ц ь. *Вот атвайтавала я яго, будзя ведаць.* Граўжышкі Ашм.

АТВА′ЛІВАЦЦА *незак.* Ападаць. *Лісту не пара́, а ён атваліваіцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

АТВА′ЛІСТЫ *прым.* Адкінуты. *Ручкі ў цялеге атвалістыя і карочэ, чым у тарантасе.* Пасіене Лудз.

АТВАРО′ЖЫЦЬ *зак.* Адтапіць. *Сырапеню атварожыць нада.* Мішневічы Шум.

АТВАША′ВАЦЬ *зак.* Зрабіць цяжкую работу. *Вот атвашаваў дык атвашаваў — перанёс усю бульбу ў яму.* Кураполле Паст.; *гл.* в а ш а в а́ ц ь.

АТВЕ′С *м. цясл.* Адвес. *Як доскі рэзалі ўручную, то адбівалі паласу атвесам.* Вецярэвічы Пух.

АТВЕ′ТКІ толькі *мн.* Тое ж, што і а д в е́ д з і н ы. *Завязуць у атветкі парасёнка, кап бацька не знаў.* Валынцы В.-Дзв. *Гэтыя атветкі як будзям гуляць, я поўганяю іх с хаты.* Вецярэвічы Пух.

АТВЕ′ЧАРКУ *прысл.* Адвячоркам. *Нада атвечарку печ вытапіць, а то заўтра не захочыцца рана тапіць.* Лісна В.-Дзв.

АТВЁРТЫ *дзеепрым.* Адкрыты. *Граніца будзе атвёрта.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *otwarty* 'адчынены', літ. *atvértas* 'тж'.

АТВІ′ТАВАЦЦА *незак.* Развітвацца. *Я атвітавалася з імі.* Саланое Віл.

АТВІЧА′ЦЬ *незак.* Адказваць. *Ні ён, а яна атвічаіць.* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *отвечать* 'тж'.

АТВО′Й *м.* Вір. *Як глыбака, то атвой. Дзеці, не лесця ў атвой — патопіціся.* Рыбчына Віл. *Атвой, дзе топяцца.* Ністанішкі Смарг. *Дзе стаіць вада — атваі кажуць. Атваі — ямы ў рацэ глыбокія.* Жодзішкі Смарг. *Не плыві! Там атвой — утоніш.* Галубы Маст.; *парайн.* літ. *atvajùs* 'тж'.

АТВО′НА *прысл.* Някрута. *Мама, як прасці — крута ці атвона?* Мішневічы Шум.

АТВЯРНУ′ЦЬ *зак. безас. перан.* Разлюбіць. *Атвярнула яго ад той дзеўкі, а чаго — паветра яго ведае.* Ухвала Круп.

АТЖА′РЫЦЬ *гл.* АДЖА′РЫЦЬ

АТЗЫ′ЎКІ толькі *мн.* Тое ж, што і а д г а л о́ с к і. *У лесе атзыўкі чуюцца.* Мярэцкія Глыб.

АТКАВЕ′ЗІЦЬ *зак.* У выразе: *Аткавезіць лупы* — адвесіць губы. Засецце Дзятл.; *парайн.* літ. *kevė̃ša* 'разявака'.

АТКАВЕ′ЧЫЦЦА *зак.* Адстаць, аддзяліцца. *Зуп аткавечыцца ад дзясна з аднаго боку, а з другога дзяржыцца.* Міратычы Карэл.

АТКАЗА'ЦЬ *зак.* Завяшчаць. *Мама нам атказала па дзесяць рублей золата.* Ахрэмаўцы Брасл.

АТКАЛАТА'ЦЬ *зак.* Прывесці ў прытомнасць, адкачаць. *Аднаго аткалаталі, быў напіўся, ён быў сіні-сіні.* Кіралі Шчуч.

АТКАЛЬІХА'ЦЬ *зак.* Адкачаць (пра тапельца). *Выцягнулі з вады* [хлопчыка], *чуць аткалыхалі.* Жодзішкі Смарг.

АТКАРКНУ'ЦЦА *зак.* Адаткнуцца, адкрыцца. *Бочка аміяку аткаркнулася і патруцілася рыба.* Ракаўскія Швянч.

АТКІ'НУЦЬ *зак. безас.* 1. Зноў захварэць пасля часовай папраўкі. *Адзявайся добро, а то зноў аткіня.* Стральцы Гродз. 2. Зняць, адвязаць. *Я толькі чорны фартух аткіну.* Кіралі Шчуч.

АТКІПА'ЦЦА *незак.* Загусаць, ссядацца. *Аткіпаяцца юшка, уместа збяжыцца: вада сабе, а юшка сабе.* Кіралі Шчуч.

АТКЛА'Т *м.* Адтэрміноўка. ∇*Атклат не ідзе ў лат.* Сакаўшчына Валож. *Атклат ня йдзець у лат, гэта трэба зрабіць сягоння.* Ахрэмаўцы Брасл., Кураполле Паст., Ністанішкі Смарг.

АТКЛІ'КАЦЬ *зак.* Адклікаць. *Атклікала мяне ад работы.* Міратычы Карэл.

АТКЛІ'ЧКІ толькі *мн.* Тое ж, што і а д г а л о́ с к і. *Пагойкай у лесі, кап не заблудзілась, атклічкі назат ідуць.* Валынцы В.-Дзв.

АТКЛЯСТА'ЦЬ *зак. экспр.* Адхвастаць, набіць. *Па мордзе атклешчуць так, будзіш помніць.* Ахрэмаўцы Брасл.

АТКО'ВАНЫ *дзеепрым.* Выкаваны. *У сахе лемяшніца дзеравянная, а на канцэ два лемеха аткованыя.* Істра Лудз.

АТКО'ПЫВАЦЬ *незак.* Адкопваць. *Відзмядзі сталі людзей аткопываць.* Салаиое Віл.

АТКРА'ПАЦЬ, АТКРЫПА'ЦЬ *зак.* Разблытаць. *Ты закрапала кашолку провалкай, што німожна аткрапаць.* Валынцы В.-Дзв. *Ідзі цялушку аткрыпай, так закрыпалася.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *atkraipýti* 'развязаць, разблытаць'.

АТКРА'ХАЦЦА *зак.* Адкашляцца. *Аткрахаўся і плюнуў.* Граўжышкі Ашм.

АТКРО'ІЦЬ *зак.* Адрэзаць. *Пойдзя касіць, ты аткрой сала яму.* Крупіца Мін. *Аткрой хлеба.* Магуны Паст., Быстрыца Астр., Масілавічы Сл.

АТКРУНУ'ЦІ *зак.* Адкруціць. *Як ні граціме радзіво, то карка аткруну табе.* Вялікі Краснік Пруж.

АТКРЫПА'ЦЬ *гл.* АТКРА'ПАЦЬ

АТКРЫ'ЦЯ *н.* Адкрыццё. *Аткрыця было магазіну.* Ахрэмаўцы Брасл.

АТКУ'ЛЬ, АТКУ'ЛЛЯ *прысл.* Адкуль. *І аткуль у яе бярэцца? Аткуль яна прышла?* Салаиое Віл. *Аткуль ты ідзеш?* Чычалі Швянч. *Аткулля ты прыехала?* Ухвала Круп.

АТЛА'САВЫ *прым.* Атласны. *Некалі купляла блюску атласавую.* Магуны Паст.

АТЛАТАШЫ'ЦЬ *зак. экспр.* Моцна адлупцаваць. *Узяў рэмінь і атлаташыў па спіне.* Лісна В.-Дзв.

АТЛЕ'ГА, АТЛІ'ГА *гл.* АДЛЕ'ГА

АТЛЕ'Ў *м.* Казырок пры франтоне. *Атлеў каля шчыта хаты.* Ахрэмаўцы Брасл.

АТЛЕ'ЎНІК *м.* Гліняны гаршчок. *Атлеўнік — з гліны гаршчок, сложыш ладдзе* [аладкі] *ў атлеўнік і не такія каляныя.* Навікі Лудз.

АТЛІ'Ў *м.* Звіслы край страхі. Рудня Астравітая Чэрв.

АТЛІЦЕ'ЦЬ *зак.* Адбегчы. *Іна атліцела ат акна метраў сто, але ўсё роўна забілі.* Індра Красл.

АТЛО'ЖНЫ *прым.* Пакаты, спадзісты. *Берах атложны.* Глівін Барыс.

АТЛО'І *мн.* Ускраіны возера, зарослыя дзірваном. *Каля возіра атлоі, у атлоях станіш і трасецца.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* літ. *atlajùs* 'затока ракі'.

АТЛУМЛЕ'НЯ *н.* Адурэнне, ачмурэнне. *У яго атлумлéня такое было — ня мох пералічыць грошы.* Ёдлавічы Брасл.

АТЛУПІ'ЦЬ *гл.* АДЛУПІ'ЦЬ

АТМАЛІ' *прысл.* Тое ж, што і а д м á л а с ц і. *Атмалі з маткай не жыла, служыла ў пана і ат пана замуш пашла.* Валынцы В.-Дзв.

АТМЕ'Л *м.* Водмель, мель. *Атмел у рацэ, і вада там не замярзае. Дзе атмел, там луг косяць.* Беразіно Докш. *Атмел бальшы ў возіры.* Янова Рас. *Тут атмел вялікі, плацця мыюць, бабы палошчацца.* Вецярэвічы Пух.

АТМЕ'СЦІ *зак.* Адмесці. *Атмятуць памялом у печы і на подзі саджалі лапуны.* Саланое Віл.

АТМЕТА'ЦЬ *незак.* Адмятаць. *Вуголле трэба атметаць.* Саланое Віл.

АТМЕ'ЦІЦЬ *зак.* Адмераць. ∇*Сем рас атмець, адзін рас адрэш.* Ахрэмаўцы Брасл.

АТНІ'МКА *ж.* Тое ж, што і а д ы м á л к а. *Атнімка — катлы атнімаць.* Валынцы В.-Дзв. *Атнімкай чыгуны бяруць.* Мішневічы Шум. *Выцягвалі атнімкамі гаршкі с печы.* Індра Красл. *Атнімкай гаршок с печкі бралі.* Навікі Лудз.

АТНЯ'ЦЦА *зак.* Паралізавацца. *Дубаніха памёрла, атняліся ногі, у рызінавых ботах хадзіла.* Валынцы В.-Дзв.

АТНЯ'ЦЬ *зак.* 1. Адабраць. *Узялі і атнялі грошы.* Кемялішкі Астр. 2. Адхіліць, адпіхнуць. *Учапіўся за шыю, ніяк ні атняць ад сябе.* Кураполле Паст. 3. *безас.* Паралізаваць. *Атняло правы бок.* Міратычы Карэл.; *параўн.* руск. *отнять* 'тж'.

АТО'ВА *прысл.* Гатова. *Усё атова.* Старыя Смільгіні Воран.

АТО'ВЫ *прым.* Гатовы. *Можа атовыя буракі?* Старыя Смільгіні Воран.

АТО'ДАР *гл.* АТА'ДУР

АТО'ЖАЛ *гл.* АТО'ЖЫЛ

АТО'ЖАЛКІ *гл.* АТО'ЖЫЛКІ

АТО'ЖАЛЛЯ *гл.* АТО'ЖЫЛЛЯ

АТО'ЖАЛЬНІК, АТО'ЖЭЛЬНІК *зб. м.* 1. Атожылкі. *Атожальнік бальшы парос.* Лісна В.-Дзв. *Атожальнік вырас ат пня.* Граўжышкі Ашм. 2. Маладняк (малады лес, хмызняк). *Там не было вялікага лесу, толькі атожэльнік.* Чычалі Швянч.

АТО'ЖЫЛ, АТО'ЖЫЛЬ, АТО'ЖАЛ *м.*, АТО'ЖЭЛА *ж.* Атожылак. *Атожылы стала роза выпускаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Куждая дрэва можа выпускаць атожылы.* Ракаўскія Швянч., Старыя Трокі Трак. *Атожыл ад дрэва. Слійка пусціла атожылы.* Галоўні Воран. *Атожыль вялікі.* Чычалі Швянч. *Атожал у грушы атрос.* Старыя Смільгіні Воран. *Атожэла вырасла.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *atãžalas* 'тж' (ЛТ, 166).

АТО'ЖЫЛАК *м. біял.* Прысосак. *Асліцёр* [саліцёр] *вышаў, атожылак быў кала галавы.* Ахрэмаўцы Брасл.

АТО'ЖЫЛКІ, АТО'ЖАЛКІ *мн.* Атожылкі. *Атожылкі пірус* [бузіна] *пускаіць.* Беразіно Докш. *Дрэва пушчаіць атожылкі.* Саланое Віл. *Атожылкі ў баначку пасадзіла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Атожылкі растуць.* Рыбчына Віл. *Бульба ат каліва атожылкі пускаіць.* Кураполле Паст. *Ці вазон ці дрэва пуская атожылкі?* Крэва Смарг. *На вішні многа атожылкаў.* Кіралі Шчуч. *Атожалкі растуць.* Саланое Віл. *Вісла* [вярба] *атожалкі пускаіць. Калок віслы загнаў і пашлі атожалкі.* Кураполле Паст. *Атожалкі выраслі.* Лісна В.-Дзв. *Атожалкі грушка пуская.* Сапоцкіна Гродз. *Атожалкі папускала верба.* Кіралі Шчуч. *Яблакі з атожалкаў не такія смачныя.* Ёдлавічы Брасл. *Груша атожалкі спусціла.* Малькуны Ігн.

АТО'ЖЫЛЛЯ, АТО'ЖАЛЛЯ *зб. н. бат.* Атожылле. *Во якое вялікае павырастала атожылля* [вішні]. Мярэцкія Глыб. *Атожалля расцець.* Саланое Віл.; *гл.* а т о́ ж ы л.

АТО'ЖЭЛЬНІК *гл.* АТО'ЖАЛЬНІК

АТО'КА *ж.* Затока. *У атоках піскуны водзяцца.* Валынцы В.-Дзв.

АТО'РА *ж.* Тое ж, што і а д о́ р а к. *Атора — астаўшаяся зямля, на ёй садзяць, калі ў сплашную ня вышла.* Дакудава Лід. *Загончыкі раскідаліся, а аторы па бакох былі.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* літ. *atarà* 'тж'.

АТО'РАК *м.* Тое ж, што і а д о́ р а к. *Аторак — упапярок араныя барозны.* Гайна Лаг. *Аторак, дзе конь не даходзіць, тады упоперак аралі.* Пасека Ст.-Дар.

АТО'СА, ГАТО'СА, АТАСА', ОТЕСА *ж.* Атоса. *Атосы ідуць ад восі кола к аглаблям.* Жодзішкі Смарг. *Атоса ў возе.* Беняконі Воран. *Колісь атосы круцілі дзеравяныя.* Мсцібава Ваўк. *Пры аглаблях атосы. Атосы былі з дубовых дупцоў.* Альхоўцы Лях. *Атосы на восі на канцах і за аглоблі зацэплены. Аглоблі дзеравянныя, а атосы драцяныя.* Пацаўшчына

Дзятл. *Атосы жалезныя, бяруцца за колы, за вось.* Кіралі Шчуч. *Атосы з вітак пакручаны.* Грыкені Вільн. *Ат калёс атосы, атосы с прэнту, прэнцік не толсты.* Чычалі Швянч. *Атоса у калёсы паўстроена.* Малькуны Ігн. *Атосы рэменыя.* Скрудалена Даўг., Ёдлавічы Брасл. *Ат каляса лошадзі нацянуты атосы, не пазвалялі цялегі ва ўсе стораны віхляцца.* Навікі Лудз. *Атосы жалезныя.* Істра Лудз. *У возе гатосы дзве.* Старыя Смільгіні Воран. *Атаса парвалася.* Крэва Смарг. *Отёсы коло голобэль. Отёса прутка.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* літ. *atãsaja* 'тж' (ЛТ, 165).

АТО'СІНА, АТАСІНА' *ж.* Тое ж, што і а т ó с а. *Завалілась атосіна.* Валынцы В.-Дзв. *Як адна, то атасіна, як дзве — атасы.* Рудня Астравітая Чэрв.

АТО'ЎКАЦЬ *незак.* Тое ж, што і а п т а ў к á ц ь. *Парацъ авёс, атоўкаюць і меляць.* Альхоўка Навагр.

АТО'ЧЫНЫ, ОТО'ЧЫНЫ толькі *мн.* Нутраное сала. *Каля кішок многа аточын абабрала.* Альхоўцы Лях. *Оточыны пырыпыкла.* Сіманавічы Драг.

АТПАДА'ЦЬ *незак.* 1. Адпадаць, знікаць. *Яны* [мурашкі] *скрыдла маюць, а потым атпадаюць ім скрыдла.* Жылі Іўеў. 2. Аддзяляцца, падаць. *Церлі лён, кастра атпадала.* Грыкені Вільн.

АТПА'ДЫ толькі *мн.* Адходы. *Атпады ад мёду.* Старыя Трокі Трак.

АТПАЛКАВА'ЦЬ *зак.* Даць палкай. *Я п ім атпалкавала.* Вецярэвічы Пух.

АТПА'РЫЦЬ *зак.* Упарыць, зварыць. *Буракі атпару з луской.* Старыя Трокі Трак.

АТПА'САВАЦЬ, АТПА'СВАЦЬ, ОТПА'СУВАТЫ *незак.* Адпасваць, пасвіць па чарзе. *Буду атпасаваць вам каровы.* Вецярэвічы Пух. *Атпасавала тавар.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Хто ў вас козы атпасвае?* Ялова Пруж. *Мы атпасваям калейку.* Крэва Смарг. *Попасы за мынэ корову, то я в ныділю тобі отпасу.* Сіманавічы Драг.

АТПА'СКА *ж.* Адпасванне. *Пойрубля дае за атпаску.* Лоск Валож.

АТПА'СЦІ *зак.* Адпасці. ▽*Прыдзіць Пятрок — атпадзець лісток, прыдзіць Ілля — атпадзець два, прыдзіць спас — і ўсяму час.* Груздава Паст.

АТПА'СЦІЦЬ *зак.* Адпасвіць. *Атпасі маю кароўку. Не магу пасціць.* Малькуны Ігн.

АТПА'ХАВАЦЬ *незак.* Акучваць. *Нада атпахаваць картошку.* Пасіене Лудз.

АТПЕ'РЫЦЬ *зак.* Выперыць пранікам. *Пранікам палатно як атперыш.* Крэва Смарг.; *параўн.* літ. *peȓti* 'тж'.

АТПЕ'Ч *зак.* ◇ *Атпеч пірагі* — адпомсціць. *«Вот калі я табе пірагі атпяку за тое, што ты мяне заўчасне абзывала»,—*

*так сказала нявестка на свякроў, як стала гаспадыняй.* Кураполле Паст.

АТПІВА'ЦЦА *незак.* Адсырваць, рабіцца вільготным. *Атпіваецца сена, ужо раса пацягнула.* Кураполле Паст.

АТПІРА'ЦЬ *незак.* Перыць. *Атпіралі пранікам палатно.* Стральцы Шальч. *Палотна мачылі, атпіралі, палатно станя белянька.* Старыя Трокі Трак. *Атпіраем палатно пранікам і на сонцы сцелім, і выбеліцца, у свой звівалі.* Старыя Смільгіні Воран. *Адзежу і палатно ў дзешкі складалі, лугам залівалі, камення грэлі і садзілі, там парылася, тады атпіралі пранікам палатно.* Янова Рас.

АТПІСА'ЦЬ *зак.* Адказаць на пісьмо. *Я скорынька атпісала.* Магуны Паст.

АТПІ'ЦЦА *зак.* Адсырэць, зрабіцца вільготным. *Атпілося адзенне, але хто гэта дапусціць, кап сплесніла.* Магуны Паст.

АТПО'ЙСАВАЦЬ *зак. перан.* Адлупцаваць, моцна пабіць. *Атпойсаваў чалавека.* Дакудава Лід. *Вось атпойсаваю цябе, як не будзеш слухацца.* Беразіно Докш.; *параўн.* літ. *paisýti* 'адбіваць вусы ў ячмені'.

АТПО'ЙСАЦЬ *зак.* Тое ж, што і а т п о́ й с а в а ц ь. *Ну і атпойсаў я яму.* Груздава Паст. *Атпойсаў пугай, але больш атперыў.* Жодзішкі Смарг. *Я тебя атпойсаю, бо ты доўга быў.* Кіралі Шчуч.

АТПО'МНІЦЦА *гл.* АПО'МНІЦЦА

АТПРА'ТАЦЦА *зак.* Ачысціцца, пазбавіцца. *Пасля вайны не магла атпратацца ат клапоў.* Кураполле Паст.

АТПРА'ТАЦЬ *зак.* Адмыць. *Пальцы не атпратаеш.* Бакшты Іўеў.

АТПРАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Адпраўляць, адвозіць. *Да Трок атпраўляў гонты.* Старыя Трокі Трак. *Сталі ў латышы атпраўляць.* Філіпаўцы Красл.

АТПРЭ'ЧЫЦЬ *зак.* Адвучыць, прагнаць. *Атпрэчыла адну дзеўку, атпрэч і другую.* Беразіно Докш.

АТПУ'СКЛІВЫ *прым.* Адыходлівы. *Атпусклівы чалавек скора атпусціцца.* Малькуны Ігн.

АТПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Адпусціць ад сябе. *Маткі дзяцей не атпусцяць ат сібе.* Паляцкішкі Воран. 2. *безас.* Сцішыцца, перастаць балець, *Руку атпусціла.* Жодзішкі Смарг.

АТПУШЧА'ЦЬ *незак.* Спа́сці, паменшыцца ў аб'ёме. *Пухліну стала атпушчаць.* Ахрэмаўцы Брасл.

АТПЫНІ'ЦЬ, ОТПЫНЫ'ТЫ *зак.* Адагнаць. *Атпыніць трудна ат карыта* [свіней]. *Атпыню карову.* Жылі Іўеў. *Отпыны коровы, шоб в шкоду ны влізлы.* Сіманавічы Драг.

АТПЫНЯ'ЦЬ *незак.* Адганяць. *Іван атпыняя каровы.* Жылі Іўеў.

АТРАБІ'ЦЬ, АТРО'БІЦЬ *зак.* 1. Разлічыцца працай за

даўгі. *Хто мне ўзарэць, хто скосіць — трэба ш атрабіць.* Саланое Віл. 2. Аддаць многа сіл на працягу доўгага перыяду працы. *Твая сям'я — ты роп, я, старая, сваё атробіла.* Лісна В.-Дзв.

АТРАБЯ'НКА гл. ВАНТРАБЯ'НКА

АТРА'ВА *ж.* Атрута. *Атраву пускалі на жукоў.* Кемялішкі Астр.

АТРАВІ'ЦЕЛЬНЫ *прым.* Атрутны. *Мухамор — атравіцельны грып, як зонт, высокая цаўё, пасып цукрам, хай мухаў будзя туча, яны падохнуць, хоць мятлой атмітай.* Ахрэмаўцы Брасл.

АТРАКЧЫ'СЯ *зак.* Адрачыся, пакінуць. *Атракчыся ад дзіця не магла.* Саланое Віл.

АТРАМА'НТ *м.* Чарніла. *Атрамант разліла.* Навасёлкі Свісл.; *парайн.* польск. *atrament* 'тж'.

АТРА'ПАВАЦЬ *незак.* Вастрыць. *Бруском і лапаткай атрапавалі касу.* Ахрэмаўцы Брасл.

АТРАСЕ'ЦЬ *зак.* Адсырэць, стаць вільготным. *Атрасела сена, ну, алі ні так, што мокрая, як было.* Ласвіцкія Шум.

АТРАСЦІ' *зак.* Атрэсці. *Трэба атрасці яблыкі.* Ліпнікі Вільн.

АТРАЧЫ'СЯ гл. АДРАЧЫ'СЯ

АТРА'ШВАЦЬ *незак.* Абсыпаць. *Смолатай мукой атрашваюць сечку.* Міратычы Карэл.

АТРО'БІЦЬ гл. АТРАБІ'ЦЬ

АТРО'ПКІ толькі *мн.* Адходы пры апрацоўцы льну траплом. *Атропкі ата льна нікому нягодныі.* Лісна В.-Дзв.

АТРО'СЦЕ *зб. н. бат.* Карэньчыкі, парасткі. *Атросце пускаіць пырнік.* Валынцы В.-Дзв.

АТРУ'БІСТЫ *прым.* Стромы, круты. *Атрубісты берах.* Круліца Мін.

АТРУБЭ' толькі *мн.* Вотруб'е. *Атрубэ, як пітлююць муку, а як сеюць, то — высеўкі.* Міратычы Карэл.

АТРУПЕ'ЦЬ *зак.* Акамянець, адубець. *Атрупела я ўся ад страху.* Ванелевічы Кап.; *парайн.* ліг. *nurùpti* 'пакрыцца крупкамі'.

АТРУ'СКІ толькі *мн.* Нацярушаныя каласы, салома. *Як возяць жыта, то натрасаюцца са снапоў у таку атрускі. С атрусак хлеп спяклі.* Груздава Паст.

АТРУ'ТА, ВТРУ'ТА *ж.* Тое ж, што і а т р á в а. *Купіла атруты на мух.* Талейкі Швянч. *Стэ* [гэта] *втрута, ны втравэсь.* Радастаў Драг.

АТРУЦІ'ЦЦА, АТРУ'ЦЦА *зак.* Атруціцца. *Можна атруціцца грыбамі.* Каўняны Гродз. *Блёкатам атруліся дзеці.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *otruć się* 'тж'.

АТРУ'ЦЬ *зак.* Атруціць. *Трэба атруць мух.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *otruć* 'тж'.

АТРУ'ЦЯНЬ *м.* Труцень. *Атрутні бываюць у пшчол.* Старыя Трокі Трак.

АТРУ'ШЧВАЦЬ *незак.* Абрываць, абломліваць. *Трэба храстке атрушчваць ад картофлі.* Вялікія Баяры Шчуч.

АТРУ'ЯНЫ *прым.* Атручаны. *Ходзіць, як атруяны.* Альхоўка Навагр.

АТРЭ'ЗАЦЬ *гл.* АДРЭ'ЗАЦЬ

АТРЭ'ПАЦЬ *зак.* Атрапаць. *Лён як сатруць, атрэпуць трапачкай і чэшаць на жалезную шчотку.* Паляцкішкі Воран.

АТРЭ'ПВАЦЦА *незак.* Абтрасацца. *Ён атрэпваўся ад снегу.* Альхоўцы Лях.

АТРЭ'ПЫ толькі *мн.* Адходы ад апрацоўкі льну, атрэп'е. *З атрэп дзяругі ткалі.* Старыя Смільгіні Воран.

АТРЭ'ПЯ, АТРЭ'П'Я *зб. н.* Тое ж, што і а т р э́ п ы. *Дзве дзярушкі сшываюцца, у сярэдзіня атрэп'я — гэта коўдра такая, цёпла было спаць.* Дакудава Лід. *Як трэпляць лён, атходзіць атрэп'я.* Рудня Астравітая Чэрв. *Траплом трэплям, атлятая атрэп'я, кастрыца.* Буда Уздз. *Атрэпя палучаюцца пры трапанні.* Стральцы Гродз.

АТСАІ'ЦЬ *зак.* Адкарміць, адпаіць малаком. *Карова цялё атсаіла, трэба адлучаць.* Альхоўка Навагр. *Атсояць жарабука.* Старыя Трокі Трак.

АТСЕ'ДЗЕЦЬ, АТСІДЗЕ'ЦЬ *зак.* 1. Адседзець. *Атседзеў нагу, аж у пяту коліць.* Альхоўцы Лях. *Я атсідзела ногі — памажы мне падняцца.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Прасядзець доўгі час за работай. *Ціпер жа харашо, а як было атсідзець праз зіму на прасніцы?* Філіпаўцы Красл.

АТСЕ'СЦІ *зак. перан.* Пацяплець. *Марос атсеў, атліга.* Навасёлкі Свісл. *Ужо атсеў марос.* Альхоўка Навагр.

АТСІДЗЕ'ЦЬ *гл.* АТСЕ'ДЗЕЦЬ

АТСКЕ'ЧЫЦІ *зак.* Адскочыць. *Чую, як вуш голкаю стрыкнуў — атскечыла я.* Вялікі Краснік Пруж.

АТСЛЮ'ЗНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і а п с л ю́ з н у ц ь. *Атслюзла капуста, зверху слюс нада зняць.* Мярэцкія Глыб.

АТСПАСІ'БАВАЦЬ *зак.* Аддзякаваць. *Ён атспасібаваў мне.* Лісна В.-Дзв.

АТСТАВА'ЦЬ *незак.* ◇ *Галава ад падушкі атстаець* — не спіцца. *Дзе я буду спаць, галава ат падушкі атстаець.* Кураполле Паст.

АТСТА'ЦЬ *зак.* Адстаць, аддзяліцца. *Мяшу, пака ат рук атстаніць.* Масішкі Красл.

АТСТАЯ'ЦЬ *зак.* Састоіць. *Падаій карову, у стаўбуны налій, атстаяў, вершок слій.* Індра Красл.

АТСТО'ІЦЬ *зак.* Доўга прастаяць. *Як пачулі мы, што прышлі Саветы, паехала я сама са сваім у Кабыльнікі, і ўвесь дзень атстоілі там, слухалі, як гаварылі салдаты.* Пронькі Мядз.

АТСТО'Й *м.* Асадак. *Выдыхаласа піво, атстою багато ў піве.* Дзяніскавічы Ганц.

АТСТО'ЙНІК *м.* Банка для адстойвання малака. *Атстойнік малако зліваць.* Лісна В.-Дзв.

АТСТО'ЯЦЬ *зак.* Быць вартым замяніць каго-н. *Ты атстоіш любога інжынера.* Ахрэмаўцы Брасл.

АТСТРА'ШЫВАЦЬ *незак.* Адпужваць. *Ён мяне атстрашывае.* Кураполле Паст.

АТСТРЫХЧЫ' *зак.* Адрэзаць. *Ад гэтага куска атстрыжом на рукавы і на каўнер.* Ёдлавічы Брасл.

АТСТУДЗІ'ЦЬ *зак.* Астудзіць. *Моланае семя кіпяцім, тады атстудзім, надзярэм рэцькі і заліваем.* Навасёлкі Свісл.

АТСТУПІ'ЦЦА *зак.* 1. Адысці. *Атступіся ад лямпы, ат агню.* Мярэцкія Глыб. *Атступіся, ні заступай свет.* Палік Барыс. 2. *перан.* Прайсці, мінуць. *Хвароба атступілася.* Старыя Смільгіні Воран.

АТСТУ'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Які знаходзіцца на адлегласці ад чаго-н. *Печ атступлена, а там пол і спалі.* Малахоўцы Бар.

АТСТЫ'РА *м.* і *ж. неадабр.* Нелюдзь, упарты, неласкавы. *Хлапец атстыра, а дзеўчынка лісавінька.* Жылі Іўеў. *Ён такі атстыра ўрэдны: нікому не патчыняецца і да яго ніхто не ідзе.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *ãtstiras* 'упарты' (ЛТ, 164).

АТСУ'НУЦЬ *зак.* Адчыніць, адсунуць (засаўку). *Ідзі, хату атсунь!* Навасёлкі Свісл.

АТСЦІЛА'НЫ *прым.* Сланы. *Мочаны лён і атсціланы лён.* Саланое Віл.

АТСЫЛА'ЦЬ *незак.* Пасылаць, накіроўваць. *Ён мяне атсылае да хірурга.* Паляцкішкі Воран.

АТСЫПА'ЦЦА *незак.* Вылятаць (пра рой). *Рой атсыпáецца.* Альхоўцы Лях.

АТСЫ'ПАЦЦА *зак.* Вылецець (пра рой). *Рой атсы́паўся, я лупку набрала, яны брын-брын—і паляцелі ў домік.* Валынцы В.-Дзв.

АТСЫ'РАЦЬ *зак.* Адсырэць, стаць вільготным. *Атсыраў мяшок, на зямлі доўга ляжаў.* Альхоўцы Лях.

АТСЫ'РВАЦЦА *незак.* Рабіцца вільготным, плеснець. *Атсырваяцца хлеп.* Магуны Паст.

АТСЯЧЫ' *зак.* 1. Насячы (нямнога). *Схадзі атсячы дроў.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Адбараніцца, прагнаць. *Як крэпкія пчолы, то атсякуць чужых.* Груздава Паст. 3. *перан.* Сказаць што-н. у рэзкай катэгарычнай форме. *А я скажу, як атсяку.* Кураполле Паст.

АТТАПІ'ЦЦА *зак.* Ператварыцца ў тварог, стварожыцца. *Як малако аттапілася, выліваюць у клінок, сшыты з палатна.* Альхоўка Навагр.

АТТАПЛЯ'ЦЬ, АТТА'ПЛЮВАЦЬ *незак.* Адтапляць (малако). *Малака кіслага ў печ ставім, аттапляям, і сыр добры*

*палучаяцца.* Дакудава Лід. *Атталюеш у печы малако і ў кайстру яго, тады соліш, вымяшаеш, ды пат камянь падкладаеш.* Азяраны Раг.

АТТАПТА'ЦЬ *зак.* 1. *перан.* Стаміцца, адбіць ногі. *Аттаптаў ногі, ходзячы за ім.* Вецярэвічы Пух. 2. Зрабіць мяжу слядамі. *Мы аттапталі дзялку лёну.* Вялікія Баяры Шчуч.

АТТАЎЧЫ' *зак.* 1. Ачысціць ад шалупіння, абтаўчы. *З пансаку аттаўчэць шалупіну і варыць кашу.* Ракаўскія Швянч. 2. *перан.* Адбіць. *Яму мазге аттаўклі.* Кіралі Шчуч.

АТУРО'СТАК *м.* Атожылак. *Лазу зрубаў, і зноў атуросткі пашлі.* Істра Лудз.

АТУРО'СЦІ *мн.* Атожылкі. *Атуро́сці пускаець верба. Адна калева даець атуро́сці.* Скрудалена Даўг.

АТХАДЗІ'ЦЬ 1. *зак.* Зрабіць мяжу слядамі. *Я сабе дзялку лёну атхадзіла.* Жылі Іўеў. 2. *незак.* Аддзяляцца, адставаць. *Мякішэ мяккія атходзяць ат косці.* Кураполле Паст. *Напраста рош молата — ена с коркай, а перачышчаюць — ена атходзіць.* Філіпаўцы Красл. 3. *незак.* Убываць, памяншацца. *Атходзя месяц.* Старыя Трокі Трак.

АТХАДЗЯ' *дзеепрысл.* Слабей, менш, адыходзячы. *Стала ўродзі атхадзя балець.* Кураполле Паст.

АТХАІ'ЦЦА *зак. экспр.* Парабіць хатнюю работу, справіцца. *Я трохі атхаілася, магу пасядзець з вамі.* Груздава Паст.

АТХАЛАДЗЕ'ЦЬ *зак.* Пахаладаць. *Цяпер атхаладзела, слоньца пашла пат хмурай.* Малькуны Ігн.

АТХВАЦІ'ЦЦА *зак.* Паправіцца. *Па часі дала вады карові, можа, карова атхваціцца.* Валынцы В.-Дзв.

АТХВАЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Адратаваць. *Як паелі грыбоў, у бальніцу завязлі, чуць атхвацілі нас там.* Ахрэмаўцы Брасл. *У скорым часе яна ліжала, яе атхвацілі. Адну карову атхвацілі, дзве здохла, як палізалі ўдабрэння.* Кураполле Паст. *Натапілі вуглём печку, і ён умёр, а братаву атхвацілі.* Індра Красл. 2 Адпусціць. *Яго схваціць галавой, атхваціць і апяць станіць балець.* Ахрэмаўцы Брасл.

АТХІЛІ'ЦЦА *зак.* Адысці, адчапіцца. *Ні чапай яго, атхілісь ад яго.* Кіралі Шчуч.

АТХО'ДЗІЦЦА *незак.* Адступаць. *Атходзіўся фронт.* Дакудава Лід.

АТХО'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Адыходзіць. *Ні атхоць ат хаты.* Граўжышкі Ашм. *Развітаўся і атходзя ад нас.* Старыя Трокі Трак. *Вон атходзіт на ту войну.* Ялова Пруж. 2. Аддзяляцца, адставаць. *Як трэпям лён, кастрыца атходзіць.* Новыя Мацалі Варэн. *У старых людзей мякішэ мяхкія, атходзяць ат касці.* Кураполле Паст.

АТХО'ДЛІВЫ *прым.* Адыходлівы. *Атходлівая пасоль, перш не паўсходзіла, а як дошч намачыў, пачала расці.* Саланое Віл.

АТХРАБУСТА'ЦЬ *зак. экспр.* Адлупцаваць. *Вот атхрабустаў ён яе.* Дакудава Лід.; *параўн.* літ. *nugrabūzdóti* 'здзерці'.

АТЦЕ'РПІЦЬ *зак.* Нацярпецца, перажыць. *Атцерпіла я за гэтыя плёткі.* Лоск Валож.

АТЦІНА'ЦЬ *незак.* Знішчаць. *Пчала атцінаіць трутня, матка атцінаіць другую матку.* Саланое Віл. *Чужыя* [пчолы] *атцінаюць матку.* Быстрыца Астр.

АТЦІ'ННЕ *зб. н.* Агрэхі. *Трактар пройдзе і атцінне астаўляе.* Стары Свержань Стаўб.

АТЦЭ'ДЖЫВАЦЬ *незак.* Адцэджваць. *Атцэджываю бульбу.* Старыя Смільгіні Воран.

АТЦЯРПЕ'ЦЬ *зак.* Адцярпець, выцерпець. *На кажан зубок* [калі лячыла зубы] *нада было атцярпець.* Асавец Віл.

АТЦЯ'ТЫ, АЦЯ'ТЫ *прым.* Тое ж, што і атру́бісты. *Берах атцяты.* Альхоўцы Лях., Чычалі Швянч.

АТЦЯ'ЦЬ *зак.* Адрэзаць. *Атцяла я свою касу. Атцяў канцы, з іх рабілі скарачы.* Старыя Трокі Трак.

АТЦЯ'ШКІ толькі *мн.* Адходы ад льновалакна. *Атцяшкі ад льна, з іх вяроўкі вілі.* Валынцы В.-Дзв.

АТЧАПІ'ЦІСА, ОТЧЫПЫ'ТЫСЬ *зак. перан.* Адчапіцца. *Атчапецеса вы ад мяне.* Вялікі Краснік Пруж. *Отчыпысь од мынэ.* Сіманавічы Драг.

АТЧАПНО'Е *н.* Адчэпнае. *Атчапнога ўліюць* [паесці]. Лісна В.-Дзв.

АТЧЫНІ'ЦЬ, АЧЧЫНІ'ЦЬ *зак.* 1. Адчыніць. *Атчыняюць дзверы.* Альхоўцы Лях. *Атчыні дзверы!* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. *перан.* Зайсці, наведаць. *Тут ён астаўся быў, дык дачка тры дні хаты не атчыніла.* Лоск Валож. *Як захварэіць, дык ніхто дзвярэй не аччыніць.* Лісна В.-Дзв.

АТША'РЫЦЬ *гл.* АДЖА'РЫЦЬ

АТШВО'ЛІЦЬ *зак. экспр.* Адкроіць. *Атшволіла кавалак шкваркі.* Старыя Смільгіні Воран.

АТШЧАПІ'ЦЬ *зак.* Адкалоць, адсячы. *Атшчапіў апланак тоўсты ат палена.* Бакшты Іўеў.

АТШЧЭ'ПАК *м.* Тое ж, што і аскалёпак. *Ён вячай рабіў, атскочыў атшчэпак — і ў вока.* Жылі Іўеў.

АТШЭ'ЛЬНІК *м.* Адзінотнік, самотнік. *Ён век атшэльнікам жывець.* Лісна В.-Дзв.

АТЫ'ЛЫ *прым.* Тоўсты, грузны. *Ён атылы чалавек. Цяпер многа атылых ест.* Мсцібава Ваўк.

АТЫМА'ЛКА *гл.* АДЫМА'ЛКА

АТЫМА'ЧКА, АТЫМА'ШКА *гл.* АДЫМА'ЧКА

АТЫ'МКА *ж.* Тое ж, што і адыма́лка. *Хустку завязала, як атымку, гразную.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

АЎДУ'Т *м. заал.* Удод. *Аўдут дудукая, чубок у яго, красіва птушка.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *audoti* 'спяваць', *aĩdoti* 'крычаць'.

АЎЁС *гл.* АВЁС

АЎСЮ'К *м.* Тое ж, што і а в я с ё ц. *Аўсюк як насеецца, не можна выкараніць.* Скрудалена Даўг. *Аўсюк на авёс пахожы.* Малахоўцы Бар.

АЎСЯ'НІСКА, АЎСЯ'НІСКО, ГАЎСЯ'НІСКА *н.* Аўсянішча. *Аўсяніска пашоў касіць.* Кемялішкі Астр. *Конь на аўсяніску.* Вялікія Баяры Шчуч. *Гараў аўсяніско.* Дзяніскавічы Ганц. *Гавёс скасілі, засталося гаўсяніска.* Кіралі Шчуч.

АЎСЯ'НІЦА *ж.* Аўсяная салома. *Аўсяніцу заўтра прывязуць.* Асавец Віл.

АЎСЯ'НІШЧА *н.* Тое ж, што і а ў с я́ н і с к а. *Аўсянішча послі аўса.* Груздава Паст. *Даюць аўсянішча ў канцы поля.* Альхоўка Навагр.

АЎСЯ'НКА *ж.* 1. Аўсяныя крупы. *Аўсянку таўклі: насушаць аўса, аптаўкуць, апалаюць.* Міратычы Карэл. *Аўсянку варылі.* Мсцібава Ваўк. 2. Аўсяная салома. *Аўсянка — аўсяная салома.* Малькуны Ігн. *Аўсянку добра ядуць каровы.* Мсцібава Ваўк.

АЎСЯ'ННЯ *н.* Тое ж, што і а ў с я́ н і с к а. *Аўсянне — поле пасля аўса.* Лоск Валож. *Аўсяння ідзе пат папар.* Вязынка Маладз.

АЎСЯ'НЫ, АЎСЯ'ННЫ, ГАЎСЯ'НЫ, ОВСЯ'НЫЙ *прым.* 1. Прыгатаваны з аўса. *Аўсяны кісель елі.* Альхоўцы Лях. 2. Які мае дачыненне да аўса. *Аўсяна салома ідзе на корм.* Альхоўцы Лях. *Аўсяная арзыска, як сажнуць авёс.* Кемялішкі Астр. *Аўсянна пожня.* Сакаляны Сакол. *Жані каровы на гаўсяну пожню.* Вострава Маст., Вялікія Баяры Шчуч. *Вос гаўсянай саломы прывёс.* Стральцы Гродз. *Овсяна пыжня.* Сіманавічы Драг.

АЎТАБУ'ЗЫ *мн.* Самаробны абутак, які рабілі з аўтакамер і насілі ў час вайны. Малахоўцы Бар., Масілавічы Сл.

АЎТО'БУС, АЎТАБУ'С, АЎТАБУ'З *м.* Аўтобус. *Аўтобусы ездзяць.* Грыкені Вільн. *Аўтобусам вязём.* Альхоўцы Лях. *Спаткаліся ў аўтабусе.* Саланое Віл. *Аўтабусам прыехалі.* Мсцібава Ваўк. *Конь аўтабузаў баіцца.* Быстрыца Астр.

АЎЦА', ГАЎЦА' *ж.* Авечка. *Цяпер мала авец, у нас адна аўца.* Каўняны Гродз. *Была адна аўца і тую ўкралі.* Стральцы Гродз. *Аўца, а хочаш, назаві авечка.* Палік Барыс. *Баран з гаўцамі хадзіў.* Вострава Маст. *Трэба стрыкчы гаўцу.* Мсцібава Ваўк.

АЎЦЮКІ' *мн. бат.* Аўсюкі. *Аўцюкі — у аўсе такое зеле, з яго мякіна палучаецца.* Курапполле Паст.

АЎЧА'Р *м.* 1. Авечы пастух. *Аўчар — пастух, які пасціў авечак.* Азяраны Раг. 2. Воўк, які нападае пераважна на авечак. *Е ваўке аўчарэ.* Вецярэвічы Пух.

АЎЧА'РНІК, ГАЎЧА'РНІК *м.* Тое ж, што і а ў ч а́ р 2. *Есць конскія ваўкі, а гэта аўчарнікі.* Мярэцкія Глыб. *Гаўчарнік ся-*

*рэдняга росту, як добры сабака. Гайчарнікі бралі пойсвінáкі і гавечку.* Гемзы Шальч.

АЎЧУ'Р, ГАЎЧУ'Р *м.* 1. Тое ж, што і а ў ч á р 2. *Айчур — авечы войк.* Альхоўцы Лях. 2. Тое ж, што і а ў ч á р 1. *Пастуха, што гавечкі пасе, завуць гайчур.* Вялікія Баяры Шчуч.

АЎЧЫ'НА *ж.* Аўчына. *Я айчыны ня прадай.* Лоск Валож. *Кажух з айчыной авечых.* Грыкені Вільн.

АЎЧЫ'ННІК, АЎЧЫ'НІК *м.* Гарбар. *Айчыннік айчыны вырабляй.* Малахоўцы Бар. *Айчынікі былі, айчыны выдзелывалі.* Валынцы В.-Дзв.

АФІРА'НКА, АФІРА'НЬКА, АХВІРА'НКА *ж.* Фіранка. *Бокна завешваюць афіранкай. Афіранкі вешаюць на карнізы.* Вострава Маст., Міратычы Карэл. *Купіла новыя афіранькі.* Кіралі Шчуч. *Ахвіранкі з бумагі выразалі.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* польск. *firanka* 'тж'.

АФІЦЫЯ'Н *м.* Афіцыянт. *Афіцыянам бый.* Саланое Віл.

АФТАВА'НЫ, АПТАВА'НЫ *прым.* Абшыты гафтаванымі карункамі, гафтаваны. *Фартух вышыты — то афтаваны. Адзену афтаваны фартух.* Быстрыца Астр. *Гаці ў мяне былі аптаваныя.* Старыя Трокі Трак.

АФТАВА'ЦЬ *незак.* Гафтаваць. *Яна ўмела афтаваць.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *haftować* 'тж'.

А'ФТАЧКА *ж. памянш.* да á ф т к а. *Кручок ушыла, ушый афтачку.* Старыя Смільгіні Воран.

А'ФТКА *гл.* ГА'ФТКА

АФЭ'НДАНЫ *дзеепрым. экспр.* Брудны, абарваны. *Ходзіць афэнданы, брытка глядзець.* Каўняны Гродз.

АФЯ'РА, АХВЯ'РА *ж. рэліг.* Прынашэнне ў дар бажаству, царкве. *Афяра — гэта, дапусцім, я думаю за сваё здароўе, за дзяцей і нясу што-та ў касцёл ці ў цэркву.* Індра Красл. *Дзве бабы ішлі на афяру, пачулі — гармонік іграіць,— на, падзяржы афяру, а я лявоніху аджару.* Валынцы В.-Дзв. *Даць на ахвяру.* Мярэцкія Глыб. *Ахвяру даюць.* Рыбчына Віл., Альхоўцы Лях. *Некалі мая мама да ахвяры хадзіла ў Буду.* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *ofiara* 'тж'.

АФЯРАВА'ЦЦА *зак.* Ахвяравацца. *Дайней пойзалі людзі, а як афяравайся — так і пайзі.* Ахрэмаўцы Брасл.

АФЯРАВА'ЦЬ *зак.* Ахвяраваць. *Афярую людзям качанят.* Магуны Паст. *Некалі пан афяравай на капліцу лес, а пані скупая была і пастроілі абору, і тую абору пярун спаліў.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* польск. *ofiarować* 'тж'.

АХ *часц.* Аж. *Пашой ах на рэчку.* Ністанішкі Смарг.

АХАДЗІ'ЦЦА *зак.* Справіцца з хатняй работай. *Ахаджуся і сяду вячэраць. Пакуль я ахаджуся, многа работы.* Вялікія Баяры Шчуч.

АХА'ІЦЦА *зак.* Прыбрацца. *Ахаілася п ты троху, валасы дубалём, сукенка гразная.* Груздава Паст.

АХАЛО′ДАЦЦА *зак.* Прастыць, змерзнуць. *Ахалодалася я каля парога.* Альхоўцы Лях.

АХАЛО′ДАЦЬ *зак.* 1. Ахаладзіць. *Няхай ахалодае масла.* Альхоўцы Лях. *Ахалодае ў калодзежы малако.* Дзяніскавічы Ганц. 2. *перан.* Астыць. *Перш загарэўся быў жаніцца, патом ахалодаў.* Дзяніскавічы Ганц.

АХА′ПАК *м.* Ахапак, бярэмя. *Ахапак сена прынёс.* Мярэцкія Глыб. *Запасі ахапак сена карове.* Беразіно Докш. *Ахапак сена азяў.* Саланое Віл.

А′ХАТ *м.* Тое ж, што і а д г а л о́ с к і. *Гукнула, аш ахат пашоў, ахат ідзе. Па хвойцы стукнула, аш ахат пашоў.* Пацаўшчына Дзятл.

А′ХАЦЬ *незак.* Стагнаць, ахаць. *Як ляжыць — нішто, а як паверніць руку — ахаіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

АХВА′Т *м.* Тое ж, што і а п о́ й. *Змэнчанага каня напаіў — ахват будзя.* Быстрыца Астр.

АХВАЦІ′ЦЦА *зак.* 1. Захварэць на апой (пра каня). *Конь ахваціўся вадой, вохват у каня.* Дакудава Лід. *Конь ахваціўся, зморany напіўся халоднай вадэ.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Выздаравець. *Хварэлі на ціф, я ахвацілася, а сястра поўная была і памёрла.* Рагулішкі Даўг. 3. Падарвацца. *Перасіліўся за лета, ахваціўся мужык.* Саланое Віл. 4. Абжыцца. *Цяпер людзі ахваціліся, а даўней с торбамі ішлі.* Лісна В.-Дзв.

АХВА′ЧАНЫ *дзеепрым.* Хворы на апой (пра каня). *Конь ахвачаны, спацеў і напаілі халоднай вадой.* Магуны Паст. *Конь ахвачаны, ахват у каня.* Дзяніскавічы Ганц.

АХВІРА′НКА *гл.* АФІРА′НКА

АХВО′СЦІ *зб. мн.* Тое ж, што і а м е́ ц і. *Як малацілі цапамі, ахвосці аграбалі.* Бакшты Іўеў.

АХВО′ТА *ж.* Ахвота, жаданне, прыемнасць. *Робіць і ахвота яго бярэ.* Дзяніскавічы Ганц. *Бывала, у лес іці ахвота. З ахвотай у лес ішлі.* Азяраны Раг.

АХВО′ТНА, АХВО′ТНО, АХВО′ТНЯ, АХО′ТНЕ, АХО′ТНЯ *прысл.* Ахвотна. *Ахвотна есць.* Мярэцкія Глыб. *Ён рабіў ахвотно.* Дзяніскавічы Ганц. *Яна ахвотня робіць.* Рыбчына Віл. *Цялушка ахотне тоўхаець, вімя ў каровы памякчэла.* Кураполле Паст. *Прыдзя, адменя ахотне.* Граўжышкі Ашм. *Як лоўко, так ахотня ткаць.* Альхоўцы Лях. *Свіня есь ахотня, аш лопая: лоплоп-лоп.* Кіралі Шчуч.

АХВО′ТНЫ *прым.* Ахвотны. *Яны ахвотныя, хочуць усюды быць.* Ракаўскія Швянч.

АХВЯ′РА *гл.* АФЯ′РА

АХВЯРАВА′ЦЦА, АКВЯРАВА′ЦЦА, АФЯРАВА′ЦЦА *зак.* Ахвяравацца. *Даўней людзі ахвяруюцца і паўзуць на каленьках. Бабка аквяруецца і нясе што ў цэркву.* Саланое Віл. *Даўней поўзалі людзі, а як афяраваўся — так і паўзі.* Ахрэмаўцы Брасл.

АХІ'ЛІМ *м. іран.* Плашч. *Надзявай гэты ахілім.* Граўжышкі Ашм.

АХІНУ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і акрыцца. *Мне далі чым ахінуцца.* Малахоўцы Бар.

АХЛІАПІ'НА *ж.* Вялікі кавалак (мяса). *Тры ахлапіны мяса. Адна ахлапіна* [без косці] *любівага мяса. Ахлапіну даеш.* Кіралі Шчуч.

АХЛАПЛЯ'ЦЦА *незак.* Ачапляцца (класці суцэльны вянок зруба над праёмамі акон і дзвярэй). *Дзверы і вокны ахлапляюцца ахлапнымі балькамі.* Ахрэмаўцы Брасл.

АХЛО'ХНУЦЬ *гл.* АГЛО'ХНУЦЬ

АХЛУДНЕ'ЦЬ *зак.* Астыць. *Бульба ахлуднеіць.* Груздава Паст.

АХЛЯБА'ЦЬ *незак.* Абвісаць. *Бакі ў каровы ахлябаюць.* Рудня Астравітая Чэрв.

АХЛЯ'БІНЫ *мн.* Бакавіна тушы (без касцей). *Зарэзаў авечку, ахлябіны павырэзаў.* Граўжышкі Ашм.

АХЛЯ'БЛЫ *прым.* Абвіслы. *Ахляблыя бакі ў каровы, карова не пад'еўшы.* Рудня Астравітая Чэрв.

АХЛЯ'БНУЦЬ *зак.* Схуднець. *Карова ахлябла, пахі праляцелі.* Малькуны Ігн.

АХЛЯВУ'ШЧЫЦЬ *зак. экспр.* Даць аплявуху. *Нашы мушчыны ахлявушчаць морду, хто да дзевак прыстае.* Кіралі Шчуч.

АХЛЯ'ЦЬ *зак.* Аслабець. *Людзі ахлялі, не рабілі.* Рудня Астравітая Чэрв.

АХМІСТРЫ'НА, АХМЯСТРЫ'НЯ ж. *устар.* Ахмістрыня, эканомка ў панскім маёнтку. *Ахмістрына была ў пана, хазяйка над усім, выдавала прадукты.* Магуны Паст. *У пана была ахмястрыня.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *ochmistrzyni* 'тж'.

АХМЫЛІ'ЦЦА *зак.* Памыліцца. *Я ахмыліўся, не ў тую хату папаў.* Мачаск Бярэз.

АХО'ВА *ж. перан.* Страха. *Усе будынкі пад адной аховай.* Кіралі Шчуч.

АХО'ДАЦЦА, АХО'ДЗІЦЦА *зак.* 1. Ухадзіцца. *Трэба ісці дахаты, ахадацца.* Дакудава Лід. *Я ўжэ аходзілася.* Вострава Маст. *Яна не аходзілася яшчэ.* Кіралі Шчуч. *Як аходзімся, тады вазьмуся за масла.* Мсцібава Ваўк. 2. Закончыць якую-н. работу. *Я ўжо аходзіласа с кудзяльмі.* Стральцы Гродз.

АХО'ДАЦЬ *зак.* Упарадкаваць. *Зара агародзік аходаю.* Дакудава Лід.

АХО'ДЖВАЦЦА *незак.* Уходжвацца. *Трэба ісці аходжвацца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пайду аходжвацца.* Стральцы Гродз. *Мама як прыдзя з поля — аходжваецца дома да самага вечара.* Галубы Маст.

АХО'ДЗІЦЦА *гл.* АХО'ДАЦЦА

АХО'ТА *ж.* 1. Ахвота. *Ахоту мей вучыцца. Мелі ахоту хадзіць у лес.* Старыя Трокі Трак. 2. Паляванне. *Мушчыны на ахоту пашлі.* Рудня Астравітая Чэрв.

АХО'ТНЕ, АХО'ТНЯ *гл.* АХВО'ТНА

АХО'ТНІК *м.* 1. Паляўнічы. *Ахотнік зайцоў настраляў.* Мярэцкія Глыб. *Бацька мой быў удалым ахотнікам.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. 2. Аматар, майстар. *Сільны ахотнік быў на скрыпцы іграць.* Ахрэмаўцы Брасл.

АХРАМЕ'ЦЬ *зак.* Закульгавець. *Ахрамела, а чаго яна ахрамела — не ведаю.* Быстрыца Астр. *Ахрамела — забалела адна нага.* Грыкені Вільн.

АХРА'НА *ж. іран.* Стор采ж. *Ахрана мая ляжыць за прыпяч-кам.* Саланое Віл.

АХРА'ПА *ж.* Ахрап'е. *Ахрапы націгаім свіням.* Лісна В.-Дзв.

АХРАП'Я *зб. н.* Тое ж, што і а х р а́ п а. *Нада свіням ахрап'я набраць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сякуць ахрап'я або ў сяччкарні рэжуць і мішаяць свіням.* Груздава Паст. *Ахрап'я цалоя, ня сцюпаная даю.* Мярэцкія Глыб. *Пайду ахрап'я набяру ў кучу.* Валынцы В.-Дзв.

АХРО'НА *ж.* Варта. *Ахрона змянілася на мосце.* Галубы Маст.; *параўн.* польск. *ochrona* 'тж'.

АХРЭ'ПАМ *прысл.* Напорыста. *Гусь аш ахрэпам дабіваецца несціся там.* Галубы Маст.

АЦВЫ'СЦІ *зак.* Адцвісці. *Сады ацвылі, яблыкаў будзя многа.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

АЦЕКА'ЦЬ *незак.* Ацякаць, апухаць. *Ацекаіць твар.* Саланое Віл.

АЦЕЛЯ'ЦЦА *незак.* Цяліцца. *Рана ацеляецца карова.* Лісна В.-Дзв.

АЦЕ'ПЛІВАЦЬ *незак.* Уцяпляць. *Ацеплюю пчол, зіма ўсякая бывая, пагібнуць могуць.* Крупіца Мін.

АЦЕ'ПЛІЦЦА *зак.* Абагрэцца. *Ні кап ацепліцца і памыцца, а пашоў гуляць.* Крэва Смарг.

АЦЕРАБІ'ЦЬ *зак.* 1. Абсячы галлё. *Як звалім пень с сукамі, яго нада ацерабіць.* Груздава Паст. 2. Абрэзаць карэнне, абчысціць. *Ацерабіла буракі, поцерап астаўся.* Вялікія Баяры Шчуч.

АЦЕ'РЦІСЯ *зак.* Аднасці, адваліцца. *Ячмень каласаваць, што п асцюке ацерліся.* Малахоўцы Бар.

АЦЕ'СЛЕВАТЫ, АЦЕ'СЛІВАТЫ, АЦЕ'СЛЯВАТЫ, АЦЕ'СКЛЕВАТЫ *прым.* Ацеслевы, з закальцам (пра хлеб). *Ацеслеваты хлеп, атпёкся.* Дзяніскавічы Ганц. *Ацесліваты хлеп.* Мярэцкія Глыб. *Як не дапячэцца хлеп, то ацесляваты.* Міратычы Карэл. *Кіслі мала ілі печка нежарка — ацесклеваты хлеп.* Скрыпчына Лудз.

АЦЕ'СЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і а ц е́ с л е в а т ы. *Ацеслі-*

*вы хлеп клеіцца.* Крэва Смарг. *Пячэш хлеп, ён ні ўкіс, асядзе, хлеп ацесліва.* Стральцы Гродз. *Аджыдзеўшы хлеп — ацесліва хлеп.* Ракаўскія Швянч. *Калі ня ўкісня хлеп, ён у пячэ ні патходзіць, асядзе на ніс, кажуць, хлеп ацесліва.* Малахоўцы Бар. *Ацесліва хлеп, недапёкся ці не падышоў як трэба.* Ухвала Круп. *Еслі печка чуць нагрэіца, тады хлеп ацесліва.* Індра Красл.

АЦЕ'Ц *м.* Бацька. *Ацец плотнікам быў.* Кемялішкі Астр. *Ацец узяўшы ўкраінку.* Ахрэмаўцы Брасл. *Да атца маго хадзіў.* Паляцкішкі Воран. *Ацец схаваны там.* Стральцы Шальч.; *параўн.* руск. *отец* 'тж'.

АЦЁПКАЦЦА *зак.* Абабіцца. *Трэба подбіву да спадніцы прышыць, а то ацёпкаецца.* Кіралі Шчуч.

АЦЁЎКНУЦЬ, АЦО'ЎКНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і а б р а́ к н у ц ь. *Малако ні кіслоё, ні слаткоё, ацёўкло малако, другая скажа.* Масілавічы Сл. *Малако ацоўкло.* Верхалессе Бар.

АЦІЛЯ'ГАВАЦЦА *незак.* Марудзіць. *Ні ён робіць, а толькі ацілягаваіцца.* Мярэцкія Глыб.

АЦІ'НАК *м.* Тое ж, што і а к р а м у́ с а к. *Ацінак астаўся, прышыю да рукава.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *odcinek* 'тж'.

АЦІ'РА *ж.* Амецце. *Аціры карміла кароў, а мякінай свіней.* Мачаск Бярэз. *Аціру і мякіну ссыпалі ў закрылля.* Азяраны Раг.

АЦІХА'ЦЬ *незак.* Заціхаць. *Дошч не аціхая, а папраўляецца.* Мсцібава Ваўк.

АЦІ'ХНУЦЬ *зак.* 1. Сціхнуць, суняцца. *Калі не аціхне дошч, не пайду на работу.* Мсцібава Ваўк. *Аціх дошч, але макро.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Раздумаць. *Казалі — жаніся, перш завінуўся, а посля аціх.* Кукарава Бярэз.

АЦІША'ЦЬ *зак. безас.* Пацішэць, супакоіцца (пра вецер, надвор'е). *Так аціша́ла — ліст не шарахнецца.* Рудня Астравітая Чэрв.

АЦІ'ШЫЦЬ *зак. перан.* Страціць настрой, бадзёрасць, быць у роспачы. *Нос апусціла дзеўка, ацішыла.* Жодзішкі Смарг.

АЦКАМЕ'ЦЬ *зак.* Нагнаць аскому. *Зубы ацкамелі ад яблыкаў.* Малькуны Ігн.

АЦКО'М *гл.* АСКО'МА

АЦО'ЎКНУЦЬ *гл.* АЦЁЎКНУЦЬ

АЦСВЕ'Р *гл.* АСВЕ'Р

АЦЦЕ'КАЦЬ *незак.* Адцякаць. *То аццекала вада, а то стаіць поўна вады.* Дзяніскавічы Ганц.

АЦЦІСКА'ЦЦА *незак.* Адціскацца. *Аццiскаецца творах.* Мсцібава Ваўк.

АЦЦО'Ў *прым.* Бацькаў. *Аццоў дом. Аццовую байку помню.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. разм. *отцов* 'тж'.

АЦЦЯГЦІ′ *зак.* Адцягнуць. *Ён аццёх жонку, а яна — за поват, за тапор.* Вецярэвічы Пух.

АЦЦЯ′ЦЬ *зак.* Адрэзаць, захапіць. *Ён аццяў ад маей дзялкі частку* [зямлі]. Паляцкішкі Воран.

АЦЭ′НЬКІ *мн.* Ацэнкі, адзнакі. *Я ў восьмым класе добрыя ацэнькі мела.* Мсцібава Ваўк.

АЦЮ′ЖА *ж.* Жуда, страх. *Як слухаеш, аш ацюжа робіцца.* Ёдлавічы Брасл.

АЦЮ′Й-АГА′ *выкл.* Ату. *Як убачаць воўка, то крычаць: ацюй-ага воўка-воўка!* Альхоўцы Лях.

АЦЯ′ГІНЫ толькі *мн.* Тое ж, што і а п ц я́ г а в і н ы. *Ацягіны прадуць на зрэбніну.* Кіралі Шчуч.

АЦЯ′ГНЯНЫ толькі *мн.* Тое ж, што і а п ц я́ г а в і н ы. *Ацягняны на мяхі прадзямо.* Дакудава Лід.

АЦЯМНЕ′ЦЬ *зак. безас.* Сцямнець. *Ацямнела, ноч агарнула.* Саланое Віл.

АЦЯПЛЕ′ЦЬ *зак. безас.* Пацяплець. *Аццяплела пасля мароза.* Чычалі Швянч.

АЦЯПЛІ′ЦЬ *зак.* Уцяпліць. *Ацяпліць дзверы нада.* Індра Красл.

АЦЯПЛЯ′ЦЬ *незак.* Абаграваць. *Я ацяпляю хату дрывамі.* Рыбчына Віл.

АЦЯРО′ПКА *ж.* Кавалачак, абдзірак бульбіны. *Як трэш бульбу на тарку, што астаецца кусочак — гэто ацяропка.* Вялікія Баяры Шчуч.

АЦЯ′ТЫ *гл.* АТЦЯ′ТЫ

АЦЯ′ШКІ толькі *мн.* Тое ж, што і а ц я́ г і н ы. *Ацяшкі — гэта, як абцягваюць лён пры трапанні.* Кураполле Паст.

АЧАВІ′ДАК *м.* Відавочнасць. *Ужо ў наш ачавідак тангі ішлі.* Альхоўцы Лях.

АЧА′Й *м.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў. *У ачай сыплюць зярня.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* в ó ч к а І.

АЧА′ПІСТЫ *прым.* Тоўсты, трыбухаты. *Ачапістая карова.* Мярэцкія Глыб.

АЧАПІ′ЦЬ *зак.* 1. Акружыць. *Ну, прыгналі нас у сяло, ачапілі.* Ляды Чэрв. 2. Пакласці суцэльнае бервяно над праёмамі акон, дзвярэй у зрубе хаты. *Ужо ачапілі вокны і дзверы.* Рыбчына Віл. *Трэба акно ачапіць.* Крэва Смарг.

АЧАПНІ′ЦЫ *мн.* Верхнія бярвенні ў зрубе будынка, на якія ставяцца кроквы. *Ачапніцы ідуць над балькамі.* Стральцы Гродз.

АЧАРАВА′НЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і а б ч а р а в а́ н ы. *Яна была ачаравана.* Магуны Паст.

АЧАРО′Т *м.* Чарот. *Ачарату́ прынёс.* Навасёлкі Свісл.

АЧАХА′ЦЬ *незак.* Астываць. *Выверну боп у міску, хай ачахаіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

АЧА′ХНУЦЬ *зак.* 1. Астыць. *Зварыла ўжо, ніхай ачахніць*

*капуста.* Мярэцкія Глыб. *Хай трохі ачахне капуста.* Мачаск Бярэз. 2. Перагарэць, пагаснуць, астыць. *Як жар ачахня, і печ ачахня.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. *перан.* Трошкі адпачыць. *Ачахнуць трэба трохі.* Чычалі Швянч.

АЧА'ЦЦА *зак.* Астацца, спыніцца. *Людзі ачаліся і жывуць. А хто ведае, дзе ён ачаўся.* Груздава Паст.

АЧКІ' толькі *мн.* Тое ж, што і а к у л я́ р ы. *Вочы бальныі, нада мне ачкі.* Лісна В.-Дзв. *У ачках ходзя.* Лоск Валож.

АЧНЫ'Я ЗУ'БЫ *мн.* Вочныя зубы. *Цяшка рваць ачныя зубы.* Ёдлавічы Брасл.

АЧО'МАЦЦА *зак.* 1. Апамятацца, расчухацца пасля сну. *Ніяк ні ачомаяцца маладьі, спаць хоча.* Малахоўцы Бар. *Ляжаш спаць, праснесса, покуль ачомаесса.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Ачуняць, прыйсці ў нармальны стан. *Так балела галава, чуць ачомалася.* Малахоўцы Бар. *Хварэў доўго, чуць ачомаўся.* Альхоўцы Лях. *Палола буракі, прышла дахаты, ледва ачомалася.* Дзяніскавічы Ганц.

АЧО'МХАЦЦА *зак.* Тое ж, што і а ч о́ м а ц ц а 2. *Ні можа ачомхацца пасля хваробы.* Кіралі Шчуч.

АЧО'СВАЦЬ *незак.* Абчэсваць. *Масцярскія людзі ачосвалі бальку склютом.* Магуны Паст.

АЧО'СКІ толькі *мн.* Адходы пры часанні льну. *З ачоскаў ткалі ходнікі.* Дакудава Лід.

АЧУНЕ'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і а ч о́ м а ц ц а. 2. *Я стала піць лекарства, быстра ачунела.— А я не магу ачунець пасля хваробы.* Валынцы В.-Дзв. *Гэткая я была слабая, чуць ачунела. Мяне ўкусіла гадзюка, я чуць не ўмёрла, чуць ачунела.* Кураполле Паст. 2. Апамятацца пасля непрытомнасці. *Ачунеў ён, як на яго вядро вады ўзлілі.* Валынцы В.-Дзв. *Тады ачунела ўвечары, і як нічога не быўшы.* Малькуны Ігн.

АЧУНЯ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і а ч о́ м а ц ц а 2. *Ачуняла каройка.* Навасёлкі Свісл. *Не плач, ты яшчэ ачуняеш. Сымоніха ачуняла.* Вецярэвічы Пух.

АЧУРУ'ДНЫ *прым. асудж.* Прапашчы, горкі (п'яніца). *Дзеравенская дзяўчына вышла за яго, а ён п'яніца ачурудны, сільна п'ець.* Валынцы В.-Дзв.

АЧУРЫ'ЦЦА, АЧЧУРЫ'ЦЦА *зак.* Адрачыся. *Дзеці ад бацькоў ачурыліся. Ён ад яе аччурыўся быў.* Ахрэмаўцы Брасл.

АЧУ'ЦЦА *зак.* Адысці, ачуняць, паправіцца. *Век мае ногі не ачуліся п — вылячыла бапка.* Дакудава Лід.

АЧЧЫ'РЫЦЦА *зак.* Апынуцца. *Адбіла нагу* [у час бою], *як я аччырыўся на машыні — ня помню.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

АЧЧАПІ'ЦЦА *зак. перан.* Адстаць, адчапіцца. *Аччапецеся вы ад мяне!* Міратычы Карэл.

АЧЧУРЫ'ЦЦА *гл.* АЧУРЫ'ЦЦА

АЧЧЫНІ'ЦЬ *гл.* АТЧЫНІ'ЦЬ

АЧЫ'СЦІЦЦА *зак. біял.* Счысціцца (пра выхад плацэнты). *Карова ачысцілася, пасцель вышла.* Малахоўцы Бар.

АЧЫ'СЦІЦЬ *зак.* Прыбраць, упарадкаваць. *Я ніколі ў хаця ні ачышчу, німа калі.* Крэва Смарг. *Я ужэ ачысціла хату.* Мярэцкія Глыб.

АЧЫ'ШЧАНЫ *дзеепрым.* Спакладаны. *Ачышчаны — баран, а няачышчаны — цякун.* Ракаўскія Швянч.

АЧЫШЧА'ЦЦА *незак.* Апрацоўвацца. *Выціралі, трапалі, часалі, так ачышчаўся лён калісьці.* Грыкені Вільн.

АЧЫШЧА'ЦЬ *незак.* 1. Аддзяляць, абмятаць. *Змалоцяць жыта і мятлой ачышчаюць ад каласоў.* Мярэцкія Глыб. 2. Ачышчаць, знішчаючы шкодныя ўтварэнні. *Крапіва ачышчаіць кроў.* Ахрэмаўцы Брасл.

АЧЭВІ'ДНЕ *прысл.* Хутка, ураз. *Яна ачэвідне забыла чалавека.* Вецярэвічы Пух.

АЧЭ'П *м.* 1. Першае суцэльнае бервяно над праёмамі акон і дзвярэй. *Ачэп на вокны кладуць.* Старыя Смільгіні Воран. *Над акном кладуць ачэп.* Жодзішкі Смарг. 2. *мн.* *ачэпы.* Тое ж, што і а ч а п н і ц ы. *Пасля суфіту ачэпы клаліся, на ачэпы кроквы ставіліся.* Мсцібава Ваўк. *Па ачэпах ідуць кроквы, а па іх — латы.* Малахоўцы Бар. *Налажыў ачэпы.* Саланое Віл. *Па бэльках ідуць ачэпы.* Дакудава Лід. *Ачэпы паследнія, а на яе кроквы ставілі.* Старыя Трокі Трак. *Ачэпы лажыць — ачапіць хату.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ачэпы — верхнія броўны на будынку.* Альхоўцы Лях. *Ачэп — астатні вянок.* Грыкені Вільн. 3. Бэлька, што кладзецца на шулы. *Шул паставілі, на шул ачэп.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. дыял. *оcера, осгар, осгер* 'бэлька, якая кладзецца ўздоўж сцяны' (СВ, III, 541).

АЧЭ'РНІЦЬ *зак. перан.* Абняславіць. *Ты ачэрніў яго і ўсё.* Ахрэмаўцы Брасл.

АЧЭ'САНЫ *дзеепрым.* Абчасаны. *Галаўке першыя, ачэсаныя на рэткую шчотку.* Малахоўцы Бар.

АШ *гл.* АЖ

АША'К *м.*, А'ШАКА *ж.*, А'ША'КІ' *мн.* 1. Тое ж, што і а к ó т 1. *Хлеп з гірсой, ашакá многа. Свіням нада ашакá аддаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ашакі ў жыці, як залезя пад язык, ня выцягняш.* Дакудава Лід. *Ашакі ўлезлі ў гардзель.* Старыя Смільгіні Воран. *У ячмені ашакі, ад яго атваліваюцца.* Кураполле Паст. 2. Высеўкі. *Буць ад якой мукі ў нас зовюць ашакі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ашакі і высеўкі — адно і тое ш.* Мярэцкія Глыб. *Ашакі ад мукі астаюцца.* Чычалі Швянч. *Муку сеюць і ашакі астаюцца ў рэшаці. Ашакі ад любой мукі: ат аўса ашакі. Ашакі астаюцца, а мука высііцца.* Валынцы В.-Дзв. *Ашакі ад аўсянай мукі, як прасееш.* Старыя Смільгіні Воран. *Высей муку, і áшака атходзіць. Áшака аста-*

*еццa.* Рагулішкі Даўг. 3. Луска. *А́шакі — луска ад збожа. А́шакі — шалуга ад аўса, ячменю. Луска з грэчкі—тожа а́шакі.* Старыя Трокі Трак. *Крупы таўкуць, а тады полюць, а́шакі астаюцца.* Валынцы В.-Дзв. *Еслі жыта прапала, з гірсы хоць а́шака, а з метлы толькі мякіна. Зерніта абдзіраюць — і гэта а́шакі.* Індра Красл. 4. Жамерыны. *Як цадзілі кісель, у рэшаце аставаліся а́шакі.* Рагулішкі Даўг. *Як кісель варылі, выціскалі а́шакі с аўса. Кіселёвыя а́шакі.* Кураполле Паст. *Аша́кі ат кісяля.* Лайпушкі Ігн. 5. Мякіна. *А́шака — з дабра фус.* Магуны Паст. *А́шакі астаюцца, як атцэдзіш кісель.* Навікі Лудз. 6. Тонкія костачкі ў рыб. *А́шакі ёсць у рыбы. А́шакі — як грэбень.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *ãšakos* 'тж' (ЛТ, 166).

АШАКА'ЛАЧКІ *мн.* Смалістыя аскепкі, смалякі. *Ашакалачкі сякуць на паттопу, ашакалачкамі нада патцэпліць печ.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *šakalỹs* 'тж' (ЛТ, 191).

АШАКАЛЁНКІ *мн.* Тое ж, што і а ш а к а́ л а ч к і. *Ашакалёнкі шчапаюць і лушчаць лучыну. Ашкалёнкі нешчапаныя — круглыя палены.* Кураполле Паст.

АШАКАЛКІ' *мн.* Тое ж, што і а ш а к а́ л а ч к і. *Ашакалкоў наняслі, нарэзалі і накідалі.* Кураполле Паст.

АШАЛАМІ'ЦЦА *зак. экспр.* Адурманіцца, затлуміцца, страціць раўнавагу. *Палола капусту, ды ажні ашаламіласа, як адагнуласа — бы павяло ў бок, галаву павяло ў бок, бы п'яная.* Дзяніскавічы Ганц.

АШАЛАМУ'ЦІЦЦА *зак.* Тое ж, што і а ш а л а м і́ ц ц а. *Я на сваім жыцці рас ашаламуцілася і заблудзілася, не знала, як выйсці з лесу.* Вецярэвічы Пух.

АШАЛЕ'ЦЬ *зак.* 1. Ашалець. *Ашалеў сабака.* Старыя Смільгіні Воран., Мярэцкія Глыб. 2. *экспр.* Звар'яцець. *Ён ашалеў, крычачы.* Талейкі Швянч.

АШАЛО'МЛЕНЫ *прым.* Дурнаваты. *Ён ашаломлены, як дурны, і яна, як ашаломлена.* Альхоўцы Лях.

АШАЛЯВА'ЦЬ *зак.* Ашаляваць. *Ён ашаляваў хату.* Ахрэмаўцы Брасл.

АШАНУ'ЦЦА, АШАХНУ'ЦЦА *зак. экспр.* Раз'юшыцца, разлютавацца. *Можыць і мужык ашануцца і паразганяць усіх, тут адзін ашануўся. Я як ашануся, мала табе не будзіць. Мой пятух ашануўся і добра яго* [другогa пятуха] *адлупіў,* Ахрэмаўцы Брасл. *Як ашахнуся — усіх разганю* 1. Кураполле Паст.

АШАЧО'К *м. памянш.* да а ш а́ к. *Гірса, як рош, толькі ашачок, і ўсё.* Скрудалена Даўг.

АШВА'ЛАК *м.* 1. Кладзь, бэлька ўздоўж страхі (у таку, гумне, хляве). Альхоўцы Лях. 2. Кавалак палена. *Вот доўга дзеравяка, адразаюць ашвалак, кап акраз было.* Кіралі Шчуч. *Прынёс кусок ашвалка дадому.* Міратычы Карэл.

АШВА'ЛІНА *ж. экспр.* Вялікі кавалак сала, мяса. *Адвалі-*

*ла ашваліну, хто яе з'есь.* Старыя Смільгіні Воран. *Алі ш ты ашваліну адваліла вельку. Ты ўзяла вельку ашваліну скваркі.* Альхоўка Навагр.

АШКАЛЁНАЧКІ *мн.* Тое ж, што і а ш а к а́ л а ч к і. *Даўней нада было лушчыць лучыну з ашкалёначкаў. Мама казала: нашчыпай мне ашкалёначкаў і налушчый лучынкі.* Кураполле Паст.

АШКАРЭ'ЛІНА *ж. асудж.* Неахайная жанчына. *Вот ашкарэліна, у яком яна пашла.* Вялікія Баяры Шчуч.

АШКІ'Р *выкл.* Вокліч, якім адганяюць авечак. *Ашкір у хлеў!* Ліпнікі Вільн.; *парайн.* літ. *aškir* 'тж'.

АШКУ'РКІ *мн.* Прыгаркі. *Ашкуркі трэба зняць з бульбы.* Старыя Смільгіні Воран.

АШЛА'П *м.* 1. Тое ж, што і а ч э́ п 1. *На іглiцы на акне клалі ашлапы.* Быстрыца Астр. *Ашлап па вокнах і над дзвярыма.* Малахоўцы Бар. *Ашлапы на вокна клалі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Над вокнамі ашлапы кладуць.* Беразіно Докш. *Ашлапамі ашлапілі вокна.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Апошні вянок зруба. *Ашлап — паследнё браўно на хаце, бэлькі кладуць, а па бэльках — ашлапы.* Міратычы Карэл. *Дзеравіны, што клалі паверх баляк, называюць ашлап.* Альхоўцы Лях.

АШЛА'ПІНА *ж.* Тое ж, што і а ч э́ п 1. *Ашлапінай ашлапілі дзверы, вокна.* Бакшты Іўеў.

АШЛА'ПІЦЬ *зак.* Тое ж, што і а ч а п і́ ц ь 2. *Ашлапілі дзверы, вокна.* Бакшты Іўеў. *Ашлапіць хату — палажыць вянок адзін паверх зруба.* Альхоўка Навагр. *Трэба ашлапіць бэлькі, як па бэльках кладуць ашлапы.* Міратычы Карэл. *Ашлапіць окна — палажыць ашлап па аконах, ашлап — адзін прагон праз увесь будынак.* Дзяніскавічы Ганц.

АШЛА'ПЛІВАЦЬ *незак.* Класці суцэльнае бервяно над праёмамі акон, дзвярэй у зрубе хаты. *Ашлапліваюць дзверы, вокны, і шулья ў гумне ашлапліваюць.* Бакшты Іўеў.

АШПУГАВА'ЦЬ *зак.* Загнаць скабу адной дошкі за праём другой. *Ашпугавалі дзверы — загналі шпугу, доска заходзіць за доску.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* польск. *szponga* 'скаба'.

АШУКА'НЫ *дзеепрым.* Уведзены ў зман. *Ён не ашуканы, яна ашуканая.* Мярэцкія Глыб.

АШУКА'ЦЦА *зак.* Памыліцца. *Ашукаўся ў краме, не тую прадаў.* Паляцкішкі Воран.

АШУКА'ЦЬ, ОШУКА'ТЫ *зак.* Увесці ў зман, не дадаць грошы. *Ён смяяўся п з некага, а як сам — маўчыць, што ашукалі такога разумнага.* Альхоўка Навагр. *Ашукалі чалавека.* Грыкені Вільн. *Чы ны ошукалы тыбэ з грошыма?* Сіманавічы Драг.

АШУ'РКІ *мн.* Капуста, у якой лісты не завязаліся ў качан. *У мяне капуста не ўрадзіла, а толькі ашуркі: ліст распасцер-*

*ся, а галоўкі нет.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* бел. дыял. *шурпа* 'птушка з натапыранымі пер'ямі '<літ. *šiùrpa* 'тж' (ЛТ, 192).

АШУ'РПНУЦЬ *зак.* Азябнуць. *Ат холаду цела ашурпла.* Быстрыца Астр. *Што ты ашурпла, як курыца? — Гэта ат зімнаты ашурпла.* Крэва Смарг.; *гл.* а ш у́ р п ц і.

АШУ'РПЦІ *зак.* Тое ж, што і а ш у́ р п н у ц ь. *Ашурпня гэты чалавек. Ён ашурп з зімна́.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* літ. *pašiur̃pti* 'тж' (ЛТ, 166).

АШУРПЯНЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і а ш у́ р п н у ц ь. *Ашурпянелі рукі.* Лісна В.-Дзв.

АШУ'ШАК *гл.* АСУ'ШАК

АШУ'ШКАВАЦЬ *незак.* Апранаць, ухутваць. *Не ашушкавай так шмат—ты дзяцей ашушкуеш цёпла.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* руск. дыял. *шушкун* 'каптан, шубка, душагрэйка' (Даль, IV, 550).

АШУ'ШКАЦЦА *зак.* Цёпла апрануцца. *Холат, ашушкайся, кап цёпла было.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ашушкалася і пашла з хаты.* Вецярэвічы Пух.

АШЧА'ДНЕНЬКО *прысл.* Ашчадна, патрошку. *Як не хватае чаго, то ашчадненько бярэш, усе адно бярэцца.* Дзяніскавічы Ганц.

АШЧА'ДНО, АШЧО'ДНА, ОШЧЭ'НДНО, ОШЧЯ'ДНО *прысл.* Ашчадна, беражліва. *Ашчадно бяры, а то не хваціць да новага.* Дзяніскавічы Ганц. *Зусім было даўней ашчодна.* Магуны Паст. *В іх всэ було ошчэндно, бо сымня була вэліка. Ошчядно брала, бо ны хватало.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* польск. *oszczędnie* 'тж'.

АШЧАПЕ'РЫЦЦА *зак.* Учапіцца, абхапіўшы рукамі. *Дачка ашчаперылася за шыю, не магла адарваць.* Кураполле Паст.

АШЧАПЕ'РЫЦЬ *зак.* Абхапіць, абняць. *Ашчапер рукамі сабачку.* Бакшты Іўеў. *Ён даў нырца, яна яго ашчаперыла і ўтапіліся абоя.* Вецярэвічы Пух.

АШЧАПІ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і а ш ч а п е́ р ы ц ц а. *Мы ашчапіліся лі маткі.* Сала免ое Віл. *Ашчэпіцца хлопчык у дзве рукі, просіцца.* Асавец Віл.

АШЧАРА'ЦЦА *незак. экспр.* Злавацца, лаяцца. *Чаго ты ашчараешся?* Мярэцкія Глыб.

АШЧО'ДНА *гл.* АШЧА'ДНО

АШЧЫ'НА *ж.* Тое ж, што і в а ш ч ы́ н а 1. *Пчолы быстра цягнуць ашчыну.* Міратычы Карэл.

АШЧЭ', АШЧЫ' *прысл.* Яшчэ. *Гэдак ашчэ абярнулася і паглядзела.* Пацаўшчына Дзятл. *Ашчы год до пенсіі.* Хатынічы Ганц.

АШЧЭ'ПАК *м.* Тое ж, што і а с к а л ё п а к. *Ашчэпак велькі ашчапіў.* Пацаўшчына Дзятл.

АШЫБІ'ЦЦА *зак.* Памыліцца. *Как ты не глядзі, как не*

*ўчысь, усё роўна ашыбішся.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *ошибиться* 'тж'.

АШЫБНУ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і ашыбіцца. *Ашыбнулася я, не так сказала. Бывае і ашыбнесся і не так скажаш.* Лісна В.-Дзв.

АШЫПУ'ЛІЦЬ *зак. экспр.* Моцна ўдарыць, выцяць. *Ашыпуль сабаку чым-небудзь!* Міратычы Карэл.; *параўн.* літ. *apšipuliúoti* 'набіць палкай' (ЛТ, 192).

АШЫ'Ш *выкл.* Акыш. *На курэй — ашыш вон!* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* літ. *aštìš* 'тж'.

АШЫ'ЯК *м.* Ашыек. *Кругом шыі адразаюць сала з мясам — ашыяк.* Беразіно Докш. *Ашыяк знімаецца, як разбіраюць парсюка.* Саланое Віл. *Ашыяк — сала з мясам каля шыі.* Рудня Астравітая Чэрв.

АШЭ'РХАЦЦА *зак.* Абшарпацца, абтрапацца. *Ашэрхалася адзежа, па аўтобусах зіму ездзючы.* Пацаўшчына Дзятл.

А-Я-Я *выкл.* А-я-я. *А-я-я, там дош даець — сіня-сіня.* Лісна В.-Дзв.

# Б

БА *часц.* Ану ж, -ка. Ужываецца пасля формы загаднага ладу дзеяслова. *Іван, подэй драбок сахару. Скажы ба, што ты чула? Кушай ба. Берыця ба друка.* Малыя Аўцюкі Калінк.

БА'БА I *ж.* 1. Жанчына. *Бурнос і бабы насілі.* Саланое Віл. *Бабаў многа ідуць з работы.* Ністанішкі Смарг. *Бабы сядзяць, прышоўшы.* Граўжышкі Ашм. 2. Жонка. *Іці працепліць печ, а то баба замерзніць.* Магуны Паст. *Баба, што будзем рабіць?* Паляцкішкі Воран. *У яго баба памёрла.* Саланое Віл. 3. Маці бацькі або маці. *Бабо, дзе ты?* Альхоўка Навагр. *Бабу, я не буду рваць кветкі.* Новікі Гродз. *Бабу, дай есці.* Навасёлкі Свісл. 4. *устар.* Бабка, павітуха. *Даўней баба прымала дзяцёнка.* Ракаўскія Швянч. *Баба, як вулей.* Номікі Бабіц.

БА'БА II *ж.* 1. Апорны слуп у студні з жураўлём. *Баба вілаватая дзяржыць асвер.* Саланое Віл. *У калодзісі баба, смык, жэртка, і кажуць журавель на ўсё разам.* Міратычы Карэл. *Коварацъ з бабаю і ключка — у калодзежы.* Пацаўшчына Дзятл. *Баба ў студні, на ёй свіршня — такое бервяно.* Галоўні Воран.; *гл.* ДАБМ, карта № 242. 2. Слуп у ветраку. *Баба ў ветраку — слуп такі.* Номікі Бабіц.

БА'БА III *ж. тэх.* Механічнае прыстасаванне для забівання паляў. *Бабамі сваі заганяюць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

БА'БА IV *ж.* Ціскі, шчамлёткі, прэс. *Жараны каноплі кладуць у торбу, баба такая, як прэс, і калясом жжымаюць бабу і ціснуць алей.* Вязынка Маладз.

БА'БА V *ж.* Прыстасаванне для перавозкі бярвенняў, лісіца. *Бабу на намаражні санкаў лажылі, заганялі ў дзюру шворан, баба круціцца, яна грубая, і перавозілі бярвёна.* Ракаўскія Швянч.

БА'БА VI *ж. кулін.* Бабка. *Бабу ў гаршку пякуць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

БАБАВЕ'НЁ, БАБАВЕ'НЯ, БОБОВІ'ЕНЕ *зб. н.* Сцяблы бобу. *Каровы добра ядуць бабавенё.* Міратычы Карэл. *Бабавенё — сцяблы і лісты бобу.* Старое Сяло Зэльв. *Бабавеня — салома ад бобу.* Вялікія Баяры Шчуч. *Авечкі і каровы ядуць бабавеня.* Кіралі Шчуч. *Бабавеня — бадылі бобу.* Старыя Смільгіні Воран. *Бабавеня — салома ад бобу.* Жылі Іўеў. *Бобовіене овэчкі ідят.* Курашэва Чыж.

БАБАВІ'НА *зб. ж.* Тое ж, што і б а б а в е н ё. *Бабавіну режуць на резь.* Якубова Рас.

БАБА'Й *м.* 1. Той, хто нарадзіўся каля печы, як маці паліла печ. *Бабай — пад печ галавой радзіўся.* Кураполле Паст. 2. Абібок, гультай. *Бабаём ходзіць.* Кураполле Паст.

БАБЁНКА *ж. зневаж.* Жанчына. *Нейкая бабёнка да сына была прыстаўшы, а яны запрасцілі яму жаніцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

БАБЁР, БОБЁР *м.* Бабёр. ∇ *Усе бабры — дабры, адна выдра ліхая.* Вецярэвічы Пух. *Хто заб'е бобра, то ны бачытымэ вік добра. Слёзы з бобра полылыся.* Сіманавічы Драг.

БАБЗДЫ'Р *м. груб.* Тое ж, што і б á б і ч 1. *Бабздыр да бабаў заляцаецца.* Пацаўшчына Дзятл.

БАБІЕ'ТІ *незак.* Траціць дзявочую прывабнасць, апускацца. *Манька вышла замуш і хутко пачала бабіеті.* Курашэва Чыж.; *параўн.* літ. *bobėti* 'тж'.

БАБІ'НА *ж. павел.* Жанчына. *У нас талковая бабіна.* Мсцібава Ваўк. *Адна бабіна робіць, а мужыкі ў бальніцы.* Чычалі Швянч.

БАБІ'НЕЦ, БАБІ'НЯЦ *м.* 1. Месца ў царкве, дзе ў час набажэнства стаяць жанчыны. Курашэва Чыж. *Прыедзе парадзіха з рабёнкам у цэркву і ў бабінцу стаіць, пакуль яе ні ўвядуць.* Стральцы Гродз. 2. *перан.* Сям'я, у якой пераважаюць жанчыны. *У Карпа колісь бабінец быў — пйать бабуов, а вуон сам.* Курашэва Чыж.

БАБІ'НКІ *мн. абрад.* Радзіны. *На бабінкі вязуць бабу, дзіця пакупаюць, падаркі аддаюць і гуляюць бабы. Яны гуляюць тыя бабінкі, а мы жном. Прышлі яны з бабінак.* Вецярэвічы Пух.

БАБІНСТВО' *н. устар.* Прыманне родаў з удзелам бабкі. ∇ *Бабінство — невялікае панство.* Вецярэвічы Пух.

БАБІ'НЯЦ *гл.* БАБІ'НЕЦ

БА'БІЦЬ *незак. устар.* Прымаць роды, перавязваць пупавіну. *Бапка бабіла дзіця.* Малахоўцы Бар., Мярэцкія Глыб.

БА´БІЧ *м. зневаж.* 1. Бабнік. *У нас быў такі бабіч, во любіў бабаў.* Стральцы Гродз. 2. Гермафрадыт. *Бабіч — ні то баба, ні то мужык.* Вострава Маст. 3. Той, хто робіць жаночую работу. *Бабіч любіць бапскую работу.* Міратычы Карэл. 4. Той, хто першы зайдзе ў хату, дзе нарадзілася дзіця. *Як хто абрадзіўся і хто прыдзя першы, то таго дражняць бабічо́м.* Вецярэвічы Пух.

БАБО´ВІНЫ *мн.* Тое ж, што і б а б а в е́ н ё. *Авечкі добра елі бабовіны.* Груздава Паст.

БАБО´ВІСКА *н.* Поле ці града, дзе рос боб. *На бабовіску ходзяць куры.* Жылі Іўеў. *Бабовіска — гэта там, дзе зжалі боп.* Кіралі Шчуч.

БАБО´ВІШЧА *н.* Тое ж, што і б а б о́ в і с к а. *Бабовішча, дзе боп рос.* Саланое Віл. *На етым бабовішчу і папасі сягання кароў.* Беразіно Докш. *На бабовішчы куры ходзяць.* Кураполле Паст.

БАБО´ВЫ *прым.* Прыгатаваны з бобу або мае адносіны да бобу. *Бабовая мука была, як боп малолі.* Мярэцкія Глыб. *Бабовую кашу елі з раўгеняй.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бабовыя камы варылі.* Валынцы В.-Дзв. ∇ *Пакідай хлеп на бабовы цвет, боп зацвіце — хлеп уцячэ.* Вецярэвічы Пух.

БАБО´К *м. бат.* Бабоўнік. *Бабок на тры лісткі, яго ад біркулёзу п'юць.* Бакшты Іўеў. *Бабок — такая трава расце ў нас.* Малахоўцы Бар. *Бабок расце на балоце.* Навасёлкі Свісл. *Бабок для коней давалі ад сухот.* Глівін Барыс.

БАБО´ЎНІК *м. бат.* 1. Капытнік. *У бабоўніка лісця шылаваценькія, беленькім цвіце і шышачка перш зялёная, патом чырвоненькая робіцца.* Саланое Віл. *Бабоўнік рос свінячы.* Курaполле Паст. *Бабоўнік расце па лугах, мокрых месцах, беленькія цвяткі.* Быстрыца Астр. *Свінні бабоўнік добра ядуць.* Лісна В.-Дзв. *Бабоўнікам свіней кармілі.* Беразіно Докш. *Бабоўнік свіням ірвуць.* Вялікі Лес Круп. 2. Тое ж, што і б а б а в е́ н ё. *Бабоўнік з бобу.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб., Рудня Чэрв. *Бабоўнік — салома з бобу.* Дзяніскавічы Ганц., Альхоўцы Лях. *Палушчыла боб, а бабоўнік занясла ў хату, бо дошч пашоў, пасушыла трохі, а потым — у хлеў.* Дварчаны Паст.

БАБО´ЎНІСКО *н.* Тое ж, што і б а б о́ в і с к а. *Бабоўніско, дзе рос боп.* Хатынічы Ганц.

БАБО´ЎЯ *н.* Тое ж, што і б а б о́ в і с к а. *Бабоўя — некалі там рос боп. На бабоўі пасадзіла капусту.* Рыбчына Віл.

БА´БОЧНІК *м.* Тое ж, што і б а́ б і ч 1. *Гэтакі бабочнік ён!* Хатынічы Ганц.

БАБРО´ЎКА *ж.* Шапка з аўчыны. *Мушчыны насілі шапкі-бабройкі баранковыя.* Стральцы Шальч.

БАБРЫ´ЦА *ж.* Самка бабра. *Адзін чалавек бабрыцу забіў.* Кузьмічы Люб.

БА'БСКІ *прым.* Жаночы. *Ён любіў бабскія работы рабіць.* Саланое Віл.

БА'БСТВО *зб. н. пагард.* Зборышча жанчын, баб'ё. *Самое бабство назбіралосе і ніц робіті нэ хочэ; в одвіеткі ў нас мушчыны нэ йдут, оно самое бабство сходіце.* Курашэва Чыж.

БАБУ'ЛЬ *гл.* БАБЫ'ЛЬ 1

БАБУ'ЛЬКА *ж. памянш.-ласк.* да б а́ б а I, 3. *Тут бабулька старэнька жыве.* Альхоўка Навагр.

БАБУ'ЛЯ *ж. памянш.-ласк.* да б а́ б а I, 3. *Ужо слабая мая бабуля.* Ністанішкі Смарг. *Мая бабуля хадзіла на прыгон.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бабуля толькі вышла.* Швэды Вільн.

БАБУ'НЬКА *ж.* Тое ж, што і б а б у́ л ь к а. *Дзевятнаццаць гадоў як бабунька памерла, гадоў дзевяноста мела.* Жылі Іўеў.; *параўн.* польск. *babunia* 'тж'.

БАБУ'РКА *ж.* Малая ўкладка снапоў на полі. *Снапы жыта ў бабуркі ставяць па дзесяць снапоў, дзесятым накрывалі.* Крэвені Даўг. *Бабурка ці стаянка, хто як, як снапы звяжуць. Па дзесяць снапоў.* Мельнікі Лудз.

БАБШЧЭ' *ж. павел.* Дужая вялізная жанчына. *Я креметаю, як была дзіевчынкою, а тэпэр такая бапшчэ.* Курашэва Чыж.; *параўн.* літ. *bõbšė* 'старая'.

БАБЫЛІ'ХА *ж. устар.* Бедная самотная жанчына. *Бабыль нічога ні маіць і бабыліха тожа.* Мярэцкія Глыб.

БАБЫ'ЛКА *ж.* Тое ж, што і б а б ы л і́ х а. *У той бабылкі ні каровы, ні свіней — нічога няма.* Рудня Астравітая Чэрв.

БАБЫ'ЛЬ, БАБУ'ЛЬ *м. устар.* 1. Беззямельны селянін. *Бабыль не меў зямлі, ніякай гаспадаркі, меў толькі хату.* Мярэцкія Глыб. *У бабыля хата стаяла і гарот маленькі, зямлі не было.* Лісна В.-Дзв. *У бабыля хацёна была без хазяйства.* Азяраны Раг. *Бабыль не меў або мала меў свае зямлі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бабуль нічога не меў.* Пасека Ст.-Дар. 2. Бедны чалавек. *Калі нічога няма, дык ён жыве, як бабыль.* Мачаск Бярэз. *У бабыля нічога не было.* Лісна В.-Дзв. 3. *іран.* Стары халасцяк. *Бабыль — мушчына, які доўга не жаніўся.* Тухавічы Лях. *Бабыль — стары дзяцюк, якому ні нада дзеўка.* Рыбчына Віл. *Бабыль — нежанаты мушчына.* Ракаўскія Швянч. 4. пры параўн. Бядняк. *Жыў, як бабыль, ляніўся рабіць.* Беразіно Докш. ∇ *Бабыль у хату, а звон за вароты* — пагалоска пайшла па вёсцы. Мішнэвічы Шум.

БАБЫ'СКО *ж. павел.* Тое ж, што і б а б ш ч э́. *Вона — здоровэнна бабыско.* Дзмітравічы Кам.

БАБЭ'Х *выкл.* Бух. *Вынесла вядро вады і бабэх пад ногі.* Быстрыца Астр.

БА'БЯ У'ШЫ *мн. бат.* Смаржкі. *Бабя ушы — карычневыя моршчаныя грыбы.* Мсцібава Ваўк.

БАВАЛЬНІ'ЦА, БУВАЛЬНІ'ЦА, БАВЭЛНІ'ЦА *ж.* Баваўняныя ніткі. *Бавальніцу снавалі па дваццаць пасам, а ку-*

*жаль — па шашнаццаць пасам.* Ахрэмаўцы Брасл. *Камлёт — матэрыял такі: бувальніца — аснова і патыкалі шэрсцю.* Індра Красл. *По бавэлніцы потыкана споднiца.* Смаляніца Пруж.; *гл.* б а в э́ л а.

БА́ВІЦЦА, БА́ВЫТЫСЯ *незак.* 1. Затрымлівацца, марудзіць. *Мы дужа бавіцца не будзем, бо ты хворы.* Паляцкішкі Воран. *Ідзі, толькі не баўся.— А я ня буду бавіцца.* Альхоўцы Лях. 2. Забаўляцца, гуляць. *Меншы бавіцца на дварэ, большы бавіцца с тваімі дзяцьмі.* Кемялішкі Астр. *Ён бавіцца добра, ні плачыць.* Ракаўскія Швянч. *Ты баўся каля хаты. Паляцкішкі* Воран. *Дзіця бавіцца.* Альхоўцы Лях. *Я з лялькай баўлюся, с катом пагавару.* Рагулішкі Даўг. *Далі капейкі, кап дзеці бавіліся. Сабака бавіўся с катом.* Ёдлавічы Брасл. *Дай цяцьку дытыны, хай бавыцьця.* Сіманавічы Драг. 3. Праводзіць час. *Я прыду да вас бавіцца.* Быстрыца Астр. *Красіва так бавіліся.* Старыя Трокі Трак.

БА́ВІЦЬ, БА́ВЫТЫ *незак.* 1. Апавядаць, расказваць. *Басні бавілі даўна.* Саланое Віл. 2. Няньчыць, забаўляць. *Унучка бавіць паехала.* Старыя Трокі Трак. *Бавіла, бавіла Валерыка на дворы.* Ракаўскія Швянч. *Буду дытыну бавыты.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *bawić* 'тж'.

БАВЭ́ЛА, БАВЭ́ЛКА, БАВЭ́ЛНА, БАВЭ́ЛЬНЯ *ж.* Тое ж, што і б а в а л ь н і́ ц а. *Куплялі асноўку-бавэлу і патыкалі кужалем, сваім ніткам.* Навікі Лудз. *Бавэлку куплялі і плаценку ткалі.* Саланое Віл. *Бавэлна — гэта крамныя ніткі, так даўней казалі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пасцілка рукадзельная па бавэлне.* Магуны Паст. *Па бавэльні тканыя.* Індра Красл.; *парайн.* польск. *bawełna* 'тж'<ням. *Baumwolle.*

БАВЭЛНІ́ЦА *гл.* БАВАЛЬНІ́ЦА

БАГАВІ́ННЯ *н.* Дрыгва, багна. *Багавіння — траская балота.* Вязынка Маладз.

БАГАВЫ́ *прым.* Ціхі, без ветру (пра дождж). *Багавы дожджык — грыбы будуць.* Рыбчына Віл.

БАГАМАЛЕ́ННЫ *прым.* Набожны. *Была тут баба багамаленная.* Мішневічы Шум. *Яна была сільна багамаленная.* Ахрэмаўцы Брасл.

БА́ГАН *гл.* БАГУ́Н

БА́ГАННІК *м.* Тое ж, што і б а г н і к. *Баганнікам балота зарошшы.* Лісна В.-Дзв.

БАГА́СТВА, БАГА́СТВО *н.* 1. Багацце, маёмасць. *Як стаю — усё багаства на мне.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Жывёла. *Пойду багаство зажэну.* Смаляніца Пруж.

БАГА́ТА, БАГА́ТО *прысл.* Многа, шмат. *У калхозі сеюць багата. Пасадзіла буракоў багата. У лузі багата купін. Багата баброў распладзілася. Паработала багата, алі здароўя добрая. Багата байтуноў, певень плахі, не іграў добра.* Азяраны Раг. *Летась было багата ігруш.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ён*

*багата есь.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Багато ягат у лесе.* Навасёлкі Свісл. *У нас багато ліпаў. Лаза парасце, кустоў багато. Гэто летась і пазалетась было багато ўсяго.* Дзяніскавічы Ганц.

БАГА'ТКІ *мн. бат.* Дзьмухавец, купалкі. *Даўней на багаткі загадвалі дзяўчаты.* Рыбчына Віл.

БАГА'ТНІК *м. рэліг.* Хрысціянскае свята, якое адзначаецца 8 верасня ст.ст. *Калісь багатнік святкавалі.* Старыя Смільгіні Воран.

БАГА'ТО *гл.* БАГА'ТА

БАГАТУ'ХА *ж.* Тое ж, што і б а г á т н і к. *На багатуху вялікі кірмаш быў.* Граўжышкі Ашм.

БАГА'ТШЫ, БАГА'ЧШЫ, БАГАЦЕ'ЙШЫ, БАГАЧЭ'ЙШЫ *прым. выш.* Багацейшы. *Калі бацькі маладое багатшые, то і больш радні завуць.* Семежава Кап. *Бывая, што жабрак багачшы за таго, хто яму дае.* Паляцкішкі Воран. *Ён быў багачшы.* Альхоўка Навагр. *Яна багачшая была.* Бакшты Іўеў. *Ён багацейшы быў за ўсіх.* Ністанішкі Смарг. *Тэй брат багачэйшы за ўсіх.* Хатынічы Ганц.

БАГА'ТЫ *прым.* Заможны. *Ён багаты чалавек.* Мярэцкія Глыб. *Багатую жонку ўзяў.* Рудня Астравітая Чэрв. ∇ *Ён багаты, як сабака кудлаты.* Ахрэмаўцы Брасл. *Даўней казалі: пакуль з багатага пух, то з беднага дух.* Мсцібава Ваўк.

БАГАТЫ'Р *м.* Багаты чалавек. *Ён быў багатыр, зямлі многа меў.* Чычалі Швянч. *Ён багатыр: хата новая, каровы, куры.* Асавец Віл. *Не табою быўшы багатырэ столь фанераю патшывалі.* Вецярэвічы Пух. *Багатыры былі, куплялі валокі зямлі.* Індра Красл.

БАГАТЫ'РКІ *мн.* Тое ж, што і б а г á т к і. *На багатыркі загадваюць на долю, шчасце, гора. Багатыркі распырнуліся.* Мярэцкія Глыб.

БАГАТЭ'РСКІ *прым.* Вельмі прыгожы, зроблены з каштоўнага матэрыялу. *У яе багатэрскі андарак.* Номікі Бабіц.

БАГАЦЕ'ЙШЫ *гл.* БАГА'ТШЫ

БАГАЦЕ'ЦЬ *незак.* Разжывацца, набываць маёмасць. *Ажаніўся я, стаў багацець.* Грыкені Вільн.

БАГА'ЦЦЯ *н.* Тое ж, што і б а г á с т в а 1. *Усё багацця згарэла.* Рудня Астравітая Чэрв.

БАГА'Ч *м.* Тое ж, што і б а г á т н і к. *Увосень будзя багач.* Альхоўцы Лях. *На багач фэст быў, нарот адусюль находзіў, музыкаў многа.* Дакудава Лід. ∇*Прыдзя багач — кідай рагач, бяры сявеньку і сей памаленьку.* Жылі Іўеў., Галубы Маст., Навасёлкі Свісл., Рудня Астравітая Чэрв. *Прышоў багач, кідай рагач, бяры сявеньку і сей памаленьку.* Малахоўцы Бар. *Багач — кідай рагач, бяры сявейку, сей памаленьку.* Баброўнікі Гарад.

БАГА'ЧШЫ *гл.* БАГА'ТШЫ

БАГІ'НКА *ж.* Сорт бульбы. *Бульба была багінка: даўнянкая, сінянкая.* Старыя Трокі Трак.

БА'ГНА, БА'ГНЯ *ж.*, БАГНО' *н.* 1. Дрыгва, балота. *Багна — дзе правальваешся ў балоце.* Вялікія Баяры Шчуч., Крупіца Мін. *Багна — балота такое часта бывая.* Альхоўка Навагр. *Багна, дзе хіляецца.* Граўжышкі Ашм. *Багна, ні праехаць ні прайсці.* Кураполле Паст. *Багна — балота ета ў нас, грась, вада. А то багна нісхадзімая там.* Новая Ніва Чэрв. *Находзяць карчэ ў багне.* Вострава Маст. *За Пыньськом такы́і булы багна, шо ны пройты ны проіхаты.* Сіманавічы Драг. *Багня там такая, усё калышыцца.* Галубы Маст. *Цалаё багно, як мокро дзе.* Міратычы Карэл. *На багніе́ трава нэ хочэ рості; покуоль нэ выкопалі ровуов, то было такое багно, што чоловіек муог згінуті.* Курашэва Чыж. 2. Зараслае хмызняком балота. *В ба́гнувэ лузэ́* [лазы] *нарубав. Пу багнах губ* [грыбоў] *набрала.* Радастаў Драг.

БАГНІ'К *м. бат.* Багун. *Буіны з багніком змешаны, то галава баліць. Багнік ваняя, галава баліць, як бярэш ягады.* Дзяніскавічы Ганц.

БАГНІ'СКО *н. павел.* Багнішча. *Там багніско — нэ пройті.* Курашэва Чыж.

БАГНІ'СТЫ *прым.* Забалочаны, гразкі. *Багністы берах каля возера, багністае балота далей.* Мярэцкія Глыб.

БАГНО' I *гл.* БА'ГНА

БАГНО' II *гл.* БАГУ'Н

БАГНОВА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і б а г н і с т ы. *Багноватэ месцэ.* Смаляніца Пруж.

БАГНОВЭ'Й *прым.* Багнавы. *Над усё дэрво найвэшиэ ліс багновэй.* Дзмітравічы Кам.

БАГНЫ' толькі *мн.* Балоты. *Багны там, дзе багон ростэ.* Смаляніца Пруж.

БАГНЮ'К *м.*, БАГНЮКІ' *мн. бат.* Махавік (грыб). *Ходів по бэткі, почті багнюкуов назбірав. Пуд багном ціелы кошык багнюкуов назбірала.* Курашэва Чыж.

БАГНЮЧО'К *м. памянш.* да б а г н ю́ к. Курашэва Чыж.

БАГНЮЧЫ'СКО, БАГНЮЧЫ'ЛО *н. павел.* да б а г н ю́ к. Курашэва Чыж.

БА'ГНЯ *гл.* БА'ГНА

БАГО'Н *гл.* БАГУ'Н

БАГО'Р *м.* Бусак. *І плыт баграмы патпіхаяць, прапіхаяць, лес атпраўлялі ў Рыгу. Як хто топіцца — яга з баграмы даставалі.* Кураполле Паст. *Дзе багор?* Беракоші Воран. *Багор надзяваўся на шост.* Рудня Астравітая Чэрв. *Багром цігалі бярвення з ракі.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* руск. *багор* 'тж'<ням. *Bagger* 'чарпак, драга'.

БАГО'ЎКА *ж. заал.* Божая кароўка. *Багоўка — жучок чырвоны, пагоду паказваець.* Беразіно Докш.

БАГУ′ЛЬНІК, БАГУ′ДНІК, БАГО′ЎНІК *м.* Тое ж, што і б а г н і к. *Багульнік у балоце расцець.* Саланое Віл. *Багульнік пахніць, аш галава ад яго баліць.* Кураполле Паст. *Багуднік расцець па купі ў амшарыня. Нанюхалася багудніку, аш галава баліць.* Рыбчына Віл. *Багоўнік расце ў балоце.* Вецярэвічы Пух.

БАГУ′Н, БАГО′Н, БА′ГАН *м.*, БАГНО′ *н.* Тое ж, што і б а г н і к. *Багун на балоце расце.* Галоўні Воран., Чычалі Швянч. *Вышлі на галіва, там расце багун.* Дакудава Лід. *Багун купчастымі цвітамі цвіце.* Вецярэвічы Пух. *Багун у балоце, цёпла станець, ён пахнець.* Вялікі Лес Круп. *Багун нада піць ад лёхкіх.* Бакшты Іўеў. *Нанюхалася багуну.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Багун ад задышкі параць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ад багуна галава баліць.* Альхоўцы Лях. *Ад багуну галава баліць, як нанюхаешся доўга.* Беразіно Докш. *Калі баліць спіна, дужа добра багуном націраць.* Палік Барыс. *Ад багуна ўчадзяш.* Быстрыца Астр. *Багон расце ў балоце.* Навасёлкі Свісл. *Багон цвіце белым.* Пасека Ст.-Дар. *Багон ростэ по купіне.* Смаляніца Пруж. *Імшарка была ў тым леся, баган цвіў.* Мярэцкія Глыб. *Ад багана галава баліць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Баган кокліш лечыць.* Валынцы В.-Дзв. *Цвяты багану ат сэрца.* Навікі Лудз. *Багно цвітэ белым цветом, по лесе ростэ.* Азарычы Пін.

БАГУ′ННЕ *зб. н.* Багун. *У тым дальнім балоце — багунне.* Ядліна Бярэз.

БАГЭ′НЦІЕ *н. памянш.* да б а г н ó І. Курашэва Чыж.

БАДА′Й *часц.* Каб. ▽*Бадай ты скарчанеў!* Мсцібава Ваўк. *А бадай це не знаць, я сягоння заспала! Бадай ці смага!* Груздава Паст. *Бадай вас халера пабрала, мае вы, кароўкі!* Альхоўка Навагр.

БАДА′К *м. бат.* Асот. *Нарву бадакоў* [свінням]. Старое Сяло Зэльв.

БАДА′НЕ *н. юрыд.* Допыт. *Сусіедуов на бадане бралі, а мэнэ ніе.* Курашэва Чыж.

БАДА′ННЯ *мн.* Разважанні, размовы. *Як пройдуць усе гэтыя баданні?* Жодзішкі Смарг.

БАДА′ЦЬ І *незак.* Басці. *Каровы і козы рагамі бадаюць.* Багушэвічы Бярэз.

БАДА′ЦЬ II, БАДА′ТІ *незак.* 1. Меркаваць, думаць. *Бадаюць на двое, а ні палучыцца ні аднаго.* Міратычы Карэл. 2. Даследаваць, аналізаваць, правяраць. *Дохтар бадае хворага.* Жодзішкі Смарг. *Бадалі яго і ў Гродня, рабілі аналізы.* Старыя Смільгіні Воран. *Дохтор бадав, але ніякоі хворобы нэ выкрыв.* Курашэва Чыж. 3. Расследаваць, дапытваць, выпытваць. *Выпіўшы будэ бадаті.* Азарычы Пін. *Поліцыя бадае, але ніхто нічого нэ віедае.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *badać* 'тж'.

БАДЗІ'ЛЬ *м.* Сухое сцябло. *Бадзіль стаіць ссохшы.* Груздава Паст.

БАДЗІ'НЯ *ж.* 1. Шкодная карова. *Бадзіня ты, шкодніца, звыкла хадзіць у шкоду.* Жодзішкі Смарг. 2. *зневаж.* Абібок, гультай. *Бадзіня — вялікая абражэння, хто ходзіць бес справы, бадзяіцца.* Магуны Паст.

БАДЗЮ'К *м.*, БАДЗЮКІ' *мн.* 1. *бат.* Ігліца на хваёвых дрэвах. *Бадзюк хваёвы, бадзюк яловы, яловыя бадзюкі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Засохлая галінка. *Бадзюк упаў з дрэва.* Альхоўка Навагр. 3. Калючая трава. *Бадзюкі ў бульбашніку.* Рыбчына Віл. 4. Асцюк. *Бадзюкі з вусоў, як малоцяць. Бадзюкі з аўсянай мукі высяваюць.* Азяраны Раг.; *параўн.* літ. *badžiũkas* 'шып'.

БАДЗЮ'КА I *ж.* Стрэмка. *Бадзюку загнаў у паляц.* Рудня Астравітая Чэрв.; *гл.* б а д з ю́ к.

БАДЗЮ'КА II *ж.* і *м.* Бадлівая карова, бадлівы бык. *Наша карова — бадзюка. Прадалі мы сваю бадзюку. Можа быць і бык бадзюка. Дзеці, схінайцеся, а то бадзюка ўбадзе.* Рыбчына Віл.

БАДЗЮЛЯ' *ж.* Тое ж, што і б а д з ю́ к 3. *Бадзюля расце ў гародзе, на полі.* Граўжышкі Ашм.

БАДЗЮОРЭ' *мн.* Сухая ігліца хваёвых дрэў. *В борові бадзюорэ грэбут, а послі прызбы з ёго роб'ят або в пэчах палят.* Курашэва Чыж.

БАДЗЮОРЭ'ЧКО *н. памянш.* да б а д з ю о р э́. Курашэва Чыж.

БАДЗЯ'ГА I *ж. бат.* Прэснаводная губка. *Бадзяга на дне рэчкі расце, як дзераза, такія стаўбунчыкі растуць.* Жылі Іўеў. *Бадзяга ў рэчцы расце.* Азяраны Раг. *Зельё бадзягі моцно ад радзікуліту.* Міратычы Карэл.

БАДЗЯ'ГА II *м.* і *ж. зневаж.* Валацуга. *Яе сын — бадзяга.* Валынцы В.-Дзв.

БАДЗЯ'ЎКА *м.* і *ж.* Тое ж, што і б а д з я́ г а II. *Ён бадзяўка, п'янчуга. Дрань, ня сын, бадзяўка. Ёсць такія бадзяўкі, кідаюць жонак, бадзяюцца.* Валынцы В.-Дзв.

БАДЗЯ'ЦЦА *незак.* 1. Валяцца, знаходзіцца не на месцы. *Можа ў каго бадзяіцца рыдзель.* Ахрэмаўцы Брасл. *Абажур у мяне бадзяіцца.* Магуны Паст. 2. Знаходзіцца без нагляду, не належыць нікому. *Вайной бадзяліся коні, ён злапаў каня.* Граўжышкі Ашм. 3. *асудж.* Хадзіць без работы, лындаць. *Бадзяецца каля ўголляў без работы.* Кураполле Паст. *Дзе ты бадзяўся?* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзе ты ўчора бадзялася?* Талейкі Швянч. 4. *асудж.* Мяняць работу, пераязджаць з месца на месца. *Ён бадзяецца па свету.* Груздава Паст., Старыя Трокі Трак. *Мой сын бадзяіцца, усюды пабываў, а цяпер да старой бабы пашоў і жывець. Калі перастаніць ужо бадзяцца па свету?* Валынцы В.-Дзв.

БАДЛІ'ВЫ *прым.* Бадлівы. *Бадлівая карова соў да мяне — і здзёрла скуру на жываце.* Груздава Паст.

БАДРЭ'Ц *м.* Бадзёры, шустры. *Ён бадрэц у мяне.* Рудня Астравітая Чэрв.

БАДУ'ЛЛЯ *ж.* Тое ж, што і б а д з ю́ к а II. *Яе карова — бадулля.* Мярэцкія Глыб.

БАДУ'ЛЬ *гл.* БАДЫ'ЛЬ

БАДУ'ЛЬКІ *мн. бат.* Ваўчкі. *Бадулькі раней, а цяпер чарада завуць.* Альхоўка Навагр.

БАДЫЛІЕ'НЕ *зб. н.* Бадылле, сцяблы. *В лубіні твэрдэ бадыліене.* Курашэва Чыж.

БАДЫ'ЛЛЕ, БАДЫ'ЛЛЁ, БАДЫ'ЛЬЁ, БАДЫ'ЛЯ *зб. н.* 1. Тое ж, што і б а д ы л і е́ н е. *Там адно бадыллё — крапіва, чарнобыльнік.* Мярэцкія Глыб. *Як пааб'ядае жук лісцё, адно бадыльё стаіць.* Старое Сяло Зэльв. *Пруткая бадыля ў чарота.* Малахоўцы Бар. 2. Цяўнік. *Я моркву пацерабіла, а бадыльё аддала карові.* Старое Сяло Зэльв. 3. Сцяблы тытуню. *Ны було тутюну, то бадылле курылы.* Сіманавічы Драг.

БАДЫЛЫ'НА *ж.* Сцябло расліны. *Скрышыв бадылыну, будэ на якый папырос.* Сіманавічы Драг.

БАДЫ'ЛЬ, БАДУ'ЛЬ *м.* 1. Тое ж, што і б а д ы л ы́ н а. Беняконі Воран. *Адзін бадыль астаўся* [у вазоне]. Магуны Паст. *Бадылі ад буракоў у бочку клалі, патом кроілі.* Старыя Трокі Трак. *Трава пасохла, стаяць адны бадыле.* Старое Сяло Зэльв. *Бадуль з маку, бадуле з маку.* Вялікія Баяры Шчуч. *Стонка пообйідала картохлі, самые бадылие поосталісе.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Вельмі высокі чалавек. *Во, які бадыль!* Магуны Паст.

БАДЫЛЬЁ *гл.* БАДЫ'ЛЛЕ

БАДЫ'ЛЯ *гл.* БАДЫ'ЛЛЕ

БАДЫ'Р *гл.* ВАДЫ'Р

БАДЫСТО'ВЫ *прым.* Батыставы. *Завяжы бадыстову хустку.* Номікі Бабіц.

БАЕ'Ц, БОЕ'Ц *м.* Воін, салдат. *Я відзела, як нашы байцэ ішлі.* Новікі Гродз. *Бойцэві напісала вона.* Смаляніца Пруж.

БАЗ *гл.* БЕЗ

БАЗА'Р *м.* Рынак, базар. *Тогды коньмі ездзілі на базар.* Смаляніца Пруж. *Гэты базар быў велькі.* Судэрва Вільн.

БАЗГАЛО'ЎЕ *н.* У выразе: *На базгалоўе* — на бяду, на згубу. *На базгалоўе пяе курыца.* Быстрыца Астр.

БА'ІЦЬ *незак.* Апавядаць, расказваць, гаварыць. *Яна яму баіць і баіць, а мяне затрасло.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *bãjinti* 'тж'<бавіць.

БАЙ *м. тэкст.* Байка. *Нажутка шылася з баю.* Магуны Паст. *Рубашка з баю тэпла і мяка.* Курашэва Чыж.; *параўн.* літ. *bãjus*<польск. *baja* 'тж'.

БАЙБА'К *м. экспр.* Бальшун. *Як велькі з малымі гуляя, то*

*яго байбаком называюць.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* літ. *bai-bõkas* 'падлетак, гарэзнік' <цюрк. *байбак* 'птушка'.

БАЙБА'С, БАЙБУ'С *м.* Тое ж, што і б а й б а́ к. *Ходзіць па вадзе байбас.* Ахрэмаўцы Брасл. *Такі байбас, а з дзецьмі займаецца.* Азяраны Раг.

БА'ЙБУСАВАЦЬ *незак. экспр.* Гультаяваць. *Што ты байбусуеш, рабіць трэба!* Азяраны Раг.

БАЙВО'Л *м. зневаж.* Абібок, гультай. *Байвол ён. Ходзяць гэтыя байволы па вуліцы.* Саланое Віл.

БАЙДА' *ж.* Няпраўда, мана, хлусня. *Гэта байда, я не магу зразумець.* Грыкені Вільн.; *параўн.* польск. *bajda* 'тж'.

БАЙДЗІ'ЦЬ *незак.* Страшыць, пужаць. *Байдзілі мяне, але я не спужаўся.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *baidýti* 'тж'.

БА'ЙКА *ж.* 1. Небыліца, выдумка. *Калісь баіла байкі, а цяпер ні ў памяці.* Груздава Паст. *Пабай байкі.* Старыя Смільгіні Воран. *Байка ест такая: патопа была і патапіла кароў, людзей.* Старыя Трокі Трак. *Чулі вы такую байку?* Дзяніскавічы Ганц. 2. Гаварыць няпраўду, зацямняць справу. *Вы мніе тут баёк нэ росказуйтэ, бо я сам добрэ знаю, як было.* Курашэва Чыж.

БАЙКЕ' *мн.* Прылада для размотвання маткоў. *Матке развівалі на байке, байке — такая катушка.* Вострава Маст.

БА'ЙКІ *прым.* 1. Добры. *Франка байкі чалавек. На яго німа чаго гаварыць, яшчэ байкі.* Граўжышкі Ашм. *Сорак кілаграмаў — байкі бычок.* Ракаўскія Швянч. *Байкі хата.* Навасёлкі Свісл. *Здаіся мушчына байкі, алі крывашыйка. Байкі хустка ў міне. Мае дзеці байкі.* Малькуны Ігн. *Гапка то байкі баба — і гожа, і працовіта. За такіе грошы то шчэ байкі коня купів.* Курашэва Чыж. 2. *прысл.* Добра. *Байкі, што сена сабралі. Алі байкі, што я не спала, бо калі п лягла, я п хворая была п.* Граўжышкі Ашм. *Як было там? — Байкі.* Ракаўскія Швянч. *Байкі, што ты прышоў. Ёй сядзець дрэнна, а мне байкі.* Малькуны Ігн. *Байкі сена падабралі.* Навасёлкі Свісл. *За корову шчэ байкі взяв, почті п'ять тысяч. На вэсіелі байкі было, оно за мнуого горыэлкі выпілі. Внук байкі учыце.* Курашэва Чыж. 3. *прысл.* Дармо. *Байкі, што цяшка, алі харашо глянуць. Былі разумныя людзі, байкі, што невучоныя. Многа саганоў цягаю, байкі, што стары я. Ён мяне гоня ў бульбу, алі байкі. Я вас перабіла? — Байкі. Байкі, я выдзяру. Байкі, рашчытаемся.* Граўжышкі Ашм. *Байкі, што яны крычаць, але зрабілі многа.* Крэва Смарг. *А мне ўжо байкі, не такая бяда.* Старыя Смільгіні Воран. *Байкі, што дошч ідэ — сіено ўжэ нэ мокне. Байкі, што побівсэ пувмісок, другого купімо.* Курашэва Чыж.

БА'ЙКОВЫ *прым.* Байкавы. *У байковым ходіцім у школу.* Смаляніца Пруж.

БА'ЙНЯ, БА'НЯ *ж.* Лазня. *Ужо і байня цепліцца, мыцца*

*пойдзім.* Нарушова В.-Дзв. *Нада ісці байню цепліць.* Кураполле Паст. *Яна вас павядзець у байню. Уночы ў байню хадзілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мы гарэлі, знinfo ўсю байню.* Магуны Паст. *Прышоў з байні, ужо памыўся, лёх на лаву і дрэнна стала.* Шамялі Брасл. *Былі зробілі баню.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* руск. *баня* 'тж'.

БАЙРА'К *м.* Непрыгодная для будаўніцтва хвоя. *На сосну кажут хвоя, сосна і байрак. Хвоя — то молодэнька, а байрак тылько на дрова.* Дзмітравічы Кам.<тур. *bairak* 'тж'.

БАЙРА'М *м.* Непарадак. *У хаце байрам, усё расстаўлена, не прайсці.* Груздава Паст.<тур. *bairam* 'тж'.

БАЙСТРУ'К, БАСТРУ'К *м.* 1. *пагард.* Пазашлюбнае дзіця. *Наўперат здзелалі байструка.* Дакудава Лід. *Байструк — дзіця, што ў дзеўках родзіць.* Азяраны Раг. *У дзеўках зрабіла байструка.* Дзяніскавічы Ганц. *Дзеўка з байструкамі.* Паляцкішкі Воран. *Прывэсті можэ баструка.* Курашэва Чыж. ∇*Байструк — з божых рук.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* польск. *bastard* 'тж'. 2. пры параўн. Гультай. *Хто ня робіць, на таго кажуць: ходзіць, як байструк.* Лісна В.-Дзв. 3. *перан. мн. байструкі.* Кураняты, што вывеліся ўпотай. *Курыца вывела байструкоў.* Саланое Віл. *Курыца навяла байструкоў, і нада гадаваць.* Кураполле Паст.

БАЙСТРУ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і б а й с т р у́ к 1, але ў адносінах да дзіцяці жаночага полу. *У яе байстручка расце.* Рыбчына Віл. *Іі старша дівчынка — байстручка, без мужыка вона іі прывыла.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол.

БАЙСЮ'К *гл.* БАНСЮ'К

БАЙСЯЛІ'ЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнасць, несці лухту. *Не байсялі, калі выпіў, байсяліш абы-што. Я ні панімаю, што ты байсяліш.* Міратычы Карэл.; *параўн.* літ. *báisioti, baĩsinti* 'палохаць'.

БАЙЧЭ'Й *прысл.* Больш за каго-н. *Ён байчэй піў.* Галубы Маст.

БАК *м.* Металічная пасудзіна ў форме цыліндра. *Як колісь гналі самогонку, то в бак влівалі рошчыну і пудгрывалі, далей быв холодільнік.* Курашэва. Чыж.

БАКАВІ'НА *ж.* Бок. *Бакавіна баліць.* Рудня Астравітая Чэрв., Азяраны Раг.

БАКАВІ'ЦА *ж.* Бок свіной тушы. *Як разбіраем кабана, то бакавіца, дзе скабы.* Парэчча Гродз.

БАКАВІ'ЦЫ *мн.* 1. Бакавіна ў драўляным ложку. *У лошку е бакавіцы.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Бакавіна лодкі. *Бакавіцы ў чайцы.* Вецярэвічы Пух.

БАКА'С, БЕ'КАС, БЭ'КАС *м.* Бакас. *Бакас, як баранчык, крычыць.* Старыя Смільгіні Воран. *Бакас крычыць на балотах.* Мсцібава Ваўк. *Ест такая птушка ў нас — бакас, па-свойму крычыць.* Малахоўцы Бар. *Бакас — птушка такая.* Грыкені

Вільн. *Бакас у нас водзіцца.* Беразіно Докш. *Бекас — як лятая, а як крычыць — баран.* Палік Барыс. *Я быў злавіўшы рас бэкаса, у яго дзюп доўгі, ногі высокія, гняздо вяліка.* Паляцкішкі Воран.

БАКА'ЦІНА *ж.* Бок. *Бакаціна баліць.* Мярэцкія Глыб. *Нешта ў бакаціну кальнула.* Альхоўка Навагр. *Каб ня ўлезла іголка ў бакаціну.* Рыбчына Віл. *Як дам кулаком па бакаціне!* Асавец Віл.

БАКЕ'Ш *м.* Від мужчынскага пінжака. *Бакешы насілі за Польшчы, было модне, распора аж да плячэй. Як ні ў бакешы, то і не хлапец лічыўся.* Грыкені Вільн.

БАКЛА'ГА *ж.* Драўляная пасудзіна, бачурка. *Барыла доўгая, а баклага круглая, бы кацёл. Бралі баклагі з вадой калісь, як ішлі касіць.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *параўн.* руск. *баклáга* 'біклага'<тат. *baklak* 'тж'.

БАКЛА'ШКА, БАТЛА'ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і б а к л á г а. *Баклашку з дзерава рабілі, літраў шэсць—дзесяць, повадам зачэплююць і на сенакос ідуць з баклашкай.* Вецярэвічы Пух. 2. Металічная біклага. *Баклашку салдат аставіў.* Быстрыца Астр. *Салдацкая баклашка ў нас з вайны.* Дзяніскавічы Ганц. *У нас была батлашка, пашукаю.* Малахоўцы Бар.

БАКО'ЎКА *ж.*, БАКО'ЎКІ *мн.* 1. Бакавы пакой у хаце. Ахрэмаўцы Брасл. 2. Кладоўка. *Сені і бакоўка ў сенях.* Жылі Іўеў. 3. Бакавыя дошкі, якія служаць замест драбін у возе. *Бакоўкі з досак збіты.* Грыкені Вільн. *На кары бакоўкі кладуць.* Судэрва Вільн.

БА'КСА *ж.* Чамадан. *Прыехаў здалёку і повну баксу прывёз усёго.* Азарычы Пін.; *параўн.* літ. *bàksas* 'тж' <англ. *box.*

БАЛ *м.* Баль, вечарынка з частаваннем. *Лявоніху пры балу танцуюць.* Грыкені Вільн.

БА'ЛА, БА'ЛО *пабоч.* Бывала, калісьці. *І хлеп парцізанам пякла, бала.* Галубы Маст. *Бало, мы на чужом полі робілі.* Смаляніца Пруж. *Бало, не так было, як цяпер: бандэ ў семені пакачаюць і ядуць цэлы дзень.* Старое Сяло Зэльв. *Бало, в гэту пору вжэ почыналы жяты. Бало булы холодны зымы.* Сіманавічы Драг.

БАЛАБА'ЙКА, БАЛАБЕ'ЙКА, БАРАБА'ЙКА *ж.* Званок, балабон. *Балабайка на шыі ў каровы.* Валынцы В.-Дзв. *Балабайку з бляшанкі рабілі.* Рудня Астравітая Чэрв. *І званок, і балабайка была. Званок звінеў нацай, а балабайка таўшчэзным голасам.* Дзяніскавічы Ганц. *Балабейка жалезная, з дрэва не рабілі.* Мярэцкія Глыб. *Балабейка бразгая.* Рыбчына Віл. *Банку блішаную праб'ець, і барабайка гатова: карові прычэпіць, каторая не пільнуецца стады.* Валынцы В.-Дзв.

БАЛАБА'НІ'ЦЬ *незак.* 1. Звінець. *Конь ходзіць з балабашкай і балабáніць.* Лісна В.-Дзв. 2. *перан.* Балбатаць. *Ляжы, ні балабані.* Навасёлкі Свісл.

БАЛАБА'ШКА I *ж.* Тое ж, што і б а л а б á й к а. *Каню, карове нада балабашку прычапіць.* Лісна В.-Дзв.

БАЛАБА'ШКА II *ж.* Печыва з мукі, перапечка. *Балабашкі з любой мукі пяклі, замесіць і гаворыць: дзяцём балабашку спякла.* Быстрыца Астр.

БАЛАБЕ'ЙКА *гл.* БАЛАБА'ЙКА

БАЛАБО'Н *м.* Тое ж, што і б а л а б á й к а. *Балабон на шыю карове павесіў.* Глівін Барыс., Мачаск Бярэз.

БАЛАБО'НІЦЬ *незак.* Тое ж, што і б а л а б á н і ц ь 2. *Чаго ты балабоніш, што ты муціш дарэмно.* Альхоўцы Лях.

БАЛАБО'ННІК *м. бат.* Буячнік. *Ад буячніку галава баліць.* Рыбчына Віл.

БАЛАБО'НЫ *мн.* Тое ж, што і б у г а í. *У нас балабоны не бралі, іх ня елі.* Рыбчына Віл.; *параўн.* польск. дыял. *bałabon* 'бульба' (СВ, I, 89).

БАЛАБО'СІЦЬ *незак. экспр.* Тое ж, што і б а л а б á н і ц ь 2. *Старыя мушчыны сядзяць, а ён балабосіў.* Груздава Паст.

БАЛАБУ'ХА, БАЛАБУ'КА *ж.* 1. Перапечка з хлебнага цеста. *Балабуха — пышка з кіслага цеста, тое ж, што бонда і паламянка.* Масілавічы Сл. 2. Салодкі пірог. *Пут с'ято балабухі напэкла. Балабука — салоткі піруох.* Курашэва Чыж.

БАЛАГО'Л *м.* Возчык. *Балагол прыехаў.* Жылі Іўеў.

БАЛАЗЕ', БАЛАЗЕ'Й *прысл.* Добра, лепей, лягчэй. *Балазе ты ведаеш.* Пукава Кап. *Балазе ў Шуры ягат многа. Балазе, табе браты памагаюць.* Вецярэвічы Пух. *Балазей табе, у цябе радня.* Бакшты Іўеў. *Балазей табе, у цябе помач, матка ё, ты кінула і пашла, куды трэба.* Рудня Астравітая Чэрв.

БАЛАМУ'ТА *м.* і *ж.* Падманшчык, пляткар. *Гэта баламута набаламутыть тобі, ты оно слухай, всэ ныправда. Той баламута збаламутыв її, забрав с собою і повіз дэсь у світ.* Сіманавічы Драг.

БАЛАМУ'ЦІЦЬ, БАЛАМУ'ТЫТЫ *незак. неадабр.* 1. Гаварыць недарэчнае, несці лухту. Дзяніскавічы Ганц. *Нішчо баламутыв ввэсь вэчор, няку дурныцю.* Сіманавічы Драг. 2. Спакушаць. *Ны баламуть, як ны думаеш браты.* Сіманавічы Драг.

БАЛАНДА', БАЛУНДА' *ж.* 1. Малакаларыйная, рэдкая страва. *У Германіі нашых кармілі баландой.* Лісна В.-Дзв. *Зварыў баланду: там і капуста, і буракі. Баланды наварыла.* Старыя Смільгіні Воран. *Баланды наварыла ўсякай.* Крэва Смарг. *Баланда — аўсяная мука, хлеп, цыбуля, соль — усё там і нічога, смашна.* Старыя Трокі Трак. *Наваруць якой баланды.* Скрудалена Даўг. *Нахлюбалася гэтай балунды. Усякай балунды налажыла.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *balánda,* дыял. *balùnda, balundà* 'лебяда' (ЛТ, 166). 2. *перан.*

Хто многа гаворыць, балбатун. *Баланда ты, баландзіш, як у цябе цярплівасці хватая?* Бакшты Іўеў. *Баланда, ны баланды!* Відзібар Стол.

БАЛАНДЗІ'ЦЬ, БАЛАНДЫ'ТЫ, БАЛАНДУ'ЗІЦЬ *незак. экспр.* Тое ж, што і б а л а б а́ н і ц ь 2. *Ай, баландзіць абы-што.* Саланое Віл. *Баландзіў абы-што.* Бакшты Іўеў. *Ой, шо вона баландыть.* Відзібар Стол. *Што ён баландузіць?* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* літ. *balandúoti* 'тж' (ЛТ, 166).

БА'ЛАС *м.* Слабы голас, чутны здалёк. *Някый балас з лісу чуты.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* літ. *balsas* 'голас'.

БА'ЛАСА *ж.* Баляса. *У мосце высака баласы.* Беразіно Докш.

БАЛАТАВІ'НА, БАЛАЦЯВІ'НА *ж.* Балота, лагчына. *Балатавіна была, паходзіш па ржаўчыны, чыста ўсё паколіш.* Індра Красл. *Балацявіна — кругловіна такая, ніская места, асака расце, трасіна.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

БАЛАТАВЫ' *прым.* Балотны. *Балатавоя сена, балатавая трава, ёлка.* Рыбчына Віл.

БАЛАТЦО', БАЛО'ТЦА *н. памянш.* да б а л о́ т а 1. *Вышлі на галіва: кругом зараслі, а пасрадзіня балатцо.* Дакудава Лід. *Балотца міз луга ў нас.* Гайна Лаг.

БАЛАЎНЫ' *прым.* Распусны. *Дзеўка балаўная была.* Саланое Віл.

БАЛАХА'Н *м.* Армяк. *Балахан сіваваты шылі с сукна, як дошч — балахан на плечы і пашоў.* Кіралі Шчуч.

БАЛАХВА' *м.* і *ж. экспр.* Хвалько, балбатун. *Не п'яніца, а балахва нейкі, набаландзіў ды пашоў.* Вецярэвічы Пух.

БАЛАХО'Н *м.* Шырокае, нязграбна пашытае адзенне. *Вот сукенка — чысты балахон пашыла.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *bałachan* 'халат' (СВ, I, 89).

БАЛАЦІ'НА' *ж.* 1. Лагчына. *Балаціна́ і лахчына — адно.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Невялікае балота. *Там ля лесу балаціна́ ест.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Забалочанае месца на вялікай прасторы. *Балаціна першая была.* Магуны Паст. *Пат Пінск балаціна́ цягнецца.* Малахоўцы Бар. 4. Гразкае балота. *Дзе балаціна́ — не пройдзеш.* Малахоўцы Бар. *Балаціна́, пераехаць няможна.* Жылі Іўеў. *Тут балаціна́ была, каровы гразлі.* Задомля Смал. 5. Гразь. *Балаціна́ такая: друза, што каша.* Скрудалена Даўг. *Балаціна́ стаіць.* Магуны Паст.

БАЛАЦІ'СТЫ *прым.* Балоцісты. *Каля возера балацістае месца.* Беразіно Докш.

БАЛАЦЮ'ГА *ж. павел.* Гразкае балота. *Там балацюга, паралілася вада туды, шчукі там пазадыхаліся, продуху не было.* Быстрыца Астр.

БАЛАЦЯВІ'НА *гл.* БАЛАТАВІ'НА

БАЛАЦЯВІ'НКА *ж. памянш.* Невялікае балота. *Там балацявінка, саснячок кучаравы расцець.* Мярэцкія Глыб.

БАЛАЦЯ'НЫ' *прым.* Балотны. *Балацяны касач расце ў балоці. Балацяны драсён горкі. Балацяная сена. Карова ня хоча есці травы балацянай.* Вецярэвічы Пух. *Балацяная сена-жаць.* Бакшты Іўеў. *Імшаноя балота, там балацяны мох. Балацяная трава расце.* Рудня Астравітая Чэрв.

БАЛАЦЯ'НЬКА *ж.*, БАЛАЦЯ'НЬКІ *мн.* Мурашка рудая. *Балацянькі кусаюцца, як укусіць, то дужа пячэ балацянька.* Новікі Гродз.

БАЛБАТА'ЦЬ *незак.* 1. Бурліць, бурболіць. *Кіпіць, аж балбоча вада ў гаршку.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Балбатаць. *Цецерукі балбочуць.* Саланое Віл.; *параўн.* літ. *balbatúoti* 'тж'.

БАЛБАТУ'Н *м. зневаж.* Той, хто залішне многа гаворыць. *Балбатун ты!* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *balbatūnas* 'тж'.

БАЛБУ'ШКІ *мн.* Бурбалкі. *Балбушкі на вадзе — будзе працяглы дошч.* Тухавічы Лях.

БАЛВА'Н *м.* 1. Нязграбны, тоўсты, нізкі слуп. *Наставлялы гэтых балваныв, чыж гэто стовпы!* Сіманавічы Драг. 2. Дрэнна выкананы помнік. *Чы гэто памытнік, гэто балван някый, ёго трэба коб пырыробылы.* Сіманавічы Драг. 3. *зневаж.* Помнік асобе, якую не паважаюць. *Я чытав в газэты, шо дэсь в Афрыцы памытніка някому англійському генералові колысь поставылы, завоёватілёвы колышному, то повалылы, от бач, стояв той балван, стояв, дай звалылы.* Сіманавічы Драг. 4. Манекен. *Колысь, як Овсяных шыв мыні косьцюма, да я зайшов забыраты, а вын шэ ны одпрасовав, да вын зложыв на мынэ того косьцюма, да прасуе в одным місьці, дай кажэ: ты просты, кажэ, шо я тыбэ за балвана спользую. Хотів кепку пошыты, да балвана ныма.* Сіманавічы Драг. 5. *перан. зневаж.* пры параўн. Статуя. *Ты дывы, гэто няка баба стояла, стоіть і ны поворухнэцьця, табы балван якый, а мыні поночы, ны выдно. Чого ты стоіш, як балван, як стовп, іды дэшо робы.* Сіманавічы Драг. 6. *перан. абразл.* Дурань. *Балван ты, што ты нарабіў!* Мярэцкія Глыб. *Гэтой балван ны хочэ гучытысь.* Сіманавічы Драг. (Фасм., I, 186—187).

БАЛДА' *м* і *ж. абразл.* Някемлівы, бесталковы чалавек. *Ах ты балда гэткая!* Дварчаны Паст., Быстрыца Астр.; *параўн.* руск. *балда* 'цяжкі молат; бесталковы чалавек' <цюрк. *balta* 'сякера'.

БАЛДАВЕ'ШКА *ж. рыб.* Доўгі шост, якім заганяюць рыбу ў сетку. *Балдавешкай заганяюць рыбу.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* літ. *baldas* 'тж'.

БАЛДУ'ШАЧКА *ж. памянш.* Камячок цеста. *Балдушачку кідаем* [у дзяжы], *называем яе закваскай.* Хатынічы Ганц.

БАЛЕ' *мн.* Болі. *Уначэ бале ўзялі, стаў балець бок.* Вострава Маст.

БАЛЕ'ЙКА *ж. памянш.* Балея. *Цэлу балейку налапае*

*рыбы*. Вострава Маст. *Каліcь нальe балейку вадэ і вымаецца*. Новікі Гродз.

БАЛЕ́НТЫ толькі *мн.* У выразах: *Устроіць баленты, будуць баленты, зрабіць баленты* — даць наганяй. *Табе бацька баленты ўстроя, калі пойдзеш у лес. Яму будуць баленты. Я зраблю баленты*. Кіралі Шчуч.

БАЛЕ́СЬ, БАЛЕ́СЦЬ *ж.* Хвароба. *Падучая балесь забіваіць яго*. Лісна В.-Дзв. *Падучая балесь патпала*. Саланое Віл. *Заходліва балесь якаясь*. Старыя Трокі Трак. *Даўней людзі хварэлі на падучую балесць*. Дзяніскавічы Ганц.

БАЛЕ́ЦЬ *незак.* 1. Хварэць. *Ён даўно балеіць*. Кемялішкі Астр. *Ад спугу балея*. Альхоўцы Лях. *Божэ, божэ, як болею!* Хатынічы Ганц. *Яны ціфам балелі там*. Пасіене Лудз.; *параўн.* руск. *болеть* 'тж'. 2. Адчуваць боль. *Нешта галава баліць*. Магуны Паст. *Дзе баліць, там б'еццa*. Ахрэмаўцы Брасл. ◇ *Галава не баліць; гл.* г а л а в а́.

БАЛЕ́Я, БАЛІ́Я *ж.* Нізкая пасудзіна для мыцця бялізны. *У балеі мылі*. Судэрва Вільн. *Пойду по балею, я мыцім плаце*. Смаляніца Пруж. *Мыла в баліі чы в ночовках*. Сіманавічы Драг.

БАЛЁК *м.* Бэлька ў драўляным будынку. *В колісьніх хатах высокі чоловіек мусів угінатісе пуд бальком. В клуні в стороніе пуд балёк зміестіце жыто, а за балёк зробівшы вышкі, можно будэ пуложыті овэс. Двіе хвойі з бору прывйуос, будут на балькі до новойі клуні*. Курашэва Чыж.

БАЛЁНА *ж.* Бурбалка. *Балёна на вадзе, бурбалка на балоце*. Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *balon* 'пасудзіна для вадкасці, газаў'.

БАЛІ́Я *гл.* БАЛЕ́Я

БАЛМАТА́ЦЬ *незак.* Тое ж, што і б а л б а т а́ ц ь 2. *Цецярук, што пятух, грэбень красны, балмоча ўсё*. Пацаўшчына Дзятл.

БАЛНА́ *ж.* Жывёла з белай поўсцю. *Бална — гэта белая карова, так празываюць, калі белая поўсць у каровы*. Грыкені Вільн.; *параўн.* літ. *balnà* 'белая'.

БА́ЛО *гл.* БА́ЛА

БАЛО́НАЧКА *ж.*, БАЛО́НАЧКІ *мн. памянш.* Клятчасты ўзор на тканіне. *Балоначка ўведзена ў цвяты*. Ракаўскія Швянч. *Бавэлну куплялі і плаценачку ў балоначкі ткалі*. Саланое Віл. *Балоначкі — гэта кратачкі*. Быстрыца Астр.

БАЛО́НКА *ж.* Тое ж, што і а б а л о́ н к а 2. *Адна балонка пабілася*. Вецярэвічы Пух.

БАЛО́ТА, БАЛО́ТО, БОЛО́ТО *н.* 1. Гразкае, багністае месца. *Там балоты, непрахадзімы лес*. Груздава Паст. *Балота — дзе грась, вада стаіць, балотная трава расцець. Цяпер асушылі балота*. Рыбчына Віл. *Балата былі, цяпер асушылі*. Паляцкішкі Воран. 2. Балоцістая сенажаць і наогул сена-

жаць. *Балота — дзе косім.* Магуны Паст. *Балота—дзе сенакосы бываюць граскія.* Ахрэмаўцы Брасл., Альхоўцы Лях. *На сенакос кажуць балота: адалёнае место, мокрае, граскае, бывае і дрыгва на балоце — ступіш, а яно угінаецца, кусты растуць, бывае косіцца, а бывае і не косіцца.* Дзяніскавічы Ганц. *Балота не мерзня, трэба сабою сена выцягаць з балота.* Вецярэвічы Пух. *У нас, дзе сенакос, называюць болото.* Малахоўцы Бар. *Балота, што сена косяць.* Тухавічы Лях. *Сено сушылі на балацёх.* Каўняны Гродз. 3. Гразь на вуліцы, дарозе. *На вуліцы балота.* Магуны Паст. *Граска, балота, няможна перайсці.* Ракаўскія Швянч. *Але ш дошч як даў, на дварэ балота, німа як выйсці.* Кіралі Шчуч. *Мазь, вода з зэмлёю; на дарозі мнуого болота.* Курашэва Чыж. 4. Камяк зямлі, гразі. *Хлопяц апкідаў балотам дзевак.* Старыя Смільгіні Воран. *Натта тваe ногі ў балоця.* Крэва Смарг. *Мае рукі ў балоці, трэба вымыць. Балота носіця нагамі па ўсёй салі. Ластаўка набрала ў дзюбок балота і панясла.* Кіралі Шчуч.

БАЛО′ТЛІВЫ *прым.* Балотны. *Балотлівая сена.* Жодзішкі Смарг., Вязынка Маладз. *Балотлівая трава.* Данілавічы Дзярж.

БАЛО′ТНІ *прым.* Тое ж, што і б а л о́ т л і в ы. *Мох белы — балотні, рыжы мох — лясны. Балотня дарога.* Альхоўцы Лях. *Балотня вада нясмашна.* Малахоўцы Бар. *Асака — балотня трава.* Дзяніскавічы Ганц. *Балотня жаба зялёна і карычневенька.* Навасёлкі Свісл. *Балотняя і маругавая трава.* Відаўцішкі Вільн. *Балотняя дарога.* Сапоцкіна Гродз.

БАЛО′ТЦА *гл.* БАЛАТЦО′.

БАЛО′ХКАЦЦА *незак.* Плюхацца, боўтацца ў вадзе. *Ен упаў у яму і балохкаўся да раніцы.* Альхоўцы Лях.

БАЛО′ХКАЦЬ *незак.* Плюхаць, боўтаць. *Конь балохкая вадою, пакуль выйдзе на грунт.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. дыял. *bełchtać* 'боўтаць, мяшаць, муціць, калаціць' (СВ, I, 113—114).

БАЛО′ЦІНА *ж.* Балота. *Вуціныя яйкі балоцінай пахлі.* Ахрэмаўцы Брасл.

БАЛТА′К, БО′ЛТАК *м. рыб.* Доўгі шост, якім заганяюць рыбу ў сетку. Старыя Трокі Трак. *Ест балтаке́; балтак заганяць рыбу.* Чычалі Швянч. *Болтак — чым рыбу загоняюць у сетку.* Хатынічы Ганц.

БАЛТАКРЭ′ЎСЫ *мн. этн.* Беларусы. *Мы балтакрэ́ўсы, ці беларусы.* Істра Лудз.; *параўн.* лат. *baltkrievi* 'тж'.

БАЛТАЎНІ′К *м.* Тое ж, што і б а л б а т у́ н. *Слухай ты гэтага балтаўніка!* Ухвала Круп.

БАЛТА′ЦЬ *незак. экспр.* Тое ж, што і б а л а б а́ н і ц ь 2. *Языком балтаіць, ня к толку гаворыць.* Лісна В.-Дзв. *Балтая абы-што.* Мсцібава Ваўк.

БАЛТА′Ч *м. рыб.* Тое ж, што і б а л т а́ к. *На тычыну якую*

*бляшку надзенуць, яна брынчыць і палохаюць рыбу.* Дакудава Лід.

БАЛТА'Ш, БАЛТО'Ш *м.* Спадніца ў палоску, тканая воўнай па льняной ці баваўнянай аснове. *Балташ — гэта тканая спадніца ў палоскі і чатыры нічальніцы. Балтош ткалі па лёну ў чатыры полкі, а андарак — па воўні. Балтош у размаітыя калёсы палоскамі ткалі, балташэ былі доўгіе і шырокіе.* Баброўнікі Гарад.

БАЛТА'ШЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і б а л а б а́ н і ц ь 2. *Балташыць ён — не разбярэш што.* Рудня Астравітая Чэрв.

БАЛТУ'Н, БАЎТУ'Н *м.* 1. Неаплодненае яйцо, баўтун. *Балтун — яйко без зародка, баўтаецца.* Ліпнікі Вільн. *Балтун — незайгранае яйко.* Каўняны Гродз. *Яйко — балтун.* Быстрыца Астр. *Баўтун — незайгранае яйцо.* 2. Наседжанае неаплодненае яйцо. *Балтун, ужо неможна есці яго.* Чычалі Швянч. *Сагніюць баўтуны пат курыцай.* Багушэвічы Бярэз. *Згніўшы баўтун.* Старыя Трокі Трак.

БАЛТУ'ХА *ж.* Брага, напітак, прыгатаваны з дражджэй, цукру і вады. *Балтуха с сахару — урэдная.* Ахрэмаўцы Брасл.

БАЛТУ'ШНІК *м.* 1. Гарбар. *Балтушнік авечак скуры вырабляў на кажухі.* Старыя Трокі Трак., Грыкені Вільн., Старыя Смільгіні Воран., Жылі Іўеў. *Балтушнік аўчыны вырабляў.* Граўжышкі Ашм. *Балтушнік вырабляя гавечыя скуры.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *bołtusznik* 'тж'<літ. *baltùšnykas, baltùšninkas* 'тж' (ЛТ, 166). 2. *перан.* Чалавек з бялявымі валасамі. *Яе брат балтушнік, валасы такія белыя-белыя.* Чычалі Швянч. 3. Чалавек у белым ці светлым адзенні. *Ты, Янук, балтушнік у гэтым касцюме.* Чычалі Швянч. 4. Жывёла з белай поўсцю. *Пасу свайго балтушніка.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *baltùšis* 'белатвары'.

БАЛТЫ'Ш *м. плыт.* Шост. *Балтыш — качулачка, якой возьмуць і атпіхаюць плыт, кап у кроўш не ўдарыўся.* Кураполле Паст.

БАЛЬЁ *н.* Бялізна. *Раней казалі — мыю хусты, цяпер — мые бальё.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* руск. *белье* 'тж'.

БА'ЛЬКА *ж.* 1. Бэлька. *Балька ідзе на ўсю хату.* Стральцы Гродз. *На бальку павесяць калыску і калыхаяцца яна.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Падваліна пад падлогай. *Падлогу на балькі клалі.* Магуны Паст. *Балькі палавыя.* Рыбчына Віл. 3. Бервяно. *Балькі былі цянейшыя і грубшыя.* Ракаўскія Швянч. *Хату рубяць з баляк.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ляжыць пяць балік падрат.* Лісна В.-Дзв. *На завальню лажыліся балькі.* Індра Красл.

БАЛЬМО' *гл.* БЯЛЬМО'

БАЛЬНЫ' *прым.* Хворы. *Бальны муш ляжаў у пасцелі.* Ністанішкі Смарг. *Мы бальныя, а нам чужога чалавека ставяць.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *больной* 'тж'.

БАЛЬСАВІ'НКА *ж. бат.* Бальзаміна. *Бальсавінкі летнія ў нас цвітуць.* Саланое Віл.

БАЛЬСА'М, БАЛЬСА'Н *м. бат.* Альяс. *Перасадзі бальсам ў большую пасудзіну!* Галубы Маст. *Быў у мяне бальсан, звяла яго.* Дакудава Лід. *З бальсану сок п'юць, як на беркулёс хварэюць.* Пацаўшчына Дзятл.

БАЛЬША'К *м.* Шаша, гасцінец. *Пойдзеш па бальшаку прама і ферму ўвідзіш.* Беразіно Докш. *Па этым самым бальшаку ездзілі.* Істра Лудз. *Там, за бальшаком, возера.* Пасіене Лудз.

БАЛЬШУ'ХА, БОЛЬШУ'ХА *ж.* Старшая сястра ў сям'і. *Мая бальшуха заходзіла да нас.* Міратычы Карэл. *Моя большуха ў том сэлі.* Дзмітравічы Кам.

БАЛЬШУ'ШЧЫ *прым.* Вялізны. *Цвет красны бываіць бальшушчы* [на маку]. Ахрэмаўцы Брасл.

БАЛЬШЫ' *прым.* Вялікі. *Там зэдэль бальшы стаяў. Бальшы кошык або велькі, вялікі.* Грыкені Вільн.; *параўн.* руск. *большой* 'вялікі'.

БАЛЬШЫНСТВО', БОЛЬШЭНЬСТВО' *н.* Большасць. *Бальшынство добрага на вяку, як благога.* Саланое Віл. *У нас большэньство то біедны былі господарыэ.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *большинство* 'тж'.

БАЛЬШЭ'ЙШЫ *прым. выш.* Большы. *Бальшэйшы за яго.* Кемялішкі Астр. *Бальшэйшую ўзяла каструлю.* Асавец Віл.

БАЛЬШЭ'ННЫ *прым.* Тое ж, што і бальшу́шчы. *Бальшэнны кусок сала прадала.* Альхоўка Навагр. *Кактус бальшэнны. Бальшэнны пятак.* Азяраны Раг.

БАЛЭ'БУХА *ж. кулін.* Булачка. *Булэбухаў напякла.* Бакшты Іўеў.

БАЛЭ'НДАЦЬ *незак. экспр.* Балбатаць. *Прываloкся ў хату і балэндая.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* руск. дыял. *балентря́сить, белендря́сить* 'гаварыць пра жарты; займацца глупствам' (Даль, I, 43, 81), *галя́ндать* 'дурэць, сваволіць, смяшыць' (СРНГ, VI, 124).

БАЛЭ'ПКА *ж. кулін. памянш.* да балэ́буха. *Балэпку пяклі на патэльні.* Граўжышкі Ашм.

БАЛЭ'Х *выкл.* Бух. *Конь балэх-балэх па балоце на ганей двоя.* Альхоўцы Лях.

БАЛЮ'ЧКА *ж.* Прышч, болька. *Балючка баліць.* Ахрэмаўцы Брасл.

БАЛЮ'ЧЫ, БАЛЮ'ШЧЫ, БОЛЮ'ШЧЫ *прым.* 1. Які пастаянна баліць. *Балючы паляц. Рукі балючыя.* Рыбчына Віл. *Мая галава балючая.* Магуны Паст. *Балючая скула села.* Мярэцкія Глыб. *Што ты будзеш стаяць з нагой балючай.* Груздава Паст. *У яе вочы балючыя.* Кураполле Паст. *Балючыя ногі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Балюшчыя рукі.* Быстрыца Астр. *Нэ зачыпай, бо то болюшчы палець.* Курашэва Чыж. 2. *перан.*

Уразлівы, з'едлівы. *Такія словы балючыя стала гаварыць.* Саланое Віл.

БАЛЮ'ШКА *ж.* Вечарынка. *Як бываіць балюшка, то прыходзяць з другіх вёсак.* Саланое Віл.

БАЛЮ'ШЧА *ж.* Хворая. *Гэта балюшча запусціўшы каўтун.* Быстрыца Астр.

БАЛЮ'ШЧЫ *гл.* БАЛЮ'ЧЫ

БАЛЯВА'ЦЬ *незак.* Частавацца, гуляць. *Прыехалі маладыя і балююць за сталом.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* польск. *balować* 'спраўляць баль, удзельнічаць у балі'.

БАЛЯ'ВЫ *прым.* 1. Тое ж, што і б а л ю́ ч ы 1. *Мае рукі балявыя, мае жылы балявыя. Печані бываюць балявыя, велькія.* Альхоўка Навагр. 2. Хворы, нездаровы. *Ён балявы. Балява кроў у мяне астаўшыся.* Альхоўка Навагр.

БАЛЯ'СА *ж.* Шост. *На балясах вісела калыска.* Ухвала Круп.; *параўн.* польск. *balasek* 'балясіна'.

БАЛЯ'СКА *ж.* 1. Дошчачка ў агароджы. *Конь даў капытом і адбіў тры баляскі.* Дзесятнікі Валож. *Баляска — то одна дошчычка в плотэ.* Дзмітравічы Кам. 2. Папярочная планка ў драбінах. *Баляскі ў драбінах.* Індра Красл.

БАЛЯ'СЫ *мн.* 1. Перакрыжаваныя ўверсе тры калкі для падвешвання калыскі ў полі. *На балясах вісела калыска.* Ухвала Круп. 2. Калкі для агароджы. *Плуот з балясуов довго стоіт. Як балясамі загородіті, то куры нэ вліезут.* Курашэва Чыж. 3. Агароджа. *Сын балясы зрабіў, паставілі на могліцах.* Вецярэвічы Пух.

БАЛЯ'ЎКА, БАЛЯ'ЧКА, БОЛЯ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і б а л ю́ ч к а. *Выступіла баляўка. Многа балявак.* Данілавічы Дзярж. *Балячка расце на галаве.* Каўняны Гродз. *У Ерэны балячка на назе.* Сакаляны Сакол. *Каля лымя балячка.* Крынкі Крын. *Болячка гные, ны гоіцця.* Дзмітравічы Кам.

БАЛЯ'ЧЫ *прым.* Тое ж, што і б а л ю́ ч ы 1. *У мяне быў балячы зуп. У яе жывот балячы. Сяду — у мяне пята баляча. Вочы нейкія балячыя.* Альхоўка Навагр. *Мазоль кроўю набяжыць — балячы. Балячыя венкі.* Хатынічы Ганц. *Рукі балячыя.* Вялікія Баяры Шчуч.

БА'ЛЯШНІ *прым.* Даўнейшы. *Баляшнія людзі казалі, што снех — гэта гной.* Семежава Кап.

БАМБІ'ЗА, БАНБІ'ЗА *м.* і *ж.* *зневаж.* Гультай, абібок. *Бамбіза бадзяецца.* Малькуны Іўеў. *Вун якіх банбізаў ёсць і не работаюць.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *bambizà* 'тж'.

БАМБУЛІ' *мн.* Камячкі засохлага гною на поўсці жывёлы. *Бамбулі ў авечкі накарэўшы.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *bum̃bulas* 'камяк'.

БАМБЭ'ЛАК *м.* Надзьмуты мачавы пузыр забітай жывёлы. *Папа, зрабі бамбэлак. Посік свінны завязваюць і дзеці гуляюць — гэта бамбэлак.* Дакудава Лід.; *параўн.* польск.

*bębenek памянш.* да *bęben* 'барабан', літ. *bámba* 'пуп; шышка'.

БАМБЭ'ЛКІ *мн. анат.* Барабанныя перапонкі. *Бамбэлкі папэнкалі ў вушах с цянжару.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *blona bębenkowa* 'тж'.

БАНБЕ'ННЯ *н.* Бамбёжка. *Яго матка папала пад банбення.* Груздава Паст.

БАНБІ'ЗА *гл.* БАМБІ'ЗА

БАНБЭ'НАК *м. муз.* Бубен. *У банбэнак стукаюць, ён бум-бум.* Лайпушкі Ігн.; *параўн.* польск. *bębenek памянш.* да *bęben* 'барабан'.

БА'НДА *ж.* 1. Натоўп, грамада. *Сабралася цэла банда бабаў.* Кіралі Шчуч. *Стаіць банда бабаў.* Альхоўцы Лях. *Цала банда людзей ля магазіна.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сабралася банда хлапцоў.* Альхоўка Навагр. *Цэла банда хлапцоў пашло.* Навасёлкі Свісл. *Банда вецяроўская прыдзя.* Вецярэвічы Пух. 2. Шайка бандытаў. *Была банда бандзітаў, ён у бандзі быў. Банда хуліганаў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бандзіты ходзяць бандамі.* Мярэцкія Глыб. 3. Чарада, статак, вялікае мноства. *Банду кароў пагналі дамоў.* Пацаўшчына Дзятл. *Пасвілася банда авец.* Альхоўцы Лях. *Вот банда кароў пашла. Велька банда гавечак. Але ш у калхозі велькія банды. У каждай бабы гусей цэлыя банды, натта многа бандаў гусей у вёсцы.* Кіралі Шчуч. *Банда кароў, авец банда.* Чычалі Швянч. 4. у знач. *прысл. ба́ндай.* Статкам, натоўпам. *Каровы ідуць бандаю. Гоніць пастух гавечкі бандаю. Вадні нападаюць бандамі. Бандамі сядзяць бабы на вуліцы.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *bandà* 'натоўп; статак'.

БАНДА'Р, БО'НДАР *м.* Бондар. *Бандар бочкі, цэбры робіць.* Грыкені Вільн., Асавец Віл. *Бандар рабіў бочкі, вёдры.* Мярэцкія Глыб. *Гэты, што рабіў цэбры, кублы, бочкі, называўся бондар.* Груздава Паст., Рыбчына Віл., Гемзы Шальч., Дакудава Лід., Калясное Міхал. *Бандары́ бочкі рабілі, і ў нас тут бондар быў.* Чычалі Швянч.

БАНДАРАВА'ЦЬ *незак.* Вырабляць драўляны посуд. *Мой гаспадар усё ўмеў рабіць — сталяравоў і бандаравóў.* Вецярэвічы Пух.

БАНДА'РКА *ж.* Выраб драўлянага посуду. *Бацька бандаркай займаўся.* Дакудава Лід.

БА'НДАРЫ *мн.* У выразе: *Бандары біць* — гультаяваць. *Бандары б'еш, лазіш без некай работы.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *dañdaras* 'плець, бізун', *diñderį mùšti* 'гультаяваць'.

БАНДА'РЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і б а н д а р а в а́ ц ь. *Бандар рабіў цабры, вёдра, балейкі — бандарыў.* Рудня Астравітая Чэрв.

БАНДА'Ш *м.* Тое ж, што і б і н д а́ с. *Бандаш — сякера такая, чошчыкі чэшуць.* Чычалі Швянч. *Быў бандаш адбіваць тоўстыя трэскі.* Жылі Іўеў.

БАНДЗІ′Т, БАНДЫ′Т *м.* Узброены рабаўнік, удзельнік банды. *Бандзітаў многа лазала пасля вайны.* Жыдзевічы Іўеў. *Па леся бандытаў было.* Стральцы Шальч.

БАНДЗЮ′ГА *м. асудж.* 1. Хуліган, забойца. *Бандзюгі збілі чалавека.* Каўняны Гродз. *Бандзюгі забілі хлопца.* Старыя Смільгіні Воран. 2. *перан.* Забіяка, задзіра. *Гэты бандзюга* [індык] *будзя біць іх* [курэй]. Мсцібава Ваўк.

БАНДУ′ШКА *ж.* Баханка хлеба. *Напякла бандушак.* Хатынічы Ганц.; *парайн.* літ. *bandùlė* 'тж'.

БАНДЫ′, БАНТЫ′ *мн.* Папярочная бэлька ў кроквах. *Крокві паставіў і збіў банды. Банды — штоб кроквы не расходзіліся.* Старыя Смільгіні Воран. *Банты ў кроквах для мацунку.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* ням. *Band* 'завязка, зацяжка'.

БАНДЫ′Т *гл.* БАНДЗІ′Т

БАНДЫ′ТА *м.* Тое ж, што і б а н д з ю́ г а 1. *Бараніліся ад яго — такі бандыта чалавек.* Паляцкішкі Воран.

БАНДЭ′ЦЦА *незак. экспр.* Хадзіць без работы. *Я не бандэюсё, а ўсё раблю.* Старое Сяло Зэльв.

БАНЗО′ЎКА *ж.* У выразе: *Даць банзоўку* — даць наганяй. *Ён як даў цёшчы банзоўку, яна аш захварэла, моцна ругаў.* Ёдлавічы Брасл.

БА′НІЦЦА *незак.* Мыцца ў лазні. *Раней казалі — мыцца ў лазні, цяпер — баніцца кажуць.* Рудня Астравітая Чэрв.

БА′НКА *ж.* Кальцо (у касе). *Касная́ банка.* Істра Лудз.

БАНКА′РТ *м. пагард.* Тое ж, што і б а й с т р у́ к 1. *Банкарт еты — хітры такі.* Беразіно Докш. *Што ні дзіця ў яе — усё банкарт.* Ухвала Круп., Скрудалена Даўг.; *парайн.* польск. *bękart* 'тж'.

БАНКА′Ч *м.* Тое ж, што і а в а д з е́ н ь. *Банкачы сільна кусаюцца.* Рагулішкі Даўг.

БАНКРУТАВА′ЦЬ *незак.* Пазбягаць работы, ленавацца. *Банкрутуя — ня хоча рабіць.* Старыя Трокі Трак.

БАНСЮ′К, БАЙСЮ′К, БАНЮ′К *м.* Тое ж, што і б а й с т р у́ к 1. *У яе бансюк ад жанатага мушчыны.* Кураполле Паст. *Ён байсюк, у яго бацькі няма.* Вецярэвічы Пух. *Ён банюк, без бацькі рос.* Рудня Астравітая Чэрв.

БА′НТАМ *прысл. цясл.* У замок (калі выступ уваходзіць у праём). *Стол есяновый здзеланы біз гваздоў, кліны бантам укладаліся.* Мішневічы Шум.; *парайн.* ням. *Band* 'завязка'.

БАНТЫ′ *гл.* БАНДЫ′

БА′НЬКА I *ж.* 1. Слоік. *Вазьмі баньку і схадзі па малако. У яе банькі малака стаяць доле, як бачыш — выкарміць кабана.* Вецярэвічы Пух. *Банька лопнула.* Дакудава Лід. 2. Адстойнік з бляхі. *Даці з банькі малака?* Смаляніца Пруж. 3. *мед.* Банька. *Банькі ставяць ад прастуды.* Асавец Віл. 4. Жалезны абадок у спражцы. *Банька ў папрузе.* Малыя Аўцюкі Калінк.

БА́НЬКА II *ж. перан.* Лупцоўка. ◇ *Даць баньку* — адлупцаваць. *На вячэру дала баньку хлопцу.* Міратычы Карэл.

БАНЮ́К *гл.* БАНСЮ́К

БА́НЯ *гл.* БА́ЙНЯ

БАНЯ́К *м.* Тое ж, што і б а́ н ь к а I, 1. *Абірай вішні ў баняк.* Пацаўшчына Дзятл.

БА́ПКА I *ж.* 1. Тое ж, што і б а́ б а I, 3. *Бапку, не рухайцеся! Я сама прынясу вадэ.* Новікі Гродз. 2. *устар.* Жанчына, што выконвала ролю акушэркі пры родах. *Бапка прымала дзіця ад радзіхі.* Старыя Трокі Трак. *Бапка бабіла дзіця.* Малахоўцы Бар. *Бапка прыходзіць і завязвая пуп дзіцяці.* Стральцы Гродз. *Раньша бапкі роды прынімалі.* Магуны Паст.

БА́ПКА II *ж. кулін.* 1. Страва з цёртай бульбы. *Трэба картоплі надраць, атцадзіць і гарачым малаком залёяць, накрыць скаварадой, паставіць у печ, і бапка спячэцца.* Вецярэвічы Пух. *Бапка гатовая, можаце есць.* Паляцкішкі Воран. *Бапка з бульбы.* Беняконі, Старыя Смільгіні Воран. 2. Перапечка. *Ячменны прасначок называлі бапкай.* Саланое Віл. 3. Здобны пірог. *Пякуць бапку ў цёрліцы — гэта булка, маслам абмазаваюць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

БА́ПКА III *ж. бат.* Абабак. *Бапка круглаватая. Адных бапкаў набраў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Белаватая бапка, нага тоненькая.* Ухвала Круп. *Бапка, якая вырасла; бапкі там растуць.* Пасека Ст.-Дар., Рудня Астравітая Чэрв., Дзяніскавічы Ганц.

БА́ПКА IV *ж. бат.* Трыпутнік. *Шырокянькі ліст — гэта бапка.* Быстрыца Астр. *Бапка ля сцежак і так дзе расце. Сок з бапкі ат жалутка п'юць.* Галубы Маст. *Бапка — шырокі лісток, каля дарох расце.* Крэва Смарг. *Адна бапка вырасла — там нечага касіць.* Мсцібава Ваўк. *Бапка — зельё.* Міратычы Карэл. *Лісткі бапкі шырокія, катке вырастаюць.* Малахоўцы Бар.

БА́ПКА V *ж. заал.* 1. Страказа. *У бапкі крылцы доўгінькія.* Малахоўцы Бар. *Крылцы такія празрыстыя ў бапкі, аж пераліваюцца на сонцы.* Мачаск Бярэз. *Бапка кружыць над вадой.* Глівін Барыс. 2. Сляпень. *На слепака кажуць бапка.* Міратычы Карэл.

БА́ПКА VI *ж.* 1. Тое ж, што і б а б у́ р к а. *Усё дабро ставілі ў бапкі па дзесяць снапоў, дзісяты сноп — шапка, у ім снапы заламаны.* Груздава Паст.; *гл.* ДАБМ, карта № 286. 2. Куль саломы. *Малацілі, чатыры разы яго павернеш, тады вытрасеш, вяжаш у вялікія бапкі.* Беняконі Воран. 3. Вялікі сноп лёну. *Як падоймім лён, у снапы павяжам, вялікі сноп завецца бапка.* Саланое Віл. *Лён падымаюць і ў бапкі вяжуць.* Рыбчына Віл.

БА́ПКА VII *ж. тэх.* 1. Прыстасаванне для кляпання касы.

Вялікія Нястанавічы Лаг. *Бапка, кап атклялапаць касу.* Вязынка Маладз., Крупіца Мін. *Мянцяць мянташкаю, а на бапку клепляць.* Данілавічы Дзярж. *Косу прыкладают до бапкі і клеплют молотком.* Дзмітравічы Кам. 2. Папярочная перакладзіна, што кладзецца на сані, калі возяць бярвенне. *Бапка — тоўстае палена, на сані кладзецца ўпоперак, калі возяць лес.* Беняконі Воран. 3. Драўляны вінт у калаўроце. *Бапку пакруцяць і павышаюць ці паніжаюць шпулю.* Вецярэвічы Пух.

БА'ПКА VIII *ж.* Нарытая кротам кучка зямлі. *Крот вель-кія бапкі дзелая.* Старыя Смільгіні Воран.

БА'ПКА IX *ж.* Тое ж, што і б а́ н к а. *У касе бапка.* Пасіене Лудз.

БА'ПКІ, БА'БКІ *мн.* Мох, які расце на саламянай страсе. *На страсе бапкі. Вот узялася страха бапкамі. Па бапках страха доўга стаяцьме, бы зашкарлупее па страсе, названьє яму не мох, а бапкі, хоць і бярэцца пад мох. Трэба бабак назрэзваць дзіця папарыць.* Дзяніскавічы Ганц.

БА'ПЦЯ *ж.* Тое ж, што і б а б у́ л я. *Прышла яго бапця.* Ліпнікі Вільн. *Бапця з дзецьмі дома.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *babcia* 'тж'.

БАРАБА'ЙКА *гл.* БАЛАБА'ЙКА

БАРАБА'Н *м.* Матавіла. *Стаўляеш барабан і на барабан матаеш ніці, з барабана снуюць кросна.* Вялікія Баяры Шчуч.

БАРАБА'НІЦЬ *незак.* 1. Барабаніць. *Дошч па вокнах барабаніць.* Кураполле Паст. *Ну і дош барабаніў, аш да ніткі прамок.* Малахоўцы Бар. 2. *перан.* Тое ж, што і б а л а б а́ н і ц ь 2. *Барабаніш абы-што.* Беразіно Докш.

БАРАБАШЧЭ'ЦЬ *незак.* Грукацець, барабаніць. *Пустая бочка барабашчыць.* Сапоцкіна Гродз.

БАРАБА'ШЫЦЬ *незак.* Звінець, балабоніць. *Як ідзець карова са званком — барабашыць.* Ахрэмаўцы Брасл.

БАРАВА'ННІК *м.* Той, хто баранує. *Бараваннік ўжо прыехаў, будзем баранаваць агарот.* Саланое Віл.

БАРАВІ'К *м. бат.* Баравік. *Ест белы баравік.* Новікі Гродз. *Баравік — самы лепшы грыб.* Чычалі Швянч. *Прынясла баравікоў.* Рыбчына Віл. *Баравікі баравыя па бару чорненькія, каштанавыя.* Ухвала Круп. *Тут баравікоў, грыбоў многа.* Істра Лудз.

БАРАВІКО'ВЫ *прым.* Цёмна-карычневы (колер). *Купіла туфлі баравіковага колеру.* Граўжышкі Ашм.

БАРАВІНА' *ж.* Бор. *Баравіна харошая, на баравіне баравікі растуць.* Граўжышкі Ашм.

БАРАВЫ' *прым.* Хваёвы. *Дзе сосна, то баравы лес.* Старыя Трокі Трак. *Баравы лес, там чарніцы.* Ухвала Круп. *Баравыя грыбы зверху чорныя.* Дзяніскавічы Ганц.

БАРАДА' I *ж.* 1. Валасяное покрыва на ніжняй частцы

твару. *Во такіе барóды мелі.* Чычалі Швянч. 2. Ніз прывязанай да прасніцы кудзелі. *Барада, дзе цягаюць нітку ў кудзелі. Даўней пад бараду, пад кудзелю свяцілі лучынай.* Магуны Паст.

БАРАДА′ II *ж. абрад.* Невялікі кусцік жыта, які пакідалі пры дажынках. *Як канчалі жаць — жменьку пакінуць каласоў, абложаць камушкамі кругом вяночкам, кусочак хлеба на версе зямлі паложаць. Казалі, што гэта для мышэй пакідалі бараду — іх часць на полі, кап не шлі ў гумно.* Жылі Іўеў., Старыя Смільгіні Воран. *Тры каласкі добрыя выбіралі для барады, іх вымяралі, палолі ржэўнік, кап чыста было, прыплешча зямлю, трапачку пасцеля, кусочак хлеба паложа і калі вада ё — палея тыя каласы і цвяткоў пастаўлюць, стужачкай звяжуць каласкі. Той хлеп птушкі расклююць.* Азяраны Раг. *Бараду краскамі ўбіралі, нітачкамі прывязвалі краскі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Калі канчалі жаць — бараду пакідалі. Каласке тры зломяць і кладуць кусочак хлеба. Гэта дажынкі.* Малахоўцы Бар. *Пакідалі жыта на бараду.* Янова Рас., Ухвала Круп. ◇ *Работы па бőраду.* Граўжышкі Ашм. *Звязаць бараду* — закончыць жніво. *Звязалі бараду — значыць убралі бараду і папелі дажынкі.* Рудня Астравітая Чэрв.

БАРАДА′ТЫ, БОРОДА′ТЫЙ *прым.* Барадаты. *Такі чалавек барадаты.* Грыкені Вільн. ▽*Хоч бородатый, абы ны жонатый.* Сіманавічы Драг.

БАРАДА′ЎКА *ж.* Бародаўка. *Радзімая барадаўка ў мяне. У яго барадаўкі на руках.* Кураполле Паст. *Барадаўкі апанавалі.* Лісна В.-Дзв. *Барадаўкі пазводзілі.* Беразіно Докш. *Барадаўкі на целе ёсць.* Рыбчына Віл.

БАРАДА′Ч I *м.* Барадаты чалавек. *Барадач ідзе.* Старое Сяло Зэльв.

БАРАДА′Ч II *м. бат.* Хвошч. *Барадач мякенькі-мякенькі, ад нырак п'юць.* Жылі Іўеў.

БАРАДУ′ЛЬ *м.* Тое ж, што і б а р а д á ч I. *Наш дзет — барадуль.* Ністанішкі Смарг.

БАРАЗЁНКА *ж.* Баразна. *Дзве баразёнкі бульбы распахаў.* Старыя Трокі Трак. *Осем баразёнак загон быў.* Беняконі Воран.

БАРАЗЁННЫ, БАРАЗНО′ВЫ *прым.* Галоўны ў вупражы (вол). *Баразённы вол, каторы ў баразне ідзе.* Рудня Астравітая Чэрв. *Баразнóвы вол той, што хадзіў па баразне.* Дакудава Лід.

БАРАЗНА′, БОРОЗНЯ′ *ж.* 1. Вузкая града бульбы. *Баразна бульбы.* Вострава Маст. 2. Града агародніны. *Баразна цыбулі.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Прамежак паміж градамі. *У баразне сядзіць і поліць.* Рудня Астравітая Чэрв. 4. Скіба адворанай плугам зямлі. *Адараў дзве баразны.* Дзяніскавічы

Ганц. *Прайшоў баразну.* Відаўцішкі Вільн., Чычалі Швянч. *Борозню прошов плугом.* Сіманавічы Драг.

БАРАЗНАВА́ЦЬ *незак.* Абганяць узышоўшую бульбу. *Як бульба сходзіць — баразнуюць, а падрасце — баранують.* Рыгалоўка Ліпск.

БАРАЗНІ́ЦЬ, БОРОЗНІ́ТІ *незак.* 1. Тое ж, што і б а р а з н а в á ц ь. *Пайду бульбу баразніць.* Вострава Маст. 2. Ганяць барозны па засеяным полі (для сцёку вады). *Як нэ поборозніш, то вода нэ будэ добрэ стікаті і збуожэ можэ замокнуті.* Курашэва Чыж.

БАРА́К *м.* Склеп з драўляным зрубам (у зямлі). *Выкапаюць і абставяць барак дубам, доскамі — хавай што хочаш на зіму.* Ванелевічы Кап.

БАРА́Н I *м.* Тое ж, што і б а к á с. *Баран паляцеў.* Мярэцкія Глыб. *Баран—дзе балота, бэкая.* Вязынка Маладз. *Баран мармыча на холат.* Вецярэвічы Пух. *Баран траву сее, мармыча: мур-мур.* Мачаск Бярэз. *Як лятая — бакас, а як крычыць — баран.* Палік Барыс.

БАРА́Н II *м. цясл.* Рубанак з дзвюма ручкамі. *Баран — як рубанак, толькі з ручкамі.* Дакудава Лід. *Баран — гэблік з дзвюма ручкамі.* Пацаўшчына Дзятл. *Баран — удваёх дошкі стругаць.* Скрудалена Даўг. *Гэблык — так, быз ручок, а в барановы дві ручкы.* Сіманавічы Драг.

БАРАНА́, АБАРАНА́, БОРОНА́ *ж.* 1. *с.-г.* Барана. *Драўляныя бароны былі з лукамі. У баране было дваццаць зубоў дубовых.* Відаўцішкі Вільн. *Хадзіла па бóрану, буду бульбу баранаваць.* Вецярэвічы Пух. *Драўляныя абароны былі з лукамі, лук у абаране.* Грыксні Вільн. 2. *абрад.* Праснак з зубчыкамі, якія сімвалізавалі зубы ў баране. *Борону, галёпу і сырпа пыклы з мукы. На блавішчынне діты бралы іх і клыкалы буськá: «Бýську, бýську, на тобі борону, дай мыні жыта сторону, бýську, бýську, на тобі сырпа, дай мыні жыта снопа».* Сіманавічы Драг. 3. *перан. экспр.* Той, хто не так робіць як трэба, няўмека. *Ах ты барана няшчасны, не робіш, як трэба!* Лісна В.-Дзв.

БАРАНАВА́ННЕ *н.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова б а р а н а в á ц ь. *Па баранаванню ізноў абгорваюць, а пабаранаваўшы, сее.* Беняконі Воран.

БАРАНАВА́ЦЬ, БАРНАВА́ЦЬ *незак.* 1. Баранаваць раллю. *Плугам падыме, а тады барануе.* Паляцкішкі Воран. 2. Баранаваць пасля пасеву. *Бараной баранують і пасеянае поля.* Кемялішкі Астр., Дяніскавічы Ганц. *Ён бульбу барнаваў.* Саланое Віл.

БАРА́НАК *м.* Скрутак (пра лыкі). *Даўней казалі: баранак лыкаў.* Валынцы В.-Дзв.

БАРАНАЎЛО́ЦКІ, БАРНАВАЛО́ЦКІ *прым.* Прызначаны для ворыва і баранавання. *Быў баранаўлоцкі хамут для*

*ворыва.* Грыкені Вільн. *Ёсць хамут вазаві і барнавалоцкі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

БАРА'НІ *прым.* Авечы. *Барані жыр — лой, ім добра аціраць бок, як баліць.* Граўжышкі Ашм.

БАРАНІ'ЦЦА *незак.* Абараняцца. *Як злы сабака, то нападая на ваўка, воўк бароніцца.* Мсцібава Ваўк.

БАРАНІ'ЦЬ I *незак.* Забараняць. *Хто яму бараніў?!* Жылі Іўеў. *Касцёлаў не баранілі.* Паляцкішкі Воран. *Там ёй не баро́няць гуляць.* Азяраны Раг.

БАРАНІ'ЦЬ II *незак.* Баранаваць. *Пашню нада бараніць.* Істра Лудз.

БАРА'НКА *ж.* Вітка з лазы для ўмацавання частак сахі. *Бара́нкі рабілі ў дзеравянныя сохі.* Вецярэвічы Пух.

БАРАНКО'ВЫ, БАРАШКО'ВЫ *прым.* Баранковы, каракулевы. *Насілі чапкі баранковыя.* Стральцы Шальч. *Папахі насілі барашковыя.* Старыя Трокі Трак. *Пошыла пувпальток з барашковым воротніком.* Курашэва Чыж.

БАРА'НЦІЕ *мн. бат.* Тое ж, што і б р у с і н ы. *В борові баранціе діеті рвут.* Курашэва Чыж.

БАРАНЫ' толькі *мн.* Галоўкі ў санях. *Бараны былі ў санках.* Калясное Міхал.

БАРАНЭ'ЦЬ *м.* Невялікі баран. *Острыгла я свого баранця.* Курашэва Чыж.

БАРАЎЦЫ' *мн.* Назва жыхароў тых вёсак, што знаходзяцца каля лесу. *У бараўцоў дроў многа.* Лісна В.-Дзв.

БАРАШКО'ВЫ *гл.* БАРАНКО'ВЫ

БАРАШЧЭ'ЦЬ *незак.* Брынкаць. *Не барашчы гэтымі відэльцамі.* Дзяніскавічы Ганц.

БАРБАТА'ЦЬ *незак. экспр.* 1. Балбатаць. *Язык яшчэ барбочыць, а нох нет.* Малькуны Ігн. *Што яны барбочуць?* Чычалі Швянч. 2. Тое ж, што і б у м ч э́ ц ь 2. *Пустая грыжына барбочыць, як пакоціш яе.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *barbaťúoti* 'тж'.

БАРБУ'ЛІЦЬ *незак. экспр.* Бурчаць, лаяцца. *Матка любіць барбуліць.* Мішневічы Шум.; *параўн.* літ. *burbuliúoti* 'тж'.

БАРБУ'ХА *ж.* Тое ж, што і б а г о́ ў к а. *Барбуха чырвоная, у кропелькі.* Рыбчына Віл.; *параўн.* літ. *barbùtė*<*Barbùtė*<*Barborà* 'Варвара'.

БАРВІ'НЕЦ, БАРВІ'НЭЦЬ *м. бат.* Барвенак. *Барвінец сірэневым цвіце.* Мсцібава Ваўк. *Барвінець п'юць, як у каго каўтун.* Міратычы Карэл. *Барвінэць стэлыцця по зымні.* Сіманавічы Драг.

БАРДЖЭ'Й, БАРДЗЕ'Й *прысл.* Хутчэй. *Барджэй ець! Барджэй ідзі!* Стральцы Гродз. *Каня барджэй рассупонь!* Галубы Маст. *Барджэй па даўнейшаму скажаш.* Міратычы Карэл. *Крыху барджэй дзень праходзіць.* Альхоўка Навагр.

*Прынясеш, а церас дзень апяць нясеш барджэй.* Дакудава Лід. *Бардзей ідзі!* Асавец Віл. *Прынесла дамоў пісклят — бардзей ім тварашку, вады.* Саланай Валож.

БАРДЗЕ'НКО *прысл. памянш.* Хуценька. *Бардзенко ідзі!* Стральцы Гродз.

БА'РДЗО, БА'РЗО *прысл.* Вельмі. *Бардзо часто не даю ім есці.* Навасёлкі Свісл. *Піруох нэ барзо удавсе, кроху нэ доніоксе.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *bardzo* 'тж'.

БАРЗДЗЮ'К *м. бат.* Хвошч. *Хвошч з ёлачкай называюць барздзюк.* Быстрыца Астр. *Барздзюк на дзірванах расце.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *barzdžiūkas* 'тж'.

БА'РКА I *ж.* Баржа. *Па Пцічы хадзілі баркі, на іх перавозілі доскі. Барка гналася дрывамі.* Вецярэвічы Пух.

БА'РКА II *ж.* Ворчык. *У плузе ёсць барка.* Дарасіно Слуц.

БАРКУ'Н *м. бат.* Баркун. *На віенікі баркуну нарвала.* Курашэва Чыж.

БАРЛАХМАНІ'ЦЬ *незак. экспр.* Тое ж, што б а л а б а́ н і ц ь 2. *Навошта ты барлахманіш абы-што! Чым барлахманіць, дык лепш памаўчаць.* Пацаўшчына Дзятл.

БАРЛЁЧЫ, БАРЛЯ'ЧЫ *мн.* 1. Чаравікі. *Барлёчы былі на шнурках.* Рагулішкі Даўг. *Дайней бацінкі насілі шылаватыя — барлячы. І барлёчы звалі жаночыя бацінкі на гузіках.* Рыбчына Віл. *Барлячы — гэта обуй такі, халявы кароценькія.* Грыкені Вільн. *Былі барлячы з гузікамі і шнураваліся. Барлячы насілі бабы і дзеці. Хто бядней — насілі барлячы, а багацейшыя насілі камашы.* Саланое Віл. 2. Цёплыя чаравікі. *Барлячы — цёплыя бацінкі, іх найбольш ксяндзы насілі.* Крэва Смарг. *Касматыя бацінкі, іх насілі толькі багатыя. Праўдзівы барляч толькі на мяху, дарагі быў.* Быстрыца Астр. *Барлячы на шнурках.* Курапołле Паст. *Барлячы — гэта шытыя буркі.* Мсцібава Ваўк.

БАРЛО'ВЫ *гл.* БЯРЛО'ВЫ

БАРЛО'Х *м.* Тое ж, што і б я р л о́ г 2. *Трэба падаслаць свінням на барлох.* Ліпнікі Вільн.; *парайн.* польск. *barłog* 'подсціл, бярлог, логавішча'.

БА'РМА *ж.* Кажух, пакрыты сукном. *Бармай звалі пальто такоя на кажуху, а верх з даматканага сукна. Мы Антону пад бок слалі барму. Ён усё казаў: «Дзе мая барма?».* Ахрэмаўцы Брасл.

БАРМУ'ХА *ж. кулін.* Цура. *Дайней дзеці казалі да мацеры: «Оля́, маму! Зрабі сёня на вячэру бармухі». Яе рабілі так: накрышаць у ваду кавалачкі чорнага хлеба, пасоляць і гэтак ядуць.* Навасёлкі Свісл.

БАРМУ'ШКА *ж. памянш.* да б а р м у́ х а. *Зрабі нам бармушкі.* Навасёлкі Свісл.

БАРНАВАЛО'К *м.* 1. Хлопец-падлетак, які ўжо мог баранаваць. *Дайней, як сын падрасце, то бацька кажа: «Ужо ў*

*мяне свой барнавалок».* Кураполле Паст. 2. Той, хто робіць лёгкую работу. *Барнавалок — стары ці малы, хто згаджаецца баранаваць ці іншую больш лёгкую работу рабіць, а не касіць і што-небудзь цяшка рабіць.* Крэва Смарг.

БАРНАВА'ЦЬ *гл.* БАРАНАВА'ЦЬ

БАРО'ДАВАЧКІ *мн.* Бугарочкі на агурках. *Усе агуркі на бародавачках, пазабольвалі.* Малахоўцы Бар.

БАРО'ДАЎКА, БОРО'ДЯВКА *ж.* Нарасць на скуры. *У яе бародаўкі на руках.* Магуны Паст. *Баро́даўка сядзіць на барадзе.* Паляцкішкі Воран. *Бародаўкі сціснулі рукі.* Каўняны Гродз. *Нарастаюць бародаўкі.* Дзяніскавічы Ганц. *Бародаўку перавяжуць ніткай — яна сасхла і прапала.* Пасека Ст.-Дар. *Як бародявкы́ на руках, то полычы іх, взьмы нытку, зав'яжы на нытцы тылько гузлыв, кылько бородявок, закопай в мокрэ місце, коб хучій згнылы, як згные гэта нытка з гузламы, то згынуть бородявкы.* Сіманавічы Драг.

БАРО'К *м.* Тое ж, што і б а́ р к а II. *Барок дзераўляны, кручкі чапляюць за борану.* Хатынічы Ганц.

БАРО'ЎКІ *мн.* Дзікія пчолы. *Мяне бароўкі пакусалі.* Малахоўцы Бар.

БАРО'ЦЦА *незак.* Басціся. *Карова бораца.* Сакаляны Сакол.

БАРС *м.* Вялікі драўляны малаток. *Барсам праганяецца шып да бальні.* Скрудалена Даўг.

БАРСНІ' *мн.* Лапці. *Даўна барсні насілі.* Саланое Віл. *Барсні крукам пплялі з вяровак.* Беразіно Докш.

БАРСУ'К *м.* Барсук. *Барсук карові вымя выдзірая.* Жылі Іўеў. *Ён барсука быў забіўшы ў гаі.* Ахрэмаўцы Брасл.

БАРСУКО'ВЫ *прым.* Які належыць барсуку. *Барсуковая сала ад бяркулёзу, ад усякіх нарываў добра памагае.* Ахрэмаўцы Брасл.

БА'РТА *ж.* Цяслярскі тапор. *Барта — сякера для плотнікаў, лязо тонкая ў барця, хаты рубяць бартай.* Саланое Віл.; *парайн.* літ. *bárta*<ням. *Barte* 'тж'.

БАРТА'ШКІ толькі *мн.* Матавіла. *На барташкі маталі ніткі.* Дакудава Лід.

БАРТНІ'К *гл.* БО'РТНІК

БАРТО'ВЫ *прым.* Зроблены з борці. *Бартовыя даўбянкі былі, у іх сяліліся пчолы.* Шкаўна Лудз.

БАРТУ'ЛЬ *м. заал.* Дажджавы чарвяк. *Бартуль краснаваты ў зямлі жывець.* Валынцы В.-Дзв.

БА́РТУЧО'К *м.* Драўляны гузік. *І купляліся бартучкі, жалезам скаваныя.* Граўжышкі Ашм.

БАРУ'КАЦЦА *незак.* Дужацца. *Барукаюцца хлопцы ў лесе.* Пацаўшчына Дзятл. *Годзе вам барукацца!* Масілавічы Сл. *Хлопцы толькі знаюць, што барукаюцца.* Глівін Барыс. *Хто будзе са мной барукацца?* Данілавічы Дзярж.

БАРУЛІ′ *мн.* Тое ж, што і б а́ р м а. *Барулі насілі.* Жодзішкі Смарг.; *парайн.* літ. *burùlis* 'баран'.

БАРУ′ШЧЫ *прым.* Бадлівы. *Барушча карова, як рагамі борацца.* Вострава Маст. *Барушча карова, баюса я яе.* Сакаляны Сакол.

БАРХА′Н *м. тэкст.* Мультан. *Бархан: адзін бок касматы, а другі — гладзенькі.* Старыя Трокі Трак. *Бархан вузенькі аднацветны такі.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *barchan* 'тж'.

БАРХАНО′ВЫ *прым.* Мультановы. *Плаце бархановэ зложыш.* Смаляніца Пруж.

БАРЦЬ, БАРЦЯ′ *гл.* БОРЦЬ

БАРЦЯВА′ТЫ *прым.* Тоўсты. *Стаяла барцяватая сасна.* Рыбчына Віл.

БАРЦЯКЕ′ *мн.* Назва жыхароў. *Нас барцяке называюць суседнія людзі.* Старыя Смільгіні Воран.

БАРЦЯЛА′С *м.* Бортнік. *Дайней барцялазы былі.* Бакшты Іўеў.

БА′РЧЫК *м.* Тое ж, што і б а́ р к а II. *Барчык да плуга, а да барчыка чапляюць пастронкі, як аруць ці барануюць.* Альхоўцы Лях.

БАРШКУЛІ′ I *мн. бат.* Званец. *Паспелі баршкулі — трэба сена касіць.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *barškuliaĩ* 'тж' (ЛТ, 166).

БАРШКУЛІ′ II *мн.* Шамкі, званочкі. *Баршкулі — званочкі, што вешаюць лошадзі на шыю.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *barškùliai* 'тж'.

БАРШКУ′ЛЬ *м.* Званок. *Баршкуль — круглы званочак з кулькай у сярэдзіне. Баршкуль завяжуць карові на шыю, яна і ходзіць.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *barškùlis* 'тж'.

БАРШНІ′ *мн.* 1. Скураныя лапці. *Лапці з кожы называлі баршні.* Саланое Віл. 2. Хадакі. *Сапагі адрэзаныя ад галянішчаў баршнямі называлі.* Лісна В.-Дзв.

БАРЫ′ЛКА I *ж.*, БАРЫ′ЛАК *м.* Бочачка з двума днамі. *Былі барылкі пукаценькія, два дны, бокам ляжыць. Ваду бралі ў барылкі, як ішлі ў поля жаць, касіць. За́ткай заткнуць барылку.* Курапалле Паст. *Барылкі былі для піва на васэля, вядро ўлазіла і большыя былі.* Старыя Трокі Трак. *Барылкі былі для квасу, як дзежачка, з дубу, два дны, выліваюць з дзюркі або краніка.* Жодзішкі Смарг. *З боку барылкі точаць піва.* Жылі Іўеў. *Барылка — бачонак такі.* Мсціжава Ваўк. *Барылку піва прынёс.* Быстрыца Астр. *У барыльцы брашку дзержалі і дзёгаць.* Хатынічы Ганц. *Піва ў барылках было. У барылку два дны і дырачка.* Судэрва Вільн. *У барылак налівалі вады, калі касілі.* Малахоўцы Бар.; *парайн.* польск. *baryła, baryłka* 'бочка, бочачка'.

БАРЫ'ЛКА II *ж.* Драўляная дэталь круглай формы ў падсядзёлку. Вялікія Нястанавічы Лаг.

БАРЫ'Ш *м.* 1. Прыбытак, выпіўка пры гандлёвай здзелцы. *Бывала, як ускінуў кажух на плечы, так і ідзе барыш піць у заежжы дом.* Слабада Смал. *Ну і набяруць барыша.* Альхоўка Навагр. 2. Заручыны. *Спачатку жаніх ідзе з гарэлкай выглядаць нявесту ў хату. Вып'юць гарэлку — гэта ўжо малы барыш.* Глебавічы Мін.

БАРЭ'ЛКА *ж.* 1. Тое ж, што і бары́лка I. *Барэлка — бачонак, два дны, шпунточкам забівалася.* Мярэцкія Глыб. *Барэлка — пасуда з дзерава, здзелана с клёпачак, як бочачка ляжачая, зверху дзірачка, воду льюць, вотку.* Тухавічы Лях. 2. Бочачка. *Барэлка ўродзе кадушачкі на мёт з накрыўкай.* Дакудава Лід.

БА'СА *ж.* Фаса, вялікая кадушка. *Баса — з клёпак, у басу дзве бочкі жыта сыпалі.* Старое Сяло Зэльв.

БАСА'К I *гл.* БУСА'К

БАСА'К II *м. заал.* Кулік. *Басак — у яго дзюба доўгая, крычыць: цю-цю.* Мсцібава Ваўк. <бакас.

БАСА'К III *м. асудж.* Басяк, галадранец. *Басак ён, прапіўся, няма чаго адзяваць.* Ракаўскія Швянч.

БАСАЛЫ'ГА *м. зневаж.* Вялікі нязграбны чалавек. *Такі басалыга, а ніц нэ варты.* Курашэва Чыж.; *параўн.* літ. *baisas, baisẽlė* 'тж'.

БАСЕ'БАЦЬ *незак. экспр.* Займацца пустымі размовамі, балбатаць. *Басебае, а час уцёка.* Номікі Бабіц.

БАСОВА'ЦІ *незак.* Спяваць басам, іграць на басах гармоніка. Курашэва Чыж.

БАСТРУ'К *гл.* БАЙСТРУ'К

БАСТРУЧЫ'СКО *н. павел.* да бастру́к. *Ростэ ее бастручыско.* Курашэва Чыж.

БАСЦЯ'КА *м. асудж.* Басяк, валацуга. *Басцяка кажуць на таго, хто п'яны бадзяецца, работы ня робіць.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *bastýtis* 'блукаць, бадзяцца'.

БАСЦЯ'ЛА *м.* і *ж.* Тое ж, што і басця́ка. *Яе сын басцяла, па свету бадзяўся.* Валынцы В.-Дзв.

БАСЦЯ'ЛЫ *прым.* Бадзяжны, валацужны. *Басцялы чалавек басцяецца, па кабачках ходзя.* Рыбчына Віл. *Яна была прыехаўшы — такая басцялая.* Саланое Віл.

БАСЯКА' *прысл.* Басанож. *Басяка скакала.* Старыя Трокі Трак.

БАСЯКО'М *прысл.* Тое ж, што і басяка́. *Хто даўней панімаў абуванне? — усё басяком хадзілі.* Рудня Чэрв.

БА'ТАСТ *м. тэкст.* Батыст. *З батасту шылі сукенкі.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *bãtastas* 'тж', польск. *batyst* ‹ франц. *batiste.*

БАТВА′ *ж.* Бурачнік. *Ломіць бурачкі, батву пучкамі вязалі і заквашвалі.* Крэва Смарг.

БАТВІ′НА, БАТВІ′ННЯ *гл.* БАЦВІ′НЁ

БАТЛА′ШКА *гл.* БАКЛА′ШКА 2

БАТРА′К *м. устар.* 1. Беззямельны селянін, наёмны сельскагаспадарчы рабочы. *Батракі не мелі зямлі.* Альхоўка Навагр. *Батрак не меў і хаты.* Калясное Міхал. 2. у знач *прысл.* *батраком.* У батраках. *Ён батраком жыў.* Данілавічы Дзярж.

БАТРА′ШЧЫНА *ж. устар.* Невялікі зямельны надзел. *Царскі салдат на батрашчыне сядзеў. Хто служыў дваццаць пяць гот, таму поля не было, толькі агарот.* Дзяніскавічы Ганц.

БА′ТЬКОВШЧЫНА *гл.* БА′ЦЬКАЎШЧЫНА

БАЎДЫ′Р *м.* 1. Пухір. *Апарыла руку і наскочыў велькі байдыр, нада было пасыпаць содаю піцьявою.* Кіралі Шчуч. 2. *перан.* Пусты будынак, пустая хата. *Знойдзеш хату, а кала яе байдыр стаіць.* Ухвала Круп.

БАЎКУ′Н *м.* Ярмо. *Байкун — ярмо на аднаго вала, палка на вярху, а душка ідзе пад горла і закрапляецца аборкай.* Рыбчына Віл.; *параўн.* літ. *baukė* 'лоб', *baukỹs* 'галалобы'.

БАЎТА′Ч *м.* Тое ж, што і б а л т а́ к. *Байтач з рызінай на канцы заганяць рыбу ў сетку.* Рыбчына Віл.

БАЎТО′К *м.* Тое ж, што і б а л т а́ к. *Байток, што рыбу заганяюць у сетку.* Янова Рас.

БАЎТУ′Н *гл.* БАЛТУ′Н

БАЎТУ′ХА *ж.* Пойла. *Байтуха — гэта пойла для коні. Нада каню байтухі забайтаць.* Груздава Паст. *Коням байтуху давалі, конь умея ессі: набярэ сена і туды памоча.* Азяраны Раг.

БАЎТУ′ШКА *ж.* Пойла для цяляці. *Байтушку цяляці даюць.* Стральцы Гродз.

БАЎТЫ′Ш *м.* Тое ж, што і б а л т а́ к. *З берагоў ракі рыбу заганялі байтышо́м — такая балдава здзелана і насаджана на палку.* Рудня Астравітая Чэрв.

БАХ-БАХ-БАХ *выкл.* Перадача стуку пры трапанні льну. *Былі трапачкі, стаяк, бах-бах-бах — так лён трэпуць.* Грыкені Вільн.

БАХА′Н *м.* Скрутак нутранога свіного сала. *Баха́н сала сшывалі.* Жодзішкі Смарг.

БАХА′НКА, БУХА′НКА *ж.* Баханка. *Баханку на лапату садзілі. У печы пяклі баханкі маленькія на бляхах.* Старыя Трокі Трак. *Баханка маленечка, як сучасная, што ў магазіне.* Дакудава Лід. *Баханку хлеба купіў.* Жодзішкі Смарг., Рыбчына Віл. *Буханка хлеба.* Лісна В.-Дзв.

БАХІ′ЛЬ *выкл.* Бух, плюх. *Яна бахіль ежу ў вядро — і выліла.* Кураполле Паст.

БАХМА′ТЫ *прым.* 1. Лапушысты. *Гэтыя бахматыя буракі*

*ды пажаўцелі і звальваюцца. Бахматы мак расце.* Саланое Віл. 2. Касматы. *Бахматы сабака, калі велька шэрсць.* Вялікія Баяры Шчуч.

БА'ХНУТІ *зак.* Моцна ўдарыць. *Як бахнув мэнэ в плечы, то шчэ тэпэр боліт.* Курашэва Чыж.

БАХУ'Р, БАХО'Р, БЭ'ХУР *м.* 1. Тое ж, што і б а й с т р у́ к 1. *Бахур радзіўся бяз бацькі.* Ракаўскія Швянч., Магуны Паст., Быстрыца Астр. *Бахор ня ведае бацьку.* Жодзішкі Смарг. *Мужыка ў яе німа, а етат сынок — бэхур.* Беразіно Докш.; *параўн.* польск. *bachur* 'тж', *bachor* 'капрызнік'. 2. *перан.* Тое ж, што і б а й с т р у́ к 3. *Мае курчаняты — бахуры́.* Магуны Паст. 3. *перан.* Маленькая падушачка. *Палажы бахур пад голаву.* Старыя Трокі Трак.

БА'ХУРКА *ж.* Тое ж, што і б а х у́ р 1, але ў адносінах да дзіцяці жаночага полу. *Бахурка — тая дзяўчына.* Мярэцкія Глыб.

БА'ХУРКІ *мн. памянш.-ласк.* Інкубатарныя кураняты. *Бахурќі вывяліся.* Магуны Паст.

БАЦ *м. заал.* Пацук. *Бац каты ганяя.* Жылі Іўеў. *Бацы́ велькія, кот іх ня можа ўзяць.* Дакудава Лід. *Бац парабіў норы, як лёхі. Бацэ́ лавіла добра кошка.* Міратычы Карэл. *Ест бацы́ вадзяныя.* Жылі Іўеў.

БАЦВІ'НЁ, БАТВІ'ННЯ, БАЦВІ'ННЯ, БАТВІ'НА *н.* 1. *зб.* Бурачнік. *Рада, што бацвіння наламала.* Ністанішкі Смарг. *Буракоў нямнога, бацвіння надышло.* Груздава Паст. *Што за людзі, што за суседзі — пусцілі свіння ў маё бацвіння.* Кураполле Паст. *Батвіна — гэта ад буракоў лісты.* Кемялішкі Астр. *Вяжуць бацвіння ў пучкі, кладуць пад буракі ў дзежку, квасяць, а тады вараць.* Магуны Паст. *Бацвіння наложым пучкамі і квасім усё ўмесці.* Ракаўскія Швянч. 2. *кулін.* Боршч. *Дайней казалі бацвінё наварыла.* Міратычы Карэл. *Нада бацвіння зварыць.* Ахрэмаўцы Брасл.

БАЦВІ'НІСКО *н.* Тое ж, што і б а ц в ѝ' н ё 1. *Бацвініско парасло, пайду наламаю.* Старое Сяло Зэльв.

БАЦУ'К *м.* Тое ж, што і б а ц. *Бацук, кап яго ўпадак, пагрыз дзежку.* Дзяніскавічы Ганц. *Кошка злавіла бацука́ і не есць яго.* Галубы Маст. *Бацуко́ў многа.* Валынцы В.-Дзв., Бакшты Іўеў., Пасека Ст.-Дар.

БА'ЦЬКА, БА'ЦЬКО *м.* Бацька. *Яшчэ мой бацька гаварыў.* Грыкені Вільн. *Бацьку было восемдзесят гадоў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Памёр мой бацька. Я была адна ў бацька.* Саланое Віл. *Прыязджаў сват, бацько, маці і сам малады да маладой.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Бацьку, хадзі еж! Мой бацько быў і ей за бацька. Не хочацца бацькаві, кап паследні сын ехаў з дому.* Навасёлкі Свісл. ∇ *Ня дурань выдумаў, што калі маці памёрла — бацька аслёп.* Кураполле Паст. *Ні бацька строіў — ні сын глядзіць, а з нох сам ляціць* — пра не-

гаспадарлівыя адносіны. Ахрэмаўцы Брасл. *Як хто хочэ, так па сваём бацьку плачэ.* Крынкі Крынк. *Як хто хоча, так той па свайму бацька плача: хто моцна, а хто памалу.* Кузьмічы Люб.

БА'ЦЬКАЎШЧЫНА, БА'ЦЬКОЎШЧЫНА, БА'ТЬКОВШЧЫНА *ж.* 1. Спадчына па лініі бацькі ці бацькоў. *Уся бацькаўшчына сыну перайшла, а дачцы — нічога.* Беразіно Докш. *Гэта бацькаўшчына яго.* Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв., Вецярэвічы Пух. *Бацькоўшчына — па бацьку спадчына.* Калясное Міхал. *Гэтэ мыні од батька досталось, гэто моя батьковшчына.* Сіманавічы Драг. 2. Зямельная спадчына. *Бацькоўшчыны было чатырнаццаць гектараў, падзялілі на чатырох сыноў — і кажды стаў батрак.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Родны куток, радзіма. *Був штыры рокы в Сібіры, а зарэ знов вырнувся на батьковшчыну і побудовав хату.* Сіманавічы Драг.

БАЦЬКІ' толькі *мн.* Бацька і маці. *Што-та за бацькі былі, што нічога не зажылі?* Саланое Віл. *Даўней дзеці бацькоў цанілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Школа літоўская пры Польшчы ў нас ад бацькоў была, бацькі плацілі.* Чычалі Швянч. *Пры бацькох кінула дзіця.* Граўжышкі Ашм. ▽*Бацькі падзяруць карманэ носячы дзецям, а дзеці — хаваючы ад бацькоў.* Новікі Гродз.

БА'ЦЬКО *гл.* БА'ЦЬКА

БА'ЦЬКОЎШЧЫЗНА *ж.* Тое ж, што і б á ц ь к а ў ш ч ы н а 1. *Бацькоўшчызна ад бацькоў асталася ей.* Ракаўскія Швянч.

БАЦЬКО'ЎШЧЫНА *гл.* БА'ЦЬКАЎШЧЫНА

БАЦЮЧО'К *м. памянш.-ласк.* да б á ц ь к а. *Што будзіш дзелаць, бацючок?* Індра Красл.

БА'ЦЮШКА *м.* Свяшчэннік. *Яны хочуць з бацюшкам хавацъ.* Ахрэмаўцы Брасл.

БАЦЯ'Н, БАЦЬЯ'Н *м.* Бусел. *Бацян гняздо на хаце зрабіў. Ест чорны бацян.* Чычалі Швянч. *Бацян клякоча.* Старыя Трокі Трак. *Чуеш, прыляцеў бацян, ужо ляская.* Вязынка Маладз. *Бацян скідая яйцо з гнязда.* Лісна В.-Дзв. *Прыляцелі бацяны.* Кураполле Паст. *Бацяны ляскаюць.* Мярэцкія Глыб. *Бацьян лягушку і гадзіну калі хош абработаіць.* Пасіене Лудз. *Бацьян дзелаіць на бярозі гнiздо.* Чарняўскія Лудз. *Няхай жыве беларуская птушка — бацян.* Чычалі Швянч.; *параўн.* польск. *bocian* 'тж'.

БАЦЯНЁНАК *м. памянш.-ласк.* Бусляня. *Бацянёнка скінуць з гнязда, а ён яшчэ кратаецца. І яйко скідаюць.* Ахрэмаўцы Брасл.

БАЦЯНО'ВЫ *прым.* Бусліны. *Бацянова гняздо — добрая прымета.* Вязынка Маладз. *Бацянова гняздо на дрэве высока.* Беразіно Докш., Мярэцкія Глыб.

БАЦЯНЫ′ *мн. бат.* Бусельнік. *Бацяны — такія кветкі, падобныя да бацяна.* Жылі Іўеў.

БАЦЯНЬКІ′ *мн.* Вяснушкі. *Як толькі наступіць вясна, так увесь мой твар у бацяньках.* Галубы Маст.

БАЧО′НАК *м.* Тое ж, што і б а р ы́ л к а I. *Бачонак доўгенькі, а біклашка плоская.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* руск. *бочонок* 'бочачка'.

БАЧО′НАЧКА *ж. памянш.* да б о́ ч к а. *Яму бачоначку была сагнаўшы вада, але нашлі.* Ністанішкі Смарг.

БА′ЧЫЦЬ, БА′ЧЫЦІ, БА′ЧЫТЫ *незак.* 1. Здольнасць бачыць, мець зрок. *Ён плоха бачыць.* Азяраны Раг. *Я не бачу, слепая.* Рудня Астравітая Чэрв. *Нэ бачыть вын.* Дзмітравічы Кам. 2. Угледзець каго ці што-н. *У лесе бачыш гадзюк, я сама біла іх.* Азяраны Раг. *На сухом бачыш ласёў.* Вецярэвічы Пух. *Нэ бачыцім ніколі вас. А як хто бачыт пэршы раз. Я бачыла воўка.* Смаляніца Пруж. *Бачыла ваўка, каровы пасучы.* Старое Сяло Зэльв. *Бачылі мы, як коні грызуцца: падымуцца, пастановяцца на дыбы ды кусаюцца.* Азяраны Раг. *Хочаце ўсё бачыць сваіма ачыма.* Мсцібава Ваўк. 3. Ведаць. *Не бачу, дзе чорныя ніці.* Міратычы Карэл. *Ня бачыла ты, куды свіня паляцелі?* Старыя Смільгіні Воран. *Дзе вы бачылі іх?* Навасёлкі Свісл. *У гэтым горадзе жывучы, нічога не бачыш.* Альхоўка Навагр. 4. Адсутнічаць, не сутыкацца. *Гэдаку работу бацько мае, ды яго не бачыць ніхто.* Альхоўцы Лях. *Ніхто яго не бачыў нідзе.* Старое Сяло Зэльв. *Кап я цябе не бачыў тут!* Дзяніскавічы Ганц. ▽ *Як ны бачу, то плачу, а як віжу, то нынавыжу. Бачылы гочкы, шо бралы, тыпэр жывітэ. Шэ крохы бачу, шэ тыі ямкы е, дэ колысь гочы булы.* Сіманавічы Драг. *Бачыш его, які он разумны.* Крынкі Крын.

БАЧЭ′НАЧАК *м. памянш.* да б а ч о́ н а к. *Ест бачэначак квас рабіць.* Салапое Віл.

БАШЛЫ′К, БАШЛЫ′Х *м.* Суконны капюшон, які прышываўся да армяка. *А ў мушчын армяк із башлыком аткладаным.* Рыбчына Віл. *Ярмяк надзявалі наверх кажуха, башлык яшчэ быў.* Магуны Паст. *Башлых на галаву адзеўшы.* Лоск Валож. *У бурках зверху аткладаецца башлык.* Пацаўшчына Дзятл.

БАШМА′К *м.* Чаравік. *Башмакі насілі з гузікамі і на шнурках.* Янова Рас.

БАШМА′ЧЧА *зб. н.* Зношаны абутак. *Башма́чча валяецца — выкідайця!* Рудня Астравітая Чэрв.

БАЮ′РА *ж.* 1. Лужына. *Баюра была такая вяліка, але ш пераехалі.* Навасёлкі Свісл. *Пушов дошч і баюруэ на пасвіську поробілісе.* Курашэва Чыж. *У баюры чорна вада.* Старая Каменка Сакол. 2. *перан.* Разлітая вадкасць. *Куот розліев молоко, аж баюра на помості зробіласе.* Курашэва Чыж.; *параўн.* укр. *баюра* 'тж' (Грынч., I, 35).

БАЯВЫ′, БОЁВЫ *прым.* Смелы, шустры. *А дачка кончыла сем класаў, але была баявая.* Цеплень Уздз. *То боёва баба, вона тобіе што хоч скажэ.* Курашэва Чыж.

БАЯДЭ′РА *ж.* Пярэстая масць. *Баядэра — калі ў каня шарсціна жоўтая і чорная, а сам белы.* Бакшты Іўеў.

БАЯЗЛІ′ВЫ *прым.* Нясмелы. *Баязлівая дзіця ў мяне.* Навасёлкі Свісл.

БАЯЗНО′ *прысл.* Боязна, страшна. *Яго баязно — ён можа напасці.* Кіралі Шчуч. *Мне баязно.* Чычалі Швянч. *Баязно жыць у леся.* Старыя Смільгіні Воран. *У мяне валасэ на галаве сталі, шапку падымаць і аглянуцца баязно!* Вялікія Баяры Шчуч. *Злосны, баязно да яго ісці.* Номікі Бабіц.

БАЯ′К *м. бат.* Хвоя. *Ростэ баяк.* Дзмітравічы Кам.

БАЯ′РКА *ж. абрад.* Дзяўчына са світы маладой. *У прыданках едуць: ад маладой — баярка, ад маладога — сваця.* Мярэцкія Глыб. *Баяркі ў маладой былі. Хадзілі баяркі па вёсцы і прасілі дзевак, кап прышлі на вянок.* Магуны Паст. *На васэлі ў маладога — швачкі, у маладой — баяркі.* Ракаўскія Швянч.

БАЯ′РЫН *м. абрад.* Хлопец са світы маладога. *Баяркі ў маладой былі, а баярын — у маладога.* Магуны Паст.

БАЯ′ЦЦА, БОЯ′ЦІСА, БОЯ′ТІСЕ *незак.* Адчуваць страх. *Баюсю на двор выходзіць.* Валынцы В.-Дзв. *Я не баюся туды ісці.* Саланое Віл. *Баёмся застаўляць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мы адны баёмся спаць.* Старыя Трокі Трак. *Баімося ісці.* Альхоўцы Лях. *Баімосо атходзіць.* Каўняны Гродз. *Не баімоса.* Вострава Маст. *Я ўжэ нэ бояцімса.* Смаляніца Пруж. ▽ *Ня руш нічога — і ня бойся нікога.* Ахрэмаўцы Брасл. ◇ *Свого тіеня боятісе* — быць баязлівым, напалоханым. Курашэва Чыж.

БА′ЯЦЬ *незак.* Гаварыць, апавядаць, расказваць. *Хто ш мне баяў, як ехала з Ашмяны?* Граўжышкі Ашм. *Як пяеш, то знаеш песню, а як так баеш, то забываеш.* Талейкі Швянч.

БЕ′ГАМ, ВБІЕ′ГОМ *прысл.* Бягом, хутка. *Нада бехчы бегам.* Быстрыца Астр. *Я — бегам туды.* Жылі Іўеў. *Бегам бех.* Тухавічы Лях. *Побіег вбіегом, зара вэрнэцце. Пужэні коня, нэхай вбіегом пудбіжыт.* Курашэва Чыж.

БЕ′ГАЦЬ, БІЕ′ГАТІ *незак. біял.* Пра перыяд палавой актыўнасці ў кароў. *Карова бегае.* Сакаляны Сакол. *Карова біегае, трэба до быка довэсті.* Курашэва Чыж.

БЕ′ГЛЫ *прым.* Дасведчаны. *Беглы чалавек наперат ведая, што будзя.* Жылі Іўеў.

БЕГУНЫ′, БІГУНЫ′ *мн.* 1. *устар.* Драўляныя завесы ў дзвярах. *Раней дзверы былі на бегунох — стаўпячок і камянь унізу, а ўвярху — лапа выхілена, кап верх дзвярэй дзяржаўся.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Падстаўка ў выглядзе загнутых палазоў, на якія апіраюцца ножкі дзіцячага ложка. *Ма-*

*луой, луожэчко на бігунах купіў.* Курашэва Чыж.; *гл.* б я г у́ н.

БЕ'ГЦІ, БЕГЧ, БЕ'ХЦІ, БЕ'ХЧЫ, БЕЧ, БІ'ЕШЧЫ *незак.* 1. Бегчы. *Карова будзя бегці, раўці — за хату бягай!* Альхоўцы Лях. *Спускліва горка, добра з яе бегч.* Пасіене Лудз. *Хацеў бехці ў лес.* Ісерна Слуц. *Хлопчык бёх.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сюда нада беч і туды беч.* Чарняўскія Лудз. *Іті — то помалу, а то біешчы — то вбіегом.* Курашэва Чыж. 2. Цячы. *Быстра рэчка бяжыць.* Жылі Іўеў. 3. Ляцець. *Вееш, мякіна атпадае, а зерно далей бяжыць.* Беняконі Воран.

БЕДА' *гл.* БЯДА'

БЕДАВА'НЯ *н.* Бедаванне. *Што гору паможа тое бедаваня.* Вялікія Баяры Шчуч.

БЕДАВА'ЦЬ *незак.* Наклікаць бяду. *Хаця ты не бядуй хаты.* Ністанішкі Смарг.

БЕ'ДЗЕН *прым.* Бедны. ∇*За што бедзен? — За то, што дурэн.— А за што дурэн? — За то, што бедзен.* Кураполле Паст.

БЕ'ДНА, БЕ'ДНЕ, БЕ'ДНЯ *прысл.* У нястачы, бедна. *Даўней бедна жылі.* Быстрыца Астр. *Калісь бедне жылі. Бедне вышаўшы замуж.* Паляцкішкі Воран. *Жылі бедня-разбедня.* Кураполле Паст.; *параўн.* польск. *biednie* 'тж'.

БЕ'ДНАСЦЬ *ж.* Тое ж, што і б е д н а т а́. *Даўней такая беднасць была.* Азяраны Раг.

БЕДНАТА', БЯДНО'ТА *ж.* Цяжкія ўмовы жыцця, нястача, нізкі эканамічны ўзровень. *Даўней беднота была, цяшка было зажывацца. Аддалі дачку ў беднату. У беднаце жыла.* Саланое Віл. *Мы жылі ў беднаце.* Ністанішкі Смарг. *Даўней бяднота ды труднота была.* Вецярэвічы Пух. *Такая была бяднота, жылі ў бядноця.* Малахоўцы Бар. *Калісьці людзі жылі ў бядноце.* Альхоўка Навагр.

БЕ'ДНЕ, БЕ'ДНЯ *гл.* БЕ'ДНА

БЕ'ДНЫ *прым.* Збяднелы. *Бедна баба адна жыла.* Стральцы Шальч. *Жыць бедным днём — жыць бедна. Бала* [бывала] *казалі: як хто бедна жыў — жыве бедным днём.* Кузьмічы Люб.

БЕЗ, БЕС, БЭС, БЯЗ, БАЗ *прыназ. з род.* Без (пры выражэнні аб'ектных і часавых адносін). *Я без дзеда слыхаў многа.* Саланое Віл. *Мне было сказана: «Бяры кушай бес спроса».* Ахрэмаўцы Брасл. *А як бес пары дастанеш мёт — ён не сцукруецца.* Груздава Паст. *Бэз мужа жые.* Старыя Трокі Трак. *Калісь бэз пілы рабілі будынкі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Бэс камень залівалі* [цэмент]. Жылі Іўеў. *Ляціць баба бэз андарака.* Старыя Смільгіні Воран. *Бэс каровы асталася.* Гемзы Шальч. *Яна бяс памяці блюзня.* Быстрыца Астр. *Вянкі вешаем баз нічога, раньша — на салому ці на газэту.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *bez* 'тж'.

БЕЗБА'ЧЧЫНЫ *прым.* Які не мае бацькі. *Безбаччыны дзеці непамяркоўныя і непаслушныя.* Вецярэвічы Пух.

БЕЗГАЛО'ЎЯ, БЭЗГОЛУО'В'Е *н.* Згуба, няшчасце. *Чаго ты туды пашоў на сваё безгалоўя, цябе там набілі, бес патрэбы накрычалі.* Ністанішкі Смарг. *Іті, біешчы, йіехать, літіеті на бэзголуов'е, в такую погоду собакі с хаты ніхто нэ выжэнэ, а вы хочэтэ іті на безголуов'е.* Курашэва Чыж.

БЕ'ЗДАНЬ *ж.* Бяздонне. *Глядзі, у бездань тую не ўтапісь.* Мішневічы Шум.

БЕЗДЗЕ'ТНЫ *прым.* Бяздзетны, бясплодны. *Ён бездзетны быў, жонка памёршы была.* Альхоўка Навагр.

БЕЗЗЯМЕ'ЛЬНЫ *прым. устар.* Хто не меў сваёй зямлі. *Жыла ў той хаце беззямельна баба.* Альхоўцы Лях.

БЕЗЛЮ'ДНІК *м. асудж.* Нелюдзень. *Безлюднік не любіць людзей.* Жылі Іўеў.

БЕЗМЕ'Н *м.* Бязмен. *Безмен у мене ест.* Новікі Гродз.

БЕЗРО'ДНЫ *прым.* Які не мае радні. *Ён безродны быў.* Граўжышкі Ашм. *Безродна баба жыла.* Малыя Аўцюкі Калінк.

БЕЗУЛА'ДНЫ *прым.* Нерухомы, паралізаваны. *Мая рука як бы мёртвая — безуладная. Яна ляжала, як мяртвая, безуладная.* Груздава Паст.

БЕ'КАС *гл.* БАКА'С

БЕ'ЛА-БЕ'ЛА *прысл.* Надта многа. *Што ля ракі людзей— бела-бела.* Саланое Віл.

БЕЛАВА'ТЫ *прым.* Які мае белае адценне. *Ест белаваты баравік, белавата сураешка, назбірала белаватых сураежак.* Новікі Гродз.

БЕЛА'ВЫ *прым.* Тое ж, што і б е л а в а́ т ы. *Бываюць белавыя камні.* Жылі Іўеў.

БЕЛАЗО'РЫ *прым.* Белавокі. *У белазорага белыя вочы.* Вязынка Маладз.

БЕЛАКО'РЛІВЫ *прым.* З белай карой. *Елка белакорлівая — моцная, устойчывая.* Кураполле Паст.

БЕЛАПАЯ'СЫ *прым.* Пярэсты, у белую палоску. *Белапаясэ парася. Белапаясыя парасята — як паяском патпразаны па палавінцы.* Альхоўцы Лях.

БЕ'ЛАЯ БА'БА *ж. міф.* Русалка. *У нас страшылі дзяцей белай бабай, казалі: «Не ідзі ў жыта, там белая баба».* Рыбчына Віл.

БЕ'ЛАЯ ЕЛЬ *ж. бат.* Белакорая елка. *Белая ель для цымбалаў, яна лёгкая, дае звук добры — рэзанансная ель.* Якубова Рас.

БЕЛІ'ЦІ *незак.* Мыць бялізну. *Вада е цёплая ў печы, буду беліці кофты, хусткі, сарачкі — все выбелю.* Ялова Пруж.

БЕЛІ'ЦЦА *незак.* Выбельвацца на сонцы. *Бе́ліцца палатно — гэто не адзін раз расцеліцца на слонцы.* Грыкені Вільн.

БЕ'ЛКА I *ж.* Ваверка. *Белка на дрэве скачэ.* Пасека Ст.-Дар.; *парайн.* руск. *белка* 'тж'.

БЕ'ЛКА II *ж. анат.* Бяльмо. *Белка зацягаваіць вочы. Ад скуры гадзіны зганяіць белку.* Лайпушкі Ігн.

БЕ'ЛЫ ГРЫБ *м. бат.* Баравік. *Белыя грыбы на бару растуць.* Беразіно Докш.

БЕ'ЛЫ ЛЁН *м.* Лён, вытрыманы пэўны час у вадзе. *Белы лён — вымачаны.* Ахрэмаўцы Брасл., Быстрыца Астр.

БЕ'ЛЫЯ ГУ'СКІ *мн. бат.* Белыя гарлачыкі. *Белыя гускі растуць на вадзе ў затоках.* Кураполле Паст.

БЕЛЬ I *ж.* Белы наліў. *Бель раней за ўсе яблыкі паспеваіць.* Валынцы В.-Дзв.

БЕЛЬ II *ж.* 1. Белая сукенка, белае адзенне. *Дзяўчына пашла ў белі.* Жылі Іўеў. 2. Белыя баваўняныя ніткі. *Купіла белі і ткала па лёну насоў.* Мачаск Бярэз.

БЕЛЬ III *ж.* Балота, парослае падвеем. *Бель — балото такоё, дзе расце трава — як атцвіце, патом выплывая і, што вата.* Малахоўцы Бар.

БЕЛЬ IV *ж.* Слой драўніны, што знаходзіцца паміж стрыжнем і карою. *У дрэве пат карою — бель.* Воўкуш Ліпск.

БЕ'ЛЬМЫ *мн. экспр.* Вочы. *Чаго ты бельмы павыварочваў?* Асавец Віл.

БЕЛЮГА' *ж.* Белаватая зямля. *Там белюга, слаба родзіць.* Малькуны Ігн. *Белюга — як прызнавалі — благая зямля.* Крэва Смарг. *Там зімля белюга — сівая зімля.* Індра Красл.

БЕЛЮ'ТКО *прысл.* Бялютка. *Палатно выбеліцца белютко.* Грыкені Вільн.

БЕЛЯ'К *м.* Тое ж, што і б а́ п к а III. *Назбірала адных белякоў.* Старыя Смільгіні Воран.

БЕЛЯ'НЫ *дзеепрым.* Пабелены. *Беляна хата.* Альхоўка Навагр.

БЕЛЯХЦЕ'ЦЬ *незак.* Бялець. *Пучкі на дрэве беляхцяць — будзе цвету многа.* Мсцібава Ваўк. *Е, Агата, Гата, таш ты палатна не забрала, беляхціць.* Баброўнікі Гарад.

БЕЛЯ'ЦЬ *незак.* Бяліць. *Сцены, вокна беляла, печ вапнай буду белянь.* Альхоўка Навагр.

БЕНДЗЮГА'ЦЦА *незак. экспр.* Лаяцца. *Яна бендзюгаецца, як мушчына, плахія слава гаворыць, бес сораму.* Вецярэвічы Пух.

БЕРАГУ'ЛЬКА *ж. заал.* Берагавая ластаўка. *Берагулькі норкі капаюць над вадой.* Дакудава Лід.

БЕРАГУ'ЛЯ *ж.* Тое ж, што і б е р а г у́ л ь к а. *Берагулі ля вады жывуць, гнёзды іх там.* Мачаск Бярэз.

БЕРАЖО'НЫ *прым.* Асцярожны. ∇ *Беражонага і бох беражэць.* Ахрэмаўцы Брасл.

БЕРАЗА'К *м.* Тое ж, што і б е р а з н я́ к. *Беразак засеў*

*малады. Беразак, дзе грыбэ растуць: валнушкі, мядзведзікі, лосікі, плюсы.* Кузьмічы Люб.

БЕРАЗІНА′ *ж.* Бяроза. *Венічкам з беразінэ параліся.* Новікі Гродз.

БЕРАЗНЯ′К, БЭРЭЗНЯ′К *зб. м.* Бярэзнік. *У беразняк карова пашла.* Чычалі Швянч. *В бэрэзнякові бэткі ростут.* Курашэва Чыж.

БЕ′РАЛА *гл.* БЯ′РЛА

БЕРАМЯ′КА *ж.* Вялікае бярэма. *Берамяка сена, яна награбе берамяку сена і нясе.* Азяраны Раг.

БЕ′РАСТ *м. бат.* Ільма. *Грап і бераст — падобны.* Альхоўцы Лях. *Быў лясок — расла альшына, бераст рос — пахожы на дуп.* Стральцы Гродз.

БЕРАСЦЕ′НЬ *м.* Збанок, аплецены бярostай. *Гліняны берасцень бяз ручкі.* Магуны Паст.

БЕРАСЦЯ′НКА *ж.* Рог, драўляная труба, абкручаная бярostай, пастухова труба. *Берасцянка на метр і больш даўжыні, к канцу — шырэй, к губе — тонкая, бярostай абкладаюць.* Якубова Рас.

БЕ′РАХ *м.* 1. Бераг вадаёма. *Берах ракі бывая высокі і аслонны, спрытны.* Рыбчына Віл. 2. Ускраіна, край. *Валы прышлі да берагу* [поля]. *Гарбузы, бручку каля берагу* [градкі] *садзіш.* Беняконі Воран. *Станцыя была з берагу мястэчка.* Ракаўскія Швянч. *Вышлі на берах лесу.* Ухвала Круп. *Я берах згубіла ў лясу і не знаю, у каторы бок ісці.* Кураполле Паст. *Ня ў той берах пашла.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Край паверхні ў мэблі. *Пасадзіў дзіця на беразе лавы — упадзе.* Альхоўцы Лях. *Берагі даскі нада счасаць.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Пруг у матэрыяле. *Нітка парвалася на самум беразя палатна.* Ахрэмаўцы Брасл. *Берах адзін і берах другі ў палатне.* Ракаўскія Швянч.

БЕРАХЧЫ′ *незак.* Ахоўваць, даглядаць, клапаціцца. *Мы яе* [дачку] *беражэм, як око, і будзем берахчы.* Мсцібава Ваўк. *Ён рады быў, як дзевачка нарадзілася, берaглі яе.* Альхоўцы Лях. ∇ *Хітры — не дурны, сам сябе берaге.* Малыя Аўцюкі Калінк.

БЕРАХЧЫ′СЯ *незак.* Асцерагацца. *Каторы берагецца — і будзіць жыць.* Ахрэмаўцы Брасл.

БЕ′РВА, БЭ′РВА *ж.* 1. Плывучае бервяно. *Берва бывае на рэке плыве, берва хіцкая бывая.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Матэрыял для машчэння, бярвенне. *Кладкі дзелаюць з бервы.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Кладка з бярвення, памост праз балота. *Церас балото клалі берву з браўна, з дзерава, мо кілометр пакладзена берва. І церас канаву паложана берва, паміз руб ляжалі бервы. Ішоў па бервах. Ты палажыў берву па вуліцы, я некалі ўпала з бервы — моцна выцялася.* Дзяніскавічы Ганц. *Поставіў на грудочку хату, а каб до ее дойці —*

*клаў бэрву.* Хатынічы Ганц. 4. *перан.* Цяжкае перажыванне, скруха, няшчасце. *Як каму якая прытуга прышла — гора ці што плохо, кажуць: «Вот устрэціла берва!» — бо берва хіцкая — хіцнецца — і чалавек у воду.* Малыя Аўцюкі Калінк.

БЕРВЯНЁ *зб. н.* Бярвенне. *Пагрузілі бервянё на машыну.* Быстрыца Астр.

БЕРВЯНКО′ *н. памянш. да* б е р в я н о́. *Бервянко паложыць. За тым бервянком ляжыць.* Грыкені Вільн.

БЕРВЯНО′ *н.* Ачышчаны ад галля ствол тоўстага дрэва. *Бервяно на плечы і нясе.* Паляцкішкі Воран. *Тоўстае бервяно ляжыць.* Бенякові Воран. *Як будавалі, то палажылі чатыры камені і лажылі бервяно.* Грыкені Вільн. *Бярвёны павязлі.* Талейкі Швянч. *Бярвёна падвозіў.* Жылі Іўеў.

БЕРВЯНУ′ШКА *н. памянш.* Тое ж, што і б е р в я н к о́. *Бервянушкі насіў з поля, хлеў пастроіў.* Мішневічы Шум.

БЕ′РДА *гл.* БЁРДА

БЕ′РДЗІЦЫ *мн.* Планачкі, якімі замацоўваюць трысцё ў бёрдзе. *Паламаліся бердзіцы.* Альхоўцы Лях.

БЕ′РКАВЕЦ, БЕ′РКАВІЦ *м.* Адзінка вымярэння вагі фуражу. *Сена апрэдзеляецца на беркаўцы, беркавец — дзесяць пудоў. Накасіў пяць беркаўцаў.* Кураполле Паст. *Даў беркавіц сена.* Валынцы, Лісна В.-Дзв.; *парайн.* польск. *bierkowiec* 'тж'.

БЕ′РЛА *гл.* БЯ′РЛА

БЕ′РЛІЦА *ж.* 1. Тое ж, што і б я́ р л а. *Хлеб з берліцай елі.* Саланое Віл. 2. Хлеб з нявеянага зерня з дамешкай льняной мякіны. *Даўней нявеяны хлеб з мякінай лянай называлі берліца. Хлеб з берліцы пяклі, бульбачкі ўкінуць.* Саланое Віл.

БЕРНО′ *гл.* БЯРНО′

БЕ′РЦА *н.* Кручок для вязання сеткі. *Берца выразаюць з дзерава сець вязаць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

БЕРЭ′МЯ *гл.* БЯРЭ′МА

БЕС I *гл.* БЕЗ

БЕС II *м.* Нячысцік. ∇ *Вялікі, як лес, дурны, як бес.* Чычалі Швянч. *Беса яна там аджывець!* Ёдлавічы Брасл.

БЕСПАМЕ′НТНЫ, БЕСПА′МЯТНЫ *прым.* Бяспамятны. *Беспаментны чалавек, як стары.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ты сама беспамятна стала.* Альхоўцы Лях.

БЕСПЛА′ТНЕ, БЕСПЛА′ТНЯ, БІСПЛА′ТНЯ *прысл.* Бясплатна. *Бесплатне везлі ў таварнякох людзей.* Вецярэвічы Пух. *Бесплатня аддаў.* Граўжышкі Ашм. *Цяпер бісплатня лечаць.* Саланое Віл.

БЕСХЛЕ′БІЦА *ж.* Бясхлебіца. *Даўней казалі: «Дзе баб многа — там бесхлебіца».* Кураполле Паст.

БЕ′ХЦІ *гл.* БЕ′ГЦІ

БЕ′ХЧЫ *гл.* БЕ′ГЦІ

БЕЧ *гл.* БЕ'ГЦІ

БЁРДА, БЕ'РДА, БЭ'РДО *н.*, БЭ'РДА *мн.* Бёрда. *Бёрда было.* Грыкені, Швэды Вільн. *У набільніцах бёрда.* Магуны Паст. *Тросця ў бёрдах.* Быстрыца Астр. *Бёрда ў кроснах.* Альхоўцы Лях. *Бёрды ў кроснах.* Навікі Лудз. *Берда есь.* Лоск Валож. *Берда ўложана ў набіліцы.* Дакудава Лід. *Берда ў кроснах — як грэбень.* Асавец Віл. *Перш кідаюць у берда, а тады навіваюць. Берда па-даўнейшаму с клёну рабілі.* Саланое Віл. *Ёсць рэткія бэрда на ходнікі.* Старыя Трокі Трак. *Ніжаць бэрды.* Новыя Мацалі Варэн. *Ёсць бэрда ткаць.* Беняконі Воран. *Куонь худы, як бэрдо.* Курашэва Чыж. *В набылыці бэрдо вставляють.* Сіманавічы Драг.

БЁРДАЧНІК *м.* Майстар, які рабіў бёрды. *Бёрдачнік бёрда мне зрабіў.* Кураполле Паст.

БЁРДАШНІК *м.* Тое ж, што і б ё р д а ч н і к. *Бёрдашнік бёрды робіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Даўней ідзеш на кірмаш, там бёрдашнік прывязе бёрды прадаваць.* Азяраны Раг.

БЖУХ *м.* Жывот, бруха. *Бжух баліць.* Груздава Паст. *Я мелася з'есці, але кіну, бо будзя бжух пад нос.* Граўжышкі Ашм. ∇ *Муха не розэрве бжуха.* Жылі Іўеў.; *параўн.* польск. *brzuch* 'тж'.

БЗДЗЮХ *м. бат.* Порхаўка. *Курыць, як бздзюх.* Каўняны Гродз.

БЗДЗЮ'ХА *ж. заал.* Лясны, палявы клоп. *Бздзюха ў лесі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бздзюха — ванючы клоп.* Лапічы Асіп. *Бздзюха ваняя, аж заваняя рука і рот.* Малыя Аўцюкі Калінк.

БЗДЗЮ'ЧКА, БЗДЗЮ'ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і б з д з ю х. *Бздзючка — грып такі.* Кураполле Паст. *Бздзюшка вырастае белая, а патом унутры — пыл. Як дасі нагой — з яго такі пыл ляціць.* Дакудава Лід. *Бздзюшка — з яе дым ідзе.* Новікі Гродз. 2. *перан.* Газоўка, маленькая лямпачка без шкла. Крэва Смарг.

БЗДУХО'ВІНА *ж.* Дрыгвяністае балота. *Бздуховіна — здутае балота, як гара, гразкае.* Пацаўшчына Дзятл.

БЗДЫР *м. заал.* Страказа. *Злавіў бздыра́. Бздыры лятаюць каля ракі.* Рудня Астравітая Чэрв.

БЗДЫ'ХАЦЬ *незак.* Дзьмухаць. *Не бздыхай ей тут.* Пацаўшчына Дзятл.

БЗЫ'КАЛКІ *мн.* У выразе: *У бзыкалкі пабегчы* — уцякаць ад мух. *Пазалупалі каровы хвасты і ў бзыкалкі пабеглі.* Пасека Ст.-Дар.

БЗЫ'КАЦЬ *незак.* Звінець, гусці. *Як наляціць камароў — каля вух бзыкаюць.* Груздава Паст.

БЗЫ'КНУТІ *зак.* Хутка згарэць. *Солома оно бзыкнэ і ўжэ нэ маш.* Курашэва Чыж.

БЗЫ'КНУЦЬ *зак.* Зазвінець, загусці. *Мне трэба лехчы,*

*кап і муха не бзыкнула — тады засну.* Вецярэвічы Пух. *Бзыкнула пчала.* Граўжышкі Ашм.

БІБУ'ЛА *ж.* Каляровая дэкаратыўная папера. *Парэт с'ятом трэба бібулы купіті і вінкі на образы поробіті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *bibuła* 'прамакальная папера, прамакатка'.

БІ'ГМА *гл.* БУО'ГМЭ

БІГУ'НКА *ж. мед.* Панос. *Так звут хворобу, як жывуот болiт і на двуор гонiт.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *biegunka* 'тж'.

БІГУНЫ' *гл.* БЕГУНЫ'

БІДУ'ЛЬКА *ж. ласк.* Небарака, нябога, гаротнік (пераважна пра дзіця). *Бідулька, чогось ты плачэш?* Курашэва Чыж.

БІ'ЕГАЦІ *гл.* БЕ'ГАЦЬ

БІ'ЕШЧЫ *гл.* БЕ'ГЦІ

БІЖДЖА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і б з ы к а ц ь. *Мухі біжджаць у хаце, не даюць заснуць. І гілі біжджаць. Камар ляціць і біжджыць.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *bỹgzti* 'тж'.

БІЖМАВА'ННЕ, БІЖМУВА'ННЕ *н. рэліг.* Касцельны абрад мірапамазання. *Раньшэ на біжмавання ездзілі на конях. Послі біжмування хадзілі.* Пасіене Лудз.

БІЖМАВА'ЦЦА *незак. рэліг.* Прымаць абрад мірапамазання. *Палякі ездзілі біжмавацца.* Ухвала Круп.; *парайн.* польск. *bierzmować* 'тж'.

БІЖМАВА'ЦЬ *незак. перан.* Даваць мянушкі. *Плоская карова — перахлябістая і ўсяк яе біжмуюць.* Жодзішкі Смарг.

БІ'ЗА *м.* і *ж. зневаж.* Бедны чалавек, галяк. *Біза ты! Ты голая, як біза.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* літ. *bìzas* 'галяк, бядняк, збяднелы'.

БІ'ЗАЛЬ *м.* Тое ж, што і б і з а. *Хто голы, той бізаль называецца.* Старыя Трокі Трак.

БІ'ЗАЎКА I, БЫ'ЗАЎКА, БІ'ЗГАЎКА *ж. заал.* Гіз. *Бізайка кусаіцца — коні баяцца.* Малькуны Ігн. *Бізайка садзіць гніды, як сядзіць на каня, карову, а з чарвяка бізайка выходзіць. Авадні, бізайкі не даюць пакою, коні, каровы баяцца бізавак.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бізайкі лётаюць і кусаюць коні.* Лісна В.-Дзв. *Каровы лётаюць ад гэтых бызавак.* Скрудалена Даўг. *Бызайкі кусаюцца.* Ёдлавічы Брасл. *Бызайкі карову сякуць.* Валынцы В.-Дзв. *Бызайка як зазвініць, яе скот баіцца.* Лісна В.-Дзв. *Бызайка рабенькая, ой, коні баяцца.* Гемзы Шальч. *Бізгайка рабенькая, нападобіе асвы: маленькая, кусаецца, ззадзі хабаток.* Пасіене Лудз.; *парайн.* літ. *byzdėlė* 'тж'.

БІ'ЗАЎКА II *ж. перан.* Тое ж, што і б і з а. *Баба голая — бізайка.* Старыя Трокі Трак.

БІ'ЗДРЫС *м.*, БІ'ЗДРА *ж.* Бясхвосты, бясхвостая. *Кот — біздрыс, біздра карова.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *bizdrỹs* 'тж' (ЛТ, 166).

БІЗУ'Н *м.* Пуга, бізун. *Бізун — бічавіска і біч.* Чычалі Швянч. *Звіў вірайчаны бізун, ёсць і раменны бізун.* Ахрэмаўцы Брасл. *Узяў бізун і давай мясіць сваіх братоў.* Дзевятні Валож.

БІКЛА'ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і б а р ы́ л к а I. *Біклашка, у ёй два дзянцы* [дны], *ваду бралі на поля.* Рудня Астравітая Чэрв. *Налі вады ў біклашку.* Глівін Барыс. *Патом бярэ ў біклашку гарэлкі налівае.* Глебавічы Мін. 2. Тое ж, што і б а к л а́ ш к а. 2. *Біклашка — салдацкая фляшка.* Жодзішкі Смарг.

БІ'ЛА I, БІ'ЛО *н.* 1. Жэрдка, прымацаваная да столі для падвешвання калыскі. *Ля печы стаяў слуп і да слупа да сцяны прыкраплялася жэртка — называлі біла.* Вецярэвічы Пух. *Біла — жэрдка ад стаўпа да сцяны, за біла чаплялі люльку ці гушкалку.* Рудня Астравітая Чэрв. *За біло калыхалі. Вазьмі за біло і калышы. З ляшчыны біло гнулі з гарэшніка.* Баброўнікі Гарад. 2. Бакавыя планкі для замацавання балясак у драбіне воза. *У драбіне верхняе і ніжняе біла.* Вецярэвічы Пух. 3. Спінка ў ложку. *Біло ў лошку, дзе падушка ляжыць.* Псярцы Шчуч. *Выцяўся аб біло лошка.* Альхоўцы Лях. *У лошку е біло.* Дзяніскавічы Ганц. 4. Верхняя рухомая частка церніцы. *Біла ў мяльніцы, шчэлкі павыбіваныя ў біля.* Мярэцкія Глыб. 5. Баёк у званку. *Біла ў званках у сярэдзіне.* Беразіно Докш. 6. Набільніцы. *Вылезла трасцінка з берда, паламалосё біло, німа як ткаць. Дзеравяным білом дабіваецца уток.* Баброўнікі Гарад. 7. *перан. асудж.* Гультай, абібок. *Біла той, хто ня хочыць робіць.* Лісна В.-Дзв.

БІ'ЛА II *н.* Пасудзіна, якой насыпалі збожжа. *Біла — дліннае з жэсці, большае, як вядро, чэрпаеш з кучы дабро і ў мяхі сыпеш.* Мішневічы Шум.

БІЛЕ'Т *м. устар.* Дазвол у пісьмовай форме на права збірання грыбоў, ягад у панскім лесе. *Некалі за Польшчай трэба было білет браць — як німа білета, гаёвы зловіць, грыбы і ягады адбярэ.* Бакшты Іўеў.

БІ'ЛІЦЫ *мн.* Тое ж, што і б і л а I, 2. *Дзве біліцы ў драбінах* [воза] — *верхняя і ніжняя.* Рудня Астравітая Чэрв.

БІ'ЛКА *ж.* Тое ж, што і б і л а I, 2. *У драбінах верхняя білка і ніжняя білка, куды ляскі ўстаўляюць.* Рудня Астравітая Чэрв.

БІЛО'К *гл.* БЯЛО'К

БІЛУ'ХІ толькі *мн. бат.* Траста мужчынскіх асобін канапель, плоскуні. *Нада білухі з канапель выбраць і паслаць.* Мярэцкія Глыб.; *гл.* ДАБМ, карта № 283.

БІЛЬЗІ'Н *м.* Бензін. *Ён більзін вазіў.* Ёдлавічы Брасл.

БІЛЬМА'ТЫ *прым.* Вірлавокі. *Більматы той, у каго вочы вялікія.* Саланое Віл.

БІЛЯ'К *м. бат.* Шампіньён. *Білякі пад нізом ружовінькія, растуць па выганах, іх ядуць, ёсць пад нізом чорныя, тых не ядуць. Як адзін — то біляк.* Мярэцкія Глыб.

БІ'МБЭР *м.* Гарэлка хатняга вырабу, самагонка. *Тэпэр за бімбэр, як хтось жэнэ, то муоцно карают.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *bimber* 'тж'.

БІ'НДА *ж. зневаж.* Гультаяватая жанчына. *Бінда — гэта лянівая баба.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *biñdė* 'гультай'.

БІНДА'С *м.* Цяслярская сякера. *Біндас — тапор адбіваць, адкалаваць ад броўнаў аскалёпкі.* Мярэцкія Глыб. *Біндас — тапор тоўсты. Біндасом адбіваюць трэскі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Біндас — длінная сякера.* Жодзішкі Смарг. < ням. *Bindaxt* 'тж'.

БІ'НДАЦЦА *незак.* Матляцца, целяпацца. *Той пузыр з осамі сівы-сівы, што папер, быў павуценям зачэплены за сук грушэ і біндаўся-біндаўся.* Кіралі Шчуч.

БІНДЖА'К, БІНЧА'К *м.* Пінжак. *Бінджак надзеў і пашоў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бінчак летні купляюць.* Альхоўцы Лях.

БІНЮ'К *м.* Страўнік жывёлы. *Бінюк у свіні, у каровы, авечкі — у каждага жывёла. У каровы бінюк травою забіўса.* Кузьмічы Люб.

БІРАГАВУ'ШКА *ж.* Тое ж, што і б е р а г у́ л ь к а. *Так завуць ластаўку, што гнёзды робіць у беразе ракі.* Кураполле Паст.

БІ'РЗГЕЛА *ж. заал.* Від авадня. *Бірзгела кусаіцця.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *birzgėlė̃* 'тж'.

БІ'РКА *ж.* 1. Драўляны гузік. *Бірка — гузік з дрэва, які ўшывалі, нітка пападала ў рысток, ножам выразаны.* Груздава Паст. *Біркі ў кажух ушывалі.* Крэва Смарг. *З дзерава рабіліся біркі доўганькія.* Малахоўцы Бар. 2. Дошчачка з умоўным абазначэннем, надпісам. *Да айчын, што вырабляюць, зазначыць трэба — сколькі іх. Усё гэта зарэжа на палачку — і біркай звалі.* Галубы Маст. *Як кожы здавалі, да кожы бірку прычэплювалі.* Валынцы В.-Дзв.

БІ'РТАЧКА *ж.* 1. *памянш.* да б і р к а 1. *Біртачкі прышыла да штаноў.* Кураполле Паст. 2. Скураны акравак. Кураполле Паст.

БІРУ'ЛІ *мн.* Тое ж, што і б а м б у л і. *Как авца бежыць, ударающца адна аб адну бірулі, што дзіравяшачкамі бырбыр. Как ў воўне многа біруляў, зацягнуць у возера, вымыюць, высыхнець і стрыгуць.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* літ. *birùlis* 'круглы маленькі прадмет'.

БІРУ'ЛЬКА *ж.* 1. Тое ж, што і б і р к а 1. *Бірулькі да аўчын чаплялі.* Тухавічы Лях. *Бірулькі рабілі з дзерава зашпіліць штаны.* Дакудава Лід. 2. Адвольна ссуканая нітка, зашмарга на крутых нітках. *Бірулькі скручваюцца на нітцы.* Грыкені Вільн.

БІСАНО'Ш *прысл.* Басанож. *А ён бісанош абуў боты.* Ахрэмаўцы Брасл.

БІСПЛА'ТНЯ *гл.* БЕСПЛА'ТНЕ

БІ'ТАЯ ПЕЧ *ж.* Печ з гліны. *Даўней была бітая печ з гліны — дзесяць чалавек б'юць печ калодкамі.* Ухвала Круп.

БІТВА' *ж.* 1. Бітва. *Тут бітва была з немцамі.* Валынцы В.-Дзв., Лоск Валож. *Вальчылі ў бітве, у вайне.* Быстрыца Астр. 2. *перан.* Бойка. *Гэтай бітвы не трэба.* Судэрва Вільн. *У нас яшчэ не даходзіла да бітвы.* Саланое Віл. *Зрабілі бітву, пабілі яго.* Новікі Гродз. *У нашай вёсцы бітвэ німа.* Кіралі Шчуч.

БІТКІ' *мн. абрад.* Гульня на вялікдзень. *Яйкі фарбавалі і ў біткі біліся на вялікадня.* Саланое Віл.

БІТУНО'ВЫ *прым.* Бетонны. *У нас студня бітунова.* Мсцібава Ваўк.

БІТУ'ШЧЫ *дзеепрым.* Бойкі, заўзяты. *Гэты гусяк бітушчы — хоць маленькі, але б'е большых, як учэпіцца, то большага перакіня.* Кіралі Шчуч.

БІ'ТЫ *дзеепрым.* Пакараны, біты. *Даўней дзеці бітыя былі.* Ахрэмаўцы Брасл. ∇ *Біты небітага вязець.* Кураполле Паст. *За бітага дзесяць небітых даюць — і то не беруць.* Ахрэмаўцы Брасл.

БІ'ЦЦА, БІ'ЦІСА *незак.* 1. Змагацца, весці барацьбу. *Гэта ўрочышча, дзе парцізаны біліся з немцамі.* Ухвала Круп. 2. Біцца. *Хлопцы часта б'юцца.* Бакшты Іўеў. *Я не біцімса с тобою. Не бэтэса.* Смаляніца Пруж. 3. Брыкацца. *Корова ногамі б'ецца.* Смаляніца Пруж. 4. *анат.* Біцца (пра сэрца). *Я старая — ужэ слабо сэрца б'ецца.* Малыя Аўцюкі Калінк. 5. *экспр.* Імкнуцца, дабівацца. *Цяпер усе з вёскі ў горад б'юцца.* Вялікі Лес Круп. ∇ *З сынам біся-дзярыся ды на печку грабіся. А з зяцем біся-дзярыся і за парох дзяржыся. Свой са сваім біся-сварыся, а чужы не мешайся —вінаватым астанешся.* Кураполле Паст.

БІЦЬ, БЫ'ТЫ *незак.* 1. Разбіваць цэлае на часткі. *Ён б'ець дровы.* Асавец Віл. *Даўбешка дровы біць. Мы б'ём дровы на калоццы.* Якубова Рас. 2. Абіваць, абмалочваць. *Біч у цэпе, чым білі па снапах.* Кемялішкі Астр. *Лён білі пранікам.* Рыбчына Віл. *Б'емо зверху лён.* Старыя Смільгіні Воран. *Лён вырвала, посля ныдылі будымо быты.* Сіманавічы Драг. 3. Перыць. *На рацэ бяльё білі пранікам.* Стары Свержань Стаўб. 4. Кляпаць, рабіць вастрэйшым (пра касу). *Касу будзіць біць і пойдзе касіць.* Валынцы В.-Дзв. *Кляўцом жорна б'юць, нада*

*дробненька набіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 5. Збіваць плыты. *Урассыпную лес гналі да Бярозы, а тады лавілі і білі плыты.* Мсцібава Ваўк. 6. Рабіць з гліны печ. *Білі з гліны малатамі печ.* Быстрыца Астр., Магуны Паст., Старыя Смільгіні Воран. *Дайней не было цэглы, то печы з гліны білі: гліну мясілі, клалі ў кучы, выбівалі дзірку саганэ сунуць, пелясць, прыпяк.* Кіралі Шчуч. 7. Пластаваць. *Сена ў валы граблі, а тады пласты білі і ў кучу насілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нада пласты біць і ў капёшку насіць, а раней у кучы складалі.* Валынцы В.-Дзв. *Трэба пласты біць і ў копкі насіць.* Старыя Смільгіні Воран. *Сена білі ў пласты.* Сапоцкіна Гродз. *Біў пластэ сена.* Пацаўшчына Дзятл. 8. Валіць. *Валенкі б'юць з воўны.* Вецярэвічы Пух. *Валенкі білі.* Дакудава Лід. *Былы валінкы в Дырывнуй, і в Сымоновыч былы.* Сіманавічы Драг. 9. *кулін.* Спецыяльнай прыладай ці лыжкай збіваць масла. *Будзем масла біць.* Судэрва Вільн. *У бойках драўляных білі масла.* Старыя Трокі Трак. *Мы не б'ем масло.* Вострава Маст. *Білі бапку з грэцкай мукі.* Граўжышкі Ашм. *Будымо масло быты.* Сіманавічы Драг. 10. Гнаць, выціскаць. *Алей білі із сем'я.* Дзяніскавічы Ганц. *Білі алей з усяго: і з рапаку, канапляны білі.* Масілавічы Сл. *Голію с сімня былы.* Сіманавічы Драг. 11. Прычыняць фізічны боль. *А яна за тое дзіця — і давай біць.* Паляцкішкі Воран. *Як гэта біць яга?* Груздава Паст. *Я і біла яга.* Саланое Віл. *Дзядука не моцна білі.* Грыкені Вільн. 12. Забіваць. *Той чалавек сабакі б'е і скуры здымае.* Альхоўцы Лях. 13. *метэар.* Біць. *Пярун б'е.* Стральцы Гродз. 14. *мед.* Праяўляцца ў розных сімптомах (пра хваробу). *Стаў яе біць прыпадак.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яго кашаль б'е.* Альхоўка Навагр. *Мяне ікаўка б'е.* Мсцібава Ваўк. *Яе на раны біла, гузэ пат пахамі сёлета папрарывалі.* Вецярэвічы Пух. 15. Быць падобным на каго-н. *Яна на нас трошачку б'ець.* Саланое Віл. 16. Дзяліць зямельныя ўчасткі. *Білі* [зямлю] *на хутары.* Беняконі Воран. ∇ *Нежанаты б'е жонку, а бяздзетны — дзяцей.* Рыбчына Віл.

БІЧ *м.* 1. Ударная частка цэпа. *У цэпе біч, ім білі па снапах.* Грыкені Вільн., Чычалі Швянч. *У цэпе біч, чым білі па снапах.* Кемялішкі Астр. *Біч прывязаны да цапільна.* Вялікія Баяры Шчуч. *Біч у цэпу.* Малахоўцы Бар. *Біч звязвае вужык, лятае біч. Некалі бічы продалі.* Альхоўцы Лях.; *гл.* ДАБМ, карта № 258. 2. Раменная ці вяровачная частка пугі. *Вяроўка ці рамень у пугі — біч.* Старыя Трокі Трак. 3. Бізун. *Біч, а не — так кнут, тое самае.* Быстрыца Астр.

БІЧАВА' *ж. плыт.* Тоўстая вяроўка, ліна. *Бічава прывязвалася да сахі, якой задзержывалі плыт на беразе ракі.* Мсцібава Ваўк.

БІЧАВА'ЦЬ *незак.* Каласаваць, абмалочваць. *Нада ячмень бічаваць. Ячмень бічуюць, і ўсы гэты адлятаюць.* Ахрэ-

маўцы Брасл. *Ячмень бічавалі цапамі і варочалі граблямі.* Азяраны Раг.

БІЧАВІ'К *гл.* БІЧАЎНІ'К

БІЧАВІ'СКА *н.* і *ж.* 1. Пугаўё. *Бізун — бічавіска і біч.* Чычалі Швянч., Старыя Трокі Трак. *Бічавіска ў кнуту, бічавіскай я яму дам.* Быстрыца Астр. 2. Цапільна. *Бічавіска ў цапу.* Грыкені Вільн.

БІЧАЎНІ'К, БІЧАВІ'К *м.* 1. Прыдарожная паласа, абочына. *Бічаўнік адводзіцца каля праежджай дарогі — пяць—дзесяць метраў шырыні з двух старон, гэта дарожная зімля, косюць дарожнікі. Я апкасіў бічаўнік каля бальшака, ён не стаптаны. Ён бічавік скасіў і награбіў сена добры вос.* Валынцы В.-Дзв. 2. Тэрыторыя абапал ракі. *Бічавік адвадзіўся каля ракі — пятнаццаць аршын шырыні, каб заворваць ганкі, як гналі лес.* Валынцы В.-Дзв.

БІЧО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і б і ч 1. *Цапамі малацілі, а чым білі — бічоўка.* Магуны, Груздава Паст., Саланое Віл. *Почапка — у бічоўцы цэпа.* Мярэцкія Глыб.

БІЧУ'К *м.* Тое ж, што і б і ч 1. *Быў цэп, у ім — цапілна і бічук.* Азяраны Раг.

БІЧЫ' *мн.* Назва жыхароў, што выраблялі бічы да цэпа. Альхоўцы Лях.

БІ'ЧЫК *м. памянш.* да б і ч 3. *Ён засек бічыкам матыля.* Паляцкішкі Воран.

БІЧЭ'ЎНІК, БЫЧОВНЫ'К, БЫЧУВНЭ'КЬ *м.* 1. Прыазёрная паласа. *Бічэ́ўнік каля возера, некалі людзі касілі пану, абраблялі.* Магуны Паст. 2. Насыпаны бераг, насып на беразе канавы, сажалкі. *Бычовныка́ обкосыв коло канала.* Сіманавічы Драг. *Бычувнэ́кь коло сажолкэ.* Радастаў Драг. *гл.* б і ч а ў н і к.

БІЯ'К *м.* 1. Тое ж, што і б і ч 1. *Біяк — кароткая палка ў цапу, гужом прывязана.* Крэва Смарг. *У цэпе біяк і цапілно. Біяком даеш і даеш па снапу.* Граўжышкі Ашм. *Біяк до ціпільня прывэзаны ужуовкою.* Курашэва Чыж.; *гл.* ДАБМ, карта № 258. 2. Кій, палка. *На мушчын трэба добры біяк. Узяў смаглы біяк, кап біць яго* [гада], *а ён лезя на драбіны.* Крэва Смарг.

БЛА'ГА, БЛА'ГО *прысл.* 1. Бедна, у нястачы. *Праўда, ён шыў боты і я яму памагала, але ш усіроўна было блага жыць.* Пронькі Мядз. *Мы благо жылі.* Смаляніца Пруж. *Мне жылося ні блага.* Груздава Паст. 2. Нясытна, слаба. *Мы сёгоні благо обедалі.* Смаляніца Пруж. 3. Дрэнна. *Ён блага робіць.* Грыкені Вільн. *Благо мыла подлогу.* Смаляніца Пруж. *Ён такі — каб блага зрабіць каму.* Груздава Паст. 4. Моташна, кепска. *Мне блага пад грудзьмі.* Саланое Віл. 5. Нявыгадна. *Натта блага з жывёлай у нас.* Крэва Смарг. 6. Добра. *Пажар быў, але блага абашлося.* Індра Красл.

БЛАГАВА'ЦЬ *незак. безас.* Пуставаць. *Зямля благавала, не засеяна была.* Малыя Аўцюкі Калінк.

БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ, БЛАГАВЕ'ШЧА *н.*, БЛАГАВЕ'ШЧАНА *ж. рэліг.* Хрысціянскае свята, якое адзначаецца 25 сакавіка ст. ст. *На благавешчанне ляпёшкі пяклі — буславу лапку.* Галубы Маст. *На благавешча бацян прыляціць абязацельна.* Кіралі Шчуч. *Плот да благавешчаны не гарадзілі, кап засухі не было.* Вецярэвічы Пух.

БЛАГАЕ'ЖЛІВЫ *прым.* Пераборлівы. *Наш бораў благаежлівы. І чалавек можа быць благаежлівы — яму ўсё не ў лат.* Лісна В.-Дзв.

БЛАГАТА' *ж.* 1. Зло, нядобры ўчынак. *Сівы Янук жыў, ні ён каго скляў, ні ён благату каму зрабіў. Добры хазяін благаты ня зробіць. А ёсць людзі, што благату заўсягды робяць.* Груздава Паст. 2. Благі, злы чалавек. *Не прыму благату ў хату.* Бакшты Іўеў. *Пакінулі благату гэту* [свякроў] *мне.* Навасёлкі Свісл. 3. Гора, нядоля. *Каму яна дабрату, благату раскажыць?* Саланое Віл. 4. Дрэнны настрой, цяжкія перажыванні. *Як зойдзіць благата ў галаву — людзі заканчваюць жысць самагупствам.* Кураполле Паст. 5. Тое, што не мае каштоўнасці, няякаснае. *Благата, а ня вэлна!* Альхоўка Навагр. *Сама благата, калі першы рас чэшуць.* Дакудава Лід. ▽ *Добраму чалавечку добра і ў запечку, а благаце плоха і на куце.* Багушэвічы Бярэз.

БЛАГЕ'НАЧКІ *прым.* Худзенькі. *А яна благеначка.* Старыя Смільгіні Воран.

БЛАГЕ'НЬКІ *прым.* 1. Худзенькі, слабенькі. *Благенькая дзіця.* Дакудава Лід. *Ён быў тоненькі, благенькі.* Тухавічы Лях. *Я была благенькая-благенькая.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Маленькі, змарнелы. *Усе курачкі благенькія, увосень выveліся.* Стральцы Шальч. 3. Драбнюткі. *Благенька зернятко — як однэ, а як много — то благенькіе, зернятка ў трэцяе вухо ідзе, як арфуюць.* Дзяніскавічы Ганц. 4. Заглушаны, зніцелы (пра расліну). *Саўсём благенькія бурачкі, трава заглушыла.* Малахоўцы Бар. 5. Трухлявы, старэнькі. *Там стаяў благенькі домік.* Мсцібава Ваўк. *Ляплёнка — хатка благенькая.* Шамялі Брасл. 6. Паношаны, бляклы. *Благенькая хустка на галаве.* Дакудава Лід.

БЛАГІ' *прым.* 1. Худы, змарнелы, слабы. *Вельмі ён марны, благі зрабіўся.* Хатынічы Ганц. *Зусім слабы хлопчык, благі, не відаць, што яму сем гот.* Пацаўшчына Дзятл. *Благая Ядзя, яна без абеду робіць.* Кіралі Шчуч. *Паглядзі — благоя цяля.* Альхоўцы Лях. *Вясной благая скаціна.* Лісна В.-Дзв. 2. Злы. *Благі гаворыць і робіць блага.* Ністанішкі Смарг. *Благі чалавек, нехарошы.* Быстрыца Астр. *Благі сусет.* Кемялішкі Астр. *Гэта баба была благая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зберуцца благія людзі — гэта банда.* Магуны Паст. *Благоя дзіця, усю-*

*ды ўлезя.* Данілавічы Дзярж. 3. Неахайны, негаспадарлівы, няўмелы. *Благі гаспадар з яго, а яна — самая благая гаспадыня.* Ністанішкі Смарг. *Благі сявец, нарабіў узрэхаў.* Відаўцішкі Вільн. *Ніякі чалавек, благі.* Чычалі Швянч. *Благі гаспадар, німа паратку.* Номікі Бабіц. 4. Няверны. *Благі быў яе мужык, па бабах па чужых хадзіў.* Саланое Віл. 5. Грубы. *Крычаў, сварыўся, гаварыў благія словы.* Асавец Віл. 6. Неўраджайны. *На пяскох благоё жыто, рэдзянькоё.* Смаляніца Пруж. *Благая бульба.* Граўжышкі Ашм., Жодзішкі Смарг. *Благія мае буракі, вовроэмя не апалола.* Мсцібава Ваўк. 7. Неўрадлівы. *Паны благую зямлю не займалі.* Асавец Віл. *Было поле благое.* Смаляніца Пруж. 8. Неядомы. *Набраў благіх грыбоў.* Асавец Віл. 9. Паношаны, бляклы, няякасны. *Я благой адзежы не нашу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Локаць* [у адзенні] *благі. Трэпці — благі вобуй.* Магуны Паст. *Дам дачкі надзець халат благі.* Масішкі Красл. 10. Дрэнны (пра дарогу). *Усё груды, благая дарога.* Данілавічы Дзярж. 11. Няўчасны, нядобры. *Закалоў кабана благім часам.* Лоск Валож. 12. Непагодны. *Благое надвор'е — не паеду.* Рыбчына Віл.

БЛАГІ' БОК *м.* Спод, выварат. *Кажух вярнуў на благі бок.* Ракаўскія Швянч.

БЛА'ГО *гл.* БЛА'ГА

БЛАГО'Е *н.* Зло. *Ён не рабіў благога.* Груздава Паст. ∇ *Благоя благім адганяюць.* Валынцы В.-Дзв. *За благоя благім адбываеш.* Кураполле Паст.

БЛАГО'НЬКІ *прым.* Тое ж, што і б л а г е́ н ь к і 5. *Благонькія аконцы.* Азаркі-Пудавінка Мядз.

БЛА'ГШЫ *прым. выш.* Горшы. *Благшы лён здаюць.* Міратычы Карэл.

БЛА'ЖЫЦЬ *незак. безас.* 1. Нудзіць. *Блажыць мяне, сліну гоніць.* Мярэцкія Глыб. *Блажыць яму.* Рыбчына Віл. 2. Шкодзіць. *Саракваша мне ўжо блажыць.* Саланое Віл.

БЛАЖЭ'ЙШЫ *прым.* Тое ж, што і б л а́ г ш ы. *Дзялілі лепшую і блажэйшую зямлю.* Альхоўцы Лях.

БЛАЗНАВА'ТЫ *прым.* Невялікі, малы. *Я была яшчэ блазнавата, як міне воўк напужаў.* Мсцібава Ваўк.

БЛАЗНАТА' *зб. ж.* Малыя дзеці. *Сроствянікі відзяць: матка пакінула блазнату — не памагалі.* Дакудава Лід.

БЛА'НАЧКА *ж. памянш.* да б л а́ н к а. *Прыбі бланачку.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

БЛА'НКА *ж.* Планка. *У варстаце на вёрху — бланкі, ручкі звалі, да іх прывязвалі ляда.* Стральцы Гродз.

БЛА'ЎКА *ж.* Тое ж, што і б і ч 1. *Блаўка ў цапу, чым білі па снапах.* Стральцы Шальч.

БЛАЎКІ'НЯ *ж. асудж.* Гультай, пустамеля. *Блаўкіня ты!* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *bliáukininkas, bliáuka* 'пустамеля'.

БЛАЎКІНЯ'ЦЬ *незак. экспр.* Лайдачыць, малоць языком, балбатаць. *Ты блаўкіняеш без дзела.* Курапалле Паст.; *парайн.* літ. *bliaukóti* 'балбатаць'.

БЛАШЧЫ'ЦА, БЛОШЧЫ'ЦА *ж. заал.* 1. Клоп. *Цяпер блашчыцаў і блох няма.* Дакудава Лід., Вялікія Баяры Шчуч., Пацаўшчына Дзятл. *Блашчыцы смаглые.* Старыя Смільгіні Воран. *Дайней у хаце блашчыцы былі.* Паляцкішкі Воран. *Блошчыца кусае.* Смаляніца Пруж. 2. Блыха. *Колісь блошчыцы прыгалі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

БЛЕ'ДЫ *гл.* БЛЯ'ДЫ

БЛЕ'ЯЦЬ, БЛЯЯ'ЦЬ *незак.* Бляяць. *Авечка блеіць.* Кемялішкі Астр. *Бляе авечка, авечкі бляюць.* Рудня Астравітая Чэрв., Мярэцкія Глыб.

БЛЁКАТ *м. бат.* 1. Блёкат. *Блёкатам труюцца дзеці.* Старыя Трокі Трак. *Блёкат расцець каля возіра скрось, высокій, бела цвіціць, лісця, як у маркоўніка, карову абдуваіць, як блёкату аб'есца, ён шкодны.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Лёк. *Дайней пакупалі блёкат* [ад селядцоў] *і елі з бульбай.* Старыя Смільгіні Воран. ◇ *Блёкату наесціся* — адурнець. *Што ты, блёкату наеўшыся?* Жылі Іўеў.; *парайн.* літ. *bliūkas* 'раска'; *bliūkata* 'гразь'.

БЛЁКАТНІК *м. бат.* Тое ж, што і б л ё к а т 1. *Блёкатнік шкодны.* Рыбчына Віл.

БЛЁТКАЦЬ *незак.* Пляткарыць, абгаворваць. *Яна блёткаіць, па сяле ходзячы.* Асавец Віл.

БЛЁЎЦЕ'ЦЬ *гл.* БЛЯЎЦЕ'ЦЬ

БЛЁХАТ *м.* Тое ж, што і б л ё к а т 2. *Дайней купяць блёхату ад селятцоў і з бульбай елі, так смашна было.* Старыя Смільгіні Воран.

БЛЁХАЦЬ, БЛЁХТАЦЦА *незак.* Ільсніцца. *От сыты конь — аж блёхае, аж блёхтаецца.* Раўбічы Мін.; *гл.* б л я ў ц е ц ь 1.

БЛІВА'НЯ *н.* Ваніты. *Напіўшысь да бліваня — малакасос.* Скрудалена Даўг.

БЛІ'ЖА *прысл.* Бліжэй. *Дачка пераехла да нас бліжа.* Ахрэмаўцы Брасл.

БЛІ'ЗЕНЬКА *прысл.* Блізка, недалёка. *Добра, што рэчка блізенька.* Курапалле Паст.

БЛІЗНА', БЛЮЗНА' *ж.* 1. Блюзна. Крэва Смарг. *Як парвецца нітка, а ні астанаўліваецца ткаць — на палатне палучаецца блізна.* Стральцы Гродз. *І як увядзеш ташчаніцу, то блізна будзе на палатне.* Саланое Віл. *Блізна — калі дзве ніткі асновы ідуць зверху, а між імі зарвецца адна нітка, а ткуцца дзве.* Малахоўцы Бар. *Гэто ж я блізну наткала.* Дзяніскавічы Ганц. *Як тчэш, то гледі, коб блізны нэ было.* Курашэва Чыж. *Тку я і ніправільна скінула — блюзна ідзець.* Індра Красл. 2. Узор на тканіне. *Пасцілкі ткалі ў блізны.*

Кураполле Паст. 3. Шрам, рубец ад раны. *У яго блізна на твары ад вайны.* Паляцкішкі Воран.

БЛІ'ЗНІ *прым.* Бліжні, блізкі. *Любі блізнёго свого.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *bliźni* 'тж'.

БЛІЗНІ'ЦКА *ж.* Дзяўчынка з блізнят, блізніца. *Блізніцка яе захворэла.* Дзяніскавічы Ганц.

БЛІЗНІ'ЦЫ *мн.* Блізняты жаночага полу. *Яны блізніцы з Марыяй.* Вецярэвічы Пух.

БЛІЗНЮКІ', БЛЫЗНЮКЫ' *мн.* Блізняты. *Хлопцы — блізнюкі, ім пятнаццаць гот.* Вецярэвічы Пух. *Яна мела блізнюкі.* Ліпнікі Вільн. *Блізнюкоў мела.* Старыя Трокі Трак. *Гэта ж яе адзін з блізнюкоў у Гродне шафёрам.* Галубы Маст. *Яны блізнюкі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Петя з Колію — блызнюкы.* Сіманавічы Драг.

БЛІЗНЯ' *ж.* Тое ж, што і б е́ л к а II. *Можа, на глазах якая блізня? Блізнёй зацягаваіць зрачок.* Ахрэмаўцы Брасл.

БЛІЗНЯ'ТА *мн.* Тое ж, што і б л і з н ю к і́. *Блізнята нарадзіліся.* Быстрыца Астр. *У яе дзве дзеўчынкі — блізнята.* Малахоўцы Бар.

БЛІ'НДА *ж. бат.* 1. Від лазы. *Бліндa — лаза такая.* Чычалі Швянч. 2. Галіны кустоў, з якіх абадрана кара. *Блінда сохня.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* літ. *blìnda* 'вярба, ракіта'.

БЛІНДА'Р *м.* Прыстрэшак, падстрэшша. *Од дошчу пуд бліндар можна зховатісе.* Курашэва Чыж.

БЛІНДЗЯ' *ж. бат.* Тое ж, што і б л і н д а 1. *Бліндзя ў нас расце па ніскіх мейсцах.* Стральцы Шальч. *Дайней лапці з бліндзі плялі. Райпатая бліндзя, як у каросця, кашолкі плялі.* Старыя Трокі Трак. *Бліндзя найлучшы дзяржыцца з вясны, пака не прыпёкшыся.* Жылі Іўеў. *Бліндзя — такая лаза, на ей буйныя лісты, на дровы ссякаюць.* Граўжышкі Ашм.

БЛІНЕ'Ц *м.* Блін. *Печ паліла, свіням паставіла, а патом блінцэ пякла.* Кіралі Шчуч. *Блінцэ часто пекуць.* Дзяніскавічы Ганц.

БЛІНО'ВЫ *прым.* Бліновы. *Бліновая мука, бліновая дзешка, што бліны ўчыняюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *У бліновай дзешцы рашчыняюць бліны.* Быстрыца Астр.

БЛІНО'К *м. анат.* Мочка. *У вуху блінок, завушніцы ў яго ўцягаваюць.* Магуны Паст.

БЛІНЦО'ЎКА *ж.* Дзежачка для рошчыны бліноў. *Была дзежачка — блінцоўка, блінцэ, латкі пяклі.* Дзяніскавічы Ганц. *У блінцоўцы бліны падчынялі.* Азяраны Раг.

БЛІ'НЧЫКІ *мн.* Мясістыя чырвоныя скурныя вырасты пад дзюбай у пеўня. Дзяніскавічы Ганц.

БЛІ'СКА, БЛІ'СКО *прысл.* Непадалёку. *Бліска рэчкі ішоў чалавек.* Старыя Смільгіні Воран. *Бліска рэчкі жывеш, там лятучая вада. Хата стаіць бліска вуліцы.* Лоск Валож. *Бліско Сімановічыхі малако збіраюць.* Быстрыца Астр. *Па-*

*чало загарваціа бліско агню.* Альхоўка Навагр. *Бліско кустоў карова ляжала.* Навасёлкі Свісл.

БЛІСКАВІ'ЦА *ж.* Маланка. *Бліскавіца папаліла гарэхі.* Рыбчына Віл. *Бліскавіца з громам, а без грому — маланка.* Ністанішкі Смарг. *Бліскавіца папаліла грыку.* Старыя Смільгіні Воран. *З громам бліскавіца бывае.* Кемялішкі Астр. *Впэруч відно бліскавіцу, а послі чуті груом.* Курашэва Чыж.; *гл.* ДАБМ, карта № 311; *парайн.* польск. *błyskawica* 'тж'.

БЛІСКА'ВЫ *прым.* Тое ж, што і б л і ш ч á с т ы. *Бліскавыя ніткі.* Багушэвічы Бярэз.

БЛІСКАНУ'ЦЬ *зак.* Бліснуць. *Другі рас агонь бліскануў.* Мсцібава Ваўк.

БЛІ'СКАЎКА *ж.* Тое ж, што і б л і с к а в і ц а. *Бліскаўкі я не бачыла.* Вецярэвічы Пух.

БЛІСКАЦЕ'ЦЬ *незак.* Ззяць, бліщчэць. *У хаці бліскаціць — усё чыстае, пазапінаны окна.* Дзяніскавічы Ганц.

БЛІ'СКАЦІ, БЛІ'СКАТІ *незак.* Бліскаць. *Бліскае моцно — дошч будэ.* Смаляніца Пруж. ◊ *Очыма бліскаті* — саромецца, апускаць вочы; свяціць вачыма. *Як всіе дары дают, то я очыма буду бліскаті.* Курашэва Чыж.

БЛІ'СКІ' *прым.* 1. Блізкі, недалёкі. *Бліскоя поля.* Рыбчына Віл. 2. Добра знаёмы, аднавясковец. *Паставілі* [на працу] *бліскóга, а не далёкага.* Лоск Валож. 3. Родны. *Можа якая бліская, а я не ўзнала.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён мне бліскі.* Ракаўскія Швянч. ◊ *Бліскі свет, блізак свет* — далёка. *За бліскі свет нада хадзіць.* Мярэцкія Глыб. *Бліскі свет прайшоў напрасна.* Рудня Астравітая Чэрв. *Блізак свет хадзіць кожан дзень.* Міратычы Карэл.

БЛІ'СКО *гл.* БЛІ'СКА

БЛІСКУ'ШЧЫ *прым.* Тое ж, што і б л і ш ч á с т ы. *Дівчынята любят в бліскушчы платія вбіратісе.* Курашэва Чыж.

БЛІСЦЯ'СТЫ, БЛІСЦЯ'ШЧЫ *прым.* Тое ж, што і б л і ш ч á с т ы. *Бліцсясты камень.* Быстрыца Астр. *Каменьчыкі бліцсяшчыя.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* руск. *блестящий* 'тж'.

БЛІША'НКА *гл.* БЛЯША'НКА

БЛІШЧА'СТЫ, БЛІШЧА'ТЫ, БЛІШЧА'ЧЫ, БЛЫШЧЯ'ЧЫЙ *прым.* Бліскучы. *Галяніщчы ў ботах бліщчастыя.* Каўняны Гродз. *Жук такі ўжо бліщчасты.* Ванелевічы Кап. *Бліщчатыя боты, хоць глядзіса.* Номікі Бабіц. *Скорынка ў хлебе бліщчата.* Смаляніца Пруж. *Бліщчачы відэлац, бліщчача міска.* Вялікія Баяры Шчуч. *У гáдзіны скура бліщчача.* Мсцібава Ваўк. *Блыщчяча цяцька.* Сіманавічы Драг.

БЛІШЧУ'К *м.* Тое ж, што і б л і с к а в і ц а. *Грому не чуваць — адны бліщчукі.* Старыя Смільгіні Воран.

БЛІШЧУ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і б л і ш ч á с т ы. *Бліщчусты пярсцёнак с плешкаю.* Бакшты Іўеў., Рудня Астравітая Чэрв.

БЛІШЧУЧКІ′ *мн.* Узор у выглядзе зорачак. *Панчохі блішчучкамі зроблены былі.* Старыя Смільгіні Воран.

БЛІШЧЭ′ЦЬ *незак.* 1. Блішчэць. *Бот блішчыць.* Паляцкішкі Воран. *Самавар стаў блішчэць, як пачысціла.* Кемялішкі Астр. 2. Бліскаць. *Накрыш блішчэла малання.* Саланое Віл. 3. *перан.* Пазіраць. *Блішчыць у вочы — яму так хочацца пакатацца.* Раўбічы Мін.

БЛО′ХА *гл.* БЛЫХА′

БЛО′ЦКО *н.* Балота, гразь. *Блоцко тут у нашай вёсцы.* Новікі Гродз.; *параўн.* польск. разм. *błotko* ’вялікая гразь’.

БЛО′ШКАЦЬ *незак.* Абіваць снапы. *Блошкалі ап старану снапы.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *blõkšti* ’тж’.

БЛОШЧЫ′ЦА *гл.* БЛАШЧЫ′ЦА

БЛУД, БЛУТ *м.* 1. Блуканне. *Блут найшоўся на міне — заблудзіла ў лесе.* Бакшты Іўеў. *Узяў блут — не даў рады выйці з лесу ці дзе з балота якога.* Мсцібава Ваўк. *У лесі блут нейкі, нечыста сіла водзіць.* Жылі Іўеў. *Ухапіў блут, зблудзіўся.* Вялікія Баяры Шчуч. *Някый блуд на мынэ найшоў, дорогы ны найду.* Сіманавічы Драг. 2. Трызненне. *Гэта ўсё блуд ад хворай галавы.* Беразіно Докш. 3. Зман. *Яны яго ў блут пусцілі.* Граўжышкі Ашм. 4. Бязглуздзіца, глупства. *А блут гэта, што ён пляцець.* Кураполле Паст. ◇ *Іті в блут* — ісці невядома куды. *Куонь в блут побіег. Коп ты в блут пушов!* Курашэва Чыж.

БЛУДА′ВЫ *прым.* Блудлівы. *Ён блудавы чалавек.* Быстрыца Астр.

БЛУ′ДЗЕНЬ *м. асудж.* Валацуга. *Блудзень, дзе ты ходзіш?* Мішневічы Шум.

БЛУ′ДЗІ′ЦЬ *незак.* 1. Трызніць (у час хваробы). *Хворы блудзіць у сне.* Пацаўшчына Дзятл., Беразіно Докш. 2. *перан.* Гаварыць недарэчнае, балбатаць. *Ты блудзіш, ня тоя гаворыш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Блу́дзіць абы-што.* Дакудава Лід. *Што яна блу́дзіла тут?* Кураполле Паст.

БЛУДЗЯ′ШЧЫ, БЛУДЯ′ШЧЫ *прым.* Бяздомны, блудны. *Нейкі блудзяшчы сабака бегаіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Чаго ты ходзіш, як блудяшчы?* Курашэва Чыж.

БЛУ′ДНА *прысл.* Нязручна, няёмка. *Я па сцяне снавала — покі прывыкла да гэтых кроснаў, так было блудна.* Ракаўскія Швянч.

БЛУ′ДНІК *м. асудж.* Няверны муж, распуснік. *Блуднік — той, хто заблудзіўся да чужой бабы.* Рыбчына Віл. *Блуднік завом таго, хто ходзіць к чужым бабам і свая ё.* Азяраны Раг.

БЛУ′ДНІЦА *ж. асудж.* Няверная жонка, распусніца. *Яго жонка была блудніца.* Азяраны Раг.

БЛУЖДА′ЦЬ *незак.* Блукаць. *Па грыбах хадзя, большэ блуждаіш.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *блуждать* ’тж’.

БЛУ′ЗНІЦЬ *гл.* БЛЮ′ЗНІЦЬ

БЛУЗНО′ТА *ж.* Трызненне. *Блузнота пачалася ў яго.* Рудня Чэрв.

БЛУТ *гл.* БЛУД

БЛУ′ТАЦЦА *незак.* Блытацца. *Ніткі блутаюцца.* Дакудава Лід., Рудня Астравітая Чэрв.

БЛУ′ТАЦЬ *незак. перан.* Гаварыць недарэчнае, несці лухту. *Блутая шалапут абы-што.* Вецярэвічы Пух.

БЛЫЗНЮКЫ′ *гл.* БЛІЗНЮКІ′

БЛЫ′НДАЦЬ *незак. экспр.* Хадзіць без работы. *Блындаіць па сяле цэлы дзень.* Валынцы В.-Дзв.

БЛЫ′ТАЦЦА *незак.* Тое ж, што і б л у́ т а ц ц а. *Блытаюцца ніткі.* Рыбчына Віл.

БЛЫХА′, БЛО′ХА *ж.* Блыха. *Цяпер ні адной блыхі няма.* Жодзішкі Смарг., Дакудава Лід. *Было блох вайной.* Лоск Валож. *Свэрбіт, як кусае бло́ха.* Смаляніца Пруж. *Дайней дываны былі грубыя, бло́ха нагу паламая.* Новыя Мацалі Варэн.

БЛЫШЧЯ′ЧЫЙ *гл.* БЛІШЧА′ЧЫ

БЛЭ′НДАЦЦА, БЛЭ′НДАТЫСЬ, БЛЭ′НКАЦЦА *незак. экспр.* Хадзіць без мэты. *Блэндаецца туды-сюды без работы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Блэндаецца без дзела.* Дакудава Лід. *Дэ ты блэндався?* Радастаў Драг. *Як я сёння блэнкаюсь.* Магуны Паст.

БЛЭ′НКІ *мн.* Лучыны, з якіх плятуць лубянкі. *С хвоі дэрут блэнкі і кошэля плетут.* Азарычы Пін.

БЛЮ′ДАК *м.* Сподак. *Блюдак пабіла.* Беразіно Докш.

БЛЮ′ДКА, БЛЮ′ТКА *н.* Тое ж, што і б л ю д а к. *Блюдка падай.* Калясное Міхал. *Блютка купіла.* Рыбчына Віл.

БЛЮ′ЗАЧКА *ж. памянш.* да б л ю с к а. *Нажутачка — блюзачка такая цененькая.* Ракаўскія Швянч. *Матыначкі с фальбонкамі — такая блюзачка.* Быстрыца Астр.

БЛЮЗНА′ *гл.* БЛІЗНА′

БЛЮ′ЗНІЦЬ, БЛУ′ЗНІЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і б л у́ д з і́ ц ь 1. *Чалавек блюзніць, як жара бальшая.* Валынцы В.-Дзв. *Блюзніць — як біс памяці гаворыць.* Мярэцкія Глыб. *Бяс памяці блюзня.* Быстрыца Астр. *Ляжыць бяс памяці, блюзніць.* Магуны Паст. *Ён ня помня, што блюзня.* Крэва Смарг. *Гарачка ў яго, абы-што блузніць.* Багушэвічы Бярэз., Ухвала Круп. *Жара вялікая, сягоння цэлую ноч блузніў.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Гаварыць спрасонку. *Спрасонку блюзніў.* Рудня Астравітая Чэрв. *У сне блузніць, кідаецца.* Ухвала Круп. 3. Невыразна, незразумела гаварыць. *Гаворыць, а што — не паняць, як блузне ў сне ўсё ройна.* Мачаск Бярэз. 4. *экспр.* Тое ж, што і б л у́ д з і́ ц ь 2. *Яна каля канторы блюзніла.* Ракаўскія Швянч. *Што ты блюзнеш — гаворыш невядома што.* Грыкені Вільн. *Блюзніш, гаворыш, што ня трэба.* Рыбчына Віл. *Што ты там блюзніш?* Мішневічы Шум., Беразіно Докш.,

Пасека Ст.-Дар. *Блюзніць, ерунду трэпя.* Граўжышкі Ашм. *Што ты блузніш ні зіму ні лета!* Малыя Аўцюкі Қалінк.; *параўн.* польск. *bluźnić* 'блюзнерыць, зневажаць'.

БЛЮЗНЫ′ толькі *мн.* Узор на палатне. *Блюзны, як у чатыры нічальніцы тчэш, рэдкае палатно.* Грыкені Вільн.

БЛЮ′СҚА *ж.* Қофта. *Блюскі з батасту шылі.* Старыя Трокі Трак. *Некалісь купляла блюску атласавую.* Магуны Паст. *Я падумала: чаго я не наклала* [надзела] *тую блюску.* Быстрыца Астр. *Я ператру блюскі.* Қалядзічы Ваўк. *Блюске насілі.* Новікі Гродз.

БЛЮ′ТАЦЦА *незак. экспр.* Гультаяваць, лайдачыць. *Хазяін блютаецца, ужо дабіўся да абуха.* Қрэва Смарг.

БЛЮ′ТҚА *гл.* БЛЮ′ДҚА

БЛЯВА′ЦЬ *незак.* Ванітаваць. *Напіўся, а цяпер бляваць будзя.* Вязынка Маладз. *Ён п'яны быў, я баялася, кап ні бляваў у пасцелі.* Малахоўцы Бар. *Во гэдок блюе, да галава баліць.* Альхоўцы Лях. *Кот будзя бляваць — гані вон.* Вецярэвічы Пух.

БЛЯВУ′ЗГАЦЬ *незак.* Гаварыць недарэчнае, несці лухту. *Блявузгая, пляце, што прышло ў галаву.* Старыя Смільгіні Воран.

БЛЯ′ДЫ, БЛЕ′ДЫ *прым.* Бледны. *Ён перахварэў, цяпер бляды.* Стральцы Шальч. ∇ *Без дзеда баба бледа.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *blady* 'бледны'.

БЛЯҚАТА′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і б л е я ц ь. *Баран блякочыць.* Саланое Віл.

БЛЯМЕ′ЗІЦЬ *незак.* Тое ж, што і б л я в у з г а ц ь. *Старая блямезіць языком бэс паняцця.* Старыя Смільгіні Воран.

БЛЯСҚ *м.* Водбліск. *Бляск атходзіць, як чысты самавар.* Альхоўка Навагр. *Едуць машынамі, як дасць бляск у вочы.* Парэчча Гродз.; *параўн.* польск. *blask* 'бляск, бліск'.

БЛЯЎЦЕ′ЦЬ, БЛЁЎЦЕЦЬ, БЛЯЎЧЭ′ЦЬ *незак.* 1. Ільсніцца. *Як кабан сыты, скаціна ці чалавек поўны, то кажуць: «Вот сыты, аж блёўціць».* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Трэсціся, адвісаць. *Жырны кабан, сала пат шыяй ажны бляўціць.* Слабада Смал. *У кабана сала бляўціць пат шыяй, пад горлам, жырны.* Раўбічы, Губічы Мін. 3. Блішчаць, пераліваццa featuring рознымі колерамі. *Вот хароша крама* [матэрыя], *бляўціць, нека цяшка.* Дзяніскавічы Ганц. *Конь бляўчыць, дужа сыты, прама волны на ім.* Глівін Барыс.; *параўн.* літ. *bliaũkti* 'ільсніцца'.

БЛЯ′ХА I *ж.* Ліст жалеза з загнутымі краямі для пячэння. *У печы пяклі баханкі маленькія, на бляхах пяклі. На бляся пякуць булкі.* Старыя Трокі Трак.

БЛЯ′ХА II *ж.* Шырокі загон, паласа. *Тры бляхі жыта пасеяў.* Бенякові Воран. *Заняла бляху і жну.* Граўжышкі Ашм.

БЛЯХА′Н *м.* 1. Қаністра. *Қупіў тры бляханы водкі* [на вяселле]. Галубы Маст. 2. Банка для адстойвання малака. *Бля-*

*хан з млекам стаіць на стале.* Старыя Смільгіні Воран. *З-пад бляхана малако.* Беняконі Воран.

БЛЯША'К *м.* Бляшаная банка з вузкім горлам. *Бляшак стаяў з нафтай.* Альхоўка Навагр.

БЛЯША'НКА, БЛІША'НКА *ж.* 1. Тое ж, што і б л я х а́ н 2. *Бляшанка смятану адлучае, а тут унізе посная малако.* Жылі Іўеў. *Бліианка з бляхі для атстойвання малака.* Мярэцкія Глыб. 2. Бляшаны куфэрачак. *Ніткі складзяны ў бляшанку.* Магуны Паст.

БЛЯШЫ'ЦЬ *незак.* Зіхацець, ззяць. *Аш бляшыць у хаце ад кветак.* Бакшты Іўеў.

БЛЯЯ'ЦЬ *гл.* БЛЕ'ЯЦЬ

БО *злуч.* Таму што, паколькі. *Табе няможна туды хадзіць, бо там хворыя. Прадалі карову, бо не давалася даіцца.* Ністанішкі Смарг. *Буйно крышў капусту, бо для кароў.* Номікі Бабіц.

БОБ *гл.* БОП

БО'БАЛАКА *ж. бат.* Гарлачык. *Рачныя бобалакі жоўтым цвітуць.* Вецярэвічы Пух.

БОБЁР *гл.* БАБЁР

БОБОВІ'ЕНЕ *гл.* БАБАВЕ'НЁ

БОБО'ЎНІСКО *н.* Тое ж, што і б а б о́ в і с к а. *Бобоўніско позберано.* Хатынічы Ганц.

БОБР, БОБЭ'Р *м.* Тое ж, што і б а б ё р. *Згрыжана бабрамі асіна. Бобр паплыў на той бераг. Бобры ест тут.* Швэды Вільн. *Бобрэ ёсць на Ражджалаўскай канаве. Бобэр тоўсту осіну пэрэгрыз.* Хатынічы Ганц.

БОВТ *гл.* БОЎТ

БО'ГАВА КАРО'ЎКА *гл.* БО'ЖАЯ КАРО'ЎКА

БОГАТЭ'РЭСКО *н. павел.* Асілак. *Твый батько богатэрэско быў.* Дзмітравічы Кам.

БОГАЧЭ'ННО *прысл.* Шмат, багата. *Мешкоў богачэнно понасыпалі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

БОГЛА'СНІК *м.* Зборнік рэлігійных песень. *Колісь кажны ўчэнік міев богласніка.* Курашэва Чыж.

БОГОБУ'ОЙНЫ *прым.* Веруючы. *Богобуойны чоловіек нікому кэпского нэ зробіт.* Курашэва Чыж.

БОДЕ'ХА *зб. ж.* Ігліца хвоі. *Пойду в ліес бодеху грэбты.* Горск Бяроз.

БОЕ'Ц *гл.* БАЕ'Ц

БОЁВЫ *гл.* БАЯВЫ'

БО'ЖАВА КАРО'ЎКА *гл.* БО'ЖАЯ КАРО'ЎКА

БО'ЖА ДРЭ'ЎКА *ж. бат.* Спаржа. *Божа дрэўка, як ёлачка, мяканькая, у агародзе расцець.* Ахрэмаўцы Брасл. *Божа дрэўка ад зубоў варацъ, палошчаць рот.* Лісна В.-Дзв.

БО'ЖА КАНАПЕ'ЛЬКА *ж. бат.* Дрыжнік. Малыя Аўцюкі Калінк.

БО'ЖАЯ, БО'ЖАВА, БО'ГАВА, БО'ГАВАЯ КАРО'ЎКА *ж.* 1. Тое ж, што і б а г о́ ў к а. *Богавая кароўка — рабінавая з чорнымі кропкамі.* Жодзішкі Смарг. 2. Чырванацелка. *Божая кароўка без кропачак, маленькая.* Данілавічы Дзярж. *Божая кароўка, дзе мая свякроўка? Ці налева, ці направа, ці ў зямелькі закапана?* Ракаўскія Швянч. *Божава кароўка малюсенечка.* Ахрэмаўцы Брасл. *Маленька, чырвоненька — то богава кароўка.* Вялікія Баяры Шчуч.

БО'ЖАЯ ПАСЦЕ'ЛЬ *ж.* Смяротнае ложа. ◇ *Ляжаць на божай пасцелі* — цяжка хварэць без надзеі на папраўку. *Тата на божай пасцелі ляжыць.* Кураполле Паст. *Маці ляжыць другі гот на божай пасцелі, не ўладая нагамі, яшчэ не такая і старая.* Кіралі Шчуч. *Мама на божай пасцелі ляжала.* Рудня Астравітая Чэрв.

БО'ЖЖА АНДРЭ'ЙКА *м.* Тое ж, што і б а г о́ ў к а. Вялікія Нястанавічы Лаг.

БО'ЖЖА КРЭ'ЎКА *ж. бат.* Зверабой. *Божжу крэўку ад сэрца, ад печані п'юць.* Беразіно Докш.

БО'ЙКА I *ж.* Бойка. *Пачалася між імі бойка.* Багушэвічы Бярэз.

БО'ЙКА II *ж.* Драўляная пасудзіна, у якой збіваюць масла. *Бойка — масла біць.* Судэрва Вільн., Быстрыца Астр., Альхоўка Навагр., Альба Нясв., Малахоўцы Бар.

БО'ЙКА III, БО'ЙКО *прысл.* 1. Гучна, дакладна. *Мае часы бойка ідуць.* Лісна В.-Дзв. 2. Надта, моцна. *Ён быў бойка ўгрэўшыся.* Кіралі Шчуч. 3. Шустра, спрытна. *Яму пат підзісят, але скакаў бойка.* Кіралі Шчуч. 4. Многа, заўзята. *Бацька курыў бойка, а сын ні адзін ня курыць. Сын бойка вотку п'е. Ён натта піў бойка.* Кіралі Шчуч. *Ён бойко курыць.* Номікі Бабіц. 5. Хутка, скора. *Каторы касец бойко косіць — спацее і будуць рагі.* Парэчча Гродз. 6. Добра. *Во яна бойка гадая.* Кіралі Шчуч.

БО'ЙКІ *прым.* 1. Жвавы, шустры. *Тая дзеўчына бойкая.* Стральцы Шальч. 2. Быстры. *Не ідзі — там вада бойкая, з нох саб'ець.* Мішневічы Шум. 3. Добры, ураджайны. *Жыта бойкая, салома — як троснік, велькія ражнэ — гэта добрая жыта.* Кіралі Шчуч.

БО'ЙНЫ *прым.* Вялікі, раскошны. *Пчолы на трутні бойныя чашкі выводзяць.* Міратычы Карэл.

БО'ЙСАЦЬ *незак.* Тое ж, што і б і ч а в а́ ц ь. *Ячмень с саломы павытрасаюць і бойсаюць — б'юць цапамі і абаб'юць асцё, асцінкі.* Груздава Паст.; *параўн.* літ. *paisýti* 'тж'.

БОК, БУ'ОК, БЫК *м.* 1. Бок у жывых істот. *Па боках ест вантробы.* Новыя Мацалі Варэн. *Па бака залезлі ў ваду.* Альхоўка Навагр. *Карова наелася, аж бокі трашчаць.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Бок у прадметах. *Бакі ў кошыку.* Грыкені Вільн. *На два бокі раскладаецца стол.* Мсцібава Ваўк. *І з*

*бакоў у цялеге закладваліся доскі.* Пасіене Лудз. 3. Частка прасторы. *Хмара цёмная была тым бокам пахілілася, а патом кругом абняла.* Альхоўка Навагр. *Блізко ўдырыло, нэ знаю, у яком бокеві.* Смаляніца Пруж. 4. Краіна, край. *У цёплом боку жывэ.* Смаляніца Пруж. *У чужом боку жыў.* Альхоўцы Лях. ◇ *Пад бокам* — блізка. *Пад бокам арэхі.* Ністанішкі Смарг. *Праз бок* — поруч, блізка. *Ідзе мілы праз бок.* Талейкі Швянч. *Бокам выйсці* — не прайсці дарэмна. *Шчэ ёму тое багацтво боком выйдэ, што нажыв на люцькуоі крывді. Коп тобіе боком вышло!* Курашэва Чыж. *На бокові* — пра пабочны заробак. *Вуон, опруч выплаты, на бокові пара тысяч в міесяц заробіт.* Курашэва Чыж.

БО′ЛБАТКІ I *мн.* Бурбалкі. *Доўго дошч будзя, болбаткі велькія.* Стральцы Гродз.

БО′ЛБАТКІ II *мн. бат.* Гарлачыкі. *Болбаткі жоўтыя і белыя на вадзе ў возяры пры беразя.* Стральцы Гродз.; гл. б о́ б а л а к а.

БО′ЛБАЧАНЬ *м. зневаж.* Балбатун. *Болбачань ты! — кажуць на таго, хто багата гамоніць.* Азяраны Раг.

БО′ЛДАЎКА *ж. рыб.* Тое ж, што і б а л д а в е́ ш к а. *Болдаўкай заганяюць рыбу ў сеці — гэта доўгі шост з булавой на канцы. Бохаюць болдаўкай.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* літ. *baldas* 'тж', *báldyti* 'палохаць'.

БО′ЛЕЕ, БО′ЛЕЙ *прысл.* Больш. *Яны более рыжыя.* Ахрэмаўцы Брасл. *Болей не прыдзе.* Чычалі Швянч.

БО′ЛІ, БО′ЛЯ *прысл.* Больш. *У нас болі лыкі куплялі.* Валынцы В.-Дзв. *Болі як дзесяць мэтраў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Асіна болі трывалая.* Вязынка Маладз. *Што ты болі памыіш?* Ністанішкі Смарг. *Адзіялы боля перабіраюць.* Індра Красл.

БОЛО′НКА *ж.* Палонка. *Прарубаў лёд — і болонка.* Смаляніца Пруж.

БОЛО′ТО *гл.* БАЛО′ТА

БОЛОЦЬКО′ *н. павел.* Вялікая гразь. *Там такое болоцько!* Курашэва Чыж.

БОЛТ *гл.* БОЎТ

БО′ЛТАК *гл.* БАЛТА′К

БО′ЛТКА *гл.* БО′ЎТКА

БОЛУ′ОТНІК *м.* Чалавек, які жыве ў забалочанай мясцовасці. *Тінцвічы — то болуотнікі булі, на болотах жылі.* Курашэва Чыж.

БОЛУ′ОТНІЦА *ж.* да б о л у́ о т н і к. *Вуон болуотник, вона болуотніца, на болотах жылі.* Курашэва Чыж.

БОЛЬ *м.* і *ж.*, БО′ЛІ, БАЛЕ′ *мн.* 1. Прыступ болі. *Боль галавы.* Граўжышкі Ашм., Старое Сяло Зэльв. *Такі боль галавэ.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яму сільны боль у галаве.* Мсцібава Ваўк. *Мне боль у грудзях.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Боль была назе.* Ністанішкі Смарг. *Быў гэтакі боль.* Крэва Смарг.

*Боль забрала.* Жодзішкі Смарг. *Шчарнеў — да таго боль.* Малахоўцы Бар. *Цярпіць вяліку боль.* Дзяніскавічы Ганц. *Вылэка боль.* Дзмітравічы Кам. *Страх перэдумаць, такі боль быў.* Крынкі Крын. *Як узялі болі — яна і пачарнела.* Міратычы Карэл. 2. Язвы, скулы. *Чалавек увесь у бале.* Альхоўка Навагр. *У яе рак крыві, уся ў балі, кроў пашла ў боль.* Вецярэвічы Пух. 3. Хвароба. *Гэты боль вездзе хадзіў.* Быстрыца Астр. 4. Цяжкія перажыванні. *Мне боль у душы.* Граўжышкі Ашм. *Нашто мне гэты боль!* Парэчча Гродз.

БО'ЛЬКА *ж.* Хвароба. *Мая болька ў мяне—што ш вы падлячылі?* Вецярэвічы Пух. ∇ *Чужая болька не баліць.* Вецярэвічы Пух.

БОЛЬШУ'ХА *гл.* БАЛЬШУ'ХА

БО'ЛЬШЫ *прым. выш.* 1. Большы па велічыні. *Санкі большыя за сані.* Судэрва Вільн. 2. Старэйшы. *Сын большы ў арміі.* Рудня Астравітая Чэрв.

БО'ЛЬШЭ *прысл.* Больш. *Большэ я не вылью ады, чэм полвядра.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *больше* 'тж'.

БОЛЬШЭНЬСТВО' *гл.* БАЛЬШЫНСТВО'

БОЛЮ'ШЧЫ *гл.* БАЛЮ'ЧЫ

БО'ЛЯ *гл.* БО'ЛІ

БО'ЛЯНЬ *м. заал.* Жэрах. *Жэрых ест — такая рыба, а панашаму — болянь.* Быстрыца Астр.

БОЛЯ'ЧКА *гл.* БАЛЯ'ЎКА

БО'МА *ж.* 1. Кол-рычаг. *Бомай прыпаднімалі палена.* Дакудава Лід. *Бяры бому і будзям падважваць карчэ. Бома велька, тоўста і доўга, падложаць бому пат корч і трох-чатырох налягуць і важаць.* Кіралі Шчуч. *Бома — такое палена. Бяры бому падымаць калоду. Падсунуў бому і падняў.* Грыкені Вільн. 2. Прыстасаванне для затрымлівання плыта. *Звязвалі бому так: чатыры штукі найдаўжэйшых броўнаў скраплялі — і ў рэку. Бому вялі і задзержывалі лес.* Мсцібава Ваўк. *Бома — гэта папярэчная кладка з броўнаў праз раку: паставілі бому — дзерава задзержуецца і не плыве.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* літ. *búomas* 'тж' <ням. дыял. *bōm* 'жэрдка, палена'.

БО'МАЧКА *ж. памянш.* да б о́ м а 1. *Узяў бомачку і пашоў у карчы. Карчок выдзірыць і пасячэць. Бомачку падлажыў пад карчок і націснаў — і адабрала руку і нагу.* Саланое Віл. *Бомачку падлажыў пад корч.* Старыя Смільгіні Воран.

БО'МБАЛЬ *м.* Пухір. *Бомбаль выскачыць на пяце, як націснеш абуям ці апарыш.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* літ. *bum̃bulas* 'тж'.

БО'МБЛЯ *ж.* Нарасць. *На носе бомбля вырасла.* Мсцібава Ваўк.; *гл.* б о́ м б а л ь.

БОМБОВА'ТІ *незак.* Бамбіць. *Ніемці як пачалі бомбоваті, то мы тут нэ міелі дэ подіетысе.* Курашэва Чыж.

БОМБУ'ОВЭЦЬ *м.* Самалёт-бамбардзіроўшчык. *Бомбуовцюов налетіело, як воронуов.* Курашэва Чыж.

БО'МКА *ж.* 1. Тое ж, што і б о́ м а ч к а. *Бомка — калоды паднімаць палка такая.* Старыя Смільгіні Воран. *Бомка ёсць падважываць корч.* Бакшты Іўеў. 2. Дэталь рычага. *Высякай бомку і закладай у шварначок — дэталь ляда.* Бакшты Іўеў.

БО'НДА *ж.* 1. Баханка хлеба. *Бонду ці дзве бонды спячэш хлеба, і хватаіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бонда хлеба.* Ёдлавічы Брасл. *Пяклі па чатыры бонды хлеба. Пастуху бонду хлеба давалі, мяса.* Жылі Іўеў. *Бонда — вялікі бахан хлеба.* Старыя Смільгіні Воран., Бакшты Іўеў. *Спякла велькія бонды хлеба.* Вялікія Баяры Шчуч. *Калісьці казалі: «Бонду хлеба спякла».* Парэчча Гродз. *Бонда—круглая булка хлеба.* Чычалі Швянч. *Бонду на патэльні спячы, калі няма на абет хлеба.* Магуны Паст. 2. Скавароднік з хлебнага цеста. *Бралі з дзежкі цеста і пяклі бонду на прэнткую руку на скаварадзе ці на блясе.* Галубы Маст. *Адняла цеста с хлеба і спякла бонду.* Пацаўшчына Дзятл. *Можна было спячы бонды з хлебнага цеста, на іх патыканы дзіркі.* Мсцібава Ваўк. *Із хлебнага цеста пяклі бонду, групша не была, як на тры пальцы, на лісце пяклі.* Кураполле Паст. *Дайней пяклі бонды с хлебнай рошчыны, і мама пякла.* Вялікія Баяры Шчуч. *Бонда — віда тоўстага бліна.* Дакудава Лід. 3. Праснак. *Бонда пяклася з аржаноя мукі, соды сыпалі, падсалоджаная.* Малахоўцы Бар. 4. Печыва з бульбы і мукі з рознымі прыправамі. *Бульбу таркуюць, у клінку выціскаюць, бяруць ліст капусты, туды выцісняныя гэтыя бонды, мукі чуць-чуць і ў печ, спякуць, парэжуць на кусочкі і калапнямі запраўляюць.* Жодзішкі Смарг. *Бонды пяклі з бульбы і дабаўлялі мукі.* Бакшты Іўеў. *Парылі картошку, клалі соду або з дражджыма і пяклі кругленькую бонду.* Дакудава Лід. *Сяменя напражом, у ступя натаўчом, потым натаргуям картошкі — і накрывалі слоям і пяклі бонды на капусным лісце на таку ў печы.* Старыя Трокі Трак. *Наварыць бульбы з лупінамі, таўкачом умеся, ячнай мукі ўсыпя, патаўчэ каноплі і ў бульбу, перамяшая, расплешчая і запякая.* Вязынка Маладз. *Бонда так пячэцца: у цёртую картофлю насыпле грэцкай мукі нагуста, шчэ дрожжы, ягады, дубовага лісця пасцеля і ў печ сугне.* Пацаўшчына Дзятл. *Бульбу таркуям і бонды пячом, елі з малаком.* Стральцы Шальч. *Дайней картошку шаруям, падмяшаям мукі грачышнай, соды ўсыпям і бонды пяклі. Мак малолі, прысалодзіш сахарынаю мак і мачаям бонды. Напякла бондаў грачышных.* Кіралі Шчуч. *Бонды пяклі часам з картопляў цёртых.* Навасёлкі Свісл. *Спякла бонду с картошкі і мукі троху дабавіла.* Альхоўцы Лях. *Бонду пяклі з бульбы, мукі і клалі дрожджы. Бандэ̇ пяклі, напячэш зімой бондаў.* Старое Сяло Зэльв. *Таркавалі картоплю і грэцку муку сыпалі і пяклі бонды.* Каўняны Гродз. *Некалі*

*бонды так пяклі: натрэ картошкі, усыпле грачышнай мукі, маку намеле — і бонда.* Галубы Маст. 5. Здобнае печыва з мукі, перапечка. *Бонды пяклі з мукі і з макам.* Бакшты Іўеў. *Банды пяклі з мукі.* Навасёлкі Свісл. *Калісь, як зацірку мама варыла, цеста робіць, то дзецям бонды пякла: дабавіць соды і кіслага малака, цеста цягнецца і пякла бонды.* Мсцібава Ваўк. *Як робіш зацірку, і злепіш бонду.* Вострава Маст., Сапоцкіна Гродз. *Бонды і праснякі — адно і тое ж. Натруць канапель, маку і аш бруха баліць, як наясіся бонды.* Паляцкішкі Воран. *Бонда — праснак для дзяцей.* Масілавічы Сл. 6. Піражкі з рознай сумесі, з дамешкай травы. *Пасля вайны пяклі бонды с крапівы, усе елі, да не хватала крапівы.* Бакшты Іўеў. 7. *абрад.* Пірог для памінальнага стала. *Як хто памрэ — пякуць тры бонды з простай пшанічнай мукі.* Малахоўцы Бар. *На памінках бонду пяклі, кап не кісла была, з мукі размяшаюць і ляпёшкі такія пякуць.* Масілавічы Сл. 8. Пірог, які пяклі к святу. *На каляды бонды пяклі.* Сапоцкіна Гродз. 9. пры параўн. *Печані тоўстыя, як бонды.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *bandà* 'бохан'. 10. Гасцінец, што давалі калісьці парабку, пастуху. *Бонда — падарак гадавы таму, хто служыў і атходзіў: давалі булку хлеба, кумпяк бараніны, свіны акорак — усё гэта ўваходзіла ў бонду.* Граўжышкі Ашм. *Як атслужыць парабак, яму бонду давалі і на бонду давалі.* Бакшты Іўеў. *Даўней, як хто чалядніка наймаў, ён работаў да калят, яму плацілі ячменям альбо жытам і бонду давалі: кусок сала, кумпяка, калбасу.* Малькуны Ігн. *І пастуху давалі бонды на сёмуху: кілбасу, паўбуханкі хлеба, рубля грошы.* Кіралі Шчуч. 11. Маленькае кольца каўбасы. *Бонда — маленькая кілбаса, далі дзецям па бондзе.* Саланое Віл. 12. Тлушч на лапатках у непакладанага кабана. *Як кнюром пабудзя, то нарастаюць бонды на лапатках пярэдніх, нарасце, як булкі, цвёрдыя.* Старыя Смільгіні Воран. 13. Скрутак нутранога сала. *А сала, што ўнутры, у бонды круцілі.* Парэчча Гродз.; *параўн.* літ. *bandà* 'батрацкі пасеў'. 14. Жывёліна, што даюць у пасаг маладой. *Калі маладая карову ў пасах прывядзе, завецца бонда: бонду прывяла, мая бонда.* Навасёлкі Свісл. *Бывала, увосень маладыя прыходзяць у госці і бацькі даюць бонду; авечку, цялушку.* Масілавічы Сл. *Батькі бондою подарылі* [пасажнай каровай], *а посаг — як мнэго дают — і коні, і поле.* Азарычы Пін. *Посажну корову звалі бонда. Давалі бонду, як замуш ішла дочка.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* літ. *bandà* 'тж'. 15. *устар.* Надзел, участак зямлі. *Бонда — гэта зямлі кусок, мая часць.* Малькуны Ігн. *У бацькі была дваццаць адна дзісяціна і шэсць сыноў, дзялілі — і адлічвалася бонда зямлі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 16. Засеяны ўчастак для асабістага карыстання. *Як пасеяны вучастак, паміма свайго надзела, то гаварылі: «На бонду пасеяў». Ён бонды*

*дзелаў: узарэць дзірван і на бонду пасеіць лён — гэто яго прыбытак.* Валынцы В.-Дзв. *Бонда — дача ў собственасць. Я сабе на бонду пасеяў. Даў нявесцы гаршчок семя лянога пасеіць на бонду — і яна бярэ ўсё ў собственасць. Даў сыну бонду, сын бонду пасеіў.* Кураполле Паст. ◇ *Накласці, скласці ў бонду* — назапасіць. *Хто накапіў сабе грошы, адзежы, казалі: «У бонду наклаў». Грошы ў бонду складалі, пакуль мышы не з'ядуць. А што яго ў бонду клась? У бонду накладжана багаства, яго бонда расцець.* Лісна В.-Дзв. *Дзелаць, зладзіць бонду* — несумленна назапасіць. *Ён бонды дзелаіць: у людзей накрадзець — бонду зладзіць сабе ціханька.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* літ. *bandà* 'тж'.

БО'НДАР *гл.* БАНДА'Р

БО'НДАЧКА, БО'НДОЧКА, БО'НДЭЧКА *ж. памянш.* 1. Маленькая баханачка хлеба. *Бондачка хлеба.* Старыя Смільгіні Воран. *Спяклі бондачку з астаткаў хлебнага цеста: аскрабеш дзешку і пячэш маленькую булачку, гэта, гаварылі, пастуху бондачка.* Быстрыца Астр. *Тры бальшыя буханкі, а чацвёртая бондачка — гэта маленькі хлябок.* Масішкі Красл. 2. Перапечка, булачка з прэснага цеста. *Бондачкі пяклі з мукі.* Лайпушкі Ігн. *Баба бондачку спякла з жытняе і пшанічнае мукі. Пяклі бондачкі на Пятра.* Міратычы Карэл. *Бондачкі елі з малаком.* Стральцы Шальч. *Бондачку сабе спікла з мукі.* Валынцы В.-Дзв. *Бондачкі на саракі пяклі.* Быстрыца Астр. *Перад Новым годам дзеўчаты варожаць на люстро, кормяць курэй ноччу, даюць сабакам бондачку, чыю бондачку першу схопіць, тая дзеўка перша замуш выдзя.* Вострава Маст. *Бондэчкі вальцаваныя.* Скрудалена Даўг. 3. Перапечка з бульбы, бульбянка. *Бондачкі бульбяныя пяклі.* Бакшты Іўеў. 4. Камячок хлебнага цеста, што пакідалі для закваскі ў дзяжы. *Бондачка — кавалак цеста ў дзяжы, пакідалі для кіслі.* Бакшты Іўеў. 5. Маленькая каўбаска. *К калядам кілбасы рабілі і дзяцём бондачкі з гэтага самага мяса.* Саланое Віл. *Робіць кілбасы і астаецца маленькая кілбаска: «Во, дзеці, вам бондачка».* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Твар кругленькі, як бондачка.* Кіралі Шчуч. 6. Жывёла, якую давалі ў пасаг. *Возьмы маю дочку, то дам тобі бондочку, і бычка-трытячка, шэй тылушычку.— Чорт тыбэ побыры і с твэю дочкою, і з бычком-трытячком, і с тылушычкаю.* Сіманавічы Драг.; *гл.* б о́ н д а.

БОНК *м. заал.* Авадзень. *Бонк укусіў.* Паляцкішкі Воран. *Бонк моцна кусае.* Галоўні Воран.; *параўн.* польск. *bąk* 'сляпень'

БО'НКА *ж.* Тое ж, што і б о н к. *Бонка на коні нападае, каровы гілююць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Бонка моцна кусае.* Капцёўка Гродз., Мсцібава Ваўк.

БОНЦЬ *злуч.* Абы. *Гэта бонць на каго так скажаш.* Парэчча Гродз.; *параўн.* польск. *bądź* 'або'.

БО'НЬКІ *мн.* У выразе: *Бонькі біць* — гультаяваць, марна траціць час. *Гарацкія, як прыедуць у дзярэўню, бонькі б'юць на вуліцы.* Кураполле Паст.

БОП, БОБ, БЫБ *м.* 1. Боб. *Боп і фасоль — асобне.* Беняконі Воран. *Некалі боп садзілі і гатавалі.* Гемзы Шальч. *На куццю боп варылі і ўдзень елі — цягаем і ядзём цэлы дзень.* Груздава Паст. *Боб у агародзе.* Навікі Лудз. 2. Фасоля. *Порускu розружняють фасоль і боб, а по-нашому тое і тое зовуть быб.* Сіманавічы Драг. ∇ *Боп зацвіце — хлеп уцячэ.* Вецярэвічы Пух.

БОР І, БЫР *м.* 1. Хваёвы лес, які расце на высокім месцы. *Бор — дзе сасновы лес высокага места, дзе няма балот.* Рыбчына Віл. *Бор — высокая меснасць, дзе расце хвойнік. На бары пешчана почва, ягаткі растуць. На бары не будзя альхі — чысто хваёвы лес.* Дзяніскавічы Ганц., Рудня Астравітая Чэрв., Пасека Ст.-Дар. *Такі бор, сасна расце.* Ухвала Круп. *Ішлі лугамі, барамі на гору.* Альхоўцы Лях. *Быр — дэ пыскові місто.* Дзмітравічы Кам. 2. Стары высокі лес. *Бор — стары лес.* Галоўні Воран. *Бор — лес стары, высокі.* Талейкі Швянч. *Бор — высокі сасновы лес.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

БОР ІІ *м.* Проса. *Буду варыць бор.* Малыя Аўцюкі Калінк.

БО'РАЎ *м.* Парсюк. *Бораў быў вясенны.* Валынцы В.-Дзв. *Выкармілі гэтай грэчкай вялікага борава.* Саланай Валож. *Абады кушаюць, как барава рэжуць.* Скрудалена Даўг. *Бърва́ будуць біць.* Пасіене Лудз.

БО'РАЦЦА *незак.* Бароцца. *Борацца пачалі мальцы.* Мярэцкія Глыб.

БОРДЗЬ *гл.* БОРЦЬ

БО'РЗА, БО'РЗДА, БО'РЗДО *прысл.* Хутка. *Я ўжо борза не магу нахіліцца.* Старыя Трокі Трак. *Борзда ходзіць — не дагнаць.* Нізок Уздз. *Ты ідзі борздо, чакаюць цябе.* Любішчыцы Івац. *Борздо робіць.* Тухавічы Лях.; *гл.* б о́ р з д ы.

БО'РЗДЗЕНЬКА, БО'РЗДЗЕНЬКО *прысл. памянш.* Хуценька. *Маці пасылае: «Ідзі, прынясі борздзенька!»* Крупіца Мін. *Борздзенько ідзі рабі!* Міратычы Карэл., Дзяніскавічы Ганц.

БО'РЗДЫ *прым.* Быстры. *Борзды конь.* Тухавічы Лях.; *параўн.* літ. *burzdùs* 'тж'.

БО'РКІ толькі *мн.* У выразе: *За боркі братісе* — брацца за грудкі, моцна сварыцца. *Так сварылісе, што чуть за боркі нэ браліся.* Курашэва Чыж.

БОРКОНО'ГІ *прым.* Крываногі. *Борконога баба мае ногі поотпіераны.* Курашэва Чыж.

БОРМОТУ'ХА *ж.* Балбатуха. *Такая бормотуха, што як начнэ говорыті, то нэ поймеш.* Курашэва Чыж.

БОРОДА' *ж. бат.* Сівец. *На рыціе траву выкосів, шчэ кроху бороды осталосе, але ўжэ косіті нэ буду.* Курашэва Чыж.

БОРОДЯ'ВКА *гл.* БАРО'ДАЎКА

БОРОДЯ'ШКА *ж.* Тое ж, што і б а р о́ д а ў к а. Азарычы Пін.

БОРОЗНЯ' *гл.* БАРАЗНА'

БОРОНА' *гл.* БАРАНА'

БОРО'ЦІСА *незак.* Басціся. *Корова борэцца рогамі. Корова будэ бороціса.* Смаляніца Пруж.

БО'РСАЦЦА *незак.* Займацца, вазіцца. *Я не хацеў з імі* [пчоламі] *борсацца. Борсайся з гэтымі білетамі. Мы борсаліся з ею, можа, нядзелю. Сколькі гэты сут борсаўся.* Гемзы Шальч.

БО'РСАЦЬ *незак.* Зацягваць аборы ў лапці. *Волокі борсалі ў лапці і обувалі.* Хатынічы Ганц.

БО'РТНІК, БАРТНІ'К *м.* Пчаляр. *Раней бортнік разводзіў пшчол.* Старыя Трокі Трак. *Бортнік даглядае пшчолы.* Сапоцкіна Гродз. *Бортнік займаўса пчалыма.* Дзяніскавічы Ганц. *Бортнік робіць вулля.* Хатынічы Ганц., Жылі Іўеў.; *параўн.* польск. *bartnik* 'тж'.

БОРЦЬ, БО'РЦЯ, БОРДЗЬ, БАРЦЬ, БАРЦЯ' *ж.* 1. Тоўстае дрэва, пераважна хвоя. *Старая борць.* Лісна В.-Дзв. *Борці апілоўвалі і рабілі кадаўбэ.* Парэчча Гродз. *Борцямі называлі пчаляры дрэвы тоўстыя.* Мсцібава Ваўк. *Гэта барця, можа, дзвесця лет стаіць.* Лісна В.-Дзв. 2. Дрэва з дуплом. *Борці — хвойкі такія пустыя, бутлыя, у іх пташке́ вяліся.* Пацаўшчына Дзятл. *Борць — тоўстае дзерава, дуплінатае, пчолы там усяліліся.* Глівін Барыс. *Борць — сасна з дуплом, дзе пчолы водзяцца.* Навасёлкі Свісл. *Борці былі ў лясу, да іх на лазівах лазілі лапаць пшчол.* Старыя Трокі Трак. *Пчаляр спіліў борць — думаў там пчолы, а каліся былі осы.* Лісна В.-Дзв. *Старая тоўстая сасна з дуплом у сярэдзіне — гэто борць.* Малахоўцы Бар. *Борця — хвоя, дзе вядуцца пчолы.* Кіралі Шчуч. *У барці вядуцца пчолы.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Дупло. *Сасонку зрэжуць, а там борць. У борць увайшлі пчолы.* Рыбчына Віл. *Часам у борці пшчолы бываюць.* Сапоцкіна Гродз. *Паляцелі пчолы ў борць.* Кіралі Шчуч. *Борць у сасне.* Любішчыцы Івац. *Барць у дзераве, якое выпарахнеўшы.* Старыя Смільгіні Воран. 4. Штучна зробленае гняздо для пчол. *Кагда́-то былі борці: выдзяўбуць грубое дзерава — у сасне, у ліпе, крыжык устаўлялі. Дуплянатае дзерава выберуць на борць.* Бакшты Іўеў. 5. Вулей, калода. *Борць ставілі лавіць пчолы.* Рыбчына Віл. *Бордзь у калодзе выдаўбаюць.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *параўн.* польск. *barć* 'тж'.

БОРШЧ *м. бат.* Баршчэўнік. *Боршч расцець у гаротчыку.* Альхоўка Навагр. *Боршч расцець па агародах, дзе яго пасадзіш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Боршч сушаць і суп варацьзімой.* Жылі Іўеў.

БО́САЯ ЯЕ́ШНЯ *ж. кулін.* Яечня. *Калі цалкам наб'еш яец, то босая яешня.* Пасека Ст.-Дар.

БО́СЕНЬКІ *прым. памянш.* да б о́ с ы. *Хадачке* [від абутку] *— гэта харашо, а так босенькі.* Швэды Вільн. *Зусім босенькі бегаіць.* Дварчаны Паст.

БОСО́НОЧ *прысл.* Басаnoж. *Обутісе бэз онучок чы скарпэтуов — босоноч. Наложы босоноч чосанкі і выйді зобач, чого собака брэшэ.* Курашэва Чыж.

БО́СЫ *прым.* Неабуты. *Босы ходзіць.* Рыбчына Віл. *Боса пойдзіш?* Жылі Іўеў. *Ты некалі і сама хадзіла боса, а сяганя і курыца абуваная.* Альхоўка Навагр. *Калісь босыя хадзілі.* Ністанішкі Смарг. *Да касцёлы ішлі босыя, а потым абуваліся — так было даўней.* Старыя Трокі Трак. *Калісь босы ідзеш да мястэчка, а на плячох боты нясеш.* Мсцібава Ваўк. *Няма як прайсці босаму.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Раса, раса, а я молада — боса.* Ухвала Круп.

БОСЯ́К I *м.* 1. Бядняк. *Богатыя біедных босякамі звут.* Курашэва Чыж. 2. Нядбайны, негаспадарлівы чалавек. *Некый босяк був той пан, бо цілого маёнтка прогойшыв. Тылько грошэй ёму досталось, алэ босяк босяком, той бідно жыв.* Сіманавічы Драг.

БОСЯ́К II *гл.* БУСА́К

БО́СЯНЬКАЙ *прым.* у знач. *прысл.* Басанож. *Яна босянькай ходзіць.* Старыя Трокі Трак.

БОТ *м.* Бот скураны і гумовы. *Абуў боты.* Грыкені Вільн., Чычалі Швянч. *Нашу боты.* Рыбчына Віл. *Нарабіў ты многа, customavat бота не заклеіш.* Сапоцкіна Гродз. *Выръбатъвалі кожу і шылі мужскія боты, жэнскія чаравікі.* Навікі Лудз.

БО́ТКІ толькі *мн.* Ігліца хваёвых дрэў. *Боткі асыпаюцца з хвайны, з еліны. Іх зграбаюць і падсцілаюць жывёлу. Боткаў прынёс падаслаць у хляве. І на дрэве зялёныя боткі.* Каўняны Гродз. *Боткі на галэнзі хвойкі.* Воўкуш Ліпск.

БО́ЎДЗІЛА *м.* і *ж. зневаж.* Неразумны, дурны чалавек. *Боўдзіла ты!* Старыя Трокі Трак. *Боўдзіла ты, неразумная!* Вецярэвічы Пух. *Вось дык боўдзіла!* Дварчаны Паст.

БОЎТ, БОЛТ, БОВТ *м.* 1. Тое ж, што і б а л т а́ к. *Рыбу заганяюць у сетку боўтам.* Мсцібава Ваўк. *Ловяць рыбу двоя і троя, адзін боўтам заганяя рыбу ў сетку.* Малахоўцы Бар. *Болт — длінны крук з булдавой.* Мсцібава Ваўк. *Болтам заганяюць рыбу.* Магуны Паст. *Балтом заганяюць рыбу ў сетку.* Сапоцкіна Гродз., Быстрыца Астр. *Бувтом рэбу гонять, ек ловлять.* Радастаў Драг. 2. Тое ж, што і б а л б а т у́ н. *Боўтам называюць таго, хто многа гаворыць.* Малахоўцы Бар.

БО́ЎТАНЫ *прым.* Перамяшаны, разведзены ў вадкасці. *Боўтаную яешню робяць так: яйкі б'юць, малака дабаўляюць, мукі і разбоўтаюць.* Рудня Астравітая Чэрв.

БО́ЎТАЦЦА *незак.* Плёхацца. *Боўталіся дзеці ў вадзе.*

Саланое Віл. *Боўтаюцца ў вадзе.* Дакудава Лід. *Пачалі боўтацца, плюхацца.* Беражное Стол.

БО'ЎТАЦЬ *незак.* 1. Размешваць, узбоўтваць. *Ня боўтай малака!* Вецярэвічы Пух. 2. Паласкаць, мыць. *Палешукі боўтаюць у раке плаццяя цэлы гот.* Ісерна Слуц.

БОЎТА'Ч, БОЎТЫ'Ш *м.* 1. Тое ж, што і б а л т а́ к, б о ў т 1. *Ёсць боўтач рыбу заганяць.* Бакшты Іўеў. *Боўтыш суе ў берагі і ганяе рыбу боўтышом.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *перан.* Тое ж, што і б о ў т 2. *Ты дурны боўтач!* Бакшты Іўеў.

БО'ЎТКА, БО'ЛТКА *ж.* Тое ж, што і б а л т а́ к, б о ў т 1. *Пары рыбу боўткай!* Лісна В.-Дзв. *Болтка — жардзіна з булавой на канцы, якою заганяюць рыбу ў сетку.* Лайпушкі Ігн. *Болтку вазьмі, як пойдзіш на рыбу.* Скрудалена Даўг.

БОЎТУ'ШКА *ж.* Рыбалоўная снасць. *Боўтушкі плетуць з лозы, уніз вузка, а ўверху шырэй і шырэй.* Малыя Аўцюкі Калінк.

БО'ХАН, БО'ХОН *м.* 1. Вялікая баханка хлеба. *Пухкі высокенькі бохан хлеба.* Масілавічы Сл. *Калісьці маладусе як дадуць бохан, калі ласка, нехай прэ.* Грыкені Вільн. *Баханоў насадзілі ў печ.* Магуны Паст. *Ні галодны, цэлы бохан хлеба мае.* Номікі Бабіц. *Вылікого бохона хліба взяв на дорогу.* Сіманавічы Драг. 2. Скрутак нутранога сала. *Маю бохан садла. Спашывалі садла ў такі бохан.* Новыя Мацалі Варэн. 3. пры параўн. Вялікая баханка. *У каня персі, як баханэ.* Вялікія Баяры Шчуч.

БО'ХАЎКА *ж.* 1. Тоўстая калода. *Калода — бохайка. Кадушку таксама называлі бохайкай.* Саланое Віл. 2. пры параўн. *Наелася, што бохайка. Баба тоўстая, што бохайка.* Саланое Віл.

БО'ХАЦЬ *незак.* Плёхаць. *Бохая конь па гразі.* Вецярэвічы Пух.

БО'ХОН *гл.* БО'ХАН

БО'ЧКА *ж.* 1. Кадушка. *Бочка з дзерава зроблена.* Судэрва Вільн. 2. Мера вагі бульбы. *Даўней мералі бульбу бочкамі.* Гемзы Шальч. *Бочка — восім асьмін, дваццаць чатыры пуды.* Лапічы Асіп.

БО'ЯСКА *прысл.* Боязна. *Бояска ў лесі.* Лапічы Асіп., Малыя Аўцюкі Калінк.

БОЯ'ЦІСА, БОЯ'ТІСЕ *гл.* БАЯ'ЦЦА

БРА'ВЫ *прым.* Адважны, смелы. *Я ў сваёй хаце бравая.* Ністанішкі Смарг.

БРА'ГА *ж.* Адходы ад вытворчасці спірту, гарэлкі. *А ўвечары брагу кароўцы даемо, сусед з завода сабе і нам прывозіць.* Хатынічы Ганц.

БРАДЗІ'ЦЬ, БРОДІ'ТІ *незак.* 1. Лавіць рыбу. *Пашоў брадзіць рыбу, а п'яўкі паўпіваліся ў сцёгны. Пашлі рыбу брадзіць, вуньдзіка рыбу бродзюць.* Саланое Віл. *Мы бродзім за*

*рыбай.* Мсцібава Ваўк.. 2. Хадзіць. *Як балота касілі, па вадзе брадзілі. Бродзіць па вадзе байбас.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён бродзіць па жыту.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзе ты брадзіла?* Рудня Астравітая Чэрв. *Нехта брадзіў, сляды знаць.* Мярэцкія Глыб. 3. Адмерваць слядамі. *Як лён рвалі, то каждай бабя брадзілі граніцы.* Стральцы Гродз. *Як дзялілі на дзялкі лён, мы брадзілі с калком.* Міратычы Карэл. *Як зайіедэш на лонку, то впэруч трэба бродіті, а послі косіті.* Курашэва Чыж. 4. Часта паказвацца і заходзіць за хмары (пра сонца). *Сонца бродзіць — на дошч заносіцца.* Жылі Іўеў. *Хмурна, сонца бродзіць — мусіць, дожджык будзя.* Бакшты Іўеў.

БРАДЗЯ'ЖНЫ *прым.* Збродлівы. *Брадзяжны кот, за ім нічога не паставіш — муся збан перавярнуць.* Гемзы Шальч.

БРАДЗЯНО'К *м. рыб. памянш.* да б р о́ д з е н ь. *Малы брадзянок ёсь.* Дуброўкі Брасл.

БРАДЗЯ'ЦЦА *незак.* Бадзяцца, параязджаць з месца на месца. *Брадзялася па свету дачка.* Белічаны Бярэз.

БРАДО'К *м. памянш.* да б р о д І, 1. *Е мелкі і глыбокі брадок, браткі гразныя, па чэраво карова грузляе, вада і гразь, а трава не расце.* Дзяніскавічы Ганц. *Брадок перабрыдалі.* Альхоўка Навагр.

БРАЖДЖЭ'ЛЬ *м. бат.* Бружмель. *Дрэва такое браждЖэль, як вішні вышыні, цвіце дробненька, беленька, а тады чырвоныя бубачкі — усё дрэўка ўвосень чырвонае, пасаджана дзеля красы.* Гемзы Шальч. *БраждЖэль да агрэста падобны, кветкі розавенькія, як завушнічкі.* Крэва Смарг. *Браждж**э**ль— такоя дзерава расцець, красныя на ім ягаткі, яго на цэўкі рэзалі. Мая бульба сухая, як браждЖэль.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* літ. *brazdė́ti* 'шастаць'.

БРАЖДЖЭ'ЦЬ *незак.* Бразгатаць. *Што там такое браждЖыць, мо мышы зашарматалі.* Скрудалена Даўг. *Ня трэба браждЖэць! Няможна спаць — браждЖыць бляха.* Ракаўскія Швянч. *Гарох высах — аж браждЖыць.* Малькуны Ігн. *Бразгуны браждЖаць.* Чычалі Швянч. *БраждЖыць кацёл пабіты.* Ахрэмаўцы Брасл. *БраждЖыць акно.* Рыбчына Віл. *Вецер браждЖыць.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *brazdė́ti* 'стукаць, грукатаць, шастаць'.

БРА'ЖКА *ж. неадабр.* Благая кампанія. *Як прыстаў до тое бражкі, то став кепскім хлопцем.* Курашэва Чыж.

БРАЗГАНУ'ЦЬ *зак. перан. экспр.* Згуляць у карты. *Давайце бразганем у тысячу!* Номікі Бабіц.

БРА'ЗГАЦЬ *незак.* 1. Бразгатаць чым.-н. металічным. *Бразгаіць ключамі. Вецір бразгаіць бляхай.* Лісна В.-Дзв. *Ні бразгай лышкай аб міску! Бразгаю касою — не ўкашу.* Саланое Віл. 2. Грукаць, стукаць. *Будзе бразгаць у акно.* Галоўні Воран. *Кто там бразгаіць за акном?* Малькуны Ігн. *Мышкі*

*бразгаюць на сталяванні.* Кіралі Шчуч. *Хто там бразгая палачкай?* Гемзы Шальч. *Чаго ты бразгаеш дзверамі?* Кураполле Паст., Азяраны Раг. 3. Ляскаць зубамі. *Воўк зубамі бразгая.* Старыя Смільгіні Воран. *Што ж, я буду ляскаць, бразгаць.* Кураполле Паст. 4. *перан.* Упікаць. *Вот ён мне і бразгая на вочы, што з гразі мяне выцягнуў.* Лазічы Глыб.; *параўн.* літ. *bràzgint i* 'тж' (ЛТ, 167).

БРАЗГАЧЫ' толькі *мн.* Махры. *Бразгачы ў хустцы.* Вострава Маст.; *параўн.* літ. *brìzgenos* 'тж'; *гл.* б р ы з г а ч ы́.

БРАЗГО'ЛКІ толькі *мн.* Шамкі, бомкі. *Бразголкі — гэта званочкі, што каню вешалі на шыю.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *brazgùliai* 'тж' (ЛТ, 167).

БРАЗГУЛІ' *гл.* БРЫЗГУЛІ'

БРАЗГУ'ЛЬНІК *м.* Рэмень для прымацавання званочкаў у шамках. *Бразгульнік яшчэ і цяпер вісіць у сенях.* Граўжышкі Ашм.; *гл.* б р а з г у л í (ЛТ, 168).

БРАЗГУ'ННІК *м.* Тое ж, што і б р а з г ý л ь н і к. *На бразгуннік навязваюць бразгуны.* Бакшты Іўеў. (ЛТ, 168).

БРАЗГУНЫ', БРЫЗГУНЫ' толькі *мн.* Тое ж, што і б р а з г ó л к і. *Бразгуны вешалі на шыю каню.* Чычалі, Ракаўскія Швянч., Быстрыца Астр. *Бразгуны былі на шэю для красаты.* Магуны Паст. *Дайней казалі: «Пазыч мне бразгуноў».* Малькуны Ігн. *У нас брызгуны называлі і шумёлы.* Кураполле Паст. *З брызгунамі паехалі на госці.* Бакшты, Жылі Іўеў., Гемзы Шальч. *Гáдзінаў навешая на шыю і хадзіў, як з брызгунамі.* Крэва Смарг.; *параўн.* літ. *brazgũnai* 'тж' (ЛТ, 168).

БРАЗГУ'ЧКА *ж.* Бразготка, балабон. *Бразгучку цёлцы павесь, каб не згубілася.* Беразіно Докш.; *гл.* б р а з г ó л к і.

БРАЗГУ'ШКІ толькі *мн.* Тое ж, што і б р а з г у н ы́. *Бразгушкі накладалі каню на шыю.* Вязынка Маладз.

БРАЗДЫ' толькі *мн.* Мяздра, драная бульба. *Бразды — бульбу як старкуеш сырую.* Чычалі Швянч. *Нашаравала браздоў, буду бліны печ.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *brazdaĩ* 'тж'.

БРАК *м.* Нястача, адсутнасць чаго.-н. *Брак сілы, калі вылятая паследні рой.* Старыя Трокі Трак. *Не накасіў сена — брак кармоў.* Стральцы Шальч. *Мне воздуху брак.* Гемзы Шальч. *Вадэ брак у зямле.* Кіралі Шчуч. *У цябе брак солі ў гурках.* Вялікія Баяры Шчуч. *Брак здароўя.* Дакудава Лід. *Купіў бы, ды грошы брак.* Старое Сяло Зэльв. *От жыве, только пташынаго малака брак.* Номікі Бабіц.; *параўн.* польск. *brak* 'тж'.

БРАКАВА'ЦЬ І, БРАКОВА'ТЫ *незак.* 1. Не хапаць. *Што ёй бракуя?* Кураполле Паст. *Бракуіць пагоды.* Магуны Паст. *Скушна, нечага бракуя.* Быстрыца Астр. *Місаў бракавала, усяго там бракавала, не было там раскошы.* Гемзы Шальч. *Адзін тыдзянь бракавала корму.* Стральцы Шальч. *Сілы бра-*

*кавала*. Паляцкішкі Воран. *Ёй бракавала гадоў, бракавала цэлы рок*. Стральцы Гродз. *У зямле бракуе вадэ*. Кіралі Шчуч. *Каму бракавала, то давалі*. Вялікія Баяры Шчуч. *Чаго табе яшчэ бракуе?* Галубы Маст. *Бракуе мне солі*. Пацаўшчына Дзятл. *У мяне хлеба не бракавала*. Масілавічы Сл. *Тут пры пушчы ўсяго не бракуя, але вайкоў мала*. Навасёлкі Свісл. *Бракуе грошэй*. Відзібар Стол. *Можэ бракуватэ грошэй*. Радастаў Драг. *Вэсною бракнэ сіена, трэба докупіті*. Курашэва Чыж. *Бракуе сну*. Кнышэвічы Бабіц. 2. Шкодзіць, балець. *Ён вутлы, слабы: з'есць чаго — яму бракуя*. Старыя Трокі Трак. *Ёй у сярэдзіне бракавала*. Стральцы Гродз. *Раненне бракавала яму*. Тухавічы Лях. *Мусыть нашуй тылусцы шось бракуе, можэ дэ шо ззіла*. Сіманавічы Драг.; *парайн*. польск. *brakować* 'тж'.

БРАКАВА'ЦЬ II, БРЭ'КАВАЦЬ *незак*. Ганіць. *Ён бракуіць харч, кажыць, што нядобры*. Ахрэмаўцы Брасл. *Ён брэкуя, што нядобрая яда*. Азяраны Раг.

БРА'КАР *м*. Бракёр, чалавек, які сарціруе, выбракоўвае драўніну, лес. *Сусіедуов сын бракарам робіт на тэртакові*. Курашэва Чыж.

БРАКАЎЛІ'ВЫ, БРАКАРЛІ'ВЫ *прым*. Пераборлівы. *Бывая чалавек бракаўлівы — таго і таго ня есць. І жывёла бракаўліва*. Лайпушкі Ігн. *Бракарлівы таго не есь, то таго не есь*. Ракаўскія Швянч.

БРАКАЎНЫ' *прым*. Нядобры, благі, непрыгодны да яды. *Бракаўных шмат гарэхаў набрала*. Альхоўка Навагр. *Бракаўныя арэхі былі чорныя*. Пацаўшчына Дзятл.

БРАКОВА'ТЫ *гл*. БРАКАВА'ЦЬ I

БРАКО'ЎНЫ, БРАКЫ'ВНЫЙ *прым*. 1. Заганны, з недахопам. *Бракоўна карова бэз рага, бэз хваста*. Старыя Смільгіні Воран. *Бракывна корова була*. Сіманавічы Драг. 2. Непрацаздольны, хворы. *У яго бракоўныя лёхкія — прысохлі да жэбраў*. Жодзішкі Смарг. *А я быў бялабілетны — у мяне рука цякла, бракоўны быў*. Парэчча Пух. 3. Негатунковы. *Жыто браковнэ*. Смаляніца Пруж.

БРА'ЛКА *ж*. Жанчына, якая рве лён. *Ужо бралкі лён бяруць*. Азяраны Раг.

БРА'МА *ж*. Двухстворкавыя вароты. *Атчыні браму*. Мярэцкія Глыб. *Была брама ўстроена, пакрыта*. Палік Барыс. *Брама — варота, толькі аддзеланы*. Малахоўцы Бар. *Брама — варота з досок здзеланые*. Смаляніца Пруж.; *парайн*. польск. *brama* 'вароты'.

БРА'МКА *ж. памянш*. Веснічкі. *Брамка адчынена*. Паляцкішкі Воран. *Закрыў брамку*. Старыя Смільгіні Воран. *Зачыні брамку*. Вялікія Баяры Шчуч.

БРАНДО'ЛА *ж. экспр. зневаж*. Балбатуха. *Брандола ты, набрандоліла сем бочак*. Мсцібава Ваўк.

БРАНДО'ЛІЦЬ *незак.* Балбатаць. *Брандоліш мне пад ухам пустое.* Мсцібава Ваўк.

БРАНДУ'К *м.* Зерне арэха. *У арэху велькі брандук.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* літ. *brándulas* 'тж'.

БРАНДУ'ШКА *ж. памянш.* Званочак, бомка. *Брандушкі накладалі на шыю каровам, брэндая брандушка.* Бакшты Іўеў.

БРАНЗАВА'НЫ *прым.* Аздоблены, упрыгожаны гузікамі бронзавага колеру. *Дайней пазычалі ў сваты ехаць уздэчку бранзаваную і шлеі бранзаваныя.* Мярэцкія Глыб.

БРАНЗАЛЕ'Т *м.,* БРАНЗАЛЕ'ТА *ж.* Бранзалет. *Насіла на руцэ бранзалет.* Навасёлкі Свісл. *Бранзалета вісіць на руцэ.* Сапоцкіна Гродз.

БРАНЗАЛЕ'ТКА *ж. памянш.* да б р а н з а л é т. *Бранзалетку згубіла.* Вострава Маст.

БРАНІ'ЦЫ толькі *мн. бат.* Мужчынскія асобіны канапель. *Браніцы пыляць.* Вецярэвічы Пух. *Адрозніваюць каноплі і браніцы.* Стральцы Гродз.

БРА'НЫ *дзеепрым.* 1. Збіраны. *Тут ужо ягады браныя.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Узятая замуж. *Мая мама з той вёскі брана.* Саланое Віл. *Адкуль яна брана?* Ністанішкі Смарг.

БРАСК *м.* Бразганне. *Браск какой — как будзь-та жалязінка ўпала.* Скрудалена Даўг.

БРАСКАТА' *ж. бат.* Тое ж, што і б р а ж д ж э́ л ь. *Браскату зрэзаў.* Навасёлкі Свісл.

БРАСТА', БРО'СТА *ж.* Тое ж, што і б р о д I, 1. *Там браста, можна прайсці.* Чычалі Швянч. *Броста ёсць праз ручай.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *brastà* 'тж'.

БРА'ТАВАЯ, БРА'ТАВА, БРАТО'ВА *ж.* Жонка брата. *Братавая мая ідзе.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Прыехала братавая.* Саланое Віл. *Мы з братавай і не помніцца, як бачыліся.* Беразіно Докш. *Мая братава рабіла пэпці — тапачкі.* Старыя Трокі Трак. *Прыходзіла да мяне братава.* Дакудава Лід. *Натапілі вуглём печку, і ён умёр, а братаву атхвацілі.* Індра Красл. *Братова — жонка брата.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *bratowa* 'тж'.

БРАТАВУ'ХА *ж.* Тое ж, што і б р á т а в а я. *Братавуха бурчала на мяне.* Азяраны Раг.

БРАТА'Н *м.* Сын брата, пляменнік. *Мой братан прынёс ягат.* Жылі Іўеў.

БРАТА'НАК *м.* Тое ж, што і б р а т á н. *Мае братанкі пашлі ў ягады.* Жылі Іўеў., Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *bratanek* 'тж'.

БРАТАНІ'ЦА *ж.* Дачка брата, пляменніца. *Мая братаніца робіць у шпіталю.* Сапоцкіна Гродз. *Братаніцы на лета да нас прыехалі.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *bratanica* 'тж'.

БРАТА'НІЧ *м.* Тое ж, што і б р а т а́ н. *Мой братаніч у горат паехаў, там і ажаніўся.* Старое Сяло Зэльв.

БРАТА'ТІСЕ *незак.* Заводзіць дружбу, сябраваць. *З йім трэба брататісе, бо то кепскі чоловіек.* Курашэва Чыж.

БРАТІ'ХА *гл.* БРАЦІ'ХА

БРА'ТКА *м. ласк.* пры зваротку. Браток. *А, братка, ты мой!* Грыкені Вільн.

БРА'ТКІ толькі *мн. бат.* Браткі. *Палявыя браткі ад залатухі.* Бакшты Іўеў. *Браткі йе на полі.* Вецярэвічы Пух. *Браткі — у іх купаюць дзяцей.* Рудня Астравітая Чэрв.

БРАТКІ'Я *мн. прым.* Буйныя, спорныя. *А ягады сёлета такія вядроныя, такія браткія.* Котчына Мядз.

БРАТО'ВА *гл.* БРА'ТАВАЯ

БРАТО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і б р а́ т а в а я. *Братоўка ка мне прышла.* Мішневічы Шум. *Братоўка яна мая.* Талейкі Швянч.

БРА'ТЫ *гл.* БРАЦЬ

БРАЎНА' *ж.* Спінка ў ложку. Быстрыца Астр.; *параўн.* літ. *briaunà* 'тж'.

БРАЎНО' *н.*, БРАЎНА', БРО'ЎНА *мн.* Бервяно. *Пяць браўноў прывёз дадому.* Ухвала Круп. *Былі браўна́ тоўстыя. Браўна́ падаставалі з балота.* Альхоўцы Лях. *Броўна трэба цягаць з вады.* Азяраны Раг.

БРА'ХА *м.* Тое ж, што і б р а́ т к а. *А, браха, што я бачыў!* Старыя Трокі Трак.

БРАХА'ЦЬ *незак.* 1. Выць, брахаць. *Даўна лясы былі — выйдзеш і слухаеш вечарам: ваўкі брэшуць і выюць.* Саланое Віл. 2. *перан. экспр.* Балбатаць, малоць языком. *Хлопцы прыдуць, дзеўкі і брэшаць усяк.* Ракаўскія Швянч. 3. Нагаворваць, паклёпнічаць. *Толькі брэша і брэша на людзей, усе яму дрэнныя.* Гемзы Шальч. *Ты будзіш брахаць, а мужык і рукі прыменіць, ты яму языком, а ён — рукамі.* Кураполле Паст. ∇ *А за лесам, за пралесам таратай брэша* — зубы, язык. Ухвала Круп.

БРАХЛІ'ВЫ *прым. перан.* Балбатлівы. *Брахлівы чалавек многа гаворыць.* Кураполле Паст. *А ён такі брахлівы.* Магуны Паст.

БРАХУ'Н, БРЭХУ'Н *м. зневаж.* Балбатун, хлус. *Мана ўсё гэта, а сам ты брахун, якіх свет не відаў.* Ухвала Круп. *Вы його нэ слухайтэ, што вуон говорыт, бо то такі брэхун.* Курашэва Чыж.

БРАЦ *выкл.* Бац, бух. *Яна брац каля дошкі — і ляжыць.* Малькуны Ігн.

БРАЦЕ'НІК *м.* Дваюрадны або траюрадны брат. *Янук Зэнону браценік.* Чычалі Швянч. *Брацenікі мае памёрлі.* Лісна В.-Дзв. *Брацэнікі на вяселле прыехалі.* Ухвала Круп., Вецярэвічы Пух.

БРА'ЦІТКО *м. памянш.-ласк.* Браточак. *Майго брацітка пад Гродняй забілі.* Валынцы В.-Дзв.

БРАЦІ'ХА, БРАТІ'ХА *ж.* Тое ж, што і б р а́ т а в а я. *Мая браціха прыходзіла ў госці.* Граўжышкі Ашм. *Браціха мая прыходзіла, к браціхе пашлі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Браціха — братова жонка.* Смаляніца Пруж. *Браціха ідзе.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Пэрэговорыласе з братіхою за куры.* Курашэва Чыж.

БРА'ЦЦА *незак.* 1. Пачынаць работу, наймацца. *І хлопец бярэцца касіць.* Кураполле Паст. *На чорта бярэсся, як ня можыш рабіць.* Груздава Паст. *Пастыр браўся на вёску.* Ахрэмаўцы Брасл. ∇ *Прышоў Барыс — за сяўбу бярысь.* Ухвала Круп. 2. Намагацца, старацца. *Як браліся за яго ўрачы, усімі сіламі лячылі.* Кураполле Паст. 3. Ручацца, заступацца. *Я не бяруся за Юрку, а Зося добра робіць.* Магуны Паст. *Я за таго бяруся, каго абіжаяць.* Кураполле Паст. *Чаго бярыцёся за іх?* Граўжышкі Ашм. 4. Уступаць у шлюб. *Цяпер у сельсавеця бяруцца замуш.* Крэва Смарг. *Тэпэр люб'ят і бэруцца, як хочут самы молодые люды.* Горск Бяроз. 5. Узнікаць. *Дзе тая сіла бралася?* Саланое Віл. 6. Бароцца, змагацца. *Я не ў сілах брацца за грудкі.* Хатынічы Ганц. 7. Зноў з'яўляцца. *Каўтун здымаюць, ён абратна бярэцца ад іспугу, нерваў вялікіх.* Рудня Астравітая Чэрв. 8. Узыходзіць вышэй. *Ужо слонца паўдня бярэцца.* Стральцы Гродз. 9. Цяплець ці халадаць. *Цяпло берыцца.* Чычалі Швянч. *Марос будзіць брацца.* Ахрэмаўцы Брасл. 10. Запякацца. *Скарынка ў хлебе не бярэцца, укінь трэсак, каб загнеціўся.* Жодзішкі Смарг. 11. Пачынацца, наставаць. *Ужо бярэцца відняць.* Стральцы Гродз. 12. *рыб.* Таркаць. *Ляшчы бяруцца на выпалску.* Быстрыца Астр. 13. Прыставаць. *Красіла, ды краска ня берыцца.* Лісна В.-Дзв. 14. Нечакана з'явіцца, прыйсці. *Аткуль ты браўся?* Саланое Віл.

БРАЦЬ, БРА'ЦІ, БРА'ТЫ *незак.* 1. Узяць што-н. рукамі. *Бярэ касу, ідзе касіць.* Хатынічы Ганц. *Бе́рыш шуфель і шуфлем брасаіш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Два ведра бе́рыць і ідзець па ваду.* Валынцы В.-Дзв. *Ужо сапагі бяруць абувацца.* Саланое Віл. *Зверху бе́рыш, кап попелу не браць.* Лайпушкі Ігн. *У рукі не браў саху.* Грыкені Вільн. *Бе́руць саломы ржаной на падсціл.* Індра Красл. *Бе́раш сноп і аббіваеш.* Істра Лудз. *Ёсць такіі, што бе́руць вужаку ў руку.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вонэ жабэ брале рукамэ.* Дзмітравічы Кам. 2. Узяць што-н. пры дапамозе прылад працы. *Віламі гной бярэш у хляве.* Грыкені Вільн. 3. Збіраць. *Грып, каторы с чарвяком, ня бе́рыш.* Малькуны Ігн. *Ці ўмеіш ты хоць браць грыбы?* Ухвала Круп. *Людзі ідуць у лес, грыбы бяруць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Рабіну бяруць і ў продаш, прадаюць.* Магуны Паст. *Людзі ягады бяруць, а мне часу не было.* Альхоўка Навагр. 4. Капаць бульбу. *Жнуць бульбоўнік, а тады ганяюць і бяруць бульбу. Як*

*бульбу бе́рым, дачка памагаіць. Усягды загадаваюць, як падойдзіць бульбу браць. Брачкі бульбу бяруць.* Саланое Віл. *Паехалі бульбу браць. Увосень бульбу бяруць.* Рыбчына Віл. 5. Лён рваць. *Пашлі бабы лён браць.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *гл.* ДАБМ, карта № 267. 6. Чэрпаць ваду. *Бяруць ваду ў студні.* Магуны Паст. *Ваду з ракі бралі.* Саланое Віл. 7. Купляць. *Яна хлеб у магазіне бе́рыць у запас.* Чычалі Швянч. *Бяром хлеп у Вільня.* Старыя Трокі Трак. 8. Адшукваць сродкі. *Адкуль ён бе́рыць грошы?* Ракаўскія Швянч. 9. Выбіраць нектар з кветак. *Мёт пчолы бяруць.* Саланое Віл., Груздава Паст. 10. Выбіраць мёд з вулля. *Я яшчэ ні з аднэй калоды не браў мёду.* Саланое Віл. 11. Лавіць. *А каты ласкі не бяруць.* Гемзы Шальч. 12. Прымаць. *Гэтыя бутылкі не бе́руць у магазіне.* Ахрэмаўцы Брасл. 13. Жаніцца, браць за жонку. *Старая дзеўка, яе замуш не бе́руць. Дзяўчына красівая, усе п людзі бралі.* Саланое Віл. 14. Знайсці. *Дзе сіраце бацьку браць, калі яго не відаць?* Рыбчына Віл. 15. Аддзяляць што-н. для аналізу. *Лабарант бярэць аналіз.* Саланое Віл. 16. Узмацняцца [пра дождж], ліць. *Дошч бярэ, а дзеўка ў адной юпацца пашла.* Старыя Трокі Трак. ∇ *Чужоя дабро бярэць за рабро.* Ёдлавічы Брасл. ◊ *Сон бярэ. Сон калі берыць, а калі не.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бываіць, што сон ня берыць.* Малькуны Ігн. *Выманчыўся — сон ня берыць.* Быстрыца Астр. *Прыступ бярэ. У яго даўленя — прыступы яго беруць.* Жодзішкі Смарг. *Яе натта прыступы бралі — на сэрца хварэла.* Кіралі Шчуч. *Спіну бярэ.* Міратычы Карэл. *Як укусіць гадзіна — боль за сэрца бярэ.* Альхоўка Навагр. *Кашля бярэць.* Лісна В.-Дзв. *Браць дзіцям* — пра пачатак родаў. *Яе бярэ дзіцям—будзя раджаць.* Бакшты Іўеў. *Жаль бярэ. Асталася ўдавой, як прыпомню — жаль бярэ.* Старыя Трокі Трак. *Людзі плачуц, а мяне не бярэ жаль.* Парэчча Гродз. *Смех бярэ. Смех мяне берыць.* Чычалі Швянч. *Злосць бярэ. Аш мяне злосць бярэ.* Крынкі Крын. *Браць помсту* — помсціць. *Ён бярэ помсту — я яго ўмаляю.* Граўжышкі Ашм. *Браць меры. Як будуць вянкі збрасываць* [з могілак] — *будзем меры браць.* Ракаўскія Швянч. *Браць мяса* — сыцець, набіраць вагу. *Індык лепей на сябе мяса бярэ, чым індычка.* Кіралі Шчуч. *Хоць з рота браць. Яна мяне так накарміла, што хоць з рота бяры.* Парэчча Гродз. *Смерць не бярэць. І смерць не бярэ і жыць цяшка.* Новікі Гродз. *Чорт не бярэ. Яго і чорт ня берыць. У рот не браць* — не піць. *Ён гарэлкі ў рот саўсім ня берыць, такі добры стаў.* Ахрэмаўцы Брасл.

БРАЦЮ'К *м. абрад.* Шафер. *Друшкі ад міне і ад яго друшка і брацюкі — такая асістэнцыя ў маладых.* Старыя Трокі Трак.

БРАЦЮ'ТКА *м. памянш.-ласк.* Брацік. *А мой ты брацютка!* Талейкі Швянч.

БРА'ЧКА *ж.* Той, хто капае бульбу, капальнік, капальніца. *Брачка — баба ці мужык — хто бульбу капае.* Рыбчына Віл. *Брачкі бульбу бяруць.* Саланое Віл.

БРА'ЧЧЫК *м. устар.* Манах. *Даўней у браччыкі пісаліся. Як памрэць браччык, яго пахаваюць дарам.* Саланое Віл.

БРАШКУЛІ' толькі *мн.* Тое ж, што і баршкулі II. *Брашкулі былі на шыі ў каня, званкі такія.* Чычалі Швянч.

БРАШЧЭ'ЦЬ *незак.* 1. Бразгатаць. *Званец як выспяіць, брашчыць.* Асавец Віл. 2. Брынкаць. *Банка пабітая брашчыць.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* літ. *braškė̃ti* 'трашчаць, рыпець', лат. *brakšķēt* 'трашчаць'.

БРЁХ *м.* Брэх. *Адна ідзець па вуліцы, а сабакі брёх узнялі.* Мішневічы Шум.

БРОД І, БРОТ, БРУ'ОД *м.* 1. Неглыбокае месца ў рацэ, возеры, дзе можна перайсці, пераехаць. *Брод — там пройдзеш.* Беразіно Докш. *Ідзеш водою — і называецца брот.* Альхоўцы Лях. *Брот, дзе пераходзяць раку, дажа назначаюць брот.* Дакудава Лід. *Брот, дзе плыткая рэчка, можна праходзіць.* Жылі Іўеў. *Па брадох ходзяць, там мелка.* Крупіца Мін. *Як мало воды, то бродом можна пэрэйіехаті.* Курашэва Чыж. 2. Завадзь. *Мелкая рыба ідзе на брот і там нарастуя.* Гемзы Шальч. 3. Гразкі роў. *Брод, бы лахчына, з аднаго і з другога боку вышэй. У нас вялікі быў брод — ад гумна да самага поля, як вясною прыпіраецца аж да вуліцы, на сярэдзіне броду вада і летавала. У браду не расла трава.* Дзяніскавічы Ганц. *Два брады былі, адзін брод такі глыбокі—плылі ўплаў вясной каровы.* Рудня Астравітая Чэрв.▽*Не знаючы броду, не сувайся ў воду.* Кураполле Паст. *Чым дурны перавос — дык лучшы брот.* Лісна В.-Дзв. 4. Балота. *Брот — дзе вада, гразь.* Альхоўцы Лях. 5. След. *Як раса і ідзеш, то будзіць брот.* Жодзішкі Смарг. *Вот еслі пройдзеш — і брот астаецца.* Нізок Уздз. 6. Мяжа, праведзеная слядамі. *Дзе ты зробіш брот той роўны, не сіганеш гэдак роўно.* Міратычы Карэл. *Як косіш, то ціелого броду нэ збірай, бо можна сусіедові пэрэкосіті.* Курашэва Чыж. 7. *мн. брады́.* Сцежкі. *Бузуецца збожжа, адны брады, як паходзіць быдло.* Альхоўка Навагр. *Куры брады парабілі на ячменю.* Кураполле Паст.

БРОД II, БРОТ *м. рыб.* Браднік. *Рыбу ловяць і бродам. Брот складаецца іс сеткі і двух паўзагнутых палкаў, да каторых прыкрапляецца сетка, а трэцяя палка прамая — даўжыні два метры і прыкрапляецца да гэтых паўзагнутых палак. Бродам ловяць тры чалавекі, трэці чалавек за прамую палку нажымая брот да зямлі.* Альхоўка Навагр.; *гл.* бро́дзень.

БРОД III *м.* Трызненне. *Брод у яго, не бачыце, якая гарончка.* Галубы Маст.

БРО'ДАК *м. рыб.* Тое ж, што і брод II. *Лавіў броткам рыбу.* Вецярэвічы Пух.

БРО́ДЖАЦЬ *незак.* Тое ж, што і б р а д з і ц ь 2. *Мы броджалі па вадзе. Карова броджая па лесі.* Альхоўка Навагр.

БРО́ДЗЕНЬ, БРО́ДЗІНЬ, БРО́ДЗЯНЬ, БРЭ́ДЗЕНЬ *м. рыб.* Тое ж, што і б р о д II. *Бродзень — ім утрох ловяць.* Малькуны Ігн. *Рыбу гоніць у бродзень.* Ёдлавічы Брасл. *Бродзень з палазамі, два палазы, апшытыя палатном.* Рыбчына Віл. *Бродзінь мае карму, у карму заходзіць рыба. Хто вяжыць, а хто ччэць бродзінь.* Валынцы В.-Дзв. *Бродні цягаюць удваіх.* Ракаўскія Швянч. *Бродзянь утраёх цягалі: адзін ззадзі, а два—упярадзі.* Быстрыца Астр. *Быў бродзянь на двох калох, яго цягалі ўдваіх.* Вострава Маст. *Бродзянь на дзвёх палках.* Жодзішкі Смарг. *Брэдзянь — такая крыга для лоўлі рыбы.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Брэдзень — сажні на тры і карма ў ім. З брэднем бродзюць.* Лісна В.-Дзв. *У брэдню тры абручы і крыллі.* Глівін Барыс.; *парайн.* літ. *bradinỹs* 'тж' (ЛТ, 168).

БРОДІ́ТІ *гл.* БРАДЗІ́ЦЬ

БРО́ЙДАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і б р а д з і ц ь 2. *Бройдая па вадзе і сетку цягня.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Тое ж, што і б р а д з і ц ь 4. *Бройдая сонейка, за хмарку заходзіць.* Старыя Смільгіні Воран.

БРОК *м.* Тое ж, што і а з я р о́ д. *На азярот казалі брок.* Данілавічы Дзярж.

БРО́МЦІК *гл.* БРО́НЦІК

БРОНКТ, БРУНКТ *м.* Ворчык. *Да бронкта прывязваюць вяроўкі.* Лайпушкі Ігн. *Брункт — палка такая, што пастронкі зачэпліваюць. Ёсць брункт ад плуга і ад бараны, крук зачэплюе на брункт.* Быстрыца Астр.; *парайн.* літ. *brañktas* 'тж' (ЛТ, 168).

БРО́НКТА *ж.* Тое ж, што і б р о н к т. *Некалі казалі: «Закруці вітку да бараны, бо бронкту не будзе за што ўчапіць».* Жылі Іўеў. *Бронкта за плуг, за барану чапляецца.* Гемзы Шальч.

БРО́НЦІК, БРО́МЦІК, БРУ́НКЦІК, БРУ́НЦІК *м. памянш.* Драўляны гузік, бірка. *Даўней бронцікі ўшывалі.* Гемзы Шальч. *Бромцік рабілі з палачкі: палачку абчысціць, прасвідруя дзірачку і прышывае да паясніцы штаноў.* Старыя Трокі Трак. *У штаны ўшывалі брункцікі.* Чычалі Швянч. *У порткі трэба ўшыць бруцікі.* Крэва Смарг. *Брунцік рабілі з палачкі, яе завостраць, прышыюць і зашпільвалі порткі.* Дакудава Лід. *Брунцік прышывалі да штаноў.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* літ. *branktẽlis* 'тж'.

БРО́СІЦЬ *зак.* Пакінуць. *Бросіла сабе комнату, сыну нічога ні дасталося.* Індра Красл.

БРО́СНЯ, БРЭ́СНЯ *ж.* 1. Плесня. *Аткінула бросню с капусты, забруснявелі гуркі.* Міратычы Карэл. *Бросня на капусце, на гурках — бы плеўка засцелецца на расоле, дзе соль, там і бросня.* Дзяніскавічы Ганц. *Бросня — гэто плесня на капусце,*

*гурках.* Ісерна Слуц. *Бросня — цвіль на вадкіх прадуктах.* Масілавічы Сл., Дакудава Лід. *Бросні — белая скурка. Бросні сабіраем і скідаем за сценку.* Міратычы Карэл. *Капуста, гуркі ўзяліся бросняю.* Альхоўцы Лях. *Бросня бывая на капусці, на гурках.* Рудня Астравітая Чэрв. *Брэсня сабралася на капусця.* Данілавічы Дзярж. 2. *бат.* Ціна, багавінне. *Ля рэчак затоны е, у затонах вада стаіць, бросня мажэ быць.* Дзяніскавічы Ганц. *Брэсня на вадзе зялёная, дзе торф капаюць.* Данілавічы Дзярж.; *параўн.* літ. *brūsà* 'іней, шэрань'.

БРО'СТА *гл.* БРАСТА'

БРОТ *гл.* БРОД

БРО'ХАТІСЕ *незак.* Валтузіцца. *Як на дворыэ тэпло, то діеті люб'ят в водіе брохатісе; але ты заброхавсе аш под рукі.* Курашэва Чыж.

БРУ'ВЫ *мн.* Бровы. *У яго брувы белыя.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *brùvės* 'тж'.

БРУД *м.* 1. Гной (пра нарывы, раны). *На скулу палажылі кусочак сала, і ён выцянуў увесь бруд.* Дварчаны Паст. *У яго праравўся бруд з горла.* Лайпушкі Ігн. 2. Паразіты. *Цяпер во бруду — клапоў, блох німа.* Крэва Смарг. 3. Смецце. *Бруду натраслі ў вазок.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *brud* 'гразь, смецце'.

БРУ'ДЗІЦЦА *незак.* Пэцкацца. *Цырата брудзіцца, часта сціраю мокрай трапкай.* Гемзы Шальч. *Дзіця брудзіцца, вытры яго!* Магуны Паст.; *параўн.* польск. *brudzić się* 'тж'.

БРУ'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Пэцкаць. *Рук не бруць!* Паляцкішкі Воран. 2. Каламуціць. *Што вы палошчыця, ваду брудзіця!* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* польск. *brudzić* 'пэцкаць'.

БРУ'ДНА *прысл.* Гразна. *Там брудна, не стаў туды міску!* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *brudno* 'тж'.

БРУДНО'Е *н.* Бруднае адзенне. *Свякроўка ўсё брудное памыла.* Лайпушкі Ігн.

БРУ'ДНЫ' *прым.* 1. Запэцканы. *Ты бру́дны, ідзі ўмыйся! Я бру́дна, не памыўшыся.* Новыя Мацалі Варэн. *Ходзя з бру́днымі нагамі.* Кемялішкі Астр. *Бру́дная кашуля, на рукавах пісагі.* Гемзы Шальч. *Тваё рукі бру́дныя, ідзі памый!* Паляцкішкі Воран. *На галаве хустка брудна́я.*Ністанішкі Смарг. *Я ні брудна́я.* Жодзішкі Смарг. 2. Каламутны. *Брудна́я вада, як хто замуціць.* Малькуны Ігн., Ракаўскія Швянч.; *параўн.* польск. *brudny* 'тж'.

БРУЁК *м. памянш.* да б р у й. *Возіра стаіць і чуць-чуць бруёк ідзець.* Ахрэмаўцы Брасл.

БРУЖДЖЭ'ЦЬ *незак.* 1. Звінець, гудзець. *Муха ляціць і бруждждыць.* Валынцы В.-Дзв. 2. *перан.* Бубніць, сварыцца. *Яна бруждждыць і бруждждыць на яго. Што ты бруждждыш!* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* літ. *brazdė́ti, bruzdė́ti* 'тж'.

БРУЖМЕ'ЛЬ *м.* Тое ж, што і б р а ж д ж э́ л ь. *Бружмель не ламаецца, з яго рабілі пруткі ў чаўнок.* Рудня Чэрв. *Бружмель расце кустом, цвіце сіненькім цвятком, ягады крэпкія, аш чорныя.* Ухвала Круп.

БРУ'ЗГАЦЬ *незак.* Несці лухту. *Брузгаіць што папала без пуця.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* літ. *bruzgė́ti* 'бразджаць'.

БРУЗДУ'КЕЛЬ *гл.* БРУЗУ'КЕЛЬ

БРУЗЕ'НТАВЫ *прым.* Брызентавы. *У брузентавых мяшкох возяць масла.* Лысавічы Мін.

БРУЗУ'КЕЛЬ, БРУЗДУ'КЕЛЬ, БУРЗУ'КЕЛЬ *м.* 1. Тое ж, што і б р о́ н ц і к. *Брузукель ушыла ў гаці, ён у сярэдзіне прарэзаны. Некалі рабілі такія гузікі.* Старыя Смільгіні Воран. *Колькі ты брузду кляў тут нашыў?* Граўжышкі Ашм. *Калісь з ляшчыны бурзуклі рабілі. Помню дзет бурзукель харошы зрабіў.* Жылі Іўеў. *Бурзуклі — бронцікі такія да гацей ушываліся.* Старыя Трокі Трак. 2. Бірка для падвешвання сала. *Быў брузукель дзеравянны і вяровачка звіта, і вешалі саланіну.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Вертыкальны шпянёк у жорнах, на які насаджваецца верхні камень. *Ест брузукель дзеравяны, што жорны падымая.* Старыя Смільгіні Воран. 4. толькі *мн. брузу́клі.* Палкі ці кацёлкі, на якіх падвешваецца ніт у кроснах. *Нічальніцы падвешаны на брузуклях.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *brūzū́klis* 'тж' (ЛТ, 168).

БРУЗЯНТО'ВАЧКІ *мн.* Туфлі з брызенту. *Брузянтовачкі купіў табе.* Кураполле Паст.

БРУІ'ЦЬ *незак.* 1. Струменіць, цячы. *На салé вада бруіць і бруіць.* Бакшты Іўеў. 2. Хвалявацца, рабаціць. *Возіра стаіць і чуць-чуць бруёк бруіць.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *bruić* 'мачыцца' (СВ, I, 212).

БРУ'Й *м.* Хваляванне, рабізна. *Бруй на возеры біваіць — быта волначка ідзець.* Ахрэмаўцы Брасл.

БРУ'К *м.* 1. Маставая з камення. *Як бруку не было, дошч пойдзя — мокро, гразь.* Альхоўцы Лях. *Ён на бруку ляжаў.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *мн. брукé.* Цвёрды грунт паміж вадаёмамі. *Бліска Кудры — лух Агелік, а паміж імі — бруке.* Вострава Маст.; *параўн.* польск. *bruk* 'тж'.

БРУКАВА'НЫ *дзеепрым.* Укладзены каменем. *У нас брукавана дарога.* Быстрыца Астр.

БРУКАВА'ЦЬ *незак.* Укладаць каменем (дарогу, вуліцу). *Там брукуюць дарогу.* Быстрыца Астр.

БРУКАВІ'ЗНА *зб. ж. устар.* Беззямельныя сяляне. *Брукавізна — беззямельнікі, калісь так звалі беззямельных людзей.* Семежава Кап.

БРУ'КАВКА *ж.* Цацка, бразготка. *Брукавка бручыт.* Курашэва Чыж.

БРУКА'Р *м.* Брукаўшчык. *Брукары згадзіліся і капаюць дарогу.* Быстрыца Астр.

БРУКВЭ'ННІК зб. м. Націна, цяўнік бручкі. *Бруквэннік пообрэзай.* Хатынічы Ганц.

БРУКОВІЕ'НЕ зб. н. Тое ж, што і б р у к в э́ н н і к. *Бруковіене коровы добрэ ідят.* Курашэва Чыж.

БРУКОВІ'СКО н. Поле, дзе расла бручка. *На бруковіску пшэніцу посіею.* Курашэва Чыж.

БРУКО'ВЫЯ мн. Тое ж, што і б р у к а в і́ з н а. *Бруковыя былі без зямлі, хадзілі служылі.* Семежава Кап.

БРУ'КШТ выкл. Брык. *Ён брукшт — і памёр.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *brūkšt* 'тж'.

БРУ'ЛТАЧКА гл. БРУ'НТАЧКА

БРУ'НДЖЫ, БРУНДЫ' мн. Ворчык. Жодзішкі Смарг.; гл. б р о н к т, б р о́ н к т а.

БРУ'НДУЛ, БРУ'НДУЛЬ м. Тое ж, што і б р а н д у́ к. *Ужэ ў арэху брундул ёсць — ноч даўжэйшая.* Малькуны Ігн. *У арэху брундуль.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. дыял. *brùndulas,* літар. *brándulas* 'тж'.

БРУНДЫ' гл. БРУ'НДЖЫ

БРУНДЭ'СЬ м. зневаж. Неахайны чалавек, бруднюха. *Во, які брундэсь!* Азяраны Раг.; *параўн.* польск. *brudas* 'тж'.

БРУНКТ гл. БРОНКТ

БРУ'НКТА, БРУ'НТА ж. і н. 1. Тое ж, што і б р о н к т. *Брункта доўгая, на ёй кручок і чэпяць да плуга.* Ракаўскія Швянч.; Малькуны Ігн., Відаўцішкі Вільн. *Да дышля прыкрапляўся орчык, орчык па-польску, а па-простаму — брункта.* Грыкені Вільн. *Раней брунта было разная.* Крэва Смарг. 2. Тое ж, што і б р о́ н ц і к. *Брункту ўшыў.* Грыкені Вільн.

БРУНКТА'Й м. Тое ж, што і б р о н к т. *Брунктай у плузе.* Чычалі Швянч.

БРУ'НКЦІК гл. БРО'НЦІК

БРУНТ м. Тое ж, што і б р о́ н ц і к. *Калісь замест гузікаў прышывалі брунты.* Бакшты Іўеў.

БРУ'НТА гл. БРУ'НКТА

БРУ'НТАЧКА, БРУ'ЛТАЧКА ж. Тое ж, што і б р о́ н ц і к. *Брунтачкі доўгянькія дзеравяныя былі, у кажук прышывалі.* Магуны Паст. *Брултачка — гэта гузік з дрэва.* Чычалі Швянч.; гл. б р у́ н к т а 2.

БРУНТО'К, БРУНТО'ЧАК м. Тое ж, што і б р о́ н ц і к. *Нарабілі брунткоў і ўшывалі мушчынам у штаны.* Ёдлавічы Брасл. *Брунто́чкі прышывалі да фрэнча.* Скрудалена Даўг. *Даўней брунто́чкі рабілі з дзерава.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* літ. *brañktēlis* 'тж'.

БРУ'НХТАЧКА ж. Калодачка ў верхнім камені жорнаў, куды ўстаўляецца млён. *Брунхтачка ў жорнах, у верхнім камні.* Грыкені Вільн.

БРУ'НЦІК гл. БРО'НЦІК

БРУНЭ'ЛЬКІ гл. БУРНЭ'ЛЬКА

БРУСА′МЫ *мн.* у знач. *прысл.* Палоскамі. *Макароны доўгінькія, кроіш брусамы.* Ахрэмаўцы Брасл.

БРУСІ′НІК *м.* Брусьнічнік. *Брусінік ад мочы памагая.* Мсцібава Ваўк.

БРУСІ′НЫ *мн. бат.* Брусніцы. *Брусіны тут не растуць.* Мсцібава Ваўк.

БРУСНІ′К *м. абрад.* Шафер. *Маладуха бярэ дзве друшкі, а малады — шахіра, а па даўняму — бруснік.* Кукарава Бярэз.

БРУСНІ′ЦЫ, БРУШНІ′ЦЫ *мн.* Тое ж, што і б р у с і н ы. *Брусніцы на зіму ставяць.* Мярэцкія Глыб. *Брусніцы пад восень спеюць.* Пасека Ст.-Дар. *Дайна пазбіралі брусніцы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Брушніцы ест у лесі.* Чычалі Швянч., Новікі Гродз. *Мала брушніц, не растуць ужо некалькі год.* Беразіно Докш. *Бабы пашлі ў гэна ройста збіраць брушніцы. Далякавата ад нас брушніцы.* Ністанішкі Смарг. *Брушніц можна знайсці.* Саланое Віл.; *гл.* б а р а́ н ц і е.

БРУСО′К *м.* 1. Тачыльны камень прадаўгаватай формы, мянташка. *Ёсць брусок касу вайстрыць.* Чычалі Швянч. *Ён остра бруском касу.* Відаўцішкі Вільн. *Касу бруском памянціў.* Гемзы Шальч. 2. Частка грабель, куды ўстаўляюцца зубы, стаўпец. *Зрабі брусок на граблі!* Рудня Астравітая Чэрв.

БРУСЯ′НКІ *мн. бат.* Зялёнкі і падзялёнкі. *У нас брусянкі растуць зялёныя і сіненькія. Набяру брусянак, нажару скваpаду і наемся.* Лісна В.-Дзв.

БРУХ *м.* 1. Жывот; страўнік. *Мой брух баліць, цяпер вылечуюць. У брусе была вопух.* Паляцкішкі Воран. *Каб яму брух калі забалеў, а паехаў туды, пажыў два гады і памёр.* Гемзы Шальч. *Брухаты чалавек, у яго брух вялікі.* Малькуны Ігн. *І ў цябе нашоўся брух.* Гемзы Шальч. *Велькі брух.* Галоўні Воран. *Прабіла брух карова, спух брух у свінні.* Паляцкішкі Воран. *У каровы брух, у каня.* Быстрыца Астр. *Разрэжуць брух і дастаюць вантробы, кішкі.* Ліпнікі Вільн. 2. Падбрушша. *З бруху сланіна горшая.* Новыя Мацалі Варэн.; *парайн.* польск. *brzuch* ’жывот, пуза’.

БРУ′ХО *н.*, БРУ′ХА *н.* і *ж.* Тое ж, што і б р у х 1. *Як справядлівяй: жывот ці брухо?* Міратычы Карэл. *Парушэнне мела, спохла ўся бруха.* Малькуны Ігн. *Рэжыць у бруся.* Ракаўскія Швянч. ∇ *Каля бруха завяруха* — пра вулей, пчол. Груздава Паст.

БРУХА′ТЫ *прым.* З вялікім жыватом, пузаты. *Брухатая карова.* Быстрыца Астр., Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. *Якая брухатая твая карова.* Дварчаны Паст.

БРУЧ *гл.* АБРУ′Ч

БРУЧА′ЦІ *незак.* Тое ж, што і б у р ч а́ ц ь 4. *Самалёт бручыт. Таксуовка бручыт. Мотоцыклет бручыт.* Курашэва Чыж.

БРУ′ЧКА, БРУ′ШКА *ж.* Бручка. *Бручкі пасадзіла многа.* Груздава Паст. *Бручка добра расцець.* Відаўцішкі Вільн., Чы-

чалі Швянч., Галоўні Воран. *Брушка тут пасаджана.* Дакудава Лід. *Брушка вялікая парасла.* Саланое Віл. *Рэпнік варылі з бульбы, морквы і бывая туды брушку клалі.* Стральцы Гродз. *Брушку густа пасадзіла.* Вострава Маст. *Ест вара з брушкі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Як саджу — адшчыкваю карэньчыкі ў брушкі. Даўней брушку вараную елі.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* ДАБМ, карта № 276.

БРУЧКАВЕ'НЯ, БРУЧКАВЕ'НЁ, БРУШКАВЕ'НЁ, БРУШКАВЕ'НЯ *зб. н.* Тое ж, што і б р у к в э́ н н і к. *Бручкавеня свіням даю.* Жылі Іўеў., Масілавічы Сл. *Бручкавенё ядуць каровы.* Міратычы Карэл. *Брушкавенё — ліст бручкі.* Малахоўцы Бар. *Пайду наламаю брушкавеня.* Старое Сяло Зэльв. *Свіня ядуць брушкавеня.* Вялікія Баяры Шчуч.

БРУЧКО'ЎНІК, БРУШКО'ЎНІК *м.* Тое ж, што і б р у к в э́ н н і к. *Бручкоўніку дай свіням.* Рыбчына Віл. *Бручкоўнік есь карова.* Гемзы Шальч. *Брушкоўнік карове аддай.* Беразіно Докш.

БРУ'ШКА I *гл.* БРУ'ЧКА

БРУ'ШКА II *н.* 1. *памянш.* да б р ý х о. *Ні цягайся з ім, а то скажыш — брушка баліць.* Ракаўскія Швянч. 2. Грудка. *У гіля краснае брушка.* Саланое Віл. ∇ *Не балела брушка — не баліць і душка* — пра мачыху. Рыбчына Віл.

БРУ'ШКА III *н.* Кончык пальца рукі. *Парэзала брушка на пальцы.* Быстрыца Астр.

БРУШКАВА'ЦЬ *незак.* Ганьбаваць. *Калі хто бракуя, што харч нядобрая, то кажуць: «Не брушкуй, а еж!»* Азяраны Раг.

БРУШКАВЕ'НЁ *гл.* БРУЧКАВЕ'НЯ

БРУШКАВЕ'НЯ *гл.* БРУЧКАВЕ'НЯ

БРУШКО'ЎНІК *гл.* БРУЧКО'ЎНІК

БРУШКО'ЎНІСКА, БРУШКО'ЎНІШЧА *н.* Тое ж, што і б р у к о в í с к о. *Там ідзі пашукай, можа трава ёсць на брушкоўніску.* Галубы Маст. *На брушкоўнішчы каровы ходзяць.* Рудня Астравітая Чэрв.

БРУШНІ'ЦЫ *гл.* БРУСНІ'ЦЫ

БРУШНІ'ЧНІК *м.* Тое ж, што і б р у с í н і к. *Брушнічніка цвет ад кашлю, ад печані п'юць.* Пацаўшчына Дзятл., Галоўні Воран.

БРУШО'К *м. памянш.* да б р у х 1. *Плача, яму брушок баліць.* Паляцкішкі Воран.

БРЫВА' 1. *ж.* Брыво. *Паркаль п'яны разбіў брывý.* Быстрыца Астр. *Мая брывá вуская.* Кемялішкі Астр. 2. *мн.* Бровы. *Брывá асмаліла.* Мсцібава Ваўк.

БРЫВІНА' *ж.* Тое ж, што і б р ы в á 1. *Упаў і брывіну рассек.* Магуны Паст. *Адна брывіна шырэйшая за другую.* Рыбчына Віл.

БРЫГА'ДА *ж. с.-г.* Брыгада. *У нашай брыгадзі многа жанок.* Мсцібава Ваўк.

БРЫГАДЗІ'Р *м.* Кіраўнік брыгады. *Брыгадзір загадваў на работу ісці.* Паляцкішкі Воран. *Сын быў брыгадзірам.* Старыя Трокі Трак. *Выбралі яго брыгадзірам.* Кемялішкі Астр. *Бронуся паставілі брыгадзірам.* Ністанішкі Смарг. *Прышоў брыгадзірам на стройку.* Саланое Віл.

БРЫГАДЗІ'РКА *ж.* Кіраўніца брыгады. *Брыгадзірка тутака зайшла замуш.* Асавец Віл. *Наша брыгадзірка не едзе на нарат, па ціліфону нарат перадаюць.* Вецярэвічы Пух.

БРЫ'ДА' *ж.* 1. *зб.* Брыдота. *У лес ісці — брыды́ баюся.* Граўжышкі Ашм. *Бры́ды многа ў лесі.* Мсцібава Ваўк. *Там страшна брыды́ многа, там гад ляжаў.* Альхоўка Навагр. *Брыда́ — прусакі былі, іх труціш, а яны плодзяцца страшна.* Старыя Смільгіні Воран. *Хватая брыды́ гэтай — камароў.* Гемзы Шальч. *Зачыняць коміна ні трэбо, бо брыкет — брыда́ гэтая ваняя.* Мсцібава Ваўк. 2. *зб. абразл. перан.* Бандыты, фашысты. *Саветы пагналі брыду́ гэту, хай іх зямля не ноcя.* Гемзы Шальч. 3. Нягоднік, паскуднік. *Чорт з ім жыў бы з брыдо́й!* Гемзы Шальч. *Гэдакая брыда́ малая* [гусянё] *і трасе вялікага.* Кіралі Шчуч.

БРЫДЗІ'ЦЦА, БРЫ'ДІТІСЕ *незак.* Гідзіцца, адчуваць агіду. *Я не брыджуся вамі.* Смаляніца Пруж. *Я брыдівсе б такоўі роботы робіті.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *brzydzić się* 'тж'.

БРЫДЗЯ'ЦЬ *незак.* Бегаць, насіцца. *Дзеці брыдзяюць па ўсёй сенажаці.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *brydžiúoti* 'тж'.

БРЫ'ДКА, БРЫ'ДКО, БРЫ'ТКА, БРЫ'ТКО *прысл.* 1. Непрыгожа. *Завешу гратку фіраначкай, а так брытка, стаіць усё.* Дакудава Лід. 2. Непрыстойна. *Брытка старой бабі так лаяцца.* Кіралі Шчуч. 3. Сорамна. *Ды як табе не брыдка такія словы гаварыць.* Грыкені Вільн. *Ды не брыдко ехаць, калі збруя харошая.* Дзяніскавічы Ганц. *Стаў ён стыдзіць яе, пастыдзіў — аш ёй брытка стала.* Кіралі Шчуч. *Брытка табе так казаць.* Крынкі Крын. *Брытко стала — застыдзіўся хлопяц.* Вострава Маст. *Брытко так гаварыць.* Пацаўшчына Дзятл. *Брытко так рабіць.* Малахоўцы Бар. *Брытко сварыцца.* Галубы Маст. *Як табе ні брытко!* Стары Свержань Стаўб., Руднае Кап., Старое Сяло Зэльв. *Як парвеш порткі, брытко будзя ў парваным хадзіць.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *brzydko* 'тж'.

БРЫ'ДКІ, БРЫ'ТКІ', БРЭ'ТКІ *прым.* 1. Непрыгожы. *Прыехаў сын у госці да бацькоў і павёў жонку гародам — значыць, жонка бры́дка, кап хароша, вёў ба вуліцай.* Дзяніскавічы Ганц. *Мой муш, хай мяккай будзе яму зямліца, быў багаты, але брыткі і стары.* Карасіна Брасл. *Брыткі ён — вялікі, худы.* Асавец Віл. *Але ў іх хлопяц брыткі і брытка́я дзеўка.* Кіралі Шчуч. *Даўней дзеўка магла быць брытка́я, неладная, а як пасах велькі, то і бралі замуш.* Паляцкішкі Воран. *Брытка́я яна.*

Стральцы Гродз. *Калісь, хто мая брыткую дачку, той грошы збірая.* Граўжышкі Ашм. *Брэтка баба.* Дзмітравічы Кам. 2. Нядобры, злы. *Брыткі характер быў у дзеда і ў мужыка.* Альхоўцы Лях. *Ліс быў брыткі, усе курачкі вылавіў.* Граўжышкі Ашм. 3. Благі. *Сон брыткі прысніла.* Ванелевічы Кап. 4. Агідны, прыкры. *Надзень панчохі, бо брыткія твае ногі.* Вецярэвічы Пух. *Брыткая рыба — віюн. Каза — брыткая скаціна.* Малькуны Ігн. *Не таўчы рукамі* [ягады], *яно зробіцца брыткоя.* Вецярэвічы Пух. *Выкінь, бо то брыткое.* Номікі Бабіц. 5. Брудны. *Кашуля твая чорна, брытка.* Альхоўцы Лях. *Мая хустка брытка ўжэ.* Дзяніскавічы Ганц. 6. Абразлівы, лаянкавы. *Брыткоя слова сказаў.* Мярэцкія Глыб. *Іх хлопяц брыткія словы гаворыць.* Паляцкішкі Воран. *Гаворыць брыткія слава.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *brzydki* 'непрыгожы, брудны, агідны'.

БРЫ'ДКО *гл.* БРЫ'ДКА

БРЫ'ДНІК *м.* Зараснік. *Брыднік — дзе кусты, багон, густы зараснік. У нас кажуць: «Расце, як брыднік у лесе».* Кузьмічы Люб.

БРЫДО'ТА *м.* і *ж. зневаж.* Агіднік, паскуднік. *Брыдота ты!* Граўжышкі Ашм.

БРЫДЧЭ'ЦЬ *незак.* Старэць, рабіцца непрыгожым. *Як годы подходзяць — на ліцэ брыдчэе чоловек.* Хатынічы Ганц.

БРЫ'ДЫ *прым.* Благі, нядобры. *Мая вапна брыдая.* Мсцібава Ваўк. *Брыда карова, мала малака дае. У нас німа брыдых людзей.* Навасёлкі Свісл.

БРЫДЫ' толькі *мн.* Пазы, куды ўстаўляецца дно ў драўляным посудзе. *Упусці дно ў брыды!* Рудня Астравітая Чэрв.

БРЫЖ, БРЫШ *м.* 1. Прымурак. *На брыжы запалкі ляжаць, падай сюды!* Беразіно Докш. 2. Тое ж, што і б і л а І, 3. *Хустка на брыжы вісіць.* Рыбчына Віл., Беразіно Докш. 3. Бакавое рабро ў ложку. *Бакі забалелі на брыжы лежачы.* Рыбчына Віл. 4. Перагародка ў хаце, якая не даходзіць да столі. *Яны за брыжом сядзяць і гавораць, а мне ўсё чуваць.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *brỹžis, bryžỹs* 'лінія, выступ, край'.

БРЫЖЖЫ' толькі *мн.* Тое ж, што і б р ы д ы'. *Трэба зарэзаць брыжжы і ўставіць дно.* Саланое Віл.

БРЫЖО'К *м. памянш.* да б р ы ж 1. *Кладзі заўсёды спічкі на брыжок, каб не валяліся.* Глівін Барыс.

БРЫЖЫ' толькі *мн.* 1. Махры. *Брыжы ля хусткі, з брыжамі хустка.* Альхоўцы Лях. 2. Вузкая палоска тканіны, сабраная ў зборкі. *Брыжы вушшыя, а фальбончыкі шыршыя. Брыжы прышываліся.* Дакудава Лід.; *параўн.* польск. *bryż, bryz, bryże, bryzy* 'плісіроўка, гафт і інш.'<ням. *Fries* 'бобрык'.

БРЫ'ЖЫКІ толькі *мн.* Ніткі, якія вісяць унізе падола старога адзення. *Брыжыкі вісяць, увесь дол спадніцы ў брыжыках.* Гемзы Шальч.; *гл.* б р ы ж ы'.

БРЫ́ЗГАЎКІ *мн. заал.* Авадні, сляпні. *Брызгаўкі на коні нападаюць.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *brizgėlė̃, bryzgėlė̃* 'сляпень'.

БРЫ́ЗГАЦЦА *незак.* Абівацца, высыпацца. *Даўней спадніцы шылі ў маршчкі і ў кліны, а пад нізам шчотачка прышыта, штоб не брызгалася спадніца.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* літ. *brìgzti* 'тж'.

БРЫ́ЗГАЦЬ *незак.* Пырскаць. *Брызгаць вадой пчолы нада.* Скрудалена Даўг.

БРЫЗГАЧЫ́, БРЫЗГАЧЭ́ толькі *мн.* Тое ж, што і б р ы́ ж ы к і. *Брызгачы вісяць.* Малькуны Ігн. *Падолак абрызгаўся, вісяць брызгачы ў падолку.* Мсцібава Ваўк. *Брызгачэ баўтаюцца ў подала.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* літ. *brìzgenos* 'тж' (ЛТ, 168).

БРЫ́ЗГІ толькі *мн.* 1. Пырскі. *Як доіш карову — лятуць брызгі з малака.* Кураполле Паст. *Брызгі с-пад калёс.* Дварчаны Паст. 2. Тое ж, што і б р ы́ ж ы к і. *Брызгі вісяць у падале.* Лайпушкі Ігн.; *парайн.* літ. *brizgaĩ* 'брыжыкі'.

БРЫЗГЛІ́НА, БРЫЗГУЛІ́НА *ж. бат.* Брызгліна. *Кару с карней брызгуліны ці брызгліны сабіраюць.* Дакудава Лід.

БРЫ́ЗГЛЫ *гл.* АБРЫ́ЗГЛЫ

БРЫЗГЛЮ́Н *м.* Тое ж, што і б р ы з г л і́ н а. *Брызглюн — куст такі, цвіце ружовым, на ём чырвоныя ягады.* Парэчча Гродз.

БРЫЗГО́ЛЬ *м.* Зярністы снег. *Брызголь — снех не сняжынкамі, а кропачкамі, падобен да града. Паляцеў па брызгуле.* Каўняны Гродз. *Бальшы брызголь пайшоў.* Пасека Ст.-Дар.; *парайн.* літ. *brūzgùlis* 'камяк чаго-н.'

БРЫЗГУЛІ́, БРЫЗГУЛЕ́, БРАЗГУЛІ́ толькі *мн.* 1. Тое ж, што і б р а з г о́ л к і. *Брызгулі медныя, на рэменю нашытыя.* Скрудалена Даўг. *Брызгулі — званкі такія на шыю каню вешалі.* Старыя Трокі Тарк. *Бразгулі наложаны каню на шыю.* Ёдлавічы Брасл. *Бразгулі зашпілілі каню на шыю.* Малькуны Ігн. *Бразгулі барабаняць.* Гемзы Шальч. *З бразгулямі паехаў на вяселя.* Кураполле Паст. *Бразгулі звоняць і бразгаюць.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *brazgùliai* 'тж'. 2. Махры ў падоле старога адзення. *Брызгулі вісяць с-пад спадніцы.* Магуны Паст., Крэва Смарг. *Брызгулі на падале.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *brìzgalas* 'апуча'. 3. Засохлыя камякі гною на поўсці жывёлы. *Бывая, у каровы вісяць брызгуле на кумпяках, на баках, як у хляве макро. Але ш твая карова ў брызгулях уся.* Кіралі Шчуч. *Ходзіць з брызгулямі карова.* Пацаўшчына Дзятл. *У каровы бразгулі вісяць на хвасце.* Крэва Смарг.; *парайн.* літ. *brūzgùlis* 'гуз, нарасць'. 4. Драўляны гузік. *Бразгулёў папрышывала.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *brūzgùlis* 'тж'.

БРЫЗГУ́ЛІНА *гл.* БРЫЗГЛІ́НА

БРЫЗГУ'ЛЬ *м.* Драўляны гузік. *Ад веніка адламая* [палачку], *ніткаю пяравяжа—штаны ня звальваюцца, гэто брызгуль.* Стральцы Гродз. *Такога брызгуля́ да ганавіц прышчаплялі!* Новікі Гродз. *Брызгулі прышывалі да кажухоў, рабілі з дзерава.* Сапоцкіна Гродз. *Брызгуле́ ў порткі споднія ўшывалі, к брызгулю́ аборачку прывязвалі, дзве дзірачкі пракалывалі, працягвалі і ўвязвалі порткі.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* літ. *brizgùlis* 'тж'.

БРЫЗГУ'ЛЬКА *ж.* 1. *памянш.* да брызгу́ль. *Брызгулькі з дзерава рабілі і прышывалі да адзення.* Мсцібава Ваўк. 2. Шпянёк. *Брызгулькі — палачкі таўшчыні с палец. Былі брызгулькі да нічальніц. Ад нічальніц ішоў шнурок і там была ўвязана брызгулька, а за яе завязвалі панажы.* Мсцібава Ваўк.

БРЫЗГУНЫ' *гл.* БРАЗГУНЫ'

БРЫЗГУЦІ' толькі *мн.* Тое ж, што і бры́жыкі. *Брызгуці вісяць у падале спадніцы.* Старыя Смільгіні Воран.

БРЫ'ЗЛЫ *гл.* АБРЫ'ЗГЛЫ'

БРЫЗЛЯ'К *м.* Абрызглае малако. *Брызляк — пастаялае малако.* Мярэцкія Глыб.; *гл.* абры́згл ы́.

БРЫ'ЗНУТІ *зак. экспр. перан.* Рэзка, груба адказаць. *Я до ёго добрэ говору, а вуон як брызнув мніе, то я нэ міев дэ очы подієті.* Курашэва Чыж.

БРЫК *выкл.* Бух, брык. *Яны яго ўзгонюць* [каня], *а ён брык і ляжыць.* Валынцы В.-Дзв.

БРЫКА'НЕ *н.* Бесклапотнае жыццё. *Куоньчыце тобіе брыкане, пуойдэш до роботы, то зобачыш тогды.* Курашэва Чыж.

БРЫ'КАЦЦА *незак.* Біцца нагамі. *Карова брыкаецца, нягодная.* Саланое Віл. *Конь нагамі брыкаецца, наравісты конь.* Альхоўцы Лях.

БРЫКА'ЦЬ *незак.* Біць нагой. *Карова брыкаіць нагой.* Ахрэмаўцы Брасл.

БРЫ'КЛЫ *прым.* Тое ж, што і абры́згл ы́. *Брыклае малако.* Старыя Трокі Трак.

БРЫ'КНУТІ *зак.* Раптам упасці. *Ішов, ішов і брыкнув на зэмлю.* Курашэва Чыж.

БРЫ'ЛА *ж.*, БРЫ'ЛЫ *мн.* 1. Камлыга, камяк. *Брыла гліны змёршы.* Мсцібава Ваўк. *Той кусок зэмліе трэба забороноваті, бо там такіе вэлікі брылы.* Курашэва Чыж. 2. Пласты ўзаранай зямлі. *Як зямля ўдзерванеўшы і гаруць, то адвальваецца брыламі, у брылы зваліў, брылы бліщчаць.* Гемзы Шальч. *Брылы вываарачваюцца.* Старыя Трокі Трак. 3. *перан.* Луста, скібка. *Брыламі сланіна нарэзана.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *bryła* 'глыба, камлыга, камяк'.

БРЫЛЕ'ЎНІК *м. бат.* Лопух. *Брылеўнік скот есь.* Валынцы В.-Дзв.

БРЫ'ЛІК *м.* Казырок. *Купіў шапку с касцяным брылі-*

*кам.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *brìlikas* 'тж'<польск. *bryła* 'гзымс'.

БРЫЛО′ *н.* Тое ж, што і б р ы ж 1. *Брыло ля печы, дзе мыло клалі.* Кузьмічы Люб.

БРЫЛЬ *м.* 1. Тое ж, што і б р ы ж 1. *Мыла клалі на брыль.* Вецярэвічы Пух., Рудня Астравітая Чэрв. 2. Казырок. *Брыль цвёрды быў у шапцы.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* б р ы́ л і к.

БРЫ′НА *ж.* Вільгаць, кроплі вады на сценах. *У склепя адна брына.* Якубовічы Шчуч.

БРЫ′НДА I *ж.* 1. Здор, сала каля кішак. *Брында, як фалерына, акруціўшы кішкі. Усе кішкі ўчапіліся за брынду.* Старыя Смільгіні Воран. 2. *кулін.* Баланда, дрэнная страва. *Брынды якой далі пахлебаць.* Саланое Віл. 3. *зневаж.* Неахайная жанчына. *Яна брында такая.* Саланое Віл. *Але ж і пашла брында — ніраха якая.* Кіралі Шчуч.; *гл.* б р ы́ н д ы.

БРЫ′НДА II *ж.* Загнуты жалезны прут, на якім зімою катаюцца дзеці. Вецярэвічы Пух.

БРЫНДА′ТЫ *прым.* Абрынданы. *Брындатая ты!* Пацаўшчына Дзятл.; *гл.* б р ы́ н д ы.

БРЫ′НДАЦЦА *незак.* Абівацца, высыпацца. *Шво апкідаюць, кап ні брындалася.* Дакудава Лід. *Брындаюцца майткі ўнізе.* Альхоўка Навагр.; *гл.* б р ы́ н д а ц ь.

БРЫ′НДАЦЬ I *незак. экспр.* 1. Хадзіць без справы. *Брындая без работы брындуль гэты.* Пацаўшчына Дзятл. *Ходзя і брындая, а не косіць.* Крэва Смарг. *Брындая па хатах, не сядзіць на месці.* Азяраны Раг. 2. Ісці, цягнуцца. *Ужо туды брындая — у гэны канец.* Граўжышкі Ашм. 3. Тое ж, што і б р а д з і ц ь 2. *Ня брындай ты, а скубі на месце! — А то яна нюх-нюх і пашла.* Саланое Віл. *Дайней дзень брындаеш па вадзе, дык дзяруцца андаракі.* Азяраны Раг. 4. *груб.* Заляцацца, валачыцца. *Які муш! — Ён брындаіць па чужых бабах.* Саланое Віл.; *парайн.* літ. *brìndolis* 'брадзіць апырсканым'.

БРЫ′НДАЦЬ II *незак.* Трызніць. *Ён брындае абы-што* [пра хворага]. Галубы Маст.

БРЫ′НДЗЫ толькі *мн.* Тое ж, што і б р ы́ н д ы 1. *Дайней насілі спадніцы саматканыя, а гэтыя брындзы звісалі.* Ухвала Круп. *Ой, як брындзы вісяць!* Саланое Віл.

БРЫНДУЛІ′ толькі *мн.* 1. Тое ж, што і б р ы з г у л і 2. *Якія брындулі ў цябе вісяць, абарві!* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *brìndos* 'абабіты край адзення'. 2. Тое ж, што і б р а з г у л і 3. *Брындулі вісяць у каровы.* Мсціблава Ваўк.

БРЫ′НДЫ толькі *мн.* 1. Махры. *Брынды прышываюць да сукенькі. Вісяць прама брындамі.* Ёдлавічы Брасл. *Хустка харошая, з брындамі.* Кураполле Паст. *Настольніца з брындамі.* Галубы Маст. 2. Тое ж, што і б р ы з г у л і 2. *Цяляпаюцца ў фартусе брынды.* Бакшты Іўеў. *Брынды вісяць у спадніцы.* Кіралі Шчуч. *Брынды вісяць, абрындайся падол у спадніцы.*

Пацаўшчына Дзятл. *Брынды вісяць у доле спадніцы, трэба падрэзаць і падшыць.* Гемзы Шальч., Кураполле Паст. 3. Карункі, прошва. *Робіць брынды ў подушкі.* Смаляніца, Ялова Пруж. 4. Брыжы. *До шяпочкы дытыны брынды прышыю.* Сіманавічы Драг. 5. Лахманы. *Брынды папрачу старыя.* Пацаўшчына Дзятл. *Сукенку падрала на брынды, трэба свае брынды замесці. Змо́гла, хоць брынды памыла.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* літ. *brìndos* 'тж' (ЛТ, 168—169).

БРЫНЕ'ЦЬ *незак.* Набракаць. *Брынея мука, добрая папалася.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *brį̃sti* 'тж'.

БРЫНЯ'ЦЬ *незак.* 1. Імжэць, пырскаць. *Нейкі дош брыняіць.* Груздава Паст. 2. Павольна брысці. *Яны цяпер брыняяць хістаючыся, чуць ногі перастаўляюць.* Груздава Паст.

БРЫ'СА *ж.*, БРЫ'СЫ *мн.* Асцюк, асцё. *Пры каждым зерне брыса, ячмень адбіваецца з брысамі, нада яго пойсаць, выпайсаем ячмень, вычысцім венікам чыста і можна ў мельніцу вясці.* Парэчча Гродз.; *гл.* в о́ л а ц ь 1.

БРЫ'САЦЬ *незак.* Тое ж, што і б р ы н я́ ц ь 1. *Дошч пачынаіць брысаць.* Ракаўскія Швянч.

БРЫ'СКАТІ *незак.* Пырскаць. *Одыйдіетэ далей, бо тут вода брыскае. Так розрыэзав ногу, што аш кров брыскае. Вэлікого дошчу нэ было, кроху оно побрыскав і пэрэстав.* Курашэва Чыж.

БРЫ'СКЛЫ *прым.* Тое ж, што і а б р ы́ з г л ы́. Мсцібава Ваўк.

БРЫСКО'ЛЬ *м.* Зімовы дождж, галалёдзіца. *Бувае вубіта дарога, а брысколь нападзе, то сліско. Як пашоў брысколь — галалёд і слізгота.* Кузьмічы Люб.

БРЫСКО'ТА *ж.* Слота. *Брыскота на двары.* Семежава Кап.

БРЫСКО'ТЛІВО *прысл.* Сыра, мокра. *Так брыскотліво, мокра, халодна.* Семежава Кап.

БРЫСЦІ' *незак.* 1. Пераходзіць рэчку, ісці па вадзе, па балоце. *Лесь і брыдзі! — тут няглыбочка.* Альхоўка Навагр. *Дзе большая балота, там брыдзець.* Магуны Паст. *Цапля пітаецца рыбай, па вадзе брыдзець.* Ахрэмаўцы Брасл. *Па вадзе брыдзець* [па рэчцы]. Індра Красл. 2. Ісці там, дзе няма сцежкі. *Брыдзець па полі, а бурыць, снех б'ець у вочы.* Індра Красл. *Нехта брыдзе па жыце.* Жылі Іўеў. *Трэба брысці цаліком — па снягу.* Магуны Паст. 3. Наогул ісці. *Хто там брыдзець?* Магуны Паст.∇*Як відзе, так брыдзе.* Кузьмічы Люб. 4. Часта паказвацца з-за воблакаў. *Можа і дош будзіць, слонца неік брыдзець.* Груздава Паст. *Сонца брыдзець, ня грэіць.* Мярэцкія Глыб.; *гл.* б р а д з і́ ц ь.

БРЫТА'ЦЬ *незак.* Плесці. *Некалі лапці з лазы брыталі і патплятались гэтай самай лазой.* Груздава Паст.

БРЫТВА'Н *м.* 1. Тое ж, што і б л я́ х а I. *У брытване спякла пірох. Апатрушаіць рыбу і ў брытван і паставіць у печку.* Ахрэмаўцы Брасл. *На брытван пакачая цеста.* Быстрыца Астр. 2. Гліняная пасудзіна прадаўгаватай формы. *Брытваны гліняныя — як місы, але доўгія.* Жодзішкі Смарг. *Брытваны — печы хлеп.* Філіпаўцы Красл.

БРЫ'ТКА *гл.* БРЫ'ДКА

БРЫ'ТКО *гл.* БРЫ'ДКА

БРЫ'ЦА *ж. бат.* Брыца. *Брыца — шырокі ліст і каласом цвет выходзіць.* Круміца Мін. *Брыца пахожая на проса.* Данілавічы Дзярж. *Брыца — трава така, у гародах расце, яна глушыць усё, што пасадзіш.* Міратычы Карэл. *Брыца кусточкамі расце.* Рудня Астравітая Чэрв., Глівін Барыс., Багушэвічы Бярэз.

БРЫ'ЧКА *ж.* 1. Выязная павозка. *Брычка на рысорах.* Чычалі Швянч. *Былі брычкі, на іх ездзілі на базар, праізная брычка.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *іран.* Кепскі воз. *А скуоль ты такую брычку взяв?* Курашэва Чыж.

БРЫШ *гл.* БРЫЖ

БРЭ'ДЗЕНЬ *гл.* БРО'ДЗЕНЬ

БРЭ'ЙДАЦЦА *незак. экспр.* Бегаць, круціцца. *Дзеці брэйдаюцца каля кустоў.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *braidė* 'валацуга'.

БРЭ'КАВАЦЬ *гл.* БРАКАВА'ЦЬ II

БРЭ'НГАЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнае. *Чаго яна брэнгая невядома што.* Міратычы Карэл.

БРЭ'НДАЦЦА *незак.* Хадзіць без справы, брындаць. *Брэндаецца гультай па хатах. Чаго ты брэндаешся без работы?* Дакудава Лід. *Не брэндайся ты без дзела!* Бакшты Іўеў.

БРЭ'НДЗАЛІ толькі *мн.* Махры. *Брэндзалямі апчапана хустка, абрус.* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *frędzla* 'махор'.

БРЭ'НДЗЯЛЬКІ толькі *мн. памянш.* да б р э́ н д з а л і. *Абрус апчапаны брэндзялькамі. Хвастач з брэндзялькамі.* Саланое Віл.

БРЭ'НДЛІ толькі *мн.* Узоры. *Брэндлі на гардзінах.* Саланое Віл.; *гл.* б р э́ н д з а л і.

БРЭ'СНЯ *гл.* БРО'СНЯ

БРЭ'ТА *ж.* 1. Полка, мера шырыні спадніцы і інш. *Пашыць у тры брэты спадніцу.* Крэва Смарг. *Спадніцу шылі ў дзве брэты.* Мсцібава Ваўк. *Як мы ткалі, былі брэты. У колькі брэтаў пашылі спадніцу.* Магуны Паст. *У дзве брэты спадніцу пашыла.* Быстрыца Астр. 2. Мера воўны. *Тры брэты было з гавечкі. З адной брэты выходзіла камізэлечка або андарак.* Галубы Маст.; *парайн.* польск. *bryt* 'полка'<ням. *Breite* 'шырыня'.

БРЭ'ТКА *ж.* Адна нітка з пары, што знаходзіцца ў аснове

красён. *У ніты кідаюць брэткі* (адну нітку ў адзін ніт, а другую — у другі). Глівін Барыс.

БРЭ'ТКІ *гл.* БРЫ'ДКІ

БРЭХУ'Н *гл.* БРАХУ'Н

БРЭХУ'НКА *ж.* Балбатуха. *Наша малая брэхунка, вона вам всё скажэ.* Курашэва Чыж.

БУ'БА *ж.* Зерне. *Так сеялі, што буба бубу кліча.* Мсцібава Ваўк.

БУ'БАЛКА *ж.* Бутон. *Ужо бубалкі жоўтыя.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* **бублы́.**

БУ'БАЧКА *ж. памянш.* Плод, ягада. *Растуць чорныя і чырвоныя бубачкі на ваўчальніку.* Новікі Гродз. *Бубачкі хачу.* Дварчаны Паст.

БУБЕ'ХА *ж.* Тое ж, што і бу́балка. *Кветкі не расцвілі, яшчэ ў бубехах.* Мсцібава Ваўк.

БУБЕ'ШКА *ж.* Тое ж, што і бу́балка. *Бубешка распусцілася ў півоніі.* Мсцібава Ваўк.

БУБЁНШЧЫК *м.* Барабаншчык. *Бубёншчык, балалаешнік, скрыпач, дудар — такія ранейшыя музыканты.* Якубова Рас.

БУ'БЛІК *м.* Тое ж, што і бу́балка. *Наружы бублікі ест, скоро зацвіце.* Вялікія Баяры Шчуч.

БУ'БЛІКІ *мн.* Тое ж, што і бамбулі́. *Бублікі засохлі на баках у каровы.* Дакудава Лід.

БУБЛЫ' *мн.* Тое ж, што і бамбулі́. *Бублямі такімі з ляпёх на шэрсці ў кароў гной засыхая.* Азяраны Раг. *Бублы вісяць пад брухам у каровы.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *bubùlis* 'круглы прадмет'.

БУБНА'Р *м.* Тое ж, што і бубёншчык. *На музыках музыкант іграе, а бубнар бубніт.* Курашэва Чыж.

БУБНІ'ВЫ *прым.* Бурклівы. *Бубнівы ён — усё бубніць.* Дакудава Лід.

БУБНІ'ЦЬ, БУ'БНІТІ *незак.* 1. Бурчаць, сварыцца. *Ён бубніць і бубніць на мяне — раз сказаў і хваціць.* Старыя Смільгіні Воран. *Бубніць, як бубен, злуе на ўсіх.* Мсцібава Ваўк. 2. Грукаць. *Там бубня́ць — дошкі з машыны згружаюць.* Чычалі Швянч. 3. Біць у бубен. *На музыках музыкант іграе, а бубнар бу́бніт.* Курашэва Чыж. 4. *перан.* Біць, таўчы ў карак. *Жуонка чоловіека в плечы начала бубніті, але вуон якось оборонівсе і втюок.* Курашэва Чыж.

БУБНЫ' толькі *мн.* Бомы, званочкі. *Бубны прычэплівалі да сядзёлкі.* Лісна В.-Дзв.

БУБУЛІ'ЦЬ *незак.* 1. Булькаць, бурболіць. *Бягучая вада бубуліць.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Гаварыць, балбатаць. *Мы бубулім цэлы дзень.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. дыял. *bubuliuoti* 'мармытаць, балбатаць' (Мелагенай, ЛітССР).

БУБЫ'ШКА *ж.* Тое ж, што і бу́балка. *Бубышка бу-*

*дзіць расцвітаць. Бубышак многа на яблыні.* Мсцібава Ваўк.

БУВАЛЬНІ'ЦА *гл.* БАВАЛЬНІ'ЦА

БУГАІ' *мн. бат.* Буякі. *Бугаі сінянькія, даўней іх ні збіралі.* Данілавічы Дзярж. *Бугаі ў балоця растуць.* Рудня Чэрв.

БУГА'Й *м.* Бык. *К бугаю павёў карову.* Ухвала Круп. *Бугай вялікі быў у нас.* Альхоўцы Лях. *Некладзены бугай і бык.* Саланое Віл.; *гл.* ДАБМ, карта № 292.

БУ'ГАЎКА *гл.* БУ'КАЎКА

БУГО'МІСТРА *м. устар.* Бургамістр. *Гаспадзін бугомістра нас разграбіў, і мяне ў цюрму ўзялі.* Валынцы В.-Дзв.

БУГО'Р *м.* 1. Узгорак, грудок. *Выйць і сяць на бугор, там суха.* Гемзы Шальч. 2. Гуз. *Бугры ў кароў, бо ўлетку вадні накладаюць пад кожу яечкі.* Азяраны Раг. 3. Камяк гною. *Гной здзіраюць у хляве, як карова настоіць бугры.* Дзяніскавічы Ганц. 4. *мн. метэар. бугры́.* Кучавыя воблакі.∇*Як вясной буграмі неба — садзіць гуркі трэба.* Ахрэмаўцы Брасл.

БУГРЫ'СТЫ *прым.* Узгорысты. *Наша сяліба бугрыстая.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *бугристый* 'тж'.

БУ'ДА' *ж.* 1. Будка для сабакі. *Бу́да — там помаст, сабака ляжыць.* Лайпушкі Ігн. *Збіваю бу́ду для сабакі.* Крынкі Крын. *Сядзіць сабака ў будзе́ і не адзываецца. Буда́ вялікая, замкнуў ланцух да буды́.* Старыя Трокі Трак. *Ні бойцяся, у будзе́ сабака.* Дакудава Лід. *У будзе́ сабака спіць.* Старыя Смільгіні Воран. *Сабака жыве ў будзе́.* Смаляніца Пруж. 2. Будан для стоража. *Я буду начаваць у будзе́.* Паляцкішкі Воран. *Цябе, як таго Шарыка, трэба прывязаць да буды́.* Кіралі Шчуч. *Як буда́ хата.* Навасёлкі Свісл.; *параўн.* польск. *buda* 'тж'.

БУДАВА'ЦЦА *незак.* Ставіць сабе жыллёвыя і гаспадарчыя будынкі. *Вайной згарэла ўсё — зноў будаваліся.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Не разрашылі будавацца тут. Тут будуюцца ў Пікулішках, а другія — у Судэрве.* Швэды Вільн.

БУДАВА'ЦЬ *незак.* Ставіць хату і іншыя збудаванні. *Казюк будаваў хату.* Гемзы Шальч. *Як будавалі, то палажылі чатыры камені і лажылі берваяно.* Грыкені Вільн. *Як будавала хату, шыфяр купляла.* Старыя Трокі Трак. *Тут школу будавалі, ён цэглу насіў.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *budować* 'тж'.

БУДА'К *м. бат.* Калючая трава, асот. *Будак на полю расце, ён с калючкамі.* Старое Сяло Зэльв.

БУДЗЁННАЕ *н.* Штодзённае адзенне. *Яны пашлі ў будзённым.* Азяраны Раг.

БУДЗЁННЫ, БУДЗЁНЫ *прым.* 1. Несвяточны, рабочы. *У будзёны дзень жала, лён рвала.* Міратычы Карэл. *Даўней у будзённы дзень елі горшае.* Старое Сяло Зэльв. *У будзённы дзень паеду.* Малахоўцы Бар. *Святы дзень і будзёны дзень.* Вострава Маст. 2. Штодзённы. *Будзённае адзення памыла.* Саланое Віл., Номікі Бабіц.

БУ'ДНІ *прым.* Тое ж, што і будзённы 1. *У будні дзень пралі.* Старыя Трокі Трак. *Зраблю буднім днём.* Ахрэмаўцы Брасл. *Памёр буднімі днямі.* Вецярэвічы Пух.

БУДО'ВА *ж.* Сукупнасць жыллёвых і гаспадарчых будынкаў аднаго гаспадара. *Пераехалі ў горат, асталася будова.* Старыя Смільгіні Воран. *Будову прадаў.* Паляцкішкі Воран. *Будову перавезлі ў другую вёску.* Альхоўка Навагр. *Астанецца будова пасля нас.* Стральцы Гродз.; *параўн.* польск. *budowa* 'будаўніцтва, будаванне, будынак'.

БУДО'ЎЛЯ *ж.* Тое ж, што і будо́ва. *Наша будоўля старая.* Кураполле Паст.; *параўн.* польск. *budowla* 'будыніна, будынак'.

БУДУ'ЛЕЦЬ *зб. м.* Будаўнічы матэрыял. *Начав бы новы хлівы ставіті, оно бракуе шчэ будульця і нэма дэ взяті.* Курашэва Чыж.

БУДЫ'НІНА *ж.* Адзін будынак. *Адна будыніна засталася.* Саланое Віл.

БУДЫ'НКІ, БУДЭ'НКІ *мн.* Тое ж, што і будо́ва. *Згарэлі вясною будынкі.* Вострава Маст. *Ён настроіў будынкаў.* Малахоўцы Бар. *Сосна найлепша, шчо становят будэнкі з йійі.* Дзмітравічы Кам.

БУДЫ'НЬЧЫНА *ж.* Тое ж, што і буды́ніна. *Як якая будыньчына: і дарагая і дзяшовая.* Стральцы Гродз.

БУДЭ'НКІ *гл.* БУДЫ'НКІ

БУЖА'К *гл.* БУЖУ'К

БУЖА'ЛНА *н.* Біч у цэпе. *Цэп складаецца з цапавіска, што ў руках трымаецца, і бужална.* Грыкені Вільн.; *параўн.* літ. *búožė* 'галоўка цэпа'.

БУЖУ'К, БУЖА'К *м. заал.* Жук, кузурка. *Дзе вільгаць, там і бужукі.* Старыя Смільгіні Воран. *Бужукі розныя: чорныя, жоўтыя.* Старыя Трокі Трак. *Бужак цвёрды, як возьмеш у руку, то аш храшчыць.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *bužỹs* 'тж'.

БУЖУ'ЛЬ *ж.* Тое ж, што і бужу́к. *У нас бужулямі зовюць, а дзе жукамі.* Стральцы Шальч.

БУЗА' *ж.* 1. Іл у вадаёме. *Брудная вада, як буза, як гразёй размяшана.* Ракаўскія Швянч. *Буза на дне возіра.* Мярэцкія Глыб. *Пераходзілі раку і заселі ў бузе.* Лісна В.-Дзв. *Дзе большая буза, там угорыч бываіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Буза сліская на дне ракі.* Беразіно Докш. 2. Гразкае месца. *От буза вялікая: няможна прайсці, калёсы тонуць у бузе.* Ёдлавічы Брасл. 3. Асадак. *Буза ў вядры засталася.* Беразіно Докш. 4. Адходы, смецце. *Бузы многа, нячыстае сем'я.* Рудня Астравітая Чэрв. *Што бузы ў гэтум шчаўі.* Малыя Аўцюкі Калінк. 5. *перан.* Глупства, лухта. *Чы ж гэтому вірыты, гэто ж буза, ніхто выбузыв.* Сіманавічы Драг.

БУЗОВА'ТІ *незак.* 1. Палаць. *Замнуого дров в піеч поло-*

*жыла, бо огонь вэльмі бузуе.* 2. Энергічна што-н. рабіць. *От бузуе чоловіек!* Курашэва Чыж.

БУЗЯ′НЫ *прым.* Гразкі. *Бузяны бераг.* Скрудалена Даўг. *Бузяная места там: як станіш, і лезіш уніс.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тут бузяная тапучая места.* Лісна В.-Дзв.

БУІ′НЫ *мн.* Тое ж, што і б у г а і. *У нас буіны растуць у Захмеліішчы.* Дзяніскавічы Ганц.

БУЙ *м.* 1. Адкрытае месца, скразняк. *Пастой на буі дзень — акалееш.* Вецярэвічы Пух. 2. Высокае месца, дзе нічога не расце. *Гола, як на буі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 3. Сухое месца. *Буй, дзе косюць, там вышэй, не мокра.* Беразіно Докш.

БУ′ЙДА′ *ж.* Тое ж, што і б а й д а́. *Гаворацць, што кур дояць, а гэтага ніхто не відзеў—гэта бу́йда ўсё.* Гемзы Шальч. *А гэта бу́йда, не хачу слухаць.* Старыя Трокі Трак. *Бу́йду гаворыш.* Быстрыца Астр. *Ён бу́йду пуская, што во тое і тое было. Бу́йду пусця: во зязюлька кукавала, абы што пусця.* Крэва Смарг. *Я ны віру, гэто буйда́.* Сіманавічы Драг. *Што вуон говорыт, то всё бу́йда.* Курашэва Чыж.

БУЙЛЯКІ′ *мн. бат.* Быллё. *Там адны пальныя буйлякі растуць.* Старыя Смільгіні Воран.

БУ′ЙНО *прысл.* Буйна. *Буйно крышу́ капусту, бо́ для кароў.* Номікі Бабіц.

БУ′ЙНЫ′ *прым.* 1. Буйны. *Сёлета буйны́я ягады параслі.* Вязынка Маладз., Рудня Астравітая Чэрв. *Журавіны летась былі буйны́я і многа было.* Магуны Паст. *Буйно́я жыта.* Мярэцкія Глыб., Крэва Смарг. *Жыта самая буйно́я на семяну́ астаўлялі.* Валынцы В.-Дзв. *Буйно́я зярно.* Жодзішкі Смарг. *Бу́йныя яблыкі ў гэтым гаду. Натта калівы жыта буйны́я.* Гемзы Шальч. *Бу́йная сена.* Бакшты Іўеў. 2. Вялікі па памеру. *Пакроіла мяса буйнымі кавалкамі.* Гемзы Шальч. 3. Багаты, шчодры. *Росы буйныя былі, вільгаць зямля мела.* Пацаўшчына Дзятл.

БУК I *м. бат.* Бук. *У лесе бук е, дзераво чорно вродзі дубу, але дуп бялейшы, лісці падобны да грабу.* Альхоўцы Лях. *Бук нападобіе граба, але ў нас німа.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* руск. *бук,* польск. *buk* ’тж’.

БУК II *м.* 1. Вір. *Глыбокае месца ў рацэ, ямы—бук.* Ухвала Круп. *Бук у рацэ, адзін бук аб’ехаў, дзе круця.* Палік Барыс. *У буку круця.* Глівін Барыс. 2. Круты паварот ракі. *Дзе рака закручаная — завуць бук.* Беразіно Докш. *Шышэйны бук завуць месца, дзе шаша да Можы* [ракі] *падходзіць.* Ухвала Круп.

БУК III *м.* Гуз, шышка. *Бук на лэбя — гус такі мае.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *bũkas* ’шышка’.

БУК IV *м.* Скура грубага вырабу. *Такая скура бук, боты з яе шылі.* Дакудава Лід.

БУ′КАВІНА *ж.* Выемка. *У нас букавіна на полі, вада ў ёй*

*не высыхая.* Глівін Барыс. *Букавіны там бальшыя, ніколі ні высыхаюць — па адзін бок дарогі і па другі.* Ухвала Круп.

БУ'КАВЫ *прым.* Зроблены са скуры грубага вырабу. *Купіў боты букавыя.* Дакудава Лід.

БУ'КА'Т *м.* Тое ж, што і б у к IV. *Хром і бу́кат, то разніца была, бу́кат прасцейшы.* Чычалі Швянч. *Бу́кат — лепшая кожа.* Старыя Трокі Трак. *Бука́т — хром такі.* Крэва Смарг. *Бука́т — тавар на сапагі, танейшага сорту, чым ялавыя сапагі.* Рыбчына Віл. *Бука́т — кожа, вырабленая на боты.* Магуны Паст. *Бука́т—від выробленай скуры.* Быстрыца Астр. *Бука́т на боты бралі.* Саланое Віл.

БУКА'ТАВЫ, БУКАТО'ВЫ *прым.* Тое ж, што і б у́ к а в ы. *Боты былі букатавыя.* Магуны Паст. *Букатовыя боты мяккія.* Крэва Смарг.

БУ'КАЎКА, БУ'ГАЎКА, БУ'ХАЎКА *ж. заал.* Пліска. *Букаўка — маленькая птушачка, хвосцік у яе ўвесь час дрыгая.* Быстрыца Астр., Вязынка Маладз. *Бугаўкі—маленькія птушачкі, паяўляюцца вясной, як і жаўраначкі, адразу с-пат снегу.* Крэва Смарг. *Бухаўка любя, дзе крушні зложаныя, яна там водзіцца.* Гемзы Шальч.

БУ'КВІТА, БУ'КВІЦА *ж. бат.* Буквіца, лекавая трава. *Буквіта жоўта квітніць.* Скрудалена Даўг. *Буквіца натта добра ад ран.* Навасёлкі Свісл.; *параўн.* лат. (*gaiļ*) *biksīte* 'тж'.

БУКЛА'ТЫ *прым.* Бязрогі. *Буклата карова бяз рох, яна хароша на малако.* Кіралі Шчуч.

БУ'КСА I *ж.* Сталёвая ўтулка. *У калясу былі буксы.* Грыкені Вільн. *У калотку ўсаджваяцца букса.* Жодзішкі Смарг.; *параўн.* ням. *Büchse* 'тж' (магчыма, праз літоўскую).

БУ'КСА II *ж.* Бязрогая жывёліна. *Букса не мае рагоў.* Мсцібава Ваўк. *Добры цяля, але букса. Баран — букса.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *bukšà* 'тж'.

БУЛАВА' *ж.* 1. Таўкач. *Булава зроблена картофлю таўчы свіням, а сабе — качалкай.* Кіралі Шчуч. 2. Галоўка ў бязмене. Кіралі Шчуч.

БУЛАВЕ'НЬ *м.* Калок з патаўшчэннем на адным канцы. *Бывала, едзе на начлег, жарабёнка навяжа ля цяпла на булавень — за аброць і за булавень, каб не сашчалкнулася вяроўка.* Азяраны Раг.

БУЛА'ТЫ *прым.* Лупаты, зіркаты. *Ён такі булаты, аж страх яму ў вочы глядзець.* Ухвала Круп.; *гл.* б у л ы́.

БУЛА'ЎКА *ж.* Тое ж, што і б у ж а́ л н а. *У цэпе булаўка, ужык, прывяска і цапілна. Дубовай булаўкай білі.* Старыя Смільгіні Воран., Кемялішкі Астр.; *гл.* ДАБМ, карта № 258.

БУЛА'ЎКІ *мн. бат.* Рагоз, шышкі рагозу. *У балоце булаўкі растуць, балотнія булаўкі.* Старыя Смільгіні Воран. *Трасціна, на ёй булаўкі.* Старыя Трокі Трак.

БУЛА'ЎНІК *м.* Тое ж, што і б у л а́ ў к і. *Залезем у бало-*

*та, набяром булаўніку, на ім чорныя шышкі. На лісця булаўніка цыбулю пляцём.* Бакшты Іўеў.

БУ'ЛАЧКІ *мн.* Скруткі льну. *Чэсаны лён круцілі ў булачкі, а пазней кудзелькі рабілі і пралі.* Стральцы Шальч.

БУЛА'ЧНІК *м. бат.* Тое ж, што і б у л а́ ў к і. *Наламаў булачніку.* Альхоўка Навагр.

БУ'ЛБАЛКІ *мн.* Тое ж, што і б у́ р б а л к і І, 1. *Булбалкі на вадзе — будзя дошч вялікі.* Вецярэвічы Пух.

БУ'ЛБАТКІ, БУ'ЛЬБАТКІ *мн.* Тое ж, што і б у́ р б а л к і І, 1. *Булбаткі ўгору скачуць — шчэ дошч будзя.* Кіралі Шчуч., Галубы Маст., Пацаўшчына Дзятл. *Булбаткі пасталі на лужах — будзе дошч велькі.* Мсцібава Ваўк. *Бульбаткі скачуць — задажджыцца.* Навасёлкі Свісл. *Бульбаткі паскакаюць па вадзе — будзя дошч.* Міратычы Карэл.

БУЛДАВА' *ж.* Тое ж, што і б у л а в е́ н ь. *Булдава такая кароценькая: адзін тоўсты край, а другі тонкі.* Лісна В.-Дзв. *Булдава — як качалка, а на канцы тоўстая.* Саланое Віл. *Калок з булдавой.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* яшчэ літ. *buldė̃* 'тж' (Юрбаркас, ЛітССР).

БУЛДАВЕ'ШАЧКА *ж. памянш.* да б у л д а в а́. *Цябе стукнуць булдавешачкай.* Дварчаны Паст. *Булдавешачку такую дзелалі — такі калок навязваць скаціну.* Азяраны Раг.

БУЛДАЎНЯ' *ж.* Тое ж, што і б у л а в е́ н ь. *Такі калок, каня навязавалі.* Азяраны Раг.

БУЛДО'ЎКА І *ж.* Тое ж, што і б у́ б а л к а. *У лілії булдоўкі белыя.* Чарняўскія Лудз.

БУЛДО'ЎКА ІІ *ж.* Шышка рагозу. *Булдоўкі чорныя абламвалі, пухам з іх набівалі падушкі.* Навікі Лудз.

БУЛДЫ'Х *выкл.* Бух. *Толькі прышла ў хату — булдых і лігла.* Ахрэмаўцы Брасл.

БУЛЁВЕНЕ *н.* 1. Тое ж, што і б у л ь б о́ ў н і к. *Булёвене — што на бульві ростэ. Вон выкосіў булёвене. Я нэ скручвала булёвене.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* літ. *bulviẽniai* 'тж'. 2. Тое ж, што і б у л ь б о́ в і ш ч а. *Булёвене после бульвы, посееў жыто на булёвені.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* літ. *bulviena* 'тж'.

БУЛЁН *м. кулін.* Бульбяны суп. *Булён варацъ засквараны і бялёны.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. *Булён будзям есці.* Жодзішкі Смарг. *Булён з аднэй бульбы варылі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Булён трэба засквэрыць.* Дварчаны Паст.

БУЛЁНІЦЬ *незак. экспр.* Балбатаць. *Булёніш дзень.* Індра Красл.

БУ'ЛІТІ *незак.* Расплачвацца. *Шчэ ты за своіе будэш булітi!* Курашэва Чыж.

БУ'ЛКА *ж.* Баханка. *Хлеп пяклі булкамі.* Жодзішкі Смарг. *Булка хлеба.* Грыкені Вільн. *Шэсь булак бальшых, а сідмая маленькая — бондачка.* Масішкі Красл.

БУЛТ *м. рыб.* Тое ж, што і б а л т а́ к. *Бултам муцяць ваду.* Старыя Смільгіні Воран.

БУЛЫ′ *мн. экспр.* Лупатыя, зіркатыя вочы, вірлы. *Як паставіць булы пулятыя, аж страшна.* Глівін Барыс.; *параўн.* літ. *bū̃lis* 'яблык', *bubùlis* 'невялікі круглы прадмет'.

БУЛЬ *м.* Боль. *Дай мне парашка ад булю галавы.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *ból* 'тж'.

БУ′ЛЬБА, БУ′ЛЬВА *ж.* 1. Клубні бульбы. *Бульбу пасадзілі.* Грыкені, Відаўцішкі Вільн. *У нас бульба добра расце.* Альхоўка Навагр. *Пайду бульбу апраўлю.* Саланое Віл. *Палажу на сяўбу бульбу.* Курaполле Паст. *На бульбу ня сып буракі.* Груздава Паст. *Нігода, бракавала картоплі, а некалі бульва гаварылі.* Тухавічы Лях. *Я нэ копала бульвы ўвэчэры. Бульвы зварыш, бульвы запарыш.* Смаляніца Пруж. *Прыходзілі велькія патсвінкі ў бульву.* Сакаляны Сакол. *Заплытко бульва пасаджана.* Крынкі Крын.; *гл.* ДАБМ, карта № 277. 2. Плады, што растуць на націне бульбы пасля цвіцення. *Яблачкі на картофлі — то бульба.* Старое Сяло Зэльв. 3. *мн. бу́льбы.* Тое ж, што і б у́ р б а л к і I, 1. *Бульбы скачуць на лужах.* Навасёлкі Свісл., Мсцібава Ваўк.

БУЛЬБАВЕ′НЯ *н.* Тое ж, што і б у л ь б о́ ў н і к. *Шчэ зялёна бульбавеня.* Парэчча Гродз.; *гл.* ДАБМ, карта № 281; *параўн.* літ. *bulbiẽniai* 'тж'.

БУЛЬБА′НІСКА *н.* Тое ж, што і б у л ь б о́ в і ш ч а. *На бульбаніска карову выжань.* Вялікія Баяры Шчуч.

БУ′ЛЬБАТКІ *гл.* БУ′ЛБАТКІ

БУ′ЛЬБА Ў КІСЛІ′ *ж. кулін.* Страва з бульбы з дабаўленнем кіслай рошчыны. *Даўней варылі бульбу ў кіслі — з жытняй мукі рошчынкай залівалі.* Ахрэмаўцы Брасл.

БУ′ЛЬБАЧНІКІ *мн. кулін.* Бульбянікі. *Бальшы кацёл бульбы ў лупінах зварацъ, аберацъ лупіны, ёсць мука — туды муку сыпяць, намнуць гэту масу, расплясквацъ, нажом рэжаць, на патэльню і патпякаяць, потым паштэтам, маргоўкай ці творагам начыняюць, заварачваюць, складаюць у вялікія місы і ў печ, кап прыпарыліся,— гэта і ест бульбачнікі.* Жодзішкі Смарг.

БУЛЬБА′ШНІК *м.* Тое ж, што і б у л ь б о́ ў н і к. *Бульбашнік памалу за дзень сажну.* Асавец Віл. *Бульбашнік пасох.* Гайна Лаг.

БУЛЬБЕ′ЙНІК, БУЛЬБЕ′ЎНІК *м.* Тое ж, што і б у л ь б о́ ў н і к. *Бульбейнік парос, што гай быў.* Саланое Віл. *Як з расой ганяюць бульбу — ядрэнный бульбеўнік.* Мішневічы Шум.

БУ′ЛЬБЕ′ЛІШЧА *н.* Тое ж, што і б у л ь б о́ в і ш ч а. *Бульбелішча заааралі.* Беразіно Докш.

БУЛЬБЕ′ЎНІШЧА *н.* Тое ж, што і б у л ь б о́ в і ш ч а. *Па бульбеўнішчу жыта добра расцець.* Валынцы В.-Дзв.

БУЛЬБІ'НА *ж.* 1. Адзін клубень бульбы. *Добрая бульба — бульбіна ў бульбіну.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *зб.* Бульба. *Дай бульбіну абрэжу, звару бульбіну. А бульбіну зварыш?* Саланое Віл.

БУ'ЛЬБІШЧА *н.* Тое ж, што і б у л ь б ó в і ш ч а. *Па бульбішчу пасеялі жыта.* Асавец Віл.

БУЛЬБО'ВІСКА, БУЛЬБЯ'НІСКА *н.* Тое ж, што і б у л ь б ó в і ш ч а. *Па бульбовіску пасеіла.* Старыя Трокі Трак. *Бульбяніска там, дзе выбралі бульбу.* Гемзы Шальч.

БУЛЬБО'ВІШЧА, БУЛЬБЯ'НІШЧА *н.* Бульбянішча. *Лён сеюць на бульбовішчы.* Стральцы Гродз. *Хлопцы пераворваюць бульбу на бульбовішчы.* Вязынка Маладз. *Бульбовішча пераарай.* Ухвала Круп. *На бульбянішчы жыта сеялі.* Груздава Паст.

БУЛЬБО'ЎНІК *м.* Націна бульбы. *Бульбоўнік развесіў сохнуць.* Крэва Смарг. *Бульбоўнік пасох.* Гемзы Шальч. *Уручную сарвалі бульбоўнік.* Ухвала Круп. *Бульбоўнік трэба скасіць.* Дварчаны Паст.

БУЛЬБЯ'НІК *м.* Тое ж, што і б у л ь б ó ў н і к. *У каго каройка ды мала пошару — даюць бульбянік.* Кураполле Паст. *Бульбянік змерзня і пасхне.* Альхоўка Навагр.

БУЛЬБЯ'НІКІ *мн. кулін.* Перапечкі, піражкі з бульбы. *Даўней бульбянікі як спякуць, у бальшую чашку закладаюць і паліваюць тоўчанымі каноплямі.* Мішневічы Шум. *Бульбянікі даўней пяклі.* Азяраны Раг. *Бульбянікі з малаком укусныя.* Беразіно Докш.

БУЛЬБЯ'НІСКА *гл.* БУЛЬБО'ВІСКА

БУЛЬБЯ'НІШЧА *гл.* БУЛЬБО'ВІШЧА

БУЛЬБЯ'НКІ *мн.* Тое ж, што і б у л ь б я́ н і к і. *Бульбянкі рабілі так: бульбу варылі, у ступі таўклі, дабаўлялі мукі — ячнай, пшоннай, бабовай ці гарохавай, качалі і рэзалі на кускі, саджалі на гарачую печ, яны падымаліся, былі пульхныя, тады мак церлі ці калапні і залівалі бульбянкі.* Груздава Паст. *Мачалі бульбянкі ў мак, у калапні, канапляная малако елі з бульбянкамы.* Кураполле Паст. *Бывала, ў пост ладзяць есці: раўгеню робяць, напякуць бульбянак.* Мярэцкія Глыб.

БУЛЬБЯ'ННЕ *н.* Тое ж, што і б у л ь б ó в і ш ч а. *Ячмень пасеяла на бульбянні.* Рыбчына Віл. *Калі пераворавацьбудзеш бульбянне?* Мачаск Бярэз.; *параўн.* літ. *bulbiena* 'тж'.

БУЛЬБЯ'НЫ' *прым.* 1. Прыгатаваны з бульбы. *Салам прыкінута каша бульбяна́я — вот смашна.* Ракаўскія Швянч. *Будзям есці бульбяну́ю кашу.* Жодзішкі Смарг. *Бульбяна́я ежа, бульбяны́і камы.* Лісна В.-Дзв. 2. Які жывіцца бульбай. *Бульбя́ны чарвяк тоўсты, белы, яго куры ядуць.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Прызначаны для бульбы. *Бульбяну́ю карзінку грыбоў прынёс.* Ёдлавічы Брасл.

БУЛЬБЯ'ШНІК *м.* Той, хто харчуецца пераважна бульбя-

нымі стравамі. *Нас называюць бульбяшнікамі, але мы не крыўдуемся.* Ракаўскія Швянч.

БУ'ЛЬВА *гл.* БУ'ЛЬБА 1

БУЛЬВА'НЫ *прым.* Тое ж, што і бульбя́ны́. *Памый лышку ў бульванай вадзе.* Номікі Бабіц.

БУЛЬГОТА'ТІ *незак.* Бурліць. *Вода бульготіт. Куліеш ужэ ўварывсе, бо од давна бульготіт.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *bulgotać* 'тж'.

БУ'ЛЬКАЎКІ, БУ'ЛЬКІ, БУЛЬКЫ' *мн.* Тое ж, што і бу́рбалкі І, 1. *Булькаўкі падымаюцца—дошч вялікі будзя.* Сапоцкіна Гродз. *Булькі схапаюцца—дошч вялікі.* Хатынічы Ганц. *На воді булькы́, як дошч ідэ.* Сіманавічы Драг.

БУ'ЛЬМА *ж.* 1. Бульба. *Пайду вазьму трэсак ды ў печ укіну — зварыць трохі бульмы.* Новая Ніва Чэрв. *Скора станець бульму выбіраць.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Бручка. *Бульма дуплянята.* Пасека Ст.-Дар.

БУЛЬМЕ'ННІК *м.* Тое ж, што і бульбо́ўнік. *Бульбу капаяця? — Не, бульменнік малады.* Рудня Чэрв.

БУЛЬМЕ'ННЫ *прым.* Тое ж, што і бульбя́ны́. *Каша бульменная.* Рудня Чэрв.

БУЛЬМО'ЎНІК *м.* Націна бручкі. *Нарві бульмоўніку свінням.* Пасека Ст.-Дар.

БУЛЬЦІ'ЦЬ *незак.* Боўтаць. *Як рыбу ловяць, нагамі бульцяць ваду ў рэчцы.* Старыя Смільгіні Воран.

БУ'МБЛІ *мн.* Тое ж, што і бамбулí. *Бумблі ў карове на баках.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *bambl*ỹ*s*, дыял. *bumbl*ỹ*s* 'тое, што мае пукатую форму'.

БУМБУЙНЕ'РЫ *мн.* пры параўн. *Як бумбуйнеры. Гілі вялікія, як бумбуйнеры.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* ням. *Bombardierkäfer* 'таракан, прусак', літ. (<ням.) *bambatíeras, bambatairis* 'тж'.

БУМБУЛІ' *мн. экспр.* Вочы. *Ён бумбулі п'яныя як вывярнуў, аш страшна стала мне.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *bumbùliai* 'тж'.

БУ'МБЫ *мн.* Кутасы. *Да пояса прышывалі бумбы: здзесь галовачка перавязана, а там, як колакал, шырока.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* літ. *bambaliuoti* 'вісець, матляцца'.

БУ'МКАЦЬ, БУ'МКАТЫ *незак. экспр.* 1. Ціха, невыразна гаварыць. *Што ты там бумкаеш пад нос, я не чую.* Мсцібава Ваўк. *Шо ты там бумкаіш собі пуд ныс?* Сіманавічы Драг. 2. Стукаць. *Нішо бумкае, можэ хто стукае в двэры.* Сіманавічы Драг.

БУМЧЭ'ЦЬ *незак.* 1. Дзвынкаць, брынкаць. *Пабітая талерка бумчыць.* Саланое Віл. 2. Бумкаць. *Парахнаватая грушка бумчыць і бурак дупланаваты бумчыць.* Кураполле Паст. *Бумчыць, забумчэла дупляноватая брушка.* Саланое Віл. 3. Тое ж, што і бу́мкаць 1. *Ідзець і бумчыць сабе пад нос.*

Кураполле Паст., Саланое Віл.; *параўн.* літ. *bùmčioti, bumbsẽti* 'тж'.

БУНАВА'ЦЬ *незак.* Буяніць. *Ён пачаў бунавацъ, буную, лезе біцца.* Бакшты Іўеў.

БУНТ *м.* Маток, вясло. *Бунт грыбоў насушыла.* Масілавічы Сл.; *параўн.* ням. *Bund* 'тж'.

БУНТАВА'ЦЦА, БУНТОВА'ТЫСЬ *незак.* 1. Хваляваццa, перажываць, нервавацца. *Яна кляне яго, а я бунтуюся.* Груздава Паст. *Я ўсядно бунтуюся, яна* [нявестка] *нічога ня робіць.* Ракаўскія Швянч. 2. Капрызіць. *Нішо дытына бунтуіцьця.* Сіманавічы Драг.

БУНТАВА'ЦЬ *незак.* Бударажыць, збіваць з толку. *Бацькі многа дзяцей бунтуюць.* Быстрыца Астр.

БУНТАНІ'НА *ж.* Блытаніна, непаладкі. *І пашла ў іх бунтаніна, як той казаў.* Пацаўшчына Дзятл.

БУНТОВА'ТЫСЬ *гл.* БУНТАВА'ЦЦА

БУНТЭ'ЛІК *м.* Вязка льновалакна. *Кужаль складаюць у бунтэлькі, пасярэдзіне перавязваюць, а кончыкі закручваюць — і ён не развальваецца.* Рыбчына Віл. *Бунтэлік часанаго лёну важыць дзесяць хунтаў.* Асавец Віл.; *параўн.* літ. *bùntas* (<ням. *Bund*) 'сноп, ахапак', *buntẽlis* 'маленькі сноп'.

БУ'НЦІК *м. памянш.* Скрутак лазы. *У лесе лазы нарэжа і накруця бунцікі маленькія.* Масілавічы Сл.; *гл.* б у н т э́ л і к.

БУ'НЬКА *ж.* 1. Шкляная пасудзіна, слоік. *Куот побіў буньку з газом.* Курашэва Чыж. 2. Гляк. *Як ідэш жыты чы сіно грыбсты, то набырэш воды в буньку.* Сіманавічы Драг. 3. Бурбалка. *Діеті на водіе бунькі роб'ят.* Курашэва Чыж. *Дошч ідэ, бунькы́ збыгають на воді.* Сіманавічы Драг.

БУНЯ'К *м.* Пухір. *Як натрэш гэтай травой, то схваціцца буняк на целе, бо апячэш ці вадою апарыш, паўсхватваюцца бунякі.* Дзяніскавічы Ганц.

БУО'ГМЭ, БУО'ГМЭЖЭ, БІ'ГМА *выкл.* Далібог. *А забожысе, што правду говорыш?—буогмэ, правду говору. Буогмэжэ, правда.* Курашэва Чыж. *Бігма, шо стэ правда.* Радастаў Драг.

БУОК *гл.* БОК

БУ'ПКА *ж.* Дробная бульбіна. *Картошка ніколі насення не звядзе — хоць бупка ды будзя.* Ру́дня Астравітая Чэрв.

БУ'РА *ж.* 1. Буран, віхор. *Такая бура, што ўсё ляцела.* Старыя Трокі Трак. *А потым як узнялася бура.* Гемзы Шальч. *Бура пананосіла пташак і арол быў.* Альхоўцы Лях. *Бура паласою ішла, крышы зносіла, разрушала зданье.* Дзяніскавічы Ганц. *Бура пранеслася — бураломы ў лесі.* Хатынічы Ганц. 2. пры параўн. *Як бура* — быстрая. *Яго жонка, як бура.* Граўжышкі Ашм.

БУРАВА'ЦЬ *незак.* Свідраваць. *Свярдло буруя.* Малахоўцы Бар.

БУРАКАВЕ'НЯ *зб. н.* Націна буракоў. *Буракавеня свіня ядуць.* Міратычы Карэл., Навасёлкі Свісл.; *гл.* ДАБМ, карта № 282.

БУРАКІ' *мн.* 1. Участак, дзе пасаджаны буракі. *Маці на буракі ходзіць, дзялкі выдзелілі.* Стральцы Гродз. *На буракі пайду.* Пасека Ст.-Дар. *Свіня ў буракох, ідзі выжэнь!* Смаляніца Пруж. 2. Насенне буракоў. *Каб буракі пасадзіла, скольki буракоў было б.* Кураполле Паст.

БУРАЛО'М *зб. м.* Паламаныя бурай дрэвы. *Буралому ў лесі — не прайсці.* Глівін, Палік Барыс.

БУРАЛО'МІНА *ж.* Адно дрэва, паваленае бурай. *Бураломіна загарадзіла дарогу.* Беразіно Докш.

БУРА'Н *м.* Тое ж, што і б у́ р а. *Буран прышоў — вецяр сільны.* Дакудава Лід. *Як буран пройдзя, то павыварочвае, наломіць усяго.* Міратычы Карэл.

БУРА'НІЦЬ *незак.* Моцна дзьмуць. *Вятры буранюць.* Ухвала Круп.

БУРАЧА'НІСКО *н.* Тое ж, што і б у р а к а в е́ н я. *Ідзі наламай бурачаніска свіням даць.* Вялікія Баяры Шчуч.

БУРАЧКО'ВЫ *прым.* Бардовы (колер). *Бурачковыя ніткі былі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бурачкова матерыя.* Сіманавічы Драг.

БУРА'ЧНІШЧА *н.* Участак поля, дзе раслі буракі. *На бурачнішчы каровы ходзяць.* Мярэцкія Глыб.

БУРА'ЧЫНА *ж.* Боршч з буракоў, бацвінне. *Бурачыну зварыла.* Саланое Віл.

БУРАЧЫ'СКА, БУРАЧЫ'СКО *н.* Тое ж, што і б у р а́ ч н і ш ч а. *На бурачыску быў.* Кіралі Шчуч. *На бурачыску пшэніцу посіею.* Курашэва Чыж.

БУРАЧЫЭ'НЕ *зб. н.* Тое ж, што і б у р а к а в е́ н я. *Свіням на обіед бурачыэня нарвэш.* Курашэва Чыж.

БУ'РБАЛАЧКІ *мн. памянш.* да б у́ р б а л к і І, 1. *Бурбалачкі на вадзе — будзя дошч яшчэ ліць.* Малькуны Ігн., Магуны Паст. *Капая дошч — бурбалачкі становяцца.* Гемзы Шальч.

БУРБАЛІ'ЦЬ, БУРБУЛІ'ЦЬ *незак.* Бурліць. *Такі дошч, вада на дарозя бурбаліць.* Вязынка Маладз. *Вада як бурбаліць, бурбалкі скачуць.* Саланое Віл. *Натта бурбуліць вада.* Жылі Іўеў.; *параўн.* літ. *burbuliúoti* 'тж'.

БУ'РБАЛКІ І, БУ'РБАЛТКІ, БУ'РБАЛЬКІ, БУ'РБОЛКІ, БУ'РБУЛКІ *мн.* 1. Пузыры на вадзе ў час дажджу. *Бурбалкі на вадзе — дождж будзе.* Чычалі Шванч., Галоўні Воран. *Бурбалкі скакаюць.* Малькуны Ігн. *Бурбалкі стаяць — наверна, дошч будзя.* Гемзы Шальч. *Бурбалкі становяцца — будзя вялікі дошч.* Рыбчына Віл. *Бурбалкі на вадзе зверху.* Данілавічы Дзярж. *Як утануў, аж бурбалкі паказаліся.* Старыя Смільгіні Воран. *На лужах бурбалткі.* Малахоўцы Бар. *Бурбалькі на*

*вадзе — будзя дошч ісці.* Ракаўскія Швянч. *Бурболкі на вадзе, калі дошч улеўны.* Старыя Трокі Трак. *Бурбулкі скакаюць — будзіць дошч.* Скрудалена Даўг. *Дошч ліецъ — бурбулкі на вадзе, а куры ходзяць.* Ёдлавічы Брасл. 2. Мыльныя бурбалкі, пухіры. *Дзеці робяць бурбалкі з мыдла: саломінку на некалькі вусікаў зробіш, дзьмухаеш, кап ня села, яна летае, а маці крычыць: «А бадай вас халера з бурбалкамі, прайсці нельга».* Гемзы Шальч. 3. Пухіры на целе. *Бурбалкі на пальцах адвісаюць.* Ухвала Круп.; *параўн.* літ. *burbulaĩ* 'тж' (ЛТ, 169).

БУ'РБАЛКІ II *мн. бат.* Жоўтыя гарлачыкі. *Бурбалкі квітнуць жоўтыя.* Малькуны Ігн. *Бурбалкі жоўтыя растуць у затоках, мы ў берах убрыдзём і бурбалкі дастанім, яны растуць бліжы берага.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *bur̃bulas* 'пярэсна'.

БУРБАЛО'ЧНІК *м. бат.* Тое ж, што і б у́ р б а л к і II. *Лілія белая, а бурбалочнік жоўты.* Роўнавічы Валож.

БУ'РБАЛЬКІ *гл.* БУ'РБАЛКІ I

БУ'РБОЛКІ I *гл.* БУ'РБАЛКІ I

БУ'РБОЛКІ II *мн.* Тое ж, што і б а м б у л í. *Бурболкі вісяць у каровы, як у хлеве гразна.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* літ. *bur̃bulas* 'круглы прадмет'.

БУРБУЛІ'ЦЬ *гл.* БУРБАЛІ'ЦЬ

БУ'РБУЛКІ *гл.* БУ'РБАЛКІ I

БУРБУЛЯВА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і б у р б а л і ц ь. *Ручай бурбулюя, уверх б'е і б'е.* Гемзы Шальч. *Бурбулюіць вада ў рэчцы.* Ністанішкі Смарг. *Бурбулюя вада.* Граўжышкі Ашм. *Вада бурбулюіць.* Скрудалена Даўг.

БУРБУЛЯ'ЦЬ *незак. экспр.* Мармытаць. *Бурбуляець нявядома што.* Скрудалена Даўг.; *параўн.* літ. *burbuliúoti* 'тж'.

БУРВА'ЛАК *м.* Вываранецень, паваленае бурай дрэва. *Бурвалкаў многа ў леся.* Рыбчына Віл.; *параўн.* літ. *burválka* 'куча; здаравяка'.

БУРВАНІ'НА *ж.* Бурчанне ў жываце. *Ат бурваніны арнік добра.* Індра Красл.

БУРГА' *ж.* пры параўн. Калатуша (пра негустую масу). *Масла, як бурга.* Саланое Віл.; *параўн.* літ. *bur̃gė* 'тж' (Фрэн., 66; ЛТ, 170).

БУРГАНО'К *м. памянш.* Курганок, насып. *Пахаваюць каго, тады ўверх бурганок зямлі накапаюць.* Азяраны Раг.

БУРГАНЫ' *мн.* Тое ж, што і б у г ó р 4. *Бурганы на небе ё.* Азяраны Раг.

БУРДА' *ж.* 1. Тое ж, што і б а л а н д á 1. *Зварыла бурды якой, ці баланды.* Лісна В.-Дзв. 2. Перакіслае адтопленае малако, калатуша. *У пост малако адаграваді, у дзешку злівалі — бурда станавілася, елі бурду з бульбай.* Валынцы В.-Дзв. *Дайней пасцілі і малако збіралі ў дзешку, за сем нядзель*

*пасту вялікоднага малако зробіцца, як бурда.* Кураполле Паст. 3. Тое ж, што і б у р г á. *Масла збіла—як бурда.* Лісна В.-Дзв., Саланое Віл. *Масло велька — чыста бурда.* Мсцібава Ваўк.

БУ′РДАЎКА *ж.* 1. Пухір. Лісна В.-Дзв. 2. у знач. *прысл. бýрдаўкай.* Пузыром, пухіром. *Цеста бурдаўкай падоймецца, як патходзіць.* Лісна В.-Дзв.

БУ′РДАЎКІ *мн.* Тое ж, што і б ý р б а л к і І, 1. *Бурдаўкі падымаюцца — яшчэ дошч пойдзіць. Бурдаўкі падымаюцца, як вада бурліць.* Лісна В.-Дзв.

БУРДО′ВЫ *прым.* Бардовы. *Бурдовая хустка.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дала мне бурдову посцілку.* Пацаўшчына Дзятл.

БУРЗА′ *ж.* Тое ж, што і б у р г á. *От набіла бурзы.* Ёдлавічы Брасл.

БУРЗУ′КЕЛЬ *гл.* БРУЗУ′КЕЛЬ

БУ′РКА *ж.* Доўгая і шырокая саматканая вопратка з башлыком, якая надзяваецца паверх кажуха. *Суконныя буркі шылі, ад дажджу накладалі, як ездзілі на конях.* Мсцібава Ваўк. *Буркі з каўняром і башлыком шылі.* Вецярэвічы Пух. *Бурка з сукна ў адну столку сшыта, надзявалі на начлех ці ў дарогу.* Гайна Лаг. *Бурка з капюшонам і на шубу адзявалася.* Пацаўшчына Дзятл. *Бурка — доўгая світа.* Рудня Астравітая Чэрв.

БУРКЛІ′ВЫ *прым.* Які любіць бурчаць, сварыцца. *Ён бурклівы і яна бурклівая, яе матка была бурклівая.* Гемзы Шальч.

БУ′РКНУЦЬ *незак.* Злосна сказаць што-н. *Муж і буркніць калі.* Ёдлавічы Брасл.

БУРЛАГА′, БУРЛЁГА, БУРЛЁНГА *ж.* 1. Калатуша. *Бурлёгі якой наварыла.* Старыя Трокі Трак. 2. Тое ж, што і б у р г á. *Зварыла ты зацірку — як бурлага. Капуста ў кадушцы зробіцца, як бурлага. Масла ня б′ецца, зробіцца, як бурлага.* Бакшты Іўеў. *Масла велькае, як бурлёга, не ўдалося.* Гемзы Шальч. 3. пры параўн. Багнаватая гразь, калатуша. *Дарога разбіта, як бурлёнга.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *burlegà, burliũngė* ′тж′ (ЛТ, 170).

БУРЛЁШКА *ж.* Тое ж, што і б а л а н д á 1. *Што ты бурлёшкі наліла?* Старыя Трокі Трак.

БУРЛІ′ЦЬ *незак.* 1. Бурболіць. *Вада бурліць.* Рыбчына Віл., Беразіно Докш. 2. Булькаць (у жываце). *Дайней налупюцца раўгені і бурліць у жываце.* Лісна В.-Дзв.

БУРЛЮКІ′ *мн.* Драбяза. *Як называюцца ўсе гэтыя бурлюкі?* Гемзы Шальч.

БУРМАШЫ′СТЫ *прым.* Мажны, тоўсты. *Ідзе нейкі бурмашысты чалавек.* Старое Сяло Зэльв.

БУ'РНІ *мн.* У выразе: *Бурні вясці* — мурлыкаць. *Кот бурні вядзець.* Скрудалена Даўг.

БУРНО'С *м.* 1. Традыцыйная верхняя мужчынская вопратка з даматканага сукна. *Бурнос з сівога пераважна сукна шылі.* Мярэцкія Глыб. *Бурнос з чыстай шэрсці, дліны, як пальто, палаценцам падвязвалі.* Пацаўшчына Дзятл. *Бурнос шылі пат талю, на падкладцы.* Быстрыца Астр. 2. Тое ж, што і б у́ р к а. *Бурносы ткалі з чыстага сукна, с капішонам.* Крэва Смарг. 3. Традыцыйная верхняя жаночая вопратка з даматканага сукна. *Бурнос дзяўчаты насілі і бабы.* Саланое Віл. 4. Кароткая і доўгая верхняя вопратка з даматканага сукна. *Бурносы доўгія і кароткія былі, як світка.* Тухавічы Лях., Хатынічы Ганц.

БУРНЭ'ЛЬКА *ж.*, БУРНЭ'ЛЬКІ, БРУНЭ'ЛЬКІ *мн. бат.* Гарлянка. *Бурнэлька ад кашлю памоцна.* Каўняны, Новікі Гродз. *Бурнэлькі п'юць ад горла.* Груздава Паст., Рудня Астравітая Чэрв. *Брунэлькі — сінінькія кветачкі на такой шышаццы, велічыні — як жалудок. Хто сіпая, то нада піць брунэлькі — і памагая.* Рудня Астравітая Чэрв.<польск. *brunelka* 'тж'.

БУРТ I *м.* 1. Капец бульбы, буракоў. *Буракі зложым у бурт, а бульбу ў склеп.* Дварчаны Паст. *Бу́рты картошкі.* Скрудалена Даўг. *Капец круглы, а бурт прадаўгаваты.* Глівін Барыс. 2. Куча карчоў. *Бу́рты — кучы, што насоўвалі трактарамі, калі балоты асушалі.* Альхоўка Навагр. 3. *перан.* Вялікі кавалак. *Адваліў хлеба бурт. Вялікі бурт мяса.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *bùrta* 'кавалак'.

БУРТ II *м.* Чары. *Яна бурт знаіць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *bùrtai* 'тж'.

БУРТАВА'ЦЬ *незак.* Складаць у капцы. *Калгаснікі на полі буртавалі бульбу.* Дварчаны Паст. *Буртуюць навос.* Скрудалена Даўг. *У калхозя буртуюць картофлю ў капцы.* Дакудава Лід.

БУРТАЎШЧЫ'К *м.* Той, хто буртуе. *Аграном буртаўшчыку ні патказаў, дзе бурт пачынаць.* Асавец Віл.

БУ'РТАЧКА *ж. памянш.* да б у́ р т к а. *Буртачкі пайшывай.* Бакшты Іўеў.

БУ'РТКА *ж.* Драўляны гузік. *Мая мама называла бурткай драўляны гузік. Даўней казалі: «Нада ўшыць буртку ў штаны».* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *bùrla* 'чатырохвугольны кавалак дрэва'.

БУ'РТНІК *м.* Чараўнік, знахар. *Ён нейкі буртнік, чаравацъ умее.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *bùrlininkas* 'тж'.

БУРТУ'К *м.* Вертыкальны шпень, на які насаджваецца верхні камень жорнаў. *Буртуком падымя — і жарнавая мука бывае то крупнейшая, то мялчэйшая.* Граўжышкі Ашм.; *гл.* б у́ р т к а.

БУРТУЧО'К *м. памянш.* Тое ж, што і б у́ р т к а. *З дрэва буртучкі рабілі.* Граўжышкі Ашм.

БУРУ'БАЛКІ *мн.* Тое ж, што і б а м б у л і́. *Абкарэўшы карова, бурубалкі вісяць на кумпяках.* Ахрэмаўцы Брасл.

БУРХЛЯ'Ч *м.* 1. Пухір. *Як апарыш — бурхляч падыміцца.* Кураполле Паст. 2. Друзлае, абвіслае цела. *У старога чалавека мякішэ атходзяць ад касці, як робяцца бурхлячэ.* Кураполле Паст.

БУРЧА'К I *м.* 1. Камяністае месца ў рацэ, дзе бурліць вада. Рыбчына Віл. 2. Ручай. *Бурчакі бягуць на балото.* Хатынічы Ганц.

БУРЧА'К II *м.* Сорт гароху. *Бурчак — гарох жоўтага цвэту.* Рыбчына Віл.

БУРЧА'ЦЬ, БУРЧЭ'ЦЬ *незак.* 1. Злавацца, выказваць незадавальненне. *Чаго ты бурчыш?* Талейкі, Чычалі Швянч. *Мы купілі хату — матка бурчэла.* Паляцкішкі Воран. *Бурчыць і бурчыць — яму ўсё не ў лад.* Азяраны Раг. 2. Бурчаць (пра ката, сабаку). *Я пачаў да яго патходзіць, то ён* [сабака] *да мяне пачаў бурчэць.* Гемзы Шальч. 3. Бурліць, бурболіць. *Бурчыць вада.* Хатынічы Ганц. *Скора снех растаня — будзя вада бурчаць.* Вецярэвічы Пух. 4. Тарахцець, гусці, шумець (пра машыны). *Машына бурчыць.* Бакшты Іўеў. *Сушылка бурчыць. Трактар, камбайн бурчыць, вінцілятары бурчаць.* Кураполле Паст.

БУРЧВА'ЛАК *м.* пры параўн. Калода, вываранень (пра гультая). *Ляжыць, як бурчвалак.* Пацаўшчына Дзятл.; *гл.* б у р в а́ л а к.

БУ'РЫ *прым.* Цёмна-чырвоны (пра масць). *У нас карова бурая і падласая.* Груздава Паст. *Цялушка бурая.* Магуны Паст.

БУРЫ'ЛА *м.* і *ж.* пры параўн. *Як бурыла*—пра злоснага, грубага. *Як бурыла, цяпер сядзіць. Мардаты, як бурыла.* Ракаўскія Швянч.

БУРЫ'ЦЬ I *незак.* Разбураць. *Печ бурыць трэба і нанава класць.* Азяраны Раг. *Гэты кажа — гарадзі, а гэты бура.* Вязынка Маладз.

БУРЫ'ЦЬ II, БУРЫ'ТЫ *незак.* 1. Біць моцным струменем. *От вода бурыть.* Сіманавічы Драг. *Вада бурыць.* Глівін Барыс. 2. Закісаць, брадзіць. *Варэння пачало бурыць.* Малахоўцы Бар.

БУРЫ'ЦЬ III *незак.* Свідраваць. *Корба — інструмент дыркі бурыць.* Індра Красл.

БУРЫ'ЦЬ IV *незак. безас.* Узнімаць ветрам снег, месці. *Еслі крэпка бурыць — пурга.* Індра Красл.

БУР'Я'Н *м.* Пустазелле. *Ідзі бур'ян апалі.* Міратычы Карэл. *Бур'яном поле зарасло, як немцы вёскі спалілі.* Лісна В.-Дзв.

БУС *м.* Адходы ад вашчыны. *Бус на воску асядае.* Тухавічы Лях.

БУСА'К, БАСА'К, БОСЯ'К *м.* Тое ж, што і б а г о́ р. *З бусаком стаяць на плыце.* Бакшты Іўеў. *На шасце жалезны бусак насаджаны, плытнік бусаком упіраецца ў дно ў берагах.* Рыбчына Віл. *Бусак — як багор.* Нізок Уздз. *Бусаке́ пабралі — і да вады, на Нёман.* Галубы Маст. *Плытнікі былі з бусакамі.* Мсцібава Ваўк. *Бусак — да пажару дзержаць яго.* Старыя Трокі Трак. *Бусак — такі крук, што да пажару.* Чычалі Швянч. *Усе хадала за ваўком біць яго — з бусакамі, з віламі.* Ваўкалатка Докш. *Басак — гэта крук жалезны на жэрдцы, служыць у час пажару.* Мсцібава Ваўк. *Басаком лёт білі, як крыгі ішлі.* Малахоўцы Бар. *Ат пажару басак.* Сакаляны Сакол. *Выдро спустыв у колодяз, дэ босяк, трэба выйняты.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* літ. *busõkas, bùsokas,* польск. *bosak* 'тж'<ням. *bôshaken* 'тж'.

БУ'СЕЛ, БУ'СЁЛ, БУ'СЯЛ *м.* Тое ж, што і б а ц я́ н. *Буслы ляцяць.* Багушэвічы Бярэз. *Бусла няможна забіваць, кажуць, што ён з чалавека зроблены.* Курапалле Паст. *Ужэ буслы паляцелі ў цёплы край.* Навасёлкі Свісл. *Бусёл вэлізны белы, на нэгоду ходзіт по полю.* Смаляніца Пруж. *Борону бэз зубуов на клуні положыті, то буслы гніздо зроб'ят, бусёл прылітіт.* Курашэва Чыж. *Бусял ходзіць па балоту на доўгіх нагах.* Рыбчына Віл. ◇ *Буслова лапа* — піражок у форме буславай нагі. *На благовіешчыне прылітают буслы, а людэ колісь пэклі с тіеста буслову лапу, бо то знак, што прыходіт вэсна.* Курашэва Чыж.

БУ'СЛАЎКА, БУСЛО'ЎКА *ж.* Буслінае гняздо. *Там буслаўка на ліпе.* Пасека Ст.-Дар. *У нас буслаўка ё ў саду.* Азяраны Раг.

БУ'СЛЕНІЦА *ж.* Тое ж, што і б у́ с л а ў к а. *Бусел бусленіцу робіць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

БУ'СЛІКІ *мн. бат.* Бусельнік. *Тут буслікі растуць.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* б а ц я н ы́.

БУСЛІ'НА *ж.* 1. Тое ж, што і б у́ с л а ў к а. *Буськава бусліна.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Дрэва з буслінын гняздом. *Некалі бусліны стаялі на поплаве.* Дзяніскавічы Ганц.

БУСЛЯ'НКА *ж.* Тое ж, што і б у́ с л а ў к а. *Гнязло бусла называюць буслянка. На буслянцы буслы цахляць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Буслянка — гняздо бусла.* Альба Нясв.

БУСЛЯНЯ'ТКО *н.* Буслянн. *Буслянятко ляжыць — упала з гнязда.* Дзяніскавічы Ганц.

БУ'СЬКІ *мн.* Вільчык. *Буські — верх шыфернай страхі.* Азарычы Пін.

БУ'СЬКО' *м.* Тое ж, што і б у́ с е л. *Бу́ська ўсе знаюць.* Хатынічы Ганц. *Бу́сько часто цягае гадзін. Застаецца* [на зіму] *слабы бу́сько, які не мажэ лятаць.* Дзяніскавічы Ганц.

*Бусько полетеў.* Азарычы Пін. *Даўней, калі лыткі паколяцца, то казалі: «Бўсько рэпу пасееў».* Дзяніскавічы Ганц.

БУ′СЯ *ж.* Пацалунак. ◇ *Даваці бусі* — цалавацца. Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *buzia* 'тж'.

БУ′СЯЛ *гл.* БУ′СЕЛ

БУ′СЯЧКІ *мн. бат.* Тое ж, што і б ў с л і к і. *Глянь, ужо бусячкі расцвілі.* Дзяніскавічы Ганц.

БУТ *м.* Апора пад фундаментам. *Без бута пастройка будзіць садзіцца. На буце строіцца фундамент.* Скрудалена Даўг.; *параўн.* літ. *bùtas* 'хата, сені'.

БУ′ТАЛЬ, БУ′ТЭЛЬ *м.* 1. Бутля. *Буталь быў аплецены.* Быстрыца Астр. *Бутлі былі сцякляныя.* Гемзы Шальч. *Як будэш іті в поле, то возьмі два бутлі молока.* Курашэва Чыж. 2. Бутэлька гарэлкі. *Як прыіедуть свoякі, то трэба бутэль поставіті.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *butel*<ням. *Buddel* 'тж'.

БУТВЕ′ЦЬ *незак.* 1. Злежвацца, парахнець, гніць. *Адзежа бутвела ў куфры.* Груздава Паст. 2. *перан.* Старэць, драхлець. *Стары чалавек бутвеіць.* Кураполле Паст.; *параўн.* польск. *butwieć,* літ. *butvėti* 'тж'.

БУТЛЕ′ЦЬ, БУТНЕ′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і б у т в е́ ц ь 1. *Ясёнка можа бутлець.* Альхоўцы Лях. *Адзежа бутнея, як доўга ляжыць.* Вялікія Баяры Шчуч.

БУ′ТЛЫ *прым.* Трухлявы, пусты. *Хвойкі былі такія бутлыя, адно абалонь, іх называлі борці.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* літ. *putlùs* 'друзлы'.

БУ′ТЭЛЬ *гл.* БУ′ТАЛЬ

БУФ′Я′СТЫ *прым.* Пышны, з фальбонамі. *Кофта, платіе з буф'ястымі рукавамі.* Курашэва Чыж.

БУХ-БУХ *выкл.* Перадача гуку пры ўдары цэпам. *Малацілі цапамі так: бух-бух, тры разы дасі.* Грыкені Вільн.

БУХА′НКА *гл.* БАХА′НКА

БУ′ХАЎКА *гл.* БУ′КАЎКА

БУХМА′ТЫ *прым.* 1. Лапушны. *Бухматы малочнік, ліст шырокі на ім.* Мярэцкія Глыб. *Салата бухматая.* Саланое Віл. 2. Кусцісты. *Бухматая слівіна, пусціла атожалля многа.* Мярэцкія Глыб. 3. Вушасты. *Курыца бухмата — такія вушкі нарастаюць.* Да́кудава Лід. 4. Мажны, тоўсты, поўны. *Такі ён бухматы.* Магуны Паст.

БУ′ХНУТІ *зак. перан.* Украсці. *Кажут, што п'ят тысяч бухнув і тэпэр в тюрміе сідіт.* Курашэва Чыж.

БУХРЫ′ *мн.* Тое ж, што і б а м б у л і. *Накарэла гною бухрамі на нагах у цялушкі.* Саланое Віл.

БУ′ХТА *ж.* 1. Яма ў рэчцы, выбоіна на павароце ракі. *Бухта — дзе рэчка паварочваецца.* Жылі Іўеў. *Пад берагам выбівае вада — і называюць бухта. Ня лесь, бо там бухта!*

Новікі Гродз. *Бухта — яма такая. У бухця рыбу лапаў.* Быстрыца Астр. 2. Глыбокае месца. *Бухта—дзе глыбей у канаве. У бухту ўляціш.* Грыкені Вільн.

БУХЦЬ-БУХЦЬ *выкл.* Перадача гуку пры бурчанні ў жываце. *Бухць-бухць — у жываце адбіваецца, як не травіць жалудак.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* літ. *bùkt* 'тж'.

БУЦВЯ'ЛЫ *прым.* Вялы, пажоўклы. *Пад восень аір буцвялы дзелаіцца і сохніць.* Мішневічы Шум.; *гл.* б у т в е́ ц ь.

БУЦЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і б у т в е́ ц ь 1. *Адзежа буцяя неперасушаная.* Вецярэвічы Пух.

БУЧ *м.* 1. Рыбалоўная снасць, зробленая з лазы ці ніцяной сеткі і абручоў. *Бучамі лавілі рыбу.* Ёдлавічы Брасл. *Буч пплялі з лазы ці ляшчынніку і ставілі на глубокам месця міжды язоў.* Мярэцкія Глыб. *Буч рабілі з лазы.* Быстрыца Астр. *Буч — не сетка, ён доўгі і плецены з вітак. У бучу два лукі.* Гемзы Шальч. *Буч — з вітак. Буч, як і гарнец: у адным і ў другім канцы такія горлачкі, а ў сярэдзіне шырокая, устаўляецца ў станок, адна горлачка пасярэдзіне буча. Буч паставіў на рыбу лавіць.* Чычалі Швянч. *У буч улезе рыба.* Грыкені Вільн. *Бучы з лазы рабілі. Буч гадзіцца, калі нэраст.* Магуны Паст., Граўжышкі Ашм. *Лазовы буч быў у нас.* Глівін Барыс. *Буч з жылгуцей сплецены.* Старыя Смільгіні Воран. *З пруцікаў здзеланы буч.* Лісна В.-Дзв. *Буч плецены з нітак ці з шпагату, каблук — як дуга, іх тры штукі, наступныя — меншыя.* Міратычы Карэл. *Буч пахожы да нората, ён да двух метраў дліной, у хвост звужаны, круглыя душкі. На рыбу бучы паставіў.* Кураполле Паст. *Буч з нітак зроблены на палачкі, ён маленькі, а чарапло вялікая.* Малькуны Ігн. *Буч з ніткі, круглы, увахот і туды ўвайдзе, а назат не выйдзя.* Старыя Трокі Трак. *Буч — як невылівайка, ён плецены з сеткі і лазы.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Кораб з лазы і саломы. *Бучы плялі з саломы, у бучы муку ссыпалі, гарох, боп.* Мярэцкія Глыб. 3. Кош. *У бучы ягады збіралі.* Саланое Віл. 4. *перан. зневаж.* Непаваротлівы чалавек. *Ён, як буч, ня можа павярнуцца.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *bùčius* 'верша', лат. *bucis* 'звітае гняздо' (ЛТ, 170).

БУ'ЧА' *ж.* Тое ж, што і б у ч 1. *Бу́ча сплецена з дупцоў, скабы — як у кашы, душка ўгарэ і ўнізу. Бу́чу застаўлялі ў затоку, у горла заходзя рыба.* Рыбчына Віл. *Бу́ча, яе з лазы плялі.* Вострава Маст. *Бу́чу робяць з грубых нітак, такі кашэль. На рацэ загараджваюць плот і ставяць бу́чу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бу́чу ставяць, як рыба нерастуе.* Вялікія Баяры Шчуч. *Бу́ча плеценая з лазы, а бывае — з нітак.* Рыбчына Віл. *Бучá круглая, плеценая з лазы.* Жодзішкі Смарг. *Бучá — доўга, рыбу лавіць, з карэня яловага плялі.* Вострава Маст.

БУ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і б у ч 1. *Часцей рыбу лавілі бучкамі.* Стральцы Гродз.

БУЧНЕ́Й *прым. выш.* Таўсцей, мажней. *Гэты хлопяц бучней за яго.* Рудня Астравітая Чэрв. *Яна бучней за Яню.* Вецярэвічы Пух.

БУ́ЧНЫ *прым.* Буйны, вялікі. *Бучнэ голле ў картоплі, большэе, высокэе.* Азарычы Пін.

БУЧО́К I *м.* Тое ж, што і б у к II, 2. *На бучку мыла лойны.* Мачаск Бярэз.

БУЧО́К II *м.* Снасць для лоўлі ракаў. *Бучок з кары яловай рабілі лавіць ракаў.* Саланое Віл.

БУ́ЧЫК *м. памянш.* 1. да б у ч 1. *Бродзяць з бучыкам.* Старыя Смільгіні Воран. 2. да б у ч 3. *Я зраблю табе бучык з кары, будзеш ягады збіраць.* Саланое Віл.

БУШАВА́ЦЬ, БУШОВА́ТІ, БУШОВА́ТЫ *незак.* 1. Бурна цячы (пра раку). *Вода в рыціе так плывэ, аж бушуе.* Курашэва Чыж. 2. Моцна брадзіць. *Раўгеня бушуіць, як піва.* Куралолле Паст. *Варэня бушуя, як кісня.* Магуны Паст. *Зробіла в бунці піво — ужэ почало бушоваті.* Курашэва Чыж. 3. *перан.* Забаўляцца, дурэць. *Дытына цілый ранок бушуе, дэсь на плач.* Сіманавічы Драг. *Діеті, чого вы тут бушуетэ, успокойтэсе.* Курашэва Чыж.

БУШЛА́Т *м.* Армяк з сукна. *Бушлат надзявалі на кажух.* Рудня Астравітая Чэрв.

БУШМА́К *м.* Чаравік. *Бушмакі цесныі муляюць.* Валынцы В.-Дзв.

БУЯ́К *м.* Тое ж, што і б у я́ н 1. *Як не вылегчаны — буяк, а вылегчаны — вол.* Хатынічы Ганц. *Трэба корову до буяка довэсті.* Курашэва Чыж.

БУЯКІ́, БУЯКЕ́ *мн.* Тое ж, што і б у г а і́. *Ужо буякі спеюць.* Рудня Астравітая Чэрв., Пасека Ст.-Дар. *З буякоў прышлі.* Ністанішкі Смарг. *Буяке буйныя растуць. Нет заработку ляхчэйшага, як на буякох.* Вецярэвічы Пух.

БУЯ́Н *м.* 1. Бугай. *Водыв корову до буяна.* Сіманавічы Драг. 2. Тое ж, што і б ы к I. *На буянох робілі.* Смаляніца Пруж.

БУЯ́НІЦЬ *незак.* Бурна расці, буяць. *Бульба буяніць — у картафлянік уходзіць.* Магуны Паст.

БУЯ́ТІ I *незак.* Тое ж, што і б у я́ н і ц ь. *Жыто аж буяе, так ростэ. Як збуожэ буяе, то кепсько, бо будэ пустое.* Курашэва Чыж.

БУЯ́ТІ II *незак. перан.* Гаварыць няпраўду, маніць. *Праўды нэ говорыт, оно* [толькі] *буяе.* Курашэва Чыж.

БУЯ́ЦЬ *незак.* 1. Гусці. *Мух — аж буіць. Мухі буяць у хаці. Чмель буіць, як ляціць.* Мсцібава Ваўк. 2. Грукацець, шумець. *Дзесь машына буяла.* Мсцібава Ваўк. 3. *перан.* Плакаць (пра дзяцей). *Чаго ты буіш, як чмель! Не буй! — Я цібе! — Так каралосё малых.* Мсцібава Ваўк. 4. Папікаць. *Ён пачаў мне буяць. Не буяй! — Я не хачу слухаць.* Жылі Іўеў.

БУЯ'ЧНІК *м.* Тое ж, што і б а л а б о́ н н і к. *Там ля балота вялікі буячнік.* Рудня Астравітая Чэрв., Пасека Ст.-Дар., Вецярэвічы Пух.

БУЯЧО'К *м. памянш.* да б у я́ к. *Буячка продалі в сэрэду. Корову до буячка повэду.* Курашэва Чыж.

БУЯЧЫ'СКО *м. павел.* Вялізны бык. *Такого буячыска выгодовав.* Курашэва Чыж.

БЫ *часц.* Як, нібы, быццам. *Дошч ідзе, бы з лука ільє. Нека дзіка, бы ў лесе пташка. Робіць, бы мокрае гарыць.* Дзяніскавічы Ганц. *Яе матка маладая, бы дзеўка.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Хітры, бы зух. Бы голая сідзіш. І вісіць конец намэткі, бы вэлон.* Смаляніца Пруж. *Выдно, бы в дэнь.* Відзібар Стол., Сіманавічы Драг. *Бы то так лепш.* Чычалі Швянч.

БЫБ *гл.* БОП

БЫВА'ЛА, БЫВА'ЛО *пабоч.* Бывала, даўней. *Бывала, прынясеш бульбы, напарыш, пад'ясі рэцькі.* Старыя Трокі Трак. *Бывала, каля магілак здані здаваліся.* Груздава Паст. *Бывала, такая мода была — печка на калотках стаяла.* Старыя Смільгіні Воран. *Бывала, людзі ругаюцца.* Лісна В.-Дзв. *Бывала, я не была худая.* Паляцкішкі Воран. *Бывало, сядзім і прадом цэлу ноч.* Дзяніскавічы Ганц.

БЫВА'ЛІШНЭ *н.* Даўнейшае. *Калі мне стане гаварыць хто, то я знаю бывалішнэ, знаю цяперашнэ і знаю загранічнае.* Вялікі Быкаў Слуц.

БЫВА'ЦЬ *незак.* 1. Знаходзіцца. *Нідзе адна не бывай!* Саланое Віл. 2. Здарацца. *Парве плыт, бывае.* Грыкені Вільн. *Усялякае ў жыцці бывае.* Дварчаны Паст.

БЫГУ'Н *м.* 1. Кольца ў баранс, за якое чаплялі ворчык. *У бороні быгун.* Відзібар Стол. 2. Тоўстае бервяно — рухомая частка калодзежнага жураўля. *Гэта товста дырывына будэ в колодяз на быгуна.* Відзібар Стол.

БЫ'ДЛА, БЫ'ДЛО *зб. н.* 1. Рагатая жывёла. *Быдла пасе мала.* Старыя Трокі Трак. *Каровы выгналі, а обшчая стада — быдла.* Магуны Паст. *У яго шэсць штук быдла.* Стральцы Шальч. *Быдла ідзе с поля.* Кемялішкі Астр. *Быдла — слова старадаўная.* Дакудава Лід. *Бяру дзіцятка і быдла паганю.* Граўжышкі Ашм. *Быдла бегае, я ганяла быдла.* Крэва Смарг. *Быдла палечу шукаць па ялаўцу.* *Цяля прывучаюць хадзіць з быдлам.* Альхоўцы Лях. *Як пасем быдло, рвем касцянкі.* Мсцібава Ваўк. *Як рано с сёла быдло в погуон выганяют, то пастух чуць свіет крычыт: «Выганяй!» Быдло, як йіесті хочэ, то рычыт.* Курашэва Чыж. 2. *зневаж.* Нядобрыя людзі. *То быдло, а нэ людэ.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *bydło* 'жывёла, скаціна'.

БЫДЛАВА'ЦЬ, БЫДЛОВА'ТІ *незак.* Тое ж, што і б е́ г а ц ь. *Карова бегая, быдлуе.* Вострава Маст. *Наша карова будзе быдлаваць.* Мсцібава Ваўк. *Корова быдлуе, трэба до*

*бычка догнаті. Коровы сёголіта нэ быдловалі, то будут яловыі.* Курашэва Чыж.

БЫДЛО'ВЫ *прым.* Прызначаны для жывёлы. *Быдловая бульба — дробная.* Груздава Паст.

БЫДЛЯ' *ж. груб.* Падла, здыхліна. *Сохне чалавек, як быдля.* Новікі Гродз. *Еты грып смярдзіць, як быдля.* Вецярэвічы Пух.

БЫДЛЯ'ЧЫ *прым.* Жывёльны. *Быдлячы лой ужываем.* Паляцкішкі Воран. *Быдлячыя буракі велькія.* Гемзы Шальч. *Быдлячы хліев. Быдлячы гнуой. Быдлячэ сіено. Быдляча скуора. Быдлячы вагон. Як быв в вуойску, то возілі нас быдлячымі вагонамі.* Курашэва Чыж.

БЫДЛЯ'ЧЫ ГЕЗ *м.* Тое ж, што і б і з а ў к а I. *Быдлячы гез одкладае гніды на скуры жывёлы, якіе выклікают язвы, вугры.* Курашэва Чыж.

БЫ'ЗАЎКА *гл.* БІ'ЗАЎКА

БЫ'ЗГАЦЬ *незак.* Тое ж, што і б з ы́ к а ц ь. *Камар бызгая вечарам. Гіль бызгая кола кароў і ўкуся.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *bỹgzti, býzgauti* 'тж'.

БЫЗГЛУ'ЗДЫЙ *прым.* Бязглузды, неразумны. *Такый вжэ дурный, такый бызглуздый.* Сіманавічы Драг.

БЫЗЛЮ'ДНЫК *гл.* БЯЗЛЮ'ДНІК

БЫЗУ'Н *м.* Бізун. *Колісь, еслі дід опоздае на роботу, то його клалы на бочку і сыклы бызунамы.* Вярхі Кам.

БЫК I *м.* Вол. *Быкамі гаралі.* Гемзы Шальч. *Дайней мы рабілі, як быкі.* Саланое Віл.

БЫК II *м.* Тое ж, што і б а к а́ с. *Бык арёт: гу-гу!* Мішневічы Шум.

БЫК III *гл.* БОК

БЫКАВА'ЦЬ *незак. экспр.* Распуснічаць. *Ён быкуе з ей цэлу ноч.* Паляцкішкі Воран.

БЫКА' ПАЛАЖЫ'ЦЬ *зак.* Зрабіць памылку пры снаванні красён. *Як не на той калочак нітку паложыць — значыць, палажыла быка.* Мярэцкія Глыб.

БЫКІ' *мн.* Апорныя слупы ў мосце. *Быкі з вады тырчалі.* Дварчаны Паст. *Быкі ў вадзе стаялі — і мост палажылі.* Мішневічы Шум.

БЫЛЕ-ШТО' *неазн. займ.* Абы-што. *Натрэліў быле-што — і пашоў.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* польск. *byle co* 'тж'.

БЫЛЕ-Я'К *прысл.* Абы-як, як-небудзь. *Я не рабіла быле-як.* Мсцібава Ваўк. *Быле-як можна зробіті.* Курашэва Чыж.

БЫЛІ'НА *ж.* 1. Сцябло расліны. *Быліна адна тарчыць.* Лісна В.-Дзв. *Быліна — сцябло травы.* Гайна Лаг. 2. Ліст цыбулі. Саланое Віл., Мярэцкія Глыб.

БЫЛІ-ЧАГО' *неазн. займ.* Абы-чаго. *Ён быті-чаго ні есь.* Ністанішкі Смарг.

БЫЛЛЕ', БЫЛЛЁ *зб. н.* 1. Лісце цыбулі. *Былле ў цыбулі.*

Вялікія Нястанавічы Лаг. *Быллё парасло бальшоя, а галоўкі малыя. Пайду нашчыплю былля.* Саланое, Рыбчына Віл. 2. Націна бульбы. *Быллё ў бульбы пасохла.* Беразіно Докш.

БЫ'ЛЬЕ *зб. н.* Сцяблы. *Былье ў слонэчніка, бы цэпілно, тоўстэ.* Смаляніца Пруж.

БЫ'ЛЬНІК *м. бат.* 1. Чарнобыль. *Быльнік кала платоў расце высокі.* Магуны Паст. *Быльнік ад усякіх балезняў.* Бакшты Іўеў. *Быльнік — чорны палын.* Альхоўцы Лях., Міратычы Карэл. *Палын і быльнік — тое ж самае.* Беразіно Докш. *Быльнік, каму пячонка бальная, сушаць і п'юць.* Пасіене Лудз. 2. Тое ж, што і б ы л л ё 2. *Быльнік картафляны жнуць.* Вострава Маст. *Быльнік каровы ядуць.* Галубы Маст. *Быльнік скашаваюць на корм.* Лісна В.-Дзв.

БЫЛЬНЯ'К, БЫЛЬНЯ'Х *зб. м.* Пустазелле. *Паець к дачцэ — усё быльняком зарасце ў гародзе.* Вецярэвічы Пух. *Быльняхам парасло.* Жылі Іўеў.

БЫЛЯ-ДЗЕ' *прысл.* Абы-дзе. *Вадзянік быля-дзе можа быць: на руцэ, на шыі, на целі.* Кураполле Паст. *Шчырыя грыбэ не быля-дзе растуць.* Новікі Гродз.

БЫР *гл.* БОР I

БЫ'РЗАЦЬ, БЫ'РЗГАЦЬ *незак.* Пырскаць. *Дожджык бырзаў ужо. Бырзгаў дожджык.* Валынцы В.-Дзв.

БЫ'РКА *ж.* 1. Вертыкальны шпень у жорнах. *Быркаю пакручывалі, штоб паднясць ілі апускаць камень.* Гемзы Шальч. 2. Тое ж, што і б і р к а 1. *Быркай калісь зашпільвалі кашулку.* Гемзы Шальч.

БЫ'РКАЦЬ *незак. экспр.* Па адной вылятаць з вулля. *Быркалі па аднэй пчаліне і прапалі.* Саланое Віл.

БЫРЧЭ'ЦЬ *незак.* 1. Гусці, дзынкаць. *Як зык бырчыць, тады цялухі зыкаюцца.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і б у р ч а́ ц ь 4. *Трахтар бырчыць і камбайн, сушылка бырчыць.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *birbčioti* 'гусці з перапынкамі'.

БЫРЫСЦЯ'НКА *ж.* Пасудзіна, у якой захоўвалі мёд. *Бырысцянкі гліняныя былі на мёд.* Ухвала Круп.

БЫ'СТРА, БЫ'СТРО *прысл.* 1. Рухава, жвава. *Баба шчэ быстро ходзіць.* Мсцібава Ваўк. *Быстра ехаў.* Кіралі Шчуч. 2. Хутка выконваць работу. *Яна натта быстра робіць.* Кіралі Шчуч., Лісна В.-Дзв. *Я пошчытала быстро.* Смаляніца Пруж. 3. Скора, на працягу кароткага часу. *Быстра прыжыліся памідоры.* Валынцы В.-Дзв. *Вы быстро понялі тое, што я вам казав.* Курашэва Чыж.

БЫСТРА' *ж.* Быстрак. *Быстра сярод ракі, там вада быстрыць.* Бакшты Іўеў. *На быстры вада зносіць.* Багушэвічы Бярэз.

БЫСТРАВО'ДЫ *мн.* Тое ж, што і б ы с т р а́. *Ліпень* [рыба] *на быстраводах ходзіць.* Быстрыца Астр.

БЫСТРА'К *м.* Тое ж, што і б ы с т р а́. *Быстрак ідзе.* Руд-

ня Астравітая Чэрв. *Хаботню застаўляюць на быстраках.* Кураполле Паст.

БЫСТРАТА′ *ж.* Тое ж, што і б ы с т р á. *Быстрата ў рэчкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

БЫ′СТРЫ *прым.* 1. Рухавы, жвавы. *Алі ж і быстры хлапчак.* Кіралі Шчуч. 2. Шпаркі, хуткі, борзды. *Ён быстры ў рабоце.* Дакудава Лід. *Яна быстрая да работы.* Жылі Іўеў. *Быстры куонь часто лекаеце. Быстры чоловіек робіт хутко, але часом кепсько. Быстры учэнік хутко розвяжэ задачу.* Курашэва Чыж. 3. Бадлівы. *Вот карова быстрая — да дзяцей соваецца, коля і на раге хапая.* Кіралі Шчуч. ∇ *Быстрая свіня парыецъ — і пашла дальшэ* — пра запальчывага чалавека. Саланое Віл.

БЫСТРЫНЯ′ *ж.* 1. Тое ж, што і б ы с т р á. *Тут быстрыня — цячэ быстра.* Быстрыца Астр. 2. Быстрак на схілах. *Быстрыня — дзе ляціць рака па склону, дзе скацііста.* Ахрэмаўцы Брасл.

БЫСТРЫ′ЦЬ *незак.* 1. Хутка цячы. *Я ўпаў, а вада быстрыць.* Бакшты Іўеў. 2. Пільна пазіраць ва ўсе бакі, сачыць. *Кошка быстрыць вачыма, каб дзе што злавіць.* Кіралі Шчуч.

БЫ′ТА, БЫ′ТО *часц.* Нібы, быццам, як. *Угор — быта змей. Быта я не віжу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я ўсё помню, як быта ўчора было гаворана.* Валынцы В.-Дзв. *Як быта прэмію будуць даваць. Быта ты ня глядзеў!?* Ракаўскія Швянч. *Быто вэтэ і родыліса коло нас.* Смаляніца Пруж.

БЫ′ТАМ, БЫ′ЦЕ ў знач. *прысл.* Пры жыцці. *За ейным бытам памерлі* [бацькі]. *Пры маім быце не было так.* Магуны Паст.

БЫ′ТІ *гл.* БЫЦЬ

БЫ′ТНАСЦЬ *ж.* У выразах: *У бытнасць, пры бытнасці, за бытнасцю* — у час знаходжання дзе-н. *Гэты будынак быў пастроены ў яго бытнасць.* Дварчаны Паст. *Пры маей бытнасці яны вянчаліся.* Індра Красл. *Гэто было за маей бытнасцю.* Гемзы Шальч.

БЫ′ТО *гл.* БЫ′ТА

БЫ′ТЫ *гл.* БІ′ТЫ

БЫ′ЦЦА *незак.* Быць, адбывацца. *Вот як былося раней.* Магуны Паст.

БЫЦЬ, БЫ′ТІ *незак.* 1. Быць, знаходзіцца. *Ён нідоўга будзець там.* Ністанішкі Смарг. *Як нэ послухаеш, то кій або пасок будэ в роботі.* Курашэва Чыж. 2. Жыць, пражываць. *Тут была сірата.* Быстрыца Астр. 3. Знаходзіцца ў запасе. *Калі ў людзей будзя, то і ў мяне будзя.* Вецярэвічы Пух. 4. Змяшчацца. *Піва ў барылках было.* Судэрва Вільн.

БЫЧАНО′К *м.* Гадавалы бычок. *Гаспадыня забыла бычанка загнаць.* Слабада Смал.

БЫЧОВНЫ′К *гл.* БІЧЭ′ЎНІК

БЫЧО'К I *м. бат.* Кветаножка (у падарожніка і іншых раслін). *Бычок з вобаратніка доўгі.* Рыбчына Віл.

БЫЧО'К II *м.* Назва народнага танца. *Бычка ўчатырох як пойдуць танцаваць — хораша глядзець было.* Вецярэвічы Пух.

БЫЧО'К-ПАДКА'МЕНЬШЧЫК *м. заал.* Бычок (рыба). *Бычкі-падкаменьшчыкі плаваюць.* Мішневічы Шум.

БЫЧУВНЭ'КЬ *гл.* БІЧЭ'ЎНІК

БЫЧУ'ГА *м. павел.* Вялікі бык. *Бальшыі бычугі выраслі.* Валынцы В.-Дзв.

БЭ'БАХ *м.* Трыбух. *Бэбах бальшы ў каровы.* Бакшты Іўеў. *Бэбахі ў каровы.* Паляцкішкі Воран., Навасёлкі Свісл., Сакаляны Сакол.

БЭ'БІНЫ *мн.* Дрыгва. *На балоці, дэ прорва, конца нэ достанеш — гэто зовэцца бэбіны.* Смаляніца Пруж.

БЭ'БЭХІ толькі *мн.* Вантробы, кішкі. *Куонь так пробів жывуот, што аж бэбэхі павылазілі.* Курашэва Чыж.

БЭ'ГЛЯ *ж.* Бяглячка, уцякачка. *Ныгдэ ны ділась гэта бэгля, шо втыкла с хлыва — прышла-такы додому.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* літ. *bėglỹs, bėglė̃* 'бягун'.

БЭ'ГНА *ж.* Гразкае месца, багна. *Бэгна, дзе грась на вуліцы, на сенакосе, дзе рэтка калі высахня.* Рыбчына Віл., Лапічы Асіп., Рудня Астравітая Чэрв.

БЭЗ I *гл.* БЕЗ

БЭЗ II, БЭС *м. бат.* Бэз. *Бэз зацвіў.* Дварчаны Паст. *Бэз пад вакном расце.* Чычалі Швянч. *Бэзу насадылы.* Сіманавічы Драг. *Бэс цвіце красіва.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* польск. *bez* 'тж'.

БЭЗВЛА'ДНЫ *прым.* Паралізаваны, нерухомы. *Я была бэзвладная — адабрала бок, не чуствала ні рукі, ні нагі.* Гемзы Шальч. *У Вэрэміея одна нога бэзвладна.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *bezwładny* 'нерухомы; безуладны'.

БЭЗВСТЫ'ДНІК, БЭСВСТЫ'ДНІК *м.* Бессаромнік, нахабнік. *По такуом бэзвстыднікові всёго можна сподіватісе. Бэзвстыднік остатні грошы с хаты забрав.* Курашэва Чыж. *Бэсвстыднік ты!* Смаляніца Пруж.

БЭЗВСТЫ'ДНІЦЯ *ж.* Бессаромніца, нахабніца. *Бэзвстыдніця в самых майтках людям показуеце, чы йіх в школі учат?* Курашэва Чыж.

БЭЗГОЛУО'В'Е *гл.* БЕЗГАЛО'ЎЯ

БЭЗДЭ'ННІЦЯ *гл.* БЯЗДО'ННІЦА

БЭЗДЭ'ННЫ *гл.* БЯЗДО'ННЫ

БЭЗКРЭ'СНЫ *прым.* Бязмежны. *Бэзкрэсна даль. Бэзкрэсны ліес.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *bezkresny* 'тж'.

БЭ'ЗНА *ж.* Бездань, прорва. *Там балота, бэзна вялікая.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* руск. *бездна* 'тж'.

БЭЗПА'НЬСЬКІ *прым.* Прыблудны, нічый. *Бэзпаньська*

*собака.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* польск. *bezpański* 'безгаспадарлівы, бяздомны'.

БЭЗРОБО'ТНЫ *прым.* Беспрацоўны. *Пэрэд войною было мнуого бэзруоботных, нэкоторы жэбралі.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *безработный* 'тж'.

БЭ'ЗЯ *ж. дзіцяч.* Авечка. *Дівісе, Пётрусь, бэзі побіеглі.* Курашэва Чыж.

БЭ'ЙДАЦЦА *незак. экспр.* Сноўдацца, бадзяцца. *Яны бэйдаюцца каля вуглоў без работы.* Саланое Віл.

БЭ'КАС *гл.* БАКА'С

БЭ'КАЧ *м.* Дзіцячая гульня. *Діеті в бэкача іграют.* Курашэва Чыж.

БЭ'КНУТІ *зак.* У выразе: *Хоч бэкні, а дай* — вазьмі, дзе хочаш; хоць памры, а дай. Курашэва Чыж.

БЭ'ЛТАЦЦА *незак. экспр.* Заплятацца. *Стары чуць ідзе — ногі бэлтаюцца, як нежывыя.* Гемзы Шальч.

БЭ'ЛЬКА *ж.* 1. Перакладзіна, бервяно, якое аддзяляе ток у гумне. *Бэлька сподняя ў гумне.* Чычалі Швянч. 2. Падмосткі, бэлька пад падлогай. Галоўні Воран. *На бэлькі клалі пол.* Жодзішкі Смарг. *Падлога ложыцца на бэлькі.* Старыя Смільгіні Воран., Гемзы Шальч., Малахоўцы Бар. *Бэлькі кладуцца пад памасціны.* Жылі Іўеў. 3. Драўляны брус, на які насцілаюць столь. Гемзы Шальч., Альхоўка Навагр. *На швэлі клалі бэлькі.* Быстрыца Астр.

БЭ'ЛЯ *ж.* Бэлька. *Бэлі накладаліся на слупы* [у гумне]. Мсцібава Ваўк.

БЭ'МБАЛЬ *м.* 1. Пухір. *Схваціўся на руцэ бэмбаль.* Міратычы Карэл., Навасёлкі Свісл. *Бэмбаль выскачыў на руцэ ад пáры.* Мсцібава Ваўк. *На бэмблі пабіла цела.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Бурбалка. *Пашлі бамбале па вадзе.* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* польск. *bęben* 'бубен', літ. *bam̃balas* 'пухір, бурбалка'.

БЭ'НКНУЦЬ *зак. экспр.* Гукнуць. *У лесі бабы бэнкнуць і зноў маўчаць.* Граўжышкі Ашм.

БЭНЬСЬ *м.* Тое ж, што і б а й с т р ý к 1. *Той бэньсь яе вырас, дзе-та паехаў, мо і ажаніўся.* Глівін Барыс.

БЭ'РВА *гл.* БЕ'РВА

БЭ'РВІНА *ж.* Кладка з аднаго палена. *Ішоў болотом — там ніхто бэрвінэ не ўскінуў, трэба падаць на такой грузіне.* Хатынічы Ганц.

БЭ'РДА, БЭ'РДО *гл.* БЁРДА

БЭ'РКАЦЬ *незак. экспр.* Тое ж, што і б а л а б á н і ц ь 2. *Яна бэркая, сама ні ведая што.* Бакшты Іўеў.

БЭ'РЛА *н.* 1. Сумесь збожжа з рознымі адходамі. *Бэрла свіням змалоў — розныя адходы і харашэйшага збожжа сыпюць: аўса, гароху ці жыта.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Ніжэйшае жыта. *Бэрла — там мякіна, з мякінай жыта.* Чы-

чалі Швянч. *Дайней хлеб пяклі з бэрла.* Малькуны Ігн.; *гл.* б я́ р л а.

БЭРЛО′ВЫ *гл.* БЯРЛО′ВЫ

БЭРЛУО′Г *гл.* БЯРЛО′Г

БЭРЭЗНЯ′К *гл.* БЕРАЗНЯ′К

БЭ́С I *гл.* БЕЗ

БЭС II *гл.* БЭЗ II

БЭСВСТЫ′ДНІК *гл.* БЭЗВСТЫ′ДНІК

БЭ′СТА *ж. зневаж.* пры параўн. Пра тоўстую жанчыну. *Мажная, як бэста якая.* Галубы Маст.; *параўн.* літ. *piestà* 'ступа'.

БЭ′СТАЦЬ, БЭ′ШТАЦЬ *незак.* Лаяць, бэсціць. *Яна бэстая яго, абнеслаўляе. Бэштая яго.* Вялікія Баяры Шчуч. *Другі жонку сваю бэстая, а мой ні разу мяне ні збэстаў. Каторы мужык жонку бэштая і бэштая, а другі ні разу не збэштаў.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* польск. *besztać* 'тж'.

БЭ′СЦІЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і б э́ с т а ц ь. *Я яго бэсціла, каб ішоў дадому.* Хатынічы Ганц. 2. Апаражняцца, паскудзіць. *Наш кот на палу ні разу не бэсціць.* Альхоўка Навагр. *Трывольны конь бэсціць упору, а другі — рас за разам. Качка і гусь тут есць, тут бэсціць.* Кіралі Шчуч. *Курыца ні бэсціла сягоння.* Дакудава Лід.

БЭ′ТКІ *мн. бат.* 1. Усе грыбы, акрамя баравікоў. *Старых бэткаў набраў.* Парэчча Гродз. *Пашлі па бэткі. Што то за бэтка такая?* Баброўнікі Гарад. 2. Грыбы, непрыгодныя для ўжывання. *Бэткі — нядобрыя грыбэ, людзі іх не ўжываюць.* Новікі Гродз.; *параўн.* лат. *beka,* эст. *pakk* 'грыб'.

БЭ′ХУР *гл.* БАХУ′Р

БЭЦ *выкл.* Лясь. *Ёна — бэц по голове ёго.* Хатынічы Ганц.

БЭЧА′НЕ *н.* Бляянне. *Бэчане овэчок ужо мніе абрыдло.* Курашэва Чыж.

БЭЧА′ТІ *незак.* 1. Бляяць. *Овэчкі бэчат, мусіт, йіесті хочут.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Брыдка спяваць. *П'яны нэ співают, оно бэчат.* Курашэва Чыж. 3. *іран.* Плакаць, раўці. *Чого ты, дурная, бэчыш? Вуон будэ шчэ бэчаті.* Курашэва Чыж.

БЭ′ШТАВАЦЬ *незак.* Лаяць. *Я нявестку бэштавала.* Валынцы В.-Дзв.

БЭ′ШТАЦЬ *гл.* БЭ′СТАЦЬ

БЮРО′ *н.* Пасяджэнне. *Сягодня мела быць бюро — і бюро ня будзіць.* Груздава Паст.

БЯГО′М *прысл.* Хутка, борзда. *Мама бягом туды прышла. Бягом паляцела.* Рыбчына Віл. *Бягом ляціць, каб дагнаць.* Гемзы Шальч.

БЯГУ′Н *м.* Прыстасаванне, з дапамогай якога дзеці прывучаюцца хадзіць. *Бягун — жэртка і лучок і дзіця ходзіць.*

Старыя Трокі Трак. *Бягуны былі прыбіты ў хаце.* Гемзы Шальч. *Рабёнак ходзіць і забаўляецца ў гэтым бягуне. Круцёлка і бягун — адно і тое ж.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *bėgūnas* 'тж' (ЛТ, 166).

БЯГУ'НКІ толькі *мн.* Дужкі на ножках дзіцячага ложка. *Ложачак на бягунках.* Кемялішкі Астр.

БЯГУ'ЧЫ *прым.* 1. Часовы, з перапынкамі (пра дождж). *Бягучы дождж бывае — гэта калі тут сонца, тут дошч.* Семежава Кап. 2. *дзеепрым.* Які хутка рухаецца. ▽ *Пад ляжачым — вош, пад бягучым — грош.* Саланое Віл.

БЯДА', БЕДА', БЫДА' *ж.* 1. Гора, няшчасце. *Як пачнуцца беды — ад іх не аткапацца. Усялякія беды былі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Што я мела бедаў і гора на сваім жыцці.* Бакшты Іўеў. *Беда зрабілася.* Саланое Віл. *От бяду мела, як хата згарэла.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Клопат. *У мяне ні на галаве, ні на плячах бяда не ляжыць, як хачу, так жыву.* Саланое Віл. *Кап большай бяды не было, як гэта сена.* Груздава Паст. *Хай ні пояно, ні дояно, ні давано — яму не бяда.* Міратычы Карэл. 3. Інтарэс, справа. *Што табе за бяда да майго плата — як хачу, так гараджу.* Ністанішкі Смарг. ◇ *Бяда нясе. Карова бяжыць ад бонкаў — куды яе бяда нясе!* Мсцібава Ваўк. ▽ *Хоць хлеб з вадой — абы не з бядой.* Кураполле Паст. *Тут можа быць вада, а можа быць і бяда. Без бяды не бывае.* Гемзы Шальч. *Не шукай бяды — яна цябе знойдзя.* Вецярэвічы Пух. *Адна бяда ня ходзіць — то дзве, то тры.* Ахрэмаўцы Брасл. *Не бяда, што адна, а што тры-чатыры — то бяда.* Вецярэвічы Пух. *Быда ны йдэ одна, а з діткамы. Ны быда, як е хліб і вода.* Сіманавічы Драг. *Беды нігды па днэй не ходзяць.* Мсцібава Ваўк. *Сваю бяду не абойдзеш, не аб'едзеш.* Саланое Віл. *Усё ёсць — добра, дрэнна толькі, як бяда ёсць.* Гемзы Шальч. *Чаго німа — і бяды німа.* Саланое Віл. *Каму бяда, а каму вяселля.* Вецярэвічы Пух. *Знай, па чым хунт бяды.* Масілавічы Сл. *Як курыца пяе — бяда ў хату.* Кіралі Шчуч. *Як бяда, то жджы дабра, палепшае некалі.* Дзяніскавічы Ганц. *Бяда бядой, а нада жыць.* Кураполле Паст. *Што старому за бяда — ляжы на печы і грэй плечы.* Жылі Іўеў. *Кап я такую бяду мела павек!* Парэчча Гродз. *Бяда адна не ходзіць.* Беняконі Воран.

БЯДАВА'ЦЬ *незак.* Гараваць, перажываць няшчасце. *Бядавала кабета, што муш памёр.* Кемялішкі Астр.

БЯДЗІ'ЦЬ *незак.* Непакоіць, хваляваць. *Мне той кусок бядзіць, дзе бульба не выкапана.* Лісна В.-Дзв. *Добра табе, ні табе хадзяйство бядзіць.* Груздава Паст.

БЯДНО'ТА *гл.* БЕДНАТА'

БЯДНО'ЦТВА *н.* Тое ж, што і б е д н а т а́. *Ён у бядноцтве жыў.* Вострава Маст. *Матка жыла ў бядноцтве велькум.* Навасёлкі Свісл.

БЯДО'ВЫ *прым.* Цяжкі, заблытаны. *Там было бядовая дзела.* Дзевятні Смарг.

БЯДРО'НКА *ж.* Тое ж, што і б а г ó ў к а. *Бядронка села на паляц.* Скрудалена Даўг.

БЯДУ'ЛА *ж.* Небарака. *Бядула такая: бядуіць і бядуіць.* Скрудалена Даўг.; *параўн.* літ. дыял. *bėdùla,* літар. *bėdùlė* 'тж'.

БЯЖЭ'НЦЫ *мн.* Бежанцы, уцекачы. *Яшчэ ў тую вайну, як прыехалі з бяжэнцаў — у хатах лучынай свяцілі.* Малахоўцы Бар.

БЯЗ *гл.* БЕЗ

БЯЗВО'КІ *прым.* Сляпы. *Бязвокая дзеўка, але бяруць у замуш.* Крэва Смарг.

БЯЗГНО'ІЦА *ж.* Няўгноенае поле. *Не зарадзіла, бо бязгноіца.* Дзяніскавічы Ганц.

БЯЗДЗЕ'ЛЛЯ *н.* Гультайства. *У суседа вяселля, а ў мяне бяздзелля.* Рудня Астравітая Чэрв.

БЯЗДЗЕ'ТНЫ *прым.* Які не можа мець дзяцей, бясплодны. *Бяздзетная баба ўзяла і гадавала.* Гемзы Шальч. *Ён і цяпер бяздзетны.* Саланое Віл. ∇ *Бяздзетны гоніцца за сынам.* Саланое Віл.

БЯЗДО'ННІЦА, БЯЗДЭ'ННІЦА, БЭЗДЭ'ННІЦЯ *ж.* Бездань, глыбокае месца. *Там бяздонніца ў возіры, ня лесця!* Мярэцкія Глыб. *Бяздонніца — дзе ў рэццы яма.* Масілавічы Сл. *Там такая бяздэнніца.* Рыбчына Віл., Крупіца Мін., Рудня Астравітая Чэрв. *Тут купатісе нэ можна, бо вэліка бэздэнніця, бэздэннэ болото.* Курашэва Чыж.

БЯЗДО'ННЫ, БЯЗДЭ'ННЫ, БЭЗДЭ'ННЫ *прым.* Вельмі глыбокі. *Бяздонная акно на балоце, там можна праваліцца.* Гайна Лаг. *У возеры вокны бываяць шырокія, бяздэнныя, туды мочаць лён.* Груздава Паст. *Там бэздэнная око* [прорва́], *можна ўтапіцца.* Жылі Іўеў.

БЯЗЛЮ'ДНІК, БЫЗЛЮ'ДНЫК *м. асудж.* Нелюдзімы. *Нашто табе гэты бязлюднік?* Ухвала Круп. *Бызлюднык, до людэй ны выйдэ.* Сіманавічы Драг.

БЯЗЛЮ'ДНЫ *прым.* Нелюдзімы. *Яна бязлюдна, з роду к людзям не выйдзе.* Дзяніскавічы Ганц.

БЯЗО'ДНЫ *прым.* Тое ж, што і б я з д ó н н ы. *Чулінда — бязоднаё балота.* Ухвала Круп.

БЯЗРО'ГІ *прым.* Які не мае рагоў, лабаты. *Карова бязрогая на малако добрая.* Дакудава Лід.

БЯЗУ'БЫ *прым.* Бяззубы. *Бязубыя бабы сабраліся і сідзяць.* Кураполле Паст.

БЯЗУЛА'ДНА *прысл.* Нерухома. *Втарой год бязуладна ляжыць, яго токам адбросіла.* Гемзы Шальч.

БЯЗУ'ЛЯЦЬ *незак.* 1. Гарэзаваць, дурэць. *Дзіця бязуляя весь вечар. Вот цяпер дзеці бязуляюць, бач, гульню нашлі,*

*што галаву прабілі адзін другому. Ні бязуляй ты і вы не бязуляйця, дзеці!* Азяраны Раг. 2. Бегаць, падбрыкваць (пра жывёлу). *Як выпусціла цёлку з хлева, вот яна бязуляла па дварэ.* Азяраны Раг.; *парайн.* літ. *bŷzuliotі* 'зыкаць'.

БЯЛАБІЛЕ'ТНЫ *прым.* Непрыгодны да ваеннай службы. *А я быў бялабілетны, у мяне рука цякла, бракоўны быў.* Парэчча Пух.

БЯЛЕ'ННЯ *н.* Адбельванне. *Хаўсціны нада збераць для бялення.* Жодзішкі Смарг.

БЯЛЕ'Т *м.* Білет. *Бялет купіў у аўтобусе.* Груздава Паст.

БЯЛІ'ЗНА *ж.* і *м.* Споднє адзенне. *Даўней бялізна пáчасная была. Бялізну памыла, павесіла сушыць.* Стральцы Шальч. *У белым бялізня сядзеў. У адным бялізня хадзіў па дзярэўні.* Старыя Трокі Трак. *Бялізну замачыла, трэба памыць.* Дварчаны Паст.; *парайн.* польск. *bielizna* 'тж'.

БЯЛІ'ЦЦА *незак.* 1. Адбельвацца, рабіцца белым. *Дажджом беліцца палатно і на сонцы беліцца — аш пеніцца, як прыпараваіць.* Валынцы В.-Дзв. 2. Мыць бялізну. *Хто кажа — сціраю бяльё, а хто — бялюся.* Вострава Маст.

БЯЛІ'ЦЬ *незак.* 1. Адбельваць. *Палатно ўсім куском бялілі: у стаўку памочыш і пасцеліш на мураву палатно.* Валынцы В.-Дзв. *Беляць палатно на слонцы.* Новыя Мацалі Варэн. 2. Мыць бялізну. *У нас плацця беляць, сарочкі, хусткі.* Вострава Маст. *Яна хадзіла порця бяліць.* Стральцы Гродз. 3. Пакрываць вапнай, мелам. *К святу буду бяліць печку.* Альхоўцы Лях. 4. Знімаць, лупіць скуру. *Цялёнка, авечку на пяла ды беляць.* Саланое Віл.

БЯЛО'К, БІЛО'К *м.* 1. Празрыстая частка яйка. *Бялок выцяк з шалупіны.* Рыбчына Віл. *Яшчэ бялок не запёкся.* Мярэцкія Глыб. *У яйку бялок е.* Альхоўцы Лях. *Бялок ня есь, а толькі жаўток.* Рудня Астравітая Чэрв., Быстрыца Астр. *Дітя білка ззієсть, а жовтка нэ хочэ.* Курашэва Чыж. 2. *анат.* Бялок вока. *Ніешто в тэбэ білок у оку почырвоніев.* Курашэва Чыж.

БЯЛТКО' *н.* Тое ж, што і бя л о́ к 1. *У яйку — бялтко.* Паляцкішкі Воран., Ліпнікі Вільн.; *парайн.* польск. *białko* 'тж'.

БЯЛТО'К *м.* Тое ж, што і бя л о́ к 1. *У яйку — бялток.* Старыя Трокі Трак.

БЯЛУ'Н *м. бат.* Грузд. *Бялуны бяруць і мочаць на зіму.* Рудня Астравітая Чэрв.

БЯЛЬМО', БАЛЬМО' *н.* Тое ж, што і бе́ л к а II. *Бяльмо на воку зацягнула — аслеп.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб.

БЯЛЮ'ГА' I *ж.* 1. Падзол. *Неўрадлівая зямля — яна бялюга есць: ці лажы гной ці не лажы.* Быстрыца Астр. *Бялюга зямля, падобная да глею.* Мярэцкія Глыб. *Бялю́га — зямля сівога колеру.* Магуны Паст. *Бялюгá — сівая зямля, [illegible], сасна расце.* Парэчча Гродз. 2. Вапенная зямля. *Бялю-*

*гой бялілі печ дайней.* Крэва Смарг. 3. Пасохлая трава. *Бялюга — няскошаная трава да вясны.* Старыя Трокі Трак.

БЯЛЮ′ГА II *ж. заал.* Бялуга. *Бялюга — длінная рыба, не водзіцца ў Друці.* Азяраны Раг.

БЯЛЮ′Х *м.* Тое ж, што і б я л ю́ г а I, 1. *Бялюх — зямля білаватая.* Кураполле Паст.

БЯЛЯ′К *м. бат.* Тое ж, што і б я л у́ н. *Бляк белы, з яго малако цячэ, гаркавы, зверху глатка, ні малы, іх соляць.* Крэва Смарг.

БЯРАЗНЯ′К *м.* Бярэзнік. *Бяразняк там велькі.* Вялікія Баяры Шчуч.

БЯ′РАЛ *м.* Тое ж, што і б я́ р л а. *З бярала хлеп.* Ёдлавічы Брасл.

БЯРБА′ *гл.* ВЯРБА′

БЯРВЕ′ННЯ *зб. н.* Тое ж, што і б е р в я н ё. *Куча бярвення ляжыць.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Навазіў бярвення на цэлую хату.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бярвення гніе.* Пасека Ст.-Дар.

БЯРВЕ′НЦА *н. памянш.* Невялікае бервяно. *Прывезлі бярвенцы ні таўстыя.* Вязынка Маладз.

БЯРВЯНО′К *м.* Тое ж, што і б я р в е́ н ц а. *У бярвянку выразана дзюра.* Гемзы Шальч.

БЯРВЯНЧУ′К *м.* Тое ж, што і б я р в е́ н ц а. *У бярвянчуке прасверлена дзюрка.* Гемзы Шальч.

БЯРКУЛЁЗ *м. мед.* Сухоты. *На бяркулёз балела.* Кураполле Паст. *Бяркулёз падскочыў, першая жонка ад бяркулёзу памерла.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *туберкулез* 'тж'.

БЯРКУЛЁЗНЫ *прым.* Хворы на сухоты. *Яна бяркулёзная.* Гемзы Шальч.

БЯ′РЛА, БЕ′РЛА, БЕ′РАЛА *н.* Нявеянае збожжа. *Дайней хлеп пяклі з бярла: як малацілі, так з мякінай і малолі і хлеп пяклі. Перш з мякінай ператаўкалі, кап кастра ў горла не ўпівалася.* Кураполле Паст. *Жыта змалоцяць, салому аддзелюць, зярно з мякінай астаецца, яно доўга ляжыць, ні згарая — гэта бярла.* Жодзішкі Смарг. *Таўклі берла ў ступе.* Кураполле Паст. *Змалоў берала свіням.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *bẽralas* 'тж' (ЛТ, 166).

БЯРЛО′ВЫ, БАРЛО′ВЫ, БЭРЛО′ВЫ *прым.* Спечаны з мукі ў сумесі з мякінай. *Хлеп бярловы не такі белы, бо толькі, бывала, каласкі змяцеш і ссуваеш у арут.* Кураполле Паст. *Бярловы хлеп — неачышчаны, напалам з мякінай хлеп.* Магуны Паст. *У бярловы хлеп дробнай мякіны дабаўлялі. Бярловы хлеп чорны, не можна есці і жалка бросіць.* Крэва Смарг. *Бярловы хлеп ня веялі, пяклі с мякінай, ён чорны, а так ён смачны.* Ракаўскія Швянч. *Бярловы хлеп вайной елі, ён з мякінаю.* Дакудава Лід. *Бярловы — харошы хлеп: то ня гірсяны.* Скрудалена Даўг. *Бярловы хлеп — хлеп з мякінай.* Крэва

Смарг. *Барловы хлеп укусны.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Бэрловы хлеп елі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яшчэ байкі, што бэрловы хлеп быў.* Малькуны Ігн. *Бэрловы хлеп з мякінай.* Чычалі Швянч. *Бэрловы хлеп — там мякіна дамяшана.* Грыкені Вільн. *Бэрловы хлеп елі калісьці і здаровыя былі.* Жыдзевічы Іўеў.; *гл.* б я́ р л а.

БЯРЛО′Г, БЯРЛО′Х, БЭРЛУО′Г *м.* 1. Свіное логава. *Бярлох — пасцель парасяча. Свіня ў бярлагу парасят пацерла.* Старыя Трокі Трак. *Пут свіні трэба пудослаті, бо нэ мают с чого бэрлога зробіті.* Курашэва Чыж. 2. Салома, што слалі ў бярлог. *Трэба ўкінуць свіні берлагў.* Дзяніскавічы Ганц. *Бярлох комкая свіня.* Альхоўка Навагр. 3. Логава звера. *У бярлогі ляжалі ваўчаняты.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мядзвець стаў бярлох разварачаваць.* Парневічы Івян. 4. *перан.* Патаптанае збожжа, ямкі, выдраныя курамі. *Берлагі павытрапетвалі куры на пасевах.* Мсцібава Ваўк. 5. *перан.* Непарадак. *На пячэ ў мяне бярлох, нічога не найду.* Стральцы Гродз. 6. пры параўн. Логава. *Пасцель, як бярлох, ляжыць у садзе.* Паляцкішкі Воран. *Койкі, як берлаге, непазасціланыя.* Пацаўшчына Дзятл. *У хаці — як свіны бярлог.* Крэва Смарг.

БЯРНО′, БЕРНО′ *н.* Тое ж, што і б е р в я н о́. *Бярно ляжыць ацярэбленая.* Мярэцкія Глыб. *Адно бярно прывёс.* Рыбчына Віл. *Ён берно прывёс, а бёрны цігаюць.* Янова Рас. *Чатыры бярне.* Пасека Ст.-Дар. *Бёрны вазілі на хату.* Кураполле Паст. *У яе ногі, як бёрна.* Палік Барыс.

БЯРНУ′ЦЬ *ж.* Лапатачка, пры дапамозе якой круціцца кола калаўрота. Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *bernùtis* 'тж'.

БЯРО′ЗА *ж.* Бярэзіна. *Бяроза каля акна расце.* Галоўні Воран. *Бярозу парэзалі на дровы.* Грыкені Вільн. *Насадзілі бярозаў каля школы.* Чычалі Швянч.

БЯРО′ЗАВІК *м.* Бярозавы сок. *Бярозавіку напіўся.* Пасека Ст.-Дар. *Бярозавіку нанасіў і напітак добры.* Рудня Астравітая Чэрв.

БЯРО′ЗАВЫ *прым.* 1. Які зроблены з бярозавай драўніны. *Бярозавы кіёк зрабіў.* Саланое Віл. 2. Які адносіцца да бярозы. *Бярозавае гальле вязе.* Дзяніскавічы Ганц. *Бярозава кара добра гарыць.* Галоўні Воран. ◇ *Бярозавая каша* — пакаранне розгай. *Трэба даць яму бярозавай кашы.* Альхоўцы Лях.

БЯРО′ЗКА, БЯРО′СКА *ж.* Бярозка. *Бярозка белым і розавым цвіціць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бяроска віецца на сцябельках другіх раслін.* Вострава Маст., Рудня Астравітая Чэрв.

БЯРО′СТА *ж.* Верхні белы слой бярозавай кары. *Кузавок здзеланы з бяросты* [для ягад]. Лісна В.-Дзв.

БЯРЭ′ЗІНА *ж.* Бярозавая палка. *Ён у сінях лупянуў яе розгай бярэзінай.* Саланое Віл.

БЯРЭ́ЗНІК *м.* 1. Тое ж, што і б я р а з н я́ к. *Грыбы ў бярэзніку.* Галоўні Воран., Чычалі Швянч. *Там грыбы раслі ў бярэзніку.* Лісна В.-Дзв., Дзяніскавічы Ганц. 2. Драўніна з бярозы, дровы. *Загатовіў бярэзніку на дрова.* Дзяніскавічы Ганц.

БЯРЭ́ЗНІЧАК *м. памянш.* да б я р э́ з н і к 1. Зараснік бярэзніку. Мярэцкія Глыб.

БЯРЭ́МА, БЯРЭ́МЯ, БЕРЭ́МЯ, БЯРЭ́М'Е, БЯРЭ́МЁ *н.* 1. Абярэмак. *Бярэма дроў нясу.* Асавец Віл., Гайна Лаг., Мярэцкія Глыб. *Вазьмі на бярэмя дроў і нясі.* Дакудава Лід. *Бярэмя дроў нёс і рассыпаў.* Пасека Ст.-Дар. *Вот набрала дроў цэлае бярэм'е.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Тое ж, што і а х á п а к. *Узяў бярэма сена.* Ракаўскія Швянч., Жодзішкі Смарг. *Маю з бярэма сена, трэба занесці ў хлеў.* Паляцкішкі Воран. *Бярэмя зелля прынёс.* Пацаўшчына Дзятл. *Прынясі бярэмё сена.* Малахоўцы Бар.

БЯРЭ́МАК *м.* Тое ж, што і б я р э́ м а 1. *Бярэмак дроў прынёс.* Глівін Барыс.

БЯРЭ́М'Е *гл.* БЯРЭ́МА

БЯРЭМЕНЁ *н.* Тое ж, што і б я р э́ м а 1. *Бярэменё дроў прынёс.* Альхоўцы Лях. 2. Тое ж, што і б я р э́ м а 2. *Нажні карове травы бярэменё.* Альхоўцы Лях.

БЯРЭ́МЁ *гл.* БЯРЭ́МА

БЯРЭ́МЦА *н. памянш.* Невялікі сноп, пучок. *У бярэмца кладуць лён.* Гемзы Шальч.

БЯРЭ́МЯ *гл.* БЯРЭ́МА

БЯРЭ́ШЧАНЫ *прым.* Пакрыты слоем воску. *Мёд бярэшчаны — ачышчаны, пчолы выветрываюць ваду і чысты мёд забярэсцяць.* Груздава Паст.

БЯС *гл.* БЕЗ

БЯСЕ́ДА *ж.* 1. Збор гасцей з пачастункам. *Як гось прыехаў — то бяседа.* Груздава Паст. *Прыехаў дзяцька, пазвалі на бяседу.* Данілавічы Дзярж. *Бяседа — як на свята завуць суседзяў.* Багушэвічы Бярэз. *Бяседа — госці.* Тухавічы Лях., Вялікія Нястанавічы Лаг., Жыдзевічы Іўеў. *Калі ззавуць радню, сватоў—ета бяседа.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бяседа— госці з частаваннем.* Рыбчына Віл. *Быў у бяседзі — тое, што і быў у гасцях.* Мярэцкія Глыб. *Сціпан сабраў бяседу.* Якубова Рас. *Пашоў у бяседу, быў у бяседзе.* Альхоўцы Лях. 2. *абрад.* Удзельнікі вясельнага і іншых абрадаў. *Як свадзьба, то кажуць — прыехала вялікая бяседа.* Пасека Ст.-Дар. *Бяседа бывая, калі хрысціны, вяселля і так якія госці.* Азяраны Раг. *Бывая бяседа пасля пахаронаў.* Рыбчына Віл. *У бяседзі добра з ім — ні ён нап'ецца, ні ён валяецца.* Саланое Віл. *Лавы былі, калі якая бяседа, на крэслах мала сядзяць.* Ракаўскія Швянч.

БЯСЕ́ДАВАЦЬ *незак.* 1. Праводзіць час за застоллем. *Са-*

*бяруцца госці і бяседуюць.* Лісна В.-Дзв. *Сабяруцца з выпеўкай — вот і бяседуюць.* Альхоўцы Лях. 2. Гаварыць у кампаніі. *Сядзелі і бяседавалі пра ўсё.* Мярэцкія Глыб.

БЯСКО'НЦА *прысл.* 1. Бесперапынна. *Гэты клопат бясконца — пішы, думай.* Гемзы Шальч. 2. Вельмі многа. *Бясконца п'е.* Пацаўшчына Дзятл.

БЯСКО'НЦЫ *прым.* Бесперапынны. *У вас нудная работа, бясконцая.* Мсцібава Ваўк.

БЯСПА'МЯТЛІВЫ *прым.* Бяспамятны. *Мая баба бяспамятлівая — нічога не помніць.* Гемзы Шальч.

БЯСПА'ЧНОСЦЬ *ж.* Бяспечнасць. *Для бяспачносці зруб ставя каля студні.* Гемзы Шальч.

БЯСПЕ'ЧНЯ *прысл.* Бяспечна. *Яна бяспечня пашла карову даіць, нібы ў свой хлеў.* Гемзы Шальч.

БЯСПРА'ЎНЯ *прысл.* Самавольна, без дазволу. *Ён бяспраўня пісталет дзяржаў і хадзіў з ім.* Рагулішкі Даўг.

БЯССМЕ'РТНІК *м. бат.* Агаткі. *Бяссмертніка столькі — хоць касу закладай.* Вялікі Лес Круп. *Бяссмертнік дужа добра ад печані.* Валынцы В.-Дзв.

БЯССО'НІЦА *ж.* Адсутнасць сну. *Німа горшай пакуты, як бяссоніца.* Вецярэвічы Пух.

БЯСТРУ'ДНЫ *прым.* Лёгкі. *Гэта бяструдная праца.* Беразіно Докш.

БЯСТЫ'ДНІК *м.* Сараматнік. *Бястыднік ты!* Ахрэмаўцы Брасл. *Ах ты, бястыднік, што ж гэта ты робіш!* Дварчаны Паст.

БЯСХЛЕ'БНІЦА *ж.* Бясхлебіца. *У вайну была бясхлебніца, голад.* Чычалі Швянч.

БЯШКО'М *прысл.* Бягом. *Я да мамы бяшком.* Ёдлавічы Брасл.

# В

ВА'БІК *м.* Невялікі вулей для прываблівання рою. *Маленькі вулей называлі вабік.* Магуны Паст. *У нас ставяць вабікі для пчол, прывязваюць дротам да дрэва.* Жодзішкі Смарг., Жылі Іўеў., Малахоўцы Бар., Тухавічы Лях.

ВА'БІЦЬ *незак.* Прываблівяць голасам, гукам. *Ахотнікі умелі вабіць ваўкоў — завыя, як воўк — і ваўкі адзываліся.* Альхоўка Навагр. *Іск два дня іскуе, а потым вабіць із доміка сям'ю.* Быстрыца Астр.

ВАВЁРКА, ВАВ'ЁРКА, АВЁРКА *ж.* Вавёрка. *У нашых*

*лясах ест вавёркі.* Грыкені Вільн. *Вав'ёрка ў школе ест.* Любішчыцы Іваң. *Авёрка сабірае і носіць арэхі ў дупло.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* польск. *wiewiórka* 'тж'.

ВА'ГА, ВА'ГА *ж.* 1. Жэрдка, прымацаваная да столі для падвешвання калыскі. *Калыска была на вазе.* Граўжышкі Ашм. *Прычэпалі вагу да столі.* Альхоўцы Лях. 2. Кол-рычаг. *Вага — палена, якім падважваюць карчы. Вагу кладуць на бервяно і падшчэмлююць пад корч, а на канец націскаюць, перавес ё — і выварочваюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вага — браўно падымаць; рукам ня ўзяць, а вагаю возьмеш.* Мельнікі Лудз. 3. Вага. *Кладзі на вагу і зваж!* Мярэцкія Глыб. *У мяне бралі вагу. На вагу лепей важце.* Баброўнікі Гарад. 4. Тое, што ўзважваецца, вага. *Дзве вазе трэба адважыць.* Навасёлкі Свісл.

ВАГАВА'НЯ *н.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова в а г а в а́ ц ь. *Ужо не менш пяцідзесяці лет, як кончылася гэта вагавання.* Гемзы Шальч.

ВАГАВА'ЦЬ *незак.* Разганяць (сахой) барозны па засеяному загону, каб сцякала вада. *Кагда-та вагавалі жыта, як нашы старыкі жылі.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *vagóti* 'тж'.

ВАГАВІ'ЛО *н.* Журавель. *Да вагавіла прышчэплююць ключ ці коварат, а да коварада — вядро і чэрпаюць воду. У калодцы саха, вагавіло і ключ ці коварат.* Дзяніскавічы Ганц.

ВАГА'ЛКА *ж.* Гушкалка. *Вагалка з дзерава, за ключкі зачаплялі і вагалі дзяцей.* Баброўнікі Гарад.

ВАГА'Н I *м.* пры параўн. Вельмі цяжкі. *Як ваган — вельмі цяжкі. Пятух цяжкі, як ваган. Па восені холадам куры былі, як ваганы.* Курaполле Паст. *Цяжкі пятух, як ваган.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВАГА'Н II *м.* Драўляная міска, цёрла. *У вагану церлі мак, ваган быў дзеравянны.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *параўн.* літ. *vogõnė* 'драўляная пасудзіна з накрыўкай'.

ВА'ГАНАС *м. заал.* Каршун. *Ваганас дзярэ куры.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *vãnagas* 'тж'.

ВА'ГАНІНА *ж.* Дрыгва. *Дзе ваганіна ў балоці, там гіблецца, вагаецца балота.* Бакшты Іўеў.

ВА'ГАНКА *ж.* Загон поля ў дванаццаць баразён. *Загон — вускі, а ваганка — шырокая.* Малахоўцы Бар.; *параўн.* літ. *vagà* 'баразна'.

ВАГА'РЫЦЬ *незак.* Хутка бегчы, уцякаць. *Куды ты вагарыш?* Засецце Дзятл.; *параўн.* польск. *wagarować, wagusować* 'валачыцца, прагульвацца' (СВ, VII, 443, 444).

ВАГА'ЦЦА *незак.* Павышацца і паніжацца. *Цемпература вагалася.* Кураполле Паст.

ВАГА'ЦЬ I *незак.* 1. Тое ж, што і в а г а в а́ ц ь. *Вагаюць, дзе разора, каб сцекала вада. Хораша павагаў жыта.*

Дзяніскавічы Ганц., Тухавічы Лях. 2. Абворваць бульбу. *Пара бульбу вагаць.* Магуны Паст.

ВАГА′ЦЬ II *незак. ткац.* Рухаць узад і ўперад набіліцы. *Ляда ў кроснах, у ім дзяржак дліны, вага́яш ім.* Малахоўцы Бар.

ВА′ГІ толькі *мн.* Вагі. *Цяпер вагі мала ў каго ёсць.* Ракаўскія Швянч. *Быў палосьмінак, што картошку мерылі, даўней вагаў мала было.* Старыя Трокі Трак.

ВАГЛЁДЗІНЫ, ВАГЛЯ′ДЗІНЫ толькі *мн. абрад.* Прыезд хлопца да дзяўчыны з мэтай папярэдняга азнаямлення перад сватаннем. *Ён сабіраецца жаніцца — ездзіў у ваглёдзіны да дзеўкі.* Мярэцкія Глыб. *У ваглядзіны паехаў хлопіц.* Кураполле Паст.

ВАГОВА′ТІ *незак.* Балець, ламаць. *Штось мніе нога ваѓуе.* Курашэва Чыж.

ВАГО′НКА *зб. ж.* Драніца для абшалёўкі. *Вагонка — такія дошчачкі хату аббіваць. Навёс сабе вагонкі, дзе дастаў?* Галубы Маст.

ВАГУ′Л *прысл.* Разам. *Зелье расце ва гародзе вагул: макрыца, драсён, канапелка, асот, малачай, ваўкі.* Дзяніскавічы Ганц.

ВА′ДА I *ж.* Загана ў людзей, жывёл. *Вада есць у яе, у жонкі ў яго.* Пацаўшчына Дзятл. *Дыхавічный чалавек мае ваду.* Мсцібава Ваўк. *І дзеўка можа быць з вадаю.* Дзяніскавічы Ганц. *В його вада е, рука була помнята.* Сіманавічы Драг. *Якая ў каня ёсць вада?* Магуны Паст. *Вада — брак які-небудзь у жывёлы.* Рыбчына Віл. *У гэтай скаціны ёсць вада.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Купіў карову, але з вадаю.* Пацаўшчына Дзятл. *Як хвора карова ці б′ецца — гэта вада.* Мсцібава Ваўк. *Карова з вадаю — то б′ецца, то коліцца, то без рох. Конь мае ваду: б′ецца, наровіцца.* Дзяніскавічы Ганц. *У гэтыі коровы няка вада е, вона чогось ны жуе жуйкы.* Сіманавічы Драг. *Карова мае ваду — травы не дабярэ, ідзе і ідзе.* Гемзы Шальч.

ВА′ДА II *ж.* Звада, сварка. *І вада не навіна нам, сваркі многа.* Саланое Віл. *Вада — сварка.* Магуны Паст.

ВАДА′, ВОДА′ *ж.* Вада. *Трэба наліць вадэ.* Чычалі Швянч. *Ён вады баяўся, як агня.* Ахрэмаўцы Брасл. *Там вада крынічная, халодная.* Азяраны Раг. ▽ *Хоць хлеп з вадою, толькі не з бядою.* Кураполле Паст. *Хліб, вода — нымае голода́. Гэто ны быда, як е хліб і вода, як прыдэ до быды, то ны будэ ны хліба, ны воды. Гэто ны быда, як п′ецьця вода. Тыха вода быроги мые. Коло воды вмочысься, коло мукы змілысся.* Сіманавічы Драг. *Глянь у воду, якый ты на вроду.* Відзібар Стол. ◇ *З водою* — па цячэнню, пры падтрымцы людзей. *З водою лёгко плывсты, а протів воды — тяшко.* Сіманавічы Драг. *На вады* — каля вады, у вадзе. *На вады ху-*

*жэ, как асма* [пры астме] — *сухія міста лучшы.* Скрыпчына Лудз. *Выдры ёсць на вады, у рэках, азярах.* Чарняўскія Лудз. *Пад ваду* — супраць цячэння. *Пад ваду лес цягнулі ў Рыгу.* Палік Барыс.

ВАДАНО′С *м. заал.* Труцень. *Пазней пшчолы знішчаюць гэтых ваданосаў.* Граўжышкі Ашм.

ВАДАП′Я′Н *м. бат.* Куколь. *Вадап'ян — п'янкае зелье. Калі ў муцэ многа вадап'яну, то з'ясі бліноў і галава баліць.* Дзяніскавічы Ганц.

ВАДАСТО′ІНА *ж.* Лужына каля крыніцы. *Крыніца выганяя ваду і там вадастоіна — падмошчавалі і бралі з крыніцы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВАДАСТО′Й *м.* Невялікі вадаём, у якім вада не высыхае летам. *Бывае, дзе нізка, вадастой, даліна вымакае.* Пацаўшчына Дзятл.

ВАДЗВЕ′ГУ *прысл.* Удвая. *Складваяцца ніткі вадзвегу.* Дакудава Лід.

ВАДЗЕ′НЬ *гл.* АВАДЗЕ′НЬ

ВА′ДЗІЦА *гл.* ВА′ДЗІЦЦА

ВАДЗІ′ЦА, ВАДЗІ′ЦКА *ж. ласк.* да в а д а́. *Дзяржы вадзіцу ў роце.* Саланое Віл. *Пяклі хлеп і, як садзілі ў печ, буханкі вадзіцкай брызгалі.* Індра Красл.

ВА′ДЗІЦЦА, ВА′ДЗІЦА *незак.* Жыць у нязгодзе, сварыцца. *Яны вадзяцца, за́вады вядуць.* Старыя Трокі Трак. *То дзеці вадзяцца, то расходзяцца.* Гемзы Шальч. *У каваля бабы вадзяцца.* Магуны Паст. *Яна вадзіцца са ўсякімі, с саседзямі.* Саланое Віл. *Яна з імі ў хаце вадзіцца.* Старыя Смільгіні Воран. *Як стануць вадзіцца бабы!* Крэва Смарг. *Бабы часта вадзіліся.* Граўжышкі Ашм. *Сварацца пастаяна, вадзяца.* Індра Красл.; *параўн.* літ. *vaĩdytis* 'тж' (ЛТ, 170).

ВАДЗІ′ЦЦА *незак.* 1. Пладзіцца, размнажацца. *Жаваранкі ў межах вадзіліся.* Валынцы В.-Дзв. *У лушку, які не высыхае, качка водзіцца.* Дзяніскавічы Ганц. *Ужы больш па дамах вадзіліся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Даўней у дуплах пчолы вадзіліся.* Вецярэвічы Пух. 2. Быць, існаваць. *Прыгавор водзіца: хлеп — ні нівеста, з'есца — другі будзіць.* Масішкі Красл.

ВАДЗІ′ЦЬ *незак.* 1. Даваць прыплод, раджаць. *Кабыла натта жарабяты добрыя вадзіла і дзяржалі яе.* Гемзы Шальч. 2. Вадзіць за сабою і карміць. *Квактуха водзіць курчата.* Ліпнікі Вільн. 3. Вадзіць на паказ. *Не за намі вадзілі гэтых мядзведзяў.* Саланое Віл. 4. Запрашаць на танцы. *Сталі мяне хлопцы ў танцы вадзіць.* Саланое Віл. 5. Кіраваць чым-н. *Іван мажэ вадзіць машыну.* Дзяніскавічы Ганц. 6. Вадзіць пальцам. *Дзеўкі даўней буракамі ружаваліся, а хлопцы водзяць пальцамі па твары — дзеўкі ўцякаюць.* Старыя Трокі

Трак. 7. Гаспадарыць, быць гаспадаром. *Я ўжо старая — і заўтра табе гаспадарку вадзіць.* Малькуны Ігн.

ВАДЗЭ'НЯ *н.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова вадзіць 2. *Індычка добрая да вадзэня гусей — увечары ўсіх да хаты прывядзе.* Кіралі Шчуч.

ВАДЗЯНА'Я КАРО'СТА *ж. бат.* Раска. *Ня лесь у ваду — набярэсся вадзяной кαросты.* Бакшты Іўеў.

ВАДЗЯНА'Я Я'ШЧАРКА, ВОДЯНА'Я Я'ШЧЫРКА *ж. заал.* Трытон. *Ест у вадзе яшчарка — вадзяная яшчарка, яна кусліваяа.* Грыкені Вільн. *Гэто ны рыбына, а водяная яшчырка поплывла.* Сіманавічы Драг.

ВАДЗЯНІ'К *м.* Пухір. *Як апарыш руку — выляціць такі вадзянік.* Каўняны Гродз. *Вадзянік ускочыў.* Старыя Смільгіні Воран.

ВАДЗЯ'НКА *ж. мед.* Назва хваробы, калі збіраецца вада ў жываце. *Я ад вадзянкі жывата прыкладала чорную рэцьку.* Дзяніскавічы Ганц.

ВАДЗЯНЫ' АСО'Т *м. бат.* Разак. *Вадзяны асот рагатый, колкій, у азярэ расцець. Вадзянога асоту нацягаў з ракі, ён рыбай пахніць.* Лісна В.-Дзв.

ВАДНІ'К *м.* Плытагон, які кіруе плытом. *Ваднік выскакавая на берах с кардалём, зарывая кардэль у зямлю, і плыт астанаўліваецца.* Рыбчына Віл.

ВАДО'ХРЫШЧА *н.*, ВОДО'ХРЫШЧА *мн. рэліг.* Свята, якое адзначалася 6 студзеня ст.ст. *Вадохрышча — вялікая свята, на Ірдань выходзіць поп і пасвяцае ваду.* Рудня Астравітая Чэрв. *Было вадохрышча, і яна прыехала.* Саланое Віл. *До водохрышч булы вылікы морозы.* Сіманавічы Драг.

ВАДЫ'Р, БАДЫ'Р *м.* Тое ж, што і вадзянік. *Вадыр велькі — апёк руку.* Дакудава Лід. *Вадыр велькі ўскочыў на руцэ.* Галубы Маст. *Вадыр велькі на руцэ.* Беняконі Воран. *Наскочылі вадыры і папэнкалі — голае мяса відаць.* Гемзы Шальч. *Спадуць прышчаўкі, вадыры.* Рыбчына Віл. *Так сабе выскачыць вадыр і баліць, трэба прапусціць яго голкаю, уцячэ гэта ропа і перастане той вадыр ужэ. Вадзяны вадыр, як рожа.* Баброўнікі Гарад. *Бадыр выскачыў на руцэ ад пара.* Мсцібава Ваўк.

ВАЖАГІ' толькі *мн.* Качарэжнік. *Вун венік стаіць у важагох.* Дзяніскавічы Ганц.

ВАЖАКІ' толькі *мн.* Вяроўкі, якімі ўціскаюць воз. *Сена многа, але важакамі ўціснy.* Гемзы Шальч.

ВАЖАНЯ'ЦЦА *незак.* Вагацца. *Койка на сетца — важанясецца.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *važinėtis* 'з'язджацца'.

ВАЖА'ЦЬ *незак.* Прывязваць лейцы да аброці запрэжанага каня. *Дайней з пянькі вілі вошкі важаць каня.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВАЖДА'ЦЦА *незак.* Гуляць, бавіцца. *Ня важдайся доўга,*

*прыхадзі скарэй дахаты. Што ты з ім важдаішся, раз бацькі ня хацяць.* Ёдлавічы Брасл. *Тут важдацца з ім не было часу.* Саланое Віл.

ВА'ЖКА, ВА'ШКА *прысл.* Цяжка. *Важка яму жыць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Вашка сумку несці ў руках.* Вецярэвічы Пух.

ВА'ЖКІ, ВА'ШКІ' *прым.* Цяжкі, які мае значную вагу. *Кура ва́жкая.* Азяраны Раг. *Цэп важкі, карова і так хадзіцьме, не навязаная.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Ва́шкі певянь, качар, асабліва індзюк ва́шкі.* Мсцібава Ваўк. *Тавар вашкі. Але і вашко́е — як падняць.* Пацаўшчына Дзятл.

ВА'ЖНЫ *прым.* 1. Дародны, прыгожы. *Важны быў хлопяц.* Гемзы Шальч. 2. Паважаны. *Бацька быў важны чалавек, яго паважалі ўсе.* Гемзы Шальч.

ВАЖУ'Р *м.* Дужы конь. *Важур — здаровы конь.* Тухавічы Лях.

ВА'ЖЫЦЦА *незак.* Вагацца. *Зямля важылася, калыхалася там.* Гемзы Шальч.

ВА'ЖЫЦЬ *незак.* Узважваць. *Калісь і сена важылі бязмянам.* Ахрэмаўцы Брасл. *А ты ўмеяш важыць на гэтыя вясы.* Вязынка Маладз.

ВАЗАВІ'К *м.* Тое ж, што і в а ж у́ р. *Вазавік — здаровы конь. Запражы вазавіка, той пацягне.* Ухвала Круп.

ВАЗА'ЙКА *ж.* Коўзанка. *Пойдзем на вазайку.* Баброўнікі Гарад.

ВАЗА'К *м.* Возчык. *Вазаку грошай дала.* Старыя Трокі Трак. *Вазакі лашадзьмі работаюць.* Гемзы Шальч.

ВАЗАННІ'ЦА *ж.* Пасудзіна, у якой растуць хатнія кветкі. *Вазанніца пабілася.* Пацаўшчына Дзятл.

ВАЗАЎНЯ' *гл.* ВАЗО'ЎНЯ

ВАЗА'ШАК *м.* Вазок. *Вазашак — гэта парадныя сані с садзэннем.* Кіралі Шчуч.

ВАЗГРА'ТЫ *прым.* Саплівы. *У іх дзеці вазгратыя.* Саланое Віл.

ВАЗГРЫ' толькі *мн.* Слізь. *Яршы стадамі ходзяць, выцягнеш яго — ён весь у вазграх.* Азяраны Раг.

ВАЗДЗЕРЖА'ЦЦА *зак.* Стрымацца. *Той час троха ваздзержайся — дзяцей баяўся.* Груздава Паст.

ВАЗДЗІ'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і в а ж д а́ ц ц а. *Толькі ваздзіся з ім цэлы дзень.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВАЗІНЯ'ЦЦА, ВАЖЫНЯ'ЦЦА *незак.* 1. Катацца (на санках, каньках). *Дзеці вазіняюцца на льду с манькамі і біс канькоў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дайней на запусты вазіняліся на конях — па вуліцы вазіняімся і пяём.* Магуны Паст. *Дзеці вазіняліся на саначках. Пайдзём вазіняцца на лёт.* Ахрэмаўцы Брасл. *Са школы дзеці прыпруць, і бягом важыняцца на санках.* Перавознікі Астр. 2. Наогул ездзіць. *Во вазіняцца на*

*трактары — дась яшчэ маці віткі.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *važinėtis* 'тж'.

ВАЗІ'ЦЦА *незак.* Коўзацца. *Пойдзем вазіцца.* Баброўнікі Гарад.

ВАЗО'К *м.*, ВАЗКІ' *мн.* Тое ж, што і в а з а́ ш а к. *Павозка такая з кузавам; у мяне вазок быў ладны, на кірмаш ехаў у васку.* Гемзы Шальч. *Вазкі, ці вазок, скажуць — лавачка ест, палазкі ценшыя, абівае тоненькімі дошчачкамі. На васэле вазкі.* Беняконі Воран.

ВАЗО'Н *м.*, ВАЗО'НЫ *мн.* 1. Гаршчок з кветкамі. *Трэба паліць вазоны, а то павялі ўсе.* Гемзы Шальч. 2. Пасудзіна для хатніх кветак. *Нашто вазон вынясла за вароты?* Гемзы Шальч.

ВАЗО'ЎНЯ, ВАЗАЎНЯ' *ж.* Памяшканне для захоўвання воза, санак і прылад працы. *Вазоўню прыбудоўвалі, там калёсы, плух ставілі.* Магуны Паст. *У вазаўне ні тылько сані, а вазы, дранкі ставім.* Перавознікі Астр.

ВАЗЮ'Р *м.* 1. Тое ж, што і в а ж у́ р. *Вазюр — дужы вялікі конь.* Глівін Барыс. 2. Тое ж, што і в а з а́ к. *Вазюр паехаў на поля.* Жылі Іўеў. *Ты не пойдзеш вазіць лён — ёсць вазюрэ́.* Міратычы Карэл.

ВАЗЯРКО' *н. памянш.* да в о́ з е р а. *Тоя вазярко мохам зайшло.* Магуны Паст.

ВАЗЯРЦО' *н.* Тое ж, што і в а з я р к о́. *Тут ё вазярцо, у ім вада не высыхая.* Азяраны Раг.

ВАЗЯРЭ'ДЗІЦЬ *незак.* Тое ж, што і а з я р о́ д з і ц ь. *Трэба вазярэдзіць снапы — і к сонцу ўздырэ.* Дзяніскавічы Ганц.

ВАЙДАВА'ЦЬ, ВАЙТАВА'ЦЬ *незак.* 1. Злавацъ, сварыцца, лаяцца. *З яго смяюцца, а ён вайдуя. П'яныя ідуць і вайдуюць, бо п'яныя. Зазлаваўшыся могуць вайдаваць.* Граўжышкі Ашм. *Жонка вайдуя на яго і бурчыць.* Старое Сяло Зэльв. 2. Скардзіцца, выказваць незадавальненне. *Ён быў брыгадзірам, а людзі сталі вайдаваць на яго.* Старое Сяло Зэльв. 3. Бедаваць, гараваць. *Сядзіць баба і вайтуя — не вайтуй! Даўней вайтавалі людзі, што цяжка жылося.* Міратычы Карэл.; *параўн.* літ. *vaĩdytis, vaitóti* 'тж' (ЛТ, 170). 4. Калыхаць, гушкаць. *Усю ноч вайдавала калубель.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* г о́ й д а ц ц а.

ВАЙЖАВА'ЦЬ *незак.* 1. *асудж.* Бадзяцца. *Ён мяняў работы, а патом пашоў па свеці вайжаваць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Бегаць, лётаць. *Вайжуіць кот па агародах.* Груздава Паст.

ВАЙЛА'К *м.* 1. Лямец. *Вайлаком апшывалася хамуціна і клешчы.* Мярэцкія Глыб. *Вайлак у хамуце, кап каню ня сцерці карак.* Жодзішкі Смарг. 2. Валёнак. *Б'ецца вайлак з вайны.* Магуны Паст. *Уздзела вайлакі і хаджу.* Кураполле Паст.

*У вайлаках цягаюся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Даўней дзяравяшкі насілі, вайлакоў ні ў кога не было.* Ракаўскія Швянч. *Вайлакі цёплыя, адзін вайлак.* Грыкені Вільн. *Вайлаке калісь рабілі самі.* Новікі Гродз.

ВАЙЛЁ *гл.* ВАЛЛЁ

ВАЙНА′ *ж.* 1. Вайна. *За маей памяцей тры вайны было.* Гемзы Шальч. *После вайнэ дзерава далі.* Новікі Гродз. 2. у знач. *прысл. вайно́й, во́йнамі.* У час вайны. *Вайной спалілі касцёл.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вайной паехалі і жывуць у Астрашыцкім Гаратку.* Рудня Марымонава Лоеў. *Старшы сын пагіп войнамі. Я войнамі многа бываў за граніцай.* Старыя Смільгіні Воран.

ВАЙНІ′ЦА *ж. экспр.* Вайна. *Вайніца двух аднавяскоўцаў убіла.* Дакудава Лід.

ВАЙСТРЫ′ЦЬ *незак.* Вастрыць. *Сцепаўкай касу войстраць.* Беразіно Докш. *Асялком брытву войстраць.* Малахоўцы Бар.

ВАЙТАВА′ЦЬ *гл.* ВАЙДАВА′ЦЬ

ВАЙХО′ДЗІЦЬ *незак.* Уваходзіць. *Я ні вайходжу з дзецьмі ў хату.* Міратычы Карэл.

ВАЙЦІ′ *зак.* Увайсці. *Вайдзіцё!* Грыкені Вільн.

ВАЙЦЯ′ЦЬ *незак.* 1. Упікаць, папракаць. *Ты сама мне дала* [грошы], *а цяпер вайцяіш — ні дай і не лай, ні вайцяй, я цябе не прасіла, кап ты мне давала.* Кураполле Паст. *Ні вайцяй ты мне!* Рыбчына Віл. *Вайцяіць мне яшчэ, ня любіць, што сказала.* Мярэцкія Глыб. *Я ёй вайцяю: зачэм ты так гаварыла! Я ўсё ёй вайцяла.* Альхоўцы Лях. *Вайцяць — выгаварваць.* Масілавічы Сл. 2. Лаяць. *Ён мяне вайцяя.* Гемзы Шальч. *Яна вайцяя, канфузіць чалавека.* Жыдзевічы Іўеў. *Вайцяць — казаць на чалавека нехарошае.* Альхоўка Навагр. 3. Гаварыць недарэчнае, малоць языком. *Вайцяіш абы-што.* Беразіно Докш. *Вайцяць — гаварыць біс канца.* Саланое Віл. *Абы вайцяць. Перастань вайцяць адно і тоя!* Азяраны Раг.; *гл.* в а й д а в а́ ц ь.

ВА′КАРЫНА *ж.* Вялікая хваля, бурнае хваляванне. *Вакарына на вірах: вятры велькія і вакарына б'е валну.* Дакудава Лід. *Калі вецер напроціў вады, тады сходзіцца вакарына на Нёмне. Сходзілася вакарына, ажніможна пераехаць.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* літ. *vãkaras* 'вечар', *vakaraĩ* 'захад', *vakãris* 'заходні вецер', *vakarìnis* 'заходні'.

ВАКНО′ *н.* Вір. *Вакно ёсць у возяры, там ключавая вада.* Кураполле Паст., Мярэцкія Глыб.

ВАЛ I *м.* Валок сена. *Сена адразу ляжыць у радох, а далей зграбуць рат на рат — радоў сем уместа, і то называюць вал.* Дзяніскавічы Ганц. *Сена ў валы́ грабуць і носяць пластамі ў стагі.* Груздава Паст. *Сена ў валы́ грабілі.* Ракаўскія Швянч., Жодзішкі Смарг.

ВАЛ II *м.* Вялікая хваля. *Вясной у вал вада ў рацэ б'ецца.* Ракаўскія Швянч.

ВАЛ III *м. ткац.* Навой у кроснах. *На вал аснова навіваецца.* Грыкені Вільн.

ВАЛ IV *м.* 1. Адходы пры трапанні льну. *С-пат трапачкі атпадаў вал. Даўней валу спрадзеш і посцілкі ччэш. І цюнкі з валу рабілі.* Мсцібава Ваўк. *Вал падае с-пат церніцы.* Баброўнікі Гарад. 2. Куча кастрыцы. *Навалій цермяці вал.* Стральцы Гродз.

ВАЛАВА'ТЫ *прым.* Сыраваты. *Валаватае, не сухое сена.* Старыя Трокі Трак.

ВАЛАВА'ЦЬ *незак.* Утрамбоўваць. *Валавалі зямлю калодай пасля пасеву.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* літ. *volúoti* 'тж'.

ВАЛАВО'КІ *прым.* Лупаты, зіркаты. *У яе мужыка валавокія вочы, яна вышла за валавокага.* Гемзы Шальч.

ВАЛАВО'Т *м.* Повад. *Валавот — вяроўкі кусок, што рогі завязваюць і вядуць карову папасвіць ці да быка. Бяры валавот і вядзі карову!* Кіралі Шчуч. ▽ *Але ш ты напрала: дзе пень — то калода, дзе глянь — кусок валавода — гэта старая прымаўка пра няўмелае прадзіва.* Кіралі Шчуч.

ВА'ЛАК *м.* 1. Плоская качалка з зубцамі. *Валак з зупцамі, качалка без зупцоў.* Магуны Паст., Крэва Смарг. *Плоскі — валак, а круглая — качалка.* Саланое Віл. *Валак на зубкох, а качалка круглая.* Старыя Смільгіні Воран. *Валак і качалка бялізну валкаваць.* Гемзы Шальч. 2. Апора для рулявога весла на плыце. *Валак на плыце, штоб задзяржаць шырыгу.* Бакшты Іўеў.

ВАЛАКАНІ'НА *ж.* Цяганіна, валакіта. *Нашто гэта валаканіна!* Кураполле Паст.

ВАЛАКЕ' *мн.* Тры калочкі, на якіх падвешвалі калыску ў полі ў час жніва. *Даўней, як жаць ішлі, то бралі калубель і валаке — тры кіе. На валаке павесіш калубель і жнеш.* Кіралі Шчуч.

ВАЛАКІ'ТА *м.* і *ж. зневаж.* Валацуга. *Ты, валакіта, дзе ты валачыўся?!* Бенякoні Воран., Жылі Іўеў.

ВАЛАКНО' *н.* Льновалакно. *Лён чэсалі, тады самае лепшае астаецца — гэта валакно.* Грыкені Вільн. *Як чэшыш, то пакулі, а лепша — валакно.* Бенякoні Воран. *Як валакном лён здаваць — многа работы.* Гемзы Шальч. *Як добры лён, то валакно шырокая, як шалкавіца.* Кураполле Паст.

ВАЛАКУ'ША I, ВАЛАКУ'ЧА *ж. с.-г.* Прыстасаванне для сцягвання ў кучу саломы, камення. *Валакуша салому сцёгваць.* Мсцібава Ваўк. *Валакушай валакуць каменя.* Дакудава Ліц. *Валакушай камення цягаюць: за трактар бляху чапляюць і каменні цягаюць.* Пацаўшчына Дзятл. *Вот бальшая валакуча, што салому сцягваюць.* Ністанішкі Смарг.

ВАЛАКУ'ША II *ж.* Рыбалоўная снасць. *Валакушу ўдваіх цягаюць, а брадзень — утраіх.* Беразіно Докш.

ВАЛАНЦА'ЦЦА *незак. экспр.* Бадзяцца, цягацца. *Валанцуга гэты валанцаіцца па сяле.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* літ. *valandà* 'прамежак часу', польск. *wałęsać się* 'тж'.

ВАЛА'С *м.* Волас. *Валас у цябе прычапіўся на каўнеры. Знімі валас.* Ёдлавічы Брасл.

ВАЛАСАЖА'Р *м. астр.* Назва сузор'я Плеяды. *Кучка зорак — валасажар. Даўней, як пралі чуць не да раніцы, казалі: ужо Валасажар на поўдні — трэба спаць лажыцца.* Азяраны Раг.

ВАЛАСЕ'НЬ I *м. бат.* Сівец, валаснік. *Валасень спанаваў на санажаці.* Бакшты Іўеў. *Валасень на амшарыне расце.* Вецярэвічы Пух.

ВАЛАСЕ'НЬ II *м. мед.* Ногцееда, валасень. *У яе валасень на пальцы.* Міратычы Карэл. *Валасень спадзіву стаў.* Рыбчына Віл.

ВАЛАСІ'НА *ж.* Адзін волас. *Валасіна папала ў яду.* Мярэцкія Глыб. *Вырвала валасіну.* Магуны Паст.

ВАЛАСНІ'К *м.* Тое ж, што і в а л а с е́ н ь II. *Паліц балеў — валаснік быў.* Лісна В.-Дзв. *Як валаснік быў, я скачу па хаце — так балела.* Валынцы В.-Дзв. *Валаснік і на нагах бываіць, яго на каласкі выліваяць — волас на волас.* Кураполле Паст.

ВАЛАСЫ' *мн.* 1. Валасы ў людзей. *У яго валасы чорныя, але валасы яго слабыя. Галасіла —аж валасы рвала.* Саланое Віл. 2. *бат.* Рыльцы ў кукурузе. *Валасы ад кукурузы п'юць ад жаўтухі.* Рыбчына Віл.

ВАЛАСЯ'НКА, ВОЛОСЯ'НКА *ж. заал.* Пліска. *Валасянкі — пташке такія, яны валаснёю конскаю акручваюць гнязадо, некія пахожыя на пліставачку.* Пацаўшчына Дзятл. *Волосянка такая маленька, сывынька, з волысся гныздо в'е.* Сіманавічы Драг.

ВАЛАСЯ'НЫ *прым.* Зроблены з шарсцяных валаскоў. *Шчотачкі да падолкаў падшываюць, яны валасяныя.* Старыя Трокі Трак.

ВАЛАТО'ЎКА *ж.* Высокае, пясчанае месца. *Валатоўка — дзе не гарэцца, пяскаватая зямля, ядлоўчык расце.* Старыя Смільгіні Воран.

ВАЛАЎНІ'ЦА *ж. жарт.* Спакусніца, баламутка. *Аміля — валаўніца, такога зяця зваявала.* Талейкі Швянч.

ВАЛАЦА'КА *м.* і *ж. асудж.* Валацуга. *Ён валацака, брадзяга, валочыцца па свету, дзе ён ня быў.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ВАЛА'ЦЬ *незак.* Клікаць, выклікаць. *Трэба валаць іх у хату.* Груздава Паст. *Валаюць сына ў апком.* Дакудава Лід. *Вы мяне валалі?* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *wołać* 'тж'.

ВАЛАЧА'Й *м.* Тое ж, што і в а л а ц а́ к а. *Валачай гэты ні робіць, а толькі ходзіць.* Мсцібава Ваўк. *Валачай — хто валочыцца.* Малахоўцы Бар. *Гэты валачай паехаў ужэ.* Альхоўцы Лях.

ВА'ЛАЧКА *ж.* Кіёчак з планачкамі на канцы, дэталь бойкі. *Валачка — кіёчак з крыжачком, чым масла б'юць.* Мсцібава Ваўк.

ВАЛАЧО'БНАЕ *н. абрад.* Велікодны падарунак. *Бывала, кросная дае валачобнае сваім крэснікам.* Мсцібава Ваўк.

ВАЛАЧО'БНІК *м. зневаж.* Бабыль. *Валачобнік гэты не меў ні кала, ні двара, жыў у таго, хто возьме.* Мачаск Бярэз.

ВАЛАЧЫ' *незак.* 1. Несці што-н. цяжкае. *Яна будзіць валачы мех травы.* Мярэцкія Глыб. *Чуць валачу дзярушку зельня.* Альхоўка Навагр. *Ледва валаку вяску сена.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Цягнуць па зямлі. *Памачу ў воду палатно і валаку па мураве.* Дзяніскавічы Ганц.

ВАЛАЧЫ'ДЛО *н. с.-г.* Драўляная дужка ў баране, за якую чаплялі ворчык. *Валачыдло — гэто калач ў баране дзераўлянай, за што чаплялі каромысло.* Дзяніскавічы Ганц.

ВАЛАЧЫ'ЦЦА, ВАЛАЧЫ'СЯ *незак.* Ісці павольна, ледзь цягнуцца. *Ох, валачэцца ён.* Грыкені Вільн. *Мне далёка валачыся.* Альхоўцы Лях. *Валачэцца карова ў шкоду.* Альхоўка Навагр.

ВАЛБУ'КА *ж.* Жаўлак, гуз. *Валбука выперлася на руцэ, дзе задаў.* Азяраны Раг.

ВАЛДАВА'ЦЦА *незак.* Мітусіцца, варушыцца, хістацца. *Валдуюцца людзі, як многа: нахіляюцца і туда, і сюда.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* літ. *valdýtis* 'трымаць раўнавагу'.

ВАЛДАВА'ЦЬ *незак.* Пуставаць, не апрацоўвацца. *Валдуіць кусок зямлі. Гэты кусок будзіць валдаваць ці папараваць, ня будуць сеіць.* Курaполле Паст.; *парайн.* літ. *valdýti* 'валодаць'.

ВА'ЛЕНАЧКА *ж. памянш.* Дзежачка. *Валеначка была на масла, с клёпак рабілі. Даўней свеціць вазілі ў тых валеначках: валеначку накладуць і вязуць.* Кіралі Шчуч.

ВА'ЛЕНКІ, ВА'ЛЕНЬКІ, ВА'ЛІНКЫ, ВА'ЛЯНКЭ *мн.* Валёнкі. *Валенкі парвала.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Валенькі збілі.* Галубы Маст., Пацаўшчына Дзятл. *Валінкы два, валінок одын.* Сіманавічы Драг. *Два валянкэ, удэн валянокь.* Радастаў Драг.

ВА'ЛЕНТ *м. абрад.* Вэлюм. *Валент маладой кладуць, як выходзіць замуш.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *welon* 'тж'; *гл.* в э́ л ю м.

ВАЛЕ'НТАВА ХВАРО'БА, ВАЛЕ'НТАЯ *ж. мед.* Эпілепсія. *Яго Валентава хвароба кідая.* Вострава Маст., Мсцібава Ваўк. *Яго валентая кідая.* Вязынка Маладз.; *парайн.* польск. *choroba św. Walentego* 'тж'.

ВАЛЕ'НТКА *ж. мед.* Тое ж, што і в а л е́ н т а в а  х в а р о́ б а. *Яго валентка кідае.* Старая Каменка Сакол.

ВА'ЛЕНШЧЫК *м.* Валюшнік. *Валеншчык валіць валенкі.* Азяраны Раг.

ВА'ЛЕНЬКІ *гл.* ВА'ЛЕНКІ

ВА'ЛЕЦ, ВА'ЛЕЦЬ *м.* Вальс. *Такі танец валец.* Грыкені Вільн. *Звалы валец, а тыпэр вальс. Вальця гулялы.* Сіманавічы Драг. *Шчэ колісь вальця танцёвалі.* Курашэва Чыж.

ВА'ЛЕЦЬ *м.* Вал у млыне. *Пшэніцю на валець змолов.* Курашэва Чыж.

ВАЛЕ'Я *ж.* Балея. *Бацька валею мёду нагнаў.* Стральцы Гродз.

ВАЛЁ *гл.* ВАЛЛЁ

ВАЛЁК *м.* Кругляк, частка бервяна. *Парэж дзерава на валькі!* Мішневічы Шум.

ВАЛЁН *м.* Тое ж, што і в а́ л е н т. *Валён накладалі маладой.* Старыя Трокі Трак., Новікі Гродз.

ВАЛЁНКА *ж.* 1. Валеная шапка, шапка з лямцу. *Даўней шапкі валялі і называлі валёнкі.* Ухвала Круп. *Шапка з вoйны — валёнка.* Мачаск Бярэз. 2. Вязаная шапка. *Валёнка — шапка на галаву, як чулок, і атвернута.* Ухвала Круп.

ВАЛЁШ *м.* Буралом. *Валёш — лес, паваляны бурай, рэзалі на дрова. Падабралі валёш.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВАЛІМО'ШКА *ж.* Пястуха. *Яна ў міне валімошка, даліктуха.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВА'ЛІНКЫ *гл.* ВА'ЛЕНКІ

ВА'ЛІНЦЫ *мн.* Тое ж, што і в а́ л е н к і. *Нада валінцы купляць.* Валынцы В.-Дзв.

ВАЛІ'СКА *ж.* і *м.* Чамадан. *Прыехала ў Мінск па першаму часу: паднясу валіску і стану—чуць дацягнула.* Ракаўскія Швянч. *Адзін пан прыходзіць во з гэтым валіскам.* Старыя Трокі Трак. *Всэ в валіску спаковав.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *waliza, walizka* 'тж'.

ВАЛІ'ЦЦА, ВАЛІ'ЦА *незак.* 1. Падаць, валіцца. *Валіца тарэлачка.* Індра Красл. *Каторым бокам валіліся?* Паляцкішкі Воран. 2. Класціся ў бальніцу. *Жонка паехала ў бальніцу — будзя валіцца.* Гемзы Шальч.

ВАЛІ'ЦЬ I *незак.* 1. Спілоўваць лес, дрэвы. *У той час там лес валілі.* Бакшты Іўеў. 2. Клубіцца. *Трубой дым валіць.* Асавец Віл. 3. *перан.* Хіліць да сну. *Трошкі будзіць цябе к сну валіць.* Кураполле Паст. 4. Нагаворваць, абвінавачваць, нападаць. *На яго усё валілі, што ён многа краў і так браў.* Кураполле Паст. ∇ *На каго куль саломы валіць, а на сябе — ні сцябла.* Кураполле Паст.

ВАЛІ'ЦЬ II *незак.* Валіць сукно. *Сукно там валілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзе сукно валілі, стаўпакі такія былі.* Дакудава Лід.

ВА′ЛКА *ж.* Валюшня. *Вязуць сукно ў валку і валюць.* Ухвала Круп.

ВАЛКАВА′ТЫ *прым.* 1. Вільготны, недасушаны. *Сена валкаватае зляжыла.* Кураполле Паст. *Сена валкаватае, нада яго падсушыць.* Гемзы Шальч. *Валкаватае сена.* Сапоцкіна Гродз. *Сена валкаватая — не буду складаць у копы, капа сплесняя, сівая зробіцца.* Кіралі Шчуч. *Порткі шчэ валкаватыя, хай вісяць.* Лайпушкі Ігн. 2. Гразкі, гразкаваты. *Валкавата сенажаць, поле валкавато: месцамі сыроя і сухое.* Вялікія Баяры Шчуч.; *парайн.* літ. *valk(s)nùs, valkùs* 'вільготны, гнуткі, вязкі, пругкі' (ЛТ, 170), *valkšnùs* 'пруткі, расцяжны', *valkà* 'лужына'.

ВАЛКАВА′ЦЬ I *незак.* 1. Зграбаць сена ў валкі. *Нада ў валкі сена валкаваць.* Мярэцкія Глыб. *Валкуюць уручную і машынай.* Рыбчына Віл. *Сена валкавалі ў валок, а потым у копы кідалі.* Альхоўцы Лях. 2. Укачваць засеянае поле. *Дабро валкуюць — лепшае дабро будзя.* Магуны Паст. 3. Качаць бялізну. *Ест валак і качалка бялізну валкаваць.* Гемзы Шальч., Магуны Паст. *Буду валкаваць ручнікі.* Быстрыца Астр. *Валкавалі качалкам.* Старыя Трокі Трак.

ВАЛКАВА′ЦЬ II *незак. абрад.* Хадзіць па вёсках з песнямі (у час вялікадня). *Калісь валачонікі валкавалі — хадзілі на вялікдзень і спявалі песні.* Альхоўка Навагр.

ВАЛКАЎНІ′ЦА, ВАЛКОВНІ′ЦЯ *ж.* 1. Тое ж, што і в а́ л а к 1. *Верхняя — валкаўніца, круглая — качалка.* Старыя Трокі Трак. *Качалка і валкаўніца—бялізну качаць.* Каўняны Гродз. *Валак і валкаўніца.* Жылі Іўеў. 2. Качалкі (плоская і круглая). *Білій колісь нэ гладі́лі, але качалі валковніцёю.* Курашэва Чыж.

ВАЛЛЁ, ВАЙЛЁ, ВАЛЁ *н.* 1. Валлё. *Валлё ў курыцы.* Рыбчына Віл. *У птушак усіх вайлё.* Гемзы Шальч. *Курыца наела валё.* Саланое Віл. 2. *мед.* Валляк. *У яе валлё выперла пад барадой.* Мярэцкія Глыб. ◇ *Валлё на нашым баку* — праўда, верх, перамога. *Ну, валлё на нашым баку!* Груздава Паст. *На яе баку валё было.* Саланое Віл.

ВАЛНА′, ВОЛНА′ *ж.* Хваля. *Да сарая вална біла ў час разліву. На пляж выбіла валной каларацкіх жукоў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ляціць вада волнамі.* Гайна Лаг. *На водіе такіе волны, што дна в рыціе нэ відно.* Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *волна* 'тж'.

ВАЛНАВА′ЦЦА, ВОЛНОВА′ТІСЕ *незак.* 1. Хваляваццa ад ветру (пра збожжа на ніве). *Вот як жыта валнуецца — красіва глядзець.* Рыбчына Віл. 2. Трывожыцца, непакоіцца, хвалявацца. *Ты нэ волнуйсе, ніц нэ станэцце.* Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *волноваться* 'тж'.

ВАЛІНА′ЦЫЯ *ж.* Клопат, мітусня, хваляванне, трывога. *Валінацыя з дзецьмі бальшая.* Старыя Смільгіні Воран.

ВАЛНУ'ШКІ *мн. бат.* Ваўнянкі. *Валнушкі мы ні збіраям.* Дакудава Лід. *Валнушак набрала, абабак.* Чарняўскія Лудз.

ВАЛНЯ'НКІ *мн.* Тое ж, што і в а л н у́ ш к і. *І валнянкі ест.* Беняконі Воран. *Усякіе грыбэ ў леся: савячке, апенькі, валнянкі.* Малахоўцы Бар. *Валнянкі сырыя мочаць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВАЛО'ВЫ *прым.* Які мае адносіны да в а л а́. *Валовага мяса выпісаў.* Быстрыца Астр. ∇ *Усё расказаць, дык на валову скуру не спісаць.* Ністанішкі Смарг. *І на валову скуру не спішаш усяго.* Гемзы Шальч.

ВАЛО'ВЫЯ ГО'НЫ толькі *мн.* Загон поля даўжынёй каля пяцідзесяці метраў. *Валовыя гоны — некалі польна мера была. Згараў двоі ці троі валовых гонаў.* Мсцібава Ваўк.

ВАЛО'ГА *ж. кулін.* Растоплены тлушч. *Валогу дзелалі з масла — распусцім і валожым бліны. Кагда распусціш сала — тожа валога.* Янова Рас.; *параўн.* літ. *vaĩgis* 'ежа'.

ВАЛО'ЖЫЦЬ *незак.* Мачаць у тлушч, заліваць мачаннем, тлушчам. *Дзягно дзелалі с канапель і картошку валожылі. Як маслам валожылі — валогу дзелалі з масла — распусціш і валожыш.* Янова Рас.

ВАЛО'К *м.* Тое ж, што і в а л І. *Нада сена зграбіць у валок.* Груздава Паст. *Сена ў валкі граблі.* Беняконі Воран. *Нада сена зграпсці ў валок.* Палік Барыс. *Сена засталося ў валкох і дошч пашоў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Грабяць сено ў валок і пазней ф капіцы.* Навадворцы Васільк.

ВАЛО'КА І *ж. устар.* 1. Мера плошчы зямлі. *Казённыя валокі па дваццаць чатыры дзесяціны, панскія валокі былі па васемнасця, а ў некаторых і па дванасця дзесяцін.* Крэва Смарг. *У Шастаках валокі былі па васемнаццаць дзесяцін. Шэсць валок зямлі меў бацька з дзядулём.* Гемзы Шальч. *Валока — дваццаць чатыры га.* Ухвала Круп. *Адна валока зямлі дзеду дасталася.* Беразіно Докш. *Валоку зямлі купіў. Тысячу валок зямлі меў пан.* Чычалі Швянч. *У нас было чатыры валокі зямлі.* Грыкені Вільн. 2. Надзел зямлі аднаго гаспадара. *Была Хітрылава валока, Ляхава валока.* Саланое Віл. *Валока — увесь участак.* Індра Красл.

ВАЛО'КА ІІ, ВОЛО'КА *ж.* 1. Вяроўка. *А што ш, навязаць пятуха на валоку?* Альхоўцы Лях. *Я на туй валоцы молоко, банку з молоком, опустыла.* Сіманавічы Драг. 2. *мн.* Аборы да лапцей. *Валокі ў лапці зацягняш, завяжаш — і пашоў!* Малахоўцы Бар. *У пасталах валокі.* Любішчыцы Івац. *Валокі вілі ў лапці, павіў валокі ды ў елучкі.* Альхоўцы Лях. *Валокі ўцягвалі ў лапці.* Дзяніскавічы Ганц. *Волокы до постолыв.* Сіманавічы Драг.

ВАЛО'КІ толькі *мн.* Твань. *Валокамі, ціной зарошшы той берах.* Лісна В.-Дзв.

ВАЛО'СЫ *мн.* Тое ж, што і в а л а с ы́ 1. *Валосы ў яе чор-*

*ныя, доўгія. Яна валосы мазала памадамі.* Груздава Паст. *Чорныя валосы былі.* Саланое Віл. *Валосы зачашы!* Міратычы Карэл. *Цяпер маладыя валосамі абросшыя. Валосы рашчашы!* Чычалі Швянч.

ВАЛОʹЎНІК I *м.* 1. Даглядчык валоў. *Даўней былі валоўнікі — людзі, якія даглядалі, хадзілі каля валоў.* Мярэцкія Глыб. 2. Кароўнік. *Валоўнік у саўхозі. У валоўніку цялят адкормліваюць і здаюць.* Малахоўцы Бар.

ВАЛОʹЎНІК II, АЛАЛОʹЎНІК *м. абрад.* Валачобнік. *Вялікадням валоўнікі хадзілі пад вокнамі праз усю ноч.* Ахрэмаўцы Брасл. *На первы дзень вельканочы валоўнікі прыходзілі пад акно і пелі.* Гемзы Шальч. *Даўней алалоўнікі хадзілі і песні спявалі.* Груздава Паст.; *параўн.* літ. *laláuninkas* 'тж'.

ВАЛОʹЦКІ *прым.* У выразе: *Валоцкі гарэх* — валоскі арэх. *Валоцкія гарэхі ў магазін прывезлі.* Крынкі Крын.

ВАЛОʹЦЦЯ *гл.* ВОʹЛАЦЬ I

ВАЛОʹЧАЧКА, ВАЛОʹЧКА *ж. памянш.* да в а л ó к а II, 1. *Уцягні якую валочачку ў тэпці.* Альхоўка Навагр. *Вазьму карову на валочку і вяду.* Альхоўцы Лях.

ВАЛОʹЧЫЦЦА *незак. экспр.* Хадзіць, цягацца. *Валочыліся па сяле хлопцы.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ВАЛОʹШКА *ж. бат.* Васілёк. *Валошка сіненька.* Дзяніскавічы Ганц. *Валошка памагая ад мачавога пузыра.* Альхоўцы Лях. *У аўсе густом расце валошка.* Кнышэвічы Бабіц.

ВАЛТУʹЗІЦЦА, ВАЛТУʹЖЫЦЦА *незак.* 1. Бароцца, дужацца. *Хлопцы сабяруцца і валтужацца.* Мсцібава Ваўк. 2. Распуснічаць. *Яна ў школьных летах пачала валтузіцца.* Гемзы Шальч.

ВАЛТУʹЗІЦЬ *незак.* Тармасіць. *Што ты валтузіш яго тут!* Ухвала Круп.

ВАЛУʹЙ *м. бат.* Грыб з сямейства сыраежкавых. *Валуі тут растуць, але іх не ядуць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВАЛЫʹ *мн.* Насыпы з зямлі. *Валы, ссунутыя трактарам. Мы хадзілі па валах.* Мярэцкія Глыб.

ВАЛЫʹНКА I *ж.* Тое ж, што і в а л ó ш к а. Дакудава Лід.

ВАЛЫʹНКА II *ж.* Сварка, мітусня, лаянка. *Яны прыдуць, заводзюцца і лаюцца, а патом гэта валынка пройдзіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВАЛЬБУʹКА *ж.* Нараст, гуз. *У яго ззаду ні то жаўлак, ні то вальбука.* Ухвала Круп.

ВАЛЬДЗЯВАʹЦЬ *незак.* Валодаць, рухаць. *Яму атняло сярэдзіну — нагам не вальдзюіць.* Лайпушкі Ігн.; *параўн.* літ. *valdýti* 'тж'.

ВАʹЛЬКА *ж.* Сварка, калатня. *У іх хаці — валька.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *walka* 'змаганне, барацьба'.

ВАЛЬКОʹ *н.* Валлё. *Валько поўнае ў куры.* Пасіене Лудз.

ВАЛЬНЕ'Й *прысл.* Больш свабодна, ненацягнута. *Хаціш, кап вальней ішлі ніткі, аткруці кола* [у калаўроце]. Індра Красл.

ВАЛЬНЕ'ЦЬ *незак.* Хварэць на панос. *Цялёнак вальнеіць ад бульбы, ад буракоў.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВАЛЬСАВА'ЦЬ *гл.* ВАЛЬЦАВА'ЦЬ

ВАЛЬСО'Н *м. бат.* Альяс. *Вальсон як лякарства, ён ат сухотаў.* Ракаўскія Швянч.

ВАЛЬЦАВА'ЦЬ, ВАЛЬЦЁВА'ТЫ, ВАЛЬСАВА'ЦЬ *незак.* Пытляваць. *Ён вальцуя муку ў мельніцы.* Жылі Іўеў. *Вальцёвав пшаніцю.* Сіманавічы Драг. *У Зылупе мельніца была: малолі і вальсавалі.* Навікі Лудз.; *парайн.* польск. *walcować* 'тж'.

ВА'ЛЬЧЫЦЬ I *незак.* 1. Ваяваць. *Вальчыць у бітве, у вайне.* Быстрыца Астр. 2. Сварыцца, лаяцца. *Бабы вальчаць.* Дакудава Лід. 3. Нагаворваць, скардзіцца. *Яна стала вальчыць на мяне ўсякае.* Асавец Віл. *Яны ўсяк на мяне вальчуць.* Саланое Віл. *Былі случаі, што на яго вальчылі, пісалі.* Груздава Паст. 4. Буяніць. *Чаго вальчыць!— Яшчэ міліцыя забярэ.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* польск. *walczyć* 'змагацца'.

ВА'ЛЬЧЫЦЬ II *незак.* Валіць (сукно). *Мы вальчылі сукно.* Грыкені Вільн.

ВА'ЛЬЧЫЦЬ III, ВА'ЛЬЧЫТЫ *незак.* Танцаваць вальс. *Гулялы польку, а посля вальчылы.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *walcować* 'тж'.

ВАЛЭ'ЙНЯ *м.* і *ж. зневаж.* Няздатны. *Чалавек няўдалы— гэта валэйня.* Ёдлавічы Брасл.

ВАЛЮГА'ЦЦА *незак.* 1. Хістацца (пра зуб). *Зуп валюгаяцца.* Жодзішкі Смарг. 2 Ісці хістаючыся. *Ужо Зіна валюгаецца.* Вецярэвічы Пух.

ВАЛЮГА'ЦЬ *незак.* Перавальвацца з нагі на нагу, ісці і хістацца ў бакі. *Валюгаіць і валюгаіць ён, адзеўшысь моцна.* Ракаўскія **Швянч.**

ВАЛЮ'ХА *ж.* Жанчына з няроўнай паходкай, якая ідзе, хістаючыся ў бакі. Граўжышкі Ашм.

ВАЛЮ'ХАЦЬ *незак.* Тое ж, што і в а л ю г а́ ц ь. *Храмы валюхаіць.* Саланое Віл.

ВАЛЮ'Ш *м.* 1. Тое ж, што і в а́ л к а. *Валюш — такая фабрыка была, валілі сукно.* Старыя Трокі Трак. *Валюш — там сукно валілі, стаўпакі такія былі пры мельніцы, пры вадзе.* Дакудава Лід. *У валюшы вазілі збіваць сукно.* Магуны Паст. *Валюш быў пераважна пры млынах, дзе сукно валілі. Трэба сукно несці ў валюш.* Жылі Іўеў. *Валюш — дзе сукно вальчылі.* Грыкені Вільн. 2. Валюшнік. *Валёнкі валюш валіць.* Рыбчына Віл. *Валюш сукно валіў.* Мсцібава Ваўк.

ВАЛЮ'ША *ж.* Тое ж, што і в а л ю́ ш 1. *Валюша — шо*

*сукно валетэ.* Радастаў Драг. *Сукно валялы на валюшы.* Сіманавічы Драг.

ВАЛЮ'ШКА *ж.* Тое ж, што і в а л л ё 1. *Валюшку курa наела.* Пасіене Лудз.

ВАЛЮ'ШНІК *м.* Тое ж, што і в а л ю ш 2. *Валюшнік вайлакі валіць.* Магуны Паст.

ВАЛЮ'ШНЯ *ж.* Тое ж, што і в а л ю ш 1. *У валюшню павязом сукно валіць.* Вецярэвічы Пух.

ВАЛЮ'ШЫТЫ *незак.* Раскачваць цеста на стале. *Трэба стола посыпаты мукою і валюшыты тісто на галушкы, локшу.* Сіманавічы Драг.

ВАЛЯ'К *м.* Тое ж, што і в а л л ё 1. *Валяк пусты; поўны — як курыца наклюецца зярнят.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВА'ЛЯНКЭ *гл.* ВА'ЛЕНКІ

ВАЛЯ'ЦЦА *незак.* 1. Выпадаць (пра зубы). *Цяпер і ў маладых зубы валяюцца.* Рыбчына Віл. 2. Валяцца (пра рэчы). *І цяпер кажух валяецца на гарэ.* Кураполле Паст.

ВАЛЯ'ЦЬ *незак.* Спілоўваць, ссякаць, валіць. *Пашлі лес валяць.* Рыбчына Віл. *Дзялянка, дзе лес валяюць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВАЛЯ'Ч *м. асудж.* Гультай. *Малы быў, часта хварэў, бацька злаваўса і на мяне: «Ву, валяч!»* Стральцы Гродз.

ВАНАРЫ'СТЫ *прым.* Наравісты. *Быў ванарысты конь.* Бакшты Іўеў.

ВАНГО'Р *м. заал.* Вугор. *Вангор папаўся ў мярош.* Магуны Паст. *Вангор другі, чым вягела, вангор — як змяя.* Ракаўскія Швянч. *Вангор падобен да гужа. Вангор бывая па пяцьшэсць кіль, свайго рода гат, бывая да двух метраў дліны, таўшчыны — як рука, бэз лускі, нет вкуснейшай рыбы. Лавіць вангора трудна, летам, як пачынае цвісці гарох, можна злавіць уночы, рэдка пападаецца ў сетку. Вангор — чорнажаўтаватага колеру.* Альхоўка Навагр. *Вангор — укусная рыба.* Жодзішкі Смарг. *Вангор у рацэ сядзіць, як толькі раса — выходзіць у гарох. Ён што паляндрыца, касцей німа, скура знімаецца. Ідзеш малаціць — прывяжы біч да цэпа скурай вангора — ніколі не парвецца.* Бакшты Іўеў. *Вангоры выходзяць з вады — ідуць у гарох.* Мсцібава Ваўк. *Было ў нашай рэчцы многа вангораў, улазілі ў буч, цяпер няма — зваліся.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *węgorz* 'тж'.

ВАНДЖО'НЫ *гл.* ВЭ'НДЖАНЫ

ВАНДЗІ'ДЛО, ВЯНДЗІ'ДЛО *н.* Цуглі. *Трэба класці каню ўздэчку з вандзідлам.* Мсцібава Ваўк. *Вандзідло залезно. Каня закелзваюць вандзідлам.* Малахоўцы Бар. *Вяндзідло жалезная.* Масілавічы Сл.; *параўн.* польск. *wędzidło* 'тж'.

ВАНДЗІ'ДЛЫ *мн.* Тое ж, што і в а н д з і д л о. *Вандзідлы прыкрапляюцца да ўздэчкі.* Гемзы Шальч., Беняконі Воран. *Вандзідлы ў вобруці, што каню ў зубы даюць. Вобруць*

*з вандзідламі*. Кіралі Шчуч. *Закілзаць каня — вандзідлы называюцца*. Крэва Смарг. *Вандзідлы ў зубы каня ўложвалі*. Ракаўскія Швянч.

ВАНДЗІ'ЦЬ *гл*. ВЭ'НДЗІЦЬ

ВАНДЗО'НКА *ж*. Вэнджаныя мясныя прадукты. *Вандзонка — ванджоны кумпяк, кілбасы, мяса, сала*. Мярэцкія Глыб.

ВАНДЗО'НЫ *гл*. ВЭ'НДЖАНЫ

ВАНДЗЭ'ЛАК *м*. Клунак. *Вандзэлак звязала*. Жодзішкі Смарг. *З вандзэлкам на васэля ішлі: у полку звяжа бохан хлеба, пірох, гарэлку, кумпяк*. Старыя Трокі Трак. *У вандзэлак увязала ўсё яга і выкінула з хаты*. Стральцы Гродз. *Панавязваў вандзэлкаў і пашоў з вандзэлкамі*. Гемзы Шальч. *Можа ў вандзэлку шкарпэткі?* Пацаўшчына Дзятл.

ВАНДО'ЛА *ж*. 1. Каляіна. *Там выбіта дарога, вандолы адно там*. Засецце Дзятл. 2. Выбоіна на дарозе. *Вандолы павыбівалі машынамі, я ўпала ў гэту вандолу*. Мсцібава Ваўк. 3. Глыбокая яма. *Вандолы бальшыя выкапаўшы, дзе капалі торф*. Граўжышкі Ашм.; *параўн*. польск. *wądoł, wandoł* 'вузкі дол' (СВ, VII, 455, 478).

ВАНЕ'ЦЬ *незак*. 1. Смярдзець. *Сабака ваніць на дошч*. Валынцы В.-Дзв. 2. Пахнуць. *Блін ваніць содай*. Валынцы В.-Дзв.

ВАНЖО'ЎНІК, ВАНЖЭ'ЎНІК *м. бат*. Ванжоўнік, мячэўнік. *Ванжоўнік — трава такая на балоце, цвіце, свіней кормяць*. Нізок Уздз. *У ванжоўніка зярняты, як грачышка. Ванжэўнік елі ў голат*. Граўжышкі Ашм. *Ванжэўнік — як аір, у ванжэўніка кіяўкі растуць*. Жодзішкі Смарг.

ВАНІТАВА'ЦЬ *незак*. Нудзіць, рваць. *Зноў будзе ванітаваць*. Чычалі Швянч. *Нешта зашкодзіла дзіцяці — ванітуе*. Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн*. польск. *wymiotować* 'тж'.

ВАНІ'ТЫ, ВО'НІТЫ толькі *мн*. Рвота. *На ваніты рвець*. Магуны Паст. *Ваніты цягалі*. Гемзы Шальч. *У яе ваніты былі*. Вострава Маст. *Кашаль як ушчанецца, аш на воніты бярэць. Нет лепшага лякарства, як сахар паліць, кап аш на воніты брала*. Груздава Паст.; *параўн*. польск. *wymioty* 'ваніты'.

ВАНСА'К, ВАНСА'Ч, ВАНЦА'К, ВАНЦА'Ч, ВАНЦА'Х *м*. 1. *мед*. Заварот кішак. *Вансак у яго, жывот баліць*. Альхоўцы Лях. *Вансач у яго — жалудак баліць, кідаецца на зямлю*. Старыя Трокі Трак. *Ён хварэў, прычапіўся вансач*. Ахрэмаўцы Брасл. *Яе хапіла балезня — ванцак*. Альхоўцы Лях. *Нейкі ванцак падкінецца*. Вецярэвічы Пух. 2. *вет*. Конская хвароба. *Захварэў конь, б'е вансач*. Старыя Смільгіні Воран. *Ванцак — конская хвароба — конь кідаецца і б'е нагамі*. Рудня Астравітая Чэрв. *Ванцак каня хапая, так гавораць, а што гэто — ня ведаю*. Малахоўцы Бар. ∇ *Каб цябе ванцак кінуў!* Рудня Астравітая Чэрв. *А ванцач цябе ведае!* Вялікія Няста-

навічы Лаг. *Каб цябе ванцач!* Саланое Віл. *Каб цябе ванцах хапіў!* Альхоўка Навагр.

ВАНТРАБЯ'НКА, ВАНТРАБЛЯ'НЬКА, ВАНТРУБЯ'НКА, АНТРАБЯ'НКА *ж.* 1. Каўбаса з вантробаў. *Вантрабянка робіцца з ляхкіх, цяшкіх, сэрца, касы.* Асавец Віл. *Вантробы вымачу шмат рас, кап крыві не было: почку, язык, лёхкія, сэрца, туды галавізну — ужо вантрабянка.* Крэва Смарг. *Вантрабянкі рабілі так: выбяруць нутры, зварань і пасякаяць вантробкі, сэрца, пячонкі, потым — у кішкі і ў печ.* Старыя Трокі Трак. *Вантрабянка рабілася с печані, жыру ўлівалі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Вантрабляньскі зрабіла з вантробаў.* Старыя Смільгіні Воран. *Вантрубянку зварыла.* Азяраны Раг. *Антрабянкі з'ясі ў дарозе.* Пацаўшчына Дзятл. *Антрабянкі рабілі з печанёў.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Страўнік, начынены вантробамі. *Трыбух начыніш сэрцам, лёгкімі, усімі вантробамі — і вантрабянка.* Масілавічы Сл.

ВАНТРО'БА, ВЭНТРО'БА *ж.* Печань. *Можа яму вантроба баліць? Хворы на вантробу.* Жылі Іўеў. *Балела я на гэту вантробу.* Гемзы Шальч. *Вантроба — гэто печань.* Міратычы Карэл. *Вэнтроба — гэто пэчэнь.* Горск Бяроз.

ВАНТРО'БЫ, ВОНТРО'БЫ *мн.* Нутро, унутраныя органы. *Вантробы — гэто печань, ныркі, каса, лёхкія.* Малахоўцы Бар. *Выпотрошылі все вонтробы.* Горск Бяроз.

ВАНТРО'ПКІ *мн. памянш.* да в а н т р о́ б ы. *Зварыць і пасякая вантропкі.* Старыя Трокі Трак.

ВАНТРУБЯ'НКА *гл.* ВАНТРАБЯ'НКА

ВАНЦА'К *гл.* ВАНСА'К

ВАНЦАКАВА'ТЫ *прым.* Заўзяты. Стары Свержань Стаўб.

ВАНЦА'Х, ВАНЦА'Ч *гл.* ВАНСА'К

ВАНЮ'ЧЫ, ВАНЮ'ШЧЫ *прым.* Смярдзючы. *Е грып ванючы, ён карабасты.* Дзяніскавічы Ганц. *Ванючы грыб расце ў лесе.* Азяраны Раг. *Багун — трава ванюшчая.* Чычалі Швянч.

ВАНЯ'ЦЬ *незак.* Смярдзець. *Дзёгаць ваняе.* Дзяніскавічы Ганц.; *гл.* в а н е́ ц ь 1.

ВА'ПЕЛЬНІЦА *ж.* 1. Яма, з якой бяруць вапну. *Вапну бяруць у вапельніцы.* Кураполле Паст. 2. Яма, дзе паляць вапну. Магуны Паст.

ВА'ПНА *ж.* 1. Вапна. *Нада адгашваць вапну.* Чычалі Швянч. *Вапнай беляць дзерава.* Жодзішкі Смарг. *Вапнай печ белім.* Беразіно Докш. 2. Камень (на зубах). *У мяне вапна на зубах.* Старыя Трокі Трак.

ВАПРО'С *м.* Пытанне. *Маю вапрос да вас.* Міратычы Карэл.; *парафн.* руск. *вопрос* 'тж'.

ВА'ПСВА *ж. заал.* Аса. *Вапсва — як пчала, але мнейшая ад пчалы.* Быстрыца Астр.; *парафн.* літ. *vapsvà* 'тж'.

ВАР *м.* Кіпень. *Вар — вада, як кіпіць.* Груздава Паст. *У печы вар кіпіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мый галаву — загатаваўся вар.* Вязынка Маладз. *Спацеў, як варам абліло.* Асавец Віл.

ВА′РА *ж.* 1. Звараная кіслая страва. *Вара — буракі, капуста вараная.* Альхоўка Навагр. *Без кіслае вары чалавек галодны.* Альхоўцы Лях. *Нарву шчаўлю, на днэ вары.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Вараная страва наогул. *Вара — капуста, картофля, крупнік.* Груздава Паст. *Ёсць вара на вячэру.* Граўжышкі Ашм. *Вара — вараная ежа.* Масілавічы Сл. *Ці якой вары наварыла?* Альхоўка Навагр. *На ўсё вараная скажуць — вара.* Малахоўцы Бар. *Ест вара ў печы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Гусіны жыр укіняш у якую вару — і вара харошая.* Кіралі Шчуч. *Я ніякай вары ні ем.* Семежава Кап. *Чы шо варыла, чы якая вара е?* Сіманавічы Драг.

ВА′РАВА *гл.* ВА′РЫВА

ВАРАВА′ЦЦА *незак.* Баяцца, асцерагацца. *Нада варавацца яго. Варуйся яго, бо ён табе нешта устроіць. Ідзець і варуецца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Наш Косця не варуецца: усе пальцы пабіў, апохлі цяпер.* Ёдлавічы Брасл. *Я казала яму: ужо позна, не ідзі, варуйся.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* польск. *warować* 'сцерагчы, пільнаваць'.

ВАРАВА′ЦЬ *незак.* Думаць, меркаваць. *А я яшчэ варую, ці знімуць яга з прадсядацеля?* Груздава Паст.; *парайн.* польск. *warować* 'абумоўліваць, агаворваць ва ўмове'.

ВАРАВІ′ШЧА *н.* Частка агарода, дзе ў мінулым годзе раслі буракі і іншая агародніна. *На варавішчы пасадзілі капусту.* Рыбчына Віл.

ВАРАЖБА′ *ж.* Гаданне, замовы, чары. *Загаворы і варожбы ў гэту* [купальскую] *ноч былі самыя чарадзейскія.* Груздава Паст.

ВАРАЖБІ′Т *м.* Знахар. *У нас такіх варажбітоў не было.* Жылі Іўеў.

ВАРАЖБІ′ТКА *ж.* Знахарка. *Варажбітка некалі тут была.* Мярэцкія Глыб.

ВАРАЖЫ′ЦЬ *незак.* 1. Прыкмячаць, назіраць за з'явамі прыроды. *Даўней людзі варажылі, калі што сеяць, а цяпер не варожаць у калхозя і ўсё добра расцець.* Кураполле Паст. 2. Прадказваць. *Крутой маладзік варожыць на пагоду. Кот качаецца па зямлі — на цяпло варожыць, будзіць цёпла.* Малькуны Ігн. 3. Прарочыць. *Сава на радзіны варожыць. І салавей варожыць не к дабру.* Лайпушкі Ігн.

ВАРАЖЭ′Й *м.* Тое ж, што і в а р а ж б і т. Рыбчына Віл.

ВАРАЖЭ′ЙКА *ж.* Тое ж, што і в а р а ж б і т к а. *Пабягу я па гэту варажэйку, што яна адварожвае хваробу.* Баброўнікі Гарад.

ВАРАЗГІНЯ′ЦЬ *незак.* Хістацца. *Ён варазгіняіць ад ка-*

*навы да вуліцы, пашоў варазгіняючы ад рова да рова.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *varaizgýtis* 'хадзіць хістаючыся'; *гл.* в а р ы́ з г а ц ь.

ВАРАНЕ'Ц *м. бат.* Варанец. *Варанец падобны да дзяругі, дзве вілачкі выпускаіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Варанец, как дзеруга, толька на два вілачкі, для каров лекарства, еслі малако прападает.* Рагулішкі Даўг. *Варанец, як дзяруха. Варанец чалавечы ў балоці расцець.* Індра Красл.

ВАРАНЯ'К *м.* Варона. *Варанякоў цэлая стая ляціць.* ▽ *Вараняк калодзеся не капаў.* Дзяніскавічы Ганц.

ВАРАНЯ'ТКА *н.* Варанё. *Хлапчукі дастаюць вараняткі.* Гемзы Шальч.

ВАРАПА'Й *м. асудж.* Някемлівы, бесталковы чалавек. *Варапай — чалавек, які кідаецца, зробя быстра — і не так як трэба. Ляціць, як варапай, не глядзіць, што ўваліцца, ударыцца, тараплівы, бесталковы чалавек.* Рыбчына Віл.

ВАРА'ТАК *ж.* Тое ж, што і в а р. *Як варатак закіпіць, уліваяш рашчынку, тады кроў — гэта поліўка.* Магуны Паст. *Варатак узлія на кроў і варыць юшнік.* Быстрыца Астр. *У варатак яйко ўкінь!* Жодзішкі Смарг. *Кап у печы зварыць, так не, ні гэты варатак.* Ракаўскія Швянч. *Варатак — вар.* Жылі Іўеў. *Глядзі, не апарся, бо гэта варатак яшчэ.* Гемзы Шальч. *Хацела варатку згатаваць.* Ністанішкі Смарг. *Вараткам мыць ніткі.* Ракаўскія Швянч. *Муку варатком развядзеш, хлеба кусок укінеш — і кісніць.* Лайпушкі Ігн.

ВА'РАЎНЯ' *гл.* ВА'РЫЎНЯ'

ВАРАЦА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і в а н і т а в а́ ц ь. *Нудзіць — буду варацаць.* Чычалі Швянч. *Кот варацаіць — гані вон!* Мярэцкія Глыб. *Як пярап'е Міхал, яго варацаіць.* Ракаўскія Швянч.

ВАРАЦІНА' *ж.* Адна створка вялікіх варот. *Хлопцы вараціну ўсцягнулі на дзерава.* Лісна В.-Дзв.

ВАРАЧА'ЦЦА *гл.* ВАРО'ЧАЦЦА

ВАРАЧА'ЦЬ *гл.* ВАРО'ЧАЦЬ

ВАРВО'ЛІК *м.* Адходы пры перагонцы смалы. Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* руск. дыял. *варва* 'бруд, адходы ад бітай на бойні жывёлы' (Даль, I, 164); польск. дыял. *worwoł* 'адходы пры перагонцы смалы', літ. *var̃valis* 'тж'.

ВАРЖА' *ж.* Рыбалавецкая снасць, верша. *З лазы плялі і жывую рыбу лапалі — варжа называлася.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *vár̃ža* 'тж'.

ВАРЖАЛА'ПКА *ж. заал.* Верхаводка (уклейка). *Зверху ў рэчках плавая калюшка, варжалапка. У варжалапкі тоўсценькая галоўка.* Магуны Паст. *Зверху плавая уклейка, калюшка, варжалапка.* Быстрыца Астр.

ВАРЗУ'ЛА *м.* і *ж. зневаж.* Той, хто выказвае незадаваль-

ненне. *Варзула ты, усё табе нядобра!* Старыя Смільгіні Воран.

ВАРЗУ'ЛІЦЬ *незак. экспр.* Наракаць, скардзіцца. *Цёнгля ты варзуліш і варзуліш. Хлопцы варзулілі, што я ўсё ей купляю, а не ім.* Старыя Смільгіні Воран.

ВАРЛАВО'КІ *гл.* ВІРЛАВО'КІ

ВАРЛЫ'ЖЫЦЬ *незак. экспр.* Крычаць, гарлапаніць. *Што вы напіліся і варлыжыце.* Гемзы Шальч.

ВАРО'К *м. памянш.* да в а р. *Варком заварыш муку і прысалодзіш сахарам.* Саланое Віл.

ВАРО'НІ ЗУП *м. бат.* Спарыння. *Вароні зуп расце ў жыце.* Вострава Маст.

ВАРО'НЯЧАЕ ЖЫ'ТО *н.* Тое ж, што і в а р о́ н і з у п. *Як звяжэш то́го снапа з варонячым жытам, так рабый сноп.* Баброўнікі Гарад.

ВАРО'ПАЎКА *ж. заал.* Рапуха. *Варопаўка рые полё і сохне расценё.* Міратычы Карэл. *Варопаўка — жаба такая, што ў зямле.* Азяраны Раг.

ВАРО'ТА *мн.* Вароты. *Як з возам ехаць — аччынялі варота.* ▽ *Чужых варот не зачыніш* — чужому не загадаеш, як рабіць. Кіралі Шчуч.

ВАРО'ЎКІ *мн.* Пчолы, якія нападаюць на чужыя вуллі. *Варойкі нападаюць і крадуць мёд.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВАРО'ЦЦЫ *мн. памянш.* Брамка. *Вароццы — малыя, вароты — вялікія.* Магуны Паст.

ВАРО'ЧАЦЦА, ВАРАЧА'ЦЦА, ВОРО'ЧАТІСЕ, ВОРО'ЧАТЫСЬ *незак.* 1. Варочацца, пераварочвацца. *Не спала, усё варочалася.* Грыкені Вільн. *Врачы не разрашалі варачацца.* Ёдлавічы Брасл. *Ныяк ны міг заснуты, всэ ворочався.* Сіманавічы Драг. 2. Вяртацца. *Не захацеў варачацца.* Жодзішкі Смарг. *Я ш варачаюся, шкадую дзяцей. Так і не хацела, кап ён варачаўся.* Крэва Смарг. *Варачайся дахаты!* Жылі Іўеў. *Чого я вороткачымусь, поіду зразу за дровыма.* Сіманавічы Драг. ▽ *До свого гнізда і пташка ворочаеце.* Курашэва Чыж. 3. *перан.* Вяртацца да мінулага, аднаўляць. *Нэма што ворочатісе до того, што нэ вэрнэцце.* Курашэва Чыж. 4. Знаходзіць выйсце. *Аднаго кармлю, другога б'ю, во так варачаюся.* Старыя Трокі Трак.

ВАРО'ЧАЦЬ, ВАРАЧА'ЦЬ, ВОРО'ЧАТІ, ВОРО'ЧАТЫ *незак.* 1. Пераварочваць. *Ворочатыму гэтого мышка, а то ны пройты за ім.* Сіманавічы Драг. 2. Варочаць сена. *Пашлі варочаць сена.* Вострава Маст. *Тэраз мы сена варочалі.* Відаўцішкі Вільн. *Ідзіця варочайця сена.* Кіралі Шчуч. *Німа калі, пайду сена варачаць.* Ністанішкі Смарг. *Мы варачалі сена.* Жодзішкі Смарг. *Ходілі всіе сіено ворочаті, коп лепш сохло.* Курашэва Чыж. *Поснідавшы, ворочатымо сіно, а оповдні грыбстымо.* Сіманавічы Драг. 3. Вяртаць назад. *Яго назат ва-*

*рачаюць*. Паляцкішкі Воран. *Эй, варачайця яго назат*. Стральцы Шальч. *Далэй ны поідымо, ворочаймо коня назад*. Сіманавічы Драг.

ВАРО'ШКА *ж*. 1. Тое ж, што і варажбітка. Магуны Паст. *Дайней варошкі былі, прыметы знали*. Старыя Смільгіні Воран. 2. Благая прыкмета ў забабонах. *Варошка дайней была, што людзі абераґаліся браць на дровы рашчапаныя дрэвы пяруном*. Гемзы Шальч. *Я варошкаў не меў*. Жылі Іўеў.

ВАРСТА'К *м. цясл*. Варштат. *Я ў варстаку габлявау усё, як майстравау стол ці што інш*. Ахрэмаўцы Брасл.

ВАРСТА'Т *м*. 1. Тое ж, што і варста́к. *У варстаце ест трубы і кліны зажымаць вешч, кап не рухалася*. Гемзы Шальч. *На варстаця габлююць*. Магуны Паст. 2. Ткацкі станок. *На варстаце ткуць*. Грыкені, Відаўцішкі Вільн. *Кросны— гэта варстат*. Швэды Вільн. *Дайнейшыя прастыя кросна, а пазней — варстат, адной рукой ткуць, а ў кроснах — дзвама рукамі*. Дакудава Лід. *Старыя кросна — гэта просты станок, варстат — навейшыя кросна*. Альхоўка Навагр. *Варстат — сталярскай работы, яго пазней рабілі*. Стральцы Гродз.

ВА'РТА у саставе *безас. прэдык*. 1. Па заслугах, так і трэба. *Варта дзягі табе дāць*. Ністанішкі Смарг. *Варта ей, няхай судзюць*. Гемзы Шальч. 2. Карысна, мае сэнс. *Дрэнная зямля, не варта яе і гараць — там нічога не родзіць*. Гемзы Шальч.

ВАРТАЎНІ'К, ВАРТАЎШЧЫ'К *м*. Стораж. *Вартаўнік вартуя сат у саўхозі*. Кіралі Шчуч. *Вартаўшчык дзяжурыў вёску ад агня, ад зладзеяў ахоўвау*. Магуны Паст.

ВАРТНЕ'ЙШЫ *прым. выш*. Даражэйшы, лепшы. *Саковічыхі вартнейшы дом, чым твой*. Ахрэмаўцы Брасл.

ВА'РТЫ *прым*. Годны. *Куды ён варты?* Чычалі Швянч. *Яна нічога не варта, а што ён варты?* Альхоўцы Лях.

ВАРУШЫ'ЦЦА *незак*. 1. Кратацца, рухацца. *Нешта варушыцца ў мяшку — глядзі, мыш прынёс*. Дзяніскавічы Ганц. 2. Ледзь рухацца. *Наш стары чуць варушыцца*. Мсцібава Ваўк.

ВАРУШЫ'ЦЬ *незак*. 1. Кратаць, рухаць. *Яму рука баліць, не варўшыць пальцам*. Альхоўцы Лях. 2. Варочаць. *Сена разбіваюць, а патом варўшаць*. Малахоўцы Бар. *Сена варўшаць, як патсохне*. Альхоўцы Лях.

ВАРЧУКО'ВЫ, ВАРЧАКО'ВЫ *прым*. Прыпражны. *Варчуковы конь — на ворчыку, на прыпрашцы*. Масілавічы Сл. *Варчаковы вол — вол, якога прыпрагалі*. Азяраны Раг.

ВАРЧЭ'ЙШЫ *прым. выш*. Гладчэйшы. *Пожах да памяла рабілі з гарэшыны, бо гарэшына варчэйшая — рукі не пастраміш*. Кіралі Шчуч.

ВА'РЫВА, ВА'РАВА *н*. 1. Гародніна. *У нас варыва — буракі, капуста*. Ракаўскія Швянч. *Пасадзіла варыва*. Вязынка

Маладз. *Усё, што ў гародзе пасаджана,— варыва. Куры варыва дзяруць. Куры былі на варыве.* Крэва Смарг. *Варава, што ў гародзе расце: бацвінне, буракі, капуста.* Груздава Паст. 2. Націна буракоў. *Зелянь, якую варыш, бацвіння — гэта варыва.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 3. Вараная кіслая страва (капуста, буракі). *Варыва — капуста і буракі вараныя. Як мяса свежая — смачная вара. Я без варыва жыць не магу.* Гемзы Шальч. *Мама варыва варыла і крупы.* Кураполле Паст. *Варыва — шчавель, як варацъ.* Беразіно Докш. *Раней варыва — буракі, шчавель.* Паляцкішкі Воран. 4. Вараная страва. *Я звару такоя варыва: нарву сцінбіркоў ад красных буракоў, паварацца, патом сажару сала—і туда.* Індра Красл. *Я сягоння варыва не зварыла.* Ракаўскія Швянч. *Паглядзімо, яке ты варава наварыла.* Пацаўшчына Дзятл. 5. Квашаная гародніна. *Нада паставіць бочку бацвіння на варыва.* Мярэцкія Глыб. *Квашаная капуста, агуркі, бурачкі — усё разам называюць варыва, стаіць у стопцы.* Рудня Астравітая Чэрв. ▽ *Якое варыва? — еш не перагаварывая!*— не будзь пераборлівым у ядзе. Мішневічы Шум.; *гл.* в а́ р а.

ВАРЫ′ЗГАЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнае. *Як вып'я — варызгая, што ні трэба, робіцца дурны.* Рыбчына Віл.; *параўн.* літ. *varyzgà* 'балбатун', *varỹzgoti* 'балбатаць'.

ВА′РЫЎНЯ′, ВА′РАЎНЯ′ *ж.* Памяшканне для захавання агародніны. *Ва́рыўня была ў нас.* Мярэцкія Глыб. *У варыўні бульба.* Ухвала Круп. *Была ва́раўня бульбу ссыпаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ззадзі хаты — ва́раўня, сені. У ва́раўню бульбу ссыпаем. Даўней звалі істопкі.* Магуны Паст. *У ва́раўні гуркі стаяць.* Саланое Віл. *Тут у нас ва́раўня́, там стаўня стаіць.* Ракаўскія Швянч.

ВАРЫ′ЦЬ I *незак.* 1. Гатаваць страву і інш. *Матка варыла есці.* Дзяніскавічы Ганц. *Баба есць варыць.* Паляцкішкі Воран. *Вячэру трэба варыць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Даўней з канаплянага семя варылі сметану.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. *перан.* Разумець, цяміць. *Як чыя галава ва́рыць, так той робіць.* Кураполле Паст. *Галава ні варыць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВАРЫ′ЦЬ II, ВАРЫ′ТЫ, ВАРЫ′ТІ *незак.* 1. *безас.* Парыць (пра надвор'е). *Ну й гарачота, ну й варыть, мусыть, дошч будэ.* Сіманавічы Драг. *На дворыэ так варыт, мусі, дошч будэ.* Курашэва Чыж. 2. *экспр.* Ліць як з вядра. *Ну і варыць дошч.* Малькуны Ігн. *От дошч тамака варыў!* Гемзы Шальч.

ВАРЭ′НІКІ *мн.* 1. Бульбянікі. *Варэнікі рабілі з бульбы: наварацъ бульбы з лупінамі, яе абдзяруць, таўкачом умесяць, ячнай мукі ўсыпяць, потым патаўчэ каноплі гаспадыня і ў бульбу, перамяшая, расплешча, а канаплю таўчоную на расплешчаную бульбу і запякаяць.* Вязынка Маладз. 2. Мучныя

галушкі. *Варэнікі рабілі так: галушкі, бывала, з аржаной мукі кідаюць у вар і запраўляюць у мак, семя тоўчанае.* Вецярэвічы Пух.

ВАР'Я'ЦІЦЦА *незак.* Вар'явацца. *Чаго ты вар'яцісся?* Бакшты Іўеў.; *парайн.* польск. *wariować* 'вар'яцець'.

ВАСАЛЕ'Й *прысл.* 1. Весялей. *У горадзе будзя васалей.* Жылі Іўеў. *Учора было васалей. З вамі васалей.* Старыя Трокі Трак. *Васалей было: хлопцы прыдуць, дзеўкі.* Ракаўскія Швянч. 2. Лепей. *Было п васалей згубіць дваццаць рублёў грошай, чым насіць такія порткі.* Магуны Паст.

ВАСАЛО' *гл.* ВАСО'ЛА

ВАСАРВА'ГА, ВІСАРВА'ГА *ж. цясл.* Грунтвага. *Васарвага ў плотнікаў.* Чычалі Швянч., Беняконі Воран., Быстрыца Астр. *Васарвага ў майстроў, што хаты робяць, каб роўныя вуглэ, сцены былі.* Галубы Маст., Пацаўшчына Дзятл. *Як ставяць дом, васарвага змярая, кап роўна класці бервяно.* Дакудава Лід. *Васарвага — што п плашчак быў роўны, мерыць.* Старыя Трокі Трак. *Вісарвага — такое палена і шкельцы, і очка, як муруе дом, кладзе на сцяну.* Грыкені Вільн.; *парайн.* ням. *Wasserwage* 'тж'.

ВАСІМНА'ЦАЦІРА *ліч. зб.* Васемнаццаць. *Даўней па васімнацаціра дзяцей было ў матак.* Курапалле Паст.

ВАСКАВІ'НА *ж.* Адходы ад воску (калі яго растапляюць). *З васком васкавіна.* Судэрва Вільн.

ВАСКАВІ'ЦА *ж.* Вада, у якой растапляўся воск. *Кагда вываруем воск, вада пахне, воск наверх выходзя, як лёд замярзая, а вада пахня. Аблей васкавіцай вуляй — дае запах на поўкілометра.* Азяраны Раг.

ВАСКАЖА'ЦІНЫ *гл.* ВАСКАЗА'ЧЫНА

ВАСКАЗА'Ч'Е *н.* Тое ж, што і в а с к а в і н а. *Як сок прывозілі з лесу, то вельмо добро класці васказач'е ў квас, вельмо пахне хорашо, прыятны квас.* Дзяніскавічы Ганц.

ВАСКАЗА'ЧЫНА *ж.*, ВАСКАЖА'ЦІНЫ *мн.* Тое ж, што і в а с к а в і н а. *Воск як выціснуць — астаецца васказачына.* Дзяніскавічы Ганц. *Васкажаціны ад воску.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ВАСЛА' *ж. заал.* Аса. *Васла ўляцела ў хату. Вослы кусаюцца.* Саланое Віл.

ВАСО'ЛА, ВАСАЛО' *прысл.* Весела. *Як, васола было?* Магуны Паст. *Васало было, як я дзеўкай была, ды хадзілі падліваць капусту і пелі.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *wesoło* 'тж'.

ВАСО'ЛАСЦЬ *ж.* Весялосць. *Эй, будзе васоласць, божа ратуй!* Чычалі Швянч. *Нека васоласць нашла на мяне.* Крэва Смарг.; *парайн.* польск. *wesołość* 'тж'.

ВАСО'ЛЫ *прым.* Вясёлы. *Чаго ты смутны, чаму не васолы?* Талейкі Швянч. *Яна васола была, спявала, а цяпер маў-*

*чыць ад гора.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *wesoły* 'тж'.

ВАСПАВА'ТЫ *прым.* Пашкоджаны воспай. *Яго твар васпаваты, як рашпіль.* Кураполле Паст. *Яна васпаватая.* Жылі Іўеў., Магуны Паст.

ВАСПАРЭ'ННЯ *н.* Парнасць. *Васпарэння велька перат дажджом.* Дакудава Лід., Старыя Трокі Трак.

ВАСПІТО'НІЦ *м.* Выхаванец. *Яго ўзялі за васпітонца, ён бадзяюшчы быў.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *воспитанник* 'тж'.

ВАСТО'ЧНІК *м.* Мужчына з усходу Беларусі. *Яна пашла замуш за васточніка, ён с-пат Магілёва.* Малахоўцы Бар.

ВАСТО'ЧНІЦА *ж.* Жанчына з усходу Беларусі. *Васточніца яна, бацька жаніўся ў канцы вайны.* Малахоўцы Бар.

ВАСЬМІНА'ЦЦАТЫ *ліч.* Васемнаццаты. *Шаснасты гот пашоў яму ад васьмінаццатага чысла.* Жодзішкі Смарг.

ВАСЬМІНІ'ТНІКІ *мн. ткац.* Палатно на абрусы, ручнікі, тканае ўзорамі ў восем нітоў. *Даўней васьмінітнікі ткалі.* Лісна В.-Дзв.

ВАСЬМІНІТО'ВЫ *прым. ткац.* Тканы ў восем нітоў. *Гэты абрус васьмінітовы.* Валынцы В.-Дзв.

ВАСЬМІРЫКО'ВЫ *прым. ткац.* Тое ж, што і в а с ь м і н і т о́ в ы. *Васьмірыковыя абрусы ткалі.* Гемзы Шальч.

ВАСЬМІТЫ' *мн. ткац.* Тое ж, што і в а с ь м і н і т н і к і. *Васьміты ў шаснаццаць пасам ткалі.* Валынцы В.-Дзв.

ВАСЬМЯРНЁВЫ *прым. ткац.* Тое ж, што і в а с ь м і н і т о́ в ы. *Васьмярнёвыя абрусы і ручнікі ткалі.* Кураполле Паст.

ВАСЬМЯРНІ' *мн. ткац.* Тое ж, што і в а с ь м і н і т н і к і. *Васьмярні — гэта ў восім нітоў абрусы і рушнікі.* Валынцы В.-Дзв. *І мы васьмярні ткалі.* Кураполле Паст.

ВАСЭ'ЛЕ, ВАСЭ'ЛЯ *н.* Вяселле. *Яны едуць на васэле.* Грыкені Вільн. *Тры-чатыры дні васэле гуляюць.* Швэды Вільн. *Васэля спраўляюць.* Індра Красл. *Даўней з вандзэлкам на васэля ішлі: у полку ўвяжа бохан хлеба, пірох, гарэлку, кумпяк.* Старыя Трокі Трак. *Яны строяцца да васэля.* Гемзы Шальч. *На васэля просіць. Пазнаёміліся на васэлі.* Магуны Паст. *Вай, даўней васэлі былі!* Крэва Смарг. *Квашаніну рабілі, як пахарон альбо васэля.* Ракаўскія Швянч. *Калісь васэля рабілі не так, тэрас начай.* Паляцкішкі Воран. *Кончылася васэля і тады правады.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *wesele* 'тж'.

ВАСЭ'ЛЬНЫ *прым.* Вясельны. *Васэльныя песні пяялі.* Талейкі Швянч.

ВА'ТА *ж.* Рыбалоўная снасць. *Вата — як савок, у ваце душка, адна частка душкі прамая, а над ёй — гнутая, як дуга, ад душкі ідуць прутке даўгаватыя. Трэба вату вывязаць. Жарало ў ваце вялікая і з вялікім прутом.* Вецярэвічы Пух. *Вата с крыламі, удваіх цягнуць.* Стральцы Гродз.

ВАТА′ГА *ж.* Чарада. *Ватага ваўкоў бегла, ватагамі збіраліся ваўкі.* Кураполле Паст.; *параўн.* руск. *ватага* 'натоўп, гурт, чарада'.

ВА′ТКА *ж.* Звадка. ∇ *Нет той хаткі, кап не было ваткі — сварацца, а часам і б'юцца.* Кураполле Паст.

ВА′ТКІ *прым.* Вадзяністы, набраклы. *Бывала, гупку вываравяць, яна ваткая такая, потым сушылі яе, неяк красалі агонь.* Крэва Смарг.

ВАТО′ЎКА *ж.* Вопратка з даматканага сукна. *Ватоўку с сукна шылі, на ваце.* Грыкені Вільн. *Ватоўка кароткая на ваце.* Баброўнікі Гарад.

ВАЎКАВА′ТЫ, ВОВКОВА′ТЫЙ *прым.* Нелюдзімы, скрытны. *Ваўкаваты ў яе мужык — ні с кім ні пагаворыць.* Мачаск Бярэз. *Вовковатый чоловік, вын мало шо роскажэ.* Сіманавічы Драг.

ВАЎКАЛА′К *м. фальк.* Пярэварацень. *У гэту ноч, старыя людзі казалі, перад Янам вродзі ваўкалакі, русалкі хадзілі. Гэта ноч — была ноч чараў.* Груздава Паст. *Ваўкалаке — такія чараўнікі хадзілі.* Каўняны Гродз.

ВАЎКАЛА′КА *ж. фальк.* Тое ж, што і в а ў к а л а́ к. *Казалі, што маладуху зробяць на ваўкалаку — і пабяжыць у лес.* Каўняны Гродз.

ВАЎКАЎНЯ′ *ж.* 1. Яма для лоўлі ваўкоў. *На ваўкоў капалі яму — шырокую спаднізу і ўверх вускую, звалі ваўкаўня.* Альхоўцы Лях. 2. *зб.* Чарада ваўкоў. *Многа пабегла ваўкаўні.* Саланое Віл.

ВАЎКА′Ч *м. асудж.* Злосны чалавек. *Ваўкач, звярына ты!* Альхоўка Навагр.

ВАЎКАЧЭ′ толькі *мн. бат.* Ваўчкі. *Во як ваўкачэ за панчохі начапіліся.* Галубы Маст.

ВАЎКЕ′ толькі *мн. бат.* Тое ж, што і в а ў к а ч э́. *Ваўке як наколюцца — не абярэшся.* Пацаўшчына Дзятл.

ВАЎНЯ′НАК *м. бат.* Ваўнянка. *Ваўнянак — харошы грыб, яго ядуць, мы бяром.* Асавец Віл.; *гл.* в а л н у́ ш к і.

ВАЎНЯ′НЫ *прым.* Шарсцяны. *З ваўняных нітак ткалі. Льняная ці ваўняная аснова?* Грыкені Вільн.

ВАЎРА′ЙЧЫК *м.* Дарадчык, сват. *Ваўрайчык ён, бо я зрабіла так, як ён параіў. Гэты ваўрайчык ураіў яе за яго.* Талейкі Швянч.

ВАЎЧА′К *м.* Малады воўк. *Ваўчак і старая ваўчыца беглі.* Бакшты Іўеў.

ВАЎЧАНЁ *н.* Дзіцяня ваўка. *Ён ваўчанё забіў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ваўчанё прынёс з лесу.* Рыбчына Віл., Жодзішкі Смарг. *Аднаго разу ваўчанят папрыбівалі да сасны, а ваўчыца ўсіх свіней падавіла — атамсціла за дзяцей.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВАЎЧАНЮ′К, ВАЎЧАНЯ′К *м.* Тое ж, што і в а ў ч а н ё.

*Прынёс ваўчанюка з лесу.* Гемзы Шальч. *У лесе натрапіў на нару, а там — ваўчаняк ляжыць.* Азяраны Раг.

ВАЎЧАНЯ'ТКО *н.* памянш.-ласк. да в а ў ч а н ё. *Пагляджу ў нору — аж там ваўчанятка — мажнейшыя, як Юлькаў сабачка.* Альхоўцы Лях.

ВАЎЧА'РКА *ж. бат.* Сівец. *У нас ваўчарка расцець, яе каля лесу многа.* Малькуны Ігн.

ВАЎЧО'К I *м.* Бусак з некалькімі кручкамі на канцы. *У мяне ёсць ваўчок, што даставаць вядро із студні, як утопіцца.* Гемзы Шальч.

ВАЎЧО'К II *м.* Верх страхі, вільчык. *Трэба трэння нацягаць і ваўчок залажыць на страсе.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВАЎЧО'К III *м. заал.* Насар. *Ваўчок — як ёрш, толькі большы, нос длінейшы і пятны чорныя на ім.* Глівін Барыс.

ВАЎЧЫ'НЫ *прым.* Воўчы. *Там самы ваўчыны перахот.* Груздава Паст.

ВАЎЧЫ'НЫЯ БЗДЗІ'НЫ *мн. бат.* Порхаўка. *Ваўчыныя бздзіны як націснеш — пыл з яго прэць сколькі сілы.* Мярэцкія Глыб.

ВАЎЧЫ'НЫЯ, ВО'ЎЧЫЯ ГРЫБЫ', ВО'ЎЧА ГРЫБЭ' *мн. бат.* Неядомыя грыбы, паганкі. *Кінь, гэта ваўчыныя грыбы.* Беразіно Докш. *Воўчыя грыбы не ядзяць.* Дзяніскавічы Ганц. *Воўча грыбэ не вары — атруесся.* Кіралі Шчуч.

ВАЎЧЫ'НЫЯ, ВО'ЎЧЫЯ КРАСЫ' толькі *мн. біял.* Перыяд цечкі ў ваўкоў. *Ваўчыныя красы бываюць у раштоўку.* Валынцы В.-Дзв. *Воўчыя красы — перыят такі, воўкі гуляюць.* Індра Красл.

ВАЎЧЫ'ЦА I *ж.* Ваўчыха. Мярэцкія Глыб., Грыкені Вільн., Гемзы Шальч. *Быў случай адзін: пашоў я ў лес, у грыбы, гляджу — ваўчыца двух ваўчанят вядзець.* Саланое Віл.

ВАЎЧЫ'ЦА II *ж. бат.* Тое ж, што і в а ў ч а́ р к а. *Ваўчыца расце каля лесу, яна перамерзня і косяць.* Быстрыца Астр.

ВА'ХКАЦЦА *незак.* Гайдацца зверху ўніз, вагацца. *Асвер толькі вахкаіцца, як ваду бяруць.* Саланое Віл.

ВАХКІ' *прым.* Важкі. *Плацце вахкое, мацерыя вахкая.* Саланое Віл.

ВАХЛА'ТКА *ж.* Футравая шапка. *Вахлатка у яго была, футраная.* Рыбчына Віл.

ВАХТАВА'ЦЦА *незак.* 1. Гушкацца. *Даўней дзеўкі, хлопцы вешаюць калыску у таку і як яны вахтуюцца.* Рыбчына Віл. 2. Віхляцца. *Піла вахтуіцца, як адзін пілуіш дровы.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* літ. *vaktúoti* 'калыхаць з разгонам' (пра дзіця ў калысцы).

ВА'ЦІЛНА *ж.* Вяроўка ў рыбалоўнай снасці. *Вацілна прывязваецца да душкі таптухі.* Вецярэвічы Пух.

ВАЧАВІ'ТКА *прысл.* Увачавідкі. *Я вачавітка не бачыла,*

*але людзі расказвалі, што чэрці плудзяцца ў Дзярвіне* [назва балота]. Кураполле Паст.

ВАЧАКАВА'ТЫ *прым. біял.* З парасткавымі вочкамі. *Вачакаватая бульба.* Гемзы Шальч.

ВАЧАЛУ'ПЫ *прым.* Вірлавокі. *Вачалупы нейкі маліц.* Валынцы В.-Дзв. *Вачалупы нейкі пашоў.* Лісна В.-Дзв.

ВАША' *ж.* Вош. *Цяпер дзеці ня знаюць, што за ваша.* Рагулішкі Даўг. *Даўней зберацца і вашэй шукалі, а цяпер німа ні вашэй, ні блох.* Ёдлавічы Брасл.

ВАШАВА'ЦЬ, ВАШОВА'ТЫ *незак.* Інтэнсіўна і напружана працаваць на цяжкой рабоце. 1. Выцягваць бярвенне з вады на бераг ракі. *Паедзем вашаваць лес. Ён лес вашаваў.* Рыбчына Віл. *Лес вашуюць.* Кіралі Шчуч. 2. Насіць, варочаць каменне. *Цяшко майстрам, як каменя вашуюць. Пайду вашаваць вялёзныя каменя.* Вострава Маст. 3. Насіць, падымаць ваду, сена, бульбу і інш. *Вот вашуя — цяшка насіць.* Быстрыца Астр. *Вашуя ваду паліваць гарот.* Бакшты Іўеў., Рыбчына Віл. *Вашуюць сена, канюшыну. Мы цэлую ноч вашавалі.* Кіралі Шчуч. *Нада вашаваць канюшыну — высако падымаць.* Гемзы Шальч. *Узялі канюгу і вашавалі — даставалі шуфлямі картошку са склепа.* Дакудава Лід. *Усю ноч віку вашаваў.* Старыя Смільгіні Воран. *Сена вашавалі на вос.* Мсцібава Ваўк. *Вашуе сіно, мышкы, дэрыво.* Сіманавічы Драг. 4. Працаваць доўга, цяжка. *Вашаваў цэлы дзень.* Асавец Віл. *Вашаваць — цяшка работаць, перакладаць што-н.* Старыя Трокі Трак. *Цэла лета вашуя і вашуя адна, кап хоць хто памох.* Засецце Дзятл. *Вот вашаваў сёння многа.* Кураполле Паст. *Ідзі ты вашуй! — Я не пайду вашаваць, я сама сабе цяшкая.* Кіралі Шчуч. 5. Калыхаць дзіця. *Аберучкі вашую дзіця—і не спіць.* Вецярэвічы Пух. *Гэто дзіця вашуй і вашуй.* Вострава Маст. *Вашую гэту колыску вашую, вжэ рук ны чуты.* Сіманавічы Драг. 6. Рыць зямлю (пра свіней). *Вашуя свіня пругмень — німа рады.* Міратычы Карэл., Альхоўцы Лях. *Свіння вашуюць сенакос, картошку звашавалі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вашуюць свінні зямлю.* Мачаск Бярэз. 7. *пераn.* Гарэзаваць. *Што ты тут вашуеш, дурэіш?!* Ухвала Круп. *Не вашуй! — Упіўся, дык спаць кладзіся!* Беразіно Докш.; *парайн.* польск. *waszować* 'выцягваць з вады бярвенне ў час сплаву лесу' (СВ, VII, 472), літ. *vą̃šúoti* 'цягаць, цяжка працаваць, размякчаць скуру, біць, вымаць кручком' (ЛТ, 170).

ВАШАНО'Г *м.* Карантыш. *Пётр — вашаног і нерослы.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *vą̃šas* 'крук'.

ВАШАНО'К *м. памянш.* Вашанё. *З вашанка вырасце велька вош.* Мсцібава Ваўк.

ВА'ШКА I *ж. заал.* Страказа. *Вашкі летаюць ля вады.* Мсцібава Ваўк. *Е інашчыя вашкі — у выглядзе палачкі.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *ważka* 'тж', літ. *ožkà* 'конік'.

ВА′ШКА II гл. ВА′ЖКА
ВА′ШКІ′ гл. ВА′ЖКІ
ВАШОВА′ТЫ гл. ВАШАВА′ЦЬ

ВАШО′ЎКА *ж.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова в а ш а в а́ ц ь 1. Працэс выцягвання бярвення з ракі. *Патцэплівалі лес і выцягвалі на сушу — гэта вашоўка.* Глівін Барыс.

ВАШТА′Й *м.* Той, хто кіруе канём у час вывазу гною на поле. *Вашта́і гной перавозілі. Талакой вывозілі гной: вашта́й вязе вос з гноям, а потым перадае другому — падвозіў да другога. Мы* [дзеці] *былі вашта́і — коняй падганялі.* Магуны Паст. *Як гной дзе ў талацэ возюць і хлопцы коні водзюць — іх завуць вашта́і.* Кураполле Паст. *Я коні вадзіла, вашта́ём была, гной як вазілі, і зарабляла пяць капеік у пана.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* літ. *vėžti* 'вазіць'.

ВАШЧУРЫ′НЫ *мн.* 1. Соты. *Чысты воск, неналеяны мёдам, называюць вашчурыны.* Азяраны Раг. 2. Вашчына. *Кагда хочыш аддзяліць вашчурыны, кладзеш у торбу і мёд выціскаюць, а вашчурыны астаюцца ў дзяружнай торбе.* Азяраны Раг. 3. Вашчына штучнага вырабу. *Гатовыя вашчурыны купляюць. На вашчурыны ставяцца чаркі.* Азяраны Раг.

ВАШЧЫ′ЗНА *ж.* Вашчына. *З вашчызны топяць воск.* Мсцібава Ваўк.

ВАШЧЫ′НА *ж.*, ВАШЧЫ′НЫ *мн.* 1. Пустыя пчаліныя соты. *Вашчына як старая — чорная.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Соты з мёдам. *З вашчыны мёт выціскаюць. Лошкамі з вашчынамі елі мёт.* Саланое Віл. 3. Вашчына штучнага вырабу. *Гэты цалы пляц воску прадаюць і купляюць вашчыну.* Гемзы Шальч. *І штучна вашчына ест.* Мсцібава Ваўк. *Вашчыну робяць з воску.* Рудня Астравітая Чэрв. *З кілаграму воску можна зрабіць дванаццаць-чатырнаццаць вашчын.* Груздава Паст. 4. Адходы ад воску. *Ажымак, вашчыны астаюцца на сіці.* Кураполле Паст. *Вашчыны ад воску.* Саланое Віл.

ВАШЧЫ′ЦЬ, ВОШЧЫ′ТЫ *незак.* Націраць, насычаць воскам. *Дратву вашчылі воскам.* Грыкені Вільн. *Вошчыла нытку.* Сіманавічы Драг.

ВАШЫ′ЛЯЦ *м. абразл.* Вашывец. *Кап высах ён, вашыляц гэты!* Міратычы Карэл.

ВАШЭ′ННЫ *прым.* Высачэзны. *Летась такія вашэнныя кукурузнікі былі.* Азяраны Раг.

ВАЯВА′ЦЬ *незак.* Буяніць, біцца. *Ён ваюіць, б'ецца цэлы дзень.* Саланое Віл.

ВАЯ′КА, ВОЯ′КА *м.* 1. Воін. *Ваякі пабіты былі.* Валынцы В.-Дзв. 2. *іран.* Салдат. *Якый с тыбэ вояка будэ?* Сіманавічы Драг. 3. Задзіра. *Гэтой вояка знов побывся.* Сіманавічы Драг.

ВБІЕ′ГОМ гл. БЕ′ГАМ

ВДО′МА *прысл.* Дома. *Ны буў вдома, вона була вдома.* Відзібар Стол., Сіманавічы Драг.

ВЕ′ГАЦЬ *м.* Вехаць. *Ест вегаць мыць пасуду.* Мсцібава Ваўк.

ВЕ′ДАМА *пабоч.* Вядома. *Ведама, такая вышына!* Вязынка Маладз. *Ведама, хата пустая, ні жыта.* Малахоўцы Бар.

ВЕ′ДАЦЬ *незак.* 1. Мець уяўленне аб чым-н. *Я ўсю пушчу ведаю, дзе які востраў, дзе гало. Бацько тут жыў, то ўсю пушчу ведаў. Мо што людзі і ведаюць, як даўней было.* Дзяніскавічы Ганц. *Я ведала ўсе кусцікі.* Альхоўцы Лях. 2. Мець навык, практыку. *Як матка прыдзе, то ведацьме, што зварыць.* Навасёлкі Свісл. 3. Уяўляць, разумець. *Яна з радасці не ведаіць, як са мной гукаць.* Саланое Віл. 4. Мець звесткі аб наяўнасці каго-н. ці чаго-н. *Ці ведаеш ты, дзе ён?* Вецярэвічы Пух. *Не ведаеш ты, у каго плуг ёсць?* Гемзы Шальч.

ВЕ′ДЗЬМА *ж. абразл.* Сярдзітая жанчына. *Нехай гэты ведзьмы палучаюць!* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЕДЗЯРКО′ *н. памянш.* Вядзерца. *Трэба ведзярко сагрэць вады.* Магуны Паст.

ВЕДЗЯРЦО′ *н.* Тое ж, што і в е д з я р к о́. *Ведзярцо вынясі на двор.* Асавец Віл.

ВЕДЗЯЯ′, ВІДЗЯЯ′ *ж. рыб.* Рыбалоўная сетка, браднік. *Ведзяя — абруч і да абруча вялікая сетка і дзве палкі, ловяць удваіх, цягнуць па рацэ.* Рыбчына Віл. *Відзяя — гэта сетка: дзве лоткі, а яна пасярэдзіня.* Жодзішкі Смарг.; *параўн.* літ. *vedėjà* ’тж’.

ВЕДРАВІ′К *м.* Драўляная бочачка, якая змяшчае адно вядро вадкасці. *Ведравік — само меншэ барылка.* Судэрва Вільн.

ВЕ′ІЛКА *гл.* ВЕ′ЯЛКА

ВЕ′ІЦЬ *гл.* ВЕ′ЯЦЬ

ВЕ′ЙДАЦЦА *незак.* 1. Жыць самотна, не ўступаць у шлюб. *Вейдаецца, замуш не ідзе. Ён сам вейдаецца.* Баброўнікі Гарад. 2. Дрэнна, няўмела працаваць. *Не можэ працаваць, вейдаецца.* Баброўнікі Гарад.

ВЕЙКА′ЛІС *м.* Пляменнік. *Сын брата і сын сястры — вейкаліс.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* літ. *vaikẽlis* ’тж’.

ВЕ′ЙКІ *мн.* Павекі з вейкамі. *Кідала дрова ў печ і вейкі абсмаліла.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЕК, ВІК *м.* 1. Узрост. *У маладым вяку інцярэсна было жыць.* Рыбчына Віл. *Сына ўбіла ў маладым веку.* Дзяніскавічы Ганц. *У маладом веку памёр чалавек.* Рудня Астравітая Чэрв. *З гэтага веку не прадуць, не ткуць.* Ракаўскія Швянч. *У старым веку чалавек ня помніць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Очань цяжолая апірацыя ў такім веку.* Шамялі Брасл. 2. Жыццё, перыяд існавання чаго-н., каго-н. *Бывало, век — да сто лет, век чалавека.* Чычалі Швянч. *Старыя мы, наш дзень — век.* Гемзы Шальч. *Усякіх прычын на вяку бывая. На вяку ўсяго было.* Азяраны Раг. *Я цілый вік быдую. Вкоротылы ёму віку.*

*Я вжэ старая, я вжэ вік збуваю. Короткый в ёго вік.* Сіманівічы Драг. *Цэлы век так жыю.* Гемзы Шальч. *Яна век гаруя.* Азяраны Раг. 3. Ніколі. *Я век не думала, што за яго пайду* [замуж]. Ахрэмаўцы Брасл. *Цябе век ні найдзіш дома — усё ты ў хаду.* Валынцы В.-Дзв. *Вона вік ны схочэ гэтого робыты.* Сіманавічы Драг. 4. Стагоддзе. *Пройдуць вяка — і многа перамеціцца.* Дзяніскавічы Ганц. ▽ *Век жыць — не мех шыць.* Саланое Віл. *Кашэчы век жывеш, сабачы век пражыў.* Бакшты Іўеў. *Жыве чалавек медовый, гнездовый, собачый і без'яны век.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Хто будзіць ліжаць — той век веку перадасць — не зносіцца такі чалавек.* Саланое Віл. *Век чалавек жывець — і дураком уміраіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пэршых дваццэть літ чоловік жывэ чоловічы рокы, чоловічый вік, другы дваццэть літ — воловый вік, шэ дваццэть — собачый вік, шэ дваццэть — навпын, мавпын, вік. Сорок рык — бабын вік.* Сіманавічы Драг. ◇ *Цёмным векам* — гаруючы. *Я цёмным векам жыву.* Дакудава Лід. *Веку не дажыць* — заўчасна памерці. *Яна веку не дажыла — забіў яе мужык.* Кураполле Паст. *Ужо веку дажыла баба, а яшчэ крэпкая.* Саланое Віл.

ВЕ'КА I, ВЕ'КО *н.* 1. Накрыўка на кубел, куфар, скрыню. *Века да кубла было і палачка.* Саланое Віл. *У куфру пукато веко.* Малахоўцы Бар. *Скрыня закрывалася векам, і кубел на адзежу закрываўся векам.* Дзяніскавічы Ганц. *Замуш некалі шлі с кубламі: века і палкай замыкаўся.* Крэва Смарг. 2. Застаўка ў вуллі. *Збоку уля закрывалася века.* Саланое Віл.

ВЕ'КА II *н.* Павека. *Валаскі на веку, а над векам бровы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВЕКАВУ'ХА *ж.* Старая дзеўка. ▽ *У спасаўку муха — як дзеўка-векавуха.* Ухвала Круп.

ВЕЛАВЕ'Ц *м. бат.* Ядловец. *Велавец бяруць і вэндзяць мяса.* Пацаўшчына Дзятл. *Вендзілі велаўцом.* Галубы Маст.

ВЕЛАЦО'ВЫ *прым.* Ядлаўцовы. *Велацовыя ягады ад почак п'юць.* Галубы Маст.

ВЕ'ЛЕ, ВЕ'ЛЯ, ВЕ'ЛЁ *прысл.* 1. Шмат, многа. *О, веле стаякоў настаўляла.* Беняконі Воран. *Веле сцен: пяць, дзесяць.* Грыкені Вільн. *Яна веле мае сукень, веля убораў, строяў табе трэба купіць.* Старыя Трокі Трак. *Там велё лупін, хай возьмя нівелё.* Міратычы Карэл. 2. Колькі, колькі-н. *Веле малака ў мяне бралі?* Старыя Трокі Трак. *Хоць бы далі паленцаў веля на рэмонт.* Паляцкішкі Воран. *Можаш пагаварыць, веля хочаш. Веля калоткаў у цябе?* Старыя Смільгіні Воран. *А веля там тэй хаты — бутка.* Гемзы Шальч. 3. Толькі. *Ругаецца стары, як цігра, веля спакою, як у хаці німа.* Міратычы Карэл. 4. Працяглы час. *Я веля нахадзілася па леся.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *wiele* 'многа, багата'.

ВЕЛІГО'Р *м. экспр.* Вялізны, высокі чалавек. *Пашоў велігор, як дырда.* Быстрыца Астр.

ВЕ'ЛІЗНЫ *прым.* Вялізны. *Велізны хлопяц, а вераб'е страляя, паўз будынак бегая. Велізна кацянё. Велізная картопля парасла. Велізныя пракосы ляжаць. Велізныя пасцілкі ткалі.* Вецярэвічы Пух.

ВЕЛІКО'СЦЬ *ж.* Велічыня. *Вол велікосці патхадзяшчы пат карову.* Новікі Гродз.; *параўн.* польск. *wielkość* 'тж'.

ВЕ'ЛЫ толькі *мн.* Прылада для распінання скуры. *Скура на велах разапнецца.* Быстрыца Астр.

ВЕЛЬКА'НЕЦ *м. рэліг.* Вялікдзень. *Вербніца, а праз нядзелю — вельканец.* Індра Красл.; *параўн.* польск. *wielkanoc* 'тж'.

ВЕ'ЛЬКІ *прым.* 1. Дарослы. *Сынок падрос, велькі стаў.* Любішчыцы Івац. *Унука велька вырасла.* Навасёлкі Свісл. 2. Які адносіцца да асобнай пароды, віду. *Бег воўк велькі — конскай пароды. Велькія мурашкі — куслівыя.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Які займае вялікую плошчу, выдзяляецца па вышыні. *Тут быў велькі лес.* Гемзы Шальч. *Велькія лясы былі.* Кіралі Шчуч. 4. Паўнаводны, шырокі. *Тут была велькая рэчка, на том велькум мосце стаялі.* Старыя Смільгіні Воран. 5. Значны па аб'ёму, памерах. *Ён багаты, дом велькі мае.* Гемзы Шальч. *Велька ў яе хата, нова.* Пацаўшчына Дзятл. *Нарчэ — велька вёска.* Кіралі Шчуч. *Акно велька.* Старыя Смільгіні Воран. *У яго велька галава.* Паляцкішкі Воран. *Булка велька хлеба. Грэцкай кашы вельку міску з'еў.* Мсцібава Ваўк. *Узяў кошык велькі і пашоў па грыбэ.* Кіралі Шчуч. *Велькія сані вазіць лес. Велькія пухіры камары накусалі.* Навасёлкі Свісл. *Калі неба грудавата, мы бульбу садзім — будзя бульба велька расці. У яе велькі жывот.* Альхоўка Навагр. *У яго лысіна велька.* Міратычы Карэл. 6. Значны па колькасці. *Велька стада кароў у нашым калхозе. Велька цана на свіня.* Старое Сяло Зэльв. *Велькія грошы заплаціў, купіў хату. Велька ўтрата яму.* Кіралі Шчуч. 7. Няякасны. *Велькая масла — не збіваецца ў камок.* Граўжышкі Ашм. 8. Моцны па сіле, па інтэнсіўнасці ўздзеяння. *Вот вецяр велькі.* Малахоўцы Бар. *Велькі холат.* Крынкі Крын. *Велькі марос быў.* Жылі Іўеў., Галубы Маст. *Велька вада б'е ў берах.* Гемзы Шальч. *Велька сіла ў яго.* Старыя Смільгіні Воран. *У яго велька горач, з горачы стала. Там пыл велькі.* Старое Сяло Зэльв. ∨ *Пойдзяш з малога ды ў велькаё.* Міратычы Карэл. *А велька штука зрабіць гэта!* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *wielki* 'вялікі'.

ВЕ'ЛЬМА, ВЕ'ЛЬМО *прысл.* Вельмі. *Вельма печ цёплая.* Вецярэвічы Пух. *Вельмо памоцно яно* [зелле], *як карова кровію мочыцца.* Альхоўцы Лях. *Ні вельмо хоча есці.* Міратычы Карэл. *Ні вельмо глухая.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВЕ́ЛЯ *гл.* ВЕ́ЛЕ

ВЕНГЕ́РКА, АНГЕ́РКА *ж.* Жаночае паліто. *Даўней венгеркі шылі, машастам кругом аблямаваны былі — і падол, і рукава, жанчыны насілі.* Старыя Смільгіні Воран. *Ангерка — доўга, як паліто* [жаночае], *з белаго сукна сваей работы.* Номікі Бабіц.; *гл.* а л е н г е́ р к а.

ВЕНГЛЯ́РНЯ *ж.* Вяндлярня. *У папа была венглярня.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* польск. *wędzarnia* 'тж'.

ВЕ́НІК *м.* 1. Венік. *Венікі на шост вешаюць напару. Навязаў пяць пар венікаў.* Саланое Віл. *Бярозавымі венікамі добра хвашчыцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Венікі няможна вязаць да Сёмухі, бо гужы будуць ісці ў будынак.* Жыдзевічы Іўеў. 2. Памяло. *З хвоі вязалі венік пячны на пожаху. Памочыш той венік і печ вымітаіш.* Кіралі Шчуч. ◇ *Пайсці ў венікі* — пайсці нарэзаць венікаў. *Пашоў у венікі.* Саланое Віл.

ВЕ́НКА *ж. анат.* Вена. *Прабіта венка і кроў цячэ.* Баброўнікі Гарад.

ВЕ́НКШАНЬКІ *прым. выш.* Большанькі. *Венкшаньку картофлю выбрала, дробная засталася.* Жылі Іўеў.

ВЕ́НКШЫ *прым.* Большы. *Даўней як венкшы пасах, то дзеўку бяруць.* Жылі Іўеў. *У засценку пяць-шэсць хатаў, а вёска венкшая.* Грыкені Вільн.; *парайн.* польск. *większy* 'тж'.

ВЕНЦ *прысл.* Больш. *Зямлі меў паўвалокі ці венц.* Грыкені Вільн.; *парайн.* польск. *więcej* 'тж'.

ВЕ́НЦЕР, ВЕ́НЦЯР, ВЕ́НЦАР *м. рыб.* Венцер. *Венцеры ставілі.* Ёдлавічы Брасл. *Венцер без лукоў, небальшыя скрыдлы, на споднім шнуру — ценжаркі, на верхнім шнуру — плавукі з коркаў ці з кары бярозавай, яна пакруціўшыся і яе надзяюць на шнур.* Гемзы Шальч. *Венцер, у ім шырокі куль, а туды вузейшы ўстаўляецца.* Бакшты Іўеў. *Венцер — пяць абручэй, у сярэдзіне горлы, атходзяць два крыла на ляскаx, чатыры ляскі, куль расшаргіваецца — і бяры рыбу.* Глівін Барыс. *У венцеры абручы кругом, апцягнутыя сеткай, горлы такія — рыба заходзіць і ня выйдзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Венцяр з горлам, па старанам — крыла.* Быстрыца Астр. *Венцяр вяжацца з нітак, а патом нацягваецца на каблукі, сагнутыя з гарэшыны. Венцяры ставяцца вясною пад час разліву вады.* Альхоўка Навагр. *Венцярэ раньша рабілі — тая бучка, толькі два крыла.* Стральцы Гродз. *У венцяры крыллі, кулёк і многа абручоў.* Рыбчына Віл. *У венцары тры душкі круглыя, прыроблены крылля, а на канцах тры колікі, адзін ззаду ў карме. Колік утыкаецца, кап венцар стаяў на месцы, не сагнала вада. З венцарам рыбу лавілі. Венцары былі.* Саланое Віл.; *парайн.* літ. *vénteris* 'тж' (ЛТ, 171).

ВЕ́НЦЕРКА, ВІ́НЦІРКА, ВІ́НЦЯРКА *н.* і *ж.* Звязак, вясло, нізка. *Вінцірка ліпы, лазы, вязу.* Бакшты Іўеў. *Ліпу даўней дралі, сушылі, круцілі ў скруткі і паніжа цэла вінцяр-*

*ка скруткаў.* Дакудава Лід. *Венцерку баранак купіў.* Жылі Іўеў. *Венцерку рыбы прынёс. Вінцірка грыбоў насушыла.* Бакшты Іўеў.; *гл.* вірціна.

ВЕ́НЦЭЙ *прысл.* 1. Часцей. *У нас венцэй кажуць брух, чым жывот.* Паляцкішкі Воран. 2. Больш. *Венцэй нічога не было там.* Грыкені Вільн.; *параўн.* польск. *więcej* 'тж'.

ВЕ́НЦЯР *гл.* ВЕ́НЦЕР

ВЕНЧА́К *м.* Звяно кола. *Венчакі ў колах.* Альхоўцы Лях.

ВЕПЛАВА́ТЫ *прым. зневаж.* Недаразвіты, дурнаваты. *У яе веплаваты мужык.* Лісна В.-Дзв.; *гл.* вяпла.

ВЕРАБ'Е́ *мн.* Агульная назва дробных птушак. *Вераб'е — розныя малыя птушкі.* Масілавічы Сл.

ВЕРАБІ́НА *ж. бат.* Рабіна. *Пасля вайны вырасла верабіна, старая яна.* Стральцы Гродз.

ВЕРАПЕ́Й *м. бат.* Лопух. *Верапей мае шышкі, якія ляпяцца.* Пацаўшчына Дзятл. *Верапей тут расце, ліст яго прыкладзі да галавы — і не так будзе балець.* Галубы Маст.; *параўн.* руск. *репей* 'тж'.

ВЕ́РАС, ВЕ́РАСТ *м. бат.* Верас. *Верас высокі, па барах многа яга.* Беразіно Докш. *З верасу пчолы бяруць многа мёду.* Альхоўка Навагр. *Вераст ад мачы п'юць.* Вострава Маст.

ВЕ́РАСЕНЬ *м.* Тое ж, што і ве́рас. *Верасень у лесе расце.* Ванелевічы Кап.

ВЕРАСКО́ВЫ, ВЕРАСО́ВЫ *прым.* Верасовы. *Верасковы мёт урэдны пчалам.* Вецярэвічы Пух. *Верасовы мёт цёмны.* Рыбчына Віл.

ВЕРАЦЕ́ЙКА I *ж.* Астравок сярод балота. *Верацейка — месца сярод балот, дзе кусочак бору, суха там, пару бяроз расце.* Ухвала Круп.

ВЕРАЦЕ́ЙКА II *ж. заал.* Пліска. *Верацейка серэнькая, усё врэмя шыйкай водзіць.* Кураполле Паст.

ВЕРАЦЕ́НІЦА, ВЕРАЦЁ́НІЦА, ВЕРАЦЯНІ́ЦА *ж. заал.* Гадзюка, вераценніца. *Вераценіца блясцяшчая, рыжая такая.* Лісна В.-Дзв. *Верацёніца кусаецца сільна.* Рудня Астравітая Чэрв. *Верацяніца — самая едавітая гадзіна.* Кураполле Паст.

ВЕРАЦЕ́ННІК *м. заал.* Вугрыца. *Вераценнік—рыба такая, яе не ядуць, на яе рыбу ловяць. Акунь на вераценніка добра бярэцца.* Азяраны Раг.

ВЕ́РАЦЕНЬ *м. устар.* Мера даўжыні поля, роўная ста метрам. *Верацень поля згараў. У даўжыню палосы мералі некалі на вератні. Сколькі вератняў аўса, ячменю, гароху пасеяна? Вератней двоя да лесу. Загон быў — троі вератні ў дліну.* Бакшты Іўеў. *Двоі вератні зямлі.* Жыдзевічы Іўеў.

ВЕРАЦЁНА *гл.* ВЕРАЦЯНО́

ВЕРАЦЁНКА, ВЕРАЦЕ́НЦА, ВЕРАЦЁНЦА *н. памянш.* да верацяно́. *Бабуля прала верацёнкамі.* Быстрыца Астр. *Вераценца напрадзеных нітак. З вераценца цэвачка наматва-*

*ецца нітак.* Мачаск Бярэз. *Мой тата тачыў верацёнцы.* Старыя Смільгіні Воран.

ВЕРАЦЯНО′, ВІРАЦЯНО′, ВЫРЫТЫНО′, ВІРАТНО′ *н.*, ВЕРАЦЁНА *ж.* 1. Верацяно. *Верацяном вытрасалі валакно.* Грыкені Вільн. *Дайней пралі верацёнамі.* Гемзы Шальч. *Дьві вырытыні напряла.* Сіманавічы Драг. *Прала на віратно мыя бапка.* Індра Красл. *Я верацёнай прала.* Лайпушкі Ігн. *Пралі верацёнам сначала, а патом — калаўроты былі.* Навікі Лудз. 2. Вертыкальны шпень, на які насаджваецца верхні камень у жорнах. *Верацяно праходзя праз сподні камянь.* Гемзы Шальч. *Верацяно ў жорнах.* Беняконі Воран. 3. Млён. *Вірацяно ўстаўлялася ў дырачку, і круцілі за вірацяно і малолі.* Філіпаўцы Красл.

ВЕРАЦЯЯ′, ВЭРЭ′ТЭЯ *ж.* Астравок сярод балота. *Верацяя — вышэйшы бугарок, зарошшы лесам сярод балота, тое месца, дзе сярод балот кусочак бору, кругловіна такая, брусніцы там растуць.* Ухвала Круп. *На вэрэтэі кусэ́лэ* [касілі]. *Вэрэтэя — уструвок на ріццэ, на возэрувэ, на булотувэ.* Радастаў Драг.

ВЕРАШЧА′ЙКА, ВЕРАШЧА′ГА, ВЕРАШЧА′КА, ВЕРШЧА′КА, ВЯРАШЧА′КА *ж. кулін.* 1. Мачанка, прыгатаваная з мукі, свежага мяса, сала. *Дайней верашчайку варылі.* Старое Сяло Зэльв. *Верашчагу робяць бліны мачаць.* Малькуны Ігн. *Верашчаку на сняданне варылі бліны мачаць.* Ністанішкі Смарг. *І цяпер варым верашчаку.* Жылі Іўеў. *Блінамі мачалі ў верашчаку: спякуць саланіны, раскалоцяць мукі, уліюць у сала, паставяць у печ — верашчака спячэцца.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Верашчаку са свежага мяса робюць: костачак насячэш, уліеш расоліку з буракоў, у печ уставіш, стушыш, мукой прыкалоціш і бліны мачаіш, як добра ўпрэіць, на каляды гэдак рабілі, з блінамі елі.* Саланое Віл. *Мяса кідалі ў верашчаку і с хлебам елі.* Дзяніскавічы Ганц. *Вярашчаку рабілі з мяса, сала, падкалочвалі мукой, елі яе з блінамі.* Малахоўцы Бар. 2. Мачанка на рыбным расоле. *Вершчаку варылі так: расоліку рыбнага ўліеш, паткалоціш мукой і паджарыш алеям. Настроілі вершчакі.* Гемзы Шальч. 3. Мачанка з льнянога семя, канапель, маку. *Альняно семянё намелеш, наробіш верашчакі і наясіся. Малолі мак, каноплі. Патоўчано і прасеяно на сіто семянё заварыш кіпятком, потым запраўлялі чыснаком з цыбулькаю — гэто верашчака, елі с картошкаю ў пост.* Міратычы Карэл. *Дайней семя папрышчаць, закалоцяць і вараць верашчаку.* Альхоўцы Лях.

ВЕРАЯ′ *ж.* 1. Шуло ў гаспадарчым будынку. *У хаця — шуло, а ў гумне — верая.* Вязынка Маладз. *Вярэ́і замацоўваюцца лапамі.* Старыя Смільгіні Воран. *Варота прыкрапляюць да вераі.* Жыдзевічы Іўеў. *На верэ́і ўбівалі крукі і вешалі дзверы. Вярэ́і — крайнія сохі ў гумне.* Гемзы Шальч. 2. Бэлька ў

гаспадарчым будынку. *Верая — папярочная бервяно, якое кладзецца между сохамі ў гумне. Зачапіў вяроўку за вераю, а вяроўка перарвалася.* Бакшты Іўеў. *Ціпер баба, як верая ходзіць, поўна.* Кіралі Шчуч.

ВЕ'РБА гл. ВЯРБА'

ВЕ'РБАЛКА *ж.* Бервяно, на якое кладзецца столь. *На вербалках паталок будзіць ляжаць.* Скрудалена Даўг. *Вербалка ідзе чэраз весь дом на паталку.* Медумі Даўг.

ВЕРБАЛО'ЗНІК, ВЕРБАЛЭ'ЗНІК *м. бат.* Вербалоз. *Як дзе мокрае месца, там і вербалозніку многа.* Пацаўшчына Дзятл. *Вербалэзнік ля ракі расце.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВЕРБА'ТА гл. ВІРБА'ТАЯ

ВЕ'РГНІ гл. ВЕ'РХНІ

ВЕРЛАВО'КІ гл. ВІРЛАВО'КІ

ВЕ'РТКІ *прым.* Вёрткі. *Ну і верткі хлопчык.* Галубы Маст.

ВЕРХ *м.* Верхняя частка чаго-н. 1. Вяршаліна дрэва. *Вецір зламаў верх дрэва. Дрэва без вярха.* Мярэцкія Глыб. 2. Верх снапа. Альхоўка Навагр. 3. Века ў скрыні, куфры. *У скрыні верх пачці знімаўся.* Судэрва Вільн. 4. Слой смятаны. *Хто верх сабраў, а ты еш саракваиіу.* Кураполле Паст. *Верх нада зняць з гладышкі.* Малыя Аўцюкі Калінк. 5. Кончык пальца. *Вярхі пальцаў атмаразіў.* Жылі Іўеў. ◇ *З верхам* — вышэй берагоў, з лішкам. *Кошык з верхам* [бульбы]. Номікі Бабіц.

ВЕРХАВІ'К *м.* Верхні камень у жорнах. *У жорнах верхавік і сподні камень.* Глівін Барыс.

ВЕРХАВІ'НА, ВЕРХАЛІ'НА *ж.* Вяршаліна. *Верхавіна дрэва. Голая верхавіна стаяла. З верхаліны доскі благія.* Міратычы Карэл.

ВЕРХАВО'ДКА *ж. заал.* Сялява. *Верхаводку яшчэ называюць і ўклейкай.* Глівін Барыс.

ВЕРХАВО'ТКА *ж.* 1. Верхаводка. *Верхавотка, калі вада паверх лёду.* Гемзы Шальч. 2. Верхняя вада ў студні. Номікі Бабіц.

ВЕРХАВО'ЦЯ *зб. н.* Бросня. *Капуста верхавоцям занялася, нада зняць верхавоця.* Кураполле Паст.

ВЕРХАЛІ'НА гл. ВЕРХАВІ'НА

ВЕ'РХАМ *прысл.* Вярхом. *Верхам на кані едзе.* Альхоўка Навагр.

ВЕРХАЎЁ, ВЫРХОВ'Е' *зб. н.* 1. Тое ж, што і в е р х а в о́ ц я. *Нада верхаўё сабраць, ужо сплеснела капуста.* Рыбчына Віл. *Верхаўё нада сабраць у капусці, яно горкая і пляснівая.* Валынцы В.-Дзв. 2. Верхні слой сена ў стозе. *Стога забралы, осталось вырхов'е і сподов'е, трэба тожэ прывызты, будэ корову пудосланы.* Сіманавічы Драг.

ВЕ'РХНАСЦЬ *ж.* Верх, перавага над кім-н. *Яна верхнасць, волю мая над ім.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВЕ′РХНІ, ВЕ′РГНІ *прым.* Верхні. *Верхняя адзежа ў шафе вісіць.* Мярэцкія Глыб. *Верхні і сподні камянь у жорнах.* Старыя Смільгіні Воран. *Носіць споднія і вергнія штаны.* Быстрыца Астр.

ВЕ′РХНІК *м.* Папярочная планка, якая набіваецца на станіну кроснаў. *Да верхніка ў кроснах зацэпваюць набільніцы, нічальніцы.* Стральцы Гродз.

ВЕРХНІ′К *гл.* ВЯРХНІ′К І

ВЕ′РХНІЦА І *ж.* Верхняя скарынка хлеба. *Ест верхніца і спадніца ў хлебе.* Ністанішкі Смарг.

ВЕ′РХНІЦА ІІ *ж.* 1. Века. *Падымі ў куфра верхніцу. Да верхніцы прыбіта клямка.* Кіралі Шчуч. 2. Дзверцы ў калодачным вуллі. *Верхніца была з дубу і закрывалі калоду.* Кіралі Шчуч. 3. Верхняя рухомая частка церніцы. *Верхніца ў мяльніцы.* Магуны Паст.

ВЕ′РХНІЧКА *ж. памянш.* Вечка. *Верхнічка была закрываць ражачку. Верхнічка ў бойцы, закрываеш яе, гэты штэкель упускаеш і б'еш масла.* Кіралі Шчуч.

ВЕРХО′ЎЕ *зб. н.* Валакно з вярхоў льняной трасты. *Сасмаргівалі верхоўе, аставайся кужаль.* Мішневічы Шум.; *гл.* в я р х í.

ВЕ′РЦЕНЬ, ВЕ′РЦЕН *м.* Нізка, вясло. *Купіла верцень баранак.* Жыдзевічы Іўеў. *Верцен абаранак.* Старыя Трокі Трак.; *гл.* в í р ц і н а.

ВЕ′РЦЕШКА *ж.* Цёрла. *У верцешцы валком расціралі мак.* Калясное Міхал.

ВЕ′РЦІНА, ВЕРЦІНЯ′, ВЯРЦІ′НА *ж.* Тое ж, што і в е́ р ц е н ь. *Верціна баранак, верціна бліндзі.* Жылі Іўеў. *Верціня лісту.* Жыдзевічы Іўеў. *Надрай карэ цалу вярціну.* Кіралі Шчуч.; *гл.* в í р ц і н а.

ВЕРЧ *м.* 1. Нізка лыка, лазы. *Вярчы скручвалі з палосін лыка, лазы. Верч у выглядзе васьмёркі.* Альхоўцы Лях. *Вярчэ рабілі на васьмёрачку. Ён вярцей-вярцей, мо сто вярчой навярцей і мо на верч асталосо.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Скрутак льновалакна. *Лён трапалі і скручвалі ў вярчы, адзін верч — чатыры жмені.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Закрутка для замацавання зуба ў драўлянай баране. *З дупцоў дзелаліся вярчы, зацягуваліся на перакрэст і дзеравянныя кліцы дзержаліся на дзеравянных кольцах — вярчах.* Азяраны Раг.

ВЕ′РЧАК, ВЕ′РЧЫК *м.* 1. *памянш.* да в е р ч 1. *Дайней адзін верчак лыка — і на лапці хватала.* Бакшты Іўеў. *Верчык лыка.* Семежава Кап. *Палоскі лыка круцілі ў верчакі.* Азяраны Раг. 2. Скрутак пакачанай качалкамі бялізны. *Бяллё скачана ў верчык.* Азяраны Раг.

ВЕ′РША *ж. рыб.* Стаўная лавушка, сплеценая з дубцоў лазы (у выглядзе венцера). *Каблук лазовымі дупцамі аплятаюць, у сярэдзіну ўстаўляюць сувяршык, тады пераплятаюць*

*і звязваюць, так робяць вершу. Вершы ставяцца зімою, калі ў азёрах задыхаецца рыба.* Альхоўка Навагр. *Вершы ставяцца пад лёт.* Бакшты Іўеў. *Верша на рыбу пляцецца з лазовых дупцоў.* Вострава Маст. *Верша — лавушка, сплеценая з дупцоў.* Дакудава Лід.

ВЕРША′К *м.* Вешалка. *Вершак, што вешаюць адзежу.* Новікі Гродз.

ВЕРШНЯ′К *гл.* ВЯРШНЯ′К I

ВЕРШЧА′КА *гл.* ВЕРАШЧА′ЙКА

ВЕСЕЛУ′ХА, ВЕСЯЛУ′ХА *ж.* Вясёлка. *Веселуха пошла по небу, берэ воду, круг веселух угледзіш — перастаня дож.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Весялуха бывая пасля навальніцы.* Альхоўцы Лях.; *гл.* ДАБМ, карта № 312.

ВЕ′СІЦЬ *незак.* Вешаць. *Трэба бяльё весіць на вяроўку.* Паляцкішкі Воран. *На жэрдачкі весілі снапы лёну ў лазні.* Старыя Смільгіні Воран.

ВЕСЛАВА′ЦЬ *незак.* Грэбці вёсламі. *Вяслуюць вяслом лотку.* Гемзы Шальч.

ВЕ′СЛІЦА *ж.* Сходы, драбіны. *Ён ідзець, як па весліцы. Пашоў і пашоў, як па весліцы.* Лісна В.-Дзв.

ВЕ′СНІКІ толькі *мн.* Брамка. *Веснікі адчыні!* Пацаўшчына Дзятл. *Гэтыя адкрываюць веснікі, як з возам едуць.* Міратычы Карэл.

ВЕ′СНІНА *ж.* Веснавая воўна. *Весніна валіцца харашо. Даўней, еслі не весніна, то не браліся валіць валінкі.* Рагулішкі Даўг.

ВЕ′СНІЦА *ж.* Адна створка ў варотах. *У варотах вялікія весніцы, бываюць і дзве, і адна.* Малахоўцы Бар.

ВЕ′СНІЦЫ *мн.* Вароты. *Зачыні весніцы!* Навасёлкі Свісл.

ВЕСНЯКЕ′ *мн.* Веснавыя парасяты. *Вясняке найлепей купляць на сала, гэта марцовыя парасята.* Кіралі Шчуч.

ВЕСНЯ′НЫ, ВЕСНЯ′ННЫ *гл.* ВЯСНЯ′НЫ

ВЕ′СЦІ, ВЯСЦІ′ *незак.* 1. Весці на павадку (пра жывёлу). *Ну, вядзіма карову ў поля!* Гемзы Шальч. *Яны канавай каня вядуць.* Саланое Віл. 2. Кіраваць гаспадаркай. *Ён сам хазяйства вядзець.* Кураполле Паст. 3. Пракладваць дарогу. *Тут вядуць дарогу.* Жылі Іўеў. 4. Цяліцца. *Як карова цялё вядзе, то патугі яе бяруць.* Гемзы Шальч. ◇ *Весці гутарку* — размаўляць. *Зберацца старыкі, па-старыкоўскі гаворадь, сваю гутарку вядуць.* Ністанішкі Смарг.

ВЕ′СЦІСЯ, ВЯСЦІ′СЯ, ВЫСТЫ′СЬ *незак.* 1. Гнездавацца, жыць, пладзіцца. *У калодах пшчолы вяліся.* Судэрва Вільн. *У садзе пташкі вядуцца.* Мсцібава Ваўк. *Якая скаціна тут будзя вясціся?!* Ракаўскія Швянч. *У нас вёўся бусял на ліпе, пакуль прынясе трэску — вецер скіня, што прынёс раней.* Граўжышкі Ашм. *Шпакі пад крышаю вядуцца.* Мсцібава Ваўк. *Ёсць ластаўкі, што па норах вядуцца.* Гемзы

Шальч. *Дупло, там пташкі вядуцца.* Альхоўцы Лях. *У нас бабры вядуцца.* Бакшты Іўеў. *Там зараслі, зайцы вядуцца.* Гемзы Шальч. *Колісь прасачáць, дзе ваўкі вядуцца, і едуць на аблаву.* Азяраны Раг. *У сельскум балоце вяліся ласі.* Дзяніскавічы Ганц. *Там балото, дубы, нетры, лаза, гады там вядуцца.* Альхоўцы Лях. 2. Суіснаваць, жыць разам. *Вароны з гракамі не вядуцца.* Дакудава Лід. 3. *безас.* Даваць добры прыплод. *Табе вядзецца скаціна.* Альхоўка Навагр. *Табе коні вядуцца, няма бяды.* Старыя Смільгіні Воран. *Як каму вядуцца авечкі, дык самапята акоціцца — прывядзець двоя вясной і ў восянь двоя.* Груздава Паст. *У нас вяліся авечкі.* Вецярэбічы Пух. *Свіня не вядуцца.* Паляцкішкі Воран. *Вядуцца ім жывёлы.* Чычалі Швянч. *У нас пчолы вяліся.* Саланое Віл. *У іх усё добра вядзецца.* Ракаўскія Швянч. 4. Мець асабістае шчасце, добра жыць. *Яму добра вядзецца.* Кураполле Паст. *Ім там добра вядзецца.* Грыкені Вільн. *Красці нельзя — пчолы не будуць вясціся, не павядуцца.* Саланое Віл. 5. Радзіць (пра збожжа), не зводзіцца. *Як канчаюць жаць, абагнуць чубок жыта і хлеба пакладуць, каб ён вёўся.* Дакудава Лід. *Каласы пакідалі на спарыню, кап вёўся хлеп.* Кураполле Паст. 6. Быць у наяўнасці, ужывацца. *Плугі ў той час ужо вяліся.* Паляцкішкі Воран. 7. Знаходзіцца, бываць. *Выспа сярод балота вядзецца.* Быстрыца Астр. 8. Весці жывёлу. *Вядзецца Гэнусь с канём па плужок.* Граўжышкі Ашм. *Зенька с канём вядзецца.* Ёдлавічы Брасл. 9. Паводзіць сябе. *Яна нехарашо вялася і не глядзела свайго дзяцёнка.* Ёдлавічы Брасл. ▽ *Як выдэцьця, то й півэнь нысэцьця, а як не, то й курыця ны хочэ.* Сіманавічы Драг.

ВЕ′СЯЛАСЦЬ *ж.* Весялосць. *Мне весяласці няма.* Альхоўка Навагр.

ВЕСЯЛКІ′ *мн. бат.* Смаржкі. *Весялкі — грыбы, у іх шапачка на забурачках і е там кузялькі. Весялкі — самы ранні грыб, з лёду. Весялкі ніжуць і на сонейко.* Альхоўцы Лях. *Весялкі растуць, не едзяць веселкоў.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ВЕСЯЛО′, ВІСЯЛО′ *прысл.* Весела. *Весяло гулялі.* Старое Сяло Зэльв. *Весяло было ў хаце, цяпер паехалі дзеці хто куды.* Любішчыцы Івац. *Мне ўсігда вісяло.* Індра Красл. ▽ *Каму весяло, а каму слёзы.* Кіралі Шчуч.

ВЕСЯЛУ′ХА *гл.* ВЕСЕЛУ′ХА

ВЕ′ТАХ *гл.* ВЯТО′Х

ВЕТАШО′К, ВІТАШО′К *м.* Месяц у апошнюю чвэрць. *Веташок — стары месяц, калі сходзіць.* Палік Барыс. *Веташок, як месяц убывая.* Быстрыца Астр. *Веташок — астатня, чацвёртая квадра месяца.* Магуны Паст. *Веташок толькі знаць.* Гемзы Шальч. *Веташок — стары месяц, як сярпочак.* Рудня Астравітая Чэрв. *Веташок — месяц у апошні тыдзень.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Маладзік нарадзіўся, а як сходзіць — віта-*

*шок.* Ахрэмаўцы Брасл. *Віташок ужо саўсім маленькі.* Беразіно Докш.; *гл.* в я т о́ х.

ВЕ′ТКІ, ВЕ′ТХІ *мн.* 1. Галіны. *Нарубаў веткаў із скуйны.* Новікі Гродз. *Нарубаў ветхаў на венік, паткідалі ветхі пад ногі.* Кіралі Шчуч. *Наламаў ветхаў, венік звязаў. Як калі ні хапала корму, то ламалі ветхі гарэхавыя, асінавыя і кармілі скот.* Міратычы Карэл. 2. Пучок веццяя, невялікі венік. *Навязаў для скаціны ветхаў, меншых, як венік, што хату мятуць. Пайду ў лес, можа якіх ветхаў навяжу. Ветхі вяжуць з бярозы.* Альхоўка Навагр.

ВЕ′ТЛЫ *прым.* Ветлівы. *Яна баба ветлая, шуткуя.* Малькуны Ігн.

ВЕТРАНІ′ЦА, ВЯТРАНІ′ЦА *ж.* Дошка для замацавання канцавой часткі саламянай страхі. *Нада прыбіць ветраніцу да страхі, каб вецір салому не зносіў.* Мярэцкія Глыб. *Вятраніца прыбіваецца ў канцы страхі.* Магуны Паст.

ВЕ′ТРАЦЬ, ВІ′ТРЫТЫ *незак.* 1. Праветрываць, сушыць. *Ніхай ветрыць мая адзежа.* Груздава Паст. 2. Ачышчаць на ветры (пра збожжа). *Веялкай ветраяць, астаецца мякіна.* Вязынка Маладз. *Вітрать так: набырэ в коробку чы в рышыто збожі, выйдэ на вітёр, постэлэ радюшку чы хвартуха, дыржыть в руках і сыплэ, зэрня падае, а мнякыну вітёр односыть.* Сіманавічы Драг.

ВЕТРУГА′, ВЯТРУГА′ *м.* і *ж.* Моцны вецер, віхор. *От узбурыўся ветруга, аш праз вуглы свішчыць.* Ністанішкі Смарг. *Сягоня вятруга велькая.* Міратычы Карэл.; *параўн.* літ. *vėtra, vėtrunga* ′бура′.

ВЕТРЫВА′Л *м.* Буралом. *З кораням вывернутыя дрэвы — ветрывал.* Палік Барыс.

ВЕ′ТРЫК, ВІ′ТРЫК *м. памянш.* Ветрык. *Ветрык павявая.* Ністанішкі Смарг. *Такый тэплый вітрык.* Сіманавічы Драг.

ВЕ′ТРЫЦА *ж. мед.* Вятранка. *Ветрыца — хвароба ад ветру.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЕ′ТХІ *гл.* ВЕ′ТКІ

ВЕХ *м. бат.* Цыкута. *Вех — трава такая, ад яе каровы падыхаюць.* Лісна. В.-Дзв.

ВЕ′ХАТНІК *м. бат.* Балотны хвошч. *Коні наядаюць курдзюк ат цвёрдага вехатніку.* Глівін Барыс.

ВЕ′ХАЦЬ *м.* Пучок саломы, цвёрдай травы і інш. *Вехаць с саломы рабілі.* Рыбчына Віл. *Хвошч на бары ірвалі і вехці рабілі гаршкі шараваць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вехця трэба зрабіць мыць ладышыкі.* Тухавічы Лях. *Вехцям мыям гаршкі, саганы.* Жодзішкі Смарг. *Вехаць саломы кіня, кап хлеп спёкся ружова.* Гемзы Шальч. ▽ *Трэба вехця і нажа — будзе добрая дзяжа* — пра неахайную гаспадыню. Граўжышкі Ашм.

ВЕ′ХЦІК *м. памянш.* да в е́ х а ц ь. *Вехцік робіцца с хва-*

*шча, шараваць ім добра.* Магуны Паст. *На вехцік, гаршчок памый!* Мачаск Бярэз.

ВЕЧА'Й *гл.* ВЯЧА'Й

ВЕЧАРКАВА'ЦЬ *незак.* 1. Удзельнічаць у вячорках. *Вечаркуюць увечары, пралі да начы. Лучыны сушылі, шчапалі, цеплілі і вечаркавалі.* Ракаўскія Швянч. 2. Наставаць (пра маладзік). *Ужо маладзічок вечаркуя.* Бакшты Іўеў. 3. Узыходзіць пазней (пра месяц). *Месяц вечаркуя, ужо цёмна звечара.* Гемзы Шальч.

ВЕЧАРКІ', ВЯЧАРКЕ', ВЯЧО'РКІ, ВЫЧОРКЫ' толькі *мн.* Вячоркі. *Бывала, сабярэцца восем-дзесяць паппрадух у адну хату на вечаркі.* Гемзы Шальч. *На вечаркі пасходзяцца дзеўкі і прадуць.* Мсцібава Ваўк. *Вячарніцы ішлі на вячарке.* Малахоўцы Бар. *Калісь на вячоркі ішлі прасці, а хто вышывая.* Міратычы Карэл. *На вячоркі хадзілі с прасніцай.* Вецярэвічы Пух. *Прыходзь на вечаркі гуляць. Былі на вечарках, а ўдзень с кудзеляю ідуць.* Альхоўцы Лях. *Ны было музыкы, так вычоркы. Мы старыі то ходымо на вычоркы до старых, а молодыі — до молодых.* Сіманавічы Драг. ∇ *Шлі хлопцы з вечарок і пабралі ўвесь мачок.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЕЧАРНІ'ЦА *ж.* Вячэрняя зорка. *Вечарніца на небе зіхаціць, ззяе.* Жылі Іўеў.

ВЕЧАРНІ'ЧКА *ж. памянш.* да в е ч а р н і ц а. *Вечарнічка ідзе і за ей — месяц.* Граўжышкі Ашм.

ВЕЧАРУ'ШКІ, ВІЧАРУ'ШКІ, ВЯЧАРУ'ШКІ толькі *мн. устар.* 1. Пэўны перыяд часу пасля каляд. *Дайней вечарушкі пасля каляд аж да вадохрышча: да паўдня прадуць, а с паўдня ня робяць.* Рыбчына Віл. 2. Тое ж, што і в е ч а р к і. *Вечарушкі, калі сабіраліся ўвечара: пралі, пёры шарпалі. Дзе вялікая хата — рабілі дзянюшкі і вечарушкі.* Старыя Трокі Трак. *Дайней вечарушкі ўстрайвалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вічарушкі толькі збяруцца.* Крэва Смарг. *Папрадухі сабраліся на вячарушкі.* Ракаўскія Швянч.

ВЕЧАРЫ'НА I *ж.* Адвячорак. *Вечарына — с паўдня і да вечара. Вечарына і адвячорак — гэта адно і тоя ш. Нам дзялкі далі — на дзве вечарыны жаць.* Альхоўка Навагр. *Касіў раніцу, вечарыну і другую вечарыну — і скасіў.* Гемзы Шальч.

ВЕЧАРЫ'НА II *ж.* Вечарынка. *Дайней на вечарыну хадзілі, а цяпер — на танцы.* Кураполле Паст. *С той вечарыны я стаў музыкантам.* Ракаўскія Швянч. *На вечарыну хадзіла.* Паляцкішкі Воран. *У Гайлешах вечарыны спраўлялі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Некалісь, калі сказаў бацька — ня йдзі на вечарыны ці на фэст — і ня пойдзеш.* Груздава Паст. *Вечарыны робяць, бываіць музыка.* Малькуны Ігн. *Калісь вечарыны былі. Ані ён на вечарыны хадзіў.* Гемзы Шальч.

ВЕ'ЧКА *н.* Тое ж, што і в ё к а II. *Вечка прырасло — чуць бачыць.* Асавец Віл.

ВЕ'ЧКО *н.* Тое ж, што і в е́ р х н і ч к а. *Вечко ад бойкі трэба памыць.* Мсцібава Ваўк.

ВЕ'ЧНА, ВЕ'ЧНЕ *прысл.* Заўсёды, пастаянна, увесь час. *Яна вечна ў рабоце.* Лісна В.-Дзв. *Вечна так было і так будзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вечне заната ты — гэта таму, што ты пільніцай радзілась. Я вечне не маю часу. Яна вечне жывець так.* Курaполле Паст. *Ён вечне ідзе, зарабляе на корм — хаваем кароўку.* Новікі Гродз.

ВЕ'ЧНЫ ПО'КУЙ. Вечны спакой. *Мама, вечны ей покуй, ляжала ў бульбя забітая. Вечны покуй яму, ён быў аптэкар.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *pokój* 'спакой, супакой'.

ВЕ'ШАК, ВІ'ШАК, ВЯША'К *м.* Вешалка. *Вешак трэба прышыць.* Грыкені Вільн. *Вішака прышый до пальта.* Сіманавічы Драг. *Вяшак трэба прышыць.* Жылі Іўеў.

ВЕ'ШАЛКА *ж.* Тое ж, што і в е́ ш а к. *Прышыла вешалку.* Рыбчына Віл. *Вешалка парвалася ў пальце.* Беразіно Докш.

ВЕ'ШАЛЬНІК *м.* Сук, на які ставяць вулей. Масілавічы Сл.

ВЕШАЧО'К *м. памянш.* да в е́ ш а к. *Вешачок да кажуха прышыць нада і павесіць на цвек ці на шарагі.* Гемзы Шальч.

ВЕШЧАВА'ЦЬ *незак.* Прадракаць, прарочыць. *Сава на ўсё вяшчуець.* Саланое Віл.

ВЕ'ЯЛАЧКА *ж. памянш.* да в е́ я л к а. *Была веялачка, бывала, перавею кучу вялікую.* Саланое Віл.

ВЕ'ЯЛКА, ВЕ'ІЛКА, ВІ'ЯЛКА *ж.* Тое ж, што і а в е́ я н к а. *Была веялка драўляная, што веялі на таку.* Саланое Віл. *Веялка дзеравянная, выдаўбаная, з ручкай недзе ў мяне была.* Гемзы Шальч. *Арпаў не было, веялкі былі, як савок.* Рыбчына Віл. *Абмалочанае збожа венічкам змятуць павярху, кап яно было чыста і патом ссоўваюць яго ў кучу і веяць веялкай дзеравяннаю, ручною. Махнуў веялкаю — зярнята ляцяць далей, а мякіна — бліжай.* Альхоўка Навагр. *Веялкай веялі.* Відаўцішкі Вільн. *Веялка — карытка такое з ручкай.* Грыкені Вільн. *Веялкай берацъ і раскідаваюць — зярняты далёка ляцяць.* Лісна В.-Дзв. *Веілкай зярно веялі.* Беразіно Докш. *Віялы віялкыю, дэ хто — гархом* [арфай]. Сіманавічы Драг. V *Дошч, што веялкай, веіць.* Саланое Віл.

ВЕ'ЯЛКІ, ВЕ'ЯНКІ *мн.* 1. Вейкі. *Мы гаварылі веялкі, а цяпер — расніцы.* Дакудава Лід. *О, якія бальшыя веялкі!* Пацаўпічына Дзятл. *Веялкі пафарбавала.* Галубы Маст. *У яе веялкі густыя.* Сакаляны Сакол. *Веялкі на воку.* Воўкуш Ліпск. 2. Павека. *Сцягвае веялку.* Старое Сяло Зэльв. *На веялках валаскі.* Альхоўка Навагр. *Веянкі бальшыя.* Навасёлкі Свісл.; *гл.* в е́ й к і.

ВЕ'ЯНЯ, ВІ'ЯННЕ *н.* Веянне. *Да веяня жыта пераграбаюць.* Кураполле Паст. *Шэ на годыну віяння.* Сіманавічы Драг. *То молотінне, то віянне.* Відзібар Стол.

ВЕ'ЯЦЬ, ВЕ'ІЦЬ, ВІ'ЯТЫ *незак.* Веяць. *Даўней снапы сцелюць, б'юць цапамі, выб'юць тры капы, а тады веюць.* Гемзы Шальч. *Каласы змятаюць, тады веяць.* Рыбчына Віл. *Даўней жыта не веялі.* Саланое Віл. *Змалочанае збожа веюць веялкаю ручною.* Альхоўка Навагр. *Веялкай веялі.* Грыкені Вільн. *Жыто домолотыв і шэ тыпэр віятыму.* Сіманавічы Драг.

ВЁРСТ *м.* Вярста. *Адзін вёрст ці два вёрсты да Нарчоў.* Кіралі Шчуч. *Адзін вёрст праехаў.* Номікі Бабіц.; *гл.* в я р с т á.

ВЁРТКА *ж.* Скрутак з кары для збірання ягад. *Скруцяць з кары вёрткі такія і ягады збіралі ў іх.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЁРТКІ, ВЭ'РТКЫЙ *прым.* Шустры, жвавы. *Ён такі вёрткі чалавек.* Кураполле Паст. *Ён быў вёрткі, баявы.* Чычалі Швянч. *Ох, і вёрткі ў яе хлопец.* Пацаўшчына Дзятл. *Тая Маня такая вэртка, ны посыдыть вона.* Сіманавічы Драг.

ВЁСКА *ж.* Сельскае паселішча, вёска. *Наша вёска вялікая.* Рыбчына Віл. *Гэта сама вёска.* Старыя Трокі Трак. *Ён ходзіць па ўсіх вяскáх.* Альхоўка Навагр. *Ест вёска Швэды, а ў нас засценак Швэды.* Швэды Вільн. *Наша невелька вёска.* Відаўцішкі Вільн. *У засцянку пяць-шэсць хатаў, а вёска венкшая.* Грыкені Вільн. *Ён з другой вёскі.* Судэрва Вільн. *У сваю вёску прышла.* Чычалі Швянч. *Паехалі з мястэчка ў вёску.* Беняконі Воран.

ВЁТАХ *гл.* ВЯТО'Х

ВЁТХІ *прым.* Хісткі, неўмацаваны. *Чаго гэтакі вётхі плот гародзіш? — А плот чуць стаіць, шатаецца. — А нашто мне крэпкі плот, я ўжо заўтра памру.* Груздава Паст.; *параўн.* руск. *ветхий* 'стары, драхлы, трухлявы'.

ВЗЯ'ТІ *зак.* 1. Даведацца. *Кажут, поросята потаньчалі. — Скуоль ты тое взяв? — Був і бачыв.* Курашэва Чыж. 2. Пацягнуць, павезці. *Одін куонь лёко бэрэ, а другі нэ дасть рады взяті.* Курашэва Чыж. 3. Памылкова выбраць аднаго замест другога. *Ошыпсе і хлопця взяв за діевчыну, бо мів довгу чупрыну.* Курашэва Чыж. 4. Моцна забалець у час прыступу хваробы. *Голова так взяла, што мусіла ляшчы. Жывуот взяв, мусіт, нэ вытрымаю. Боліе взялі.* Курашэва Чыж. 5. Дзейнічаць, уплываць. *Горыэлка ёго нэ бэрэ, можэ мнуого выпіті.* Курашэва Чыж. ◇ *Взяті в оборот* — адчытаць, прабраць. *Як взялі на постэрункові в обороты, то мусів прызнатісе.* Курашэва Чыж.

ВІ'ГА *гл.* ВІКА

ВІ'ГІП *м.* Выгіб. *Ігла з вігібам, плоская, ей патплітали лупкі.* Індра Красл.

ВІД, ВІТ, ВЫД *м.* Знешні выгляд, твар, аблічча. *Цытра пры нэрасце віт мяняя.* Быстрыца Астр. *Малая, алэ на выд хороша.* Сіманавічы Драг. ◇ *Не паказваць віду* — рабіць вы-

гляд, што не заўважаеш. *Мама ідзе, віду не паказвае, што бачыць.* Гемзы Шальч. *Па маім віду* — на мой пагляд. *Пчала, па маім віду, пераварвае мёт і дзелае воск.* Быстрыца Астр.

ВІДАВІ'СКА *н.* Відовішча. *Якое было відавіска!* Гемзы Шальч.

ВІ'ДАК *м.* 1. Краявід. *Тады тут накшы відак быў.* Альхоўцы Лях. 2. Прывід. *Відак яго за ёй ходзіць.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *widok* 'від, краявід'.

ВІДА'ЦЦА, ВІДА'ЦА *незак.* 1. Віднецца. *Во возера відацца Мілашайская, пойдзіш у дзярэўню, яго відацца.* Малькуны Ігн. *Харошае возіра відацца. Ат касцёла відацца магілкі.* Рагулішкі Даўг. *Там дом відацца.* Шалкуні Даўг. 2. Бачыць, заўважацца. *Учора я, пакуль відалася, палола. Нох ні відацца, а ідзець.* Ёдлавічы Брасл. *Цёмна, нічога не відацца, толькі неба відацца. Тут кусты відацца; зямля дзе відацца, там трава.* Кураполле Паст. *Дарогі не відацца.* Лісна В.-Дзв. *Там відацца, дзе конь пакачаўся. Глянуў — відацца, што ўбрана льносемя.* Кураполле Паст. 3. Прысутнічаць. *Сягоня аўтобуса не відацца яшчэ, можа, пойдзіць пазней.* Малькуны Ігн. *Хазяйка відацца, а хазяіна ні відацца. Дзе іх найці, нешта не відацца.* Кураполле Паст. *А чаму вас не відалася, дзе вы былі?* Магуны Паст. *Ні відацца тут у нас курганоў вялікіх; малых — поўна кругом.* Ахрэмаўцы Брасл. *Але неяк і жап цяпер не відацца.* Малькуны Ігн. *Воткі не піла — не відалася яе за столам.* Ракаўскія Швянч. *Не відаца нешта дзеда.* Індра Красл. 4. Відаць (адно з-пад другога). *Выражу кругла* [кашулю], *кап не відалася с-пад блюскі.* Быстрыца Астр. *Камбінашкі не відалася с-пат сукенкі. А чаму ў яе грошы відаліся с кішэні?* Ахрэмаўцы Брасл. *Цяпер валасамі абраслі, глас не відацца, чалавек, як чарцёнак, выглядая.* Малькуны Ігн. 5. Яўна, вядома. *Німа чаго стыдацца, ужо тут каждаму відацца, усё цяпер відацца.* Кураполле Паст. *Не відацца, што ўчыніцца.* Ахрэмаўцы Брасл. 6. у знач. *пабоч.* Відавочна, мабыць. *Гэта дышаль да плуга, відацца.* Кураполле Паст.

ВІДА'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і в і д á ц ц а 1. *Ад нас відаць другое сяло.* Саланое Віл. 2. Світаць, развідніваща. *Светла, ужо відаць.* Грыкені Вільн.

ВІ'ДЗЕЦЬ *незак.* 1. Бачыць. *Яна добра відзіць, а я ані ня віджу.* Груздава Паст. *Ня відзіла нічога, як знялі бельму — цяпер усё магу рабіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ня відзела Антона ідучы?* Мярэцкія Глыб. *Я відзяў яго часта.* Паляцкішкі Воран. *Я два разы відзіў гадзіну.* Грыкені Вільн. *Вісяць штаны на сцяне — ні відзіш?* Саланое Віл. 2. Заўважаць, ведаць. *Ніхто ня відзіць, што ў мяне на сэрцы.* Саланое Віл. 3. *перан.* Перажыць. *І добрага і дрэннага праз век усяго відзела.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Імгненна, у момант зрабіць што-н. *Як відзіш — звядуць, і не ўдзержыш.* Ахрэмаўцы Брасл. ▽ *Вочы відзюць і*

*рукі рвуць*. Гемзы Шальч. *Калі спяць, праз кулакі відзяць*. Саланое Віл.

ВІДЗЯЯ′ *гл.* ВЕДЗЯЯ′

ВІ′ДЛЫ, ВІ′ДЛА *мн.* Вілы. *Відлы, што гной накапываюць*. Старыя Трокі Трак. *Трэба насадзіць відлы. Дай відла мне*. Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *widły* 'тж'.

ВІ′ДНА, ВІ′ДНО′, ВЫДНО′ *прысл.* 1. Відно. *Васьмой час — і відна, а дзень будзіць даўжэць*. Ахрэмаўцы Брасл. *Было яшчэ відна*. Мярэцкія Глыб. *Віднó на дварэ ўжо*. Пацаўшчына Дзятл. *Устала я, то ўжо было віднó*. Кіралі Шчуч. *Зорачкі свецяць, сягоня віднó*. Вецярэвічы Пух. *Ві́дно было ёго, як на далоні*. Курашэва Чыж. *Сонцэ ны зыйшло, алэ вжэ выдно*. Сіманавічы Драг. 2. *пабоч.* Відаць. *Відно, так трэба було, і так сталосе*. Курашэва Чыж.

ВІДНАВА′ТА *прысл.* Завідна. *Віднавата прышла*. Ахрэмаўцы Брасл.

ВІДНО′М *прысл.* Тое ж, што і в і д н а в а́ т а. *Відном прышлі дахаты*. Альхоўка Навагр.

ВІДНЫ′ *прым.* Адкрыты (пра мясцовасць). *На відном месці хата стаіць*. Кіралі Шчуч.

ВІДНЯ′ЦЬ *незак. безас.* Віднець (пра набліжэнне раніцы). *Бярэцца відняць*. Стральцы Гродз. *Уставай скарэй, бо відняя! Трэба гнаць у поля. Я ўстала, яшчэ не відняла, і ўсё дасвету парабіла*. Кіралі Шчуч.

ВІДО′ЧНА *прысл.* Хутка, імгненна. *Трава зелянеіць відочна*. Магуны Паст.; *параўн.* польск. *widocznie* 'відаць, як відаць'.

ВІДУ′К *м. бат.* Дзікі мак. *Відук яшчэ расце ў гародзе*. Беняконі Воран. *Відук называецца таму, што пат шапачкай ёсць дзірачкі — і мак высыпаецца*. Вялікія Нястанавічы Лаг. *Відук — дзікі мак, ён цвёрды вельмі, што якія жамерыны*. Міратычы Карэл.

ВІ′ДУЧЫ *прысл.* Тое ж, што і в і д о́ ч н а. *Росная раніца, трава відучы расце*. Гемзы Шальч.

ВІДУ′ШЧЫ *прым.* Той, хто мае зрок, добры зрок. *Сляпы быў, але лепшы, чым відушчы*. Старыя Трокі Трак. *Яна відушчая, убачыла іх*. Асавец Віл.

ВІДЭ′ЛЕЦ, ВІДЭ′ЛІЦ, ВІДЭ′ЛЯЦ, ВІДЭ′ЛАЦ *м.* Відэлец. *Мой відэлец падай!* Калясное Міхал. *Дай відэліц!* Мярэцкія Глыб. *Відэльцы пачысціла*. Груздава Паст. *Даўней рэтка елі відэльцамі*. Дакудава Лід. *Калісь вілак не было, відэляц — па-польску, хто і так гаварыў*. Малахоўцы Бар. *Сагнуў відэлац*. Рудня Астравітая Чэрв. *Відэлцы паржавелі*. Рыбчына Віл.; *параўн.* польск. *widelec* 'тж'.

ВІДЭ′ЛКА *ж.* Тое ж, што і в і д э́ л е ц. *Падай мне відэлку!* Лісна В.-Дзв.

ВІЕ′ТЭ *займ.* Вы. *Дэ віетэ булі?* Курашэва Чыж.

ВІЁРКА *ж.* Вавёрка. *Віёрка скача па дрэву.* Мсцібава Ваўк.

ВІЖАВА'ЦЬ *незак.* 1. Пільна і недаверліва сачыць за кім-н. *Да не віжуй за мною, бо я ўсе раблю ак трэба.* Вялікія Аўцюкі Калінк. 2. Выведваць. *Не, яна так не прыдзя: як зайдзя, дак толькі віжуя і віжуя.* Вялікія Аўцюкі Калінк. 3. Падпільноўваць здабычу. *Кот віжуя, хоча мыш злавіць.* Старое Сяло Зэльв. 4. *зневаж.* Шнырыць, гойсаць. *Што ты віжуеш, як сука па памыях!* Навасёлкі Свісл.

ВІЖДЖА'ЦЬ *незак. экспр.* Вішчаць. *Чаго ты віжджыш?!* Граўжышкі Ашм.

ВІЗА'ЦЬ *гл.* ВЯЗА'ЦЬ

ВІЗУ'ТА *ж. асудж.* Сарвігалава, прайдзісвет. *Яна візута добра — абсмяяць, абгаварыць. Візута добрая на ўсе штукі! Каторыя візуты, тыя скора замуш выходзяць.* Гемзы Шальч.

ВІК *гл.* ВЕК

ВІ'КА, ВІ'ГА *ж. бат.* Віка. *Віка добра расцець.* Магуны Паст. *Вігу з аўсом сеюць.* Мсцібава Ваўк. *Віга стручастая.* Ністанішкі Смарг.

ВІ'КЛІНА *ж. бат.* Вербалоз. *На вікліне розгі проста растуць, рукой можна дастаць.* Гемзы Шальч.

ВІКСА', ВІКСВА' *ж. бат.* Від асакі. *Адна вікса. Карова не есь віксы.* Рагулішкі Даўг. *Віксу каровы не ядуць.* Ёдлавічы Брасл. *Віксва пры балотах расцець, нядобрая трава, не натта добра ядуць каровы.* Малькуны Ігн. *Віксва — жорсткая, на балотах расцець.* Ракаўскія Швянч. *Віксвы накасіў.* Чычалі Швянч. *Віксва расце пры мокрых мястах, яе косяць, сена ні вельмі добрая.* Быстрыца Астр.; *параўн.* літ. *viksvà* 'тж.'

ВІЛАВА'ТЫ *прым.* Раздвоены. *Як зрасліся дзве дзеравіні разам, то вельмі вілаваты дуп ці бяроза вілавата. Дрэва на два сукі — таксама вілаватая.* Саланое Віл. *Вілаватае дзерава.* Талейкі Швянч. *Вілаватая ёлка, сосна, нікуды не гадзіцца, толькі як студні капалі, то вілы ставілі і свіршню клалі.* Гемзы Шальч. *Саха вілаватая каля студні.* Вялікія Баяры Шчуч. *Вілаватая дзерава ішло на саху.* Вязынка Маладз. *Вілавата дзерава шукаюць на саху, а на саху кладуць пругло і шворань зацягваюць.* Вецярэвічы Пух.

ВІЛАВІ'СКА *н.* Вілачнік. *Вілавіска паламалася, нада зрабіць новая.* Рагулішкі Даўг.

ВІ'ЛАВІШЧА *н.* Тое ж, што і в і л а в і с к а. *Зрабіў вілавішча вілы насаджваць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВІЛАЎЁ *н.* Тое ж, што і в і л а в і с к а. *Вілаўё зрабіў да вілаў.* Рагулішкі Даўг.

ВІ'ЛАЧКІ толькі *мн.* Рагач у калаўроце. *У вілачках зубэ, а на шпень шпуля насаджваецца.* Вецярэвічы Пух.

ВІ'ЛАЧНІК, ВІ'ЛАШНІК *м.* Ручка ў вілах, што гаршкі бяруць. *Вілачнік зламаўся.* Вязынка Маладз. *Паскрабі вілач-*

*нік нажом — чысцейшы будзець.* Беразіно Докш. *На вілашнік насаджваюць вілкі.* Малахоўцы Бар. *Бацька вілашнік прысадзіў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВІЛІ'ЦЬ *незак.* Віцца, паўзці (пра гадзюку). *Гляджу я — гадзюка віліць хвастом праз балота.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВІ'ЛКАВІЦА *ж.* Гняздо для зуба ў драўлянай баране. *У баране вілкавіца, кап прывязаць зубы да пруткоў.* Рыгалоўка Ліпск.

ВІ'ЛКІ I толькі *мн.* Вілы. *Былі вілкі дзераўляныя на два рагі браць сено.* Дзяніскавічы Ганц. *Вілкі паленныя ў дзве стораны разыходзяцца.* Ухвала Круп. *Вілкі, шчо на стог подавалі.* Азарычы Пін. *Вілкі для гною.* Рыбчына Віл. *З воза гной скідаюць вілкамі.* Дзяніскавічы Ганц. *Дастань чыгун з печы вілкамі, а не анучай.* Малахоўцы Бар., Альба Нясв., Беразіно Докш.

ВІ'ЛКІ II толькі *мн.* Месца разыходжання дарог, развіліна. *Аўтобус астанаўліваяцца ў вілках дарог.* Асавец Віл. *Дзе вілкі, там расходзяцца дарогі.* Дзяніскавічы Ганц.

ВІЛО'ВІНА *ж.* Тое ж, што і в і л к і II. *Віловіна, дзе дарогі расходзяцца.* Старыя Смільгіні Воран.

ВІЛЦЭ' толькі *мн.* Тое ж, што і в і л а ч к і. *Шпуля і вілцэ ў караўлотку.* Вялікія Баяры Шчуч.

ВІ'ЛЫ толькі *мн.* Тое ж, што і в і л к і. *Вілы на два пальцы салому скідаюць. Вілы на чатыры пальцы навос кідаюць.* Гемзы Шальч. *Вілы драўляныя салому трэсці. Вілы зялезныя.* Мярэцкія Глыб. *Дзеравянымі вілами салому вытрасалі, трасянку траслі.* Старыя Смільгіні Воран. *Дзеравянымі вілами салому вытрэсалі.* Малахоўцы Бар. *Былі з двума рагамы драўляныя вілы, акованы жалезам, гной выкідаць.* Магуны Паст. *Вілы дзеравяныя, выгінастыя, на канцы жалезныя, гной капаць.* Мачаск Бярэз. *Жалезнымі вілами скідалі гной.* Кіралі Шчуч., Пацаўшчына Дзятл. *Ішоў з граблямы, з вілами.* Лісна В.-Дзв. ∇ *Па вілы* — па тулава. *Ідзе і аш па вілы яму снегу.* Кіралі Шчуч.

ВІЛЬГАВА'ТЫ *прым.* Не зусім сухі. *Вільгаватая сена.* Рыбчына Віл.; *параўн.* літ. *vìlgti* 'сырэць'.

ВІ'ЛЬГАЦЬ, ВІ'ЛЬГОЦЬ *ж.* Сырасць. *Цякець з сталявання ад вільгаці.* Малькуны Ігн. *Вільгаць у хаце.* Чычалі Швянч. *Дзе вільгаць, там і бужукі.* Старыя Смільгіні Воран. *У вільгаці — станошкі.* Кіралі Шчуч. *Ужэ вільгаць завялася.* Гемзы Шальч. *Вільгоць — то сыросць.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* літ. *vìlgatis,* польск. *wilgoć* 'тж'.

ВІЛЬГО'ТНА *прысл.* Сыра. *На дварэ вільготна, туман.* Старое Сяло Зэльв. *Дзе вільготна, там макрыцы серэнькія вядуцца.* Лісна В.-Дзв.; гл. в і л ь г а ц ь.

ВІЛЬГО'ТНЫ *прым.* Сыры. *Вільготнае сена.* Чычалі Швянч., Малькуны Ігн. *Вільготнае адзеня збутвела. На сподзе*

*вільготны брыкет.* Старыя Смільгіні Воран. *Вільготная пагода.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* вільгаць.

ВІ'ЛЬГОЦЬ *гл.* ВІ'ЛЬГАЦЬ

ВІЛЬЧА'К *м. заал.* Аўчарка. *Вільчак — сабака воўчай пароды, вільчакі — добрыя сабакі.* Гемзы Шальч.

ВІЛЬЧА'СТЫ *прым.* Тое ж, што і вілава́ты. *Вільчаста дрэва.* Номікі Бабіц.

ВІ'ЛЬЧЫК *м.* Верхні стык страхі. *Вільчык высцілаецца кастрыцай.* Беразіно Докш. *Старану жыта наклоў пад самы вільчык.* Пацаўшчына Дзятл.

ВІЛЯ'ЦЬ I *незак.* Махаць, віляць. *Сабака толькі хвастом віляя.* Гемзы Шальч.

ВІЛЯ'ЦЬ II *незак.* 1. Падзываць. *Вазьму хлеба і буду курэй віляць.* Мярэцкія Глыб. *Хлапчук віляў-віляў куранят, падляцеў і схваціў* [кураня]. Кураполле Паст. 2. *перан.* Зводзіць, спакушаць. *Яна віляіць чужога мужыка. Яна яго віляіць, мусі, а ня думаіць за яго ісці.* Кураполле Паст. *Ён віляў-віляў дзяўчыну і не жаніўся, змайначыў слова.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *vilióti* 'тж'.

ВІ'МА *гл.* ВЫ'МЯ

ВІНА' *ж.* Вінаватасць, віна. *Іха віна, што ён такі.* Бакшты Іўеў. *Ён на мяне віну складае, а я гэтага не рабіў.* Гемзы Шальч. *Віны не даказана.* Валынцы В.-Дзв.

ВІНАВА'ТЫ, ВІНАВА'Т *прым.* Які вінен каму-н. *Вінаваты, хто мае доўг. Я яму вінавата хлеба.* Ністанішкі Смарг. *Яна мне дзенех вінавата.* Паляцкішкі Воран. *Я вінават табе, я ў цябе аддалжаў грошы.* Стары Свержань Стаўб. ∇ *Не плаціць багаты, але — вінаваты.* Номікі Бабіц.

ВІНАВА'ЦІЦЬ *незак.* Абвінавачваць. *Ён усіх вінаваціць.* Малахоўцы Бар. *Цябе ніхто не вінаваціць.* Альхоўка Навагр.

ВІ'НДА *ж.* 1. Кол, тоўстае палена з завостраным канцом. *Як нада што падважыць, то падсаджуем вінду пат камень, пад браўно падбіваем вінду і падымаем. Вінда — таўстая і длінная палка.* Ґемзы Шальч. 2. Прыстасаванне для падняцця цяжкасцей. *Вінда — блок, кола с пасам падымаць цяжасці.* Мярэцкія Глыб. *Вінда — падымаць балкі ўверх на казёл, як доскі пілавалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Віндай падымаюць камянь, дзерава, усе цяжасці.* Бакшты Іўеў. *Вінда на сталюгу паднімая броўна.* Дакудава Лід. *Дзве пласціны, калаўротак, пераkладзіна, кальцо кладзем — і вінда.* Малахоўцы Бар. *Прывязем да млына вос, мяшок на вінду — і пацягне наверх.* Мсцібава Ваўк. 3. Доўгая жэрдка, прымацаваная да столі, для падвешвання калыскі. *Када маленькіх рабят калыхалі, то рабілі вінду — калыска прывязвалася да палкі такой, яна хістаецца.* Быстрыца Астр. 4. Прыстасаванне для катання на лёдзе. *Вінду рабілі так: заганялі калка ў лёд, санкі прывязвалі і на санках каталіся. І так забіваліся на льду, як на вінду хадзілі.*

Мсцібава Ваўк. 5. Ліфт. *Вінда ў велькіх дамах е.* Старое Сяло Зэльв. *Вінда — гэта ў гарадах ліфт.* Магуны Паст., Жодзішкі Смарг.; *параўн.* польск. *winda* 'ліфт'.

ВІНДАВА'ЦЬ *незак.* Падымаць што-н. пры дапамозе рычага. *Як нада што падважыць, мы віндуям: падсаджуем вінду пат камень, браўно.* Гемзы Шальч. *Віндаю ўгору віндуюць бярвення.* Пацаўшчына Дзятл.

ВІ'НЕН, ВІ'ННЫ *прым.* Тое ж, што і в і н а в а́ т ы. *Вінен быў яму грошы. Яны за месяц вінны грошы.* Крэва Смарг., Навасёлкі Свісл. *Яна вінна была грошы.* Вялікія Баяры Шчуч.

ВІ'НКЕЛЬ *м.* Вугламер. *Вінкель служыць для вымярэння, каб нахілу не было ў які бок.* Гемзы Шальч. *Вінкель у столяра для вымярэння вугла.* Мсцібава Ваўк. *Вінкель, як хату рабіць, ужываюць.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *viñkelis* < ням. *Winkel* 'тж'.

ВІНКО'ВЭ *н. абрад.* Частавацца пасля таго, як пакладуць апошні вянок зруба хаты. *Было вінковэ і выпілі пара літруов горыэлкі.* Курашэва Чыж.

ВІНТ *м.* 1. Вінт. *Укруціў вінт.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. у знач. *прысл. вінтам.* Спіраллю. *Вінтам ішлося на гару.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВІНУ'ЦЦА *незак.* Кружыцца. *Мне галава так вінецца.* Вострава Маст.

ВІ'НЦІР *м.* Жмут, вязка. *Цэлы вінцір навязаў табакі.* Бакшты Іўеў.; *гл.* в і р ц і н а.

ВІ'НЦІРКА, ВІ'НЦЯРКА *гл.* ВЕ'НЦЕРКА

ВІНЯ'К *м.* Кісла-салодкі яблык. *Ёсць у нас віныкі, але я за яблакамі не асобенна ганюся.* Гемзы Шальч.

ВІР *м.* Глыбокае месца, яма ў рацэ. *Дзе вір, там натто круціць, там топяцца.* Быстрыца Астр. *На вір папаў і ўтапіўся.* Граўжышкі Ашм. *Гаворыць: «Ня лесь, там вір, заверне!»* Жодзішкі Смарг. *Там вір — глыбока.* Вязынка Маладз. *Вірэ — там круціць чалавека.* Жылі Іўеў. *Дзе вір, там і яма. У віру рака не замярзая.* Рудня Астравітая Чэрв. *Трафіў на вір — і ўтануў.* Старыя Смільгіні Воран. *У вір зацягнула — і не выплыў болей.* Беразіно Докш. *Вір там, дзе глыбока.* Пасіене Лудз.*Не лезь у вір, бо ўтопішса. Віровые ямы, на вірэ вада круце.* Баброўнікі Гарад. ▽ *Ідзі ў вір галавою* — згінь. Баброўнікі Гарад.; *гл.* в а к н о́.

ВІРАВА'ЦЦА *незак.* Бурна цячы, біць фантанам. *Вада віравалася, віром выходзіла.* Жылі Іўеў.

ВІРАВА'ЦЬ *незак.* Круціць. *Дзе вір, там вада віруя, улесь — яна цябе круціць.* Граўжышкі Ашм., Ністанішкі Смарг. *Віруя вір, такая быстрыня, ня мох удзяржацца.* Жылі Іўеў.

ВІРАТНО' *гл.* ВЕРАЦЯНО'

ВІРАХАЛО'П *м. асудж.* Няўважлівы, рассеяны. *Віраха-*

*лоп — і тоя, і тоя хопя, ні да толку, ні то дурны, рассеяны чалавек.* Рыбчына Віл.

ВІРАЦЕ′НЬ *м.* Вялікае верацяно. *На віраценъ нітак наматываеш.* Лісна В.-Дзв.

ВІРАЦЯНО′ *гл.* ВЕРАЦЯНО′

ВІРБА′ *гл.* ВЯРБА′

ВІРБА′ТАЯ, ВЕРБА′ТА *прым.* 1. Бясхвостая карова. *Карова вірбатая — з вадою, без хваста.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Бязрогая карова. *Вербата карова — бязрогая.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* літ. *vir̃bti* 'сячыся' (ЛТ, 171).

ВІРЛАВО′КІ, ВЕРЛАВО′КІ, ВЯРЛАВО′КІ, ВАРЛАВО′КІ *прым.* Тое ж, што і в а л а в о́ к і. *У іх вірлавокі маліц і дзейка вірлавокая.* Мярэцкія Глыб. *Так нічога, але ната вірлавокі малец.* Гемзы Шальч. *У яго вочы, як у вала, вірлавокія.* Пацаўшчына Дзятл. *Верлавокі ён, вот некрасівы.* Кіралі Шчуч. *Ён верлавокі такі.* Скрудалена Даўг. *Вярлавокі хлопяц — вочы навярху.* Ракаўскія Швянч. *Яна варлавокая такая.* Ёдлавічы Брасл.

ВІРЛА′ТЫ *прым.* Тое ж, што і в а л а в о́ к і. *О, які ён вірлаты, страх адзін!* Пацаўшчына Дзятл.

ВІ′РЛЫ толькі *мн. зневаж.* Вочы. *Вывярнуў вірлы, паглядае.* Пацаўшчына Дзятл.

ВІРО′К, ВІР′ЁК *м.* Палачка з прарэзанымі дзірачкамі з абодвух канцоў для намотвання нітак на клубок. *Вірок — палачка, дзве дзірачкі ў канцы, нітку ўводзіць і матаіць.* Кураполле Паст. *Вірок — ім маталі на клубок ніткі.* Саланое Віл. *Нітка праз вірок ідзе і віецца на клубок.* Каўняны Гродз. *Матаць з вітушкі на клубок вірок патрэбен.* Гемзы Шальч. *Вірком увіваям клупкі.* Малахоўцы Бар. *Ніткі навіваюць вірком.* Беразіно Докш. *Вірок — ніці віць.* Дзяніскавічы Ганц. *З вітушкаў праз вір′ёк маталі ніткі.* Старыя Трокі Трак. *С тых вітушкаў нітка ў вір′ёк і ўецца на клубок.* Грыкені Вільн. *Віркі самі рабілі, не трэба было купляць.* Сапоцкіна Гродз.

ВІРО′ЧАК *м. памянш.* да в і р о́ к. *Вірочак быў, нітку ўцягнеш, уеш, кастрыца высыпаецца, клубок расце, наўеш клупкі.* Альхоўцы Лях.

ВІРСТА′ *гл.* ВЯРСТА′ II

ВІРСТА′Т *м.* Ручны станок біць алей. *Даўней вірстаты такія былі і білі алей.* Саланое Віл.

ВІРТАЦЕ′НЬ *м.* Ліна, скручаная з галля. *З яловых прутоў круцілі віртатні, як лес сплаўлялі.* Кураполле Паст.

ВІ′РЦІНА *ж.* Нізка, вясло. *Вірціна абаранак, вірціна кляновага лісту.* Малькуны Ігн. *Вірціна лісту вісіць на гарэ.* Жыдзевічы Іўеў. *Нарэзаў лыкаў цэлу вірціну — так казалі даўней.* Кіралі Шчуч. *Налавіў рыбы цэльную вірціну.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *vìrtinė* 'тж' (ЛТ, 171).

ВІРЫ′СТЫ *прым.* Глыбокі, з наяўнасцю віроў. *Вірыстая рэчка: берагі абрывістыя, глыбокая.* Гемзы Шальч.

ВІР′Ю′К *м.* Тое ж, што і в і р о́ к. *Вір'юк — ім віем клубок.* Магуны Паст.

ВІСАРВА′ГА *гл.* ВАСАРВА′ГА

ВІСЕ′ЦЬ, ВІ′СЕЦІ *незак.* Вісець, звісаць. *Армяк будзіць вісець.* Мярэцкія Глыб. *Вісяць штаны на сцяне.* Саланое Віл. *Ішчэ адна торба вісець. Хай вісяць стаканы на плоце.* Мсцібава Ваўк. *Вісяць соплі са страхі.* Новікі Гродз. *То саплякі да долу вісяць, калі пасля адлігі мароз.* Дзяніскавічы Ганц. *Вісіт конэц намэткі.* Смаляніца Пруж. *Нічальніцы ў кроснах вісяць на ручкох.* Дакудава Лід. *Будзя дошч — як у мяху вісіць.* Бакшты Іўеў.

ВІСКЛІ′ВЫ *прым.* Плаксівы. *У яе дзіця вісклівая.* Рыбчына Віл.

ВІ′СЛА I *ж. бат.* Ніцая вярба. *Вісла расцець, сукі к долу апушчаны. Вясной вісла каткі выпускаіць. Дугі гнуць з віслы.* Кураполле Паст. *У віслы лісця вузянькая, гэта дрэва насаджана каля рэчкі.* Ракаўскія Швянч.

ВІ′СЛА II *ж. зневаж.* Гультайка. *Меншая дачка — вісла, не памагала мацяры.* Вецярэвічы Пух.

ВІ′СУС *м. асудж.* Гуляка, прайдзісвет. *Вісус ты!* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *wisus* 'свавольнік, гарэза'.

ВІСУ′ШЧЫ, ВІСЮ′ШЧЫ *прым.* Вісячы. *Вісушчая лямпа была.* Кураполле Паст. *Вісушчыя часы купіла.* Ністанішкі Смарг. *У кальбелях вісушчых гутаталіся.* Ісерна Слуц. *Вісюшчая калыска была.* Індра Красл.

ВІСХВА′ *ж. бат.* Від асакі. *Пакасілі вісхву.* Быстрыца Астр.; *гл.* в і к с а́.

ВІСЯЛО′ *гл.* ВЕСЯЛО′

ВІСЯЛО′СЦЬ *ж.* Весялосць. *Сядзіць адна, ей вісялосці німа.* Кураполле Паст.

ВІСЯ′ЧЫ *прым.* Тое ж, што і в і с у́ ш ч ы. *І вісячы світач быў у кага.* Саланое Віл.

ВІТ *гл.* ВІД

ВІТАВА′ЦЬ *незак.* Пераплятаць хворастам, дубцамі. *Вітуюць віткамі плот.* Грыкені Вільн.; *парайн.* літ. *(ap)vytúoti, (ap)vyčiúoti* 'абкруціць дубцамі, хворастам'.

ВІТА′Х *гл.* ВЯТО′Х

ВІ′ТАЧКА *ж. памянш.* 1. Адна столка ў вяроўцы. *Завяска ў мяшку разбрызгалася на вітачкі.* Гемзы Шальч. 2. Дубец. *Вітачка з бярозы малодзенькай.* Беняконі Воран.

ВІТАШО′К *гл.* ВЕТАШО′К

ВІ′ТКА I *ж.* 1. Дубец. *Якуб вітку брау і паехаў. Віткай каня паганяе.* Магуны Паст. *Вырубалі вітку і мералі азяркодна не дасталі.* Старыя Смільгіні Воран. *Вітка — гнуткая галінка.* Чычалі Швянч. 2. Розга. *Вітка з веніка магла быць.*

*Даўней вітка пад бэлькай вісела — пастрашыць дзяцей распусных.* Быстрыца Астр. *Бывала, на прыгоне рабілі і палучалі вітак дабавак.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. *мн.* Дубцы для пляцення кошыкаў. *Кошыкі круглыя з віток. У кошыку два лукі, жэбры і віткі, віткамі заплецены. Я віткі дзеду прынясу для кошыка.* Грыкені Вільн. 4. Галіны, якімі перавіваюць плот, прывязваюць салому на страсе і г. д. *Глеймы звязвалі віткамі з лазы.* Індра Красл. *Плеценая агарожа віткамі выплецена.* Ракаўскія Швянч. *Плот віткамі перакручвалі.* Старыя Трокі Трак. *Калы ўб'юць, віткай заў'юць, завітуець віткамі. Віткі з лазы. На дах салому, а на салому — латы і вітка. Калісь былі атосы з вітак пакручаны.* Грыкені Вільн. *Загінаўся лук, і віткі круціліся, зубы устаўляліся — і барана.* Крэва Смарг. *Саломы рат расцелеш, патом вітку за грабясту наверх выцягвае і ўвязвае.* Беняконі Воран. *Круцілі віткі і віткай прывязвалі прывязіну да грабясціны.* Гемзы Шальч. *Віткай бярозавай прывязуюць салому.* Старыя Смільгіні Воран. *Віткі рубаюць і круцяле круцяць.* Каўняны Гродз. *Плаціны пераплятали віткамі.* Магуны Паст. *Вітка — скручаны дубец, чым прымацоўваецца аглобля да саней.* Калясное Міхал. 5. Умоўны знак, вяха. *Вітка — палачкі і да яе прывязваюць пучок саломы. Вітку паставілі на аселіцы — і ніхто не пасець. Гэта знак, што нельзя пасціць.* Саланое Віл. *Пастаў вітку, кап не хадзілі! Вітка — метка, якая абазначае, што тут пасеў.* Палік Барыс. ∇ *Вітка б'ець, а касцей не ўломіць, а злосць успакоіць* — пра пакаранне дзяцей розгай. Ахрэмаўцы Брасл.

ВІ'ТКА II *ж.* Пладовая галінка некаторых культур. *У просі вэлікі віткі.* Курашэва Чыж.

ВІ'ТКА III *ж.* Нізка лісцяў. *Вітка кляновых, дубовых лісцяў.* Беразіно Докш.

ВІ'ТКА IV *ж.* Стрэшка над стогам. *Вітка над стогам, кап сена не макрэла.* Беразіно Докш.

ВІТО'Х *гл.* ВЯТО'Х

ВІТРА'К *м.* Ветраны млын. *Былі ветраныя млыны, і зовюць вітрак, у ім крылі на вінце, у кош засыпалі зярно, а мука сыпалася ў скрыню.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВІТРАКІ' *мн.* Летні абутак, басаножкі. *Абула вітракі і пабегла.* Саланое Віл.

ВІ'ТРЫК *гл.* ВЕ'ТРЫК

ВІ'ТРЫТЫ *гл.* ВЕ'ТРАЦЬ

ВІТУ'ХА *ж.* Вітушка. *З пачынка звівалі ніткі на вітуху.* Рыбчына Віл.

ВІТУ'ШКА *ж.* Тое ж, што і в і т у́ х а. *З верацяна на вітушку маталі, бывая, з вітушкі снавалі.* Гемзы Шальч. *Пражу са шпулі маталі на вітушку.* Лоск Валож. *Пралі і маталі на вітушку.* Новыя Мацалі Варэн. *На вітушку звівалі ніткі са шпулі і сушылі, з вітушкі снавалі кросны.* Рудня Астравітая

Чэрв. *Потым нітка с калаўротка круціцца на вітушку, с тых вітушак — на клубок.* Грыкені Вільн. *З верацяна маталі на вітушку. Ставяць дзве вітушкі і снуюць.* Беняконі Воран. *Вітушка — маткі зматаць.* Крэва Смарг. *З вітушкі праз вір'ёк маталі ніткі.* Старыя Трокі Трак. *Вітушка — крыжовіна, ставіш чатыры верацяне і ніткі маталі.* Малахоўцы Бар. *Вітушка была, маткі разматвалі, такі калочак, а на калочак надзяецца крыжык з пянькамі.* Дзяніскавічы Ганц. *У вітушцы шпень і крыжы.* Азяраны Раг. *Вітушка, што развіваць талькé.* Пацаўшчына Дзятл. *Вітушка — маткі вывіваць: кладзе маток на вітушку і на клубок вывівае.* Альхоўцы Лях.

ВІ'ТЫ *дзеепрым.* Кручаны. *Былі аборы, вітыя з лёну, яны ўцягваліся ў лапці.* Дакудава Лід.

ВІХА' *гл.* ВЯХА II

ВІХА'ЦЦА *незак.* Варушыцца. *Віхаіцца трапка на вішні, а шпакі ні баяцца.* Мярэцкія Глыб.

ВІ'ХЕР *гл.* ВІХО'Р

ВІХЛА' *ж.* Вярба, лаза. *Віхла расце, як лаза, падобна да вярбы. Дугі гнуць з яе.* Міратычы Карэл. *Віхла была, з яе дугі гнулі.* Бакшты Іўеў.

ВІХО'Р, ВІ'ХЕР, ВЫ'ХОР *м.* 1. Парывісты кругавы моцны вецер. *Віхор бывая летам, вецяр сільна круціць.* Гайна Лаг. *Віхор уляціць і круціць, можа вос перавярнуць. У нас адну дзевачку скруціла.* Ністанішкі Смарг. *Віхор як хваця лесу, зломя сосну, і панясець, і скрыша. Перат сёмуху віхор як ляцеў, сарваў усю салому, раскрыў усю хату. Як пакруціў віхор хвою!* Рыбчына Віл. *Наляцеў такі віхер!* Старыя Трокі Трак. *Дывы, выхор крутыть.* Сіманавічы Драг. 2. у знач. *прысл. віхрóм.* Віхрам. *Віхром вада ўе.* Малахоўцы Бар.

ВІХО'ТКА *гл.* ВЯХО'ТКА

ВІХРАВА'ТЫ *прым.* Віхрасты (пра поўсць у жывёлы). *Віхраваты парсюк с пакручанай шэрсцю на спіне на яду добры.* Гемзы Шальч.

ВІХРА'СТЫ *прым.* Тое ж, што і в і х р а в á т ы. *Віхрастая спіна ў парсюка і шэрсць такая жэ.* Лісна В.-Дзв.

ВІХРО'ВІНА I *ж.* Пясчаны ўзгорак, наогул пясчанае месца. *Там адна віхровіна, пясок занясе вочы.* Старыя Смільгіні Воран. *Віхровіна—голое месцэ, нічого нэ ростэ.* Азарычы Пін.

ВІХРО'ВІНА II *ж.* Вір. *Віхровіна ў рэчцы, дзе вада віруе.* Старыя Смільгіні Воран.

ВІХРО'ВІШЧА *н.* Пясчаны бугор. *Віхровішча вецір накруціў.* Мярэцкія Глыб.

ВІХТАВА'ЦЦА *незак.* Харчавацца. *Чым яны там віхтуюцца?* Вострава Маст.

ВІХТАВА'ЦЬ *незак.* Карміць, даглядаць; апякаць. *Чым ён іх* [дзяцей] *віхтуя? Там яго троху цётка віхтавала. Так яго віхтавалі людзі да самай смерці.* Вострава Маст.; *парайн.*

польск. *wikt,* дыял. *wicht* 'сталаванне, штодзённая страва, паёк, які выплачваўся збожжам, жыўнасць', *wiktovać* 'сталаваць, карміць, утрымліваць на сваіх харчах' (СВ, VII, 606—607).

ВІ'ЦЦА, ВЫ'ТЫСЬ *незак.* 1. Расці, абвіваючыся вакол чаго-н. *Дзікі вінаграт віўся на шасту.* Ахрэмаўцы Брасл. *Віецца хмель.* Быстрыца Астр. 2. Кружыцца. *Віліся сарокі і схвацілі курчака.* Кураполле Паст. 3. Клубіцца. *Дым віецца, прадуха ёсць у коміне.* Кураполле Паст. 4. Намотвацца. *Нітка ўецца на клубок.* Грыкені Вільн. 5. Выгінацца, перакручвацца. *Гадзюкі віліся ў адным клубу.* Ёдлавічы Брасл. ▽ *Коло сэрця гадына в'ецьця.* Сіманавічы Драг.

ВІЦЦЁ *зб. н.* Галлё. *Раньшэ крылі віццём.* Мішневічы Шум. *Віццё, што калкі звязваюць. Ганкі вязалі віццём.* Лісна В.-Дзв. *Трэба віцця схадзіць у лес — закутаць плот.* Азяраны Раг.

ВІЦЬ, ВЫ'ТЫ *незак.* 1. Намотваць ніткі на што-н. *Віць ніткі на клубок.* Грыкені Вільн. *Нітку віюць на верацяно.* Магуны Паст. *Як віеш ніткі — засмаршка зашмаргнецца.* Рыбчына Віл. *Клубка в'е.* Сіманавічы Драг. 2. Віць вяроўкі. *Ён добра ўець вяроўкі.* Мярэцкія Глыб. *Віюць вяроўкі.* Чычалі Швянч. *Вяроўкі віюць с канаплі.* Магуны Паст. *С патрэп'я пута віюць.* Кураполле Паст. *Даўней з пянькі вяроўкі вілі і лапці плялі.* Саланое Віл. *Вілі вяроўкі так: звіе вяроўку, а потым на крух і круціць, здратуе, а трэцяй павівае.* Паляцкішкі Воран. *Путы віюць, вяроўкі вілі з канопляў. Як віць, то хазяін віе.* Гемзы Шальч. *Я даўней сам віў вяроўкі.* Крынкі Крын. 3. Віць, плесці. *Віюць вянок.* Магуны Паст. *Колысь молодусы вынка вылы́.* Сіманавічы Драг. 4. Рабіць гняздо. *Пташачка хароша гнязде ўе.* Дзяніскавічы Ганц. *Дажа пташка гнязда ня вія ў той дзень.* Старыя Смільгіні Воран. 5. Плесці павуціну. *Павук уе павуціну.* Азяраны Раг. 6. Круціць, віраваць. *Віхром вада ўе.* Малахоўцы Бар. *Мяне ў аўтобусе ўе, галаву марочыць, рваць бярэ.* Вецярэвічы Пух. 7. Гнаць. *Я ўю іх розгай.* Граўжышкі Ашм. ◇ *Віе ў галаве* — кружыцца галава. *Віе ў галаве, аш у вачах міхціцца.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ.*výti* 'у 1, 2, 4, 7-м знач.' (ЛТ, 171).

ВІЧА'НКА *ж.* Скошаная на корм віка. *Дай каню вічанкі.* Рагулішкі Даўг.

ВІШ *м.,* ВІША' *ж.* 1. *бат.* Від асакі. *Віш — е такая трава, асака.* Альхоўцы Лях. *Віша — трава бальшушчая і рэская, можаш пальца парэзаць; пашла накасіла вішы пасляць карову, бо віша палсухая, расце на сухом, а у вадзе — асака, віша з макушкамі наверсе, як мятла, яна на гравяры расце, сама усока* [высокая], *у рост чалавека, яе нічога ня есь, можа, зімою ласе пітаюцца; віша пруткая, яе не аблажвае снех.* Кузьмічы Люб. 2. Трава, якая асталася на зіму не ско-

шанай. *Віш — трава старая, яна завішавала.* Малахоўцы Бар. *Віш — дзе ня косяць доўго, у пушчы трава звішая.* Альхоўцы Лях. *Як трава звішэла — віш зовом, віш цвёрды зробіцца.* Дзяніскавічы Ганц. *Вішы вос прывёс. Віш — чорнае сена, як косяць павосені.* Рудня Астравітая Чэрв. *Віш косяць пасля марозу.* Малахоўцы Бар. *Віш каровам добра патсцілаць. Скасі на віш, зграбі вішу на патсцёл.* Дзяніскавічы Ганц. *Віша — трава, пасохлая на корані.* Ісерна Слуц.; *парайн.* польск. *wisz, wiszar* 'асака' (СВ, VII, 360).

ВІШАВА'ЦЬ *незак.* Засыхаць на корані. *Вішуе нескошаны сенакос.* Малахоўцы Бар. *Вішуя трава, не пакасілі — вот і вішуя.* Пасека Ст.-Дар.

ВІШАЛА' *ж.* Прыстасаванне з жэрдак конусападобнай формы для сушкі сена. Лісна В.-Дзв. *Вішала з жордак, як крыша, і папірок жорткі набіты, і на тые жорткі сена ложыцца.* Пасіене Лудз.

ВІША'НКА *ж.* Сяннік. *Вішанка напіхаецца вішам, унутры віш.* Альхоўцы Лях.

ВІША'Р, ВЫШЯ'Р *м.* Тое ж, што і в і ш 2. *Як састараецца трава — вішар. Накасіў вішару.* Вецярэвічы Пух. *Вішар — пустая трава, ужываем на потсцёл.* Смаляніца Пруж. *На потсцёл накосіў вішару.* Ялова Пруж. *Вышяр скосыв.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* укр. *вишар* 'тж' (Грынч., I, 200).

ВІ'ШНЯ *ж. бат.* Вішня. *Купаюцца куры пад вішняй.* Рыбчына Віл. *Дзікія вішні растуць.* Гемзы Шальч.

ВІШНЯ'К *зб. м.* 1. Вішнёвы зараснік. *Густы вішняк парос.* Мярэцкія Глыб. *Лісця на вішняку пасохлі.* Вязынка Маладз. *За́рас вішняк як не ачысціш, то зарасцець — не пралезіш.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Вішнёвае лісце. *Вішняк кладу ў агурке, як салю.* Вецярэвічы Пух.

ВІ'ШТУКЛІ *мн. бат.* Казялец. *Віштуклі — страшне горкія.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *vištakliai* 'тж'.

ВІШЧА'ЦЬ, ВІШЧА'ЦІ, ВЫШЧЯ'ТЫ *незак.* Віскліва крычаць. *Парася вішчыць.* Вострава Маст. *Вішчыць, як шчанюк.* Навасёлкі Свісл. *То вы так вішчалі?* Вялікі Краснік Пруж. *Вішчыт, а нэ сповае.* Смаляніца Пруж. *Вона вышчыть.* Сіманавічы Драг.

ВІШШО' *зб. н.* Галлё. *Нада наламаць вішша на венікі.* Ністанішкі Смарг.

ВІШЫ'ЦЬ *незак.* Ставіць вехі. *Нада вішыць дарогу па азяру, як завеяла зімой.* Лісна В.-Дзв.

ВІЮ'Н, В'ЮН, УЮ'Н, ЮН *м. заал.* Уюн. *Віюн — рыба такая. Налавіў віюноў.* Чычалі Швянч. *Ёсць у возяры віюны.* Малькуны Ігн. *Віюн — тонкі, шэры, у бузяных местах віюны водзяцца.* Кураполле Паст. *Віюны ў нас водзяцца.* Магуны Паст. *Ня ядзём віюноў.* Ёдлавічы Брасл. *Віюны навясне паявяцца, і дзе камянь, там іх дзесяць-дзвінаццаць штук, а ба-*

*цяны шукаюць гэтых віюноў. Як хто есць іх, то набяруць торбу віюноў, прыносяць дахаты, галовы аткідаюць, а гэта рубаюць і галкі робяць.* Гемзы Шальч. *Віюны лапаем бучам. Віюн не мая касцей. Віюн і на патэльні крутая.* Старыя Смільгіні Воран. *В'юн — такі маленькі. В'юны цёмныя і многа меншэ за піскуна.* Лісна В.-Дзв. *В'юн — такая рыба.* Галоўні Воран. *В'юн такой даўжыні, у яго касцей німа.* Кіралі Шчуч. *Уюн — рыба такая.* Мярэцкія Глыб. *Уюны з жабінымі голавамі.* Альхоўцы Лях. *З уюна мяккае мяса.* Дзяніскавічы Ганц. *Уюн верціцца, як вужака.* Беразіно Докш. *Пасыпалі соллю, уюны пішчаць, вытруцца адзін аб аднаго і патравяцца.* Рудня Астравітая Чэрв. *От сыты, як уюн.* Ухвала Круп. *Наловыв юны́в, можэ, с поввыдра, а быльш ныякыі рыбы ны було. Зловыв юна́.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* літ. *vijūnas* 'тж' (ЛТ, 171).

ВІЮ'РКА *ж.* Тое ж, што і в а в ё р к а. *Віюрка жыве ў дупле.* Мсцібава Ваўк.

ВІЮРО'К *м.* Тое ж, што і в і р о́ к. *Віюрок ест ніці матаць.* Старыя Смільгіні Воран.

ВІЮ'ХА *ж. бат.* Бярозка. *Віюха спляла бульбу.* Рагулішкі Даўг.

ВІЮ'ШКА *ж.* Прыстасаванне для намотвання нітак. *Калок на сценку набіваецца і віюшка надзяваецца.* Ракаўскія Швянч.; *гл.* в і т у́ ш к а.

ВІ'ЯЛКА *гл.* ВЕ'ЯЛКА

ВІ'ЯННЕ *гл.* ВЕ'ЯНЯ

ВІ'ЯТЫ *гл.* ВЕ'ЯЦЬ

ВЙІЕ'СТІСЕ *зак.* ◇ *Вйіестісе в кості* — надакучыць, абрыднуць. *Так мніе вйіевсе в кості, што до смэрті буду помэтаті.* Курашэва Чыж.

ВКАНУ'ТІ *зак. экспр.* Зайсці, наведаць каго-н. *Як будэ в сэбэ, то, можэ, і до нас вканэ̑.* Курашэва Чыж.

ВКУПІ'ТІСЕ *зак.* Далучыцца, уступіць. *Колісь як молоды хлопэць хотіев вкупітісе до кумпаніі, то мусів поставіті літэр горыэлкі.* Курашэва Чыж.

ВКУ'ПНЭ *н.* Барыш, уступнае. *Як хочэш до нас прыстаті, то постав бутэль вкупного.* Курашэва Чыж.

ВЛА'ДАЦЬ *незак.* Валодаць. *Яна рукой не владая.* Гемзы Шальч.

ВЛАСЦЬ *ж.* Улада. *Мы жылі пад двума власцямі.* Саланое Віл. *Цяпер харошая власць.* Груздава Паст.; *параўн.* руск. *власть* 'тж'.

ВЛІЕ'ЖНО *прысл.* ∇ *Хоч нэ вйіежно, але вліежно* — хоць мала грошай, затое лёгка працаваць. Курашэва Чыж.

ВЛІПІ'ТІ *зак. перан.* Сурова пакараць. *За тое, што нэ было таблічкі, поліціянт вліпів сто злоты кары.* Курашэва Чыж.

ВЛІЯ'ТІ *незак.* Уплываць, уздзейнічаць. *Я крычу, а то на его нэ вліяе. Кажут, што некоторы очы вліяют на дітя, можэ*

*захворыэті, як на дітя подівіцце.* Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *влиять* 'тж'.

ВЛУ'ЧКА *ж.* Баваўняныя ніткі. *Куплялі влучку і дываны ткалі.* Магуны Паст.

ВЛЯЛЮ'ШЧЫТІ *зак.* Даць пэўную колькасць чаго-н. *Думаеш, што вуон тобіе влялюшчыт?* Курашэва Чыж.

ВНІМА'НІЕ, ВНІМА'НЕ *н.* Увага. *Яна і вніманія на мяне ня берацъ.* Лісна В.-Дзв. *Вуон на мэнэ ніякого вніманія нэ бэрэ.* Курашэва Чыж. *А я на ёго́ й быз вніманія.* Сіманавічы Драг. *Селі на каней і на людзей вніманe не абрашчаюць.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *внимание* 'тж'.

ВНІСТО'ЖЫТІ, ВНЫСТО'ЖЫТЫ *зак.* Знішчыць. *В збуожові туолько осоту, што нэ можна ёго вністожыті.* Курашэва Чыж. *Вжэ булы вныстожылы ввэсь ліс, а зарэ посадкы сталы робыты.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* руск. *уничтожить* 'тж'.

ВНЭТ *прысл.* Ушчэнт, зусім. *Валасы внэт вылязлі клакамі.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *wnet* 'зараз'.

ВО *часц.* Вось. 1. *указ. Артай во мой уміраець.* Чычалі Швянч. *Во такой грубіні кнігі былі.* Магуны Паст. *Пагэтуль во ўлезла ў балото.* Малахоўцы Бар. 2. *узмацн. Дзе во пераначаваць?* Старыя Трокі Трак. *Во нам выгадна пасціць.* Магуны Паст.

ВО'БАК *прысл.* 1. Разам. *Стуляцца вобак адзін і другі ліст.* Ністанішкі Смарг. 2. Убок, бокам. *Пуля пашла вобак за вухо.* Ахрэмаўцы Брасл. *Заключына зацягуя вобак ракі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВО'БАРАТНІК *м. бат.* Падарожнік. *Як жывот баліць, карэня вобаратніку п'юць.* Рыбчына Віл. *Вобаратнік і шчаўя збірала.* Саланое Віл.

ВО'БАРТКА, ВО'БЕРТКА *ж. памянш.* да в о́ б а р ц ь. Лустачка. *Аткрой вобартку хлеба! І старая аткроіла дзве воберткі.* Дзяніскавічы Ганц.

ВО'БАРЦЬ, ВО'БЕРАЦЬ *ж.* Луста. *Вобарць хлеба; дзве воберацi аткроiла.* Дзяніскавічы Ганц.

ВО'БАТ *м.* Вобад. *Вобат кругом кола.* Жодзішкі Смарг. *Вобат у коле, на вобадзе шына.* Малахоўцы Бар. *Вобат кругом абхватвае кола.* Вялікія Баяры Шчуч.

ВО'БЖЫ *мн.* Аглоблі ў сасе, баране. *У сасе былі вобжы, гужы чаплялі за вобжы. І ў баране вобжы, за іх пастронкі чапляюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вобжы ў сасе, дзе гужы чапаюцца.* Індра Красл. ∇ *Да Юр'я як ары ды ары — хоць вобжай папары, абы чорным дагары.* Ухвала Круп.

ВО'БЛАК *м.*, ВО'БЛАКА *н.* і *ж.* Тое ж, што і а б л о́ к. *Воблак найшоў на небя.* Кураполле Паст. *За воблак зайшло сонца.* Вострава Маст. *Адно — воблака, а як многа, то аблокі.* Старыя Смільгіні Воран. *Адна воблака на небя; сягоня воблак німа, не садзіця бульбу, ня вырасціць.* Кураполле Паст.

ВО'БМАЛЬ, О'БМАЛЬ *прысл.* Нямнога, малавата. *Сена вобмаль было.* Мярэцкія Глыб. *Саломы сёльта вобмаль.* Сухарава Мін. *Сіна обмаль гэтого року, алэ някось пырызымуімо корову.* Сіманавічы Драг.

ВО'БМАРАК *м.* Галавакружэнне. *Нарабіўся — аш вобмарак вядзе.* Міратычы Карэл. *Вобмарак павёў.* Рыбчына Віл. *Вобмарак у яго быў у галаве.* Альхоўцы Лях.

ВО'БМЕШКА *ж.* Вотруб'е. *Бывала, уночы мелядь, каб намалоць вобмешкі.* Стральцы Шальч.

ВОВК *гл.* ВОЎК I

ВОВКОВА'ТЫЙ *гл.* ВАЎКАВА'ТЫ

ВО'ВНА *гл.* ВО'ЎНА

ВОВНІ'СТЫ, ВОВНЫ'СТЫЙ *прым.* Пакрыты густой і доўгай поўсцю. *Чабаны буольш вовністы, як просты овэчкі.* Курашэва Чыж. *Мы дыржялы вовнысты говычкы́.* Сіманавічы Драг.

ВО'ГАЛАСКІ толькі *мн.* Водгалас. *Як крыкнеш, гойнеш — аш вогаласкі пайдуць па лесу.* Кураполле Паст.

ВО'ГІР *м.* Жарабок. *Вогір у яго быў, некалькі кароў.* Галубы Маст. *Некалі казалі на каня вогір.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *ogier* 'жарабец'.

ВО'ГЛЫ *прым.* Вільготны. *Еслі лён ні воглы, ставім яго.* Індра Красл.

ВО'ГНІВА, ВО'ГНІВО *н.* Тое ж, што і а г н і в а. *Вогніва было: прыкладзе губку, секні — іскарачкі ляцяць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Вогніва — металічны брусочак, якім красалі агонь.* Азяраны Раг. *Вогніво было дайней.* Тухавічы Лях.

ВО'ГНІК *м. мед.* 1. Хвароба, якая выклікае высыпку на губах. *Апрышчыцца каля носу, каля роту — гэта ў дзяцей вогнік.* Палік Барыс. *Вогнік разліваецца на барадзе.* Ухвала Круп. *Вогнік на барадзе струпкамі ўскаквая.* Малахоўцы Бар. *Вогнік — прыкідзь у дзяцей.* Азяраны Раг. 2. Пачырваненне вакол раны, скулы. *Вогнік прыкінаўся — красна каля скулы.* Мярэцкія Глыб. *Вогнік — раздражнілася рана.* Жылі Іўеў. *Прыкінуўся вогнік.* Магуны Паст. 3. Прэласць. *Самадзельныя пялёнкі не дапускаюць вогніка. Вогнік — красната, прэласць такая.* Індра Красл.

ВО'ГНІСКО *н.* Месца, дзе гарэў касцёр. *Як кладуць агонь — вогніско астаецца.* Альхоўцы Лях. *Вогніско — дзе палім.* Масілавічы Сл.

ВО'ГНІШЧА *н.* 1. Тое ж, што і в о́ г н і с к о. *Расклалі агонь, усё згарэла, астаўся попел — гэто вогнішча.* Малахоўцы Бар. 2. Касцёр. *Расклалі вогнішча і грэюцца, а пра кароў і забыліся.* Беразіно Докш. 3. Пажарышча. *Немец спаліў нас, па вогнішча прышла, пытаю: «Дзеці, што будзім рабіць?».* Саланое Віл.

ВО'ГНЯВІШЧА *н.* Тое ж, што і в о́ г н і с к о. *Вогнявішча — тоя месца, дзе агонь гарэў, як каровы пасцілі.* Бакшты Іўеў.

ВО'ГЯРЫ толькі *мн.* Блікі, водблескі (на вадзе). *Па вадзе бегаюць вогяры.* Альхоўка Навагр.; *парайн.* літ. *vagà* 'лінія, дарожка на паверхні ціхага возера вечарам'.

ВОДА' *гл.* ВАДА'

ВО'ДАЛЬ, ВО'ДДАЛЬ, ВО'ДАЛЛЯ, ВО'ДАЛЯ, ВО'ДДАЛЯК *прысл.* 1. Аддалена. *Нада было водаль паставіць хату.* Лісна В.-Дзв. *Водаль сядзела.* Кураполле Паст. *Мы воддаль жылі.* Альхоўка Навагр. *Недзя водалля ў полі была.* Вецярэвічы Пух. *Чалавека забілі і водаля пахавалі.* Альхоўцы Лях. 2. На пэўнай адлегласці ад аб'екта. *Стала атходзіць водаль ат хаты.* Кураполле Паст. *Водаль я не чую, што гавораць.* Лоск Валож. *Яна водаль ад нас жывець.* Саланое Віл. *Воўк атходзіць водаль ат свайго гнязда, бліска нічога не возьмя.* Вецярэвічы Пух. *Яны водаль жывуць ад дзярэўні.* Азяраны Раг. *Воддаляк вёскі хата стаіць.* Кіралі Шчуч.

ВО'ДАР *м.* Пах, духмянасць. *Кветы маюць інакшы водар, дух.* Ністанішкі Смарг.; *парайн.* польск. *odór* 'дрэнны пах, смурод' < лац. *odor* 'пах, духмянасць'.

ВО'ДВЕТКІ, ВО'ТВЕТКІ толькі *мн.* Тое ж, што і а д в е́ д з і н ы. *Даўней у водветкі шлі да радзіхі; бліноў, бондаў напякуць і ідуць.* Мсцібава Ваўк. *На вответкі хадзілі, атведвалі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВО'ДЗЕКА, ВО'ДЗІКА *прысл.* Тут. *Водзека лягу так.* Кіралі Шчуч. *Водзіка хлеп.* Ахрэмаўцы Брасл. *Водзіка расцець арнік.* Валынцы В.-Дзв.

ВО'ДЗЫЎКІ толькі *мн.* Тое ж, што і в о́ г а л а с к і. *Аш водзыўкі ідуць па лесе.* Кураполле Паст.

ВО'ДЛЮДНІК *м. асудж.* Пануры, хмурны чалавек. *Ён адзін і адзін — водлюднік нейкі.* Кіралі Шчуч.

ВО'ДНА БУЛА'ЎКА *ж. бат.* Рагоз. *Як чалавек апарыць ногу, то засыпалі пухам воднай булаўкі — робіцца струп і гоіцца.* Мсцібава Ваўк.

ВОДО'ХРЫШЧА *гл.* ВАДО'ХРЫШЧА

ВОДОХРЫШЧЫ' толькі *мн.* Тое ж, што і в а д о́ х р ы ш ч а. ∇ *Трышчы, ны трышчы — вжэ пройшлы водохрышчы* — пра спад маразоў. Сіманавічы Драг.

ВО'ДРА *ж. мед.* Адзёр. Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *odra* 'тж'.

ВО'ДРЫЦА *ж.* Тое ж, што і в о́ д р а. *Бывала, усе Валынцы выкаціць водрыца.* Валынцы В.-Дзв.

ВОДЯНА'Я КОЛЯДА' *ж. абрад.* Дзень перад вадохрышчам. *На водяную коляду свэтят воду.* Курашэва Чыж.

ВОДЯНА'Я Я'ШЧЫРКА *гл.* ВАДЗЯНА'Я Я'ШЧАРКА

ВО'ЖАХ *м.* 1. Кіёк, якім мяшаюць вуголле ў печы, дровы. *Вожах — палка дрова патшавельваць.* Масілавічы Сл. *Стаіць*

*палка каля печы, гэтай палкай мяшаць у печы можна — гэто вожах.* Малахоўцы Бар. 2. Палка, на якую насаджваюць вілкі, качаргу і інш. *Вожах — палка, на якую насаджваюць памяло.* Нізок Уздз. *Налажы на вожах памяло!* Міратычы Карэл. *Вожах у вілках. І чапляя, і качарга, і хваёвы венік — усё насаджваецца на вожах.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Калок, якім падпіраюць навой у кроснах. Альхоўцы Лях. 4. Касцёр, вогнішча. *Вожах — кучка гаручых дроў.* Вялікія Баяры Шчуч.

ВОЗ І, ВОС, ВЫЗ *м.* 1. Павозка, воз. *З воза злес.* Мярэцкія Глыб. *Прыехалі з бежанцаў — ані воза, ні каня.* Смалянiца Пруж. 2. Паклажа на павозцы. *Еслі наложаны сенам ці чым, то гэто воз.* Ванелевічы Кап. *Тры вазы сена прывязлі.* Ністанішкі Смарг. *Аш трашчаць вазы* [з сенам]. Грыкені Вільн. *Бывала, клалі велькія вазэ сена.* Кіралі Шчуч. *Тры возы прыв'ёз дроў.* Смаляніца Пруж. *Я восем вазоў прывязла гною.* Вецярэвічы Пух. *Мой сын павёс вос.* 3. у знач. *прысл. во́зам.* На возе. *Не маглі ехаць возам.* Вялікія Баяры Шчуч. *Возам, бывала, едзе да Гродна.* Вострава Маст. *Калісьці возам ездзілі.* Смаляніца Пруж. ◊ ***Возам везці*** — надта многа. *Бобр нанясе карэнняў, што вазом не павязеш.* Швэды Вільн. *Яму хваціць — хоць возам вязі.* Кураполле Паст. *Сміття — возом ны вывызыш.* Сіманавічы Драг.

ВОЗ ІІ, ВОС *м. астр.* Вялікая Мядзведзіца. *Воз з зорик. Воз велькі і малы. С поўначы вос пераходзіць на поўдзень — ужо рано бліско.* Мсцібава Ваўк. *Вос — чатыры звязды і дышаль з гвяздаў.* Лайпушкі Ігн.

ВО'ЗГРЫ толькі *мн.* Слізь, якая выдзяляецца з носа. *Апцяры возгры!* Мярэцкія Глыб. *Возгры цякуць з носа, папусціў возгры.* Рыбчына, Саланое Віл.

ВО'ЗДЗІКА *прысл.* Тое ж, што і в о́ д з е к а. *Воздзіка во патыліца.* Каўняны Гродз.

ВО'ЗДУХ *м.* Паветра. *Панясу на вольны воздух — хай стыня.* Мсцібава Ваўк. *Пашоў лёхкі воздух, трэба кап воздух змяніўся.* Лоск Валож. *Адчыню хату, ніхай воздух зменіцца. Дачка гаворыць: «Не хадзі ты многа!». Дзе ты уседзіш, мяне на воздух цягніць.* Валынцы В.-Дзв. *Воздух пашоў пат скурой.* Жылі Іўеў. *Мне брак воздуха.* Гемзы Шальч. *На воздуся ляціць.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* руск. *воздух* 'тж'.

ВО'ЗЕРА, ГО'ЗЫРО, АЗЯРО' *н.* Возера. *Возера Рэша, за ім возера Вільное.* Швэды Вільн. *Тут возера невялікае ёсць.* Мярэцкія Глыб. *За возерам быў.* Грыкені Вільн. *Гозыро ужо заросло.* Сіманавічы Драг. *Азяро нероўнае, ямамі. Северный вецер дзерэць азяро.* Лісна В.-Дзв. *Тут азяро было.* Старыя Трокі Трак. *Азяры́ там былі.* Груздава Паст. *У нас азярой палова.* Альхоўка Навагр. *У нас рака, нет азярэй.* Валынцы В.-Дзв. *Угор у гразкіх азера́х жыве.* Азяраны Раг. *У [illegible] азярох многа рыбы.* Ністанішкі Смарг.

ВО'ЙДАЦЦА *незак.* Хістацца. *Войдаецца ў руках шчыпалачка* [якою знімаюць плады з дрэва]. Рудня Астравітая Чэрв.; *гл.* г о́ й д а ц ц а.

ВО'ЙСКА, ВО'ЙСКО, ВУО'ЙСЬКО *н.* і *ж.* Армія, узброеныя сілы. *Пабудзеш ты два гады ў войску.* Ністанішкі Смарг. *Ён служыў у войску.* Граўжышкі Ашм. *Твой сын служыў у войску пры гарудзіі.* Стральцы Гродз. *Сын пашоў да войска.* Паляцкішкі Воран. *Тры сыны, аднаму да войска трэба ісці.* Старыя Трокі Трак. *Прышла войска, крыкнула гура!* Лайпушкі Ігн. *Немец гнаў войска на фронт.* Гемзы Шальч. *Васю вэсною до вуойська забралі. Ціелы дэнь вуойська́ ішлі.* Курашэва Чыж.

ВО'КА I, ВО'КО, ГО'КО *н.*, ВО'ЧЫ, ГО'ЧЫ, ГОЧКЫ' *мн.* Орган зроку. *Ня віджу гэтым вокам, як прас туман. Каля агню накурстаешся, што і вочы не глядзяць.* Саланое Віл. *На 'дно воко аслеп.* Старое Сяло Зэльв. *Тваe вочы ўбок служаць.* Груздава Паст. ∇ *Вочы — яма, усяго мала.* Кіралі Шчуч. *Шоб тобі гочкы замазало!* Сіманавічы Драг. ◇ *Як вокам кінуць. Была галя, бы дым, як вокам кінуць, а цяпер пазарастало.* Дзяніскавічы Ганц. *Мець або не мець вока* — прыязна або непрыязна адносіцца, паважаць ці не паважаць. *Ён маіць харошая вока на міне. Яна на міне мела вока, хацела, кап я на ферме рабіла.* Ёдлавічы Брасл. *Ён на мяне вока маіць.* Саланое Віл. *Сабака ня меў вока на індыкаў.* Рагулішкі Даўг. *З вока стаць, вока ня любіць, вока баяцца* — у забабонах — магічная сіла зроку, здольная прыносіць зло. *З вока яму стала.* Кураполле Паст. *Пчолы вока ня любяць, як глядзіш прас плот.* Груздава Паст. *Мая карова вока баіцца. Яе вока благая: як гляніць, скаціна захварэіць.* Ёдлавічы Брасл. *Не прышлося давучыцца, хоць бы вочы відзілі болі.* Валынцы В.-Дзв. *Не трэба маргаць ачыма!* Номікі Бабіц. *Цёмна ўваччу.* Лоск Валож., Вялікія Баяры Шчуч. *Ачыма зрабіў бы, а рукамі не магу.* Вострава Маст. *На свае вочы відзіла. У вочы ён мне сказаў.* Груздава Паст. *Скажы ў вочы!* Альхоўцы Лях. *Сыдзі з маіх ачў!* Старое Сяло Зэльв. *Пробыва́ты гочыма. Здаецьця пробывае гочыма.* Сіманавічы Драг.

ВО'КА II *н.* Бездань, прорва. *Вока ў балоце, дзе калышыцца.* Быстрыца Астр.

ВО'КНІШЧА *н.* Тое ж, што і в о́ к а II. *Вокнішчы бываюць у бяздонным балоце.* Ухвала Круп.

ВО'КО *гл.* ВО'КА I

ВОЛ, ВЫЛ *м.* 1. Спакладаны бык. *Раней валы былі, але ў нас не рабілі валамі.* Мярэцкія Глыб. *Было так, валы трэба было дзяржаць, валамі араць.* Швэды Вільн. *Гараў валамі дзядук, паставіў валы аддыхнуць.* Грыкені Вільн. *Валамі аралі вельмі даўно, пры маёй памяці — не.* Чычалі Швянч. 2. Непакладаны бык. *Карова паднялася на валы.* Кемялішкі

Астр. ∇ *Што баба пеpажыла, то і вол не павёз бы.* Саланое Віл. *Ён ні за валамі ходзіць — прыгаворка такая ёсць.* Кураполле Паст. *Быда, волэ, колы корова колэ. Сам ззіж хоч вола, то одна хвала.* Сіманавічы Драг.

ВО́ЛАС, ВО́ЛОС *м.* ◊ *На волас заснуць* — на мінуту заснуць. *На волас заснула.* Саланое Віл. *Волос вяне* — прыемна робіцца. *Музыкант хорошэ грае, як заграе — аж волос вяне, гэдак хорошэ на дутцы грае.* Азарычы Пін.

ВО́ЛАЎ *м.* Волава. Магуны Паст.

ВО́ЛАЎЯ *н.* Тое ж, што і в о́ л а ў. *Волаўя ў руках можа сагнуць.* Асавец Віл.

ВО́ЛАЦЬ I *ж.*, ВО́ЛАЦЦЯ, ВАЛО́ЦЦЯ *зб. н.* 1. Асцюк, асцё. *Волаць такая ломкая, таней за іголку. У жыце карацейшая волаць і мякчэйшая. Сколькі ты волаці набралася?* Беразіно Докш. *Папала волаць у глас, даставалі волацця языком з глаза. Нады ячмень прапойсаць, а то будзіць многа волацця. Валоцця ў ячменю ёсь. Аблятала ўсё валоцця, цапамі як дадуць.* Лісна В.-Дзв. ◊ *Падавіцца волаццю* — перастаць кукаваць. *Зязюлька падавілася волаццю — не кукуіць пасля Пятра.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* руск. дыял. *волоть* 'верхняя частка снапа' (СРНГ, V, 66). 2. Асцістыя костачкі ў рыб. *Волаць ёсць у язя, у плоткі ў крупнай, у мелкай — незаметна, у падлешчыка волацця ёсць, волацця да чарта ў шчукі. У ліна і карася нет волацця.* Лісна В.-Дзв.

ВО́ЛАЦЬ II *незак.* Клікаць. *Трэба іх волаць у хату.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *wołać* 'тж'.

ВО́ЛЕ, ВО́ЛЬЕ, ВО́ЛЯ, ВО́ЛЬЯ *н.* і *ж.* Валлё. *У курэй воле.* Паляцкішкі Воран. *Качар носіць воле, як гэту шапку. Воле ў птух.* Смаляніца Пруж. *Гуска найіеласе, бо мае такое вэлізнэ воле.* Курашэва Чыж. *У курыцы вольe.* Дзяніскавічы Ганц. *Курыца наела вельку волю.* Кіралі Шчуч. *Волья ў курыцы і ўсіх пташак.* Альхоўка Навагр.

ВОЛК *гл.* ВОЎК

ВО́ЛКА *прысл.* Вільготна, сыра. *Мокра, волка на дварэ.* Альхоўка Навагр.

ВО́ЛКІ *прым.* Вільготны. *Волкая бяльё, ні дасохшы.* Альхоўка Навагр. *Волкае сена, не высахло.* Дзяніскавічы Ганц. *Волкі воздух.— і волкія мае латы, не высахлі.* Навасёлкі Свісл.; *параўн.* літ. *valkùs* 'тж'.

ВОЛНА́ *гл.* ВАЛНА́

ВОЛНОВА́ТІСЕ *гл.* ВАЛНАВА́ЦЦА

ВОЛО́КА *гл.* ВАЛО́КА II

ВО́ЛОС *гл.* ВО́ЛАС

ВОЛОСЯ́НКА *гл.* ВАЛАСЯ́НКА

ВО́ЛЧЫЙ ТАБА́К *м. бат.* Порхаўка. *На волчый табак як наступіш, так і дым.* Пасіене Лудз.

ВОЛЫ́НДАЦІСА *незак. экспр.* Хадзіць без справы, лын-

даць, гультаяваць. *Валындаціса — значыт, ходыці бэз роботы.* Смаляніца Пруж.; *гл.* в а л а н ц а́ ц ц а.

ВО'ЛЬЕ *гл.* ВО'ЛЕ

ВО'ЛЬНА *прысл.* 1. Спакойна, без клопату. *Кап гот, здаецца, пажыў вольна.* Крэва Смарг. 2. Каманда на права трымацца свабодна. *Вольна, можаце ісці пакупацца.* Гемзы Шальч. 3. Свабодна, лёгка. *Праходзя нітка праз вір'ёк вольна.* Старыя Трокі Трак.

ВО'ЛЬНАСЦЬ *ж. мед.* Панос. *У мяне вольнасць, нічога ня ела.* Быстрыца Астр. *Схваціла вольнасць мяне.* Бакшты Іўеў. *Вольнасць, жывот баліць.* Вострава Маст. *Палын памоцны, як вольнасць гоніць, ён стрымоўвая.* Кіралі Шчуч. *Была вольнасць у каровы, павяла да дохтара.* Альхоўцы Лях.

ВО'ЛЬНЫ I *прым.* 1. Свабодны, нікому не падпарадкаваны. *Я — вольная.* Крынкі Крын. *Што яму, ён вольны чалавек.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Не заняты працай, які мае час. *У мяне вольны час.* Крынкі Крын. ∇ *Вольнаму — воля, шалёнаму — поля, а спасёнаму — рай.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* польск. *wolny* 'тж'.

ВО'ЛЬНЫ II *прым.* Халодны, чысты, свежы. *Панясу на вольны воздух — хай стыня.* Мсцібава Ваўк.

ВО'ЛЬНЫ III *прым.* Ачахлы. *Трэба паставіць у вольны дух. Паставіла мёт у вольную печ, штоп растапляўся.* Лісна В.-Дзв.

ВО'ЛЬНЫ IV *прым.* Не крута скручаны. *Можа быць вольная нітка і крутая.* Старыя Трокі Трак. *Ніткі крутыя і вольныя. Паклы натрасалі, каб была кудзеля вольна, бо так яны пазбіваныя.* Грыкені Вільн.

ВО'ЛЬХА, О'ЛЬХА *ж.* Вольха. *Скажуць вольха ці ольха.* Чычалі Швянч. *Вольха не ставіцца ў стаўпы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВО'ЛЬЯ *гл.* ВО'ЛЕ

ВО'ЛЯ I *ж.* 1. Свабода. *Ён даў сабе волю — што хоча, тоя робіць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Я сама над сабой маю волю.* Курапопле Паст. *Овэчкі мают волю, ходят, дэ хочут.* Курашэва Чыж. ∇ *Дай жаданню волю — сам будзеш у няволі.* Альхоўка Навагр. *Дай дзіцяці волю — сам будзеш у няволі.* Вецярэвічы Пух. 2. Пераканание. *Як такая твоя воля, то робі, як хочэш.* Курашэва Чыж.

ВО'ЛЯ II *гл.* ВО'ЛЕ

ВО'МПІЦЦА *незак. безас.* Непакоіць, хваляваць. *Мне аш вомпіцца, чаму яна не прыехала?* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *wątpić* 'сумнявацца'.

ВО'МПІЦЬ, ВО'НПІЦЬ, ВО'НПЫТЫ *незак.* 1. Думаць, хвалявацца, непакоіцца. *Я ўсё вомплю, што зрабілася там? Але чутак не было, што аўтобусы не ходзяць.* Старое Сяло Зэльв. 2. Шкадаваць. *Я патом вонпіла, што не купіла тавар,*

що разабралі. Міратычы Карэл. 3. Баяцца, адчуваць пагрозу. *Грэба, коб вонпылы, коб крохы боялысь.* Сіманавічы Драг.

ВОН *прысл.* Прэч, на двор (з хаты). *Бяры палку і гані яго вон! Яна ўстала, за каўнер яго і гоніць вон.* Лісна В.-Дзв. *Дурную траву — іс поля вон!* Ахрэмаўцы Брасл.

ВО′НДЭ *прысл.* Вось тут. *Саган стоіт вондэ.* Дзмітравічы Кам.

ВО′НЕКА *часц.* Вунь, во. *Вонека тудою ішлі. Вонека пярлоўка ў кульках.* Вецярэвічы Пух.

ВО′НЗЕНЬКІ *прым.* Вузенькі. *Некалі шэсць баразён — загон, такі вонзенькі быў загон.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *wąski* 'вузкі'.

ВО′НІТЫ *гл.* ВАНІ′ТЫ

ВО′НКАХ, ВО′НКУ *прысл.* На дварэ, звонку. *Лёх вонках і ляжыць. Дась вонках ім паесь. Я пацею вонках.* Валынцы В.-Дзв. *Вонках зімнавата. Сонца падымаецца, цёпла вонках стала. Як прышлі дахаты, здзеліся і ўсё вонках кінулі. Туман вонку, там аблака цёмная.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВО′НПІЦЬ *гл.* ВО′МПІЦЬ

ВО′НПЫТЫ *гл.* ВО′МПІЦЬ

ВО′НСАЧ *м. мед.* Тое ж, што і в о́ л ь н а с ц ь. *Ужо пачаўся ў бацькі вонсач.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *вет. wąsacz* 'від паралiча ў кароў і коней' (СВ, VII, 479).

ВОНТРО′БЫ *гл.* ВАНТРО′БЫ

ВОНЬ *м.* і *ж.* Смурод. *Дай вонь у нос.* Пацаўшчына Дзятл. *Вонь такая ад іх.* Ністанішкі Смарг. *Чыгун як прыгараіць — гадака вонь.* Міратычы Карэл. *Вонь такі — дыхаць нечым.* Рудня Астравітая Чэрв. *Такі быў вонь.* Вецярэвічы Пух. *Така вонь.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* руск. *вонь* 'тж'.

ВО′ПІНКА, ВО′ППІНКА, ГО′ПЫНКА *ж.* 1. Посцілка, якой ахіналі калыску. *Вопінка была тоненькая палатняная. Вопінку вешалі на цапкі, каб пясок не ляцеў у кулубель.* Мачаск Бярэз. *Воппінка была дзіця прыкрываць, хто павеся тысцейшую, а хто — каравейшую.* Ухвала Круп. 2. Вялікая цёплая хустка, якою ахіналіся. *Пынджяка ны клала, гопынкыю оп'ялася дай пошла.* Сіманавічы Драг.

ВО′ПРАТКА, ВО′ПРАНКА *ж.* Верхняе адзенне. *Вопратка — кажух, бурка.* Вязынка Маладз. *Вопранку наверх адзяваюць.* Дакудава Лід.

ВО′ПУХ *м.* Пухліна. *Вопух пашоў па целе.* Лоск Валож. *Баліць рука, вопух.* Малахоўцы Бар. *Вопух на целе.* Малыя Лўцюкі Калінк.

ВО′ПУХАЛЬ *м.* і *ж.* Тое ж, што і в о́ п у х. *Такая вопухаль пашла.* Міратычы Карэл. *Шмель табе вопухаль такой дасць.* Шкаўна Лудз.; *параўн.* руск. *опухоль* 'тж'.

ВО′ПЧАСТВА *н.* Насельніцтва. *Вопчаства там ні так многа.* Цінкаўцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *общество* 'грамадства'.

ВО′ПШЫЎКА *ж.* Пояс у спадніцы і нагавіцах. *Спадніцу апшыла вопшыўкаю.* Баброўнікі Гарад.

ВО′РАК *м.* Мяшок. *С пакуляў воркі ткалі.* Новыя Мацалі Варэн. *Грубізна на воркі шла.* Быстрыца Астр. *Дзе ты пакінуў ворак?* Ністанішкі Смарг. *Гэты ворак бэз завязкі.* Гемзы Шальч. *Патрапі с кастрой на воркі ішлі.* Старыя Трокі Трак. *Як які ворак: тры, чатыры і да дзесяці лезла пудоў. Пяць пудоў намалацілі проса — ворак бальшы намалацілі.* Жодзішкі Смарг. *Шэсць воркаў жыта намалацілі.* Міратычы Карэл. *Кажды тыдзянь прывозіў трыццаць пяць воркаў мукі.* Ністанішкі Смарг. *Прынесла ворак травы на плечах.* Стральцы Шальч. *Кастру воркамі прывозілі.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *worek* 'тж'.

ВО′РАН *м.* Крумкач. ∇ *Воран ворану глаз не клюець.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *ворон* 'тж'.

ВО′РАХ I *м.* 1. Вялікая куча. *Многа варахоў накладуць і сушаць у сушылцы, сохніць за час дзесяць тон зярна.* Кураполле Паст. *Ворах камення назвозіў.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *параўн.* руск. *ворох* 'тж'. 2. у знач. *прысл. во́рахам.* Шмат, многа. *У дачок дзяцей ворахам.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ВО′РАХ II *м.* Палка. *Ворахам падпіраюць навой у кроснах, каб не раскручваўся.* Альхоўцы Лях.

ВО′РАЧАК *памянш.* да в о́ р а к. *Ворачак бульбы накапала.* Гемзы Шальч. *Вайной лубін горкі ў ворачкі насыплюць, памокне, намеляць і да хлеба кладуць, падмешуюць.* Паляцкішкі Воран.

ВО′РЛЯ ВО′ЧКІ *мн. бат.* Рамонак. *Якія тут кveaткі? — Ворля вочкі.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *varlē̃* 'жаба' (ЛТ, 171).

ВОРОНЭНЯ′ *н.,* ВОРОНЭНЯ′ТА *мн.* Вараняня. *Хлопці повыкідалі воронэнята з гніездув.* Курашэва Чыж.; *гл.* в а р а н я́ т к а.

ВОРО′ЧАТІ *гл.* ВАРО′ЧАЦЬ

ВОРО′ЧАТІСЕ *гл.* ВАРО′ЧАЦЦА

ВОРО′ЧАТЫ *гл.* ВАРО′ЧАЦЬ

ВОРО′ЧАТЫСЬ *гл.* ВАРАЧА′ЦЦА

ВО′РСА *ж.* 1. Шчацінне. *Са свіной ворсы і смалы дзелаліся шчэткі, імі лён часалі і самі часаліся.* Мішневічы Шум. 2. Поўсць. *Ворса стала дубам у сабакі.* Мішневічы Шум. 3. Ворс. *Ворса — у одэжы с сукном.* Смаляніца Пруж.

ВО′РЧЫК I *м. с.-г.* Каромысел у вупражы. *Ворчык чаплялі да плуга. Два ворчыкі чэпяцца за стальвагу, як пара коней запрагаюць. Ворчык, а некаторыя завуць каромісла.* Кураполле Паст. *Брунта — па-польску, а па-нашаму — ворчык.* Старыя Трокі Трак. *Быў ворчык, крукам зачэпюць за плух, і гужы былі.* Валынцы В.-Дзв. *За цягло ворчык чапляюць у баране.* Малахоўцы Бар. *Быў ворчык на пара коні, як упра-*

*гаюць другога каня, то бяруць ворчык.* Вецярэвічы Пух.

ВОʼРЧЫК II *м.* Драўляны гузік, бірка. *Дауней ворчык шые ў шубу, марынарку.* Паддубы Шчуч.

ВОС *гл.* ВОЗ II

ВОʼСЕНІ, ГОʼСЫНЮ *прысл.* Восенню. *Восені прыяжджаюць машыны.* Швэды Вільн. *Навысні чы госыню.* Сіманавічы Драг.

ВОʼСІЛКА, ВОʼСІЛКО, ВОʼСЯЛКА *ж.* і *н.* Дужка ў вядры, кашолцы і г. д. *Восілка адарвалася ў вядрэ.* Міратычы Карэл. *Спала восілка з вядра.* Пасека Ст.-Дар. *Восілка адляцела ў дайніцы.* Малахоўцы Бар. *У вядрэ восілко.* Вострава Маст. *Восялкі рабілі з вяровак. Восялка ў каробцы — хадзілі з каробачкамі ў ягады і восялка цераз плячо.* Азяраны Раг.

ВОʼСІМКА *ж.* Васьмёрка, ігральная карта. *Восімкай бі!* Номікі Бабіц.

ВОСК *м.* Воск. *Пчолы робюць воск.* Гемзы Шальч. *З васко́м васкавіна.* Судэрва Вільн. *Воск выціскаюць шчыпцамі.* Стральцы Шальч.

ВОʼСКЛА, ВОʼСКВА *ж.* Тое ж, што і а с а́. *Восклы куслівыя.* Рыбчына Віл. *Восквы плодзяцца ў сівым пузыры.* Кураполле Паст.; *парaўн.* літ. *vapsvà* 'тж'.

ВОʼСЦІ толькі *мн. рыб.* Прылада з вострымі жалезнымі прутамі для лоўлі рыбы. *Каля ракі стаяў і цягнуў рыбіну на васцях.* Ахрэмаўцы Брасл. *Восці рабіліся з васьмі жалезных пруццяў з гострымі канцамі і зазубнямі.* Альхоўка Навагр. *Восці жалезныя, як вілкі, на дзерывянную ручку надзеты, васцямі б'юць калючых рыб.* Мішневічы Шум.

ВОСЬ I, АСЯʼ *ж.* Вось у коле. *На вось накладаецца кола.* Гемзы Шальч. *Вось драўняная ці жалезная.* Судэрва Вільн. *Восі былі драўняныя.* Грыкені Вільн. *Атоса саедзініна з асёй і аглаблёй.* Індра Красл.

ВОСЬ II *ж.* Асцюк. *Вось застрала ў горле.* Мішневічы Шум. *Восі ячменныя.* Лісна В.-Дзв.

ВОʼСЬКА *ж.* 1. Жалезны прут у коле калаўрота. *Воська жалезная ў калаўродку.* Дакудава Лід. 2. Навой. *Воська, дзе навaрачваецца палатно ў кроснах.* Жодзішкі Смарг.

ВОʼСЯЛКА *гл.* ВОʼСІЛКА

ВОʼТАРАПЯЦЯНЬ *м.* У выразе: *Вотарапяцянь у вачах* — пацямненне ў вачах, замарачэнне. *Вотарапяцянь у вачах становіцца.* Альхоўка Навагр.

ВОʼТАЧКІ *прым.* Малы, такенечкі. *Сабачка была вотачкая.* Беняконі Воран.

ВОʼТВЕТКІ *гл.* ВОʼДВЕТКІ

ВОʼТКІДАК *м.* Верацяно пражы. *Напрала воткідак.* Пасека Ст.-Дар.

ВОʼТПУТЫ толькі *мн.* Тое ж, што і в о́ д в е т к і. *Вотпуты самыя адведзіны.* Магуны Паст.

ВО´ТРАНА *ж.*, ВО´ТРАНЫ *мн.* Амецце, дробныя адходы пры малацьбе збожжа. *Вотрана — калосся жытавоя. Вотрану апаравала, давала карові, гляджу, мая карова лахмецеіць.* Валынцы В.-Дзв. *Мякіна — дробненькая, а вотраны — буйныя.* Палік Барыс. *Як малоцяць, адлятаюць вотраны.* Багушэвічы Бярэз.

ВО´ТРУБЯ, ВО´ТРУБ'Я *зб. н.* Вотруб'е. *Як вальцуюць—ад вальцаў і пітлеў палучаюцца вотрубя.* Магуны Паст. *Вотруб'я палучаюцца, кагда пітлюіш муку, ашакі — ад любога зерня, кагда абдзіраюць.* Індра Красл. *Вотруб'я ідуць свіням.* Вязынка Маладз.

ВОЎДЫ´Р *м. перан.* Невялікая хмара. *Ні хмара, а воўдыр, з гэтага воўдыра такі дошч пашоў.* Навасёлкі Свісл.

ВОЎК І, ВОЛК, ВОВК *м.* Воўк. *Такі велькі воўк.* Грыкені Вільн. *Авечы воўк меншы, а конскі воўк велькі.* Сапоцкіна Гродз. *Ваўка горла — гэта ляпа, як разявіцца.* Старыя Смільгіні Воран. *Два ваўке ляцелі з лесу.* Каўняны Гродз. *Ваўке цалаю стадаю ходзяць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ваўкі і пользу дзелаюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Быў добры лес, валкоў многа было.* Гемзы Шальч. *Валкоў павыстралялі.* Чычалі Швянч. *Як воўка ўвідзіш — не такі ён страшны.* Кіралі Шчуч. ▽ *Вовка в плуг, а вын—в луг. Хоч за вовка, абы покрыта головка. Табы вовк ляскае зубамы. Голодный, бы вовк. А шоб тыбэ вовкы роспоролы!* Сіманавічы Драг. *Дзе воўк радзіўса ў ломе, туды яго і цягне. Мне воўк дарогу перабег, што дочкі замуж не павыходзілі.* Кузьмічы Люб. ◇ ***На воўка злесці*** — нічога не відаць. *Увосянь ночы цёмныя, ідзеш, то хоць на воўка злесь, можна на воўка злесці.* Кіралі Шчуч.

ВОЎК ІІ *м.* Памылка, дапушчаная пры ўвядзенні асновы красён у ніт. *Калі ўкінуць дзве пары ў нічальніцу — воўк.* Навасёлкі Свісл.

ВО´ЎКІ толькі *мн. бат.* Ваўчкі. *Воўкі натта ат пярэпалахаў памоцны.* Навасёлкі Свісл. *Воўкі — лякарства добрая.* Старыя Смільгіні Воран.

ВО´ЎНА, ВО´ВНА *ж.* Авечая шэрсць. *Часалі воўну.* Грыкені Вільн., Чычалі Швянч. ▽ *Чы клоччэ, чы вовна — абы кышка повна* — пра непераборлівага ў ядзе. Сіманавічы Драг.

ВОЎНАЧЭ´СНІЦА *ж.* Ваўначоска. *Воўначэсніца, што воўну часалі.* Старыя Смільгіні Воран.

ВО´ЎЧА *м.* Воўк. *Воўча зразу разарве сабаку.* Кіралі Шчуч.

ВО´ЎЧАЯ ВЯСЕ´ЛЛЯ *н.* Чарада ваўкоў (у час цечкі ваўчыцы). *Калі воўчая вяселля, ваўкі злюшчыя.* Вязынка Маладз.

ВО´ЎЧЫ БАРАВІ´К *м. бат.* Неядомы грыб, падобны на баравік. Галоўні Воран.

ВО́ЎЧЫЯ ГРЫБЫ́, ВО́ЎЧА ГРЫБЭ *гл.* ВАЎЧЫ́НЫЯ ГРЫБЫ́

ВО́ЎЧЫЯ КРАСЫ́ *гл.* ВАЎЧЫ́НЫЯ КРАСЫ́

ВО́ХВАТ *м. вет.* Апой, конская хвароба. *Вохват у каня.* Дакудава Лід. *Бывая конь змораны і напоіш, вада пад скураю і на сэрца пойдзе — называюць вохват.* Вялікія Баяры Шчуч. *Вохват быў кабылі.* Альхоўка Навагр. *Вохват, як конь угрэўшыся і дасі напіцца вады. Вохват б'ець каня.* Малахоўцы Бар.

ВО́ЦАТ *м.* Воцат. *Воцат — гэта вуксас. На воцат вуксас гавораць цяпер.* Асавец Віл. *Воцат — кіслая вадкасць.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *ocet* 'тж'.

ВО́ЧАП *м.* Шост, да якога прымацоўваецца вядро (у студні з жураўлём). *Вочап прывязаны к перасвіру.* Ухвала Круп. *Вочапам галаву мне разбіла.* Азяраны Раг.

ВО́ЧАПКА *ж.* Вяровачка, прывязаная да калыскі, для калыхання. *Вочапка звісае ніжэй калыскі. За вочапку нагой зачэпіш і калышыш. Калыхалі калыску за вочапку.* Малахоўцы Бар.

ВО́ЧАРАДЗЬ, ВО́ЧАРАЦЬ *м.* і *ж.* 1. Чарга адпасваць жывёлу. *Еслі жанеш вочарадзь, то патпасак ідзе. Адбыў гэты вочарадзь, кап парадак быў.* Старое Сяло Зэльв. *Вочарацъ падышла мне каровы гнаць заўтра.* Вецярэвічы Пух. 2. Парадак падзей. *У перву вочарацъ захварэў старшы сын.* Паляцкішкі Воран. *У першую вочарацъ соткі пасеюць.* Якшыцы Бярэз.; *параўн.* руск. *очередь* 'чарга'.

ВО́ЧКА I *н.* Тое ж, што і в о́ к а II. *Аберагайся вочка каля крыніцы! Жарало з вочка выбівалася. Ёсць вочкі такія ў балоце — пропасць.* Гемзы Шальч.

ВО́ЧКА II, ВО́ЧКО *н.* Пятля (у ніту, у сетцы). *Ніт рабілі просто і ніт — у вочко.* Альхоўцы Лях.

ВО́ЧКІ, О́ЧКІ *мн.* Выплеценае перакрыжаванне вобада з ручкай у кошыку. *Каля лука ў кошыку такія вочкі робяць, два лука очкамі звязуяцца.* Старыя Трокі Трак. ∇ *Ніхай вам свет у вочкі, а хада ў ношкі, а работка ў ручкі, а розум у галоўкі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ВОЧОВЫ́ДЬ *прысл.* Вельмі хутка, імгненна. *Він, хліб, тогды так хутко сходыть — просто вочовыдь.* Казловічы Брэсц.

ВО́ЧЫ I *гл.* ВО́КА I

ВО́ЧЫ II *мн.* Тое ж, што і в о́ ч к і. *У кошыку: абручы, жэбры, а с канцоў — вочы.* Ракаўскія Швянч. *У кошыку вочы заплятаюць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВОШ *ж.* Тое ж, што і в а ш а́. *Цяпер вош не найдзеш і для музея, кап хацеў паказаць, то не найдзеш.* Мсцібава Ваўк. *Цяпер на лекарства вошы не найдзеш.* Вецярэвічы Пух. *Яна [illegible] вошыма, з каростаю была.* Альхоўцы Лях. ∇ *Яна лезла,*

*як вош пат струп.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пад ліжачым — вош.* Саланое Віл.

ВО'ШЧЫНА *ж.* Вашчына. *Вошчыну з лежакоў выразаіш.* Дакудава Лід.

ВОШЧЫ'ТЫ *гл.* ВАШЧЫ'ЦЬ

ВО'ШЫ толькі *мн. бат.* Свінакроп. *Вошы на грычаніску растуць, дзе жвіравата, і ў льне.* Мсцібава Ваўк., Вострава Маст.

ВОЯ'КА *гл.* ВАЯ'КА

ВПАКОВА'ТІ, ВПАКОВА'ТЫ *зак.* Укласці, злажыць. *Всёго сіена на фуору нэ впакуеш.* Курашэва Чыж. *Чы всэ в чумайдан впаковав?* Сіманавічы Драг.

ВПАКОВА'ТІСЕ, ВПАКОВА'ТЫСЬ *зак.* 1. Упакавацца. *Някось впаковався, алэ повна валіска всёго.* Сіманавічы Драг. 2. *перан. экспр.* Убіцца, улезці. *Сам собіе вінён, што впаковавсе в біду.* Курашэва Чыж.

ВРАГ, ВРАХ *м.* Вораг. *Я тобіе нэ враг, нічого кепського нэ зробів.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *враг* 'тж'.

ВРАЗ *м. мед.* Парушэнне маткі ў жанчын. *Вона хвора була на бабську хворобу, в іі враз був, алэ посля наладылось.* Сіманавічы Драг. ∇ *Ны скула, то враз, да всэ ны гараз* — не тое, дык іншае, а ўсё дрэнна. Сіманавічы Драг.

ВРЭД *м.* Шкода. *Нэ можэ жыті, як врэда нэ зробіт. Кажному врэд зробіт.* Курашэва Чыж. *Наробылы чоловіковы врыда.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* руск. *вред* 'тж'.

ВРЭДІ'ТІ *незак.* Шкодзіць, шкодна ўплываць. *Кажут, што вуотка на розум врэдіт.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *вредить* 'тж'.

ВРЭ'ДНЫ, ВРЭ'ДНЫЙ *прым.* Шкодны. *Такі врэдны чоловіек, кажному врэд зробіт.* Курашэва Чыж. *От врэдный котыско, ны мышы ловыты, а шоб дэ в смытану.* Сіманавічы Драг. ◇ *Врэдны очы* — паганае вока. *Як врэднымі очыма глянэ, то дітя захворыэе.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *вредный* 'тж'.

ВРЭ'МЯ *н.* Пара. *Ужо врэмя апхот па гаспадарцы рабіць.* Лайпушкі Інг. ∇ *Врэмя цэла бярэмя.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* руск. *время* 'тж'.

ВСАЛУ'ЧЫТІСЕ *зак. экспр.* Улезці, уціснуцца. *Чого ты всалучывсе, тут і так тіесно.* Курашэва Чыж.

ВСЕ'НКІ *займ.* Увесь. *Всенку Літву знаю.* Старыя Трокі Трак.

ВСЁРУВНО' *прысл.* Усё роўна. *Мніе всёрувно, чы ты пуойдэш, чы вдома останэшсе.* Курашэва Чыж.

ВСКУ'РАТІ *зак.* Дабіцца. *Нэ іді до ёго, бо і так нічого нэ вскураеш.* Курашэва Чыж.

ВСКУРЭ'НІЕ *н.* Заспакаенне. *Такі чоловіек, што на ёго і вскурэнія нэма.* Курашэва Чыж.

ВСЦЁНЖ *прысл.* Заўсёды, пастаянна. *Всцёнж ён тудэмі ходзіць.* Галубы Маст.; *параўн.* польск. *wciąż* 'тж'.

ВТО'РОК *м.* Аўторак. *Як дождэм втуорка, то пойіедэмо до міеста што-нэбуть купіті.* Курашэва Чыж.

ВТРУ'ТА *гл.* АТРУ'ТА

ВТЯ'ТІ *зак.* Адрэзаць. *Втяла кусок шолковоі матэрыі.* Курашэва Чыж.

ВУГА'ЛЛЯ *зб. н.* Вуголле. *Вугалля клалі ў жур — вугалькі два-тры.* Саланое Віл. *Вугалля насыпана.* Лісна В.-Дзв.

ВУГА'ЦЬ *незак.* Завязваць, браць на повад (жывёлу). *Бяру сякеру, дзеравянны калок затачую, вугаю карову за рогі вяроўкаю і вяду, і прыпну калок.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ВУГЛЯ'К *м.* Вугаль. *Бывала, вугляк падвівалі пат клубок: вугляк найсушэйшы — клубок не згніе. Яна была чорна, што вугляк, так яны яе збілі.* Кіралі Шчуч.

ВУГО'Л *м.* 1. Вугал. *Вугол хаты выходзіць на дарогу.* Вязынка Маладз. *Пад вугол хаты падверняш камянь.* Магуны Паст. 2. Куток. *Кагда зруп зачынаюць, скока грошай у вугол кладуць, каб багата жылося.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 3. Закутак. *Вугол адгарадзіў у стадоле.* Сакаляны Сакол.

ВУГО'ЛЬ *м.* Вугаль. *Вуголь выпаліў мне нагу.* Сакаляны Сакол.; *гл.* в у г а́ л л я.

ВУГО'РАЧ *м. заал.* Тое ж, што і в а н г о́ р. *Кажуць, што вугорач у гарох ходзіць.* Мярэцкія Глыб.

ВУГРАВА'ТА *прысл.* Няроўна. *Вугравата папрадзена воўна.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВУГРА'К *м.* Вугор, гуз. *У кароў вугракі бываюць пат скурай.* Дакудава Лід.

ВУ'ДА *ж. рыб.* 1. Рыбалоўная снасць, якая складаецца з вудзільна, лёскі і кручка. *Вуда с кручком.* Рыбчына Віл. *Вудо́й ловяць акуня, плотку, язя, кялба.* Гемзы Шальч. *На вуду чапляецца чарвяк.* Лоск Валож. *Мальчык з вудамі пашоў.* Валынцы В.-Дзв. *Роўна ідзе, як вуда.* Рудня Астравітая Чэрв. ▽ *Яны былі п'яныя, як вуда: ківень, ківень.* Вецярэвічы Пух. 2. *Ву́ды мн. перан.* Доўгія ногі. *Ногі — як вуды.* Малахоўцы Бар. ◇ *Вот зайцавы вуды — казалі на худога чалавека.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *udo* 'сцягно'.

ВУДА'К *м.* Вудзільшчык. *Вудакі сідзяць укрух. Навудзілі рыбы і апяць поўна вудакоў.* Янова Рас.

ВУДАЎЁ *н.* Вудзільна. *Вудаўё ад вуды.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вудаўё паламаў, нада новая дзелаць.* Лісна В.-Дзв. *Вудаўё даўгоя.* Валынцы В.-Дзв. *Вудаўё уткне ў ваду.* Рыбчына Віл.

ВУ'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Лавіць рыбу вудай. *Яны вудзюць рыбу.* Лісна В.-Дзв. *З Дзімкам вудзілі рыбу.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Красці. *Тхор, ліс куры вудзіць.* Альхоўцы Лях.

ВУ'ДРА, ВУО'ДРА *ж. мед.* Адзёр. *Раній, бувало, половы-*

*на люды рабых було. Всё такіі страшныі хворобы: вудра, шкарлатына, вуспа.* Залессе Кам. *Малы захворыэв на вуодру і чуть выжыв.* Курашэва Чыж.

ВУЕ'НКА *ж.* Цётка (жонка матчынага брата). Жылі Іўеў., Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *wujenka* 'тж'.

ВУЖ I, ВУШ, ГУЖ *м. заал.* Вуж. *Вуж доўгі, руды.* Каўняны Гродз. *Вуш у паскі, рабы, ён с сібе кожу скідая, яна памоцна: як коні былі ў каросці — пашмаруй с клушчам, адразу паможа. Вуш яйка нясе; як гараў дзет, то нашоў два яйка, хацеў памацаваць — і ні мох: брызгі ляцелі з гуп.* Кіралі Шчуч. *Вужэ раней у хату ўлазілі, нават у калубель да дзіцяці спаць лазілі.* Навасёлкі Свісл. *Вужэ с краснымі ўшамі не кусаюцца.* Вецярэвічы Пух. *Вужэ не кусаюцца, калі не наступіш на яго. Гэты гот так многа вужоў.* Вялікі Краснік Пруж. *У вужа жоўтыя вушы.* Парэчча Гродз. *Гужы не кусаюцца.* Крэва Смарг.

ВУЖ II, ВУШ, ГУЖ *м.* 1. Раменная пятля ў хамуце. *Дзюры ў клешчах пракручвалі, у іх заводзілі вужы, адзін вуж і другі.* Гемзы Шальч. 2. Раменная прывязка ў цэпе. *Вуш у цэпе.* Кемялішкі Астр. *Бічоўку цэпа гужом прывязвалі.* Магуны Паст. *У цапу калтуя, біяк да яе прывязаны гужом.* Крэва Смарг.

ВУЖАВА'ТЫ *прым.* Хітры, жулікаваты. *Вужаваты хлопец.* Стары Свержань Стаўб.

ВУЖА'К, ГУЖА'К *м. заал.* Тое ж, што і в у ж I. *Знайшлі яйкі вужака. Тут е вужакоў.* Грыкені Вільн. *І гужак кусаецца.* Лоск Валож.

ВУЖА'КА *ж.* 1. Гадзюка. *І як жнуць бабы, у жыці вужака можыць укусіць. На дзвіжання вужакі ідуць у норы.* Лісна В.-Дзв. *Вужакі, але тут іх німа.* Груздава Паст. 2. Тое ж, што і в у ж I. *Вужака ня кусаецца.* Магуны Паст.

ВУ'ЖАР *м.* Яма ў рэчцы. *Уюны ў вужарох вяліса.* Пасека Ст.-Дар.

ВУЖА'ЧКА *ж. перан. экспр.* Злая жанчына. *Мая жонка — вужачка.* Лісна В.-Дзв.

ВУЖА'ЧКІ *мн. бат.* Неядомыя грыбы. *Ты вужачак набярэш.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ВУЖА'ЧЫЯ ВЫ'ПАЎЗІНЫ *мн.* Скура гадзюкі, скінутая ў час ліനькі. *Вужачыя выпаўзіны на лякарства бяруць.* Валынцы В.-Дзв.

ВУ'ЖЛІС *м. заал.* Тое ж, што і в у ж I. *Выпаўз на сценку гэты вужліс.* Талейкі Швянч.; *парайн.* літ. *ūžlŷs* 'тж'.

ВУЖО'ЎКІ *мн. бат.* Тое ж, што і в у ж а́ ч к і. *Вужоўкі — грыбы, якія не ядуць.* Азяраны Раг.

ВУ'ЖЫК *м.* Тое ж, што і в у ж II, 2. *Біч вужыкам прывязваўся да цапільна.* Вялікія Баяры Шчуч.

ВУЖЫ'ШЧО *н.* Тоўстая вяроўка для ўціскання воза. *Ву-*

*жышчо — пярэдняя вяроўка, што прыціскаюць сена ці салому спераду воза.* Масілавічы Сл.

ВУ'ЗА' *ж.* 1. Соты. *Пчолы надзелалі вўзы, пустая вўза.* Лісна В.-Дзв. *Вузá — соты, яе заперытапліваюць і абменьваюць на вашчыну.* Шкаўна Лудз. 2. Адходы ад воску, вашчына. *Вўза астаецца, як мёт працэдзяць. Вўзу на воск дзелаюць: вады наліецца ў кацёл, на трапку вўзу паложаць — і ў печ, воск чысты пройдзіць прас трапку, а вашчына астаецца на трапцы.* Валынцы В.-Дзв. *Вузá — астача ат ператопленага воску.* Магуны Паст.

ВУ'ЗВАЛАК I, ВУ'ЗАВАЛАК *м.* Вузгалаўе (у возе). *У калёсах шворан праходзіць у вось чарас вузвалак.* Малахоўцы Бар.; *Вузавалак упярадзі воза.* Дакудава Лід. *Трайніла ўсаджваецца ў вузавалак.* Вялікія Баяры Шчуч. *У пярэдку пóдушка і вузавалак называюць.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* в у ш в á л а к.

ВУ'ЗВАЛАК II *м.* Бэлька, за якую чапляюцца кроквы ў гаспадарчым будынку. Альхоўцы Лях.; *парайн.* в у ш в á л а к.

ВУ'ЗГАЛАВЕНЬ *м.*, ВУ'ЗГАЛАВЯ, ВУ'ЗГАЛАЎЯ *н.* Тое ж, што і в ý з а в а л а к. *Вузгалавень і ручкі ў калёсах.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вузгалавя накладаецца на пярэднюю частку калёс.* Тухавічы Лях., Данілавічы Дзярж. *Трайня ўпускаецца ў вузгалаўя.* Вецярэвічы Пух.

ВУ'ЗГАЦЬ *незак.* Малаціць, абіваць. *Кілтаёй вузгаеш.* Магуны Паст.

ВУЗДЕ'Р *м.* Тое ж, што і в у з ы́ р. *Вуздер у снопе.* Азарычы Пін.

ВУЗДУ'ХА *ж.* 1. Дыяфрагма. *Вуздуха, ці плева — тое самае.* Беразіно Докш. 2. Упадзіны ў баках у каровы. *Вуздуха там, дзе клуб у каровы.* Беразіно Докш.

ВУЗДЭ'ЧКА *ж.* Аброць. *Пры вуздэццы поват.* Крынкі Крын.

ВУЗЁЛ, ГУ'ЗЕЛ, ГУ'ЗЯЛ, ГУЗЁЛ *м.* 1. Вузел. *Вузёл завязаўся. Завязала вузла, як гараб'я.* Малахоўцы Бар. *Вузёл справядлівы і вузёл сабачы.* Альхоўцы Лях. *Звязала гузел і звіла ніткі. Макры пазавязаны ў скарачу гузлáмі, каб не развіваліся.* Старыя Смільгіні Воран. *На, унучка, гузял завяжы — рукі мае, як граблі.* Стральцы Гродз. *На ныткы гузёл зав'язався.* Сіманавічы Драг. 2. у знач. *прысл. вузлóм.* На вузел. *Завяжы ніць вузлом.* Вялікія Баяры Шчуч.

ВУЗЁЛЧЫК *м. памянш.* да в у з ё л. Вузельчык. *На канцы вузёлчык быў.* Гемзы Шальч.

ВУЗІНЯ' *ж.* Шырыня. *Зложаць палатно і вузіню зразаюць.* Рагулішкі Даўг. *Супонь такой вузіні.* Гемзы Шальч.

ВУ'ЗКІ, ВУ'СКІ' *прым.* Нешырокі. *Вўзка крама* [матэрыя, тканіна фабрычнага вырабу]. Дзяніскавічы Ганц. *Такая вўская траста* [драніца для пакрыцця страхі]. Саланое Віл.

*Як ён* [шафёр] *адвярнуўся? — такая вўская дарога.* Ракаўскія Швянч. *Вускі гарот.* Магуны Паст. *Клатка вускáя.* Асавец Віл.

ВУ'ЗЛІК *м.* Тое ж, што і вузёлчык. *Нітка крутая, што не завяжаж вузліка, нада расцягваць ніткі. Завязаны вузлякé.* Кіралі Шчуч.

ВУЗЛЯ'К *м.* Вузел. *Нада нітку звязаць — звязаць вузляк.* Дакудава Лід.

ВУ'ЗШЫ, ВУ'ШШЫ *прым. выш.* Вузейшы. *Бяры вузшу баразну!* Вялікія Баяры Шчуч. *Брыжы вушшыя, а фальбоны шыршыя.* Дакудава Лід.

ВУЗЫ'Р *м.* Ніжняя частка снапа. *Вузыр у снопе е. У азяродзе вузыр ставілі ўгору, а каласы ўніс, і гэтак радом цэлу жэртку, адно аднаго закрываюць, добра схне ў азяродзе.* Альхоўцы Лях.

ВУЙ *м.* Дзядзька (брат маці). Жылі Іўеў. *Вуй прыехаў і сына майго да бабы адвёс.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *wuj* 'тж'.

ВУЙТ *м.* Войт. *Ён вуйтам быў.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *wójt* 'валасны староста'.

ВУ'КСАС, ВУ'КСУС *м.* Воцат. *З карчоў вуксас робяць, тарпатыну і многа чаго.* Пацаўшчына Дзятл. *Вуксусу купіла ў краме.* Груздава Паст. *Вуксусу улілі ў боршч, кап закісліць.* Лоск Валож.; *параўн.* руск. *уксус* 'тж'.

ВУ'ЛЕЙ, ВУЛЛЕ'Й, ВУ'ЛЯЙ *м. пчал. Вулей пчол сыну даў.* Дакудава Лід. *Гэты вуллей пусты.* Асавец Віл. *Са'днаго вулля выбраў мёт.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вуляй з дупляна-тага дзерава.* Азяраны Раг.

ВУЛЁК *м. памянш.* Невялікі вулей. *Вулёк павесіў на дрэва на пчолы.* Магуны Паст.

ВУ'ЛІЦА, ГУ'ЛІЦА, ГУ'ЛІЦЯ *ж.* 1. Вуліца. *Гуляй на вуліцы.* Кураполле Паст. *Звярні ў бок ад гуліцы.* Стральцы Гродз. *Мы на гуліцы стаялі.* Вострава Маст., Старое Сяло Зэльв. *На гуліцу гоніць.* Паляцкішкі Воран. *Хлеба з'ела кусочэк, по гуліцы бегаючы. Ідэтэ на гуліцу.* Смаляніца Пруж. *Воны чэрэз гуліцю жывут.* Дзмітравічы Кам. 2. у знач. *прысл. вўліцай, вўліцаю, гўліцай, гўліцію.* Па вуліцы. *Бабы вуліцай ідуць.* Кураполле Паст. *Вуліцай нехта ідзець; дзеці ідуць вуліцай.* Саланое Віл. *Ішла вуліцаю.* Старое Сяло Зэльв. *Валя пабегла вуліцаю.* Вецярэвічы Пух. *Гуліцай ідзе.* Гемзы, Стральцы Шальч. *Іду гуліцію.* Дзмітравічы Кам. 3. Вонкі, на дварэ. *Халадно на гуліцы.* Алекшыцы Бераст. *З гуліцы ўзяў ката.* Старыя Трокі Трак.

ВУ'ЛКА *ж.* 1. Завулак. *Там вулка ёсць, ён у вулку паехаў.* Мярэцкія Глыб. 2. у знач. *прысл. вўлкай.* Па завулку. *Да нас вулкай каля рэчкі можна ісці.* Кураполле Паст.

ВУ'ЛЛЕЙ гл. ВУ'ЛЕЙ

ВУЛЬ, ГУЛЬ *м.* Тое ж, што і в у́ л е й. *Быў вуль.* Мярэцкія Глыб. *Збярэш у лупку рой, а вечарам у вуль садзіць* трэба. Груздава Паст. *Парафінчыкам нада ўціраць вуль, і трава такая ёсць мазол, ці маліза. Там вуль стаяў і рой выходзіў.* Кураполле Паст. *Вуль для прыманкі ставілі, рой ідзе ў яго.* Стральцы Гродз. *За гулём калода. Маткі-трутнёўкі — плахое дзела — і гэты гуль звядуць.* Быстрыца Астр.

ВУ́ЛЯЙ *гл.* ВУ́ЛЕЙ

ВУН, ВУНЬ *часц.* Вунь, восЬ, во. *Вун там жыве ваш дзет.* Вязынка Маладз. *Умея вос таптаць—вун баба!* Гемзы Шальч. *Вун ён, а вун яна ідзе.* Рыбчына Віл. *А вунь нехта дэчыць* [ідзе]. Магуны Паст.

ВУ́НЬДЗІКА, ВУ́НЬДЗЯ, ВУ́НЬДЗЯКА *прысл.* Вунь там. *Во твая матка вуньдзіка ідзець. Вуньдзя чалавек пашоў.* Саланое Віл. *Вуньдзя курыца закваактала, сядзіць. Вуньдзя мой брат жыве.* Жодзішкі Смарг. *Вуньдзяка, глядзі!* Магуны Паст. *Вуньдзяка той дзет — пагавары з ім.* Галубы Маст.

ВУ́НЯКА *прысл.* Тое ж, што і в у́ н ь д з і к а. *Вуняка папа ідзе.* Быстрыца Астр.

ВУО́ЙЛОК *м.* Войлак. *Пудложу в хамут вуойлоку, коб нэ муляло конёві в шыю. З вуойлоку чосанкі пошыла.* Курашэва Чыж.

ВУО́ЙСЬКО *гл.* ВО́ЙСКА

ВУО́Н, ВОНА́, ВОНО́, ВОНЫ́ *займ.* Ён, яна, яно, яны. *Воны там булі: і вуон і вона. Воно плачэ, тое дітя.* Курашэва Чыж.

ВУ́ПАР *м. зневаж.* Упарты чалавек. Лісна В.-Дзв. ▽ *Стаіць, як вупар.* Бакшты Іўеў.

ВУ́РЗНУЦЬ *зак. экспр.* 1. Фыркнуць, буркнуць. *Аш вурзніць* [кот] *і з лапамі да яго.* Шамялі Брасл. 2. Прыкрыкнуць, прыгразіць. *Вурзніш на яго, а ён сваё кажыць.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *ur̃gzti* 'бурчаць'.

ВУРСЬ *выкл.* Фырк. *Сын вурсь на матку, як сабака.* Ахрэмаўцы Брасл.; *гл.* в у́ р з н у ц ь.

ВУРЧА́ЦЬ, ВУРЧЭ́ЦЬ *незак.* 1. Бурчаць. *Баюся, сабака вурчыць.* Асавец Віл. *Вурчыць кот.* Азяраны Раг. *Кошка вурчыць.* Янова Рас. *Сабака вурчэў на яе.* Міцкевічы Смарг. 2. Буркаваць. *Голуб вурчыць.* Саланое Віл. 3. Бурболіць. *Бяжыць шыпка і вурчыць вада.* Валынцы В.-Дзв. 4. Гудзець (пра матор). *Усё вурчэла машына каля іх хаты.* Кураполле Паст.

ВУ́РЧЫКІ *мн. кулін.* Коржыкі. *Вурчыкаў напікла.* Мярэцкія Глыб.

ВУСА́ТЫ *прым.* 1. Асцюкаваты. *Ячмень вусаты, з вусьмі.* Гемзы Шальч. 2. Тое ж, што і в у ш а́ т ы 2. *Вусатая курыца— чубкі па баках.* Пацаўшчына Дзятл.

ВУ́СЕНЬ, ВУ́СЯНЬ *зб. ж.* і *м.* Вусені, чэрві. *Вусень паела капусту і рады не дам.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вусянь ад*

*матыля плодзіцца.* Альхоўцы Лях. *Вусянь напаў на капусту.* Лапічы Асіп. *Нападзе чорная вусянь, з'ядая крапіву, толькі сцяблы пакіня. Вот дзяцей у іх, як вусені.* Вецярэвічы Пух.

ВУ'СЕНЬКІ, ВУ'СІНКІ *мн. памянш.-ласк.* да в у́ с н а, в у́ с н ы. *Вот у яе вусенькі — хоць ты пацалуй.* Саланое Віл. *Вусінкі апсыпала.* Мачаск Бярэз.

ВУ'СІЛЬНІЦА *зб. ж.* Тое ж, што і в у́ с е н ь. *Вусільніца напала на капусту.* Бакшты Іўеў.

ВУ'СІНКІ *гл.* ВУ'СЕНЬКІ

ВУ'СКІ' *гл.* ВУ'ЗКІ

ВУ'СНА *ж.,* ВУ'СНЫ *мн.* Губа, губы. *У яго вусна рассечана.* Магуны Паст. *Вусны яе тоненькія — яна негодная.* Саланое Віл.

ВУ'СЦЯ *н.* Вусце. *У вусці ключавое места.* Лісна В.-Дзв.

ВУ'СЦЯШКА *ж.* Прарэшак, пятля (для гузіка). *Ён да вусцяшкі каптана прычэпіць нош.* Кураполле Паст.

ВУ'СЫ I *мн.* 1. Валасяное покрыва над верхняй губою. *Вусы пастрыжы!* Ністанішкі Смарг. *Вусы згаліў.* Лоск Валож. *Вусы ў баб ёсць.* Кураполле Паст. *Атрасцілі бароды, вусы.* Альхоўка Навагр. *У яго вусы велькія.* Сакаляны Сакол. *Пабрый вусы.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Вусы ў рака. *Рак вусы мая.* Каўняны Гродз. 3. *бат.* Ніткападобныя парасткі ў раслін. *Вусы ў гарбузах.* Янова Рас. 4. Асцюкі. *Дуюць на ячмень* [б'юць], *кап вусы адляцелі.* Вязынка Маладз. *Нада вусы адбіць у ячмені.* Янова Рас.

ВУ'СЫ II *мн.* Рама ў развалках. *Ад голтаў ідуць жэрдачкі длужай, як сані, і папярэчнымі скрапляюцца, і называюцца вусы.* Гемзы Шальч. *Рабілі сані з вусамі, кап ні перавярнуцца.* Дакудава Лід.

ВУ'СЯНІЦЫ *мн.* Вусені. *Вусяніцы ўжо капусту паелі.* Дакудава Лід.; *гл.* в у́ с і л ь н і ц а.

ВУ'СЯНЬ *гл.* ВУ'СЕНЬ

ВУТА'К *м.* Качар. *Вутак і вутка.* Мярэцкія Глыб., Груздава Паст.

ВУТАЧО'К *м. памянш.-ласк.* да в у т а́ к. *Вутачка́ ліс украў.* Груздава Паст.

ВУ'ТКА I, ГУ'ТКА *ж.* Качка. *Вутка многа есць.* Кураполле Паст., Багушэвічы Бярэз. *Гуткі ў нас мала хавалі.* Паляцкішкі Воран.

ВУ'ТКА II *ж.* Гарэлка. ▽ *Ад вуткі розум круткі* [кароткі]. Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *w ó d k a* 'тж'.

ВУ'ТКА III *ж.* Тое ж, што і в у́ д а 1. *З вуткай пашоў, дагоніш.* Крынкі Крын.

ВУ'ТЛЫ, ГУ'ТЛЫ *прым.* Далікатны, слабы, які патрабуе добрага догляду. *Наш конь вутлы: трохі ляпей не дай — ён худнее, трэба даглядаць вутлага.* Галубы Маст. *Вутлыя качкі, не растуць.* Пацаўшчына Дзятл. *Вутлы — слабы: ці з'есць*

*чаго, яму бракуя.* Стральцы Гродз. *Гутлая мая юргіня.* Апіта Іўеў.

ВУ'ХА, ВУ'ХО' *н.*, ВУ'ШЫ *мн.* Вуха. *Вуха свярбіць, у вýху звініць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Забалело мне вýхо.* Старое Сяло Зэльв. *Шуміць у вýсе.* Альхоўцы Лях. *У яго адно вухó вялікая.* Магуны Паст. *Вухó атмарозіў.* Мярэцкія Глыб. *У вухó глядзі.* Лісна В.-Дзв. *У вухóвэ болячка.* Дзмітравічы Кам. *Яму бацька вýшы круця.* Лоск Валож. *У вушшý звініць.* Вострава Маст. *У цябе за вушы́ма гразь.* Ялова Пруж. ◇ *Вýхам ня весці* — не слухацца. *Ён вýхам не вядзець.* Кураполле Паст. *У яго ў вýху коні стаялі* — пра брудныя вушы. Лоск Валож. *Вýшы паспускаўшы, апусціўшы* — бяздзейнічаючы. *Стаяць, вýшы паспускаўшы. Што ты стаіш, вýшы апусціўшы?* Саланое Віл.

ВУ'ХАЦЬ *незак.* Вохкаць. *Брат вухаў-вухаў, як увідзіў Глашку.* Валынцы В.-Дзв.

ВУ'ЧАНЫ, ВУЧО'НЫ *прым.* Вучоны. *Тата быў вучаны.* Жодзішкі Смарг. *Ён вучаны чалавек.* Саланое Віл. *Вы вучаныя людзі.* Магуны Паст. ▽ *За днаго вучонага дзесяць невучоных даюць.* Кураполле Паст.

ВУЧЫ'ЦЕ'ЛЬКА *ж.* Настаўніца. *Вучы́целька ідзе.* Вялікія Баяры Шчуч. *А ў яго на кварціры была вучы́целька.* Малахоўцы Бар. *У нас вучыцéлька жыла.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* руск. *учительница,* польск. *nauczycielka* 'тж'.

ВУЧЫ'ЦІ *гл.* ВУЧЫ'ЦЬ

ВУЧЫ'ЦЦА *незак.* Набываць веды. *Адмалку вучыцца і да старасці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вучылася за метсястру.* Альхоўцы Лях.

ВУЧЫ'ЦЬ, ВУЧЫ'ЦІ *незак.* Перадаваць веды. *Яна вуча дзяцей у школе.* Старыя Трокі Трак. *Школа вучыць.* Саланое Віл. *Мы его не вучыціму.* Ялова Пруж.

ВУЧЫ'ЦЯЛЬНІЦА *ж.* Тое ж, што і в у ч ы́ ц е л ь к а. *І цяпер вучыцяльніца ест.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* руск. *учительница* 'тж'.

ВУШ I *гл.* ВУЖ I

ВУШ II *гл.* ВУЖ II

ВУША'ТКА *ж.* Цэбар. *Вушатку з клёпак з базару прывёз.* Ухвала Круп.

ВУША'ТЫ *прым.* 1. Вушасты (з вялікімі вушамі). Вялікія Баяры Шчуч. 2. Чубаты (з чубкамі каля вушэй—пра птушак). *Курыца вушатая.* Ракаўскія Швянч.

ВУША'ЦІК *м. памянш.* Цабэрак. *Ліні вару ў вушацік!* Ухвала Круп.

ВУШВА'ЛАК *м.* Палена, палка. *Ён нёс добры вушвалак.* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* літ. *ą́žuolas* 'дуб'.

ВУ'ШКІ *мн.* Чубкі каля вушэй у птушак. *Вушкі ў куры, вушаценькая кура.* Пасіене Лудз.

ВУШКО′ *н.* Пятля ў лапцях. *У вушко ўцягвалі валокі.* Малахоўцы Бар.

ВУШЛАВУ′ХАЯ ША′ПКА *ж.* Вушанка. *Вушлавухую шапку зімой носюць.* Мярэцкія Глыб.

ВУШЛА′ТЫ *прым.* Тое ж, што і в у ш á т ы 2. *Вушлатая курка з чубкамі пёраў каля вушэй.* Мярэцкія Глыб.

ВУ′ШМАЛА *м.* і *ж. зневаж.* Неахайны чалавек. *Вушмала — чалавек некі апусціўшыся.* Ёдлавічы Брасл. *Вушмала ты, як апушчонік!* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* літ. *ũšmalas* ′рукавіца з аўчыны′.

ВУ′ШШЫ *гл.* ВУ′ЗШЫ

ВУ′ШЫ I *гл.* ВУ′ХА

ВУ′ШЫ II *мн.* Петлі ў лапцях. *Як даўней лапці плялі, вушы на палачку збіралі.* Дакудава Лід.

ВУШЫ′ВЯЦ *м. бат.* Тое ж, што і в ó ш ы. *Вушывяц дробненькі, расце кусцікам.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВУ′ЯК *м. памянш.-ласк.* да в у й. Дзядзька (брат маці). Гемзы Шальч., Быстрыца Астр.

ВУЯ′ЦЬ *незак.* Выць. *Бувала, ваўкі вуяць, як стануць вуяць, аш страшна робіцца. Сабака вуéць.* Малькуны Ігн.

ВУЯ′ШАК *м.* Тое ж, што і в ў я к. Жылі Іўеў.

ВЫ′БАДАТІ *зак.* Выведаць, даведацца. *Выбадай, чы то правда, што вуон говорыв.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *badać* ′даследаваць′.

ВЫ′БАІНА *ж.* Разбітая каляіна, калдобіна. *На дарогі выбаіны засыпаюць пяском.* Лісна В.-Дзв. *Там былі такія выбаіны, бывала, санкі палятуць убок.* Кураполле Паст.

ВЫ′БАЙ *м.* Тое ж, што і в ы́ б а і н а. *Бываюць такія выбаі на дарозя, што сена не прывязеш, можна абярнуцца.* Лапічы Асіп.

ВЫ′БАЛУШЫТІ *зак. экспр.* Вытарашчыць (вочы). *Чого ты так очы выбалушыв?* Курашэва Чыж.

ВЫ′БАНІЦЦА *зак.* Спацець, упарыцца. *Выбанілася дзеўка, у вочарадзі стаяўшы.* Дуброўка Пух.

ВЫ′БАСЦІЦЬ *зак. экспр.* Аблаяць. *Яна не так усё робіць, вот я яе і выбасціла.* Старыя Смільгіні Воран.; *гл.* б э́ с т а ц ь.

ВЫБАЧА′ЦЬ *незак.* Прабачыць, даравацъ. ∇ *Старым і ў хáця бох выбачая.* Жылі Іўеў. *Асот і малачай — на картошку выбачай!* Апіта Іўеў.

ВЫ′БАЯК *м.* Высокае роўнае дрэва. *Выбаяк у лесе з нашага берагу відаць.* Быстрыца Астр.

ВЫ′БЕЛІЦЬ *зак.* Памыць. *Выбелю кохту.* Вялікі Краснік Пруж.

ВЫБІВА′НКАВЫ *прым.* Стракаты, з узорамі. *Выбіванкавае палатно — рабое, выбіванкава капота, тканая с парцяных нітак.* Семежава Кап.

ВЫБІВА́НЫ *дзеепрым.* Пакрыты слоем гліны, цвёрды. *Ток быў дзеравянный і быў выбіваный ток з гліны.* Лісна В.-Дзв.

ВЫБІВА́ЦЦА I *незак.* Вымалочвацца, абівацца. *Ячмень з асцюкоў выбіваецца цапамі.* Лоск Валож.

ВЫБІВА́ЦЦА II *незак.* Біць фантанам, з сілай вылівацца на паверхню. *З вочка жарало выбівалася.* Гемзы Шальч. *Жыла выбіваецца з зямле — б'е вада.* Мсцібава Ваўк.

ВЫБІВА́ЦЬ I *незак.* Пратоптваць. *Выбіваюць каровы сцешкі.* Малахоўцы Бар.

ВЫБІВА́ЦЬ II *незак.* 1. Утрамбоўваць, пакрываць слоем гліны. *Ток выбівалі з гліны.* Альхоўцы Лях. 2. Рабіць з гліны. *Печ выбіваюць.* Быстрыца Астр. 3. Перыць. *Палатно выбіваюць пранікам.* Саланое Віл. 4. *перан.* Псаваць, адбіраць. *Што адзін заднаго здароўе выбіваеце?* Саланое Віл.

ВЫБІРА́ЛЬНІЦА *ж.* 1. Жанчына, якая капае бульбу. *Выбіральніцы казалі, што харошы ўраджай бульбы.* Вострава Маст. 2. Жанчына, якая рве (выбірае) плоскуні. *Пашлі выбіральніцы дранкі с канапель выбіраць.* Жылі Іўеў.

ВЫБІРА́НІЦЫ толькі *мн. бат.* Мужчынскія асобіны канапель. *Выбіраніцы — па каноплях, іх рвуць.* Альхоўцы Лях.

ВЫБІРА́НКІ *мн.* Посцілкі з суконным утокам. *У нас і цяпер ткуць выбіранкі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Выбіранкі ткалі ў некалькі нітоў; патыкалася па палатняным ды сукном.* Малахоўцы Бар.

ВЫБІРА́НЦЫ *мн.* Тое ж, што і в ы б і р а́ н к і. *У цацкі, у кветкі выбіранцы ткуць дзвёх.* Альхоўцы Лях.

ВЫБІРА́ЦЦА *незак.* Вычэрпвацца. *Разбіраюць парсюка так: вынімаецца грудзіна, выбіраяцца кроў, вылупліваюцца сэрца і лёхкія, вынімаяцца падбруш'я, вынімаюць кішкі.* Крэва Смарг.

ВЫБІРА́ЦЬ, ВЫБЫРА́ТЫ *незак.* 1. Выкопваць з зямлі. *Трэба цыбулю выбіраць з ляхі.* Ністанішкі Смарг. *Картоплю выбіраюць у кошык.* Вострава Маст. *Бульбу выбіраюць.* Мярэцкія Глыб. 2. Збіраць з паверхні зямлі. *Я выбіраю гуркі ў ночвы.* Вецярэвічы Пух. *Выбыратыму гуркы.* Сіманавічы Драг. 3. Падглядаць пчол, даставаць мёд. *Ён выбіраіць мёт, ўсашчаіць — і яму пчолкі вяліся.* Ёдлавічы Брасл. *Нада мёт выбіраць.* Кураполле Паст. 4. Выбіраць лепшую салому для кулёў. *Кулі выбіралі, аставаўся акалот.* Бакшты Іўеў. *Куле выбіралі з самай лепшай саломы.— Што ты рабіў? — Куля выбіраў.* Дзяніскавічы Ганц. *Абівалі жыта ап калотку і куле выбіралі.* Вецярэвічы Пух. *Кулі выбіралі на страху.* Рудня Астравітая Чэрв. 5. Выдзёўбваць, высякаць. *Далатком кантаччую выбіраюць дзюрку.* Ёдлавічы Брасл. *Выбіраюць лёткі ў шулах.* Быстрыца Астр. *Асіну зрэжуць, а скобляй выбіраюць мусар — так рабілі палушачкі і начоўкі.* Дакуда-

ва Лід. 6. Выбіраць адну з некалькіх асоб. *Скольки было ў яе ўхажораў — усё выбірала.* Груздава Паст. 7. Забіраць, атрымліваць. *Такой случай мне быў: ездзіла паспарт выбіраць.* Індра Красл. *Я выбірала мэтрыку ў райсабесе.* Кураполле Паст. *Ідзець спраўку выбіраць пра здароўя.* Ёдлавічы Брасл. 8. Рваць лён. *Будзем лён выбіраць.* Бенякані Воран. 9. Даставаць, выцягваць. *Лён вязуць у мачулішча, мочуць, а патом выбіраюць кручкамі снапкі.* Індра Красл. 10. Даставаць з паласці, аперыраваць. *Праз жывот дзяцей выбіралі.* Ёдлавічы Брасл.

ВЫ'БІРКІ толькі *мн. бат.* Тое ж, што і выбіра́ніцы. *Сеялі наўмысня каноплі. Калі выбіркі выбяруць, то на нічальніцы яны ідуць.* Цярэшкі Ваўк.

ВЫ'БІТЫ *дзеепрым.* Утрамбаваны, пакрыты глінай. *Хата была выбіта глінай, а на кухні — зямля, нада было часта заметаць.* Міратычы Карэл.

ВЫ'БІЦЦА *зак.* 1. З'явіцца. *Цяпер паменіла ваўкоў і лясы парадзелі, а даўней то тут, то там выб'іцца воўк.* Мярэцкія Глыб. 2. Выплысці. *Глыбока месца, а дзе пападзе хто ў вір — не выб'ецца аттуль, патане.* Старое Сяло Зэльв. 3. З'явіцца, адкрыцца. *Бывае ў каня пад горлам выб'юцца раны.* Гемзы Шальч. ◇ *Выбіцца са сну. Выбіўся са сну, ня сплю.* Магуны Паст., Крынкі Крын. *Выбіцца з сіл. Я іс сіл выбіўся.* Веркалы Пух. *Выбіцца з веры. Я выбіўся з веры і не стаў пісаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Выбіцца на дарогу. Ледва выбіўся на дарогу.* Малахоўцы Бар.

ВЫ'БІЦЬ *зак.* 1. Вывіхнуць. *Ехаўшы, руку выбіў — вывіхнуў нібы.* Жылі Іўеў. 2. Набіць. *Быў некалі пастар, ён жонку выб'іць — тая ўцячэць.* Валынцы В.-Дзв. 3. Узбіць, распушыць. *Выбіла — і стаяць падушкі.* Старыя Смільгіні Воран. 4. Узбіць, успеніць. *Грыбок робяць з творагу, туды дабаўляюць манкі, слівак, яяк, сахару, друбачку соды — гэта выбіць нада і пякуць.* Крэва Смарг. 5. Абабіць, прыбіць. *Трэбо хату выбіць лучынай, бо буду тынкаваць.* Номікі Бабіц. ◇ *У дошку выбіць* — апавясціць аб чым-н. *Трэ папрасіць, кап у дошку выбіў.* Номікі Бабіц.

ВЫ'БРАЦЦА *зак.* Знайсціся, з'явіцца (пра час). *Як калі выбярэцца час, пацёгаям салому.* Малахоўцы Бар.

ВЫ'БРАЦЬ, ВЫ'БРАЦІ *зак.* 1. Выкапаць, вырваць. *Выбрала сваю бульбу.* Беразіно Докш. *Ужо бульбу выбралі.* Саланое Віл. *Выберу цыбулю — ужо час.* Мсцібава Ваўк. *Трэба гуркі выбраці.* Смаляніца Пруж. 2. Падглядзець пчол, дастаць мёд. *Мала мёду і той нехта выбраў.* Курапопле Паст. *Выбяруць мёд у начоўкі.* Саланое Віл. 3. Вырваць плоскуні. *Трэба выбраць выберкі, ужо рысуя.* Вострава Маст. 4. Узяць, атрымаць, выпісаць. *На пэнсію ня выбрала ўсе спраўкі.* Крэва Смарг. 5. Капаючы, дастаць. *На том балоця торф выбралі.*

Стральцы Гродз. 6. Дастаць (з печы). *Булкі выберу, тады пайду на магілкі.* Ракаўскія Швянч. 7. Выняць, выставіць. *Хазяйка гэта акно была выбрала, а цяпер зноў нада ўставіць.* Магуны Паст. *Пакалупаяш муштук, сос выбярэш.* Перавознікі Астр. *Вы выбралі почту?* Быстрыца Астр. 8. Зняць. *Трэба палатно выбраць с кроснаў.* Грыкені Вільн. 9. Забраць. *Сына яна выбрала з дзетдома — і ён стаў хуліганам.* Ахрэмаўцы Брасл. 10. Выпатрашыць. *Ватрабянкі рабілі так: выбярыць нутры, зварыць і пасякая вантропкі, сэрца, почкі — у кішкі і ў печ.* Старыя Трокі Трак. 11. Дастаць з поласці, аперыраваць. *Разрэзалі і выбралі рабёнка з жывата.* Быстрыца Астр. 12. Адабраць (пра здароўе). *Зяць мне многа здароўя выбраў.* Кураполле Паст. 13. Забраць. *Здаў адзежу ў хімчыстку і не выбраў.* Кураполле Паст. 14. Купіць. *Зяць мне білет выбраў у Віцебск.* Старыя Трокі Трак. ∇ *Яна с-пад гадзіны яйкі выбяра — гаворацць пра такую, хто промаху не дась нідзе.* Гемзы Шальч. *З гурту выбярэш курту — гэта пра тое, што маліц возьміць ніякую дзеўку ці дзеўка возьміць благога мужыка.* Груздава Паст.

ВЫ'БРУКАВАЦЬ *зак.* Вымасціць. *Нада выбрукаваць цэглай дарошку.* Ракаўскія Швянч.

ВЫ'БРЫКІ *мн.* Здарэнні, выпадкі. *Даўней і ў горадзе былі выбрыкі, як хто бадзяўся без работы.* Груздава Паст.

ВЫ'БУХАЦЬ *зак. экспр.* З'есці. *Як вайной галодніца была, дык два саганы наварам травы і выбухаям.* Альхоўка Навагр.

ВЫ'БУХНУЦЬ *зак.* Узарвацца, з сілай вылецець. *Выбухнула зямля* [ад узрыву бомбы]. Жодзішкі Смарг.

ВЫ'БУЯЦЬ *зак.* Вырасці кволым, тонкім. *Буракі выбуялі ў траве.* Быстрыца Астр. *Выбуяў гарох.* Жылі Іўеў.

ВЫ'БЫЦЬ *зак.* 1. Прабыць пэўны тэрмін. *Нада было пяць гадоў выбыць там — ня выбудзя ён.* Саланое Віл. 2. Мінуць, кончыцца. *Цялёнку дні выбылі — нада рэзаць.* Янова Рас.

ВЫ'ВАДАК *м.* Прыплод. *Сарока прывіла свой вывадак.* Валынцы В.-Дзв.

ВЫВАДЖА'ЦЬ *незак.* Разводзіць. *Дзеці вываджаюць кролікі.* Грыкені Вільн.

ВЫВАДЗІ'ЦЦА *незак.* Знікаць, зводзіцца. *Цяпер музыкі выводзюцца.* Саланое Віл.

ВЫВАДЗІ'ЦЬ *незак.* Пладзіць, раджаць. *Бабры з ракі капаюць норы і там дзяцей выводзяць.* Саланое Віл.

ВЫ'ВАЖАЦЬ *зак.* Выцягнуць. *І трэба было выважаць прэнт са скалы.* Гемзы Шальч. *Ён выважыць карча якою палкаю, жэрткаю.* Альхоўцы Лях.

ВЫ'ВАЙЦІЦЬ *зак.* Выгаварыць, вылаяць. *Я ёй вывайціла, хай слухая.* Масілавічы Сл. *Вывайціла яна добра яго.* Старыя Смільгіні Воран. *Я вывайціла на ўсе стораны.* Гемзы

Шальч. *Вывайціць цябе абы за што.* Беразіно Докш.; *гл.* в а й ц я́ ц ь.

ВЫ'ВАЛЫ *мн.* Буралом. *Нарэзаў вывалаў на дрова.* Навасёлкі Свісл.

ВЫВА'ЛЬВАЦЦА *незак.* З'яўляцца. *Вывальваецца гус у паху.* Ністанішкі Смарг.

ВЫВА'ЛЬВАЦЬ *незак.* Высякаць. *Лясы вывальваюць.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЫ'ВАРАТ *м.* Вывернутае бурай дрэва, вываранень. *Выварат зрэзалі на дровы.* Кураполле Паст. *Многа выварату нарабіла ветрам. Вырывая дзерава с коранем.* Міратычы Карэл.

ВЫ'ВАРАТКА *ж.* Тое ж, што і в ы́ в а р а т. *Вываратка лежала ў лесе.* Ахрэмаўцы Брасл., Рыбчына Віл.

ВЫ'ВАРАТНЯ *ж.* Тое ж, што і в ы́ в а р а т. *Ляжыць дрэва з корнямі вывернена — вываратня. Патсадзя* [чорт] *п'янога пад вываратню.* Гемзы Шальч. *Вываратня ляжыць каля дарогі.* Вязынка Маладз.

ВЫ'ВАРАЦІН *м.* Тое ж, што і в ы́ в а р а т. *Шукай грыбоў там, дзе вываранін ляжыць і далей за яго.* Беразіно Докш.

ВЫ'ВАРАЦІНА *ж.* Тое ж, што і в ы́ в а р а т. *Вываранціна на дарозе ляжыць.* Беразіно Докш.

ВЫ'ВАРАЦЕ'НЬ *м.* Тое ж, што і в ы́ в а р а т. *Вы́варацень ляжаў каля дарогі — парэзалі на дровы.* Кукарава Бярэз. *Лезла праз вываранень ды ногі абдзёрла.* Мачаск Бярэз. *Вывараце́нь — калі дзерава вывернута з карнямі.* Мішневічы Шум.

ВЫ'ВАРАЦЬ *ж.* 1. Тое ж, што і в ы́ в а р а т. *У лесі вывараць ляжала.* Рудня Чэрв., Лапічы Асіп. *Вывараць велькая гун ляжыць.* Пацаўшчына Дзятл. *Вывараць убок аткінь!* Беразіно Докш. 2. Воўчае гняздо, логава пад вывернутым дрэвам. *У вываралі ваўкі жывуць.* Мішневічы Шум. *Павывярнула бура — вывараці ляжаць.* Малахоўцы Бар., Рудня Чэрв.

ВЫВАРА'ЧУВАЦЬ *незак.* Выкідаць. *Дулька каславачкамі адлятая, яе вывавачуям* [у хлеў] *і каровя пасцелям.* Быстрыца Астр.

ВЫ'ВАСКА, ВЫ'ВОЗКА *ж.* Вываз. *У нас была велька вываска дзерава, людзі з другіх вёсак прыязджалі на вываску.* Кіралі Шчуч. *Був поіхав на вывозку — дэрыво на станцыю возылы.* Сіманавічы Драг.

ВЫ'ВАШАВАЦЬ *зак.* 1. Выпалаць (у агародзе). *Баба во колькі град вывашавала.* Багушэвічы Бярэз. 2. Зрыць. *Свіня вывашавала грады.* Багушэвічы Бярэз.; *гл.* в а ш а в а́ ц ь.

ВЫВАШО'ЎВАЦЬ *незак.* Выцягваць бярвенне з вады ў час сплаву лесу. *Раскідаюць лаўкі і вывашоўваюць бярвення на берагах.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* в а ш а в а́ ц ь.

ВЫ'ВЕДЖАНЫ *дзеепрым.* Выведзены. *Карова выведжана і прыведжана.* Ракаўскія Швянч.

ВЫ'ВЕСЦІ, ВЫ'ВЯСЦІ *зак.* 1. Звесці, вывесці (пра жывёлу). *Вывелі авечак у нас, не разводзяць цяпер.* Валынцы В.-Дзв. 2. Знішчыць. *Клапоў вывелі, німа.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫ'ВЕСЦІСЯ *зак.* Звесціся. *Вывеліся куры — арол усіх падраў.* Лісна В.-Дзв.

ВЫВЕ'ТРЫВАЦЦА *незак.* Сушыцца на ветры. *У клеці кумпяк і выветрываецца.* Лісна В.-Дзв.

ВЫ'ВЕТРЫЦЬ *зак.* Праветрыць. *Я акно аткрыла — ніхай выветрыя.* Мсцібава Ваўк.

ВЫ'ВЕЎКА *ж.* Тое ж, што і вы́дмухі. *Не гані карову, бо кала вывеўкі там граско. На вывеўцы і трава не расла і сухо было. Вывеўка бывае і на полі.* Баброўнікі Гарад.

ВЫВІВА'ЦЬ *незак.* Намотваць. *Вывіваюць клубок ніцяў.* Жылі Іўеў.

ВЫ'ВІДНЯЦЬ *зак. безас.* Развіднець. *Вывідняла ўжо.* Альхоўка Навагр.

ВЫ'ВІСЦІ *зак.* Вывезці. *Ён вывіс гной на поля. Нада вывісці дровы з лесу.* Саланое Віл.

ВЫ'ВОЗКА *гл.* ВЫ'ВАСКА

ВЫ'ВЯРАДЗІЦЬ *зак.* Натрудзіць. *Вывярадзіла руку, жнучы.* Жыдзевічы Іўеў.

ВЫ'ВЯРНУЦЬ *зак.* 1. Перамясціць, пераліць з адной пасудзіны ў другую. *Вывярну ў таз грыбы і буду саліць.* Лісна В.-Дзв. *Я свіням вывярну гэту яду.* Кураполле Паст. 2. Вывернуць, вырваць з зямлі з карэннямі. *Вецяр дзерава вывярнуў.* Паляцкішкі Воран. 3. Пакалечыць. *Вывярнуў ногу.* Ёдлавічы Брасл.

ВЫ'ВЯСЦІ *зак.* Нарадзіць. *Чатырнацаць дзяцей вывясці — што ты думаеш лёхка?* Саланое Віл.

ВЫ'ВЯХ *м.* Вывіх. *Вывях бывая — хто нагу звіхне. Вывях вывязваць нада.* Рыбчына Віл.

ВЫ'ГА *ж. бат.* Віка. *Выга, яе сеюць са ўсом на корм.* Міратычы Карэл. *Выга і ляда — тое ж.* Альхоўцы Лях.

ВЫГАВА'РВАЦЬ *незак.* Выказваць крыўду, незадавальненне. *Цяпер выгаварваць будзе адна другой.* Мсцібава Ваўк.

ВЫГАВА'РУВАЦЬ *незак.* Вымаўляць з акцэнтам. *Ты не так выгаваруеш, як у нас.* Жылі Іўеў.

ВЫ'ГАВАРЫЦЦА *зак.* Сурочыць. *А гэты кот, кап не выгаварыцца, яшчэ не бэсціць.* Альхоўка Навагр.

ВЫ'ГАДА, ВЫГО'ДА *ж.* 1. Добрыя ўмовы жыцця і працы. *Дзіця ў выгадзі расцець.* Валынцы В.-Дзв. *Цяпер выгада маладым.* Саланое Віл., Старыя Смільгіні Воран. *Вот ёй выгада ў маткі: робіць, што хоча, спіць, колькі хоча.* Кіралі Шчуч. *Якая выгода: сядзі і пішы, не нада на нагах стаяць.* Мярэцкія Глыб. *Ты расцеш на выгодзя.* Старыя Смільгіні Воран. *У такой выгодзе рос.* Вязынка Маладз. *Тут магазін на месці, і аўтобус, і ўся выгода.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзісь выго-*

*да людзям, свабода.* Вострава Маст. 2. Добрыя прыродныя ўмовы. *У цябе выгада: рэчка, пчол можна трымаць.* Дакудава Лід. *Табе выгода: тут лох, лес, рэчка.* Рыбчына Віл. *Тут воздух лёхкі, ягадзіна — самая выгода.* Ахрэмаўцы Брасл. *Але і выгода ў вас на воду.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Добрыя ўмовы для жывёлы. *Во вам выгада пасціць.* Магуны Паст. *Вот курам выгада: па аўсе ходзюць.* Мярэцкія Глыб. *Выгада — як выпуск добры: кура ходзіць, і гусь ходзіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Цялятам выгода — пашы багато.* Дзяніскавічы Ганц. 4. Добры догляд. *Конь быў у добрай выгодзі, быў сыты.* Кіралі Шчуч. *Парасёнак быў у выгодзя, у доглядзе.* Рыбчына Віл. 5. Добрыя гаспадарчыя ўмовы. *Пойдзяш паглядзіш нашу выгоду: тут усё на месцы, ня нада далёка хадзіць: тут хлеў, сена, корм, а там куры, там карова, пошар, а там лазня.* Ракаўскія Швянч. 6. Спрыяльныя ўмовы для росту раслін. *Яно ці табак, ці што, то ўсё любіць расці на выгадзе.* Гарэлец Пух. 7. Добры медыцынскі догляд. *Выгоду мая цяпер баба — доктар прымая дзіця.* Дакудава Лід. ▽ *Ны так шкода, як ны выгода.* Сіманавічы Драг.

ВЫ'ГАДАВАЦЬ *зак.* Вырасціць, выкарміць. *Кабана выгадавала і яму дала.* Валынцы В.-Дзв.

ВЫ'ГАДНА *прысл.* Добра, выгодна. *Там выгадна жыць, удобнае места.* Азяраны Раг.

ВЫГАДНЕ'Й *прысл.* Лепш. *Аўтобусам можна скарэй даехаць, але поездам — выгадней.* Кураполле Паст.

ВЫ'ГАДНЫ *прым.* Добры, выгодны. *На выгадным месці сяло стаіць.* Пасека Ст.-Дар.

ВЫ'ГАІЦЦА *зак.* 1. Загаіцца. *Палец пабіты, але неяк выгаіўся.* Ухвала Круп. 2. Вылечыцца, выздаравець. *Неяк выгаіўся ён ад ран.* Ухвала Круп.

ВЫ'ГАІЦЬ *зак.* Загаіць. *Выгаіла рану маслам.* Жылі Іўеў.

ВЫ'ГАЛАДНЕЦЬ *зак.* Выгаладацца. *Як выгаладнееш, то з'ясі.* Паляцкішкі Воран.

ВЫ'ГАЛАДНІЦЦА *зак.* Тое ж, што і в ы́ г а л а д н е ц ь. *Я выгаладніўсо.* Номікі Бабіц.

ВЫГА'ЛАК *м.* Прагаліна. *У лесі есць выгалак — німа нічога, толькі калюшкі на ім і кусты елаўцовыя. Вышаў я на выгалак, на выгалку ягады, многа грыбоў набраў. У нас многа выгалкаў.* Кіралі Шчуч.

ВЫГА'ЛАЧАК *памянш.* да в ы г а́ л а к. Прагалінка. *Тут выгалачак, і яны на ём сядзелі.* Кіралі Шчуч.

ВЫ'ГАЛІЦЬ *зак. перан.* Скасіць роўна, да самай зямлі. *Вот скасіў — як выгаліў!* Пронькі Мядз. ▽ *Кап іх выгаліла гэтых фашыстаў!* Багушэвічы Бярэз.

ВЫ'ГАН, ВЫ'ГАНЬ *м.* Месца каля вёскі для выпасу жывёлы. *Выган — дзе субіраецца скаціна. Пагонім на выган скаціну.* Саланое Віл. *Выган адразу пасля вёскі.* Груздава

Паст. *А дзе скаціну выганяюць у поля — выган. Ганеш у выган?* Кураполле Паст. *На выган каровы ганяюць.* Магуны Паст. *Выгань — пожня за вёскай, куды выганялі скот. Было тры полі і тры выгані: у тым полі, дзе папар, там і выгань.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прыгоніць авечкі на выгань, а воўк пазаганяе ў лес.* Валынцы В.-Дзв. *Выгань — места, дзе кароў выганяюць, каля дзярэўні.* Індра Красл.

ВЫ'ГАНІЦЬ *зак.* Зганіць. *Выганіла той тавар, ні купіла ў той час.* Саланое Віл.

ВЫ'ГАННАЯ, ВЫГО'НАЯ *н.* 1. Прадукты, што давалі пастуху перад першым выганам жывёлы ў поле. *Выганная давалі пастуху, як угодзіцца: давалі яйкаў, бараніны, сала.* Саланое Віл. *Пастуху выганная давалі перат пачаткам пасты: гладыш малака, сала, хлеба булку, дзесяць яечак, каўрыгу масла* [два-тры фунты]. Азяраны Раг. 2. Дзённы харч пастуха. *Даю выгоная на абет і падвячорак: яек, сыр, калбасы, як гоніць на пасту.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫ'ГАНЬ *гл.* ВЫ'ГАН

ВЫГАНЯ'ЦЬ *незак. экспр.* Зарабляць. *Я выганяў шэсцьдзесят рублёў у месяц.* Ахрэмаўцы Брасл. *Па тры рублі выганяла, полячы.* Асавец Віл.

ВЫ'ГАР *м.* Яма, дзе выгараў торф. *Выгар на балоце, дзе торф гарэў.* Вострава Маст.

ВЫ'ГАРАДЗЬ *ж.* Абгароджанае месца для жывёлы ў полі. *Кашара — гэта выгарадзь у полі для ската.* Мішневічы Шум.

ВЫ'ГАРАДНЯ *ж.* Тое ж, што і в ы́ г а р а д з ь. *Выгарадня, дзе кароў заганяюць. Да выгарадні загані!* Кемялішкі Астр. *Выгарадня — на аткрытым месце, часта для свінгй.* Ністанішкі Смарг.

ВЫ'ГАРАЦЬ *зак.* Узараць. *Выгараў поле трактарам.* Паляцкішкі Воран. *Выгараў адну баразну.* Вялікія Баяры Шчуч.

ВЫ'ГАРАШЧА *н.* Выгар, выгарышча. *Выгарашча — дзе быў лясны пажар.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫ'ГАРКА *ж.* Тое ж, што і в ы́ г а р. *Было сухоя лета, тарпа* [торф] *выгарала, асталася яма — выгарка.* Мярэцкія Глыб.

ВЫ'ГАРНУЦЬ, ВЫ'ГОРНУТЫ *зак.* Выгарнуць. *Трэба жар выгарнуць з печы.* Жылі Іўеў. *Жяр с пэчы выгорнула.* Сіманавічы Драг.

ВЫ'ГАЦІЦЦА *зак.* Моцна запэцкацца, забрудзіцца. *Дзіця выгацілася, глядзець страшна.* Беняконі Воран.

ВЫГІБА'ЦЦА *незак.* Выгінацца. *Камені закладаюцца пад вуглы і пад сцяну гумна, каб яна не выгібалася, як будавалі длінная гумно.* Гемзы Шальч.

ВЫГІЛЯ'СТЫ, ВЫГІНА'СТЫ *прым.* Выгнуты. *Скобля — выгілястая, а струх — прамы.* Быстрыца Астр. *Капаць гной*

*бяром дзеравяныя выгінастыя вілы, на канцы — жалезныя наканечнікі.* Мачаск Бярэз.

ВЫ'ГЛУБАНЫ *гл.* ВЫ'ДЛУБАНЫ

ВЫ'ГЛЯД *м.* Знешні выгляд. *Які твой выгляд?* Галубы Маст. *Выгляд яго* [каня] *не бардзо харошы: худаваты, шэрсць стаіць, не гладкі, муся, ён хворы.* Гемзы Шальч.

ВЫГЛЯ'ДАВАЦЬ, ВЫГЛЯ'ДУВАЦЬ *незак.* 1. Выглядаць, мець выгляд. *Вы выглядаваяця на дваццаць два гады. Выглядуяце маладымі.* Ністанішкі Смарг. *Ты выглядуеш харашо.* Гемзы Шальч. 2. Сачыць за кім-н., выглядаць каго-н. *Яны выглядуяць гэта вас.* Ракаўскія Швянч.

ВЫГЛЯДА'ЦЬ, ВЫГЛЯДА'ЦІ *незак.* Тое ж, што і в ы г л я́ д а в а ц ь 1. *У яе маршчынаў нет, выглядаіць маладая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Твая жэна старшэ выглядае.* Смаляніца Пруж. *Дзядук, скажы, а як яны выглядалі тыя хадакі?* Швэды Вільн. *Нага выглядала чырвона, апухшы.* Сакаляны Сакол.

ВЫ'ГНАНЫ *дзеепрым.* Прымушаны выехаць. *У бежанцы былі выгнаны.* Крэва Смарг.

ВЫ'ГНАЦЬ, ВЫ'ГНАТЫ *зак.* 1. *экспр.* Прымусіць выйсці, выдаліць. *Пашоў у сваты, а тая выгнала с хаты.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яго выжаня жонка з хаты.* Вецярэвічы Пух. *Не выжанеш с хаты.* Альхоўка Навагр. *Як будзеш так рабіць, то мы цібе выжанем.* Новікі Гродз. 2. Прымусіць ісці на работу. *На роботу іі булы выгналы.* Сіманавічы Драг. 3. Выпусціць з хлява. *Карову выжаняш маю, а я пайду да лёну.* Альхоўка Навагр. *Пайду выжану карову.* Навасёлкі Свісл. *Выжаньмо кароў!* Ванелевічы Кап. 4. Разагнаць баразну. *Пасярэдзіня выжаня баразёнку плугам.* Бакшты Іўеў. 5. Выжаць. *Выгнала адну постаць шыракаватую.* Груздава Паст. 6. Аддзяліць зерне ад саломы. *С саломы выганіш зярно, а тады пойсаваіш.* Лісна В.-Дзв. 7. Выціснуць [пра алей]. *Камуха ад алею, як алей выжануць.* Альхоўка Навагр. 8. *перан.* Пазбавіцца ад чаго-н. *Сабаку выганеш с хаты, но выгнаць бяду цяжка.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫ'ГНАЯНЫ *дзеепрым.* Угноены. *Выгнаяная зямля—добрая зямля.* Вязынка Маладз. *Выгнаяна зямля — усё на ёй добра расце.* Галубы Маст.

ВЫГО'ДА *гл.* ВЫ'ГАДА

ВЫГО'ДНЫ *прым.* Добры, прыдатны. *Там выгодная мейсца, рэчка.* Рыбчына Віл.

ВЫГО'ДЫ *мн.* Раскоша. *З гэтых выгодаў усякія распусты бываюць.* Кіралі Шчуч.

ВЫГО'НАЯ *гл.* ВЫ'ГАННАЯ

ВЫГО'НШЧЫНА *ж.* Тое ж, што в ы́ г а н н а я 1. *Выгоншчыну пастуху даюць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ВЫ'ГОРНУТЫ *гл.* ВЫ'ГАРНУЦЬ

ВЫГО′РУВАЦЬ, ВЫГО′РВАТЫ *незак.* Разганяць барозны. *Бульбу выгоруяць і капаяць.* Ліпнікі Вільн. *Бульбу выгорвают плугом і копают.* Горск Бяроз.

ВЫГРАБА′ЦЬ *незак.* 1. Зграбаць. *Граблімі выграбалі змалочаная збожа.* Альхоўка Навагр. 2. Выгортваць. *Качаргой выграбаюць жар з печы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВЫГРЫВА′ТІСЕ, ВЫГРЫВА′ТЫСЬ *незак.* Грэцца, выгравацца. *Куот выгрываецце на сонці.* Курашэва Чыж. *От буду выгрыватысь на пычі.* Сіманавічы Драг.

ВЫ′ГРЫЗІНЬ *м.* Лапіна, дзе жывёла выскубла ўсю траву. *Тут выгрызінь — каровы траву выгрызлі чыста.* Малькуны Ігн.

ВЫ′ГУБІЦЬ *зак.* Знішчыць, вывесці. *Сухі мазоль я выгубіла, а Палляніха ня можа выгубіць.* Магуны Паст.

ВЫ′ГУЛЬТАВАЦЦА *зак.* Выгуляцца. *У тваём хазяйстве работы німа — выгультавалася, рукі не баляць.* Граўжышкі Ашм.

ВЫ′ГЭТАТЫ *зак.* Выкарчаваць. *Выгэтаты трэба пня на дрова. Я гэтого пня ўсе роўно выгэтаю.* Горск Бяроз.

ВЫД *гл.* ВІД

ВЫДАВА′ЦЦА I *незак.* Прызнавацца. *Я бацькам не выдавалася, што мы дрэнна жывём.* Гемзы Шальч.

ВЫДАВА′ЦЦА II *незак.* Задавацца, выстаўляцца. *Глядзі, як Міхал выдаецца.* Ракаўскія Швянч.

ВЫДАВА′ЦЬ *незак.* Гатаваць, варыць. *Розныя стравы на дзяды выдаюць: вараць капусту, сяканку, з яёк што-небудь.* Дакудава Лід.

ВЫ′ДАІЦЬ *зак.* 1. Падаіць. *Выдаю пятнаццаць кароў раніцай.* Лоск Валож. 2. *перан.* Вымантачыць. *Усе дзеньгі выдаіў панімношкі.* Альхоўцы Лях.

ВЫДАЛБА′НКА *ж.* Човен. *Выдалбанка — з тоўстага дзерава, бальшынство з ліпы, з асіны выдалбаюць.* Рудня Чэрв.

ВЫ′ДАМАЦЬ *гл.* ВЫ′ДУМАЦЬ

ВЫДА′ТНЕ *прысл.* Выдатна. *Мае дзеці вучацца на выдатне.* Кураполле Паст.

ВЫ′ДАЎБЛЯНЫ, ВЫ′ДАЎБАНЫ *дзеепрым.* Выдзеўбаны. *Вулёк з ліпы выдаўбляны, карыта выдаўбляна.* Магуны Паст. *Даўбёнка выдаўбаная з дрэва.* Жодзішкі Смарг.

ВЫ′ДАХНУЦЬ *зак.* Паздыхаць, перадохнуць. *Куры былі выдахлі — на чуму хварэлі.* Альхоўцы Лях.

ВЫ′ДАЦЦА *зак.* Здацца. *Вам выдалася, я ня гэта сказала.* Валынцы В.-Дзв. *Яму выдалася, што стары смерць наводзіць.* Ракаўскія Швянч. *Табе выдалася, я ня чула, а ён чуў.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫ′ДАЦЬ *зак.* Выдаць замуж. *Самую меншую выдалі замуш.* Ністанішкі Смарг.

ВЫ′ДЗЕЛЕНЫ *дзеепрым.* Абмежаваны слупамі. *Даўней,*

*як хто меў хутар, то ён быў выдзелены капцамі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫ'ДЗЕР, ВЫ'ДЗЯР *м.* Здор. *Выдзіралі выдзер, салілі і лажылі к лету.* Крэвені Даўг. *Разбіраюць парасёнка, а сярёткі сала — гэта выдзяр.* Янова Рас.

ВЫДЗЕ'РЖУВАЦЬ *незак.* Вытрымліваць. *Не выдзержуя цыбуля — гіня ад холаду.* Азяраны Раг.; *параўн.* руск. *выдерживать* 'тж'.

ВЫ'ДЗЕРКІ I, ВЫ'ДЗЯРКІ *мн.* Поле на месцы сенажаці. *Выдзеркі—дзе сенажаць выдзеруць на поле, папахаюць коньмі, плугам.* Вялікія Баяры Шчуч. *Адлог выдралі і на выдзярках пасеялі.* Старыя Смільгіні Воран.

ВЫ'ДЗЕРКІ II толькі *мн.* Сала ад кішак. *Выдзеркі — кішкавое сала, яго не ядуць.* Лісна В.-Дзв.

ВЫ'ДЗЕРЦІ *зак. перан.* Вырваць, выманіць. *Бывая, аддась грошы жонцы, а потым выдзяра.* Гемзы Шальч.

ВЫ'ДЗЕЎБАНЫ, ВЫ'ДЗЯЎБАНЫ *дзеепрым.* Выдзеўбаны. *Выдзеўбаная бочка.* Старыя Трокі Трак. *Былі выдзяўбаны начовачкі.* Лісна В.-Дзв.

ВЫДЗЁЎБАВАЦЬ *незак.* Выдзёўбваць. *Уцякалі немцы, забітых не хавалі, вароны вочы выдзёўбаюць у забітых.* Альхоўцы Лях.

ВЫДЗІРА'ЦЦА I *незак.* Вылазіць, вырывацца. *Запёр у клетку курыцу, а яна выдзіраецца.* Гемзы Шальч.

ВЫДЗІРА'ЦЦА II *незак. экспр.* 1. Лаяцца, гаварыць непрыстойныя словы. *Ён аблаяў мяне, выдзіраўся.* Альхоўцы Лях. *Выдзіраецца нівядома як, паказвая сябе. Е баба езыката, усе выдзіраецца.* Магуны Паст. 2. Дражніць. *І цяпер на 'ннаго хлопца выдзіраюцца «пекун».* Дзяніскавічы Ганц.

ВЫДЗІРА'ЦЬ *незак.* 1. Красці мёд з вулляў. *Хто крадзе, той выдзірая мёт.* Стральцы Гродз. 2. *перан.* Быць нахабным, нападаць. *Другая баба выдзірая вочы.* Альхоўцы Лях.

ВЫ'ДЗЮЖЫЦЬ *зак.* Прамачыць да ніткі. *Ну і выдзюжыў мяне дош!* Кураполле Паст. *Але выдзюжыў — аж да скуры прамачыў дошч.* Жылі Іўеў. *Выдзюжыў дошч, як ішла картоплю капаць.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЫДЗЯ'ЖУРЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і выдзюжыць. *Ну і выдзяжурыў дошч да ніткі!* Новікі Гродз.

ВЫДЗЯЛА'ЦЦА *незак.* Вырабляцца. *Выдзялаецца лямец да хамута.* Азяраны Раг.; *параўн.* руск. *выделываться* 'тж'.

ВЫ'ДЗЯР *гл.* ВЫ'ДЗЕР

ВЫ'ДЗЯРЖАНЫ *дзеепрым.* Вытрыманы, тактоўны. *А які ён* [чалавек] *выдзяржаны.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *выдержанный* 'тж'.

ВЫ'ДЗЯРЖАЦЬ *зак.* Вытрымаць. *Сколькі можна выдзяржаць, не дыша?* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *выдержать* 'тж'.

ВЫ'ДЗЯРКІ *гл.* ВЫДЗЕРКІ І

ВЫ'ДЗЯРЦІ *зак.* Выбраць, украсці з вулляў. *Мёт выдзяруць з вулья ды паядуць.* Альхоўка Навагр.; *гл.* выдзіра́ць 1.

ВЫ'ДЗЯЎБАЦЬ *зак.* Выдзеўбаць. *Пчалавот залезіць на дзерава і выдзяўбае ў дзераве дзюрку, як вулей.* Ухвала Круп. *Ён выдзяўбаў начовачкі цяслой.* Валынцы В.-Дзв.

ВЫ'ДЛАТАВАЦЬ *зак.* Тое ж, што і вы́дзяўбаць. *Трэба выдлатаваць дзюру далатом.* Ліпнікі Вільн.; *параўн.* польск. *wydłutować* 'тж'.

ВЫ'ДЛУБАНЫ, ВЫ'ГЛУБАНЫ *дзеепрым.* Выдзеўбаны. *Даўней выдлубаная ступа была, бухалі таўкачом. Карыта выглубанае з тоўстай асіны.* Саланое Віл. *Выдлубаная дзюра.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *wydłubać* 'выдзяўбаць'.

ВЫ'ДЛУБАЦЬ *зак.* Тое ж, што і вы́дзяўбаць. *Рэшчыкам выдлубаюць дрэва.* Ліпнікі Вільн.

ВЫДЛУ'К *прыназ.* з *род.* У параўнанні з чым-н. *Выдлук вчорашнёго дня тыпэр луччэй.* Відзібар Стол.; *параўн.* польск. *według* 'у адпаведнасці'.

ВЫ'ДМУХІ *мн.* Пясчанае месца. *Выдмухі — пяшчаныя мяста. Вецяр нясе пясок з той лысіны.* Быстрыца Астр.

ВЫ'ДМЫ *мн.* Тое ж, што і вы́дмухі. Старыя Трокі Трак.

ВЫДНО' *прысл.* Відна. *Вжэ выдно на дворі.* Сіманавічы Драг.

ВЫДО'БЛІВАЦЬ *незак.* Выдзёўбваць. *Выдоблівай скобляй начовачкі.* Ракаўскія Швянч.

ВЫ'ДРАНО, ВЫ'ДРАНЭ *н.* Узняты дзірван. *На выдраному посіяв.* Сіманавічы Драг. *Бывае поле на выдраном.* Дзяніскавічы Ганц.; *гл.* вы́дзеркі І.

ВЫ'ДРАЦЦА *зак.* Вываліцца. *У печы спот выдраўся.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВЫ'ДРАЦЬ *зак.* Узараць аблогу, папар. *Выдралі папар і пасеялі жыта.* Бакшты Іўеў.

ВЫ'ДУДУЛІЦЬ *зак. экспр.* Выпіць. *Выдудуліў цэлую крушку малака.* Рагулішкі Даўг.

ВЫ'ДУМАЦЬ, ВЫ'ДАМАЦЬ *зак.* Прыдумаць. *Выдумаў, што прыводзілі іх да нас.* Саланое Віл. *Усе нады выдамаць.* Лісна В.-Дзв.

ВЫДУМА'ЦЬ *незак.* Выдзьмухваць. *Слятая, бы пух, як выдума́еш.* Стары Свержань Стаўб.

ВЫДУ'МЧЫВЫ *прым.* Здольны на выдумкі. *Выдумчыва жонка ў яго: будзе гаварыць, чаго ніколі не было.* Жылі Іўеў.

ВЫ'ДУНДЗІЦЬ *зак. экспр.* Выссаць. *Цяля карову чысто выдундзіло, каплі малака не пакінуло.* Мсцібава Ваўк., Кіралі Шчуч.; *гл.* дундзі́ць І.

ВЫДУРНЯ'ТІСЕ *незак.* Гарэзаваць. *Такі велізерны, а выдурняеце, як дітя.* Курашэва Чыж.

ВЫ'ДУСІЦЬ *зак.* Перадушыць. *Тхор усіх курэй выдусіў.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *wydusić* 'тж'.

ВЫ'ДУЦЦА *зак.* Выпучыцца, выперціся. *Бывае, выдуецца хлеп цыцкамі, як пячэцца.* Масілавічы Сл.

ВЫ'ДУЦЬ *зак.* Уздуць. *Выдула мяне, жывот балеў, а тэрас не выдувая.* Гемзы Шальч. *Выдула карову.* Жылі Іўеў.

ВЫ'ДЫМІЦЬ *зак.* Абкурыць дымам. *Як цыбуля вісіць, трэба, каб дым заходзіў, трэба выдыміць цыбулю, тады яна не гніе.* Мсцібава Ваўк.

ВЫ'ЕДЕНЫ *дзеепрым. экспр.* Адкормлены, сыты. *Выедена баба, не голодная.* Азарычы Пін.

ВЫ'ЕЗД *м.* Святочны выезд. *Санкі выхадныя, яны толькі на выезд.* Судэрва Вільн.

ВЫ'ЕСЦІ, ВЫ'ЕСТЫ *зак.* З'есці. *«Чы ты ёго выесы? — Не, нэ выем».* Горск Бяроз. *Не выяло целятко з ведра.* Мсцібава Ваўк.

ВЫЁНТАК *м.* Выпадак. *Гэдакі выёнтак быў, што мелі за бяду: было сіротка ягнё, яно скік на печ, і ў ягады разам хадзіла. Віш, якія выёнткі бываюць — каршун у хату заляцеў.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *wyjątek* 'выключэнне'.

ВЫ'ЖАГЦІ *зак.* Выпаліць, спаліць. *Выжагла пяруном картошку — такі лапік, як на хату.* Камена Лаг.; *параўн.* руск. *выжечь* 'тж'.

ВЫ'ЖАЙ 1. *прысл.* Вышэй. *Выжай будзя пад галаву.* Гемзы Шальч. *Рука баліць выжай локця.* Паляцкішкі Воран. 2. у знач. *прым.* Вышэй. *Мушчына выжай* [ростам]. Стральцы Гродз.; *параўн.* польск. *wyżej* 'вышэй'.

ВЫ'ЖАР *м.* Тое ж, што і в ы́ г а р. *Панна* [балотная трава] *любіць выжарэ, дзе торф да грунты выпалены. Выжар — дзе выгарыць балота.* Дзяніскавічы Ганц. *Выжар — паленіна міс поля.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ВЫ'ЖАРЫНЫ *мн.* Тое ж, што і в ы́ ж а р. *Выжарыны, дзе трава не расце, калі мокро — стаіць вада, а ў суш — сухія выжарыны, німа травы.* Малахоўцы Бар.

ВЫ'ЖАРЫЦЬ I *зак.* Сасквары́ць. *Можна сланіну выжарыць.* Гемзы Шальч.

ВЫ'ЖАРЫЦЬ II *зак. экспр.* Моцна пабіць. *Дзіця скарачом выжарыш — і дзіця як дзіця.* Граўжышкі Ашм.; *гл.* а д ж а́ р ы ц ь.

ВЫ'ЖЛУКТАЦЦА *зак.* Прамокнуць. *Добра выжлукталіся пад дошч.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *žlùgtas* 'намочаная бялізна'.

ВЫ'ЖЛУКЦІЦЬ *зак. экспр.* Выпіць да дна. *Выжлукцілі ўсю воду.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* в ы́ ж л у к т а ц ц а.

ВЫ'ЖМАХАЦЬ *зак.* Вымыць. *У мяне плацця намочана,*

*нада яго выжмахаць, каб было чыстая, як бумага.* Лісна В.-Дзв.

ВЫЖЫМА'КІ *гл.* ВЫ'ЖЫМКІ

ВЫЖЫМА'ЦЦА I *незак.* Мыць бялізну. *Лугу нарабіла, нада выжымацца.* Груздава Паст. *Буду выжымацца заўтра, нагрэю вады.* Мярэцкія Глыб.

ВЫЖЫМА'ЦЦА II *незак.* Выціскацца. *На балоце мох белы, вада выжымаецца да паловы нагі.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЫЖЫМА'ЦЬ *незак.* 1. Мыць бялізну. *Нагрэла вады, пайду выжымаць.* Семежава Кап. 2. Выціскаць. *Выжымаць мед, і ён сцікаіць.* Саланое Віл. *Выжымаць мед трэба.* Рыбчына Віл.

ВЫ'ЖЫМКІ, ВЫЖЫМА'КІ толькі *мн.* 1. Макуха. *Выжымкі льняныя, а ўпярот с канапель гналі алей.* Міратычы Карэл. *Як алей выцісніш, застаюцца выжымакі.* Гемзы Шальч. 2. Жамерыны. *Выжымкі ад ягад, як іх сатрэш і на марлю выцісніш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Са ўса выжымкі, як кісель вараць.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЫЖЫНЯ' *ж.* Вышыня. *Стаяк такой выжыні.* Грыкені Вільн. *Сем метраў выжыні.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *wyżypa* 'ўзвышша'.

ВЫЗ *гл.* ВОЗ I

ВЫ'ЗБІРАЦЬ *зак.* Сабраць. *Вызбіралі брусніцы, алі трошкі набрала.* Валынцы В.-Дзв.

ВЫЗВІРА'ЦЦА *незак. экспр.* Лаяцца, глядзець, зверам, крычаць. *Як што, дык ён вызвіраецца на жонку і дзяцей.* Мачаск Бярэз.

ВЫ'ЗВЯЗДЗІЦЦА *зак.* Вызарыцца. *Неба вызвяздзілася, марос будзя бальшы, зорачкі міхцяць.* Рыбчына Віл.

ВЫ'ЗДЫХІ толькі *мн.* Падуздышша. *Як даў яму ў выздыхі.* Рыбчына Віл.

ВЫ'ЗІМАВАЦЬ *зак.* Перазімаваць. *Карова харашо вызімавала — ужэ лiняе, бо як плоха, то да іюля не паскідая шэрсць.* Мсцібава Ваўк.

ВЫ'ЗРУБІЦЬ *зак.* Зрубіць, паставіць зруб хаты. *Ужэ вызрубілі хату.* Гемзы Шальч.

ВЫІ'ГРЫВАЦЬ, ВЫІ'ГРАВАЦЬ *незак.* 1. Вельмі добра іграць. *Пастушок выігрывай на ляжэйца* [жалейцы]. Магуны Паст. 2. *перан.* Выць. *Ваўкі ўвечары, ноччы як пачнуць выігравацъ.* Саланое Віл.

ВЫ'ІНТЫЧЫЦЬ *зак. экспр.* Вымантачыць. *Яна выінтычыла ў старой грошы.* Рыбчына Віл.

ВЫ'ЙСЦІ, ВЫ'ЙЦІ *зак.* 1. Выйсці з памяшкання. *Яна з хаты не выйдзе.* Гемзы Шальч. 2. Вылецець. *Вышаў рой і ўцёк, не дапільнаваў.* Міратычы Карэл. 3. Усплыць на паверхню. *Бочка аміяку аткаркнулася — і патруцілася рыба, яна выйшла наверх.* Ракаўскія Швянч. 4. Вычарпацца, скон-

чыцца. *Вайной вышла яда, не было чаго есці.* Вялікія Баяры Шчуч. ◇ *Выйсці з лет, з дзяцей* — пра клімактэрычны перыяд у жанчын. *Вышла з лет баба, не водзіць дзеці.* Дзяніскавічы Ганц. *Стара баба, з дзяцей вышла.* Старое Сяло Зэльв. *Яна з лет вышла, дзяцей не было.* Вецярэвічы Пух. *Вжэ Полáі* [Пелагеі] *пыдысят літ було, а шэ ны выйшла з літ, шэ хлопця прывыла.* Сіманавічы Драг. *Выйсці с праў* — састарыцца. *Ужо с праў вышаў чалавек. Ён ужо с праў выходзя.* Гемзы Шальч.

ВЫ́ЙСЦІСЯ *зак.* З'явіцца, выступіць на паверхні, паказацца. *Балела скула, пака выйшлася наверх.* Граўжышкі Ашм.

ВЫ́КА *ж.* Віка. *Выка з гаўсом.* Вялікія Баяры Шчуч.

ВЫКАБЛУ́ЧВАЦЦА *незак.* Крыўляцца. *Ты не выкаблучвайся!* Пацаўшчына Дзятл.

ВЫ́КАЗАЦЦА *зак.* Паказацца. *С утра пагода, слонейка выказалася.* Магуны Паст.

ВЫ́КАЛАСАВАЦЦА, ВЫ́КАЛАСАВАЦА, ВЫ́КОЛОСІТІСЕ *зак.* Выкаласавацць, выплысці. *Як выкаласуецца жыта — волны ідуць па ім.* Мішневічы Шум. *Выкаласуіца жыта — ідзі збірай грыбы.* Індра Красл. *Пшэніця вжэ выколосілась.* Курашэва Чыж.

ВЫКАЛА́ЧУВАЦЦА *незак.* Абівацца. *Выкалачуецца жыта* [на насенне], *дзе малое жыцца, то не калоцім.* Азяраны Раг.

ВЫ́КАЛБАЦІЦЬ *зак.* Добра размяшаць. *Насыпаў мукі ў ваду і выкалбаціў добра.* Жылі Іўеў.

ВЫ́КАЛУПАНЫ *дзеепрым.* Выкалуплены. *Выкалупаны хлеп, уся булка выкалупаная.* Гемзы Шальч.

ВЫ́КАПАЦЬ *зак.* 1. Зрабіць паглыбленне ў зямлі. *Бацька мой выкапаў студню.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Выбраць з зямлі. *Я седзячы выкапала бульбу.* Саланое Віл. 3. Выграбці (вуголле з печы). *Вуглі ня выкапыіш с печы, яны ў чылесніку астаюцца.* Індра Красл.

ВЫКА́ПЫВАЦЬ, ВЫКА́ПУВАЦЬ *незак.* Выкопваць з зямлі. *Там выкапываюць косці, галовы.* Саланое Віл. *Смольныя пні выкапуюць і сякуць на падпал печы.* Азяраны Раг.

ВЫ́КАРПАЦЦА *зак.* Ачуняць, паправіцца. *Ён быў у калодзісь уваліўшыся, захварэў, пакуль выкарпаўся. Я не думала, што выкарпаесся.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* лат. *kãrpîties* 'тж', літ. дыял. *karpýtis* 'рыцца'.

ВЫ́КАРПАЦЬ *зак.* Вырыць з зямлі. *Свіння выкарпаюць дзівасіл.* Азяраны Раг.; *параўн.* літ. дыял. *karpýti* 'рыць (зямлю)'.

ВЫКАРЧО́ЎВАЦЬ *незак.* Выкопваць карчы, выкарчоўваць. *Лес выкарчоўвалі, трэба было ачысціць ад пнёў.* Азяраны Раг.

ВЫКАРЭ'НІВАЦЬ *незак.* Вырываць з карэннем. *Конскі шчавель выкарэніваюць, а ён нарастаіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫКАРЭ'НІЦЬ *зак.* Вырваць з коранем, знішчыць. *Конскі шчавель выкарэніць цяжка.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫ'КАТКА *ж.* Цэнтрыфуга. *Выкатка — машына такая выкатываць мёт.* Дакудава Лід.

ВЫ'КАЎЗАЦЦА *зак.* Выпэцкацца, вымазацца. *Кошка выкаўзалася ў сажу.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЫ'КАЦІЦЦА *зак.* Адваліцца. *Клешч увап'еццa і галаву схавая, доўга свярбець будзя, пакуль галава не выкаціцца, як ссохня.* Азяраны Раг.

ВЫ'КАЧАЦІ *зак.* Выкачаць, разгладзіць. *Сорочку выкачала тобе.* Смаляніца Пруж.

ВЫ'КАЧАЦЦА *зак.* Выпэцкацца. *Выкачаліся ў грась свіні.* Лоск Валож.

ВЫ'КАШКАЦЦА *зак. экспр.* Сабрацца, справіцца. *Што, ты яшчэ не выкашкалася?* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *kõškintis* 'тж'.

ВЫ'КАШКАЦЬ *зак. экспр.* Грабучы, зрабіць паглыбленне. *Куры на агародзе ўсё выкашкалі.* Старыя Смільгіні Воран.

ВЫ'КВАСІЦЬ *зак.* Вытрымаць патрэбны час у спецыяльна прыгатаванай вадкасці. [Гарбар] *выквася скуру і канём круця.* Гемзы Шальч.

ВЫ'КВАЧЫЦЬ *зак.* Добра размяшаць. *Мая Зоська рукамі вымясіць, выквачыць яду свіням.* Бакшты Іўеў.

ВЫ'КВІТАВАЦЦА *зак.* Разлічыцца. *Я ўжо выквітаваўся, заплаціў усё.* Вялікія Баяры Шчуч.

ВЫ'КВЯТНУЦЬ *зак.* Змарнець у траве. *Выквятлі буракі ў траве.* Старыя Смільгіні Воран.

ВЫКІ'ДАВАЦЬ I *незак.* Выносіць вон усё непатрэбнае. *Непатрэбнае можна выкідаваць вон.* Груздава Паст.

ВЫКІ'ДАВАЦЬ II *незак. безас.* Пакрывацца прышчамі, высыпкай. *Язык прышчаямі выкідавая.* Вострава Маст.

ВЫ'КІДАЦЬ *зак.* Выгнаць. *Нікуды я іх не выкідала, маглі жыць.* Гемзы Шальч. *Яго выкідалі з хаты і хату разабралі.* Вецярэвічы Пух.

ВЫ'КІНУЦІ *зак.* 1. Тое ж, што і в ы́ к і д а ц ь. *Хацелі с хаты выкінуці невестку.* Ялова Пруж. 2. Прыняць. *Выкінь с-под ног чоботы.* Смаляніца Пруж.

ВЫКІ'ПЛІВАЦЬ *незак.* Выкіпаць. *Апкопчаваям кілбасы, з іх выкіплівая цяжасць.* Крэва Смарг.

ВЫ'КІСНУЦЬ *зак.* Добра ўкіснуць. *Кап выкіснуў* [хлеб], *так нада ні ў гарачая ставіць.* Індра Красл.

ВЫ'КІШКАЦЦА *зак.* Тое ж, што і в ы́ к а ш к а ц ц а. *Во ты выкішкаешся ты ніяк.* Ракаўскія Швянч.

ВЫКЛАДА'ЦЬ *незак.* Пакладаць. *Огера не выкладалі.* Старыя Смільгіні Воран. *І цяпер бацька выкладаіць кнура, барана.* Асавец Віл. *Выкладалі барана.* Саланое Віл.

ВЫ'КОЛОСІТІСЕ *гл.* ВЫ'КАЛАСАВАЦЦА

ВЫКО'ПАВАЦЬ *незак.* Адкопваць. *Як ганяюць бульбу і дзе завернецца зямлёй бульба, трэба яе выкопаваць.* Рыбчына Віл.

ВЫКО'ПАНЫ *прым. перан.* Вельмі падобны. *У іх дачка — выкопаны бацька, а сын — выкопана матка.* Навасёлкі Свісл.

ВЫ'КРАПАЦЬ *зак.* Выцягнуць. *Нада шнуркі выкрапаць з башмакоў, парваліся глатка.* Валынцы В.-Дзв.

ВЫКРАСА'ЦЬ *незак.* Высякаць агонь крэсівам. *Даўней выкрасалі агонь крэсівам.* Вецярэвічы Пух.

ВЫ'КРАСІЦЬ *зак.* Высечы агонь крэсівам. *Нада агню выкрасіць.* Кураполле Паст.

ВЫКРА'ШАВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і в ы к р а с а́ ц ь. *Агонь калісьці выкрашавалі.* Ністанішкі Смарг.

ВЫКРО'ЮВАЦЬ *незак.* Выразаць. *Як разбіраюць кабана, падбруша выкроюваюць.* Старыя Смільгіні Воран.

ВЫ'КРУЖЫЦЬ *зак.* Кружачы збожжа ў рэшаце, вытрасці пустазелле наверх. *Гірса ў жыце, у аўсе. Калі змалоціш іх ды не выкружыш, то хлеб натта чорны.* Пацаўшчына Дзятл.

ВЫКРУНТА'СЫ *мн.* 1. Выкрутасы. Саланое Віл. 2. у знач. *прысл. выкру́нтасамі.* Выкрутасамі. *Рака ідзець выкрунтасамі.* Саланое Віл.

ВЫКРУ'ТНЫ *прым.* Выкрутлівы. *Выкрутна баба — сем мужыкоў перажыла, а дзіця жаднага ня мела.* Старыя Смільгіні Воран.

ВЫ'КРУЦІЦЬ *зак.* Вывіхнуць. *Ён ляцеў і нагу выкруціў.* Крэва Смарг.

ВЫКРУ'ЧВАЦЬ *незак.* Даставаць мёд з сотаў пры дапамозе спецыяльнага апарата. *Выкручваюць мёт цынтрыфугай.* Мсцібава Ваўк.

ВЫКРУ'ЧУВАТЫ *незак.* Выкручваць (пра мокрую бялізну і інш.). *Тяшко гэтэ радно выкручуваты.* Сіманавічы Драг.

ВЫКРУ'ЧУВАЦЬ *незак.* Выкручваць. *Рук не выкручуй!* Стральцы Шальч.

ВЫ'КРЫЖАВАЦЬ *зак.* Зрабіць насціл у два рады. *Спод у санях выкрыжуе, каб салома не выпадала.* Беняконі Воран.

ВЫ'КРЫЦЦА, ВЫ'КРЫТЫСЬ *зак.* Выявіцца, раскрыцца. *За годы і бальшая тайна выкрыецца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зразу було тайно, алэ после воно выкрылось.* Сіманавічы Драг.

ВЫ'КРЫЦЬ *зак.* Ліквідаваць, выправіць памылку пры снаванні. *Ускочыў казёл, трэба яго выкрыць: нітка раскраяецца і адводзіцца ў тыл.* Грыкені Вільн.

ВЫ'КУЛІЦЦА *зак.* Вываліцца. *Качка польная з гняздзечка выкулілася.* Ёдлавічы Брасл.

ВЫ'КУЛІЦЬ *зак.* Выкінуць. *Яшчык выкулілі.* Жодзішкі Смарг.

ВЫЛ *гл.* ВОЛ

ВЫ'ЛАБАЦЬ *зак. экспр.* Выхлебтаць, выжлукціць. *Вылабаў усё малако.* Старыя Смільгіні Воран.

ВЫ'ЛАЖЫЦЬ I *зак.* 1. Укласці як належыць. *Як кладзеш сена на вос, перш нада вылажыць перат і зат воза.* Мярэцкія Глыб. 2. Пакласці, прыбіць пасевы градам. *Жыто вылажыло градам.* Крынкі Крын.

ВЫ'ЛАЖЫЦЬ II *зак.* Спакладаць. *Вылажыць нада барана.* Саланое Віл.

ВЫ'ЛАІЦЬ *зак.* Аблаяць. *Вылаіла яго, розными словамі вызывала.* Гемзы Шальч.

ВЫ'ЛАПАЦЬ *зак.* Вылавіць. *Як вудачку закінеш, усіх рыб вылапаеш.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *łapać* 'лавіць'.

ВЫЛЁТНЫЙ, ВЫЛЮО'ТНЫ *прым.* Суцэльны. *Одна пудруба вылютна, а друга точана.* Курашэва Чыж. *Вылётна стына чы с казалкув?* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол.

ВЫ'ЛІВАК I, ВЫ'ЛЕВАК *м.* Яйка без цвёрдай лупіны. *Вылівак — яйка з плеўкай.* Саланое Віл. *Вылівак — як скаралюшчы німа.* Вострава Маст. *Вылівак — яйка без шалупіны.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вылевак — слабое яйцо.* Вецярэвічы Пух.

ВЫ'ЛІВАК II *м.* Галалёдзіца. *Як дошч з лядком абліваецца і замірзаіць, робіцца сліска, кажуць—вылівак на дварэ.* Кураполле Паст.

ВЫЛІВА'ЦЬ I *незак.* Рабіць штучныя вашчыны. *Выліваюць вашчыны: с кілаграму воску дванаццаць-чатырнаццаць вашчын.* Груздава Паст.

ВЫЛІВА'ЦЬ II *незак. абрад.* Лячыць ад спалоху. *Як адбывая месяц — выліваюць пярэпалахі.* Альхоўцы Лях.

ВЫ'ЛІЗАЦЬ *зак.* Прыгладзіць поўсць лізаннем. *Карова цялёнка так выліжыць, што ён гладкі-гладкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫЛІ'КЫЙ *гл.* ВЯЛІ'КІ

ВЫ'ЛІНАК *м.* Тое ж, што і в ы́ л і в а к I. *Вылінак — яйцо без шалупіны.* Азяраны Раг.

ВЫ'ЛІНАЦЬ *зак.* Выліняць. *Птушка вылінаіць.* Чычалі Швянч. *Курыца во як вылінала.* Ракаўскія Швянч.

ВЫ'ЛІЦЦА *зак.* Пакрыцца струпамі, спрышчавець. *Вылілася галава — адны струпы.* Старыя Смільгіні Воран.

ВЫЛІЧА'ЦЬ *незак.* Адрозніваць. *Усялякія* [неядомыя] *грыбы, не вылічаюць іх.* Магуны Паст.

ВЫЛО'ГІ *мн.* Барты. *Мушчынская жакетка з вылогамі.* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *wyłogi* 'тж'.

ВЫ'ЛУЖЫЦЬ *зак.* Вылушчыць, вылузаць. *Вылужы гарэшнік і кашуты.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЫЛУ'ЗУВАЦЦА *незак*. Спаўзаць, злазіць. *Дзіця вылузуецца з прыпала, ужэ мажэ хадзіць.* Азяраны Раг.

ВЫЛУ'КШЧЫВАЦЦА *незак*. Аддзяляцца ад кастры (пра валакно льну). *Як пасланы лён, то глядзяць, каб ён вылукшчываўся.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *(išsi)lùkštinti* 'тж'.

ВЫ'ЛУНДАЦЬ *зак. экспр.* Абшукаць, абшарыць. *Вылундала ўсе углы і нічога не нашла. Такі ўсюда хочэць вылундаць.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *lándžioti* 'лазіць'.

ВЫ'ЛУПІЦЬ *зак. экспр.* Моцна ўдарыць, адлупцаваць. *Мама мяне вылупіла харашо і сказала: «Вучыся кудзелі прасці — не будзеш голая!»* Друскава Нясв.

ВЫЛУ'ПЛЮВАЦЦА *незак*. Лаяцца, нападаць. *Ён вылуплюецца на міне.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВЫЛУШЧА'ЦЬ *незак*. Вылузваць. *Вылушчаю фасоль.* Старыя Трокі Трак.

ВЫ'ЛУШЧЫЦЦА *зак*. Вылузацца. *Гарэхі вылушчыліся, а два маланка спаліўшы.* Альхоўка Навагр.

ВЫЛЫ'ЗНЫЙ *гл.* ВЯЛІ'ЗНЫ

ВЫЛЮО'ТНЫ *гл.* ВЫЛЁТНЫЙ

ВЫ'ЛЯЖАЦЦА *зак*. Набыць патрэбную якасць, праляжаўшы на сцелішчы. *Лён як выляжыцца, падымалі і звязвалі ў кулі.* Магуны Паст. *Падымалі лён, як выляжыцца.* Лоск Валож.

ВЫ'ЛЯЖАЦЬ *зак*. Паляжаць пэўны час. *Палезла на печ, выляжала — і ні так баліць нага.* Магуны Паст.

ВЫ'ЛЯЗЦІ *зак*. Вылезці. *Валасы внэт вылязлі.* Стральцы Гродз.

ВЫ'ЛЯНЯЦЬ *зак*. Скінуць скуру (пра гадаў). *Вот гадзіна вылаяла і пакінула свой лусок.* Старыя Смільгіні Воран.

ВЫ'ЛЯПАЦЬ *зак. экспр.* Зрасходаваць. *Няма плёнкі — усе вылялаў.* Альхоўцы Лях.

ВЫ'ЛЯХ *м.* Палеглае збожжа. *Вылях — палёхшы авёс.* Быстрыца Астр.

ВЫ'ЛЯХЧЫЦЬ *зак*. Кастрыраваць, спакладаць. *Выляхчылі парсюка.* Стральцы Гродз.

ВЫ'ЛЯЦЕЦЬ *зак*. Выскачыць. *Выляцеў кот і давай за локаць дзёргаць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫ'МАГЛЯВАНЫ *дзеепрым*. Пакачаны качалкамі. *Кашуля вымагляваная.* Груздава Паст.

ВЫ'МАГЛЯВАЦЬ *зак*. Пакачаць (пра бялізну). *Качалкамі кашулю выпрастая і вымаглюя.* Дакудава Лід.; *параўн.* польск. *maglować* 'качаць'.

ВЫ'МАЗАЦЬ *зак*. Намазаць, нацерці, нашмараваць. *Вымазаям мазяй калені, ногі.* Граўжышкі Ашм.

ВЫ'МАКНУЦЬ *зак*. Набыць патрэбную якасць пасля намочвання ў вадзе. *Лён вымак добра — валакно атстаўшы.* Кураполле Паст.

ВЫ′МАНЧЫЦЦА, ВЫ′МЫНЧЫТЫСЬ *зак.* Змучыцца, стаміцца на рабоце. *Выманчыўся — сон не бярэць.* Магуны Паст. *Вымынчылась, шо й ны заснула.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *zmęczyć się* 'змучыцца'.

ВЫ′МАНЧЫЦЬ *зак.* Змучыць. *Дзіця выманчыла мяне за дзень.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *zmęczyć* 'тж'.

ВЫ′МАРНАВАЦЬ *зак.* Закатаваць. *У яго немцы ўсіх дзяцей пабілі, вымарнавалі.* Ністанішкі Смарг.; *парайн.* польск. *zmarnować* 'страціць, патраціць'.

ВЫ′МАРХАЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Вымархае хустку, памые і адзене.* Ухвала Круп.

ВЫ′МАТАЦЬ, ВЫ′МОТАТЫ *зак. экспр.* 1. Змучыць, знясіліць. *Выматаў ты з яго ўсе клёкі.* Ухвала Круп. *Всю сылу вымотала.* Сіманавічы Драг. 2. Вымантачыць. *Ён у цябе выматаіць грошы.* Янова Рас.

ВЫ′МАХАТЫСЬ *зак.* Вырасці вялікім. *Сын вымахавсь вылікый, алэ тонкый.* Сіманавічы Драг.

ВЫ′МАХАЦЬ *зак.* Вырасці, разрасціся. *Яблыннё такое ў садах вымахала.* Ухвала Круп.

ВЫМА′ЦЬ *незак.* 1. Даставаць, выцягваць (з печы). *Як ты выміш саганэ?* Паляцкішкі Воран. *Вымала хлеп з печы.* Старое Сяло Зэльв. 2. *перан.* Знясільваць сваркай, згрызотамі. *Яна здароўе вымаіць яму; а вы ня біціся, а разыйдзіціся.* Саланое Віл.

ВЫ′МАЧКІ *мн.* Нізкае месца, дзе заўсёды вымакаюць пасевы. *От, там адны вымачкі, нічога не сеялі даўно.* Беразіно Докш.

ВЫ′МЕНЕ, ВЫ′МЭНЕ *н.* Вымя. *У каровы вэліке вымене.* Смаляніца Пруж. *Зімою вуш укусіў авечку за вымэне — кусок вымэне отпало.* Вялікі Краснік Пруж.

ВЫМЕ′ТАЦЬ, ВЫМІ′ТАТЫ *незак.* Вымятаць. *Буду вымятаць хату.* Міратычы Карэл. *Буду сьмітьте вымітаты.* Сіманавічы Драг.

ВЫ′М'Ё *гл.* ВЫ′МЯ

ВЫ′МІРКАВАЦЬ *зак.* Выгадаць, пакінуць сабе (з агульнага). *Ён выміркаваў сабе тройку* [тры рублі]. Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* польск. *miarkować* 'разлічваць'.

ВЫ′МІСТА *прым.* З вялікім вымем. *Як выміста карова, дык шкодзіць, калі падзівішся.* Альхоўка Навагр.

ВЫМІ′ТАТЫ *гл.* ВЫМЕ′ТАЦЬ

ВЫ′МКНУЦЦА, ВЫ′МКНУТІСЕ *зак.* 1. Непрыкметна выйсці. *Вымкнувсе с хаты, што ніхто і нэ бачыв.* Курашэва Чыж. 2. Мімаволі, раптам вымавіць слова. *Бываіць, у разгаворы вымкнецца слова.* Груздава Паст. *Сіетэ слово мніе якось* [illegible] *вымкнулосе.* Курашэва Чыж.

ВЫ′МОДІТІ *зак.* Вельмі модна пашыць. *Гожэ платіе собіе* [illegible]. Курашэва Чыж.

ВЫ'МОЛОЦІЦІ *зак.* Вымалаціць, абмалаціць. *Тые годы коньмі молоцілі, а сёгоні комбайн вымолоціў.* Смаляніца Пруж.

ВЫ'МОТАТЫ *гл.* ВЫ'МАТАЦЬ

ВЫ'МЫНЧЫТЫСЬ *гл.* ВЫ'МАНЧЫЦЦА

ВЫМЫШЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Выдумляць. *Тэрас вымышляюць дзецям паесці.* Грыкені Вільн. 2. Разважаць. *Добра бабе, наеўшыся хлеба, вымышляць.* Крынкі Крын.

ВЫ'МЭНЕ *гл.* ВЫ'МЕНЕ

ВЫ'МЯ, ВЫ'М'Я, ВЫ'М'Ё, ВІ'МА, ЛЫ'МЯ *н.* Тое ж, што і в ы м е н е. *Набракла вымя ў каровы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ёсць такія каровы, што вым'я чуць ні да зямлі.* Магуны Паст. *Вым'я ікрастая.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бальшоё вым'ё — карова добра да малака.* Альхоўцы Лях. *Вым'ё ў каровы набракшы.* Быстрыца Астр. *Віма забрусела.* Кураполле Паст. *Лымя ў каровы згусціла, стрыжане падаюц з лымя.* Парэчча Гродз. *Лымя ў каровы прыбывая.* Каўняны Гродз. *Лымя ў каровы збрушнела.* Бакшты Іўеў. *Лымя велька, але цвёрда даіць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Забруснела лымя, расціраюць клустасцю і каменем жарцвяным.* Кіралі Шчуч. *Лымя велька, а малака дае мала.* Вострава Маст. *Памый цёплай вадою лымя карове.* Галубы Маст. *Лымя па-просту, вымя — папольску.* Воўкуш Ліпск. *Шчосці зрабілосо для лымя.* Сакаляны Сакол. *У каровы ў лымю есць жарло.* Кнышэвічы Бабіц. *Якоя велька лымя, як вядро!* Крынкі Крын.

ВЫМЯТА'ЦЦА *незак.* Выпускаць каласы. *У жыці ўжо вымятаецца колас.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВЫ'МЯЦЬ *зак.* Змяць, сцерці. *Даўней вымнем лён, патрэплем і прадзём.* Гемзы Шальч. *Як вымням, патрэпім, тады кудзелю ў скруткі круцілі.* Быстрыца Астр.

ВЫНАСІ'МЫ *прым.* Пасільны, не цяжкі. *Чыста хадзіў, смачна еў і работа вынасімая.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫ'НАЦЬ *гл.* ВЫ'НЯЦЬ

ВЫНАША'Й *м.* Вялікі сноп трасты льну. *Вынашай з восеці, як выносілі. Ці многа вынашаяў вынеслі?* Бакшты Іўеў.

ВЫНАША'ЙКА *ж.* Тое ж, што і в ы н а ш а́ й. *Вынашайкі лёну ставілі на жэрдачкі ў лазні.* Дакудава Лід.

ВЫ'НІКНУЦЬ *зак.* Прапасіці, згінуць. *У гэту спёку ўсё вынікла — пасевы, травы — нічога няма.* Альхоўка Навагр.

ВЫ'НІТЫ *гл.* ВЫ'НЯТЫ

ВЫНІШЧА'ЦЬ *незак.* Знішчаць. *Мы вынішчаем труцень.* Быстрыца Астр.

ВЫНО'СІСТЫ *прым.* Тонкі, высокі. *Там выносістая лаза.* Вецярэвічы Пух.

ВЫНО'СІЦЦА *незак.* Фанабэрыцца, задавацца. *Яна гунурылася, выносілася.* Мярэцкія Глыб.

ВЫНО'СІЦЬ *незак.* 1. Выходзіць. *Ён хворы — не выносіць*

*сябе на двор*. Саланое Віл. 2. *перан.* Вытрымліваць. *Дайней учыцца не выносіла кішэнь*. Старыя Трокі Трак.

ВЫНО'СЛЫ *прым.* Гонкі, высокі. *Выносла сасна стаіць*. Бакшты Іўеў. *Там такі выносла лес*. Стары Свержань Стаўб.; *парайн.* польск. *wyniosły* 'тж'.

ВЫНО'СНЫ *прым.* 1. Тое ж, што і в ы н о́ с л ы. *Бяроза просценькая, выносна*. Альхоўцы Лях. 2. Рослы, высокі (пра чалавека). *Яна выносна дзеўка, а ён — карамзляк і ногі крывыя*. Гемзы Шальч. 3. Гучны, высокі голас. *Яна крыклівая, а голас выносны — далёка чуваць*. Гемзы Шальч.

ВЫНЬ *часц.* Вунь. *Вынь у той бок брыгадзір пайшоў*. Мачаск Бярэз.

ВЫ'НЯТЫ, ВЫ'НІТЫ *дзеепрым.* 1. Выцягнуты, выняты з чаго-н. *Выняты з вады агурэц — і не той смак*. Кураполле Паст. *Адна шыба вынята*. Лоск Валож. 2. Выдалены з арганізма. *У ей почка выніта пры аперацыі*. Валынцы В.-Дзв.

ВЫ'НЯЦЬ, ВЫ'НАЦЬ *зак.* 1. Дастаць, адкуль-н., з чаго-н. *Выняла грошы і дала*. Старыя Смільгіні Воран. 2. Узяць, атрымаць, выпісаць. *Трэба пайсці мэтрыку выняць*. Номікі Бабіц. ◇ *Сэрца выняць* — змучыць, загубіць. *Яна ей сэрца вынала*. Мішневічы Шум.

ВЫНЯ'ЦЬ *незак.* Вымаць. *Дайней бульбу зварым, стаўчом, выня́ім са ступы, мучыцы патсыпім і робім лапуны*. Саланое Віл.

ВЫ'ПАГАДЗІЦЦА *зак.* Распагодзіцца. *Павінна выпагадзіцца сягоння*. Ністанішкі Смарг.

ВЫПАГО'ДЖВАЦЦА *незак.* Распагоджвацца. *Там выпагоджваецца ўжо*. Вецярэвічы Пух.

ВЫ'ПАДАК, ВЫПА'ДОК *м.* Здарэнне, выпадак. *Быў такі выпадак, што я забіла круком сароку*. Граўжышкі Ашм. *Такый выпадок трапывся*. Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *wypadek* 'тж'.

ВЫПАДА'ЦЬ *незак.* 1. Падаць. *Выпадаў снех часта*. Жылі Іўеў. 2. Асядаць. *З вады выпадая муць, аржа на дно*. Малыя Аўцюкі Калінк. 3. з *адмоўем*. Нельга. *Святам ісці рваць лён ні выпадая*. Міратычы Карэл. *Не ўсім выпадая ехаць*. Гемзы Шальч.

ВЫПА'ДВАЦЬ *незак.* Выпадаць, вылазіць. *Валасы сталі выпадваць*. Міратычы Карэл.

ВЫ'ПАЛАЦЬ *зак.* Павырываць пустазелле на агародах, на насевах, апалоць. *Я выпалаю сваю дзялку буракоў*. Ёдлавічы Брасл.

ВЫПА'ЛІВАЦЬ *незак.* 1. Выпальваць, заканчваць паліць у печы. *Я канчаю выпаліваць у печы*. Сакаляны Сакол. 2. Лячыць рожу народным спосабам. *Прышла да нас маладзіца і стала выпаліваць рожу* [на назе]. Сакаляны Сакол.

ВЫ'ПАЛІЦЬ *зак.* Скончыць паліць у печы. *Як печ выпа-*

*лю, тады трохі прымгну.* Груздава Паст. *Печ выпаліць і пойдзіць на работу.* Жылі Іўеў. *Печ выпаліла зарання.* Ністанішкі Смарг. *Бабы выпаляць печ.* Старыя Трокі Трак. *Гаспадыня печ выпаліла.* Сакаляны Сакол.

ВЫПАЛНІ'МЫ *прым.* Паслухмяны. *Ён выпалнімы такі, мой унучак.* Ухвала Круп.

ВЫ'ПАЛСКА *ж. рыб.* Чарвяк. *Ляшчы бяруцца на выпалску. Выпалска — чырвоны рабак.* Быстрыца Астр.

ВЫ'ПАРАЦЦА *зак.* Выварыцца. *Паставіць плацё ў печ, кап выпаралася.* Масілавічы Сл.

ВЫПА'РВАЦЬ *незак.* Выварваць. *У саганох выпарвалі бялізну.* Быстрыца Астр.

ВЫ'ПАРТАЦЬ *зак. экспр.* Выгнаць, выправадзіць, выкурыць. *Як улезе ў хату, тады яе выпартаць няможна.* Талейкі Швянч.

ВЫ'ПАРЫЦЬ *зак. экспр.* Адшукаць, знайсці. *Я схавала канфеты, а вы ўсё-такі выпарылі.* Вецярэвічы Пух.

ВЫ'ПАС *м.* Папар, паша, дзе пасцяць жывёлу. *Шампіёны растуць на выпасах, дзе каровы ходзяць.* Лапічы Асіп.

ВЫ'ПАСІЦЬ *зак.* Выпасвіць. *Але і выпасілі — травы німа, толькі сцімбуры, бадзюкі.* Гемзы Шальч.

ВЫ'ПАСТАК *гл.* ВЫ'ПУСТАК

ВЫ'ПАЎЗІНЫ толькі *мн.* 1. Выпоўзіны. *Выпаўзіны змяіныя была нашоўшы, як ішла ў ягады.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вужака выпаўзаіць са сваёй кожы, астаюцца выпаўзіны.* Лісна В.-Дзв. 2. Настойка з выпоўзін. *Выпаўзіны змяі ад горла п'юць.* Кураполле Паст. *Выпаўзіны — скура гадзюкі — гэта зелля ад усякіх урокаў.* Саланое Віл. 3. Жабіна ікра. *Жаб'я выпаўзіны, з іх палонікі выходзяць.* Валынцы В.-Дзв.

ВЫ'ПАЎСКІ толькі *мн.* Тое ж, што і в ы́ п а ў з і н ы 1. *Гадзіна выпаўскі астаўляя, выпаўзая са скуры, скідая яе.* Магуны Паст.

ВЫПЕ'КАЦЬ *незак.* 1. Выбельваць на сонцы (пра палатно). *Сонца выпекая палатно, яно становіцца белым-белым.* Малахоўцы Бар. *Выпекае сонцо палатно.* Альхоўцы Лях. 2. Лячыць светам, токам. *Яму выпекалі сінім светам рану.* Дзяніскавічы Ганц. *Сказалі нарасці выпекаць токам.* Тухавічы Лях.

ВЫ'ПЕЛІЦЬ *зак.* Выпалаць. *Выпеліш траўку, і прас тры дні трава расцець.* Масішкі Красл.

ВЫПЕ'ЛЬВАЦЬ *незак.* Выполваць. *Лён выпельвалі чыста.* Быстрыца Астр.

ВЫ'ПЕРЦІ *зак.* Выціснуць, выперці. *Не цісні! — выпраш дно.* Вялікія Баяры Шчуч. ∇ *Кап выперло вочы табе!* Каўняны Гродз.

ВЫ'ПЕРЦІСЯ *зак. экспр.* З сілай вылезці, выбегчы. *Парсюк выперся с хлева і не загнала.* Саланое Віл.

ВЫПЕ'ЯВАЦЬ *незак.* Спяваць меладычна, з захапленнем. *Пешта выпеяваш зрана.* Ністанішкі Смарг.

ВЫПІВА'ЦЬ *незак.* Выдзёўбваць. *Вераб'і і сяўцы просо выпівалі.* Семежава Кап.

ВЫ'ПІРЫЦЬ *зак. экспр.* Моцна набіць. *Выпірылі яму скуру.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *(iš)per̃ti* 'тж'.

ВЫ'ПІСАЦЬ *зак.* 1. Зрабіць надпіс, віншаванне. *Галя выпісала грыбок* [торт]: *«З днём нараджэння!»* Крэва Смарг. 2. Атрымаць пісьмовы дазвол, патрэбны дакумент. *Хадзіла ў кантору, кап аполкаў выпісаць.* Вецярэвічы Пух.

ВЫ'ПІЦЬ *зак.* 1. Выпіць (пра вадкасць). *Купяць віна і вып'яць.* Граўжышкі Ашм. 2. Выдзеўбці. *Вераб'е выпілі канапле.* Каўняны Гродз. *Вераб'і вып'юць каноплі.* Граўжышкі Ашм.

ВЫПЛА'ТА *ж.* Выплачванне. *Сягодня выплата грошай.* Крэва Смарг.

ВЫ'ПЛАТКА *ж.* Пазыка. *Нам атпушчана лесу на выплатку.* Ёдлавічы Брасл.

ВЫ'ПЛЕНДРАВАЦЬ *зак. экспр.* Вытаптаць. *Карова чыста выплендравала ўсе пасевы.* Старыя Трокі Трак.

ВЫПЛІТА'ЦЬ *незак.* Плесці. *Дайней рэшаты выплітали з лык.* Лісна В.-Дзв.

ВЫПЛЫВА'ЛЬНІКІ, ВЫПЛЫВА'ННІКІ *мн.* Раннія баравікі. *Выплывальнікі — першыя баравікі.* Дакудава Лід. *Бачыш — выплывальнікі паявіліса.* Стральцы Гродз. *Выплываннікі растуць, як жыта выплывае.* Пацаўшчына Дзятл.

ВЫПЛЫВА'ННЕ *н.* З'яўленне каласоў. *На выплывання жыта баравікі пусціліся.* Быстрыца Астр.

ВЫПЛЫВА'ЦЬ *незак.* 1. Выпускаць каласы. *Жыта выплывая, патом красуя, патом наліваяцца.* Быстрыца Астр. *Жыта выплываіць, выплыў каласок.* Саланое Віл. *Выплывая жыта, каласкі паказваюцца.* Гемзы Шальч., Відаўцішкі Вільн. *Ужэ жыто выплывае.* Баброўнікі Гарад. 2. Выпускаць тонкія белыя валаскі пасля цвіцення. *Трава атцвіце, патом выплывае, і што вата.* Малахоўцы Бар.

ВЫ'ПНУЦЬ *зак.* Выпхнуць. *Выпнула я яе праз дзверы.* Саланое Віл.

ВЫПОВНЯ'ТЫСЬ *незак.* Наліваццa (пра зерне). *Ужэ жыто выповняеться, становыться твэрдоватэ.* Горск Бяроз.

ВЫПО'ЎЗВАЦЬ *незак. экспр.* Выходзіць, выпаўзаць. *Мы сталі з лесу выпоўзваць, як ракі.* Багушэвічы Бярэз.

ВЫ'ПРАВІНЫ толькі *мн.* Праводзіны. *Выправіны спраўляюць, як у армію ідуць.* Саланое Віл.

ВЫ'ПРАВІЦЦА I *зак.* Пайсці, накіравацца куды-н. *Як выпраўлюся — іду.* Кураполле Паст.

ВЫ'ПРАВІЦЦА II *зак.* 1. Паправіцца (пасля хваробы). *Парсюк захварэў, можа выправіцца.* Валынцы В.-Дзв. 2. Па-

драсці, пасыцець. *Етае цяля малое было, я яго ў лужку пасціў — дык выправілася, цяпер хароша.* Гарэлец Пух.

ВЫ'ПРАВІЦЬ *зак.* 1. Накіраваць, адправіць (у дарогу, на работу). *Трэба было мужыка выправіць у калоды, лес вазіць.* Бакшты Іўеў. *Дзе ты яе выправіш на работу!* Альхоўка Навагр. *Выправіла яго да доктара. Мама выправіла мяне дамоў.* Саланое Віл. 2. Выгнаць у поле. *Нада каройку выправіць у поля.* Валынцы В.-Дзв.

ВЫ'ПРАСАВАЦЬ *зак.* Выпрасаваць. *Рубашку яму выпрасую, стараюся выпрасаваць.* Старое Сяло Зэльв.

ВЫ'ПРАСІЦЬ *зак. іран.* Сілком выгнаць. *Вазьмі палку — і выпрасіш яго адгэтуль.* Граўжышкі Ашм.

ВЫ'ПРАСТАВАЦЬ *зак.* Выпрастаць. *Я выпраставаў палец. Ён закалеў у вадзе — і ня выпраставалі.* Паляцкішкі Воран.

ВЫ'ПРАСТАЦЬ *зак.* Выкачаць (пра бялізну). *Качалкамі кашулю выпрастая і вымаглюя.* Дакудава Лід.

ВЫ'ПРАСЦІ *зак.* Спрасці. *Трэба было тонянька выпрасці ніткі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ВЫПРА'ТАВАЦЬ, ВЫПРА'ТВАЦЬ *незак.* 1. Прыбіраць, наводзіць парадак. *Хата была тынкаваная, усё выпратавала адна.* Кураполле Паст. 2. Выносіць. *Выпратваюць с хаты табурэткі.* Дакудава Лід.

ВЫ'ПРАТАЦЬ *зак.* 1. Прыбраць, навесці парадак. *Выпратаць хаты не маглі.* Жылі Іўеў. *Да гэтай парэ я выпратала хату.* Вялікія Баяры Шчуч. *Чуць выпраталі ў гумне.* Магуны Паст. 2. Вытрасці, ачысціць. *Як набярэцца асцюкоў у адзення — і вы іх не выпратаеце.* Гемзы Шальч. 3. Выгнаць, выпіхнуць. *Трэба яго выпратаць з хаты.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *sprzątać* 'прыбіраць, прыводзіць у парадак'.

ВЫ'ПРАХЧЫ *зак.* Распрэгчы. *Трэба выпрагчы каня.* Лоск Валож.

ВЫ'ПРАЦАВАНЫ *прым.* Знясілены працай. *Наш чалавек выпрацаваны, а яна не выпрацаваная.* Лоск Валож.

ВЫ'ПРАЦАВАЦЦА *зак.* Знясіліцца, страціць сілы. *Ужо я выпрацавалася.* Старыя Трокі Трак.

ВЫ'ПРАЦЬ I *зак.* Выперыць пранікам (пра бялізну, палатно). *Пранікам трэба выпраць палатно.* Грыкені Вільн.

ВЫ'ПРАЦЬ II *зак.* Сапрэць, згнісці. *Трава выпрала.* Жодзішкі Смарг.

ВЫ'ПРУДЗІЦЦА, ВЫ'ПРУЦІЦЦА *зак.* Выпраміцца, напружыцца. *Дзіця, як узлуецца, выпрудзіцца, як прут, і крычыць гвалт.* Бакшты Іўеў. *Ён выпруціўся, як пруток — пруткі такі.* Магуны Паст.

ВЫ'ПРЫКНУЦЬ *зак.* Выскачыць. *Я ўспеў выпрыкнуць с той ямы.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *выпрыгнуть* 'тж'.

ВЫ'ПРЫШЧЫЦЬ *зак. безас.* Пакрыцца прышчамі. *Вы-*

*прышчыла яго, натта пагнала ў прышчы.* Гемзы Шальч. *Выпрышчыла твар пасля ночы.* Жылі Іўеў.

ВЫ′ПСАВАЦЦА *зак.* Сапсавацца, выбалець. *Адна цыцка выпсавалася ў каровы — на тры цыцкі доіцца.* Гемзы Шальч.

ВЫ′ПСАВАЦЬ, ВЫ′ПСУВАЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Можа вымя выпсаваць ей.* Жылі Іўеў. *Ён вучоны, але вочы выпсуў, не пазнаець чалавека.* Рагулішкі Даўг.

ВЫПУСКА′ЦЬ І *незак.* Выпраўляць, праводзіць. *Суседы ідуць выпускаць маладую і маладога, як едуць да шлюбу.* Гемзы Шальч.

ВЫПУСКА′ЦЬ ІІ *незак.* Пускаць парасткі. *Каждая дрэва можа выпускаць атожылы.* Стральцы Гродз.

ВЫ′ПУСТАК, ВЫ′ПАСТАК, ВЫ′ПУСТОК *м.* Гадавалае цялё. *Леташняе цяля — выпустак. Цяля, як перазімуе,— выпустак.* Дзяніскавічы Ганц. *Выпусткам пабегала.* Навасёлкі Свісл. *Была цёлка — выпастак, два гады.* Альхоўцы Лях. *Выпусток по другой пашы, подгодуемо шчэ трохі.* Смаляніца Пруж.

ВЫ′ПУСЦІЦЬ *зак.* 1. Выпусціць, даць магчымасць выйсці. *Я пайду толькі с хаты выпусціць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Выгнаць у поле. *Выпусці цяля на поле, а ці зловіш тады?* Гемзы Шальч.

ВЫ′ПУХТУЛІЦЬ *зак.* Фізічна пакараць, моцна адлупцаваць. *Маці яе добра выпухтуліла, як у бані.* Кіралі Шчуч.

ВЫ′ПХНУЦЬ *зак.* Сілай вывесці, выгнаць. *Хлопцы і дзеўчыну выпхнулі з хаты.* Каўняны Гродз.

ВЫПЫ′ЛІВАЦЬ *незак.* Выпыльваць. *Сяннік выпыліваем.* Крынкі Крын.

ВЫПЭ′НДЖАЦЬ *незак.* Выганяць. *Я пана не выпэнджам, але проша вон!* Лоск Валож.; *параўн.* польск. *wypędzać* ’выганяць, праганяць’.

ВЫ′РАБАТ *м.* Выраб, апрацоўка. *Аўчынку аддавалі ў вырабат аўчынніку.* Ухвала Круп.

ВЫ′РАБІЦЦА *зак.* Спрацавацца, схуднець ад работы. *Яна вырабілася так, што могуць крукі пад аблака занясці.* Мсцібава Ваўк.

ВЫ′РАБІЦЬ *зак.* 1. Правесці комплекс работ па падрыхтоўцы поля. *Імшарына была, мокрая мейсца, а цяпер мілірацыя вырабіла гэта мейсца.* Ракаўскія Швянч. *Балота вырабілі і пасеялі буракі.* Альхоўка Навагр. 2. Апрацаваць шкуру дубленнем. *Ён скуру добра вырабіць.* Номікі Бабіц.

ВЫ′РАБЛЕНЫ *дзеепрым.* Апрацаваны (пра зямлю). *На паваротах, дзе трактар паварочваецца, зямля не выраблена.* Мсцібава Ваўк.

ВЫРАБЛЯ′ЦЦА *незак.* Тое ж, што і в ы к а б л ý ч в а ц ц а. *Не вырабляйся — глядзець няможна.* Ракаўскія Швянч.

ВЫРАБЛЯ′ЦЬ *незак.* 1. Вырабляць якія-н. рэчы. *Расцом*

*выраблялі лышкі, апалонікі.* Дакудава Лід. 2. Апрацоўваць. *Балтушнік авечак скуры выраблящ на кажух.* Стральцы Гродз. 3. Вязаць, плесці. *Ты можаш карункі вырабляць.* Кемялішкі Астр. 4. Займацца чым-н. *Што ты выробляеш цяпер?* Вялікія Баяры Шчуч.

ВЫ'РАДАК *м.* Нікчэмны чалавек. *Вот вырадак нейкі.* Саланое Віл.

ВЫ'РАДЗІЦЦА *зак.* Урадзіцца. *Ён нарадзіўся такі кучаравы, вот такі чалавек вырадзіцца!* Ракаўскія Швянч.

ВЫ'РАЗ I *м.* Вымаўленне. *У нас выразы разныя пачуяш.* Жодзішкі Смарг.

ВЫ'РАЗ II *м.* Дэкальтэ. *Трэба зрабіць выраз на горла ў каптане, у кашулі.* Лоск. Валож.

ВЫРА'ЗНА *прысл.* Дакладна, ясна, зразумела. *Мне смех з гэтай дзяўчыны — так выразна сказала.* Валынцы В.-Дзв.

ВЫ'РАЙ, ВЫ'РАЎ, ГЫ'РЭЙ *м.* 1. Чарада пералётных птушак. *На дзевятуй ці восьмуй нядзелі пасля калят вырай прылятая.* Вецярэвічы Пух. 2. Цёплы край. *Пташкі ляцяць у вырай.* Альхоўцы Лях. *Каля спаса ў выраў ляцяць.* Альхоўка Навагр. *Вжэ буськы в гырэй збыраюцця лытіты. Гусы з гырыю прылытілы.* Сіманавічы Драг. 3. *перан.* Месца, куды хаваюцца на зіму гадзюкі (пад карчы, у зямлю). *На ўзвіжання ўсе гадзюкі ідуць у вырай.* Бакшты Іўеў. *Гужэ ідуць у вырай.* Малахоўцы Бар.

ВЫ'РАК *м.* Вырадак. *Што за вырак стала дзяўчына.* Кіралі Шчуч.

ВЫРАКА'ЦЦА, ВЫРЫКА'ЦЦА *незак.* Адмаўляцца, пазбаўляцца, пазбягаць. *Можа быць, што і бацька выракаецца сваёй крыві — сваіх дзяцей.* Гемзы Шальч. ∇ *Турмы і торбы не вырыкайся ніколі — так гаварылі старыя людзі.* Чычалі Швянч.

ВЫ'РАКЦІСЯ *зак.* Адмовіцца, пазбавіцца. *Бацька сына выракся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Цяперача ён выракся дзіцяці.* Пацаўшчына Дзятл. *Выракся дзяцей.* Магуны Паст.

ВЫ'РАСЦІ *зак.* 1. Падысці (пра цеста). *Хлеб у дзежцы ужо вырас.* Талейкі Швянч. 2. З'явіцца, утварыцца (на целе). *Нарасць можа вырасці.* Чычалі Швянч. ◇ *Вырасці да неба. Здаецца, што я вырасла да самаго неба, такая задавалёна.* Баброўнікі Гарад.

ВЫ'РАЎ *гл.* ВЫ'РАЙ

ВЫ'РАЧКА *ж. бат.* Зябер. *Як жалі, нада было аберагацца вырачкі — натта вырачка коліцца.* Кіралі Шчуч.

ВЫРАЧКОВА'ТЫ *прым.* Зіркаты, вірлавокі. *Такі вырачковаты — ні ў бацьку, ні ў матку.* Калясное Міхал. *Стёпа якісь такі вырачковаты, брыткі.* Курашэва Чыж.

ВЫ'РАЧЫТІ *зак.* Вытарашчыць, вылупіць. *Ніц нэ понімав, оно очы вырачыв.* Курашэва Чыж.

ВЫ'РАЧЫТІСЕ *зак.* Напасці, накрычаць на каго-н. *Я нэ був віноваты, а вона на мэнэ вырачыласе, і я нэ знаю за што.* Курашэва Чыж.

ВЫРА'ШЧУВАЦЬ *незак.* Вырошчваць. *У нас буракі добрыя выращчуюць.* Паляцкішкі Воран.

ВЫ'РВА *ж.* Вымыты вадою ўчастак зямлі. *Вода пудмыла бэрэг і вырву в поплаві зробіла.* Курашэва Чыж.

ВЫ'РВАЦЦА *зак.*Ываліцца. *Вокны вырваліся са сцяны.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ВЫ'РВАЦЬ, ВЫ'РВАТЫ *зак.* 1. Сарваць, нарваць. *Пайду яблык вырву.* Міратычы Карэл. *Вырвала яблыко.* Сіманавічы Драг. 2. Выцягнуць. *Я ногі ня вырваю, як іду — балота такоя.* Крэва Смарг.

ВЫРО'СТАК *м.* Падлетак. *Ужо выростак была дзяўчынёха.* Мярэцкія Глыб.

ВЫ'РУБАЦЬ *зак.* Высечы. *Вырубаў у лесе дубіну.* Старыя Трокі Трак.

ВЫРУБА'ЦЬ *незак.* Высякаць. *Вырубалі дзялянкі і садзілі лес.* Старыя Трокі Трак.

ВЫ'РУГА *ж.* Выгада, дабрата. *Мне зімой была такая выруга: нічога не дзелала, упраўлюся з печкай і — на бакавую.* Азяраны Раг.

ВЫ'РУМНЯТІ, ВЫ'РУМНЯТЫ *зак.* Выраўнаваць. *Вырумняй сіетого снопа і звэжы пэрэв'яслом.* Курашэва Чыж. *Як нырымнэ, то трэба вырумняты.* Сіманавічы Драг.

ВЫРХОВ'Ё *гл.* ВЕРХАЎЁ

ВЫРЫКА'ЦЦА *гл.* ВЫРАКА'ЦЦА

ВЫ'РЫСАВАЦЬ *зак.* Намаляваць. *Ён што ні гляня, то вырысуя.* Стральцы Шальч.

ВЫ'РЫСЬКАЦЦА *зак.* Абабіцца, высыпацца (пра ніз адзення). *Вырыськайся падол у спадніцы, вырыськуюцца махры і вісяць.* Азяраны Раг.

ВЫРЫ'СЬКІВАЦЦА *незак.* Абабівацца, высыпацца (пра ніз адзення). *Як мы пасцілі каровы, во вырыськіваліся падолкі: гэты рубец адляціць за адну вясну, бо ходзім, і памочым, і падрапаем.* Азяраны Раг.

ВЫРЫТЬІНО' *гл.* ВЕРАЦЯНО'

ВЫРЭ'ЗВАЦЬ *незак.* 1. Выразаць. *З бумагі вырэзваюць крух.* Тухавічы Лях. 2. Выгаблёўваць. *У дошках вырэзваюць паз і складаецца падлога.* Вострава Маст.

ВЫРЭ'ШЧЫВАЦЬ *незак.* Гадаваць, вырошчваць. *Мы не вырэшчывалі багата свіней.* Азяраны Раг.

ВЫ'САДАК *м.* Выседжванне. *Высадак куранят у інкубатарах.* Вострава Маст.

ВЫ'САДЗІЦЬ *зак. экспр.* Выбіць, разбіць. *Высадзя акно!* Стральцы Гродз.

ВЫ'САДКІ, ВЫ'САТКІ, ВЫ'САДКЫ толькі *мн.* 1. Га-

роднiна, якая высаджваецца на другi год на насенне. *Гародчык ля хаты для вырошчвання высадак.* Мачаск Бярэз. *Пры плоце не стоiць садзiць высаткi.* Мсцiбава Ваўк. *Дьвi капустыны i два буракы оставыла на высадкы.* Сiманавiчы Драг. *На высадкы бурака оставыла.* Вiдзiбар Стол. 2. Бульба, пакiнутая на насенне. *Мэнчы картоплi на высадкi оставiлi.* Курашэва Чыж.

ВЫ'САIЦЬ *зак.* Пракармiць дзiця пэўны перыяд грудным малаком. *Мая дачка высаiла двaiх дзяцей.* Дакудава Лiд.

ВЫ'САКА, ВЫСО'КА, ВЫСО'КО *прысл.* Высока. *Каршун высака ляцiць. Хто гэдак высака падымаiць?* Груздава Паст. *Самалёт ляцiць высака. Сена было пакладзена высака.* Саланое Вiл. *Што вы так высака селi?* Крэва Смарг. *Дзе дадуць кварцiру, мо высака будзя.* Вялiкiя Нястанавiчы Лаг. *То нiска, то высака.* Нiстанiшкi Смарг. *У нас высака — не даставала.* Асавец Вiл. *Высака сонца.* Рыбчына Вiл. *Раскалыхалiся натта высока дзецi.* Гемзы Шальч. *Шуляк лётае высоко.* Дзмiтравiчы Кам.

ВЫСАКАВА'ТА *прысл.* Даволi высока. *Мне нада, каб высакавата было спаць.* Саланое Вiл.

ВЫСАКО'СЦЬ *ж.* Вышыня. *Бяруць хвойкi бутлыя, адрэжуць, пачысцяць iх, дно ўставяць, i тады iх называлi кадаўбы — сорак пудоў лезла, на паўтара мэтра высакосцi.* Пацаўшчына Дзятл.

ВЫ'САЛАПIЦЬ, ВЫ'СОЛОПIТI, ВЫ'СОЛОПЫТЫ *зак. экспр.* Высунуць, выставiць. *Ён высалапiў язык i слухаiць.* Альба Нясв. *Высолопiла язык, як обэзяна.* Курашэва Чыж. *Высолопыв гэтого язырныска.* Сiманавiчы Драг.

ВЫ'САПКА *гл.* ВЫ'СЫПКА

ВЫ'САТКI *гл.* ВЫ'САДКI

ВЫ'САЎКАЦЬ *зак. экспр.* Выгадаваць, выкармiць. *Два кабаны высаўкала.* Асавец Вiл.

ВЫ'САХНУЦЬ *зак.* Знiкнуць, перасохнуць. *У нас тут рака была, але высахла.* Альхоўцы Лях.

ВЫ'СВIДРАВАЦЬ *зак.* Пракруцiць, выкапаць. *Высвiдравалi студню ў хаця.* Старыя Смiльгiнi Воран.; *парайн.* польск. *świdrować* 'свiдраваць'.

ВЫ'СВIТАЦЬ *зак. безас.* Развiднець. *Ужо высвiтала, як я падышоў да Пасекi.* Гемзы Шальч.

ВЫСВО'ЛАК *м. цясл.* Падоўжная бэлька ў верхняй частцы страхi. *Ключы чапляюцца за высволак, а высволак ляжыць на казлох, што ставяцца на папярочну сцяну.* Альхоўцы Лях.

ВЫ'СВЯТЛIЦЬ *зак.* Тое ж, што i в ы́ с в i т а ц ь. *Высвятлiла ўжо.* Жыдзевiчы Iўеў.

ВЫСЕ'ДЖВАЦЬ *незак.* Ператраўляць. *Волье курыца не выседжвае.* Жыдзевiчы Iўеў.

ВЫ'СЕІЦЬ *зак.* Прасеяць. *Трэба высеіць муку.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫ'СЕКАЦІ *гл.* ВЫ'СЯКАЦЬ

ВЫ'СЕРБАЦЬ *зак.* Выхлебтаць. *Ой, як смачна, высербай гэта!* Кураполле Паст.

ВЫ'СЕЎКІ, ВЫ'СЯЎКІ толькі *мн.* Высеўкі, вотруб'е. *Расказвала нам мама, што калісь высеўкі грэцкія патсыпалі ў хлеп, і высяўкі грэцкія дзецям кішкі парэзалі.* Альхоўцы Лях. *Мука сабе, а высяўкі сабе.* Жодзішкі Смарг. *Як абдзіраяш панцак ці грэчку, там высяўкі — курам, гусям мяшаць.* Малахоўцы Бар.

ВЫ'СЕЯЦЦА *зак.* Высыпацца. *Мак-відук скоранька збірай, бо высеецца.* Беняконі Воран.

ВЫСІКА'ЛКА *ж.* Крэсіва. *Была высікалка — скалка і губа.* Мярэцкія Глыб.

ВЫ'СКАДЗЬ, ВЫ'СКІДЗЬ *ж.* Вываранень. *Выскадзь — вывернёнае дзерава з карэньем, з гальем. Бура наваляла богато выскадзей. Дзве выскадзі стаяць дуба, пад выскадзью вада е.* Дзяніскавічы Ганц. *Зрэзаў я выскідзь; там, відаць, ляжаў воўк пад выскіддзю.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВЫСКА'КАЦЬ, ВЫСКА'КУВАЦЬ *незак.* Выскакваць. *Я выскакала з хаты на двор усю раніцу.* Міратычы Карэл. *Выскакуе сабака с хлява.* Паляцкішкі Воран. *Чуць не выскакуіць з рук дзіця.* Лоск Валож.

ВЫ'СКАЧЫЦЬ *зак.* 1. Хутка выбегчы. *Я бы выскачыў, но ў белью не паляту.* Гемзы Шальч. *Добра, жэ я скора выскачыў.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Вывіхнуцца. *Клуб у каровы выскачыў.* Саланое Віл. 3. Імгненна з'явіцца, выпаўзці. *Выскачыла с-пад мэтра* [складзенага дрэва] *гадзіна.* Грыкені Вільн. 4. Выйсці на паверхню. *Як укусіць гадзіна — кроў, як пацерачка, выскачыць.* Вецярэвічы Пух. 5. *перан.* Забыцца. *Мне выскачыла з галавы сказаць табе.* Груздава Паст. ∇*Выскачыў, як с канапель* — раптам, нечакана. Саланое Віл.

ВЫ'СКВАРКІ *мн.* Вытапкі. *Ат кішок сала збіраецца, яго вымачуюць у печы, сцэджваюць, а высkваркі астаюцца.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВЫ'СКІДЗЬ *гл.* ВЫ'СКАДЗЬ

ВЫ'СКРАБАЦЬ *зак.* Выскрабці, саскрэбці. *Аўчынку выскрабуць для ірхачкі.* Стральцы Гродз. *Віткамі не так чыста, а ножыкам так чыста выскрабіш кішкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫ'СМАГНУЦЬ *гл.* ВЫ'СМЯГНУЦЬ

ВЫ'СМАЛІЦЬ *зак. экспр.* Высушыць, высмаліць. *Зямля пяскавая: як пагода — высмаліць, выпаліць.* Ракаўскія Швянч.

ВЫ'СМАЛЫ толькі *мн.* Выпаленае месца ў лесе. *Радоўкі* [грыбы] *растуць на высмалах, на пасеках, дзе высмалы.* Быстрыца Астр. *Пойдзям на высмалы грыбы збіраць.* Стральцы Гродз.

ВЫ́СМАРГАЦЦА *зак. экспр.* Выгаладацца. *Парасяты высмаргаліся — будуць есці.* Саланое Віл.

ВЫ́СМАРГАЦЬ *зак.* Выпраміць. *Высмаргай нітку!* Номікі Бабіц.

ВЫ́СМАРКАЦЬ *зак.* Вычысціць нос. *Не можа нос высмаркаць.* Рыбчына Віл. *Высмаркай нос!* Рудня Астравітая Чэрв.

ВЫСМА́ТРЫВАЦЬ *незак.* Выглядаць, мець пэўны знешні выгляд. *Яна не высматрываіць на восемдзесяць гадоў.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *высматривать* 'тж'.

ВЫ́СМЯГНУЦЬ, ВЫ́СМІГНУЦЬ, ВЫ́СМАГНУЦЬ *зак.* 1. Высмагнуць. *Суп высмях.* Мішневічы Шум. *Высмах булён.* Ністанішкі Смарг. 2. *перан.* Змучыцца ад цяжкіх перажыванняў. *Я высмігла за іх, здароўе пацірала, як пачаў басцяцца.* Саланое Віл.

ВЫ́СНЯКАЦЬ *гл.* ВЫ́СЯКАЦЬ

ВЫСО́КА, ВЫСО́КО *гл.* ВЫ́САКА

ВЫ́СОЛОПІТІ *гл.* ВЫ́САЛАПІЦЬ

ВЫСОЛОПЛЯ́ТІ *незак.* Неўпапад гаварыць, выдаваць тайну. *Як будэш там, то нэ высолопляй языка, як тэбэ нэ будут пытаті.* Курашэва Чыж.

ВЫ́СОЛОПЫТЫ *гл.* ВЫ́САЛАПІЦЬ

ВЫ́СОЛОТКІ толькі *мн.* Адходы ад буракоў пры перапрацоўцы на цукар ці спірт. *Можэ высолоткуов добыткові куплю.* Курашэва Чыж.

ВЫ́СПА *ж.* 1. Востраў. *Ёсць выспа на азяры.* Магуны Паст. *Выспа сярот рэчкі.* Быстрыца Астр. 2. Грудок. *Выспа сярот балота вядзецца.* Быстрыца Астр. 3. Высокае пясчанае месца. *Ест выспа ў лесе, там нічога не расце.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *wyspa* 'тж'.

ВЫ́СПАНЫ *дзеепрым.* Пра таго, хто выспаўся, не хоча спаць. *Не спіць, бо выспаная. Галава крэпкая, выспаная.* Магуны Паст.

ВЫ́СПАТ *прысл.* Пад спод. *Гальку выспат мне пашылі.* Ракаўскія Швянч.

ВЫ́СПАЧКА *памянш.* да вы́спа. Узгорачак, грудок. *Сяць на выспачку, там суха.* Гемзы Шальч. *Там выспачка — грудок такі.* Жылі Іўеў.

ВЫ́ССАНЭ У выразе: *С пальця выссанэ. То всё нэ правда, а с пальця выссанэ.* Курашэва Чыж.

ВЫ́СТА́ВА *ж.* Выстаўка. *Ён меў жарабца, на выста́ву ездзіў. Ён агяроў дзяржаў, на вы́ставу ездзіў часта.* Гемзы Шальч.

ВЫ́СТАВІЦЬ *зак.* Паказаць, высунуць. *Паўлюк-паўлюк* [божая кароўка], *выстаў рогі!* Старыя Смільгіні Воран. *Я квігу яму выстаўлю!* Саланое Віл.

ВЫ́СТАРАЦЦА *зак.* Знайсці, адшукаць. *Выстараюся жаніха табе.* Лісна В.-Дзв.

ВЫ'СТРАІЦЦА *зак.* Прыбрацца. *Куды ш ты так выстраілася?* Груздава Паст.

ВЫ'СТРАІЦЬ *зак.* Паставіць у рад. *Усіх выстраілі і пражывенне давалі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫ'СТРАЧЫЦЬ *зак.* Выштабнаваць. *Даўней рубашку рукамі выстрачыш — шылі ўручную.* Валынцы В.-Дзв.

ВЫ'СТРУШКІ *мн.* Расшчэпленыя напалам дубцы для пляцення. *Даўней калубель аплецена выструшкамі з ляшчыны.* Старое Сяло Зэльв.

ВЫСТРЫГА'ЦЬ *незак.* Кроіць. *У кліны выстрыгалі андаракі. Выстрыгалі скуру і рабілі хадакі.* Ракаўскія Швянч.

ВЫ'СТРЫЛІТІ, ВЫ'СТРЫЛЫТЫ *зак.* Выстраліць. *Штось голосно выстрыліло.* Курашэва Чыж. *Выстрылыв у того вовка і попав у саму голову.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол.

ВЫСТРЭ'НЧЫВАЦЬ *незак.* Гатаваць далікатную смачную ежу. *Не выстрэнчывай ты ім, што ёсць — тоя ніхай ядуць!* Вецярэвічы Пух.

ВЫ'СТУДЗІЦЬ *зак.* 1. Астудзіць. *Трэба выстудзіць мяса і злажыць.* Ліпнікі Вільн. 2. Выпусціць цяпло (пра памяшканне). *Дзверы атчыніў, выстудзіў хату.* Номікі Бабіц.

ВЫСТУПА'ЦЬ *незак.* Прасочвацца на паверхню. *Мядовыя росы выступаюць із цвятоў.* Кураполле Паст. *На жытных каласах мядніца выступала. Смала выступаіць кроплямі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫ'СТУПІЦЬ I *зак.* Выйсці. *Ён уперач няхай пойдзець, а яна не выступіць з хаты.* Беразіно Докш.

ВЫ'СТУПІЦЬ II *зак.* Выціснуцца, выступіць на паверхні. *Як таўклі ў ступі, такія сліскія каноплі зробяцца, што выступіць алей у ступе.* Саланое Віл.

ВЫ'СТУПКІ *мн.* 1. Абутак, пашыты з матэрыі. *Жэнішчыны калісь шылі выступкі з мацерыі.* Масілавічы Сл. 2. Абутак на драўлянай падэшве. *Выступкі — мо нейкія дзераўляшкі.* Семежава Кап. 3. Стары, паношаны абутак. *Выступкі — старые чэрэвікі.* Смаляніца Пруж. 4. Апоркі, адразанікі. *Халявы адрэжа з ботаў — гэта выступкі.* Малахоўцы Бар.

ВЫ'СТЫДЗІЦЬ *зак.* Пасароміць. *Выстыдзіць ён яшчэ цябе, не хадзі з ім.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫСТЫ'СЬ *гл.* ВЕ'СЦІСЯ

ВЫ'СУЧЫЦЬ *зак.* У выразе: *Высучыць галаву* — стаміцца ад разумовай працы, вучобы. *А што з гэтай навукі: высахла, высучыла галаву толькі.* Гемзы Шальч.

ВЫ'СЦІ *зак.* 1. Выйсці. *Як мне з хаты высці?* Кемялішкі Астр. 2. Зрасходавацца. *Хлеб у нас вышаў.* Дакудава Лід.

ВЫ'СЦЯРАГЧЫСЯ *зак.* Асцерагчыся. *Трудна высцярагчыся ад хваробы.* Паляцкішкі Воран.

ВЫ'СЫКАЦІ *гл.* ВЫ'СЯКАЦЬ

ВЫСЫПА'ЦЦА *незак.* Выпускаць мяцёлку (пра авёс і

інш.). *Авёс ужо высыпаецца — з пука выходзіць ветка.* Мішневічы Шум.; *гл.* в ы п л ы в а́ ц ь.

ВЫ'СЫПАЦЬ I *зак.* З'явіцца. *Высыпалі прышчы на твары.* Мярэцкія Глыб.

ВЫ'СЫПАЦЬ II *зак.* Вылецець. *Рой высыпаў на дварышча.* Груздава Паст.

ВЫСЫПА'ЦЬ *незак.* Вылятаць. *Рой высыпая і звіваецца на дрэве.* Рыбчына Віл.

ВЫ'СЫПКА, ВЫ'САПКА *ж.* Сып. *Высыпка высыпала — прастудзілася, уся ў балячках.* Ракаўскія Швянч. *Высыпка ў дзіцяці.* Міратычы Карэл. *Крапіву — жышку ад высыпкі трэба піць, змыць дзіця — і пройдзе.* Альхоўка Навагр. *У дітяті на тварові высыпка появіласе.* Курашэва Чыж. *Высапка высыпала на галоўцы.* Мярэцкія Глыб.

ВЫ'СЮДАТІ *зак.* Прымусіць пакінуць пасаду, выправадзіць. *Міев добрэ міесце, але ёго высюдалі.* Курашэва Чыж.

ВЫ'СЯКАТЫ *гл.* ВЫ'СЯКАЦЬ

ВЫСЯКА'ЦЬ I *незак.* 1. Ссякаць, зразаць. *Капусту высякалі.* Альхоўка Навагр. 2. Высякаць, спілоўваць. *Пашлі лес высякаць.* Рыбчына Віл. 3. Выкрасаць. *Крэсівам высякалі агонь.* Малахоўцы Бар.

ВЫСЯКА'ЦЬ II *незак.* Чысціць нос. *Высякая нос.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* польск. *siąkać* 'тж'.

ВЫ'СЯКАЦЬ, ВЫ'СЫКАЦІ, ВЫ'СЭКАЦІ, ВЫ'СЯКАТЫ, ВЫ'СНЯКАЦЬ *зак.* Тое ж, што і в ы́ с м а р к а ц ь. *Высякай нос!* Ісерна Слуц. *Іды высэкай носа! Ужэ высэкаў носа. Чому ты нэ высыкала носа на дворэ?* Смаляніца Пруж. *Трэба высякаты суплі.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол. *Высьнякай насок, вытры смаркачэ!* Каўняны Гродз. *Высьнякай нос!* Галубы Маст. *Высьнякаў бы ты свой нос, а то шморгаеш бес канца.* Пацаўшчына Дзятл. *Высьнякай нос*! Малахоўцы Бар.; гл. в ы с я к а́ ц ь II.

ВЫ'СЯЎКІ *гл.* ВЫ'СЕЎКІ

ВЫ'СЯЧЫ *зак.* Выкрасіць (пра агонь). *Высячы мне агню!* Рыбчына Віл. *Высячы мне цяпло! — даўней так казалі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВЫ'ТАПІЦЬ *зак.* Выпаліць. *Трэба рана ўстаць, вытапіць печ.* Рыбчына Віл.

ВЫ'ТАРАПАК *м. зневаж.* Неахайны чалавек. *Гэты вытарапак ходзіць гразны.* Альхоўцы Лях.

ВЫ'ТАРАПКА *ж. бат.* Зябер. *Вытарапка калючая — тое ж, што і бадзюга.* Міратычы Карэл.

ВЫ'ТАРХАНЫ *дзеепрым.* Вытрасены, выпылены. *Прасушана і вытархана адзежа.* Саланое Віл.

ВЫ'ТАРЧЫЦЬ *зак.* Вытарашчыць. *Вытарчыш глаза і будзеш глядзець.* Пацаўшчына Дзятл.

ВЫТА'СКІВАЦЬ, ВЫТА'СКУВАЦЬ *незак.* 1. Выцягваць,

цягнуць. *Вытаскуе вядро са студні.* Паляцкішкі Воран. 2. Выганяць, выкідваць. *Пчолы трутня вытасківаюць з уля, крыльля ім астрыгаюць.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *вытаскивать* 'выцягваць'.

ВЫТАЎКА'ЦЬ *незак.* Таўчы зерне на крупы. *У ступі панцак вытаўкалі з ячменю.* Магуны Паст.

ВЫ'ТАЯЦЬ *зак.* Адтаяць. *Забілі яго ўвосінь — снегам задуло, вытаяў вясной.* Валынцы В.-Дзв.

ВЫ'ТКНУЦЦА *зак.* Паказацца, вытыркнуцца. *Кот сядзіць на тым мейсцу, як вытнецца з нары мыш — і злапая.* Гемзы Шальч.

ВЫ'ТЛУМАЧЫЦЬ, ВЫ'ТЛУМАЧЫТІ *зак.* Растлумачыць. *Як вытлумачыць такія словы?* Паляцкішкі Воран. *Чакай, я вытлумачу.* Беняконі Воран. *Як вам вытлумачыць?* Быстрыца Астр. *Трудна мне ўсё вытлумачыць.* Кемялішкі Астр. *Як нэ понімаеш, то я тобіе вытлумачу.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *wytłumaczyć* 'тж'.

ВЫ'ТНУЦЬ *зак.* Выцяць, ударыць. *Паленам вытня — і хлопец у крыве.* Альхоўка Навагр. *Матка вытня дзіця — яму не баліць.* Дакудава Лід. *Уцякай, бо вытня.* Касілавічы Дзярж. *Іван б'е — вытня нагою.* Дзяніскавічы Ганц. *Вот вытнуў так вытнуў!* Крэва Смарг. *Як вытнуць цельную карову, то трэба ўзяць ячменю, жыта і пшаніцы, папрышчыць і даць каройцы папіць.* Міратычы Карэл.; *параўн.* польск. *wyciąć* 'тж'.

ВЫТО'ПТВАЦЬ *незак.* Станавіцца па чарзе на панажы ў працэсе ткання. *Тады праводзіш панажы і вытоптваеш.* Ракаўскія Швянч.

ВЫТО'СКАЦЬ *незак.* Выцягваць. *Пяку картапляныя алаткі, качаргою* [скавараду] *вытоскаю.* Малахоўцы Бар.; *параўн.* руск. *вытаскивать* 'тж'.

ВЫ'ТРАВАЦЬ *гл.* ВЫ'ТРЫВАЦЬ

ВЫТРАСА'ЦЬ *незак.* 1. Аддзяляць зерне ад саломы. *Вытрасаюць снапы, каб не аставаліся зярнята.* Альхоўка Навагр. *Як змалоцяць, вытрасаюць салому, ачышчаюць зярно.* Стральцы Шальч. 2. Выбіраць лепшую, кулявую салому. *Абівалі жыта і вытрасалі кулі.* Валынцы В.-Дзв. *Жыта малоціць і вытрасае на кулі. Бярэ мужык салому за верх і вытрасае.* Беняконі Воран. 3. Аддзяляць льноваланкно ад вярхоў трасты. *Вярхі вытрасалі.* Грыкені Вільн. 4. Выбіраць мёд. *Па два-тры разы за лета ён вытрасаіць мёт.* Кураполле Паст.

ВЫ'ТРАСЦІ *зак.* 1. Аддзяліць насенне ад галовак (пра мак). *Нада мак вытрасці — ужо высах.* Кураполле Паст. 2. Вывернуць. *Падыміць буч і вытрасець рыбу.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Аддзяліць льноваланкно ад вярхоў трасты. *Вытрасці трэба вярхі.* Грыкені Вільн.

ВЫТРЫВА'ЛЫ *прым.* Цярплівы, вынослівы. *Вытрывалы чалавек.* Магуны Паст.

ВЫ'ТРЫВАЦЬ, ВЫ'ТРАВАЦЬ, ВЫ'ТРЫВАТЫ *зак.* Пеhttps://ражыць, перанесці. *Усё чалавек вытрывае.* Гемзы Шальч. *Ня вытрываю, як ноіць жывот.* Валынцы В.-Дзв. *Ня вытрываць на кавяле.* Лісна В.-Дзв. *Першаку наліў — ня вытрываць, які крэпкі.* Лоск Валож. *Ны вытрываты, так тяшко. Смішно — ны вытрываты.* Сіманавічы Драг.

ВЫ'ТРЫМАЦЬ *зак.* Тое ж, што і вы́трываць. *Родненькі, міленькі, не вытрымаю, як баліць.* Старыя Смільгіні Воран.

ВЫТРЭ'ПЛЯВАЦЬ *незак.* Ачышчаць ад кастрыцы. *Я не вытрэплявала толькі лёну, колькі Марыля.* Саланое Віл.

ВЫТРЭ'САЦЬ *незак.* 1. Трэсці, вытрасаць. *Дзеравянымі віламі сена, салому вытрэсалі.* Малахоўцы Бар. 2. Абтрасаць. *Вытрэсалі карэнчыкі, каб зямлі не было.* Вялікія Баяры Шчуч.

ВЫТУ'РЗАВАЦЬ *незак.* Нацягваць, выцягваць. *Кросна, як кіпяткам упарыш, выбіш пранікам і тады вытурзаваям.* Міратычы Карэл.

ВЫ'ТУРЫЦЬ, ВЫ'ТУРЫТЫ *зак. экспр.* Выгнаць, прагнаць. *Свякроў іх вытура з хаты.* Ліпнікі Вільн. *Вытурылы его с хаты.* Сіманавічы Драг.

ВЫ'ТХАЦЦА *зак.* Высахнуць, страціць закваску. *Дзежка вытхласа — німа квасу.* Пасека Ст.-Дар.

ВЫ'ТЫ *гл.* ВІЦЬ

ВЫТЫКА'ЦЬ *незак.* 1. Ткаць з густам, з вялікім майстэрствам. *Яна вытыкая ўсякія посцілкі.* Дакудава Лід. *Вытыкалі рознымі ўзорамі.* Стральцы Гродз. *У дубікі вытыкалі.* Гайна Лаг. *Харошыя вытыкалі посцілкі.* Магуны Паст. 2. Многа натыкаць. *Па сорак пяць сцен кроснаў вытыкала.* Жылі Іўеў. *Натта палотна вытыкалі ў Лоску.* Крэва Смарг.

ВЫТЫЛІ'НГАВАЦЬ *незак. экспр.* Дагаджаць, услугоўваць. *Замужам будзіш вытылінгаваць каля мужыка — і толькі вытылінгавай каля яго!* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *tilingúoti* 'тж'.

ВЫ'ТЫСЬ *гл.* ВІ'ЦЦА

ВЫ'ТЯТЫ *гл.* ВЫ'ЦЯЦЬ

ВЫ'ФУКАЦЬ *зак.* Выдзьмухаць. *Мэдаркай мёд выфукуюць, а рамку зноў пчолам паставяць.* Мсцібава Ваўк.

ВЫХАВА'НКІ *мн. перан.* Кураняты, што гадуюцца без курыцы. *Выхаванкі — калі бяс курыцы хадзілі.* Малахоўцы Бар.; *параўн.* польск. *wychowaniec* 'выхаванец'.

ВЫ'ХАВАТЫ *зак.* Перахаваць. *Всэ выхавала, всэ повыхавувала — ныц ны можна найты.* Сіманавічы Драг.

ВЫ'ХАВАЦЦА *зак.* Захавацца. *Ад вайны на ўсём сяле дзве толькі каровы выхаваліся.* Гарэлец Пух.

ВЫ'ХАВАЦЬ I *зак.* Зберагчы, захаваць. *Як не плакаць: выхавала сына ад немцаў, а ў мірны час пахавала!* Вецярэвічы Пух.

ВЫ'ХАВАЦЬ II *зак.* Пракарміць, дагледзець. *Пошар ест — можна выхаваць дзве каровы.* Старыя Трокі Трак. *Выхаваць праз зіму дзве каровы пошару хваціла.* Гемзы Шальч. *Дзве каровы выхавая.* Паляцкішкі Воран. *Трэба выхаваць карову.* Жылі Іўеў. *Выхаваць карову хапіла корму.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* польск. *wychować* 'выхаваць' (пра чалавека).

ВЫ'ХАД *м. перан.* Выйсце. *Выхаду не было, хаваліся да самай зімы ў лесе.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *выход* 'тж'.

ВЫ'ХАДЗІЦЬ *зак. перан.* Фізічна пакараць, набіць. *Ён яе рас добра выхадзіў.* Валынцы В.-Дзв.

ВЫХАПЕ'НЯЦ *м. кулін.* Перапечка, скавароднік. *Выхапеняц пякуць с кіслага цеста.* Жодзішкі Смарг.

ВЫ'ХАРАШАНЫ *прым.* Спакладаны. *Выхарашаны баран, вол.* Пацаўшчына Дзятл.

ВЫХАРО'ШВАЦЬ *незак.* Кастрыраваць, пакладаць. *Выхарошвалі свіней.* Дакудава Лід.

ВЫ'ХАРТАВАЦЬ *зак. экспр.* Выгаладацца. *Паработаў, выхартаваў — і паеў.* Кураполле Паст.

ВЫ'ХВАРАСЦІЦЬ *зак. экспр.* Моцна выцяць, пабіць розгай. *Я цібе выхварашчу, будзеш ты знаць, як дурэць.* Валынцы В.-Дзв.

ВЫ'ХВАТ *м. кулін.* Тое ж, што і выхапёняц. *Усадзі выхват у печ — перат поламям ён спячэцца.* Бакшты Іўеў.

ВЫХО'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Выходзіць (з памяшкання). *Сказала, кап не выходзілі с хаты.* Лоск Валож. *Не выходзь на вуліцу!* Азяраны Раг. 2. Вылятаць, раіцца. *Рой выходзіць са старой маткай. Матка выходзіла з уля.* Саланое Віл. *Выходзіць рой, раяцца пчолы.* Дзяніскавічы Ганц. *Рае выходзілі.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Выводзіцца. *Жук маёвы ў мае выходзіць.* Магуны Паст. *Трыцатага апрэля ў нас будуць выходзіць куранятка, а як адно — то курэнетко.* Мсцібава Ваўк. 4. Выцякаць. *С-пад горкі выходзіла вада.* Жылі Іўеў. 5. Пашырацца, заліваць. *Азяро на плёсы выходзіць.* Лісна В.-Дзв. 6. *перан.* Выбівацца з сіл, слабець. *Яна с паследніх сіл выходзіла.* Саланое Віл. 7. Атрымлівацца. *Другі рас часалі — то кужаль выходзіў.* Грыкені Вільн. *Адгашваць вапну — яна выходзіць, як цеста, а так яна ў камені.* Чычалі Швянч. *Ну як, чы вжэ вміїш жяты, чы выходыть в тыбэ? Ны рышу задачы, ны выходыть.* Сіманавічы Драг. 8. *безас.* Выходзіць, атрымлівацца. *Нам так не выходзіць.* Крынкі Крын.

ВЫХО'ДНЫ *прым.* Урадлівы, добры. *Выходная жыта на папары расло.* Вецярэвічы Пух.

ВЫ'ХОЛОНУТІ, ВЫ'ХОЛОНУТЫ *зак.* Астыць. *Пождi, нэхай куліеш выхолонэ, то послі ззісі.* Курашэва Чыж. *Зусім выхолола їіжа, трэба знов пудгрываты.* Сіманавічы Драг.

ВЫ'ХОР *гл.* ВІХО'Р

ВЫ'ХУДНЯЦЬ *зак.* Схуднець. *Цялушачка выхудняла.* Граўжышкі Ашм.

ВЫ'ЦАДЗІЦЬ *зак.* Працадзіць. *Ператопяць вашчыны з мёдам, мёт выцадзяць, а воск — само сабою, збіраюць.* Лісна В.-Дзв.

ВЫ'ЦАНГАЛІЦЬ *зак. экспр.* Выдаіць. *Я пайду выцангалю дзве каровы, прынясу вядро малака ў хату — і рукі не баляць.* Кіралі Шчуч.

ВЫ'ЦАЦКАЦЬ *зак.* Выпесціць, выгадаваць. *Мы яе* [дачку] *выцацкалі: мы жылі пры бацькох, і ўсе яе гадавалі.* Мсцібава Ваўк.

ВЫЦЕ'КАЦЬ, ВЫТІ'КАТЫ *незак.* Выцякаць. *Выцекая вада.* Малахоўцы Бар. *Вада выцекае з вядра.* Дзяніскавічы Ганц. *Вытікае вода з выдра.* Сіманавічы Драг.

ВЫ'ЦЕПЛІЦЬ *зак.* Выпаліць. *Нада печ выцепліць. Печку выцепліла, усунула сушыць вайлакі.* Кураполле Паст. *Мы самі выцяплім печ.* Магуны Паст.

ВЫ'ЦЕРАБІЦЬ *зак.* Ачысціць ад хмызняку, высечы. *У лядах сеюць, як выцерабюць, уздзяруць і пасеюць.* Валынцы В.-Дзв.

ВЫ'ЦЕРАПКА *ж.* Поле на месцы выцерабленага хмызняку. *Выцерапка, як яшчэ не арана.* Мярэцкія Глыб.

ВЫ'ЦЕРЦІ *зак.* 1. Пацерці. *За дзень баба вытра капу лёну.* Старыя Трокі Трак. *Як вытрым лён, тады трапаям.* Новыя Мацалі Варэн. 2. Вычысціць. *Трэ комін выцерці, за юшкай сажа.* Альхоўцы Лях.

ВЫ'ЦІГАНІТІ, ВЫ'ЦЫГАНЫТЫ *зак. экспр.* Выпрасіць, вымаліць. *Выціганіла од мэнэ два злоты на цукеркі.* Курашэва Чыж. *Пойду выцыганю в ёго яблык.* Сіманавічы Драг.

ВЫ'ЦІГНУЦЬ *гл.* ВЫ'ЦЯГНУЦЬ

ВЫЦІКА'ЦЬ *гл.* ВЫЦЯКА'ЦЬ

ВЫЦІНА'ЦЬ, ВЫЦІНА'ЦІ *незак.* Выводзіць голасам мелодыю, добра спяваць. *Ён добра выцінае.* Вялікія Баяры Шчуч. *Выцінаці — выводзіці песню.* Смаляніца Пруж.

ВЫЦІРА'ЦЦА *незак.* Уцірацца. *Вісіць ручнік выцірацца.* Вострава Маст.

ВЫЦІРА'ЦЬ *незак.* Абціраць. *Выцірай ногі, а то гразі нанясеш!* Груздава Паст.

ВЫЦІРА'ЧКА *ж.* Жанчына, якая трэ лён. *Выцірачкі рана кончылі, увесь лён пацёрлі.* Грыкені Вільн.

ВЫЦІСКА'ЦЬ *незак. пчал.* Аддзяляць мёд ад вашчыны. *Мы не выціскалі мёт, а ставілі ў печ, воск падымаўся наверх, а мёт — наніз, здымалі воск і вылівалі мёт.* Мярэцкія Глыб. *Выціскалі мёд клешчамі.* Азяраны Раг.

ВЫ'ЦІСНУЦЬ *зак.* Здабыць шляхам перагонкі. *Як алей выціснеш з семя, застаюцца выжымкі.* Гемзы Шальч.

ВЫ'ЦІСНЯНЫ *дзеепрым.* Выціснуты. *Бульбу таркуюць, у*

*клінку выціскаюць, бяруць ліст капусты — туды выцісняныя гэтыя бонды — і ў печ.* Жодзішкі Смарг.

ВЫ′ЦУРАЦЦА *зак.* Вырачыся. *Няўжо мяне выцураліся дзеці?* Вецярэвічы Пух.

ВЫ′ЦЫГАНЫТЫ *гл.* ВЫ′ЦІГАНІТІ

ВЫЦЬ *незак.* Выць. *Ваўкі выюць, як у іх вяселя.* Курапол-ле Паст. *Ваўкі як势 станyць выць рознымі галасамі!* Саланое Віл. *Той год сабакі з голаду вылі.* Стральцы Гродз. *Сабака выя на бяду.* Граўжышкі Ашм. ∇*Ляціць — выець, сядзіць — рыець.* Саланое Віл.

ВЫЦЮ′РАЦЬ *незак.* Сцякаць цуркoм. *Выцюрая вада з палатна.* Азяраны Раг.

ВЫЦЯ′ГАВАЦЬ I, ВЫЦЯ′ГІВАЦЬ *незак.* 1. Даставаць, выцягваць. *Рукі баляць, не магу выцягаваць ваду.* Жодзішкі Смарг. 2. *перан.* Знясільваць. *Ён выцягіваіць сілы такі павук* [благі муж]. Саланое Віл.

ВЫЦЯ′ГАВАЦЬ II *незак.* Браць пачатак, выцякаць. *Рака Друйка выцягаваіць з нашага возіра.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫЦЯ′ГАЦЦА *незак.* Падаўжацца, выцягвацца. *Клёш выцягаецца.* Мсцібава Ваўк.

ВЫЦЯ′ГА′ЦЬ *незак.* Выцягваць. *Круком лён з ямы выця́гаяць.* Магуны Паст. *Трэба, кап памох аполкі выця́гаць с кучы.* Вецярэвічы Пух. *Трэба выцяга́ць з воды.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ВЫЦЯ′ГІВАЦЬ *гл.* ВЫЦЯ′ГАВАЦЬ I

ВЫ′ЦЯГНЕНЫ, ВЫ′ЦЯГНЯНЫ *дзеепрым.* Выцягнуты. *Сена з вады выцягнена.* Асавец Віл. *Стаіць выцягняна капуста з печы.* Лоск Валож.

ВЫ′ЦЯГНУЦІСА *зак.* У выразе: *Выцягнуцца ў нітку* — замучыцца, схуднець. *Я выцягнуласа ў нітку, тры разы ее кармэчы.* Смаляніца Пруж.

ВЫ′ЦЯГНУЦЬ, ВЫ′ЦІГНУЦЬ *зак.* 1. Дастаць, выцягнуць. *Выцігнуў прэнт і кінуў.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Выцяць, набіць. *Дзяшкай выцягну гэтага чарта́* [хлопчыка]. Магуны Паст. ◊ *Выцягнуць з гразі* — дапамагчы пазбавіцца беднасці, галечы. *Ты меня з гразі не выцягнуў, я ў бацькоў добра жыла.* Саланое Віл.

ВЫ′ЦЯГНЯНЫ *гл.* ВЫ′ЦЯГНЕНЫ

ВЫЦЯ′ГУВАЦЬ *незак.* Выцягваць. *Палатно белім, выцягуям.* Магуны Паст.

ВЫ′ЦЯГЦІ *зак.* 1. Выцягнуць адкуль-н. *Пырнік зарос, карэння — ні выцягці.* Багушэвічы Бярэз. *Гняты́, намач* [намоклае дрэва] — *ні падняць, ні выцягці.* Азяраны Раг. 2. Выцягнуць што-н. *Кот галоўку выцях.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВЫЦЯКА′ЦЬ, ВЫЦІКА′ЦЬ *незак.* Выліваццa. *Выцякая вада з вядра.* Саланое Віл. *Вада выцікаіць.* Мішневічы Шум.

ВЫ′ЦЯНІЦЬ, ВЫЦЯНЦЕ′ЦЬ, ВЫ′ЦЯНЦІЦЬ *зак.* Зра-

біцца тонкім, кволым, змарнець (пра расліны). *Выцянілі ў траве буракі.* Магуны Паст. *Выцянцела бульба.* Старыя Трокі Трак. *Выцянціла морхва ў траве, ценькая зрабілася.* Малькуны Ігн.

ВЫЦЯНЯ'ЦЦА *незак.* Расці кволым, выцягвацца ўверх. *Як выцяняіцца бурак — росту няма.* Жодзішкі Смарг.

ВЫЦЯНЯ'ЦЬ *незак.* Рабіцца тонкім, кволым, марнець. *Шчырэіць бурачок, як яго не прапаліш, як выцяняіць.* Жодзішкі Смарг.

ВЫ'ЦЯРАБНІК *м.* Расцяроб. *Выцярабнік гаралі і сеялі.* Жылі Іўеў.

ВЫ'ЦЯЦЦА, ВЫ'ТЯТЫСЬ *зак.* Ударыцца. *Мой гаспадар умёр з галавы — ён недзе ўпаў і выцяўся.* Дакудава Лід. *Выцяўся вухам. Выцяўся косцяю — каля касці баліць.* Міратычы Карэл. *Я некалі бегла з гуліцы і ўпала з бервы — моцно выцялася.* Дзяніскавічы Ганц. *Дзіця выцялосё.* Малахоўцы Бар. *Вытявся об стыл.* Сіманавічы Драг.

ВЫ'ЦЯЦЬ, ВЫ'ТЯТЫ *зак.* 1. Ударыць, пашкодзіць што-н. *Ношку выцяў.* Міратычы Карэл. *Выцяла галаву.* Нізок Уздз. *Ногу выцяў.* Пасека Ст.-Дар. *Вытяв ногу об колысо.* Сіманавічы Драг. 2. Набіць, ударыць. *Ён выцяў дзіця.* Дакудава Лід. *Я яму добра выцяў дзяшкай.* Рыбчына Віл. *Хацеў выцяць нажэм.* Дзяніскавічы Ганц. *Дытыну вытяла по руці.* Сіманавічы Драг. 3. Пашкодзіць маланкай. *Гром выцяў — і схне ліпа. І ў хату бывае вытне гром.* Дзяніскавічы Ганц. *Пярун выцяў.* Малахоўцы Бар. *Яго выцяў гром.* Альхоўцы Лях. ◇ *Палец аб палец не выцяць* — гультаяваць. *Толькі гуляць — паляц ап паляц не выцяў.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* польск. *wyciąć* 'выразаць, высечы'.

ВЫ'ЦЯЧЫ *зак.* Тое ж, што і в ы ц я н і ц ь. *У траве буракі выцяклі.* Жылі Іўеў.

ВЫ'ЧАВІТІ *зак.* Выціснуць. *Вычайлю сыра пыд камэнь, сыроватка тэчэ.* Азарычы Пін.

ВЫЧАПЛЯ'ЦЬ *незак.* Нанізваць. *Налавіў рыбы і вычапляя на нітку.* Стральцы Гродз.

ВЫ'ЧАРГАЦЦА *зак. экспр.* Ачуняць, паправіцца. *Яна так патравілася смаршкамі, што ледва вычаргалася.* Кіралі Шчуч.

ВЫ'ЧАСКІ толькі *мн.* Пачаскі. *Вычаскі з другой шчэткі атходзілі.* Кураполле Паст.

ВЫ'ЧАЎКІ толькі *мн.* Цвёрдыя рэшткі, зерне ад ягад. Азарычы Пін.

ВЫ'ЧАЎРАЦЬ *зак. экспр.* Схуднець, зачахнуць. *Як захварэе на сухоты — так вычаўрая, чэзня і памірая.* Граўжышкі Ашм.

ВЫЧВАРА'ЦЬ *незак. экспр.* Гатаваць вытанчаную страву. *Маці вычварае-вычварае, а яна не есць.* Галубы Маст.

ВЫ'ЧВАРЫЦЬ *зак. экспр.* Зрабіць што-н. непрыстойнае. *Каб вы ведалі, што ён вычварыў на сяле!* Міратычы Карэл.

ВЫЧОРКЫ' *гл.* ВЕЧАРКІ'

ВЫ'ЧУХАЦЦА *зак. экспр.* Ачуняць, паправіцца. *Трудна вычухацца хвораму чалавеку.* Каўняны Гродз. *Ледзве вычухалася ад хваробы.* Пацаўшчына Дзятл.

ВЫ'ЧЫНІЦЬ *зак.* Выпатрашыць. *Трэба вычыніць нутро з рыбы.* Азяраны Раг.

ВЫЧЫНЯ'ЦЬ, ВЫЧЫНЯ'ТЫ, ВЫЧЫНЯ'ТЭ *незак.* 1. Ачышчаць, абмятаць абмалочанае збожжа ад каласкоў, дробнай саломы і інш. *Бывала казалі — пайду жыта вычыню. Вычыняюць венікам бярозавым, выганя каласэ, уместа змяце. Як добра вычыняюць, тады чыста жыта і добра веяць.* Кірылі Шчуч. *Як на таку малоцяць, то выграбуць салому і вычыняюць венікам ці мяцёлкаю. Мяцёлку с травы зробяць, і яна служыць. Перш вычыняюць, тады звіюць, а потым патсяваюць.* Міратычы Карэл. *Мятлою вычыняюць.* Мсцібава Ваўк. *Зверху каласкі мятлой вычыняюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як змолотят копу, то вычыняе — очышчае от соломы, колосья.* Горск Бяроз. *Як змолотэлэ, трэба вычынятэ — колостья отдэляты от жэта.* Дзмітравічы Кам. 2. Высякаць хмызнякі. *Буду сенакос вычыняць, галлё вычыняць, сенакос зарос, кусты.* Рыбчына Віл.

ВЫЧЭ'СВАЦЬ, ВЫЧЭ'СУВАЦЬ *незак.* 1. Ачышчаць валакно ад пакулля. *На шчотку лён вычэсуя, кап ні аднэй пакулькі ні было.* Быстрыца Астр. 2. Выгаблёўваць. *Палазы ёсць загінаюць, а ёсць вычэсваюць.* Чычалі Швянч.

ВЫ'ШАПТАЦЦА *зак.* Выпетраць, высахнуць. *Уся цыбуля вышапталася — мягкая, пустая зрабілася.* Гемзы Шальч. *Вышапталася цыбуля.* Магуны Паст. *Вышапталася ўся цыбуля, на печы вісела.* Саланое Віл.

ВЫ'ШАПТАЦЬ *зак. экспр.* Страціць сілы, састарэць. *Чакаю пэнсію, бо ўжо вышаптала.* Старыя Трокі Трак.

ВЫ'ШАРАВАЦЬ *зак.* Чыста вымыць, вычысціць. *Вышаравала чыгункі.* Лоск Валож.

ВЫ'ШКІ, ВЫ'ШКЫ толькі *мн.* 1. Седала. *У курніку вышкі, куры пашлі на вышкі. Жэрдзя паложана, і куры садзяцца на вышкі.* Ліпнікі Вільн. 2. Насціл пад страхой з дошчак ці бярвенняў. *На бáлячкі насцілаюць жэрдкі і называюць вышкі. На вышкі клалі ячмень, каб мышы ня елі.* Гемзы Шальч. *На вышках у гумне.* Чычалі Швянч. *У хаце — столь, а ў хлеве — вышкі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *В хаты — стэля, а в коморы, в сінюх, в клуні, в хлыві — вышкы. Вышкы быльшу чясьць з жырдэй, алэ можуть буты і з дошчок.* Сіманавічы Драг. *Змолотілі збуожэ і солому на вышкі поносілі.* Курашэва Чыж. ▽ *Быг вышкы змітае* — пра апошні снег. Сіманавічы Драг.

ВЫ'ШКРАБЦІ *зак.* Выскрабці. *Яна вышкрабе дзежачку,*

*кап чыстая была.* Вецярэвічы Пух. *Дайней рэдка мылі падлогу, толькі к святу вышкрабеш хату лапатай.* Азяраны Раг.

ВЫ́ШКУРАЦЬ *зак. экспр.* 1. Дамагчыся чаго-н. *Што ты з мяне вышкураеш? — Я старая, слабая. Нічога ты з яго не вышкураеш з етага агарода — усё прападзе.* Вецярэвічы Пух. 2. Справіцца, здужаць. *З мушчынамі не вышкурае адна мама.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЫ́ШКЫ *гл.* ВЫ́ШКІ

ВЫ́ШЛІХТУВАЦЬ *зак.* Вычысціць, зняць слізь. *Кішкі вышліхтуям, каб былі ценянькія.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *szlichta* 'крухмал', *szlichtować* 'крухмаліць', ням. *Schlichte* 'шліхта'.

ВЫ́ШЛЯМАВАЦЬ *зак.* Вымесці, вычысціць. *Я сваю гуліцу вышлямавай, усё скідай у гароччык.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *szlamować* 'чысціць', ням. *Schlamm* 'гразь'.

ВЫ́ШМАРГАЦЬ *зак.* Выціснуць. *Як п'яўкі ставілі, грубая п'яўка, з яе выцясня кроў, вышмаргая гэту кроў, кроў выдзя.* Старыя Смільгіні Воран.

ВЫ́ШМУРУВАЦЬ *зак.* Памазаць. *Малісай вышмурувай рукі і пашоў падбіраць пчол.* Жылі Іўеў.

ВЫ́ШОРЫТІ *зак.* Знасіць. *Малы двое нагавіць за вэсну вышорыв.* Курашэва Чыж.

ВЫ́ШПАРЫТІ *зак.* Моцна пабіць, высцебаць. *Чоловіек жуонку вышпарыв.* Курашэва Чыж.

ВЫ́ШТАРЫЦЬ *зак. экспр.* Выгнаць. *Ты Надзю выштарыла?* Вецярэвічы Пух.

ВЫ́ШТУПАЦЬ *зак.* Выштабнаваць. *Мая мама іголкай выштупала манішку, добра штупувала.* Валынцы В.-Дзв.

ВЫШЧАЛУ́КАВАЦЬ *незак.* Вылузваць. *Буду вышчалукаваць фасоль.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ВЫШЧАРА́ЦЦА *незак.* Выскаляцца. *Ён вышчараецца на мяне, клыкі ўсцяш прадае* [паказвае]. *Ні вышчарайся ты!* Лоск Валож.

ВЫ́ШЧАРЫЦЦА *зак.* Выскаліцца. *Сабака вышчарыўся.* Быстрыца Астр.

ВЫ́ШЧЫКНУЦЬ *зак.* Нарваць, адшчыкнуць. *Пайдзі вышчыкні цыбулі!* Малахоўцы Бар. *Трава ліпучая, вышчыкніця!* Бакшты Іўеў.

ВЫ́ШЧЫМЫ толькі *мн.* Жамерыны. *Вышчымы застаюцца ад кісяля.* Гемзы Шальч.

ВЫ́ШЧЫПНУЦЬ, ВЫ́ШЧЫПНУТЫ *зак.* Сарваць, адшчыкнуць. *Вышчыпні мне арэх!* Старыя Смільгіні Воран. *Дзіця вышчыпне яблыка. Вышчыпнуў кветку.* Паляцкішкі Воран. *Вышчыпнула вішню* [плод]. Талейкі Швянч. *Вышчыпнув цыбулыну* [пра ліст]. Сіманавічы Драг.

ВЫ́ШЧЫРАЦЦА *зак. перан.* Паказацца з-за хмары. *Сонца вышчыралася — ясна стала.* Бакшты Іўеў.

ВЫШЧЯ'ТЫ *гл.* ВІШЧА'ЦЬ

ВЫ'ШШЫ *прым. выш.* Вышэйшы. *Заднія калёсы вышшыя.* Чычалі Швянч. *Там вышшо место — гэто грудок.* Малахоўцы Бар.

ВЫ'ШЫКАЦЬ *зак.* Тое ж, што і в ы́ с я к а ц ь. *Вышыкай носа!* Пасека Ст.-Дар.

ВЫШЫНЯ', ВЫШЫНА' *ж.* Вышыня. *От навашаваўся: вышыня, трудна падымаць.* Гемзы Шальч. *Ведама, такая вышына!* Вязынка Маладз.

ВЫШЭ'Й *прысл.* Вышэй. *Яны будавалі званіцу вышэй касцёла.* Грыкені Вільн.

ВЫШЯ'Р *гл.* ВІША'Р

ВЫЯГДЖА'ЦЬ *незак.* Выязджаць. *Я выягджала да сына.* Кураполле Паст.

ВЫЯДА'ЦЬ I *незак.* З'ядаць. *Чорны сабака прыбягае і выядая ў нашага ўсю яду.* Паляцкішкі Воран.

ВЫЯДА'ЦЬ II *незак.* 1. Выбельваць. *Раса выядая суравізну.* Дакудава Лід. 2. Пашкоджваць. *Дым вочы выядае.* Номікі Бабіц.

ВЫ'ЯСНІЦЦА *зак.* Праясніцца. *Выяснілася сонца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЫ'ЯСТ *м.* Выезд. *Упранш на выяст: хамут і шлеі, патсядзёлак, узда.* Быстрыца Астр.

ВЭ'ДЛЕ *прыназ.* з *род.* Па. *Вэдле старасці яшчэ была п жыўшы.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *wedle* 'каля'.

ВЭ'ДЛУГ, ВЭ'ДЛУК, ВЭ'ДЛУХ *прыназ.* з *род., прысл.* 1. Дзеля, для. *Ты хаця вэдлуг людзей рабі, як трэба. Магла п мець пара курэй вэдлуг яечак.* Гемзы Шальч. *Вэдлуг мяне, то можаш туды ехаць.* Пацаўшчына Дзятл. *Вэдлух саміх.* Дакудава Лід. 2. Каля. *Еслі вэдлуг таліі, то можна зашыць.* Мсцібава Ваўк. 3. У параўнанні з кім-н., чым-н. *Вэдлуг людзей ён больш зарабляў.* Кураполле Паст. *Вэдлуг гарацкое жызні ў дзярэўню прыехаці — зусім іначэ.* Вялікі Краснік Пруж. *Вэдлуг мяне яна горшая.* Галубы Маст. *Сёня вэдлуг учарашняга залаты дзень.* Мсцібава Ваўк. *Вэдлук літюшного року тыпэр ліпшэ жыто.* Сіманавічы Драг. *Вэдлух цяперашняга свету нічога нявестка.* Кураполле Паст. 4. Да каго-н. *Ён шафёрам робіць, то вэдлуг яе не падходзіць — яна ставіць сябе вышы.* Мсцібава Ваўк. 5. Адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі. *І стыдаюся вэдлуг усіх.* Быстрыца Астр. 6. Паводле. *Вэдлуг ёго слоў.* Горск Бяроз. *Вэдлук таго.* Беняконі Воран. 7. Адпаведна. *Шнюрочак ў зопцы вэдлуг конскай галавы можа быць длушшы і карочшы.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *według* 'па, у адпаведнасці'.

ВЭЗА'ТІСЕ *незак.* 1. Завязвацца (пра завязь пладоў). *Картохлі зацвілі і началі вэзатісе.* Курашэва Чыж. 2. Не даваць спакою, дакучаць. *Чэго ты до мэнэ вэжэсе?* Курашэва

Чыж. 3. *перан.* Звязвацца з кім-н. *Чого тая Манька з жонатым чоловіеком вэжэце.* Курашэва Чыж.

ВЭ′ЗГАЦЦА *незак.* Пэцкацца. *Паваліцца на пясок, вэзгаіцца — што за рабёнак!* Гемзы Шальч.

ВЭЗУ′К *м.* Вузкі раменьчык у цэпе, якім прывязваюць біч да цапільна. *Вэзук порвавсе і біяк от ціпільна одлетіев.* Курашэва Чыж.

ВЭ′КНУТІ *зак.* Панесці пакаранне. *Вуон шчэ за свое вэкнэ.* Курашэва Чыж.

ВЭЛІ′ЗНЫ *гл.* ВЯЛІ′ЗНЫ

ВЭ′ЛНА *ж.* 1. Воўна. *Вэлны купіла.* Груздава Паст. 2. Шарсцяная матэрыя. *Сукенак наспраўляла, накупляла вэлны.* Груздава Паст.; *параўн.* польск. *wełna* 'воўна'.

ВЭ′ЛЮМ, ВЭ′ЛІН, ВЭ′ЛЯН, ВЭ′ЛЯНТ *м.* Вуаль. *Вэлюм маладой куплялі.* Паляцкішкі Воран. *Вэлін і цвяты куплялі.* Мярэцкія Глыб. *Вэлян маладой надзявалі на галаву.* Ракаўскія Швянч. *Будам гуляць вяселля, вэлян бальшы дасталі, стройна будзя.* Рудня Астравітая Чэрв. *Замарала сваю апенію — ні вэлянта, ні светкі ні было, калі замуш ішла.* Дакудава Лід.; *параўн.* польск. *welon* 'тж'.

ВЭН, ВЭНЬ *часц.* Вунь. *Вэн травой усё зарасло, замуражэла.* Ухвала Круп. *Вэн мае коні ходзяць.* Азяраны Раг. *Вэнь чалавек пашоў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ВЭ′НГАР, ВЭ′НГЭР *м.* 1. Лекар. *Вэнгарам называлі чалавека, які насіў лякарства.* Дакудава Лід. 2. Кастратар. *Вэнгэр кэдысь лэшав коны, бараны.* Відзібар Стол.; *параўн.* польск. *węgerz*, літ. *veñgras* 'тж'.

ВЭ′НГЛІ *мн.* Вуголле. *Найлепей вэнглі ў самавар.* Кемялішкі Астр.; *параўн.* польск. *węgiel* 'вугаль'.

ВЭНГО′Ш *м. заал.* Тое ж, што і в а н г о́ р. *Вэнгош у гарох ходзіць.* Сапоцкіна Гродз.

ВЭ′НДЖАНЫ, ВАНДЖО′НЫ, ВАНДЗО′НЫ, ВЭНДЗО′НЫ *прым.* Вэнджаны. *Кумпяк вэ́нджаны.* Магуны Паст., Дакудава Лід. *Вэ́нджаная мяса.* Дзяніскавічы Ганц. *Шыначка вэ́нджаная.* Мсцібава Ваўк. *Наша скварка вэ́нджаная.* Гемзы Шальч. *Вэндліна ванджо́ная.* Жодзішкі Смарг. *Ванджо́ная ёсць сала ў мяне.* Саланое Віл. *Вандзо́на мяса.* Быстрыца Астр. *Вандзо́ны кумпяк.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *У яе каморы вісіць кумпяк вэндзо́ны.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* польск. *wędzony* 'тж'.

ВЭ′НДЗА, ВЭ′НЗА *ж.* Вашчына. *Вэндза прыстыгня і збіраюць зверху.* Старыя Смільгіні Воран. *Ёсць штучная вэнза.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *węza* 'тж'.

ВЭ′НДЗАЦЦА *незак. перан.* Корпацца, марудна рабіць. *Вэндзаімся ў хаці патроху.* Жодзішкі Смарг.

ВЭ′НДЗЕ *прысл.* Вунь дзе. *Вэндзе ляжыць хустка.* Азяраны Раг.

ВЭ´НДЗІЦЬ, ВА´НДЗІЦЬ *незак.* Акурваць дымам. *Мы вэндзім мяса. Як лапкамі вэндзіш, мяса не капціцца, а жарыцца.* Рагулішкі Даўг. *Слаціну, кумпяк вэндзілі ў лазні.* Ракаўскія Швянч. *Вэндліну вэндзяць у вэндлярні.* Жодзішкі Смарг. *Кумпяк вэндзяць. Мы вэндзілі ўсягда.* Дакудава Лід. *Кумпякі соляць і вэндзяць. Мы вэндзім каля печы.* Старыя Трокі Трак. *Кумпякі і кілбасы ціперыка вэндзяць елаўцом. І гэтым дымам яны капцяцца.* Альхоўка Навагр. *Харошая мяса вэндзяць.* Ліпнікі Вільн. *Слаціну вэндзяць.* Гемзы Шальч. *Вэндзілі слаціну.* Быстрыца Астр. *Вэндзяць кумпяк у вэнджарні.* Старыя Смільгіні Воран. *Вэндзяць сцягно, каўбасы.* Дзяніскавічы Ганц. *Будзем вэндзіць.* Пасека Ст.-Дар. *Будзім калбасу вандзіць.* Кураполле Паст. *Вандзілі шынку.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* польск. *wędzić* 'тж'.

ВЭНДЛІ´НА *ж.* Вяндліна. *Вэндліну вэндзяць.* Жодзішкі Смарг., Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *wędlina* 'тж'.

ВЭ´НДЛЯР *м.* Вяндляр. *Паеду к вэндляру, трэба вэндзіць кумпякі.* Беняконі Воран.

ВЭ´НЗА *гл.* ВЭ´НДЗА

ВЭ´НСУС *м. асудж.* Валацуга. *Вэнсус ты!* Ністанішкі Смарг.; *парайн.* польск. *пал. węszyć* 'ісці па слядах'.

ВЭ´НТКА *ж. рыб.* Вуда. *Вэнтка мая зламалася, рыба велька папалася.* Старыя Трокі Трак., Галоўні Воран.; *парайн.* польск. *wędka* 'тж'.

ВЭНТРО´БА *гл.* ВАНТРО´БА

ВЭНЬ *гл.* ВЭН

ВЭ´ПАЛАЦЬ *зак.* Апалоць. *Яна вэпалала жыта.* Стральцы Гродз.

ВЭ´РЗАЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнае, несці лухту. *Яна вэрзая абы-што.* Вецярэвічы Пух.

ВЭРНУ´ТІ I *гл.* ВЯРНУ´ЦЬ I

ВЭРНУ´ТІ II *гл.* ВЯРНУ´ЦЬ II

ВЭРНУ´ТІСЕ *гл.* ВЯРНУ´ЦЦА I

ВЭ´РСАЦЬ *незак.* 1. Нанізваць. *Грыбы сушыць і вэрсаіць на маткі.* Ёдлавічы Брасл. 2. Шнураваць абутак. *Тата вучыў, як вэрсаць хадачкі, як крыжаваць вяровачкі. Нада хадачкі вэрсаць.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* літ. *várstyti* 'тж'.

ВЭРТЁХА *ж.* Вітушка для намотвання нітак. *Раньшэ вэртёхі нэ було, на клубка моталі ныткі.* Горск Бяроз.; *гл.* в і т у́ х а.

ВЭ´РТКЫЙ *гл.* ВЁРТКІ

ВЭ´РТЭХА, ВЭ´РТЮХА, ВЭ´РТЯГА *ж.* Цёрла. *Найлепі мак в вэртэсі вэртіеті. Ціелу вэртэху товканіці ззіелі.* Курашэва Чыж. *Вэртюха — гліняна мыска.* Дзмітравічы Кам. *Колысь в вэртязы мак тэрлы.* Сіманавічы Драг.

ВЭРФАВА´ТЫ *прым.* Ашчацінены, натапыраны. *Вэрфаваты — калі шэрсць стаіць.* Ракаўскія Швянч.

ВЭРХОВУО'ДКА *ж.* Верхавая вада. *В колодэць вэрховуодка набіегла по дошчові.* Курашэва Чыж.

ВЭРЭ'ТЭЯ *гл.* ВЕРАЦЯ'

ВЭ'САЛА, ВЯСО'ЛА *прысл.* Весела. *У нас было дванасця чалавек, і як было вэсала.* Крэва Смарг. *Ну і вясола было на вечарушках!* Ракаўскія Швянч.

ВЭСІЕ'ЛЬНІК *м.* Удзельнік вяселля. *Всіе вэсіельнікі ўжэ поросходілісе додому, а вуон шчэ остався.* Курашэва Чыж.

ВЭСЭЛУ'ХА *ж.* Вясёлка. *Вэсэлуха на нэбі.* Смаляніца Пруж.

ВЭСЭ'ЛЬЕ *гл.* ВЯСЕ'ЛЛЯ

ВЭЧА'ТІ *незак.* Невыразна выкрыкваць. *Упівсе, як свіня, лежыт і вэчыт.* Курашэва Чыж.

ВЭ'ЧУР *м.* Вечар. *Вэчур прышов, а ёго шчэ нэма.* Курашэва Чыж.

ВЭЧУРКІ' толькі *мн.* Тое ж, што і в е ч а р ы́ н а II. *Зімою хлопці і дівчынята ідут на вэчуркі.* Курашэва Чыж.

В'Ю'ГА *ж.* Завея, завіруха. *В'юга знялася тут, як палезлі ў пячары.* Старыя Трокі Трак. *Такая в'юга, што собакі на двуор нэ выжэнэш.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *вьюга* 'тж'.

В'ЮН *гл.* ВІЮ'Н

ВІЮ'РКІ *мн.* Трэскі. *Вюркі — як сячэш сякерай.* Каўняны Гродз.

В'Ю'ТНО *прысл.* Утульна. *У вас у хаті так в'ютно.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *уютно* 'тж'.

В'Ю'ШКА *ж.* Тое ж, што і в э р т ё х а. *В'юшка — чатыры палачкі, на яе навіваюць ніткі.* Індра Красл.

ВЯ'ГАЛ, ВЯ'ГУЛ, ВЯ'ГЯЛ *м.*, ВЯ'ГАЛА, ВЯ'ГЕЛА, ВЯ'ГЯЛА *ж. заал.* Мянтуз. *У нас называюць вягал і вягул. Вягулы без лускі, пахожы на вугра, яны ў норах, пад каменнямі, галава на лягушку пахожа, печань шырокая, кожа знімаецца.* Мярэцкія Глыб. *Вягал зімою нарастуіць і лезіць у нараты. Вягялы мяхкія, скабы тонкія, ні каслівая рыба. У вягяла печань вялікі. Вягала глаткая, як піскун. Вягела — гэта налім.* Кураполле Паст. *Вягялы, у іх галава, як у жабы.* Груздава Паст. *У вягелы галава таўстая, харошая рыба.* Ракаўскія Швянч. *Вягялы на азярах.* Малькуны Ігн. *Мянтус у нас называецца вягяла.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *vėgėlė̃ 'тж'* (ЛТ, 172).

ВЯ'ГАЛКА *ж. памянш.* да в я́ г а л. *Вягалка — у яе галава велікаватая.* Кураполле Паст.

ВЯ'ГАЦЬ *незак.* Ванітаваць. *Ён вягаіць і вягаіць, як ездзіць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *viáukčioti, vegsė̃ti* 'тж'.

ВЯДЗЕ'РКА, ВЯДЗЁРКА, ВЯДЭ'РКА *н. памянш.* да в я д р ó. *Вядзерка цячэ.* Парэчча Гродз. *Вядзёрка было ягат, зварыла пяць літраў.* Лісна В.-Дзв. *Яна лэп гэта вядзёрка.* Саланое Віл. *Пайду па вядэрка, трэба попел выбраць.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *wiaderko* 'тж'.

ВЯДЗЁРНІК *м.* Чыгун аб'ёмам у адно вядро. *Дайней крупені наварацъ вядзёрнік.* Лісна В.-Дзв.

ВЯДЗМЕ'ДЗІЦА *ж. астр.* Вялікая Мядзведзіца. *Па Вядзмедзіцы мы зойдзям дадому.* Бакшты Іўеў.

ВЯДЗМЕ'ЦЬ I, ВЯДЗМЕ'ДЗЬ *м.* Мядзведзь. *Вядзмецъ тут хадзіў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ні за намі вадзілі вядзмедзя. Тады лясы былі, відзмядзі хадзілі.* Саланое Віл.

ВЯДЗМЕ'ЦЬ II *м. кулін.* Бабка. *Надзяром бульбы, спячэм сала, зальецца ў міску ці саган — і гэта вядзмецъ, а цяпер — драная каша.* Саланое Віл.

ВЯДЗЬМА'К *м. міф.* Чараўнік. *Цяпер і вядзьмакоў німа. Гаварылі дайно: «Вядзьмак заламіў — нешта плоха будзя».* Вязынка Маладз. *Вядзьмак гэты табе ўсё падробіць, што захоча.* Глівін Барыс. *Вядзьмак — чарадзей.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вядзьмак падрабіў.* Лапічы Асіп. *Вядзьмак тут быў.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЯДЗЬМА'Р, ВЯДЗЬМЯ'Р *м. міф.* Тое ж, што і в я д з ь м á к. *Вядзьмар быў чорны, ён зробіць, што будзя чалавек хварэць, а дасць зелля — і ачуняе.* Альхоўцы Лях. *Вядзьмар — махляр.* Альхоўка Навагр. *Вядзьмяр мох зрабіць і адрабіць. Вядзьмяр заламку мох зрабіць.* Малахоўцы Бар.

ВЯДЗЬМА'РКА *ж. міф.* Чараўніца. *Вядзьмарка калдавала.* Альхоўка Навагр. *На яе кажуць, што яна вядзьмарка нека.* Навасёлкі Свісл.

ВЯДЗЬМА'ЧКА *ж. міф.* Тое ж, што і в я д з ь м á р к а. *Вядзьмачка была.* Лапічы Асіп.

ВЯДРАНЕ'Ц *м. заал.* Божая кароўка. ∇ *Вядранец-вядранец, у каторым боку мой маладзец?* Вялікія Баяры Шчуч.

ВЯДРО' *н.* Вядро. *Вядро працякая.* Рыбчына Віл. *У вядрох вада стаіць.* Кемялішкі Астр. *Карова дзве вядрэ цёплай вады выпіла.* Мсцібава Ваўк. *Па дзве вядрэ малака прыносіла.* Вецярэвічы Пух.

ВЯДРО'НКА *ж. заал.* Тое ж, што і в я д р а н é ц. ∇ *Вядронка-вядронка, скажы-скажы, у каторым боку мая жонка?* Вялікія Баяры Шчуч.

ВЯДРО'НЫ *прым.* Буйны. *Яблыкі будуць вядроныя. Вішні вядроныя.* Старое Сяло Зэльв. *Гарэхі былі вядроныя.* Альхоўка Навагр. *А ягады сёлета такія вядроныя-вядроныя.* Котчына Маст.

ВЯДЭ'РКО *гл.* ВЯДЗЕ'РКА

ВЯЖА'ЦІНЫ *мн.* Жэрдкі, да якіх прымацоўваюцца планкі ў драбінах воза. *Трэба схадзіць у лес і вырубаць жэрткі — зрабіць вяжаціны для драбін воза. Дзве вяжаціны: верхняя і сподняя.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *vežčios* 'драбіны'.

ВЯЗ, ВЯС *м.*, ВЯЗЬ *ж.*, ВЯЗЫ′, ВЯЗЭ′, ВЯ′ЗІ *мн.* Вяз у санях. *Ёсць вязы такія. Вяс захілаваецца кругом капыла.* Чычалі Швянч. *Вязэ саядзяняюць палазэ.* Малахоўцы Бар. *Як дзеці важыняліся, то вязь парвалася.* Перавознікі Астр. *Вязі звязваюць капылы.* Быстрыца Астр. *Вязь трэба ў санках, кап іх связаць.* Шумск Вільн.

ВЯ′ЗА′НКА *ж.* 1. Вялікі сноп льняной трасты. *Вя́занка лёну.* Семежава Кап. *Лён слалі, а тады сабіралі ў вяза́нкі, ставілі ў кучкі або пат страху.* Альхоўцы Лях. 2. Ахапак сена. Рыбчына Віл. 3. Нізка рыбы. *Налавіў і панёс вялікую вяза́нку рыбы.* Гемзы Шальч.

ВЯЗА′ЦЬ, ВІЗА′ЦЬ, В’ЯЗА′ТЫ *незак.* 1. Звязваць сноп. *Снапы вязалі.* Відаўцішкі Вільн. *Лён у снапок вязалі.* Грыкені Вільн. *В’яжут снопэ.* Дзмітравічы Кам. 2. Плесці цыбулю. *Сучыш ніткі і цыбулю вяжыш.* Кураполле Паст. 3. Вязаць шыдэлкам. *Візала я кружава і ўсё рабіла.* Саланое Віл. ◇ *Ціпы в’яза́ты* — сварыцца. *Вжэ сьвёкрів з нывісткыю на дворі ціпы в’яжуть.* Сіманавічы Драг.

ВЯ′ЗЕЛЬ *м. бат.* Дзяцеліна. *У траве зелячко расце, называецца вязель, бы сцелецца і цвіце беленькім, дробныя лісточкі і паміж землю расцілаецца.* Дзяніскавічы Ганц. *Вязель медовы красны і белы, у каждай трубке мёд.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ВЯ′ЗІ *гл.* ВЯЗ

ВЯ′ЗІНА *ж. бат.* Вяз. *Вязіну ветрам паламала.* Пацаўшчына Дзятл.

ВЯ′ЗКА, ВЯ′СКА *ж.* 1. Перавясла. *Вяскай вязалі сноп. Нада скруціць вяску.* Рагулішкі Даўг. *Круцілі вяскі с саломы ці жыта і вязалі снапы.* Ёдлавічы Брасл. 2. Вязанка. *Вялікую вяску звязаў саломы.* Гемзы Шальч. *Прынёс вяску сена карові.* Мярэцкія Глыб. 3. Ашыйнік. *З матэрыялу вяскі накладалі на шэю карове, кап не ўкралі.* Баложы Даўг. 4. Мера валакна. *Дваццаць жмень лёну чыстага — вязка.* Азяраны Раг. *Сто жменяў — вяска лёну.* Старыя Смільгіні Воран. *Гарсці лёну павязалі ў вяскі, шмат вяскаў.* Грыкені Вільн. *Вяска лёну — дваццаць пяць скруткаў.* Гемзы Шальч. *Вяска калапень.* Мярэцкія Глыб. 5. Нізка рыбы. *На борачку вязалі рыбу — вязка рыбы.* Малыя Аўцюкі Калінк. 6. Вясло лыка, лазы. *На лычыну наніжа вяртушак — вяска палучаецца.* Малахоўцы Бар.

ВЯ′ЗЛЫ *прым.* Мяккі. *Ёсць баранкі не крухавыя, а вязлыя.* Кураполле Паст.

ВЯ′ЗНІК *м.* Зараснік вязу. *Такі густы вязнік.* Рыбчына Віл.

ВЯ′ЗНІКІ *мн.* Перакладзіна ў санях, вяз. *Вязнікі трэба сагнуць, бо паламаліся.* Жыдзевічы Іўеў.

ВЯ′ЗНУЦЬ *незак.* Загразаць. *Вязнуць ногі ў гразі, аш цяжка ісці.* Саланое Віл.

ВЯЗО'ВІШЧА *н.* Тое ж, што і в я́ з н і к. *Вязовішча — дзе вяс расце.* Бакшты Іўеў.

ВЯЗЫ' I *гл.* ВЯЗ

ВЯЗЫ' II толькі *мн.* Ез. *На рэццы рабілі вязы.* Магуны Паст. *Вязы рабілі так: забівалі калы і запляталі яловымі лапкамі, пакідалі дзірку, за якой ставілі нарот* [нерат], *ён, як сетка.* Альхоўцы Навагр. *Вязы рабілі калі-та ў пана, кап рыба ні выходзіла.* Магуны Паст.

ВЯЗЬ *гл.* ВЯЗ

ВЯЗЬМО' *н.* Перавясла. *Вязьмо парвалася.* Мярэцкія Глыб. *Сноп вязьмом вязалі.* Саланое Віл. *Вязьмо скруціла.* Беразіно Докш. *Вязьмо, што сноп вяжуць.* Янова Рас. *Круцім вязьмо і вяжам кулі* [лёну] *і звозім са сцелішча.* Мішневічы Шум. *Вязьмы дзелалі снапы вязаць.* Мельнікі Лудз.

ВЯ'ЗЬЯ *зб. н.* Тое ж, што і в я́ з н і к і. *На капылы набіваюцца вязья.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЯ'ЗЯНІЦА *ж.* Сноп льну. *Лён вязалі ў вязяніцы.* Дакудава Лід.

ВЯ'ЗЯНІЧКА *ж. памянш.* да в я́ з я н і ц а. *Лён рвімо і ў вязянічкі вяжам.* Дакудава Лід.

ВЯЙНУ'ЦЬ *зак.* Павеяць. *Мая сястра пылкая была, але выйдзіць на двор, вецір вяйнець — яна ўжо харошая.* Саланое Віл.

ВЯ'КАЦЬ *незак.* Падаваць гукі пры пазыве на рвоту. *Вякаіць кот, гані вон!* Валынцы В.-Дзв. *Баба вякая, ужэ рыгаць будзе. Кот вякая, гані с хаты!* Кіралі Шчуч. *Ні вякай, еш!* Стральцы Гродз.; *парайн.* літ. *viáukčioti, vegsė́ti* 'тж'.

ВЯКО'ВЫ *прым.* Векавы. *Вяковыя дзярэўя, непрахадзімы лес у Нарышніцы.* Беразіно Докш.

ВЯ'ЛЕНЫ *прым.* Падсушаны на ветры. *Есці можна і паскваранак і вяленае сала.* Чычалі Швянч.

ВЯЛІЗА'РНЫ *прым.* Велізарны. *Вялізарны кныр.* Багушэвічы Бярэз. *Трусы вялізарныя выраслі.* Альхоўцы Лях.

ВЯЛІ'ЗНЫ, ВЯЛЁЗНЫ, ВЫЛЫ'ЗНЫЙ, ВЭЛІ'ЗНЫ *прым.* Вельмі вялікі па аб'ёму, па тэрыторыі. *Там вялізнае возера Вінпоя, аш пад Бронкішкі. Вялізная свіня.* Грыкені Вільн. *Пайду вашаваць вялёзныя каменя.* Вострава Маст. *Вылызна хата, й клуня вылызна.* Сіманавічы Драг. *Вэлізна галава.* Ялова Пруж.

ВЯЛІ'КАДНЯ, ВЯЛІ'КАННЯ *н. рэліг.* Вялікдзень. *Дайней к вялікадню пяклі пірагі, пут мукі ішло.* Кураполле Паст. *Вялікання спраўлялі.* Мярэцкія Глыб.

ВЯЛІ'КАЯ МА'СЛА *н.* Рыхлае, вадкае масла. *Вялікая масла бывая з цёплай перакішшай смятаны, і як б'юць у цёплы дзень, нада ўліць сцюдзёнай вады.* Груздава Паст. *Вялікая масла ня б'ецца.* Кураполле Паст. *Вялікая масла —*

*дрэнная, рэдкая, ад маслёнкі не аддзяляецца.* Старыя Трокі Трак.

ВЯЛІ'КІ, ВЫЛІ'КЫЙ *прым.* 1. Значны па памеру, вялікі. *Вялікі дом быў, вялікая хата ў іх.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Вялікая хустка.* Грыкені Вільн. *Вяліка міска.* Дзяніскавічы Ганц. *Вялікі кусок сала ўзяў.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Вялікі па колькасці. *Вялікая сям'я была.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Рослы, высокі. *Ужо быў вялікі — гадоў восемнаццаць.* Кураполле Паст. *Дэсэть літ хлопцёвы, а вжэ вылікый. Обыём по сім рык, алэ одын малый, а другый вылікый.* Сіманавічы Драг. 4. Доўгі. *У дзяўчат вялікія валасы.* Саланое Віл. 5. Працяглы ў часе. *Зімой вялікая ноч.* Саланое Віл. 6. Моцны, вялікай сілы (пра атмасферныя з'явы). *Вялікі дошч пойдзя — вялікая хмара насоўваецца.* Паляцкішкі Воран. *Вялікі вецяр быў.* Рыбчына Віл. *Був вылікый дошч і вылікый вітёр.* Сіманавічы Драг. 7. *перан.* Аўтарытэтны, высокапаважаны. *Ох, Пётр — апора вялікая была!* Саланое Віл. *Да нас і вялікія знаёмыя прыязджалі з міністэрства.* Кураполле Паст. ∇ *Вылікый, да галікый* — вялікі, але няўдалы. Сіманавічы Драг.; *гл.* в е́ л ь к і.

ВЯЛІ'КІ ВОС *м. астр.* Вялікая Мядзведзіца. *Вялікі Вос і Малы Вос, і дуга ёсць.* Магуны Паст.

ВЯ'ЛІЦА *ж.* і *м.* Вялы, слабы чалавек. *Вяліца ты!* Альхоўка Навагр.

ВЯ'ЛІЦЦА *незак.* Падсыхаць на ветры, на сонцы (пра рыбу, мяса). *Вялілася рыба, вяленую елі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЯ'ЛІЧНЫ *прым.* Вялікі, мажны. *Гэтая мама вялічная, для яе многа трэба яды і месца.* Граўжышкі Ашм.

ВЯНГЛІ'НА *ж.* Тое ж, што і в э н д л і́ н а. *Вянгліна ў нас яшчэ ад каляд вісіць.* Гайна Лаг.

ВЯНДЗІ'ДЛО *гл.* ВАНДЗІ'ДЛО

ВЯНЕ'Ц I *м. абрад.* Вянчанне. *Плахога чалавека і вянец ні звяжыць.* Саланое Віл.

ВЯНЕ'Ц II *м. цясл.* Вянок зруба. *Першы вянец палажылі.* Мярэцкія Глыб. *Вянец ці два заложыш.* Янова Рас. *Тры-чатыры вянца да акна ў ізрубе.* Лісна В.-Дзв. *Да трынаццаці вянцоў можа быць у зрубя.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Палажыў два вянца кругом сарая.* Пасіене Лудз.

ВЯНО'К I *м.* Вянок. *Віюць вянок с кветак.* Ністанішкі Смарг. *У нас вянок шылі са стружак, прыберуцца дзейкі.* Саланое Віл.

ВЯНО'К II *м. цясл.* Тое ж, што і в я н е́ ц II. *Як якую будыніну робяць, і калі заканчваюць работу, дык чысло вянкоў падлічаюць, вянок ставюць.* Купчэлі Брасл. *Ачэп — астатні вянок зруба.* Грыкені Вільн.

ВЯНО'К III *м.* 1. Сплеценая ў вянок цыбуля. *Вянок цыбулі.* Рыбчына Віл. *Паплялі цыбулю ў вянкі.* Гемзы Шальч. *Вян-*

*кі цыбулі вешаям бяз нічога.* Старыя Трокі Трак. *Вянкі цыбулі прадавала.* Быстрыца Астр. *Лук плялі ў вянкі.* Пасіене Лудз. 2. Нізка, маток. *Вянок лісту дубоваганазбірала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Тры вянкі лісту сабрала.* Дзяніскавічы Ганц. *Смаршке і страшке высушыла, вун вянок іх вісіць.* Пацаўшчына Дзятл.

ВЯНО'ЧАК *м. памянш.* да в я н о́ к III, 2. *Грыбы сушылі, нізалі на нітку і называлі вяночак. Вяночкаў п'яць на кілё.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЯ'НУЦЬ, В'Я'НУЦЬ *незак.* Сохнуць, засыхаць. *В'яне трава, паўяла.* Дзяніскавічы Ганц. ◇ *Сэрца вяне* — бярэ за сэрца. *Так ён слаўна граў на дуццы, што як слухаеш, дык сэрца вяне — натта жаласна граў ён.* Адамава Валож.

ВЯНЦЁРАЧКА *ж. памянш.* да в е́ н ц е р. *Вянцёрачкі адзяюцца на маленькія каблучкі, са дным крылом. Вянцёрачкі ставяцца летам.* Альхоўка Навагр.

ВЯНЦЁРКА *ж.* Невялікі венцер з адным крылом. *Венцяры з двума крыламі, а вянцёркі — са дным.* Альхоўка Навагр.; *гл.* в е́ н ц е р.

ВЯНЦЫ' *мн.* Берагі. *З вянцоў ня вышла рака, у гэтым гаду малая вада была.* Валынцы В.-Дзв.

ВЯНЧО'ЛЬНЫ *прым.* 1. Заручальны. *Вянчольны пярсцёнак насіла.* Ністанішкі Смарг. 2. Вянчаны. *Яны не вянчольныя.* Груздава Паст.

ВЯ'ПЛА *м.* і *ж. зневаж.* Дурань, разява. *Бываіць з добрага чалавека зробіцца вяпла: станіць, як вяпла, і нічога не панімаіць.* Кіралі Шчуч. *Вяпла неразумнае!* Шамялі Брасл. *Яго вяплам называюць.* Скрудалена Даўг. *Вяпла — дурак, які няўдалы чалавек.* Чычалі Швянч. *Ах ты вяпла! — скажуць, як не так што зробіць, не так што гаворыць.* Грыкені Вільн. *Вяпла ты! Вот вяпла: ідзе і паваліцца.* Ракаўскія Швянч. *Вяпла — разінькаваты чалавек. Вот вяпла, шукала і не нашла.* Магуны Паст. *Вяпла ты! — сядзіць і глядзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ідзець, як вяпла, і на ногі не глядзіць.* Кураполле Паст. *Вяпла ты!* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* літ. *vėpla* 'тж'.

ВЯПЛАВА'ТЫ *прым.* Дурнаваты. *Вяплаваты такі.* Скрудалена Даўг. *Ён вяплаваты.* Чычалі Швянч. *Відацца, што вяплаваты.* Малькуны Ігн. *У яе вяплаваты мужык.* Лісна В.-Дзв. *Тая баба вяплаватая.* Кураполле Паст. ▽ *Чэм багаты вяплаваты — лучшэ бедны развітой.* Кураполле Паст.; *гл.* в я́ п л а.

ВЯРАЎЧА'НЫ *прым.* Зроблены з вяроўкі. *Перавёсла ў вядры вяраўчаная было.* Магуны Паст. *Шлеі былі раменныя і вяраўчаныя.* Быстрыца Астр. *Былі лейцы і вяраўчаныя.* Вязынка Маладз. *Вяраўчана сыпоня.* Пасека Ст.-Дар.

ВЯРАШЧА'КА *гл.* ВЕРАШЧА'ЙКА

ВЯРБА', ВЕ'РБА, ВІРБА', БЯРБА' *ж.* Вярба. *Вярба высока высока расце. Яна высока, як вярба.* Мсцібава Ваўк.

*Высокія вербы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Вірба расцець у нас.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вірба чорная і белая.* Лісна В.-Дзв. *Бярба ля хаты расце.* Вялікія Баяры Шчуч.; *гл.* ДАБМ, карта № 188.

ВЯРБНІ'К *м.* Зараснік вярбы. *Уцікла ў вярбнік карова. Куды каня вясці? — У вярбнік вядзі.* Вецярэвічы Пух.

ВЯРБО'ВЫ *прым.* Зроблены з вярбы. *Некалі вярбовая міска была.* Рыбчына Віл. *Карзіну плятуць з вярбовых дупцоў.* Стральцы Гродз.

ВЯРГІ'НЯ, АРГІ'НЯ, ОРГІ'НЯ, ЮРГІ'НЯ *ж.* бат. Вяргіня. *Вяргіня пасохла пад мостам.* Азяраны Раг. *Аргіня расце пад вакном.* Альхоўцы Лях. *Два корчі оргіні посадыла.* Сіманавічы Драг. *Куры перат пустым канцом ядуць юргіню, боп, мо на які голат?* Рыбчына Віл. *Юргіня позно зацвітае.* Воўкуш Ліпск.

ВЯРЛАВО'КІ *гл.* ВІРЛАВО'КІ

ВЯРМО' *н.* Ярмо. *Вярмо накладалі, як валамі гаралі.* Каўняны Гродз. *Вярмо ў вала замыш хамута.* Дакудава Лід. *Некалі гаралі валамі, на валоў клалася на шыю вярмо дзеравянная — два метры даўжыні. На дном канцэ і на другом усаджаны ў вярмо дзве палачкі, каторыя закрапляліся, штобы вярмо не зваліваласа с шыі вала. Да вярма прыкраплялася саха, каторая складалася з дзеравяных прыбораў.* Альхоўкі Навагр. *Як валамі гаралі, то вярмо клалі валу на шыю.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дышаль доўгі, на дышаль накладалася вярмо, вярмо засоўвалі жалезным прэнцікам, называлі яго занос.* Альхоўцы Лях. *Вярмо на вала.* Тухавічы Лях. *Вол ні вылазіў з вярма.* Навасёлкі Свісл. *Вярмом вол звязаны.* Масілавічы Сл.

ВЯРНУ'ЦЦА I, ВЭРНУ'ТІСЕ *зак.* Прыехаць, прыйсці назад. *Ён Тройцай вярнуўся.* Саланое Віл. *Зашов пуд клуню і зноў вэрнувсе до хаты.* Курашэва Чыж.

ВЯРНУ'ЦЦА II *незак.* 1. Нахіляцца. *Страха вернецца набок.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Паварочвацца. *Конь хмыліцца, каб убрыкнуць, вернецца задам.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ВЯРНУ'ЦЬ I, ВЭРНУ'ТІ *зак.* 1. Прымусіць вярнуцца. *Толькі што бацька вышаў з хаты — ідзі вярні яго!* Кіралі Шчуч. *Я був пушов, але мэнэ вэрнулі назад.* Курашэва Чыж. 2. Аддаць доўг. *Яму вярнулі грошы. Вярнуць грошы.* Вецярэвічы Пух. *Взяв грошы і досюоль нэ вернув.* Курашэва Чыж. 3. *безас. незак.* Нудзіць. *Ката верне рваць — гані вон!* Кіралі Шчуч.

ВЯРНУ'ЦЬ II, ВЭРНУ'ТІ *экспр. незак.* 1. Араць. *Плух будзіць харашо землю вярнуць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Узрыхляць. *Калісьці вярнулі землю матыкамі.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Рыць. *Свінні зямлю вернуць.* Нізок Уздз., Беразіно Докш. 4. Варочаць сена. *Вярнулі сена, кап сохла.* Жылі Іўеў. 5. Абарочваць. *Свіня верне карыта — паднялася на гукі.* Гемзы

Шальч. 6. Вярнуць назад. *Я був пушов, але мэнэ вэрнулі з дорогі*. Курашэва Чыж.

ВЯРО'ВАЧКА *ж. памянш.* да в я р о̆ у к а. *Вяровачка матаецца. Веравачкі е.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЯРО'ТНЫ *прым.* Вельмі падобны, выліты. *Дзяўчынка — вяротны бацька, а хлопчык — вяротна маці.* Мсцібава Ваўк.

ВЯРО'ЎКА *ж.* Вяроўка. *Яна прынясла мне тоўстую вяроўку.* Саланое Віл. *Тонкая вяроўка, вяровачка. Вераўкі зацягвалі ў пасталы.* Мсцібава Ваўк. ∇ *Кап на цябе вяроўка нашла!* Дзяніскавічы Ганц.

ВЯРПЛЮЖО'К *м.* Зашчапка. *Вярплюжок жалезны заціскаць вядро, як апускаеш у студню.* Граўжышкі Ашм.

ВЯРПЯТА' *ж.* Віхор, шчацінне. *На спіне ў свіні вярпята — на сала добрая.* Старыя Смільгіні Воран..; *параўн.* літ. *verpeta* 'тж' (ЛТ, 172).

ВЯРСТА' I *ж.* Старая мера даўжыні, роўная 1,06 км. *З дзве вярстэ да той вёскі.* Пацаўшчына Дзятл. *Трэба было ісці вярстоў дванаццаць да моста.* Стральцы Гродз. *Ад нас вярстоў пяцьдзесят паехаўшы кажуць: «Дай вадэ!»* Паляцкішкі Воран.

ВЯРСТА' II, ВІРСТА' *ж.* Дровы, складзеныя ў доўгі рад. *Вярста дроў, дровы складаюць у вярсту. Мы вярсту складалі.* Рыбчына Віл. *Дровы ў вярсту склалі.* Глівін Барыс. *Дровы злажылі ў дзве вярсты. Дзве вярсты завершуецца дрыўмі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Багата вёрстаў наклала.* Пасека Ст.-Дар. *Дровы складалі ў вірсту.* Беразіно Докш.

ВЯРСТА' III *ж.* Верх страхі. *Вярста на страсе — самы вяршок, там ляжыць пажыліна.* Груздава Паст.

ВЯРСЦІ' *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнае. *Ён вярзець абы-што.* Кураполле Паст.

ВЯРТЛЮ'Х *м.* 1. Скрутак. *Круцілі лыка ў абаранку, у вяртлюх, начэплівалі на шнурок і рабілі вясла.* Рыбчына Віл. 2. Вітка. *Вяртлюх скруціць з дупцоў прывязваць салому на страсе.* Рыбчына Віл.

ВЯРТУ'ЛЬ *м.* Калатоўка. *Дзе прапаў мой вяртуль, нада бульбу памяць. Даўней гэтым вяртулём раўгеню разбівалі.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *mentùris* 'тж'.

ВЯРТУ'Х *м. заал.* Маляўка ўюна. *Галавень браўся на вяртуха.* Азяраны Раг.

ВЯРТУ'ШКА I *ж.* Млён. *Вяртушкай круцяць верхавік.* Глівін Барыс.

ВЯРТУ'ШКА II *ж.* 1. Тое ж, што і в е р ч 1. *Дралі лыка і вяртушкі круцілі.* Малахоўцы Бар. 2. Скрутак льновалакна. *Рабілі вяртушкі ды ў мех складалі. Вяртушкі называлі куклы.* Альхоўцы Лях.

ВЯРХАЛА'ТЫ *прым.* Неахайны. *Вярхалаты — хто растрапаны, ляціць, усё брасаіць.* Ракаўскія Швянч.

ВЯРХАЎНЫ′ *прым.* Прыпражны. *Вярхаўны вол ідзе ў цалік.* Жылі Іўеў.

ВЯРХІ′, ВЯРХЕ′ толькі *мн.* Горшае валакно, пакулле з вярхоў льнотрасты, пачаскі. *Горшыя паклы — вярхі, лепшыя паклы — камлі.* Грыкені Вільн. *Вярхі на воркі пралі і ткалі. У вярхох больш кастрыцы.* Гемзы Шальч. *У лёне выдзяляюць: камле, серадзінкі і вярхе.* Вялікія Баяры Шчуч. *З першага грэбня вярхі і камлі.* Магуны Паст.

ВЯРХНІ′К I, ВЕРХНІ′К *м.* Адтуліна для выхаду дыму ў курных хатах. *Вярхнік быў над дзвярмі: бярвяно выразано такой дліні, баба аткрывае гэты вярхнік, але дым не тоўпіцца ў вярхніку, дым ідзе ў вярхнік, а з вярхніка — на сталяванне.* Гемзы Шальч. *Вярхнік у столі або над дзвярамі, у сені выходзіў дым. Быў вярхнік у столі, дзет праз вярхнік спусціць ногі.* Альхоўцы Лях. *Вярхнік быў у сталяванні. Дзве досачкі засоўваецца, калі печ ня топіцца.* Крэва Смарг. *Верхнік быў у сенёх.* Кураполле Паст. *Верхнік быў зроблены для дыма: адцягні верхнік — дым пойдзе.* Грыкені Вільн.

ВЯРХНІ′К II, ВЯРХНЯ′К *м.* Тое ж, што і в е р х а в í к. *У жорнах вярхнік і сподні камень.* Саланое Віл. *У жорнах верхні камянь — вярхнік і ніжні — спадак.* Вязынка Маладз. *Вярхняк у жорнах.* Пацаўшчына Дзятл., Азяраны Раг.

ВЯРХНІ′К III *ж.* Верх стала. *Вярхнік стала прыбіў.* Дакудава Лід.

ВЯРХНІ′К IV, ВЯРХНЯ′К *м.* Верхні нарог у сасе. *Вярхнік у сохах быў.* Гемзы Шальч. *Два нарогі — спадак і вярхняк.* Касцюкі Уздз.

ВЯРХО′ВІЦА *ж.* Верх галавы, цемя. *Стары ўжо, вярховіца ўся лысая.* Міратычы Карэл.

ВЯРХО′ЎКА *ж.* 1. Верхняя частка снапа. *Мокрая вярхоўка ў снапе.* Янова Рас. 2. Тое ж, што і в е р х а в í н а. *Вецяр вярхоўку зламаў.* Валынцы В.-Дзв.

ВЯРХО′ЎЯ I *н.* Цвіль на квашанай агародніне. *Нада сабраць вярхоўя з бочкі.* Лісна В.-Дзв.

ВЯРХО′ЎЯ II *н.* Тое ж, што і в я р х í. *Вярхоўе пралі на патштаніkі.* Янова Рас.

ВЯРЦЕ′ННІК *м.* Ліна. *З яловых прутоў круцілі вярценнікі і плыцілі плыт.* Янова Рас., Кураполле Паст.

ВЯРЦЕ′ЦЦА *незак.* У выразе: *Вярцецца каля языка. Верціцца калі языка — і ні помню.* Лісна В.-Дзв.

ВЯРЦЁЛКА *ж.* Непаседа, вяртун. *Што ты круцісся, як вярцёлка.* Гемзы Шальч.

ВЯРЦІ′НА *гл.* ВЕ′РЦІНА

ВЯРЦЭ′МАК *м.* Таўкач, качалка, мяла. *Пакуль шукаяш вярцэмак — бульба астыня.* Стральцы Гродз.

ВЯРЧА′К *м.* Тое ж, што і в е р ч 1. *Палоскі лыка круцілі ў вярчакі.* Азяраны Раг.

ВЯРЧЭ'Й *прым. выш.* Больш рухавы, жвавы. *Ты вярчэй зі міне.* Лісна В.-Дзв.

ВЯРШКІ' толькі *мн.* Верх поўсці. *Шашок такі: вяршкі рудзенькія, а паднізак — жоўценькі.* Кураполле Паст.

ВЯРШНЯ'К I, ВЕРШНЯ'К *м.* Тое ж, што і в е р х а в і к. *Вяршняк — верхні камень у жорнах.* Масілавічы Сл., Багушэвічы Бярэз. *У жорнах вершняк ёсць і споднік.* Беразіно Докш.

ВЯРШНЯ'К II *м.* Верхняя частка аконнай шуфляды. *Зверху акна — вяршняк.* Малахоўцы Бар., Масілавічы Сл.

ВЯРШО'К I *м.* Верхняя частка чаго-н. *Вяршок сураежы красненькі-красненькі.* Лісна В.-Дзв.

ВЯРШО'К II *м.* Накрыўка для пасудзіны. *Чый гэта вяршок такі?* Крэва Смарг.

ВЯРШО'К III *м.* Смятанка. *Падаіў карову, атстаяў, вяршок сліў.* Індра Красл. *Збяры вяршок, астальноя аддай парасятам.* Вялікія Баяры Шчуч. *Кот злізаў вяршок смітанкі.* Кураполле Паст. *Вяршок — смятана салоткая.* Альхоўцы Лях.

ВЯРШЫ'НА I *ж.* Тое ж, што і в е р х а в і н а. *Вяршына хвоі засохла.* Старыя Смільгіні Воран. *На вяршыну асіны ўзабраўся.* Беразіно **Докш.**

ВЯРШЫ'НА II *ж.* Тое ж, што і в я р ш о́ к III. *Вяршына—калі наверх збярэцца смятана.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ВЯРШЫ'НКА *ж.,* ВЯРШЫ'НКІ *мн.* Тое ж, што і в я р ш о́ к III. *Вяршынка на млеку.* Магуны Паст. *Вяршынка — смятанка с салоткага малака.* Лоск Валож. *Калі ў бульбу ўліць салоткіх вяршынак і стушыць, яна тады пахнючая.* Груздава Паст.

ВЯРШЭ'ЧАК *м. памянш.* да в я р ш о́ к III. *Вяршэчак — гэто салотка смятана.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЯРЭ'ЙКІ *мн.* Дошчачкі, якімі ўмацоўваецца трысцё ў бёрдзе. *У бердзе вярэйкі шнуром закручаны і засмалены.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЯРЭ'НЬКА *ж.* Кошык з накрыўкай, сплецены з бяросты. *Вярэнька з бяросты, у ёй хлеб не засхне.* Пасека Ст.-Дар.

ВЯРЭ'ПАЎКА *ж. заал.* Рапуха. *Вярэпаўка — бальшая старая жоўтая жаба.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вярэпаўка на падрубы залезя і пачыная крактаць.* Вецярэвічы Пух. *Вярэпаўка — рапуха.* Лапічы Асіп., Рудня Чэрв.

ВЯРЭ'ЦЯГА *ж.* Балота прадаўгаватай формы сярод лесу. *Паміж барамі е такія вярэцягі, мажэш заехаць па шыю, па пояс, па калено, балото вяліка, а вярэцяга — міз лясоў. І вярэцязі е названье, вот у той вярэцязі добра трава.* Дзяніскавічы Ганц.

ВЯРЭ'Я *ж.* Шуло. *У гумне паставілі новыя вярэі, што дзверы навешаны.* Старыя Смільгіні Воран.; *гл.* в е р а я́.

ВЯС I *м. бат.* Вяз. *Вязовішча — дзе вяс расце.* Бакшты Іўеў.

ВЯС II *гл.* ВЯЗ

ВЯСЕ′ЛЛЯ, ВЯСЕ′ЛЕ, ВЯСЕ′ЛЁ, ВЯСЕ′ЛЬЯ, ВЫСІ′ЛЛЕ, ВЭСЭ′ЛЬЕ *н.* Вяселле. *Як вяселля — поўна хата няпрошаных гасцей, няможна прайсці, цяпер няпрошаныя ня йдуць.* Валынцы В.-Дзв. *Быў у вяселлі.* Мярэцкія Глыб. *Як вяселля, ён ідзе — яго запрашалі іграць.* Саланое Віл. *На вяселі была.* Альхоўка Навагр. *Вяселё гуляюць, яе падрушка ідзе замуш.* Малахоўцы Бар. *Вясельёў многа было.* Дзяніскавічы Ганц. *Гэтыі ныділі було мныго высіллей.* Сіманавічы Драг. *Тры вэсэльі было на тройцу.* Смаляніца Пруж. ∇ *На высіллі люблять с прыносом, а ны з довгым носом. До высілля загоіцця* [рана], *загоіцця, покы высілле вспокоіцьця.* Сіманавічы Драг.

ВЯСЕ′ЛЦО *н. памянш.* да в я с л о́. *Вяселцо грыбоў насушыла.* Семежава Кап.

ВЯСЕ′ЛЬНІКІ *мн.* Удзельнікі вяселля. *Усе вясельнікі сабраліся ў хату.* Альхоўка Навагр.

ВЯСЕ′ННЫ *прым.* Веснавы. *Вясенны парасёнак ужо бальшы. Купіла вясенную свінку.* Мярэцкія Глыб.

ВЯСЁЛКА I *ж.*, ВЯСЁЛКО *н.* Нізка, вясло. *Насушыла вясёлку праўдзівікаў. Навешаеш вяртушак лыка і нясеш вясёлку. Вясёлко лісту прынёс.* Малахоўцы Бар.

ВЯСЁЛКА II *ж. бат.* Смаржок. *Вясёлка прыземістая, а ёсць высокая.* Азяраны Раг. *Весялке вясною збіраюць, іх здаюць на лякарства.* Малахоўцы Бар.

ВЯСЁЛКІ толькі *мн. абрад.* Наваселле. *Вясёлкі спраўлялі, як у новую хату пераходзілі.* Валынцы В.-Дзв.

ВЯСЁЛОЧКО *н. памянш.* да в я с ё л к о. *Вясёлочко прышчэпак вісіць.* Альхоўцы Лях.

ВЯСЁЛЫ *прым.* Жартаўлівы, вясёлы. *Вот вясёла баба!* Лісна В.-Дзв. *Затое ты такая вясёлая, што вясёлым врэмем радзілася.* Кураполле Паст.

ВЯСЁНКА *ж. ласк.* да в я с н а́. *Усю вясёнку дажджу німа.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вясёнка ідзець, трэба за сяўбу брацца.* Саланое Віл.

ВЯ′СКА *гл.* ВЯ′ЗКА

ВЯСКА′ *мн.* Вёскі. *Ён абыйдзе ўсе вяска, па вясках цягаецца чалавек.* Альхоўка Навагр.

ВЯ′СКІ *прым.* Гразкі. *Там вяская балота.* Мярэцкія Глыб.

ВЯ′СКО *прысл.* Гразка. *Там не тупко, а вяско.* Малахоўцы Бар.

ВЯСЛО′ I, ВЯ′СЛА *н.* Тое ж, што і в я с ё л к а 1. *Палоскі наніжуць на борку і называюць вясло палосся. Вясло рыбы прынёс.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лазу круцілі ў кружолкі, наніжуць на лазіну, вяжуць і называлі вясло.* Вецярэвічы Пух. *Колісь хто нясе прадаваць вясло лазы.* Дзяніскавічы Ганц. *Вясло — некалькі вярчоў.* Тухавічы Лях. *Вясло лісця.* Пасека Ст.-Дар. *Вясло абаранкаў на нітку наніжаш.* Альхоўцы

Лях. *Лыка скручвалі ў абараначку, начэплівалі на шнурок і рабілі вясла. Вясла баранкаў купіла.* Рыбчына Віл. *Цэлая вясла грыбоў мне дала.* Ухвала Круп. *Чапляюць баравікі на вя́слы, вясла грыбоў.* Рудня Чэрв. *Вясла грыбоў насушыла.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *параўн.* літ. *vėslas* 'тж'.

ВЯСЛО′ II *н.* 1. Весло (у лодцы). *Твае дзеці паламалі мне вёслы.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Шост, пры дапамозе якога кіруюць плытом. *Вясло рулявадь ганком.* Лісна В.-Дзв.

ВЯСНА′ *ж.* Вясна. *На самай вясне паехаў у Табарышкі.* Гемзы Шальч. *Раблю цэлу весну. Тую весну ткалі палавікі.* Альхоўка Навагр. ▽ *Вясна красна цвятамі, а осень — пірагамі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЯСНАВА′ЦЦА *незак.* Спароўвацца. *Індычка хоча вяснавацца, але няма індыка.* Вострава Маст.

ВЯСНАВА′ЦЬ *незак.* Апладняць. *Пятух куру вяснаваў.* Старыя Смільгіні Воран. *Пятух вяснуя куры.* Вострава Маст.

ВЯСНО′ВЫ *прым.* Веснавы. *Вясновыя парасяты прадавала.* Альхоўцы Лях.

ВЯСНО′ЎСКІ *прым.* Веснавы. *Мне быў адзін удаўшыся, ніхто не скажыць, што гэта вясноўскі парасёнак. І свінка вясноўская, але не такая.* Ахрэмаўцы Брасл.

ВЯСНУ′ШЧЫ *прым.* Веснавы. *Вяснушчая воўна благая. Мяканькая вяснушчаяіксва.* Магуны Паст. *Гэта вяснушчая песня.* Кураполле Паст.

ВЯСНЯ′НЫ, ВЕСНЯ′НЫ, ВЕСНЯ′ННЫ *прым.* Тое ж, што і в я с н о́ в ы. *Воўна авеча і вясняна.* Пацаўшчына Дзятл. *Вясняны кабан.* Пасека Ст.-Дар. *На весняны сязон корму хваціць.* Мсцібава Ваўк. *Пачалі веснянну сяўбу.* Сакаляны Сакол.

ВЯСО′ЛА *гл.* ВЭ′САЛА

ВЯСЦІ′ *гл.* ВЕ′СЦІ

ВЯСЦІ′СЯ *гл.* ВЕ′СЦІСЯ

ВЯТО′Х, ВІТА′Х, ВІТО′Х, ВЕ′ТАХ, ВЁТАХ *м. астр.* Месяц у апошняй квадры. *На вятох сходзіць месяц.* Саланое Віл. *На ветаху пустыя дні.* Бакшты Іўеў. *Вятох — стары месяц, месяц на сходзя.* Жодзішкі Смарг. *На вятху месяц сходзя.* Крэва Смарг. *Вітах — на сход месяца.* Рыбчына Віл. *Вітох усходзіць перад раннем.* Мярэцкія Глыб. *Месяц сходзя на ветах.* Вязынка Маладз. *Вётах перат светам апходзіць.* Дакудава Лід. ▽ *Еслі зіма маладзіком станіць — будзіць гнілая, а еслі вітахом — дужа злая.* Мішневічы Шум.

ВЯТРАНІ′ЦА *гл.* ВЕТРАНІ′ЦА

ВЯТРУГА′ *гл.* ВЕТРУГА′

ВЯТРЫ′СКА *м.* і *н.* Моцны вецер, віхор. *Як наляцеў вятрыска — усё пазносіў.* Жылі Іўеў. *Вятрыска стала.* Граўжышкі Ашм. *Вятрыска і вятрышча.* Быстрыца Астр. *Вятрыска быў велькі, апкалаціў усе яблыкі і грушы.* Кіралі Шчуч.

ВЯТРЫ'ШЧА *м. павел.* Моцны вецер. *Вятрышча ўзняўся.* Мярэцкія Глыб.

ВЯТХО'ВЫЯ ДНІ *мн.* Дні апошняй квадры месяца. *Вятховыя дні, як адбывая месяц.* Міратычы Карэл.

ВЯ'ЎКНУЦЬ *зак. экспр.* Падаць голас. *Як дам, то ты і не вяўкнеш!* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *viáukteléti* 'тж'.

ВЯХА' I *ж.* Шост з пучком сена, саломы, які служыць межавым знакам. *Ставілі вехі, як сенакос дзялілі.* Навасёлкі Свісл.

ВЯХА' II, ВІХА' *ж. бат.* 1. Амяла. *Вяха расце на бярозе, яе п'юць ад калтуна.* Рудня Астравітая Чэрв. *Віха — амяла.* Нізок Уздз. 2. Маркоўнік, шкодная трава. *Вяха — урэдная трава: карова як наесца вяхі — і схваціць абдуцця. Вяха цвіціць бела.* Кураполле Паст. 3. Бухматая верхавіна елкі. *Ідзі вяху выраш комін церці.* Вецярэвічы Пух. 4. Пучок чаго-н. *Цэлу вяху ягад прынесла.* Вецярэвічы Пух.

ВЯХО'ТКА, ВІХО'ТКА *ж.* 1. Вехаць. *З хвашча вяхотку зробяць пасуду мыць.* Мярэцкія Глыб. *Пранікам агурэчнік білі, а віхотка палучаіца.* Індра Красл. 2. Мачалка. *Вяхотка, што ў бані мыцца, з рагожы, ёсць і куплёная мачалка.* Ухвала Круп.

ВЯЦІ'СТЫ *прым.* Галінасты, бухматы. *Вот вяцістая проса і авёс вяцісты.* Рыбчына Віл.

ВЯЧА'Й *м.* Паглыбленне ў верхнім камені жорнаў, куды засыпаецца збожжа. *Зярно ідзе праз вячай.* Вязынка Маладз. *Вячай у жарнах, бярэш зярно і сыпляш у вячай.* Гемзы Шальч.; *гл.* а ч а́ й.

ВЯЧАРКЕ' *гл.* ВЕЧАРКІ'

ВЯЧАРНІ'ЦЫ *мн.* Тое ж, што і в е ч а р к і́. *На вячарніцах дзеўкі пралі, а хлопцы гулялі.* Малахоўцы Бар.

ВЯЧАРУ'ШКІ *гл.* ВЕЧАРУ'ШКІ

ВЯЧО'РКІ *гл.* ВЕЧАРКІ'

ВЯЧО'РНІЦЫ *мн.* Тое ж, што і в е ч а р к і́. *Вячорніцы ўвечары сабіраліся, пралі.* Азяраны Раг.

ВЯЧЭ'РА *ж.* 1. Ежа, прыгатаваная на вячэру. *Ужо вячэра гатова.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Час вячэры. *Сяння вячэра будзіць з мухамі* [позна]. Кураполле Паст. ▽ *Як косіш — вячэра будзіць з мятком.* Кураполле Паст.

ВЯЧЭ'РАЦЬ *незак.* Вячэраць. *Мама варыць — будзям вячэраць. А яна ўжо вячэрая.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мы вячэралі ўжо, а вячэраў ён?* Кураполле Паст.

ВЯЧЭ'Р'Е *н.* Вечар. *Неяк адно вячэр'е прышоў да мяне гэты нелюць — Аршулін сын.* Мачаск Бярэз.

ВЯЧЭ'РНЯ ЗО'РКА *ж.* Вячэрняя зорка. *Вячэрня зорка — заходня зорка.* Каўняны Гродз., Дзяніскавічы Ганц.

ВЯША'К *гл.* ВЕ'ШАК

ВЯШЫ'СТЫ *прым.* Галінасты. *Вяшысты авес, як вялікая*

*мяцёлка, многа зярнят, а бывае не вяшысты. Трава бывая вяшыстая.* Саланое Віл.

ВЯЮ'Н *м.* Тое ж, што і в і р. *Там вяюн такі — круціць і круціць, чалавек там ня можыць выплысці, як папаў на гэта места — агін!* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* літ. *výti* 'круціць'.

# Г

**Г** *прыназ.* К. *Г нам прыехала цётка.* Валынцы В.-Дзв.

**ГАБА'** *ж.,* **ГА'БЫ'** *мн. бат.* Вяз, бераст. *Вёска выгарала ад тых габоў.* Навасёлкі Свісл. ***Габа** — грубое цвёрдае дрэва, лісты пахожы да ляшчыны.* Быстрыца Астр. *Габы растуць па лесі.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* літ. *gúoba* 'тж'.

**ГА'БА'ЦЬ** *незак.* Чапаць. *Не гáбай, не трэба яго гáбаць.* Старыя Смільгіні Воран. *Ні гáбай ты яго!* Гемзы Шальч. *Ні гáбай, што ты яго гáбаіш.* Валынцы В.-Дзв. *Сядзіш і прыказуеш дзецям: не гáбайця малога.* Азяраны Раг. *А нашто было габáць.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *устар. gabać* < *gabnąć* 'чапаць, трывожыць, нападаць; зачапіць, патрывожыць, напасці' (СВ, I, 788—789).

**ГАБДЗЮ'Р** *м.,* **ГАБДЗЮРЫ'** *мн.* Кіпцюр. ***Габдзюр**, габдзюры — ва ўсіх птушак: у каршуна габдзюры; курыца габдзюрамі лупя грады.* Рыбчына Віл. ***Габдзюры** бальшыя.* Саланое Віл. ***Габдзюры** такія велькія ў каршуна.* Гемзы Шальч.

**ГАБІ'НА I** *ж. бат.* Адно дрэва вяза, бераста. *І ў нас габіна расце.* Навасёлкі Свісл.; *гл.* г а б á.

**ГАБІ'НА II** *ж.* Кабіна. *Сяджу ў машыне каля габіны.* Граўжышкі Ашм.

**ГАБІРА'** *ж.* Толь. *Крыла крышу габірой.* Ухвала Круп.

**ГАБЛЮ'ШКІ** *мн.* Стружкі. *Габлюшкі ў печ пакідала.* Магуны Паст.

**ГАБЛЯВА'ЦЬ, ГЫБЛЁВА'ТЫ** *незак.* 1. Габляваць. *Полаз нада габляваць з аднаго боку і з другога, а з серадзіны хадою апчысціцца.* Гемзы Шальч. *Гэблыком габлюють.* Сіманавічы Драг. 2. *перан.* Знеслаўляць, зневажаць. *Старая габлюе і габлюе нявестак проста на спрадзівенне.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* польск. *heblować* < (ням. *hobeln*) 'габляваць'.

**ГАБРУ'Ч** *гл.* **АБРУ'Ч**

**ГАБЭ'ЛЯК** *м. памянш.* да г э́ б а л ь. *Габэляк кароткі. Габэляк бярэ чыста, гладзенька.* Гемзы Шальч. *Габэлькі былі.* Лоск Валож.; *парайн.* польск. *hebel* < (ням. *Hebel*) 'рычаг, дзяржанне'.

ГАВАНДУ'ЛЬСКІ *гл.* ГАВЭНДУ'ЛЬСКІ

ГАВАРКІ', ГАВАРЛЕ'ВЫ, ГАВО'РЛІВЫ *прым.* Гаварлівы. *Такі гаваркі чалавек.* Жылі Іўеў. *Яна гаваркая, вам многа гаворыць.* Малахоўцы Бар. *Такія гаваркія людзі.* Гемзы Шальч. *Гаварлевая баба.* Дакудава Лід. *Міхал такі гаворлівы.* Ракаўскія Швянч.

ГАВАРУ'ШЧЫ *прым.* Тое ж, што і г а в а р к í. *Гаварушча баба, а ён ні гаварушчы чалавек.* Вострава Маст.

ГАВАРЧЭ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш гаварлівы. *Большы сын гаварчэйшы і красівейшы і менша дачка гаварчэйша.* Вецярэвічы Пух.

ГАВАРЫ'ЦЬ, АВАРЫ'ЦЬ *незак.* 1. Гаварыць, прамаўляць. *Ён да мяне нічога не гаворыць.* Альхоўцы Лях. *Ён гавора.* Грыкені Вільн., Старыя Трокі Трак. *Гэто кідаймо — гавара́м тое!* Дзяніскавічы Ганц. *Кужды па-своему гаворыц. Бабушкі аворац, а я не так скажу, то будуц смяяцца.* Парэчча Гродз. *Па-польску аворыць.* Паляцкішкі Воран. *Яны аворацъ са мной.* Стральцы Шальч. *Так аворацъ у нашай старане.* Быстрыца Астр. 2. Расказваць. *Мой дзядуля як быў, многа баек гаварыў.* Рыбчына Віл. ◇ *Бобам гаварыць* — гаварыць у хуткім тэмпе. *Яна быстрая: будзя як бобам гаварыць.* Граўжышкі Ашм.

ГАВАРЭ'Ц *м.* Гаварун. *Той чалавек такі гаварэц, ён ужо палучае пэнсію.* Гемзы Шальч.

ГАВЕ'ЧЫ *гл.* АВЕ'ЧЫ

ГАВІ'ЦЦА *гл.* ГАІ'ЦЦА

ГАВО'НДЗІЦЬ *гл.* ГАВЭ'НДЗІЦЬ

ГАВО'РКА, АВО'РКА *ж.* 1. Размова. *Як спаткаемся — у нас гаворкі німа з ей.* Саланое Віл. 2. Гаворка. *У той вёсцы саўсём гаворка не такая.* Ністанішкі Смарг. 3. Мова. *Ён панімаў нямецкую гаворку.* Швэды Вільн. *Гэта нелюцка гаворка. Простая ў нас аворка.* Парэчча Гродз.

ГАВО'РЛІВЫ *гл.* ГАВАРКІ'

ГАВЫ'РЫЦЬ *незак. экспр.* Плакаць. *Гавырыла яна цэлы дзень.* Граўжышкі Ашм.

ГАВЭ'ЛА, ГАВЯ'ЛА *м.* і *ж. абразл.* Разява, недарэчны чалавек. *Гавэла, размазня, нявывалака, разінка. Гавэла ты!* Саланое Віл. *Гавэла — нялюцкі чалавек. Гавэла ты, абрыдла!* Кураполле Паст. *Такі гавэла, зачаў нешта рабіць і не зрабіў.* Жылі Іўеў. *Які ты гавэла!* Дакудава Лід. *Гавяла ты неўдалы!* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *avẽlė* 'авечка'.

ГАВЭ'НДА *ж.* Тое ж, што і г а в ó р к а 1, 2. *Пра цябе гавэнды нет.* Ахрэмаўцы Брасл. *Маюць гавэнды.* Паляцкішкі Воран. *Збузаў мне гавэнду.* Старыя Смільгіні Воран. *Ніякай гавэнды ні было.* Рудня Чэрв. *Там гавэнда ішла.* Граўжышкі Ашм. *Кап кажды дзень была такая гавэнда.* Старыя Трокі Трак. *Развялі гавэнду.* Дакудава Лід. *У нас і гавэнды не*

*было пра сярмяшкі. Не чула такой гавэнды. Німа табе лепшай гавэнды, толькі адно гаворыш.* Кіралі Шчуч. *Я ўзнала з гавэнды, што ёй окропны боль галавы. Будуць смяяцца з такой гавэнды.* Гемзы Шальч. ***Гавэнда** — як зышліся ўдвух; што там гавэндзіце, якая там **гавэнда** ваша.* Грыкені Вільн. ***Гавэнда** ў нас з ім.* Беняконі Воран. *Кожная вёска мая сваю гавэнду.* Старыя Смільгіні Воран. *Каля Куранца такая гавэнда.* Жодзішкі Смарг. *Вот гавэнда пашла!* Крэва Смарг. ***Гавэнда** такая ў нас.* Валынцы В.-Дзв. *Мала ўжывалася гэта слова ў гавэнду.* Жылі Іўеў. *Што эта была за гавэнда: арох* [гарох], *алава* [галава]. *А мы гэтых гавэндаў не чулі.* Старыя Трокі Трак. *У нас такой гавэнды німа.* Кураполле Паст. *Ні чула такой гавэнды.* Вялікія Баяры Шчуч. *Там такую гавэнду ўчуеш.* Мсцібава Ваўк., Галубы Маст. ◇ *Няма гавэнды* — няма чаго-н. *Прыдзіся, хто прычэпіцца: «Пазыч мне», а яна гаворыць: «Німа гавэнды».* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* польск. *gawęda* 'гутарка, размова; апавяданне'.

ГАВЭ'НДЗІЦЬ, ГАВО'НДЗІЦЬ *незак.* Гутарыць, размаўляць. *Што вы там гавэндзіце?* Грыкені Вільн. *Будзем з табою гавэндзіць.* Беняконі Воран. ***Гавэндзіла** з сусеткаю.* Чычалі Швянч. *Мушчыны сядзяць і гавэндзяць.* Баброўнікі Гарад. *Зберацца баб многа і гавондзяць.* Кураполле Паст.; *параўн.* польск. *gawędzić* 'гаварыць, гутарыць, балбатаць'; *gawędziarz* 'апавядальнік'.

ГАВЭНДУ'ЛЬСКІ, ГАВАНДУ'ЛЬСКІ *прым.* 1. Гаварлівы. ***Гавэндульскі** такі чалавек, усё гаворыць і гаворыць.* Старыя Смільгіні Воран. 2. *зневаж.* Балбатлівы. *Вот гавэндульскі чалавек — лапоча і лапоча.* Гемзы Шальч. *Вот ён гавандульскі, усё гаворыць і гаворыць што ні папала.* Кіралі Шчуч.

ГАВЯ'ЛА *гл.* ГАВЭ'ЛА

ГАВЯ'ЧЫ *гл.* АВЕ'ЧЫ

ГА'ГАВІЦЦА *незак. экспр.* Разяўляцца. *Ён гагавіцца — ён разяўляе горла.* Дакудава Лід.

ГАГА'НЕЦ I *м. рыб.* Ліхтар, якім асвятляюць раку ў час лоўлі рыбы ўночы. ***Гаганец** зроблены з маленькіх жалезных колцаў, куды ўкладаліся смольныя дроўца, служыў для свету вады, кап увідзіць рыбу ўночы.* Альхоўка Навагр. ***Гаганец** быў такі: зробяць лучок пераплецены, наложаць туды смольных карчоў, служыць для асвятлення дна ракі ўночы, палка доўгая — два метры.* Жылі Іўеў. ***Гаганец** сплецены з провалакі, у яго смалякі закладаюць і запалююць, гарыць цяпло — і відна на дно, як ловяць уночы рыбу.* Азяраны Раг. ***Гаганец** асвячае, паставім яго на лотку і плывём, і б'ём асціма.* Старыя Трокі Трак. ***Гаганец** — свецільнік падсвечваць ноччу пры лоўлі рыбы. На рыбу ездзілі — свяцілі гаганцам.* Дакудава Лід.; *параўн.* *каганец* (Фасм., II, 155).

ГАГА'НЕЦ II *м.* Наморднік. ***Гаганец** з рэменю робяць і*

*накладаюць сабаку на нос, каб не ўкусіў каго.* Граўжышкі Ашм. *Гаганец сабаку на губы накладаюць.* Магуны Паст.

ГА'ГАЦЬ *незак.* Гагатаць. *Гусі гагаюць.* Глівін Барыс., Беразіно Докш., Саланое Віл., Пасіене Лудз.

ГАГУ'ЛЬ *м.* Каршэнь. *Я і ў гагуль умела запусціць, як п'яный прыхадзіў.* Скрудалена Даўг.; *параўн.* літ. *kãklas* 'шыя'.

ГАД, ГАТ *м.* і *зб.* Гадзюка, вуж, гадаўё. *Ішлі мы просекай і на гада былі ўступіўшы.* Валынцы В.-Дзв. *Такіе ж былі гады, вывалакалі* [іх] *с хаты.* Баброўнікі Гарад. *Мой папа кавалём быў, пашоў капаць корч — што там гаду было. Я боса была, паўзе адзін гат — дык мая шкура ўстыла.* Альхоўка Навагр. *У ройсце гады ёсць.* Старыя Смільгіні Воран.

ГАДАВА'НЫ *дзеепрым.* Выхаваны, выгадаваны. *Мы ў вёсцы гадаваны, то не ведаем гэтага.* Парэчча Гродз.

ГАДАВА'ЦЦА *незак.* Выхоўвацца, расці. *Гэдак мы гадаваліся.* Кураполле Паст. *На вачах ён гадуецца.* Саланое Віл. *Хай гадуецца, патскаквае* [парасё]. Дзяніскавічы Ганц.

ГАДАВА'ЦЬ, АДАВА'ЦЬ *незак.* 1. Выхоўваць дзяцей, гадаваць. *Ты паможыш мне Вацю гадаваць.* Стральцы Шальч. *Ён нас усіх гадаваў.* Гемзы Шальч. *Гадавала сваіх, тэрас трэба ўнукаў гадаваць.* Новыя Мацалі Варэн. *Нада было дзяцей аднэй гадаваць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я малога гадавала два гады.* Саланое Віл. *Хай ба дзеткі матка гадавала. Яе гадавалі хараша.* Лоск Валож. *Я гадавала чэцверо дзяцей.* Кузьмічы Люб. ∇ *Гадуй матка дзеці — будзеш трасцу меці.* Бакшты Іўеў. *Дзеці гадаваць — век каратаць. Такая прымавіска ест.* Гемзы Шальч. 2. Даглядаць, разводзіць. *Ён козаў гадуя.* Лоск Валож. *Ён гадуе жывёл.* Стральцы Шальч. *Кабана гадуем. Двума гаралі* [валамі], *а трэці — гадуем. Мы не гадавалі гусей.* Саланое Віл. *Я гадавала пятухе, кап прадаць.* Сакаляны Сакол. *Ён пчолы гадуя — нешта панімая.* Рыбчына Віл. *Трудна пчол гадаваць.* Саланое Віл. *Цяпер гадуюць некаторыя пчол.* Мярэцкія Глыб. *Дзелалі ставы і гадавалі карпа.* Альхоўка Навагр. *Карпаў гадаваў, дзе рэчка ўходзіць.* Жодзішкі Смарг. *Адуй, рабі, кяруй, а ён не памагае.* Старыя Смільгіні Воран.

ГАДАВІ'К *м.* Жывёла ва ўзросце аднаго года. *Быў цялёнак — гадавік.* Янова Рас.

ГАДАВО'Е СВЯ'ТА *н. рэліг.* Свята, якое бывае адзін раз у год. *Гадавое свята рас у год бывая. Пашлі купацца ў гадавое свята, і нехта напужаў іх.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хазяін у лазні мыецца, строіцца ў гадавое свята, а яна прадзець кудзелю.* Ракаўскія Швянч.

ГАДАВЫ' СТОЛ *м. абрад.* Памінальны стол па нябожчыку праз год. *Гадавы стол открывалі па пакойніку.* Вецярэвічы Пух.

ГАДА′НЕ *н.* 1. Размова. *У нас не было і гаданя такога.* Новікі Гродз. 2. Балбатня. *Не хачу слухаць тваго гаданя.* Сапоцкіна Гродз.; *парайн.* польск. *gadanie* ’балбатня, пустаслоўе’. 3. Варажба. *Тэпэрышні людэ в гадане пэрэстают віерыті.* Курашэва Чыж.

ГАДА′ТІ *гл.* ГАДА′ЦЬ

ГАДАЎЁ *зб. н. лаянк.* Гады. ▽ *Каб вас халера пакаціла — гадаўё!* [на курэй]. Мярэцкія Глыб.

ГАДА′ЦЬ, ГАДА′ТІ *незак.* 1. Гаварыць. *Маму, што вы папросту гадаеця?* Новікі Гродз.; *парайн.* польск. *gadać* ’тж’. 2. Варажыць, угадваць. *Цыганка прыходіла гадаті. В нашуом сэліе одін чоловіек гадае.* Курашэва Чыж.

ГА′ДЗІНА, ГА′ДЫНЯ *ж.* 1. Гадзюка. *Вот гадзіна вылянела і пакінула свой лусок. Гадзіна за вымя ўкусіла карову.* Старыя Смільгіні Воран. *Гадзіна шыпіць.* Жодзішкі Смарг. *Гадзіна кусаяцца.* Дакудава Лід. *Ёсць гадзіна і слімянь.* Груздава Паст. *Сучку гадзіна ўкусіла.* Вецярэвічы Пух. *Гадзіна паўзець. Яго гадзіна ўкусіла — паўзла, а ён наступіў.* Лоск Валож. *Ляшчынай прыціснулі гадзіну.* Груздава Паст. *У нас гадзінаў німа.*Ністанішкі Смарг. *У нас тут гадзінаў мала было.* Крэва Смарг. *Сычыць гадзіна. Гадзіна выскачыла с-пад дзерава. Я два разы відзіў гадзіну.* Грыкені Вільн. *Біс прычыны гадыня не ўкусіць.* Рыбчына Віл. 2. *лаянк.* Пра злосную жанчыну. *Ты, як гадзіна, што свае дзеці пажрэ.* Граўжышкі Ашм.

ГАДЗІ′НА *ж.* 1. Гадзіна. *Складаецца гадзіна з мінутаў.* Вострава Маст. *«Катора гадзіна?» —« Палова пятай».* Паляцкішкі Воран. *Валя, паглядзі, катора гадзіна?* Кіралі Шчуч.,Ністанішкі Смарг. *Да дванастай гадзіны прахадзіла.* Гемзы Шальч. *Чэраз гадзіну пойдзе аўтобус назат.* Грыкені Вільн. *Тут на гадзіну ўсёй работы.* Пацаўшчына Дзятл. *Тэрас яка гадзіна?* Старая Каменка Сакол. *Паснедалі да дзесятай гадзіны.* Крынкі Крын. 2. Адрэзак часу. *Толькі тая гадзіна спакойна, што ляжаш спаць, а так цалюткі дзень кармі, глядзі.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *godzina* ’гадзіна’.

ГА′ДЗІЦЦА *незак.* Гідзіцца. *Ён гадзіцца есці са днэй міскі.* Кемялішкі Астр. *Я не гаджуся дзяцей.* Лоск Валож.

ГАДЗІ′ЦЦА, ГОДІ′ТІСЕ *незак.* 1. Наймацца на часовую работу. *Бывала, ён годзіцца пасвіць на хлеп.* Альхоўка Навагр. *Пашоў гадзіцца кароў пасвіць.* Жылі Іўеў. *Цяпер пастухі пасвіць не гадзяцца.* Міратычы Карэл. *Яны годзяцца скасіць сенажаць.* Гемзы Шальч. *Ходів годітісе з майстром, коп хату поставів.* Курашэва Чыж. 2. Дамаўляцца аб цане. *Прыдэ годітісе — хочэ корову рабую купіті.* Курашэва Чыж. 3. Жыць у згодзе, мірыцца, ладзіць. *Не гадзіліся са свекровай.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *godzić się* ’мірыцца, згаджацца, наймацца’.

ГАДЗІ́ЦЬ, ГОДІ́ТІ *незак.* 1. Наймаць на часовую работу. *Гадзілі пастуха.* Дакудава Лід. *Дагаварылі пастуха, уперат казалі — гадзілі.* Багушэвічы Бярэз. *Яго годзяць на вяселля іграць, ён музыкант.* Саланое Віл. 2. Дагаджаць. *Яна так годзіць, а ён на яе крычыць.* Любішчыцы Івац. *Годіла матэры — як могла, але всёруомно нэ могла выжыті.* Курашэва Чыж. ▽ *Спераду годзім, а ззаду — забываяся.* Жодзішкі Смарг.

ГАДЗІ́ШЧА *н. лаянк.* Гадзіна, брыда. *Гадзішча ты!* Рыбчына Віл.

ГАДЗЮ́КА, ГАДЗЮ́ГА, ГАДЮ́КА *ж.*, ГАДЗЮ́К *м.* Тое ж, што і г а́ д з і н а. *Гадзюка не бывая доўга.* Вялікі Краснік Пруж. *Гадзюка мяне ўкусіла за ногу, а я гадзюкі не бачыла.* Вострава Маст. *Рабую гадзюку ідзела.* Бакшты Іўеў. *Мяне гадзюка звалнавала.* Дзяніскавічы Ганц. *Тут гадзюкі вядуцца.* Рудня Астравітая Чэрв. *У ройсце гадзюкі былі.* Гемзы Шальч. *Гадзюко́ў развялося.* Жодзішкі Смарг. *Гадзюга перавешваіцца чэрас сук і раджаіць дзяцей. На звіжання гадзюгі атходзюць у пуць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Крутаюцца гадзюгі.* Старыя Смільгіні Воран. *Нашого Лёню як укусыла була гадюка, то дьві ныділі в больніцы лыжяв і шэ с повроку нога боліла.* Сіманавічы Драг. *Серчык запаліў, бачу, гадзюк запоўс.* Ракаўскія Швянч.

ГАДЗЮ́ЧЫЙ *прым.* Гадкі. *Гадзючы камар укусіў. Гадзючая муха села.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ГАДЗЯНЯ́ТКІ *мн. памянш.* Дзеці гадзюкі. *Гадзіна не была акаціўшыся, мы яе — на пень, папляскалі, і гадзяняткі пасыпаліся.* Ёдлавічы Брасл.

ГАДО́ЎЛЯ *ж.* Вырошчванне жывёлы. *Трэба цяля пусціць на гадоўлю.* Альхоўцы Лях. *Многа цялят продалі на гадоўлю. Карова старая іс свае гадоўлі.* Навасёлкі Свісл. *Ён ні нашай гадоўлі.* Асавец Віл.

ГАДО́ЧЭК *м. памянш.* да г о д. ▽ *У гадочэк адзін разочэк.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГАДУ́Н *м.* Тое ж, што і г а д а в і к. *Гадун у нас, год яму, жарабяці.* Рудня Астравітая Чэрв. *Гадун — жарабя аднаго года.* Пасека Ст.-Дар.

ГАДУНЕ́Ц *м.* Тое ж, што і г а́ д а в і к. *Гадунец цёлачка і бычок, першагоднія гадунцэ.* Вецярэвічы Пух.

ГАДУНО́К *м. памянш.-ласк.* да г а д у́ н. *Гадунок — конь ва ўзросце аднаго года.* Глівін Барыс.

ГА́ДЫНЯ *гл.* ГА́ДЗІНА

ГАДЮ́КА *гл.* ГАДЗЮ́КА

ГАЁВЫ, ГАЁВЫЙ *м.* Ляснік. *Гаёвы быў нігодны.* Бакшты Іўеў. *Бацька гаёвы быў у пана, пільнаваў лес.* Гемзы Шальч. *Гаёвы ў нас малады, на бацькава месца заступіў.* Галубы Маст. *Сын гаёвым робіць.* Новікі Гродз. *Гаёвый всім тым лі-*

*сом роспоражявся.* Сіманавічы Драг. *Гаёвы быв.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *gajowy* 'тж'.

ГАЁК *м. памянш.* да г а й. *Пойдзем у гаёк пагуляць з дзецьмі.* Груздава Паст.

ГАЗ *м.*, ГА'ЗЫ *мн. хім.* Газ. *Ён быў газамы атраўлен.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГА'ЗА *ж.*, ГАЗ *м.* Газа. *Даўней казалі газа, цяпер завём карасіна.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Калісь газа была лепшай: агонь паліўся белы, цяпер — чырвоны.* Мсцібава Ваўк. *У газоўку газы налівалі.* Малахоўцы Бар. ***Газы** трэба ўлеяць у газоўку.* Рудня Астравітая Чэрв. ***Газу** лілі ў магазін, а зверху надзявалася машынка.* Вострава Маст. *Налы газы в обідьвы лямпы, в газнык і в кірогаз.* Сіманавічы Драг. *Як нема свіетла, то трэба купляті газ.* Курашэва Чыж.

ГАЗНІ'К *м.* Лямпа. *Свіетло ясніей свіетіт, яг газнік.* Курашэва Чыж.

ГАЗНІ'ЦА *ж.* Газоўка. *Запалі газніцу.* Рыбчына Віл.

ГАЗНІ'ЧКА, ГАЗНІ'ЦКА *ж. памянш.* да г а з н і ц а. *Лампы не было, газнічка свяціла.* Жодзішкі Смарг. ***Газнічка** была.* Рудня Астравітая Чэрв. ***Газніцка** была.* Ісерна Слуц.

ГАЗО'ВАЧКА *ж. памянш.* да г а з о ў к а. *Калісь газовачку запаляць, і яна курыць.* Мсцібава Ваўк. *Мама, бывала, газовачку паставіць і шыіць кашулі.* Саланое Віл.

ГАЗО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і г а з н і ц а. ***Газоўка** — без шкла лямпа. Калісь мама паліла газоўку і толькі паўбутылак газы спаліла за зіму з малым дзецям і прала яшчэ.* Альхоўцы Лях. ***Газоўку** запалі.* Беразіно Докш., Старыя Смільгіні Воран., Рудня Астравітая Чэрв. *У газоўку газы налівалі.* Малахоўцы Бар. *Бывала, газоўка была, там карасіны адна капля, кноцік быў маленькі, запаліш — і гарыць, як воўча вока, маленькі агонь.* Кіралі Шчуч.

ГАЗЭ'ТА *ж.* Газета. *Я чытаў газэту.* Крынкі Крын.

ГАІ'ЦЦА, ГАВІ'ЦЦА, ГОВІ'ТІСЕ *незак.* Загойвацца, зажываць. *Не гаіцца рана.* Істра Лудз. *А потым стала нага гаіцца.* Крынкі Крын. *Не гавіўсё паляц — гэдакія дзюгі пашлі.* Міратычы Карэл. *Розрыэзаны палец говіцце.* Курашэва Чыж.

ГАЙ *м.* 1. Лясок сярод поля, гай. *Гай не сплашны лес, а як кругом поле, а сярод лясок.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Малады хваёвы лес. *Гай — лес такі сасновы.* Стары Свержань Стаўб. *Гаім пойдзім — будзіць скарэй.* Ахрэмаўцы Брасл. *Грыбы растуть на гаі.* Пасека Ст.-Дар. 3. Невялікі прыгожы змешаны лясок ці частка лесу. *Харошанькі гай.* Чычалі Швянч. *Ходімо пройдымось тым гаем. Ой, пойду я, маты, в гай, а там хлопцюв — а-я-яй!* Сіманавічы Драг.

ГА'ЙБО *часц.* Няхай бы. *Гайбо ўзяў борану.* Дзяніскавічы Ганц.

ГА'ЙВОРОН *м.* Грак. *Прылетіелі гайвороны і жыто, што посіев, вызбіралі.* Курашэва Чыж.

ГАЙДА' *выкл.* Ну, но. *Гайда, паехалі.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* руск. *айда* 'тж'.

ГАЙДАМА'КА *м.* Валацуга. *Разгайдамачыў усё гайдамака, нікчэмны чалавек: і сібе ўрадзіць у сям'е.* Індра Красл.

ГАЙДА'НКА *ж.* Калыханка, гушкалка. *На гайданцы гайдаюцца дзеці, а, бывала, дзеўкі і хлопцы гайдаліся.* Кіралі Шчуч.

ГАЙДАНЫ' *мн. перан.* Драўляны абутак. ***Гайданы́** былі ў мяне, у гайданах і пашла.* Курапалле Паст.; *парайн.* польск. *kajdany* 'ланцугі'.

ГАЙДА'Р *м.* Той, хто даглядае валоў. *Гайдар усё з валамі, усё іх чысціў.* Тухавічы Лях.

ГАЙДА'ЦЬ *незак.* Калыхаць, гушкаць. *Бывала, павесяць у гумно гайданку і гайдаюць цібе аш у клаць.* Кіралі Шчуч.

ГАЙДА'ШКА *ж.* Тое ж, што і г а й д á н к а. *На гайдашцы гайдацца пашлі.* Галубы Маст.

ГАЙДРАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Хутка пабегчы. *Дзеўкі рана ўстануць і гайдрануць у грыбы.* Азяраны Раг.

ГАЙДУ'К I *м. заал.* Дудак. *Гайдук крычыць* [у лесе]. Баброўнікі Гарад.; *парайн.* літ. *gaidùkas* 'балотны кулік'.

ГАЙДУ'К II *м.* Карак, першы шыйны пазванок. ***Гайдук** не збіваюць на гэтай рабоце.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *gaidùkas* 'тж'.

ГАЙЛА' *м.* і *ж. зневаж.* Балбатун. *А вы слухаеця, што ён скажа добрае, гэты гайла?* Азяраны Раг.

ГАЙНА' *гл.* ГАЙНЯ'

ГАЙНІ'К *м.*, ГАЙНІКІ', ГАНІКІ' *мн.* Тое ж, што і г ó н і. *Гайнік — пахатная зямля сто метраў даўжыні. Будзя пяць гайнікоў, калі рэс пяцьсот мэтраў.* Дакудава Лід. *Як собственасць была, дык былі гайнікі — двоі гайнікі, троі гайнікі.* Альхоўка Навагр. *Даўней ніву ў адзін кіламетр разбівалі на сем ганікоў.* Вялікія Баяры Шчуч.

ГАЙНО' *н.* 1. Бярлог. *Паросная свіння сцягуе, што ні пападзе, у сваё гайно, бальшое гайно свіння сабе зрабіла.* Азяраны Раг. *Як парасіцца, то свіня робіць сабе гайно.* Вецярэвічы Пух. 2. у знач. *прысл. гайнóм.* Не прыбрана, не заслана. *Гайном пакінула пасцель.* Азяраны Раг.

ГАЙНЯ', ГАННЯ', ГАНЬЯ' *ж.*, ГАНЬЕ', ГАНЬЁ *н.* 1. Зграя ваўкоў, сабак у перыяд цечкі. *Гайня ваўкоў бегла.* Каўняны Гродз. *Воўча гайня напала.* Альхоўка Навагр. *Воўчая гайня — стада ваўкоў.* Дакудава Лід. *Нека гайня зверыны напала.* Дзяніскавічы Ганц. *Гайня ваўкоў пабегла. Бегла гайня сабак.* Рудня Астравітая Чэрв. *Гання ваўкоў, калі ў іх вяселля.* Вязынка Маладз. *Гання воўча бегла.* Рудня Чэрв. *Бачу — гання ваўкоў бяжыць. Воўчыца водзіць за сабою ганню.* Малыя

Аўцюкі Калінк. *Гання сабак, сабачая гання бяжыць.* Багушэвічы Бярэз., Пасека Ст.-Дар. *Ганья ваўкоў, як ходзяць стадамі ваўкі. Як ваўкоў ганья, то кажды воўк будзя ісці па том самам сляду, па якім ішоў першы.* Мсцібава Ваўк. *Паляцела ганья ваўкоў.* Новікі Гродз. *І ў сабак ганья, як яны ходзяць стадамі.* Мсцібава Ваўк. *Воўчае ганье збіраецца тады, яг гуляе ваўчыца. Як нападзе ганье на каго, то разарве ў кускі.* Баброўнікі Гарад. *Ганье ваўкоў, як ваўке марцуюцца.* Вострава Маст. *Ганьё сабак, як сучка грэецца.* Новікі Гродз.; *парайн.* літ. *gáiniotis* 'ганяцца'. 2. у знач. *прысл. гайнёю.* Зграяй. *Гайнёю ходзяць ваўке.* Мсцібава Ваўк. *Сабакі гайнёю бегаюць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ГАЙНЯВА'ЦЬ, ГАНЯВА'ЦЬ *незак.* Бегаць чарадой у час цечкі (пра ваўкоў, сабак). *Ваўкі гайнююць.* Дакудава Лід. *Ваўкі гайнююць: выюць, склікаюцца страшнымі галасамі, збіраюцца цэлай стаяй воўчаю. І сучка гайнюіць.* Альхоўка Навагр. *Гайнююць ваўке, на гайню напаў, чуць не разарвалі.* Багушэвічы Бярэз. *Ваўкі ганююць.* Малахоўцы Бар.; *гл.* г а й н я́.

ГАЙСА'ЦЬ, ГАСА'ЦЬ, ГАСА'ТЫ *незак.* Бегаць, гойсаць. *Гайсае сабе цэлы дзень па вуліцы.* Нізок Уздз. *Гасая цэлы дзень, ніяк дадому не прыдзя.* Альба Нясв. *Жырыб'ята вжэ по жыты гасають.* Сіманавічы Драг.

ГА'ЙСТАР *м. заал.* Чорны бусел. *Гайстар чорны такі.* Навасёлкі Свісл.; *парайн.* літ. *gaĩštaras* 'здыхляк'.

ГАЙСТРА' *ж.* Каністра. *Тры гайстры воткі выпілі госці.* Галубы Маст.

ГА'ЙСТРЫ *мн. бат.* Астры. *В городі гайструов посаділі.* Курашэва Чыж.

ГАК I *м.* Выспа, пясчаны астравок. *Гак на Нёмане: там жвіру нагнала насып, там загараюць.* Дакудава Лід. *Пасярод ракі гак, асцярожна плыві ўначы, каб на гак не напароцца.* Галубы Маст. *Каля Нёмна гак бывая — грудок такі, пасярэдзіне пясок жоўты, потым кусткé растуць.* Альхоўка Навагр.

ГАК II *м.* Кручок (у дзвярах). *Зачыні дзверы на гак.* Стракішкі Трак. *Гак з дзвярэй вырваўся.* Магуны Паст.; *парайн.* польск. *hak* 'крук'.

ГАК III *м.* 1. Лішак. *Еслі памерылі поле, то кажуць: гектар із гакам.* Альхоўцы Лях. *Кілаграм з гакам.* Чычалі Швянч. *Пуд з добрым гаком, можэ кыль* [кілаграм] *дваццэть.* Сіманавічы Драг. 2. Глыток. *Выпіў на адзін гак.* Старыя Трокі Трак.

ГАК IV *выкл.* Выгук у час работы з сякерай. *Адзін рас секануў і — гак!* Альхоўцы Лях.

ГА'КАЎКА *ж.* Матыка. *Гакаўкі добрыя вострыя бяром, як ідзём буракі палоць.* Старое Сяло Зэльв.

ГА'КАЦЬ *незак.* Матычыць. *Буду гакаць буракі, пагакаю за дзень.* Граўжышкі Ашм.

ГА'КНУЦІ *зак. экспр.* Моцна ўдарыць. *Як гакнув мэнэ в плечы, то аж звук пушов.* Курашэва Чыж.

ГАКТА'Р *м.* Гектар. *Ён заняў гактар зямлі.* Груздава Паст. *Можа, сто гактараў пасеялі жыта.* Швэды Вільн.

ГА'КТЫ толькі *мн.* Галоўкі ў санях. *Гакты ў санях паламаліся.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *gãktos* 'тж'.

ГА'ЛА, ГА'ЛО *н.*, ГА'ЛЯ *ж.* 1. Паляна сярод лесу. *Гала — сухое чыстае адкрытае места, лесу няма.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Гало — міжлессе, на лузе ў нас гало, німа кустоў, нічога.* Ісерна Слуц. *Между лесу гало е, іздалі відаць гало.* Кузьмічы Люб. *Галя, дзе лесу нема.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Рэдкалессе. *Гала ў лесі, дзе рэдка дзеравы, выдзеш на гала, а тады зноў гушчар. З зарасці трэба на гала выгнаць кароў, хай паляжаць, лес рэдкі, відна далёка, убачыш адзін аднаго.* Азяраны Раг. *Галя, дзе даўнейшыя палянкі, меньша і больша галя. Сама больша галя — Дзяпка, шырока галя, е дзе папасціць. Днём воўк ляжыць на чыстуй гале, чуе носам, ушыма.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Балота. *Гало — вялікі кусок балота.* Пасека Ст.-Дар. *Дзе галя, там і балото. Некалі была галя, бы дым, як вокам кінуць, а цяпер пазаростало.* Дзяніскавічы Ганц. 4. Пагорак сярод поля, агарода. *Дзе гало, там гурке добрыя.* Кузьмічы Люб.

ГАЛАБУ'ШАЧКА *ж. кулін.* Праснак, перапечка. *Галабушачак напякла, хлеба не было.* Мярэцкія Глыб.

ГАЛАБЯ', ГАЛО'БЛЯ *гл.* АГЛАБЛЯ'

ГАЛАВА' I, АЛАВА', ГОЛОВА' *ж.* Галава. *Мне горача, у галаву ўдарая. Ие* [траву] *збіраюць ат галоў балезні.* Магуны Паст. *У галаве, як у млыне* [шуміць]. Новікі Гродз. *На голаў завяжы хустку.* Сакаляны Сакол. *Біўса пятух, аш на голаў ляцеў.* Парэчча Гродз. *Яму голаў ускрывалі.* Альхоўцы Лях. *Аловы мылі.* Быстрыца Астр. *Мне баліць алава.* Старыя Смільгіні Воран. *Я табе алаву зламаў ба.* Паляцкішкі Воран. *Алаву памый.* Вялікія Нястанавічы Лаг.▽*Первая галава на плячах, як нежанаты, другая галава на плячах, як жаніўся.* Лісна В.-Дзв. *Шо голова, то й розум.* Сіманавічы Драг.◇ *Галава не баліць* — нішто не турбуе. *Яму галава ні па чым не баліць.* Кураполле Паст. *Ей галава не баліць ні па ўсём.* Кузьмічы Люб. *На сваю галаву* — сабе на бяду. *На сваю галаву паліць свечкі, я душой ня вінаваты. На маей галаве* — клопат, догляд. *На маей галаве жывіна.* Парэчча Гродз. *Не да галавы* — не цікава. *Не да галавы мне, я не распытываў.* Кураполле Паст., Гемзы Шальч. *Не ў галаве, ны в голові, ні ў галаве* — пра асобу, якая не думае ні аб чым. *Яму не ў галаве, паедзе да бацькі і сядзіць.* Жылі Іўеў. *Мне гэта ні ў го́лаві.* Азяраны Раг. *Ёму й ны в голові.* Сіманавічы Драг. *А ці мне ў галаве гэто.* Парэчча Гродз. *Ад дурной галавы волас уцякая.* Гемзы Шальч. *За дурнэю головою ныма ногам зупокою.* Сіманавічы

Драг. *Даць галаву атсеч* — даказаць праўду, пераканаць. *Дам галаву атсеч — гэта праўда.* Саланое Віл.

ГАЛАВА′ II *ж.* 1. Верхняя частка калодачнага вулея. *У стаяку піта і галава.* Лісна В.-Дзв., Азяраны Раг. *Уллі стаялі на крыжах, каб у галавах вышэй было.* Саланое Віл. *Зверху ў вуллі — галава вулля.* Малахоўцы Бар. 2. Стаўпец у граблях. *У грабалках у галаве зубы.* Ракаўскія Швянч. 3. Пладаносная частка сланечніка. *Галава ў сланечніка.* Беняконі Воран.

ГАЛАВА′СТЫ *прым.* Тое ж, што і г а л а в á т ы. *Такая, як і бацька, кажуць, але галаваста.* Баброўнікі Гарад.

ГАЛАВА′ТЫ *прым.* З вялікай галавой. *У яго велькая галава — ён галаваты і баба галавата.* Любішчыцы Івац.

ГАЛАВА′Ч I *м. экспр.* Чалавек з вялікай галавой. *Гэты галавач удвоя будзя жыць.* Паляцкішкі Воран.

ГАЛАВА′Ч II *м. заал.* 1. Галавень. *Галавач — гэто белая рыба, мы завём язі, а некаторыя — галавач.* Быстрыца Астр. *У галавача галава бальшая, а сам маленькі.* Гемзы Шальч. 2. Апалонік. *Галавачы плываюць у лужах.* Мсцібава Ваўк. *Столькі галавачоў тут многа!* Курាполле Паст.

ГАЛАВЕ′НЬ *м.* Тое ж, што і г а л а в á ч II, 1. *Галавень — белая рыбіна, ходзіць па дну, сільная рыбіна.* Азяраны Раг.

ГАЛАВЕ′ШКА, АЛАВЕ′ШКА, ГОЛОВЭ′ШКА *ж.* 1. Недагарэлае палена. *Галавешка засталася ў печы і не дагарвае.* Дзяніскавічы Ганц. *Недагарэла галавешка.* Чычалі Швянч. *Галавешка або недагарак.* Міратычы Карэл. *Ні дагарэло ў печы, галавешку залі вадой.* Альба Нясв. *Адныя галавешкі ў печы.* Ністанішкі Смарг. *Алавешка ў печы не дагарэла.* Паляцкішкі, Старыя Смільгіні Воран. ▽ *Галавешку не можна міжы калят тушыць — будзя галаўня ў жыці.* Гемзы Шальч. ◇ *Шчарнела на галавешку.* Лоск Валож. 2. Вялізны, як галава. *Картоплі парастуць, як галавешкі.* Кузьмічы Люб. 3. *экспр.* Мазгаўня, галава. *Дурная твоя головэшка. В ёго такая головэшка выліка, як на іі тая шапка налізэ.* Сіманавічы Драг. 4. *бат.* Спарыння. *Галавешкі ў жыці растуц.* Парэчча Гродз.

ГАЛАВІ′ЗНА *ж.* Сала і мяса ад свіной галавы. *Галавізны з галавы адсекла ў капусту.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. *Капусты з галавізнай зварыла.* Крэва Смарг., Лапічы Асіп., Дзяніскавічы Ганц. *Галавізну аткраяяць.* Новыя Мацалі Варэн. *Костачку галавізны паслаў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ГАЛАГО′ТКІ *мн.* Насенныя каробачкі льну. *Галаготкі абівалі пранікам.* Груздава Паст.

ГАЛАГЭ′НІЦЬ *незак. экспр.* Абгаворваць, пляткарыць. *Яны сядзелі і галагэнілі. Ходзіць па хатах і галагэніць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ГАЛАДАВА′ЦЬ *незак.* Галадаць, недаядаць. *Галадавалі ў вайну.* Бакшты Іўеў. *У вайну галадавала.* Быстрыца Астр. *Яны век галадавалі.* Паляцкішкі Воран. *У каго і конікі галадуюць;*

*снех лiжаў у лагу, на ўзмежак вывiдуць.* Мярэцкiя Глыб. *У вайну мы вельмо галадавалi.* Стральцы Гродз. *Так галадавалi, ездзiлi за сто кiламетраў за стаканам мукi.* Шамялi Брасл.

ГАЛАДЗЁН *м.* Тое ж, што i а в а д з е́ н ь. *Галадзён, галаднi кусаюць.* Стральцы Гродз.

ГАЛА́ДКА *гл.* АЛА́ДКА

ГАЛАДНЕ́ЦЬ *незак.* Галадаць. *Пашто цялюк мая галаднець.* Парэчча Гродз.

ГАЛАДО́ЎКА *ж.* Голад. *У вайну галадоўка была.* Магуны Паст., Рыбчына Вiл., Мярэцкiя Глыб., Мiратычы Карэл., Жодзiшкi Смарг. *Галадоўка, як нiма чаго есцi.* Рудня Астравiтая Чэрв.

ГАЛАЛЕ́ДЗIЦА *ж.* Галалёдзiца. *Галаледзiца — слiзкiй, голый лёт.* Пасiене Лудз.

ГАЛАЛЕ́ЦЬ *ж.* Тое ж, што i г а л а л е́ д з i ц а. *Галалець была зiмой.* Граўжышкi Ашм. *Дошч прашоў, а марос — i такая галалець.* Iндра Красл.

ГАЛАЛЁДЗIЦА, ГАЛЯЛЁДЗIЦА *ж.* Тое ж, што i г а л а л е́ д з i ц а. *Галалёдзiца стаiць, марос, снегу нет.* Лiсна В.-Дзв. *Галалёдзiца на дварэ, слiзгота.* Рудня Астравiтая Чэрв. *На дварэ галалёдзiца.* Альхоўцы Лях. *На дварэ такая галялёдзiца.* Вязынка Маладз.

ГАЛАЛЁТКА *ж.* Тое ж, што i г а л а л е́ д з i ц а. *Галалётка, слiска, памалу iдзi.* Старыя Трокi Трак.

ГАЛАЛО́БНIК *м. абрад.* Тое ж, што i в а л о́ ў н i к II. *Калiсь на вялiкдзень хадзiлi галалобнiкi.* Старое Сяло Зэльв.

ГАЛАНО́ТКI *мн.* Тое ж, што i г а л а г о́ т к i. *Галаноткi абiвалi пранiкам.* Груздава Паст.

ГАЛАСÍЦЬ *незак.* 1. Крычаць, гучна размаўляць, шумець. *Ён галасiць, як горла не раздзярэ. Нешта галасяць ля магазiна.* Альхоўка Навагр. 2. Плакаць, галасiць. *Галасiў меншы хлапец.* Магуны Паст. *Галашу, што па пакойнiку.* Саланое Вiл.

ГАЛАСЛÍВЫ *прым.* Крыклiвы, галасiсты. *Такi ж ты галаслiвы.* Курашэва Чыж.

ГАЛАСОВА́ТI *незак.* Тое ж, што i г а л а с í ц ь 1. *Дiетi, iдучы iс школы, галасуют.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *hałasować* 'шумець, крычаць, гаманiць'.

ГАЛАСЫ́ *мн.* Скрынка з бюлетэнямi для галасавання. *Некалi вазiлi галасы на конях, а цяпер на машынах возяць.* Вецярэвiчы Пух.

ГАЛАТА́ *ж.* 1. Беднасць. *Галата была, бедна жылi.* Рудня Астравiтая Чэрв. 2. *зб. н. лаянк.* Галота, галадранцы. *Ах вы галата, ходзiця па хатах, усiм надаядаяця.* Кiралi Шчуч.

ГАЛАЎКÍ I, ГАЛАЎКЕ́, ГАЛО́ЎКI *мн.* 1. Тое ж, што i г а л а г о́ т к i. *Галаўке абiваюць пранiкам.* Малахоўцы Бар. *Галоўкi iльну.* Грыкенi Вiльн. *За галоўкi закруцiць лён.* Ахрэ-

маўцы Брасл. 2. Вярхі трасты льну. *У адным канцы галаўкі, а ў другом — каранкі.* Альхоўцы Лях. *Разбярэш галаўкі і к галаўкам, а караньki — к караням і сушыш у сушні* [лён]. Дзяніскавічы Ганц. 3. Пачаскі з вярхоў трасты льну. *Пасля трання лён чэшуць на жалезную шчотку, палучаецца кудзеля — гэта галаўкі. Лён чэшуць, з аднаго канца карэня, з другога — галаўке.* Стральцы Гродз. *Лён чэшуць на шчатке, галаўке першыя, ачэсаныя на рэткую шчотку.* Малахоўцы Бар. *Галоўкі — валакно з вярхоў ільну, я праду галоўкі.* Вецярэвічы Пух.

ГАЛАЎКІ′ II толькі *мн.* Тое ж, што і г а л а в а́ II, 2. *У галаўках выкручана чатырнаццаць дзірачак і ў гэтыя дзірачкі ўсаджаны зубы.* Альхоўка Навагр.

ГАЛАЎНІ′К *м. плыт.* Галоўны плытнік, рулявы. *Галаўнік кіруя плытам.* Бакшты Іўеў.

ГАЛАЎНЫ′ ПЛЫ′ТНІК *м.* Тое ж, што і г а л а ў н і́ к. *На плыце быў галоўны плытнік.* Мсцібава Ваўк.

ГАЛАЎНЯ′, АЛАЎНЯ′ *ж. бат.* 1. Хвароба хлебных злакаў, сажа. *Галаўня ў пшаніцы ёсць.* Саланое Віл. *Мая пшаніца ў галаўню пашла.* Відаўцішкі Вільн. *У ячмені галаўні многа.* Лісна В.-Дзв. *Галаўня з'ідаіць усю пшаніцу.* Валынцы В.-Дзв. *Ячмень ржой пабіла, многа галаўні.* Мішневічы Шум. *Галаўня бывае ў якой пашне: у просі, у пшаніцы, у ячменю.* Азяраны Раг. *У просе адна галаўня — выпырхне, бы куклачка, распусціцца, зробіцца, бы кветачка, чорна.* Дзяніскавічы Ганц. *Галаўня ў пшаніцы, ена з молніі порчаная.* Індра Красл. *Галаўня ў просі.* Пасіене Лудз. 2. Спарыння. *Галаўня ў жыці.* Гемзы Шальч. *Галаўня — ражок у жыці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Галаўня, как піражок, чорненькая, дліненькая, как ражок, раскусіш, как сіраваценькая, а верх чорненькі, жэншчынам варылі пры родах как лякарства.* Пасіене Лудз. *Алаўня — зубы ў жыці.* Быстрыца Астр.; *парайн.* руск. *головня* 'тж'.

ГАЛАЎЧА′СТЫ, ГАЛАЎЧЫ′СТЫ *прым.* 1. Лапушны. *У нас галаўчаста салата.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Вялікі качан. *Вот капуста галаўчыста, як паднялася — сразу галовачкі завіліся.* Кіралі Шчуч. 3. Галінасты, з вялікай колькасцю насенных галовак. *Галаўчыстыя вярхі ў лёня.* Дакудава Лід.

ГАЛАШЧО′К, АЛАШЧО′К *м.* Замёрзлая зямля без снегу, груда. *Галашчок, калі марос, а снегу няма.* Крэва Смарг. *На галашчок замерзла зямля.* Бакшты Іўеў. *Галашчок — замерзлая без снегу зямля.* Ісерна Слуц. *Марос, а снегу німа — вось і галашчок.* Гайна Лаг. *Галашчок, як замерзня бяс снегу лядок, зямля ўмярзая.* Рудня Астравітая Чэрв. *Галашчок — мароз без снегу.* Крупіца Мін. *Алашчок — калі зямля замерзла, а снех не выпаў.* Старыя Смільгіні Воран.

ГАЛАШЧО′КА *ж.* 1. Тое ж, што і г а л а ш ч о́ к. *Галашчока — як бес снегу марос ударыў.* Малахоўцы Бар. 2. Галалё-

дзіца. *Галашчока — як дошч, патом марос.* Тухавічы Лях. *Галашчока — як сліска, як марозік, крыху патшорхне.* Галубы Маст. *Галашчока — снегу няма, але лёд.* Пацаўшчына Дзятл. 3. у знач. *прысл.* *галашчо́кам.* Па грудзе, без снегу. *Снегу нет, дзе і лужавінка — усё ўмерзла галашкокам.* Дакудава Лід. *Галашчокам цісне марос гэты, замаражвае бес снегу, што за зіма.* Мачаск Бярэз. *Зямля аблілася зверху лёдам, стаіць галашчокам.* Багушэвічы Бярэз. *Дарога галашчокам умерзла, груды на дарозе без снегу.* Пасека Ст.-Дар.

**ГАЛГА′Н** *м. зневаж.* Бесталковы, асталоп, дурань. *Дзе ты, галган, ёсць?* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *gałgan* 'анучa, лахман'.

**ГАЛДАВА′ЦЬ** *незак.* Калдаваць, чараваць. *Чараўніца галдуя, мажэ зрабіць, каб захварэў.* Рудня Астравітая Чэрв.

**ГАЛДЗЕ′ЦЬ** *незак. экспр.* Крычаць, гаманіць. *Галдзяць бабы ў бані.* Валынцы В.-Дзв. *Галдзяць, як вароны, бабы, сабраўшыся. Галдзіў тут.* Саланое Віл. *Не галдзіце, а то нічога не чуваць.* Беразіно Докш.; *параўн.* руск. *разм. галдеть* 'тж'.

**ГАЛДУ′Н** *м.* Певень, які не пяе. *Галдун — пятух такі, не пяе.* Воўкуш Ліпск.

**ГАЛДУНЫ′** *мн. кулін.* 1. Галушкі, клёцкі з хлебнага цеста і з дабаўленнем цёртай бульбы. *Галдуны рабілі з хлебнага цеста, кідалі ў варатак, варылі і пасыпалі макам.* Магуны Паст. *Галдуны варылі, у галдуны душу кладуць, галдуны з душамі, з бульбы галдуны.* Саланое Віл. 2. Воск у форме шара. *Воск усплывець наверх, яго сціскаюць у жмакі, ці ў галдуны.* Саланое Віл. 3. *перан.* Пра здаровых, поўных дзяцей. *Ляжалі такія галдуны, як гэтыя бліны.* Магуны Паст.

**ГАЛДЭ′БІНА** *ж.* Калдобіна, разбітая каляіна. *А якія галдэбіны на дарозе!* Кураполле Паст.

**ГАЛЕ′ЗНІК** *м.* Гарэзнік, свавольнік. *А хлапец — дык галезнік.* Рыбчына Віл.

**ГАЛЕ′НДА** *м.* і *ж. асудж.* Нядбалы чалавек. *Яна такая галенда.* Вязынка Маладз.

**ГАЛЕ′НЬ** *м.* Дзяркач. *Добра падлогу шараваць гальнём.* Мярэцкія Глыб., Індра Красл.

**ГАЛЕ′РЫЯ** *ж.* Вышкі. *У свірня была галерыя, там сыпалі і сушылі крупы, усё сушылася.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* польск. *galeria,* руск. *галерея* 'вузкае крытае памяшканне, якое злучае часткі будынка; верхні ярус у тэатры; доўгі вузкі падземны ход у ваенных збудаваннях'.

**ГАЛЕ′ТА** *ж.* Няўдобіца, пустэча. *Там галета: ні карова ні пад'есць, ні дроў нет, нет ні лесу, ні грыбоў, ні ягат, толькі тоя, што пасадзюць, пасеюць, то жджы.* Мярэцкія Глыб.

**ГАЛЕ′Ц I** *м. заал.* Галка. *Галец чорны такі.* Рыбчына Віл.

**ГАЛЕ′Ц II** *м.* Тое ж, што і г а л а ш ч о́ к. *Як лёт, снегу німа, то галец.* Рыбчына Віл.

ГАЛЕ'ЦЬ *незак.* 1. Жыць у галечы. *Даўней людзі галелі, пражывалі плахавата.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Худзець, марнець. *Рабёнак галеіць і галеіць.* Мярэцкія Глыб. *Дзіця галея і галея, вродзе бальное, то тоя яму баліць.* Рыбчына Віл.

ГАЛЕ'ЧА *ж.* Паша, дзе мала травы, спасвена. *На галечы папасвіў і прыгнаў.* Жылі Іўеў.

ГАЛЕ'ШАВЫ *прым.* Альховы. *Галешавае гальe ляжыць.* Дзяніскавічы Ганц.

ГАЛЕ'ШНІК *гл.* АЛЕ'ШНІК

ГАЛЁКАЦЬ, ГАЛЯ'КАЦЬ *незак. экспр.* Крычаць, гукаць, галёкаць. *Я думала жануць каравэ, галёкалі за сялом.* Старое Сяло Зэльв. *Чага ён крычыць, галякаіць?* Ністанішкі Смарг.; *параўн.* літ. *aliótі* 'ўлюлюкаць, цюгакаць'.

ГАЛЁН I *м.* Тое ж, што і г а л е́ н ь. *Галён — змецены венік, пнюшкі астаюцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГАЛЁН II *м.* Тасьма. *Каптуры насілі длінныя, вушы галёнам бліскучым апшыты.* Рыбчына Віл.; *параўн.* польск. *galon* 'тж'.

ГАЛЁНКА *ж.* 1. Нага ад шчыкалаткі да калена. *Галёнка — ад калена уніз.* Магуны Паст. 2. Тазасцегнавая косць. *Галёнка ад калена да клуба чыста косць.* Дзяніскавічы Ганц.

ГАЛЁПА *ж. абрад.* Булачка з выдаўленай фігурай бусла. *На благавішчынне пыклы галёпу і з галёпыю буська клыкалы.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* б а р а н а́ 2.

ГАЛЁШЫ *мн.* Галёшы. *Галёшы накладалі на буркі.* Мсцібава Ваўк.

ГА'ЛІВА, ГА'ЛІВО *н.* Тое ж, што і г а́ л а. *Вышлі на галіва: кругом зараслі, а пасрадзіня балотцо, прастор, у ніскум месцы там расце багун. Балота ў полі, няма кустоў, толькі галіва.* Дакудава Лід. *На галіва выгнаў каровы.* Жыдзевічы Іўеў. *У галіві хата стаяла.* Бакшты Іўеў. *Галіво — пустое месца паміж лесу, кустоў.* Альхоўцы Лях. *Галіво — паміж балот ілі между лесу палянка. Галіво — пустоя месца ў лясу.* Малахоўцы Бар.

ГАЛІ'ЗНА *ж.* Тое ж, што і г а л е́ ч а. *На полі такая галізна, няма па чым пасціць.* Магуны Паст. *Тут чыстая галізна, авечкі і каровы выгрызлі траву.* Малькуны Ігн.

ГАЛІНА' *ж.* Галіна. *Нагну галіну, на галіне гарэхі.* Альхоўка Навагр., Рыбчына Віл.

ГАЛІНА'СТЫ *прым.* Галінасты, з вялікай колькасцю галін. *Галінаста дрэво, цёмно ў хаці.* Номікі Бабіц.

ГАЛІНІ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і г а л і н а́ с т ы. *Галінаста дзерава.* Кураполле Паст.

ГАЛІ'ТВА *ж.* Галеча, беднасць. *Галітва была — ні хлеба, ні да хлеба.* Вецярэвічы Пух.

ГА'ЛІЦА *ж.* Тое ж, што і г а л е́ ц I. *Галіца пахожа на варону, варона большая.* Вязынка Маладз.

ГАЛІ´ЦЦА, АЛІ´ЦЦА *незак.* Галіцца. *Голіцца перад люстэркам.* Паляцкішкі Воран. *Задумаў ехаць і не галіўся яшчэ.* Гемзы Шальч. *Свята, то трэба ісці галіцца.* Чычалі Швянч. *Барада вялікая, нада галіцца.* Ракаўскія Швянч. *Аліліся старыя бальшынство.* Быстрыца Астр.

ГАЛІ´ЦЬ *незак.* Галіць. *Тата голяць бараду.* Жодзішкі Смарг. *Мужык сам сабе галіў бараду.* Дакудава Лід.

ГАЛІЯ´Ш *м. экспр.* Бедны чалавек. *Што там ён — галіяш, нічога у яго німа.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ГА´ЛКА I *ж.* Тое ж, што і г а л е́ ц I. *Галка — такая як варонка, толькі нос белы.* Лісна В.-Дзв. *Комін нэ тягнэ, бо галкі гніздо зробілі.* Курашэва Чыж.

ГА´ЛКА II *ж.* Круглы гладкі камень таўчы перац, гарчыцу. *Таўканіцу галкаю таўчэш. Глаткавата с каменя галка, не вельмі кап шарупавала. Знайдзеш на полі каменя такоё кругленькаго, кажа: во добра будзе перац ці гарчыцу церць.* Бабpоўнікі Гарад.

ГА´ЛКІ *мн. кулін.* Галушкі, клёцкі; печыва з мукі і тоўчанай бульбы. *На каляду ідят галкі.* Курашэва Чыж.

ГАЛЛЁ, ГАЛЬЁ, ГАЛЬЕ´, ГУ´ОЛЕ *зб. н.* Сучча, галіны, галлё. *Галлё ляжыць у канавя.* Саланое Віл. *Злажы гальё ў кучу і запалі!* Кіралі Шчуч. *Гальё сухоя зіму і лета насіла.* Вецярэвічы Пух. *Ствол да галья, а вышэй — гальe. Прывёз дробнага галья, з гальем зрэзалі дрэва.* Дзяніскавічы Ганц. *Ён абсекае гальe сасны.* Любішчыцы Івац. *Туолезно яблык на яблынях, што аш гуоле ломіцце. З бору гуоле на зіму возят, коб было чым паліті.* Курашэва Чыж.

ГАЛЛІ´СТЫ *прым.* Тое ж, што і г а л і н а́ с т ы. *Галлістая дзерава стаяла на полі.* Азяраны Раг.

ГА´ЛО *гл.* ГА´ЛА

ГАЛО´ *прысл.* Няма грошай.▽*Купіў бы сяло, але грошай гало.* Номікі Бабіц.

ГАЛО´БЛІ *гл.* АГЛАБЛЯ´

ГАЛО´ДНІЦА *ж.* Тое ж, што і г а л а д о́ ў к а. *Як галодніца была, дык два саганы наварам.* Альхоўка Навагр.

ГАЛО´ДНЫ, ГАЛО´ННЫ, АЛО´ДНЫ *прым.* 1. Галодны. *Цэлы дзень галодна была.* Альхоўка Навагр. *Галодная цярплю і не ем.* Саланое Віл. *Еш, ты ш галонны валачэшся.* Міратычы Карэл. *Карова галонна.* Дзяніскавічы Ганц. *Як не дасі есці, то будзя алодны.* Парэчча Гродз. 2. Неўраджайны. *Галодны гот быў, неўражай.* Бакшты Іўеў.▽*Бо Юр'і — два дурні: адзін халодны, а другі галодны.* Ухвала Круп.

ГАЛО´ДНЯ *ж.* Тое ж, што і г а л а д о́ ў к а. *Мы вам гаварылі, як галодня была.* Альхоўцы Лях.

ГАЛО´НЗАЧКА *ж.*, ГАЛО´НЗАЧКІ *мн. памянш.* Галінка. *Галонзачкі ламаюць і памяло робяць.* Новікі Гродз.; *параўн.* польск. *gałązka* 'тж'.

ГАЛО'ПА, ГАЛЯПА' *прысл.* Галопам. *Конь бяжыць галопа.* Альхоўка Навагр. *Галяпа бех конь.* Жылі Іўеў.

ГАЛО'ТА *ж.* 1. Тое ж, што і г а л е́ т а. *На той галоця нічога не расцець.* Мярэцкія Глыб. *Галота — неўроднае поле.* Азяраны Раг. 2. Бядняк. *Галота, то ў нас бедны зусім чалавек.* Баброўнікі Гарад.

ГАЛО'ЎКА I *ж. памянш.* да г а л а в а́ I. *Ён забалеў галоўкай і далі болі крычыць, енчыцца, не стаў гаварыць, вочы кроўю абышлі.* Кураполле Паст.

ГАЛО'ЎКА II, АЛОЎКА *ж.* Качан. *Галоўка капусты.* Міратычы Карэл., Масілавічы Сл., Дакудава Лід., Магуны Паст., Вялікія Баяры Шчуч., Старыя Трокі Трак., Рудня Астравітая Чэрв., Гемзы Шальч. *Цяперачы ў капусці галавок ня будзя.* Альхоўцы Лях. *Калісь у галаўка́х клалі капусту і елі з алеем.* Дзяніскавічы Ганц. *Капусту лажылі галаўкамі і салілі.* Малахоўцы Бар. *Галаўке́ капусты кладзем у кадушку.* Пацаўшчына Дзятл. *Галоўку капусты з'елі.* Бенякoні Воран. *Галоўку капусты скрышыла.* Відаўцішкі Вільн. *Алоўка капусты.* Быстрыца Астр. *Няма аловак на капусці, бо капуста цыбатая парасла.* Парэчча Гродз.

ГАЛО'ЎКА III *ж.* Чарпачок лыжкі. *Галоўка лыжкі і чэрань.* Жылі Іўеў. *У лышцы галоўка і чарано: за чарано дзяржаць, а галоўка, што чэрпаюць яду.* Гемзы Шальч.

ГАЛО'ЎКА IV *ж.* Тое ж, што і г а л а в а́ II, 2. *Галоўка ў граблях зламалася.* Гемзы Шальч., Парэчча Гродз.

ГАЛО'ЎКА V *ж.* Адзінка вымярэння льну. *Візалі галоўку* [кудзелі] *сем-восем кілаграм.* Індра Красл.

ГАЛО'ЎКІ I *гл.* ГАЛАЎКІ' I

ГАЛО'ЎКІ II *мн.* Загнутыя канцы палазоў у санях. Вязынка Маладз., Глівін Барыс., Калясное Міхал. *У санях палазэ, спераду — галоўкі.* Пацаўшчына. Дзятл. *У галоўкі закладалі што-небуць, штоп снех не ляцеў.* Навікі Лудз.

ГАЛО'ЎНЯ *ж.* Тое ж, што і г а л а в е́ ш к а 1. *Галоўні жжэч не магу.* Пасіене Лудз.

ГАЛУБЕ'НЬКІ *прым. памянш.* да г а л у б ы́ II. *Галубенькія вочы ў яе.* Малахоўцы Бар.

ГАЛУБЕ'Ц *м.* Голуб. *Галубец з галубкай сядзіць.* Магуны Паст. *Галубец прыляцеў.* Ракаўскія Швянч.

ГАЛУБІ'ЦА *ж. бат.* Тое ж, што і б у г а і́. *Галубіцу сушым.* Мішневічы Шум.

ГАЛУБО'ВЕНЬКІ *прым. памянш.* да г а л у б о́ в ы I. *Галубовенькія сукеначкі пашылі.* Альхоўцы Лях.

ГАЛУБО'ВЫ I *прым.* Блакітны, сіні. *Галубова крама* [матэрыя] *е ў магазіне. Галубова крама — сіня крама.* Дзяніскавічы Ганц.

ГАЛУБО'ВЫ II *прым.* Галубіны, невялікі. *Маленькая курка і яйка галубовыя нясець.* Саланое Віл.

ГАЛУБЫ′ I *мн. бат.* Грузды. *Галубы — крэпкія, белыя, як сыр, рэжаш, растуць на бару.* Ухвала Круп. *Галубы — белыя ў бару растуць.* Рудня Чэрв.

ГАЛУБЫ′ II *прым.* Тое ж, што і г а л у б о́ в ы I. *Рашотнік зверху глаткі, ні галубы, а сіваваты.* Дакудава Лід.

ГАЛУ′ДА *ж.* Тое ж, што і г а л а ш ч о́ к. *Еслі марос і замерзніць грась — гэта галуда.* Валынцы В.-Дзв.

ГАЛУ′ЗА I *ж.* Лабатая, бязрогая карова. Старое Сяло Зэльв., Тухавічы, Альхоўцы Лях., Малахоўцы Бар.

ГАЛУ′ЗА II *ж.* 1. Тое ж, што і г а л а в е́ ш к а 1. *Галуза — недагарэлае палена.* Стары Свержань Стаўб. *Галуза надыміла.* Ісерна Слуц. *Галуза асталаса ў печы, як дрова ні дагарაць.* Пасека Ст.-Дар. 2. Тое ж, што і г а л а ў н я́ 1, 2. *У жыце многа галуз, і на просе галуза.* Пасека Ст.-Дар.

ГАЛУ′ЗА III *м.* і *ж.* 1. Гарэза. *Галуза — свавольнік.* Семежава Кап. 2. *экспр.* Недаразвіты, дурнаваты чалавек. *Галуза ты!* Быстрыца Астр. *Галуза — недапечаны нейкі чалавек.* Лапічы Асіп.

ГАЛУ′ЗА IV *ж.* Галіна. *Галуза з лістамі ссечана з дрэва, і пераплятaлі ёю тры палкі і называлі плетнікі.* Крэва Смарг.

ГАЛУ′ЗАЧКА *ж. памянш.* да г а л у́ з а IV. *Прынясі галузачку кропу.* Граўжышкі Ашм.

ГАЛУНЭ′ *мн.* Галушкі. *Галунэ — гэто драныя клёцкі з мясам унутрэ.* Вострава Маст.

ГАЛУ′П, АЛУ′П, ГО′ЛУБ, ГО′ЛУП *м.* Голуб. *Белы галуп прыляцеў.* Саланое Віл. *Галуп прыляцеў. Галубы ляцяць.* Грыкені Вільн. *Галуп зярно пабірая.* Крэва Смарг. *Алуп прыляцеў.* Старыя Смільгіні Воран. *Алубэ ест у нас.* Парэчча Гродз. *Голуб залытів на вышню і сів.* Відзібар Стол. *Есць сізый, белый, рабый, жолтый голуп.* Пасіене Лудз. *Зося шэ голубы тоды дыржяла, дэсь тры чы штыры голубы в її було.* Сіманавічы Драг.

ГАЛУ′ТЛІВА *прысл.* Дрогка. *Галутліва ехаць, снегу нет; ні ў санях, ні ў калёсах ехаць нельга.* Кураполле Паст.

ГАЛУ′ШАЧКА *ж. памянш.* Камячок. *Прасею муку, каб галушачак ні было.* Пасека Ст.-Дар.

ГАЛУ′ШКІ *мн. кулін.* 1. Клёцкі з цёртай бульбы або з мукі. *Картоплі надраць, галушак накачаць і ў кіпяцень кідаць, забельвалі малаком.* Вецярэвічы Пух. *Галушкі з картошкі: адажме, як сыр, качаюць і кідаюць у гаршчок.* Альхоўцы Лях. *З жытняе мукі галушкі варылі. Нскалі канаплямі залеіш і ясі.* Азяраны Раг. *Галушкі мясам надзіваныя варылі.* Мсцібава Ваўк. 2. Рыбныя галушкі. *На засланку рыбу высыпя і тапаром сячэ, галушкі робя і есць.* Гемзы Шальч. 3. Печыва з цеста. *Качалі цеста, рэзалі нажом і пяклі на скавaрадзе галушкі і мачалі ў сыту.* Рудня Астравітая Чэрв. *Галушкі на куцю пяклі.* Альхоўка Навагр. 4. Бульба, пасыпаная льняным семем

і запечаная. *Бульбу абсыпаеш цёртым семем і соллю і ў печ ставіш, палучаецца галушкі альняныя.* Ухвала Круп.

ГАЛЫ′Н *м.* Тое ж, што і г а́ л а 1. *Сярод лесу галын, суніцы там растуць.* Ухвала Круп.

ГАЛЫ′Ш *м.* Абдзёртая лазіна на корані. *Галышоў многа стаіць у лесе. Як не зрэжуць, абдзяруць кару, то кажуць галыш.* Бакшты Іўеў.

ГАЛЬ *ж.* Тое ж, што і г а́ л а 1. *Вышлі на галь — халадно.* Семежава Кап.

ГА′ЛЬВА *ж.* Кальцо, скручанае з дубца. *Гальва дэржыт зуба* [у драўлянай баране], *робылі гальву з лозы.* Горск Бяроз.; *парайн.* літ. *galvà* ’што-н. круглай формы; галава’.

ГАЛЬВІ′ТКА *ж.* Скручаны лазовы дубец, якім прымацоўвалі драбіны ў возе. Курашэва Чыж.

ГАЛЬЕ′, ГАЛЬЁ *гл.* ГАЛЛЁ

ГА′ЛЬКА *ж.* Сподняя жаночая спадніца ці доўгая кашуля без рукавоў. *Галька пад сукенку.* Грыкені Вільн., Беняконі Воран., Чычалі Швянч. *Нада пашыць і папрасаваць гальку.* Гемзы Шальч. *Гальку выспад мне пашыла.* Ракаўскія Швянч. *Галька — белая юбка з зубамі, якую накладалі патспот.* Галубы Маст. *Гальку патспот надзявалі на кашулі, карункі ўшывалі зверху.* Старыя Трокі Трак. *Галька — кашуля, падніз надзявалі.* Пацаўшчына Дзятл. *Галька, як кашуля дліная. На гальккі паркаль набіралі і карункі прышывалі.* Быстрыца Астр. *Галька була, бы сподныця, с хорошого полотна, каруночкы знызу. А посля галькы сталы шыты, бы сорочка, она корочча і быз рукавыв, тожэ с карункамы.* Сіманавічы Драг. *Часамі на споднюю юпачку гаворацъ галька.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *halka* ’сподняя спадніца’.

ГАЛЬМАКАВА′ЦЬ *незак. экспр.* Крычаць, гучна размаўляць. *Чаго вы* [дзеці] *гальмакуіцця? Чаго ты гальмакуеш?* Груздава Паст. *Як мужык пашоў ды моцно гаворыць, то жонка скажа: «Пашоў гальмакавацъ».* Альхоўцы Лях.

ГАЛЬНІ′К *м.* Тое ж, што і г а л е́ н ь. *Гальнікам падлогу шаруюць.* Рыбчына Віл., Вялікія Нястанавічы Лаг. *У сенях гальнік.* Ёдлавічы Брасл.

ГАЛЬТМА′НКА *ж.* Сорт бульбы. *Моцная бульба, ружовая такая, круглая, смачная, звалі гальтманкаю.* Альба Нясв.; *парайн.* ням. *Halt* ’апора, вытрыманасць, устойлівасць’.

ГАЛЬЦО′М *прысл.* Тое ж, што і г а л а ш ч о́ к а м. *Гальцом марос цісне.* Беразіно Докш.

ГАЛЬЯВА′ТЫ *прым.* Тое ж, што і г а л і н а́ с т ы. *На полі гальяватыя дрэвы растуць.* Дзяніскавічы Ганц.

ГАЛЬЯ′К *гл.* ГЛЯК

ГАЛЬЯЧКО′ *зб. н. памянш.* да г а л ь е́. *Наламаў сухога гальячка і распаліў агонь.* Кіралі Шчуч.; *гл.* г а л л ё.

ГАЛЭ′НЗІ *мн.* Галіны, галлё. *У астаронак на землю галэн-*

*зі паложаць і снапы складаюць.* Стральцы Шальч. *Паленаў наложаць, галэнзі пат стох.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *gałąź, gałęzi* 'тж'.

ГАЛЮ'КА *ж.* Тое ж, што і г а л у́ з а IV. *Галюку дастанеш і пругібаеш рукамі да зямлі. Дзве галюкі адламала смуродніку.* Азяраны Раг.

ГА'ЛЯ I *гл.* ГА'ЛА

ГА'ЛЯ II *ж.* Стрэшка над сенам. *Галя — такі навес, чатыры стаўбы, туды складаецца сена, салома, кап дошч не намачыў. Пад галяй злажыў.* Жодзішкі Смарг.

ГАЛЯВЕ'Й *прысл.* Дзе ёсць прагаліна. *Цяпер, дзе троха галявей, там сено схне добро. Хай жануць* [жывёлу] *сюды, тут галявей, тут на полі, а там у лесе.* Дзяніскавічы Ганц.

ГАЛЯВЕ'ЙШЫ *прым. выш.* да г а́ л я в ы. *Курган — галявейшае место сярод лесу.* Дзяніскавічы Ганц.

ГА'ЛЯВО *н.* Тое ж, што і г а́ л а 1. *Галяво — там німа лесу, между лесу галяво.* Тухавічы Лях.

ГА'ЛЯВЫ *прым.* Бязлесны. *Галявае места, дзе німа лесу.* Дзяніскавічы Ганц.

ГАЛЯ'ЖЫНА *ж.* Дубец, лазіна. *Як дам галяжынай!* Галубы Маст.

ГАЛЯ'КАЦЬ *гл.* ГАЛЁКАЦЬ

ГАЛЯЛЁД, АЛЯЛЁТ *м.* Тое ж, што і г а л а л е́ д з і ц а. *Галялёд — сліска, нагамі не ступіш.* Галубы Маст. *Як пападая дошч і падмерзня, тады галялёд.* Вялікія Баяры Шчуч. *Галялёд пакрыў дарогу.* Альхоўцы Лях. *Ідзі паціху, дзісь алялёт.* Стральцы Гродз.

ГАЛЯЛЁДЗІЦА *гл.* ГАЛАЛЁДЗІЦА

ГАЛЯПА' *гл.* ГАЛО'ПА

ГА'ЛЯЧКА *ж. памянш.* да г а́ л ь к а. *Паркальку купіць і пашыяць галячку.* Магуны Паст.

ГАМАНІ'ЦЬ, ГОМОНІ'ТЫ *незак.* Гаварыць. *Хто ш тут гамоня?* Лоск Валож. *От сыділы собі, гомонілы.* Сіманавічы Драг. 2. Асуджаць. *На яго людзі гаманілі.* Азяраны Раг. 3. Дакараць, папракаць. *Нешта бацька гаманіў на яе.* Багушэвічы Бярэз. *Гомонів на іі за тое, шо ны так зробыла.* Сіманавічы Драг.; *гл.* ДАБМ, карта № 320.

ГАМАНКІ' *прым.* Тое ж, што і г а в а р к і́. *Гаманкі чалавек і яна гаманкая.* Рудня Астравітая Чэрв.

ГА'МАТІ *незак. дзіцяч.* Есці. *Гамай, дітятко, як сіетэ згамаеш, то шчэ дам.* Курашэва Чыж.

ГАМА'ШЫ *мн.* Камашы. Скураны абутак з гумовымі палоскамі. *У гамашах рэзінкі з бакоў, кожаныя яны.* Пацаўшчына Дзятл. *Насунуў гамашы.* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *kamasz* 'чаравік'.

ГАМЗАВА'ТЫ, ГАМЗА'ТЫ *прым.* 1. Гугнявы. *Гамзаты гаворыць у нос.* Магуны Паст. *Гамзаватая дзеўка, гавэнда не-*

*харошая*. Гемзы Шальч. 2. Картавы. *Гамзаваты не выгаваравая слоў*. Рыбчына Віл. *Гамзатая дзяўчына*. Мярэцкія Глыб.

ГАМЗА́ЦЬ *незак*. Гугнявіць, невыразна гаварыць. *Гамзаты гамзая, не разбярэш што*. Рудня Астравітая Чэрв.

ГАМЗУ́ЛЬ *м*. Тое ж, што і г а м з а в а́ т ы 1. *Гамзуль ты, гамзіш*. Саланое Віл. *Гамзуль гамзая, у нос гавора*. Азяраны Раг.

ГАМОВА́ТІ *незак*. Тармазіць, стрымліваць. *Як з горыэ зйіжджают, то гамуют*. Курашэва Чыж.; *параўн*. польск. *hamować* 'тж'.

ГАМО́ЛА *ж*. Тое ж, што і г а л у́ з а I. *Ест жывіна бэз рог — гамола*. Парэчча Гродз.; *параўн*. літ. *gamulà* 'тж'.

ГАМО́НКА *ж*. Гутарка, размова. *У іх гамонка свая, будуць гаманіць і гаманіць*. Вецярэвічы Пух.

**ГАМУ́ЙЛА** *м*. і *ж*. *зневаж*. Неахайны чалавек. ***Гамуйла** апусцілася валасамі*. Гемзы Шальч.; *параўн*. польск. *chamujło* 'хам, няспрытны, разява', літ. *gamulà* 'хто брудны, неразвіты, нявыхаваны'.

ГАМУЛЕ́ЦЬ *м*. Прыстасаванне для тармажэння воза. *У нас до возуов гамульцюов нэ купляют*. Курашэва Чыж.

ГАНАВІ́ЦЫ, АНАВІ́ЦЫ, ГАНАВЫ́ЦІ толькі *мн*. Верхнія і споднія штаны, нагавіцы. *Цяпер патштанікі, а некалі ганавіцы звалі*. Рыбчына Віл. *Ганавіцы шылі з цвікляю*. Дзяніскавічы Ганц. *Шарачковыя ганавіцы, выччаш зрэбныя — і насілі*. Рыбчына Віл. *Ганавіцы класці трэба*. Вострава Маст. *Ганавіцам тым лет трыццаць было*. Кураполле Паст. *Абрызгаў ганавіцы*. Номікі Бабіц. *Анавіцы былі ніжнія*. Стральцы Гродз. *Шараке на анавіцы ткалі*. Парэчча Гродз. *Купыла хлопцёвы матеры на рубашку і на ганавыці*. Сіманавічы Драг.∇*Кыці* [кату] *на нагавыці* — вельмі мала. *Гэтого полотна оно кыці на ганавыці*. Сіманавічы, Відзібар Драг.; *гл*. ДАБМ, карта № 326.

**ГА́НАК, ГА́НОК** *м*. 1. Ганак. *Зайдзіця на ганак, сядайця*. Старыя Трокі Трак. *У нас ганак і віранда*. Альхоўцы Лях. *Там у ганку стаіць вядро*. Жылі Іўеў. *Хата з ганкам*. Номікі Бабіц. *Лежоў под ганкам*. Малыя Аўцюкі Калінк. *Хоч на ганку од дошчу схаваймось*. Сіманавічы Драг.; *параўн*. польск. *ganek* 'тж', ням. *Gang* 'тж'. 2. Прыступкі перад парогам. *На ганку сіла. В Сымоновыч скажуть — помышчык, а на Вільцы — ганок*. Вулька Сіманавіцкая Драг.

ГАНА́К *м*. Паганяты. *Ганак ганяя коні, сядзя на каня і ўсю стаду гоня на пашу*. Азяраны Раг.

ГАНАРО́ВЫ, ГУНУРО́ВЫ *прым*. 1. Пачэсны, ганаровы. *Жонка яго ганарова, уважна, с тае вёскі*. Альхоўка Навагр. *Гунуровы чалавек*. Ністанішкі Смарг. 2. Ганарысты. *Ён ганаровы быў, загаварыць да яго — не так проста*. Кураполле Паст. *Такі ганаровы быў*. Вецярэвічы Пух. *Яна дзяўчына гунуровая*.

Ністанішкі Смарг.; *парайн.* польск. *honorowy* 'ганаровы; пачэсны'.

ГАНАШЫ'ЦЬ *незак. экспр.* Рыць. *Свіні давай ганашыць надворак.* Кіралі Шчуч.

ГАНГРЫ'НА *ж. мед.* Гангрэна. *Парэзаў паліц, потым гангрына патстала.* Кураполле Паст. *Гангрына аж да сэрца пашла.* Гемзы Шальч. *Гангрына ў ногу ўпала.* Номікі Бабіц.

ГАНГУЛІ', ГАНГЯЛЕ' *мн.,* ГАНГЯ'ЛЬ *м.* Тое ж, што і б а м б у л і. *Гангулі ў авечак на нагах вісяць.* Ракаўскія Швянч. *Кляшняке ўпіваюцца і як гангяле вісяць кала лымя. У каровы вісіць гангяль.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *kañkalas* 'тж'.

ГАНДЗЮЛІ' *мн. экспр.* Гандляры. *Гандзюлі лён прадавалі.* Груздава Паст.

ГАНДЗЮ'РЫЦЬ *незак. экспр.* Размаўляць, гаманіць. *Стаяць і гандзюраць бабы.* Лоск Валож. *Гандзюрылі бабы, сабраўшыся.* Кураполле Паст.

ГАНДЛЁЎШЧЫК *м.* Гандляр. *Гандлёўшчыкі коні мянялі.* Рыбчына Віл.

ГАНДЛЯВА'ЦЬ I *незак.* Прадаваць, гандляваць. *Ён каровы гандляваў.* Дакудава Лід. *Гандлююць коньмі цыганы.* Грыкені Вільн.; *парайн.* ням. *Handel* 'гандаль', *handeltreiben* 'гандляваць' (магчыма, праз польскую).

ГАНДЛЯВА'ЦЬ II *незак.* 1. Тое ж, што і г а й н я в а́ ц ь. *Гандлююць вайке, гандлюя ваўчыха, а вайке за ею бягуць; і сучка гандлюя.* Альхоўка Навагр., Міратычы Карэл. 2. Распуснічаць. *Тут адна баба гандлюя мушчынамі.* Альхоўцы Лях.

ГАНДЛЯ'Р *м.* Тое ж, што і г а н д л ё ў ш ч ы к. *Гандляр коньмі гандляваў.* Гемзы Шальч. *Гандляр гандляваў коньмы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГАНЕ'БНЕ *прысл.* 1. Вельмі, надта. *Раса ганебне велькая. Ганебне горкі грып — ваўнянка. Ганебне злая дзейка. Яна ганебне сыта.* Жылі Іўеў. 2. Хутка. *Яна ганебне робіць.* Жылі Іўеў. 3. Шмат, многа. *Ён тэрас курыць так ганебне. Ганебне п'е.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* бел. літар. *ганебна,* польск. *haniebnie* 'ганебна, нізка, подла'.

ГАНІКІ' *гл.* ГАЙНІ'К

ГАНІ'ЦЬ, ГОНІ'ЦІ, ГОНЫ'ТЫ *незак.* 1. Гнаць, пасвіць (жывёлу). *Ганіць трэба карову.* Чычалі Швянч. *Цяпер мусіць сам ганіць каровы ўсё врэмя. Як зварыла есці, тады ганіла ў поля.* Навасёлкі Свісл. *Ён ні ганіў — я заўсюдны ганіла каровы, ён лічаны рас ганіў каровы. Скаціну больш карміць, як ганіць.* Дзяніскавічы Ганц. *Скот ужэ ганілі.* Семежава Кап. *Каравы ганіў.* Калядзічы Ваўк. *Ганіў кароў.* Пасека Ст.-Дар. *Каторые не ганілі яшчэ кароў у поля.* Пацаўшчына Дзятл. *Яна не ганіла і не пагоніць каровы.* Вецярэвічы Пух. *Глядзець трэба, ці каровы ганілі.* Масілавічы Сл. *У Грапско ганілі па-*

*свіць.* Альхоўцы Лях. *На дзень па два рас ганіла каровы.* Тухавічы Лях. *Як я ганіў карову, то бачыў яго.* Міратычы Карэл. *Трэба гоніці пасвіці; я гоню, воны гонят.* Смаляніца Пруж. *Яны гонілі товар.* Малыя Аўцюкі Калінк. *По тры раза гонылі.* Горск Бяроз.; *параўн.* укр. *гонити* 'гнаць', літ. *ganýti* 'пасвіць'. 2. Весці. *Сказаў каня ганіць да яго.* Асавец Віл. 3. Абворваць. *Калісь пахалі землю сахою і ганілі картоплю сахою, а цяпер плух і шуляк. Трэба і нашу ганіць картоплю. І тут будзя ганіць.* Дзяніскавічы Ганц. *Вжэ пора картоплі гоныты.* Сіманавічы Драг. 4. Праследаваць, выганяць, гнацца. *Нашы ганілі фашыстаў.* Мсцібава Ваўк. *Ганілі казакі людзей.* Старое Сяло Зэльв. *Гадзюка ганіла чалавека.* Каўняны Гродз. 5. Сплаўляць. *Лес ганілі моллю ў Дараганаў.* Вецярэвічы Пух. 6. Здабываць, гнаць. *Дзёгаць із бярозавай кары ганілі.* Дзяніскавічы Ганц.

ГА'НІЦЬ, ГА'НЫТЫ *незак.* Ганьбіць. *Сынаву нямошна ганіць, не благая.* Стральцы Шальч. *Яна ўсё ганіць.* Магуны Паст. *А вы ганіця нас.* Саланое Віл. *Ганілі яго.* Чычалі Швянч. *Ні гань ты людзей!* Гемзы Шальч. *Сварыла іі, ганыла.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол.

ГАНКО'ЎШЧЫК *плыт.* Плытнік. *Ганкоўшчыкі плылі на ганку па раке, ганок так не задзержыш.* Валынцы В.-Дзв.

ГАННЯ' *гл.* ГАЙНЯ'

ГАНО'К *м.*, ГАНКІ' *мн. плыт.* Плыт. *Ганок візалі віццём, віткі рубілі і круцілі, парылі ў печы. Даўней у нас ганкі ганялі ў Свольну, а там у Дрысу, і аш да Рыгі ішлі ганкі цэлым караванам. Мой ацец-пакойнік ганяў ганкі ў Рыгу.* Лісна В.-Дзв. *Гналі ганкі вясной, гналі ў Германію, а з Германіі — у Америку. Дзе ганкі ганяюць, там ёсць румы.* Валынцы В.-Дзв. *І па возіры ганкі ганяюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *У нас, як ганкі гналі, парваўся ганок.* Кураполле Паст.

ГАНТА' *зб. ж.* Гонта. *Ганта са шпорамі, адзін бок войстры заходзіць у шпар.* Саланое Віл. *Гантою крылі крышы, абгладжуюць, шпар выразаюць.* Лапічы Асіп.; *параўн.* польск. *gont* 'гонта'<ням. *Gant* 'перакладзіна' (Фасм., I, 4).

ГАНУ'ЧА *ж.*, ГАНУ'ЧЫ *мн.* 1. Кавалак тканіны, якой абмотваюць ногі. *Трэба абувацца, пакуль ён ганучы найдзе, ці чашоў ганучы?* Гемзы Шальч. *Ганучы у кашэ.* Вялікі Краснік Пруж. *Тыпэр я быз ганучэй обув чоботы.* Сіманавічы Драг. 2. Сцірка. *Гануча каля печы вісіць рукі выціраць.* Старое Сяло Зэльв. *Гануча выціраць лаву.* Міратычы Карэл. *Вытры ослона ганучыю. Гануча — шо чыгуны с пэчы выйматы.* Сіманавічы Драг. 3. толькі *мн.* Зношанае адзенне, трап'ё. *З ганучаў ткалі ходнікі.* Дакудава Лід. *Ганучнік бярэма гануч забіраў.* Гемзы Шальч. *Ганучы пазбірай, памый.* Міратычы Карэл.

ГАНУ'ЧКА *ж. памянш.* да г а н у́ ч а 2. *Ганучкай сцерла стол.* Старое Сяло Зэльв. *Укручваюць насенне ў ганучку.* Аль-

хоўка Навагр. *Ганучку пасцелем і паложым яго.* Новікі Гродз.

ГАНУ'ЧНІК, ГАНУ'ЧНЫК *гл.* АНУ'ЧНІК

ГАНЧА'К *м.* Гончы сабака. *Ён с ахотніцкіх сабак, з ганчакоў.* Камена Лаг. *У яго былі ганчакі.* Саланое Віл.

ГАНЧА'Р *м.* Хто вырабляе гаршкі. *Быў большы крух, камок гліны ганчар паложа, нагамі круця, рукамі гліну выцягвая, што нада, тоя выцягвая і ў печы выпальвая.* Гемзы Шальч. *Ганчар гаршкі выробляў.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв.

ГАНЧА'РНЯ *ж.* Ганчарная майстэрня. *У ганчарні з гліны ганчар рабіў тое, што нада было людзям.* Гемзы Шальч.

ГАНЧО'РКА *ж.* Тое ж, што і г а н ў ч а 2. *Ганчоркай гаршкі бяруць.* Вострава Маст.

ГАНШЧА'Р *м.* Гушчар. *Папаў у ганшчар лесу.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *gęstwina* 'тж'.

ГА'НЫТЫ *гл.* ГА'НІЦЬ

ГА'НЬБА *ж.* Фізічны ці іншы недахоп, загана. *Чалавек мае ганьбу, як слабы, хворы ці неўдалы.* Груздава Паст. ◊ *Ганьбу даць* — зганьбаваць. *Жонка да работы плахая, гультай — ганьбу даў і пакінуў.* Вецярэвічы Пух. *Я яму ганьбы не давала.* Дзяніскавічы Ганц.

ГАНЬБАВА'ЦЬ, ГАНЬБОВА'ТІ *незак.* 1. Тое ж, што і г á н і ц ь. *Што нявестку ганьбаваць.* Вецярэвічы Пух. *Нічога не ганьбуя, ніпераборлівы, усё есць.* Дакудава Лід. 2. Грэбаваць, брыдзіцца. *Вуон намі ганьбуе, навэть говорыті нэ хочэ; нэ ганьбуй намі, сять і посіді!* Курашэва Чыж. *Вын ны ганьбуе намы.* Сіманавічы Драг.

ГАНЬЕ', ГАНЬЁ *гл.* ГАЙНЯ'

ГА'НЬКІ толькі *мн.* Тое ж, што і г á н а к. *Майстарскі быў, ганькі рабіў.* Ёдлавічы Брасл.

ГАНЯВА'ЦЬ *гл.* ГАЙНЯВА'ЦЬ

ГАНЯ'НЫ *дзеепрым.* Абараны. *Тут ганяная бульба.* Асавец Віл.

ГАНЯ'ЦЦА *незак.* 1. Бегаць, заляцацца. *Наш маліц ганяецца за гэтай дзеўкай.* Валынцы В.-Дзв. 2. Любіць каго-н., што-н., жадаць. *Дзяцёнак ганяецца за маткай. Куры ганяюцца за камбікормам.* Валынцы В.-Дзв.

ГАНЯ'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і г а н í ц ь 1. *У поля ганяіць і пасець — гэта адно і тоя ш. У лес не ганяяць кароў.* Груздава Паст. *Ён сколькі жывець — у поля ганяець. Будзеш у нас у поля ганяць; кажды дзень пасі карову.* Саланое Віл. *Гот у поля ганяў. Пастыр ганяя у поля на пашу.* Рыбчына Віл. *Дзеці у поля ганялі.* Валынцы В.-Дзв. *Меншы сын у поля ганяіць.* Лісна В.-Дзв. *Па бару ганялі кароў.* Янова Рас. 2. Тое ж, што і г а н í ц ь 3. *Мы той дзень ганялі бульбу.* Беразіно Докш. *Ганяюць сахой бульбу ці плушком.* Мярэцкія Глыб. 3. Выганяць адкуль-н. *Ёй няма калі гаварыць, нада курэй га-*

*няць*. Груздава Паст. *Вы качкі ганялі?* Лоск Валож. 4. Тое ж, што і г а н і ц ь 5. *Плытэ ганялі ў Коўна*. Бакшты Іўеў. *Адзін гоніць клейню, а ё, што ганяюць па дваіх*. Азяраны Раг. *Плыты ганялі з Вільня да Коўна*. Грыкені Вільн. 5. Праследаваць. *Ганяў фашыст людзей па свету*. Магуны Паст.

**ГА′ПА** *м.* і *ж. экспр*. Разява. ***Гапа*** *ты, чаго глядзіш?* Жылі Іўеў. *Нэ будь гапою, нэ дайсе ошукатісе*. Курашэва Чыж.; *парайн*. польск. *gapa* 'тж'.

**ГА′ПІТІСЕ** *незак. экспр*. Зяваць. *Чаго ты гапіссе, хучыэй ході!* Курашэва Чыж.

**ГА′ПКА, А′ПТКА** *ж.* 1. Гафтачка, пятля. *Гаплюк чапляўся за гапку*. Новікі Гродз. *Гапка драцяная, вырвалася гапка*. Кіралі Шчуч. *Зрабі аптку да кручка*. Быстрыца Астр. 2. Кнопка. *Гапка, а цяпер кнопка*. Дакудава Лід. 3. Прарэшак. *Гапка для гузіка*. Вострава Маст. *Гапка да гузіка, во гапка разарвалася, трэба гапку шшыць*. Кіралі Шчуч. *У гапку брызгуле працягваюць*. Пацаўшчына Дзятл. *З ірхі рабілі гузікі і апткі*. Старыя Трокі Трак.

**ГАПЛІ′К, ГАПЛЮ′К, АПЛІ′К, АПЛЮ′К** *м.* 1. Гаплік. *Гаплік і гапка*. Азарычы Пін. *Ушыла гаплік і гапельку*. Малыя Аўцюкі Калінк. *Гаплюк, гаплюке пры штанох, гаплюк чапляецца за гапку*. Новікі Гродз. *Гаплюк вырваўся у спадніцы*. Галубы Маст. *Гаплюке у спадніцу ушыла*. Пацаўшчына Дзятл. *Зашпіліся, я гаплюк ушыла*. Стральцы Гродз. *Ушыла гаплюк у спадніцу*. Кіралі Шчуч. *Аплік ушый, а то спадніца зваліцца*. Беразіно Докш. *Аплік — кручок, а петлячка — для кручка*. Крэва Смарг. *Аплікамі зашпілівалі*. Ракаўскія Швянч. *Аплік— як цяпер кручок*. Малахоўцы Бар., Стральцы Гродз., Крупіца Мін. *Цяпер ні пачуяш аплік, кажуць — кручок*. Ісерна Слуц. *Аплюке ўшыла ў спадніцу*. Пацаўшчына Дзятл. *Аплюк ушый у повяс*. Дакудава Лід. 2. Драўляны гузік. *Аплік з дрэва, дзеравянны*. Рудня Астравітая Чэрв.

**ГАРА′ I, ГОРА′** *ж.* 1. Узвышша, узгорак, высокае месца. *С-пад гарэ ідзе крыніца*. Сапоцкіна Гродз. *Палес на гóру*. Альхоўцы Лях. *Кусты на гары*. Галоўні Воран. *Пойдзем на гару. За гарой яго хата*. Грыкені Вільн. *Его хата стояла на горі*. Сіманавічы Драг. 2. Прастора паміж столлю і страхой хаты. *Гара на хаце, палезла на гору*. Дзяніскавічы Ганц. *Прышэўнік с сукна цяпер недзя на гарэ валяяцца*. Магуны Паст. *Злась на гару*. Крэва Смарг. *Люфт называлі, а па-простаму — на гару*. Старыя Трокі Трак.

**ГАРА′ II** *ж.* Кара. *Ялову гару здзіралі і прыкрывалі калоткі* [пчол]. Альхоўцы Лях.

**ГА′РА** *ж. перан. экспр*. Гарэлка. *Як тыя п'яніці туолэзно тойіе гары п'ют*. Курашэва Чыж.

**ГАРАБЕ′Й, ГАРАБЭ′Й** *м.* Верабей. *Гараб'е пааб'ядалі вішню*. Малахоўцы Бар., Масілавічы Сл. *Гарабей прыляцеў у*

*сені.* Міратычы Карэл. *Гарабэй сэдзіт у кублові.* Смаляніца Пруж. *Гараб'е усе стручке едзят.* Ялова Пруж.

ГАРАБЕ'ЙЧЫК *м. памянш.-ласк.* да г а р а б е́ й. *Зімовашні гарабейчык.* Альхоўка Навагр.

ГАРАБІ'НА *гл.* АРАБІ'НА

ГАРАБУШО'К *м. памянш.-ласк.* да г а р а б е́ й. *Гарабушок скача па дарозі.* Хатынічы Ганц.

ГАРАБЭ'Й *гл.* ГАРАБЕ'Й

ГАРАВА'ЦЬ, ГОРЭВА'ЦЬ *незак.* 1. Бедна жыць. *Дауней гаравалі, хлеба не мелі.* Гемзы Шальч. 2. Цярпець боль, мучыцца. *Гарую с пальцам, другі месяц баліць.* Валынцы В.-Дзв. 3. Перажываць, тужыць. *Мужык памёр — буду дна горэваць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ГАРАДЖА'НКА *ж.* Загарадка. *Цялёнак уцёк з гараджанкі.* Валынцы В.-Дзв.

ГАРАДЗІ'ЦЬ *незак.* Абгароджваць. *Буду гарадзіць плот, бо разваліўся.* Ліпнікі Вільн. *Гарадзіць плот няма чым, нада ехаць у лес.* Саланое Віл. *Плот гарадзілі так: пераплятали кручанымі бярозавымі дупцамі і клалі жэрдзі на пераплёт.* Кураполле Паст. ◇*Ірунду гарадзіць* — гаварыць глупства. *Што ты ірунду якую гародзіш.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГАРАДНІНА' *ж.* Агароднiна. *Пара збіраць гарадніну з гародаў — буракі, кручку, морхву.* Гемзы Шальч.

ГАРАДЫ' *мн.* Агароды. *Гарады недалёко ад дарогі.* Альхоўцы Лях.

ГАРА'ННЕ, ГАРА'НЁ, ГАРАНЯ' *н.* Ворыва. *Быў на полі, прышоў з гарання.* Паляцкішкі Воран. *Якоя тваё гаранё, як сабака на камянь — ты так пагарау.* Кіралі Шчуч. *Надходзе гараня, як гаруць.* Грыкені Вільн.

ГАРА'НЫ *дзеепрым.* Узараны. *У мяне гарана поле, я ужэ пагарау.* Паляцкішкі Воран.

ГАРАТА'Й *гл.* АРА'ТЫ

ГАРАТНЕ'Й *прысл.* У горшых умовах. *Мы гадавалі сваіх дзяцей больш гаратней.* Ёдлавічы Брасл.

ГАРАТНІ'К *м.* Гаротнік. *Пасынак бываіць самы гаратнік, мачыха ня раз атлупіць.* Ёдлавічы Брасл.

ГАРАТНЫ' *прым.* Гаротны. *Гаратная бапка, у горы жыла, бідната была.* Валынцы В.-Дзв. *Гаратныя коні — цяжка робіць.* Ёдлавічы Брасл.

ГАРА'ТЫ *гл.* АРА'ТЫ

ГАРАХВЕ'ННЕ *н.* Гарохавішча. *Можа яна там на гарахвенні ходзіць, карова?* Глівін Барыс.

ГАРАХВІ'НЫ, ГАРАШВІ'НЫ толькі *мн.* Гарашыны. *Гарахвіны на сечку рэжуць, добра ядуць каровы. Салоткі гарох— салоткія і гарахвіны.* Міратычы Карэл. *Гарахвіны добра скаціна есць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Гарашвіны добра ядуць каровы.* Альхоўка Навагр.

ГАРАХВЯ'НІСКО *н.* Тое ж, што і г а р а х в і н ы. *Трэба каню даць гарахвяніска.* Міратычы Карэл.

ГАРАХВЯ'НКА *ж.* Тое ж, што і г а р а х в е́ н н е. *Гарахвянка — дзе гарох рос.* Жылі Іўеў.

ГАРА'ЦЦА *незак.* Араццa. *Гарэцца папар, патом баранують.* Гемзы Шальч.

ГАРА'ЦЬ *гл.* АРА'ЦЬ

ГА'РАЧ *гл.* ГО'РАЧ

ГАРА'ЧА, ГАРАЧО', ГАРАЧЭ', ГО'РАЧА, ГО'РАЧО *прысл.* Горача. *Было так гарача.* Чычалі Швянч. *От гарача дзісяй.* Грыкені Вільн. *Вот гарачо на дварэ. І ўчора гарачо было. Тут гарачо — тут халадно, як пойдзеш.* Кіралі Шчуч. *На дварэ гарачо, паліць.* Паляцкішкі Воран. *Гарачо дзісь.* Старыя Смільгіні Воран. *Ужэ тры гадзіны — ашчэ гарачо.* Навасёлкі Свісл. *Ідзеця ў хату, гарачо сядзець.* Альхоўка Навагр. *Гарачо, не буду ў печы паліць.* Старое Сяло Зэльв. *Гарачо мне.* Вялікія Баяры Шчуч. *Было так гарачо.* Чычалі Швянч. *Было гарачэ мне.* Вострава Маст. *Гарачэ было на дварэ.* Мсцібава Ваўк. *На палянцы гарачэ.* Вялікі Краснік Пруж. *У хаці гарачэ.* Смаляніца Пруж. *Вельмі гарачэ.* Старая Каменка Сакол. *Горача на дворы.* Галубы Маст. *Юзюк любя, кап у хаці горача было.* Лоск Валож. *Горача тады было.* Альхоўка Навагр. *Горачо ў Мінску.* Вецярэвічы Пух. *Горачо, німа чым дыхаць.* Малахоўцы Бар.

ГАРА'ЧАЕ *н.*, ГАРА'ЧЫЯ *мн. абрад.* Памінальны стол. *Пойдам на гарачае, як пахаваюць яе.* Дзяніскавічы Ганц. *Як пахароняць, гарачыя правяць.* Семежава Кап.

ГАРА'ЧАЯ ПО'ЛЬКА *ж.* Вельмі хуткага тэмпу полька. *Зайграй гарачую польку, у ёй быстра круцяцца.* Пацаўшчына Дзятл.

ГАРА'ЧКА, ГАРО'НЧКА, ГОРО'НЧКА *ж. мед.* 1. Высокая тэмпература. *Худа яму, балее, але гарачкі няма.* Паляцкішкі Воран. *Гарачка паліла да сарака: як схопіцса баба, на сцену лезла.* Крынкі Крын. *Гарончка ў яе велька.* Пацаўшчына Дзятл. *Гарончка высока, у галаве круціцца.* Каўняны Гродз. *У яе горончка была.* Мсцібава Ваўк. *Горончка була.* Сіманавічы Драг. *З горончкі ўмер ён.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вялікая гурончка ў яго.* Мярэцкія Глыб. 2. Тыф. *На гарачку хварэў.* Кураполле Паст. *Гэта немач гарончка — набірушча хвароба.* Рыбчына Віл. 3. Грып. *Гарончка — гэта грып. Гарончка ні тоя, што ціп, ціп жару падымая і высыпая, а гарончка — жара.* Дакудава Лід. 4. *перан.* Працавіты, непаседлівы чалавек. *Яков ны посыдыть быз роботы, гэто горончка, а ны чоловік.* Сіманавічы Драг. ▽*Каб цябе гарончка ўзяла!* Галубы Маст. *Каб цябе завярнула гарончка!* Альхоўка Навагр. *Хай іх горончка!* Гемзы Шальч.

ГАРАЧО' *гл.* ГАРА'ЧА

ГАРА′ЧЫ, АРА′ЧЫ *прым.* 1. Моцна нагрэты. *Тут у гаршку гарачая вада.* Лоск Валож. *Гарачай капусты з'еш.* Мсцібава Ваўк. 2. З павышанай тэмпературай. *Голова твая гарача.* Смаляніца Пруж. 3. Сапрэлы (пра сена). *Сыраватае сена ў копках бувае арачае.* Парэчча Гродз. 4. Напружаны час у перыяд уборкі ўраджаю. *Патходзіць гарача лета, работы натто много.* Альхоўка Навагр. *Само гарачы час.* Навасёлкі Свісл. *Гарачая пара: жніво, сенакос.* Рудня Астравітая Чэрв., Жылі Іўеў. 5. Цёплы [пра адзенне]. *Рубашку ты гарачую надзела.* Груздава Паст. *Гарачы сарафан — гэтага гарачага насіць ня буду.* Вецярэвічы Пух. 6. *перан.* Запальчывы, раз'юшаны. *Ён гарачы-гарачы, вотку п'ець і шалёны зробіцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГАРАЧЫНЯ′ *ж.* 1. Тое ж, што і г о́ р а ч 1. *Гарачыня, быдла не ходзіць.* Бакшты Іўеў. *Як пабудзіш на гарачыні доўга — ваду п'еш.* Саланое Віл. *Цілый дэнь була такая гарачыня.* Сіманавічы Драг. 2. у знач. *прысл. гарачынёй.* Апоўдні, у час спёкі. *Везлі яго гарачынёй.* Жылі Іўеў. *Гарачынёй катар бывая, як спацеіш, а тады вецяр халодны павеіць. Самай гарачынёй паехаў.* Груздава Паст. 3. Тэмпература, гарачыня пры азнобе. *Прачынаюся — гарачыня дась у галаву, а тады сцюжа, усю калоціць, трасець.* Груздава Паст.

ГАРАЧЭ′ *гл.* ГАРА′ЧА

ГАРАШВІ′НЫ *гл.* ГАРАХВІ′НЫ

ГАРБА′ *ж.* Тое ж, што і г а р а́ н н е. *Гараня, гарба — як гаруць.* Грыкені Вільн.

ГАРБАВА′ТЫ ГАРО′Х *м.* Сорт гароху. *Гарбаваты гарох — буйныя струкі, ён цукровы.* Гемзы Шальч.

ГАРБАЛЫ′СЫ *прым.* Які мае белую палоску на хрыбце. *Гарбалысая, як спіна белая.* Кураполле Паст.

ГАРБА′Р, ГРА′БАР *м.* Хто вырабляе скуры. *У гарбарні гарбар выдзелваў.* Быстрыца Астр. *Твой конь ня поіны — у гарбара нап'ецца.* Кураполле Паст. *Грабар быў.* Рыбчына Віл.; *параўн.* ням. *Gerber* 'тж', польск. *garbarz* 'тж'.

ГАРБА′РНІК *м.* Тое ж, што і г а р б а́ р. *Гарбарнікі чаны імелі.* Быстрыца Астр.

ГАРБА′РНЯ, ГРАБА′РНЯ *ж.* Прадпрыемства, дзе вырабляюць скуры. *У гарбарню скуры вазілі.* Быстрыца Астр. *У грабарні скуры вырабляюць.* Мачаск Бярэз.

ГАРБА′ТЫ, АРБА′ТЫ *прым.* Гарбаты. *У яго горп, ён гарбаты.* Міратычы Карэл. *За гарбатую бабу пайшоў* [у прымы]. Саланое Віл. *І карова бывая гарбатая, як пахаеш ёю.* Альхоўцы Лях. *То курносы, то кулявы, то гарбаты.* Старыя Трокі Трак. *Стары і гарбаты.* Чычалі Швянч. *Хоч за горбатого, абы за богатого.* Сіманавічы Драг. *Ён арбаты, зламаўшы грабет. Арбатая яна.* Старыя Смільгіні Воран.

ГАРБА′Ч *м. зневаж.* Гарбун. *Хто гарбаты, таго празываюц гарбач.* Парэчча Гродз. *Ах ты гарбач!* Вялікія Баяры Шчуч.

ГАРБЕ'ЛЬ, ГАРБУ'ЛЬ, ГАРБЫ'ЛЬ *м.* Тое ж, што і г а р б á ч. *Яго дражняць гарбель.* Паляцкішкі Воран. *Гарбель ты такі негодны! — гэта ўжо празвішчаіш, даеш празвіска.* Гемзы Шальч. *Гарбуль ты!* Вялікія Баяры Шчуч. *Згарбацеў і ідзець, як гарбыль.* Кураполле Паст.

ГАРБЕ'ШКА *ж.* Гарбуха. *Ах ты гарбешка!* Альхоўка Навагр.

ГАРБО'К *м.* Бугарок, пукатасць. *Калі гарбок ёсць на нізу ў палазах, сані лёгка робяць паварот.* Гемзы Шальч.

ГАРБУ'З *м.*, ГАРБУЗЭ' *мн.* Гарбуз. *Во, гляньця! — на плоця растуць гарбузэ, не трэба і зямлі.* Гемзы Шальч. *Як гарбузэ растуць, у іх е стрэлкі і трубкі — такія кветкі.* Дзяніскавічы Ганц.

ГАРБУЗЕ'ННЕ *н.* Гарбузнік. *Гарбузенне — лісты гарбузовы.* Смаляніца Пруж., Вострава Маст. *Не тапчы гарбузення!* Вялікія Баяры Шчуч.

ГАРБУ'ЗІКІ, ГАРБУ'ЗЫКЫ *мн.* Насенне гарбузоў. *Гарбузікі лупяць. Налупі дзіцяці гарбузікаў.* Дзяніскавічы Ганц. *Гарбузыкы на коляды йідеть.* Сіманавічы Драг.

ГАРБУЗІНЯ'ТА *мн.* Тое ж, што і г а р б ý з і к і. *Выбяры гарбузінята з гарбуза.* Кіралі Шчуч.

ГАРБУ'ЗНІК *м.* Тое ж, што і г а р б у з é н н е. *Гарбузнік патапталі.* Альхоўка Навагр.

ГАРБУЗО'ВЫ *прым.* Гарбузны. *Гарбузовы цвет ад мачавога пузыра п'юць, нада высушыць і заліваць кіпятком.* Граўжышкі Ашм.

ГАРБУЗЯ'НКА *ж. кулін.* Страва, прыгатаваная з гарбуза і малака. *Гарбуз вырвала, прынясла, гарбузянкі зварыла.* Рагулішкі Даўг.

ГАРБУЗЯ'НЫ *прым.* Гарбузны. *Гарбузяная мяздра.* Старыя Трокі Трак.

ГАРБУ'ЛЬ *гл.* ГАРБЕ'ЛЬ

ГАРБЫ'ЛЬ I *гл.* ГАРБЕ'ЛЬ

ГАРБЫ'ЛЬ II *м.* Аполак. *Гарбылі аткінь асобна.* Мярэцкія Глыб.

ГАРГА'РА *ж.* Вялізны прадмет, будынак. *Такую гаргару* [шафу] *і ў хаце не памесціш.* Беразіно Докш. *Такую гаргару паставів, што і дров нэ хватіт апаліті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* літ. *gargãras* 'тж'.

ГА'РГАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і г á г а ц ь. *Гусь гаргаіць.* Якубова Рас. *Гусі гаргаюць.* Рыбчына Віл., Асавец Віл., Магуны Паст. 2. Каркаць. *Варона гаргаіць.* Якубова Рас. *Гаргаюць вароны.* Пасіене Лудз.; *парайн.* літ. *gárginti, gargénti* 'гагатаць'; *гл.* г é р г а ц ь.

ГАРДА' *ж.*, ГОРД *м. фальк.* Чароўнае зелле. *Памажыце, хлопцы, гарду рваці — лягчэй будзе Пітра ждаці.* Ухвала Круп. *Тыпэр Купала, взавтра Ян, пошлы дывочкы в зылёный*

*гай, в зылёный гай горда рваты, коб трудно ворогам Пытра ждаты.* Сіманавічы Драг.

ГАРДЗЕ′ЛЬ I *м.* 1. Глотка, горла. *Шыя баліць і гардзель.* Паляцкішкі Воран. *За гардзель бярэ і душыць.* Старыя Смільгіні Воран. ***Г**ардзель і горла — адно і тэш.* Воўкуш Ліпск. 2. Страравод. ***Г**ардзель ідзе ад горла да трыбуха.* Гемзы Шальч. 3. Кадык. ***Г**ардзель у мышчызны.* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* польск. *gardziel* 'глотка'.

ГАРДЗЕ′ЛЬ II *м. плыт.* Ліна. ***Г**ардзель — з ракіты кручаны служыць для задзержывання лавак.* ***Г**ардзяле круцілі з ракіты ў тры-чатыры ракіціны, круціцца, як аборка.* ***Г**ардзялі плыты звязваць.* Бакшты Іўеў.

ГАРДЗЁЛКА *ж.* Тое ж, што і г а р д з е́ л ь I, 1. ***Г**ардзёлкі ваўкі перагрызалі цялушцы і карові.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *gardziel, gardło* 'глотка'.

ГАРДЗІ′ЦЦА *незак.* Тое ж, што і г а́ р д з і ц ь. *Вы намі гардзіцёся, не прыходзіця да нас.* Саланое Віл.

ГА′РДЗІЦЦА *незак.* Запаляцца, чырванець. *Гардзіцца каля скулы, раны.* Мярэцкія Глыб.

ГА′РДЗІЦЬ *незак.* Грэбаваць, пагарджаць. *Усе не гардзяць мной.* Магуны Паст.; *параўн.* польск. *gardzić* 'пагарджаць'.

ГАРДЗЯ′К *м.* Тое ж, што і г а р д з е́ л ь I, 1. *Гардзяк у яго быў рэзаны, ён як закрычыць. Стала хрыпець у гардзяку ці ў грудзях, хрыпіць і хрыпіць, мусіць, у яго лёхкія дрэнныя.* Гемзы Шальч.

ГА′РДЫ *прым.* Фанабэрысты, ганарысты, горды. *Ён гарды, сам ні прыдзя.* Дакудава Лід. *Гардая дзеўка.* Жодзішкі Смарг. *Ня скажаш, што Галя гардая.* Крэва Смарг. *Гардыя, непагадныя людзі.* Магуны Паст. *Гардых ніхто не любіць.* Старыя Смільгіні Воран. *Гарды чалавек, як ты да яго не патхоць.* Мсцібава Ваўк. *Яна ні гарда, да людзей туліцца.* Магуны Паст. *Такі гарды, што і говорыті з намі нэ схотіев.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *hardy* 'фанабэрысты, ганарысты, непакорны, непаслухмяны'.

ГАРЗО′ЛІЦЬ *незак. экспр.* Балбатаць, гаварыць абы-што. ***Г**арзолю вам, а можа ніпраўда.* Данілавічы Дзярж.

ГАРКАЦЕ′ЦЬ *незак.* Шчэрыцца, гыркаць. *Сабака гаркаціць, як хоча каго ўкусіць, брэша, гаркая.* Мсцібава Ваўк.

ГАРКІ′ *прым.* Горкі. *Гаркі перац.* Вялікія Нястанавічы Лаг., Рыбчына Віл., Лоск Валож. *Палын гаркі, а свінні так любюць і людзям добра, як хто ня есць, то кажуць: «Звары палыну ды папі».* Мярэцкія Глыб. *Піва не люблю, што яно гаркоя.* Груздава Паст. *Малако гаркоя, жоўтая зрабілася.* Саланое Віл. *Гаркая цыбуля — слёзы пацяклі.* Асавец Віл. *Гаркія яблыкі.* Жодзішкі Смарг.

ГАРКНУ′ЦЬ *незак.* Гарчыць. *Гаркнець малако і кісель*

*гаркнецъ. Бывае гаркнецъ млека.* Магуны Паст. *Гаркнецъ малако. Гаркнецъ сала.* Ракаўскія Швянч.; *гл.* г а р э́ н і ц ь.

ГАРКУ'ХА *ж. бат.* Курыная слепата. ***Г**аркуха — горкая, каровы не едзят.* Навікі Лудз.

ГАРЛАВА'ЦЬ *незак. экспр.* Моцна крычаць, гарлапаніць. *Прышоў і пачаў гарлаваць.* Граўжышкі Ашм.

ГАРЛАВА'Я КІШКА' *ж.* Стрававод. Курaполле Паст.

ГАРЛАДА'ВЫ *мн.* Залозы. ***Г**орла баліць, гарладавы падымаюцца.* Граўжышкі Ашм.

ГАРЛЯ'К I *м.* 1. Дыхальнае горла. *Ад лёхкіх ідзе гарляк, гарляк дыхавы.* Альхоўцы Лях. *Гарляк перарэзаў.* Старое Сяло Зэльв. 2. Дыхальнае горла і стрававод. *Два гарлякі ў каровы.* Грыкені Вільн.

ГАРЛЯ'К II *м.* 1. Тое ж, што і г а н ч а́ р. *У Валожыне гарлякі прадавалі гліняную пасуду.* Бакшты Іўеў. ∇*Гарляк ты валожанскі!* Бакшты Іўеў.

ГАРЛЯ'НКА *ж. бат.* Гарлянка. *Я знала мясты гэтай гарлянкі.* Груздава Паст. *Гарлянка цвіціць сіненькім, шышачкай.* Мішневічы Шум. *У гарлянкі галубы цвет, у лесе можна яе знайсці.* Глівін Барыс.

ГАРМА'ТА *ж.* 1. Гармата. *Яны гарматы везлі і кулямёты.* Новікі Гродз. *Началі страляць з гармат.* Швэды Вільн. 2. *перан. экспр.* Поўная жанчына, таўстуха. *Вун гармата пашла.* Альхоўка Навагр.

ГАРМУ'ШКА *ж. кулін.* 1. Цура. *Наліў міску вады, трошкі солі ўсыпаў, хлеба накрышыў — і гармушка, наеўся гармушкі.* ***Г**армушка салоткая, як патсалодзюць ваду і накрышаць хлеба.* Гемзы Шальч. *Накрышаць у салотку ваду хлеба — і гармушка.* Мсцібава Ваўк. *Хлеба згатаваць і засаладзіць — і будзя гармушка.* Новікі Гродз. 2. Поліўка. ***Г**армушку з мукі жытняй варылі.* Мсцібава Ваўк.

ГА'РНАК *м.* Гаршчок. *У пост не кідалі сланіны да гарнака.* Жылі Іўеў.; *парайн.* польск. *garnek* 'тж'.

ГАРНА'ТА *ж.* Граната. *Вайной бяром гарнаты. Я меў гарнаты.* Саланое Віл.

ГА'РНЕЦ *м.*, ГА'РЦЫ *мн. устар.* Гарнец. 1. Мера вадкасці. ***Г**арнец — шэсць бутылак.* Асавец Віл. *Піва і вотку дзяржалі ў гарцах — такія бутлі сцякляныя.* Гемзы Шальч. ***Г**арнец — пяць літраў буталь.* Рудня Чэрв. ***Г**арнец — мера на чатыры кварты. Медныя гарцы харанілі ў прамузе.* Старыя Трокі Трак. 2. Мера збожжа. ***Г**арцамі збожа мералі.* Бакшты Іўеў. ***Г**арнец быў жалезны, а то с саломы спляце.* Гемзы Шальч. ***Г**арнец — невялічкая лубачка з саломы і лазой пераплецена, на дзесяць-дваццаць фунтаў.* Саланое Віл. ***Г**арнец быў пляцёны.* Валынцы В.-Дзв. *Тры гарцы зярна змалоць нада.* Пасіене Лудз. ***Г**арцам мералі пашню.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *парайн.* польск. *garniec* 'мера сыпкіх цел і вадкасці'.

ГАРНІ′ДАР *м.* Гарнітур, касцюм. *Хачу справіць сабе гарнідар — рубашку і спадніцу аднаго колеру. Ласціку на гарнідар купіла, аж блішчыць.* Рыбчына Віл. *Пашыла цэлы гарнідар, як цяпер — касцюм, спадніца і кофта, як даўней — гарнідар.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* польск. *garnitur* 'касцюм', ням. *Garnitur* (Фасм., I, 304).

ГАРНО′, ГОРНО′ *н.* Горан. *Гарно у кузні, дзе гарэлі вугалі.* Груздава Паст. *В кузні горно.* Сіманавічы Драг.

ГАРНУ′ЦЬ, ГОРНУ′ТЫ *незак.* 1. Накіроўваць, веславаць. *Гарнуў лотку да берага.* Паляцкішкі Воран. 2. Скручваць (пра кудзелю). *Трэба гарнуць кудзелю.* Семежава Кап. *Горнуты кудэлю.* Сіманавічы Драг. 3. Складваць. *Былі спадніцы, то ў латкі гарнулі.* Семежава Кап. 4. Пластаваць сена. *Сена ў пласты гарнулі.* Беняконі Воран.

ГАРНУ′ШАК, ГАРНУ′ШЭК *м.* Маленькі гаршчок. *Гарнушак з гліны, як гаршчок, толькі меншы.* Дакудава Лід., Масілавічы Сл. *У гарнушку варацъ кашу дзецям.* Стральцы Гродз., Малахоўцы Бар. *Гарнушак маленькі, пабяляны.* Старыя Трокі Трак. *Гліняны гарнушак быў.* Мсцібава Ваўк. *Гарнушак — меншы, гаршчок — большы.* Магуны Паст. *Гарнушэк з ухам.* Беняконі Воран.; *парайн.* польск. *garnuszek* 'тж'.

ГАРОВІ′ТЫ *прым.* Гаротны, няшчасны. *Гэто гаровіто дзіця, горэ знало, каравы пасвіло, служыло, знало дужо гора, бяды.* Мсцібава Ваўк.

ГАРО′ДНЁ *н.* Агародніна. *Мне трэба есці гароднё.* Малахоўцы Бар.

ГАРО′ДНІ *прым.* Агародны. *Ёсць рута палявая і гародняя.* Быстрыца Астр.

ГАРО′ДНІКІ *мн.* Мянушка людзей, якія вырошчвалі агародніну ў паноў. *Гароднікі ў караля рабілі ў гарадах.* Мсцібава Ваўк. *За тры кілометры ад нас вёска называецца Гароднікі; там ёсць сельсавет, крама, клуп. Да Гароднікаў тут прайсці бліска — прама прас поля.* Кіралі Шчуч.

ГАРО′ДНІНА, АРАДНІНА′ *ж.* Агародніна. *Яна ёй служыць, гародніну паліваіць.* Валынцы В.-Дзв. *Гародніна ў гародзе расцець: буракі, гуркі, цыбуля, гарбузы, хвасоль, патсолнічнік.* Янова Рас. *Тут гародніна добра расце.* Вялікія Баяры Шчуч. *Там арадніны лешкі.* Быстрыца Астр.

ГАРО′МЫ *прым.* Ворны. *Гаромая зямля гарэцца цёнгля.* Гемзы Шальч.

ГАРО′НЧКА *гл.* ГАРА′ЧКА

ГАРО′Т *гл.* АГАРО′Т

ГАРО′ТНЫ, ГАРУ′ТНЫ *прым.* Тое ж, што і гаровіты. *Хто задышку мая, той чалавек гаротны. Гаротная баба, задышацца і ня можа ісці.* Рудня Астравітая Чэрв. *Нябарака, гарутны чалавек.* Магуны Паст. *Гэта гарутная дзяўчына.* Грузда-

ва Паст. *Бедны, гарутны. Дзеці — сіраты гарутныя і ўдава гарутная.* Ракаўскія Швянч.

ГАРО'ТЧЫК, ГАРО'ЧЧЫК *м.* Кветнік. *У гаротчыку расцець гэта сухавеечка.* Крэва Смарг. *Гароччык каля хаты абгарадзі — пасаджу кветкі.* Гемзы Шальч.

ГАРО'Х, АРО'Х, ГОРО'Х *м.* 1. Гарох. *У нас гароху не сеюць.* Швэды Вільн. *Такой парой гарахі сеялі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вангоры любяц арох, па расе ідуц у арох.* Парэчча Гродз. *Прапаў арох. Струк ароху, бобу.* Паляцкішкі Воран. *Арох у халхозя сеяць.* Быстрыца Астр. ◇*Да яго гаворы — што гарох ап сценку.* Кураполле Паст. *Жывеш, як гарох, пры дарозе.* Талейкі Швянч. *Жыву, бы горох, пры дорозы.* Сіманавічы Драг. 2. у знач. *прысл. гарóхам.* Па гарохавым полі. *Гарохам бегалі дзеці.* Старое Сяло Зэльв.

ГАРО'ХАВІНІСКА *н.* Гарохавішча. *Гарохавініска астаецца, як знялі гарох.* Гемзы Шальч.

ГАРО'ХАВІНЫ толькі *мн.* Тое ж, што і г а р а х в і н ы. Груздава Паст.

ГАРО'ХАВІСКА, ГАРО'ХАВІСКО *н.* Тое ж, што і г а р ó х а в і н і с к а. *Гарох скасілі і забралі, а гарохавіска асталося.* Кіралі Шчуч. *Каравэ̇ па гарохавіску ходзяць.* Галубы Маст. *Кароў па гарохавіску ганялі, па ём жыта патом сеялі.* Пацаўшчына Дзятл. *Гарохавіско гараў.* Старое Сяло Зэльв.; *параўн.* польск. *grochowisko* 'тж'.

ГАРО'ХАВЫ, АРО'ХАВЫ *прым.* Прыгатаваны з гароху. *Мука гарохавая была, бліны пяклі.* Груздава Паст. *Гарохаву кашу варылі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гарохавую кашу люблю.* Гемзы Шальч. *З гарохавай мукі і с соявай пяклі пірашкі.* Старыя Смільгіні Воран. *Арохавая мука.* Быстрыца Астр.

ГАРО'ХАЎЕ *н.* Гарохавішча. *Гарохаўе не ўзаралі.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Гарохаўе, дзе гарох рос.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Узараў гарохаўя і пасеяў жыта.* Саланое Віл.

ГАРО'ЧЧЫК *гл.* ГАРО'ТЧЫК

ГАРО'ШВІНЫ толькі *мн.* Сцяблы гароху. *Гарошвіны кідае авечкам, каровам. Прырэжуць гарошвіны да сечкі, сечка з гарошвінамі.* Баброўнікі Гарад.

ГАРО'ШЫНЫ, АРО'ШАНЫ, ГОРО'ШЫНЫ толькі *мн.* Тое ж, што і г а р ó ш в і н ы. *Гавечкі добра ядуць гарошыны.* Вялікія Баяры Шчуч. *Арошаны слалі ў хлеў.* Старыя Смільгіні Воран. *Горошыны добро едзят овэчкі.* Смаляніца Пруж.

ГА'РСТАЧКА *ж. памянш.* да г а р с ц ь. *Гарстачка лёну.* Быстрыца Астр.

ГАРСЦЬ *ж.* Жменя. *Ні аднэй гарсці мукі не было.* Паляцкішкі Воран. *Бярэш гарсць лёну і чэшаш.* Старыя Трокі Трак. *Гарсці гэты — лён быў бы чысты, без кастры. Гарсцямі сеялі,*

*з фартуха ці каробачкі.* Грыкені Вільн.; *параўн.* польск. *garść* 'тж'.

ГАРСЭ'Т *м.* 1. *устар.* Кабат. ***Г**арсэты старыя бабы насілі: як былі маладымі, то насілі гарсэт, жычкамі* [тасёмкай] *рукава выкладзены, жычкай зашнуруецца і хораша.* Бакшты Іўеў. 2. Безрукаўка, станік. ***Г**арсэт старушкі насілі — кужолны ці шарачковы.* Рыбчына Віл. ***Г**арсэт шылі з шарачку суконенькага. Кладзецца каптан, а наверх — гарсэт.* Кіралі Шчуч. ***Г**арсэт насілі паверх сарочкі.* Рудня Астравітая Чэрв. ***Г**арсэт— без рукаў жыкетка.* Малахоўцы Бар. 3. Гарсэт. *Быў такі пояс с костачкамі, называлі гарсэт.* Кемялішкі Астр.; *параўн.* польск. *gorset* 'тж'.

ГАРТАВА'ЦЬ І *незак.* Надаваць пругкасць шляхам моцнага награвання і хуткага ахаладжэння. *Жалеза трэба гартаваць на агні.* Цеплень Уздз.

ГАРТАВА'ЦЬ ІІ *незак.* Выгортваць. *Качаргой гартуеш жар.* Саланое Віл.

ГАРТА'Й *гл.* АРА'ТЫ

ГАРТО'ЛЬ *м. плыт.* 1. Прыстасаванне для тармажэння плыта. *Гартоль з кардалём, які звіты з дупцоў. Гартоль — калок, плыт астанаўліваюць на гартоль.* Рыбчына Віл. *Гартоль падзёргаеш, убіваеш у зямлю. Закідай гартоль! Гартоль — палка, штоб задзяржаць плыт на берагу.* Бакшты Іўеў. 2. Плытнік, які тармозіць плыт. *Гартоль старнуіць да берага.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *artà* 'папярочны брус на мачце для прымацавання паруса'.

ГАРУ'Д, ГАРУ'ДА *гл.* АРУ'Д

ГАРУ'ДЗІЯ *ж.* Гармата. *Твой бацька служыў у войску пры гарудзіі.* Стральцы Гродз.

ГАРУ'Н *м. бат.* Губа. *Гарун — чорны грыб. Гарун нарастаіць толькі на бярозі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гарун і на альхе расцець. Губу з гаруну выраблялі.* Лісна В.-Дзв. *Гарун з бярозы сушылі, на камень гарун лажылі, патом сячом, сячом, гарун загарайся — і закурыць можна.* Пасіене Лудз.

ГАРУ'ТНА *прысл.* Гаротна. *Ён там жывець гарутна.* Магуны Паст.

ГАРУ'ТНІЦА *ж.* Гаротніца. *Яна такая гарутніца.* Талейкі Швянч. *Яна і гарутніца і пакутніца.* Ракаўскія Швянч.

ГАРУ'ТНЫ *гл.* ГАРО'ТНЫ

ГАРУ'ЧКА *ж.* Гарачка. ▽*Ах, кап цябе гаручка!* Груздава Паст.

ГАРУ'ШЧЫ *прым.* 1. Тое ж, што і г а р о́ т н ы. *Гарушчы чалавек, весь век у горы.* Альхоўцы Лях. *Гарушчае дзіця, мацяры няма.* Пацаўшчына Дзятл. *Гэта баба гарушча і гарушча дзіця.* Вялікія Баяры Шчуч. *Навяшчайце мяне, гарушчую!* Бакшты Іўеў. *Дзеці былі гарушчые.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Балючы. *Ножачкі мае гарушчыя.* Альхоўцы Лях.

ГАРЦ *м. устар.* Тое ж, што і г а́ р н е ц 2. ***Гарц*** *мукі.* Крупіца Мін. *Памерай гарцам.* Стральцы Гродз.

ГАРЦАВА́ЦЦА *незак.* Гойсаць, насіцца. *Што ты гарцуешся па пасцелі, уцякай вон, не гарцуйся!* Гемзы Шальч.

ГАРЦАВА́ЦЬ *незак.* Бегаць, падбрыкваць. ***Гарцуіць*** *жарабёнак.* Курaполле Паст. *Цялёнку нешта зашкодзіла, ні ён гарцуіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мая цялушка гарцуіць.* Курaполле Паст. *Будзя да смерці гарцаваць, і старасці на яе німа.* Вецярэвічы Пух.

ГАРЦАВО́Е *н. устар.* Від аплаты збожжам. *Паробак у пана палучаў гарцавое — на душу гарнец — пяць фунтаў.* ***Гарцавое*** *палучыш — і вітак дадуць. І на прыгон як хадзілі, то атрымлівалі гарцавое.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГА́РЧЫК *м. памянш.* да г а р ц, г а́ р н е ц. ***Гарчыкі*** *былі.* Лоск Валож. *І гарчыкі плялі з саломы і жылгуцей.* ***Гарчык*** *мукі прынясі.* Старыя Смільгіні Воран. ***Гарчыкі*** *рабілі з саломы, лазой пераплятал́і ці з ляшчынніку рабілі.* Мярэцкія Глыб., Гемзы Шальч. ***Гарчык*** *быў кілаграм пяць для мукі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. ***Гарчыкі,*** *лубачкі плялі з лазы і саломы.* Індра Красл. *Даўней гарцам муку мералі. Баба прыдзіць: «Пазыч мне гарчык мукі, а як змялю — аддам, у мяне нет змолатай».* Ахрэмаўцы Брасл.

ГАРЧЫ́ЦА, АРЧЫ́ЦА *ж. кулін.* 1. Гарчыца. *Гарчыца добра да мяса. Нам'ю гарчыцы.* Ялова Пруж. *Арчыцу да мяса падаюць.* Паляцкішкі Воран. 2. *бат.* Свірэпа. Старыя Смільгіні Воран.

ГАРЧЫ́ЦЬ *незак.* Мець горкі прысмак. *Малако гарчыць.* Малахоўцы Бар.

ГАРЧЭ́ЦЬ *незак.* Станавіцца горкім. *Гарчэя малако.* Малахоўцы Бар.

ГАРШКАЛЕ́П *м.* Ганчар. *Гаршкалепы гаршкі ляпілі.* Дакудава Лід. *У нас не было гаршкалепаў, не рабілі гаршкоў.* Магуны Паст., Ністанішкі Смарг.

ГАРШКО́ВЫ *прым.* Гліняны. *Былі гаршковыя міскі.* Стральцы Гродз.

ГА́РШТВА *ж.* Тое ж, што і г а́ ш т а. ***Гарштва*** *— цвяты гародныя.* Скрудалена Даўг.

ГАРШЧА́Н *м.* Тое ж, што і г а р ш к а л е́ п. *Гаршчан быў, гаршкі з гліны рабіў.* Мярэцкія Глыб.

ГАРШЧО́К, ГАРШО́К, АРШЧО́К *м.* 1. Гаршчок. *Гаршчок з гліны рабілі.* Дакудава Лід. *Гаршчок на малако.* Грыкені Вільн. *Пастаў гаршок на места!* Крынкі Крын. *Быў аршчок гліняны, тэрас няма.* Паляцкішкі Воран. *Аршчок цяжолы.* Быстрыца Астр. *Я буду даставаць аршчок. Ключка была, аршкі мяшалі ў печы.* Парэчча Гродз. 2. *перан.* Звараная страва. *Я ужо зварыла гаршкі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Адзін гаршчок зварыла.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ГАРШЧО′КІ толькі *мн. бат.* Жоўтыя гарлачыкі. *Гаршчокі жоўтыя на вадзе.* Чычалі Швянч.

ГАРШЧЭ′ЧНІК, ГОРШЧЭ′ЧНЫК *м.* 1. Тое ж, што і г а р ш к а л е́ п. *Гаршчэчнік гаршкі дзелая.* Азяраны Раг. *Гаршчэчнікі гаршкі рабілі.* Глівін Барыс. *Горшчэчнык горшкы робыть.* Сіманавічы Драг. 2. Вілкі. *Гаршчэчнік быў гаршкі ў печ ставіць.* Мсцібава Ваўк., Альхоўка Навагр., Міратычы Карэл.

ГАРЫЖНЯ′ *ж.* Загарадка. *Гарыжню адбівалі для цялёнка.* Якубова Рас.

ГАРЫ′ЗЛІВЫ *прым.* Гарэзлівы. *Я была гарызлівая дзяўчына.* Баравая Слабада Пух.

ГАРЫ′СТЫ *прым.* Высокі, гарысты. *Там гарысто место.* Старое Сяло Зэльв. *Гарыстыя места.* Кураполле Паст.

ГАРЫ′ЦА *ж.* Невялікая горка. *На гэтай гарыцы даўняя поля.* Ністанішкі Смарг.

ГАРЭ′ЗАВАЦЬ *незак.* Балавацца, сваволіць, дурэць. *Будзіць гарэзаваць рабёнак.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГАРЭ′ЗЛІВІК *м.* Свавольнік, дураслівец, гарэза. *Вот нягодная дзіця, такі гарэзлівік.* Рыбчына Віл.

ГАРЭ′ЗЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і г а р ы́ з л і в ы. *Вот гарэзлівая дзіця, спакою не дае.* Рыбчына Віл.

ГАРЭ′Й *прысл.* Горш. *Як трэш вока — гарэй баліць.* Пасека Ст.-Дар.

ГАРЭ′ЛІКІ *мн.* Прыгаркі. *Люблю бульбу з гарэлікамі.* Пасека Ст.-Дар. *Люблю гарэлікі есці.* Глівін Барыс.

ГАРЭ′ЛІШЧА *н.* Пажарышча. *Там гарэлішча, дзе згарэў будынак.* Мярэцкія Глыб.

ГАРЭ′ЛКА І *ж. рыб.* Адтуліна ў бучы. *Буч з лазы рабілі, у ём камлюкі, гарэлка.* Быстрыца Астр.

ГАРЭ′ЛКА ІІ *ж.* Спіртны напітак. *Гарэлка — ведзьма, чалавека саб'ець с пуці.* Саланое Віл. *Гарэлка ні запаліць, ні заваліць, ні згарыш, ні звалішся.* Чычалі Швянч.

ГАРЭ′ЛЫ *прым.* Карычневы, руды. *Маня, гарэлых мне дасі нітак і ружовых.* Сакаўшчына Валож.

ГАРЭ′НДА *ж. устар.* Арэнда. *Гарэнду пану адраблялі.* Паляцкішкі Воран.

ГАРЭ′НІЦЬ, ГОРЭ′НЫТЫ *незак.* Тое ж, што і г а р ч ы́ ц ь. *Кісель трохо гарэніць.* Мсцібава Ваўк., Галубы Маст. *Кісель гарэніць, горкім аддае.* Вялікія Баяры Шчуч. *Гарэніць у роце.* Пацаўшчына Дзятл. *Гэта каша крохы горэныть.* Сіманавічы Драг.

ГАРЭ′Х *гл.* АРЭ′Х

ГАРЭ′ХАВЫ *прым.* Арэхавы. *Стол у мяне гарэхавага цвету.* Дакудава Лід.

ГАРЭ′Ц *незак.* Гарэць. *Падунь, бо не будзе гарэц.* Парэчча Гродз.

ГАРЭ′ЦЬ І *незак.* Прэць, гарэць, плеснець. *Сено гарыць,*

*калі яно мокро кідалосё.* Малахоўцы Бар. *Гарыць сыроя сена, плеснііць.* Мярэцкія Глыб. *У скірдзе боп і гарох будзіць гарэць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГАРЭ'ЦЬ II *незак.* Цвісці. *Гарэлі гуркі і сталі завязвацца.* Кураполле Паст. *Гараць гурке, цвятке е.* Кузьмічы Люб. *Гарбузы і агуркі гараць. У Пухавічах гараць агурке.* Вецярэвічы Пух. *Ужо гуркі гараць.* Кураполле Паст.

ГАРЭ'ЦЬ III *незак. безас.* Пячы, балецъ. *Гарыць пад грудзьмі, есць мяне жага.* Дакудава Лід.

ГАРЭ'ШАВЫ *прым.* Арэхавы. *Гарэшавае гальє; нарэзала за статкам кіёў гарэшавых.* Дзяніскавічы Ганц.

ГАРЭ'ШАК *м.*, ГАРЭ'ШКІ *мн. памянш.* да г а р э́ х. *Гарэшак пусты.* Міратычы Карэл., Гемзы Шальч. *Гарэшкі кусаў.* Старое Сяло Зэльв.

ГАРЭ'ШНІК *гл.* АРЭ'ШНІК

ГАРЭ'ШЫНА *гл.* АРЭ'ШЫНА

ГАСА'ТЫ *гл.* ГАЙСА'ЦЬ

ГАСА'ЦЬ *гл.* ГАЙСА'ЦЬ

ГАСЁЛКА *ж.* Тое ж, што і а с ё л а к. *Гасёлка была для гастрэння касы.* Вострава Маст.

ГАСЁН *м.* Прут, якім падганяюць валоў. *Гасён — прамы прут лясковы, заб'е гвост яшчэ, валоў падганялі ім.* Масілавічы Сл.

ГА'СЛА *н.* 1. Паведамленне. *Сюды далі гасла, што ён паехаў у Пухавічы.* Вецярэвічы Пух. 2. Сігнал. *Сваё гасла дае* [птушка]: *во па плоту палятая — і мы знаям.* Дакудава Лід.; *парайн.* польск. *hasło* 'лозунг, сігнал, пароль; загаловачнае слова'.

ГАСПАДА'Р I, АСПАДА'Р, ГОСПОДА'Р *м.* 1. Уладальнік гаспадаркі. *Ён гаспадар сваёй гаспадаркі.* Мярэцкія Глыб. 2. Галава сям'і. *Ён гаспадар дому.* Кемялішкі Астр. *Аспадар карасіны купіць.* Паляцкішкі Воран. *Аспадар — гэто хадзяін у хаці.* Стральцы Гродз. *Аспадар у хаце — бацька.* Лоск Валож. *Як мне будзя кончыць хату, калі аспадар захварэў. Аспадар троха скупаваты.* Парэчча Гродз. 3. Муж. *Аспадар памёр мой.* Парэчча Гродз. *Аспадар мой умёр.* Дакудава Лід. *Аспадар прыдзя с таго боку.* Альхоўка Навагр. *Аспадар мой прыехаў.* Драглеўцы Ашм. *Пятага гаспадара пахавала.* Вецярэвічы Пух. *Чэ дома господар?* Дзмітравічы Кам.; *гл.* ДАБМ, карта № 334.

ГАСПАДА'Р II, АСПАДА'Р *м. абрад.* Першы сноп жыта ў дзень зажынак. *Гаспадара ўбіраюць і на кут ставяць.* Гайна Лаг., Беразіно Докш. *Трэбаісці гаспадара зажынаць, бяруць хлеба, солі і ідуць зажынаць.* Гемзы Шальч. *Ідзём на поля, нажнём гаспадара, паставім у куток.* Старыя Трокі Трак. *Прыжыналі пястачку, ставілі ў куце, называлі гаспадар.* Ракаўскія Швянч. *Як вязуць першы вос жыта с поля, то нясуць гэтага*

*гаспадара ў гумно і кладуць яго ў торп.* Граўжышкі Ашм. *Ужо людзі жаць пашлі — і ў мяне гаспадар на куце стаіць.* Рыбчына Віл. *Гаспадара ставілі ў покуць, а як вазілі жыта ў гумно, то гаспадара да першага снопа прывязвалі і казалі: «Ён будзя глядзець, каб мышы не папсулі жыта».* Жылі Іўеў. *Гаспадара ставілі ў покуць, як зажнуць, то тыдзень стаіць.* Пацаўшчына Дзятл. *Аспадара зажалі, прыняслі і на покуці паставілі.* Саланое Віл. *Аспадара выжаць нада. Аспадара ў кут паставяць.* Магуны Паст. *Жнуць аспадара, перавёслам перавяжуць, яго першы ложаць на пасат.* Быстрыца Астр. *Першы сноп, як прынясём у хату, аспадаром звалі. Як звозілі жыта, то ў адрыну першага аспадара заложвалі, каб жыто радзіло, каб хлеба румады* [грумады] *мелі, каб мышы не елі хлеба — так даўней варажылі.* Парэчча Гродз. *Першы сноп зажынаяцца — гето аспадар: нажне адну жменьку, перавяслам перавяжа і кажа: «Хай баліць снопу, а ні мне».* Дакудава Лід. *Як вязуць жыта ў гумно, то аспадара ставяць у старонак, кап можна было дастаць, як жыта сеяць.* Кіралі Шчуч. *Як ідуць засяваць першы рас, нясуць на поля аспадара, на дзве часткі раздзеляць і накрыш паложаць наверсі засеянай часткі загона. Першая зжатая жменька — гэта зажынкі, а як ўнясуць у хату — аспадар.* Альхоўка Навагр. *Аспадара ставілі на покуць.* Жылі Іўеў.

ГАСПА′ДАРАВАЦЬ, ГОСПОДАРОВА′ТЫ *незак.* Гаспадарыць. *Гаспадар гаспадараваіць сваёй гаспадаркай.* Мярэцкія Глыб. *Як ваш сын господарує?* Сіманавічы Драг.

ГАСПАДА′РКА, АСПАДА′РКА, ГОСПОДА′РКА *ж.* Гаспадарка. *Мы жылі з гаспадаркі.* Парэчча Гродз. *На сваёй гаспадарцы мала чаго мелі, а рабілі ад цямна да цямна.* Стральцы Гродз. *Надзел зямле дваццаць га — гэта цэла аспадарка.* Кіралі Шчуч. *Буду на господарцы робэтэ.* Дзмітравічы Кам. ∇*Гаспадарку вадзіць — рот разявіўшы не хадзіць.* Саланое Віл.

ГАСПАДА′РСТВА *н.* Гаспадарка. *Над гэта гаспадарства німа лепшага.* Рыбчына Віл.

ГАСПАДЫ′НЯ, АСПАДЫ′НЯ *ж.* Гаспадыня. *Я гаспадыня ніякая.* Саланое Віл. *Добра за аспадыню быць.* Ністанішкі Смарг. *Што за аспадыня?* Саланое Віл. *Аспадыня чысценька адзеўшы.* Лоск Валож. *Па даўнейшаму — аспадыня, а цяпер — хазяйка.* Альхоўка Навагр. ∇*І свіня гаспадыня, як поўная скрыня.* Рыбчына Віл.

ГАСПО′ДА *ж. устар.* Хата гаспадара, чужая хата. *Ён жыў на гасподзе.* Вялікія Баяры Шчуч.

**ГА′СТАЧКІ** *мн. бат. памянш.* да г á ш т а. ***Гастачкі*** *цвятуць.* Калькуны Даўг.; *парайн.* літ. *góstauta* ’тж’.

ГАСТРАВЕ′РХІ, ГОСТРОВЭ′РХЫЙ *прым.* Стромы, з вострым верхам. *Ідзі ў тую хату, дзе гастраверхая страха.* Кіра-

лі Шчуч. *Зробылы такого стожка гостровэрхого. Напыкла цілу громаду бліныв, да такая гостровэрха.* Сіманавічы Драг.

ГАСТРЫЁ *н.* Вастрыё. *Гастрыё касы.* Альхоўка Навагр. *Гастрыём тапара адвярнула дошку.* Альхоўцы Лях.

ГАСТРЫ'К, АСТРЫ'Т *м., мед.* Гастрыт. *Яму гастрык быў.* Саланое Віл. *Захварэў на астрыт, рабілі аперацыю.* Паляцкішкі Воран.

ГАСТРЫ'ЦЬ *незак.* Вастрыць. *Трэба касу гастрыць або мянціць.* Вострава Маст. *Трэба гастрыць нош, сякеру.* Ліпнікі Вільн. *Ён гострыць канцы ў калох.* Грыкені Вільн.

ГАСЦЁ *гл.* АСЦЁ

ГАСЦІ'НА, ГОСТІ'НА *ж.,* ГАСЦІ'НЫ *мн.* 1. Госці. *Дачка была ў гасціне, матка яёк напякла.* Парэчча Гродз. *Мама, зара гасціна прыедзе.* Навасёлкі Свісл. *Былі ў гасціне.* Кнышэвічы Бабіц. *У гасціны прыехаў.* Паляцкішкі Воран. ▽*Лепі ў гасціны, чым у мясціны.* Кураполле Паст. 2. Частаванне. *Справіла гасціну.* Граўжышкі Ашм. 3. *абрад.* Прыезд у госці бацькоў маладой да бацькоў маладога пасля вяселля. *На вэсіелі нэ быў, в гостіну пойіеду.* Курашэва Чыж.

ГАСЦІ'НЕЦ I, АСЦІ'НЕЦ, ГОСТЫ'НЭЦЬ, ГОСТЭ'НИЦЬ *м.* Падарунак, ласунак. *Трэба гасцінца даць дзецям.* Саланое Віл. *Купіў яму асцінец.* Паляцкішкі Воран. *Прынэсла гостынця.* Горск Бяроз. *Дам сэмычок, гостэньця.* Дзмітравічы Кам.

ГАСЦІ'НЕЦ II, АСЦІ'НЯЦ *м.* Бальшак, тракт. *Гасцінец — цэнтральная дарога.* Малахоўцы Бар. *На Вялейку ішоў гасцінец.* Асавец Віл. *На Брэсцкі гасцінец пашоў.* Крэва Смарг. *Праз гасцінец каровы не павінны пераходзіць.* Гемзы Шальч. *Гасцінец ідзе ў Слонім.* Стары Свержань Стаўб. *Да маёнтка вёў гасцінец.* Мачаск Бярэз. *Асцінац праходзіць мэтраў трыста ад нас.* Быстрыца Астр.

ГАСЦІ'ЦЦА *незак.* Частавацца. *Патом маладуху дараць і зноў гасцяцца пасля дароў.* Грыцавічы Свісл.

ГАСЦЮ'К *гл.* АСЦЮ'К

ГАСЦЯ'К *гл.* АСЦЯ'К

ГАТ I *гл.* ГАД

ГАТ II *м. рыб.* Запруда, ез. *Гат рабілі ў рацэ: калы б'юць і лапкамі затаптаваюць, а ў праходзе ставяць нерат.* Вецярэвічы Пух.

ГАТАВА'ЦЦА I *незак.* Кіпець. *Гатуецца вада.* Мярэцкія Глыб. *Горла залягло, то вада гатуецца, а я дыхаю.* Стральцы Гродз.; *параўн.* польск. *gotować się* 'тж'.

ГАТАВА'ЦЦА II, ГАТО'ВІЦЦА, ГОТОВА'ТІСЕ *незак.* Рыхтавацца. *Гатуйцеся да снядання!* Дакудава Лід. *К хрэсьбінам гатовімся.* Саланое Віл. *Трэба до дорогі готоватісе.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *готовиться,* польск. *gotować się do czegoś* 'тж'.

ГАТАВА'ЦЬ, АТАВА'ЦЬ, ГАТАВІ'ЦЬ *незак.* 1. Варыць

страву. *Будзе гатаваць картошку на вячэру. Мама гатуіць есці ў саганах.* Старыя Трокі Трак. *Я гатую булён з моргвай.* Ністанішкі Смарг. *Бабы гатуюць абет.* Гемзы Шальч. *Гатавала кушаць і каровы даіла. Гатуйма есці!* Новікі Гродз. *Зацірку гатавалі.* Стральцы Гродз. *Пражыць арох, а боп атуе.* Быстрыца Астр. *Боп садзілі і гатавілі. Можна кісель гатавіць з журавін.* Гемзы Шальч. *Будзе гатавіць прыехаўшы.* Ракаўскія Швянч. 2. Кіпяціць. *Буду гатаваць малако.* Жодзішкі Смарг.

ГА'ТАР *м.* 1. Лесапілка (машына). *Гатар рэжа дошкі.* Вецярэвічы Пух. 2. Лесапільня (завод). *У гатары піліў дошкі.* Семежава Кап. *Пайду на гатар, набяру палачкаў і апілкаў. Дзе рабіў?—На гатары.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* ням. *Gatter* 'лесапільны станок'.

ГАТІ'ТІ *гл.* ГАЦІ'ЦЬ

ГА'ТКА *ж.* Тое ж, што і г а т II. *Гатку на рацэ зрабілі.* Мачаск Бярэз.

ГА'ТКІ I толькі *мн.* Размовы. *Якія гаткі ты з ім вядзеш?* Вострава Маст., Міратычы Карэл.; *параўн.* польск. *gadka, gadki* 'пагалоскі, чуткі'.

ГА'ТКІ II *прым.* Брыдкі. *Рапуха гатка вельмі.* Міратычы Карэл.

ГАТЛІ'ВАК *м.* Паліваны гаршчок. *Былі гатліўкі гліняныя.* Асавец Віл.

ГАТО'ВІЦЬ *незак.* Тое ж, што і г а т а в а́ ц ь; пячы. *Хазяйкі гатовілі ўсенько: пірагe пяклі, мяса.* Саланое Віл.

ГАТО'ВЫ *прым.* 1. Прыгатаваны, звараны. *Абет гатоў. Ужо картошка гатова.* Лоск Валож. 2. Пашыты. *А тэраз боты, чаравікі гатовымі купляюць.* Швэды Вільн. 3. Згодны. *Я гатова паслухаць.* Саланое Віл.

ГАТО'СА *гл.* АТО'СА

ГАТУ'НАК *м.* Парода. *Гатунку добрага свінка.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *gatunek* 'гатунак, від'.

ГАТУТА'ЦЦА *незак.* Гайдацца, гушкацца. *Любіць дзіця гатутацца.* Беразіно Докш.

ГАТУТА'ЦЬ *незак.* Гайдаць, гушкаць. *Гатутаю сына на назе.* Беразіно Докш.

ГАЎЗО'ЛІЦЬ *незак. экспр.* Жаваць бяззубым ротам. *Без зубоў гаўзоліў-гаўзоліў і кінуў, не з'еў. Не буду гаўзоліць, дай мне чаго мяккога. Кошка гаўзоліць і ніяк ня з'есць, зубоў німа.* Саланое Віл.

ГА'ЎКАЦЬ *незак.* 1. Брахаць. *Сабака гаўкаіць.* Саланое Віл. 2. *перан.* Цяжка дыхаць, задыхацца. *Стары гаўкаіць толькі.* Саланое Віл. 3. *зневаж. экспр.* Мянціць языком, плявузгаць. *Сабраліся і гаўкаюць абы-што.* Рудня Астравітая Чэрв.

ГАЎСЯ'НІСКА *гл.* АЎСЯ'НІСКА

ГАЎСЯ'НЫ *гл.* АЎСЯ'НЫ

ГАЎЦА' *гл.* АЎЦА'

ГАЎЧА′РНІК гл. АЎЧА′РНІК

ГАЎЧУ′Р гл. АЎЧУ′Р

ГАЎЯ′ДА ж. Буйная рагатая жывёла. *Я гаўяду ганіла.* Пасека Ст.-Дар. *Тры штукі гаўяда дзяржыць.* Кузьмічы Люб. *У мяне трое гаўят.* Ісерна Слуц.; гл. ДАБМ, карта № 293.

ГА′ФТКА, А′ФТКА ж. Тое ж, што і г á п к а 1. *Гафткі паматаны, кручкі ўдзяюцца.* Малахоўцы Бар. *Ушый афтку і кручок.* Грыкені Вільн.

ГА′ХТЫ гл. ГО′ХТА

ГАЦА′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і г а с á ц ь. *Будзеш тут гацаць мне, дам табе.* Вецярэвічы Пух.

ГА′ЦІ толькі *мн.* 1. Споднія і верхнія штаны. ***Гаці** накладаям. Групшая палатно ішло на **гаці**.* Новыя Мацалі Варэн. *Трэба гаці накладаць, ты сам умееш налажыць.* Паляцкішкі Воран. *Ест гаці верхнія і споднія.* Пацаўшчына Дзятл. ***Гаці** — гэта штаны.* Грыкені Вільн. *Мой дзядук насіў гаці, да іх гузік ушывалі.* Стральцы Гродз. ***Гаці** паўсукянковыя.* Гемзы Шальч. *Калісьці ў белых гацёх хадзілі.* Старыя Трокі Трак. *У гацях аставіў нож.* Старыя Смільгіні Воран. *У гацёх кашэлёк з грашыма.* Гемзы Шальч. 2. Жаночыя рэйтузы. *Пашыла бабскія гаці.* Паляцкішкі Воран. 3. Паўзункі. *Дзіця ў гацёх мокрых.* Старыя Трокі Трак. ∇*Ты такі мудрэц, як саламонавы гаці.* Жылі Іўеў.; *парайн.* польск. *gacie* ’споднія штаны’.

ГА′ЦІКІ *мн. памянш.* да **г á ц і**. ***Гацікі** дрэненькія.* Паляцкішкі Воран.

ГАЦІ′ЦЬ, ГАТІ′ТІ *незак.* 1. Рабіць гаць. *Гацілі грэблю, вазілі ламаччо.* Альхоўцы Лях. *Шчэ нэ гатілі.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Біць. *Як зачаў гатіті в плечы, то аш тут чуті было.* Курашэва Чыж.

ГАЦЬ ж. Насціл з бярвенняў або галля праз балота. *Тут было балото, гаць зрабілі праз балото.* Альхоўцы Лях. *Гаць дзелаюць.* Азяраны Раг.

ГАЦЭ′ЛЬ м. Тое ж, што і г í ц а л ь І. *Гацэль зрабі, кап павесіць можна было п.* Грыкені Вільн.

ГА′ЧАК м. Матыка. *Вазьмі з сабою гачак, гачыць бульбу будзем!* Галубы Маст.

ГА′ЧКА ж. 1. Тое ж, што і г á ч а к. *У нас бульбу рукамі не капаюць, а мы гачкай.* Крэва Смарг. *Гачка без зубоў буракі апсыпаць.* Мсцібава Ваўк., Альхоўка Навагр., Масілавічы Сл. 2. Сякач. *Гачка — таўкці, секчы бульбу.* Пацаўшчына Дзятл.

ГАЧО′К м. *памянш.* да г а к І. *Рака намывая пяшчаны гачок, ён, як вус, вытаркнаўся.* Бакшты Іўеў.

ГА′ЧЫК м. Гаплік. *Ушый гачык у спадніцу.* Магуны Паст.

ГА′ЧЫЦЬ *незак.* Матычыць. *Вазьмі з сабою гачак гачыць бульбу будзем.* Галубы Маст.

ГА′ШТА ж. *бат.* Гваздзік. ***Гашта** — гародная кветка, бела квітніць.* Скрудалена Даўг.; *парайн.* літ. *góstauta* ’тж’.

ГА'ШТАЎКА *ж.* Тое ж, што і **га́шта.** ***Гаштаўка*** *бела-ружаватым квітніць.* ***Гаштаўка*** *пладавітая: я рву, рву, а яна расцець.* Ёдлавічы Брасл.

ГА'ШТВА *ж.* Тое ж, што і **га́шта.** ***Гаштва*** *пучком квітніць, разнацветная гародная.* Рагулішкі Даўг.

ГБА'ЛЫ толькі *мн.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога гнуць палазы. *Палазы капалі, даўней ні было* ***гбалаў.*** Мярэцкія Глыб.

ГБА'ЦЦА *незак.* Гнуцца. ***Гбайся*** *каля кароў штодзень!* Саланое Віл.

ГБАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і **гнуць.** *Палазы* ***гбалі.*** Саланое Віл., Мярэцкія Глыб. 2. Нагінаць. *Буваіць, выспіюць арэхі,* ***гбаеш*** *арэшыну, шчыпіш арэхі ў мяшок, у сумку.* Валынцы В.-Дзв.

ГВАЗДЗЁ *гл.* ГВО'ЗДЗЯ

ГВАЗДЗІ'ЦЬ *незак. перан.* Біць, паліць (пра перуны, маланку). ∇*Юры — масціць, а Мікола —* ***гваздзіць.*** Ухвала Круп.

ГВАЗНУ'ЦЦА *зак. экспр.* Уваліцца, грымнуцца. *Я* ***гвазнулася*** *ў глыбокі склеп.* Гемзы Шальч.

ГВАЛТ *м.* Пагрозлівы загад, прымус. «*На* ***гвалт*** *малы, стары выходзь!» — так выганялі ў час паншчыны на работу.* Граўжышкі Ашм. ◇ *Закрычаць гвалту* — крыкам крычаць. *Закрычаў* ***гвалту.*** Ракаўскія Швянч.; *парайн.* ням. *Gewalt* 'улада, насілле'.

ГВАЛТАВА'ЦЬ *незак.* Моцна крычаць. *Яна* ***гвалтуіць*** *там.* Кураполле Паст.

ГВАЛТО'М *прысл.* Прымусова, гвалтам. ***Гвалтом*** *перла дзіця ў хату.* Жылі Іўеў.

ГВАЛТО'ЎНЫ *прым.* Праліўны. ***Гвалтоўны*** *дош паломіць агурке.* Гемзы Шальч.

ГВА'РДЗІЯ *ж.* Гвардыя. *Я служыў у* ***гвардзіі.*** Гемзы Шальч.

ГВЁЗДАЧКІ *мн. памянш.* Зорачкі. ***Гвёздачкі*** *сіяяць сёлета.* Магуны Паст.; *парайн.* руск. *звездочки* 'тж'.

ГВІЖЭ'ЦЬ *гл.* ГІЖЭ'ЦЬ

ГВІНА' *ж.* Баравое месца, пакрытае сухой ігліцай. *Грыбэ растуць, дзе* ***гвіна.*** Кіралі Шчуч.

ГВІНТ *м.* Вінт. *На* ***гвінт*** *сціскалі шчэблы, каб не выпадалі.* Мсцібава Ваўк.

ГВОЗД, ГОЗДЗЬ *м.* Цвік. *Прыбій* ***гвозд.*** Пасека Ст.-Дар. ***Гоздзі*** *буду забіваць у сцяну.* Мсцібава Ваўк. *Острокола можна* ***гоздзём*** *прыбіті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *гвоздь* 'тж'.

ГВО'ЗДЗЯ, ГВАЗДЗЁ *зб. н.* Цвікі. *Даўней усе* ***гвоздзя*** *каваныя былі.* Ахрэмаўцы Брасл. ***Гвоздзя*** *набяру, трэба* ***гвоздзя*** *перці з горада.* Рудня Астравітая Чэрв. ***Гвоздзя*** *панабіваў, а цяпер лупіць іх.* Вязынка Маладз. *Ржавае* ***гваздзё*** *прынёс.* Азяраны Раг.

ГВО'ЗНІЦА *ж.* Скрынка для цвікоў. *У гвозніцы гваздзё ляжыць.* Азяраны Раг.

ГВЭ'ГНЯ *ж.* Багна. ***Гвэгня** — грась на балоце, туды не ўлезіш, ой, якая гвэгня.* Рыбчына Віл.

ГВЯ'ГАЦЬ *незак., экспр.* Гаварыць недарэчнае, звягаць. *Мы сядзім, гвягаем.* Магуны Паст. *Што ты гвягаеш ні тоя ні сёя.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГВЯ'ЗДА, ГВЯ'ЗДЫ *мн.* Зоркі. ***Гвязда** пераляталі.* Быстрыца Астр. ***Гвязды** дзісь мігочуць, аж скачуць на марос.* Граўжышкі Ашм. *Ачысцілася неба, гвязды аш скачуць, мусіць, на марос або на пагоду.* Гемзы Шальч. *На небя гвязды.* Стральцы Гродз., Ністанішкі Смарг.; *параўн.* польск. *gwiazda* 'зара', *gwiazdka* 'зорачка'.

ГВЯЗДЗІ'СТЫ *прым.* Зорны. *Такое гвяздзістае неба.* Жылі Іўеў.

ГДЗЕ *прысл.* 1. Дзе. *Гдзе на футары, то путалі кароў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гдзе яны?* Чычалі, Талейкі Швянч. *Траілі, дзе дзярно, гдзе пырнік.* Відаўцішкі Вільн. 2. Куды. *Гдзе ты пойдзеш?* Гемзы Шальч. *Гдзе ты ідзеш?* Чычалі Швянч. 3. *часц.* Ж, ці. *Яна гдзе маложа мяне.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гдзе ж ён уміраць будзіць — ён будзіць сто гадоў жыць.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *gdzie* 'дзе, куды', руск. *где* 'дзе'.

ГЕ *прысл.* Так, гэтак. *Ні ге высмажваецца на пліце, як у печы.* Дзяніскавічы Ганц.

ГЕ'БНУЦЬ *зак. экспр.* Загінуць. *Узялі на вайну, там ён гебнуў. Бех цераз рэчку ды там і гебнуў.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* літ. *geĩbti* 'абміраць, паміраць', *géibėti* 'траціць прытомнасць, млець'.

ГЕ'ГА I *ж.* Парода гусей. *У гегі на галаве гуглы такія.* Данілавічы Дзярж.; *параўн.* літ. *gẽgalas* 'нырок', *gẽgė* 'зязюлька'.

ГЕ'ГА II *ж.* Крэмень. *Крэсіво аб гегу церлі.* Пацаўшчына Дзятл., Вострава Маст.; *параўн.* літ. *dẽgas* 'галавешка', дыял. *dẽgė* 'прыстасаванне, якім падкурвалі пчол'.

ГЕ'ГНІ *мн. рыб.* 1. Рыбалоўная снасць, драўляная аснова ў выглядзе палазоў. ***Гегні** — такія сані с сеткай, што рыбу лапаюц, вродзе бродня. Рабілі гегні з бярозы ці з вярбы выгнутыя, як палазы. Мы лапалі гегнямі удвох, пацягнеш гегні — і кашолку карасёў набярэш.* Парэчча Гродз. ***Гегні** ў бродні, рабілі гегні з выкапанага дзерава с каранём. **Гегні** прывязаны на канцах бродня.* Кураполле Паст. ***Гегні**, як дугі, два рыбаловы за крыля цягнуць, а трэці пры карме, гегні разнімаюцца, і рыба заходзіць.* Ахрэмаўцы Брасл., Рыбчына Віл., Магуны Паст. ***Гегні** — рыбу лавіць, палазы загнуты, с тылу торба с прадзяных нітак.* Стральцы Гродз. ***Гегні** — палкі пры сетцы, як палазы.* Старыя Трокі Трак. 2. Рэзгіны. *Сено насілі гегнямі, лукі гнулі і сетка з шнюрка была.* Мсцібава Ваўк.

3. Жалезныя шпяні ў плузе, на якія насаджваюцца драўляныя ручкі. *Гегні ў плузе, на іх накладаюцца дзеравяныя ручкі.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* літ. *gẽgnė* 'драўляная рама ў рыбалоўнай снасці, сетка з такою рамаю' (ЛТ, 172).

**ГЕ'ГНЯ** *ж.* Драўляны шпень у ярме. *У ярме ўдаўбана наглуха гегня, каб бык не вышаў з ярма.* Гемзы Шальч.; *гл.* **ге́гні**.

**ГЕЗ** *зб. м.* Сляпні, авадні. *На коровы гез напав і началі гзітісе.* Курашэва Чыж., *параўн.* польск. *giez* 'авадзень'.

**ГЕ'ЛДАЦЬ** *незак. экспр.* Хутка есці, глытаць. *Гелдая, як індык — так шыбко есць.* Міратычы Карэл.

**ГЕ'ЛІЦЦА** *незак.* Прыкідвацца хворым, ленавацца. *Хто не хоча рабіць — будзя геліцца. Чаго ты гелісся? Якой хваробы!* Каўняны Гродз.; *гл.* **ге́ліць**.

**ГЕ'ЛІЦЬ** *незак. безас.* 1. Балець. *Мне жывот стаў геліць, можа, бок, нага геліць. Нешто геліць бруха.* Жылі Іўеў. *От ногу геліць — зімна.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Нудзіць, ванітаваць. *Ката геліць, нада выгнаць вон.* Саланое Віл. 3. Жадаць, хацець, карцець. *Ужо старый, а яшчэ геліць жаніцца.* Рагулішкі Даўг. *Бабка памерла, то яму геліць жаніцца.* Малькуны Ігн. *Яму геліць жаніцца.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *gélti* 'ныць'.

**ГЕ'МЗОВЫ** *прым.* Шаўровы. *Колісь пуд вэсіеле купів я собіе гемзовы чоботы.* Курашэва Чыж.

**ГЕ'РАШ** *м.* Дэраш (масць каня). *Быў у мяне конь гераш, такі быстры.* Дзяніскавічы Ганц.

**ГЕРАШАВА'ТЫ** *прым.* Бела-чырвоны. *У герашаватага каня белая шэрсць змешана з чырвонай.* Дзяніскавічы Ганц.

**ГЕ'РГА** *ж.* Тое ж, што і **ге́га** II. *У полі, дзе жвіравата, там герга ест. Як высякалі агонь, то гергу красалі.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* **ге́ргаўка**.

**ГЕ'РГАЎКА** *ж.* Тое ж, што і **ге́га** II. *Гергаўка моцная, што сталь, яна гострая, гэта такі белы камянь, гергаўку трудна разбіць. Бывала, казалі: «Дай мне гергаўкі агонь выкрасіць. Прывязі мне гергаўкаў».* Кіралі Шчуч. ∇ *Скупы, як гергаўка.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *gérgužė, gargãžė* 'крамяністы камень; вельмі цвёрды прадмет'.

**ГЕ'РГАЦЬ** *незак.* Тое ж, што і **га́гаць**. *Гусі гергаюць.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *gérgėti, gargẽti* 'тж'.

**ГЕРГЕ'ЛІЦЬ** *незак. перан.* Балбатаць. *Бабы гергеліць і гергеліць, як гусі.* Малькуны. Ігн.; *параўн.* літ. *gargaliúoti* 'тж'.

**ГЕРГУНЫ'** *мн.* Мянушка людзей тых вёсак, дзе гаворац па-літоўску. Жодзішкі Смарг.; *параўн.* літ. *gérgėti* 'балбатаць, невыразна гаварыць', *gárgė* 'невыразная, незразумелая гаворка'.

**ГЕ'РЗАЦЬ** *незак.* Падплятаць. *Калісьці герзалі лапці, каб*

*таўшчэйшыя былі пад сподам.* Галубы Маст.; *параўн.* літ. *kẽrzoti* 'зрабіць абы-як'.

ГЕРЛЯ'НТ *м.* Жаночы галаўны ўбор. ***Г**ерлянт на куклу наставіць, надзеніць — такі быў уклат.* Рыбчына Віл.; *параўн.* польск. *girlanda*<іт. *ghirlanda* 'кветкі і зелле, сплеценыя ў выглядзе стужкі; узор, арнамент'.

ГЕРМА'НСКІ *прым.* Нямецкі. *Чуем — гудзіць германскі самалёт.* Швэды Вільн.

ГЕРМА'Ш *м.* Кірмаш. *Да гораду паеду, у горадзе германі.* Вострава Маст. *Ён прышоў з гермашу.* Тупічаны Ваўк.

ГЕ'СТАЧКА *ж. памянш.* да г е́ с т к а. *Трэба пашыць кафтан з гестачкай спераду.* Гемзы Шальч.

ГЕ'СТКА *ж.* 1. Какетка. *Блюска з гесткай.* Магуны Паст. 2. Кофта. ***Г**естка — некалісь у старыну звалі, а цяпер — кохта. Сашыла гестку з доўгім рукавом.* Пасека Ст.-Дар. 3. Падшэўка ў форме какеткі. ***Г**естку ўстаўлялі на плечы ў мужчынскія рубашкі.* Быстрыца Астр.; *параўн.* ням. *Gäschen* 'прарэх', дыял. *Geschke* 'камізэлька'.

ГЗІ'ТІСЕ *незак.* 1. Гізаваць. *Коровы позадіралі хвосты і началі гзітісе.* Курашэва Чыж. 2. Дурэць, насіцца. *Чого тые дівчынята так гзяцце?* Курашэва Чыж.

ГЗЫМС *м.* Прымурак. *Палажы запалкі на гзымс.* Старыя Смільгіні Воран., Масілавічы Сл., Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* польск. *gzyms* 'карніз'.

ГІ'БА *гл.* ГУБА'

ГІБА'СТЫ *прым.* Гібкі. *Дрэва гібастая.* Жодзішкі Смарг.

ГІБА'ТІ *незак.* Складаць палатно гармонікам (пры адбельванні). *Гапка стоіт і полотно гібае.* Курашэва Чыж.

ГІ'БАЦЦА *незак.* 1. Угінацца. *Каля азяроў гібаецца балота.* Стральцы Гродз. *Гібаецца зямля, там Нёман нарыў.* Галубы Маст. 2. Гнуцца, згінацца. *Ні гібалась нага.* Вострава Маст. 3. *пераи.* Кланяцца. *У боты нада самому гібацца.* Гемзы Шальч.

ГІБА'ЦЬ *незак.* Гнуць. *Ні трэба гібаць пасуду.* Мсцібава Ваўк.

ГІБА'Ч *м.* Складка. *Гібач на хустцы.* Смаляніца Пруж.

ГІ'БЕЛЬ *м.* і *ж.* 1. Згуба, смерць. *Ім быў гібель.* Вострава Маст. 2. Няшчасце. *Якая гібель — двох хлопцаў згарэла.* Альхоўцы Лях. 3. у знач. *прысл.* Вельмі многа. *Там іх гібель гэтых макрушак.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГІБЕ'ЦЬ *незак. экспр.* Здыхаць, прападаць. ▽ *Каб вы гібелі, павыцягаліся!* Ухвала Круп.

ГІ'БЕШ, ГІ'БЯШ *м.*, ГІБЯЖЫ' *мн.* Цяглі. *Гібеш пад каленам.* Магуны Паст. *Гібяш і падгібалкі завуць.* Кураполле Паст. ◇ *Даць пад гібяжы* — даць нагой, даць выспятка. Магуны Паст.

ГІ'БІЦА *гл.* ГУ'БІЦА

ГІ'БКІ' *прым.* Багністы. *Ні пройдзіш там — гібкóе балота, вокнішча, какошнік расце.* Ухвала Круп. *Гібкія азёры.* Глівін Барыс.

ГІБЛЕ'ЦЬ *незак.* Калець, зябнуць. *Гібляць ногі, рукі.* Галубы Маст.

ГІ'БЛІЦЦА *незак.* 1. Тое ж, што і гі́бацца 1. *Гібліцца балота.* Бакшты Іўеў. 2. Тое ж, што і гі́бацца 2. *Не гібліцца нага.* Бакшты Іўеў. *Рука лёхка гібліцца.* Навасёлкі Свісл.

ГІ'БНАЦЬ *зак.* Згінуць, прапасці, пасохнуць. *Мой пасоль гібнаў, гібнаў і боп.* Саланое Віл.

**ГІБЯЖЫ'** *мн.* Тое ж, што і галóўкі II. ***Гібяжы** і галоўкі* [у санях] — *адно і тоя ш.* Індра Красл.

ГІБЯЛЁК *м. памянш.* да гэ́баль. *Гібялькі, струшкі былі для плотніцкага дзела.* Мельнікі Лудз.

ГІ'БЯШ *гл.* ГІ'БЕШ

ГІ'ВЯРЫ *мн. царк.* Вянец. *Шаферы гівяры дзяржалі над маладым і маладой.* Груздава Паст.; *параўн.* руск. *кивер* 'высокі, цвёрды ваенны галаўны ўбор'.

**ГІГЕЛЁК, ГІГЯЛЁК** *м. памянш.* да гіге́ль. ***Гігялёк** у хвашчы вырастая зверху шышачкай.* Быстрыца Астр. *З гігелька расце барадач.* Гемзы Шальч.

**ГІГЕ'ЛЬ, ГІГІ'ЛЬ** *м. бат.* Хвошч. *А можа гэта і гігель. **Гігель** ёлачкай расцець.* Прэдэ Даўг. *Спанавала картошка гігелём.* Рагулішкі Даўг. *Палявыя гігелі свіні ядуць. **Гігель** шышачкай расцець.* Сілене Даўг. *У бульбе адны гігелі растуць.* Ёдлавічы Брасл. *У гігеля вясной галовачка, а патом распускаецца. Свіней да гігялёў прадзержаць, а патом жыць будуць.* Навікі Лудз. *Перш гігель расце, тады ёлачка.* Граўжышкі Ашм. ***Гігялі** гладзенькія, на ніве растуць з вясны, свінні любяць іх есці.* Ракаўскія Швянч. ***Гігялі** растуць вясной.* Лісна В.-Дзв. *Свіныя арэхі з глаткага гігялю.* Саланое Віл. ***Гігялі** вясной у выглядзе стаўбункоў.* Мішневічы Шум. ***Гігель** нападобія як ёлачка, дробны. **Гігялі** растуць высоканька.* Кураполле Паст. ***Гігелі** гавечкі натта любяць, у гігеля каленцы тры і як бы яшчэ навярху шапачка такая; гігель палаваты. Барадач выдзяляецца з гігілеў.* Гемзы Шальч. *Ёсць касматы гігель і глаткі гігель.* Саланое Віл. ***Гігіль** рудзенькі і палосачкі на ім, патом ёлачка.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *gigẽlis, gigẽlis* 'тж' (ЛТ, 172).

**ГІГЕЛЬКІ'** *мн. памянш.* да гіге́ль. ***Гігелькі** растуць касмаценькія.* Лісна В.-Дзв.

**ГІГЕ'ЛЬНІК** *м.* Тое ж, што і гіге́ль. ***Гігельнік** свінні ядуць.* Граўжышкі Ашм.

ГІ'ГНУЦЬ *зак. экспр.* Тое ж, што і ге́бнуць. *Я баялася, што ён там гігне.* Стары Свержань Стаўб.

**ГІГЯЛЕ'ЎНІК** *м.* Тое ж, што і гіге́ль. ***Гігялеўнік** касматы і голы, шарсткі.* Саланое Віл.

**ГІГЯЛЁК** *гл.* **ГІГЕЛЁК**

**ГІДАВА'ЦЬ** *незак.* Грэбаваць, пагарджаць. *Поесце, пожалуста, не гідуйце.* Малыя Аўцюкі Калінк.

**ГІДЗІ'ЦЦА, ГІДІ'ТІСЕ** *незак.* Брыдзіцца. *Гідзілася я ў яе есці.* Ухвала Круп. *Я жабуэв нэ гіджусе, могу навэть в руку взяті.* Курашэва Чыж.

**ГІДЛІ'ВЫ** *прым.* Брыдлівы. *Ён гідлівы і я гідлівая.* Малахоўцы Бар.

**ГІЖЛІ'ВЫ** *прым.* Які баіцца і ўцякае ад аваднёў. *Во карова гіжлівая.* Стральцы Гродз.; *параўн. гізлівы.*

**ГІЖЭ'ЦЦА** *незак.* Тое ж, што і г і ж э́ ц ь 1. *Вот рабаке ў мясе адзін праз другога гіжацца.* Парэчча Гродз.

**ГІЖЭ'ЦЬ, ГВІЖЭ'ЦЬ, ГНІЖЭ'ЦЬ, ГНІЖДЖЭ'ЦЬ** *незак.* 1. Кішэць. *Чэрві аш гіжаць.* Дакудава Лід., Каўняны Гродз. *Чэрві ў капусце аш гіжаць.* Мсцібава Ваўк. ***Гвіжаць** чэрві.* Пацаўшчына Дзятл. *Нашоў баравік, а чарвей там — аш гніжыць.* Ёдлавічы Брасл. *Пагляд́зім назаўтра, а чарвей аш гніжыць: густа-густа, сільна многа, яны рухаюцца — аш гніжаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Галавачы ў равах аш гніжаць.* Кураполле Паст. *Палажы мяса на сонца — то рыбакі аш гніжджаць.* Малькуны Ігн. 2. Звінець, гудзець. *Мухі аш гніжаць.* Кураполле Паст. *Мух многа, аш гніжаць, камары гніжаць, таўкуць.* Магуны Паст. 3. *перан.* Гаманіць, крычаць. *Бабы аш гніжаць, як мухі, прысталі да яго.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *gnižėti* 'кішэць'.

**ГІЗАВА'ЦЬ** *незак.* 1. Тое ж, што і г з і т і с е. ***Гізуюць** каровы.* Скрудалена Даўг., Пасіене Лудз., Ёдлавічы Брасл. *Летам каровы гізуюць, мухі такія іх кусаюць.* Дакудава Лід. ***Гізуюць** каровы, нада гнаць у хлеў.* Лісна В.-Дзв. *Каровы гізуюць.* Вецярэвічы Пух., Мярэцкія Глыб., Альхоўцы Лях. 2. Лётаць, кусаць. ***Гізуюць** авадне.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* літ. *gizúoti* 'тж'.

**ГІ'ЗАЎКА** *ж. заал.* Разнавіднасць авадня. ***Гізаўка** звініць, дзыгаіць.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* літ. *gìzas перан.* 'непаседа'.

**ГІ'ЗКА** *ж.* Снасць для лоўлі ракаў. ***Гізка** — ракаў мэцаць.* Глівін Барыс.; *параўн.* літ. *gižỹs* 'станок для віцця вяровак'.

**ГІЗЛІ'ВЫ** *прым. перан.* Жвавы, шпаркі, хуткі ў хадзьбе. *Я гізлівая ў лесе, вы са мной ня згоніцеся.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *gìzas* 'непаседа'.

**ГІЛАЗАВА'ЦЬ, ГІЛЯЗАВА'ЦЬ** *незак.* Тое ж, што і г з í т і с е. *Каровы летам гілазуюць.* Сапоцкіна Гродз. *Каровы гілязуюць — уцякаюць, што маюць сіл.* Каўняны Гродз. ***Гілязуюць** каровы, хвастэ паднімаюць і бягуць.* Новікі Гродз.; *параўн.* літ. *gyliúoti* 'гізаваць'.

**ГІЛЕ'ЦЬ** *незак.* Свавольнічаць, гарэзаваць, дурэць. *Дзіця*

*гілея і стары можа гілець.* Міратычы Карэл.; *парайн.* літ. *gyliúoti перан.* 'шалець'.

ГІЛЁК *м.* Тое ж, што і гіль І. ***Гілёк** — чырвоная брушка, зімой прылятаіць у дзярэўню, а летам — у лясу.* Кураполле Паст. ***Гількі** — пташэчкі маленькія, шэрэнькія.* Гемзы Шальч.

ГІЛЁНЬ, ГІЛО'НЬ *ж.* Джала. ***Гілёнь** упусціла пшчала. Пшчала мае гілонь.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *gyluonìs* 'тж' (ЛТ, 172).

ГІ'ЛІК *м.* Тое ж, што і гіль І. ***Гілікі** — птушачкі такія.* Малахоўцы Бар. ***Гілікі** — краснапузенькія верабейкі.* Пасека Ст.-Дар. ***Гілікі** зімой прылятаюць да людзей, тут цяплей.* Малахоўцы Бар.

ГІЛО'С, ГІ'ЛЁС *м.* Тое ж, што і гез. ***Гілос** бывая летам, як многа бонкаў.* Сапоцкіна Гродз. *Пройдзя гілёс і дзе ён падзенецца.* Крэва Смарг.; *парайн.* літ. *gyliùs* 'тж'.

ГІЛЬ І *м. заал.* Снягір. ***Гіль** — птушка, пат чэравам чырвоно, а зверху сіва. Раскажы ты праз гіля.* Міратычы Карэл. *Гіль — птушка, брушка красненькая, а плечы сівенькія.* Саланое Віл. *У гіля красная брушка, а ў сініцы жоўтая.* Ахрэмаўцы Брасл. ***Гілі** быльнік абдзёўбваюць зімой каля платоў.* Глівін Барыс. ***Гілі** зімой па дрэве чапляюцца і дзюбаюць.* Гемзы Шальч. ***Гіль** — красная красівая птушка.* Старыя Трокі Трак., Сапоцкіна Гродз. ***Гіль** — зімова птушка.* Мсцібава Ваўк. ***Гіль** — птушка, як сінічка, красненькая пад волюшкам.* Саланое Віл. ***Гіль** галубуваты, а брушка красненькая.* Азяраны Раг.

ГІЛЬ ІІ *м.*, ГІЛІ', ГІЛЕ' *мн. заал.* Разнавіднасць авадня. ***Гіль** — такая мушка, яе сільна баяцца коні.* Паляцкішкі Воран. ***Гіль** — меншы авадня, кусая коней летам.* Дакудава Лід. ***Гіль** як уп'ецца — да крыве.* Новікі Гродз. *Авадзень, а па-простаму — гіль.* Магуны Паст. ***Гіль** кусая кароў, яны гілюють. Я вам злаўлю гіля.* Быстрыца Астр., Магуны Паст., Жодзішкі Смарг. ***Гіль** — што як тне коней, аш кроў. Яны прат Пятром, прат сенакосам.* Крэва Смарг. ***Гілі** каню ў нос натта лезуць, яны жаўтаватыя, паласатыя, коні іх баяцца.* Альхоўка Наваг. ***Гілі** кусаіцца жарка.* Малькуны Ігн. ***Гілі** кусушчыя, коні іх баяцца.* Жодзішкі Смарг. ***Гілі** шэранькія, небальшыя.* Гемзы Шальч. *Размаітых мух многа: гілі, сляпні.* Стральцы Гродз. ***Гілі** кусаюцца.* Швэды Вільн. *Сляпакі меншыя, гілі вялікія.* Чычалі Швянч. ***Гілі** кусаюць карову.* Галоўні Воран. ***Гілёў** на каровах аш чорна.* Вялікія Баяры Шчуч. *Вельзныя гіле напалі на коне, рады німа.* Кіралі Шчуч. ***Гіле** рабыя.* Новікі Гродз. ***Гіле** кусаюц кароў.* Парэчча Гродз.; *парайн.* літ. *gylỹs* 'тж' (ЛТ, 172).

ГІЛЯВА'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і гзіціс е. ***Гілююць** каровы, як гілі кусаюць.* Саланое Віл., Быстрыца Астр., Гайна Лаг. ***Гіль** як нападзе, эх і гілююць каровы.* Магуны Паст.,

Стральцы Гродз. ***Гіль як тне коней, аш кроў, жывёлы гілюя.*** Крэва Смарг. *Каровы гілююць, у вёску ляцяць.* Кіралі Шчуч. *Як каровы гілююць, не ўпасеш.* Гемзы Шальч. *Як бонк нападзе на каровы, яны гілююць.* Вялікія Баяры Шчуч., Жыдзевічы Іўеў. *Каровы гілююць.* Галубы Маст., Галоўні Воран., Чычалі Швянч. 2. Лётаць, кусаць. ***Гілююць абадне.*** Пацаўшчына Дзятл. *Як летам мухі, гілі загілявалі, то валы задралі хвасты.* Шведы Вільн. 3. *перан.* Свавольнічаць, гарэзаваць. *Пашлі дзеці гіляваць.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *gyliúoti* 'гізаваць, гарэзаваць, забаўляцца' (ЛТ, 172).

ГІЛЯЗАВА'ЦЬ *гл.* ГІЛАЗАВА'ЦЬ

ГІМО'РА *м.* і *ж. зневаж.* Хвалько, задавака. *Падумаеш гімора якая!* Мішневічы Шум.; *параўн.* руск. *кикимора* 'пачвара'.

ГІНА'К *прысл.* Інакш. *Коло Рожані говораць гінак.* Смаляніца Пруж.

ГІ'НУЦЬ *незак.* 1. Гінуць. *На вайне гініць нарот.* Ністанішкі Смарг. 2. Прападаць. *Гінуць агурке, гіня капуста.* Вецярэвічы Пух. ∇ *За адным сінім — усе гінім.* Кураполле Паст.; *параўн.* польск. *ginąć* 'прападаць, губляцца, гінуць, паміраць'.

ГІ'ПКА *ж.* Гнуткі шост, прымацаваны да столі, на які падвешваюць калыску. *Гіпка на вер·ўках і падвешвалі кальбель.* Дзяніскавічы Ганц.

ГІ'РА *ж.* Металічны груз, які служыць мерай вагі. ***Гіра ў вагах.*** Старыя Трокі Трак.

ГІРГУ'ХА *ж.* Назва сорту бульбы. ***Гіргухай звалі бульбу, белая так, але па ей лапінкі ест, яшчэ лысаю называлі.*** Альба Нясв.

ГІРДЗЁЛКА *ж.* 1. Стрававод. *Як разбіраюць кабана, трэба завязаць гірдзёлку.* Каўняны Гродз. 2. Горла. *Нарыца у каня бывая пад гірдзёлкаю.* Каўняны Гродз.; *гл.* г а р д з é л ь І.

ГІ'РКА *ж.* Збанок з адбітым горлам. ***Гірка старая: горла адбілася.*** Малахоўцы Бар. ***Гірка — гладыш з адбітым верхам.*** Малыя Аўцюкі Калінк.

ГІРКІ' *мн.* Мянушка. *У нас некаторых празываюць гіркі.* Дзяніскавічы Ганц.

ГІРЛЕ'НА *ж.* Вялікі сноп абмалочанага жыта. *В'яжут самый вылэкый снып — п'ять-шість снопув в одён і називают гірлена. З гірлен в'яжут кулькі на крэшу.* Дзмітравічы Кам.

ГІРС *м.*, ГІ'РСА, ДЗІ'РСА, ДЫ'РСА *ж. бат.* 1. Гірса. ***Гірсу многа ў жыці.*** Скрудалена Даўг., Пасіене Лудз., Ёдлавічы Брасл. ***Гірса ў жыце бувае.*** Парэчча Гродз. *Еслі жыта прапала, з гірсы хоць ашака, а з метлы толькі мякіна.* Індра Красл. ***Гірса бывае ў жыце.*** Глівін Барыс., Лісна, Валынцы В.-Дзв., Мачаск Бярэз., Саланое Віл., Беразіно Докш. ***Гірса***

*як выспііць — большыя зірняткі.* Кураполле Паст. ***Гірсы** колас інакшы: такі на два сучкі, падобны да аўса, з гірсы хлеб можа і разляцецца.* Малькуны Ігн. *Спалола гірсу, гірса пашла ў вуха арфы. Даўней бывала, што адна гірса ў жыце як вымакня, хлеп сіні ад яе.* Рудня Астравітая Чэрв. *У нас гірса ў хлеп не пападала.* Мсцібава Ваўк. ***Гірса** ў жыце, як благое жыта.* Старыя Смільгіні Воран. ***Гірса** — у жыці высока, зялёна.* Тухавічы Лях. ***Гірса**, як авёс, расце. Асцюке ад гірсы.* Вецярэвічы Пух. ***Гірсы** ў жыце многа.* Чычалі Швянч. *Дзірса расце.* Новікі Гродз. *Дзірса — у жыце, на жыта падобна.* Галубы Маст. *Дзірса — у жыце, ната ўрэдная; адна дзірса ў хлебе — не смачны.* Кіралі Шчуч. *Дырса расце ў жыця.* Старыя Трокі Трак., Новікі Гродз. 2. Сажа (у збожжавых). *Чорнае зерня ў ячменя называецца дзірса.* Вялікія Баяры Шчуч. ∇ *Даўней казалі: чым мятла, лепш гірса; гірса і званец — хлебу памацнец.* Жыдзевічы Іўеў.; *параўн.* літ. *dìrsė, gìrsė* 'гірса'.

ГІ'РСІ *мн. бат.* Тое ж, што і г і р с. ***Гірсі** ў жыці растуць.* Старыя Смільгіні Воран.

ГІРСЛІ'ВЫ *прым.* Засмечаны гірсой, чорны. ***Гірслівая** мука і гірслівы хлеп, зярно маленькая, адны ашакі.* Лісна В.-Дзв.; *гл.* г і р с.

ГІРСЯ'НЫ *прым.* Тое ж, што і г і р с л і в ы. ***Гірсяны** хлеп.* Скрудалена Даўг.

ГІСО'НЫ *мн.* Цэментныя трубы для студні. ***Гісоны** робяцца з цыманту і жвіру, насыпаюць у формы, перамешваюць і вады немношка, наліваюць у формы. Устаўляецца ў студню чатырнаццаць і больш гісонаў.* Гемзы Шальч.

ГІСПА'НКА, ГІШПА'НКА *ж. мед.* Грып. *На гіспанку пахварэла. На гішпанку быў хворы.* Жылі Іўеў.

ГІТКАВА'ТЫ *прым.* Агідны, нясмачны. *Гіткаватая яда смаку не мая.* Граўжышкі Ашм.

ГІЦАВА'ЦЬ *незак.* Награваць, расплаўляць. *Каваль гіцуя жалеза.* Гемзы Шальч.

ГІ'ЦАЛЬ I *м.* Вешалка ў адзенні. *Павесь кажух на гіцаль.* Дакудава Лід.

ГІ'ЦАЛЬ II, ГІ'ЦЭЛЬ *м. абразл.* 1. Хуліган, нягоднік. *Нейкі гіцаль нас збіў.* Дзесятнікі Валож. *Я табе, гіцлю ты!* Мсцібава Ваўк. *С такім гіцлём лепі нэ задавайсе.* Курашэва Чыж. 2. Сабакавод. *Мая бабуля хадзіла да гіцляў, кап купіць сабач'его жыру на лекарства.* Гемзы Шальч.

ГІЦЛЁВА'ТЫ *прым.* Хуліганісты, нягодны. Курашэва Чыж.

ГІЦНУ'ЦЦА *зак.* Хіснуцца. *Кап хаця ні гіцнулася.* Дзяніскавічы Ганц.

ГІЧ *м.* Бурачнік. *Гіч на буракох, пайдзі наламі гічу.* Дзяніскавічы Ганц.

ГІ'ЧА *ж. кулін.* Цеста на каравай. *Гіча падходзіць.* Тухавічы Лях.

ГІЧАВЕ'НЕ *зб. н.* Тое ж, што і г і ч. *Дала свіням гічавеня.* Вялікія Баяры Шчуч.

ГІЧА'Й *м.* Бульбяны цяўнік. *Гічай вялікі на картоплях, пайганяло гічай на картоплях, картоплі могуць збуяць. І на памідорах гічай, а ў бураках — батва.* Кузьмічы Люб.

ГІЧА'НЁ, ГІЧАНЬЁ, ГІЧА'НЯ *зб. н.* Тое ж, што і г і ч. *Гічанё ад буракоў.* Альхоўцы Лях. *От добраё на моркві гічанё, а якая морква, — невядома.* Міратычы Карэл. *Буракі выраслі, я ўжо гічанья наламала.* Альхоўка Навагр. *Гічаня бальшоя на бураках, я абжынала сярпом.* Бакшты Іўеў.

ГІ'ЧКА I *ж.* Націна, цяўнік. *Гічка бурака, гічка морквы.* Альхоўцы Лях.

ГІ'ЧКА II *ж.* 1. Істужка, тасёмка. *Горсэт подрублены вішнёвою гічкою.* Азяраны Пін. 2. Верх завязанага напоўненага мяшка (вышэй завязкі). *Дэржэ гічку, малая гічка і вылэка гічка.* Дзмітравічы Кам.

ГІШПА'НКА *гл.* ГІСПА'НКА

ГЛАБІ'НА *ж.* Аглобля. *Адна глабіна паламалася.* Альхоўцы Лях.

ГЛАБО'КА *гл.* ГЛЫ'БАКА

ГЛАБУЗДА' *м.* і *ж. зневаж.* Дурань, ненармальны чалавек. *Як чалавек зробіць не так, то кажуць: во глабузда!* Вялікія Баяры Шчуч. *Глабузда — неразумны.* Дакудава Лід. *Глабузда гаворыць і сам не зная што.* Каўняны Гродз.; *парайн.* літ. *grabū̃zdas* 'няўклюдны'.

ГЛА'ГАЎКА *ж.* Прорва, бездань. *Не ўляці ў тую глагаўку — засмокча.* Глівін Барыс.

ГЛА'ДЗІЦЬ *незак.* Надаваць адпаведную форму, загладжваць паверхню. *Цеста гладзяць і садзяць у печ.* Лоск Валож.

ГЛАДЫ'Ш *м.* Гарлач, збанок без ручкі. *Гладыш на малако, а цяпер завуць стаўбун.* Груздава Паст. *Гладышы памыла на малако.* Рудня Астравітая Чэрв.; *гл.* ДАБМ, карта № 250.

ГЛАДЫ'ШКА *ж.* Тое ж, што і г л а д ы ш. *Гладышка е цадзіць малако.* Кузьмічы Люб.

ГЛАДЫ'ШЫК *м. памянш.* да г л а д ы ш. *Гладышык — гарлачык, збаночак без ручкі.* Пасека Ст.-Дар.

ГЛАДЫ'ШЫКІ *мн. бат.* Жоўтыя гарлачыкі. *Гладышыкі цвіцяць жоўтыя на рэчцы Можы.* Ухвала Круп.

ГЛАДЮ'ЧЫ *прым.* Сыты, мажны. *Зробыўса гладючы і баба гладючая.* Горск Бяроз.

ГЛАЗ *м.*, ГЛА'ЗА, ГЛА'ЗЫ *мн.* Вока, вочы. *Завяжы глазы.* Магуны Паст. *Хадзіла к доктару з глазамы.* Кураполле Паст. *Трахома выеўшы глаза.* Пасіене Лудз. ▽ *Глаз хазяіна каня корміць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Глазы відалі, што пакупалі.* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *глаз, глаза* 'тж'.

ГЛАЗУ′РА *ж.* Паліва. *Малолі глазуру і ў печ паставяць.* Асавец Віл.; *параўн.* руск. *глазурь* 'тж'.

ГЛАМБЯКІ′ *мн.* Лісце цыбулі. Паляцкішкі Воран.; *параўн.* літ. *lámbas* 'лісце буракоў', *lámdyti, glámdyti* 'камячыць'.

ГЛАНУ′ЦЬ *гл.* ГЛЫНУ′ЦЬ

ГЛАТА′ЦЬ *незак.* Глытаць. *Ён глатаіць біс памяці і ніяк не наглатаецца.* Лісна В.-Дзв.

ГЛА′ТКА I *прысл.* 1. Зусім, ушчэнт. *Я прыстала глатка, пакуль справілася. Распіўся маліц глатка. Зрылі глатка свіні бульбу.* Валынцы В.-Дзв. 2. Пераканаўча, праўдападобна. *Ён можа змахляваць, і глатка выйдзе.* Новыя Мацалі Варэн.

ГЛА′ТКА II *гл.* АЛА′ТКА

ГЛА′ТКІ, ГЛА′ТКЫЙ *прым.* 1. Роўны. *Там месца глаткая.* Альхоўцы Лях. ∇ *На глаткай дарозі паміраць ні надзеялася.* Бакшты Іўеў. *Каб яго на глаткай дарозі гром забіў!* Хатынічы Ганц. 2. Тое ж, што і гладзючы. *Баба зрабілася глаткая такая.* Ванелевічы Кап. *Глаткія цялухі ў нас.* Саланое Віл. *Глатка корова, вжэ можна здаваты на базу.* Сіманавічы Драг.

ГЛА′ТКІ ВУ′ГАЛ *м. цясл.* Чысты вугал. *Хата зрублена на глаткі вугал.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГЛА′ТКІ ЛАПУ′Х *м. бат.* Конскае шчаўе. *Глаткі лапух каля крыніцы расце, ад каросты ужывалі карэня, з тлушчам таўклі.* Граўжышкі Ашм.

ГЛАТО′К *гл.* ГЛЫТО′К

ГЛА′ЎНА *пабоч.* Галоўнае. *Глаўна, каб табе было добра, глаўна, куды душа твая гнецца.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *главное* 'тж'.

ГЛЕ′ДЗЮЧЫ *дзеепрысл.* Гледзячы. *Я, гледзючы на яе, растраіваюся.* Кураполле Паст.

ГЛЕДІ′ЕТІ *гл.* ГЛЯДЗЕ′ЦЬ

ГЛЕ′ІСТЫ, ГЛЯІ′СТЫ *прым.* Вязкі, тарфяны. *Там глеістая рака. Бераг гляісты, вязкі, тарфяністы.* Бакшты Іўеў. *Гляістая зямля глеям заплывая і не расце нічога.* Гайна Лаг., Жылі Іўеў., Ахрэмаўцы Брасл.

ГЛЕЙ *м.* 1. Вапністая глеба. *Глей — зямля белаватага колеру. На гляі нічога не расцець, толькі авёс.* Мярэцкія Глыб. *На балоце белы глей.* Жылі Іўеў. *Глей — белая зямля.* Рудня Астравітая Чэрв. *Глей — белая гліна.* Глівін Барыс. *На ўзрачаях глей, што можна бяліць.* Азяраны Раг. *Глей, як вапна, хто бяліў глеем.* Жодзішкі Смарг. 2. Падзолістая глеба, сіваватая зямля. *Глей і не гліна і не мел, мяккая сівая зямля.* Мачаск Бярэз. *Як калодзясь капаюць, то дастаюць глей сівы, як попел.* Альхоўцы Лях. *Глей сівы менш клейкі, чым гліна. Глей — сіваваты, блісціць, но не імея свяскі.* Малахоўцы Бар. *Глей — халодная, сівая зямля.* Мсцібава Ваўк. 3. Вязкая, гліністая зямля. *Глей — ліпкая зямля, бы сівенькая. Глей той уплецецца за ногі — не вырвеш, прыліпне к нозе.* Малыя Аўцю-

кі Калінк. *Глей у рацэ — жырная сівая гліна.* Бакшты Іўеў. *Глей — сівая зямля ў рацэ, яна ліпучая, як гліна, ліпніцца за ногі.* Рыбчына Віл. *Глей — поле, дэ гліна.* Смаляніца Пруж. *Сіва гліна — гэто глей, а гэто моцна гліна: як замажаш шчыліну, то доўго дзяржыць, як цымэнт.* Баброўнікі Гарад. *У рэццы глей такі вяскі, як гліна.* Палік Барыс. 4. Мул. *На дне рэчкі глей — асада.* Жодзішкі Смарг. *Глей — грасьc, смуга.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *gléinia, gléinė* 'клейкая, ліпкая зямля, гразь, зямля з белымі слаямі, мокрая гліна' (Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. Мн., 1, 1971, 92—93).

ГЛЕ'ЙМЫ *мн.* Плыты. ***Глеймы** звязвалі віткамі з лазы.* Індра Красл.

ГЛЕЙЧА'Н *м. цясл.* Клямар. ***Глейчан** прыбіць да адной сцяны і да другой, тады сцяна не разойдзіцца.* Гемзы Шальч.

ГЛЕЙЧУ'НА *ж.* Глеістая зямля. ***Глейчуна** — крэпкая зямля, не рассыпаецца, глейная, слаёк чорнага, слаёк белага, як ба пры гліне, бывае і жвіру ест.* Гемзы Шальч.; *гл.* глей.

ГЛЕЮГА' *ж.* Тое ж, што і глейчу́на. *Глеюга — плахая зямля.* Крэва Смарг.; *гл.* глей.

ГЛЁВА'ЗЫТЫ *незак.* Чмякаць, неакуратна есці. *Много зубыв ныма, то ны йісьць, а оно глёвазыть.* Сіманавічы Драг.

ГЛЁК *гл.* ГЛЯК

ГЛЁЎКІ *прым.* 1. Ацеслівы, недапечаны. *Глёўкі хлеб — сеў на ніжнюю скарынку, глёўкі хлеб бярэцца за зубы. І бліны глеўкія могуць быць.* Кузьмічы Люб. *Хлеб глёўкі — сыры, як печ не напалена, лепіцца.* Азяраны Раг. *Сыры, глёўкі хлеб.* Рудня Чэрв., Пасека Ст.-Дар. *Недапечаны хлеб — глёўкі, клейкі, хоць у сцяну ляпі. Сама паследня гаспадыня спячэ глёўкі хлеп.* Рудня Астравітая Чэрв. *Глёўкі хлеб — сыраваты і праснаваты.* Малыя Аўцюкі Калінк. ▽ *Вот хлеп удаўся дык удаўся, ножам ня рэж, толькі лышкай еш.* Кураполле Паст. 2. Вадкаваты, вадкі. *Як малако не адагрэта — сыр глёўкі.* Кураполле Паст. 3. Гразкі, вязкі. *Зямля глёўкая, нельга араць, коні грузаюць.* Шкураты Браг. *Цяпер зямля глёўкая, няхай троху ачахне.* Вецярэвічы Пух. *У нас глёўкі агарод.* Азяраны Раг. *Глёўкая зямля на агародзі.* Багушэвічы Бярэз.; *гл.* глей.

ГЛЁЎКО *прысл.* Гразка, мокра. *Вада стаяла наградах, було глёўко.* Пасека Ст.-Дар.

ГЛІДЗЕ'ЦЬ *незак.* Даглядаць, карміць. *Мяне глідзелі, што нада, то давалі.* Кемялішкі Астр.

ГЛІ'ЗАВЫ *прым.* Клейкі, ліпкі. *Мука брытка, бо блінцы глізавы, такія клейкія.* Ісерна Слуц.

ГЛІЙЧА'К *м.* Грунтвага, ватэрпас. *Як будуеш што, патрэбны глійчак.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГЛІ'НА *ж.* Глiністая глеба. *У нас пяскі ест, жвіры ест, гліна ест.* Відаўцішкі Вільн.

ГЛІ'НДА *ж. заал.* Гніда. *Даўней гліндь ў валасах былі.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *glìnda* 'тж' (ЛТ, 172).

ГЛІ'НІСТЫ *гл.* ГЛІНЯ'СТЫ

ГЛІ'НІЦА *ж.* Яма, дзе капаюць гліну. *За дарогай глініца, там гліну бяруць.* Вострава Маст.

ГЛІ'НКА *ж.* Крэйда. *Трэба ехаць у Пелаканцы па глінку.* Гемзы Шальч.

ГЛІНЯ'К *м.* Гліняны гаршчок. *У гліняку варылі даўней.* Парэчча Гродз.

ГЛІНЯ'НІК *м.* Тое ж, што і ганча́р. *Глінянікі ездзілі і прадавалі гаршкі.* Беразіно Докш.

ГЛІНЯ'НЫ *прым.* Зроблены з гліны. *Гліня́ны гаршчок.* Лоск Валож. *Гліня́ная міска.* Вялікія Баяры Шчуч. *Гліня́на пiч.* Дзмітравічы Кам.

ГЛІНЯ'СТЫ, ГЛІ'НІСТЫ *прым.* Які мае адносіны да гліны, гліністы. *У нас болей глінястыя землі.* Крэва Смарг. *Глінясто место. Гліняста зямля.* Малахоўцы Бар. *Бывая гліняста зямля.* Старыя Смільгіні Воран. *Глінястая зямля влагу ўдзержвая.* Жылі Іўеў. *Тут гліністa зямля.* Дзяніскавічы Ганц.

ГЛІ'ЦЫ *мн.* Бакавыя планкі ў санях. *Наверх гліцы ўбіваюцца ў капылы, гліцы ўдоль ідуць.* Пасіене Лудз.

ГЛОД *гл.* ГО'ЛАД

ГЛУБЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Глыбейшы. *Раньшы глубейшая рака была.* Валынцы В.-Дзв.

ГЛУБО'КІ *гл.* ГЛЫБО'КІ

ГЛУБОЧЫ'ЭНЬ *ж.* Глыбіня, бездань. *На ранскіх тонях глубочыэнь, што ніхто шчэ нэ зміерыв.* Курашэва Чыж.

ГЛУ'БЫ *гл.* ГЛУ'МБЫ

ГЛУЗД, ГЛУСТ *м.* 1. Розум. *В тыбэ глузду зусім ныма.* Сіманавічы Драг. 2. Тое ж, што і глуша́к І. *Ён ад маленства глуст.* Жылі Іўеў.

ГЛУЗДА' *м.* і *ж. зневаж.* Дурная галава. *Глузда ты глузда, ішоў каля гэтага ворка і не відзіў, што ворак ляжыць.* Гемзы Шальч. *Дурная глузда твая!* Альхоўцы Лях.

ГЛУЗДАВА'ТЫ *прым.* Глухі. *Ад маленства глуздаваты чалавек.* Жылі Іўеў.

ГЛУЗДЗЕ'Ц *м.* Тое ж, што і глуша́к І. *Глуздзец ён, нічога не чуе.* Жылі Іўеў.

ГЛУМБА'ЦЦА *незак. экспр.* Корпацца. *Я глумбалася і глумбалася зімой каля печы.* Курапполле Паст.; *параўн.* літ. *klumbénti* 'таптацца'.

ГЛУ'МБЫ, ГЛУ'БЫ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Зрабіў мне глубы драйляныя: у глумбах пашлі.* Курапполле Паст.; *параўн.* літ. *klùmpės* 'тж' (ЛТ, 178).

ГЛУМІ'ЦЬ, ГЛУМЫ'ТЫ *незак.* Траціць без патрэбы. *На-*

*што вы провалку глуміця?* Вецярэвічы Пух. *Ны ріж бумагы, ны глумы.* Сіманавічы Драг.

ГЛУНДЗІ'ЦЬ *незак. экспр.* Мянціць языком, плявузгаць. *Пірастань ты глундзіць, ужо надаела слухаць, глундзіць і глундзіць.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *glùndžioti* 'бадзяцца'.

ГЛУПАТА', ГЛУПО'ТА *ж.* Глупства, дурасць. *Прас сваю глупату зрабіла так.* Кіралі Шчуч. *Праз сваю глупоту зрабіла, а послі агледзелася, што не так зрабіла, але ўжо не вернеш.* Гемзы Шальч. *Праз сваю глупоту так зрабілася.* Галубы Маст.

ГЛУ'ПСТВА *н.* Недарэчнасць, лухта. *Дурны чалавек глупства пляце.* Паляцкішкі Воран.

ГЛУСТ *гл.* ГЛУЗД

ГЛУХ *прым.* Глухі. *Сільна глух стаў.* Валынцы В.-Дзв.

ГЛУХАВА'ТЫ *прым.* Хто недачуе. *Глухаваты ты быў, а ціпер зусім глухі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ужо глухаваты.* Грыкені Вільн. *Вушы глухаватыя.* Скрудалена Даўг.

ГЛУХА'Я ВО'СЕНЬ *ж.* Позняя восень. *Гэта было ў глухую восень.* Лоск Валож. *Восень глухая.* Кураполле Паст.

ГЛУХА'Я КРАПІ'ВА *ж. бат.* Яснотка. *Глухая крапіва не стракаецца.* Мачаск Бярэз., Гемзы Шальч.

ГЛУХА'Я СЦЯНА' *ж.* Сцяна без акон. *Там глухая сцяна; шафу ля яе пастаў.* Палік Барыс.

ГЛУ'ХІ' *прым.* Хто не чуе. *На міне «глуха́я» кажуц.* Парэчча Гродз. *Яна глуха́я, як пень — хварэла, адтаго ня чуя.* Вецярэвічы Пух. *Я сле́па і глу́ха.* Пасіене Лудз.

ГЛУХО'Я ЖЫ'ТА *н.* Каласы з дробнымі, пустымі зярнятамі. *Маланка спаля — глухоя жыта, замораныя зярняты.* Быстрыца Астр. *Будзе глухое жыта.* Беняконі Воран.

ГЛУША'К I *м. экспр.* Глухі чалавек. *Глушак ты!* Навасёлкі Свісл., Жылі Іўеў.

ГЛУША'К II *м. заал.* Глушэц. *Глушак як песні пяець, можна да яго блізка падходзіць.* Кураполле Паст.

ГЛУ'ШАНЬ, ГЛУШНЯ', ГЛУШНЯ'К *м.* Тое ж, што і г л у ш а́ к I. *Глушань ты! — крычу на ўсю хату.* Любішчыцы Івац. *Антон — глушня, ідзі сюды — ня чуіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ах ты глушняк!* Вялікія Баяры Шчуч.

ГЛУШМА'Н *м.* і *ж.* Тое ж, што і г л у ш а́ к I. *Глушман! — на міне кажуц.* Парэчча Гродз. *Глушман ты!* Кураполле Паст., Жылі Іўеў.

ГЛУШЭ'Ц *м.* Тое ж, што і г л у ш а́ к II. *Глушцэ і цяпер водзяцца ў нас.* Хатынічы Ганц.

ГЛЫ'БАКА, ГЛЫБО'КА, ГЛЫБО'КО, ГЛАБО'КА *прысл.* 1. Глыбока (у вадзе). *Глыбака пад карчом ракі водзяцца.* Асавец Віл. *Мелка, а раптам глыбака.* Быстрыца Астр. *Там глыбока.* Альхоўцы Лях. *Тут глыбоко.* Старое Сяло Зэльв. *У тым балоце глабока, дзе вокнішчы бываюць.* Ухвала Круп.

2. На пэўнай адлегласці ад паверхні. *Глыбака сядзіць бурак у зямлі.* Саланое Віл. 3. Моцна, цяжка. *Запаліла агонь, газнічку паставіла, уздыхнула глыбака.* Саланое Віл.

ГЛЫБЕ'Й, ГЛЫ'БЯЙ *прысл.* Глыбей. *Іх студня глыбей за маю, і вады німа.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тут глыбяй.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тут глыбяй.* Альхоўцы Лях. *Дзе глыбяй, там рыба вядзецца.* Бакшты Іўеў.

ГЛЫБІНЯ', ГЛЫБІНА' *ж.* Глыбіня. *Глыбіня студні велькая — дваццаць чатыры гісоны ўстаўлялі.* Гемзы Шальч. *Тут велькая глыбіня.* Навасёлкі Свісл. *Глыбіня такая, а ён палес.* Граўжышкі Ашм. *Глыбіня там.* Вялікія Баяры Шчуч. *Глыбіна чатыры мэтра.* Ахрэмаўцы Брасл. *На маей памяці рака была глыбокая, коні купалі, глыбіна была.* Кураполле Паст.

ГЛЫБО'КІ, ГЛУБО'КІ *прым.* Глыбокі. *Глыбокая-праглыбокая рака.* Саланое Віл. *Глубокая талерка.* Валынцы В.-Дзв.

ГЛЫ'БШЭ *прысл.* Тое ж, што і г л ы б е́ й. *Глыбшэ гаралі плу́гом.* Горск Бяроз.

ГЛЫ'БЫ *мн.* Глыбокія ямы ў рацэ. *Ёсць глыбы бальшыя ў рацэ.* Саланое Віл.

ГЛЫЖ, ГЛЫШ *м.* Камяк. *Са снегу дзелаюць глыжы. Пабех за ім, узяў глыш і шпульнуў у хрыбеціну.* Лісна В.-Дзв.

ГЛЫК *м.* Глыток. *Даў выпіць на адзін глык.* Мярэцкія Глыб.

ГЛЫКА'ЦЬ *незак.* Глытаць. *Ты глыкаеш, не жуючы.* Альхоўцы Навагр. *Паціху глыкай. Карова жуйку паражуе і глыкая.* Дакудава Лід.

ГЛЫКНУ'ЦЬ *зак.* Глынуць. *Глаток глыкну.* Дакудава Лід.

ГЛЫНУ'ЦЬ, ГЛЫТНУ'ЦЬ, ГЛАНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і г л ы к н у́ ц ь. *Дай глынуць на тры разы, я адзін раз глынула.* Рудня Астравітая Чэрв. *Глынула глаток смятанкі.* Саланое Віл. *Глынула вады.* Лоск Валож. *Я ўзяў і глытнуў.* Гемзы Шальч. *Тры-чатыры глаткі глану авечага лою ад асмы.* Скрыпчына Лудз. ◇ *Слёзачку глынуць* — паражыць гора, абіду. *Слёзачку нада глынуць.* Саланое Віл.

ГЛЫ'ПШЫ *прым. выш.* Глыбейшы. *Тут глыпшая яма.* Бакшты Іўеў. *Цюпкі* [абутак] *былі глыпшыя і плытшыя.* Вострава Маст.

ГЛЫТ *м.* Тое ж, што і г л ы к. *Дай на адзін глыт.* Рудня Астравітая Чэрв.

ГЛЫТА'Н *м. перан.* Кавалак. *Ён паследні глытан хлеба аддасць, пупулам падзеліць.* ∇ *Бальшы глытан і рот дзярэць.* Мішневічы Шум.

ГЛЫТА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і г л ы к а́ ц ь. *Горла баліць, нямо́жна глытаць.* Лоск Валож. *У вайну з вікай хлеб быў, глытаіш, а ён пірасідаіць.* Кураполле Паст. *Куры глытаюць боп.* Гемзы Шальч. *Горла баліць, цяшка глытаць.* Чычалі Швянч.

ГЛЫТНУ'ЦЬ *гл.* ГЛЫНУ'ЦЬ

ГЛЫТО'К, ГЛАТО'К *м.* Тое ж, што і глык. *Глыне два глыткі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Глаток глыкну.* Дакудава Лід. *Мусі, уліў мне воткі на тры глыткі.* Гемзы Шальч.

ГЛЫШ *гл.* ГЛЫЖ

ГЛЭМ *выкл.* Цап. *Кабыла глэм мяне за руку губамі — і ўкусіла.* Вецярэвічы Пух.

**ГЛЮ'ГА** *ж.* Дзюба. ***Глюга** ў курэй і ў каршуна.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Куры глюгай дзяўбуць.* Вязынка Маладз.

**ГЛЮГА'ТЫ** *прым. экспр.* Насаты. ***Глюгатая** дзеўка — дзеўка з доўгім носам.* Рудня Астравітая Чэрв.

**ГЛЮ'МА** *ж.* Тое ж, што і глюга. *У птушак глюма, атразаюць глюмы.* Лоск Валож.

ГЛЮС *м.* Слізь. *Нада саскрапсці глюс с кішок.* Мсцібава Ваўк.

**ГЛЯ'БЛЫ** *прым.* Размяклы, разлезлы, падгнілы. *Яблыкі гляблыя, картофля гляблая, гуркі гляблыя, каторыя мяккія, капуста гляблая, канфеты якія гляблыя сталі. Асовік, як стары, то гляблы.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* літ. *glèbti* 'вянуць, размякнуць'.

ГЛЯДЗЕ'ЦЬ, ГЛЕДІ'ЕТІ *незак.* 1. Бачыць. *Мае вочы ўжо дрэнна глядзяць. За дзень накуртаешся, што і вочы не глядзяць.* Саланое Віл. 2. Глядзецца. *У люстэрка глядзіць, памазая, брытвай аскрабе.* Стральцы Гродз. 3. Наведваць. *Ездзіла глядзець Галю ў бальніцу.* Вецярэвічы Пух. 4. Даглядаць, карміць, выхоўваць. *Цяпер добра дзяцей глядзяць, німа што казаць.* Ністанішкі Смарг. *Ты не глядзіш за ім.* Ахрэмаўцы Брасл. *Будзіця дзеці глядзець. Цябе глядзяць добро.* Альхоўцы Лях. *Мы іх* [дзяцей] *так глядзём.* Гемзы Шальч. *Нэ маю дочкі, то нэма кому мэнэ і гледіеті.* Курашэва Чыж. 5. Пільнаваць, пасвіць. *Нада пчол глядзець.* Кураполле Паст. *Я куранят буду глядзець. Глядзі кароў, глядзі праз акно цялушкі.* Паляцкішкі Воран. 6. Помніць, не забыцца (у значэнні папярэджання). *Як будэш у йіх, то гледі нэ забудь спытаті, колі до нас прыедут.* Курашэва Чыж. 7. Сачыць, захоўваць. *Унучкі глядзелі чыстату.* Індра Красл. 8. Вызначаць узрост. *Каня глядзяць па зубах, карову глядзяць па рагах.* Ахрэмаўцы Брасл. ▽ *І не гаворыць, і вока не глядзіць* — той, хто вельмі злуе. Кураполле Паст. *Калі ідзеш у лес — глядзіць дамоў, калі ідзеш дамоў — глядзіць у лес* — сякера за поясам. Саланое Віл.

ГЛЯІ'СТЫ *гл.* ГЛЕ'ІСТЫ

ГЛЯК, ГАЛЬЯ'К, ГЛЁК *м.* 1. Гліняная пасудзіна з вузкім горлам. *Гляк з ручкай — сам пузаты, а рылачка цэненькая, для воткі, вады, карасіну.* Крэва Смарг. *Гляк — з вускім горлам, ваду бралі на поле.* Масілавічы Сл. *Гляк шырокі, а ву-*

*зенькая рыльца.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Гляк — чай грэць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Налейце гляк і пастаўце ў печ, будзе чай харошы. Гляк — з харошай гліны і паліваны.* Ухвала Круп. *Гальяк быў з адною ручкаю, такі пукаты, а тут маленечка шыечка, ваду насілі ў ём, як ідуць жаць, бяруць гальяк, натта доўга воду халодную ён дзяржыць.* Кіралі Шчуч. *Глёк гліняны з вухам, рыльца было, чай грэлі ў ём.* Азяраны Раг. 2. Бутля. *Гляк у нас быў сцякляны, гэта даўнейшы-прадаўнейшы. Быў аплятаны гляк, карасіну ў ём дзяржалі.* Магуны Паст.

ГЛЯ'НУЦЬ, ГЛЯ'НАЦЬ *зак.* Зірнуць. *Што ні гляня, то вырысуя.* Стральцы Шальч. *Хай ба ты глянаў.* Лоск Валож.

ГЛЯЎКА'Ч *м.* Певень. *У Наталлі гляўкач няўдалы.* Пасека Ст.-Дар.

ГЛЯЧО'К *м. памянш.* да гляк 1. *Глячкі гліняныя купі.* Хатынічы Ганц.

ГНАЁЎКІ толькі *мн.* Калёсы для вывазу гною. *Гнаёўкі былі, на поле вазілі гной.* Крэва Смарг.

ГНАІ'ЦЬ, ГНОЙІ'ТІ *незак.* 1. Угнойваць. *Як гнаілі зямлю, дак добра расло і жыта і ярэ.* Гарэлец Пух. *Навос вазілі, зямлю гнаілі.* Старыя Смільгіні Воран. *Будут гнойіті зэмлю.* Курашэва Чыж. 2. Гнаіць. *Довгі дошч сіено гнойіт.* Курашэва Чыж. 3. Накідаць і скідаць гной. *Калісь дзеравянымі віламі гнаілі на воз і з воза.* Старыя Смільгіні Воран.

ГНАЙНЫ' *гл.* ГНО'ЙНЫ

ГНАТ *м.* Косць. *Такі худы, аж гнаты сторчат.* Курашэва Чыж.

ГНА'ЦЦА *незак.* Любіць што-н., жадаць. *Я за малаком ганюся.* Лісна В.-Дзв. *Я за булкамі не ганюся.* Гемзы Шальч. *Як родзіцца дачка, ён гоніцца за сынам.* Саланое Віл.

ГНАЦЬ, ГНА'ЦІ, ГНА'ТЫ *незак.* 1. Гнаць у поле або прыганяць з поля. *Гані на пасту!* Груздава Паст. *Пастух жане каровы.* Навасёлкі Свісл. *Хай жэне кароў!* Старое Сяло Зэльв., Стральцы Гродз. *Ні жануць кароў.* Вострава Маст., Міратычы Карэл. *На ўвесь дзень кароў жануць. На вечар кароў жанеш назат. Пасеш на раніцу, на вечар жанеш назат.* Малахоўцы Бар. *Жане каравы. Жэнь быдла бліскі свет.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пастух жэне чэргу ў лес.* Альхоўцы Лях. *Жануць пастухе каровы.* Новікі Гродз. *Кароў ня гоняць.* Паляцкішкі Воран., Жылі Іўеў., Рыбчына Віл. *Дзеці гоняць каровы.* Альхоўка Навагр. *Нам тавар гнаць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Будуць гнаць кароў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Я жэну коровы.* Смаляніца Пруж. *Трэбо гнаты, я жэну коровы, а вітэ пожэнэтэ чі ні? — Воны пожэнут.* Горск Бяроз. 2. Бегчы па слядах, гнацца. *Сабака зайца гоня.* Гемзы Шальч. 3. Сплаўляць лес. *Клейны збівалі і гналі лес.* Саланое Віл. *Адзін гоніць клейны.* Азяраны Раг. 4. Інтэнсіўна збіраць, насіць. *Ра-*

*боту гоняць пчолы. Мае пчолы работы ня гоняць.* Груздава Паст. 5. Здабываць, выціскаць. *Упярот с канапель гналі алей.* Міратычы Карэл. *Гналі масла.* Янова Рас. *Ён гарэлку гоніць.* Саланое Віл. *З карчоў жэнуць тарпатыну.* Мсцібава Ваўк. 6. *безас.* Выклікаць слёзы, катар, часты выдых, сліну (пры задышцы, катары, моташнасці і іншых недамаганнях). *Ад пылу дух жане.* Парэчча Гродз. *Слёзы гоня і галава баліць.* Гемзы Шальч. *Як узяло гнаць слёзы.* Граўжышкі Ашм. *Нудзіць і сліну гоніць.* Вялікія Баяры Шчуч. *З носа гоня смаркачы.* Быстрыца Астр. *Сапляк гнала з носу.* Гемзы Шальч. ∇ *Не гані бога ў лес, калі ў хату ўлес.* Курапопле Паст.

ГНАЮ'ВКІ *мн. бат.* Шампіньёны. *У Пузавічах елі гнаюўкі, а ў нас іх ніхто не бярэць.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* польск. *gnojówka* 'гнаявая жыжка'.

ГНАЯ'НКІ I, ГНОЯ'НКІ *мн.* Тое ж, што і г н а ю в к і. *Гнаянкі — белыя грыбэ, знізу сінія, растуць, дзе гной.* Малахоўцы Бар. *Пуд осэнь на поплаві пуд бором мнуого гноянок ростэ.* Курашэва Чыж.

ГНАЯ'НКІ II *мн.* Драбіны, бакавыя дошкі ў возе для вывазу гною. *Палажы гнаўкі, будзем гной вазіць.* Альба Нясв.

ГНАЯ'РКІ толькі *мн.* Тое ж, што і г н а ё ў к і. *Гнаяркі — калёсы такія вазіць гной.* Старыя Смільгіні Воран.

ГНАЯ'ЎКІ толькі *мн.* Тое ж, што і г н а я н к і II. *Гнаяўкі на калёсы кладуць з бакоў.* Глівін Барыс.

ГНЕ'БІЦЬ *гл.* ГНЭ'БІЦЬ

ГНЕ'ВАЦЦА *незак.* 1. Злавацца, крыўдзіцца. *Дзіця гневаецца, загневалася.* Рыбчына Віл. *Учацялём скажу, што ты гневаесся.* Альхоўцы Лях. *Яна доўга не гневаецца.* Вецярэвічы Пух. *Я ня гневалася на іх.* Лоск Валож. 2. Сварыцца. *Гневаліся дужа за курэй.* Валынцы В.-Дзв.

ГНЕДА'К *м.* Гняды конь. *Такі ў яго гнедак добры.* Грыкені Вільн.

ГНЕ'ДЫ, ГНЕ'ДЫЙ, ГНЯДЫ' *прым.* Гняды. *Коні бываюць разнай паўсці: каштан, гнеды, рабы, сівы.* Магуны Паст. *Гнеды — цёмна-чырвоны конь.* Стральцы Гродз. *Конь гнеды, не такі чорны.* Быстрыца Астр. *Гнедый конь.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Гнеды конь.* Грыкені Вільн. *Цёмны конь — гняды.* Жодзішкі Смарг.

ГНЕЗДО' *н.* Логава, бярлог. *Прынясі саломы на гнездо свіням.* Саланое Віл.

ГНЕ'МБІЦЬ *незак.* Шчыпаць. *Рак гнембіць раплам.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *gnýbti* 'тж' (ЛТ, 172).

ГНЕ'СЦІ *незак.* 1. Церці, расціраць. *Будам гнесці ягады, згнятом ягады і будам есці.* Вецярэвічы Пух. 2. Біць. *Дайней гняце вошы; я гняла.* Пасека Ст.-Дар.

ГНЕ'ЦІЦЦА *незак.* Мяцца. *Сукенка гнеціцца будзе.* Рыбчына Віл.; *параўн.* польск. *gnieść* 'мяць, камячыць'.

ГНЁНЫ *прым.* Гнуты. *Былі палазя гнёныя.* Дзяніскавічы Ганц.

ГНЁПА *ж. абразл.* Неахайны чалавек. ***Гнёпа** ты! — грась не вымыла.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *knóba* 'размазня'.

ГНЁТ *м.* Груз прыцісkaць што-н. *Гнётам прыціскалі лён, як мачылі. Гняты клалі, як пяньку мачылі. Гняты — камення бальшоя.* Азяраны Раг.

ГНЁТКА *ж.* Схваткі. *Гнётка гнець* [пры родах]. Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл.

ГНІБА'ЦЦА *незак.* Шчыпацца. *Што ты гнібаешся?* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *gnýbti* 'тж'.

ГНІ'БАЦЬ, ГНЯНЬБІ'ЦЬ *незак.* Шчыпаць, сціскаць. ***Гнібая** рак клешчамі і моцна загнібіць.* Кіралі Шчуч. *Рак гняньбіць раплам.* Малькуны Ігн.: *параўн.* літ. *gnýbti* 'шчыпацца' (ЛТ, 172).

ГНІБНУ'ЦЬ *зак.* Ушчыпнуць. *У рака такая мода: гнібне і дзярэ паляц. Оэй, як гнібнуў за паляц рак!* Старыя Смільгіні Воран.; *гл.* г н і б а ц ь, г н і б у́ р.

ГНІБУ'Р *м.* Кіпцюр. *Зламала курыца гнібур. У птушак гнібуры, у сабакі і ката тожа гнібуры. **Гнібуры** ў каршуна, вароны, у курыцы. Каршун упусціць у курыцу гнібурэ і папёр.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* літ. *gnýbliai* 'тж', *gnýburti* 'ўшчыпнуць'.

ГНІ'БЫ *мн.* Клюшні. ***Гнібы** ў рака, рак з гнібамі, можа рак гнібамі ўшчыпнуць.* Сапоцкіна Гродз.; *параўн.* літ. *gnýbliai* 'тж'.

ГНІ'ДЫ I *мн.* Лічынкі вошы. *Вшы гніды садзяць.* Гемзы Шальч. *Гнід — тысячы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гнідаў многа.* Ёдлавічы Брасл.

ГНІ'ДЫ II толькі *мн. бат.* Свінакроп. *Гніды — зеле, цвэту нэма на нём, сівы і зялены гніды.* Ялова Пруж.

ГНІЖДЖЭ'ЦЬ, ГНІЖЭ'ЦЬ *гл.* ГІЖЭ'ЦЬ

ГНІЛАТА' *ж.* Гніль, гнілая драўніна. *Апраталі дрова, адна гнілата, нічого добраго.* Стральцы Гродз. *За такую хату-гнілату галаву палажыць.* Старыя Смільгіні Воран.

ГНІЛЕ'Ц *м.* 1. *вет.* Хвароба капытоў, макрэц. *Капыт баліць у каня, мусіць гнілец.* Беразіно Докш. 2. *экспр.* Хворы чалавек. *Ён — хадзячы гнілец.* Мярэцкія Глыб.

ГНІЛІ'СТЫЙ *прым.* Багністы, сыры. *Такіі гнілістыі, балоцістыі міста.* Мельнікі Лудз.

ГНІЛКІ' *мн.* Плады дзікіх груш. *Ціелы кошык гнілок назбірала.* Курашэва Чыж.

ГНІЛУ'Х *м.*, ГНІЛУ'ХА *ж.* Скула. *Гнілух — скула з чорным верхам, яна няскора гоіцца.* Кураполле Паст. *Гнілуха чырванее.* Старыя Смільгіні Воран.

ГНІЛУ'ШКА I *ж.*, ГНІЛУ'ШКІ *мн.* Ляжалая груша. *Гнілушкі смачныя, я іх люблю.* Рудня Чэрв.

ГНІЛУ'ШКА II *ж.*, ГНІЛУ'ШКІ, ГНІЛЫ'ШКІ *мн.* Буль-

ба, якая перазімавала ў зямлі. *Гнілушкі збіралі ў вайну і пяклі праснакі.* Саланое Віл. *Гнілушку збіралі і каржы пяклі.* Азяраны Раг. *Пасля вайны людзі гнілышкі збіралі па полю, варылі і піталіса.* Кузьмічы Люб.

ГНІЛЫ', ГНІЛЫ'Й *прым.* 1. Трухлявы, гнілы. *Зрэзаў гнілоя дзерава.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Гнілоё яблыко — кінь!* Альхоўцы Лях. 2. *перан.* Мокры, дажджлівы. *Гнілое лета.* Малахоўцы Бар. 3. *перан.* Хваравіты. *Гнілый малец: дзень ходзіць у школу, месяц дома.* Мішневічы Шум.

ГНІЛЬ *ж.* Гнілое дрэва, парахня. *У дымакур сухую гніль кладуць з пня асінавага — і дымок дае.* Саланое Віл. ◇ *Узяцца гнілью* — гнісці. *Пол гнілью ўзяўся.* Саланое Віл.

ГНІЛЮГА' *ж.* 1. Тое ж, што і г н і л л ё. *Гнілюга, маклюга — мокрае сена.* Граўжышкі Ашм. 2. Слота. *Гнілюга — надвор'е мокрае.* Граўжышкі Ашм.

ГНІЛЯ'К *м.* Гнілое дрэва. *Гніляк — палена згнітая.* Рыбчына Віл. *Гнілякі выворваюць на поплаве, тоўстае дзерава выворваюць.* Дзяніскавічы Ганц. *Гніляк курыць.* Старыя Смільгіні Воран. *Гніляк агнём не гарыць, а курыць.* Гемзы Шальч.

**ГНІПЧ** *м.*, **ГНІПЧЫ'** *мн.* Клюшня. *У нагах рака гніпчы, адзін гніпч дліны, а другі карочай.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *gnibčius* 'тж'.

ГНІ'СЦІ', ГНІЦЬ *незак.* Гнісці. *Чым далій будзя расці, тым будзя гнісці.* Жыдзевічы Іўеў. *Картопля пачала гнісці.* Альхоўцы Лях. *Яны тут гнісцімуць.* Вецярэвічы Пух. *Стала гніць цыбуля, бульба.* Лоск Валож., Лісна В.-Дзв.

ГНОЙ, ГНУОЙ, ГНЫЙ *м.* 1. Жывёльны памёт. *Накідай ідзі на вос гною. На гнае буракі сеялі.* Вострава Маст. *На гнаі добра родзіць бульба.* Лоск Валож. *Гной бярэш у хляве.* Грыкені Вільн. *Гной вывезлі.* Чычалі Швянч. *Розбывала гнуой.* Горск Бяроз. *Пырыт ораннем чорнухі мы кладэм гный.* Дзмітравічы Кам. 2. *мед.* Прадукт гніення амярцвелых тканак арганізма (пры нарывах, заражэнні). *У яе ўся печань була на гнаі.* Кузьмічы Люб.

ГНОІ'ТІ *гл.* ГНАІ'ЦЬ

ГНО'ЙКА *ж.* Падгнілая дошка. *Гнойкі патсушым і парэзаць трэба іх.* Семежава Кап.

ГНО'ЙНЫ, ГНАЙНЫ', ГНЫ'ЙНЫЙ, ГНО'ЯНЫ *прым.* Угноены. *Гнойная зямля.* Малахоўцы Бар. *У нас гнайная зямля.* Рыбчына Віл. *Гныйна зымня.* Сіманавічы Драг. *Гнояна зэмля добрэ родіт.* Курашэва Чыж.

ГНО'ЙНЫ ЖУК *м. заал.* Гнаявік. *Ён чорны—гнойны жук.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГНОЯ'НКІ *гл.* ГНАЯ'НКІ І

ГНУСА'РКА *ж. зневаж.* Сварлівая жанчына. *Гнусарка ты! Табе толькі пасварыцца ды пагнюсіцца.* Вецярэвічы Пух.

ГНУСІ'ЦЦА *незак.* Пэцкацца. *Рукі гнусяцца.* Вецярэвічы Пух.

ГНУСІ'ЦЬ *незак.* 1. Пэцкаць. *Не гнусі рук, я сама зраблю.* Вецярэвічы Пух. 2. Спаражняцца. *Гусі гнусяць.* Вецярэвічы Пух.

ГНУ'ТЫ *прым.* Няроўны, крывы. *Гнутая палка.* Мішневічы Шум.

ГНУ'ЦІКІ *мн.* Крывыя дрэвы. *Як хто прываліць дзераўцы снегам і іх называюць гнуцікі, яны устаюць і крывыя растуць; рабіну каровы аб'ядаюць.* Азяраны Раг.

ГНУ'ЦЦА *незак.* 1. Рабіцца гнуткім, не ламацца. *Палазы капалі або гнулі із дзерава ясяніны: часалі на чатыры канты, у карыці парылі гарачай вадой, каб яны добра гнуліся, а не ламаліся.* Альхоўка Навагр. 2. *перан.* Згінацца, мярцвець. *Ад работы не гнулісь рукі.* Мішневічы Шум.

ГНУЦЬ *незак.* 1. Згінаць. *Палазы капалі або гнулі.* Альхоўка Навагр. 2. Мучыць. *Яе гнець гнётка.* Рыбчына Віл. 3. *перан.* Схіляць. *Цар Нікалай палякаў гнуў на рускую веру, тады праваславія высока стаяла.* Ахрэмаўцы Брасл. ◇ *Маты гнуць* — лаяцца. *Мужык, як п'яны — маты гне.* Кураполле Паст.

ГНЫЙ *гл.* ГНОЙ

ГНЫ'ЙНЫЙ *гл.* ГНО'ЙНЫ

ГНЭ'БІЦЬ, ГНЕ'БІЦЬ, ГНЭ'НЬБІЦЬ *незак.* Прыгнятаць, тыраніць, крыўдзіць. *А тых, што нас гнэбілі, пабілі.* Галубы Маст. *Гнебяць там яго.* Бакшты Іўеў. *Сталі гнэньбіць яго.* Груздава Паст.; *параўн.* польск. *gnębić* 'прыгнятаць, здзекавацца, тыраніць'.

ГНЭ'ПЦІ *мн.* Кіпцюры. *У ва ўсіх птушак гнэпці, і ў ката гнэпці, і ў сабакі гнэпці. Курыца моцно ўляпілася гнэпцямі. У шуляка тожа гнэпці.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* укр. *гнип, гнипець* 'кароткі шавецкі нож' (Грынч., І, 349), *гнобити* 'прыгнятаць, уціскаць' (Грынч., І, 295); *гл.* г н і б у́ р.

ГНЮ'НЬКА *м.* і *ж. асудж.* Маўклівы, маўчун. *Гнюнька — негаваркі чалавек, усё маўчыць, ці благое, ці добрае.* Вецярэвічы Пух.

ГНЮС *м.* Гразь, памёт. *Гнюсу сколькі каля хаты.* Вецярэвічы Пух.

ГНЮСНЫ' *прым.* Нячысты, гідкі. *У яе гнюсноя малако, я гнюснога не вазьму.* Вецярэвічы Пух.

ГНЯ'ВАЦЬ *незак. экспр.* Прасіць, надакучаць просьбамі. *Як пачала гняваць, гнявала і гнявала: «Мама, купі сукенку».* Кураполле Паст.

ГНЯВІ'ЦЬ *незак.* Выклікаць гнеў, крыўдзіць. *Ня хочацца гнявіць чарта* [пра зяця], *а то гнала п іх.* Крэва Смарг.

ГНЯВЫ'Ш *м.* Плакса, крыўдлівы. *Гнявыш ты, цябе ўквялілі.* Асавец Віл.

ГНЯДУ'Н *м.* Тое ж, што і г н е д а́ к. *Конь быў харошы, гнядун, гнеды конь.* Грыкені Вільн.

ГНЯДЫ' *гл.* ГНЕ'ДЫ

ГНЯЗДЗІ'ЦЦА, ГНІЕЗДІ'ТІСЕ *незак.* 1. Віць гнёзды. *У тым хляве ластаўкі гняздзіліся.* Валынцы В.-Дзв. *Вороны на дэрэвах гніездзяцце. Курка молодая гніездіцце, мусіт, нэстісе будэ.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Мець прытулак, туліцца, жыць у цеснаце. *З сімйею в комнатці гніежджусе.* Курашэва Чыж.

ГНЯЗДО' *н.* 1. Гняздо. *Курыца нясецца ў гняздзе.* Ліпнікі Вільн. *Гнёзда робяць пташкі.* Мсцібава Ваўк. *Граб'е гнёздаў нарабілі.* Ялова Пруж. *Кукушка ў чужоя гняздо кладзе яйко.* Жодзішкі Смарг. 2. Бярлог, гайно. *Свіння гняздо зрабіла — парасіцца будзіць. У свіней гнізда німа, трэба паткінуць саломы.* Саланое Віл. 3. Логава. *Воўк гняздо робіць у завалах, дзе вывараць вывернецца.* Дзяніскавічы Ганц. *Гняздо ваўкоў было ў балоце.* Альхоўцы Лях.

ГНЯНЬБІ'ЦЬ *гл.* ГНІ'БАЦЬ

ГНЯСЦІ' *незак. экспр.* Біць, наносіць пабоі. *Ён давай гнясці яго пад бакі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ГНЯСЦІ'СЯ *незак.* 1. Курчыцца ад болю. *Сам з жыватом гняцецца.* Пасека Ст.-Дар. 2. Напінацца. *Дзіця гняцецца.* Малахоўцы Бар.

ГНЯТУ'ХА *ж.* Пазыў (пры паносе). *Гнятуха, калі дзіця гняцецца.* Малахоўцы Бар.

ГОВ'ЁС *гл.* АВЁС

ГОВІ'ННЕ *н. царк.* Гавенне. *Як зусім ні йіст, то ўжэ говінне.* Дзмітравічы Кам.

ГОВІ'ТІСЕ *гл.* ГАІ'ЦЦА

ГОВІ'ТЫ *незак. царк.* Гавець. *Я говіла в чэстый чэтвер.* Дзмітравічы Кам.

ГОВОРУ'ШЧЫЙ *прым.* Тое ж, што і г а в а р к і. *Така говорушча баба.* Дзмітравічы Кам. *Такый говорушчый чоловік.* Сіманавічы Драг.

ГОВОРЫ'ЦІ, ГОВОРЭ'ТЭ *незак.* Гаварыць, казаць. *Вын кажэ і говорэ — гэто одно. Нэхорошэ говорыт по-руську, а хтось говорыт хорошэ.* Дзмітравічы Кам. *Вон говорыў чысто по-нашому. Найдэмо шчо-нэбудзь, дай говорымо.* Смаляніца Пруж.

**ГО'ГА** *ж.* Страшыдла, пудзіла. ***Гога** прыдзя, ціха, маўчы, не плач.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *gõgas, gògas* 'волат, велікан'.

**ГО'ГАЎКА** *ж.* Тое ж, што і г а р л я́ к I. *Забалела гогаўка і давіць.* Ністанішкі Смарг.; *параўн.* літ. *іран. gõgė* 'галава'.

ГОД, ГОТ *м.*, ГАДЫ' *мн.* Год 1. У розных формах і словазлучэннях абазначае ўзрост, адрэзак часу, перыяд. *Годам*

*меншы яго.* Ністанішкі Смарг. *Я годам маладзей за Адамчыка. Ён на два гады маладзейшы.* Груздава Паст. *Я дваццаць другім годам вышла. Яны гадамі могуць ўжо ісці на работу.* Саланое Віл. *Тыя гэтакімі гадамі былі меншыя.* Вецярэвічы Пух. *Яна ў Соніных гадах.* Курaполле Паст. *Яна ў маіх гадах гэта работа стала во такая, а як была маладая — рас-два і зробіш.* Саланое Віл. *Я ўжо меў гадоў трыццаць.* Грыкені Вільн. *У чатырнаццатом году я меў дваццаць лет.* Швэды Вільн. *Катора дзеўка бедна была, гады праходзілі і ніхто не браў.* Альхоўка Навагр. *Тры гады, як яна вышаўшы.* Новыя Мацалі Варэн. 2. Спрыяльны, урадлівы год. *На ўсё патрэбен гот: і на ягады, і на грыбэ, і на арэхі.* Вецярэвічы Пух. *Гэтым годам не было малака.* Вялікія Баяры Шчуч. *На свіня ні год: наша толькі чвора прывяла.* Мсцібава Ваўк. *Гэты год так многа вужой, тыя годы так не было.* Вялікі Краснік Пруж. ◇ *Аднаго году* — адзін раз, аднойчы. *Аднаго году прышлі ваўке ў сяло.* Вецярэвічы Пух. *Яшчэ аднаго года былі далжны семдзесят рублей.* Лоск Валож. *Адных гадоў* — аднагодкі. *Янук з нашым Зэнем адных гадоў.* Чычалі Швянч.

ГО'ДЗІ, ГО'ДЭ *прысл.* 1. Годзе, досыць. *Годзі, наеўса.* Хатынічы Ганц. 2. Дастаткова, добра. *Ужо высахлі, то і годзі.* Вялікі Краснік Пруж. 3. Усё, канец, толькі. *Думала іменно ў нэдзелю пойду — і годзі, покіну вас — і годзі.* Смаляніца Пруж. *Лето — дай годэ.* Азарычы Пін.

ГОДІ'ТІ *гл.* ГАДЗІ'ЦЬ

ГОДІ'ТІСЕ *гл.* ГАДЗІ'ЦЦА

ГО'ДНЯЯ СВЯ'ТА *н.* Тое ж, што і гадаво́е свя́та. *Свята годняя — святам німожна рабіць.* Жылі Іўеў.

ГО'ЖЫ *прым.* Прыгожы. *Гожа діевчына, але грубонога.* Курашэва Чыж.

ГОЗДЗЬ *гл.* ГВОЗД

ГО'ЗЫРО *гл.* ВО'ЗЕРА

ГО'ЙДАЛКА, ГО'ЙДАНКА, ГО'ЙДАЎКА *ж.* Тое ж, што і гайда́нка. *Помытаю, в Мысынятыны було такыі дві вылікых бырэзыны, да мы зробылы на іх гойдалку, то всі ходылы гойдатысь.* Сіманавічы Драг. *Зрубэлэ гойдалку дай гойдалыся.* Радастаў Драг. *Будымо гойдатыса на гойдалцы.* Відзібар Стол. *Зрабі Жанцы гойданку.* Стральцы Гродз. *Гойданка была.* Ялова Пруж. *На гойдаўцы буду гайдацца.* Галубы Маст.

ГО'ЙДАЦЦА *незак.* Калыхацца. *Гойдаецца ў калысцы.* Тухавічы Лях.

ГО'ЙНА *прысл.* Багата, заможна. *Гэты чалавек гойна жывець.* Магуны Паст. *Што табе, ты гойна жывеш, усё маеш.* Кіралі Шчуч. *Го́йна жывеш.* Дакудава Лід. *Гойна жыве.* Пацаўшчына Дзятл. *Гойна жывеш: многа глуміш, многа сала пячэш.* Рудня Астравітая Чэрв.

ГО'ЙНЫ *прым.* 1. Багаты, заможны. *Гойную свадзьбу зрабілі.* Гемзы Шальч. *Гойны гаспадар.* Дакудава Лід. 2. Добры, прыгожы. *Яна некалі была гойная дзяўчына.* Пацаўшчына Дзятл. *Вот дзеўка гойна.* Кіралі Шчуч. 3. Храбры, рызыкоўны, адважны. *Гойны чалавек быў.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *hojny* 'шчодры'.

ГО'КАЦЬ *незак.* Гукаць, перагуквацца. *Гокаіць, можа, заблудзіўся.* Якубова Рас.

ГО'КО *гл.* ВО'КА I

ГО'ЛАД, ГО'ЛАТ, ГЛОД *м.* 1. Голад. *У вайну голад буў.* Кузьмічы Люб. *На голат выкідая бацян дзіця.* Кіралі Шчуч. 2. у знач. *прысл. го́ладам.* Ад голаду. *На цапе сабака памёр голадам, голадам замарыла.* Валынцы В.-Дзв. *Голадам можна ўмярці.* Вострава Маст. ∇ *Ад гладу німа цыганак — няма загавору.* Швэды Вільн.; *парайн.* польск. *głód* 'тж'.

ГО'ЛАС *м.* Голас, мелодыя, тон. *Салавей пеў на ўшэсця на дванаццаць галасоў.* Вецярэвічы Пух. ◇ *В свыннячый голос* — пад канец справы. *Прышла в свыннячый голос, як вжэ всэ зробылы.* Сіманавічы Драг.

ГО'ЛАЧКА *ж. памянш.* да г о́ л к а I. *Дай мне голачку з ніткай.* Паляцкішкі Воран.

ГО'ЛДА *ж. зневаж.* Бальшуха, дылда. *Такая голда, а ў лялькі гуляе.* Беразіно Докш.; *парайн.* літ. *bul̃dė* 'круглы вялікі прадмет', *перан.* 'пра дзіця з поўным круглым тварам'.

ГО'ЛЕ *гл.* ГО'ЛЬЕ

ГО'ЛКА I *ж.* Іголка. *Голкай шыла.* Паляцкішкі Воран. *У голцы нітка.* Вялікія Баяры Шчуч. *Шые голкаю; у голцы вушка маленькае; голкі тарчаць.* Дзяніскавічы Ганц. *Голку нашла. Вялікая голка.* Альхоўцы Лях. *Увесці нітку ў голку.* Грыкені Вільн. *Танцёвала Голька польку, да впорола в ногу голку.* Сіманавічы Драг.

ГО'ЛКА II *ж. цясл.* Падоўжная бэлька ў страсе гумна, кладзь. *Голка ставіцца на чапёлы, за голку чапляюцца ключы.* Бакшты Іўеў.

ГОЛОВА' *гл.* ГАЛАВА' I

ГОЛОВІ'ТІСЕ *незак.* Абдумваць, думаць. *Довно головлюсе і нічого нэ выдумаю.* Курашэва Чыж.

ГОЛОВЭ'НЬКА *ж.* Тое ж, што і г а л а в е́ ш к а 1. *С пэчы трэба головэнькі повыкідаті, бо курат.* Курашэва Чыж.

ГОЛОСНО' *прысл.* Далёка чуваць. *Голосно ў лесі.* Хатынічы Ганц. *Голосно табы в лісы.* Сіманавічы Драг.

ГО'ЛУБ *гл.* ГАЛУ'П

ГОЛУБЦІ'Е I толькі *мн. устар.* Гульня, разлічаная на выйгрыш яек на вялікдзень. *Тэпэр ужэ на вэлікдэнь нэ іграют в голубціе.* Курашэва Чыж.

ГОЛУБЦІ'Е II *мн. кулін.* Галубцы. *На обіед буду голубціе тушыті.* Курашэва Чыж.

ГОЛУ′П *гл.* ГАЛУ′П

ГО′ЛЫ *прым.* 1. Неапрануты. *Дзіця гола, прастудзіцца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Выскачыла голая.* Лоск Валож. 2. Бедны. *Нявестка прышла голая, нічога ня мела.* Лоск Валож. 3. Худы, без мяса. *Мяса абрэзала, асталася гола костка.* Магуны Паст. 4. Не зарослае раслiннасцю месца. *Там голо место.* Альхоўцы Лях. 5. Пусты. *Угол голы астаўся.* Індра Красл. ∇ *Гола костка нікому не міла.* Новікі Гродз.

ГО′ЛЬЕ, ГО′ЛЬЁ, ГО′ЛЕ *зб. н.* Галлё. *На гумне сад, прошлого году голье ламалосо от яблык, а сёгоні і одное нэмашыка.* Смаляніца Пруж. *Гольё знясі ў гуру і пудпалі.* Хатынічы Ганц. *Грушка ядрона, аш голе гнецца.* Вялікія Баяры Шчуч.

ГОЛЬШЫНА′ *гл.* АЛЕ′ШЫНА

ГО′ЛЯК *м.* Селядзечны расол. *Дайней у пост макалі бульбу ў голяк.* Стральцы Гродз.

ГОЛЯ′КІ *мн.* Галінкі хваёвых дрэў. *У ёлі голякі, у хвоі голякі, ёловэ голяке, хвоёвэ голяке.* Дзмітравічы Кам.

ГОЛЯ′ЧКІ *мн. памянш.* да г о л я́ к і. *У хвоі, у ёлі голячкі.* Дзмітравічы Кам.

ГОЛЯ′ЧЧЭ *зб. н.* Тое ж, што і г о́ л ь е. *Пожарэско робыцця з голяччa.* Дзмітравічы Кам.

ГО′МАН *м.* Гучная размова. *Шэпчам ціхонька, ніякага гоману не было.* Груздава Паст.

ГО′МЕЛЬ *м.* У выразе: *Даць у гомель* — стукнуць кулаком у плечы. Курашэва Чыж.

ГО′МЗА, ГО′МЗА *ж.* 1. Нарасць на дрэве. *Гомза парасла на бярозе.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Гузак на целе чалавека. *На шыі якась гомза ростэ.* Курашэва Чыж. 3. Луста, скіба, вялікі кавалак. *Взяв гомзу хліеба і пушов до роботы.* Курашэва Чыж.

ГОМЗІ′ТЫ *незак.* Тое ж, што і г а м а н і́ ц ь 3. *Гомзів на іі, шо дытэй ны гляділа.* Сіманавічы Драг.

ГОМО′ЛЯТЫ *незак. экспр.* Чмякаць. *Гомоляе вона того осылэнця с хлібом.* Сіманавічы Драг.

ГОМОНІ′ТЫ *гл.* ГАМАНІ′ЦЬ

ГО′НАМ *прысл.* Гвалтоўна, прымусова. *Прыдуць у хату і гонам гоняць.* Граўжышкі Ашм.

ГО′НАР *м.* 1. Пашана, павага. *Была Броня ў славя, у гонары, уважалі яе.* Груздава Паст. *У мяне сваты былі — гэта гонар.* Саланое Віл. 2. Форс. *Ён набраўся гонару, стаў ганаровы.* Альхоўка Навагр. ◇ *Не ў гонар* — не падабацца, не даспадобы, непажадана. *Гэта ім не ў гонар, што яна вышла за яго.* Міратычы Карэл. *Мець за гонар* — ганарыцца. *Ён за гонар мей, што я адзяюся харашо.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГО′НДА *гл.* ГОНТ

ГОНДО′СЫЙ *гл.* ГУНДО′СЫ

ГОНДО′СЫТЫ *незак.* Гугнявіць. *Его трудно розобрать, шо говорыть, бо натто гондосыть.* Сіманавічы Драг.

ГО′НІ, ГО′НЫ толькі *мн.* 1. Старая мера ворнай зямлі, поле каля пяцідзесяці—ста метраў даўжыні. *Поле было дліннае, чэраз усё араць доўга, ён пашэць палоску — і дальшэ; заём гэты называюць гоні.* Ухвала Круп. *Двое ганей узараў. Адны гоні ей жжаць.* Беразіно Докш. *Гоні не вымяралі, хачу длушшыя, хачу карацейшыя, гоні загараў, адны гоні гару, потым другія гоні, двоя-троя ганей.* Гемзы Шальч. *Гоні — частка поля, было і па двое ганей зямлі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Пражала адны гоні, другія гоні жну, гоні доўгія на палосах.* Вецярэвічы Пух. *Пяцёра ганей жжала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Гоны — як арэш, то якіх дзвесця шагоў свайго шнура.* Быстрыца Астр. *Калі поўкіламетра паласа, я наразаў іх на тры паласы, і называлі гоны.* Галубы Маст. *Гоны па метраў сто, адныя гоны, двоі гонаў.* Альхоўцы Лях. *Гоны — сто метраў дліны.* Дакудава Лід. *Пасеяў гоны бульбы, гоны ячменю, усяго пасеяў пяцёра-шасцёра ганей. Былі гоны па пяцьдзесят — сто мэтраў даўжыні, а шырыня розная.* Саланое Віл. *Гоны — размер поля даўжыні прыблізна на око метраў сто. Сеілі гоны лёну. Пасеялі просо гоны.* Дзяніскавічы Ганц. *Асталася на цэлыя гоны.* Пацаўшчына Дзятл. *Воўк гоней двое адбегся і стаў жарабят душыць.* Вецярэвічы Пух. 2. Адлегласць ад аднаго краю поля да другога. *Гоны — калі пашацца на ўсё поле.* Малахоўцы Бар. *Гоны зовут удоўжкі.* Смаляніца Пруж. *Такыі довгы гоны, шо одного градка картоплюв хватыть на дэнь копаты. Прошов двое гонэй — гэто обырнувся с плугом туды й назад, з одного конця поля в другый.* Сіманавічы Драг.

ГОНІ′ЦІ *гл.* ГАНІ′ЦЬ

ГО′НКА *ж.* Панос. *Гонка была спанаваўшы кароў.* Граўжышкі Ашм.

ГО′НКІ I *гл.* ГО′НЬКІ

ГО′НКІ II *прым.* 1. Высокі, не сукаваты. *Гонкае дзераво бес сукоў.* Вецярэвічы Пух. *Гонкая хвоя ў лесі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ясень гонкая, як сасна.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Шпаркі, быстры ў рабоце. *Гэта баба гонкая ў рабоце.* Міратычы Карэл.

ГО′НКІ III толькі *мн.* Бег наперагонкі. *Гонкі — ганіць, даганяць каго.* Чычалі Швянч.

ГОНОЗА′ *ж.* Заедзь. *Гоноза напала на короў, тэлят, заедзь — то самэ.* Азарычы Пін.

ГОНТ *м.*, ГО′НТА, ГО′НДА *ж.* Гонт. *Гонт вазілі пасля вайны дзераўный.* Цінкаўцы В.-Дзв. *У яго гонтай крыта хата.* Альба Нясв. *Дранкай крылі страху, гонта — асабіста.* Быстрыца Астр. *Гонтамі крыют чы дранкою.* Смаляніца Пруж. *Гонда на страсе.* Ісерна Слуц. *Гонда крыць страху.* Пасека Ст.-Дар.

ГОНЧ *м.* Гончы сабака. *Як гонч па слядах — нюх-нюх.* Малькуны Ігн.

ГО'НШЧЫКІ *мн.* Паганятыя. *Гоншчыкі, што быдла гонюць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГО'НЫ *гл.* ГО'НІ

ГОНЫ'ТЫ *гл.* ГАНІ'ЦЬ

ГО'НЬКА I *ж.* Загон, вузкая палоска. *Адну гоньку ўзараў.* Мачаск Бярэз.

ГО'НЬКА II *гл.* ГУ'НЬКА 1

ГО'НЬКІ, ГО'НКІ толькі *мн.* Вузкая палоска зямлі, частка надзелу. *Як выходзіла замуж, мне бацька даў гонькі зямлі — вускую палоску. Гонкі — невялікі кусок зямлі, ад варот да варот.* Рыбчына Віл.

ГОНЭ'СНЫЯ БО'НДЫ *мн.* Здобныя булкі. *Пяклі і гонэсныя бонды з пшанічнай мукі, клалі масла, яйкі, радзынкі.* Мсцібава Ваўк.

ГОП *выкл.* Гоп. *Лось быў пры каровах, да гоп — і пашоў.* Грыкені Вільн.

ГО'ПА *ж. кулін.* 1. Праснак. *Пяклі гопы: набоўтаюць мукі і спякуць гопу, яна тоўстая на ўсю скварадну, елі з малаком салоткім. Ад ранку пяклі гопу.* Міратычы Карэл. 2. Бабка. *Гопы с картошкі пяклі. Хто называе бапка, а хто гопа, у Гасцілавічах усе кажуць гопа.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. дыял. *hop* 'пірог', *hopka* 'смажаная з кукурузнай мукой бульба' (СВ, II, 54).

ГО'ПАЦЬ, ГО'ПАТІ *незак.* 1. Абіваць. *Нада калючкі адбіваць — цэп вазьмі і гопай!* Пасека Ст.-Дар. 2. Моцна стукаць нагамі ў час хадзьбы. *Як ідэш, то нэ гопай, бо всіех побудіш.* Курашэва Чыж.

ГО'ПКАЦЬ *незак.* Калыхаць, гушкаць. *Бяроску прынясуць, кастыль уб'юць, калыску павешаюць і гопкаюць.* Стральцы Гродз.

ГО'ПНУЦІ *зак.* Ударыць, пнуць (у плечы). *Гопнув мэнэ кулаком в плечы.* Курашэва Чыж.

ГО'ПНУЦЦА, ГО'ПНУТЫСЬ *зак. экспр.* Упасці, зваліцца, пляснуцца. *Гопнулася дзіця.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Гопнувся з лавкы.* Сіманавічы Драг.

ГО'ПЫНКА *гл.* ВО'ПІНКА

ГОРА' *гл.* ГАРА' I

ГО'РА, ГО'РО, ГО'РЭ *н.* 1. Бяда, няшчасце, беднасць. *Баба гора панесла.* Старыя Смільгіні Воран. *Жылы ў горы.* Старыя Трокі Трак. *Гора з гэтай дзеўчынай.* Вострава Маст. *Кужды мае сваё гора. За немцамі я гора зажыла.* Парэчча Гродз. *Він гора ны мів і ны мае.* Дзмітравічы Кам. 2. Патрэба, клопат. *На дрова гора не было, такія ляса былі.* Граўжышкі Ашм. ▽ *Ні ўсігда па гору плакаць.* Саланое Віл. *Гора вучыць, гора мучыць, гора песні пяе.* Бакшты Іўеў. *Хоць ты за*

*мора, а за табой гора.* Кураполле Паст. *Гора едзе і горам паганяе.* Альхоўцы Лях.

ГО'РАЙ *прысл.* 1. Горш. *Ёй горай, а табе лепей.* Лоск Валож. *Горай яму.* Чычалі Швянч. 2. Мацней, больш. *Штораз горай крычала.* Пацаўшчына Дзятл.

**ГО'РАН, ГО'РАНЬ, ГО'РЫН** *м.* і *ж.* Тонкія ніткі для вышывання, мулінэ. *Трэба горан разблутваць.* Хатынічы Ганц. ***Горань** — тонкія ніткі куплёныя, як мулінэ. Ніткі мулінэ зовут горын.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* ням. *Garn* 'ніткі, пража'.

**ГО'РАНЯ** *ж.* Горан (у кузні). *Як кузня, то і гораня павінна быць.* Ванелевічы Кап.

ГО'РАСЦЬ, ГО'РАСЬ *ж.* 1. Гар, чад. *У лазні горасць, дым, дыхаць не дае.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Гаркота (у агародніне). *Апарваю агурке, кап горась выходзіла.* Вецярэвічы Пух.

ГОРА'ТЫ *гл.* АРА'ЦЬ

ГО'РАЧ *м.* і *ж.*, ГА'РАЧ *ж.* 1. Гарачыня. *Не такі горач пры зямле, пайду сяду. Такая горач на дварэ, аш варона с кала валіцца.* Кіралі Шчуч. *Гарач така летам.* Азарычы Пін. *У сенцябрэ мало колі бывае гарач.* Смаляніца Пруж. *Такая гарач на дворі.* Сіманавічы Драг. 2. Тое ж, што і г а р а́ ч к а 1. *Велька горач была, ёй з горачы стала.* Старое Сяло Зэльв. 3. у знач. *прысл. го́раччу.* У час спёкі. *Дзе ты выпраўляеш яе такой гораччу.* Навасёлкі Свісл.

**ГО'РАЧА, ГО'РАЧО** *гл.* ГАРА'ЧА

ГОРБ I *м.* 1. Горб. *У чоловіка горб е.* Дзмітравічы Кам. *Горба на плечах носіт.* Ялова Пруж. 2. Карак, спіна. *У вайну маткі дзеці няслі на гарбах.* Альхоўцы Лях.

**ГОРБ II** *м.* Зморшчына, складка. *Пригорнуласа на одэжи, на постэле — то горб, як ны глатко.* Дзмітравічы Кам.

ГО'РБА *ж.* Куча чаго-н. 1. Насып зямлі, пяску, сабранае каменне. *Горба зямлі нанасілі.* Старое Сяло Зэльв., Вострава Маст. *Горба зямле.* Каўняны Гродз. *Навазіў цэлу горбу пяску.* Пацаўшчына Дзятл. *Сабраў у горбу каменье.* Дзяніскавічы Ганц. *Горба пяску ляжыць, горба камень, горба гною.* Баброўнікі Гарад. 2. Кучка зямлі, нарытая кратамі. *Крот цэлу горбу натачыў. Чаму ён зямлю точыць? — Бо ён дарогу не сыпаў. На балоце адны горбы насточвалі краты.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Згорнутае ў адно месца збожжа, знесеная ў кучу агародніна. *Малацілі жыто, а потым ссоўвалі ў горбу.* Мсцібава Ваўк. *Горба буракоў, як цярэбяць і ссыпаюць у кучу.* Міратычы Карэл. *У горбу скідалі буракі.* Малахоўцы Бар. *Горба бульвы.* Смаляніца Пруж. 4. Неўпарадкаванае сена, салома і інш. *Горба сена, саломы, як у порадок не зложэно, то горба. Горба зеля, травы.* Вялікі Краснік Пруж. *Зваліў сено ў горбу.* Навасёлкі Свісл. *Сечкі горбу накруціла.* Мсцібава Ваўк. 5. Куча галля. *Нарубаў веткаў скуйны, адну*

*горбу забралі, а другую горбу аставілі.* Новікі Гродз. *Горба голья ляжала.* Вострава Маст. *Ляжыць горба лому.* Міратычы Карэл. *Голье складалі ў горбу ды палілі горбы.* Дзяніскавічы Ганц. 6. Гурба снегу. *Горба снегу ляжыць. Намяло горбы снегу.* Вострава Маст. 7. Узгорак. *Як бывае прыгорак на полі, то кажуць горба, дзе ніз і павышэнне.* Альхоўка Навагр. 8. *перан.* Вельмі многа чаго-н. ці каго-н. *Ціла горба баранок.* Дзмітравічы Кам. *Горба вянкоў.* Масілавічы Сл. *Така горба, не менш як сіто* [пра скручанага вужа]. Вялікі Краснік Пруж. *Сабралася цэлая горба людзей.* Стары Свержань Стаўб. *У бусла горба дзяцей, бусел ім носіць і носіць без конца.* Мсцібава Ваўк. 9. у знач. *прысл. гóрбай.* Няроўна. *Як будзеш жменяй зярно кідаць, то будзя горбай расці.* Мсцібава Ваўк.

ГО′РБАЧКА *ж. памянш.* да г о́ р б а. 1. Кучка. *Горбачка зямлі.* Вострава Маст. *У горбачку лісце збіралі.* Мсцібава Ваўк. 2. Гурт, сукупнасць. *Парасята усе ў горбаццы палеглі.* Дзяніскавічы Ганц. *У горбацца ляжаць усе курчаке.* Старое Сяло Зэльв. *Апенькі горбачкамі растуць.* Масілавічы Сл.

ГОРД *гл.* ГАРДА′

ГО′РДА *прысл.* Ганарыста, пагардліва, фанабэрыста. *Сам сябе горда вядзе.* Сакаўшчына Валож.

ГОРКА′ВЫ *прым.* Картавы, хто не вымаўляе [р]. Курашэва Чыж.

ГОРКА′ЦІ *незак.* Картавіць, не вымаўляць [р]. Курашэва Чыж.

ГО′РКІ, ГО′РКІЙ *прым.* 1. Горкі. *Перац горкі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Гэта вотка горкая, як палын.* Гемзы Шальч. 2. *перан.* Гаротны. *Плачу горкімэ слёзамэ.* Дзмітравічы Кам. ▽ *Салоткі будзеш — праглынуць, горкі будзеш — праклянуць.* Саланое Віл.; *гл.* г а р к í.

ГО′РКНУЦЬ *незак.* Рабіцца горкім. *Алей горкне, калі яго не пераварыць.* Мсцібава Ваўк. *Ягады горкнуць.* Альхоўка Навагр.; *гл.* г а р к н у́ ц ь.

ГО′РЛА I *н.* 1. Дыхальнае горла, страваввод. *Горла ў каровы пітома і ядома.* Дакудава Лід. *Горла каб не забыцца завязаць* [як разбіраюць кабана]. Вецярэвічы Пух. *Воўк хватая за горла каня, авечку.* Старое Сяло Зэльв. *Немцы хацелі забраць карову, дак я патом — па горле.* Гарэлец Пух. *У каровы горла.* Грыкені Вільн. 2. Ляпа. *Воўк горла разявіўшы.* Старыя Смільгіні Воран. *Воўк горлам ляская.* Дакудава Лід. ◇ *Стрымаць горла* — змоўкнуць. *Стрымай ты сваё горла!* Паляцкішкі Воран.

ГО′РЛА II *н.* 1. Жарало ў крыніцы. *Самыя харошыя воды с крыніц, з горла цячэ, выцякая.* Альхоўка Навагр. 2. Чалеснікі ў печы. *Горла вускае ў вашай печы, гэты чыгун не пралезе.* Грыкені Вільн. 3. Адтуліна ў рыбалоўнай снасці. *Бучамі лавілі рыбу, горла такое, у буч улезе рыба.* Грыкені Вільн.

ГО'РЛА III *н.* Зеў у аснове красён. *Калі ткалі, чаўнок у горла пускалі.* Старыя Трокі Трак.

ГО'РЛАЧКА *н. памянш.* да г о́ р л а II, 3. *У бучы ў адным і другім канцы такія горлачкі, адно горлачка пасярэдзіне.* Чычалі Швянч.

ГО'РЛУШКА *н. памянш.* Гарлачык. *Горлушкі паліваныя прадаюцца.* Мішневічы Шум.

ГОРМА'ДА *гл.* ГРАМАДА'

ГОРНО' *гл.* ГАРНО'

ГОРНУ'ТЫ *гл.* ГАРНУ'ЦЬ

ГО'РНЫ *прым.* Ворны. *Горная зямля кругом, поле.* Быстрыца Астр.

ГО'РО *гл.* ГО'РА

ГОРО'Д *гл.* АГАРО'Т

ГОРО'НЧКА *гл.* ГАРА'ЧКА

ГОРО'Х *гл.* ГАРО'Х

ГОРО'ХВЫСКО, ГОРО'ШЫСКО *н.* Тое ж, што і г а р о́ х а в і с к а. *Горохвыско — дэ горох ріс.* Дзмітравічы Кам. *Горошыско, дзе горох убралі.* Смаляніца Пруж.

ГОРО'ШЫНЫ *гл.* ГАРО'ШЫНЫ

ГОРС *м. крав.* Какетка. *Кашуля з горсам пашыта.* Лоск Валож. *Кашуля з горсам.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *gors* 'грудзі'.

ГО'РСТАЧКА *ж. памянш.* да г о р с ц ь. *Па горстаццы бярэ салому і кроіць сечку.* Грыкені Вільн.

ГОРСЦЬ *ж.* Жменя. *Горсць бярэ саломы і кроіць сечку.* Грыкені Вільн.

ГО'РСЫ *мн.* Гарсэт. *Горсы накладалі, як хадзілі на фэст.* Старыя Смільгіні Воран.

ГОРШЧЭ'ЧНЫК *гл.* ГАРШЧЭ'ЧНІК

ГО'РШЫ *прым. выш.* Сподні. *Горшы бок палатна.* Скрудалена Даўг.

ГО'РЫН *гл.* ГО'РАН

ГОРЫ'ЦЯ *ж.* Кручаныя шаўковыя ніткі. *Плахту вышыла горыцёю.* Курашэва Чыж.

ГО'РЫЧ *м.* Гаркота. *Такі горыч у роте.* Азарычы Пін.

ГО'РЭ *гл.* ГО'РА

ГОРЭВА'ЦЬ *гл.* ГАРАВА'ЦЬ

ГОРЭ'НЫТЫ *гл.* ГАРЭ'НІЦЬ

ГОРЭ'Х I *гл.* АГРЭ'Х

ГОРЭ'Х II *гл.* АРЭ'Х

ГОСПОДА'Р *гл.* ГАСПАДА'Р I

ГОСПОДА'РКА *гл.* ГАСПАДА'РКА

ГОСТІ'НА *гл.* ГАСЦІ'НА

ГОСТРОВЭ'РХЫЙ *гл.* ГАСТРАВЕ'РХІ

ГО'СТРЫ, ГО'СТРЫЙ *прым.* 1. Вострры. *Гостры нош.* Вострава Маст., Дзяніскавічы Ганц. *У ката гострыя пазуры.*

Жылі Іўеў. *Гострыя калючкі на рыбі.* Альхоўцы Лях. *Гострыя берагі* [у пасудзіне]. Альхоўка Навагр. *Гострый ножык.* Дзмітравічы Кам. 2. Завостраны. *Погодлівый місяць з гострымэ рошкамэ.* Дзмітравічы Кам. 3. Выпнуты. *У каня гостры крыш, як худы конь.* Дзяніскавічы Ганц. 4. *перан.* Языкаты, злы. *Свякроў — гострая баба, мужыка ганіць.* Галубы Маст. 5. Моцны, рэзкі. *Вецер гостры, але цёплы.* Пацаўшчына Дзятл.

ГОСТЫ'НЭЦЬ, ГОСТЭ'НИЦЬ *гл.* ГАСЦІ'НЕЦ І

ГОСЦЬ І, ГОСЬ *м.*, ГО'СЦІ *мн.* Сваяк, чужы, запрошаны або нечаканы. *А ў нас госць з Мінска.* Кузьмічы Люб. *Гось прыедзе, чакаю госця.* Ністанішкі Смарг. *З гасціма сядзелі і з гасціма пашлі. Гось прыехаў, прынімаю.* Асавец Віл. *Госці, як свае прыяжджаюць.* Багушэвічы Бярэз. *Перад гасціма танцавала Саламея. Мае браты на госці прыедуць.* Бакшты Іўеў. *Зайшліся на гэтыя госці.* Ністанішкі Смарг. *Паехалі яны на госці.* Кураполле Паст. *Брат у госці прыедэ.* Смаляніца Пруж. *Хадзіў у госці, быў на гасцях.* Гемзы Шальч. ∇ *Першы дзень гось залаты, на другі — сярэбраны, а на трэці — мець, сабірайся і дамоў ець. Дай божа, каб дома госці былі, а не па гасцях раз'яжджаць. Гось — нявольнік: не хоча ні піць ні есь, а ня можа атказацца.* Кураполле Паст. *Гэта не госць, як душа ёсць.* Жылі Іўеў. *Мілы мой гось, а дастаў ты мяне, як ёсь, калі ж мая хата без вачэй, а двор без вушэй —* бяздзетная сям'я і двор без сабакі. Ухвала Круп.

ГОСЦЬ ІІ *м.* Тое ж, што і г а с п а д а́ р ІІ. *Госць стаіць на куце, ужо зажалі жыта.* Жыдзевічы Іўеў. *Гасця ў покуці ставілі, а як звозілі збожжа ў гумно, гасця клалі падніз.* Старыя Смільгіні Воран.

ГО'СЫНЮ *гл.* ВО'СЕНІ

ГОТ *гл.* ГОД

ГОТОВА'ТІСЕ *гл.* ГАТАВА'ЦЦА

ГОТО'ВІЦЬ *незак.* 1. Нарыхтоўваць. *Пашлі ў лес дровы готовіць, і ён умер у лесі. Ён сільна ляны — самі дровы готуем.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Гатаваць корм жывёле. *Готовілі пойла цялюку.* Ліпнікі Вільн.

ГОТУ'ВКА, ГОТУ'ОВКА *ж.* Наяўныя грошы. *У яго была готувка — грошы ў банку ляжалі.* Гемзы Шальч. *Хто мае готуовку, той купіт.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *gotówka* 'тж'.

ГОЎ *выкл.* Агу. *Як гукнеш у леся ці на полі — адгукваецца яха: гоў да гоў.* Вецярэвічы Пух.

ГО'ХТА *ж.*, ГО'ХТЫ, ГА'ХТЫ *мн.* 1. Пярэдняя загнутая частка палазоў, галоўкі. *Паламаліся гохты ў санях.* Жыдзевічы Іўеў. *Полас у гохтах пераламаўся, пераламалася адна гохта.* Жылі Іўеў., Граўжышкі Ашм. *На гохты нада зрабіць казырок.* Гемзы Шальч. *Гахты раблю новыя.* Чычалі Швянч. 2. Пярэдняя частка саней. *Трэба мяшочак у гохты ўкінуць,*

*ёсць мейсца. Конь кідае снех у гохты.* Гемзы Шальч. *Злажыў воз на гохты, не пацягне конь цяпер.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Тое ж, што і г е́ г н і 1. ***Г**охты — палазы ў крызе, крыга, што рыбу ловяць. **Г**охты робяць, зрабіў гохты да крыгі.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* літ. *gãktos* 'тж'.

ГРАБ, ГРАП *м.* 1. *бат.* Граб. *Граб да дуба падобны.* Парэчча Гродз. *Грап расце ў нас.* Альхоўцы Лях. 2. Драўніна грабу. *Дайней зубы да бараны рабілі з грабу.* Мсцібава Ваўк.

**ГРА′БА** *ж.* Канава. Рыбчына Віл.; *парайн.* літ. *grãbė* (<ням. *Graben*) 'тж'.

ГРАБАВІ′ДЛА, ГРАБАВІ′ДЛО *н.* Грабільна. *Грабавідла — ручка ў граблях.* Жодзішкі Смарг., Магуны Паст. *Грабавідла паламалася ў граблях.* Валынцы В.-Дзв. *Грабавідло ў граблях.* Кузьмічы Люб.

ГРАБАВІ′ЛА *н.* Тое ж, што і г р а б а в і́ д л а. *Грабавіла— ручка ад грабель.* Кураполле Паст. *У граблях рашотка і грабавіла.* Мярэцкія Глыб.

ГРАБАВІ′ЛЬНА *н.* Тое ж, што і г р а б а в і́ д л а. *Грабавільна ў граблях.* Янова Рас.

ГРАБАВІ′СКА, ГРАБЛАВІ′СКА, ГРАБЛЯВІ′СКА *н.* Тое ж, што і г р а б а в і́ д л а. *Грабавіска ў граблях. Граблавіска зламаў.* Рагулішкі Даўг. *Граблявіска, што ў руках дзяржаць.* Стральцы Гродз.

ГРАБАВІ′ШЧА *н.* Тое ж, што і г р а б а в і́ д л а. *Грабавішча — у граблях ручка.* Ракаўскія Швянч.

ГРА′БАЛКІ *мн. памянш.* да г р а́ б л і. *У грабалках у галаве зубы.* Ракаўскія Швянч.

**Г**РА′БАЛЬ, **Г**РА′БЕЛЬ *м.* Граблі. ***Г**рабаль робяць з бярозы, з клёны, а зубы дубовыя.* Старыя Трокі Трак. ***Г**рабель вісіць пад сцяной і бразгаіць.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *grėblỹs* 'тж'.

**Г**РАБАНУ′ЦЬ *зак.* Цапнуць, хапнуць. *Лявон мусіць грабануць цібе.* Бакшты Іўеў. *Унук грабануў рукой, а дзет крычыць, што яго унук б'ець.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГРАБА′НЯ *н.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова г р а́ б а́ ц ь 1. *Тэраз сена грабалі і ўжо кончылі грабаня.* Грыкені Вільн.; *парайн.* літ. *grėbẽnė* 'тж'.

ГРАБА′Р, ГРЭБА′Р *м.* Землякоп. *Грабар канаву капаў; грабарэ канавы закладалі.* Дзяніскавічы Ганц. *Грэбар капае.* Ванелевічы Кап.; *парайн.* ням. *Gräber* 'тж' (магчыма, праз польскую).

ГРА′БАР *гл.* ГАРБА′Р

ГРАБА′РНЯ *гл.* ГАРБА′РНЯ

ГРАБА′РСКІ *прым.* Землярыйны. *Грабарска лапата вяліка, а жалязняк малы.* Дзяніскавічы Ганц.

ГРАБАЎЁ *н.* Тое ж, што і г р а б а в і́ д л а. *У граблях грабаўё і калодачка, дзе зубы сідзяць.* Валынцы В.-Дзв., Грузда-

ва Паст. *У граблях грабаўё, ілі грабавільна, галоўка, зубы ў ёй.* Індра Красл.

ГРА′БАЦЦА *незак.* Чапляцца за што-н. *Ідзець, ідзець і за дзверы грабаецца.* Мішневічы Шум.

ГРА′БА′ЦЬ, ГРЭ′БАЦЬ, ГРЭ′БАТЫ *незак.* 1. Грэбці. *Косім, грабáім, па вадзе сцягвалі, а вады было па лонках. Граблямі грабáла.* Старыя Трокі Трак. *Трэба сена грабáць, як высахня.* Ліпнікі Вільн. *Буду грабáць сена.* Гемзы Шальч. *Грáбаць сена.* Грыкені Вільн., Беняконі Воран. *Трэба сена грэбаць.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Чапаць. *Сядзіць рабёнак, а на другога гукаюць — ні грáбай ты яго, кажуць.* Мярэцкія Глыб. *Вын пальцамэ, рукамэ грэбае.* Дзмітравічы Кам. 3. Чухаць. *Што ты грáбаеш у галаве?* Дакудава Лід. ◇ *Чужымі рукамі толькі жар грáбаць, а як сам зробіш, то і добра.* Паляцкішкі Воран.

ГРАБЕ′ЖНІК *м.* Рабаўнік. *Грабежнік у ачах бярэ.* Граўжышкі Ашм.

ГРАБЕ′ЛІЦЦА *незак.* Грэбціся, карабкацца. *Яна павалілася і грабеліцца — і не магла падняцца, ужо ей нагу адабрала.* Гемзы Шальч.

**ГРА′БЕЛЬ** *гл.* **ГРА′БАЛЬ**

ГРАБЕ′ЛЬЦЫ толькі *мн.* Матыка. *Матычка без зубоў, а грабельцы, што капаюць бульбу, на два зупкі.* Магуны Паст. *Я табе грабельцы ўпраўлю.* Ністанішкі Смарг.

ГРАБЕ′НЧЫК *м. памянш.* да г р э́ б е н ь 3. *У курыцы вялікі чуп і грабенчык.* Альхоўцы Лях.

ГРА′БЕНЯ *н.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова г р á б і ц ь. *Якоя тваё грабеня, ты больш пакідаяш, як грабіш.* Кіралі Шчуч.

ГРАБЕ′Т *м.* Хрыбет. *Яна зламаўшы грабет.* Паляцкішкі Воран.

ГРАБЁНКА *ж. пчал.* Рамка для прымацавання сотаў у калодачным вуллі. *Грабёнку ў даўбянку ставілі, соты атцягваюць самі пчолы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сухога воску на грабёнцы прычэпюць.* Саланое Віл.

ГРАБЁНКІ *мн. фальк.* Запруда ў выглядзе грабянёў. *Ведзьма заторкнула грабёнкамі рэчку — і балота з вокнішчамі стала.* Ухвала Круп.

ГРАБІДЛО′ *н.* Тое ж, што і г р а б а в і д л а. *Грабідло — ручка ў грабель.* Гайна Лаг. *Грабідло ў граблях.* Саланое Віл.

ГРАБІ′ЕТІ *незак.* Калець, дубець. *Зімно, рукі грабіеют.* Курашэва Чыж.

ГРАБІ′ЛНА, ГРАБІ′ЛНО′ *н.* Тое ж, што і г р а б а в і д л а. *Грабілна паламалася.* Рудня Астравітая Чэрв., Рыбчына Віл. *Грабілна зламалася, німа чым сена грэпці.* Вязынка Маладз. *Грабілна зламаў.* Беразіно Докш. *Трэба ісці ў лес пашу-*

*каць грабілна. Грабілно́ ў граблях.* Гемзы Шальч. *Грабілно ў граблях.* Пасека Ст.-Дар.

ГРАБІ'ЛЬНІШЧА *н.* Тое ж, што і г р а б а в і д л а. *У граблях е грабільнішча.* Дзяніскавічы Ганц.

ГРАБІ'НА *ж.* Адно дрэва граба. *Грабіна паламалася ад ветру.* Міратычы Карэл.

ГРАБІ'НЯ *ж.* Графіня. *Калісь грабіня тут жыла. Бывала, грабіня ідзе і сабачкі вядзе, кнішкаў пасмотрыць.* Паляцкішкі Воран.

ГРАБІ'НЯЦ *м. бат.* Вераб'інае шчаўе. *Грабінец на лузе расце.* Вострава Маст.

ГРА'БІЦЬ *незак.* Грэбці. *Трэба сена грабіць.* Вялікія Баяры Шчуч., Гемзы Шальч., Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Груздава Паст. *Пашлі сена грабіць.* Саланое Віл. *Летась прышлі грабіць сена.* Магуны Паст. *Сухое сена лёхка грабіць.* Жодзішкі Смарг. *Мы паехалі сена грабіць.* Стральцы Гродз. *Сягоння усе бабы пойдуць сена грабіць.* Савічы Паст. *Грабялка, што сена грабяць.* Ракаўскія Швянч. *Я яшчэ пайду грабіць сена.* Чычалі Швянч. *Сена грабілі.* Беняконі Воран. *Сена грабілі ў капёнку.* Індра Красл. *Заўтра будуць грабіць сено.* Крынкі Крын.

ГРАБЛАВІ'СКА *гл.* ГРАБАВІ'СКА

ГРАБЛАВІ'ШЧА, ГРАБЛЯВІ'ШЧА *н.* Тое ж, што і г р а б а в і д л а. *Граблавішча ў граблях, калодачка, зуб'я.* Пасіене Лудз.

ГРАБЛЕ'НЕ *н.* Зграбанне. *Колькі таго грабленя.* Міратычы Карэл.; *гл.* г р а б е́ н я.

ГРА'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Згрэбены. *Сена не граблена ў міне.* Вялікія Баяры Шчуч.

ГРА'БЛІ, ГРА'БЛІЕ толькі *мн.* Тое ж, што і г р а́ б а л ь. *Вот граблі і ідзі грабіць.* Кураполле Паст. *Сена патсунім грабліма, каб не зацякала.* Ністанішкі Смарг. *Каласы граблямі зграбалі. Граблямі збіваюць сена.* Відаўцішкі Вільн. *Бэрут грабліе і граблямі грэбут сіено.* Курашэва Чыж. ∇ *Рукі — граблі, вочы — яма* — пра хцівага чалавека. Кіралі Шчуч.

ГРАБЛІ'СКА, ГРАБЛІ'СКО *н.* Тое ж, што і г р а б а в і д л а. *Грабліска ў граблях.* Старыя Смільгіні Воран. *Грабліска новае зрабіў.* Галубы Маст. *У граблях грабліско і галоўка.* Вострава Маст. *Нада набіць галоўкі на грабліска.* Кіралі Шчуч. *Яна скідае сена грабліскам, а потым будзе класці ў копы.* Вялікія Баяры Шчуч.

ГРАБЛІ'ШЧА, ГРАБЛІ'ШЧО, ГРА'БЛЫШЧЭ *н.* Тое ж, што і г р а б а в і д л а. *У граблях граблішча — паўтарамэтрова палка, адзін канец разадраны папалам.* Альхоўка Навагр. *Граблішча — ручка, за што дзёржаць граблі.* Асавец Віл. *Граблішча зламаў, а новае не зрабіў.* Пацаўшчына Дзятл.

*Грабліщчо — ручка ў граблях, за што дзержацца.* Малахоўцы Бар. *Граблышчэ з грабэль.* Сіманавічы Драг.

ГРА'БЛЯ *ж.* Тое ж, што і г р а́ б а л ь. *Граблю ўмея дзяржаць.* Малькуны Ігн.

ГРАБЛЯВІ'СКА *гл.* ГРАБАВІ'СКА

ГРАБЛЯВІ'ШЧА *н.* Тое ж, што і г р а б а в і́ д л а. *Грабляві́шча ў граблях.* Малькуны Ігн.

ГРА'БНІК, ГРАБНЯ'К *м.* Зараснік грабу. *Гані ў грабнік.* Пасека Ст.-Дар. *Грабняк там, па грабняку грыбы растуць.* Міратычы Карэл.

ГРАБО'ВЫ *прым.* Які мае адносіны да г р а́ б а. *Грабовае гальe.* Дзяніскавічы Ганц. *Грабовыя дровы.* Навасёлкі Свісл.

ГРАБСЦІ' *гл.* ГРЭ'БЦІ

ГРАБУ'ЗДА' *ж. бат.* Балотны асот. *Грабу́зда кудлатая, у мокром месце расце; халаднік добры з грабу́зды.* Старыя Смільгіні Воран. *Грабузду́ елі — і брух быў здароў.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* літ. grabũzdas 'тж' (ЛТ, 173).

ГРАБУЗНІ'К *м.* Тое ж, што і г р а б у́ з д а́. *Грабузнік свіням сабіралі.* Гемзы Шальч.

ГРАБУ'НШЧЫКІ *мн.* Грабежнікі. *Грабуншчыкі хадзілі і забіралі ўсё.* Лайпушкі Ігн.

ГРАБУ'СТ *м. бат.* Тое ж, што і г р а б у́ з д а́. *Ідзём па грабуст. Даўней варылі, як прыкісне — забеляць.* Паляцкішкі Воран.

ГРАБУШКІ' толькі *мн.* Шчотка, грэбень для апрацоўкі льну. *Лён чэшуць на грабушкі жалезныя і драўляныя.* Стральцы Шальч. *Пакула чэшам на грабушкі.* Быстрыца Астр.

ГРАБЦІ' *гл.* ГРЭ'БЦІ

ГРА'БЫ *мн. перан.* Рукі. *Сховай своіе грабы!* Курашэва Чыж.

ГРАБЯ'ЗДЫ *гл.* ГРЭ'БЕСТ

ГРАБЯ'ЛКА *ж. с.-г.* Машына для грабення сена. *Грабялка, што сена грабяць.* Ракаўскія Швянч.

ГРАБЯНІ', ГРЫБЫНІ' толькі *мн.* Тое ж, што і г р а б у ш к і. *Лён чэшаць на такіх грабянёх.* Грыкені Вільн. *Грабяні — лён часаць.* Бенякoні Воран. *Лён чэшуть на грыбынях, а посля шэ шчіткыю.* Сіманавічы Драг.

ГРА'БЯСТ *гл.* ГРЭ'БЕСТ

ГРАБЯСТАВА'НЕ *н. буд.* Прыбіванне лат да крокваў. *Грабяставане хаты.* Скрудалена Даўг.; *гл.* г р э́ б е с т.

ГРАБЯСТАВА'ЦЬ *гл.* ГРЭБЕСТАВА'ЦЬ

ГРАБЯСТО'ЎКА *ж. буд.* Латы. *На дом грабястоўкі не хваціць.* Скрудалена Даўг.; *гл.* г р э́ б е с т.

ГРАБЯСЦІ'НА *гл.* ГРЭБЯСЦІ'НА

ГРАБЯСЦІ'ЦЬ, ДРАБЯСЦІ'ЦЬ *незак. буд.* Прымацоў-

ваць, прыбіваць латы. *Грабясціць страху.* Дакудава Лід. *Драбясціць хату.* Масілавічы Сл.; *гл.* грэбеставáць.

ГРАВЕ'ЙКА, ГРАВЕ'ЛКА, ГРАВЕ'ЛЬКА *ж.* Дарога, замошчаная гравіям. *Гравейка блізка.* Пасека Ст.-Дар. *Па гравелцы ехалі. Гравелька збочыла ў лес.* Ванелевічы Кап.

ГРА'ВЕЛЬ, ГРА'ВІЛЬ *м.* Гравій. *Гравель насыпалі на дарогу — і суха стала.* Беразіно Докш. *Гравель насыпалі.* Істра Лудз. *Гравель — каменьчыкі дробныя.* Рудня Чэрв. *Гравіль вазілі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ГРАВЕ'ЛЬКА *гл.* ГРАВЕ'ЙКА

ГРА'ВЕР, ГРА'ВІР, ГРА'ВЯР *м.* Тое ж, што і грáвель. *Гравер прывезлі.* Дзяніскавічы Ганц., Мачаск Бярэз. *Кап гравіру прыняслі.* Валынцы В.-Дзв., Палік Барыс. *Гравяр — камушкі дробныя.* Старыя Трокі Трак. *Гравяр ажні з Мінску вязлі.* Малахоўцы Бар.

ГРА'ВІЙ *м.* Тое ж, што і грáвель. *Каля Вільні жвір пры пясочку, а гравій — толькі каменчыкі.* Магуны Паст.

ГРА'ВІЛЬ *гл.* ГРА'ВЕЛЬ

**ГРА'ГАЦЬ** *незак.* 1. Каркаць. *Вароны грагаюць.* Саланое Віл. 2. *перан. экспр.* Балбатаць. *Што ты грагаеш языком, як варона.* Кіралі Шчуч.; *гл.* **гáргаць**.

ГРАДА' *ж.* 1. Узвышша. *Палянцы на градзе жывуць.* Кураполле Паст. 2. Участак лесу. *Там града нісхадзімая дуба.* Ухвала Круп. 3. Рад укладзеных каменняў. *Па старых стаўбох — каменная града.* Альхоўцы Лях. 4. Града ў агародзе. Смаляніца Пруж. *На градзе цыбуля расце, буракі.* Альхоўцы Лях. *У грады картоплі садзяць на ніскім месце.* Дзяніскавічы Ганц. *Паспекаюцца буракі на градах. Трэба грады рабіць.* Гемзы Шальч. *Гуркі на градах.* Бенаконі Воран. 5. Дровы, складзеныя ў доўгі рад. *У нас доўгая града дроў.* Палік Барыс.

ГРАДАВА'Я СЕРАДА' *ж. абрад.* Серада велікоднага тыдня. Пасека Ст.-Дар. *Градавая серада пасля вялікання, некалі сяцілі* [святкавалі], *бо лічылася, калі ня будзіш сяціць, то град паб'е жыта.* Рудня Астравітая Чэрв.

ГРАДАВІ'НА *ж.* Тое ж, што і грат I. *Ёсць хмары, што і градавіна ідзе.* Палік Барыс.

ГРАДАВІ'НКА *ж. памянш.* да градá 1. *Там нізка, а далей градавінка.* Рыбчына Віл.

ГРА'ДАЧКІ I *мн.* Кучавыя воблакі. *Сягоння ўжо неба на градачках — гурке нада садзіць.* Вецярэвічы Пух.

ГРА'ДАЧКІ II *мн.* Узор на печыве (вузкія палоскі). *Ламанцы рабілі з мукі і вады: раскачая тонецька, градачкі вілкаю наробіць і пячэ.* Малахоўцы Бар.

ГРА'ДАЧКІ III *мн.* Верхнія жэрдкі ў драбінах воза. *Паверху ручак у цялегі шлі градачкі.* Пасіене Лудз.

ГРА'ДКА *гл.* ГРА'ТКА I

**ГРА′ДУС** *м.* Радок, баразна. *Па сёлах кажуць рады* [бульбы], *а ў нас градусы, папярочныя градусы.* Семежава Кап.

**ГРАЖУЛЯ′ КО′ЛЫ** *мн. астр.* Вялікая Мядзведзіца. *Тры гвяздачкі і алобля — **Гражуля Колы**.* Быстрыца Астр.; *парайн.* літ. *Grįžulio Rãtai* 'тж'.

**ГРА′ЗА** *ж.* і *м.* Неахайны чалавек, брудHюха. *Ах ты граза, увесь у попел выгразіўся.* Кіралі Шчуч.

ГРАЗА′ I *ж.* 1. Навальніца. *Граза ўсю ноч была.* Альхоўцы Лях. 2. у знач. *прысл. гразо́ю.* У час навальніцы. *Тэю гразою пашла.* Альхоўцы Лях.

ГРАЗА′ II *ж.* 1. Строгасць. *Без гразы ён вырас.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Пагроза. *Ён такую гразу мне сказаў.* Саланое Віл.

ГРАЗЁН *м.* Корч. *Шчэ адзін гразён цыбулі вырву — і пустая будзіць ліха.* Беразіно Докш.

ГРАЗІ′ЦЦА *незак.* Грязіць, страшыць. *Трэ гразіцца на дзіця, па попцы паляскаць.* Дзяніскавічы Ганц.

ГРАЗІ′ШЧО *н. павел.* Вялікая гразь. *Гразішчо, чуць ногі выцягнула.* Малахоўцы Бар.

ГРА′ЗКІ, ГРА′СКІ′ *прым.* 1. Багністы, вязкі. *Там гразкае балота було, а цяпер сухо.* Кузьмічы Люб. *Гразке болото.* Смаляніца Пруж. *Гра́ская балота, топкая.* Рыбчына Віл. *Гра́ская дарога.* Альхоўцы Лях. *Гра́ска дарога, колы загразлі.* Жылі Іўеў. *Гра́ская балота.* Стральцы Гродз. *Дрыгва, дзе граско́я зыбучая места.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Поплаў быў гра́скі, там бы руда.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Брудны, каравы. *Рукі гра́скія.* Міратычы Карэл. *Гра́скія ногі, ні пайду далей!* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ГРАЗНАТА′ *ж.* 1. Бруд. *Якая гразната!* Крэва Смарг. *Гразната ў хаці, няможна там жыць.* Кіралі Шчуч. 2. Гразь. *Гразната на вуліцы.* Азяраны Раг.

ГРА′ЗНО *прысл.* Брудна. *Я ны ходыла, гразно.* Дзмітравічы Кам.

ГРАЗНУ′ХА *ж.* Тое ж, што і г р а́ з а. *Гразнуха ўсюды грязі наробіць.* Кураполле Паст.

ГРА′ЗНУЦЬ *незак.* Вязнуць у гразі. *Грязня конь.* Жылі Іўеў. *Там не бардзо праедзеш — конь гразня.* Гемзы Шальч.

ГРА′ЗНЫ′ *прым.* 1. Тое ж, што і г р а́ з к і 1. *Як кароў гонім, брод там дужа гра́зны.* Мачаск Бярэз. *Вёска наша гразна́я была.* Магуны Паст. 2. Тое ж, што і г р а́ з к і 2. *Іх карова гра́зна, напаскудзіць і ляжа.* Мсцібава Ваўк. *Тронкі нажоў гразны́я, нада памыць. Ня лажы гразно́га настольніка.* Магуны Паст.

**ГРАЙЗЭ′ГА** *ж.* Цыркулярка. ***Грайзэга** — круглая піла ўсё можа рэзаць, брусья.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* ням. *Drehsäge* 'тж'.

ГРАК *м.* Грак. *Гракі з белымі дзюбамі, а самі спрэс чорныя.* Дакудава Лід.

ГРА'КАЦЬ *незак.* Тое ж, што і г р а́ г а ц ь 1. *Чорны крук прыляціць і гракая.* Кіралі Шчуч. *Вароны на полі гракаюць.* Пацаўшчына Дзятл. *Варона гракая.* Сакаляны Сакол., Воўкуш Ліпск.

ГРА'КНУТІСЕ *зак.* Ударыцца, стукнуцца. *Упав і муоцно головою гракнувсе об зэмлю.* Курашэва Чыж.

ГРАМАВА'ТЫ *прым.* Вялізны. *Грамавата бульба ўрадзіла.* Стральцы Гродз.

ГРАМАДА', ГРОМА'ДА, ГРУМА'ДА', ГРЫМА'ДА, ГОРМА'ДА, РУМА'ДА *ж.* 1. Група людзей, сукупнасць. ***Грамада** людзей стаіць, што там такое?* Мсцібава Ваўк. *Мы сабраліся грамадой.* Дзяніскавічы Ганц. *Мы станім упяціх, грамадой у сілах гэта зрабіць.* Груздава Паст. *Мы зайдэмо громадою.* Смаляніца Пруж. *Грумадо́й пойдуць субіраць траву.* Гайна Лаг. *Бальшая грума́да людзей стаіць.* Альхоўцы Лях. *Грума́да пашла касцоў.* Малахоўцы Бар. *Цэла грума́да стаіць людзей.* Міратычы Карэл. 2. Чарада, статак. *Воўк дабег да нашай грамады, мы як наробімо крыку — га воўка!* Старое Сяло Зэльв. *Велька грума́да кароў.* Міратычы Карэл. *Жараб'я адбілася ад грума́ды. Грума́да паляцела птушак.* Альхоўцы Лях. 3. Вялізная куча чаго-н. *Зелье лепшэ выбырают для свынэй, а потом складают у громаду.* Горск Бяроз. *Громада дров, пыску, каміння, буракыв.* Сіманавічы Драг. *Грыма́да баравікоў.* Якубова Рас. *Насэпана гормада картоплюв. Шчо гормада, шчо куча — то одно.* Дзмітравічы Кам. 4. *устар.* Адміністрацыйная адзінка, раён. *У Тургельскай воласці было пятнаццаць грамад і пятнаццаць солтысаў, а гэта была мая грамада, дзе я служыў.* Гемзы Шальч. 5. *прысл.* Надта многа, багата. *На яблыні румада была бубяшкоў. Румада наліла малака парасятам. Намачу хлеб, каб румада мончкі* [цукру] *браласа. Як сена солім, румада вадэ п'е карова. Рабілі так, каб румада хлеба было. Яшчэ вам румада пісаць.* Парэчча Гродз. 6. *памянш.* у знач. *прысл. грума́ткаю.* Чародкай, разам. *Груматкаю бегаюць дзеці.* Малахоўцы Бар.; *параўн.* польск. *gromada* 'грамада, гурт, натоўп, абшчына, куча'.

ГРАМА'ДНЫ *прым.* Вялізны. *Лясы грамадныя былі.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *громадный* 'тж'.

ГРАМАЗДА' *м.* і *ж. зневаж.* Неразумны, неразвіты, цёмны чалавек. Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *gramõzdas* 'няўклюдны'.

ГРАМАЗДЗІ'ЦЦА *незак. экспр.* Стукаць, грукаць. *Папацёмкі прыходзя і ў дзверы грамоздзіцца, кап адчынілі.* Гемзы Шальч.; *гл.* г р а м а з д з і ц ь.

ГРАМАЗДЗІ'ЦЬ *незак.* Стукаць, грукаць. *Па-мойму, як*

*грамоздзіць хто ў сянёх?* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *gramõzdinti* 'тж'.

ГРА'МАТНАЯ ЗЯМЛЯ' *ж. устар.* Спадчынная зямля. *Граматная зямля — бацькоў, дзядоў, прадзядаў зямля, гэта бацькаўшчына, своя родная зямля. У нас было мала граматнай зямлі, бо ў бацькі было пяцёх сыноў, усяго на кожнага па дзесяціне.* Альхоўка Навагр.

ГРА'МАТНЫ *прым.* Пісьменны. *Граматна была баба.* Старое Сяло Зэльв.; *параўн.* руск. *грамотный* 'тж'.

**ГРАМБУ'ЛЬ** *м. заал.* Хрушч. ***Грамбуль** гнеды, у мáю грамбулі на дзераве бываюць, і прусак, як грамбуль.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *grambuolỹs* 'тж' (ЛТ, 173).

**ГРАМЛЕ'** *мн. заал.* Хрушчы. *Хрушчэв у нас грамле завуць.* Масілавічы Сл.; *гл.* г р а м б ý л ь.

ГРАМНІ'ЦЫ, ГРУМНЫ'ЦІ *мн. царк.* Свята, якое адзначалася другога лютага па ст. ст. *На грамніцы свяцілі свечкі.* Дакудава Лід., Быстрыца Астр., Малахоўцы Бар. ∇ *На грамніцы — палова зімніцы.* Быстрыца Астр. *Да грамніц пільнавалі двух рукавіц.* Жылі Іўеў. *Прышлі грамніцы — скідай рукавіцы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як на грумныці нап'еццця півэнь водыці, то на Юр'я наісьця выл травыці. Грумныці — половына зымыці.* Сіманавічы Драг.

**ГРАМУ'Х** *м.*, **ГРАМУХЕ'** *мн.* Крэмень. ***Грамух**—такі дробны, як гарэх, колеру белаго і як разаб'еш, то цёмна-сіні. Кладзе на грамух цунтар, пальцам прыціскае і красае.* Баброўнікі Гарад.

ГРАМУ'ХАВЫ *прым.* Крамяністы. *На полі грамухавым ніц не расце.* Баброўнікі Гарад.; *гл.* г é г а II.

**ГРАМУ'ШКА** *ж. памянш.* да г р а м ý х. ***Грамушка** — натта цвёрды камень.* Навасёлкі Свісл.

ГРАНАВА'ТЫ *прым. метэар.* Кучавы. *Неба гранавата, хмаркі невельчанькія. Хмары гранаватыя пагодлівыя. Як неба гранавата, трэба картошку садзіць, тады картошка хараш̆о парасце.* Кіралі Шчуч.

ГРА'НАЧКА I *ж. памянш.* да г р á н к а I, 1. *Праарэць тры граначкі.* Магуны Паст.

ГРА'НАЧКА II *ж.* 1. *памянш.* да г р á н к а II, 1. *Штук п'яць у гранацы* [арэхаў], *а дзе адзін е.* Пасека Ст.-Дар. 2. Ячэя ў сотах. *Граначкі ў вашчурынах пустыя, ненапоўненыя мёдам.* Азяраны Раг. *Граначку зробяць чмялі.* Рудня Астравітая Чэрв.

**ГРАНГУ'ЛЬ** *м. заал.* Тое ж, што і г р а м б ý л ь. ***Грангуль** — жук майскі.* Старыя Трокі Трак.

**ГРА'НДА** *ж.* 1. Чарада. *Наляцела гранда шпакоў на вішні.* Каўняны Гродз. *Шпакі грандаю налётаюць на вішні.* Мсцібава Ваўк. 2. Кампанія. ***Гранда** сабіраецца і прычапляецца да маладзежы.* Кіралі Шчуч. *Хлопцы грандою ходят.* Курашэва

Чыж.; *парайн.* польск. *granda* 'грамада, куча; ашуканства'.

ГРАНДА'ЖЫЦЬ *незак.* Буяніць. *Ён нап'еццa і грандажыць.* Старыя Смільгіні Воран.

ГРА'НДЗІЦЬ *незак.* Рабіць абы-як. ***Грандзіць** — блага рабіць.* Грыкені Вільн.; *парайн.* літ. *grándyti úodegą* 'гультайнічаць'.

ГРА'НІСТЫ *прым.* Які складаецца з многіх клубняў, урадлівы. *Гранiстая цыбуля.* Рыбчына Віл.

ГРАНІ'ЦЬ *незак.* 1. Разганяць барозны на засеяным полі для сцёку вады. *Гранілі жыта, лён, плугамі гранілі, дзе поле затоплевалася.* Вецярэвічы Пух. 2. Абворваць. *Кагда рядочкі бульбы паказаліся, надабі граніць бульбу, патом скарадзіць.* Мішневічы Шум.

ГРАНІ'ЧЫЦЦА, ГРАНІ'ЧЫТІ *незак.* Межаваць. ***Гранічылася** поле з хутарам.* Мішневічы Шум. *Моя колёнія гранічыт с сашовою.* Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *граничить,* польск. *graniczyć* 'тж'.

ГРА'НКА I *ж.* 1. Баразна. *Пасадзілі бульбу ў гранкі.* Мішневічы Шум. *Картошку гранкамі сеюць.* Палік Барыс. *Нада тры гранкі выпалаць буракоў, заўтра і выпалю гранку.* Малькуны Ігн. *Баразёнкі рабілі между гранкамі.* Нястанавічы Лаг. 2. Гонта. *Гранка сваей работы крыць страху — такая дасэчка, ёсць фабрыка, дзе пілуюць іх.* Гемзы Шальч.

ГРА'НКА II *ж.* 1. Гронка. *Куст арэхаў, ён гранку атарваў і пабех.* Валынцы В.-Дзв. *Вялікая гранка арэхаў.* Лапічы Асіп., Глівін Барыс. *Арэхі гранкамі растуць.* Рудня Астравітая Чэрв., Лісна В.-Дзв. *Нашчыпаў арэхаў проста гранкамі.* Мачаск Бярэз. *Гранкі пачарнелі і паападалі, німа ў іх арэхаў.* Беразіно Докш. 2. Корч. *Гранка цыбулі.* Рыбчына Віл., Жодзішкі Смарг. 3. Соты. *З гранкамі мёт вынімаюць, разаграюць і выжымаюць у клешчы.* Саланое Віл. *Найдзяш у гранцы мёт на сенакосе і смокчаш.* Рудня Чэрв. *Шчамялі гранкі робяць на мёт.* Валынцы В.-Дзв.

ГРА'НКІ *мн. метэар.* Кучавыя воблакі. *Як неба гранкамі, то будзіць семяністая бульба.* Ністанішкі Смарг.

ГРАНО'М *гл.* АГРАНО'М

ГРАНТ *м.* Тое ж, што і г р а́ в е л ь. *Куды машыны грант возяць, дарогу патсыпаць?* Скрыпчына Лудз.

ГРА'НУЦЬ *зак. перан. экспр.* Кінуцца на каго-н. ▽ *Яна на каторага мушчыну ні глянула — на таго і гранула.* Кіралі Шчуч.

ГРА'НЫ *мн. метэар.* Тое ж, што і г р а́ н к і. *На небі німа гранаў, толькі адна кучка. Сёня на небі многа гранаў.* Кіралі Шчуч.

ГРАНЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і г р а н і́ ц ь 1. *Гранялі плугамі.* Магуны Паст. *У калхозе гранялі жыта.* Ёдлавічы Брасл.

ГРАП *гл.* ГРАБ

ГРА′ПКІ толькі *мн.* Матыка з зубцамі. *Грапкі на трычатыры зубы.* Быстрыца Астр.

ГРАПЦІ′ *гл.* ГРЭ′БЦІ

ГРАПШТЭ′ЙН *гл.* ГРЫНШТЭ′ЙН

ГРАСА′ДЛО *н.* Крэсіва. *Калісьці было грасадло.* Вострава Маст.

ГРАСА′ЦЬ *незак.* 1. Крэсіць. *Грасадламі грасалі агонь.* Вострава Маст. 2. Акучваць. *Грасаем картоплю грасачкай.* Вострава Маст.

ГРАСА′ЧКА *ж.* Матыка. *Грасаем картоплю грасачкаю.* Вострава Маст.

ГРА′САЧКІ *мн.* Паглыбленні, адціснутыя пальцамі вакол бохана хлеба. *Гаспадыня замесіць хлеп, булку пасадзіць на лапату і пярацісня грасачкамі.* Стральцы Гродз.

ГРА′СІЛО *н.* Тое ж, што і г р а с а́ д л о. *Колісь грасілом грасалі агонь.* Навасёлкі Свісл.

ГРА′СКІ′ *гл.* ГРА′ЗКІ

ГРА′СКО *прысл.* Гразка, мокра. *У нас праз зіму так граска.* Магуны Паст. *Дзе граска, там топка, сільна ўгразнем.* Старыя Смільгіні Воран.

ГРА′СНУТЫ *зак. экспр.* Ударыць. *Як грасну в плечы тобі!* Дзмітравічы Кам.

ГРАСО′ЎКА *ж.* Тое ж, што і г р а с а́ ч к а. *Бульбу грасоўкай аграсуюць.* Вязынка Маладз.

ГРАСЬ *ж.* 1. Гразь. *Грась на нагах.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ногі ў гразе.* Дзяніскавічы Ганц., Альхоўка Навагр. 2. Бруд. *Грась качаецца на целе, як робіш пыльную работу ды ўпацееш.* Рыбчына Віл.

ГРАТ I *м.* Град. *Перш грат даў, а потым — дошч.* Ністанішкі Смарг.

ГРАТ II *м.* Палічка для лыжак. *Грат ужо стары, плахі.* Граўжышкі Ашм.

ГРАТ III *м.* Хлам, старызна. *Купів старого грата і псуецце ёму.* Курашэва Чыж.

ГРА′ТКА I, ГРА′ДКА *ж.* 1. Тое ж, што і г р а д а́ 4. *Пасадзіла гратку гуркоў.* Рудня Астравітая Чэрв. *На гратках садымо буракі, цыбулю, гуркі.* Горск Бяроз. *Сколька градак вы імеецe?* Пасіене Лудз. 2. Згорнутае збожжа ў выглядзе грады. *Ячмень у гратку змяту і цэпам б'ю тры-чатыры разы, пагляджу, што ў іх асцючкоў няма — значыць харашо.* Гемзы Шальч. 3. Баразна. *Пяць граткаў далі буракоў палоць. Граткамі таксама бульба.* Крэва Смарг.

ГРА′ТКА II *ж.* Палічка для пасуды. *Завешу гратку фіраначкай, а так брытка, усё стаіць.* Дакудава Лід.

ГРА′ТКА III *ж.* Намарзень у санях. *На капылы дзелаліся вязы, а на вязы гратка, катора скрапляла.* Мешкінева Лудз.

ГРА′ТКІ I *мн.* 1. Пярэплат. *На гратках сушылі ечмень,*

*снапы жыта.* Масішкі Красл. *Граткі — там паложаны палкі і сушуць на іх.* Індра Красл. 2. Палок з жэрдак у асеці, на якіх сушылі снапы. *У асеці былі граткі, шчапалі сноп і саджалі на граткі.* Лісна В.-Дзв.

ГРА'ТКІ II *мн.* 1. Аглабіны ў возе. *Такіе граткі, задняя падушка с піредняй скрыпляюцца граткамі; граткі, каторые ўдоль з аднаго боку і з другога.* Істра Лудз. *Перад з задам у цялегі на гратках скрапляюцца. На вось накладаецца падушка, патом удоль граткі і трайня. Граткі ў тарантасе былі такія самыя, як і ў цялегі, толькі былі натыканы палкі.* Мешкінева Лудз. 2. Драбіны ў санях. *Драбінкі на санях — граткі называюцца.* Крэва Смарг.

ГРА'ТКІ III *мн.* Рашотка. *Брыкет у пліце падае прас граткі.* Мсцібава Ваўк.

ГРА'ТЫ толькі *мн.* Краты. *Разламаў граты ў цюрме і ўцёк.* Дзяніскавічы Ганц.

**ГРАЎЖАВІ'РБА** *м. заал.* Мінога. *Я лапаў, лапаў граўжавірбу.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *graužavìrba* 'тж'.

**ГРА'ЎЖЫК** *м.*, **ГРА'ЎЖЫКІ** *мн.* Тое ж, што і г р а ў ж а в і р б а. ***Граўжыкі**, як гадзючкі, маленькія, як маленькі ўгорчык, у муліку граўжыкі.* Быстрыца Астр.; *параўн.* літ. *graužà, gráužas* 'тж'.

**ГРА'ФКА** *ж.* Шпілька. ***Графка** ўперат гаварылі, цяпер — шпілька.* Крэва Смарг. *Булаўка, графа — гэто тое ш.* Малахоўцы Бар. ***Графкі** купляюцца.* Быстрыца Астр. ***Графкай** зашпілі повяс.* Дакудава Лід. *Спадніцу шчапіла графкаю.* Старыя Трокі Трак. *Ня бачыла графку? Пазуху ў сароццы зашпіліць.* Стральцы Гродз. *Сарочку можно графкою шчэпіті, як порваласе.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *agrafka* 'англійская шпілька'.

ГРАХАТА'ЦЬ *незак.* Грукатаць, грымець. *Гром толькі грахочыць.* Малахоўцы Бар.

ГРАЦКО'ВІШЧА *н.* Поле, дзе расла грэчка. *Па грацковішчы пасеялі жыта.* Вострава Маст.

ГРАЦКО'ВЫ *прым.* Грэцкі. *Грацковы крупы рабілі вайной.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ГРАЦКО'ЎЕ, ГРАЦКО'ЎЁ *н.* Тое ж, што і г р а ц к о́ в і ш ч а. *Грацкоўе аралі.* Альхоўцы Лях. *На грацкоўі пасеялі.* Альхоўка Навагр. *Грацкоўе трэба араць.* Малахоўцы Бар. *Пасцілі кароў на грацкоўі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ГРАЦЬ I *незак.* 1. Іграць на якім-н. інструменце. *Граць — граў, но не танцаваў.* Гемзы Шальч. *Граю на скрыпцы.* Альхоўцы Лях. 2. Іграць па заказу на вечарынцы, на вяселлі. *Свадзьбы грая муш яе.* Крэва Смарг. 3. Гуляць у якую-н. гульню. *Ён у карты граў.* Альхоўцы Лях.

ГРАЦЬ II *незак. біял.* Спароўвацца. *Грая пятух с курмі.* Міратычы Карэл., Малахоўцы Бар., Гемзы Шальч. *Ужэ гусі*

*граюць.* Мсцібава Ваўк. *Мае куры граюць, то скоро нясцімуцца.* Альхоўцы Лях.

ГРАЧА'НІКІ *мн.* Бліны з грэцкай мукі. *Даўней грачанікі пяклі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ГРАЧА'НІСКА, ГРЫЧА'НІСКА, ГРЫЧІ'ВЫСКО, ГРЭ'ЧНЫСКО *н.* Тое ж, што і г р а ц к о́ в і ш ч а. *У калхозе скасілі грэчку і пасеялі жыта на грачаніску.* Быстрыца Астр. *Грычаніска гаралі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Грычівыско — дэ грэчка росла. На грэчнысковэ пасли.* Дзмітравічы Кам.

ГРАЧА'НІШЧА *н.* Тое ж, што і г р а ц к о́ в і ш ч а. *На грачанішчы пасуць.* Палік Барыс.

ГРАЧА'НКА, ГРЫЧА'НКА *ж.* Грэцкая салома. Азяраны Раг. *Грычанку каровы ядуць.* Жылі Іўеў.

ГРАЧА'НЫ, ГРЫЧА'НЫ, ГРАЧНЫ' *прым.* Тое ж, што і г р а ц к о́ в ы. *Грачаная мука, даўней у жорнах малолі.* Гемзы Шальч. *Грачаная каша ўкусная.* Магуны Паст. *Грачаныя крупы рабілі.* Старыя Смільгіні Воран., Мярэцкія Глыб. *Грычаныя бліны пяклі: мука, разаб'еш яічак, уложыж сахару, на які брытван, у печ — і грычаная бапка.* Старыя Трокі Трак. *Грачная мука была.* Пасека Ст.-Дар.

ГРАЧЫ'ХА *ж.* Грэчка. *Грачыху і даўней сеялі.* Стральцы Шальч.

ГРАЧЫ'ШНЫ, ГРАЧЫ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і г р э́ ц к і 1. *Грачышныя крупы рабілі.* Жылі Іўеў. *Грачыстая мука на бліны.* Гемзы Шальч.

ГРАШНО' *прысл.* Несправядліва, грэх. *Так гаварыць на яе грашно.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* руск. *грешно* 'тж'.

ГРАШО'ВЫ *прым.* Танны, куплены за адзін грош. *Грашова голка, бо за польскім грош стоіла.* Мсцібава Ваўк.

ГРАШЫ'СКА *мн. павел.* Многа грошай. *Яна ні бедная — грашыска мая.* Старое Сяло Зэльв.

ГРАШЫ'ЦЬ *незак.* Хлусіць, гаварыць няпраўду. *Грашыць ня буду — пайду скажу.* Ністанішкі Смарг.

ГРОБО'ВЕЦ *м.* Пахаванне. *Быў гробовец, яна стала раўці — і сэрцо пэнкло.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *grobowiec* 'грабніца'.

ГРО'БУСНІК *м.* Тое ж, што і г р а б у́ з д а́. *Грабуснік нарос.* Галоўні Воран.

ГРО'БУСТ *м.* Тое ж, што і г р а б у́ з д а́. *Такі гробуст вырас.* Галоўні Воран.

ГРО'ЗІНЬ *м.* 1. Тое ж, што і г р а з ё н. *Вырві грозінь цыбулі. Грознямі растуць апенькі.* Саланое Віл. 2. Гронка, шышка. *Грозні арэхаў, арэхі растуць грознямі на ляшчэвінах.* Саланое Віл.

ГРО'ЗНЫ *прым.* Навальнічны. *Палавая туча — грозная, можа грымець.* Кіралі Шчуч. *Грозная хмара насоўваецца.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *параўн.* руск. *грозовой* 'тж'.

ГРО′ЗЬБА *ж.* Пагроза, строгасць. *Дзеці ня слухаюць, і просьбаю і грозьбаю нічога, рады не даць.* Руднае Кап.

ГРОМ *м.* 1. Грымоты, навальніца. *Калі гром загрыміць на голы лес, казалі старыя людзі, што плахі год будзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гром грыміць, трэба юшку залажыць.* Ністанішкі Смарг. *Здаецца, і жарэ нэ было і прыцягнуло гром.* Смаляніца Пруж. *Гром гэткай пагодай рэдка грыміць.* Вецярэвічы Пух. 2. Пярун. *Яго громам забіла.* Вецярэвічы Пух. ◇ *Як гром з яснага неба* — неспадзявана, раптоўна. *Гэта смерць — як гром з яснага неба.* Граўжышкі Ашм.

ГРОМА′ДА *гл.* ГРАМАДА′

**ГРОМА′ДКА** *ж. памянш.* 1. Кучка. *Як вычыстым зэрно, выгрэбаем до стэны в громадку.* Горск Бяроз. 2. у знач. *прысл. громáдкамі.* Купамі, сукупна. *Смачныя грыбы, шо громадкамі ростут.* Азарычы Пін.; *параўн.* польск. *gromadka* 'тж'.

**ГРО′МДАЦЬ** *гл.* **ГРО′НДАЦЬ**

**ГРО′МЗДАЦЬ** *незак.* Хрумстаць. *Ні громздай!* Стральцы Гродз.; *параўн.* літ. *grémžti* 'грызці, скрэбці'.

**ГРОМШ** *м. заал.* Тое ж, што і в і ю́ н. *У нас віюн называецца громш.* Жодзішкі Смарг.; *параўн.* літ. *gramz(d)as* 'пячкур'.

**ГРО′НДАЦЦА** *незак.* Скрэбціся. *Грондаецца рабачок, што грызе дзерава.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *grùmdytis* 'піхацца' (ЛТ, 173).

**ГРО′НДАЦЬ, ГРО′МДАЦЬ** *незак.* 1. Скрэбці. *Не громдай так, хіба там золата.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Грызці. *Грондай сабе хлеб.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *grándyti* 'тж'.

ГРОСУ′ОВКА *ж.* Тоўстая іголка, шаршатка. *Буду гросуовкой шыті.* Курашэва Чыж.

ГРО′ШЫ толькі *мн.* Грошы, капітал. *Прыслаў грошы на дарогу.* Лоск Валож. *А дзе твае грошы?* Паляцкішкі Воран. *Ён вялікія грошы меў.* Мярэцкія Глыб. *Я бяру сваe грошы.* Гемзы Шальч. *Бракуе грошы, не стае грошы.* Грыкені Вільн. ▽*Грошы ляжаць — яны мёртвыя, грошы ў хаду — яны гавораць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГРУ′БА *прысл.* 1. Тоўста, туга звязаны. *Тэпці дзецям рабілі с пакулаў, груба.* Старыя Трокі Трак. 2. Тоўстым слоем. *Груба намазаў маслам на скіпку хлеба. Груба снегу было.* Гемзы Шальч. *Прошлу зіму ў нас было груба снегу.* Парэчча Гродз. 3. *перан.* Нетактоўна. *Ён груба паставіў сябе.* Індра Красл.

ГРУБАВА′ТЫ, **ГРУБОВА′ТЫ** *прым.* 1. Зроблены з грубых нітак. *Грубаватыя панчохі насілі с сваіх нітак.* Новікі Гродз. 2. Таўставаты. *Хвуойка грубовата, ужэ на балькі могла б быті.* Курашэва Чыж.

ГРУБАВА′ЦЯНЬКІ *прым.* Таўставаценькі. *Катлеты раблю грубавацянькія.* Крэва Смарг.

ГРУБА′Я *прым.* Цяжарная. *Мая сястра грубая, сына ча-*

*кае.* Быстрыца Астр., Магуны Паст. *Яна грубая, дзіця будзя.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Яна была грубая.* Старыя Трокі Трак. *Яна грубая, скора дзіця прывядзе.* Дакудава Лід. *Наша Волька грубая ходзіць.* Альба Нясв.

ГРУБЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Таўсцейшы. *Матавідла, як вітушка, толькі грубейшая.* Магуны Паст. *Сланіна грубейшая са хрыбта. Балькі былі цянейшыя і грубейшыя.* Ракаўскія Швянч.

ГРУБІ'ЕЙ *прысл.* Таўсцей. *Сіеты ніткі затонко спрадяны, трэба было грубіей.* Курашэва Чыж.

ГРУБІ'ЕТІ *незак.* 1. Сыцець, таўсцець. *Паршукові дала лепі іесті, і начав грубіеті.* Курашэва Чыж. 2. Пра цяжарную жанчыну. *Гапка нэдавно вышла замуж, і ўжэ грубіее.* Курашэва Чыж.

ГРУБІ'ЗНА *ж.* 1. Пакулле, адходы. *Грубізна — з вярхоў і канцоў, на воркі яна ішла.* Быстрыца Астр. 2. Таўшчыня. *На чатыры пальцы сланіна ці на пяць грубізны.* Ракаўскія Швянч.

ГРУБІ'ЗНЫ *прым.* Вельмі тоўсты. *Зрыэзаў в ліесі грубізного клоца.* Курашэва Чыж.

ГРУБІНА', ГРУБІНЯ' *ж.* Тое ж, што і г р у б і з н а 2. *Во такой грубіны былі кнігі.* Магуны Паст. Жэсць *такой грубіны.* Быстрыца Астр. *Сланіна на далонь грубіні.* Гемзы Шальч. *З гарохавай мукі качалі цінцюк такой грубіні.* Рагулішкі Даўг.

ГРУБОВА'ТЫ *гл.* ГРУБАВА'ТЫ

ГРУБОНО'ГІ *прым.* Таўстаногі. *Гожа діевчына, але грубонога.* Курашэва Чыж.

ГРУ'БЫ' *прым.* 1. Тоўсты ў аб'ёме. *Каліcь было гру́бае дзераво, з чатырох бруссяў хата выходзіла.* Мсцібава Ваўк. *Гру́бы дуп зрэзалі. Калок гру́бы ляжаў.* Паляцкішкі Воран. *Кладзём бервано грубо́я. Жук маёвы ў маі выходзіць з белых гру́бых рабакоў.* Магуны Паст. *Груба́я калода.* Жодзішкі Смарг. *Калотка можа быць груба́я і ценькая, але кароткая.* Магуны Паст. *Дзе якое паленца грубо́я — не рассяку.* Дакудава Лід. *Як спілаваць дуп гру́бы? Але ш і дрэва грубо́я бывае. Дубэ бываюць гру́быя.* Кіралі Шчуч. *Гру́быя расты з бульбы высадзілі, і вырасла бульба. Дылі гру́быя на падаконнік добра было.* Ракаўскія Швянч. 2. Мажны, тоўсты. *Літовачка была адна, гру́бая-гру́бая.* Старыя Трокі Трак. *Гру́бы чалавек, ужо ў гадах.* Рудня Астравітая Чэрв. *Натта груба́я была дзяўчына.* Галубы Маст. *У яе ногі гру́быя.* Ністанішкі Смарг. *Груба́я свіня.* Лайпушкі Ігн. 3. Набрынялы. *Гру́быя жылы на руках.* Быстрыца Астр. 4. Тоўсты. *Гру́быя бліны любя.* Гемзы Шальч. *Грыбок як спячэцца, то такі гру́бы.* Крэва Смарг. *Сланіна груба́я — на пядзю.* Гемзы Шальч. *Блін гру́бы спячэш.* Ракаўскія Швянч. *Кішкі ценькія і гру́быя.* Магуны Паст., Ліпнікі Вільн., Быстрыца Астр., Гемзы Шальч.

*Кішкі келбасныя і кішкі грубы́я.* Жылі Іўеў. 5. Даматканы, хатняга вырабу. *Пакульная посцілка грубáя.* Быстрыца Астр. *Посцілкі з грубóга рабілі.* Старыя Трокі Трак. *Дываны грубы́я былі.* Новыя Мацалі Варэн. *Нітка грубáя.* Ракаўскія Швянч. 6. Снежны. *Зіма грубáя была, груба снегу было.* Гемзы Шальч.

ГРУГА'Н *м.* Крумкач. Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Пасека Ст.-Дар.

ГРУГАЎЁ *зб. н.* Крумкачы. ***Гругаўё** наляцела.* Асавец Віл.

ГРУД, ГРУТ *м.* 1. Узгорак, астравок на балоце. *Як в болоте косят, то нэсут сено на груд.* Горск Бяроз. *На груды пошлі, лежымо на грудох.* Смаляніца Пруж. *Еслі на грудзе беразіна расце, то сок у яе салодкі, а пры вамшары — кіслы.* Пацаўшчына Дзятл. *Грут у балоце — выспачка такая, на грудзе кусты растуць.* Граўжышкі Ашм. *У гэтым гаёчку толькі грут такі быў, а патом кладбішча здзелалі.* Індра Красл. 2. Сухая сенажаць. *Грут — сухі сенакос.* Малахоўцы Бар. *Грут — дзе сенакос высокі, не займае вада.* Дзяніскавічы Ганц. *На грудзі расце мурожнае сена, чабор, дзятліна белая расце там і ружовая.* Альхоўцы Лях. 3. Куча. *Груд буракоў наваліў.* Беразіно Докш. *Грут камення навалілі, грут яец наняслі.* Рудня Чэрв. *Бульбу і ячмень сыпалі ў грут.* Беразіно Докш. *Сучча грут.* Ухвала Круп. *Грут сухога хворасту.* Мярэцкія Глыб. *Грут будзем паліць.* Глівін Барыс. *Грут нада б спаліць у лесі.* Якубова Рас. 4. Камяністае месца ў рэчцы, града. *На рацэ праз грут вада перакатаваецца.* Рыбчына Віл.

ГРУ'ДА' *ж.* 1. Замёрзлая гразь. *Сёня марос, грýда на дварэ.* Быстрыца Астр. *Па грýдзе паехаў.* Саланое Віл. *Грýда — ні ў калёсах, ні ў санях няможна ехаць.* Кураполле Паст. *Грýда — аш ісці няможна, дарога, пакрытая грýдамі.* Магуны Паст. *Замерзла грýда — ехаць няможна.* Мярэцкія Глыб. *Вжэ мороз, вжэ грýда на полы.* Сіманавічы Драг. *Ісці ці ехаць па грудзé — ногі круціць.* Малькуны Ігн. 2. Камяк зямлі. Дзяніскавічы Ганц. *Скачаў кусок зямлі — і кінуў грýду гэту.* Галубы Маст. *Грýдаю як дам.* Пацаўшчына Дзятл. *Грýдаю кінуў у карову.* Мсцібава Ваўк. 3. Тое ж, што і г р у д 3. *Кожды дзень грýда і грýда* [бялізны] *збіраецца.* Багушэвічы Бярэз. *Грýды бульмы ляжаць.* Рудня Чэрв. *Грýда камней, камення грýдамі ляжыць.* Азяраны Раг. *Цэлая грудá дроў.* Ёдлавічы Брасл.

ГРУДАВА'ТЫ, ГРУДОВА'ТЫ *прым.* 1. Няроўны, грудкаваты. *Дарога грудаватая.* Жодзішкі Смарг. *Грудаватая дарога, адны груды.* Жылі Іўеў., Рыбчына Віл. 2. *метэар.* Кучавы. *Грудаватае неба — пакрытае грудамі белых хмар.* Дакудава Лід. *Грудавато небо — небо волнашкамі вродзя.* Малахоўцы Бар. *Як грудаватая неба, садзім картофлю, каб зарадзіла.* Мсцібава Ваўк. *Небо грудовато, можа, і распагодзіцца.* Нава-

сёлкі Свісл. *Небо грудовато, будзя хароша картошка.* Мiратычы Карэл. 3. Сухадольны. *Грудаватая сенажаць — сухая, мурожная.* Бакшты Іўеў., Пацаўшчына Дзятл.

ГРУДА'ВЫ' *прым.* 1. Тое ж, што і г р у д а в а́ т ы 1. *Грудáвая дарога трасе.* Мачаск Бярэз. 2. Тое ж, што і г р у д а в а́ т ы 2. *Грудавóя неба — неба, пакрытае грудамі.* Тухавічы Лях. *Як грудавóя неба, бульбу добра садзіць.* Бакшты Іўеў. 3. Які вырас на сухадоле (пра дрэва). *Еслі грудавáя бярэзіна, то сок у яе салодшы, як у той, што пры вомшары.* Пацаўшчына Дзятл.

ГРУ'ДАМ *прысл.* Купай, сукупна. *Апенькі грудам растуць.* Глівін Барыс.

ГРУДАНКІ' *мн. метэар.* Кучавыя воблакі. *Сягоння ўжо неба ў груданках — гурке нада садзіць.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* г р а́ д а ч к і І.

ГРУ'ДЗІ толькі *мн.* 1. Адкрытая частка грудзіны. *Зіма — лета, у яе грудзі голыя.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *анат.* Грудная клетка. *Вантробы пад грудзіма.* Стральцы Шальч. *Грудзіма далася.* Вострава Маст. *Дзеўчына была малая ў грудзях.* Дакудава Лід. ◇ *Пад грудзьмі* — пад лыжачкай. *Баліць пад грудзьме.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пад грудзьмі баліць.* Сакаляны Сакол.

ГРУДЗІ'ЗНА *ж.* Грудная косць, грудзінка. *Выразаюць грудзізну асобне, як разбіраюць кабана.* Ліпнікі Вільн. *Скварста — гэто грудзізна.* Магуны Паст.

ГРУДЗІ'НА' *ж.* 1. Перад у кашулі, манішка. *У кашулях былі вышываныя грудзіны. Мушчынам вышывалі грудзіну.* Дакудава Лід. 2. Прарэх. *Расцягнулася грудзіна твая.* Альхоўцы Лях. *Мая грудзіна распахнецца.* Быстрыца Астр. 3. *анат.* Малочная залоза ў жанчыны. *Грудзіну́ атнялі ей.* Гемзы Шальч.

ГРУДЗІ'НКА *ж.* Тое ж, што і г р у д з і́ з н а. *Перш здымаюць патчаровак, а пасля выразаюць грудзінку.* Альхоўка Навагр.

ГРУДЗЯ' *ж.* Тое ж, што і г р у д з і́ н а́ 3. *Грудзя баліць, ня можа дзіцяці грудзю даць.* Граўжышкі Ашм.

ГРУ'ДКА, ГРУ'ТКА *ж.,* ГРУ'ДКІ', ГРУ'ТКІ' *мн.* 1. Камяк зямлі, камлыга. *На бульбі гру́ткі вялікія, як аралі — граска было.* Саланое Віл. *Гру́ткі цвёрдыя, груткай шыбануў, як каменям.* Вецярэвічы Пух. *Кынув груткыю зымні.* Сіманавічы Драг. *На градках розбывают грудкі граблямы і поволочат.* Горск Бяроз. 2. Драбок, кавалачак. *Грутку цукру пакусая на кусочкі. Збіць масла так, каб ні днэй груткі не было, ні грама гру́дак — так не палучаецца, так не саб'еш.* Мсцібава Ваўк. *Грудка цюкру.* Сіманавічы Драг.

ГРУДЛІ'ВЫ *прым.* Тое ж, што і г р у д а в а́ т ы 1. *Дарога грудлівая, ехаць нельзя, пака не падкініць снегу.* Мішневічы

Шум. *Грудлівая дарога, груда.* Валынцы В.-Дзв. *Грудлівая дарога, едзіш і трасець.* Індра Красл.

ГРУДНІ'ЦА *ж. мед.* Мастыт. *Грудніца ў яе, і малако згінула.* Азяраны Раг.

ГРУДОВА'ТЫ *гл.* ГРУДАВА'ТЫ

ГРУДО'К *м.* 1. Астравок сярод балота. *На балоця грудок.* Дакудава Лід. *Грудок — сухоя павышаная месца сярод балота, стан, на грутку каровы стаялі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Тут найсушэй, грудок.* Навасёлкі Свісл. *Грудок — у балоце.* Пацаўшчына Дзятл. *Грудок — сухоя пуднятае место паміж імхоў і балот, такі круг на кіламетру. На грудку расце ні балотня, а сухая трава, можа быць лес, сасёнкі.* Кузьмічы Люб. 2. Узгорак. *Грудок — гэто высоко место.* Малахоўцы Бар. *Грудок — дзе вышшая мейсца, пашоў на грудок і сеў.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Участак зямлі, адведзены пад якую-н. культуру. *Пакінуў грудок на капусту, на буракі. У гэтым месці нада грудок на капусту.* Мярэцкія Глыб. *Ідзі пасадзі моркву на грутку.* Жылі Іўеў.

ГРУДО'ЛКІ толькі *мн.* Жаночыя асобіны ў каноплях. *Грудолкі і пласконі ў каноплях. Пласконі бес семяна, а грудолкі семянныя.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* літ. *grūdãlės* 'тж', *grū̃das* 'насенне'.

ГРУ'ДЫ *мн.* 1. Камлыгі, скібы сухой зямлі. *Груды зямлі засохлі і рады не даць.* Альхоўцы Лях. *Як мокрая зямля гарэцца, то поле пассыхаецца грудамі — усё поле ў грудах.* Дзяніскавічы Ганц. *Гэдакія груды, што не разбіць.* Вострава Маст. *Дзе плошча не выраблена, там груды велькія.* Мсцібава Ваўк. *Як пойдзя дошч, тады сонцо, то груды велькія зямлі засыхаюць, ні разбаРануеш.* Міратычы Карэл. 2. Тое ж, што і г р у д а н к і. *Груды — дробныя белыя хмаркі.* Дзяніскавічы Ганц.

ГРУ'ЖЛІЦА *гл.* ГРУЗЛІ'ЦА

ГРУЖО'ЛЫ *гл.* ГРУЧО'ЛЫ

ГРУЗАВІ'ЦЯ *ж.* Багна, балоцістая мясцовасць. *Як нэ было ровуов, то тут была такая грузавіця, што нэ можна было пройті.* Курашэва Чыж.

ГРУЗА'ЛАЧКА *ж.*, ГРУЗА'ЛАЧКІ *мн. памянш.* да г р у з á л к і. *Многа грузалачкаў у кам'яках.* Масілавічы Сл.

ГРУЗА'ЛКАВЫ *прым.* Тое ж, што і г р у д а в á т ы 1. *Грузалкавая дарога, трудна ехаць.* Беразіно Докш.

ГРУЗА'ЛКІ', ГРУЗА'ЎКІ *мн.* 1. Цвёрдыя кавалачкі бульбы ў кашы. *Натаўчэш бульбы, а там пападаюцца грузáлкі — нерастоўчаныя кусочкі.* Магуны Паст. *Грузáлкі, як каша з бульбы не стаўчэцца.* Саланое Віл. *У кашы асталіся грузáлкі, ні добра стаўкла.* Мсцібава Ваўк. *Таўкла кашу — не датаўкла, шмат ест грузалкóў.* Гемзы Шальч. *Але ш патаўкла кашу, адны грузаўкі, як сыравата картофля, то будуць грузаўкі.*

Беразіно Докш. *Як не патаўчэцца добрэ картошка, то кажэ: «Грузаўкі тут есць».* Баброўнікі Гарад. 2. Тое ж, што і г р ý д á 1. *Зямля грузáлкамі пабралася, а снег не выпаў.* Беразіно Докш.

**ГРУЗА'ЛЫ** *мн.* Кавалкі чаго-н. разбітага. *Гарбуз разбіўся на грузалы, бурак, бручку можна разбіць на грузалы.* Гемзы Шальч.

ГРУЗА'ЎКА *ж.* Камяністае ці жвірыстае месца. *Натта грузаўка велька — жвір, каменне з глінаю, не ўкапаць. Лома бяруць, прыходзяць двоя-троя капаць дол—і рады не дадуць.* Мсцібава Ваўк.

**ГРУЗА'ЎКІ** *гл.* **ГРУЗА'ЛКІ'**

ГРУЗДЗІ', ГРУЗДЫ', ГРУЗДЭ' *мн.* Грузды. *Кажуць, што тут груздзей было многа.* Груздава Паст. *Грузды большы салёныя ўкусныя.* Чарняўскія Лудз. *Груздэ мала хто бярэ.* Пацаўшчына Дзятл.

ГРУЗЕ'ЛЬ *ж.* Багна, балота. *Балота, грузель такая была тут, што страхата.* Вецярэвічы Пух.

ГРУЗЕ'НЬ *ж.* Тое ж, што і г р у з é л ь. *На заставе была грузень.* Пасека Ст.-Дар.

ГРУ'ЗКІ *прым.* Гразкі. *Зэмля такая грузка, што ораті нэ можна.* Курашэва Чыж.

ГРУ'ЗКО *прысл.* Гразка, вязка. *Ды шчэ там було грузко, угрузла адною нагою.* Кузьмічы Люб.

ГРУЗЛІ'ЦА, ГРУЖЛІ'ЦА *ж.* Сухоты, туберкулёз. *Хварэе на грузліцу — гэта сухоты, а па-простаму — грузліца.* Гемзы Шальч. *У яго гружліца косцяў.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* літ. *gružlóti* 'грызці'.

ГРУ'ЗЛЯ *ж.* Гразкае, багністае месца. *На пасьбішчах грузля, карова па грузлі перабіраецца.* Масілавічы Сл.

ГРУЗЛЯ'ЦЬ *незак.* Ісці, ехаць па вязкім месцы, угрузаць, вязнуць. *Конь грузляе на полі, конь грузляцьме, і я грузляю ў балоце. Брадкі граскіе, па чэраво карова грузляе.* Дзяніскавічы Ганц. *Карова ідзе і грузляе.* Масілавічы Сл.; *параўн.* літ. *rūzlióti* 'тж'.

ГРУ'ЗНУЦЬ *незак.* Вязнуць. *Колы грузнуць і конь грузня.* Вецярэвічы Пух. *Граска, пашлі адна за аднэй уброт, а збоку грузнуць ногі.* Альхоўцы Лях. *Іду і грузну в мулю.* Сіманавічы Драг.

ГРУ'ЗНЫ *прым.* Мажны, тоўсты. *Былі грузныя мае залоўкі.* Саланое Віл.

ГРУ'ЗЫ толькі *мн.* 1. Тое ж, што і г р ý д á 1. *Балота замярзая грузамі, многа грузаў — не прайсці.* Кіралі Шчуч. 2. Кавалкі цэглы, шчэбень. *Грузы там, дзе робюць рамонт, печ пеpакладаюць.* Валынцы В.-Дзв.

ГРУ'КНУЦЬ *зак.* Стукнуць. *Ён нечым грукнуў.* Дакудава Лід.

ГРУКЫТНЯ′ *ж.* Грукат. *А-я-яй, грукытня якая! Конь путаны на гародах скача.* Мішневічы Шум.

ГРУМА′ДА′ *гл.* ГРАМАДА′

ГРУ′МГАЦЬ *незак.* Крумкаць. ***Грумгач грумгаіць.*** Якубова Рас.

**ГРУМГА′Ч** *гл.* **ГРУНГА′Ч**

ГРУМЕ′ЦЬ *незак.* Грымець. *Груміць і маланка бліскае.* Мсцібава Ваўк.

**ГРУМКА′Ч** *гл.* **ГРУНГА′Ч**

ГРУМНЫ′ЦІ *гл.* ГРАМНІ′ЦЫ

**ГРУНГА′Ч, ГРУНКА′Ч, ГРЫНГА′Ч, ГРУМКА′Ч, ГРУМГА′Ч** *м.* 1. Крумкач, груган. ***Грунгач** — чорная пціца.* Кураполле Паст. ***Грунгач** як праляціць — памрэць нехта.* Валынцы В.-Дзв. ***Грунгачы** нат хатай віюцца — смерць будзіць.* ***Грунгач** крычыць — смерць пачуіш.* Кураполле Паст. ***Грункач** большы вароны.* Чарняўскія Лудз. *Наляцелі фашысты, як грумкачы.* Беразіно Докш. ***Грынгач** крычыць на пакойніка — кур-кур-кур.* Валынцы В.-Дзв. 2. Грак. ***Грумгачы** наляцелі, адкуль прыляцелі?* Вязынка Маладз. ***Грумгачы** адны лятаюць нат полем.* Глівін Барыс.; *параўн.* літ. *krankõčius* 'тж'.

ГРУНЁМ *прысл.* Вельмі хутка, угрунь. *Беглі доўга грунём, потым адзін вырваўся ўперат.* Глівін Барыс. *Трэба бехчы грунём.* Палік Барыс.

ГРУНТ *м.* 1. Зямля. *Маю п'яць гектаруов грунту.* Курашэва Чыж. 2. Галоўнае ў жыцці. *Грунт — то мієті добрэ здоров'е.* Курашэва Чыж.

**ГРУНТВА′ГА** *ж.* Тое ж, што і г л і й ч á к. ***Грунтвага** са сцякельцам, вада там бегае.* Крэва Смарг.

ГРУ′ПКІ, ГРУ′ПЧЫ, ГРУ′ПШЫ *прым. выш.* да г р ý б ы. *Келбукі — самая групкая рыба.* Старыя Трокі Трак. *Даўнейшыя ручнікі групчыя былі.* Быстрыца Астр. *Групшая палатно ішло на гаці. Групшыя кішкі наліваюць крывёй. Дорнік дзе ў жалезя дзюрку выбівая групшую ці цянейшую.* Старыя Трокі Трак. *Групшую скіпку з'еў і паеў, цяненькую скусаў, скусаў, і няма нічога.* Ракаўскія Швянч. *Аш групшы стаў. Гэта групша голка. Ты ў таліі не групшая маго калена.* Паляцкішкі Воран.

ГРУС *м.* 1. Тое ж, што і г р ý з ы 2. *Грус у хаця, як печ рушаць.* Старыя Смільгіні Воран. *Грус нада вынесці, ломаныя цэглы.* Гемзы Шальч. 2. Рэшткі ад спаленага будынка. *Грус — калі хата згарэла.* Вострава Маст.

ГРУСТ *м.* Тое ж, што і г р ó з і н ь 2. *Сарваў груст арэхаў. Грусты́ бываюць на пяць і боляй арэхаў.* Ёдлавічы Брасл.

ГРУТ *гл.* ГРУД

ГРУ′ТКА *гл.* ГРУ′ДКА

ГРУ′ХАТІ *незак.* Буркаваць. *Люблю, як галубы грухають.* Курашэва Чыж.

**ГРУХОТА'ТІ** *незак.* Грукатаць. *Вуос по каміені грухотіт.* Курашэва Чыж.

**ГРУ'ЦА** *ж.* 1. Ячныя крупы. ***Груцу** даўней у ступе таўклі.* Гайна Лаг. ***Груца** — буйныя самаробныя крупы: даўней ячмень сушаць, а тады таўкуць, вадой пальюць, аптаўкуць і апалаюць.* Бакшты Іўеў. ***Груцу** таўклі з ячменю.* Саланое Віл. *Пансак ячменны цяпер груца называюць.* Ракаўскія Швянч. ***Груцу** ў ступі аптаўклі прэці калят.* Старыя Смільгіні Воран. *Былі паланічкі, палалі груцу.* Рыбчына Віл. 2. Каша ці крупнік з ячных круп. *З панцаку вараць груцу, на куцю вараць груцу.* Дакудава Лід., Гемзы Шальч. ***Груцу** варылі.* Лісна В.-Дзв., Вялікія Нястанавічы Лаг. *За дзень да коляд варылі кашу — груца называлі.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Каша ці крупнік з сумесі круп з бобам, фасоллю ці гарохам. *Гарох і крупы як зварань умесця, то звалі груца, наелася бабовай груцы, а калі — гарохавай груцы.* Мярэцкія Глыб. ***Груцу** вараць з ароху, фасолі і круп, з салоткай вадой на куццю елі.* Старыя Смільгіні Воран.

**ГРУ'ЧКА** *ж.* Бручка. Магуны Паст.; *гл.* ДАБМ, карта № 276.

**ГРУЧКО'ЎНІК** *м.* Лісце бручкі. *Насячы свіням **гручкоўніку**.* Магуны Паст.

**ГРУЧО'ЛЫ, ГРУЖО'ЛЫ, ГРЫЧО'ЛЫ, ГУРДЖО'ЛЫ, ГУРЧО'ЛЫ** *мн. анат.* 1. Залозы, міндаліны. ***Гручолы** падымаюцца, як горла баліць.* Граўжышкі Ашм. ***Гручолы** задавілі мяне.* Дакудава Лід. *Высыпалі гручолы і баліць горла, не можа палыкаць.* ***Гручолы**, ці гружолы, як ангіна ў горле.* Гемзы Шальч. ***Гурджолы** ў горле давяць.* Быстрыца Астр. *Ангіна і гурчолы — то самая; выразаюць гурчолы.* Старыя Трокі Трак. 2. Жаўлакі. *У яго гручолы на шыі.* Каўняны Гродз.; *параўн.* польск. *gruczoł* 'залоза'.

**ГРУ'ША'** *ж.* Дрэва і плод грушы. *Гру́шу пасадзіла, раслі гру́шы.* Чычалі Швянч. *Груша́ расце на надворку, на грушэ́ многа сукоў сухіх. За грушо́ю пасадзіла квятке.* Кіралі Шчуч. *Што за груша́, колькі было груш і гэдака лядака.* Альхоўцы Лях. *Велька груша́ расце і ў бульбя.* Вялікія Баяры Шчуч. *Груша́ не расце натта.* Галубы Маст. *Груша́ харошая была.* Малахоўцы Бар. *А ён на грушы́? — нешта шасціць.* Альхоўцы Лях. *Грушэ́ пашоў сабіраць.* Хатынічы Ганц.

**ГРЫБ І, ГРЫБЫ', ГРЫБУ', ГРЫБЭ'** *мн.* Грыб, грыбы. *Гэты грыб нядобры, не бяры!* Кузьмічы Люб. *Добрыя грыбы, назбірала добрых грыбоў.* Рыбчына Віл. *Пашла адна ў грыбы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Па грыбох хадзіў.* Граўжышкі Ашм. *Я пасылала ім у пасылцы грыбу.* Кузьмічы Люб. *Тут грыбэ шчырыя растуць.* Каўняны Гродз. *Трэба грыбэ здымаць з печы, ужо высахлі.* Вялікія Баяры Шчуч. ▽ *Жыве, жыве чалавек, а дажывае да грыба.* Парэчча Гродз.

ГРЫБ II *м. мед.* Грып. *Быў грыбам захварэўшы.* Валынцы В.-Дзв. *Захварэла на грып, а пасля грыба было аслажнення.* Вецярэвічы Пух.

ГРЫБ III, ГРЫП *м. зневаж.* Губа, вусны. *Што ты атвесіў грып свой!* Лісна В.-Дзв.

ГРЫБА'ТЫ *прым.* Губаты. *Сам грыбаты, а нешта яшчэ строіць з сябе.* Мачаск Бярэз.

ГРЫБНО' *прысл.* Многа грыбоў. *Мокра — грыбно!* Граўжышкі Ашм.

ГРЫБНЫ' *прым.* Які мае адносіны да грыбоў ці прыгатаваны з грыбоў. *Грыбны гот быў. Грыбноя места.* Кураполле Паст. *Кансервы былі набраўшы грыбной з магазіна, і ўсе пахварэлі.* Ністанішкі Смарг.

ГРЫБО'ВЫ *прым.* Тое ж, што і грыбны́. *Там у нас грыбовыя хвайнякі.* Навасёлкі Свісл.

ГРЫБО'К *м. кулін.* 1. Амлет. *Разбіваюць яйкі, туды малака, трохі мукі і пякуць грыбок.* Магуны Паст. *Грыбок — густая яечня.* Малахоўцы Бар. *Спячы грыбок з яец.* Глівін Барыс. 2. Запяканка з тварагу. *Грыбок робіцца з тварагу, дабаўляюць манкі, яйкі, сліўкі, сахару, дробачку соды, выбіваюць усё на патэльню і пякуць.* Крэва Смарг.

ГРЫБЦЫ', ГРЫПЦЫ', *мн.* Грыбы. *Матка ў грыбцы ідзе.* Новыя Мацалі Варэн. *Яшчэ грыпцоў ест у лесе.* Стральцы Шальч.

ГРЫБЫНІ' *гл.* ГРАБЯНІ'

ГРЫ'ВА *ж.* 1. Грыва. ∇ *Пажалеў воўк кабылу, аставіў хвост ды грыву.* Ухвала Круп. 2. Радок няскошанай травы. *Як нячыста косіць хто — грыва астаецца.* Альхоўцы Лях., Масілавічы Сл. *Касіў і засталася грыва.* Галубы Маст. *Ні скасіў добра — грыва асталася.* Багушэвічы Бярэз. 3. Палоска сенажаці. *Каму ты ету грыву на пожні заставіў?* Беразіно Докш. 4. Сухадольная сенажаць. *Калі сенажаць сухая, то гавораць — сухадольная, або грыва.* Глівін Барыс.

ГРЫВА'К I *м.* Сорт аўса. *Пасеяў авёс — грывак.* Лоск Валож.

ГРЫВА'К II *м.* Частка страхі, што звісае над сцяной, падстрэшша. *Грывак у хляве — навесь ад крышы.* Навасёлкі Свісл.

ГРЫВЕ'НКА, ГРЫВЕ'НЬКА, ГРЫ'ВЯНКА *ж.* 1. Ліна. *Грывенкі круцілі з маладой бярозы і лес грывенькамі звязвалі.* Мсцібава Ваўк. 2. Вітка, закрутка. *Грывенкай замацоўвалі зубы ў дзеравяннай баране, грывенку скруціць з лазы, з едлаўцу і зуб зажэнуць.* Мсцібава Ваўк. *Грывеньку з бярэзіны саўе, як вяроўка, абматвае кругом капыла і ўсаджвае туды аглоблю, пералажыць, перакруціць і дзяржыць.* Пацаўшчына Дзятл. *Грывянку з бярозы скруціць.* Старыя Смільгіні Воран.

ГРЫ'ГА *гл.* ГРЫ'КА

ГРЫЖ *м.* Жаўлак, гуз. *Грыж на руцэ ўскочыў.* Глівін Барыс.

**ГРЫ′ЖА** *ж.* Тое ж, што і г р у́ ч к а. *Бручку звалі грыжай. Дупляністая грыжа.* Мішневічы Шум.; *парайн.* літ. *grieztis* 'тж'.

**ГРЫ′ЖЫ′НА** *ж.* Тое ж, што і г р ы́ ж а. ***Гры́жыну** з уціным мясам добра тушыць. Стваливая гры́жына — і з ляхі вон!* Лісна В.-Дзв. ***Гры́жына** добрая.* Малькуны Ігн. ***Грыжы́ны** налупіць, накроіць, зварыць, а потым натаўчэць, смашна.* Ракаўскія Швянч. ***Грыжы́на** вырасла добрая.* Скрудалена Даўг. ***Грыжы́ну** садзілі.* Ёдлавічы Брасл. ***Грыжы́на** такая дуплаватая.* Пасіене Лудз.

**ГРЫЗЛІ′ВЫ** *прым.* 1. Неспакойны, нервовы. *Я грызлівая, заботлівая.* Гемзы Шальч. 2. Злая, сварлівая. *Жонка яго грызлівая, яна перагрызецца з усімі.* Гемзы Шальч. *Грызлівая баба.* Вялікія Баяры Шчуч.

**ГРЫЗМО′ЛЫ** *мн.* Каракулі, крымзолі. *Якіхсе грызмолув наставів.* Курашэва Чыж.

ГРЫ′ЗЦІ, ГРЫ′ЗТЫ, ГРЫ′СЦІ *незак.* 1. Скубці (траву). *Конь грызе траву.* Рудня Астравітая Чэрв. *Конь, карова грызе траву.* Азяраны Раг. *Карова траву грызэ.* Горск Бяроз., Дзмітравічы Кам. 2. Есці, хрумстаць, грызці. *Мае яблако грыз.* Навасёлкі Свісл. *Грызець кірпіч карова, што ёй стала?* Валынцы В.-Дзв. *Будзе свіня карыта грысці.* Вялікія Баяры Шчуч.

ГРЫ′ЗЦІСЯ *незак.* Хваляваца, перажываць. *Ніхай супачыня, я па ей грызлася, што яна ня ехала дамоў.* Граўжышкі Ашм.

ГРЫЗЬ, ГРЫСЬ *ж.* Тое ж, што і г р ы ж. *Грызь на руке качаецца.* Ухвала Круп. *Грысь нагоніш на руку, столькі пішаш.* Быстрыца Астр. *Нагнала грысь у руку: сма́гла паробіла.* Ёдлавічы Брасл.

ГРЫЗЯНУ′ЦЬ *зак. экспр.* Укусіць. ∇ *Грызянула п за лакаць, да не дастану.* Вецярэвічы Пух.

**ГРЫ′КА, ГРЫ′ГА** *ж.* Грэчка. *У той дзень, як была шаць, сеюць грыку.* Быстрыца Астр. ***Грыка** пасеяна.* Паляцкішкі Воран., Беняконі Воран. ***Грыка** добра родзіць.* Вострава Маст. *Скасілі грыку.* Асавец Віл. ***Грыку** наш калхос сея.* Стральцы Шальч., Відаўцішкі Вільн. *Рвалі грыку.* Старыя Смільгіні Воран. ***Грыку** люблю, грыку малоцім.* Старыя Трокі Трак. *Трэба курам пасыпаць грыкі.* Ліпнікі Вільн. *Сеялі грыгу, зацвіцець грыга, то пах, запах мёду.* Швэды Вільн.; *парайн.* польск. *gryka* 'тж'.

ГРЫ′КАЎКІ *мн. заал.* Чэрві. *Грыкаўкі точаць буракі.* Парэчча Гродз.

ГРЫМА′ДА *гл.* ГРАМАДА′

ГРЫМА′К *м.* Удар кулаком, кухталь. *Пара грымакуов ёму в плечы дав.* Курашэва Чыж.

ГРЫМО'ТНІК *м. бат.* Дуброўка. *Грымотнік ад вольнасці добра з падарожнікам піць.* Старыя Смільгіні Воран.

ГРЫМО'ТЫ толькі *мн.* Навальніца. *Глядзіця, грымоты будуць.* Магуны Паст. *Былі грымоты.* Бакшты Іўеў.

**ГРЫНГА'Ч** *гл.* **ГРУНГА'Ч**

**ГРЫНШТЭ'ЙН, ГРАПШТЭ'ЙН** *м.* Сорт яблыкаў і яблыня (штрыфель). ***Г****рынштэйн — яблыкі розавыя.* Валынцы В.-Дзв. ***Г****рапштэйн — укусныя яблыкі.* Ахрэмаўцы Брасл. *У нас адна яблыня грапштэйн.* Гемзы Шальч.

ГРЫ'ПА *ж. мед.* Тое ж, што і г р ы б II. *Грыпа пала на плуцы. Катар ні так, грыпа горшая.* Магуны Паст. *Гарончка— гэта грыпа. Грыпа сагнула мяне.* Дакудава Лід. *Такая грыпа была.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пры грыпе нельзя мыцца.* Сапоцкіна Гродз. *У сераду захварэлі — грыпу схвацілі.* Кураполле Паст. *Грыпа была, хварэлі людзі.* Саланое Віл. *На грыпу хварэла.* Бакшты Іўеў. *З грыпы памёр.* Кіралі Шчуч. *Хварэў на грыпу.* Ністанішкі Смарг. *Месіц пралежыла на грыпу.* Кураполле Паст. *Захворыэв на грыпу.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *grypa* 'тж'.

ГРЫ'СКАЦЦА *незак.* Тое ж, што і г а й н я в а́ ц ь. *Сучка грышчыцца.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *рыскать* 'гойсаць, бегаць, шнырыць'.

ГРЫ'СЦІ *гл.* ГРЫ'ЗЦІ

ГРЫСЬ *гл.* ГРЫЗЬ

ГРЫ'ЎКА *ж.* 1. *бат.* Сівец. *Грыўка і сівец — два ей назвіска.* Рыбчына Віл. 2. Тое ж, што і г р ы́ в а 2. *Грыўка — пропуск пры казьбе.* Вострава Маст.

ГРЫ'ЎНЯ *ж. устар.* Манета, роўная 10 кап. *У мяне валялася грыўня ў сундуку.* Вецярэвічы Пух.

ГРЫЧА'НІСКА *гл.* ГРАЧА'НІСКА

ГРЫЧА'НКА *гл.* ГРАЧА'НКА

ГРЫЧА'НЫ *гл.* ГРАЧА'НЫ

ГРЫЧІ'ВЫСКО *гл.* ГРАЧА'НІСКА

ГРЫ'ЧКА *ж. бат.* Бярозка (трава). *Грычкі нарвала свіням.* Вострава Маст.

**ГРЫЧО'ЛЫ** *гл.* **ГРУЧО'ЛЫ**

ГРЫШКЕ' *мн. бат.* Рыжыкі. *У нас грышке соляць, іх можна варыць.* Стральцы Гродз.

ГРЭ'БАВАЦЬ *незак.* Гідзіцца. *Калі ня грэбаваіці, то ешча.* Валынцы В.-Дзв.

ГРЭ'БАНЫ *дзеепрым.* Акучаны. *Мае картоплі шчэ не грэбаны.* Кузьмічы Люб.

ГРЭБА'Р *гл.* ГРАБА'Р

ГРЭ'БАЦЬ, ГРЭ'БАТЫ *гл.* ГРА'БАЦЬ

ГРЭ'БЕНЬ І, ГРЭ'БЭНЬ, ГРЭ'БЯНЬ *м.* 1. Грэбень расчэсваць валасы. *Німа грэбня густога ў нас.* Міратычы Карэл. *Возмі мого грэбня, шчо бацько прыслаў.* Смаляніца Пруж.

2. Грэбень часаць лён. *Грэбянь ёсць, у ім жалезныя зубы абдзіраць лён.* Буда Уздз. *Грэбянь з гваздзей абдзіраць лён, а другі грэбянь — з дробных гвоздзікаў называецца пачасніца, пачасаваць лён.* Рыбчына Віл. 3. Нарасць на галаве ў некаторых птушак, грабеньчык. *Куры грабяні памарозяць.* Мсцібава Ваўк. *Курка с чэрвоным грэбэнём мусіт нэстісе будэ.* Курашэва Чыж. *Грэбэнь у півня змэрз.* Сіманавічы Драг. 4. Агрэх, вузкая палоска неўзаранай зямлі. *Кепско поле зорав, бо грэбэніе пооставалі.* Курашэва Чыж. 5. Тое ж, што і г р ы в а 2. *Іншы шырокі пракос бярэ — грэбень астаецца, не дацягне яго зрэзаць.* Пацаўшчына Дзятл.

ГРЭ′БЕНЬ II *м.* Верх страхі. *Грэбень пыр'ям* [пырнікам] *выложвалі, ён як злежыцца, яго вецер не зрывае. Як добра вылажаны грэбень, то не пацячэ вада.* Мсцібава Ваўк.

**ГРЭ′БЕСТ, ГРЭ′БЯЗД, ГРА′БЯСТ, ГРЭ′БЯСТ, ДРА′БЯСТ, ДРЭ′БЯСТ** *м.*, **ГРАБЕ′СТЫ, ГРАБЯ′ЗДЫ, ГРЭБЯ′СТЫ** *мн. буд.* 1. Латы, жэрдкі для лат. *Трэба нагатаваць грэбесту страху грабеставаць.* Альхоўка Навагр. ***Грэбест** клалі на кроквы.* Сапоцкіна Гродз. ***Грэбест** — страху саломеную кагда рабілі.* Кіралі Шчуч. ***Грэбест** пад салому шоў, пат шыфер.* Дакудава Лід. *Па грэбесту крылі.* Жылі Іўеў. *У гумне пятнаццаць—васемнаццаць радоў грэбязду, столькі нада і прыяскаў і столькі радоў саломы.* Гемзы Шальч. *На грэбяст будзем салому слаць.* Жылі Іўеў. ***Грэбяст** на кроквы клалі.* Старыя Трокі Трак. ***Грабяст** прыбіваецца на крохлах.* Быстрыца Астр. ***Грабяст** ценкі, як рукой абняць. **Грабяст** на кроквы прыбіваецца і па ём крыецца.* Каўняны Гродз. *На грабесты крукі жалезныя падвешываюць, кап крыльшчыку можна было стаяць.* Скрудалена Даўг. ***Грабязды** на даху.* Ёдлавічы Брасл. ***Грабязды** прыбіваюць на кроквы, а патом саламяны дах.* Старыя Трокі Трак. *Нада загатовіць грэбясты і прыбіць на сорак санціметраў адна ад адной.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Паплёт. ***Грэбест** па саломі кладуць.* Кіралі Шчуч. ***Грэбест** прывязваюць лазінаю, на саломі ён ляжыць.* Пацаўшчына Дзятл. *Драбястам прывязваюць салому да страхі. Драбяст — тонкія дліныя палкі.* Навасёлкі Свісл. *Увязваюць драбястам стрэху саламяную.* Альхоўка Навагр. ***Грэбясты.*** Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *grebēstas* 'тж' (ЛТ, 173).

**ГРЭБЕСТАВА′ЦЬ, ГРАБЯСТАВА′ЦЬ** *незак.* Прыбіваць латы, лаціць. *Трэба хату грэбеставаць, а потым крыць.* Кіралі Шчуч. *Трэба страху грэбеставаць.* Альхоўка Навагр. ***Грэбеставаць** хату будзім.* Скрудалена Даўг. *Як паставілі шпары, нада грабяставаць.* Ахрэмаўцы Брасл. ***Грабяставаў** хату грэбестам.* Гемзы Шальч. *Кроквы грабястуем.* Быстрыца Астр., Старыя Трокі Трак. *Нада крохвы грабяставаць.* Ста-

рыя Смільгіні Воран. *Грабястуюць жэрткамі.* Гемзы Шальч.; *гл.* грэ́бест.

ГРЭ'БЛА *н.* Скрэбла. *Грэбла — коней чысціць.* Якубова Рас.; *парайн.* літ. *grèblai*, руск. дыял. *греблица* 'тж'.

ГРЭ'БЛЯ, ГРЭ'БЛА *ж.* 1. Насціл з бярвення і галля праз балота, гразкае месца. *Грэбля — выслана з дзерава дарога, дзе гразко ездзіць, упапярок кладуць гальe, штоб ехаць льга было.* Дзяніскавічы Ганц. *Дзе балото, граско, гальём грэблю вымашчваюць, як ехаць трэба.* Старое Сяло Зэльв. *Завязі сукоў на грэблю, нада паправіць грэблю, конь вязьня. Грэблю рабілі — хвораст, каме́ня кідалі ў балота, кап праехаць.* Граўжышкі Ашм. *Як грась велька, то мосцяць грэблю, каменя возяць, пясок насыпаюць.* Навасёлкі Свісл. *Грэбла — бытта зроблена дарога людзьмі, сукоў наложана.* Магуны Паст. 2. у знач. *прысл. грэ́бляй.* Па грэблі. *Дзе паслана, там праедзеш грэбляй.* Граўжышкі Ашм.

ГРЭ'БЦІ, ГРАБЦІ', ГРЭБСТЫ', ГРЭ'ПЦІ, ГРАБСЦІ', ГРАПЦІ' *незак.* 1. Грэбці. *Пойдуць грэбці і бабаў заставяць.* Дакудава Лід. *Пашоў на балото сено грабці.* Альхоўцы Лях. *Буду грэбсты.* Дзмітравічы Кам. *Ні хачу грэпці сена. Легла паспала, а потым давай грэпці.* Альхоўка Навагр. *Нада сена грэпці ў валкі.* Рудня Астравітая Чэрв., Бакшты Іўеў. *Яна сена грэбла.* Альхоўка Навагр. *Пойдзем сена грабсці зрання.* Беразіно Докш. *Сено не граблі шчэ.* Кузьмічы Люб. *Мы с татам двох касілі і паехалі двох грапці.* Навасёлкі Свісл. *Як крапчэйшая была — сама грабла.* Груздава Паст. 2. Грэбціся (пра курэй). *Куры грабуць усе грады, кап іх каршун пабраў!* Бакшты Іўеў. *Курыца грэпці так не будзя. Гусі грэпці не ўмеюць.* Вецярэвічы Пух.

ГРЭБЭНЭ'ЦЬ *м.* Грэбень для расчэсвання валасоў. *Купіла грэбэнця.* Курашэва Чыж.

ГРЭБЯСЦІ'НА, ГРАБЯСЦІ'НА, ДРАБЯСЦІ'НА *ж.* Лата. *Як крылася саломай стрэха, грэбясціна прывязвалася дупцом да латы.* Галубы Маст. *Грабясціну трэба часаць і прыбіваць.* Альхоўка Навагр. *Ложаць салому, потым грабясціну, прывяжуць лазінаю, падганяюць, падраўніваюць стрыхалкаю. Грабясціна доўгая.* Пацаўшчына Дзятл. *Грабясціну прыбіваюць да крокваў.* Старыя Трокі Трак. *Грабясціна прыбіваецца да страпіл.* Скрудалена Даўг. *Крыюць страху, ложаць салому, а патом драбясціну.* Навасёлкі Свісл.; *гл.* грэ́бест.

ГРЭ'ЗА *м.* і *ж.* Гарэза, насмешнік. *Які ён грэза, смяецца з другіх.* Магуны Паст.

ГРЭ'ЗІЦЬ *незак.* Гарэзаваць. *Грэзіш і грэзіш, сядзі спакойна.* Магуны Паст.

ГРЭ'ЙМА *прысл.* Бягом. *Такія прапасныя былі парасята — грэйма ляцяць аттуль.* Ісерна Слуц.; *парайн.* літ. *greit* 'тж'.

ГРЭЙС *м.* Нямы, ненармальны чалавек. *Мушчына, бы грэйс, паганы, не гаворыць ад балезні, ад ціху грэйсам зрабіўся.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ГРЭ'ЙЦПО'ЛЬКА, ГРЭ'ЦПО'ЛЬКА *ж.* Тое ж, што і гара́чая по́лька. ***Грэйцпольку** і я танцавала.* Малькуны Ігн. *Скакалі грэйцпольку.* Кіралі Шчуч. *Дайней грэцпольку танцавалі і вальц.* Скрудалена Даўг.; *парайн.* літ. *greĩtpolkė* 'тж'.

ГРЭ'ПЦІ *гл.* ГРЭ'БЦІ

ГРЭ'ТА *ж.* Мел, крэйда. ***Грэтаю** печ бялілі, усё можно бяліць.* Стральцы Гродз.

ГРЭХ *м.* 1. Парушэнне рэлігійных канонаў. *Цяпер граху не баяцца.* Лоск Валож. *Баялася граху, не ехала да шаптуна.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Адмоўная рыса ў характары, паводзінах. *І я маю адзін грэх — люблю выпіць.* Ністанішкі Смарг. *І я нэ бэз грэха.* Горск Бяроз. 3. Парушэнне прынятых норм, неэтычны ўчынак, праступак. *Граху ня будзя, калі і ты зробіш.* Альхоўцы Лях. *Грэх з Ганасіхі смяяцца.* Вецярэвічы Пух. *Грахоў многа за ім.* Ністанішкі Смарг.

ГРЭ'ЦКА *гл.* ГРЭ'ЧКА

ГРЭ'ЦКА'ША *ж.* *кулін.* Каша, бабка. *Бульбу здзярэш, атцэдзіш, зварыш — і грэцкаша.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. дыял. *greĩtkošė* 'тж'.

ГРЭ'ЦКІ *прым.* 1. Прыгатаваны з грэчкі. *Грэцкая мука на бліны.* Рудня Астравітая Чэрв., Рыбчына Віл., Крэва Смарг., Багушэвічы Бярэз. *Наварыла грэцкага крупніку.* Малахоўцы Бар. *Грэцкія крупы таўклі.* Рыбчына Віл., Малыя Аўцюкі Калінк. *Прывезлі цэлянькія грэцкія крупы.* Малахоўцы Бар. *Грэцкую муку ў вайну рабілі.* Жодзішкі Смарг. 2. Які мае адносіны да грэчкі. *Грэцкая салома, грэцкая мякіна.* Альхоўка Навагр.

ГРЭ'ЦПО'ЛЬКА *гл.* ГРЭ'ЙЦПО'ЛЬКА

ГРЭ'ЦЦА *незак.* *біял.* Спароўвацца. *Ганьё сабак, як сука грэецца.* Новікі Гродз.

ГРЭЦЬ *незак.* Захоўваць адпаведную тэмпературу. *Крыві нет і не грэіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГРЭЧА'ННЕ *н.* Поле, на якім расла грэчка. *Грэчанне зааралі.* Мачаск Бярэз.

ГРЭЧА'ННЫЙ, ГРЭ'ЧЧАНЫЙ *прым.* Тое ж, што і г р э́ ц к і 1, 2. *Грэчанна салома. Грэччану кашу будэ істы.* Дзмітравічы Кам.

ГРЭ'ЧКА, ГРЭ'ЦКА *ж.*, ГРЭ'ЧКІ, ГРЫЧКЫ' *мн.* Грэчка. *Грэчку сеялі.* Рудня Астравітая Чэрв., Відаўцішкі Вільн., Мярэцкія Глыб. *З грэцкі пчолы бяруць мёт.* Кураполле Паст. *У нас грэчкі очань радзілі, а гэта ядзінственный мёт для пчол.* Альхоўка Навагр. *Вжэ грычкы пожялы.* ∇ *Дала б я вам грэчкы — нымае торбэчкы.* Сіманавічы Драг.

ГРЭЧКУ′ОВИЕ *н.* Тое ж, што і г р э ч а́ н н е. *На грэчкуовіе сіеют жыто.* Курашэва Чыж.

ГРЭ′ЧНІ *прым.* Тое ж, што і г р э́ ц к і 1. *Маці з грэчняй мукі бліны смашныя пякла.* Беразіно Докш.

ГРЭ′ЧНІШЧА *н.* Тое ж, што і г р э ч а́ н н е. *На грэчнішча пагналі кароў.* Мярэцкія Глыб., Пасіене Лудз.

ГРЭ′ЧНЫСКО *гл.* ГРАЧА′НІСКА

ГРЭЧУ′ХА *ж.* Грэчка. *Грэчуху сеялі.* Альхоўцы Лях.

ГРЭЧУХА′ *ж. бат.* Бярозка. *Грэчуха поросла.* Азарычы Пін.

ГРЯ′ДЭ *мн.* Жэрдкі для развешвання бялізны, адзення. *Колэсь булэ такіі грядэ, такіі жэрдкі; пувісь на грядэ спуднэцю, постылку, ручнэк, мэшка, ныткі!* Дзмітравічы Кам.

ГУ′БА І, У′БА *ж.* 1. Рот. *Узяла ў губу хлеба, цукру і вадой запіла.* Малькуны Ігн. *Табе горка ў губя.* Жылі Іўеў. *Што ты там жоўкаеш у губе? Чакаюць, губу разявіўшы. Узяць у губу — узяць у рот.* Магуны Паст. *Кроў з губы ідзе.* Паляцкішкі Воран. *Узяла ў губу і ем. Яму упаў у губу рак, і зубы вываліліся.* Кіралі Шчуч. *Здаеся, рас укусіш хлеба ў губу. Паналожыць таблеткаў у губу.* Ракаўскія Швянч. *Заціснуў нос, а кроў праз губу ідзець. У губу вазьму плёнку і ем.* Ёдлавічы Брасл. *У губу наберыш бобу і лушчыш.* Шамялі Брасл. *Губа ў каровы.* Навікі Лудз. 2. Губа. *Губу рассек.* Старое Сяло Зэльв. *Ніжня і верхня губа.* Дзяніскавічы Ганц. *У мінє убы баляць. А некаторы гэта слова з уб не спусця.* Парэчча Гродз. 3. Твар. *Рудая губа ў яе, загарэла. Губа ягоная маршчатая.* Ёдлавічы Брасл. ∇ *У цябе малако ня высахла ў губах, а ты мяне вучыш.* Кіралі Шчуч.

ГУ′БА ІІ *ж. бат.* Тое ж, што і г а р у́ н. *Губу на лякарства бяруць.* Рыбчына Віл. *Губа бярозавая — гэта нарасць.* Пацаўшчына Дзятл. *Губа толькі на бярозі.* Якубова Рас., Беразіно Докш., Альхоўцы Лях. *Губу мачылі, сушылі, на крамянь клалі і красалі, як губа упаліцца — да вугля прыкладалі.* Парэчча Гродз. *Губа — грып на дзераве, яго сушылі, гэта губа, агонь высякалі.* Малахоўцы Бар. *Губы бяруць, сякуць, вогнік загаворваюць.* Мачаск Бярэз. *Абрасла бярэзіна губамі.* Дзяніскавічы Ганц. *Губа — нарасць на бярозе.* Істра Лудз.

ГУБА′, ГІБА′, ГЫБА′ *ж. ткац.* Адзінка вымярэння даўжыні асновы і палатна. *Снуют кросна і шчытают гу́бэ, одна губа, дві губі, кылько губ.* Дзмітравічы Кам. *Дзве гібе выткала.* Старое Сяло Зэльв. *Вчора одну гыбу выткала, а тыпэр — дьві гыбі.* Сіманавічы Драг.

ГУБАВА′ТЫ *прым.* 1. Губаты. *Ён натта губаваты і баба губаватая.* Гемзы Шальч. 2. Аброслы губай. *Губаватая бяроза.* Кіралі Шчуч. 3. Тоўсты. *Губаватую хвою спілавалі.* Галубы Маст.

ГУБА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і г у б а в а́ т ы 1. *Вот яе хлопяц губаты.* Рудня Астравітая Чэрв.

ГУ'БІНА *ж. бат.* Тое ж, што і г у́ б а II. *Губіна вісіць на дрэве. Губіна на бярозі расце.* Кіралі Шчуч.

ГУ'БІЦА, ГІ'БІЦА *ж.* Тое ж, што і г у б а́. *У губіцы восем аршын, з дванаццаці губіц палатна будзе чатыры куске, у куску палатна тры губіцы.* Міратычы Карэл. *Аснавала тры, чатэры і нават дванаццаць губіц.* Альхоўка Навагр. *Губіца палатна.* Вострава Маст. *Тры губіцы — свой палатна.* Дакудава Лід. *Я аснавала шэсь губіц палатна, адна губіца — метраў пяць. Выткала пяць губіцаў.* Кіралі Шчуч. *П'яць губіц выткала.* Навасёлкі Свісл. *Даўней казалі: «Выткала тры губіцы на сарачкі».* Альхоўцы Лях. *Губіца роўна даўжыні сцяны.* Мсцібава Ваўк. *Натчэ губіц сем, а губіца — сем аршын.* Калядзічы Ваўк. *У губіцы мэтраў сем. Адрэзвалі кавалак на губіц тры-чатэры.* Пацаўшчына Дзятл. *Восім гібіц наткала. Дліміну палатна мералі на гібіцы. Дзве гібіцы натыкалі і знімалі.* Тухавічы Лях. *Гібіцы — як хата: і па сем, і па восем аршын.* Малахоўцы Бар.

ГУ'БІЧКА *ж. памянш.* да г у́ б і ц а. *Па тры губічкі на сянікі ткалі.* Альхоўцы Лях.

ГУ'БКА I, ГУ'ПКА *ж. памянш.* да г у́ б а I, 1. *У гупцы баліць.* Вялікія Баяры Шчуч.

ГУ'БКА II, ГУ'ПКА *ж.* Тое ж, што і г у́ б а II. *Губка расце на бярозе, яе вымачваюць у лугу, у печы сушаць і на калотцы б'юць, яна зробіцца мяккай.* Гемзы Шальч. *Гупка на дрэве расцець.* Ракаўскія Швянч.

ГУ'БКА III, ГУ'ПКА *ж.* Тое ж, што і г у б а́. *Напрала і наснавала губку.* Мачаск Бярэз. *Губкі будзем бяліць.* Беразіно Докш. *Па шэсць локцяў гупка.* Семежава Кап.

ГУБЭ' *мн. бат.* Грыбы. *Губэ — всы грыбэ, кромэ боровыків.* Дзмітравічы Кам.

ГУБЯ'К, ГУБ'Я'К *м. бат.* 1. Тое ж, што і г у́ б а II. *Губяк расце на хвоі.* Кузьмічы Люб. *Губяк расце на асіне.* Мачаск Бярэз. 2. Плесня. *Цвіце зямля белым губ'яком.* Снедзін Петр.

**ГУ'ГА** *ж.* Закручаныя вузлом валасы на галаве. *Заплетаю валасы, гугу закручваю ззадзі.* Малахоўцы Бар.; *параўн.* літ. *gugà* 'тж', руск. дыял. *гугля* 'шышка'.

**ГУ'ГІЛЬ I, ГУ'ГАЛЬ, ГУ'ГЕЛЬ, ГУГО'ЛЬ** *м. бат.* Тое ж, што і г і г е́ л ь. ***Гугіль*** *— хвошч ранняй вясной.* Мярэцкія Глыб. ***Гугіль****, як свечка, расцець.* Ахрэмаўцы Брасл. ***Гугаль*** *— палявы хвошч.* Вялікія Нястанавічы Лаг. ***Гугаль*** *— шышка ў хвашча.* Беразіно Докш. ***Гугелі*** *растуць у жыце.* Курраполле Паст. ***Гугель*** *вясной, як пупышачка, а цяпер, як ёлачка.* Шамялі Брасл. ***Гуголь*** *— вясной стаўбунок, шышачкі, а потым ёлачкі.* Крэва Смарг. ***Гуголь*** *расцець у жыцця.* Асавец Віл. *У нас гуголь расце на полі.* Лоск Валож.

**ГУ′ГІЛЬ** II, **ГУ′ГЯЛЬ** *м. кулін.* 1. Бабка. ***Гугіль** рабілі так: у драную бульбу грэцку муку дабаўлялі, як спячэш, яго кускамі рэжаш.* Лісна В.-Дзв. 2. *экспр.* Вельмі густая страва. *Не зацірка, а гугяль. Наварыла гугялю — пастаўіш лыжку і стаіць, гэта не зацірка, а гугіль.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *kùgelis,* ням. *Gugel* 'тж'.

**ГУ′ГЛА** *ж.* Тое ж, што і г у́ г а. *Шпільку ў гуглу ўсадзіш.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* літ. *gùgelis, gugẽlis* 'тж'.

ГУ′ГЛІ *мн.* Вуглі. *Гуглі паліў.* Быстрыца Астр.

ГУГНА′ВЫ *прым.* Гугнявы. *Ён гугнавы — у нос гаворыць.* Лісна В.-Дзв., Малькуны Ігн. *Гугнавый такі чалавек, нічога не разбярэш.* Мішневічы Шум. *Ах ты, гугнавы чорт!* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *гугнивый* 'тж', літ. *gugnóti* 'мармытаць, гагатаць'.

ГУГНІ′ЦЬ *незак.* Гаварыць у нос. Валынцы В.-Дзв.

ГУГО′ЛІЦЬ *незак.* Плакаць наўзрыд. *Калі вуглоў ходзіць і гуголіць.* Саланое Віл.

**ГУГО′ЛЬ** *гл.* **ГУ′ГІЛЬ** I

**ГУГО′ЛЬЧЫК** *м. бат. памянш.* да г у г о́ л ь. ***Гугольчык** стаўбунком расцець.* Саланое Віл.

**ГУ′ГЯЛЬ** *гл.* **ГУ′ГІЛЬ** II

**ГУД**, **ГУДА′С** *м.* Беларус, мясцовая мянушка беларускага насельніцтва ў літоўцаў. *У нас назыўаюць гудамі беларусаў.* Лайпушкі Ігн. *Палякі, рускія, гудасы вучацца.* Ракаўскія, Чычалі Швянч. *Мы іх гуды называем. **Гудэ** не знаюць літоўскай мовы.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *gùdas* 'тж'.

ГУДЗЕ′ЦЬ I *незак.* 1. Гусці. *Гудзяць пшчолы.* Груздава Паст. *Нешта гудзіць.* Чычалі Швянч. *Патом пад вечар гудзіць германскі самалёт.* Швэды Вільн. 2. Шумець. *Гудзіць дрэва.* Грыкені Вільн. 3. Бурчаць, сварыцца. *Ён на цётку гудзіць і гудзіць. І мая мама гудзіць.* Ёдлавічы Брасл. *Во, ужо ён нешта гудзіць.* Магуны Паст. *Пашла да Буцянковых і нешта гудзела.* Сакаўшчына Валож. 4. *перан.* Буйна расці. *Трава гэтым рокам аж гудзела.* Старыя Трокі Трак.

ГУДЗЕ′ЦЬ II, ГУСЦІ′ *незак.* Узрушвацца (у перыяд цечкі). *Свіня гудзіць, не есць, да кнуроў падымаецца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Каторы дзень свіня гудзе.* Пацаўшчына Дзятл.

ГУ′ДЗІЦЬ, ГУ′ДЗІЦІ *незак.* Асуджаць, ганіць, абгаворваць. *Не хваліць свякроўка нявестку, гудзіць.* Валынцы, Лісна В.-Дзв. *Гудзіць — абгаварваць.* Ісерна Слуц. *Ты сам сябе глядзі, а каго ні гудзь.* Пасека Ст.-Дар. *Суседзі гудзяць іх.* Дакудава Лід. *Сабраліся бабу ды гудзяць — хто мужыка, нявестку, а хто дзяцей.* Кузьмічы Люб. *Гудзіла свякрова сынаву.* Мсцібава Ваўк. *Я не гуджу невістку.* Ялова Пруж. ∇ *Гудзіці — людзей судзіці.* Смаляніца Пруж.

ГУДЗЯНЯ′ТА *мн.* Мянушка людзей, якім уласціва доўгае вымаўленне галосных. Бакшты Іўеў.

ГУДЛІ'ВЫ *прым.* Бурклівы, сварлівы. *Гудлівы чалавек, гудлівая баба, гудзе, як пчала.* Бакшты Іўеў.

ГУЖ *гл.* ВУЖ І, ІІ

ГУЖА'К *гл.* ВУЖА'К

**ГУ'ЖАЛКІ** *мн. заал.* Апалонікі. ***Гужалкі** ў вадзе панаходзіліся.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *buožẽliai, buožiùkai* 'тж'.

**ГУЖБА'** *ж.* Ліна. *Круцілі гужбу і звязвалі броўны ў лаўкі. Гужбу з бярозавых дупцоў з лазы, з доўгіх галін рабілі.* Рыбчына Віл.

ГУЖБАВА'ЦЬ *незак.* Звязваць што-н. лінаю. *Плыты адно з другім гужбуеш. Мы гужбавалі дзерава.* Рыбчына Віл. *Гужбаваць — звязваць гужбой бярвенні ў лаўкі.* Валынцы В.-Дзв.

ГУЖБІНА' *ж.* Тое ж, што і г у ж б á. *Каждую калоду гужбіной прыкручуя за жэртку.* Азяраны Раг.

ГУ'ЖВЫ *мн.* Гужы. *Гужвы ў хамуце.* Чычалі Швянч.

ГУЖЫ'ШЧА *н.* Тоўстая вяроўка. *Гужышча верайчанае, сена на вазу прыціскаць.* Груздава Паст.

**ГУЗ, ГУС** *м.* 1. Тое ж, што і г р ы ж. ***Гуз** на лбу, як чым задасца, дык будзя сядзець.* Азяраны Раг. *У яго **гуз** на руцэ.* Беразіно Докш. ***Гус** набіў на ліцу. **Гузы** ў горля.* Гемзы Шальч. ***Гузы** былі, праз адзенне камары так укусілі.* Старыя Смільгіні Воран. ***Гузамі** павыходзіла ў майго Віці.* Вялікія Баяры Шчуч. ***Гузамі** пашло, бяскроўная была.* Альхоўцы Лях. *Біркулёс у кароў выпіраіць **гузамі**.* Валынцы В.-Дзв. *Ногі на **гузох**.* Паляцкішкі Воран. *Нашліся два **гузы** пат пахай.* Шамялі Брасл. 2. Нарасць на дрэве. *З **гуза** бярозы чашкі рабілі, разцы былі, выразаліся маленькімі стружачкамі.* Ухвала Круп. 3. Няроўная паверхня. *Калі хлеп натта прэцца, **гузы** на ём — гэто найлепшы хлеп.* Дакудава Лід. 4. Драўляны гузік. *Гуз, гузы — драўляны гузік, гузікі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

**ГУЗАВО'К, ГУЗАВУ'К** *м.* Невялікая пасудзіна, зробленая з кары дрэва. ***Гузавок** называлі дайней, у лесе наробяць **гузаўкоў** і збіраюць ягады.* Мярэцкія, Леснікі Глыб. ***Гузаўкі** спліталі з біросты, абдзерыш, заторнеш, палачкай заторнеш.* Навікі Лудз. ***Гузавук** — з бярозавай кары.* Груздава Паст.; *параўн.* руск. *кузавок* 'тж'.

**ГУЗА'К** *м.* Тое ж, што і г р ы ж. ***Гузак** на шыі. П'яўкі паўпіваліся ў сцёгны, свярбела, **гузакі** былі такія на нагах.* Саланое Віл. ***Гузак** набіла.* Рыбчына Віл. ***Гузак** ускочыў.* Граўжышкі Ашм.

**ГУЗА'КА** *ж. заал.* Казюлька, кузурка. *Вот велька **гузака** паўзе. Адна **гузака** залезла бабі ў вуха, дык ледва дасталі. Усялякія **гузакі** паўзуць.* Кіралі Шчуч. *За **гузакамі** лётаюць куранята.* Вострава Маст.

ГУЗА'Р *м.* Ніжняя частка снапа, ніжэй перавясла. *Гузар тоўсты, гузарэ ў снапох.* Кузьмічы Люб.

ГУ'ЗАЧКА *ж.* Тое ж, што і г у з а в о́ к. *Гузачка — з бярозы каробачка на ягады.* Вецярэвічы Пух.

ГУЗАЧО'К *м.* 1. *памянш.* да г у з а́ к 1. ***Гузачок** на шыі быў.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Тое ж, што і г р у з а́ л к а. *Гузачкі цвёрдыя ў кашы.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. у знач. *прысл. гузачко́м.* У выглядзе груды, камякамі. *Даўней падлогу рэтка мылі — гузачком гразь выпірая, трэба было рыдлёўкай шлямаваць падлогу.* Гемзы Шальч.

ГУ'ЗДРАТІСЕ *незак. экспр.* Корпацца, капацца. *Ціелы дэнь гуздраласе і нічого нэ зробіла.* Курашэва Чыж.

ГУ'ЗЕЛ, ГУЗЁЛ *гл.* ВУЗЁЛ

ГУ'ЗІК, КУ'ЗІК *м.* 1. Гузік. *Даўней гузікі рабілі з дзерава.* Мярэцкія Глыб. *У паўшубак гузікі рабілі з аўчыны.* Дакудава Лід. ***Гузікі** і патэлькі былі на паясніцы штаноў і спадніцы.* Старыя Трокі Трак. *Зашпілі гузікі.* Ахрэмаўцы Брасл., Паляцкішкі Воран. ***Гузік** згубіўся.* Магуны Паст. ***Гузік** вырваўся.* Грыкені Вільн. *Кузік трэба зашчапіць на гапелькі.* Кузьмічы Люб. 2. Металічныя заклёпкі на вупражы ў выглядзе бліскучых гузікаў. ***Гузікі** ў набэдрыках.* Грыкені Вільн.

ГУЗІ'КА *ж. бат.* Від бручкі. ***Гузіка** раскладаецца і заглушае буракі.* Старыя Смільгіні Воран.

ГУ'ЗКА *ж.* Тое ж, што і г у з а ч о́ к 1. *Назаўтра жыжавачка якась ускочыла, а назаўтра і гузка села.* Калядзічы Ваўк.

ГУ'ЗЛІК *м. памянш.* да г у́ з е л. *Заўязую гузліка на канцы ніткі, вяжу гузліка.* Дзяніскавічы Ганц.

ГУЗЫ'Р *м.* 1. Камель дрэва. *Прывезлі дзерава, адрэзалі гузыр.* Семежава Кап. 2. Тое ж, што і г у з а́ р. Пасека Ст.-Дар.

ГУ'ЗЭНЬКІ *прым.* Вузенькі. *Гузэнька лента.* Горск Бяроз.

ГУ'ЗЯЛ *гл.* ВУЗЁЛ

ГУЗЯЧО'К *м.* Тое ж, што і г у з а ч о́ к I. ***Гузячок** стаў расці.* Старыя Смільгіні Воран.

ГУ'ЙДАЦЬ *незак.* Гайдаць, калыхаць. *Дзіця гуйдалі ў калысцы, ідзі пагуйдай.* Жылі Іўеў.; *гл.* г а й д а́ ц ь.

ГУК I *м.* Гудзенне. *На канюшыне маленькай пшчолаў столькі, гудуць, такі гук.* Швэды Вільн.

ГУК II *м.* 1. Парастак, галінка ў раслін. *Званец расцець у жыце, гукамі расцець.* Асавец Віл. 2. Сук. *Гукі на дрэве.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв.

ГУК III *м.* Непакладаны кабан, кныр; дзік. *Свіня на гукі паднялася.* Гемзы Шальч. *Свіня паднялася да гукоў.* Альхоўцы Лях. *Гук пабег да свінні.* Галоўні Воран. *Свіня пабегла ў лес, нашла гука і прывяла парасяткаў рудзенькіх.* Кіралі Шчуч.

ГУКА'ЦЦА *незак.* Размаўляць, гаманіць. *Да поўначы гукаемся, а спаць німа калі.* Беразіно Докш.

ГУКА'ЦЬ *незак.* 1. Клікаць. *У лесі пачалі гукаць.* Магуны Паст., Лоск Валож., Малахоўцы Бар. *Гукай маці, хай ідзе.* Рудня Чэрв. *Сястра нас гукая.* Азяраны Раг. *Гукаю на іх.* Альхоўка Навагр. *Андрушка! — і цяпер гукаям так яго, хоць і вялікі.* Пасека Ст.-Дар. 2. Размаўляць, гаманіць. *Сядзіць і гукаіць сама сабе пад нос, а я да яе гукаю.* Кураполле Паст. *У вотпуск унук прыехаў, да часу ночы гукалі. Ты, сваця, нядобра гукаіш. Як прыду да іх, яна ня ведаіць, як са мной гукаць.* Саланое Віл. *Кап ты ціха ляжоў, да не гукоў. Ганна гукала: «Ну, цётку, куда вы едзеця?»* Вецярэвічы Пух. *Баба гукая, а мы едзьма.* Бакшты Іўеў. 3. Лаяць, абзываць. *Людзі яго тукаюць, гу́каюць, як на ваўка.* Кураполле Паст.; *гл.* ДАБМ, карта № 320.

ГУ'КАЦЬ *незак.* Тое ж, што і г у д з е́ ц ь II. *Наша свіня гукая.* Альхоўка Навагр., Дакудава Лід., Мсцібава Ваўк., Гемзы Шальч.

ГУ'КІ *мн. перан.* Размовы. *Бабы як пойдуць у байню, так і завядуць гукі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГУКНУ'ЦЬ, ГУКНУ'ТЫ *зак.* Клікнуць. *Ідзі, гукні, хай прыдзя.* Дакудава Лід. *Гукны іі, хай прыдэ і вона.* Сіманавічы Драг. ∇ *Як гукнеш, так і адгукнецца.* Гемзы Шальч.

ГУЛ *м.* Водгук, рэха. *Аш гул пашоў па лесі.* Кураполле Паст. *Гул ідзець вясной і летам.* Лісна В.-Дзв. *Гул тожа ідзе, далёка чуваца.* Індра Красл.

ГУ'ЛА *ж.* Тое ж, што і г р ы ж. *Пат патсанкамі* [сківаца-мі] *гула бальшая.* Шамялі Брасл.

**ГУЛАВА'ТЫ** *прым.* Гузаваты. ***Гулаватая** картошка, брушка бывая гулаватая.* Міратычы Карэл.

**ГУ'ЛДЫ** *мн. перан.* Палеглыя і стаптаныя жывёлай ці птушкамі пасевы збожжа. *Як жыта пакручана ці лён пакручаны, палеглы, то кажуць — адны **гулды**. Коні пахадзілі ў ва ўсе — адны **гулды**. Куры ячмень пакруціўшы, парабілі **гулды**. Дзе што скручана, то кажуць — **гулды**.* Жылі, Апіта Іўеў.; *парайн.* літ. *guldýti* 'класці'; *гл.* г у́ л т а.

ГУ'ЛІ толькі *мн.* Гулянне, вечарынка, танцы. *А гулі ш не такія былі, як цяпер у клубя, а выбіралі тую хату, дзе былі хлопцы ці дзеўкі.* Міцкавічы Смарг.

ГУ'ЛІЦА *гл.* ВУ'ЛІЦА

**ГУ'ЛКА** *ж.* Логава. ***Гулка** — гдзе хто ляжаўшы, мейсцэ астаўшыся.* Чычалі Швянч.; *гл.* г у́ л т а.

**ГУ'ЛТА** *ж.* і *н.* 1. Гняздо. *У **гулце** нясецца курыца. Дзе куры нясуцца, там **гулта**, у **гулце** нясуцца. Курыца **гулту** робя. Курыца да сваей **гулты** кукобіцца, будзя нясціся.* Гемзы Шальч. *Ты глядзеў **гулты**, дзе куры нясуцца?* Быстрыца Астр. 2. Бярлог, гайно, логава. *Свіня **гулту** нарабіла.* Бакшты Іўеў.

*Як парасіцца, то свіня робіць гулту сабе. Свіні пашлі ў гулту.* Жыдзевічы Іўеў. ***Гулта**, дзе ляжыць свіня.* Магуны Паст. *Прагавітая дзіця трэба палажыць у свіноя гулта. Свіноя гулта, дзе свіня спіць, сухоя месца.* Крэва Смарг. *Які там сабака, калі с-пад яго гулту цягнуць, а ён маўчыць.* Граўжышкі Ашм. 3. Тое ж, што і г у́ л д ы. ***Гулта** зрабілі куры — як пасцель пасланы ячмень, злажылі ўвесь.* Жыдзевічы Іўеў. 4. Салома на подсціл. ***Гулты** свіням укінь, а то мокрая гулта.* Бакшты Іўеў. 5. *перан.* Пасцель. *Маё гулта не заслана.* Граўжышкі Ашм. *Свет нада патушыць — і хто на сваю гулту.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *gùlta* 'гняздо, пасцель' (ЛТ, 173).

ГУ′ЛЫ I толькі *мн.* Груда, замёрзлая гразь. *Храпістая дарога, такія гулы, скаціна не можа прайсці.* Дакудава Лід.

ГУ′ЛЫ′ II *мн.* Тое ж, што і г у л. *Гулы́ па лесі ідуць, як гукнеш.* Валынцы В.-Дзв. *Гулы́ ідуць па лесе.* Галубы Маст. *Аж гу́лы пайшлі па лесі.* Пасіене Лудз.

ГУЛЬ *гл.* ВУЛЬ

ГУЛЬБА′ *ж.* Гулянне, вечарынка. *Тут іхняя гульба бывае, яны тут ходзяць, гуляюць.* Гемзы Шальч. *Прышоў дзень — будзя гульба.* Паляцкішкі Воран.; *гл.* г у́ л і.

ГУ′ЛЬБІШЧА *н.* Тое ж, што і г у л ь б а́. *Не было ў сыботу гульбішча.* Азяраны Раг.

ГУЛЬБЯ′ШНІКІ *мн. кулін.* Бульбяныя галушкі. ***Гульбя́шнікоў** натаўклі.* Ёдлавічы Брасл.

ГУЛЬГОТА′ТІ *незак.* Балбатаць (пра індыкоў). *Ондыкі гульгочут.* Курашэва Чыж.

ГУЛЬК *выкл.* Скок, брык. *Яна гульк — і стаіць. А яна гульк — і спіць, калом яе не разбудзіш.* Саланое Віл.

ГУ′ЛЬКІ *мн.* Галінкі. *Іняй пакрыла дзерава, на гульках вісіць іняй.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *гл.* г а л ю́ к а.

ГУЛЬТАВА′ТЫ *прым.* Гультаяваты. *Ест гультаватыя людзі.* Старыя Смільгіні Воран.

ГУЛЬТАВА′ЦЬ, ГУЛЬТАЁВАТЫ *незак.* Гультаяваць. *Ты ляжыш, выкачываесся, а мы робім да поту.* Ністанішкі Смарг. *Ён гультаваў.* Чычалі Швянч. *Е за кім — ды гультуе.* Хатынічы Ганц. *Він гультаюе, ны робыт.* Дзмітравічы Кам. *Ны гультаюй, давай дэшо робы.* Сіманавічы Драг.

ГУЛЬТАЁВІНА *м.* і *ж. павел.* Гультай, гультайка. *Гультаёвіна ты!* Жылі Іўеў.

ГУЛЬТАІ′НА *м.* і *ж.* Тое ж, што і г у л ь т а ё в і н а. *Ах ты, гультаіна, усё ляжыш!* Вялікія Баяры Шчуч.

ГУЛЬТАІ′СКА, ГУЛЬТАІ′СКО *м.* і *ж.* Тое ж, што і г у л ь т а ё в і н а. *Ах ты, гультаіска, людзі пашлі ўсе рабіць, а ты ляжыш.* Кіралі Шчуч. *Ты гультаіска.* Беняконі Воран. *Гультаіско ты!* Сіманавічы Драг., Масілавічы Сл. *Гультаіско, лежыш!* Горск Бяроз. *Вон, гультаіско.* Ялова Пруж. *Гультаіско-гультаіско ты!* Відзібар Стол. *Ну і гультаіско ты!* Смалянi-

ца Пруж. *Гультаіско ты, хоць бы плут настроіў.* Галубы Маст. *Гультаіско ты, і веніка не звязала.* Вялікі Краснік Пруж. *Гультаіско ты, хоць бы авячок папас.* Пацаўшчына Дзятл.

ГУЛЬТАІ′ШЧА, ГУЛЬТАІ′ШЧЭ *м.* і *ж.* Тое ж, што і г у л ь т а ё в і н а. *Гультаішча, нічога не робіш.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. *Гультаішчэ ты!* Чычалі Швянч.

ГУЛЬТА′Й *м.* і *ж. асудж.* Той, хто не хоча працаваць. *Яна была вялікі гультай: ні ткала, ні прала.* Паляцкішкі Воран. *Гультай дома сядзіць, нічога не робіць.* Бенякoні Воран. *Кап ты гультай была, Стасечка, то не рабіла п так.* Груздава Паст. *Хто гультая любіць?* Ахрэмаўцы Брасл. *З мяне гультай робіцца.* Ністанішкі Смарг. *Даўней мама казала: «Толькі гультай ляжыць, дзіця радзіўшы».* Саланое Віл. *Гультай ты!* Грыкені Вільн., Чычалі Швянч. ∇ *Не бойса чалавека маруднага, а бойса гультая.* Парэчча Гродз. *Гультай за работу — мазоль за руку.* Кіралі Шчуч.

ГУЛЬТА′ЙСТВА, ГУЛЬТА′ЙСТВО *н. асудж.* Бяздзейнасць, лянота. *Німа горшага калецтва, як гультайства.* Вецярэвічы Пух. *З-за гультайства згноів хату, трэба було покрыты.* Сіманавічы Драг.

ГУ′ЛЬШТА *ж.* Тое ж, што і г у́ л т а 5. *Каждьі ідзе на сваю гульшту.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *gũlta* ’пасцель’, *gū̃žtà* ’гняздо’.

ГУЛЯ′КА *м.* і *ж. асудж.* Тое ж, што і г у л ь т а́ й. *Яны гулякі, мне такіх не нада, мне такі памошнік ня гош.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГУЛЯ′НКА *ж.* 1. *асудж.* Нежаданне працаваць. *Цяпер маладыя гулянку за рызыку маюць.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *перан.* Разбой, забойства. *Прыехалі фашысты, здзелалі гулянку: брата палкамі забілі, маму застрэлілі.* Ухвала Круп.

ГУЛЯ′ЦЬ, УЛЯ′ЦЬ, ГУЛЯ′ТЫ *незак.* 1. Танцаваць, скакаць. *Як пашлі кадрылю гуляць, было інцярэсна.* Малахоўцы Бар. *Заігралі і пашлі гуляць.* Саланое Віл. *Ён гуляў з ёю на вечарынцы.* Вецярэвічы Пух. *Хорошэ польку гуляе; як, жартуючы, скажуть: в штыры бокы вміе гуляты.* Сіманавічы Драг. 2. Спраўляць, прымаць удзел у абрадавых гуляннях. *Вяселля гулялі ў іх.* Вецярэвічы Пух. *А ці добра вяселля гулялі?* Рыбчына Віл. 3. Заляцацца, кахацца. *Чага гуляў ён з ёй?* Саланое Віл. *Із жанатым гуляла.* Груздава Паст. 4. Тое ж, што і г а й н я в а́ ц ь. *Ваўкі гуляюць у Пиліпаўку.* Жодзішкі Смарг. 5. Пуставаць. *Усе поле гуляе, не сеянае.* Дзяніскавічы Ганц. 6. Гуляць у карты і інш. *Я ні гуляю ў карты.* Саланое Віл. 7. Пераліваца, зіхацець (пра сонца). *Бывае, што сонца гуляіць раніцай.* Мярэцкія Глыб. 8. Забаўляцца. *Унук улёў, улёў і пабіў цацку.* Парэчча Гродз.

ГУЛЯ′ШЧЫ *прым.* Разбэшчаны, распусны. *Была ятроўка*

*гуляшчая*. Лоск Валож. *Ён гуляшчы быў, да чужых бап хадзіў*. Саланое Віл.

ГУ'МА *ж*. Гумавы абутак. *Німа такога абувя, кап такой пагодай у ногі было цёпла, у гэтай гумя так халадно*. Мсцібава Ваўк.

ГУМА'К *м*. Воз на гумавых колах. *Тэпэр вжэ жэліезнымі возамі нэ іездят, гумакі мают*. Курашэва Чыж.

ГУ'МАР, ГУМО'Р *м*. Настрой, нораў. *Ніяк пад гумар не пападу*. Альхоўцы Лях. *Гумору вясёлага баба*. Граўжышкі Ашм.; *параўн*. польск. *humor* 'тж'.

ГУ'МБА *ж. мед*. Злаякасная пухліна. *Захварэў на гумбу і памёр*. Лайпушкі Ігн.; *параўн*. літ. *gumbas* 'нарасць'.

ГУМЕ'НЦА *н. памянш*. да г у м н о́ 1. *Гуменца здзелаў*. Малыя Аўцюкі Калінк.

ГУМЗАВА'ТЫ *прым*. Гузаваты. *Гумзаватая хвойка — гузэ ў яе. Еслі пераломлена — і зрастаецца, то гумзаватая тады*. Пацаўшчына Дзятл.

ГУ'МКА *ж*. Гумка. *Я тут не так напісала, мо ў цібе гумка ест?* Альхоўцы Лях. *Дэ гумка, зотру гэту букву*. Сіманавічы Драг.

ГУ'МКІ *мн*. Падвязкі. *А дзе мае гумкі? — панчохі ёсць, а гумак не найду*. Гемзы Шальч.

ГУМНІ'СКА, ГУМНІ'СКО *н*. 1. Прыгуменне. *Гумніска — як стаіць гумно, астаўлялі место, кап уяжджаць*. Быстрыца Астр. *Гумніска — дзерванок каля гумна; як сырое збожа, я вынясу яго на гумніска і патсушу*. Гемзы Шальч. *Каля гумна гумніска называлі*. Старыя Трокі Трак. *Чаго вы ездзіця на гумніску?* Гемзы Шальч. *Пашла на гумніско*. Пацаўшчына Дзятл. 2. Гумно. *Там гумніско стаяла, ды згарэла ў вайну*. Галубы Маст. 3. Частка двара каля хлява. *Ганеця свіня на гумніска!* Вялікія Баяры Шчуч. 4. Месца, дзе стаяла гумно. *Гані гусей на гумніска!* Кіралі Шчуч.

ГУМНІ'ШЧА, ГУМНІ'ЧЧА *н*. 1. Тое ж, што і г у м н і с к а 1. *Калі гумна гумнішча*. Мярэцкія Глыб. *На гумнішчы стаіць гумно, гумнішча там, дзе пад'яжджаюць*. Жодзішкі Смарг. *Гумнішча пры гумне*. Магуны Паст. *Там азярод стаяў на гумнішчы*. Лапічы Асіп. *Гумнішча перат уходам у гумно*. Індра Красл. 2. Тое ж, што і г у м н і с к а 4. *Ток згарэў — гумнішча асталося*. Рыбчына Віл. *Гумнішча — месца, дзе было гумно*. Палік Барыс. *Гумнішча пазарастала тровамі*. Беразіно Докш. *Гумнічча — дзе гумны стаялі для малацьбы*. Ухвала Круп.

ГУМНО' *н*. і *м*., УМНО', ГУННО' *н*. 1. Сельскагаспадарчы будынак з пляцоўкай для малацьбы. *У гумне пошар: сена, салома складаяцца*. Крэва Смарг. *Пастройкі, дзе складалі збожа, сена, называлі гумно, у гумне быў ток*. Альхоўцы Лях. *Гумно — будынак, дзе снапэ складалі*. Вецярэвічы Пух. *Гум-*

*но — адна будыніна велькая, кожды аспадар меў сваё гумно.* Альхоўка Навагр. *Было гумно велькае, даўжыні, як наша сяло.* Гемзы Шальч. *У гумне пасярэдзіне ток, а па бакох — старана жыта, старана ячменю, старана аўса, старана сена. Гумно — пастройка, як сарай, ток е у гумне.* Дзяніскавічы Ганц. *Гумно стаяў, стары быў, яго парухалі.* Старыя Смільгіні Воран. *Даўней умно называлі, былі стораны ў умне.* Парэчча Гродз. *Ідзі ў гунно, вазьмі ворчык!* Багушэвічы Бярэз. 2. Пляц, дзе размяшчаліся гаспадарчыя будынкі і плошча вакол іх. *У гумне ставілі жэгіні.* Кемялішкі Астр. *На гумно пошов.* Горск Бяроз. *На гумны ходыт кынь. От клуні до хат — гумно.* Дзмітравічы Кам. *На гумне конь прывязан, вязі сена на гумно.* Лісна В.-Дзв. 3. Памёт. *Коров'ячэ гумно.* Курашэва Чыж., Сіманавічы Драг.

ГУМО'ВЫ *прым.* Гумавы. *Пашоў у гумовых ботах.* Крэва Смарг. *У гумовых ботах цяшка хадзіць, яны парацъ.* Гемзы Шальч. *Гумовыя осі на колах.* Старыя Трокі Трак. *Мнячыкі тэпэр гумовые, а колісь з шэрсте качалі.* Азарычы Пін.; *парайн.* польск. *gumowy* 'тж'.

ГУМЯНЦО' *н.* Тое ж, што і г у м е́ н ц а. *Хата пры лесе, гумянцо стаяла.* Альхоўка Навагр. *Гумянцо было.* Ністанішкі Смарг.

ГУНДО'СЫ, ГОНДО'СЫЙ *прым.* Тое ж, што і г у г н а́ в ы. *Гундосы — той, хто гаворыць у нос, гундосая баба.* Масілавічы Сл. *Вона гондоса, на ныс говорыть, іі й ны розбырэш, шо вона кажэ.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* літ. *gugnosà* 'тж' *(гундо́сы<гугно́сы).*

ГУННО' *гл.* ГУМНО'

ГУНУРО'ВЫ *гл.* ГАНАРО'ВЫ

ГУ'НЬКА, ГО'НЬКА *ж.* 1. Гунька. *Гунька — каня накрываць.* Рыбчына Віл. *Гуньку с тряпак выткала.* Янова Рас. *Вазьмі коньскую гуньку.* Рудня Астравітая Чэрв. *Была гунька каня накрываць, ткалі ў палоску.* Дзяніскавічы Ганц. *Каня гунькай накрывалі.* Валынцы В.-Дзв. *Ткалі гунькі: аснова — пакулле, а патыкалі трапкамі, пасцілалі на каня. Ні аднэй цяпер гунькі няма.* Індра Красл. *Гунька — покрывало на коня.* Сіманавічы Драг. *Гонькаю накрывалі каня ад мух.* Малахоўцы Бар. *Гонька — каня акрываць, горша дзяругика.* Альхоўка Навагр. 2. Даматканая коўдра, якой даўней накрываліся. *Трапашнай гунькай накрываліся.* Мішневічы Шум. *Цяпер коўдра, а за маей памяццю гунькі звалі.* Лісна В.-Дзв. *Гунькаю пасцілалі краваць і накрываліся.* Індра Красл. *Гунькі дзелалі: аснуеш тоўстае і меленькім трапкам ткалі.* Пасіене Лудз. 3. Пасцілка з грубых нітак для розных патрэб. *Гунька — пасцілка пахадная, пользаваліся ў гразных работах.* Груздава Паст. *Гунька — пасцілачка зелье насіць, і накрывалі каня гунькаю.* Кузьмічы Люб. ◇ *Дзяржаць, гадаваць пад*

*гунькай* — гадаваць у выгодзе. *Дзяржыць матка дачку пад гунькаю.* Кураполле Паст. *Яе матка пад гунькай дзяржала: спала, сколькі хацела, нічога не рабіла.* Груздава Паст.

**ГУ'НЯ** *ж.* Тое ж, што і г у́ н ь к а 1. *Гуня — каня накрываць вельмо добрэ.* Дзяніскавічы Ганц.

ГУ'НЯКА *ж.* Тое ж, што і г у́ н ь к а 1. *Гунякай каня нада накрыць.* Магуны Паст.

ГУ'ОЛЕ *гл.* ГАЛЛЁ

ГУ'ПКА I *гл.* ГУ'БКА I

ГУ'ПКА II *гл.* ГУ'БКА II

ГУ'ПКА III *гл.* ГУ'БКА III

ГУР *м. устар.* Кнот для высякання агню. *Даўней гур купляли — тонкія ніці, каб агонь выкрасаць: іскра ўпадзе і запаліцца; калі-то купляли ў магазінах.* Новікі Гродз.; *параўн.* ням. *Garn* 'ніткі'.

ГУ'РА *ж.* 1. Гурба. *Гэдакія гуры намяло снегу.* Альхоўцы Лях. *Гуры снегу панамятая зімой.* Тухавічы Лях. *Гуры снегу намяло.* Навасёлкі Свісл. *Гура снегу, гуру намяло, ні пройдзеш.* Пасека Ст.-Дар. *Гуры панаметала снегу.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Панамятала гуры снегу.* Азяраны Раг. *Намяло гураў снегу.* Дзяніскавічы Ганц. *Гуры снегу намяло.* Малахоўцы Бар., Нізок Уздз. *А тыя гады гуры снегу ляжалі.* Семежава Кап. *Снегу гуры кругом.* Лапічы Асіп. *Навеяла гуры снегу — ня вылесці.* Вецярэвічы Пух. *Вялікімі гурамі панамяло снегу.* Хатынічы Ганц. *Гура снігу.* Сіманавічы Драг. 2. Куча чаго-н. *Гура жыта, гура каменна.* Азарычы Пін. *Гуру шышак наносіць белка.* Пасека Ст.-Дар.; *параўн.* польск. *góra* 'гара', літ. *gurà* 'голы ўзгорак, пагорак', *gũras* 'верхавіна гары'.

ГУРАКІ' *мн. метэар.* Тое ж, што і г р у д а н к í. *Хмары гуракамі ідуць, разбіваюцца на гуракі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ГУРАЧКІ' *мн. памянш.* да г у р а к í. *Гурачкі на небе, сягоння сеяць можна, будзя уражэй.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ГУРА'ЧНЫ *прым.* Тое ж, што і г р у д а в á т ы 2. *Есць на небе гурачныя воблакі. Сягоння гурачны дзень, хмары разбіваюцца на гуракі, гуракамі ідуць, должна пагода быць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ГУ'РБА *ж.* 1. Тое ж, што і г у́ р а 1. *Гурба снегу — не прайсці.* Старыя Трокі Трак., Старыя Смільгіні Воран., Жодзішкі Смарг., Мярэцкія Глыб. *Абамлела, пакуль церас гурбу пералезла.* Гемзы Шальч. *Навеяла гурбы роўна с плотам.* Рыбчына Віл. *Надуло вялікія гурбы снегу.* Ністанішкі Смарг. *Намяло гурбы снегу.* Асавец Віл. *Накруціла гурбы, не відаць хаты.* Лоск Валож. *Гурбы снегу наваліла.* Парэчча Гродз. *Намяло гурбаў.* Старыя Смільгіні Воран. *Нада параскідаць гурбы снегу.* Багушэвічы Бярэз. *Гурбы снегу навеяла, нада раскапаць.* Лісна В.-Дзв. *Гурбы снегу панадувала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Гурба сныгу вэліка.* Дзмітравічы Кам. *Такыі вы-*

*лыкы гурбы снігу понамітало.* Відзібар Стол. 2. Тое ж, што і г у́ р а 2. *Гурба пяску насыпана.* Галубы Маст. *Гурбу накідалі пяску с канавы.* Вецярэвічы Пух. *Крот нарыў гурбу зямлі.* Лоск Валож.

ГУРБА′Н *м.*, ГУРБАНЫ′ *мн.* Тое ж, што і г у́ р а 1. *Гурбаны снегу панамятала кудаса.* Галубы Маст.

ГУРБАНО′К *м. памянш.* да г у р б а́ н. Грудочак, узгорачак. *Там гурбанок зямлі.* Ахрэмаўцы Брасл. *За полем — гурбанок невялікі, нічога там не расцець.* Беразіно Докш.

ГУРГАЛЕ′ *мн.* 1. Намёрзлы лёд на аконных шыбах. *Як сільны марос і груба намерзне лёд на шкле, мы называем гургале, а потым з іх цячэ.* Парэчча Гродз. 2. Замёрзлыя ледзяшы, якія звісаюць са страхі. *Гургале весяц у адрыне, гургалёў на страсе намёрзла.* Парэчча Гродз.; *параўн.* літ. *gurgulaĩ* 'тж'.

ГУРДЖО′ЛЫ *гл.* ГРУЧО′ЛЫ

ГУРДЗЁЛКА *ж.*, ГУРЗО′ЛКО *н.* Кадык. *Олá, гурдзёлка ў яго, як кулак; от гурдзёлка, што аш каўняра не зашпіліш. Гурзолко у мушчын.* Навасёлкі Свісл.; *параўн.* польск. *gardziel* 'глотка'.

ГУРЗА′ЛІНА *ж.* Грудка, цвёрды камячок ў бульбянай кашы. *Гурзаліны, як натаўчэш кашу.* Мярэцкія Глыб.; *гл.* г р у з а́ л к і.

ГУРЗА′ЛКА *ж.* Тое ж, што і г р ы ж 1. *Гурзалкі такія па целя і пат пахамі і міш нох.* Вецярэвічы Пух.

ГУРЗА′ЛЛЕ *зб. н.* Камячкі. *Нядобра стоўчана каша, гурзалля ёсць.* Мярэцкія Глыб.; *гл.* г р у з а́ л к і 1.

ГУРЗО′ЛКО *гл.* ГУРДЗЁЛКА

ГУРЗО′ЛЫ *мн.* Гузы. *У яе на нагах чорныя гурзолы,ногі страшныя.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* г у р з а́ л к а.

ГУ′РКА *ж.* Пагорак. *На гурцы не будзе нічога расці.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ГУРКАВЕ′ННЕ, ГУРКАВЕ′НЯ *н.* 1. Націна, лісце агуркоў. *Поросло гуркавене.* Смаляніца Пруж. 2. Поле, дзе раслі агуркі. *Ускапаў гуркавенне.* Галубы Маст.

ГУ′РКАЦЬ *незак. перан. экспр.* Гаварыць са злосцю, гыркаць. *Яму не ўладзіш — ён гуркаіць, як сабака.* Валынцы В.-Дзв.; *гл.* г ы́ р к а ц ь.

ГУ′РКНУЦЬ *зак. перан. экспр.* Сказаць са злосцю, гаркнуць. *Сын як гуркніць на матку, як сабака.* Ахрэмаўцы Брасл.

ГУ′РНУЦЬ *зак. экспр.* Хутка зрушыцца з месца, кінуцца бегчы. *Як гурнулі ўсе раптам, то чуць з ног не збілі.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* літ. *gur̃nėti* 'хутка бегчы'.

ГУ′РНЫ *мн.* Ягадзіцы. *У вены, у кумпячыны, у гурны уколы давалі.* Індра Красл.; *параўн.* літ. *gur̃nas* 'сцягно, кумпяк'.

ГУРО′К *гл.* АГУРО′К

ГУРО'НЧКА *гл.* ГАРА'ЧКА

ГУРО'ЧАК *м. памянш.* да г у р о́ к. *Я нашла гурочка ў халаднік.* Дзяніскавічы Ганц. *Прывезлі гурочкаў.* Саланое Віл.

ГУРТ I *м.* 1. Група, сукупнасць. *Цэлы гурт людзей сабраўся.* Пацаўшчына Дзятл. *Гурт дзяцей пабегла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Гурт дзяцей засеў.* Альхоўцы Лях. *Гурт людзей.* Чычалі Швянч. *Гурт людэй.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол. 2. Чарада. *Гурт сабак сабралася.* Бакшты Іўеў. ▽ *З гурту выбярэш курту* — хто занадта выбірае, выбярэ самую горшую [жонку]. Груздава Паст.

ГУРТ II *м.* 1. Вялікая куча. *Вялікі гурт бульбы насыпалі.* Палік Барыс. 2. *перан.* Вельмі многа. *У вашай млячарні — гурт малака.* Дакудава Лід.

ГУ'РТА *ж.* 1. Сям'я, сукупнасць. *У вялікай гурця ўсяк бываіць: і сзарацца і міруцца.* Кураполле Паст. 2. Тое ж, што і г у́ р а 2. *Накідала гурту адзежы.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ГУРТАВА'ЦЦА *незак.* Групавацца, збірацца ў гурт. *Нешта яны гуртаваліся і гаварылі.* Бакшты Іўеў. *Увосень рыба сходзіцца, гуртуецца.* Багушэвічы Бярэз.

ГУРТАВЫ' *прым.* Калектыўны. *У нас гуртавая чайка* [лодка]. Вецярэвічы Пух.

ГУ'РТАМ, ГУРТО'М *прысл.* 1. Сумесна, разам выконваць якую-н. работу. *Яны гуртам робяць.* Вецярэвічы Пух. *Гуртам сеяць бульбу.* Азяраны Раг. *Гуртом згрыблы сіно.* Сіманавічы Драг. 2. У кампаніі размаўляць, выдумляць што-н. *Збяруцца на лаваццы бабы гуртам і гавораць. Як гуртам, то выдумаеш што-небудзь.* Вецярэвічы Пух. 3. Нагрувашчана. *Стаяць гуртом крыгі.* Індра Красл.

ГУРТАПРА'Ў *м.* Галоўны пастух. Хатынічы Ганц.

ГУРЧА'ЦЬ, ГУРЧЭ'ЦЬ *незак.* 1. Бурчаць (пра сабаку). *Ні пазнаў цябе сабака і гурчыць.* Стральцы Гродз. 2. Муркаць. *Котка курню гурчыць.* Магуны Паст. 3. Бурбаліць. *Вадзічка гурчыць па камушках.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Грукатаць. *Гурчыць цілега па грудлівай дарозі.* Індра Красл. 5. *безас.* Бурчаць. *Гурчыць у мяне ў жываце.* Стральцы Гродз.

ГУРЧО'ЛЫ *гл.* ГРУЧО'ЛЫ

ГУ'РЫН *м. устар.* Кнот у выглядзе круглага шнура. *Даўней запалак мала было, мушчыны клалі гурын на крэмене і красалі агонь.* Сапоцкіна Гродз.; *гл.* г у р.

ГУС *гл.* ГУЗ

ГУСА'К I *м.* Гусак. *Гусь і гусак.* Пасека Ст.-Дар.

ГУСА'К II *м. устар.* Бутэлька ёмістасцю каля двух літраў. *Гусак — бутылка даўнейшая, чорная, за паўтарака большая.* Дзяніскавічы Ганц.

ГУСАКІ' *мн. бат.* Капытнік. *Свіням збіралі гусакі.* Навасёлкі Свісл.

ГУ'СЕНІЦА *зб. ж. заал.* Вусень. *Гусеніца напала на капу-*

*сту, усю з'ела.* Беразіно Докш.; *параўн.* руск. *гугсеница* 'тж'.

ГУ'СІНА *ж.* Гусь, гуска. *Гусіна гагочыць.* Якубова Рас.

ГУ'СКІ *мн. бат.* 1. Тое ж, што і г у с а к і. Рыбчына Віл. *У гускі хадзіла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Гускі ядуць свінні.* Мачаск Бярэз. *Гускі, іх сякуць свінням.* Азяраны Раг. *Гускі растуць на гразі, па два лісткі на корні, свіням даюць.* Новая Ніва Чэрв. 2. Гарлачыкі. *Гускі на вадзе растуць.* Галубы Маст.

ГУ'СНУЦЬ *незак.* Гусцець. *Як стане гуснуць кісель, зарумянее.* Гемзы Шальч.

**ГУСТ** *м.* Схільнасць, любоў да чаго-н. *Ні маю густу да цвятнога.* Малахоўцы Бар. *Прышло мне да густу, упадабаў.* Гемзы Шальч. ∇ *Як каму да густу: аднаму — крупы, другому — капуста.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *gust* 'тж'<лац. *gustus* 'смак'.

ГУ'СТА, ГУ'СТО *прысл.* 1. Густа. *Густо рошчыніла і густо месімо хлеб.* Смаляніца Пруж. 2. Часта. *Бардзо густа бывае так, што трэцяга не любя ягнюка авечка.* Гемзы Шальч.

ГУ'СТАЛКА *ж.* Гушкалка. *Была густалка на вяроўцы, калыхаліся.* Жылі Іўеў.

ГУ'СТАЦЦА *незак.* Тое ж, што і г ў ш к а ц ц а. *Дзіця ў калубелі густаецца.* Міратычы Карэл., Жылі Іўеў.

ГУ'СТЫ' *прым.* 1. Насычаны, аднародны па гушчыні. *Верасовы мёт гўсты.* Дакудава Лід. *Гўсты робіцца кісель.* Міратычы Карэл. *Гўстая цеста.* Жодзішкі Смарг. *У нашай каровы гўстая малако.* Альхоўцы Лях. 2. Які ўтрымлівае многа гушчы (пра страву). *Гўста капуста, бо выбегла.* Міратычы Карэл. *Крупы натта гўстыя. Натта гўстая каша.* Рыбчына Віл. *Густáя каша, многа круп задала.* Лісна В.-Дзв. *Варым кашу густўю.* Магуны Паст. *Густўю ежу есь.* Груздава Паст. 3. Часты, густа пасаджаны ці пасеяны. *У гўстым лесе былі.* Кемялішкі Астр. *Гўсты буракі — не вырастуць.* Саланое Віл. *Лён гўсты.* Апіта Іўеў. *Сілно гўсты ав'ёс.* Кузьмічы Люб. *Такая гўстая трава.* Альхоўка Навагр. 4. Шчыльны. *Гўстыя зубы ў яго.* Жылі Іўеў. *Німа грэбня гўстага ў нас.* Міратычы Карэл. *Лён жалезнымі шчоткамі часалі, шчоткі ратчэй і гўстыя.* Старыя Смільгіні Воран. 5. Вялікая колькасць асобін у адным згуртаванні. *Як густáя стада рыб, то асцямі, страгой лавілі.* Азяраны Раг.

ГУ'СТЫНЬКО *прысл.* Блізка, адно каля аднаго. *Густынька посыяла.* Дзмітравічы Кам. *Посіяла густынько росаду.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол.

ГУСТЫ'Ш *м.* 1. Гушча. *Налі густышу!* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тварог. *Густыш — аттопленае малако.* Мачаск Бярэз.

ГУСТЫ'ШШЫ *прым. выш.* Гусцейшы. *Густышшэ молоко.* Дзмітравічы Кам.

ГУСЦЕ'ЛЬ *м.* Тое ж, што і г у с т ы́ ш 1. *Жышку з'еў, а гусцель астаўся.* Мішневічы Шум.

ГУ'СЦЕНЬКА *прысл.* Шчыльна. *Нада загарадзіць гэдак гусьценька.* Груздава Паст.

ГУ'СЦЕНЬКІ *прым. ласк.* да г у́ с т ы́. *Кісель рэдзенькі і гусьценькі варылі. Каша гусьценькая.* Кураполле Паст.

ГУСЦЕРА' *гл.* ГУСЦЯРА'

ГУСЦЕ'Ш I *м.* Тое ж, што і г у с т ы́ ш 1. *Гусцеш астаўся, я вам гусцяшу дам.* Азяраны Раг.

ГУСЦЕ'Ш II *м.* Зараснік, гушчар. *За сялом гусцеш такі, здэцца, недоўна пасадзілі.* Мачаск Бярэз.

ГУСЦЁРКА *ж. заал.* Гусцяра. *Гусцёрка да ляшча пахожа.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гусцёрка падобіе ляшча, кароткая, шырокая, грам трыста.* Істра Лудз.; гл. г у с ц я р а́.

ГУСЦЁРЫНА *ж.* Тое ж, што і г у с ц ё р к а. *Гусцёрына падобіе плоткі.* Істра Лудз.

ГУСЦІ' *незак.* 1. Гудзець. *Скора будзя гусці гудок.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Звінець. *На канюшыне маленькай пшчолаў столькі, гудуць, такі гук.* Швэды Вільн. *Пчолы гудуць, селі на сліву.* Міратычы Карэл. *Пчолкі гудуць.* Альхоўка Навагр. 3. Тое ж, што і г у д з е́ ц ь II. *Свіня гудзе да кнуроў.* Рудня Астравітая Чэрв. 4. *перан.* Гаманіць, шумець. *Ідуць садам і гудуць* [дзеці]. Масілавічы Сл. *Два дні гуло вяселё.* Савані Стаўб.

ГУСЦІНЯ' *ж.* Тое ж, што і г у с ц е́ ш II. *Непрахадзімы лес там, гусціня, вяковыя дзярэўя.* Беразіно Докш.

ГУСЦЯ'Р I *м.* Тое ж, што і г у с т ы́ ш 1. *Гусцяру наварыла, што сербануць нечага.* Азяраны Раг.

ГУСЦЯ'Р II *м.* Тое ж, што і г у с ц е́ ш II. *У тым гусцяры нашлі. Там такі гусцяр быў, што не пралесь. У гусцяры ваўкі робюць гняздо.* Ахрэмаўцы Брасл. *Такі гусцяр.* Чычалі Швянч.

ГУСЦЯРА', ГУСЦЕРА' *ж.* Тое ж, што і г у с ц ё р к а. *Гусцяра пахожа на ляшчоў, рыба каслявая, нежырная, яе дачорта.* Лісна В.-Дзв. *Гусцяра — невялікая рыбка.* Палік Барыс. *Гусцяра — плосканькая тонянькая рыпка.* Ёдлавічы Брасл. *У тым балоце гусцяры — ні пралесці.* Рагулішкі Даўг. *Гусцера, як плотка, ды доўгенькая.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* польск. *guszczora*, ням. *Güster* 'тж'.

ГУСЦЯРНЯ'К *м.* Тое ж, што і г у с ц е́ ш II. *Каля гусцярняку хароша маліна.* Ракаўскія Швянч.

ГУСЬ *ж.* Тое ж, што і г у́ с і н а. *Мая гусь прышла.* Старыя Смільгіні Воран. *Адна гусь у мяне.* Грыкені Вільн. *У цябе, як у гусі, перагараіць.* Груздава Паст.

ГУСЯ' *ж.* Тое ж, што і г у́ с і н а. *Адна гуся адлучылася.* Гемзы Шальч., Ракаўскія Швянч.; *гл.* ДАБМ, карта № 81.

ГУСЯ'ТНІК *м.* Клетка, у якой возяць на продаж свойскіх

птушак. *Гусятнік на сані ставяць або драбінкі.* Асавец Віл.

ГУСЯ'ЧЫ, ГУСЯ'ЧЫЙ *прым.* Гусіны. *Гусячы пух.* Масілавічы Сл. *Гусяча мяса.* Вялікія Баяры Шчуч. *Гусячый шмалэць.* Сіманавічы Драг.

ГУСЯ'ЧЫНА *ж.* Гусяціна. *Гусячыны наварыла.* Альхоўцы Лях., Быстрыца Астр., Крэва Смарг. *Гусячыны ўкіняш у суп.* Лоск Валож.

ГУ'ТА *ж.* Шклозавод. *Кругом нас увесь лес гута з'ядае, кідаюць там, як у пропасць.* Новая Гута Віл. *У Жыльцах быў сцякляны завод, а патом гута.* Мішневічы Шум.; *параўн.* польск. *guta szklana* 'тж'.

ГУ'ТАРКА *ж.* Гаворка. *У нас не такая гутарка, як у той дзярэўні.* Саланое Віл. *Са свету ўсякай гутаркі вы спісалі.* Дакудава Лід.

ГУ'ТАРЛІВЫ *прым.* Гаварлівы, гаваркі. *Ксенка гутарлівая баба.* Саланое Віл. *Яна такая гутарлівая.* Бакшты Іўеў. *Гутарлівыя людзі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Гутарлівы чалавек любіць пагаварыць.* Парэчча Гродз.

ГУЦ *м. асудж.* Гультай, абібок. *Во якога гуца выгадавала.* Галавачы Гродз.

ГУЧА'ЦІ *незак.* 1. Гучаць. *Штось гучыт, мусіт, самолёт леціт.* Курашэва Чыж. 2. Вішчаць. *Свіня гучыт, мусіт, йіесці хочэ.* Курашэва Чыж.

ГУЧО'К *м. памянш.* да г у к II, 1. *Гучок вазона гэтага мне адарві.* Асавец Віл.

ГУШ *гл.* ВУЖ I, II

ГУША'К, ГУШЯ'К *м.* Вушак. *Гушакі ў дзвярах.* Бакшты Іўеў. *Було поночы, то стукнулась об гушяк. Позатыкав за гушакы той мох.* Сіманавічы Драг.

ГУ'ШКА *ж.* Тое ж, што і в у ш к о́. *Бывала, як плялі, то гушка зробяць у лапцях.* Жылі Іўеў.

ГУ'ШКАЦЦА *незак.* 1. Калыхацца. *Дзеці гушкаюцца.* Пасека Ст.-Дар. *Даўней мы гушкаліся ў гумне.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Уздымацца, зыбацца. *Другл́я гушкалася на балоце.* Рудня Астравітая Чэрв.

ГУ'ШТА *ж.* 1. Гняздо. *Курыца ў гушце нясецца.* Малькуны Ігн. *Пташачка гушту зробіць. Курыца гушту зрабіла.* Старыя Смільгіні Воран. *Курыца дзелае гушту і нясецца.* Гемзы Шальч. 2. Бярлог, гайно. *Свіня зрабіла гушту с саломы.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Лункі, дзе купаюцца куры. *Куры парабілі гушты ў дзярну.* Гемзы Шальч. *Куры ў памідоры гушты нарабіўшы.* Ёдлавічы Брасл. 4. Стаптаныя, паклычаныя пасевы. *Куры выдратавалі ячмень — адны гушты.* Ёдлавічы Брасл. 5. *перан.* Уласнае гняздо, сям'я. *Пажаніліся, то трэба сваю гушту віць.* Старыя Смільгіні Воран. 6. Чарада, вельмі многа. *Гушта птушкаў паляцела. На дварэ гушта курэй.*

*Гушта дзяцей у яго.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *gūžtà* 'гняздо'; *гл.* г у́ л т а.

ГУ'ШТАЧКА *ж. памянш.* да г у́ ш т а 1. *Курыца робя сабе гуштачку.* Гемзы Шальч.

ГУ'ШЧА *ж.* 1. Крупы. *Гушчу таўклі к калядам таўкачом.* Пасека Ст.-Дар. *З ячменя таўклі крупы — гушчу.* Мішневічы Шум. *У ступах гушчу таўклі.* Навікі, Мельнікі Лудз. 2. Суп з ячных круп, бобу. *Гушчу варылі з круп і з бобу.* Лісна, Валынцы В.-Дзв. 3. Гушча (у страве, пойле). *Шчолак з'еў, гушча засталася.* Пацаўшчына Дзятл. *Адна гушча, юшкі падлій.* Дзяніскавічы Ганц. *Гушча, густая яда не ўрадзіць, паеў густога — і сыты. Баба! Цялушка не выпіла самую гушчу.* Кіралі Шчуч. 4. Жамерыны. *Асталася гушча ад ягад.* Жылі Іўеў. ▽ *Гушча дружыны не разбівая* — густая ежа не разбівае сям'і. Кіралі Шчуч.

ГУШЧА'Р *м.* Тое ж, што і г у с ц е́ ш II. *Гушчар, там зарасло.* Гемзы Шальч. *Гушчар расце, як гай.* Вялікія Баяры Шчуч. *Нідалёка хмызняк, там такі гушчар.* Вязынка Маладз.

ГУШЧАРНЯ' *ж.* Тое ж, што і г у с ц е́ ш II. *Гушчарня ў лесе, як лес густы.* Дзяніскавічы Ганц. *Зараснік, гушчарня — і носу не ўбіць.* Альхоўцы Лях.

ГУШЧАРО'К *м. памянш.* да г у ш ч а́ р. *Вылáжу я з гушчарка — і сустрэліся.* Гемзы Шальч.

ГУ'ШЧАЧКА *ж. памянш.* да г у́ ш ч а 3. *Гушчачку з'ем і талерачку выліжу.* Гемзы Шальч.

ГУШЧЫНЯ'ЦЦА *незак.* 1. Гняздзіцца. *Курыца гушчынязца пачала.* Малькуны Ігн. *Курыца гушчыняецца — робіць гняздо, сядзіць у ім — будзе нясціся.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Прысядаць (пра курэй). *Рахманая курыца гушчыняецца.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *gūžtà* 'гняздо'.

ГУШЯ'К *гл.* ГУША'К

ГЫБА' *гл.* ГУБА'

ГЫ'РКАЦЬ *незак.* Тое ж, што і г а р к а ц е́ ц ь. *Сабака гыркая.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *gérgčioti* 'гаўкаць'.

ГЫ'РКО *прысл.* Горка. *Гырко ў ротовэ.* Дзмітравічы Кам.

ГЫ'РЭЙ *гл.* ВЫ'РАЙ

ГЭ'БАЛЬ *м.* Рубанак. *Прынясі гэбаль, пагаблюю доскі.* Магуны Паст.; *параўн.* польск. *hebel* 'тж'.

ГЭБЛЁВА'НЕ *н.* Габляванне. *Гэблёване ручным гэблем — то тяшка робота, послі рукі болят.* Курашэва Чыж.

ГЭБЛЁВА'НЫ *прым.* Габляваны. *З гэблёваных дошчок укладают помуост.* Курашэва Чыж.

ГЭБЛЯ'РКА *ж.* Сталярня. *Повэзу дошчкі на гэблярку.* Курашэва Чыж.

ГЭ'ГНУТЫ *зак.* Тое, што і г е́ б н у ц ь. *Був такый врэдный, кылько людэй кырыз ёго загынуло, то зарэ й сам гэгнув.* Сіманавічы Драг.

ГЭ'ДАК *прысл.* Так, гэтак. *Гэдак-гэдак, ваша праўда.* Магуны Паст. *Гэдак успохла рука!* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Гэдак ён хочыць прыехаць.* Ністанішкі Смарг.

ГЭ'ДАКІ, ГЭ'ДЫКІ *займ.* Такі, гэтакі. *Ішоў гэдакі дош!* Груздава Паст. *Гэдака парода грыбоў.* Руднае Кап. *Гэдыкага высокага званьня ён.* Дзевятні Смарг.

ГЭ'ЙДАЎКА *ж.* Тое ж, што і г у́ с т а л к а. *Учапіў гэйдаўку да бярозы, кап дзеці забаўляліся.* Гемзы Шальч.

**ГЭЛМ** *м. устар.* Шлем. ***Гэлм** надзяваўся на галаву, каб не ўбіла.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *hełm* 'тж'.

ГЭН *часц.* Во. *Саша гэн які вырус! Дівісе — вуон гэн колькі ніні* [цяпер, сягоння] *выкосів жыта.* Курашэва Чыж.

ГЭ'НАМ *прысл.* Там, далей. *Гэнам садзіла буракі, а гэта агуркі.* Саланое Віл.

ГЭ'НДА, ГЭ'НДО, ГЭ'НДЭ, ГЭНДЭО' *прысл.* Вунь там. *Гэнда во стоіт. Гэндо коло дров. Лэжэ гэндэ во.* Дзмітравічы Кам. *Нуож гэндэо лежыт, пуйді і возмі.* Курашэва Чыж.

ГЭ'НОНО *прысл.* Туды, далёка. *Ужэ вуон аш гэноно зайшоэ.* Курашэва Чыж.

**ГЭ'НСТА** *ж.* Гушча, рошчына. *Як раўгеню ці тую самую саладуху робя, картошку трэ і прамывая, працэджуя на рэшатко, кваснея тая гэнста.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *gęstość* 'гушчыня'.

**ГЭ'НСТЫ** *прым.* 1. Тое ж, што і г у́ с т ы́ 2, 3. *Каша гэнста, гэнстай наварыла.* Старыя Смільгіні Воран. ***Гэнсты** крупнік. Лес гэнсты.* Паляцкішкі Воран. ***Гэнсты** такі лес.* Граўжышкі Ашм. 2. Цвёрды. ***Гэнста** сасна — як цвёрдая, як густа слаі.* Грыкені Вільн.; *парайн.* польск. *gęsty* 'густы'.

ГЭ'НЦЯ *прысл.* Тое ж, што і г э́ н д а. *Гэнця пабех заяц.* Ністанішкі Смарг.

ГЭ'ТАРАШНІ *прым.* Сёлетні. *Цяля гэтарашня.* Дакудава Лід. *Гэтарашня цяля продалі.* Альхоўка Навагр. *Гэтарашняя цяля, у яе і старая шчэ ёсць карова.* Пацаўшчына Дзятл.

---


**СЛОВАРЬ БЕЛОРУССКИХ ГОВОРОВ СЕВЕРО-ЗАПАДНОЙ БЕЛОРУССИИ И ЕЕ ПОГРАНИЧЬЯ, т. 1**

Издательство «Наука и техника». На белорусском языке

Рэдактар Н. М. ЦАРОВА. Мастак В. В. СІМАНЕНКА. Мастацкі рэдактар В. Ф. ГРЫНКЕВІЧ. Тэхнічны рэдактар І. В. ВАЛАХАНОВІЧ. Карэктар З. А. ГУСЕЛЬЦАВА

ІБ № 772

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 07.02.79. Падпісана да друку 12.07.79. АТ 03620. Фармат 60×90$^1/_{16}$. Папера друк. № 1 (энц.). Гарнітура літаратурная. Друк высокі. Друк. арк. 32,0. Уч.-выд. арк. 33,5. Тыраж 1580 экз. Зак. № 213. Цана 2 р. 40 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68